# ЗБОР ПОМНІКАЎ

# ГІСТОРЫІ І КУЛЬТУРЫ БЕЛАРУСІ

## ГОМЕЛЬСКАЯ ВОБЛАСЦЬ

АКАДЕМИЯ НАУК СССР
МИНИСТЕРСТВО КУЛЬТУРЫ СССР
ГОСУДАРСТВЕННЫЙ КОМИТЕТ СССР ПО ДЕЛАМ ИЗДАТЕЛЬСТВ, ПОЛИГРАФИИ И КНИЖНОЙ ТОРГОВЛИ

# СВОД ПАМЯТНИКОВ ИСТОРИИ И КУЛЬТУРЫ НАРОДОВ СССР

АКАДЭМІЯ НАВУК БССР

ІНСТЫТУТ МАСТАЦТВАЗНАЎСТВА, ЭТНАГРАФІІ І ФАЛЬКЛОРУ

БЕЛАРУСКАЯ САВЕЦКАЯ ЭНЦЫКЛАПЕДЫЯ

# ЗБОР ПОМНІКАЎ ГІСТОРЫІ І КУЛЬТУРЫ БЕЛАРУСІ

## ГОМЕЛЬСКАЯ ВОБЛАСЦЬ



МІНСК
ВЫДАВЕЦТВА «БЕЛАРУСКАЯ САВЕЦКАЯ ЭНЦЫКЛАПЕДЫЯ» ІМЯ ПЕТРУСЯ БРОЎКІ
1985

# ПРАДМОВА

Выданне «Збору помнікаў гісторыі і культуры Беларусі», якое з'яўляецца часткай Збору помнікаў гісторыі і культуры народаў СССР,— канкрэтнае ажыццяўленне палажэнняў Канстытуцыі СССР і Канстытуцыі БССР аб ахове помнікаў і іншых культурных каштоўнасцей, закона СССР «Аб ахове і выкарыстанні помнікаў гісторыі і культуры» і адпаведнага Закона Беларускай ССР. «Збор помнікаў гісторыі і культуры Беларусі» — афіцыйны дакумент, які ўключае помнікі, што ўзяты або павінны быць узяты пад дзяржаўную ахову.

Прапануемы чытачу том Збору помнікаў гісторыі і культуры Гомельскай вобл. складзены на аснове навуковага абследавання помнікаў, вывучэння першакрыніц і літаратуры аб часе, падзеях і людзях, якім яны прысвечаны.

У гэтым томе расказваецца пра помнікі гісторыі, археалогіі, архітэктуры і манументальнага мастацтва Гомельскай вобл. Іх тыпалагічная разнастайнасць узбагачалася і памнажалася на працягу стагоддзяў у залежнасці ад многіх абставін, у т. л. ад прыродна-кліматычных умоў, нацыянальных асаблівасцей, важных гістарычных падзей, якія адбываліся на гэтай тэрыторыі. Помнікі гісторыі і культуры народа ўвасабляюць творчую думку розных пакаленняў, іх здольнасці і талент. Сукупнасць вельмі каштоўных, надзвычай яркіх і так званых ардынарных помнікаў адлюстроўвае самыя розныя бакі жыцця народа не толькі гэтага рэгіёна, але і сумежных тэрыторый, паказвае непарушную сувязь гістарычнага лёсу беларускага народа з лёсам усёй нашай шматнацыянальнай краіны.

Значная ўвага аддаецца ў кнізе помнікам савецкага перыяду. У томе шырока прадстаўлены помнікі, якія адлюстроўваюць барацьбу за Савецкую ўладу. Асобнае месца займаюць помнікі, прысвечаныя гераічным подзвігам савецкіх людзей у Вялікую Айчынную вайну. Многія з іх па сваім гістарычным значэнні і мастацкім выкананні маюць вялікую каштоўнасць.

У том уключаны толькі нерухомыя помнікі, у іх ліку:

помнікі археалогіі — рэшткі старажытных паселішчаў, стаянкі, гарадзішчы, селішчы і гарады, старажытныя помнікі вытворча-працоўнай дзейнасці чалавека, могільнікі, надмагільныя і рытуальныя збудаванні;

помнікі гісторыі — помнікі вытворчай (працоўнай) дзейнасці людзей розных гістарычных фармацый, памятныя месцы і помнікі, звязаныя з дзяржаўным будаўніцтвам, з адлюстраваннем класавай барацьбы і барацьбы за сацыяльнае і нацыянальнае вызваленне, за незалежнасць, з абаронай сацыялістычнай Айчыны, развіццём культуры, навукі, мастацтва;

помнікі архітэктуры — горадабудаўнічае мастацтва, жыллёвая, грамадзянская і культавая архітэктура, помнікі ваенна-абарончага дойлідства, прамысловай архітэктуры, інжынернага і садова-паркавага мастацтва, архітэктурныя манументы;

помнікі манументальнага і манументальна-дэкаратыўнага мастацтва — манументальная скульптура, манументальны жывапіс, творы дэкаратыўнага мастацтва.

У выданне ўключаны ўсе ўцалелыя помнікі архітэктуры з часоў старажытнасці да сярэдзіны 19 ст., найбольш характэрныя для 2-й палавіны 19 — пачатку 20 ст., даваеннага савецкага перыяду (1917—41 гг.), найлепшыя архітэктурныя збудаванні пасляваеннага часу (1950—80-я гады), якія адлюстроўваюць дасягненні ў прамысловым, жыллёвым, грамадскім і сучасным сельскім будаўніцтве. У выданне не ўключаны помнікі гісторыі, архітэктуры і мастацтва, якія не захаваліся. Яны разглядаюцца толькі пры агульнай характарыстыцы развіцця культуры вобласці, горада ці пэўнага архітэктурнага комплексу.

Кожнаму помніку прысвечаны артыкул, у якім дадзена характарыстыка яго гістарычных і мастацкіх каштоўнасцей. Многія артыкулы праілюстраваны фотаздымкамі, чарцяжамі, схемамі, картамі. Том мае паказальнікі — імянны, геаграфіч-

ны, храналагічны, а таксама пералік бібліятэк, музеяў, архіваў вобласці з кароткім апісаннем іх фондаў.

Сістэматызацыя помнікаў у томе праведзена паводле тэрытарыяльнага прынцыпу — матэрыял размяшчаецца па раёнах (у алфавітным парадку іх назваў). Як самастойная тэрытарыяльная адзінка вылучаецца абласны цэнтр, звесткі пра які змешчаны ў пачатку тома. Унутры раёна першымі разглядаюцца матэрыялы пра адміністрацыйны цэнтр, а потым пра помнікі іншых населеных пунктаў (у алфавітным парадку). Артыкулы пра помнікі аднаго населенага пункта падаюцца ў алфавітным парадку назваў помнікаў.

Даты, якія адносяцца да гісторыі дарэвалюцыйнай Расіі да лютага 1917 г., даюцца звычайна ў старым стылі; з 27 лютага (12 сакавіка) 1917 г. і да прыняцця новага стылю з 14 лютага (1 лютага старога стылю) 1918 г. даюцца ў двух стылях — старым і новым (апошні даецца ў дужках). Даты пачынаючы з 14 лютага (1 лютага старога стылю) 1918 г. даюцца па новым каляндарным стылі.

Том падрыхтаваны сектарам Збору помнікаў гісторыі і культуры Беларусі Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору АН БССР. Навуковае апісанне помнікаў археалогіі зроблена Аддзелам археалогіі Інстытута гісторыі АН БССР. Шэраг артыкулаў напісаны аўтарамі іншых устаноў навукі і культуры. У падрыхтоўцы да выдання тома, дапаўненні і ўдакладненні звестак пра помнікі і навуковым рэдагаванні матэрыялаў Збору прымалі ўдзел супрацоўнікі выдавецтва «Беларуская Савецкая Энцыклапедыя» імя Петруся Броўкі.

Інстытут мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору АН БССР і выдавецтва «Беларуская Савецкая Энцыклапедыя» імя Петруся Броўкі выказваюць глыбокую ўдзячнасць партыйным і савецкім органам Гомельскай вобласці, актывістам Беларускага таварыства аховы помнікаў гісторыі і культуры, прадстаўнікам навуковай грамадскасці рэспублікі за дапамогу кансультацыямі, парадамі і рэцэнзаваннем рукапісаў.




УКАЗАМ ПРЭЗІДЫУМА ВЯРХОЎНАГА САВЕТА СССР АД 8 ЛЮТАГА 1967 г. ЗА АКТЫЎНЫ ЎДЗЕЛ У ПАРТЫЗАНСКІМ РУХУ, МУЖНАСЦЬ І ГЕРАІЗМ, ПРАЯЎЛЕНЫЯ ПРАЦОЎНЫМІ ГОМЕЛЬСКАЙ ВОБЛАСЦІ Ў БАРАЦЬБЕ З НЯМЕЦКА-ФАШЫСЦКІМІ ЗАХОПНІКАМІ Ў ПЕРЫЯД ВЯЛІКАЙ АЙЧЫННАЙ ВАЙНЫ, І ПОСПЕХІ, ДАСЯГНУТЫЯ Ў АДНАЎЛЕННІ І РАЗВІЦЦІ НАРОДНАЙ ГАСПАДАРКІ, ГОМЕЛЬСКАЯ ВОБЛАСЦЬ БЕЛАРУСКАЙ ССР УЗНАГАРОДЖАНА ОРДЭНАМ ЛЕНІНА.

# ГОМЕЛЬСКАЯ ВОБЛАСЦЬ

## Раёны

АКЦЯБРСКІ
БРАГІНСКІ
БУДА-КАШАЛЁЎСКІ
ВЕТКАЎСКІ
ГОМЕЛЬСКІ
ДОБРУШСКІ
ЕЛЬСКІ
ЖЛОБІНСКІ
ЖЫТКАВІЦКІ
КАЛІНКАВІЦКІ
КАРМЯНСКІ
ЛЕЛЬЧЫЦКІ
ЛОЕЎСКІ
МАЗЫРСКІ
НАРАЎЛЯНСКІ
ПЕТРЫКАЎСКІ
РАГАЧОЎСКІ
РЭЧЫЦКІ
СВЕТЛАГОРСКІ
ХОЙНІЦКІ
ЧАЧЭРСКІ


НАСЕЛЕНЫЯ ПУНКТЫ
па колькасці жыхароў
ад 100 000 да 500 000
ад 50 000 да 100 000
ад 10 000 да 50 000
менш за 10 000
па адміністрацыйнаму значэнню
ГОМЕЛЬ Цэнтры абласцей
Цэнтры раёнаў
Цэнтры сельскіх Саветаў
па тыпу пасялення
РЭЧЫЦА Гарады абласнога падпарадкавання
ЧАЧЭРСК Гарады раённага падпарадкавання
Парычы Пасёлкі гарадскога тыпу
Лучыцы Сельскія населеныя пункты
ГРАНІЦЫ
саюзных рэспублік
абласцей
раёнаў
ШЛЯХІ ЗНОСІН
Чыгункі
Бязрэйкавыя дарогі
агульнадзяржаўнага значэння
іншыя
БАБРУЙСК
РАГАЧОЎ
ЖЛОБІН
СВЕТЛАГОРСК
РЭЧЫЦА
ГОМЕЛЬ
ДОБРУШ
ВЕТКА
ЧАЧЭРСК
БУДА-НАШАЛЕВА
КАЛІНКАВІЧЫ
МАЗЫР
ЖЫТКАВІЧЫ
ПЕТРЫКАЎ
ЕЛЬСК
НАРОЎЛЯ
ХОЙНІКІ
БРАГІН
ЛОЕЎ
ВАСІЛЕВІЧЫ
Парычы
Лельчыцы
Краснаполле
ПРЫПЯЦЬ
ЧАРНІГАЎ
Любеч
МІНСКАЯ ВОБЛ.
МАГІЛЁЎСКАЯ ВОБЛ.
БРЭСЦКАЯ ВОБЛ.
РОВЕНСКАЯ ВОБЛ.
ЖЫТОМІРСКАЯ ВОБЛ.
КІЕЎСКАЯ ВОБЛ.
БРАНСКАЯ ВОБЛ.
УКРАІНСКАЯ ССР
РСФСР
Прыпяць
Дняпро
Сож
Бярэзіна
МАШТАБ
15 0 15 30 45 60 км

# УВОДЗІНЫ

Гомельская вобл. размешчана на паўднёвым усходзе Беларускай ССР. На ўсходзе мяжуе з Бранскай вобл. РСФСР і Чарнігаўскай вобл. УССР, на поўдні — з Кіеўскай, Житомірскай і Ровенскай абласцямі УССР, на поўначы — з Магілёўскай і Мінскай, на захадзе — з Брэсцкай абласцямі БССР. Утворана 15.1.1938 г. Плошча 40,4 тыс. км$^2$. Насельніцтва 1659,8 тыс. чалавек (1984 г.). Цэнтр вобласці — г. Гомель. Уключае: 21 раён — Акцябрскі, Брагінскі, Буда-Кашалёўскі, Веткаўскі, Гомельскі, Добрушскі, Ельскі, Жлобінскі, Житкавіцкі, Калінкавіцкі, Кармянскі, Лельчыцкі, Лоеўскі, Мазырскі, Нараўлянскі, Петрыкаўскі, Рагачоўскі, Рэчыцкі, Светлагорскі, Хойніцкі, Чачэрскі; 17 гарадоў, у т. л. 8 абласнога падпарадкавання — Гомель, Добруш, Жлобін, Калінкавічы, Мазыр, Рэчыца, Рагачоў, Светлагорск; 13 гарадскіх і 4 рабочыя пасёлкі.

Паверхня вобласці пераважна нізінная (вышыня 135—150 м). Большая частка тэрыторыі размешчана на Палескай нізіне, забалочанай і аблесенай з пясчанымі градамі і ўзгоркамі. На правабярэжжы Прыпяці трапляюцца моцна размытыя ўзгоркі і марэнныя грады, найбольшая з іх — Мазырская града (вышыня да 22 м). На ўсходзе — Прыдняпроўская нізіна, якая на паўночны ўсход паступова павышаецца і пераходзіць у Чачорскую раўніну. Рэкі належаць да басейна Дняпра, які цячэ па тэрыторыі Гомельшчыны з поўначы на поўдзень на працягу амаль 400 км. Найбольшыя яго прытокі Бярэзіна, Прыпяць, Друць (правыя), Сож (левы). Прытокі Прыпяці — Случ, Пціч, Сцвіга, Убарць і інш., Сажа — Іпуць, Беседзь. Самае вялікае воз. Чырвонае (Житкавіцкі р-н). Лясы займаюць 44 % тэрыторыі. Найбольш лясоў і балот на захадзе вобласці. На тэрыторыі вобласці — Прыпяцкі ландшафтна-гідралагічны запаведнік, Чачэрскі паляўнічы заказнік, частка Ленінскага паляўнічага заказніка.

Паводле археалагічных звестак тэрыторыя сучаснай Гомельскай вобл. заселена чалавекам у сярэднім палеаліце (каля 100 тыс. гадоў назад). Гэта былі першабытныя плямёны паляўнічых, якія ішлі з поўдня і паўднёвага ўсходу і рассяліліся па басейнах рэк. Найбольш старажытныя прылады працы сярэдняга палеаліту (мусцьерская культура) — адшчэпы і архаічныя пласціны, востраканечнікі, скрэблы, выраблены з мясцовага крэйдавага крэменю, знойдзены ў адкладах другой надпоплаўнай тэрасы Сажа, каля вёсак Падлужжа Чачэрскага, Свяцілавічы Веткаўскага р-наў і ў іншых месцах.

Самыя старажытныя верхнепалеалітычныя паселішчы першабытнага чалавека выяўлены на тэрыторыі Беларусі каля вёсак Бердыж Чачэрскага і Юравічы Калінкавіцкага р-наў. Яны датуюцца 26—22 тыс. гадоў назад. На паселішчах знойдзены рэшткі авальных і прадаўгаватых у плане заглыбленых у зямлю жытлаў, аснова якіх складзена з чарапоў і іншых касцей мамантa, валуноў, у сярэдзіне жытлаў рэшткі агнішчаў. Характэрным для верхнепалеалітычных плямён былі выраблены з крэйдавага крэменю разнастайныя прылады працы і палявання: бакавыя, вуглавыя і сярэдзінныя разцы, канцавыя і падвойныя скрабкі, наканечнікі коп'яў з бакавой выемкай, нажы і інш. Галоўны занятак насельніцтва — калектыўнае паляванне, збіральніцтва і лоўля рыбы. Чалавек асвоіў апрацоўку косці, развівалася першабытнае мастацтва, узнікла першабытная рэлігія — татэмізм. Даволі высокі на той час узровень развіцця вытворчых сіл, будаўніцтва жытлаў далі магчымасць першабытнаму чалавеку выжыць у суровых умовах прыледавіковай халоднай зоны. У канцы верхняга палеаліту (12—9-е тысячагоддзі да н. э.) найбольш заселена людзьмі паўднёвая і паўднёва-ўсходняя часткі Беларусі. Стаянкі гэтага перыяду выяўлены на першых надпоймавых тэрасах, пад дзюннымі ўтварэннямі; склалася так званая грэнская культура (урочышча Грэнск каля г. Чачэрск, в. Лядцы Кармянскага, в. Латкі Веткаўскага, урочышча Каромка Рагачоўскага р-наў). Тагачасная грамадская адзінка — мацярынская родавая абшчына — складалася з няўстойлівых парных сем'яў, яшчэ не меўшых трывалай эканамічнай асновы. Некалькі мацярынскіх абшчын стваралі племя. Паяўленне новых больш дасканалых прылад працы, лука, стрэл, а таксама прыру-

чэнне сабакі стварыла ўмовы для палявання дробнымі групамі, больш інтэнсіўнага асваення навакольнай тэрыторыі.

У мезаліце (9—5-е тысячагоддзі да н. э.) у залежнасці ад мясцовых умоў і традыцый развіваліся мікралітычная (вёскі Белая Сарока Нараўлянскага, Дарашэвічы Петрыкаўскага р-наў) і макралітычная (урочышча Каромка Рагачоўскага р-на) культуры. Для першай уласцівы дробныя крамянёвыя прылады працы (трохвугольнікі, прамавугольнікі, на познім этапе — трапецыі), для другой — масіўныя, грубаабабітыя трапецападобныя і авальныя сякеры, трохгранныя пікі, разцы, скоблі. Для эпохі мезаліту характэрны лёгкія наземныя буданападобныя жытлы з агнішчамі ў цэнтры. Далейшае развіццё гаспадарчай дзейнасці (удасканаленне прылад працы, прыручэнне жывёлы) і новых форм грамадскай арганізацыі (станаўленне плямён, умацаванне парнай сям'і) падрыхтавала пераход да эпохі неаліту.

Новы каменны век (неаліт) на тэрыторыі Гомельскай вобл. пачаўся ў канцы 5-га—4-м тысячагоддзі да н. э. Для яго характэрны паяўленне керамічнай вытворчасці, у канцы неаліту авалоданне навыкамі земляробства і жывёлагадоўлі, прадзення, пляцення, магчыма, і ткацтва. У 2-й палавіне 5-га — канцы 3-га тысячагоддзя да н. э. правабярэжжа Дняпра і басейн ніжняй Прыпяці насялялі неалітычныя плямёны днепра-данецкай культуры (культуры грабеньчата-накольчатай керамікі). Насельніцтва вырабляла пераважна мікралітычныя крамянёвыя прылады працы, гліняны з расліннай дамешкай, радзей пяску і жарствы посуд, упрыгожаны адбіткамі грэбеня, трохвугольнымі наколкамі і рыскамі, глыбокімі ямкамі пад краем, карысталася ўпрыгожаннямі ў выглядзе падвесак з зубоў аленя, іклаў дзіка, ракавін. Найбольш важныя помнікі: каля вёсак Гарадок (Чачэрскі р-н), Шарсцін (Веткаўскі р-н), Слабодка і Юравічы (Калінкавіцкі р-н), Краснаселле (Хойніцкі р-н).

У 4—3-м тысячагоддзях да н. э. тэрыторыю ў басейне Дняпра на паўночны ўсход ад вусця Бярэзіны і Іпуці займалі плямёны верхнедняпроўскай культуры. Іх паселішчы размяшчаліся на астанцах першых надпоймавых тэрас, на дзюнах у поймах рэк (вёскі Струмень Кармянскага, Сябровічы і Петраполле Чачэрскага р-наў, урочышча Стрэліца каля в. Рудня-Шлягіна, вёскі Юркавічы Веткаўскага, Ходасавічы Рагачоўскага р-наў). Насельніцтва вырабляла ямачна-грабеньчатую кераміку, шыракагорлыя таўстасценныя гаршкі з канічным ці яйцападобным дном, упрыгожаныя адбіткамі грэбеня, ямачнымі, лапчастымі, накольчатымі ўзорамі. Найбольш раннія помнікі верхнедняпроўскай культуры, верагодна, былі блізкія да помнікаў другога этапа культуры днепра-данецкіх плямён. Паласа сутыкнення гэтых культур праходзіла праз даліну р. Сож, потым уздоўж левага берага Дняпра, вышэй Жлобіна праходзіла на яго правы бераг. Гэтыя помнікі адносяцца як да верхнедняпроўскай, так і да днепра-данецкай культур (вёскі Залессе і Шапатовічы Чачэрскага, Рудня-Шлягіна Веткаўскага, Раманавічы Гомельскага, Лучын Рагачоўскага р-наў). У гэты час на ўсходзе Пасожжа жылі плямёны дзяснінскай культуры, якая склалася яшчэ ў эпоху мезаліту (8—5-е тысячагоддзі да н. э.). Насельніцтва выкарыстоўвала вялікія грубаапрацаваныя сякеры, скрэблы, бакавыя і клінападобныя разцы, вырабляла гліняны посуд, арнаментаваны круглымі, авальнымі і ромбападобнымі ямкамі (вёскі Аношкі Чачэрскага, Рудня-Шлягіна, Ухова Веткаўскага, Студзянец Кармянскага р-наў). Калектыўная праца неалітычных плямён была абумоўлена агульнай уласнасцю на асноўныя сродкі здабычы матэрыяльных каштоўнасцей і суправаджалася калектыўным спажываннем. У канцы неаліту родавая мацярынская абшчына распадалася на асобныя сем'і, якія мелі пэўную эканамічную незалежнасць, але яшчэ былі звязаны паміж сабой кроўнымі сувязямі.

У пачатку 2-га тысячагоддзя да н. э. на тэрыторыі вобласці пачаўся бронзавы век. Асноўным яго зместам было развіццё жывёлагадоўлі і земляробства, пашырэнне абмену, паступовая замена мацярынска-родавых адносін патрыярхальнымі. Аддаленасць ад старажытных цэнтраў металургіі абумовіла выкарыстанне тут больш працяглы час каменных прылад працы, апрацоўка якіх дасягнула высокай дасканаласці. Шырока выкарыстоўваліся шліфаванне, свідраванне, пілаванне. У гэты перыяд басейн верхняга Дняпра засялялі плямёны сярэднедняпроўскай культуры, якія ў канцы 3-га тысячагоддзя да н. э. прыйшлі з поўдня і асімілявалі мясцовае неалітычнае насельніцтва. Паселішчы гэтых плямён размяшчаліся на пясчаных выдмах і ўзгорках сярод паплавоў, каля рэк, радзей на краях тэрас. Для іх характэрны наземныя жытлы слупавой канструкцыі з агнішчамі ў цэнтры, удасканаленыя каменныя і крамянёвыя прылады працы і зброя, ляпны посуд пераважна шарападобнай формы з арнаментам у выглядзе перавітай вяровачкі, лінейнага і зубчастага штампаў (в. Лучын Рагачоўскага р-на). Сярод помнікаў сярэднедняпроўскай культуры найбольш вывучаны могільнікі. Вядомы курганныя могільнікі з пахавальным абрадам трупапалажэння і грунтавыя з трупаспаленнем у ямах авальнай формы. У іх знойдзены каменныя свідраваныя і клінападобныя крамянёвыя сякеры, шліхтавальныя пліты, наканечнікі стрэл, коп'яў, нажы, скрабкі, медныя бранзалеты, грыўні, бурштынавыя падвескі, бісер, ляпны посуд. Металічныя прылады працы пераважна зроблены з медзі (вёскі Ходасавічы Рагачоўскага, Рудня-Шлягіна Веткаўскага р-наў). Наяўнасць бедных і багатых пахаванняў сведчыць аб маёмаснай няроўнасці. Сярэднедняпроўская культура існавала ў верхнім Падняпроўі на працягу 1-й палавіны 2-га тысячагоддзя да н. э.

На аснове культуры сярэднедняпроўскіх плямён склалася блізкая да яе па ўзроўню грамадска-эканамічнага развіцця сосніцкая культура (1500—1200 гадоў да н. э.). Паселішчы і могільнікі сосніцкіх плямён выяўлены ў басейнах Дзясны, верхняга Дняпра і па ніжняй Прыпяці (каля вёсак Мохаў Лоеўскага, Гарошкаў Рэчыцкага, Гадзілавічы Рагачоўскага, Прысно Веткаўскага р-наў і інш.). Насельніцтва жыло ў паўзямлянках, часам двухкамерных, з двухсхільным дахам і глі0нянымі агнішчамі. Асноўны занятак — апрацоўка медзі і бронзы, земляробства і жывёлагадоўля. Выраблялі высокія пласкадонныя гаршкі з ледзь пазначанымі шыйкамі і патоўшчаным або скошаным краем, упрыгожаныя зігзагамі і ялінкамі з прамавугольных адбіткаў, пацеркавым, шнуравым ці пракрэсленым арнаментам. Сосніцкая культура па кераміцы блізкая да тшцінецкай, аб пранікненні якой да Дняпра сведчаць асобныя помнікі (вёскі Дзяражычы Лоеўскага, Буразь Жыткавіцкага р-наў). Культура сосніцкіх плямён зрабіла ўплыў на фарміраванне мілаградскай культуры ранняга жалезнага веку.

У 7 ст. да н. э. на тэрыторыі Гомельшчыны пачаўся жалезны век. З вынаходствам і апрацоўкай жалеза асновай эканомікі старажытнага насельніцтва стала ляднае (падсечнае) земляробства, развіццё якога павялічыла гаспадарчае значэнне жывёлагадоўлі. Гэта забяспечыла атрыманне дадатковага прадукту, паскорыла маёмасную дыферэнцыяцыю і працэс распаду першабытнаабшчынных адносін. У пачатку ранняга жалезнага веку тэрыторыю Гомельшчыны засялялі плямёны мілаградскай культуры (7—3 стагоддзі да н. э., назва ад гарадзішча каля в. Мілаград Рэчыцкага р-на). Своеасаблівыя рысы вылучаюць яе сярод археалагічных культур Усходняй Еўропы гэтага перыяду. Мілаградская культура мае 2 варыянты: днянроўскі — помнікі ў басейне Дняпра і Сажа, для яго характэрны гарадзішчы, і палескі — у басейне Прыпяці, дзе насельніцтва жыло на селішчах. Гарадзішчы размяшчаліся на высокіх (10—20 м) і стромкіх берагах рэк (мысавыя гарадзішчы). Ад канфігурацыі мысаў залежала форма гарадзішчаў. З трох бакоў яны мелі прыродныя ўмацаванні — стромкія абрывы і глыбокія яры, з боку поля — штучныя валы і равы (каля вёсак Гарошкаў, Мілаград, Глыбаў, Калочын Рэчыцкага, Чаплін, Мохаў Лоеўскага, Любны Гомельскага, Асарэвічы Брагінскага р-наў). Гарадзішчы знаходзіліся таксама на невялікіх узвышшах сярод балот ці забалочаных мясцін (балотныя гарадзішчы) з усіх бакоў яны ўмацоўваліся валамі і равамі. Да некаторых гарадзішчаў прымыкалі селішчы (вёскі Капань Рэчыцкага, Уборак Лоеўскага р-наў). Селішчы будаваліся на ўзвышшах па берагах рэк. Трапляюцца гарадзішчы-сховішчы, дзе ў час ваеннай небяспекі ратаваліся жыхары з маёмасцю (в. Бечы Жыткавіцкага р-на). Большая шчыльнасць насельніцтва была ў Тураўскім міжрэччы Прыпяці і Сцвігі, у месцах з адносна ўрадлівымі глебамі. Для мілаградскай культуры характэрны своеасаблівыя жытлы: раннія — юртападобныя паўзямлянкі, заглыбленыя ў зямлю да 1 м, плошчай каля 50 м², з адкрытым агнішчам у цэнтры; больш позняга перыяду — слупавой канструкцыі, квадратнай ці прамавугольнай формы, плошчай 10—16 м², мелі выступы ў вугле ці ў сцяне, адкрытыя ачагі. Каля жылля будаваліся гаспадарчыя памяшканні. Асноўнымі ў гаспадарчай дзейнасці былі земляробства і жывёлагадоўля, дадатковымі — паляванне і рыбалоўства. Развіваліся промыслы: здабыча і апрацоўка жалеза, бронзаліцейная справа, а таксама апрацоўка косці і рогу, дрэва, прадзенне і ткацтва, выраб ляпнога глінянага посуду. Кругладонныя гаршкі з рэзка адагнутым ці загнутым венчыкам у верхняй частцы пакрываліся арнаментам у выглядзе адбіткаў і розных па форме і глыбіні ямак. Такімі ж узорамі ўпрыгожваліся посудападобныя прасліцы. Прылады працы: сякеры, нажы з гарбатай спінкай, сярпы. Своеасаблівая рыса мілаградскай культуры — гліняныя фігуркі жывёл (пераважна каня), відаць, культавага прызначэння. Насельніцтва мела гандлёвыя сувязі з плямёнамі культуры штрыхаванай керамікі і скіфамі. У выніку абмену да плямён мілаградскай культуры траплялі прадметы з Цэнтральнай Еўропы. Скарбы бронзавых і жалезных рэчаў знойдзены каля вёсак Урыцкае Гомельскага, Мохаў, Гарошкаў Рэчыцкага, Чаплін Лоеўскага р-наў. На раннім этапе на ўсёй тэрыторыі гэтай культуры бытавалі пахавальныя абрады трупапалажэння і трупаспалення, пазней (5—3 стагоддзі да н. э.) толькі трупаспаленне на курганных і бескурганных могільніках. Плямёны мілаградскай культуры знаходзіліся на пачатковай стадыі распаду першабытнаабшчыннага ладу.

З сярэдзіны 3 ст. да н. э. ў верхнім і сярэднім Падняпроўі, дзе раней жылі плямёны мілаградскай культуры, склалася зарубінецкая культура. Храналагічна яна падзяляецца на ранні і позні этапы. На раннім этапе (сярэдзіна 3 ст. да н. э. — пачатак 2 ст. н. э.) культура зарубінецкіх плямён па характару жытлаў і пахавальнаму абраду нагадвае мілаградскую. На Гомельшчыне вылучаюць 2 лакальныя варыянты зарубінецкай культуры гэтага перыяду — верхнедняпроўскі і палескі. У басейне верхняга Дняпра асноўным відам пасяленняў былі гарадзішчы, пабудаваныя яшчэ плямёнамі мілаградскай культуры. Яны дадаткова ўмацоўваліся: дасыпаліся старыя валы ці ўзводзіліся новыя, утвараючы другую лінію абароны. Каля асобных гарадзішчаў узнікалі селішчы. Пахавальны абрад — трупаспаленне на гарызонце на бескурганных могільніках. Сярод пахавальнага інвентару (прылады працы, упрыгожанні і інш.) найчасцей трапляецца кераміка — міскі, гаршкі (каля в. Чаплін Лоеўскага р-на). У басейне Прыпяці насельніцтва жыло на селішчах, былі пашыраны гарадзішчы-сховішчы. Селішчы зарубінец-

кай культуры часта размяшчаліся побач з селішчамі мілаградскай культуры або на адной і той жа тэрыторыі, аб чым сведчаць двухпластовыя помнікі з рэчамі абедзвюх культур. Пахавальны абрад — трупаспаленне і трупапалажэнне, пахаванні урнавыя і ямныя на бескурганных могільніках (каля вёсак Пагост, Вароніна, Сямурадцы, Казаргаць Жыткавіцкага р-на). У могільніках знойдзены вялікія бронзавыя шпількі і посуд малых памераў (верагодна, рытуальнага прызначэння), якія адсутнічаюць у помніках верхняга Падняпроўя. Насельніцтва займалася земляробствам, жывёлагадоўляй, здабывала і апрацоўвала жалеза, будавала наземныя слупавыя жытлы прамавугольнай формы і паўзямлянкі, выраблялa і карысталася клінападобнымі сякерамі (кельты), сярпамі з тронкамі, лістападобнымі наканечнікамі коп'яў, дроцікамі з 2 шыпамі і інш. (формы запазычаны ў скіфаў і кельтаў), грубаляпным і глянцаваным пласкадонным посудам (міскі і высокія гаршкі з адагнутым венчыкам), каменнымі зерняцёркамі, бронзавымі ўпрыгожаннямі (бранзалеты спірале- і падковападобныя, з завязанымі канцамі, пацеркі, шпількі з завітком). Існавалі сувязі з плямёнамі, што жылі на поўдні і паўднёвым захадзе, з познаскіфскім насельніцтвам лесастэпу і стэпу Украіны, з гарадамі Паўночнага Прычарнамор'я. Адтуль да зарубінецкіх плямён траплялі фібулы і наканечнікі коп'яў кельцкага тыпу, наканечнікі дроцікаў, падковападобныя фібулы, бронзавыя пярсцёнкі з выступамі скіфскага ўзору, грэчаскія амфары, антычныя шкляныя пацеркі.

На познім этапе (2—5 стагоддзі н. э.) насельніцтва на ўсёй тэрыторыі жыло на селішчах, якія размяшчаліся на нізкіх берагах рэк, дзе былі ўрадлівыя глебы; падтрымлівала гандлёвыя сувязі з паўночнымі правінцыямі Рымскай Імперыі, аб чым сведчаць знаходкі рымскіх манет і вырабы з выемчатай эмаллю, і з плямёнамі чарняхоўскай культуры.

Грамадскі лад — развіты патрыярхат. Асноўная адзінка грамадства патрыярхальная сям'я налічвала дзесяткі чалавек. Некалькі сем'яў стваралі патрыярхальны род. Плямёны зарубінецкай культуры знаходзіліся на стадыі распаду першабытнаабшчыннага ладу і складвання тэрытарыяльнай абшчыны, існавала патрыярхальнае рабства. Большасць даследчыкаў лічаць, што плямёны зарубінецкай культуры былі старажытнаславянскімі.

На рубяжы новай эры пачаўся працэс распаду першабытнаабшчынных адносін. Пашырэнне жалезных прылад працы стварыла ўмовы, пры якіх у патрыярхальных сем'ях і ў родах назапашваліся пэўныя матэрыяльныя каштоўнасці (збожжа, жывёла і інш.). Гэта прывяло да ўзнікнення супярэчнасцей паміж асобнымі родамі і плямёнамі, прымусіла іх прымаць меры для бяспекі, што выявілася ва ўзнікненні на паселішчах штучных умацаванняў. Апошнія 2—3 стагоддзі да н. э. і першыя 2—4 стагоддзі н. э. ў жыцці плямён былі пераломнай эпохай, калі складваліся перадумовы замены першабытнаабшчынных адносін феадальнымі.

У 6—8 стагоддзях тэрыторыю Гомельшчыны засялялі славянскія плямёны пражскай культуры тыпу Карчак (басейн Прыпяці) і культуры тыпу верхняга пласта Банцараўшчыны (верхняе Падняпроўе, Пасожжа). Іх помнікі: селішчы, гарадзішчы-сховішчы, могільнікі размяшчаліся на месцах былых паселішчаў зарубінецкай культуры. Асноўны занятак насельніцтва — земляробства, жывёлагадоўля, рамяство (вёскі Калочын Рэчыцкага, Сямурадцы, Хільчыцы Жыткавіцкага р-наў, г. Петрыкаў). Выраблялі ляпны слабапрафіляваны, без арнаменту, міскападобны, біканічны, цюльпанападобны посуд. Жытлы паўзямлянкавыя і наземныя слупавой і зрубнай канструкцый з адкрытымі агнішчамі і печамі-каменкамі. Пахавальны абрад — трупаспаленне на бескурганных і курганных могільніках (каля вёсак Сямурадцы Жыткавіцкага, Шарэйкі Калінкавіцкага р-наў).

Пераход ад першабытнаабшчыннага ладу да феадалізму ў плямён, якія засялялі тэрыторыю Беларусі, адбываўся ў 6—9 стагоддзях. Знікаюць замкнутыя патрыярхальна-сямейныя пасёлкі-гарадзішчы. Члены родаў пакідалі іх і сяліліся асобнымі сем'ямі ў найбольш зручных для вядзення гаспадаркі месцах. Позція гарадзішчы нагадваюць



*Упрыгожанні дрыгавічоў.*



*Упрыгожанні радзімічаў (рэканструкцыя галаўнога ўбору па знаходках з кургана каля в. Юдзічы Рагачоўскага раёна).*

феадальныя сядзібы (в. Юравічы Калінкавіцкага р-на). Кроўныя сувязі пастунова саступалі месца эканамічным і тэрытарыяльным. Пашырылася сельская (тэрытарыяльная) абшчына з яе манагамнымі сем'ямі. Узмацнілася маёмаснае расслаенне насельніцтва, развівалася прыватная ўласнасць. Паявілася новая форма грамадскай арганізацыі — саюзы плямён, асноўнай задачай якіх была ўзброеная абарона агульных інтарэсаў. У рамках племянных саюзаў фарміраваліся і развіваліся класавыя феадальныя адносіны.

Тэрыторыю Гомельскай вобл. ў 8—10 стагоддзях засялялі славянскія плямёны дрыгавічоў і радзімічаў. Археалагічныя помнікі гэтых плямён — гарадзішчы, селішчы, курганныя могільнікі. Дрыгавічы жылі на землях паміж рэкамі Прыпяць, Дняпро і Бярэзіна. Папярэднікамі іх на сярэдняй Прыпяці ў 6—8 стагоддзях былі плямёны пражскай культуры. Самыя старажытныя помнікі дрыгавічоў — курганныя могільнікі з трупаспаленнем, у якіх гліняныя ўрны пражскага тыпу накрываліся каменнымі плітамі, трапляецца і кераміка пражскага тыпу. З канца 10 ст. пахавальны абрад — трупапалажэнне на курганных могільніках, у іх знойдзены дамавіны ў выглядзе невялікіх зрубаў з двухсхільным дахам, прылады працы, зброя, упрыгожанні. Этнавызначальныя ўпрыгожанні дрыгавічоў — зярнёныя пацеркі. Асновай гаспадаркі было земляробства і жывёлагадоўля, дадатковымі заняткамі — паляванне, бортніцтва, рыбалоўства, гандаль. Развіваліся жалеза- і дрэваапрацоўка, ювелірнае, ганчарнае рамёствы. Аддзяленне рамяства ад сельскай гаспадаркі садзейнічала ўзнікненню і хуткаму развіццю гарадоў. Дрыгавічы ўпамінаюцца ў «Аповесці мінулых часоў» у сувязі з падзеямі, якія адбыліся да 9 ст. Паводле старажытнарускіх летапісаў (1149 г.), яны належалі да найбольш развітых у сацыяльных адносінах плямён, знаходзіліся на заключнай стадыі распаду рода-племяннога ладу. Яны мелі сваё палітычнае аб'яднанне — «княжанне» з цэнтрам у Тураве, які ўпершыню ўпамінаецца ў пісьмовых крыніцах пад 980 г.

У міжрэччы Дзясны і Дняпра, па Сажы і яго прытоках жылі радзімічы. Паводле летапісных легенд, яны прыйшлі з прапольскіх (ляшскіх) зямель з родапачынальнікам Радзімам. Археалагічныя матэрыялы не пацвярджаюць гэтага. Найбольш даследаваныя курганныя могільнікі радзімічаў з пахавальным абрадам трупаспалення адносяцца да канца 9 — пачатку 10 ст., пазней пашырылася трупапалажэнне. Этнавызначальная племянная адзнака радзімічаў — сярэбраныя або бронзавыя сяміпрамянёвыя скроневыя кольцы. Займаліся земляробствам, жывёлагадоўляй, бортніцтвам, паляваннем. У апошняй чвэрці 1-га тысячагоддзя н. э. радзімічы склалі племянны саюз, амаль да канца 10 ст. захоўвалі адносную самастойнасць. Імі кіравалі свае князі, якія мелі войска. У 9 ст. плацілі даніну Хазарскаму каганату. У 885 г. былі падпарадкаваны кіеўскім князем Алегам і ў складзе яго войска ў пачатку 10 ст. ўдзельнічалі ў паходзе на Царград. У 984 г. радзімічы адмовіліся плаціць даніну кіеўскаму князю Уладзіміру Святаславічу, аднак атрад княжацкага войска на чале з ваяводам Воўчым Хвастом разбіў дружыны радзімічаў на р. Пяшчань (прыток Сажа, непадалёку ад Слаўгарада).

У склад старажытнарускай дзяржавы Кіеўскай Русі землі радзімічаў і дрыгавічоў увайшлі ў канцы 9—10 ст. У яе межах сваяцкія ўсходнеславянскія плямёны складваліся ў адзіную старажытнарускую народнасць, што было абумоўлена іх адноснымі эканамічнымі сувязямі, этнічнай, тэрытарыяльнай, палітычнай, культурнай і моўнай супольнасцю.

На тэрыторыі рассялення дрыгавічоў у канцы 1-га тысячагоддзя склалася Тураўскае княства. У «Аповесці мінулых часоў» першы летапісны князь Тур упамінаецца пад 980 г. Вялікі князь кіеўскі Уладзімір Святаславіч у 988 г. аддаў Тураўскае княства як удзел свайму сыну Святаполку, які княжыў там да 1015 г. Потым княства ўключана Яраславам Мудрым у склад Кіеўскай Русі. У 11 ст. адным з найважнейшых старажытнарускіх княстваў лічылася Тураўскае. У 1087—

 1113 гг. тураўскім князем быў Святаполк Ізяславіч, які ў 1093 г. заняў і кіеўскі прастол. З летапісаў вядома, што ў Кіеве ён меў сваю тураўскую дружыну, а яго жонка, паводле падання, заснавала ў Тураве жаночы Варварынскі манастыр. У 1113 г. Тураўскае княства адышло да вялікага князя кіеўскага Уладзіміра Манамаха, пазней неаднаразова пераходзіла з рук у рукі. У 1158 г. ў Тураве стаў княжыць Юрый Яраславіч, які аднавіў дынастыю Ізяславічаў на тураўскім троне. У 2-й палавіне 12 ст. княства страціла сваё значэнне, з яго вылучыліся дробныя княствы: Клецкае, Пінскае, Дубровіцкае, Сцепанскае.

У 12—13 стагоддзях тэрыторыя Гомельшчыны ўваходзіла ў Смаленскае, Тураўскае, Чарнігаўскае, Кіеўскае княствы.

Нягледзячы на войны і феадальныя міжусобіцы, паміж асобнымі княствамі існавалі гандлёвыя сувязі. Галоўнымі гандлёвымі шляхамі былі рэкі. Па Дняпры праходзіў шлях «з варагаў у грэкі», які звязваў землі Старажытнай Русі з Прыбалтыкай і Прычарнамор'ем. Праз Прыпяць ішоў гандаль з Польшчай і Чэхіяй. Уздоўж водных шляхоў выраслі гандлёва-рамесныя цэнтры: Тураў (980 г.), Стрэшын (1127 г.), Гомель (1142 г.), Рагачоў (1142 г.), Брагін (1147 г.), Мазыр (1155 г.), Чачэрск (1159 г.), Рэчыца (1214 г.). З Гомельшчыны вывозілі футра, мёд, воск, з Візантыі і Блізкага Усходу ўвозілі шаўковыя тканіны, прыправы, шкляны і фаянсавы посуд. Аб шырокім гандлі сведчыць знойдзены каля Навабеліцы скарб з 82 арабскіх манет 9—10 стагоддзяў.

Культура Гомельшчыны развівалася ў агульным рэчышчы старажытнарускай культуры. Хрысціянства, прынятае на Русі ў 988—989 гг. як дзяржаўная рэлігія, зрабіла вялікі ўплыў на ўсе сферы грамадскага і культурнага жыцця, на фарміраванне ідэалогіі, садзейнічала развіццю пісьменнасці ў усходніх славян. Значную ролю ў пашырэнні асветы адыграў Тураў. Найбольш раннім помнікам усходнеславянскай пісьменнасці з'яўляецца Тураўскае евангелле 11 ст. У Тураве, мяркуюць, вёўся летапіс, там жыў і працаваў царкоўны дзеяч, пісьменнік і прамоўца Кірыла Тураўскі (каля 1130—82 гг.). Яго творы вылучаліся лірызмам, мастацка-выяўленчай сілай, багаццем паэтычных вобразаў, мовы і стылістычным адзінствам.

У 13 ст. землі Русі былі палітычна раздроблены, аслаблены татара-мангольскім нашэсцем, агрэсіяй крыжакоў, феадальнымі міжусобіцамі і войнамі. Гэта выкарысталі літоўскія феадалы. Да сярэдзіны 13 ст. яны стварылі моцную раннефеадальную дзяржаву — Вялікае княства Літоўскае і пачалі пашыраць свой уплыў на суседнія заходнерускія княствы і землі. У 2-й палавіне 13—14 ст. пад уладу літоўскіх князёў паступова трапілі беларускія землі, пазней за іншыя — тэрыторыя Гомельшчыны. У сярэдзіне 14 ст. ў склад Вялікага княства Літоўскага ўвайшлі землі, размешчаныя на Дняпры і Сажы, у 1360-я гады — землі басейна Ніжняй Прыпяці (Мазырская і Брагінская воласці).

Феадалы беларускіх зямель былі зацікаўлены ў моцнай дзяржаўнай уладзе, здольнай абараняць іх класавыя інтарэсы. Гараджане і іншыя слаі насельніцтва, якія цярпелі ад феадальнай анархіі і спусташальных набегаў знешніх ворагаў таксама разлічвалі на абарону з боку цэнтральнай улады. Пашырыўшы сваю ўладу на заходнерускія землі, літоўскія князі давалі палітычныя і эканамічныя прывілеі, у т. л. землі на тэрыторыі Беларусі, пераважна літоўскім феадалам. Гэта выклікала незадаволенасць беларускай феадальнай знаці, якая паступова траціла ў сваіх землях былое манапольнае становішча, а яе ўдзел у агульнадзяржаўным кіраванні быў абмежаваны. Сярод часткі яе складвалася апазіцыя. Умацаваць свае пазіцыі на беларускіх і ўкраінскіх землях буйныя літоўскія феадалы разлічвалі з дапамогай саюзу з Польшчай. У 1385 г. Вялікае княства Літоўскае і Польшча заключылі Крэўскую унію, паводле якой на чале абедзвюх дзяржаў станавіўся вялікі князь літоўскі, абвешчаны ў 1386 г. і каралём Польшчы. Гэта стварыла значныя магчымасці для каталіцкай экспансіі ў беларускія землі. Пасля уніі тут пашыраецца каталіцкае землеўладанне, у 1399 г. віленскія канонікі атрымалі ад вялікага князя землі паміж Бярэзінай і Дняпром (Стрэшынскую воласць).

Тэрыторыя Гомельшчыны ў канцы 14—15 ст. неаднаразова станавілася арэнай вострай грамадска-палітычнай барацьбы беларускай і ўкраінскай праваслаўнай шляхты за ўраўнаванне ў правах з католікамі. У 1481 г. супраць вялікакняжацкай улады выступілі праваслаўныя князі Міхаіл Алелькавіч, Іван Гальшанскі, Фёдар Бельскі і інш. Яны мелі намер захапіць уладу ў Вялікім княстве Літоўскім, а ў выпадку няўдачы далучыць частку ўсходніх беларускіх зямель (да р. Бярэзіна) да Рускай дзяржавы. Аднак змова не ўдалася, некаторыя яе арганізатары былі пакараны смерцю, Ф. Бельскі ўцёк у Маскву. На беларускіх землях узмацнялася цяга да Рускай дзяржавы.

У 1-й палавіне 16 ст. Руская дзяржава вяла войны за вяртанне заходнерускіх зямель, якія былі ў складзе Вялікага княства Літоўскага. У ходзе руска-літоўскай вайны 1500—03 гг. рускія войскі разбілі ў 1500 і 1501 гг. войскі Вялікага княства і яго саюзніка Лівонскага ордэна. Паводле перамір'я, заключанага ў 1503 г. тэрмінам на 6 гадоў, да Рускай дзяржавы адышло 25 гарадоў і 70 валасцей, у т. л. Гомель з навакольнымі землямі. У руска-літоўскую вайну 1507—08 гг. планы Жыгімонта І адваяваць страчаныя землі сарваў вялікі князь маскоўскі Васіль III. Ён схіліў на свой бок беларускага магната князя Вялікага княства Літоўскага Міхаіла Глінскага, які ў пачатку 1508 г. ў Тураве стварыў разам з братамі Васілём



*Гербавыя знакі: Гомеля (1855 г.; злева), Рэчыцы (1845 г.; у цэнтры), Мазыра (1609 г.).*

і Іванам атрад з дробных феадалаў-васалаў і сваіх прыхільнікаў і ўзначаліў паўстанне супраць вялікага князя літоўскага (так званае паўстанне Глінскіх). У сакавіку 1508 г. Глінскі заняў Мазыр, дзе падпісаў з рускім паслом пагадненне аб сумесных дзеяннях. Яго атрад злучыўся з 20-тысячным рускім атрадам. Ваенныя няўдачы прымусілі Глінскага адысці на Палессе, потым ён уцёк у Маскву. Беспаспяховая вайна закончылася «вечным мірам» 1508 г. За Рускай дзяржавай засталіся землі, вернутыя ёй у 1503 г. Пасля руска-літоўскай вайны 1534—37 гг. у выніку перамір'я Гомель зноў адышоў да Вялікага княства Літоўскага.

Кансалідацыі зямель у складзе Вялікага княства Літоўскага садзейнічалі расшырэнне і ўмацаванне ўнутраных эканамічных сувязей, наяўнасць адносна трывалай цэнтральнай улады, агульнадзяржаўнае заканадаўства — Судзебнік 1468 г., Статуты Вялікага княства Літоўскага 1529, 1566 і 1588 гг. На тэрыторыі Гомельшчыны паводле адміністрацыйна-тэрытарыяльнай рэформы 1564—66 гг. былі ўтвораны ў 1566 г. Мазырскі павет у Кіеўскім ваяводстве і Рэчыцкі павет у Мінскім ваяводстве, у якое ў 1569 г. перададзены і Мазырскі павет.

З 14 ст. наглядаецца эканамічная актывізацыя, павелічэнне ролі гарадоў і мястэчак у жыцці дзяржавы, рост іх колькасці. З 14 ст. вядомы Горваль, з 15 ст.— Лоеў, Жлобін, Петрыкаў і інш. Асновай эканамічнага жыцця гарадоў былі рамяство і гандаль, развіваліся промыслы. Пераважную колькасць гараджан складалі рамеснікі, дробныя і сярэднія купцы, земляробы, існавала праслойка так званых вольных гараджан, што не мелі маёмасці. Вядучая роля ў эканамічным і грамадска-палітычным жыцці гарадоў належала феадальна-купецкім вярхам, а таксама вышэйшаму духавенству. Паводле магдэбургскага права некаторыя гарады атрымалі права на самакіраванне — Рэчыца ў 1561 г. (няпоўнае), Мазыр у 1577 г., аднак гэта не пазбавіла гараджан ад улады феадалаў. У межах горада феадалы мелі ўладанні, на якія не пашыралася адміністрацыйная і судовая ўлада гарадскога самакіравання, так званыя юрыдыкі. Жыхары юрыдык падпарадкоўваліся феадальнай адміністрацыі і жорстка эксплуатаваліся. У 1615 г. супраць самавольства і ўціску замкавай адміністрацыі і арандатараў, узмацнення эксплуатацыі адбылося антыфеадальнае паўстанне ў Мазыры. На тэрыторыі Гомельшчыны буйныя феадалы мелі вялікія зямельныя ўладанні, а таксама валодалі значнымі населенымі пунктамі: Хадкевічы — Жлобінам, Алелькавічы — Петрыкавам, Вішнявецкія — Хойнікамі і Брагінам; Глінскія, потым Астрожскія, Сапегі — Туравам; у розны час Радзівілы былі старостамі ў Мазыры, Сапегі — у Гомелі; Рагачоў быў уладаннем вялікага князя літоўскага.

У 15—16 стагоддзях узрасла феадальная ўласнасць на зямлю за кошт захопу феадаламі абшчынных зямель. Працэс юрыдычнага афармлення запрыгоньвання сялян у Вялікім княстве Літоўскім быў пачаты Прывілеем 1447 г., паводле якога забараняўся пераход прыватнаўладальніцкіх сялян ад аднаго феадала да другога. Статуты Вялікага княства Літоўскага 1529, 1566 гг. і асабліва 1588 г. юрыдычна замацавалі прыгоннае права. Аграрная рэформа, якая праводзілася на тэрыторыі княства паводле «Уставы на валокі» 1557 г., не прывяла на Гомельшчыне да павелічэння фальварковых панскіх гаспадарак. Ажыццяўленне рэформы было адкладзена з-за шырокага сялянскага руху, які ў 1-й палавіне 16 ст. ахапіў вялікакняжацкія землі па Дняпры, Сажы і Бярэзіне. Сяляне выступілі супраць дадатковых павіннасцей на карысць вялікакняжацкага скарбу. Улады вымушаны былі абмежаваць на ўсходзе Беларусі ўвядзенне новых павіннасцей таксама і ў сувязі з масавымі ўцёкамі сялян з парубежных валасцей на тэрыторыю Расіі. Так, у 1548 г. каралева Бона загадвала рагачоўскаму дзяржаўцу сялянам крыўд не рабіць і навін не ўводзіць. На дзяржаўных землях у раёнах Рэчыцы, Мазыра, Чачэрска, Гомеля была праведзена палавінчатая рэформа — ураўноўваліся зямельныя ўчасткі, устанаўлівалася плата за іх і павіннасці, якія браліся з «дыма» — сялянскага двара; памеры натуральнай і грашовай рэнты павялічыліся.

У 14—16 стагоддзях фарміравалася беларуская народнасць. Культура беларускага народа набыла самабытны характар, нацыянальную своеасаблівасць. Беларуская мова да канца 17 ст. была дзяржаўнай у Вялікім княстве Літоўскім. На ёй пісаліся летапісы і хронікі, свецкія і царкоўныя творы, статуты, граматы, сеймавыя пастановы і інш. дакументы, вялося справаводства ва ўстановах.

Рост унутрыкласавых, палітычных і нацыянальна-рэлігійных супярэчнасцей, антыфеадальных выступленняў у Вялікім княстве, а таксама няўдачы ў Лівонскай вайне 1558—83 гг., якую вяла Руская дзяржава супраць Лівоніі, Вялікага княства Літоўскага, Польшчы і Швецыі за выхад да Балтыйскага мора, выкарысталі польскія феадалы і каталіцкае духавенства. Яны імкнуліся далучыць землі Вялікага княства да Польшчы і ў 1569 г. дамагліся заключэння Люблінскай уніі, згодна якой Вялікае княства Літоўскае і Польшча аб'ядналіся ў федэратыўную дзяржаву — Рэч Паспалі-

тую. Фармальна Вялікае княства Літоўскае захавала свае органы ўлады, войска і заканадаўства, аднак трапіла ў залежнае становішча. Усталяваўся жорсткі нацыянальна-рэлігійны прыгнёт, што разам з узмацненнем прыгонніцтва выклікала рэзкае абвастрэнне класавых супярэчнасцей. Насельніцтва Беларусі актыўна змагалася супраць феадальнага і нацыянальна-рэлігійнага прыгнёту. У кастрычніку — снежні 1595 г. Гомельшчыну ахапіла антыфеадальнае паўстанне, якое пачалося на Украіне пад кіраўніцтвам Севярына Налівайкі. На тэрыторыі Беларусі да яго атрада далучыліся мясцовыя сяляне, мяшчане, дробная шляхта. Паўстанцы грамілі маёнткі феадалаў, занялі Петрыкаў, Гомель, Рэчыцу, Тураў. Антыфеадальны рух пашырыўся на ўсю паўднёвую і паўднёва-ўсходнюю часткі Беларусі. Вясной 1596 г. Налівайка з атрадам мусіў адысці на Валынь.

Пасля падпісання Брэсцкай царкоўнай уніі 1596 г. аб аб'яднанні праваслаўнай царквы з каталіцкай і стварэнні на гэтай аснове уніяцкай царквы рэлігійна-палітычная барацьба на Беларусі актывізавалася. Апорай яе ў 16—18 стагоддзях у праваслаўных гараджан былі брацтвы. Яны ствараліся пры манастырах і прыходскіх цэрквах. У брацтвы ўваходзілі пераважна рамеснікі і гандляры, а таксама духавенства і шляхта, якім належала кіруючая роля. Брацтвы вялі барацьбу супраць нацыянальнага прыгнёту, прымусовай паланізацыі і акаталічвання, адстойвалі мову і культуру беларускага народа, праводзілі культурна-асветніцкую работу: адкрывалі школы, выдавалі падручнікі, дапаможнікі.

Актыўны ўдзел прыняло насельніцтва Гомельшчыны ў вызваленчай вайне ўкраінскага і беларускага народаў 1648—54 гг. супраць феадальнага і нацыянальна-рэлігійнага прыгнёту з боку шляхецкай Польшчы, за ўз'яднанне з Расіяй. Сігналам да выступленняў на Беларусі з'явілася паўстанне запарожскіх казакоў пад кіраўніцтвам Багдана Хмяльніцкага. На дапамогу беларусам з Украіны прыйшлі атрады (загоны) казакоў, першыя — у канцы мая 1648 г. пад кіраўніцтвам Галавацкага. У складзе казакоў былі і выхадцы з Беларусі, у т. л. і кіраўнікі загонаў Гаркуша, Сакалоўскі і інш. Ад Турава, Мазыра, Брагіна загоны разам з беларускімі сялянамі, якія далучыліся да іх, пайшлі ў глыб Беларусі. Гараджане адчынялі паўстанцам брамы, далучаліся да казацка-сялянскіх атрадаў ці стваралі свае. Адзін з атрадаў складаўся з жыхароў Мазыра, яго ўзначальваў мясцовы рамеснік І. Сталяр. Паўстанцы руйнавалі магнацкія і шляхецкія маёнткі, грамілі касцёлы і манастыры, у т. л. каля Брагіна, Лоева, Гомеля, знішчалі дакументы пра феадальныя павіннасці. Спробы асобных магнатаў задушыць паўстанне не мелі поспеху. Іх атрады былі разгромлены восенню 1648 г. каля Рэчыцы, Горваля, Рагачова. Феадалы з дапамогай каталіцкай царквы сабралі значныя сілы наёмнікаў і шляхты. У канцы 1648 г. супраць паўстанцаў выступіла вялікае войска на чале з Я. Радзівілам. 10.1.1649 г. Радзівіл з Брэста пайшоў уздоўж Прыпяці ў напрамку на Тураў — Петрыкаў — Мазыр. 18 студзеня шляхецкія войскі падышлі да Турава. Паўстанцы адступілі ў Мазыр, а насельніцтва, якое асталося ў Тураве паводле загаду Радзівіла, было перабіта. Жыхары Мазыра стварылі дадатковыя ўмацаванні вакол гарадскіх сцен, мазырскі паўстанцкі атрад аб'яднаўся з казацкім атрадам Міхненкі, аднак утрымаць горад паўстанцы не змаглі. У студзені войскі Радзівіла штурмам узялі Мазыр, яго абаронцы былі перабіты. Задушыўшы паўстанне на поўдні Беларусі, Радзівіл намерваўся нанесці ўдар у тыл войск Хмяльніцкага на Украіне. Вясной 1649 г. Хмяльніцкі паслаў на Беларусь 3-тысячны атрад на чале з Ільёй Галотам, які разбіў праціўніка на левабярэжжы Прыпяці. Аднак атрад Галоты панёс значныя страты, сам ён загінуў. Каб спыніць наступленне войск Радзівіла на Украіну, казацкія атрады (10 тыс. чалавек) пад кіраўніцтвам С. Падбайлы і Ф. Гаркушы сталі лагерам паміж Дняпром і Сажом, прыкрылі каля Лоева пераправы цераз Дняпро, так званыя «вароты на Украіну». На дапамогу ім быў накіраваны 15-тысячны атрад казакоў пад камандаваннем М. Крычэўскага, да якога далучыліся некалькі тысяч беларускіх сялян. 21.7.1649 г. каля Лоева адбылася бітва паміж войскамі Крычэўскага і Радзівіла, пасля якой з-за вялікіх страт шляхецкія войскі наступаць на Украіну не маглі. Паводле Збораўскага дагавора 1649 г. казакі мусілі адысці на Украіну. На Беларусі барацьба не спынялася. Адбыліся паўстанні ў раёнах Гомеля, Чачэрска, Горваля, Брагіна, якія былі жорстка задушаны летам 1651 г. Асобныя атрады пераважна з беларускіх сялян, так званых «лесуноў», дзейнічалі каля Рэчыцы і ў іншых месцах Гомельшчыны на працягу 1652—53 гг.

У руска-польскую вайну 1654—67 гг. паміж Расіяй і Рэччу Паспалітай за Беларусь і Украіну тэрыторыя Гомельшчыны зноў стала арэнай ваенных дзеянняў. Казацкія палкі (20 тыс. чалавек) І. Н. Залатарэнкі, якія падпарадкоўваліся рускаму камандаванню, у маі 1654 г. пачалі наступленне ўздоўж Дняпра, занялі Гомель, Рэчыцу, Горваль, Стрэшын, Жлобін, Рагачоў, Чачэрск. Пасланы з Кіева казацкі атрад 7 ліпеня заняў Мазыр, жыхары якога адчынілі казакам гарадскія вароты, 5 верасня рускія салдаты і стральцы пад камандаваннем стольніка Валконскага занялі Тураў. Насельніцтва гэтых гарадоў прысягнула на вернасць Расіі. Вайна прынесла вялікія разбурэнні і шматлікія людскія страты. Непазбежныя яе спадарожнікі — неўраджаі — выклікалі катастрафічныя галадоўкі. У выніку гэтага зноў неаднаразова ўспыхвалі антыфеадальныя паўстанні і выступленні сялян. Летам 1661 г. адбылося вялікае паўстанне ў раёнах Гомеля і Чачэрска; у маі 1664 г. сялянскія паўстанні ахапілі поўдзень Беларусі,

паўстанцы захапілі Петрыкаў і Тураў. У час руска-польскай вайны выступленні беларускіх сялян і гарадской беднаты супраць сваіх прыгнятальнікаў знаходзілі падтрымку і ў рускіх ратных людзей. Яскрава выявілася імкненне беларускага народа да ўз'яднання з рускім народам. Вайна закончылася Андрусаўскім перамір'ем 1667 г., паводле якога Правабярэжная Украіна і Беларусь засталіся пад уладай Рэчы Паспалітай, аднак гэта быў важны этап у барацьбе за ўз'яднанне беларускіх зямель з Расіяй.

2-я палавіна 17—1-я палавіна 18 ст.— адзін з найбольш цяжкіх перыядаў у гісторыі беларускага народа. У выніку войнаў былі спустошаны многія вёскі і гарады, у т. л. Мазыр, Рэчыца, Тураў, Лоеў, Брагін, Гомель, загінулі або былі вывезены творы мастацтва, рукапісы, кнігі. Беларусь, якая знаходзілася ў складзе Рэчы Паспалітай, разам з ёю перажывала глыбокі заняпад — вынік агульнага крызісу феадалізму і палітыкі пануючага класа.

У падняпроўскіх раёнах Гомельшчыны, дзе фальваркова-паншчынная сістэма да сярэдзіны 17 ст. прывілася слаба, фальваркі былі амаль ліквідаваны. Магнаты мелі велізарныя вотчыны з тысячамі сялян. Магнатам належала і асноўная частка каралеўскіх уладанняў, так званыя староствы. Так, Міхаіл Казімір Радзівіл валодаў Гомельскім і Хойніцкім староствамі — значнай часткай тэрыторыі Гомельшчыны. У многіх маёнтках з 1730-х гадоў павялічвалася колькасць дробных прамысловых прадпрыемстваў па здабычы руды і выплаўцы жалеза (рудні), цагельных і вапняковых заводаў, млыноў, вінакурняў, сукнавальняў, маслабойняў, паперняў. Разам з працай прыгонных сялян ўсё часцей выкарыстоўвалася праца наёмных рамеснікаў. Пастунова быў пераадолены заняпад гарадоў, прыкметныя зрухі ў іх эканамічным стане адбыліся ў 2-й палавіне 18 ст. Павялічылася таварнасць гарадскіх рамесных майстэрань, рос гандаль. Побач з штотыднёвымі таргамі праводзіліся кірмашы, у некаторых гарадах і мястэчках па некалькі разоў на год: у Гомелі і Чачэрску па 3, у Жлобіне 4 разы.

18 ст. на Гомельшчыне адзначана шырокім размахам сялянскага руху. У 1730-я гады ва ўладанні Віленскага капітула ў Каменшчыне Мазырскага павета пачаліся хваляванні. У верасні 1754 г. яны выліліся ў буйное паўстанне, якое працягвалася больш за паўтара года. У мястэчку Славечна паўстанцы стварылі ўмацаваны лагер. Толькі з дапамогай артылерыі войска феадалаў штурмам авалодала лагерам і задушыла паўстанне. У 1745 г. сялянскія хваляванні адбыліся ў Горвалі, які таксама належаў Віленскаму капітулу. Са зброяй у руках у 1747 г. выступілі сяляне Гомельскага, у 1748 г.— Чачэрскага староства, у 1750—51 гг.— у вёсках каля Лоева, Нароўлі, Брагіна. У 1770-я гады ў Любоніцкім і Стоўпінскім староствах Рэчыцкага павета не спынялася ўзброеная барацьба сялян на чале з Паўлам Лагойкам. Супраціўленне паўстанцаў было зломлена ў 1782 г., Лагойка і яго памочнікі Лаўрын Самадзелак і Сымон Пячонка пакараны смерцю.

З узмацненнем нацыянальнага і рэлігійнага прыгнёту ў 2-й палавіне 17—18 ст. пагоршыліся ўмовы для развіцця культуры беларускага народа. Беларуская мова ў дзяржаўных, судовых, адміністрацыйных установах замянялася польскай. Закрываліся брацкія друкарні і школы, знішчаліся кнігі на беларускай мове. Асвета станавілася манаполіяй каталіцкай і уніяцкай цэркваў. Школьную адукацыю ў канцы 18 ст. сканцэнтравалі пераважна манаскія ордэны. Найбольш школ на Гомельшчыне мелі езуіты. Адукацыйная камісія да канца 18 ст. адкрыла толькі адну школу ў Мазыры. У мястэчках і некаторых вёсках існавалі пачатковыя школы, аднак сялянскіх дзяцей у іх вучылася мала. Змест навучання, з-за адсутнасці падрыхтаваных настаўнікаў, па-ранейшаму вызначала каталіцкае духавенства. Буйныя магнаты стваралі ў сваіх уладаннях аркестры, хоры, балетныя і оперныя трупы, якія складаліся пераважна з прыгонных. Прыгонныя тэатры дзейнічалі ў Гомелі і Чачэрску.

У барацьбе супраць рэакцыі, за сацыяльнае і нацыянальнае вызваленне фарміравалася перадавая грамадска-палітычная і навукова-філасофская думка на Беларусі. Найбольш яскравым прадстаўніком яе ў 18 ст. быў ураджэнец Мазырскага павета Іосіф Яленскі (1756—1811 гг.). За ўдзел у паўстанні Т. Касцюшкі ён у 1794 г. арыштаваны і сасланы. У сваіх творах Яленскі выклаў праграму перабудовы грамадства: адмена прыгону і саслоўных прывілеяў шляхты, роўнасць усіх грамадзян незалежна ад іх веравызнання, стварэнне агульнанароднай дзяржавы і ўрада. Яленскі адзін з першых беларусаў загаварыў пра неабходнасць аб'яднання рэвалюцыйных сіл рускага, польскага і беларускага народаў. Яго погляды блізкія да поглядаў А. М. Радзішчава.

У выніку падзелаў Рэчы Паспалітай да Расіі адышла ў 1772 г. ўсходняя частка Рэчыцкага павета Мінскага ваяводства (з Рагачовам, Чачэрскам, Гомелем), у 1793 г.— астатняя тэрыторыя Гомельшчыны. Паводле новага адміністрацыйна-тэрытарыяльнага падзелу Беліцкі (з 1852 г. Гомельскі) і Рагачоўскі паветы ўвайшлі ў Магілёўскую, Мазырскі і Рэчыцкі — у Мінскую губерні.

Пасля ўз'яднання з Расіяй на беларускія гарады, якія мелі магдэбургскае права, а таксама на цэнтры паветаў пашырыліся льготы, вызначаныя Даравальнай граматай гарадам 1785 г. Памешчыкам, якія прысягнулі рускаму ўраду, пакідаліся маёнткі і прыгонныя, даваліся тыя ж правы, што і рускім дваранам. Аграрная палітыка царызму на Беларусі заключалася ў пашырэнні землеўладання рускага дваранства і ўмацаванні памешчыцкага землеўладання наогул. Толькі граф П. А. Ру-

2 Зак. 155

мянцаў-Задунайскі атрымаў у былым Гомельскім старостве землі з 11 195 прыгоннымі.

Беларускія землі былі ўключаны ў агульнарасійскую гаспадарчую сістэму, што стварыла перадумовы для больш хуткага развіцця эканомікі. Павялічылася колькасць мануфактур, асабліва ў Падняпроўі. Да Айчыннай вайны 1812 г. на Гомельшчыне працавалі вотчынныя мануфактуры: у Рагачоўскім павеце ў Ацюшнай слабадзе — паташная, у Салоным — медзеплавільная, у Грамыках, Чачэрску і Шарсціне — шкляныя, у Наспе — цукровая, у Рэчыцкім павеце ў Дзямідаве —рудаплавільная, у Беліцкім павеце ў Добрушы — палатняная і мукамольная, у Ветцы і Беліцы — гарбарныя, у Кузьмінічах — парусінавая, у Будзе Пясочнай — шкляная, у Мазырскім павеце ў Брынёве і Паўлінаве — цукровыя і інш. Павялічылася насельніцтва гарадоў і мястэчак, якія вызваліліся ад падпарадкавання свецкім і духоўным феадалам. У 1-й палавіне 19 ст. на Гомельшчыне паявіліся заснаваныя на вольнанаёмнай працы капіталістычныя мануфактуры: тытунёвыя ў Рэчыцы і Мазыры, шкляныя ў Гомелі і Свяцілавічах Рагачоўскага павета, цукровыя ў Прудаўцы Беліцкага і Остэрманску Рагачоўскага паветаў, палатняныя ў Гомелі і Ветцы. Належалі прадпрыемствы найчасцей купцам і мяшчанам, працавала на іх звычайна невялікая колькасць рабочых. Сярод медзеплавільных і чыгуналіцейных самая буйная на Беларусі медзеплавільная мануфактура графа Паскевіча ў Добрушы. Першым буйным цукровым прадпрыемствам, на якім устанавілі паравыя машыны, быў завод графа Паскевіча ў Беліцы. Уз'яднанне з Расіяй зрабіла станоўчы ўплыў на пашырэнне гандлёвых сувязей Беларусі з расійскімі і ўкраінскімі губернямі. Былі ліквідаваны ўнутраныя таможнія пошліны. На берагах Дняпра, Сажа, Прыпяці, Бярэзіны ўзніклі вялікія саляныя і іншыя склады. Рэчыца, Лоеў, Рагачоў, Ветка, Беліца, Мазыр сталі буйнымі па грузаабароце прыстанямі. Расшырэнне ўнутранага і знешняга гандлю было абумоўлена ростам таварнасці сельскай гаспадаркі і развіццём прамысловасці. Воднымі шляхамі Гомельшчына была звязана з Украінай і чарнаморскімі портамі, Прыбалтыкай і Польшчай. Да сярэдзіны 19 ст. на рэках ужо хадзілі паравыя судны. Каля Лоева, Мазыра, у Ветцы і Рагачоўскім павеце будаваліся лепшыя ў басейне Дняпра драўляныя судны. У гэты ж час праз Гомельшчыну былі пракладзены шашэйныя дарогі: Пецярбургска-Кіеўская (праз Ліцвінавічы, Чачэрск, Беліцу), Оўруч — Мазыр — Рагачоў, Лоеў — Васілевічы, Маскоўска-Варшаўская (праз Рагачоў). Паляпшэнне шляхоў зносін садзейнічала росту гарадоў і развіццю капіталістычнай прамысловасці, пашырэнню гандлю.

Уз'яднанне з Расіяй стварыла спрыяльныя ўмовы для пранікнення на Беларусь лепшых дасягненняў рускай культуры. Расійская акадэмія навук накіравала ў Падняпроўе некалькі астранамічных і фізічных экспедыцый. У 1781 г. ў Гомелі адкрыта духоўнае вучылішча, у якім навучаліся дзеці дваран, духавенства, купцоў і заможных мяшчан, у 1835 г. ў Нававеліцы — царкоўнапрыходскае аднакласнае вучылішча, у 1841 г. ў Гомелі — народнае вучылішча, але кантынгент вучняў у іх быў невялікі.

У складзе Расійскай імперыі беларускі народ не пазбавіўся сацыяльнага і нацыянальнага прыгнёту. Не спынялася і барацьба сялян супраць феадальнага прыгнёту. Значныя сялянскія хвалянні адбыліся ў 1808—09 гг. і ў 1821 г. ў Рэчыцкім павеце. Заняпад сялянскай гаспадаркі абумовіў крызісны стан памешчыцкай гаспадаркі. Так, у маёнтку Гомель даходы з 1848 г. да 1856 г. знізіліся з 519 да 139 тыс. рублёў.

У 1-й палавіне 19 ст. грамадскі рух на Беларусі меў антыпрыгонніцкі характар. У ім удзельнічалі дробная шляхта, разначынцы, ваеннаслужачыя, чыноўнікі. Ва ўмовах агульнаеўрапейскага рэвалюцыйнага ўздыму пачалося паўстанне 1830—31 гг. у Польшчы, на Беларусі і ў Літве. У чэрвені — ліпені 1831 г. яно пашырылася на Мазырскі і Рэчыцкі паветы, аднак падтрымкі шырокіх мас сялянства не атрымала. У пачатку жніўня 1831 г. паўстанне задушана на ўсёй тэрыторыі Беларусі.

У 1840—50-я гады наглядаецца ўздым антыфеадальнай барацьбы сялян, масавы характар набылі ўцёкі іх ад памешчыкаў. У жніўні 1841 г. больш за 1200 прыгонных з 30 вёсак Беліцкага павета цэлымі сем'ямі з маёмасцю накіраваліся ў паўднёвыя губерні Расіі, што было выклікана чуткамі пра вызваленне перасяленцаў ад прыгону. З вялікай цяжкасцю ўладам удалося вярнуць большасць уцекачоў. Асабліва ўзмацнілася барацьба сялян напярэдадні рэформы 1861 г. Буйное хваляванне адбылося ў 1855 г. ў гомельскім маёнтку князя Паскевіча, якое пашырылася на іншыя вёскі. Улады вымушаны былі ўвесці ў маёнтак карныя батальёны. Усю восень 1856 г. не спыняліся хваляванні ў маёнтку Капцэвічы Мазырскага павета. У 1858 г. сяляне мястэчка Лоеў адмовіліся падпарадкавацца вотчыннай адміністрацыі, для спынення выступлення была выклікана вайсковая каманда. Сялянскі рух з кожным годам прымаў усё больш вострыя формы.

Крызіс феадальна-прыгонніцкай сістэмы і зараджэнне капіталістычных адносін, рэвалюцыйная сітуацыя канца 1850 — пачатку 1860-х гадоў вымусілі царызм адмяніць прыгоннае права. Сялянская рэформа 1861 г. на Беларусі праводзілася на аснове Агульнага і 2 мясцовых палажэнняў. Напярэдадні рэформы памешчыкі адабралі ў сялян лепшыя землі, палажэнні ўзаконілі гэтыя захопы, што выклікала масавыя сялянскія хваляванні. Буйныя выступленні адбыліся ў красавіку 1861 г. ў Рэчыцкім павеце, у маёнтках Брынёва, Дарашэвічы, Скрыгалава, Капаткевічы Мазырскага павета. Паўстанне 1863—64 гг. у Польшчы, на

Беларусі і ў Літве прымусіла царызм змяніць некаторыя ўмовы рэформы — спыніць часоваабавязаныя адносіны сялян да памешчыкаў, знізіць выкупныя плацяжы, абеззямеленым даць надзелы.

Адмена прыгоннага права не ліквідавала прыгонніцкія перажыткі ў вёсцы. На Гомельшчыне была пашырана зямельная абшчына, якая ў канцы 19 ст. ахоплівала 85 % сялянскіх двароў. Улады выкарыстоўвалі яе як зручную форму для збору розных падаткаў і выканання сялянамі шматлікіх павіннасцей. У сувязі з сялянскім малазямеллем існавалі адработкі ў форме здзельшчыны, асабліва ў Мазырскім і Рэчыцкім паветах. Сяляне апрацоўвалі сваім інвентаром памешчыцкую зямлю, засявалі яе ўласным насеннем, за што атрымлівалі палавіну ўраджаю. Усё гэта абвастрала супярэчнасці паміж сялянамі і памешчыкамі, што знайшло адлюстраванне ў шырокім сялянскім руху ў парэформенны перыяд. У 1864 г. сяляне Лоеўскай і Дзяражыцкай валасцей Рэчыцкага павета адмовіліся ўносіць выкупныя плацяжы, падаткі і выконваць павіннасці. Нягледзячы на жорсткую расправу з непакорнымі, у 1867 г. хваляванні сялян у гэтых валасцях аднавіліся, калі праверачная камісія адрэзала на карысць памешчыка больш за 1800 дзесяцін зямлі і павялічыла выкупныя плацяжы больш як на 5,3 тыс. рублёў. Сяляне аказалі супраціўленне паліцыі. Хваляванні працягваліся да мая 1871 г., былі задушаны з дапамогай салдат. У 1870-я гады адбыўся шэраг сялянскіх выступленняў супраць памешчыкаў і адміністрацыі. Галоўнымі формамі барацьбы былі захопы зямель, пераважна сервітутаў і адрэзкаў, супраціўленне ўладам. Буйным было хваляванне сялян у 1896 г. ў вёсках Заполле і Холмеч Рагачоўскага павета. У 1890—1900 гг. у Рэчыцкім павеце адбылося 24, у Гомельскім — 11 сялянскіх выступленняў.

Адмена прыгоннага права садзейнічала хуткаму развіццю капіталізму ў прамысловасці. У канцы 1850-х гадоў на Гомельшчыне налічвалася 95 прамысловых прадпрыемстваў, на якіх працавала 1100 рабочых. З 1860 г. да 1900 г. колькасць прадпрыемстваў павялічылася ў 2 разы, рабочых у 5 разоў, а аб'ём вытворчасці (у грашовым вылічэнні) у 10 разоў. Былі пабудаваны вялікія прадпрыемствы. У 1900 г. на папяровай фабрыцы ў Добрушы працавала 900 рабочых, на запалкавых фабрыках у Мазыры — 616, у Навабеліцы — 384, у механічных майстэрнях Лібава-Роменскай чыгункі ў Гомелі — 1200 рабочых. Буйнымі прадпрыемствамі былі лесапільня ў в. Носны Рагачоўскага павета, ільняны завод у Гомельскім павеце.

Велізарную ролю для развіцця прамысловасці і ўнутранага рынку адыграў хуткі рост шляхоў зносін, пераважна чыгунак. У 1873—74 гг. праз Гомель прайшла Лібава-Роменская чыгунка, якая звязала тэрыторыю Гомельшчыны з Прыбалтыкай і Украінай. У 1880-я гады ў эксплуатацыю былі ўведзены Палескія чыгункі, якія злучылі Гомель з Лунінцом (1886 г.) і Бранскам (1887 г.), лінія Жлобін — Калінкавічы звязала з Пецярбургска-Адэскай чыгункай, якая таксама прайшла праз Гомельшчыну. Чыгуначнікі, асабліва рабочыя паравозных брыгад, дэпо і майстэрань, сталі адным з перадавых атрадаў беларускага пралетарыяту.

Першыя выступленні рабочых на Гомельшчыне, выкліканыя цяжкімі ўмовамі працы і жыцця, адбыліся ў 1882 г. ў чыгуначных майстэрнях Гомеля. У механічных майстэрнях Лібава-Роменскай чыгункі ў 1886 г. баставала каля 500 рабочых, у 1894 г.— 700 чалавек. У 1881—82 гг. створаны гурткі народніцкага кірунку ў Рагачове і Гомелі. Восенню 1893 г. ў Гомелі арганізаваны рабочы гурток самаадукацыі для прапаганды ідэй класавай салідарнасці і асветніцкай дзейнасці сярод рабочых. Летам 1897 г. асобныя рабочыя гурткі былі аб'яднаны ў Гомельскую сацыял-дэмакратычную групу. Агітацыйная работа сацыял-дэмакратаў садзейнічала ўздыму рэвалюцыйнага руху. Толькі ў Гомелі ў 1894—1900 гг. адбылося 15 стачак. У 1898 г. ў Гомелі праведзена першая маёўка. У 1902 г. гомельскія рабочыя падтрымалі забастоўкай салідарнасці ўсеагульную стачку рабочых Растова-на-Доне. У 1903 г. забастоўкі пратэсту супраць расстрэлу рабочых Златауста адбыліся ў Гомелі і Ветцы. У 1904 г. стачкі, дэманстрацыі, мітынгі пратэсту супраць зверскага расстрэлу мітынгу рабочых у Беластоку прайшлі ў Мазыры, Парычах, Гомелі. Вялікую ролю ў пашырэнні рэвалюцыйнай барацьбы працоўных Гомельшчыны адыграла ленінская «Искра» (1900—03 гг.), якая дастаўлялася ў Гомель, Мазыр, Рэчыцу, Чачэрск, Парычы, Холмеч, Рагачоў, Жлобін, Лоеў, Брагін, дзе былі іскраўскія групы або карэспандэнты газеты. У 1901—03 гг. ствараюцца рабочыя гурткі сацыял-дэмакратычнага кірунку ў Ветцы, Рэчыцы, Парычах, Холмечы.

Нарастанне рэвалюцыйнага руху патрабавала стварэння на Беларусі партыйных цэнтраў. Па ініцыятыве У. І. Леніна ў студзені 1904 г. ЦК партыі стварыў Палескі камітэт РСДРП, які ўзначаліў член Бернскай арганізацыі «Искры» М. К. Уладзіміраў. У. І. Ленін аддаваў Палескай арганізацыі вялікую ўвагу, вёў перапіску з яе кіраўніцтвам. Наладжваць партыйную работу на Палессе прыязджалі прафесійныя рэвалюцыянеры А. Я. Бадаеў, С. І. Гусеў, Г. М. Кржыжаноўскі, П. М. Лепяшынскі, М. М. Літвінаў, У. І. Неўскі, У. М. Залежскі, А. В. Папоў і інш. За 8 месяцаў (з 1. 1.1904 г.) Палескі камітэт выпусціў у сваёй друкарні 70,2 тыс. экземпляраў лістовак і брашур (18 назваў), у т. л. «Паведамленне аб другім з'ездзе РСДРП», «Да рабочых», «З прычыны гомельскай дэманстрацыі», раздзел з брашуры У. І. Леніна «Да вясковай беднаты» і інш. Камітэт выдаваў газету «Полесский листок». Гомельская група РСДРП вяла агітацыю сярод сялян Гомельскага, Рэчыцкага, Рагачоўскага паветаў.

Дзейнічалі Лоеўская, Чачэрская, Брагінская, Васілевіцкая, Веткаўская, Кармянская групы РСДРП.

Працоўныя Гомельшчыны актыўна ўдзельнічалі ў Рэвалюцыі 1905—07 гг. Вестка пра крывавую расправу над рабочымі Пецярбурга 9.1.1905 г. хутка абляцела ўсю краіну. Стачкі, мітынгі і дэманстрацыі пратэсту адбыліся ў Гомелі, Мазыры, Рэчыцы, Рагачове, Ветцы і ў іншых месцах. Масавыя стачкі пралетарыяту ўзнялі на барацьбу і сялянства. Палеская арганізацыя РСДРП летам 1905 г. правяла значную работу па арганізацыі рэвалюцыйных сялянскіх камітэтаў, стварэнню сацыял-дэмакратычных гурткоў у вёсцы. Паспяхова працавалі сялянскія сацыял-дэмакратычныя арганізацыі ў Карме, Брагіне, Холмечы, Бабчыне Рэчыцкага, Жгуні Гомельскага паветаў, Чачэрску і ў іншых месцах. Вялікую агітацыйную работу сярод сялян праводзілі Гомельская, Рэчыцкая, Мазырская групы РСДРП. Пад уплывам бальшавікоў буйныя сялянскія хваляванні адбыліся ў раёне Гомеля, Веткі, у Карме, Хойніках, Стралічаве Рэчыцкага павета, у час якіх сяляне захоплівалі ў памешчыкаў зямлю.

Уздым рэвалюцыйнага руху выліўся ва Усерасійскую Кастрычніцкую палітычную стачку 1905 г. На Гомельшчыне ў кастрычніцкія дні ў авангардзе ішлі чыгуначнікі і рабочыя буйных прадпрыемстваў. 13 кастрычніка ўсеагульная забастоўка пачалася ў Гомелі. Яе падтрымалі чыгуначнікі Калінкавіч, Жлобіна, рабочыя Мазыра, Рэчыцы. Узнікшыя ў гэты перыяд забастовачны камітэт у Гомелі і рэвалюцыйны камітэт у Мазыры дзейнічалі як органы рэвалюцыйнай улады, праобразы Саветаў. У Мазыры 17.10.1905 г. на агульнагарадскім мітынгу працоўных выбраны рэўком, які 9 дзён ажыццяўляў рэвалюцыйныя мерапрыемствы, меў баявую дружыну. Кіравала рэўкомам Мазырская арганізацыя РСДРП. Адбываліся сутычкі з войскамі. Царскія ўлады жорстка расправіліся з паўстанцамі.

Па закліку бальшавікоў рабочы клас Гомельшчыны выступіў у падтрымку Снежаньскага ўзброенага паўстання 1905 г. ў Маскве. 8 снежня пачалася ўсеагульная палітычная стачка ў Гомелі. 9 снежня на Гомельскім чыгуначным вузле ўлада перайшла ў рукі рабочых. Выбраны Гомельскі камітэт дэлегатаў стварыў баявую дружыну, адхіліў мясцовую ўладу, заклікаў чыгуначнікаў да забастоўкі. З Гомеля на станцыі Зябраўка, Уза, Касцюкоўка, Буда-Кашалёва, Цырахоўка адпраўлена 18 цягнікоў, якія перавозілі агітатараў, рабочых. Быў спынены рух на Палескіх і Лібава-Роменскай чыгунках. Камітэт 14 дзён трымаў пад кантролем горад і чыгуначны вузел. Некалькі дзён у снежні 1905 г. ўтрымлівалі ўладу чыгуначнікі Жлобіна. Гаворачы аб кастрычніцкіх і снежаньскіх падзеях 1905 г., У. І. Ленін адзначаў: «Некаторыя гарады Расіі перажывалі ў тыя дні перыяд розных мясцовых маленькіх «рэспублік», у якіх урадавая ўлада была скінута і Савет рабочых дэпутатаў сапраўды функцыяніраваў у якасці новай дзяржаўнай улады» (Тв., т. 23, с. 240). Такія «рэспублікі», хоць і ізаляваныя і кароткачасовыя, былі ў Гомелі, Мазыры, Жлобіне. У 1905—06 гг. на Гомельшчыне адбылося больш за 100 сялянскіх выступленняў. На задушэнне рэвалюцыйных выступленняў царскія ўлады накіравалі буйныя ваенныя сілы. Карная экспедыцыя генерала Арлова жорстка распраўлялася з удзельнікамі забастовак на Палескіх і Лібава-Роменскай чыгунках.

Пасля паражэння Рэвалюцыі 1905—07 гг. у Расіі пачаўся перыяд жорсткай рэакцыі. На Гомельшчыне былі разгромлены сацыял-дэмакратычныя арганізацыі, прафсаюзы. У 1907—10 гг. закрыты многія асветніцкія таварыствы, якія ўзніклі ў гады рэвалюцыі. У перыяд рэакцыі бальшавікі не спынілі рэвалюцыйнай работы. Аднаўлялі дзейнасць арганізацыі РСДРП: Гомельская восенню 1907 г., Мазырская і Рэчыцкая ў 1908—09 гг., Рагачоўская ў 1910 г., Добрушская ў 1912 г. У 1910 г. зноў пачаў працаваць Палескі камітэт РСДРП, які да 1-й сусветнай вайны ператварыўся ў буйнейшую бальшавіцкую арганізацыю. Пад яго кіраўніцтвам у кастрычніку 1916 г. пад лозунгам «Далоў вайну!» адбылося найбольшае на Беларусі і Заходнім фронце паўстанне каля 4 тыс. салдат Гомельскага размеркавальнага пункта, у якім удзельнічалі і рабочыя горада.

Палітыка царызму перашкаджала станаўленню нацыянальнай культуры. Беларуская мова не прызнавалася самастойнай нацыянальнай мовай, а беларусы — нацыяй. Нягледзячы на гэта, перадавая інтэлігенцыя цікавілася гісторыяй і культурай Беларусі. З асяроддзя беларускага народа ў гэты час выходзяць пісьменнікі, публіцысты, вучоныя. Сярод іх — ураджэнцы Гомельшчыны. Правадзейны член Рускага геаграфічнага таварыства, беларускі фалькларыст і этнограф З. Ф. Радчанка (1839—1916 гг.) збірала фальклор у Гомельскім павеце, апісала матэрыяльны побыт сялян, іх абрады і звычаі, запісвала беларускія народныя мелодыі, прыказкі, апублікавала каля 700 беларускіх народных песень. Правадзейны член Рускага геаграфічнага таварыства, этнограф, фалькларыст і археолаг, аўтар прац па мове і гісторыі Е. Р. Раманаў (1855—1922 гг.) папулярызаваў творы В. Дуніна-Марцінкевіча, Ф. Багушэвіча, у 1900 г. выдаў зборнік «Тарас на Парнасе» і іншыя беларускія вершы»; яго спадчына мае вялікую каштоўнасць. Значныя даследаванні па гісторыі, фальклору і этнаграфіі зрабіў М. В. Доўнар-Запольскі (1867—1934 гг.). Яго працы па гісторыі перыяду Вялікага княства Літоўскага, народнай гаспадаркі і этнаграфіі Беларусі насычаны каштоўным фактычным матэрыялам.

Пад уздзеяннем рэвалюцыйнага руху ўлады вымушаны былі прыняць меры па пашырэнню адукацыі. Павялічылася колькасць пачатковых школ,



*Будынак былой жаночай гімназіі ў Рагачове.*

якія ўтрымліваліся ў асноўным на сродкі бацькоў, у Гомелі, Мазыры, Рагачове, Рэчыцы працавалі гімназіі, у 1909—19 гг. у Рагачове існавала настаўніцкая семінарыя, пры якой у 1911 г. была адкрыта пачатковая школа для дарослых. У 1908—09 гг. выдавалася газета буржуазна-ліберальнага кірунку «Гомельский вестник», з 1911 г.— буржуазная газета «Гомельская копейка» (з кастрычніка 1917 г. да 17.1.1919 г. «Гомельская жизнь»), у 1913 — 14 гг.— грамадска-палітычная і літаратурная газета буржуазна-ліберальнага кірунку «Гомельская мысль».

У 1917 г. ў выніку магутнага рэвалюцыйнага ўздыму ў краіне 27 лютага скінута царскае самадзяржаўе. У Гомелі аб перамозе Лютаўскай рэвалюцыі ў Петраградзе стала вядома 1(14).3.1917 г. 4(17) сакавіка быў выбраны выканком Савета рабочых дэпутатаў, 6(19) сакавіка — аб'яднаны выканком Гомельскага Савета рабочых і салдацкіх дэпутатаў. Па ініцыятыве бальшавікоў у сакавіку — красавіку створаны Саветы ў Рэчыцы, Мазыры, Карме, Ветцы, Рагачове, Добрушы, Жлобіне, Хойніках, Лоеве і інш. Павятовыя Саветы сялянскіх дэпутатаў у красавіку — маі аформіліся ў Гомелі, Мазыры і Рэчыцы. У канцы сакавіка бальшавікі Гомеля выйшлі з «аб'яднанкі». 6(19) красавіка першы легальны сход бальшавікоў выбраў новы склад Палескага камітэта РСДРП(б). Разам з Мінскім камітэтам РСДРП(б) ён адыграў вялікую ролю ў перыяд падрыхтоўкі і правядзення Вялікай Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі на тэрыторыі Беларусі. Па яго ініцыятыве ў канцы чэрвеня ў Гомелі праведзена нарада дэлегатаў ад мясцовых Саветаў, на якой прысутнічалі прадстаўнікі з Веткі, Кармы, Жлобіна, Хойнікаў, Лоева, Уваравіч і іншых месцаў Гомельшчыны. Пад кіраўніцтвам бальшавікоў у чэрвені — ліпені 1917 г. прайшлі буйныя забастоўкі рабочых дэпо станцыі Гомель, лесапільнага і фанернага заводаў у Рэчыцы, лесапільнага завода на станцыі Жыткавічы, у Мазыры і Рагачове. На многіх фабрыках і заводах устаноўлены васьмігадзінны рабочы дзень. У Гомелі, Рэчыцы, Добрушы адбыліся дэманстрацыі пад лозунгам «Далоў вайну!», «Уся ўлада Саветам!». У 2-й палавіне 1917 г. бальшавіцкія арганізацыі аформіліся ў Мазыры, Рэчыцы, Лоеве, Ветцы, Рагачове.

25.8(7.9).1917 г. ўзняў контррэвалюцыйны мяцеж генерал Карнілаў, які накіраваў войскі з Магілёва ў Петраград. Бальшавікі Гомельшчыны правялі вялікую работу па ліквідацыі карнілаўшчыны. Чырвонагвардзейскія атрады Гомеля занялі чыгуначную станцыю, пошту, тэлеграф. На чыгунцы Гомель — Жлобін за 6 дзён затрымалі 25 эшалонаў мяцежнікаў. На барацьбу з карнілаўшчынай узняліся працоўныя Рагачова, Добруша, Калінкавіч, Мазыра. З Гомеля ўзброены атрад з 300 чалавек быў накіраваны ў Магілёў. З Рэчыцы ў Жлобін была адпраўлена «сацыялістычная рота» з 150 чалавек. Узброеныя атрады былі створаны з сялян Гомельскага, Рэчыцкага і Рагачоўскага паветаў. Рэвалюцыйныя дзеянні рабочых і салдат сарвалі спробу буржуазіі ўстанавіць ваенную дыктатуру.

Ліквідацыя карнілаўскага мяцяжу спрыяла хуткаму росту ўплыву партыі бальшавікоў на масы. У выніку перавыбараў бальшавікі атрымалі большасць дэпутацкіх месцаў у Саветах Гомеля, Рагачова, Жлобіна, Мазыра, іншых гарадоў і мястэчак. Рабочыя і салдаты Гомеля накіравалі на II Усерасійскі з'езд Саветаў рабочых і салдацкіх дэпутатаў сваіх прадстаўнікоў з наказам патрабаваць перадачы ўлады ў рукі Саветаў.

* * *

Архітэктура і выяўленчае мастацтва Гомельшчыны старажытнарускага перыяду (9—12 стагоддзі) перш за ўсё звязана з узнікненнем і развіццём такіх гарадоў, як Тураў, Рагачоў, Гомель, Брагін, Мазыр, Чачэрск, Рэчыца. Гарады ўзнікалі на асноўных водных шляхах, на рэках Дняпро, Прыпяць, Сож, Бярэзіна. Самы старажытны з іх — Тураў — сваім развіццём абавязаны зручнаму геаграфічнаму знаходжанню на прыпяцкім адгалінаванні шляху «з варагаў у грэкі». Першапачатковай асновай гарадоў з'яўляліся гарадзішчы старажытных паселішчаў (Чачэрск, Тураў, Гомель). Пры горадабудаўніцтве ўлічваліся абарончыя меркаванні. Прыроднай фартыфікацыйнай перашкодай для ворагаў былі рэкі. Найбольш зручным месцам размяшчэння паселішчаў з'яўляліся мысы каля зліцця рэк (Тураў, Гомель, Чачэрск, Рагачоў). Гарады ўмацоўваліся землянымі валамі, равамі, драўлянымі сценамі.

Архітэктурна-планіровачная арганізацыя старажытных паселішчаў прасочваецца на прыкладзе гандлёва-рамесніцкіх і культурных цэнтраў, такіх, як Чачэрск, Стрэшын, Гомель і інш. Горадафарміруючым ядром быў умацаваны дзядзінец (фрагменты старажытнага дзядзінца знойдзены ў Тураве). Навокал яго размяшчаўся гандлёва-рамесніцкі пасад. Абарончыя збудаванні скоўвалі за-

будову гарадоў, абумоўлівалі яе шчыльнасць. Драўляныя сядзібы гараджан былі невялікіх памераў. З цягам часу рост пасадаў стаў наступным этапам фарміравання планіровачнай структуры населеных пунктаў, прадвызначаў іх перспектыўнае развіццё па радыяльна-кальцавой схеме планіроўкі (Брагін, Гомель, Мазыр і інш.).

Пасля прыняцця хрысціянства ў Кіеўскай Русі разгарнулася культавае будаўніцтва. Пры археалагічных раскопках у Тураве знойдзены рэшткі аднаго з першых на Гомельшчыне мураваных храмаў 12 ст.

У 12 ст. ўзнікаюць драўляныя феадальныя замкі (Гомель, Стрэшын, Тураў, Чачэрск). З 14—15 стагоддзяў значна павялічылася стратэгічнае значэнне гарадоў, актывізавалася і ваеннаабарончае будаўніцтва. Абарончы фарпост у выглядзе вежы-данжона, паводле дадзеных археалогіі, існаваў у Тураве. На Гомельшчыне пераважалі драўляназемляныя ўмацаванні. У Гомелі быў магутны замак з земляным валам, драўлянымі сценамі і вежамі-байніцамі з перакідным мостам — адзіным сродкам сувязі з горадам. Замкі падобнага тыпу, мяркуючы па ўцалелых замчышчах, былі ў Петрыкаве, Стрэшыне, Рагачове, Мазыры, Тураве, Рэчыцы, Збарове, Лучыне (цяпер Рагачоўскі р-н), Чачэрску. У 15—16 стагоддзях узніклі новыя гарады (Добруш, Ельск, Лельчыцы). Пры іх планіроўцы рэалізоўваліся прынцыпы, якія склаліся ў старажытнарускім горадабудаўніцтве. Цэнтрам з'яўляўся ўмацаваны феадальны замак, ад якога ў радыяльных напрамках развіваўся гарадскі пасад. Гандлёва-рамесныя пасады таксама набывалі сістэму ўмацаванняў, якая складала другі пасля замка круг абароны.

У канцы 18 ст. абарончa-замкавае будаўніцтва спыняецца, пашыраюцца палацава-сядзібныя комплексы. Гомельскі драўляны замак з усімі абарончымі збудаваннямі быў разбураны з мэтай стварэння замест яго палацава-паркавага ансамбля.

Асноўным мастацкім кірункам у архітэктуры Беларусі ў 17—18 стагоддзях стала барока. Гэты перыяд развіцця дойлідства на Гомельшчыне прадстаўлены шэрагам культавых пабудоў. Захаваўся кляштар езуітаў 1-й палавіны 18 ст. ў в. Юравічы (Калінкавіцкі р-н). Як і многія іншыя храмы, ён меў абарончае прызначэнне. Галоўныя элементы ансамбля кляштара — брама і касцёл — у адпаведнасці з патрабаваннямі стылю вылучаліся павышанай пластычнай распрацоўкай, багаццем краповак і ляпнога дэкору. Асноўныя прынцыпы барока з яго дынамічнымі архітэктурнымі кампазіцыямі, выразнай пластыкай выкарыстаны пры будаўніцтве кляштара цыстэрцыянцаў у Мазыры.

У 17—18 стагоддзях творча развіваліся старажытна-рускія традыцыі драўлянага дойлідства. Рэдкія помнікі драўлянага дойлідства эпохі барока — цэрквы ў в. Старая Беліца (Гомельскі р-н) і г. Петрыкаў. Для іх архітэктуры характэрны скульптурная кампаноўка аб'ёмаў, шматфігурны сілуэт і шматпланавасць агульнай кампазіцыі. Шэраг помнікаў культавага драўлянага дойлідства ілюструе асаблівасці мясцовай будаўнічай школы (цэрквы ў вёсках Кашэвічы Петрыкаўскага і Прыбалавічы Лельчыцкага р-наў).

Помнікі грамадзянскай архітэктуры перыяду барока ў вобласці не захаваліся. Можна меркаваць, што ў гэтым стылі быў пабудаваны замак у в. Тэльман (Брагінскі р-н), ад якога асталіся руіны. Парк, які абкружаў замак (захаваўся), мае характэрныя прыкметы барочнага паркабудаўніцтва з рэгулярнай радыяльнай схемай планіроўкі.

Пасля ўз'яднання з Расіяй у выніку першага і другога падзелаў Рэчы Паспалітай на Гомельшчыне хутка асвойвалася перадавое рускае будаўнічае мастацтва. Адным з прагрэсіўных пачынанняў у галіне архітэктуры гэтага перыяду, у адпаведнасці з прынцыпамі класіцызму, была ансамблевая рэгулярная забудова беларускіх гарадоў па распрацаваных для іх генеральных планах (Чачэрск, Мазыр, Рагачоў). Яркім прыкладам новай рацыянальнай горадабудаўнічай кампазіцыі з'яўляецца планіроўка і забудова Гомеля. Яго цэнтрам стаў манументальны палацавы ансамбль, ад якога ў радыяльных напрамках разышліся галоўныя вуліцы. Арганізацыя вузлавых гарадскіх ансамбляў у Гомелі і Чачэрску, вырашэнне маштабных ансамблевых задач даюць падставу меркаваць аб рэалізацыі ў горадабудаўніцтве канца 18 — 1-й палавіны 19 ст. асноў рэгулярнага тыпу планіроўкі. Адзінаму ансамблеваму вырашэнню гарадской забудовы садзейнічала ўвядзенне тыпавога праектавання будынкаў дзяржаўных устаноў (прысутныя месцы ў Рагачове). Сярод грамадскіх збудаванняў таго часу арыгінальнасцю архітэктуры вылучаецца ратуша ў Чачэрску, у якой праявіліся рысы класіцызму і псеўдаготыкі. У забудове гарадоў пашыраецца тып мураванага ці драўлянага жылога дома на падклеці. У яго архітэктуры ўвага аддаецца аздобе ліштваў праёмаў, карнізаў, ганкаў. Будынкі такога тыпу захаваліся на вул. Савецкай у г. Мазыр і ў г. п. Парычы. Пашырылася сядзібнае будаўніцтва. Яно вялося пад моцным уплывам рускай школы дойлідства, заснаванай на прынцыпах архітэктуры класіцызму. Аб гэтым сведчыць будаўніцтва палаца Румянцава-Паскевіча ў Гомелі і шэрагу сядзібна-паркавых комплексаў. У арганізацыі сядзіб пераважала сіметрычна-восевая сістэма планіроўкі. Бакавыя флігелі ўтваралі перад галоўным фасадам сядзібнага дома парадны партэр (сядзібы ў вёсках Хальч Веткаўскага, Пярэдзелка Лоеўскага р-наў і іншыя). У іх архітэктуры ўсталёўваліся класічныя ордэры: іанічны (в. Хальч), дарычны (в. Пярэдзелка), карынфскі (Гомель). Для палацава-сядзібнага будаўніцтва характэрна эканамічнае змешанае канструкцыйнае вырашэнне з выкарыстаннем цаглянай муроўкі і драўлянага зруба («паляўнічы домік» у Гомелі, сядзіба ў в. Хальч і інш.). Змешаная канструкцыйная схема выкарыстоўва-



*Палац Паскевічаў у Гомелі. З малюнка Н. Орды. 2-я палавіна 19 ст.*

лася і ў культавым будаўніцтве (Праабражэнская царква ў Чачэрску). Сцены тынкавалі, на іх фоне галоўным кампазіцыйным акцэнтам быў калонны порцік з трохвугольным франтонам, у дэкоры шырока выкарыстоўвалі руст, пілястры.

Палацава-сядзібныя ансамблі размяшчаліся ў маляўнічых месцах, каля вадаёмаў. На берагах р. Сож захаваліся палацы і сядзібы ў Гомелі, у в. Хальч Веткаўскага р-на, р. Прыпяць — у г. Нароўля, в. Барбароў (Мазырскі р-н), р. Дняпро — у в. Кісцяні (Рагачоўскі р-н), в. Пярэдзелка (Лоеўскі р-н). Сядзібы і палацы як правіла абкружаліся паркамі пейзажнага тыпу планіроўкі. Гомельскі парк па сваіх прыродна-ландшафтных асаблівасцях, гарманічным сінтэзе архітэктуры, зялёных насаджэнняў, вадаёмаў, малых архітэктурных форм з'яўляецца адным з лепшых помнікаў садова-паркавага мастацтва Беларусі канца 18—19 ст. Значным элементам сядзібных ансамбляў былі ўязныя брамы, таксама аформленыя ў стылі класіцызму (г. Нароўля, в. Барбароў).

Сярод паркавых павільёнаў вылучаецца альтанка-маяк у сядзібна-паркавым ансамблі ў Нароўлі. Яе развітая ярусная кампазіцыя заснавана на выкарыстанні сродкаў класіцыстычнай ордэрнай сістэмы.



*Тураў. З малюнка Н. Орды. 2-я палавіна 19 ст.*

Важная роля ў горадабудаўніцтве належала культавым збудаванням. Петрапаўлаўскі сабор у Гомелі, Праабражэнская царква ў Чачэрску, царква ў в. Гадзічава (Гомельскі р-н) былі кампазіцыйнымі цэнтрамі на скрыжаваннях вуліц. Класіцыстычны кірунак у архітэктуры 19 ст. можна прасачыць на прыкладзе Петрапаўлаўскага сабора (Гомель). У мастацкім метадзе аўтара праекта Дж. Кларка адчуваецца сувязь з перадавой рускай будаўнічай школай. Архітэктура гэтага сабора, як і Стрэшынскай і Гадзічаўскай цэркваў, заснавана на спалучэнні дарычнага порціка і манументальнага сферычнага купала. У культавым дойлідстве атрымалі пашырэнне храмы з цэнтрычнай кампазіцыяй (царква ў в. Гадзічава). Да тыпу купальных ратондаў адносяцца цэрквы ў Стрэшыне, Праабражэнская, Багародзіцы і Ушэсця ў Чачэрску.

Ва ўсходняй Беларусі ў драўляным культавым дойлідстве пераважаў тып трохзрубнага храма з купалам і светлавым барабанам (г. Гомель, г. п. Тураў, г. Жыткавічы, в. Рассохі). Характэрны прыклад — Ільінская царква ў Гомелі (1793 г.).

У манументальна-дэкаратыўным мастацтве класіцызм атрымаў найбольшае ўвасабленне ў дэкоры палацаў, сядзібных дамоў, гарадскіх асабнякоў. Скульптурныя рэльефы ў выглядзе асобных медальёнаў, уставак і міжпаверхавых фрызаў з выявамі класічных эмблем і алегорый надавалі будынкам індывідуальнае аблічча (палац, «паляўнічы домік» і інш. ў Гомелі).

Паркі аздабляліся класіцыстычнай скульптурай. У палацава-паркавым ансамблі Румянцава-Паскевіча былі ўстаноўлены конная статуя С. Панятоўскага і алегарычная скульптура Багіні свету вядомага рускага мастака В. Дэмут-Малінsocкага (1834 г., зберагаецца ў Гомельскім абласным краязнаўчым музеі).

Адметнай рысай горадабудаўніцтва эпохі капіталізму было ўзнікненне новых і развіццё існуючых гарадоў у сувязі з пракладкай чыгунак і будаўніцтвам заводаў і фабрык. Уключэнне чыгуначнага шляху ў гарадскую планіровачную структуру абумовіла сетку і напрамкі асноўных вуліц (г. Жлобін, г. Калінкавічы). Будынкі вакзалаў мелі рацыянальную планіроўку, узводзіліся з бетонных і металічных канструкцый і штучна «апраналіся» ў эклектычныя архітэктурныя формы (вакзал у Гомелі).

Упарадкаванне шляхоў зносін адбілася на арганізацыі конна-паштовых трактаў, уздоўж якіх былі пабудаваны станцыйныя дамы. Аб характары іх функцыянальнай і планіровачнай арганізацыі дае ўяўленне помнік архітэктуры 2-й палавіны 19 ст.— конна-паштовая станцыя ў в. Сеўрукі Гомельскага р-на. Гэта — ансамбль мураваных будынкаў (станцыйны дом, 2 стайні), арганізаваных па тыпавой схеме вакол унутранага двара. Іх ар-

 хітэктура, як правіла, не надзелена пэўнай стылявой характарыстыкай.

Навучальныя ўстановы, прызначаныя для дзяцей пануючых класаў, размяшчаліся бліжэй да гарадскога цэнтра і былі іх кампазіцыйнымі акцэнтамі ў забудове (мужчынская гімназія ў Гомелі, рэальнае вучылішча ў Рагачове і інш.). Навучальныя ўстановы для дзяцей працоўных знаходзіліся сярод радавой забудовы і былі больш сціплымі ў архітэктурных адносінах.

Да пачатку 20 ст. сярэднія навучальныя ўстановы будаваліся па блочнай П-падобнай планіровачнай схеме, пры якой аб'ём будынка падзяляўся на функцыянальныя блокі: вучэбны, грамадскага прызначэння (актавая зала, бібліятэка і інш.), жылы і інш. Па такой схеме ў 1898 г. пабудавана мужчынская гімназія ў Гомелі (арх. С. Д. Шабунеўскі). Яна вылучалася буйнымі маштабамі, манументальнасцю архітэктурных форм. Бальніцы (г. Добруш, г. п. Парычы) не вызначаліся высокімі архітэктурнымі вартасцямі.

Сярод будынкаў грамадскага прызначэння архітэктурна-мастацкай значнасцю вылучаліся крэдытна-фінансавыя і банкаўскія ўстановы (будынкі Руска-Азіяцкага і Арлоўскага банкаў у Гомелі).

Архітэктура эклектыкі 2-й палавіны 19 — пачатку 20 ст. праявілася ў творчасці дойлідаў гэтага напрамку: У. Марконі, В. Мадзялеўскага, А. Галонскага, С. Шабунеўскага, Л. Шрэтэра.

У сярэдзіне 19 ст. прыкметна занепадае класічная архітэктурная школа. У кампазіцыі будынкаў гэтага перыяду дамінуюць рызаліты, балконы, эркеры, утрыраваныя дэкаратыўныя элементы класічнай архітэктуры (в. Ліпава Калінкавіцкага р-на). Паводле праекта арх. В. Мадзялеўскага да гомельскага палаца ў 1837—48 гг. прыбудавана высокая трох'ярусная вежа з элементамі несапраўднай готыкі. Яна парушыла першапачатковае сіметрычна-восевае кампазіцыйнае адзінства палацавага ансамбля. У такім жа эклектычным кірунку рэканструявана ў 1852 г. цэнтральная частка палаца (арх. А. Ідзкоўскі і А. Галонскі). Шэраг збудаванняў выкананы ў стылі позняга класіцызму (палац у Нароўлі). Дойліды адмаўляліся ад канонаў класікі, а шляхам адвольнай інтэрпрэтацыі форм класіцызму спрабавалі дамагчыся новага арыгінальнага гучання архітэктуры. Стылізатарскі напрамак праявіўся ў творчасці Я. Чарвінскага — аўтара капліцы-пахавальні ў палацава-паркавым ансамблі ў Гомелі. Асаблівую выразнасць гэты напрамак атрымаў у сядзібным, асабняковым і жыллёвым будаўніцтве (дом урача на вул. Першамайскай, 13, дом на вул. Баўмана, 16, даходныя дамы ў Гомелі). Эклектычнай архітэктурай з элементамі рэнесансу, класіцызму і іншых стыляў вылучаецца сядзібны дом у г. Хойнікі і в. Дзям'янкі (Добрушскі р-н). Выкарыстанне спадчыны гатычнай архітэктуры найбольш поўна рэалізавана пры стварэнні сядзібнага ансамбля ў в. Чырвоны Бераг (Жлобінскі р-н). Эклектычнае спалучэнне папярэдніх стыляў наглядаецца ў архітэктурным вырашэнні «Доміка паляўнічага» (в. Каранёўка Гомельскага р-на), гарадскіх асабнякоў у Чачэрску (вуліцы Ульянава і Савецкая), сядзібных будынкаў у в. Барысаўшчына (Хойніцкі р-н).

У паркабудаўніцтве атрымаў пашырэнне сядзібны парк змешанага пейзажна-рэгулярнага тыпу планіроўкі (в. Дзям'янкі, г. Хойнікі, в. Кісцяні, в. Чырвоны Бераг). У эпоху рамантызму ў афармленні паркаў выкарыстоўваліся малыя архітэктурныя формы: архаічныя заімшэлыя масткі, гроты (г. Гомель). Пазней пашырыўся парк так званага эканамічнага тыпу: сетка прамавугольных участкаў пладовага саду, абмежаваных алеямі і пейзажнымі курцінамі (вёскі Харомцы Акцябрскага, Барысаўшчына Хойніцкага, Грабаўка Гомельскага р-наў).

У архітэктуры 2-й палавіны 19 ст. назіраліся рэмінісцэнцыі сярэдневякоўя, пераважна ў формах псеўдаготыкі ў каталіцкіх храмах. Праваслаўнае культавае дойлідства звяртаецца да спадчыны старажытнарускай архітэктуры. Рэстаўрыраваліся традыцыйныя планіровачная і аб'ёмна-прасторавая схемы храмаў, а таксама элементы іх дэкору — какошнікі, закамары, аркатура і інш. (цэрквы ў вёсках Пірэвічы Жлобінскага, Карма Добрушскага, Чарацянка Гомельскага р-наў, у г. Петрыкаў). Цікавым будынкам з выкарыстаннем рыс старажытнарускага дойлідства з'яўляецца капліца-пахавальня ў гомельскім палацава-паркавым ансамблі, у архітэктуры якой знайшлі адлюстраванне і характэрныя прыёмы маскоўскага дойлідства 17 ст. Трапляюцца варыянты падобных цэнтрычных капліц (в. Скрыгалаў Мазырскага р-на).

Для драўлянага культавага дойлідства характэрны 2 тыпы храмаў: трохзрубны, падоўжна-восевай кампазіцыі, з адкрытым у інтэр'еры купалам-барабанам і надбудаванай на галоўным фасадзе яруснай званіцай (в. Вылева Добрушскага р-на) і цэнтрычны, крыжападобны ў плане, з прыбудаванай яруснай званіцай (вёскі Стары



*Гомель. Рынaчная вуліца ў пачатку 20 ст.*

Крупец і Чырвоны Партызан Добрушскага, Глыбоцкае Гомельскага р-наў).

Паралельна з рэстаўратарскімі кірункамі ўзнікае архітэктурна-мастацкі стыль «мадэрн», для якога характэрны плаўныя лініі, маляўнічыя сродкі дэкору, сінтэз манументальнага выяўленчага мастацтва з архітэктурнымі формамі (будынак тэхнічнага вучылішча на вул. Кісялёва, 2, жылы дом на рагу вуліц Білецкага і Баўмана ў Гомелі). Новы стылявы кірунак праявіўся ў творчасці архітэктараў С. Шабунеўскага, У. Марконі.

У пачатку 20 ст. ў архітэктурнай творчасці адбываўся пераход ад пошукаў дэкаратыўных эфектаў да рацыяналізму і функцыяналізму. Складваўся новы кірунак — канструктывізм. Архітэктурная выразнасць дасягалася маляўнічай асіметрыяй, кампаноўкай кубападобных і скругленых аб'ёмаў, удалым спалучэннем і прапарцыянальнасцю архітэктурных геаметрычных плоскасцей і праёмаў (дом № 154 на вул. Савецкай у Мазыры).

У 2-й палавіне 19 ст. на Гомельшчыне пабудаваны шэраг прамысловых прадпрыемстваў. Побач з сядзібамі ствараюцца вытворчыя комплексы. У іх архітэктуры выкарыстоўваюцца элементы класіцызму (калоны, франтоны, порцікі), готыкі (стральчатыя аркі), сярэдневякоўя. У Добрушы будынкі папяровай фабрыкі (заснавана ў 1870 г.) былі дэкарыраваны чырвонай цэглай (муроўка ў формах сярэдневяковай архітэктуры). На рубяжы 19—20 стагоддзяў пашырылася будаўніцтва вадзяных і ветраных млыноў. Сярод іх пераважаў колавы тып вадзянога млына. Тыпавыя ветраныя млыны з рухомым шатром захаваліся ў вёсках Гарадок Буда-Кашалёўскага, Кучын Кармянскага, Ляды Жлобінскага р-наў. Яны мелі пірамідальны стацыянарны аб'ём і рухомы на вертыкальнай восі шацёр з лопасцямі.

Арыентацыя архітэктуры на «гістарычныя» стылі своеасабліва праламлялася ў манументальна-дэкаратыўным мастацтве. Размаляваныя і рэльефныя кафлі (царква ў в. Пірэвічы Жлобінскага р-на, капліца-пахавальня ў Гомелі і інш.) надавалі дэкаратыўную ўрачыстасць вырашаным у псеўдарускім стылі будынкам. Пластычнай выразнасцю вылучалася скульптурна-дэкаратыўнае афармленне неакласіцыстычных пабудоў. Ідылічныя выявы сялян з дарамі прыроды, ляпныя гірлянды, арнаментальныя фрызы ўпрыгожвалі гарадскія пабудовы (жылыя дамы па вул. Савецкай у Гомелі).

У традыцыйнай разьбе па дрэве атрымалі пашырэнне элементы афіцыйных стыляў (разны дэкор пабудоў па вул. Савецкай у г. Мазыр, некаторых дамоў у г. Ветка і інш.). Маюць цікавасць як характэрныя ўзоры манументальна-дэкаратыўнага жывапісу 19 ст. размалёўкі ў цэрквах вёсак Баравое Лельчыцкага, Кругоўка Добрушскага р-наў і інш.





*Капліца-пахавальня Паскевічаў у Гомелі.*

* * *

Аб перамозе сацыялістычнай рэвалюцыі ў Петраградзе і пераходзе ўлады да Саветаў стала вядома ў Гомелі 26.10(8.11). 1917 г. У горадзе створаны чырвонагвардзейскія атрады, устаноўлены кантроль над поштай, вакзалам. Палескі камітэт РСДРП(б) арганізаваў шматтысячныя мітынгі і сходы, на якіх заклікаў падтрымаць працоўных Петраграда і ўстанавіць уладу Саветаў на Гомельшчыне. 30.10(12.11). 1917 г. ў Гомелі на аб'яднаным пасяджэнні гарадскога Савета рабочых і салдацкіх дэпутатаў і выканкома павятовага Савета сялянскіх дэпутатаў былі ўхвалены дэкрэты II Усерасійскага з'езда Саветаў, у горадзе і павеце абвешчана Савецкая ўлада. У выніку перавыбараў Гомельскага Савета бальшавікі атрымалі 109 з 195 дэпутацкіх месцаў.

Адначасова пад кіраўніцтвам бальшавікоў разгарнулася барацьба за ўладу Саветаў на ўсёй тэрыторыі Гомельшчыны. Савецкая ўлада была абвешчана ў кастрычніку ў Рэчыцы [30.10(12.11). 1917 г.] і Калінкавічах, у лістападзе — у Жлобіне [6(19) лістапада], Мазыры [11(23) лістапада], Ветцы [19.11(1.12)], Добрушы, Карме, Лоеве, Нароўлі, Хойніках, Чачэрску. У Рагачове Савецкая ўлада ўстаноўлена да 22.11(4.12). 1917 г., а ў павеце — у пачатку 1918 г. ў напружанай барацьбе

з меншавікамі і эсэрамі. Для барацьбы з контррэвалюцыяй пры многіх Саветах былі створаны ВРК, у т. л. ў Мазыры, Рагачове, Рэчыцы і інш. У канцы 1917 г.— пачатку 1918 г. фарміраваліся павятовыя, у студзені — лютым 1918 г.— валасныя органы Савецкай улады. Пачалося ажыццяўленне найважнейшых рэвалюцыйна-эканамічных мерапрыемстваў. Праводзілася нацыяналізацыя буйных прамысловых прадпрыемстваў. У пачатку 1918 г. быў устаноўлены рабочы кантроль над вытворчасцю і размеркаваннем прадуктаў на фабрыках і заводах Гомеля, Рэчыцы, Мазыра. У выніку канфіскацыі памешчыцкіх і царкоўных зямель сяляне Гомельшчыны атрымалі больш за 1,5 мільёна дзесяцін зямлі. Прымаліся энергічныя меры па ўстанаўленню рэвалюцыйнага парадку.

Супраць Савецкай улады выступілі буржуазія, памешчыкі, рэакцыйнае афіцэрства. Іх падтрымлівалі правыя эсэры, меншавікі, беларускія нацыяналісты, бундаўцы. Умацаванне Савецкай улады надзвычай ускладнялася знаходжанем на тэрыторыі Беларусі 1-га польскага корпуса, сфарміраванага Часовым урадам у ліпені 1917 г. пад камандаваннем былога царскага генерала І. Р. Доўбар-Мусніцкага. У студзені 1918 г. ў складзе корпуса былі 3 пяхотныя дывізіі, конніца і артылерыя (25 тыс. чалавек).

Апіраючыся на польскія рэакцыйныя колы і імперыялістаў іншых краін, а таксама на памешчыкаў і каталіцкае духавенства на Беларусі, камандаванне корпуса 12(25).1.1918 г. ўзняло мяцеж. Доўбар-Мусніцкі аб'явіў вайну Савецкай Расіі. Мяцежнікі пачалі наступленне на Магілёў і Мінск, захапілі Рагачоў, Жлобін, Бабруйск.

Гомельскі і Рэчыцкі паветы былі абвешчаны на ваенным становішчы, тут ствараліся чырвонагвардзейскія атрады, баявыя дружыны. Рудабельскі рэўком быў рэарганізаваны ў штаб па фарміраванню Чырвонай гвардыі ў воласці. Да 31.1(13.2). 1918 г. атрады рэвалюцыйных салдат і матросаў, латышскія стралкі і чырвонагвардзейцы (10 тыс. чалавек) пад камандаваннем І. І. Вацэціса авалодалі ўмацаванымі пазіцыямі 1-й польскай дывізіі. Баі з мяцежнікамі адбыліся пад Рагачовам, Жлобінам, Рэчыцай і Доўскам. У ноч на 31 студзеня (13 лютага) быў вызвалены Рагачоў, пазней — Жлобін. Ад поўнага разгрому корпус Доўбар-Мусніцкага выратавала наступленне нямецкіх войск.

Пасля зрыву мірных перагавораў у Брэсце паміж савецкай дэлегацыяй і прадстаўнікамі германскага блоку больш за 50 аўстра-германскіх дывізій перайшлі 18.2.1918 г. ў наступленне на савецка-германскім фронце — ад Рыжскага заліва да вусця Дуная. Нямецкія войскі рухаліся на Гомель 2 калонамі — з боку Жлобіна і Мазыра. Першыя буйныя баі адбыліся ў лютым пад Калінкавічамі, Горвалем, Жлобінам, Рэчыцай, Буда-Кашалёвам, у пачатку сакавіка — пад Добрушам, Веткай, у Дубовым Лагу, Церахоўцы і іншых месцах. 1.3.1918 г. германскія войскі захапілі Гомель. Савецкая рэспубліка 3 сакавіка падпісала грабежніцкі Брэсцкі мір. На Гомельшчыне неакупіраванымі засталіся часткі Гомельскага і Рагачоўскага паветаў. Рэчыцкі, Мазырскі і частка Гомельскага паветаў адышлі да так званай Украінскай народнай рэспублікі.

Для арганізацыі барацьбы супраць акупантаў 10.3.1918 г. створаны Палескі падпольны камітэт РКП(б), які ўзначаліў падпольныя партыйныя арганізацыі Гомельскага, Навазыбкаўскага, Мазырскага, Рагачоўскага і Рэчыцкага паветаў. Іх асноўнай задачай было ўзняць на барацьбу супраць нямецкіх акупантаў шырокія масы працоўных. Пад кіраўніцтвам падпольных партыйных арганізацый рабочыя праводзілі стачкі і забастоўкі. Каля 3 месяцаў працягвалася забастоўка друкароў Гомеля, баставалі рабочыя запалкавых фабрык «Дняпро» ў Рэчыцы, «Маланка» ў Мазыры, прадпрыемстваў Рагачова і іншых месцаў. 15.7.1918 г. пачалася забастоўка гомельскіх чыгуначнікаў. Іх падтрымалі рабочыя Жлобіна, Рагачова, Магілёва і інш. У фонд бастуючых паступалі сродкі ад працоўных Петраграда, Масквы і Пскова. Забастоўка працягвалася больш за 3 тыдні і была задушана акупацыйнымі войскамі. У многіх месцах супраць акупантаў выступілі сяляне. Ствараліся партызанскія атрады. У ліпені 1918 г. толькі ў Гомельскім павеце дзейнічала больш за 15 партызанскіх атрадаў. Да восені 1918 г. баявыя дзеянні партызан разгарнуліся на ўсёй акупіраванай тэрыторыі вобласці. Асабліва актыўна дзейнічалі партызаны Рудабельшчыны. Тут быў створаны падраённы камітэт РКП(б) (старшыня А. Р. Салавей), адноўлена Савецкая ўлада. Найбольш буйныя партызанскія атрады дзейнічалі: у Гомельскім павеце — Пераростаўскі (700 чалавек), Дзятлавіцкі (200 чалавек), Насовіцкі, Руднянскі, 1-ы Гомельскі (па 150 чалавек), Закружскі (120 чалавек); у Рагачоўскім павеце — Фёдараўскі (500 чалавек), Рагінскі (120 чалавек), Чачэрскі(120 чалавек); асобныя атрады былі ў Рэчыцкім і Мазырскім паветах. Арганізатары і кіраўнікі партызанскага руху на Гомельшчыне: А. Р. Салавей, М. А. Ляўкоў, М. Ф. Ус, Л. Я. Адзінцоў, М. І. Пракопцаў, С. Р. Жынко, М. З. Дубавец, А. А. Касой, С. Прасаў, А. І. Якаўлеў.

Пасля Лістападаўскай рэвалюцыі 1918 г. ў Германіі Савецкі ўрад 13.11.1918 г. ануляваў несправядлівы Брэсцкі дагавор. Чырвоная Армія з дапамогай партызан пачала вызваленне Беларусі. Заходняя армія (камандуючы А. Я. Снесараў, члены ваеннага савета І. Я. Алібегаў, А. М. Пыжоў) вызваліла 22 лістапада Рагачоў, 24 лістапада Жлобін, 30 лістапада Буда-Кашалёва і Уваравічы, 5 снежня Калінкавічы, у 2-й палавіне снежня 1918 г. і пачатку студзеня 1919 г. вызвалены Мазыр і іншыя гарады Гомельшчыны. Моцнае супраціўленне аказаў вораг у Гомелі і Рэчыцы. Паводле пагаднення паміж савецкімі прадстаўнікамі і ня-

мецкім камандаваннем 20.12.1918 г. ў Гомель павінны былі ўступіць часці Чырвонай Арміі. Але акупацыйныя ўлады правакацыйна арыштавалі членаў рэўкома і абяззброілі атрад чырвонаармейцаў, які ўвайшоў у горад. У адказ на гэта 28 снежня пачалася палітычная забастоўка рабочых горада, якая стала ўсеагульнай. Набліжэнне Чырвонай Арміі і выступленні рабочых прымусілі германскія войскі 14.1.1919 г. пакінуць Гомель. 12 студзеня вызвалена Рэчыца.

На вызваленай тэрыторыі ўлада перайшла да рэўкомаў, якія ствараліся ва ўсіх павятовых і многіх валасных цэнтрах. Працоўныя масы актыўна ўдзельнічалі ў выбарах у Саветы ў снежні 1918 г.— студзені 1919 г. Аднаўленне Савецкай улады і абвяшчэнне Беларускай ССР 1.1.1919 г. стварылі ўмовы для далейшых сацыялістычных пераўтварэнняў, разгортвання гаспадарчага і культурнага будаўніцтва. Выконваць гэтыя задачы прыходзілася ў складаных абставінах актывізацыі знешняй і ўнутранай контррэвалюцыі. У сакавіку 1919 г. левыя эсэры справакавалі антысавецкі мяцеж (удзельнічалі 67-ы і 68-ы палкі 8-й стралковай дывізіі), на чале якога стаў былы царскі афіцэр эсэр Стракапытаў. Мяцежнікі захапілі 24 сакавіка Гомель, 26 сакавіка Рэчыцу, расстралялі многіх партыйных і савецкіх работнікаў. Чырвоная Армія і камуністычныя атрады падавілі антысавецкае выступленне, вызвалілі 29 сакавіка ад мяцежнікаў Гомель, 1 красавіка — Рэчыцу.

У красавіку 1919 г. створана Гомельская губерня (у складзе РСФСР). У яе ўвайшлі амаль уся Магілёўская губерня, паўночная частка Чарнігаўскай і Рэчыцкі павет Мінскай губерні. 15—17.5.1919 г. адбылася 1-я губернская канферэнцыя РКП(б), якая вызначыла задачы партыйнай арганізацыі па дапамозе фронту і па гаспадарчых пытаннях. Важнае значэнне для мабілізацыі працоўных Гомельшчыны на адпор інтэрвентам мела знаходжанне на Беларусі 11—21.6.1919 г. агітацыйна-інструктарскага поезда «Кастрычніцкая рэвалюцыя» на чале са старшынёй ВЦВК М. І. Калініным, які наведаў Жлобін, Гомель, выступаў перад працоўнымі і чырвонаармейцамі на сходах і мітынгах. Гомельскі губком партыі паслаў у кастрычніку 1919 г. на Заходні фронт 270 чалавек — 20 % складу арганізацыі. Наладжваліся камуністычныя суботнікі. У чэрвені 1919 г. па ініцыятыве камуністаў адбыліся першыя суботнікі ў Гомелі, Жлобіне, Рагачове.

У жніўні 1919 г. войскі Дзянікіна, якія наступалі з поўдня, захапілі Чарнігаў і стварылі пагрозу Гомельскай губерні. З захаду да Бярэзіны прарваліся польскія інтэрвенты. Гомель набываў важнае стратэгічнае значэнне ў абароне Савецкай рэспублікі. 9 верасня быў створаны Гомельскі ўмацаваны раён, праведзена мабілізацыя каля 13 тыс. рабочых і сялян, вакол горада зроблена 50-верставая ўмацаваная палоса. У сярэдзіне верасня 1919 г. войскі Чырвонай Арміі перайшлі ў наступленне, асноўныя сілы Дзянікіна былі разгромлены.

На захадзе фронт стаяў на Бярэзіне да вясны 1920 г. 5 сакавіка польскія войскі прарвалі лінію абароны і 6 сакавіка захапілі Мазыр, Калінкавічы, Васілевічы, 8 сакавіка — Рэчыцу. Баі з пераменным поспехам ішлі да 20 мая. Наступленне польскіх войск спынена пад Жлобінам і Гомелем. Вялікі ўклад у разгром інтэрвентаў зрабілі партызаны. Летам і восенню 1919 г. партызанскі рух ахапіў Мазырскі і Рагачоўскі паветы. У ваколіцах Петрыкава барацьбу з акупантамі вёў атрад В. І. Талаша (300 чалавек), у раёне Мазыра — атрад «Пралетарый» (камандзір П. А. Варабей), у Рудабельскай воласці — атрад імя 3-га Інтэрнацыянала, адным з арганізатараў якога быў камуніст В. А. Аляшкевіч. Летам 1920 г. партызаны дзейнічалі на ўсёй акупіраванай тэрыторыі.

2.7.1920 г. асноўныя сілы Заходняга фронту (камандуючы М. М. Тухачэўскі, член РВС І. С. Уншліхт) перайшлі ў наступленне. Мазырская група войск (камандуючы Ц. С. Хвесін), якая пачала наступленне раней, 18 чэрвеня фарсіравала Днепро, 19 чэрвеня вызваліла Рэчыцу, 29 чэрвеня — Мазыр і Калінкавічы. Тэрыторыя Гомельскай вобл. была вызвалена ад захопнікаў.

Нягледзячы на прэлімінарны мірны дагавор паміж Савецкай дзяржавай і Польшчай, на яе тэрыторыі і з дазволу польскага ўрада было створана белагвардзейскае вайсковае фарміраванне, так званая «руская народна-добраахвотніцкая армія» (15 тыс. чалавек) на чале з С. Н. Булак-Балаховічам, якая сканцэнтравалася каля Турава і 6.11.1920 г. перайшла ў наступленне ўздоўж Прыпяці, 8 лістапада захапіла Петрыкаў, 10 лістапада — Мазыр і Калінкавічы. 12 лістапада Булак-Балаховіч абвясціў аб «незалежнасці Беларусі». Яго банды рабавалі насельніцтва, забівалі партыйных і савецкіх работнікаў. Супраць Булак-Балаховіча была накіравана 16-я армія Заходняга фронту, якая з 16 да 26 лістапада разбіла белагвардзейскае войска, рэшткі якога адышлі за мяжу.

За гады Грамадзянскай вайны і ваеннай інтэрвенцыі большасць прадпрыемстваў Гомельшчыны разбурана, а якія захаваліся, амаль не працавалі з-за недахопу паліва, сыравіны і абсталявання. Прадукцыя прамысловасці Гомельшчыны ў 1920 г. складала менш за сёмую частку даваеннай. У 2 разы скарацілася пасяўная плошча, на 100 тыс. зменшылася пагалоўе коней і амаль на 200 тыс. буйной рагатай жывёлы.

Камуністычная партыя ўзначаліла барацьбу працоўных з голадам і разрухай. На базе былых памешчыцкіх маёнткаў арганізоўваліся саўгасы (да канца 1920 г. ў губерні іх было 160). Ствараліся першыя камуны і сельскагаспадарчыя арцелі. Да 1926 г. рознымі формамі кааперацыі ў губерні ахоплена больш за 18 % гаспадарак. У 1925—

26 гг. валавая прадукцыя сельскай гаспадаркі перасягнула даваенны ўзровень.

Хутка аднаўлялася прамысловасць, рэканструяваліся старыя прадпрыемствы. Чыгуналіцейны завод «Рухавік рэвалюцыі» ў Гомелі пачаў выпускаць сельскагаспадарчыя машыны і інвентар. У аднаўленчы перыяд пабудаваны новыя фабрыкі і заводы: абутковая фабрыка «Праца», друкарня «Палесдрук», хлебакамбінат у Гомелі, лесапільны завод у Рэчыцы. У 1921 г. была створана надзвычайная камісія па электрыфікацыі губерні. У 1923 г. пачалося будаўніцтва Гомельскай цэнтральнай электрастанцыі, якая ў 1925—26 гг. дала энергію прамысловым прадпрыемствам. У 1925 г. дзейнічалі Рэчыцкая, Веткаўская, Мазырская і Петрыкаўская электрастанцыі. Былі пабудаваны чыгуначныя масты цераз Бярэзіну каля станцыі Шацілкі (з 1961 г. Светлагорск) і цераз Прыпяць каля Мазыра.

Развіццю эканомікі і культуры Гомельшчыны садзейнічала ўзбуйненне БССР у 1924 г. і ў 1926 г. У 1924 г. ўведзены адміністрацыйны падзел на акругі і раёны. Буда-Кашалёўскі, Жлобінскі, Парыцкі, Рагачоўскі, Стрэшынскі р-ны ўвайшлі ў Бабруйскую акругу, Журавіцкі, Кармянскі р-ны — у Магілёўскую, Азарыцкі, Жыткавіцкі, Калінкавіцкі, Капаткевіцкі, Каралінскі (з 1926 г. Слабадскі), Лельчыцкі, Мазырскі, Нараўлянскі, Петрыкаўскі, Тураўскі р-ны — у Мазырскую акругу. Тэрыторыя Гомельскага і Рэчыцкага паветаў увайшла ў 1926 г. ў склад БССР. Гомельская губерня скасавана. Гомельскі і Рэчыцкі паветы ператвораны ў акругі, а іх валасці — у раёны (Рэчыцкая акруга скасавана ў 1927 г.). У 1930 г. акругі былі скасаваны.

За гады індустрыялізацыі і першых пяцігодак непазнавальна змянілася аблічча Гомельшчыны. У 1926—28 гг. былі пабудаваны новыя прамысловыя прадпрыемствы: запалкавая фабрыка, лёнапачасальны камбінат і лесапільны завод у Рэчыцы, швейная, абутковая і кандытарская фабрыкі ў Гомелі. Пачалося ўзвядзенне Гомельскага дрэваапрацоўчага камбіната, электрастанцыі ў Калінкавічах. Рэканструяваны Гомельскія электрастанцыя, машынабудаўнічыя заводы «Пралетарый» і «Рухавік рэвалюцыі», Добрушская папяровая фабрыка «Герой Працы». У гады 1-й пяцігодкі ўступіў у строй (1930 г.) завод сельскагаспадарчага машынабудавання «Гомсельмаш», здадзены ў эксплуатацыю прадпрыемствы хімічнай прамысловасці — Рэчыцкі завод па вытворчасці дубільнага экстракту, Навабеліцкі завод «Чырвоны хімік». Хуткімі тэмпамі будаваліся шклозавод, заводы будматэрыялаў, маргарынавы, крухмалапатачны, безалкагольных напіткаў, мэблевая фабрыка ў Гомелі, заводы будматэрыялаў у Лоеве і Чачэрску, электрастанцыі ў Ветцы, Заспе Рэчыцкага, Уваравічах Буда-Кашалёўскага, Камарыне Брагінскага р-наў, крухмальныя заводы ў Буда-Кашалёве, Заспе і інш.

Поспехі сацыялістычнай індустрыялізацыі стварылі неабходныя перадумовы для ажыццяўлення генеральнай задачы партыі ў вёсцы — пераводу дробнай аднаасобнай гаспадаркі на рэйкі буйной калектыўнай сацыялістычнай гаспадаркі. Да канца 1-й пяцігодкі больш за 47 % сялянскіх гаспадарак Гомельшчыны аб'ядналіся ў калгасы.

Паспяхова вырашаліся задачы культурнай рэвалюцыі. Вядомы дзеяч партыі і педагог П. М. Лепяшынскі ў 1918 г. ў в. Ліцвінавічы Кармянскага р-на стварыў новы тып савецкай працоўнай школы — школу-камуну. У 1920 г. ў Гомелі і Рагачове былі арганізаваны педагагічныя курсы. У многіх гарадах, мястэчках, вёсках адкрыліся хаты-чытальні, бібліятэкі, клубы. Для падрыхтоўкі агітатараў і прапагандыстаў у 1919 г. ў Гомелі пачаў працаваць Пралетарскі універсітэт. У 1921 г. створаны педагагічныя тэхнікумы ў Петрыкаве і Мазыры, сельскагаспадарчы ў Чырвоным Беразе Жлобінскага р-на. Прафесійна-тэхнічныя курсы і школы рыхтавалі кваліфікаваныя кадры рабочых.

У 1938 г. паводле новага адміністрацыйна-тэрытарыяльнага падзелу на тэрыторыі сучаснай вобласці былі ўтвораны Гомельская і Палеская вобл. У склад Гомельскай вобл. ўвайшлі Буда-Кашалёўскі, Веткаўскі, Гомельскі, Добрушскі, Жлобінскі, Журавіцкі, Кармянскі, Лоеўскі, Рагачоўскі, Рэчыцкі, Свяцілавіцкі, Уваравіцкі, Чачэрскі і Цягахоўскі, пазней Стрэшынскі р-ны. У склад Палескай вобл. (цэнтр г. Мазыр) уваходзілі Акцябрскі, Брагінскі, Васілевіцкі, Глускі, Дамановіцкі, Ельскі, Жыткавіцкі, Калінкавіцкі, Камарынскі, Капаткевіцкі, Лельчыцкі, Мазырскі, Нараўлянскі, Парыцкі, Петрыкаўскі, Тураўскі, Хойніцкі р-ны.

Да Вялікай Айчыннай вайны на Гомельшчыне дзейнічала 10 200 прадпрыемстваў, якія ў 1940 г. выпусцілі $^1/_4$ валавой прадукцыі прамысловасці рэспублікі. Калектывізавана больш за 90 % сялянскіх гаспадарак Гомельшчыны, дзейнічала 1858 агульнаадукацыйных школ (акрамя школ рабочай і сельскай моладзі і школ для дарослых), навучалася больш за 300 тыс. дзяцей (больш, чым да рэвалюцыі на ўсёй тэрыторыі Беларусі), працавала больш за 11 тыс. настаўнікаў.

Вялікая ўвага аддавалася падрыхтоўцы кваліфікаваных кадраў. У 1930 г. ў Гомелі пачалі працаваць механічны, лесатэхнічны і аграпедагагічны (у 1933 г. рэарганізаваны ў педагагічны) інстытуты, Беларускі навукова-даследчы інстытут лясной гаспадаркі, у 1936 г. — настаўніцкі інстытут. У ВНУ Гомельшчыны навучалася (1940 г.) 3,6 тыс. студэнтаў, у 22 сярэдніх спецыяльных навучальных установах — 7,1 тыс. чалавек.

Дзейнічалі 852 масавыя бібліятэкі, 270 клубаў, 174 кінаўстаноўкі, 4 музеі. У 1932 г. Беларускі дзяржаўны вандроўны тэатр (з 1926 г.) быў рэарганізаваны ў Беларускі трэці дзяржаўны тэатр (з

базай у Гомелі). Працавалі тэатр рабочай моладзі ў Гомелі (1930 г., у 1935 г. рэарганізаваны ў Першы беларускі калгасна-саўгасны тэатр), калгасна-саўгасныя тэатры ў Мазыры (у 1935—38 гг.) і Рэчыцы (1940—41 гг.).

Развівалася самадзейная народная творчасць. Шырокую вядомасць атрымаў Азершчынскі хор (з 1936 г., Рэчыцкі р-н) пад кіраўніцтвам калгасніцы Т. К. Лапацінай, які ўдзельнічаў у 1-й Дэкадзе бел. мастацтва ў Маскве (1940 г.), і танцавальны калектыў Гомельскага клуба чыгуначнікаў імя У. І. Леніна.

З устанаўленнем Савецкай улады пачаўся новы этап у развіцці архітэктуры і выяўленчага мастацтва. Прафесійных мастацкіх кадраў у гэтай галіне было мала. Мастацкае афармленне гарадоў, устаноўка помнікаў сталі справай самадзейных мастакоў-актывістаў. Першыя помнікі маюць гісторыка-эстэтычную каштоўнасць, з'яўляюцца прыкладам самавыражэння народных мас. Характэрна стварэнне помніка У. І. Леніну на Жыткавіцкай пагранічнай заставе. У дзень смерці У. І. Леніна пагранічнікі вырашылі паставіць яму помнік, праект якога распрацавалі самі. Нягледзячы на мастацкую недасканаласць помніка, у ім — жывая народная творчасць, бязмежная павага да правадыра рэвалюцыі. У 1928 г. закладзены помнік У. І. Леніну ў Мазыры.

Вераломны напад фашысцкай Германіі на СССР 22.6.1941 г. спыніў мірную працу савецкіх людзей. У першы дзень вайны адбыліся экстранныя пасяджэнні Гомельскага і Палескага абкомаў КП(б)Б, сходы партыйнага актыву, на якіх распрацаваны мерапрыемствы па забеспячэнню мабілізацыі ў армію грамадзян прызыўнога ўзросту, фарміраванню атрадаў самаабароны, перабудове народнай гаспадаркі на ваенны лад. Каля 60 тыс. добраахвотнікаў паслала на фронт Гомельшчына ў першыя дні вайны. Прадпрыемствы Гомельскай і Палескай абласцей падпарадкавалі сваю дзейнасць патрэбам фронту. Гомельскія заводы «Гомсельмаш» і «Рухавік рэвалюцыі» наладзілі рамонт баявой тэхнікі і выпуск мінамётаў, лесакамбінат і завод імя Кірава асвоілі вытворчасць процітанкавых мін, запалкавая фабрыка «Везувій» — ручных гранат, былі створаны перасоўныя майстэрні па рамонту танкаў і трактароў. Насельніцтва Гомельшчыны да сярэдзіны жніўня 1941 г. выкапала 400 км процітанкавых равоў, больш за 600 км траншэй. Гомель быў абкружаны 28-кіламетровым процітанкавым ровам. Уздоўж Дняпра, Бярэзіны, Сажа ўзводзіліся абарончыя рубяжы. Паводле дырэктыў ЦК КП(б)Б ад 23.6.1941 г. і 6.7.1941 г. фарміраваліся знішчальныя батальёны і атрады народнага апалчэння. Мясцовыя партыйныя, савецкія і грамадскія арганізацыі праводзілі эвакуацыю насельніцтва, абсталявання прадпрыемстваў, іншай дзяржаўнай і калгасна-кааператыўнай маёмасці, культурных каштоўнасцей. Ва ўсходнія раёны краіны было вывезена абсталяванне заводаў станкабудаўнічага імя С. М. Кірава, «Гомсельмаша», паравозавагонарамонтнага і суднарамонтнага, фабрык абутковай «Праца», добрушскай папяровай «Герой працы», запалкавай «10 гадоў Кастрычніка», фанерна-запалкавага камбіната «Везувій», 3 турбагенератары Гомельскай электрастанцыі, з Палескай вобл. абсталяванне Мазырскай электрастанцыі, дрэваапрацоўчых і фанерных заводаў «Прафінтэрн» і «Чырвоны Кастрычнік», мэблевай фабрыкі «Пралетарый» і іншых прадпрыемстваў.

ЦК КП(б)Б падтрымаў ініцыятыву працоўных па збору грошай і каштоўнасцей на патрэбы абароны і 6.8.1941 г. прыняў пастанову «Аб фондзе абароны». Толькі ў пачатку вайны працоўныя Гомеля ўнеслі ў фонд абароны больш за 250 тыс. рублёў грошай, 2,5 кг золата, 18 т каляровых металаў, насельніцтва Палескай вобл. да 12 жніўня сабрала каля 412 тыс. рублёў.

У адпаведнасці з дырэктывай ЦК ВКП(б) і СНК СССР ад 29.6.1941 г. Гомельскі і Палескі абкомы партыі разгарнулі дзейнасць па стварэнню падполля і арганізацыі партызанскай барацьбы. Былі падабраны сотні партыйных, савецкіх і камсамольскіх работнікаў для арганізацыі і кіраўніцтва барацьбой у тыле ворага. ЦК КП(б)Б, які з сярэдзіны ліпеня 1941 г. знаходзіўся ў Гомелі, абмеркаваў пытанне аб падрыхтоўцы партыйнага падполля і стварэнні партызанскіх атрадаў у вобласці, правёў сход партыйнага актыву вобласці па пытанню ўборкі ўраджаю, нараду савецкага і партыйнага актыву вобласці аб мерапрыемствах па абароне горада. Паводле рашэння Бюро ЦК КП(б)Б ад 18.7.1941 г. ў Гомелі была створана школа па падрыхтоўцы ў кароткі тэрмін груп для барацьбы ў тыле ворага з ліку камуністаў, камсамольцаў і беспартыйнага актыву.

Да пачатку ліпеня 1941 г. фронт наблізіўся да Гомельшчыны. 4 ліпеня танкавыя злучэнні ворага захапілі Жлобін і Рагачоў і спрабавалі з ходу фарсіраваць Дняпро, але былі спынены.

Гомельскі напрамак з захаду прыкрывала 21-я армія (генерал-лейтэнант В. П. Герасіменка), злучэнні якой стойкай абаронай і контрударамі затрымалі гітлераўцаў і прымусілі іх адступіць. 13.7.1941 г. войскі 21-й арміі на Бабруйскім напрамку перайшлі ў контрнаступленне. 63-і стралковы корпус (генерал-лейтэнант Л. Р. Пятроўскі) фарсіраваў Дняпро, вызваліў Жлобін, Рагачоў і павёў наступленне на Бабруйск. К канцу ліпеня часці корпуса ўклініліся да 30 км у размяшчэнне ворага. Гераічна змагаліся супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў Пінская ваенная флатылія (контр-адмірал Дз. Дз. Рагачоў), у раёне Мазыра — часці 3-й арміі (генерал-лейтэнант В. І. Кузняцоў).

Разам з савецкімі воінамі мужна трымалі абарону знішчальныя батальёны і атрады народнага апалчэння. Больш як 2 тыдні савецкія вайсковыя часці і апалчэнцы абаранялі Тураў. Жорсткія баі

 ішлі ў Парыцкім і Акцябрскім р-нах. Самаадданa змагаліся з ворагам Лельчыцкі, Капаткевіцкі, Мазырскі, Петрыкаўскі і іншыя знішчальныя батальёны і атрады народнага апалчэння.

Гомельскі напрамак меў выключна важнае значэнне. Таму 24.7.1941 г. на базе 21-й і 13-й армій быў створаны Цэнтральны фронт (камандуючы генерал-палкоўнік Ф. І. Кузняцоў, член ваеннага савета П. К. Панамарэнка, начальнік штаба палкоўнік Л. М. Сандалаў). Гітлераўцы сканцэнтравалі на гэтым напрамку больш за 25 дывізій і ў першай дэкадзе жніўня разгарнулі магутнае наступленне. 11 жніўня яны фарсіравалі Дняпро ў раёне Стрэшына. Жорсткія баі вяліся ў раёне Доўска. 14 жніўня нямецка-фашысцкія войскі захапілі Жлобін, Чачэрск, 18 жніўня — Ветку. Выключна цяжкія баі разгарнуліся пад Гомелем у раёне вёсак Сямёнаўка і Пакалюбічы, дзе адважна змагаўся Гомельскі полк народнага апалчэння (камандзір Ф. Я. Уткін, камісар С. Р. Шчуцкі). 19 жніўня нямецкія войскі ўварваліся ў Гомель, 22 жніўня занялі Мазыр. Да пачатку верасня 1941 г. ўся тэрыторыя Гомельскай і Палескай абласцей была захоплена гітлераўцамі.

Акупіраваўшы Беларусь, захопнікі ўстанавілі жорсткі рэжым беззаконня, гвалту, грабяжу і крывавага тэрору. Паўднёвыя раёны Гомельскай і Палескай абласцей былі ўключаны ў так званы рэйхскамісарыят «Украіна». Большая частка Гомельскай вобл. ўвайшла ў зону армейскага тылу, паўночныя раёны Палескай вобл.— у склад генеральнай акругі Беларусі, якая была ўключана ў рэйхскамісарыят «Остланд».

На акупіраванай тэрыторыі гітлераўцы стварылі канцэнтрацыйныя лагеры для савецкіх ваеннапалонных і мірных жыхароў. На тэрыторыі Гомельскай, Палескай абласцей найбольшыя канцлагеры і месцы масавай загубы: Азарычы Калінкавіцкага р-на (загублена 16 520 чалавек), Буда-Кашалёва (485 чалавек), Гомель (лагер ваеннапалонных, загублена каля 100 тыс. чалавек), Жлобін (1,2 тыс. чалавек), Карма (каля 700 чалавек), Мазыр (4,7 тыс. чалавек), Рагачоў (3,5 тыс. чалавек), Тамашоўка Калінкавіцкага р-на (3 540 чалавек) і інш. Асабліва лютавалі гітлераўцы ў час карных аперацый: № 2 (ліпень 1942 г., на поўнач ад Гомеля), № 19 (ліпень 1942 г., на поўдзень ад Гомеля), «Трохвугольнік» (студзень 1943 г., на ўсход ад Мазыра), «Урсула» (люты 1943 г., на поўнач ад Рагачова), «Русалка» (люты-сакавік 1943 г., на поўнач ад Жыткавіч) і інш., калі цэлыя раёны былі ператвораны ў пустыні.

Арганізоўваў і кіраваў барацьбой супраць захопнікаў створаны 19.8.1941 г. Гомельскі падпольны абком КП(б)Б. Сакратары І. П. Кожар, А. А. Куцак, члены абкома Е. І. Барыкін, А. Дз. Рудак, А. Ф. Ждановіч. Да восені 1941 г. ў вобласці склаліся 3 галоўныя цэнтры партызанскага руху — Чачэрскі, Лоеўскі і Рагачоўскі.



*П. Гаўрыленка. «На партызанскім аэрадроме». 1950 г. Дзяржаўны мастацкі музей БССР.*

У Чачэрскіх лясах, дзе да лістапада 1941 г. размясціліся частка абласнога, Гомельскі гарадскі і Чачэрскі раённы падпольныя камітэты партыі, сканцэнтраваліся партызанскія фарміраванні: гомельскі атрад «Бальшавік», які пазней аб'яднаўся з Навабеліцкім атрадам, Гомельскі сельскі і Чачэрскі атрады. Невялікія партызанскія групы і атрады зліваліся ў больш буйныя.

Вялікую работу па стварэнню падпольных арганізацый і разгортванню партызанскага руху правяла партыйная арганізацыя Палескай вобл. на чале з сакратарамі абкома КП(б)Б П. А. Лявіцкім і Ф. М. Языковічам. У ліпені 1941 г. абком партыі пачаў ствараць на базе знішчальных батальёнаў партызанскія атрады. Былі зацверджаны абласныя і 17 раённых партыйных троек. У Акцябрскім р-не перайшоў да партызанскіх метадаў барацьбы знішчальны батальён (партызанскі атрад «Чырвоны Кастрычнік») пад кіраўніцтвам Ц. П. Бумажкова і Ф. І. Паўлоўскага. Ім першым з савецкіх партызан прысвоена званне Героя Савецкага Саюза.

З вясны 1942 г. партызанскі рух станавіўся ўсё больш масавым, наладжвалася сувязь савецкага тылу з партызанамі, забеспячэнне іх зброяй, боепрыпасамі, медыкаментамі і інш. Паводле рашэння ЦК КП(б)Б у лістападзе 1942 г. створана Гомельскае партызанскае злучэнне (камандзір І. П. Кожар, начальнік штаба Е. І. Барыкін). У Гомельскае партызанскае злучэнне ўваходзілі 14 партызанскіх брыгад і 2 асобна дзейныя атрады — больш за 20 тыс. партызан. З імі ўзаемадзейнічалі брыгада «Уперад», разведвальна-дыверсійныя групы і атрады «Багатыры», «Другія», «Бывалыя», «Дружба», «Радзіма», «Слаўны», «Прадвеснікі», «Палёт», «Уперад». У паўночных раёнах вобласці дзейнасць партызанскіх брыгад і атрадаў узначальваў да канца 1942 г. А. А. Куцак. Партызаны ў красавіку — маі 1942 г. разграмілі гарнізоны акупантаў у 14 сельсаветах Чачэрскага, Кармянскага, Свяцілавіцкага р-наў. На іх

тэрыторыі створана партызанская зона, адноўлена Савецкая ўлада. Партызанскія зоны існавалі ў Акцябрскім, Рэчыцкім, Парыцкім і інш. раёнах. У 1943 г. партызаны кантралявалі каля 60 % тэрыторыі Гомельшчыны.

У лістападзе 1941 г.— лютым 1942 г. ў паўночных раёнах Палескай вобл. сфарміравалася злучэнне партызанскіх атрадаў (камандзір Ф. І. Паўлоўскі). У красавіку 1942 г. аб'ядналася са злучэннем партызанскіх атрадаў Мінскай вобл. 15.3. 1943 г. створана Палескае партызанскае злучэнне (камандзіры Ф. М. Языковіч, І. Дз. Вятроў), якое яднала 16 брыгад, 20 асобна дзейных атрадаў, 4 спецатрады і 4 спецгрупы (да 15 тыс. партызан). У складзе Палескага злучэння створана злучэнне партызанскіх атрадаў і брыгад Паўднёва-прыпяцкай зоны (камандзіры М. С. Дзьячэнка, А. М. Бяленчык), якое каардынавала дзеянні партызан у Ельскім, Лельчыцкім, Мазырскім, Нараўлянскім і Тураўскім р-нах. Партызаны Палескага злучэння разграмілі 178 гарнізонаў гітлераўцаў, падарвалі 52,2 тыс. чыгуначных рэек, знішчылі ў верасні 1943 г. склады з боепрыпасамі, гаручым і харчамі 2-й нямецкай арміі на станцыі Калінкавічы і інш. Барацьбой кіраваў Палескі падпольны абком КП(б)Б, створаны ў лютым 1943 г. (сакратары Ф. М. Языковіч, І. Дз. Вятроў, М. І. Малінін).

Да восені 1943 г. на тэрыторыі акупіраванай Гомельшчыны дзейнічалі 2 падпольныя абкомы КП(б)Б, 2 гаркомы, 29 райкомаў КП(б)Б, каля 200 пярвічных партыйных арганізацый, 2 абкомы ЛКСМБ, 30 райкомаў ЛКСМБ, каля 200 пярвічных камсамольскіх арганізацый. Выдавалася 31 падпольная раённая газета. Супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў барацьбу вялі 29 партызанскіх брыгад (117 атрадаў) і больш за 10 асобна дзейных атрадаў. У іх радах з ворагам змагалася каля 50 тыс. чалавек, у т. л. больш за 3 тыс. камуністаў і каля 6 тыс. камсамольцаў. Па тэрыторыі Гомельшчыны баявымі рэйдамі прайшлі партызанскія злучэнні С. А. Каўпака, А. М. Сабурава, М. І. Навумава, А. Ф. Фёдарава. У атрадах Каўпака было 412 ураджэнцаў Гомельшчыны, у злучэнні Сабурава 36 % складалі беларусы. Гітлераўскае камандаванне накіроўвала супраць партызан буйныя сілы. Толькі ў карных падраздзяленнях, пасланых супраць партызан Гомельшчыны ў студзені 1943 г., было 30 тыс. салдат, 50 танкаў, 10 гармат, 15 самалётаў. У ліпені 1943 г. для барацьбы з партызанамі ў Ельскім р-не вораг зняў з фронту 3 дывізіі. Асабліва вялікія страты наносілі партызаны гітлераўцам на чыгунках. У «рэйкавай вайне» ў жніўні 1943 г. ўдзельнічалі ўсе партызанскія атрады.



*Партызаны Мазырскай брыгады імя Аляксандра Неўскага накіроўваюцца на аперацыю «Рэйкавая вайна». 1943 г.*

Барацьбу супраць ворагаў у цяжкіх умовах канспірацыі вялі падпольшчыкі. Падпольныя патрыятычныя групы наладжвалі сувязь з партызанамі, праводзілі дыверсіі, здабывалі зброю, распаўсюджвалі сярод насельніцтва лістоўкі і зводкі Саўінфармбюро. У Гомелі падполлем кіраваў гарадскі камітэт партыі на чале з Е. І. Барыкіным і падпольны гарком камсамола на чале з А. Л. Ісачанкам. Камсамольцы Калінкавіч у верасні 1941 г. стварылі падпольную арганізацыю «Смерць прыгнятальнікам народа». Актыўна дзейнічалі падпольшчыкі ў Мазыры, Жлобіне, у Хойніцкім, Брагінскім, Жыткавіцкім, Петрыкаўскім, Рагачоўскім, Чачэрскім, Буда-Кашалёўскім, Добрушскім, Ельскім і іншых раёнах.

За гераізм і адвагу ў барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў многія падпольшчыкі і партызаны ўзнагароджаны ордэнамі і медалямі. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена Ц. С. Барадзіну, Е. І. Барыкіну, Ц. П. Бумажкову, А. Л. Ісачанку, П. І. Кавалёву, І. П. Кожару, Ф. П. Котчанку, Ф. Я. Кухараву, Э. В. Лаўрыновічу, Ф. А. Малышаву, М. А. Міхайлашаву, Ф. І. Паўлоўскаму і Р. А. Такуеву.

Гомельшчына вызвалена ад нямецка-фашысцкіх акупантаў у выніку Гомельска-Рэчыцкай аперацыі 1943 г., Мазырска-Калінкавіцкай і Бабруйскай аперацый 1944 г.

23.9.1943 г. войскі Цэнтральнага (з 20.10.1943 г. Беларускага, з 17.2.1944 г. 1-га Беларускага) фронту (камандуючы генерал арміі К. К. Ракасоўскі) вызвалілі ад акупантаў Камарын — першы раённы цэнтр Гомельскай вобл., а 26.11. 1943 г. сцяг вызвалення быў узняты над Гомелем. Баі за вызваленне тэрыторыі Гомельскай і Палескай абласцей вяліся восенню 1943 г., зімой 1943—44 гг. і летам 1944 г. У час Гомельска-Рэчыцкай аперацыі камандаванне фронту наладзіла сувязь з Гомельскім і Палескім партызанскімі злучэннямі. Народныя мсціўцы занялі і ўтрымлівалі да падыходу савецкіх войск 34 населеныя пункты на захад ад Рэчыцы і пераправу цераз р. Бярэзіна. Восенню 1943 г. і ў чэрвені 1944 г. войскі Чырвонай Арміі ва ўзаемадзеянні з партызанамі вялі баі ў час фарсіравання Дняпра, Прыпяці, Сажа, Пцічы і іншых рэк. Масавы гераізм пры вызваленні вобласці праявілі савецкія воіны. Толькі за паспяховае фарсіраванне Дняпра восенню 1943 г. ў



*Гомель. Фрагмент забудовы праспекта Леніна.*

раёне Лоева 183 воінам 65-й арміі прысвоена званне Героя Савецкага Саюза.

За час акупацыі Гомельшчыны нямецка-фашысцкія захопнікі загубілі тут больш за 209 тыс. савецкіх грамадзян, вывезлі на катаржныя работы ў Германію больш за 40 тыс. чалавек, разрабавалі прамысловае і энергетычнае абсталяванне, знішчылі 4918 прамысловых прадпрыемстваў, усе электрастанцыі. Поўнасцю былі разбураны Гомельскі, Калінкавіцкі і Жлобінскі чыгуначныя вузлы, Гомельскі рачны порт.

Гітлераўцы зруйнавалі гарады Гомель, Жлобін, Мазыр, Калінкавічы, Рагачоў, каля тысячы населеных пунктаў было спалена. Амаль цалкам знішчаны грамадскія і гаспадарчыя пабудовы ў Акцябрскім, Добрушскім, Жлобінскім, Ельскім, Калінкавіцкім, Лельчыцкім, Лоеўскім, Парыцкім, Петрыкаўскім, Рагачоўскім і інш. раёнах. У Лельчыцкім р-не з 7562 дамоў калгаснікаў уцалелі 32. Пасяўныя плошчы ў гэтых раёнах у 1944 г. склалі не больш за 27 % пасяўных плошчаў 1940 г.

Пастановай СНК і ЦК ВКП(б) ад 21.8.1943 г. «Аб неадкладных мерах па аднаўленню гаспадаркі ў раёнах, вызваленых ад нямецкай акупацыі» вызначаны канкрэтныя мерапрыемствы па аднаўленню эканомікі. У студзені 1944 г. абком ВКП(б) і СНК Мардоўскай АССР ухвалілі працоўную ініцыятыву ўзяць шэфства над Гомелем, Рэчыцкім, Лоеўскім, Стрэшынскім, Церахоўскім р-намі. З Мардовіі паступала прамысловае абсталяванне, сельскагаспадарчы інвентар, насенне, абсталяванне для школ і амбулаторый, вопратка. Чыгуначныя рабочыя Рузаеўкі прыслалі сродкі сувязі, пуцейнае і станцыйнае абсталяванне, рабочыя г. Кірава — метал, газавыя трубы і інш. Навучэнцы г. Іжэўска ў сакавіку 1944 г. накіравалі ў Гомель 1700 падручнікаў. Працоўныя г. Ульянаўска ўзялі шэфства над Мазыром, дасылалі прамысловае абсталяванне, абсталяванне для школ, кнігі (да сакавіка 1944 г. ў Мазыр з Чувашыі і Ульянаўскай вобл. прыбыло 8 тыс. кніг), прадметы хатняга ўжытку, калгаснікі Яраслаўскай вобл. ў чэрвені 1944 г. прыслалі Буда-Кашалёўскаму р-ну 1560 кг насення канюшыны і 10 т насення лёну. Самаадданая праца насельніцтва Гомельшчыны і брацкая дапамога народаў Савецкага Саюза далі выдатны плён — за гады 1-й пасляваеннай пяцігодкі вобласць дасягнула даваеннага ўзроўню прамысловай вытворчасці.

8.1.1954 г. да Гомельскай вобл. былі далучаны Палеская вобл., Акцябрскі і Парыцкі р-ны Бабруйскай вобл. (існавала ў 1944—54 гг.).

У пасляваенныя гады для большасці гарадоў і гарадскіх пасёлкаў вобласці новыя генеральныя планы рэканструкцыі і далейшага развіцця распрацаваны ў Інстытуце «Гомельграмадзянпраект» (для Гомеля, Нароўлі, Рагачова, Рэчыцы, Чачэрска і інш.) і ў Беларускім навукова-даследчым і праектным інстытуце горадабудаўніцтва (для Веткі, Добруша, Жлобіна, Жыткавіч, Петрыкава, Хойнікаў і інш.). Генпланы прадугледжваюць дакладнае функцыянальнае заніраванне гарадскіх тэрыторый, вылучэнне прамысловых зон і зон адпачынку, стварэнне сістэмы культурна-бытавога абслугоўвання насельніцтва. Новыя прамысловыя комплексы размяшчаюцца асобна ад жылых раёнаў, звязаны з імі зручнымі транспартнымі сувязямі і аддзелены ахоўнымі зонамі (Гомель, Жлобін, Мазыр, Рэчыца). З узнікненнем буйных прамысловых аб'ектаў звязана развіццё новых гарадоў. На Гомельшчыне такім горадам з'яўляецца Светлагорск. Ён вырас на месцы невялікай вёскі, стаў буйным прамысловым цэнтрам. Тут пабудаваны Васілевіцкая ДРЭС на р. Бярэзіна, завод штучнага валакна (Усесаюзная ўдарная камсамольская будоўля), цэлюлозна-папяровы завод і домабудаўнічы камбінат. Значныя прамысловыя аб'екты ўзведзены ў Гомелі, Жлобіне, Мазыры, Рагачове і інш. месцах.

З развіццём прамысловасці павялічваецца насельніцтва ў гарадах і пасёлках, што ў сваю чаргу выклікае неабходнасць масавага жыллёвага будаўніцтва. У старажытнай частцы невялікіх гарадоў і гарадскіх пасёлкаў захоўваецца індывіду-



*Аўтобусная станцыя ў в. Гарошкаў. Рэчыцкі раён.*



*Гомельскі Палац піянераў і школьнікаў.*

альная малапавярховая забудова (Добруш, Ельск, Рэчыца, Хойнікі). Шматпавярховыя жылыя дамы будуюцца ў новай частцы гэтых гарадоў: у Добрушы праспект Міру, вул. Луначарскага, у Ельску — вуліцы Ленінская, Пушкіна, у Рэчыцы вуліцы Савецкая, Маладзёжная, у Хойніках вуліцы Савецкая, К. Маркса. У найбольш буйных гарадах узводзяцца вышынныя будынкі (Гомель, Мазыр, Светлагорск).

У стварэнні выразнага архітэктурна-мастацкага аблічча гарадоў важнае значэнне надаецца рэканструкцыі і фарміраванню грамадскіх цэнтраў. У гарадах, дзе цэнтр фарміраваўся на працягу стагоддзяў і адпавядае сучасным патрабаванням, захоўваецца яго планіровачная структура з улікам далейшага развіцця (Гомель, Мазыр, Рагачоў, Рэчыца). У невялікіх гарадскіх пасёлках фарміруюцца новыя грамадскія цэнтры, архітэктурны ансамбль якіх ствараюць сучасныя будынкі адміністрацыйных, гандлёвых і культурна-асветных устаноў (Акцябрскі, Брагін, Карма і інш.).

Пры рэканструкцыі гарадоў і вёсак вялікая ўвага аддаецца захаванню помнікаў архітэктуры. Яны арганічна ўключаюцца ў сучасныя гарадскія комплексы (Гомель, Мазыр, Тураў, Чачэрск, Стрэшын), надаюць своеасаблівае аблічча забудове вёсак (вёскі Хальч Веткаўскага, Чырвоны Бераг Жлобінскага, Юравічы Калінкавіцкага р-наў).

Вызначаны найважнейшыя кірункі пераўтварэння вёскі: канцэнтрацыя сельскага насельніцтва ў пасёлках з поўным добраўпарадкаваннем і культурна-бытавым абслугоўваннем. На Гомельшчыне вядзецца рэканструкцыя вёсак і эксперыментальнае будаўніцтва. Многія населеныя пункты набываюць новае архітэктурнае аблічча (саўгас «Камунарка» Буда-Кашалёўскага р-на — пас. Камунар; саўгас «Ведрыч» Рэчыцкага р-на — в. Ведрыч; саўгас «Камуніст» Ельскага р-на — в. Зашыр'е; саўгас «Мазырскі» Мазырскага р-на — в. Крынічная і інш.). У пасёлках узводзяцца гандлёвыя цэнтры, Дамы культуры, клубы, гасцініцы, камбінаты бытавога абслугоўвання і інш.

Пасляваенныя гады адзначаны росквітам мастацтва, у т. л. манументальнага. Перамога ў Вялікай Айчыннай вайне, працоўныя здзяйсненні ў мірны час унеслі ў манументальнае мастацтва тэму ўслаўлення гераічных подзвігаў савецкіх людзей. У гарадах і вёсках Гомельшчыны ўстаноўлены помнікі-бюсты: двойчы Героя Савецкага Саюза П. Я. Галавачова (г. Буда-Кашалёва, г. Гомель); удзельніка партызанскага руху на Беларусі ў Грамадзянскую і Вялікую Айчынную войны, народнага героя В. І. Талаша (г. Петрыкаў); дзеяча рэвалюцыйнага руху ў Заходняй Беларусі, аднаго з кіраўнікоў камуністычнага падполля ў Віцебску ў Вялікую Айчынную вайну, Героя Савецкага Саюза В. З. Харужай (г. Мазыр), генерал-лейтэнанта Л. Р. Пятроўскага (в. Старая Рудня Жлобінскага р-на), аднаго з арганізатараў і кіраўнікоў партызанскага руху ў Палескай вобл., Героя Савецкага Саюза Ц. П. Бумажкова (г. п. Акцябрскі), двойчы Героя Сацыялістычнай Працы авіяканструктара П. В. Сухога і савецкага дзяржаўнага і партыйнага дзеяча, члена Палітбюро ЦК КПСС, першага намесніка Старшыні Савета Міністраў СССР, міністра замежных спраў СССР А. А. Грамыкі (Гомель).

Помнікі на месцы дыслакацыі Беларускага штаба партызанскага руху ў в. Чонкі, віцэ-адміралу В. П. Дразду ў г. Буда-Кашалёва, на брацкай магіле гомельскіх апалчэнцаў і Героя Савецкага Саюза Ц. С. Барадзіна, камсамольцам, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну (Гомель), і інш. ўслаўляюць перамогу савецкага народа над фашызмам.

Як сімвал непарушнага адзінства, баявой і працоўнай садружнасці рускага, украінскага і беларускага народаў на граніцы брацкіх рэспублік — РСФСР, УССР і БССР — узвышаюцца 3 беламармуровыя пілоны — помнік Дружбы. У многіх на-



*Гомель. Планетарый (былы Петрапаўлаўскі сабор).*



*Калінкавічы. Дом культуры.*

селеных пунктах пастаўлены помнікі правадыру рэвалюцыі, натхніцелю вялікіх здзяйсненняў савецкага народа У. І. Леніну. Велічны манумент У. І. Леніну ў Гомелі ўзведзены паводле праекта грузінскага скульптара Ш. Мікатадзе. Значнымі мастацкімі якасцямі, выразным вобразным вырашэннем вылучаюцца помнікі правадыру ў г. Добруш (скульпт. Дз. Папоў), у г. Нароўля (скульпт. А. Анікейчык, арх. Л. Левін, Ю. Градаў). Архітэктура ў спалучэнні з манументальным жывапісам фарміруюць прасторавае асяроддзе гарадоў і вёсак вобласці. Шматлікія мазаікі, размалёўка, дэкаратыўныя рэльефы ўпрыгожваюць грамадскія будынкі. Разам з гомельскімі мастакамі актыўны ўдзел у іх архітэктурна-манументальным афармленні прымаюць мінскія і маскоўскія майстры (мазаікі і рэльефы кафэ «Маладзёжнае» і «Бульбяная», размалёўка ў інтэр'еры рэстарана «Сож», мазаіка кінатэатра імя Калініна, афармленне рэстарана і кафэ «Беларусь»). Адна з лепшых манументальна-дэкаратыўных размалёвак, створаных у рэспубліцы,— «Зямля Светлагорская» — упрыгожвае Палац хімікаў у г. Светлагорск.

Сёння Гомельшчына — край высокаразвітай прамысловасці і буйной механізаванай сельскай гаспадаркі. Створана магутная энергетычная база: Васілевіцкая ДРЭС, Мазырская і Гомельская ЦЭЦ. Развіваюцца галіны прамысловасці: нафтаздабываючая і нафтаперапрацоўчая, машынабудаўнічая і тарфяная, хімічная, лясная, дрэваапрацоўчая, лёгкая, харчовая. Адкрыты запасы каменнай (Мазырскае і Давыдаўскае радовішчы), калійных і каменнай солей (Петрыкаўскае радовішча), бурага вугалю (каля Жыткавіч).

Па шляху няўхільнага ўздыму ідзе сельская гаспадарка. На высокаўраджайных землях, адваяваных у балот, ствараюцца новыя саўгасы з пасёлкамі гарадскога тыпу.

Дасягненні ў развіцці эканомікі стварылі шырокія магчымасці для вырашэння задач культурнага будаўніцтва. Гомельшчына стала вобласцю высокай адукаванасці, а Гомель — вядомым навуковым і культурным цэнтрам. У горадзе працуюць універсітэт, Беларускі інстытут інжынераў чыгуначнага транспарту, кааператыўны інстытут, політэхнічны інстытут. Вялікі ўклад ў развіццё навукі ўносяць вучоныя Інстытута механікі металапалімерных сістэм АН БССР, аддзялення Інстытута матэматыкі АН БССР, Беларускага навукова-даследчага інстытута лясной гаспадаркі. У Мазыры працуе педагагічны інстытут. У вобласці (1984 г.) 19 сярэдніх спецыяльных навучальных устаноў, 1158 агульнаадукацыйных школ усіх тыпаў, 737 дзіцячых дашкольных устаноў, абласныя драматычны і лялек тэатры, філармонія і цырк (у Гомелі), 1204 клубы, 1141 бібліятэка, 1316 кінаўстановак, музеі краязнаўчыя ў Гомелі (абласны), Ельску, Мазыры, Рэчыцы, Тураве, народнай славы ў Рагачове, г. п. Акцябрскі, музей гісторыі г. Светлагорск, карцінная галерэя (філіял Дзяржаўнага мастацкага музея БССР) у в. Гурыны Мазырскага р-на.

Гомельшчына дала шмат вядомых літаратурных імён. На Палессі ў в. Глінішча Хойніцкага р-на нарадзіўся народны пісьменнік Беларусі І. П. Мележ. У «Палескай хроніцы» (Ленінская прэмія 1972 г. за раманы «Людзі на балоце» і «Подых



*Будынак Гомельскага дарожна-будаўнічага тэхнікума.*



*Сярэдняя школа ў в. Навасёлкі. Петрыкаўскі раён.*

навальніцы») ён праславіў свой край, яго працавітых і мужных людзей. Народны пісьменнік БССР А. Я. Макаёнак (нарадзіўся ў в. Борхаў Рагачоўскага раёна) зрабіў значны ўклад у развіццё беларускай драматургіі. Яго п'есы вызначаюцца актыўнай грамадзянскай пазіцыяй аўтара, актуальнасцю праблематыкі («Лявоніха на арбіце» адзначана Літаратурнай прэміяй Я. Купалы 1962 г., «Трыбунал» і «Таблетку пад язык» — Дзяржаўнай прэміяй БССР імя Я. Коласа 1974 г.), перакладаліся на многія мовы народаў СССР і за мяжой. Народны пісьменнік БССР і грамадскі дзеяч І. П. Шамякін (нарадзіўся ў в. Карма Добрушскага р-на) у сваіх творах паказвае гераізм савецкіх воінаў і партызан, услаўляе вызваленчую місію Чырвонай Арміі, ставіць важныя праблемы грамадскага жыцця — сувязь гістарычнага мінулага з сённяшнім днём, узаемаадносіны паміж пакаленнямі, станаўленне чалавека як асобы. Высокую ацэнку атрымалі яго творы «Глыбокая плынь» (Дзяржаўная прэмія СССР 1951 г.), «Крыніцы» (Літаратурная прэмія імя Я. Коласа 1959 г.), «Сэрца на далоні» і «Трывожнае шчасце» (Дзяржаўная прэмія БССР імя Я. Коласа 1968 г.). Пісьменнікі — ураджэнцы Гомельшчыны — Леанід Гаўрылаў, Міхайла Грамыка, Алесь Дудар, Дзмітрый Кавалёў, Усевалад Краўчанка, Рыгор Лынькоў, Раман Сабаленка, Мікола Сурначоў і іншыя зрабілі значны ўклад у развіццё беларускай літаратуры.

Плённа працуе абласное аддзяленне Саюза пісьменнікаў БССР. Дзейнічае аддзяленне Саюза мастакоў БССР.

Маляўнічая прырода вобласці, мяккі клімат, паўнаводныя рэкі далі магчымасць стварыць тут зону адпачынку рэспубліканскага значэння — Горваль непадалёку ад Рэчыцы, бальнеалагічны і кліматычны курорт пад Рагачовам, кліматычны курорт каля в. Чонкі Гомельскага р-на і інш.

Указам Прэзідыума Вярхоўнага Савета СССР ад 8.2.1967 г. за актыўны ўдзел у партызанскім руху, за мужнасць і гераізм працоўных у барацьбе з нямецка-фашысцкімі захопнікамі ў перыяд Вялікай Айчыннай вайны і за поспехі ў аднаўленні і развіцці народнай гаспадаркі Гомельская вобл. узнагароджана ордэнам Леніна.

*Літ.:* Ленін У. І. Крытычныя заметкі па нацыянальнаму пытанню.— Тв., т. 20 (Полн. собр. соч., т. 24); яго ж. Аб пралетарскай культуры.— Тв., т. 31 (Полн. собр. соч., т. 41); Абезгауз З. Е. Развитие промышленности и формирование пролетариата Белоруссии во второй половине XIX века.— Мн., 1971; Абецедарский Л. С. Белоруссия и Россия: Очерки русско-белорусских связей второй половины XVI — XVII в.— Мн., 1978; Аблова Р. Т. Это было в Белоруссии.— М., 1957; Агаджанян В. В. Дороги партизанские.— Мн., 1979; Агеев М. З., Зеленков М. И. Их именами названы улицы Гомеля.— Мн., 1974; Адамовіч А., Брыль Я., Калеснік У. Я з вогненнай вёскі...— Мн., 1975; Алексеев Л. В. По Западной Двине и Днепру в Белоруссии.— М., 1974; Андрющенко Н. К. Народное ополчение Белоруссии.— Мн., 1980; Антипов В. Г. Парки Белоруссии.— Мн., 1975; Антонович В. Б. Очерк истории Великого княжества Литовского до половины XV столетия. В. 1.— Киев, 1878; Арзуманян С. Земля пылала.— Мн., 1974; Артеменко И. И. Племена Верхнего и Среднего Поднепровья в эпоху бронзы.— М., 1967.— (Материалы и исследования по археологии СССР; № 148); Археалогія, нумізматыка і геральдыка Беларусі.— Мн., 1979; Архитектура Советской Белоруссии.— М., 1973; Барановский Е. И. Памятные места Великой Октябрьской социалистической революции в Белоруссии.— 2 изд.— Мн., 1978; Баркоўскі С. 1 Мая на Беларусі.— 3 выд.—Мн., 1932; Батюшков П. Н. Белоруссия и Литва: Исторические судьбы Северо-Западного края.— СПб., 1890; Без-Корнилович М. О. Исторические сведения о примечательнейших местах в Белоруссии с присовокуплением и других сведений, к ней же относящихся.— СПб., 1855; Белогорцев И. Д., Гурин И. И., Кустанович С. М. Развитие городов Белоруссии.— Мн., 1967; Белоруссия в эпоху капитализма: Сб. документов и материалов: В 3-х т. Т. 1.— Мн., 1983; Белоруссия в эпоху феодализма: Сб. документов и материалов. Т. 1—4.— Мн., 1959—79; Белорусская ССР: Административно-территориальное деление на 1 января 1981 года.— 6 изд.— Мн., 1981; Белявцев В. И. Памятные места, связанные с жизнью и деятельностью соратников В. И. Ленина в Белоруссии.— Мн., 1976; Библиотечное дело в БССР: Документы и материалы. 1918—1941.— Мн., 1978; Бич М. О. Развитие социал-демократического движения в Белоруссии в 1883—1903 гг.— Мн., 1973; яго ж. Рабочее движение в Белоруссии в 1861—1904 гг.— Мн., 1983; Богданович А. В., Сидоров П. А. Города Белоруссии.— Мн., 1967; Болбас М. Ф. Развитие промышленности в Белоруссии (1795—1861 гг.).— Мн., 1966; яго ж. Промышленность Белоруссии. 1860—1900.— Мн., 1978; Борьба за Советскую власть в Белоруссии. 1918—1920 гг.: Сб. документов и материалов. Т. 1—2.— Мн., 1968—71; Брюханов А. И. В штабе партизанского движения.— Мн., 1980; БССР: Эканоміка-статыстычны даведнік.— Мн., 1931; Бяляўцаў У. І., У. І. Ленін і Беларусь.— Мн., 1972; В борьбе за Октябрь в Белоруссии и на Западном фронте: Воспоминания активных участников Октябрьской революции.— Мн., 1957; В борьбе и труде: Участие женщин Белоруссии в революционном движении, социалистическом и коммунистическом строительстве.— 2 изд.— Мн., 1977; В боях за Белоруссию.— 2 изд.— Мн., 1974; В грозные годы: Воспоминания участников борьбы



*Гомель. Абласная бібліятэка імя У. І. Леніна.*



1. *Дом палітычнай асветы. Фае.*

Асабняк — помнік архітэктуры позняга класіцызму. *А. М. Кулагін.*

**3. БРАЦКАЯ МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ, САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). Вул. Барыкіна, на Ляшчынскіх могілках. Пахаваны мірныя жыхары, расстраляныя нямецка-фашысцкімі захопнікамі ў 1942 г., воіны Чырвонай Арміі і партызаны, якія загінулі ў 1943 г. ў час налёту варожай авіяцыі на горад. У 1975 г. на магіле пастаўлена стэла.

**4. БРАЦКАЯ МАГІЛА КАМУНАРАЎ** (гіст.). Вул. Білецкага, у скверы імя Ф. Э. Дзяржынскага. Пахаваны 25 камунараў, якія загінулі ў час стракапытаўскага мяцяжу.

24.3.1919 г. левыя эсэры і былыя афіцэры царскай арміі справакавалі антысавецкі мяцеж 67-га і 68-га палкоў 8-й стралковай дывізіі, якія з студзеня 1919 г. размяшчаліся ў Гомелі. Мяцеж узначаліў эсэр Стракапытаў. 68-ы полк, накіраваны 19 сакавіка на фронт, пасля няўдалага бою ў раёне Калінкавічы — Оўруч пакінуў пазіцыі і са станцыі Калінкавічы з 67-м палком вярнуўся ў Гомель. Вечарам 24 сакавіка мяцежнікі захапілі чыгуначны вузел, тэлеграф, артылерыйскі склад, савецкія ўстановы. Павятовы камітэт партыі і выканком Савета стварылі ваенна-рэвалюцыйны штаб. Група партыйных і савецкіх работнікаў з атрадам ЧК і міліцыі (каля 300 чалавек з вінтоўкамі і кулямётам) суткі супраціўлялася мяцежнікам у гасцініцы «Савой», але вымушаны былі здацца (65 чалавек узяты ў палон). У ноч на 29 сакавіка стракапытаўцы закатавалі многіх камунараў, сярод іх старшыню Гомельскага рэўкома С. С. Камісарава, старшыню ЧК І. І. Ланге, рэдактара газеты «Известия революционного комитета г. Гомеля и уезда» М. С. Білецкага, камісара аддзела юстыцыі Б. Я. Аўэрбаха, ваенкома Я. Фрыда, камісара зямельнага аддзела З. Б. Песіна, кіраўніка спраў ЧК С. М. Бочкіна і інш. 29 сакавіка часці Чырвонай Арміі разграмілі стракапытаўцаў.

31.3.1919 г. камунары з ушанаваннямі пахаваны на Гогалеўскім бульвары (цяпер сквер імя Ф. Э. Дзяржынскага). У 1949 г. на магіле пастаўлены помнік. Імёнамі І. І. Ланге, С. С. Камісарава, М. С. Білецкага, С. М. Бочкіна, Б. Я. Аўэрбаха, З. Б. Песіна названы вуліцы ў Гомелі.

*Літ.:* Лелевич Г. Стрекопытовщина.— 2 изд.— М.; П., [1923]; Мащицкий Г. П. Трудящиеся Гомельщины в борьбе за разгром интервентов и белогвардейцев (1919—1921 гг.).— Гомель, 1958; Агеев М. З., Зеленков М. И. Их именами названы улицы Гомеля.— Мн., 1974.

*В. Б. Караткевіч.*

**5. БРАЦКАЯ МАГІЛА ПАДПОЛЬШЧЫКАЎ** (гіст.). Вул. Савецкая, у Студэнцкім парку. Пахаваны члены Гомельскага камуністычнага падполля Раман Іларыёнавіч Цімафеенка, Іван Барысавіч Шылаў, Яўген Іванавіч Хоміч.



2. *Асабняк.*

Р. І. Цімафеенка нарадзіўся 23.8.1902 г. ў в. Дзедня Чавускага р-на Магілёўскай вобл. ў сялянскай сям'і. Член КПСС з 1924 г. Скончыў Мінскі педагагічны інстытут. З 1920 г. працаваў настаўнікам, перад Вялікай Айчыннай вайной — лектар палітаддзела Беларускай чыгункі. З 1941 г. на падпольнай рабоце. З лістапада 1941 г. член аператыўнага цэнтра, які каардынаваў дзейнасць падпольных груп. Разам з Ц. С. Барадзіным арганізоўваў дыверсійныя групы, прымаў актыўны ўдзел у дыверсіях. Загінуў у чэрвені 1942 г. ў час варожай засады на канспіратыўнай кватэры. Яго імем названа вуліца ў Гомелі.

І. Б. Шылаў нарадзіўся ў 1914 г. ў в. Бабовічы Гомельскага р-на ў сялянскай сям'і. Працаваў слесарам на Гомельскім дрэваапрацоўчым камбінаце. Скончыў ваеннае вучылішча. З пачатку Вялікай Айчыннай вайны старшы лейтэнант І. Б. Шылаў на фронце. Трапіў у акружэнне, прабраўся ў Гомель, дзе ўключыўся ў падпольную



1. *Дом палітычнай асветы.*



4. *Помнік на брацкай магіле камунараў.*

барацьбу (група Ц. С. Барадзіна і Р. І. Цімафеенкі). З лістапада 1941 г. член аператыўнага цэнтра. Удзельнічаў у арганізацыі дыверсій на станкабудаўнічым заводзе, тэлефоннай станцыі, чыгунцы, у афіцэрскай сталовай, здабываў нямецкія дакументы, перадаваў звесткі ў партызанскі атрад «Бальшавік». 8.5.1942 г. ў час падрыхтоўкі ўзрыву Гомельскай электрастанцыі арыштаваны і пасля катаванняў 20.6.1942 г. расстраляны. Яго імем названа вуліца ў Гомелі.

Я. І. Хоміч нарадзіўся ў 1913 г. Да вайны працаваў рабочым на чыгунцы. З жніўня 1941 г. падпольшчык групы А. Ц. Брыкса, якая дзейнічала ў паравозным дэпо. Прымаў актыўны ўдзел у барацьбе з акупантамі. Загінуў у 1943 г.

У 1975 г. на магіле устаноўлена надмагілле.

*Літ.:* Агеев М. З., Зеленков М. И. Их именами названы улицы Гомеля.— Мн., 1974; Партизанская криничка.— 2 изд.— Мн., 1972. *В. Б. Караткевіч.*

**6. БРАЦКАЯ МАГІЛА ПАДПОЛЬШЧЫКАЎ І РАБОЧЫХ ПАРАВОЗАВАГОНАРАМОНТНАГА ЗАВОДА** (гіст.). Вул. Міру.

У Вялікую Айчынную вайну на Гомельскім паравозавагонарамонтным заводзе са студзеня 1942 г. дзейнічалі падпольныя камсамольска-маладзёжныя групы (кіраўнік М. В. Піваўараў). Падпольшчыкі псавалі абсталяванне, выводзілі са строю паравозы, распаўсюджвалі лістоўкі, савецкія газеты. Гітлераўцы заслалі на завод свайго агента з фіктыўнымі дакументамі савецкага разведчыка. 5.2.1943 г. ён правёў запіс жадаючых памагчы Чырвонай Арміі. Запісалася каля 200 рабочых. 7 лютага ўсе яны, у т. л. і падпольшчыкі, былі арыштаваны. У той жа дзень на канспіратыўнай кватэры гітлераўцы схапілі яшчэ 5 найбольш актыўных падпольшчыкаў і 22.2.1943 г. пасля катаванняў расстралялі арыштаваных у Назараўскім лесе (за 3 км ад Гомеля).

У 1964 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура салдата.

*Літ.:* В грозные годы.— Мн., 1973; Преступления немецко-фашистских оккупантов в Белоруссии. 1941—1944.— [2 изд.].— Мн., 1965. *В. Б. Караткевіч.*



5. *Брацкая магіла падпольшчыкаў.*




8. *Помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў.*

**7. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). Вул. Тралейбусная. Пахаваны 137 воінаў 101-га і 220-га стралковых палкоў, якія загінулі 17—26.11.1943 г. ў баях за вызваленне Гомеля ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1957 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**8. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). У рабочым пасёлку Касцюкоўка, на вул. Гомельскай, насупраць шклозавода імя М. В. Ламаносава. Пахаваны 15 воінаў, якія загінулі ў кастрычніку — лістападзе 1943 г. ў баях за вызваленне Касцюкоўкі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў.

Напярэдадні Гомельска-Рэчыцкай аперацыі (10—30.11.1943 г.) камандаванне 3-й арміі (генерал-лейтэнант А. В. Гарбатаў) прыняло рашэнне сіламі 3 дывізій перайсці ў наступленне, каб расшырыць плацдарм каля Касцюкоўкі. 12.10.1943 г. 120-я, 121-я гвардзейскія стралковыя і 269-я стралковая дывізіі пачалі наступленне і за 3 гадзіны авалодалі Касцюкоўкай, в. Салабутай і Студзянцом. Падцягнутыя рэзервы ворага і моцная падтрымка іх артылерыяй вымусілі нашы часці адысці. 26.11.1943 г. савецкія войскі перайшлі ў новае наступленне. Да 11 гадзін Касцюкоўка была вызвалена.

У 1965 г. на магіле пастаўлена стэла з барэльефам воіна.

*Літ.:* В грозные годы.— Мн., 1973. *В. Б. Караткевіч.*

**9. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). Вул. Інтэрнацыянальная, ва ўрочышчы Новікаўскі Гай. Пахаваны 8 савецкіх зенітчыц і 45 мірных жыхароў, якія загінулі ў чэрвені 1941 г. ў час налёту варожай авіяцыі на чыгуначны вузел. У 1964 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**10. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАДПОЛЬШЧЫКАЎ** (гіст.). На пл. Працы, у скверы. Пахаваны 21 воін, якія загінулі ў 1943—44 гг. у баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. Сярод пахаваных — Героі Савецкага Саюза Іван Дзіямідавіч Антошкін, Емяльян Ігнатавіч Барыкін, Аляксандр Лаўрынавіч Ісачанка, Іван Георгіевіч Лапін, а таксама члены камсамольска-маладзёжнай падпольнай групы І. І. Жалезнякоў (кіраўнік), З. П. Баравікова, В. Ф. Семяноўскі, П. П. Сцепанцоў.

І. Дз. Антошкін нарадзіўся 25.5.1900 г. ў г. Вязнікі Уладзімірскай вобл. ў рабочай сям'і. Член КПСС з 1924 г. Генерал-маёр авіяцыі (1943 г.). У Чырвонай Арміі з 1919 г. Скончыў ваенную школу лётчыкаў (1926 г.), вышэйшыя авіякурсы ўдасканалення (1938 г.). Удзельнік Грамадзянскай вайны, баёў з японскімі захопнікамі каля р. Халхін-Гол (1939 г.), савецка-фінляндскай вайны 1939—40 гг. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 20.5.1940 г. У Вялікую Айчынную вайну на фронце з 1941 г. Удзельнічаў у баях пад Масквой, у вызваленні Гомеля, Мазыра, Рагачова. Камандзір авіякорпуса І. Дз. Антошкін загінуў у авіяцыйнай катастрофе 2.5.1944 г. Яго імем названа вуліца ў Гомелі.

Е. І. Барыкін нарадзіўся ў жніўні 1902 г. ў в. Тросна Жукаўскага р-на Бранскай вобл. Член КПСС з 1928 г. З 1915 г. рабочы паравознага дэпо станцыі Бранск. З 1937 г. на партыйнай рабоце. У 1941 г. сакратар Гомельскага гаркома КП(б)Б. Удзельнічаў у арганізацыі абароны горада ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў, адзін з стваральнікаў Гомельскага палка народнага апалчэння, у жніўні 1941 г.— партызанскага атрада «Бальшавік». У жніўні 1941 г.— лістападзе 1943 г. сакратар Гомельскага падпольнага гаркома, член Гомельскага падпольнага абкома КП(б)Б. З лістапада 1942 г. начальнік штаба Гомельскага партызанскага злучэння. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 1.1.1944 г. З 1944 г. сакратар Гомельскага гаркома, з 1948 г. сакратар Баранавіцкага абкома КП(б)Б. Член Рэвізійнай камісіі КП(б)Б у 1949—51 гг. Дэпутат Вярхоўнага Савета БССР у 1947—51 гг. Памёр Е. І. Барыкін 25.3.1951 г. Яго імем названы вуліца і школа ў Гомелі, цеплаход.

А. Л. Ісачанка нарадзіўся 14.3.1919 г. ў в. Хоўхла Буда-Кашалёўскага р-на ў сялянскай сям'і. Член КПСС з 1939 г. Скончыў Рэчыцкае педвучылішча. Працаваў сакратаром Гомельскага гаркома камсамола. Адзін з арганізатараў і кіраўнікоў камсамольска-маладзёжнага падполля і партызанскага руху ў Гомельскай вобл. ў Вялікую Айчынную вайну. З жніўня

1941 г. ў партызанскім атрадзе «Бальшавік». Падрыўнік, разведчык, адначасова сакратар Гомельскага падпольнага гаркома ЛКСМБ. Першы на Гомельшчыне вынайшаў спосаб выплаўкі толу з нямецкіх снарадаў. Група падрыўнікоў на чале з А. Л. Ісачанкам пусціла пад адхон 58 эшалонаў ворага, знішчыла 87 аўтамашын, танкаў і бранявікоў. Загінуў А. Л. Ісачанка 7.10.1942 г. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 1.1.1944 г. Яго імем названы вуліца і кінатэатр у Гомелі, судна на падводных крылах.

І. Г. Лапін нарадзіўся 6.12.1916 г. ў в. Лапіна (былая Пешава) Нярэхцкага р-на Кастрамской вобл. ў сялянскай сям'і. Член КПСС з 1942 г. У Вялікую Айчынную вайну на фронце з 1942 г. Вызначыўся ў баі за в. Альшанае Палескай вобл. ў кастрычніку 1943 г. Мінамётная батарэя пад камандаваннем гвардыі старшага лейтэнанта І. Г. Лапіна знішчыла 7 варожых гармат, 2 мінамёты, некалькі дзесяткаў гітлераўцаў, 3.10.1943 г. пры фарсіраванні р. Брагінка падавіла агонь 5 батарэй, знішчыла больш за 100 фашыстаў, прымусіла праціўніка адступіць. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 24.12.1943 г. І. Г. Лапін загінуў у баі 11.2.1944 г. Яго імем названа вуліца ў Гомелі.

З першых дзён акупацыі горада нямецка-фашысцкімі захопнікамі на чыгуначнай станцыі Гомель дзейнічала камсамольска-маладзёжная група І. І. Жалезнякова (нарадзіўся 26.9.1924 г. ў Гомелі ў сям'і чыгуначніка). Члены групы (каля 30 чалавек) падарвалі паравоз, 3 стаянкі ў дэпо, 6 вагонаў, трансфарматарную будку. 9.9.1943 г. гітлераўцы арыштавалі і пасля катаванняў 26.9.1943 г. расстралялі І. І. Жалезнякова, З. П. Баравікову, В. Ф. Семяноўскага, П. П. Сцепанцова. Імем І. І. Жалезнякова названа вуліца ў Гомелі, на будынку школы, дзе ён вучыўся, мемарыяльная дошка.

У 1950 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура салдата са схіленым сцягам, запалены Вечны агонь.

*Літ.:* Агеев М. З., Зеленков М. И. Их именами названы улицы Гомеля.— Мн., 1974; Навечно в сердце народном.— 3 изд.— Мн., 1984. *В. Б. Караткевіч.*

**11. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). Вул. Савецкая, у Студэнцкім парку. Пахаваны 129 воінаў і партызан, якія загінулі ў баях за Гомель у 1941 г. і 1943 г. У 1952 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура салдата.

**12. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАНА** (гіст.). Вул. Барыкіна, на Ляшчынскіх могілках. Пахаваны 277 воінаў 137-га, 231, 209, 667, 1172, 1165-га стралковых, 1565-га зенітнага, 306-га танкавага палкоў 11-й і 63-й армій і 1 партызан, якія загінулі ў лістападзе 1943 г. ў баях за вызваленне Гомеля ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў ці памерлі ад ран. У 1949 г. на магіле пастаўлены абеліск.



*11. Помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў і партызан.*

**13. БРАЦКІЯ МОГІЛКІ САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). Вул. Ільіча, на Навабеліцкіх могілках.

У 114 брацкіх і асобных магілах пахаваны 284 воіны, якія загінулі ў жніўні 1941 г. і лістападзе 1943 г. ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1953 г. на могілках пастаўлены помнікі — скульптура воіна з вянком і 114 абеліскаў.

**14. БУДЫНАК ДЗЯРЖАЎНАГА ІНСТЫТУТА ПРАЕКТАВАННЯ ПРАДПРЫЕМСТВАЎ МАШЫНАБУДАВАННЯ ДЛЯ ЖЫВЁЛАГАДОЎЛІ І КОРМАВЫТВОРЧАСЦІ** (архіт.). На рагу пр. Леніна і вул. Інтэрнацыянальнай. Пабудаваны ў 1974 г. (арх. С. Пеўны). Складаецца з вышыннага адзінаццаціпавярховага корпуса і прамавугольнай ў плане канферэнц-залы, пастаўленых на двухпавярховы стылабат. Кампазіцыя будынка заснавана на кантрасце вышыннага корпуса і прадаўгаватага аб'ёму стылабата. Галоўны ўваход размешчаны ў глыбіні 1-га паверха стылабата, яго 2-і паверх мае суцэльнае зашкленне фасадаў. Падоўжную кампазіцыю ўзмацняюць гарызантальныя цягі парапетаў. Вырашэнне вышыннага корпуса заснавана на спалучэнні вертыкальных алюмініевых цяг з гарызантальнымі міжпаверхавымі прасценкамі. Фасады аб'ёмаў апрацаваны дэкаратыўнай тынкоўкай, лабрадарытам, стэмалітам, канферэнц-зала дэкарыравана рэльефнай кампазіцыяй (скульпт. Дз. Паноў). Планіроўка калідорная з ліфтавымі холамі ў цэнтры. У вышынным корпусе размешчаны службовыя памяшканні, у стылабаце — вестыбюль, сталовая, адміністрацыйныя і гаспадарчыя памяшканні.

Будынак — прыклад грамадскіх збудаванняў савецкай архітэктуры.

*В. Б. Ангелаў.*

**15. БУДЫНАК, НАД ЯКІМ БЫЎ УЗНЯТЫ СЦЯГ ВЫЗВАЛЕННЯ** (гіст.). Вул. Фрунзе, 9. Войскі 11-й і 63-й армій Беларускага фронту фарсіравалі р. Сож і 26.11.1943 г. вызвалілі Гомель ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. Воіны 39-га стралковага палка



*14. Будынак Дзяржаўнага інстытута праектавання прадпрыемстваў машынабудавання для жывёлагадоўлі і кормавытворчасці.*

4-й стралковай дывізіі 11-й арміі яфрэйтар Ф. Васільеў і лейтэнант Г. В. Кірылюк узнялі над будынкам электрастанцыі Чырвоны Сцяг. У 1973 г. ў памяць аб гэтай падзеі на будынку ўстаноўлена мемарыяльная дошка.

**16. БУДЫНАК СПЕЦЫЯЛІЗАВАНАГА КАНСТРУКТАРСКАГА БЮРО ЗАВОДА РАДЫЕТЭХНАЛАГІЧНАЙ АСНАСТКІ** (архіт.). На рагу вуліц Інжынернай і Лепяшынскага. Пабудаваны ў 1982 г. (арх. С. Пеўны). Складаецца з вышыннага дванаццаціпавярховага корпуса і круглага ў плане аб'ёму канферэнц-залы (на 550 месцаў), пастаўленых на двухпавярховы прамавугольны ў плане стылабат. Кампазіцыя дванаццаціпавярховага корпуса заснавана на спалучэнні 2 аб'ёмаў, вырашаных у выглядзе пласцін. У аснове кампазіцыі фасадаў — кантраст глухіх і зашклёных паверхняў сцен. Стылабат мае стужкавае зашкленне фасадаў. Падоўжную кампазіцыю ўзмацняюць гарызантальныя цягі парапетаў. Пластычная круглая форма аб'ёму канферэнц-залы і пласціны вышыннага корпуса ствараюць кантраст у архітэктуры будынка. Фасады аб'ёму апрацаваны дэкаратыўнай тынкоўкай, гранітнымі і мармуровымі плітамі, стэмалітам. У аддзелцы інтэр'ераў выкарыстаны мармур, траверцін, ракушачнік, гіпс, алюміній. У дванаццаціпавярховым аб'ёме размешчаны службовыя памяшканні, у двухпавярховым стылабаце — вестыбюльная група памяшканняў, сталовая, кулуары канферэнц-залы, службовыя і дапаможныя памяшканні.

Будынак — прыклад грамадскіх збудаванняў савецкай архітэктуры.

*В. Б. Ангелаў.*

**17. БУДЫНАК, У ЯКІМ АДБЫЛОСЯ ЎРАЧЫСТАЕ ПАСЯДЖЭННЕ Ў ГОНАР 25-ГОДДЗЯ БССР** (гіст.). Вул. Севастопальская, 61, клуб фанернa-запалкавага камбіната.

1.1.1944 г. тут адбылося ўрачыстае пасяджэнне Гомельскага абласнога і гарадскога Саветаў дэпутатаў працоўных разам з прадстаўнікамі партыйных, грамадскіх арганізацый і Чырвонай Арміі ў сувязі з 25-й гадавінай утварэння БССР. Прысутнічалі: першы сакратар ЦК КП(б)Б П. К. Панамарэнка, старшыня Прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР Н. Я. Наталевіч, старшыня СНК БССР І. С. Былінскі, камандуючы Беларускім фронтам генерал арміі К. К. Ракасоўскі. З дакладам выступіў П. К. Панамарэнка. Удзельнікі пасяджэння прынялі зварот да беларускага народа. У прывітанні ЦК ВКП(б) і СНК СССР выказана ўпэўненасць, што народ Беларусі разам з іншымі народамі СССР будзе і надалей бясстрашна змагацца за перамогу над нямецка-фашысцкімі захопнікамі. У азнаменаванне 25-й гадавіны БССР Прэзідыум Вярхоўнага Савета СССР Указам ад 1.1.1944 г. ўзнагародзіў 531 чалавека ордэнамі і медалямі за дасягненні ў развіцці гаспадаркі, культуры, навукі і мастацтва рэспублікі і за выдатныя поспехі ў арганізацыі партызанскай барацьбы супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена арганізатарам партызанскага руху: А. С. Азончыку, Е. І. Барыкіну, І. К. Захараву, М. В. Зябліцкаму, А. Л. Ісачанку, М. П. Каралёву, А. Я. Кляшчову, І. П. Кожару, Ф. П. Котчанку, В. І. Лівенцаву, С. С. Манковічу, Ф. Р. Маркаву, Р. Н. Мачульскаму, С. І. Сікорскаму, І. М. Цімчуку, І. П. Ціткову, У. А. Ціхаміраву, В. Я. Чарнышову.



17. *Будынак, у якім адбылося ўрачыстае пасяджэнне ў гонар 25-годдзя БССР.*

У 1961 г. ў памяць аб урачыстым пасяджэнні на будынку клуба ўстаноўлена мемарыяльная дошка.

*Літ.*: Очерки истории Коммунистической партии Белоруссии. Ч. 2 (1921—1966).— Мн., 1967. *В. Б. Караткевіч.*

**18. БУДЫНАК, У ЯКІМ ЗНАХОДЗІЎСЯ ЦК КП(б)Б** (гіст.). Вул. Пралетарская, 15. У гэтым будынку з сярэдзіны ліпеня да 19.8.1941 г. знаходзіўся ЦК КП(б)Б.

ЦК КП(б)Б разгарнуў работу па рэалізацыі пастановы ЦК ВКП(б) ад 18.7.1941 г. «Аб арганізацыі барацьбы ў тыле германскіх войск». Першы сакратар ЦК КП(б)Б П. К. Панамарэнка, сакратары М. Я. Аўхімовіч, У. Р. Ванееў, І. П. Ганенка, Ц. С. Гарбуноў, П. З. Калінін, У. Н. Малін, І. І. Рыжыкаў, Р. Б. Эйдзінаў, старшыня СНК БССР І. С. Былінскі, сакратар ЦК ЛКСМБ М. В. Зімянін непасрэдна ўдзельнічалі ў арганізацыі падполля і партызанскай барацьбы ў акупіраваных раёнах рэспублікі. У канцы ліпеня 1941 г. ў тыл ворага накіраваны 140 арганізацыйных і дыверсійных груп (1036 чалавек). ЦК КП(б)Б вялікую ўвагу аддаваў арганізацыі падполля і партызанскай барацьбы ў вобласці. З 1 па 16 жніўня былі падрыхтаваны 44 групы (432 чалавекі, у т. л. 229 камуністаў, 87 камсамольцаў).

У 1975 г. на будынку, дзе знаходзіўся ЦК КП(б)Б, устаноўлена мемарыяльная дошка. *В. Б. Караткевіч.*

**19. БУДЫНАК ЦЫРКА** (архіт.). Вул. Савецкая, 27. Пабудаваны ў 1972 г. паводле паўторна выкарыстанага праекта, распрацаванага ў Цэнтральным навукова-даследчым і праектным інстытуце відовішчных і спартыўных збудаванняў [арх. М. Шульмейстар, Ю. Маторын, А. Кудраўцаў (Масква), Ш. Хінчын (Гомель)].

Кампазіцыя складаецца з некалькіх аб'ёмаў, аб'яднаных адзіным прамавугольным у плане паверхам. У сілуэце будынка дамінуе чашападобнай формы амфітэатр, перакрыты пакатым сферычным купалам. Тут знаходзіцца відовішчная частка будынка (зала



16. *Будынак спецыялізаванага канструктарскага бюро завода радыётэхналагічнай аснасткі.*



18. *Будынак, у якім знаходзіўся ЦК КП(б)Б.*

на 1856 месцаў з манежам, эстрадай і аркестравай пляцоўкай). Асноўны аб'ём размешчаны на прамавугольным у плане стылабаце. У ім знаходзяцца касавы вестыбюль, гардэробы, парадныя лесвіцы, развіты блок службовых, артыстычных і дапаможных памяшканняў. Амфітэатр абкружаны зашклёным фае з выхадам на тэрасу, зробленую на даху ніжняга аб'ёму. Вальеры для жывёл размешчаны ва ўнутраным дворыку і звязаны непасрэдна з манежам. Каля будынка плошча з басейнам, кветнікі, Піянерскі парк.

Будынак цырка — прыклад відовішчна-грамадзянскіх збудаванняў савецкай архітэктуры. *В. М. Ладзіс.*

**20. БУДЫНАК ЧЫГУНАЧНАГА ВАКЗАЛА, МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА КАЛІНІНУ** Міхаілу Іванавічу (архіт., гіст.). Прывакзальная плошча.

Будынак чыгуначнага вакзала пабудаваны ў 1890-я гады з цэглы. У Вялікую Айчынную вайну разбураны. Адноўлены ў 1946 г. Размешчаны па цэнтральнай восі плошчы.

Будынак padoўжна-сіметрычнай кампазіцыі: да дамінуючага прамавугольнага цэнтральнага трохпавярховага аб'ёму прылягаюць двухпавярховыя бакавыя крылы. Архітэктурнае аздабленне мае эклектычны характар, спалучае элементы розных стыляў. Галоўны фасад завершаны атыкам, вылучаны 2 рызалітамі з пілястрамі кампазітнага ордэра. Рытм ствараюць закрытыя вітражамі вялікія арачныя праёмы на вышыню 2-га і 3-га паверхаў. Фасады бакавых крылаў завершаны трохвугольнымі франтонамі, дэкарыраваны порцікамі карынфскага ордэра, лучковымі вокнамі на 2-м паверсе і балконамі. Інтэр'еры апрацаваны мармурам, тынкоўкай, гіпсам. У вестыбюлі цэнтральнага аб'ёму ўстаноўлена скульптура У. І. Леніна. Вестыбюль аб'ядноўвае 1-ы і 2-і паверхі, абапал яго касавыя залы, на 2-м паверсе размешчаны залы чакання. У крылах знаходзяцца службовыя і дапаможныя памяшканні.

Будынак вакзала — помнік грамадзянскай архітэктуры.

Мемарыяльная дошка Калініну Міхаілу Івававічу. Устаноўлена ў 1964 г. ў памяць аб выступленні 16.6.1919 г. на станцыі Гомель на мітынгу рабочых і чырвонагвардзейцаў М. І. Калініна, які прыбыў сюды на чале агітпоезда «Кастрычніцкая рэвалюцыя».

*В. М. Чарнатаў, В. Б. Караткевіч.*



19. *Будынак цырка. План.*



19. *Будынак цырка.*

**21. БЮСТ ГРАМЫКІ** Андрэя Андрэевіча (гіст.). На вул. Савецкай, у Піянерскім скверы.

Савецкі дзяржаўны і партыйны дзеяч, член Палітбюро ЦК КПСС, першы намеснік Старшыні Савета Міністраў СССР, міністр замежных спраў, двойчы Герой Сацыялістычнай Працы А. А. Грамыка нарадзіўся 5.7. 1909 г. ў в. Старыя Грамыкі Веткаўскага р-на ў сялянскай сям'і. Член КПСС з 1931 г. Скончыў эканамічны інстытут (1932 г.). Доктар эканамічных навук (1956 г.). У 1936—39 гг. старшы навуковы супрацоўнік Інстытута эканомікі АН СССР. З 1939 г. загадчык аддзела амерыканскіх краін Наркамата замежных спраў СССР, саветнік пасольства СССР у ЗША, у 1943—46 гг. надзвычайны і паўнамоцны пасол СССР у ЗША і адначасова надзвычайны і паўнамоцны пасланнік у Рэспубліцы Куба. У 1946—48 гг. пастаянны прадстаўнік СССР у Савеце Бяспекі ААН і адначасова намеснік міністра замежных спраў СССР. У 1948—52 гг. намеснік, першы намеснік міністра замежных спраў СССР. З чэрвеня 1952 г. надзвычайны і паўнамоцны пасол СССР у Вялікабрытаніі. З красавіка 1953 г. першы намеснік міністра, з лютага 1957 г. міністр замежных спраў СССР. Адначасова з сакавіка 1983 г. першы намеснік Старшыні Савета Міністраў СССР. У 1944 г. ўзначальваў дэлегацыю СССР на канферэнцыі ў Думбартан-Оксе па стварэнню ААН, у 1945 г. ўдзельнічаў у рабоце Крымскай, Патсдамскай канферэнцый кіраўнікоў урадаў СССР, ЗША,



21. *Бюст А. А. Грамыкі.*

Вялікабрытаніі, член, потым кіраўнік савецкай дэлегацыі на канферэнцыі Аб'яднаных нацый у Сан-Францыска, якая прыняла Статут ААН, неаднаразова ўдзельнічаў у нарадах міністраў замежных спраў СССР, ЗША, Вялікабрытаніі, Францыі; шмат разоў узначальваў савецкія дэлегацыі на сесіях Генеральнай Асамблеі ААН, на міжнародных канферэнцыях па праблемах знешняй палітыкі. Удзельнік нарад Палітычнага кансультатыўнага камітэта дзяржаў — удзельніц Варшаўскага дагавору і іншых міжнародных канферэнцый і нарад міністраў замежных спраў сацыялістычных краін. Кандыдат у члены ЦК КПСС з 1952 г., член ЦК КПСС з 1956 г., член Палітбюро ЦК КПСС з красавіка 1973 г. Дэпутат Вярхоўнага Савета СССР у 1946—50 гг. і з 1958 г. Званне Героя Сацыялістычнай Працы прысвоена 17.7.1969 г. і 17.7.1979 г.

А. А. Грамыка безупынна і плённа працуе над ажыццяўленнем Праграмы КПСС барацьбы за мір і міжнароднага супрацоўніцтва, за свабоду і незалежнасць народаў, над распрацоўкай і здзяйсненнем новых мірных ініцыятыў СССР за спыненне гонкі ўзбраенняў іператварэнне Еўрапейскага кантынента і іншых рэгіёнаў планеты ў раёны трывалага міру.

Бронзавы бюст А. А. Грамыкі ўстаноўлены ў 1983 г. (скульпт. І. Рукавішнікаў, арх. А. Клімачкін, М. Пасохін; вышыня пастамента 3 м, вышыня бюста 1,1 м).

**22. ВАГОНАРАМОНТНЫ ЗАВОД ІМЯ М. І. КАЛІНІНА** (гіст.). Вул. Хімакова, 4.

**22а.** Вагонарамонтны завод імя М. І. Калініна заснаваны ў 1874 г. як галоўныя механічныя майстэрні Лібава-Роменскай чыгункі. У 1929 г. на базе майстэрняў створаны паравозавагонарамонтны, з 1945 г. вагонарамонтны завод, у 1967 г. прысвоена імя М. І. Калініна.

Рабочыя завода актыўна ўдзельнічалі ў рэвалюцыйным руху. 11.7.1886 г. тут адбылася забастоўка, у якой удзельнічала 500 рабочых, у 1899 г. баставала каля 1000 чал. У 1890 г. створаны сацыял-дэмакратычны гурток. У Рэвалюцыю 1905—07 гг. рабочыя майстэрняў былі ў авангардзе барацьбы гомельскага пралетарыяту. Члены заводскай групы РСДРП(б) (каля 50 чалавек у 1905 г.) друкавалі і распаўсюджвалі лістоўкі, арганізоўвалі лекцыі для рабочых. У 1914 г. ў майстэрнях 1220 рабочых, працавалі паравыя машыны. У Лютаўскую рэвалюцыю 1917 г. рабочыя змагаліся супраць палітыкі Часовага ўрада, у жніўні 1917 г. стварылі чырвонагвардзейскі атрад для барацьбы з карнілаўшчынай, удзельнічалі ў барацьбе за ўстанаўленне Савецкай улады, у ліпені 1918 г. выступілі ініцыятарамі забастоўкі чыгуначнікаў супраць нямецкіх акупантаў. За гады даваенных пяцігодак завод стаў буйным, добра абсталяваным прадпрыемствам, былі павялічаны вытворчыя плошчы, пабудаваны сталеліцейны цэх на 2 канвертары. У Вялікую Айчынную вайну завод эвакуіраваны ў жніўні 1941 г. ў Уфу. Адноўлены і рэканструяваны



20. *Будынак чыгуначнага вакзала. План.*



20. *Будынак чыгуначнага вакзала.*

ў Гомелі ў 1943—58 гг. Рамантуе пасажырскія вагоны, вырабляе запчасткі. Узнагароджаны ордэнам Працоўнага Чырвонага Сцяга (1974 г.). Пры заводзе 2 бібліятэкі, пункт аховы здароўя, прафілакторый, піянерскі лагер, 3 дашкольныя ўстановы, музей рэвалюцыйнай, баявой і працоўнай славы.

**22б.** Месца працы Хімакова Івана Арцёмавіча.

Удзельнік барацьбы за Савецкую ўладу на Беларусі, Герой Працы (1927 г.) І. А. Хімакоў нарадзіўся ў 1879 г. ў в. Бабовічы Гомельскага р-на ў сялянскай сям'і. Член КПСС з 1918 г. Працоўную дзейнасць пачаў у 1895 г. рабочым на Гомельскім чыгуначным вузле. Удзельнік Рэвалюцыі 1905—07 гг., Лютаўскай і Кастрычніцкай рэвалюцый 1917 г. Пасля Лютаўскай рэвалюцыі І. А. Хімакоў — член, потым старшыня райкома прафсаюза чыгуначнікаў. У час карнілаўскага мяцяжу ўдзельнічаў у затрыманні на ўчастку Гомель — Жлобін 25 эшалонаў карнілаўскіх войск. У канцы 1917 г. ўзначальваў дэлегацыю гомельскіх рабочых да У. І. Леніна, удзельнічаў у стварэнні чырвонагвардзейскіх атрадаў. У час акупацыі Гомеля ў 1918 г. войскамі кайзераўскай Германіі на падпольнай рабоце, адзін з арганізатараў і кіраўнікоў забастоўкі чыгуначнікаў у ліпені 1918 г. Удзельнічаў у аднаўленні Савецкай улады ў Гомелі, з 1919 г. камісар чыгуначнага вузла, старшыня транспартнага спажывецкага таварыства Заходніх чыгунак. З 1929 г. дырэктар Гомельскага паравозавагонарамонтнага завода. Удзельнік І Усерасійскага з'езда Саветаў (1917 г.), XI з'езда РКП(б) (1922 г.). Член ЦК КП(б)Б у 1930—34 гг.

Памёр І. А. Хімакоў у 1937 г. Яго імем названа вуліца ў Гомелі.

**22в.** Месца працы Якубава Ігната Маркавіча.

Удзельнік барацьбы за Савецкую ўладу на Беларусі І. М. Якубаў нарадзіўся ў 1878 г. ў в. Роўкавічы Чачэрскага р-на Гомельскай вобл. ў сялянскай сям'і. Член КПСС з 1903 г. Удзельнік рэвалюцыйнага руху з 1901 г. Стварыў і ўзначаліў бальшавіцкую ячэйку ў механічных майстэрнях Лібава-Роменскай чыгункі, дзе працаваў рабочым з 1903 г. Удзельнік Рэвалюцыі 1905—07 гг., адзін з арганізатараў і кіраўнікоў забастоўна Гомельскім чыгуначным вузле ў 1915 г. і ліпені 1917 г. З сакавіка 1916 г. член Палескага камітэта РСДРП(б), вёў рэвалюцыйную прапаганду сярод салдат Гомельскага размеркавальнага пункта. Удзельнік Лютаўскай і Кастрычніцкай рэвалюцый 1917 г., член Гомельскага Савета рабочых і салдацкіх дэпутатаў, дэлегат І Усерасійскага з'езда Саветаў. У жніўні 1917 г. сфарміраваў і ўзначаліў чырвонагвардзейскі атрад чыгуначнікаў для барацьбы з карнілаўшчынай. У 1918 г. ў Чырвонай Арміі, на Заходнім фронце. З студзеня 1919 г. член выканкома Гомельскага павятовага Савета, загадчык земаддзела. Памёр І. М. Якубаў у лютым 1920 г.

У 1952 г. на ўшанаванне яго памяці на адміністрацыйным будынку вагонарамонтнага завода ўстаноўлена мемарыяльная дошка.

**22г.** Месца выступлення Калініна Міхаіла Іванавіча. У чэрвені 1919 г. М. І. Калінін на чале агітацыйна-інструктарскага поезда «Кастрычніцкая рэвалюцыя» наведаў Гомель. Ён пабываў у галоўных механічных майстэрнях, дзе выступіў на мітынгу ў паравозазборачным цэху (прысутнічала каля 3 тыс. рабочых). Пасля мітынгу М. І. Калінін правёў гутарку з членамі партячэйкі, заўкома, з прадстаўнікамі адміністрацыі, гаварыў аб задачах прадпрыемства, цікавіўся жыццём рабочых.

У 1962 г. ў памяць аб выступленні М. І. Калініна на будынку завода ўстаноўлена мемарыяльная дошка.

**22д.** Месца дзейнасці падпольнай камсамольска-маладзёжнай арганізацыі. У студзені 1942 г.— лютым 1943 г. на паравозавагонарамонтным заводзе дзейнічалі падпольныя камсамольска-маладзёжныя групы (каля 70 чалавек, кіраўнік М. В. Піваварaў). Да лета 1942 г. арганізацыя была звязана з Ц. С. Барадзіным, пасля яго гібелі з сакратаром Гомельскага падпольнага гаркома ЛКСМБ А. Л. Ісачанкам. Падпольшчыкі распаўсюджвалі лістоўкі, савецкія газеты, выводзілі са строю абсталяванне. У маі 1942 г. сапсавалі паравы молат і на доўгі час спынілі работу кавальскага цэха. У ноч на 4.2.1943 г. ў гонар перамогі савецкіх войск пад Сталінградам узнялі над заводам чырвоны сцяг. 7.2.1943 г. гітлераўцы арыштавалі і 22 лютага расстралялі разам з 200 рабочымі завода І. А. Анкудзінава, М. А. Алімава, М. З. Бетанава, А. І. Валковіча, Г. Л. Дзятлава, В. Жалезнякова, С. В. Кандрацьева, Ф. М. Марозава, М. В. Піваварава, П. Папкова, І. Пупейку, Я. К. Слепянкова, У. Ф. Ясінскага, Р. У. Ярыгіна і іншых падпольшчыкаў.

У 1965 г. на ўшанаванне памяці падпольшчыкаў на прахадной завода ўстаноўлена мемарыяльная дошка. Гл. артыкул № 6 «Брацкая магіла падпольшчыкаў і рабочых паравозавагонарамонтнага завода».

**22е.** Помнік рабочым завода. Каля адміністрацыйнага будынка завода. У 1967 г. на ўшанаванне памяці 29 рабочых, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў, пастаўлены абеліск, абапал яго ў 1971 г.— стэлы з выявамі жанчыны ў жалобе, воіна з аўтаматам, чашы з Вечным агнём.

*Літ.:* Агеев М. З., Зеленков М. И. Их именами названы улицы Гомеля.— Мн., 1974; Гомельский вагоноремонтный.— Мн., 1966; В грозные годы.— Мн., 1973; Диренок Е. Д. Полесская организация большевиков в борьбе против царизма (1903 — март 1917 гг.).— Мн., 1965; Яцкевіч І., М. І. Калінін у Савецкай Беларусі.— Мн., 1970. *В. Б. Караткевіч.*



22. *Вагонарамонтны завод імя М. І. Калініна. Выгляд з боку прахадной.*

**23. ГАРАДЗІШЧА** (археал.). На правым беразе р. Сож, на месцы былой в. Любна (цяпер пас. Фестывальны), каля воднай станцыі.

Пляцоўка трохвугольная, памерам 102×108 м. З боку поля ўмацавана 3 валамі вышынёй ад 1,5 да 2 м. Вядома з канца 19 ст., даследавалі ў 1925 г. І. Х. Юшчанка, у 1928 г. К. М. Палікарповіч, у 1936 г. А. М. Ляўданскі і А. Дз. Каваленя, у 1977—78 гг. У. І. Сычоў. Культурны пласт 1 м. Выяўлены рэшткі жытлаў, агнішчаў, ямы рознага прызначэння. Знойдзены неалітычная (грубаляпная гладкасценная і арнаментаваная) кераміка, крамянёвыя скрабкі, сякеры, жалезныя бранзалеты, шмат гліняных праслiц з арнаментам, бляшаныя рыбалоўныя кручкі, крэсівы, шлак, косці дзікіх і свойскіх жывёл і інш. Гарадзішча было пабудавана на месцы неалітычнага паселішча. Адносіцца да мілаградскай і ранняга этапа зарубінецкай культур.

Матэрыялы раскопак зберагаюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

*Літ.:* Даўгяла Д. І. Новыя раскопкі каля Гомеля.— У кн.: Гістарычна-археалагічны зборнік. Мн., 1927, № 1; Ляўданскі А. М., Палікарповіч К. М. Да гісторыі жалезнай прамысловасці на Беларусі па даных археалогіі.— Савецкая краіна, 1932, № 5. *У. Дз. Будзько.*



**23.** *Гарадзішча. План.*




**25а.** *Гарадзішча. План.*

**24. ГАРАДЗІШЧА** (археал.). За 3 км на поўнач ад рабочага пасёлка Касцюкоўка, ва ўрочышчы Кабыліна Балота, на востраве. Плошча каля 1 га. Вядома з 1873 г., абследавалі ў 1910 г. Е. Р. Раманаў, у 1964 г. Л. Д. Побаль. Раскопкі не праводзіліся.

**25. ГАРАДЗІШЧА І ПАСАД СТАРАЖЫТНАГА ГОМЕЛЯ** (археал.).

**25а.** Гарадзішча. На высокім правым беразе р. Сож, каля ўпадзення ў яе ручая Гомія (Гамеюка), ва ўсходняй частцы горада. Даследавалі ў 1926 г. І. Х. Юшчанка, у 1975 г. М. А. Ткачоў. Знойдзены кераміка і рэчы мілаградскай і зарубінецкай культур. Культурны пласт 11—13 стагоддзяў да 1,2 м. У ім знойдзены кераміка, шкляныя бранзалеты, пацеркі, шыферныя праслiцы, сашнік, ювелірны пінцэт і інш. рэчы. Матэрыялы раскопак зберагаюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР і Гомельскім абласным краязнаўчым музеі.

Паводле археалагічных даных Гомель узнік у 11 ст. на месцы паселішчаў неаліту і бронзавага веку як парубежны замак. У эпоху Кіеўскай Русі быў умацаваным паселішчам. Дзядзінец старажытнага Гомеля, пягледзячы на значную плошчу (1,5 га), быў слаба населены.

**25б.** Пасад. Узнік у 11 ст. і развіваўся на правым беразе Гамеюка, у 12—14 стагоддзях пашырыўся на абодва берагі Гамеюка і агінаў дзядзінец з захаду і поўначы. Аддзяляўся ад дзядзінца вялікім дугападобным ровам.

*Літ.:* Полное собрание русских летописей. Т. 2.— М., 1962; Жудро Ф. А., Сербов И. А., Довгялло Д. И. Город Гомель.— Вильна, 1911; Ткачёв М. А. Работы в Белорусском Посожье.— У кн.: Археологические открытия 1975 года. М., 1976. *М. А. Ткачоў.*

**26. ДОМ, ДЗЕ ЖЫЎ ДВОРНІКАЎ** Мікалай Мікалаевіч (гіст.). Вул. Пятроўскага, 53. Тут у 1912—30 гг. жыў вядомы дзеяч рэвалюцыйнага руху ў Заходняй Беларусі М. М. Дворнікаў.

М. М. Дворнікаў (партыйныя псеўданімы Стах Тамашэвіч, Максім, Роберт) нарадзіўся 6.12.1907 г. ў Гомелі ў рабочай сям'і. Член КПСС з 1929 г. З 1928 г. працаваў на будаўніцтве завода «Гомсельмаш», з 1929 г. сакратар камсамольскай арганізацыі завода, з 1930 г. сакратар Цэрахоўскага, Жлобінскага райкомаў ЛКСМБ, загадчык аддзела і член бюро ЦК ЛКСМБ. З лістапада 1932 г. на падпольнай рабоце ў Заходняй Беларусі. Сакратар Беластоцкага, потым Брэсцкага акруговых камітэтаў КСМЗБ, з лістапада 1934 г. член сакратарыята, з жніўня 1935 г. сакратар ЦК КСМЗБ. У 1937—38 гг. змагаўся супраць фашызму ў Іспаніі. Камісар польскага батальёна імя Палафокса, камандзір украінскай роты імя Т. Шаўчэнкі ў складзе інтэрнацыянальнай брыгады імя Я. Дамброўскага. 16.2.1938 г. пры штурме фашысцкіх пазіцый у гарах Эстрамадуры М. М. Дворнікаў быў параненты. Акружаны ворагамі, падарваў іх і сябе гранатай. Імем М. М. Дворнікава названы вуліцы ў Гомелі, Брэсце. У 1970 г. на доме, дзе ён жыў, і на будынку прахадной «Гомсельмаша» устаноўлены мемарыяльныя дошкі.

*Літ.:* Драбінскі Я. І. Ад Гомеля да Эстрамадуры: Аповесць пра жыццё М. Дворнікава.— Мн., 1975; Арэхва М. Жыццё, аддадзенае барацьбе. Стах Тамашэвіч.— Полымя, 1959, № 4; Ласковіч В. Мікалай Дворнікаў на Брэстчыне.— Полымя, 1968, № 2. *Г. Б. Ватковіч.*



**27.** *Дом, дзе размяшчаўся штаб 1-га Беларускага фронту.*

**27. ДОМ, ДЗЕ РАЗМЯШЧАЎСЯ ШТАБ 1-ГА БЕЛАРУСКАГА ФРОНТУ** (гіст.). Вул. Ракасоўскага, 61.

У гэтым доме на былой Адэскай вуліцы з 7.12.1943 г. да 10.4.1944 г. размяшчаўся штаб Беларускага фронту (з 17.2.1944 г.— 1-ы Беларускі фронт). Камандуючы фронтам генерал арміі К. К. Ракасоўскі, начальнік штаба генерал-палкоўнік М. С. Малінін. Штаб кіраваў аперацыямі войск па завяршэнню прарыву нямецкай абароны на так званым «Усходнім вале» і забеспячэнню наступальных аперацый па вызваленню Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў.

У 1962 г. на доме, дзе размяшчаўся штаб, устаноўлена мемарыяльная дошка, вул. Адэская перайменавана ў вул. Ракасоўскага.

*Літ.:* Рокоссовский К. К. Солдатский долг.— 2 изд.— М., 1972; Царкоў М. С. Гомель, вуліца Ракасоўскага...— Помнікі гісторыі і культуры Беларусі, 1971, № 1. *В. Б. Караткевіч.*

**28. ДОМ КУЛЬТУРЫ БУДАЎНІКОЎ АБ'ЯДНАННЯ «ГОМЕЛЬПРАМБУД»** (архіт., гіст.). Вул. Першамайская, 16.

Пабудаваны ў 1974 г. з цэглы і зборнага жалезабетону. За аснову прыняты тыпавы праект, распрацаваны Беларускім дзяржаўным праектным інстытутам у 1969 г. (частковыя змены выкананы Гомельскім інстытутам грамадзянскага праектавання ў 1971 г.). Будынак складаецца са абла-



28. *Дом культуры будаўнікоў аб'яднання «Гомельпрамбуд».*



28. *Дом культуры будаўнікоў аб'яднання «Гомельпрамбуд». План.*



28. *Дом культуры будаўнікоў аб'яднання «Гомельпрамбуд». Фае.*

кіраваных аб'ёмаў цэнтральнай клубнай часткі, плавальнага басейна і спартыўнай залы. Будынак клубнай часткі чатырохпавярховы, прамавугольны ў плане, на галоўным і бакавых фасадах выступаюць аб'ёмы лесвічных клетак. Уваходная частка вылучана дзевяціметровым казырком. Пластычную напружанасць галоўнага фасада ствараюць навясныя спараныя рэбры-панелі, якія аб'ядноўваюць 3 верхнія паверхі. Прынцып члянення фасадаў вертыкальнымі элементамі паўтараецца і ў астатніх аб'ёмах комплексу. Выразнасць інтэр'ераў (арх. М. Р. Ліпаў) дасягаецца кантрастам фактуры і колеру розных сучасных аддзелачных матэрыялаў (сілакпор, павінол, вініліс-скура, рэльефныя гіпсавыя, бетонныя, азбеставыя пліты і інш.), спалучэннем іх з дрэвам і ажурнымі металічнымі элементамі (канструкцыя столі-свяцільні танцзалы, афармленне тарцовых сцен на лесвічных клетках і інш.).

Будынак Дома культуры — прыклад грамадзянскай архітэктуры 1970-х гадоў.

На месцы, дзе пабудаваны Дом культуры, стаяў будынак, у якім у ліпені — жніўні 1941 г. размяшчаўся штаб Гомельскага палка народнага апалчэння. У 1977 г. на ўшанаванне памяці апалчэнцаў на будынку Дома культуры ўстаноўлена мемарыяльная дошка. Гл. артыкул № 51 «Магіла гомельскіх апалчэнцаў і магіла Барадзіна Цімафея Сцяпанавіча».

*Літ.:* В грозные годы.— Мн., 1973; Андрющенко Н. К. Народное ополчение Белоруссии.— Мн., 1980.

*А. М. Міцянін, В. Б. Караткевіч.*

**29. ДОМ ПАДПОЛЬНАЙ ГРУПЫ БАРАДЗІНА** Цімафея Сцяпанавіча **І ЦІМАФЕЕНКІ** Рамана Іларыёнавіча (гіст.). Вул. Савецкая, 50.

Тут у верасні 1941 г.— маі 1942 г. была явачная кватэра падпольнай групы Ц. С. Барадзіна і Р. І. Цімафеенкі. У групу ўваходзіла больш за 30 чалавек: А. С., Л. С., М. А. Барадзіны, Р. П. Гапееў, Н. С. Жалезнякоў,



29. *Дом, у якім была явачная кватэра падпольнай групы Ц. С. Барадзіна і Р. І. Цімафеенкі.*



30. *Дом сувязі.*

Н. Я. Карпенка, В. А. Любімаў, Т. М. і В. Т. Мядзведзевы, К. С. Пупынін, Л. І. Шулькін, І. Б. Шылаў і інш. Падпольшчыкі друкавалі і распаўсюджвалі лістоўкі, спалілі бензасховішча ў Навабеліцы, рабілі дыверсіі на чыгуначным вузле. У кастрычніку 1941 г. Ц. С. Барадзін, Р. І. Цімафеенка, І. Б. Шылаў і Н. С. Жалезнякоў узарвалі майстэрню па рамонту танкаў. 4.11.1941 г. І. Б. Шылаў падклаў міну ў рэстаране па вул. Савецкай. Выбухам было знішчана каля 100 нямецкіх афіцэраў і генерал. У барацьбе з акупантамі загінулі: Ц. С. Барадзін, Р. І. Цімафеенка, І. Б. Шылаў, Л. І. Шулькін, К. С. Пупынін, Н. С. Жалезнякоў, Н. Я. Карпенка і інш.

У 1970 г. на доме ўстаноўлена мемарыяльная дошка. *В. Б. Караткевіч.*

**30. ДОМ СУВЯЗІ** (архіт.). Праспект Леніна, 1. Пабудаваны ў 1981 г. з цэглы і жалезабетону (арх. Р. Ціхаў, інж. Н. Даронін, В. Дабравольская).

Складаецца з некалькіх рознавялікіх аб'ёмаў, згрупаваных вакол унутранага дворыка. 14- і 3-паверховы аб'ёмы арыентаваны на пл. Леніна, 5- і 2-павярховыя — на праспект Леніна. Кампазіцыя арыентаванага на пл. Леніна галоўнага фасада грунтуецца на кантрастным процiпастаўленні 14-павярховага і выцягнутага 3-павярховага аб'ёмаў. За межы фасадаў вынесены гарызантальныя парапеты. Фасад 14-павярховага аб'ёму дэкарыраваны вертыкальнымі жалезабетоннымі рэбрамі, 3-павярховага — 5 парамі свяцільняў. У вонкавай апрацоўцы будынкаў выкарыстаны мар-



31. *Будынак былога дома ўрача.*



31. *Будынак былога дома ўрача. План.*



31. *Будынак былога дома ўрача. Фрагмент дэкору.*



32. *Дом-камуна.*



32. *Дом-камуна. План 2-га паверха.*

мур, алюміній, гіпсавая плітка, дэкаратыўны тынк.

Унутраная планіроўка будынкаў — калідорная і анфіладная. У 14-павярховым і 3-павярховым карпусах знаходзяцца тэлеграфна-тэлефонная станцыя, абласное вытворча-тэхнічнае ўпраўленне сувязі і інш. службы, у 2-павярховым — паштамт, канферэнц-зала на 450 месцаў, сталовая і інш., у 5-павярховым — цэнтральны тэлеграф, міжгародняя тэлефонная станцыя. Перад галоўным фасадам дэкаратыўны басейн, кветнікі.

Дом сувязі — прыклад грамадскіх будынкаў савецкай архітэктуры.

*Т. І. Чарняўская.*

**31. ДОМ УРАЧА** (архіт.). Вул. Першамайская, 13. Пабудаваны ў 1903 г. з цэглы (арх. С. Шабунеўскі). Цяпер тут Дом грамадзянскіх абрадаў.

Да аднапавярховага квадратнага ў плане асноўнага аб'ёму з боку двара прымыкае невялікая гаспадарчая прыбудова. Кампазіцыя галоўнага фасада, што выходзіць на чырвоную лінію забудовы вуліцы, сіметрычная. Галоўны ўваход вырашаны ў выглядзе прамавугольнага ганка, завершанага фігурным атыкам, які падтрымліваюць 2 квадратныя ў сячэнні калоны. Плоскасці калон упрыгожаны ляпным дэкорам. Дэкаратыўныя ляпныя дэталі аздабляюць і прасценкі паміж 6 высокімі вокнамі, карнізныя плоскасці. На атыку — ляпны фамільны вензель былых уладальнікаў дома. Унутраная планіроўка калідорная. Жылыя памяшканні, прыёмны пакой, кабінет урача, працэдурная размяшчаліся ў асноўным аб'ёме, у гаспадарчай прыбудове — кухня і жыллё для прыслугі.

У архітэктуры будынка выявіліся рысы стылю «мадэрн».

*В. М. Чарнатаў.*

**32. ДОМ-КАМУНА** (архіт., гіст.). Праспект Леніна, 51. Пабудаваны ў 1929—31 гг. з цэглы (арх. С. Шабунеўскі, інж. Р. Ханін) для рабочых паравозавагонарамонтнага завода.

П-падобны ў плане будынак займае па даўжыні квартал. Выразнасць аб'ёмна-прасторавай кампазіцыі дасягнута спалучэннем вертыкальных сяміпавярховых аб'ёмаў, фланкіруючых цэнтральны шасціпавярховы аб'ём з бакавымі крыламі. Кампазіцыя фасадаў сіметрычная, заснаваная на раўнамерным чляненні паверхні выступамі-рызалітамі і паглыбленымі лоджыямі. Цэнтральныя рызаліты маюць ступеньчатае завяршэнне. Вуглавыя часткі будынка ўзняты на паўпаверх і значна паглыблены. На 2—6-м паверхах уздоўж калідора размешчаны жылыя ячэйкі, якія маюць па 2—3 пакоі і кухню-нішу. На кожным паверсе прадугледжаны пакоі адпачынку, агульныя кухні, кубавыя і санвузлы. Першы паверх паводле праекта прызначаўся для сталовай, бібліятэкі-чытальні, дзіцячай дашкольнай установы і інш. Цяпер выкарыстоўваецца як жылы будынак.

Дом-камуна — помнік савецкай архітэктуры, новы тып жылога будынка.

У час нямецка-фашысцкай акупацыі Гомеля савецкія патрыёты ў гонар 25-й гадавіны Вялікай Кастрычніцкай рэвалюцыі ўзнялі над домам — самым высокім даваенным будынкам горада — чырвоны сцяг.

*Літ.:* Воинов А. А. История архитектуры Белоруссии (советский период).— Мн., 1975.

*У. В. Алісейчык.*

**33. ДРАМАТЫЧНЫ ТЭАТР** (архіт., гіст.). Пл. Леніна, 1. Пабудаваны ў 1956 г. з цэглы (праект 1941 г., арх. А. Тарасенка, кансультант І. Жалтоўскі).

Прамавугольны ў плане будынак мае сіметрычную аб'ёмна-прасторавую кампазіцыю. Галоўны фасад, які выходзіць на парк, вырашаны як шасцікалонны порцік кампазітнага ордэра з франтонам, багата дэкарыраваны скульптурай, элементамі класічнай архітэктуры (складанапрафіляваны карніз, цягі, паяскі, картуш, ляпныя ўстаўкі). Калонам адпавядаюць пілястры па ўсім перыметры будынка. У малюнак капітэлей пілястраў і іншых дэкаратыўных элементаў уведзены выявы музычнай атрыбутыкі. Плоскасць сцяны галоўнага фасада расчлянёна філёнгамі з рэльефным раслінным арнаментам.

Па галоўнай восі будынка размешчаны цэнтральны ўваход, вестыбюльная група памяшканняў, глядзельная зала партэрна-яруснага тыпу на 800 месцаў, развітая сцэнічная каробка, вакол якой групуюцца ўсе дапаможныя памяшканні. За сцэнічнай каробкай на 4 паверхах размешчаны артыстычныя і адміністрацыйна-гаспадарчыя службы. Дзве парадныя белыя мармуровыя лесвіцы вядуць на 2-і паверх, дзе знаходзіцца фае. У афармленні інтэр'ераў шырока выкарыстаны пілястры, кесоны, нішы, разеткі і іншыя ляпныя элементы.

Тэатр адкрыўся ў 1954 г. спектаклем «Гады вандраванняў» А. Арбузава. Галоўныя рэжысёры Г. Кацман (1954—56 гг.), М. Ульянаў (1956—58 гг.), Л. Эльстон (1958—62 гг.), Ю. Арынянскі (1962—66 гг.), І. Папоў (1966—74 гг.), К. Пятроў (1974—76 гг.), В. Кручкоў (з 1977 г.). У рэпертуары асноўнае месца займаюць пастаноўкі сучасных савецкіх п'ес. Значная ўвага аддаецца п'есам беларускіх аўтараў, ставяцца творы рускай і зарубежнай класічнай драматургіі. Пры



33. *Будынак драматычнага тэатра. Галоўны фасад.*



33. *Будынак драматычнага тэатра. План.*



33. *Будынак драматычнага тэатра. Фрагмент дэкору галоўнага фасада.*



33. *Будынак драматычнага тэатра. Фрагмент дэкору галоўнага фасада.*

тэатры з 1963 г. існавала самадзейная лялечная група, на базе якой у сакавіку 1968 г. створаны Гомельскі абласны тэатр лялек. *А. А. Міцянін.*

**34. ДРЭВААПРАЦОЎЧЫ КАМБІНАТ** (гіст.). Вул. Дастаеўскага, 3.

Д р э в а а п р а ц о ў ч ы   к а м б і н а т дзейнічае з 1931 г. (1-я чарга). Выпускаў гнутую мэблю і абозную прадукцыю. У Вялікую Айчынную вайну эвакуіраваны ў Сталінград і Томск, даваў прадукцыю для фронту. У 1944—49 гг. адноўлены ў Гомелі. З 1971 г. галаўное прадпрыемства Гомельскага вытворчага дрэваапрацоўчага аб'яднання. Асноўная прадукцыя — мэбля, тавары народнага спажывання, піламатэрыялы, вырабы дрэваапрацоўкі. Мае Дом культуры, 2 бібліятэкі, санаторый-прафілакторый, пункт аховы здароўя, 2 базы адпачынку, стадыён, піянерскі лагер, 5 дашкольных устаноў. У 1966 г. камбінат узнагароджаны ордэнам Працоўнага Чырвонага Сцяга.

М е м а р ы я л ь н а я   д о ш к а   Г а л а в а ч о в у   П а ў л у   Я к а ў л е в і ч у   і   С к л я з н ё в у   Г е о р г і ю   М і х а й л а в і ч у. Устаноўлена ў 1967 г. на ўшанаванне памяці двойчы Героя Савецкага Саюза П. Я. Галавачова і Героя Савецкага Саюза Г. М. Склязнёва, якія тут працавалі. Гл. таксама артыкулы № 360 «Радзіма Галавачова Паўла Якаўлевіча» і № 133 «Радзіма Склязнёва Георгія Міхайлавіча».

М е м а р ы я л ь н а я   д о ш к а   К а л п а к о в у   А л я к с а н д р у   М і к а л а е в і ч у. Устаноўлена ў 1967 г. на ўшанаванне памяці электраманцёра А. М. Калпакова, які загінуў 22.9.1957 г. пры тушэнні пажару на камбінаце.

М е м а р ы я л ь н а я   д о ш к а   п а д п о л ь ш ч ы к а м. Устаноўлена ў 1973 г. ў гонар падпольшчыкаў, якія ў гады нямецка-фашысцкай акупацыі дзейнічалі на камбінаце. Узначальваў падпольную групу камуніст Р. М. Каралёў, які па заданню падпольнага гаркома КП(б)Б уладкаваўся сюды на работу. Падпольшчыкі сабатавалі мерапрыемствы акупацыйных улад, распаўсюджвалі лістоўкі, рабілі дыверсіі, збіралі разведдадзеныя і перадавалі іх партызанам. *В. Б. Караткевіч.*

**35. ДУХОЎНАЕ ВУЧЫЛІШЧА, МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА Ў ГОНАР 23-х МІНСКІХ САВЕЦКІХ ПЯХОТНЫХ КУРСАЎ** (архіт., гіст.). Вул. Білецкага, 11.

В у ч ы л і ш ч а пабудавана ў 1799—1819 гг., перабудавана ў 2-й палавіне 19 ст. пад палац М. П. Румянцава. З 1880-х гадоў тут размяшчалася семінарыя, цяпер — міжшкольны вучэбна-вытворчы камбінат № 3. Мураваны двухпавярховы П-падобны ў плане будынак (бакавыя крылы прыбудаваны ў 1960-я гады). Цэнтр галоўнага прамавугольнага ў плане аб'ёму вылучаны магутнымі рызалітамі на галоўным і дваровым фасадах. Цэнтральны ўваход з казырком на 2 слупах падкрэслены фігурным атыкам. Дваровыя фасады бакавых карпусоў апрацаваны рустам, завершаны карнізам. Унутраная планіроўка калідорная. На 2-м паверсе была царква (цяпер актавая зала).

Будынак — помнік архітэктуры класіцызму.

М е м а р ы я л ь н а я   д о ш к а. Устаноўлена ў 1962 г. ў гонар 23-х Мінскіх савецкіх пяхотных курсаў, якія ў чэрвені 1919 г.— ліпені 1920 г. размяшчаліся ў гэтым будынку. У сакавіку — маі 1920 г. курсанты ўдзельнічалі ў абароне Гомеля ад польскіх інтэрвентаў. *А. М. Кулагін.*

**36. ЖАНОЧАЯ ГІМНАЗІЯ, МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА ДАКУТОВІЧ** Галіне Іванаўне (архіт., гіст.). Вул. Білецкага, 6.

*Ж а н о ч а я   г і м н а з і я* пабудавана ў апошняй трэці 19 ст. з цэглы. У Вялікую Айчынную вайну будынак разбураны. Рэканструяваны ў канцы 1940-х — пачатку 1950-х гадоў (зменена ўнутраная планіроўка, часткова перабудаваны галоўны фасад). Цяпер тут размяшчаецца Гомельскі палітэхнікум. Складаецца з 2 выцягнутых у плане аб'ёмаў. На вуліцу выходзіць невялікім двухпавярховым галоўным фасадам сіметрычнай кампазіцыі. У дэкоры выкарыстаны руст, шырокі пояс з ляпнымі элементамі, трохвугольны франтон і высокі атык. Галоўны ўваход вылучаны 2 пілонамі і 3/4 калонамі.

Будынак — помнік архітэктуры позняга класіцызму.

М е м а р ы я л ь н а я   д о ш к а. Устаноўлена ў 1960 г. на ўшанаванне памяці Г. І. Дакутовіч, якая ў 1933—38 гг. вучылася ў школе, што размя-



35. *Будынак былога духоўнага вучылішча. Галоўны фасад.*



35. *Будынак былога духоўнага вучылішча. План 1-га паверха.*



37. *Жылы дом № 31 па праспекце Леніна. План 1-га паверха.*



37. *Жылы дом № 31 па праспекце Леніна.*

шчалася ў гэтым будынку. Г. І. Дакутовіч нарадзілася 20.2.1921 г. ў Гомелі. Скончыла Гомельскі аэраклуб. У Вялікую Айчынную вайну штурман жаночага авіяпалка. Зрабіла 136 баявых вылетаў, пераважна начных. Загінула 1.8.1943 г. ў баі пры вызваленні Паўночнага Каўказа.

*А. А. Міцянін, В. Б. Караткевіч.*

**37. ЖЫЛЫ ДОМ** (архіт.). Праспект Леніна, 31. Пабудаваны ў пачатку 1930-х гадоў з цэглы (арх. С. Шабунеўскі). Дом разбураны ў Вялікую Айчынную вайну, адноўлены ў 1950 г.

Трохпавярховы П-падобны ў плане будынак складаецца з цэнтральнага аб'ёму і 2 бакавых крылаў, якія ўтвараюць курданёр. Тарцы бакавых крылаў маюць чацвёртыя мансардавыя паверхі. У адным з крылаў — цокальны паверх. Лесвічныя клеткі выступаюць на фасадах цэнтральнымі рызалітамі і завершаны мансардамі. Уваходы вырашаны ў выглядзе арачных праёмаў з буйнымі ліштвамі. У афармленні ніжняга паверха выкарыстаны руст. Пластыку верхніх паверхаў узбагачаюць ажурная агароджа балконаў і вітыя металічныя кранштэйны пад навісямі даху.

Будынак — помнік грамадзянскай архітэктуры з элементамі стылю «мадэрн».

*У. В. Алісейчык.*

**38. ЖЫЛЫ ДОМ** (архіт.). Вул. Пушкіна, 26. Пабудаваны ў 1927 г. з цэглы (арх. С. Шабунеўскі). Разбураны ў Вялікую Айчынную вайну, адбудаваны ў 1949 г.

Трохпавярховы П-падобны ў плане будынак. Асноўным кампазіцыйным акцэнтам з'яўляюцца вуглавыя часткі. Заходні вугал вылучаны чатырохпавярховай круглай вежай з балконам на 2-м паверсе, усходні — чатырохпавярховы, зрэзаны. Падоўжная плоскасць фасадаў рытмічна падзелена рызалітамі, завершанымі ступеньчатымі атыкамі. Вуглавыя часткі і рызаліты аздоблены лапаткамі. Аконныя праёмы прамавугольныя, на 2-м і 3-м паверхах рытмічна размешчаны балконы. Лесвічныя клеткі вылучаны суцэльным шкленнем. Буйны маштаб фасадных чляненняў, фактурная тынкоўка, руст, які імітуе буйнаблочную муроўку, надаюць будынку манументальнасць.

Адзін з першых у Гомелі шматпавярховых дамоў секцыйнага тыпу. Мае рысы канструктывізму.

*У. В. Алісейчык.*

**39. ЖЫЛЫ ДОМ СПЕЦЫЯЛІСТАЎ** (архіт.). На скрыжаванні вуліц Камсамольскай і Кірава. Пабудаваны ў 1932—35 гг. з цэглы (арх. М. Салін) як жылы дом для вядучых спецыялістаў горада. У Вялікую Айчынную вайну пашкоджаны, у 1949 г. адноўлены з нязначнымі зменамі.

Будынак Г-падобны ў плане, 4—5-павярховы, на 50 кватэр. У аб'ёмна-прасторавай кампазіцыі дамінуе 5-павярховая вуглавая частка, расчлянёная ступеньчатымі лапаткамі. 1-ы паверх фасадаў аздоблены рустам. Па баках лесвічных клетак згрупаваны



36. *Будынак былой жаночай гімназіі.*



36. *Будынак былой жаночай гімназіі. План 1-га паверха.*



38. *Жылы дом № 26 на вуліцы Пушкіна. Заходні вугал.*



38. *Жылы дом № 26 на вуліцы Пушкіна. Усходні вугал.*



38. *Жылы дом № 26 на вуліцы Пушкіна. План 1-га паверха.*



39. *Жылы дом спецыялістаў.*



39. *Жылы дом спецыялістаў. План 3-га паверха.*

лоджыі, аформленыя калонкамі. У верхняй частцы фасадаў 12 барэльефных пано на тэмы: «Архітэктар і будаўнік», «Прафесар і студэнт», «Камандзір і баец». На 1-м паверсе вуглавой часткі размешчаны магазін. Планіроўка секцыйная — па 2 кватэры на лесвічнай пляцоўцы.

Будынак — помнік жыллёвай архітэктуры 1930-х гадоў. *У. В. Алісейчык.*

**40. ЖЫЛЫЯ ДАМЫ** (архіт.). Вуглавыя, на скрыжаванні вуліц Кірава і Першамайскай. Пабудаваны ў 1936 г. з цэглы (арх. Н. Макляцова). Разбураны ў Вялікую Айчынную вайну, адноўлены ў 1947—48 гг. (інж. М. А. Федарчук).

Дом № 19/12. Трохпавярховы Г-падобны ў плане будынак з павышанай на паверх цэнтральнай часткай. Вуглы будынка зрэзаны і фланкіраваны здвоенымі калонамі. Пластыка цэнтральнай часткі пасля аднаўлення стала больш насычанай: збудаваны лоджыі, у прасценках дадатковыя здвоеныя калоны, парапет даху заменены ступеньчатым атыкам, 4-ы паверх дэкарыраваны пілястрамі, на 2-м і 4-м паверхах — балконы з балюстрадамі. Падоўжныя фасады аформлены рызалітамі лесвічных клетак, завершаны атыкамі. Вокны прамавугольныя.

Дом № 20/14. Паўтарае кампазіцыю і планіроўку дома № 19/12. Аконныя праёмы прамавугольныя, на 2—3-м паверхах — балконы.

Жылыя дамы — першая спроба ансамблевай забудовы вуліц горада. *У. В. Алісейчык.*

**41. ЗАБУДОВА ВУЛІЦЫ САВЕЦКАЙ** (архіт., гіст.). Раней называлася Прабойнай, потым Румянцаўскай. Утварылася як працяг дарогі на Магілёў. Была галоўнай магістраллю горада. У канцы 19 — пачатку 20 ст. ад сучаснай пл. Леніна да перасячэння з вул. Першамайскай забудавана 2—3-павярховымі мураванымі дамамі. У Вялікую Айчынную вайну разбурана. Пасля вайны рэканструявана.

Дом № 1, гарадская дума («гарадскі дом»). Мемарыяльная дошка Барадзіну Цімафею Сцяпанавічу. Пабудаваны ў 1880-я гады (арх. Я. Тарлін) з цэглы. З 1921 г. тут размяшчаецца фабрыка «Палесдрук». Прамавугольны ў плане трохпавярховы будынак (3-і паверх надбудаваны ў 1935 г.). Вокны 2-га і 3-га паверхаў аформлены ліштвамі з франтончыкамі. Цэнтральная частка будынка вылучана лапаткамі. Паверхі аддзелены цагляным зубчастым поясам. Вуглы апрацаваны руставанымі лапаткамі. Унутраная планіроўка анфіладная з цэнтральнай вестыбюльнай групай. У архітэктуры будынка выявіліся рысы стылізатарска-эклектычнай плыні.

На будынку ў 1970 г. ўстаноўлена мемарыяльная дошка на ўшанаванне памяці Героя Савецкага Саюза Барадзіна Цімафея Сцяпанавіча.

Ц. С. Барадзін працаваў на фабрыцы «Палесдрук» з 1936 г. У гады нямецка-фашысцкай акупацыі горада па заданню Гомельскага падпольнага гаркома КП(б)Б уладкаваўся на фабрыку і стварыў тут падпольную групу. Падпольшчыкі друкавалі адозвы, заклікі, лістоўкі, зводкі Саўінфармбюро, рабілі бланкі пропускаў і іншыя дакументы для народных мсціўцаў. Гл. таксама артыкул № 51 «Магіла Гомельскіх апалчэнцаў і магіла Барадзіна Цімафея Сцяпанавіча».

Дом № 4. Пабудаваны ў пачатку 20 ст. з цэглы як жылы. У Вялікую Айчынную вайну разбураны, адноўлены ў 1951 г. П-падобны ў плане трохпавярховы будынак. Галоўны фасад вылучаны рызалітам, завершаны крывалінейным франтонам з валютамі. Плоскасці сцен 1-га паверха апрацаваны рустам, 2-га і 3-га — фігурнымі ліштвамі, шырокім аркатурным фрызам з крыжападобнымі элементамі.



40. *Жылы дом № 19/12 на скрыжаванні вуліц Кірава і Першамайскай.*



40. *Жылыя дамы № 19/12 і 20/14 на скрыжаванні вуліц Кірава і Першамайскай.*



40. *Жылы дом № 19/12 на скрыжаванні вуліц Кірава і Першамайскай. План 2-га паверха.*

У архітэктуры будынка выявіліся рысы эклектыкі.

Дом № 8. Пабудаваны ў пачатку 20 ст. з цэглы. Рэканструяваны ў 1950 г. П-падобны ў плане трохпавярховы будынак з 2 невялікімі бакавымі выступамі, у якіх размяшчаюцца лесвічныя клеткі. Вуглавая частка будынка зрэзаная. Фасады расчлянёны карнізнымі паясамі і лапаткамі. Плоскасці сцен 1-га паверха апрацаваны рустам. У дэкоры выкарыстаны ліштвы, карнізныя паясы, бочкападобныя паўкалонкі з перацяжкамі, кілепадобныя арачкі, бегунок і інш. Унутраная планіроўка анфіладная. На 1-м паверсе размешчаны аддзяленне сувязі і ашчадная каса, 2-і і 3-і выкарыстоўваюцца пад жыллё.

Будынак — помнік архітэктуры псеўдарускага стылю.

Дом № 9/14, Руска-Азіяцкі банк. На скрыжаванні з вул. Ланге. Пабудаваны ў пачатку 20 ст. з цэглы. Цяпер тут размяшчаецца адміністрацыйная ўстанова. Будынак Г-падобны ў плане, двухпавярховы. Вуглавая частка скругленая, вылучана цыліндрычнай вежай з купалам. Фасады падзелены карнізнай цягай на 2 ярусы, ніжні ярус апрацаваны рустам. На плоскасці сцен — тонкія ліштвы, маскароны, гірлянды. На вежы, па баках круглага дахавага акна, алегарычныя выявы 2 жаночых фігур у антычным адзенні. Унутраная планіроўка 1-га паверха анфіладная, 2-га — калідорная.

Будынак — помнік архітэктуры неакласіцызму.



41. *Панарама забудовы вуліцы Савецкай.*

Дом № 10. Пабудаваны ў пачатку 20 ст. з цэглы. У Вялікую Айчынную вайну разбураны, адноўлены ў 1951 г. Прамавугольны ў плане трохпавярховы будынак з цэнтральным размяшчэннем лесвічнай клеткі. Фасады расчлянёны карнізнымі паясамі і лапаткамі. Плоскасці сцен 1-га паверха апрацаваны рустам, 2-га — філёнгавымі лапаткамі з разеткамі і спаранымі ліштвамі. Над імі — рэльефныя выявы дзіцячых галовак. Ліштвы 3-га паверха расчлянёны рустоўкай, лапаткі апрацаваны падвоенымі паўкалонамі.



41. *Будынак былой гарадской думы. План 1-га паверха.*




41. *Будынак былой гарадской думы.*



41. *Жылы дом № 8 на вуліцы Савецкай.*



41. *Жылы дом № 8 па вуліцы Савецкай. План 1-га паверха.*



41. *Будынак былога Руска-Азіяцкага банка.*



41. *Жылы дом № 10 па вуліцы Савецкай.*

Унутраная планіроўка анфіладная. На 1-м паверсе размяшчаецца магазін, 2-і і 3-і выкарыстоўваюцца пад жыллё.

У архітэктуры будынка выявіліся рысы стылізатарска-эклектычнай плыні.

Д о м № 12. Пабудаваны ў пачатку 20 ст. з цэглы. У Вялікую Айчынную вайну разбураны, адноўлены ў 1950 г. П-падобны ў плане трохпавярховы будынак. Фасады папавярхова расчлянёны карнізнымі паясамі і лапаткамі. 2-і паверх расчлянёны лучковымі, 3-і — паўцыркульнымі аконнымі праёмамі. Фрыз антаблемента цэнтральнай часткі вырашаны ў выглядзе аркатурнага пояса з дэкаратыўнымі машыкулямі. Бакавыя часткі завершаны вежамі з байніцамі. У бакавых нішах скульптурныя ідылічныя выявы сялян з дарамі прыроды. Унутраная планіроўка анфіладная. На 1-м паверсе — гандлёвыя ўстановы, 2-і і 3-і выкарыстоўваюцца пад жыллё.

У архітэктуры будынка выявіліся рысы стылізатарска-эклектычнай плыні.

Д о м № 17/10, к а м е р ц ы й н ы б а н к. На скрыжаванні з вул. Сялянскай. Пабудаваны ў 1901 г. з цэглы (арх. С. Шабунеўскі). У 1947 г. капітальна адрамантаваны і дабудаваны. Цяпер тут размяшчаецца адміністрацыйная ўстанова. Будынак Г-падобны ў плане, трохпавярховы. Галоўным фасадам арыентаваны на вул. Ся-



41. *Будынак былога Руска-Азіяцкага банка. План 1-га паверха.*



41. *Жылы дом № 10 па вуліцы Савецкай. План 2-га паверха.*



41. *Жылы дом № 12 па вуліцы Савецкай.*



41. *Жылы дом № 12 па вуліцы Савецкай. План 2-га паверха.*



**41.** *Будынак былога камерцыйнага банка.*



**41.** *Будынак былога камерцыйнага банка. План 1-га паверха.*

лянскую. Цэнтральная частка фасада вылучана рызалітам з уваходам. Плоскасці сцен 1-га паверха апрацаваны рустам, 2-га і 3-га — расчлянёны лапаткамі з гермамі ў верхніх частках. Зрэзаная вуглавая частка фланкіравана канеліраванымі паўкалонамі з карынфскімі капітэлямі. Уваход абрамляюць паўкалоны са стылізаванымі іанічнымі капітэлямі. Паміж паверхамі рэльефныя ўстаўкі расліннага арнаменту. Унутраная планіроўка анфіладная. Банкаўскія памяшканні размяшчаліся на 1-м паверсе, 2-і і 3-і выкарыстоўваліся пад жыллё.

У архітэктуры будынка выкарыстаны элементы стылю «мадэрн».

Д о м № 20. Пабудаваны ў пачатку 20 ст. з цэглы. Будынак Г-падобны ў плане, трохпавярховы. Кампазіцыя галоўнага фасада трохчастковая. Цэнтральная вылучана лучковым шчытом і паўцыркульнымі аркамі. Па восі фасада зроблены арачны праезд. Асноўную дэкаратыўную нагрузку нясуць верхнія паверхі. Вокны левай часткі будынка згрупаваны папарна, правай — па 3 у кожным радзе. Фасады завяршае антаблемент з дэкаратыўным арнаментальным фрызам. На 1-м паверсе размешчаны магазін, на 2-м — грамадская ўстанова, 3-і выкарыстоўваецца пад жыллё.

Будынак — помнік архітэктуры стылю «мадэрн».

Забудова вул. Савецкай — ансамбль, характэрны для архітэктуры і горадабудаўніцтва канца 19 — пачатку 20 ст.

*У. В. Алісейчык, В. Б. Караткевіч.*

**42. ЗАВОД СЕЛЬСКАГАСПАДАРЧАГА МАШЫНАБУДАВАННЯ** («Г о м с е л ь м а ш») і м я 60-г о д д з я В я л і к а г а К а с т р ы ч н і к а (гіст., архіт.). Вул. Шашэйная, 41.

«Гомсельмаш» заснаваны ў 1928 г. Будаўніцтва завода было аб'яўлена ўдарнай будоўляй 1-й пяцігодкі. Да канца 1928 г. ўзведзены сцены галоўных карпусоў. У жніўні 1929 г. выпушчаны першыя сіласарэзкі. 15.10. 1930 г. першую плаўку далі ліцейшчыкі. Завод выпускаў бульба- і канюшынасартавальныя машыны, сячкарні, малатарні, сенакасілкі і інш., да 1941 г.— больш за 326 тыс. сельскагаспадарчых машын 26 серыйных марак. У Вялікую Айчынную вайну эвакуіраваны ў г. Курган, працаваў на патрэбы фронту. У Гомелі адноўлены ў 1943—44 гг. У 1971 г. завод узнагароджаны ордэнам Леніна. У 1977 г. прысвоена імя 60-годдзя Вялікага Кастрычніка.



**41.** *Жылы дом № 20 па вуліцы Савецкай.*



**41.** *Жылы дом № 20 па вуліцы Савецкай. План 2-га паверха.*

Тэрыторыя завода (каля 60 га) абмежавана з усходняга і паўднёвага бакоў чыгункай, з захаду — гарадскімі вуліцамі, з поўначы — жылым пасёлкам. Вытворчыя цэхі і карпусы пабудаваны пераважна са зборнага жалезабетону і зблакіраваны па прын-



**41.** *Будынак былога камерцыйнага банка. Фрагмент дэкору.*



**41.** *Будынак былога камерцыйнага банка. Фрагмент дэкору.*



*42. Завод сельскагаспадарчага машынабудавання імя 60-годдзя Вялікага Кастрычніка. Адміністрацыйны корпус.*

цыпу роднасці і функцыянальнага прызначэння. Паводле праекта, распрацаванага Кіеўскім інстытутам Дзіпрасельмаш, за аснову генеральнага плана прынята арганізацыя паточнай вытворчасці механізмаў са стварэннем спецыялізаваных цэхаў. З даваенных будынкаў на тэрыторыі завода астаўся ліцейны цэх. Асноўная рэканструкцыя прадпрыемства ажыццёўлена паводле праекта Харкаўскага інстытута Дзіпратрактарсельгасмаш у сярэдзіне 1960-х гадоў. У 1977 г. пабудаваны новы 9-павярховы адміністрацыйны корпус. Ёсць Палац культуры, паліклініка, бальніца, пансіянат, прафілакторый, 3 бібліятэкі, Дом фізкультуры з плавальным басейнам, спартыўная база, 2 стадыёны, музычная школа, піянерскі лагер, 9 дашкольных устаноў. Выдаецца шматтыражная газета «Сельмашевец».

Мемарыяльная дошка Дворнікаву Мікалаю Мікалаевічу. На будынку прахадной завода. Устаноўлена ў 1970 г. на ўшанаванне памяці дзеяча рэвалюцыйнага руху ў Заходняй Беларусі М. М. Дворнікава, які ў 1928—29 гг. працаваў на будаўніцтве «Гомсельмаша», у 1929 г. быў сакратаром камсамольскай арганізацыі. Гл. таксама артыкул № 26 «Дом, дзе жыў Дворнікаў Мікалай Мікалаевіч».

*Літ.:* Котенок И. П., Майоров Н. Н., Райский В. Я. Гомсельмаш.— 2 изд.— Мн., 1970.

*В. Б. Караткевіч, А. А. Міцянін.*

**43. ІЛЬІНСКАЯ ЦАРКВА** (архіт.). Вул. Камісарава, на беразе р. Сож. Пабудавана ў 1793 г. з дрэва. Царква трохзрубная, глыбінна-прасторавай кампазіцыі. Складаецца з прамавугольнага ў плане бабінца, квадратнага асноўнага аб'ёму і гранёнай алтарнай апсіды. Бабінец з трох бакоў абкружаны зашклёнай слупавой арачнай галерэяй (раней была адкрытая). Заходняя яго частка ўвянчана двух'яруснай вежай-званіцай (васьмярык на чацверыку) з адкрытым верхнім ярусам і купальным дахам. Чацвярык упрыгожвае балкон з навіссю на 2 слупах і балюстраднай агароджай. Цэнтральны зруб вышэй за астатнія, завершаны двух'ярусным васьмерыком на ветразях з гранёным купальным пакрыццём. Аб'ёмы накрыты дахамі сферычнай формы, невысокі алтарны зруб — пяцісхільным. Сцены гарызантальна ашаляваны дошкамі.

У інтэр'еры прастора нефа развіта па вертыкалі. Вышыня да асновы купала складае агульную даўжыню нефа і алтара (прыём старажытнарускага манументальнага дойлідства). Бабінец і алтарнае памяшканне з рызніцай значна меншай вышыні (каля палавіны ніжняга яруса нефа), перакрыты плоскай столлю на бэльках. Алтар ад нефа адгароджаны іканастасам.

Царква — помнік драўлянага народнага дойлідства.

*Літ.:* Чантурия В. А. Архитектура Белоруссии конца XVIII — начала XIX в.— Мн., 1962. *Ю. А. Якімовіч.*



*43. Ільінская царква.*



*43. Ільінская царква. План.*

**44. КІНАТЭАТР ІМЯ М. І. КАЛІНІНА** (архіт., гіст.). Вул. Камунараў, 4. Пабудаваны ў пач. 20 ст. з цэглы. Адноўлены ў 1950 г. як адназальны (арх. У. Вараксін). У 1968 г. рэканструяваны (арх. С. Пеўны), дабудавана другая глядзельная зала і фае, вырашанае як устаўка паміж кінатэатрам і кафэ «Маладзёжнае». Кампактны трохпавярховы прамавугольны ў плане будынак. Галоўны фасад мае ўваходную лоджыю з 4 арачнымі праёмамі на вышыню 2 паверхаў, завершаны яяпным карнізам з мадульёнамі. Глядзельная частка ўключае 2 залы (на 920 і 400 месцаў), вестыбюль, фае, у якім мазаічнае панно на тэму «Народныя гулянні» (мастакі М. Казакевіч, Дз. Алейнік). Інтэр'еры аздоблены драўлянай і керамічнай абліцоўкай (сцены, калоны), дэкаратыўнай тынкоўкай, мастацкім шклом.

Кінатэатр — прыклад відовішчнагрaмадскіх збудаванняў.

Мемарыяльная дошка Калініну Міхаілу Іванавічу. Устаноўлена ў 1957 г. ў памяць аб выступленні 17.6.1919 г. ў будынку (на той час кінатэатр «Мастацтва») на ўрачыстым пасяджэнні рабочых і чырвонаармейскіх арганізацый Гомеля М. І. Калініна, які расказаў пра міжнароднае і ўнутранае становішча Савецкай Рэспублікі, заклікаў працоўных змагацца супраць згоднікаў.

*В. Б. Ангелаў, В. І. Анікін, В. Б. Караткевіч.*

**45. КУРГАН СЛАВЫ** (гіст.). На заходняй ускраіне горада, каля Рэчыцкай шашы. Насыпаны ў 1968 г. ў гонар 50-годдзя Савецкай улады і на ўшанаванне памяці воінаў Чырвонай Арміі і партызан, якія загінулі за свабоду і незалежнасць нашай Радзімы. Каля асновы кургана замуравана зямля з гарадоў-герояў Масквы, Ленінграда, Адэсы, Кіева, крэпасці-героя Брэста, з гарадоў і іншых населеных месцаў Гомельскай вобл., капсула з наказам нашчадкам, якая павінна быць распячатана ў 2017 г.— у дзень 100-годдзя Савецкай улады.

**46. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). Вул. Барыкіна, на Ляшчынскіх



*44. Кінатэатр імя М. І. Калініна.*




44. *Мемарыяльная дошка М. І. Калініну.*

могілках. Пахавана больш за 800 жыхароў Гомеля, расстраляных нямецка-фашысцкімі захопнікамі ў 1942 г. ў канцлагеры па вул. Гогаля. У 1973 г. на магіле пастаўлена стэла.

**47. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). На вул. Савецкай, побач з чыгункай, каля Гарбатага моста. Пахаваны савецкія ваеннапалонныя і мірныя жыхары, закатаваныя нямецка-фашысцкімі захопнікамі ў 1941—43 гг. У 1975 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**48. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). На Прудкоўскіх могілках. У Вялікую Айчынную вайну ў лістападзе 1941 г. атрад гітлераўскіх карнікаў акружыў в. Прудок (цяпер у межах горада). Усіх жыхароў гітлераўцы сагналі ў школу, 12 заложнікаў вывелі за вёску і расстралялі. У жывых выпадкова астаўся В. В. Краўцоў. Цяжка паранены, ён ноччу дабраўся да сваёй хаты і хаваўся там 4 дні. Гітлераўцы даведаліся пра гэта і на вачах сям'і расстралялі В. В. Краўцова.

У 1962 г. на магіле ахвяр фашызму пастаўлены абеліск.

*Літ.:* Преступления немецко-фашистских оккупантов в Белоруссии 1941—1944.— [2 изд.].— Мн., 1965.

*В. Б. Караткевіч.*

**49. МАГІЛА БАСЯНКОВА** Пятра Харытонавіча (гіст.). На Касцюковіцкіх могілках.

Герой Савецкага Саюза П. Х. Басянкоў нарадзіўся 13.11.1908 г. ў в. Вылева Добрушскага р-на ў сям'і селяніна. Член КПСС з 1944 г. З 1922 г. працаваў слесарам на заводзе ў Гомелі. З 1930 г. ў Чырвонай Арміі. Удзельнік савецка-фінляндскай вайны 1939—40 гг. У Вялікую Айчынную вайну на фронце з чэрвеня 1941 г., ваяваў пад Сталінградам, на Курскай дузе, удзельнік вызвалення Беларусі, Прыбалтыкі, баёў у Усходняй Прусіі, Германіі. 18.9.1944 г. каля г. Добеле Латвійскай ССР танкавы экіпаж, у якім механікам-вадзіцелем быў П. Х. Басянкоў, адбіў атаку 8 танкаў праціўніка, знішчыў 3 танкі і самаходную гармату. Ад варожага снарада танк загарэўся, П. Х. Басянкоў астаўся жывым адзін, але бою не спыніў. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 24.3.1945 г. Пасля вайны працаваў на Гомельскім шклозаводзе, потым старшынёй калгаса. Памёр П. Х. Басянкоў 20.6.1969 г. У 1972 г. на магіле пастаўлены абеліск. У рабочым пасёлку Касцюкоўка, на доме, дзе ён жыў, у 1975 г. ўстаноўлена мемарыяльная дошка. Яго імем у Гомелі названа вуліца.

*Т. Р. Чуракова.*

**50. МАГІЛА ВЯРШЫЛОВІЧА** Якава Фёдаравіча (гіст.). Вул. Савецкая, Студэнцкі парк. Камісар, старшыня праўлення (1920—25 гг.) Заходніх чыгунак Я. Ф. Вяршыловіч загінуў у 1925 г. У 1964 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**51. МАГІЛА ГОМЕЛЬСКІХ АПАЛЧЭНЦАЎ І МАГІЛА БАРАДЗІНА** Цімафея Сцяпанавіча (гіст., маст.). Камсамольскі сквер, на правым беразе Сажа. Пахаваны 12 апалчэнцаў, якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў пры абароне Гомеля ў 1941 г. Сярод пахаваных — камандзір палка Ф. Я. Уткін, камісар 2-га батальёна М. М. Кунцэвіч і Герой Савецкага Саюза Ц. С. Барадзін.

Гомельскі полк народнага апалчэння пачаў фарміравацца з добраахвотнікаў 9.7.1941 г. паводле рашэння Гомельскага абкома КП(б)Б у адпаведнасці з пастановай ЦК КП(б)Б і СНК БССР ад 6.7.1941 г. Складаўся з трох стралковых батальёнаў, камендантскага і гаспадарчага ўзводаў, узвода сувязі. У кожны батальён (створаны ў кожным раёне горада) уваходзілі 3 роты і штаб з падраздзяленнямі кіравання. Камандзір палка Ф. Я. Уткін, камісар С. Р. Шчуцкі, начальнік штаба А. І. Грынько. На 1.8. 1941 г. ў 1-м батальёне (Цэнтральны р-н) было 472 чалавекі, у 2-м батальёне (Чыгуначны р-н) — 360 чалавек, у 3-м (Навабеліцкі р-н) — 309 чалавек, пасля даўкамплектавання ў 3 батальёнах больш за 2300 чалавек. Полк знаходзіўся ў рэзерве 21-й арміі (камандуючы генерал-лейтэнант М. Р. Яфрэмаў) Цэнтральнага фронту. На яго ўзбраенні былі вінтоўкі, ручныя і станковыя кулямёты. Апалчэнцы ахоўвалі прамысловыя аб'екты горада, лініі сувязі, удзельнічалі ў эвакуацыі заводаў і фабрык, у будаўніцтве абарончых збудаванняў, вылоўлівалі дыверсантаў. 12 жніўня 2-я нямецкая армія пачала штурм Гомеля.



45. *Курган Славы.*

13—19 жніўня разам з войскамі Чырвонай Арміі баі за горад вёў і полк народнага апалчэння. Апалчэнцы трымалі абарону на поўнач ад горада на рубяжы в. Сямёнаўка — пас. Гудок — чыгуначная станцыя Уза — в. Рудзянец, перакрылі шашу Магілёў — Гомель, трымалі пад кантролем чыгунку Бабруйск — Гомель. Мужна змагаліся з гітлераўцамі каля вёсак Прудок, Касцюкоўка, Пакалюбічы. Асабліва жорсткія баі вялі каля в. Сямёнаўка і Пакалюбічы, якія некалькі разоў пераходзілі з рук у рукі. 19 жніўня, выкарыстаўшы перавагу ў сілах, гітлераўцы прарвалі абарону і ўварваліся ў Гомель. Пачаліся вулічныя баі. У ноч на 20 жніўня абаронцы пакінулі горад. Апалчэнцы працягвалі барацьбу супраць нямецка-фашысцкіх акупантаў у партызанскіх атрадах, у радах Чырвонай Арміі.



46. *Помнік на магіле ахвяр фашызму.*



51. *Помнік на магіле гомельскіх апалчэнцаў і на магіле Ц. С. Барадзіна.*

Герой Савецкага Саюза Ц. С. Барадзін нарадзіўся ў жніўні 1917 г. ў Гомелі ў сям'і рабочага. Член КПСС з 1941 г. Скончыў Маскоўскі паліграфічны інстытут (1941 г.). Працаваў на фабрыцы «Палесдрук». Пасля акупацыі Гомеля нямецка-фашысцкімі захопнікамі па заданню Гомельскага падпольнага гаркома КП(б)Б арганізаваў і ўзначаліў тут падпольную групу, члены якой друкавалі і распаўсюджвалі лістоўкі, рабілі для партызан бланкі пропускаў і інш. дакументы, вызвалялі з лагераў ваеннапалонных, удзельнічалі ў дыверсіях. З лістапада 1941 г. Ц. С. Барадзін кіраўнік Гомельскага аператыўнага падпольнага цэнтра па каардынацыі дзейнасці падпольных груп. 8.5.1942 г. ў час падрыхтоўкі ўзрыву Гомельскай электрастанцыі гітлераўцы схапілі яго і некалькі членаў групы і пасля жорсткіх катаванняў 20.6.1942 г. расстралялі. Званне Героя Савецкага Саюза Ц. С. Барадзіну прысвоена 8.5. 1965 г. Яго імем у Гомелі названа вуліца.

У 1975 г. да 30-годдзя перамогі над нямецка-фашысцкімі захопнікамі пастаўлены помнік (скульпт. Г. Гарбанёў, арх. Л. Тамкоў; чыгун, мармур, граніт, бутавы камень, бетон; вышыня стэлы 2,3 м, даўжыня 13 м). Помнік — чыгунная стэла ў форме паралелепіпеда на 4 бетонных апорах. На гранях стэлы размешчаны літыя рэльефы на тэмы: «Смерць фашызму», «Падпольшчыкі», «Партызаны», «Воін і маці». Выявы паясныя, выкананы ў абагульненай экспрэсіўнай манеры. Абапал стэлы — 2 мармуровыя пліты: на брацкай магіле апалчэнцаў і на магіле Ц. С. Барадзіна. Пляцоўка вакол помніка выкладзена шэрымі бетоннымі плітамі, абкружана парапетамі з бутавага каменю, акаймавана гранітам. Выразныя геаметрычныя формы, чорны колер граніту, масіўнасць стэлы надаюць помніку манументальнасць.

*Літ.:* В грозные годы.— Мн., 1973; Андрющенко Н. К. Народное ополчение Белоруссии.— Мн., 1980; Навечно в сердце народном.— 3 изд.— Мн., 1984.

*В. Б. Караткевіч, Л. Г. Лапцэвіч.*

**52. МАГІЛА ЗВІНАГРОДСКАГА** Барыса Фёдаравіча (гіст.). На Давыдаўскіх могілках.

Беларускі савецкі жывапісец, заслужаны дзеяч мастацтваў БССР (1956 г.) Б. Ф. Звінагродскі нарадзіўся 1.3. 1896 г. ў г. Артвін (цяпер тэрыторыя Турцыі) у сям'і юрыста. З дзяцінства захапляўся жывапісам, займаўся ў прыватных студыях Харкава. У 1915 г. прызваны ў армію, да 1917 г. ў Гатчынскай ваенна-авіяцыйнай школе. У 1917—18 гг. вучыўся ў Маскоўскім вучылішчы жывапісу, скульптуры і дойлідства ў А. Я. Архіпава. У 1918—19 гг. у Чырвонай Арміі. З 1925 г. ў Гомелі: выкладчык графікі ў школах і тэхнікумах, кіраўнік гуртка выяўленчага мастацтва ў Палацы піянераў (1937—38 гг.). У 1940—48 гг. галоўны мастак Дзяржаўнага тэатра лялек БССР. У Вялікую Айчынную вайну супрацоўнічаў у перыядычным выданні ЦК КП(б)Б «Раздавім фашысцкую гадзіну» (1941 г.). У 1948—57 гг. кіраўнік гуртка выяўленчага мастацтва Гомельскага Палаца культуры чыгуначнікаў.

Б. Ф. Звінагродскі працаваў пераважна ў станковым жывапісе (пейзаж і нацюрморт). Сціплыя, без вонкавых эфектаў творы Б. Ф. Звінагродскага адметныя шчырасцю пачуццяў, паэтычнай перадачай своеасаблівай велічы беларускай прыроды. Сярод пейзажаў, дзе паказаны куткі Гомельшчыны: «Раніца на Сажы» (1945 г.), «Каля прыстані» (1947 г.), «Баржы на Сажы» (1949 г.), «Сож каля суднарамонтнага завода» (1951 г.), «Земснарад на Сажы» (1952 г.), «Сож. Вялікая вада» (1953 г.), «Вярхоўе ракі Сож» (1954 г.), «Сож. Лёд прайшоў» (1960 г.), «Зіма» (1962 г.), «Прыцемкі на Прыпяці» (1963 г.), «Мірнае неба» (1964 г.), «Зеляніна. Май» (1967 г.), «Надвячорак на Прыпяці» (1969 г.), «Уборка сена» (1972 г.). У Дзяржаўным мастацкім музеі БССР 11 работ Б. Ф. Звінагродскага.

Памёр 29.6.1982 г.

*Літ.:* Орлова М. А. Искусство Советской Белоруссии.— М., 1960.

*В. М. Баскова.*

**53. МАГІЛА МІХАЙЛОЎСКАГА** Рыгора (гіст.). Вул. Савецкая, у Студэнцкім парку. Начальнік аддзела Гомельскага губвышуку Р. Міхайлоўскі загінуў 22.5.1924 г. ў баі супраць ворагаў Савецкай улады. У 1956 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**54. МАГІЛА НЕСЦЯРОВІЧА** Паўла Уладзіміравіча (гіст.). На Давыдаўскіх могілках.

Герой Савецкага Саюза П. У. Несцяровіч нарадзіўся 25.6.1913 г. ў в. Енцы Кармянскага р-на ў сям'і селяніна. Член КПСС з 1944 г. Працаваў у калгасе на радзіме, па камсамольскай пуцёўцы на Далёкім Усходзе. У Вялікую Айчынную вайну на фронце з 1943 г. Удзельнік Курскай бітвы, вызвалення Беларусі (Рэчыцы, Бабруйска, Асіповіч, Баранавіч), Польшчы, баёў ва Усходняй Прусіі. Вызначыўся пры фарсіраванні Дняпра ў раёне Лоева. Сяржант 148-га асобнага сапёрнага батальёна 193-й стралковай Чырванасцяжнай дывізіі 65-й арміі П. У. Несцяровіч 15.10.1943 г. з групай сапёраў пераправіўся на правы бераг ракі, нацягнуў паромны трос, 16 кастрычніка пад агнём праціўніка пераправіў цераз раку 9 процітанкавых гармат, 6 мінамётных батарэй. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 30.10.1943 г. З 1947 г. ў органах МУС БССР у Гомелі. Памёр 7.9.1974 г. У 1976 г. на магіле пастаўлены абеліск.

*Т. Р. Чуракова.*

**55. МАГІЛА ОСІПАВА** Кірылы Нічыпаравіча (гіст.). На Давыдаўскіх могілках.

Герой Савецкага Саюза К. Н. Осіпаў нарадзіўся 2.2.1907 г. ў в. Збароў Рагачоўскага р-на ў сялянскай сям'і. Член КПСС з 1931 г. З 1929 г. ў Чырвонай Арміі. Скончыў артылерыйскае вучылішча (1935 г.), Вышэйшую афіцэрскую артылерыйскую школу (1947 г.). Удзельнік савецка-фінляндскай вайны 1939—40 гг. У Вялікую Айчынную вайну з чэрвеня 1941 г. на фронце, сакратар партбюро артылерыйскага палка, старшы палітрук. У складзе групы войск генерал-лейтэнанта І. В. Болдзіна з баямі прабіваўся з акружэння па тэрыторыі Беларусі. У жніўні 1941 г. перайшоў лінію фронту, наладзіў сувязь з камандуючым 19-й арміяй І. С. Коневым, удзельнічаў у распрацоўцы і ажыццяўленні плана для злучэння групы з часцямі Чырвонай Арміі. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 15.8.1941 г. У 1942—43 гг. у штабе партызанскага руху пры ваенсавеце Заходняга фронту. З 1944 г. на фронце, удзельнік вызвалення Беларусі, баёў ва Усходняй Прусіі, супраць імперыялістычнай Японіі. Да 1955 г. служыў у Савецкай Арміі, палкоўнік. Памёр 16.8.1975 г. У 1976 г. на магіле пастаўлены абеліск.

*Літ.:* Навечно в сердце народном.— 3 изд.— Мн., 1984. *М. В. Кірэйшын.*

**56. МАГІЛА ПАНЬКОВАЙ** Алены Данілаўны (гіст.). Вул. Ільіча, на Навабеліцкіх могілках.

Герой Сацыялістычнай Працы А. Д. Панькова нарадзілася 8.5.1914 г. ў г. Лунінец у рабочай сям'і. Член КПСС з 1945 г. З 1935 г. працавала электразваршчыцай Гомельскага вагоннага дэпо. Званне Героя Сацыялістычнай Працы прысвоена ў 1960 г. за выдатныя поспехі ў выкананні вытворчых планаў. Дэпутат Вярхоўнага Савета БССР з 1963 г. Памерла 8.11. 1964 г. У 1977 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**57. МАГІЛА САВЕЦКАГА ВОІНА** (гіст.). На Прудкоўскіх могілках. Воін загінуў 25.11.1943 г. ў баі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. Прозвішча не ўстаноўлена. У 1960 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**58. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА АГАРЭНКУ** Данілу Архіпавічу (гіст.). Вул. Кірава, 122, на будынку аддзела ўнутраных спраў выканкома Чыгуначнага раённага Савета народных дэпутатаў г. Гомеля. Устаноўлена ў 1962 г. на ўшанаванне памяці былога начальніка 4-га аддзялення міліцыі г. Гомеля Д. А. Агарэнкі, які загінуў 10.4.1944 г. пры затрыманні злачынца. Адна з вуліц горада названа яго імем.

**59. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА АХВЯРАМ ФАШЫЗМУ** (гіст.). Вул. Савецкая, 39, на будынку вытворчага абутковага аб'яднання «Праца».

У Вялікую Айчынную вайну ў часова акупіраваным Гомелі ў казармах былога кавалерыйскага палка нямецка-фашысцкія захопнікі стварылі цэнтральны перасылачны канцэнтрацыйны лагер, у якім адначасова знаходзілася каля 30 тыс. савецкіх ваеннапалонных. Ад непасільнай працы, голаду, холаду тут паміралі за суткі 300—500, зімой каля 1 тыс. вязняў. Усяго за час існавання лагера гітлераўцы загубілі ў ім больш за 100 тыс. чалавек.

У 1970 г. на ўшанаванне памяці ахвяр фашысцкага тэрору ўстаноўлена мемарыяльная дошка. *В. Б. Караткевіч.*

**60. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА БАСЯНКОВУ** Пятру Харытонавічу (гіст.). Рабочы пасёлак Касцюкоўка, вул. Басянкова, 3. Устаноўлена ў 1975 г. на ўшанаванне памяці Героя Савецкага Саюза П. Х. Басянкова, які жыў у гэтым доме пасля Вялікай Айчыннай вайны. Гл. артыкул № 49 «Магіла Басянкова Пятра Харытонавіча».

**61. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА ГАЛАВАЧОВУ** Паўлу Якаўлевічу **І ЗАЙЦАВУ** Івану Сцяпанавічу (гіст.). Вул. Севастопальская, 153, на будынку гарадскога прафесійна-тэхнічнага вучылішча № 56. Устаноўлена ў 1973 г. на ўшанаванне памяці двойчы Героя Савецкага Саюза П. Я. Галавачова, які ў 1934 г. скончыў рамеснае вучылішча (размяшчалася ў гэтым будынку), і Героя Савецкага Саюза І. С. Зайцава, які вучыўся тут у 1940 г. Гл. таксама артыкулы № 360 «Радзіма Галавачова Паўла Якаўлевіча» і № 579 «Радзіма Зайцава Івана Сцяпанавіча».

**62. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА ГЕРОЯМ САВЕЦКАГА САЮЗА** (гіст.). Вул. Гагарына, 55. Устаноўлена ў 1971 г. ў гонар лётчыкаў двойчы Героя Савецкага Саюза П. Я. Галавачова, Герояў Савецкага Саюза П. У. Гельман, В. Ф. Каленнікава, П. В. Мажэйкі, Я. К. Мініна, К. Ф. Міхаленкі, В. П. Мухіна, М. І. Семянцова, якія ў 1930-я гады вучыліся ў Гомельскім аэраклубе.

**63. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА ЖАЛЕЗНЯКОВУ** Івану Іванавічу (гіст.). Вул. Кіеўская, 65, на будынку школы-інтэрната № 5. Устаноўлена ў 1970 г. на ўшанаванне памяці кіраўніка падпольнай камсамольска-маладзёжнай групы (дзейнічала ў Вялікую Айчынную вайну на чыгуначнай станцыі Гомель) І. І. Жалезнякова, які тут вучыўся ў 1933—41 гг. Расстраляны нямецка-фашысцкімі захопнікамі 26.9.1943 г.

**64. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА КАЛЕНІКАВУ** Івану Емяльянавічу, **СКЛЯЗНЕВУ** Георгію Міхайлавічу **І ШАНДАЛАВУ** Юрыю Абрамавічу (гіст.). Вул. Ільіча, 53, на будынку школы № 2. Устаноўлена ў 1975 г. на ўшанаванне памяці Герояў Савецкага Саюза І. Е. Каленікава, Г. М. Скляznёва і Ю. А. Шандалава, якія вучыліся ў гэтай школе. Гл. таксама артыкулы № 125 «Радзіма Каленікава Івана Емяльянавіча», № 133 «Радзіма Скляznёва Георгія Міхайлавіча», № 136 «Радзіма Шандалава Юрыя Абрамавіча».

**65. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА КАМУНАРАМ** (гіст.). Вул. Камунараў, 2, на будынку універмага. Устаноўлена ў 1957 г. на ўшанаванне памяці камунараў, якія ў час антысавецкага стракапытаўскага мяцяжу 1919 г. мужна супраціўляліся мяцежнікам у будынку гасцініцы «Савой», што стаяў на гэтым месцы. Гл. таксама артыкул № 4 «Брацкая магіла камунараў».

**66. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА КУНЦЭВІЧУ** Мікалаю Мікалаевічу (гіст.). Вул. Савецкая, 59, на будынку тэхнікума чыгуначнага транспарту. Устаноўлена ў 1968 г. на ўшанаванне памяці былога дырэктара тэхнікума (1936—41 гг.) М. М. Кунцэвіча, які ў Вялікую Айчынную вайну быў камісарам 2-га батальёна Гомельскага палка народнага апалчэння і загінуў 18.8. 1941 г. ў баі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў пры абароне горада. Адна з вуліц горада названа яго імем.

**67. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА ПАДПОЛЬШЧЫКАМ** (гіст.). Вул. Ільіча, 4, на будынку тлушчавага камбіната. Устаноўлена ў 1974 г.

У Вялікую Айчынную вайну будынак тлушчавага камбіната нямецка-фашысцкія захопнікі прыстасавалі пад майстэрні па рамонту танкаў і інш. баявой тэхнікі, прымушалі працаваць у іх ваеннапалонных. Пакінуты ў горадзе для падпольнай работы член КПСС з 1905 г. Е. І. Каленікаў стварыў тут падпольную групу, якая ў канцы 1941 г. ўзарвала майстэрні. Летам 1942 г. Е. І. Каленікаў арганізаваў таксама дыверсію на мясакамбінаце, у выніку якой прадпрыемства на доўгі час было выведзена са строю. У снежні 1942 г. гітлераўцы арыштавалі Е. І. Каленікава і расстралялі.

*Літ.:* Подвиги их бессмертны.— Мн., 1978. *В. Б. Караткевіч.*

**68. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА ПАДПОЛЬШЧЫКАМ** (гіст.). Вул. Шаўчэнкі, 27, на прахадной 12-га Дзяржаўнага падшыпнікавага завода. Устаноўлена ў 1981 г. на ўшанаванне памяці братоў-камуністаў В. І. і М. І. Сухавых, якія ў жніўні — верасні 1941 г. вялі барацьбу супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў на падшыпнікавым заводзе. Расстраляны акупантамі ў снежні 1941 г.

**69. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА ПАДПОЛЬШЧЫКАМ** (гіст.). Станцыя Гомель-Таварны, на будынку лакаматыўнага дэпо. Устаноўлена ў 1973 г. У Вялікую Айчынную вайну ў Гомельскім паравозным дэпо ў жніўні 1941 г. была створана падпольная група А. Ц. Брыкса, які па заданню Чы-

гунačнага райкома КП(б)Б г. Гомеля быў пакінуты для падпольнай работы і ўладкаваўся ў дэпо качагарам. У групу ўвайшлі яго брат Мікалай, што працаваў слесарам, качагар Е. А. Емяльянаў, рабочы Е. І. Хоміч і інш. Падпольшчыкі выводзілі са строю паравозы, псавалі водаправоды, браты Брыксы ўзарвалі 4 паравозы, дзесяткі вагонаў з бензінам, авіяматорамі, вывелі са строю трансфарматарную будку, падпалілі склад гаручага і змазачных матэрыялаў. Група дзейнічала да лістапада 1943 г.

*Літ.:* Подвиги их бессмертны.— Мн., 1978. *В. Б. Караткевіч.*

**70. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА ПАДПОЛЬШЧЫКАМ І ПАРТЫЗАНАМ** (гіст.). Вул. Фрунзе, 7, на будынку «Гомельцепласеткі». Устаноўлена ў 1963 г. У Вялікую Айчынную вайну нямецка-фашысцкія акупанты да канца 1941 г. аднавілі Гомельскую электрастанцыю. Гомельскі падпольны гарком КП(б)Б даручыў аператыўнаму цэнтру вывесці яе са строю. Падпольшчык І. Б. Шылаў уладкаваўся на станцыю матарыстам турбіннага цэха і стварыў падпольную групу. Але ў сувязі з тым, што 8.5.1942 г. Ц. С. Барадзін (кіраўнік аператыўнага цэнтра), І. Б. Шылаў і іншыя падпольшчыкі былі арыштаваны, аперацыю ажыццявіць не ўдалося. Летам 1943 г. камандаванне партызанскай брыгады Добрушскай імя І. В. Сталіна падрыхтавала новую аперацыю па вываду са строю электрастанцыі. Арганізатары дыверсіі камандзір брыгады І. П. Крывенчанка і яго намеснік па разведцы М. А. Міхайлашаў сабралі з дапамогай падпольшчыкаў звесткі аб ахове электрастанцыі, прапускным рэжыме. Партызанскія разведчыкі Н. Малышава і Н. Гурына даставілі на канспіратыўную кватэру гомельскіх падпольшчыкаў узрывчатку. У ноч на 14.8.1943 г. турбіна гомельскай электрастанцыі была ўзарвана.

*Літ.:* Подвиги их бессмертны.— Мн., 1978. *В. Б. Караткевіч.*

**71. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА САВЕЦКІМ ВОІНАМ** (гіст.). Вул. Міжнародная, 16, на будынку школы-інтэрната № 3. Устаноўлена ў 1980 г. ў гонар воінаў 1-й гвардзейскай асобнай інжынернай брыгады спецыяльнага прызначэння, якія ў кастрычніку 1943 г. размініравалі гэты будынак.

**72. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА СЫСОЕВУ** Аляксею Іванавічу (гіст.). Вул. Ільіча, 59, на будынку аддзела ўнутраных спраў выканкома Навабеліцкага райсавета народных дэпутатаў. Устаноўлена ў 1962 г. на ўшанаванне памяці ўчастковага інспектара 3-га аддзялення міліцыі г. Гомеля капітана А. І. Сысоева, які загінуў 13.9. 1961 г. пры тушэнні пажару.

**73. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА ЦАРЫКАВУ** Барысу Андрэевічу (гіст.). Вул. Царыкава, 38, на будынку сярэдняй школы № 25. Устаноўлена ў 1962 г. на ўшанаванне памяці Героя Савецкага Саюза Б. А. Царыкава, які ў 1936—41 гг. вучыўся ў гэтай школе. Гл. таксама артыкул № 1191 «Брацкая магіла савецкіх воінаў і партызан». У Гомелі яго імем названа вуліца.



78. *Мемарыяльная дошка паўстанцам.*

**74. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА ЧАЧЫНУ** Піліпу Іванавічу (гіст.). Вул. Чачына, 2а, на будынку аддзела ўнутраных спраў выканкома Цэнтральнага райсавета народных дэпутатаў. Устаноўлена ў 1966 г. на ўшанаванне памяці старшага лейтэнанта міліцыі П. І. Чачына, які загінуў 4.5.1960 г. пры выкананні службовых абавязкаў. У Гомелі яго імем названа вуліца.

**75. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА ЧКАЛАВУ** Валерыю Паўлавічу (гіст.). Вул. Карповіча, 8, на будынку школы № 11. Устаноўлена ў 1972 г. на ўшанаванне памяці Героя Савецкага Саюза лётчыка В. П. Чкалава, які ў 1928 г. служыў у авіяцыйнай часці ў Гомелі.

**76. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА ЧЫГУНАЧНІКАМ** (гіст.). Вул. Шаўчэнкі, 14, на будынку чыгуначнай станцыі. Устаноўлена ў 1975 г. на ўшанаванне памяці работнікаў станцыі, якія загінулі ў барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у Вялікую Айчынную вайну.

**77. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА ЧЫРВОНАГВАРДЗЕЙЦАМ** (гіст.). Чыгуначная станцыя Гомель-Сартавальны, на адміністрацыйным будынку лакаматыўнага дэпо. Устаноўлена ў 1977 г. ў гонар атрада чырвонагвардзейцаў на чале з бальшавіком М. С. Мажанавым, які быў сфарміраваны ў 1917 г. з рабочых паравознага дэпо для абароны Савецкай улады.

**78. МЕСЦА ПАЎСТАННЯ САЛДАТ РАЗМЕРКАВАЛЬНАГА ПУНКТА** (гіст.).

У 1-ю сусветную вайну 1914—18 гг. найбольшым рэвалюцыйным выступленнем на Беларусі і Заходнім фронце было паўстанне салдат на Гомельскім размеркавальным пункце. Адбылося пад уплывам рэвалюцыйнай прапаганды членаў Палескага камітэта РСДРП і салдат-бальшавікоў. Росту незадаволенасці садзейнічалі ваенныя паражэнні, разруха ў тыле, цяжкае становішча салдат. Хваляванні адбыліся 2.4 і 7.5.1916 г. У адказ на арышт і збіванне казака М. Ф. Башкіна 22.10.1916 г. паўстала каля 4 тыс. салдат і казакоў. Яны абяззброілі вартавых, вызвалілі 800 арыштаваных, знішчылі ў канцылярыі абвінавачвальныя дакументы. Карныя роты паўстанцы сустрэлі ружэйным агнём. Але паўстанцы мелі мала зброі, былі слаба арганізаваны, і іх выступленне было задушана. 26 кастрычніка хваляванні салдат пачаліся ў горадзе. Каля 200 салдат уцяклі з пункта, разагналі атрад паліцэйскіх, якія рабілі вобыскі ў дамах рабочых, а потым уварваліся на размеркавальны пункт, абяззброілі каравул, вызвалілі арыштаваных, захапілі 50 вінтовак. Да іх далучыліся 1000 салдат і матросаў. Яны сустрэлі агнём і камянямі карны атрад. Бой працягваўся да глыбокай ночы, але паўстанцы былі рассеяны. 9 кіраўнікоў і актыўных удзельнікаў паўстання былі расстраляны, 2 сасланы на катаргу, 5 — у арыштанцкія роты.

У 1967 г. на ўшанаванне памяці паўстанцаў на будынку вытворчага абутковага аб'яднання «Праца» (вул. Савецкая, 39) устаноўлена мемарыяльная дошка.

*Літ.:* В борьбе за Октябрь в Белоруссии и на Западном фронте.— Мн., 1957; Савицкий Э. М. Революционное движение в Белоруссии (август 1914 — февраль 1917 гг.).— Мн., 1981. *Э. М. Савіцкі.*

**79. МІКАЛАЕЎСКАЯ ЦАРКВА** (архіт.). На паўночна-ўсходняй ускраіне горада, на беразе р. Валатава (старое рэчышча р. Сож). Пабудавана ў 1805 г. з цэглы, часткова перабудавана ў 2-й палавіне 19 ст., у 1834 г. рэканструя-



80. *Будынак былой мужчынскай гімназіі. Цэнтральная частка галоўнага фасада.*

ваны інтэр'ер. Складаецца з 3 аб'ёмаў. Да асноўнага квадратнага ў плане аб'ёму з усходу прымыкае чатырохгранная апсіда, з захаду — бабінец з трох'ярусная вежай-званіцай.

Царква — помнік архітэктуры класіцызму.

**80. МУЖЧЫНСКАЯ ГІМНАЗІЯ** (архіт.). На скрыжаванні вуліц Кірава і Карповіча. Пабудавана ў 1898 г. з цэглы (арх. С. Шабунеўскі). Цяпер у будынку размяшчаецца адміністрацыйна-навучальны корпус Беларускага інстытута інжынераў чыгуначнага транспарту.

Будынак П-падобны ў плане, спачатку быў двухпавярховы. Фасады вылучаюцца буйнымі чляненнямі з



80. *Будынак былой мужчынскай гімназіі. Фрагмент дэкору.*



80. *Будынак былой мужчынскай гімназіі. План 1-га паверха.*



81. *Палац культуры чыгуначнікаў імя У. І. Леніна. Выгляд з боку ўвахода ў клубную частку.*



81. *Палац культуры чыгуначнікаў імя У. І. Леніна. Выгляд з боку ўвахода ў кінатэатр.*

вызначэннем галоўных, больш высокіх памяшканняў (актавая і гімнастычная залы, зала для рысавання, царква і інш.), што пазбаўляе будынак манатоннасці пры рытмічным паўтарэнні аднолькавых па прапорцыях аконных праёмаў класных пакояў і надае яму манументальнасць. Сцены аздоблены ліштвамі, ляпнымі ўстаўкамі, цягамі, меандрам, разеткамі, завершаны багата дэкарыраваным фрызам і развітым прафіляваным карнізам. Вокны 1-га паверха прамавугольныя, 2-га — арачныя. Планіроўка калідорная. У цэнтральным аб'ёме, які выходзіць на вул. Карповіча, быў парадны ўваход з прасторным вестыбюлем і шырокай трохмаршавай лесвіцай. З абодвух бакоў знаходзіліся класныя пакоі і памяшканні для навучальна-выхаваўчай работы, у вуглавой частцы — царква, у левым крыле — жылыя пакоі дырэктара і інспектара гімназіі, у правым (выходзіць на вул. Кірава) — актавая і гімнастычная залы. У Вялікую Айчынную вайну будынак разбураны. Пасля вайны адноўлены (праект інж. Р. Ц. Ханіна), надбудаваны 3-і паверх без купала над цэнтральнай часткай.

Будынак — прыклад навучальных збудаванняў на Беларусі канца 19 — пачатку 20 ст.

*Літ.:* Чарнатаў В. М. Архітэктура школьных будынкаў.— Помнікі гісторыі і культуры Беларусі, 1974, № 4.

*В. М. Чарнатаў.*

**81. ПАЛАЦ КУЛЬТУРЫ ЧЫГУНАЧНІКАЎ** імя У. І. Леніна (архіт.). Прывакзальная пл., 4. Пабудаваны ў 1930 г. (арх. А. Кірылаў) у стылі канструктывізму. У Вялікую Айчынную вайну часткова разбураны. Адноўлены ў 1950 г. (арх. І. Пестракоў), зменена аздоба фасадаў і галоўнага ўвахода, часткова ўнутраная планіроўка.

Будынак складаецца з трох выразна вылучаных паводле функцыянальнага прызначэння аб'ёмаў: тэатральна-канцэртнай залы з дапаможнымі памяшканнямі, клубнай часткі і кінатэатра. У кампазіцыі дамінуе аб'ём тэатральна-канцэртнай залы, які выступае за асноўную плоскасць фасада.



81. *Палац культуры чыгуначнікаў імя У. І. Леніна. План.*

Галоўны ўваход зроблены ў выглядзе класіцыстычнага порціка, завершаны франтонам. Інтэр'ер залы вырашаны ў блакітна-белай гаме, з каланадай бакавых галерэй. Уваход у трохпавярховы вуглавы аб'ём клубнай часткі фланкіраваны іанічнымі калонамі, унутраная планіроўка калідорная. На 1-м паверсе размяшчаецца бібліятэка, на 2-м і 3-м — памяшканні адміністрацыйна-гаспадарчыя і для работы гурткоў. Двухпавярховы аб'ём кінатэатра злучаны з клубнай часткай крытым пераходам на ўзроўні 2-га паверха. Галоўны фасад завершаны ступеньчатым атыкам.

У палацы працуюць 7 народных калектываў: тэатр, ансамблі песні і танца, песні і танца школьнікаў, аркестры народных інструментаў і духавы,



81. *Палац культуры чыгуначнікаў імя У. І. Леніна. Фрагмент інтэр'ера тэатральна-канцэртнай залы.*



82. *Палацава-паркавы ансамбль. Схема планіроўкі: 1 — палац, 2 — Петрапаўлаўскі сабор, 3 — капліца, 4 — маяк, 5—19 — сучасныя пабудовы.*



**82а.** *Палац. З карціны мастака М. Залескага. 1850-я гады.*

цырк, тэатр юнага гледача. З 1958 г. дзейнічае адзін з першых у краіне народных універсітэтаў — універсітэт мастацкага выхавання (3 факультэты). У 1967 г. адкрыты народны музей рэвалюцыйных, баявых і працоўных традыцый гомельскіх чыгуначнікаў.

*У. В. Алісейчык.*

**82. ПАЛАЦАВА ПАРКАВЫ АНСАМБЛЬ** (архіт., гіст., маст.). На пл. Леніна, у цэнтры горада, на высокім правым беразе р. Сож. Ансамбль уключае палац, парк, Петрапаўлаўскі сабор, капліцу.

**82а.** Палац закладзены ў 1785 г. генерал-фельдмаршалам П. А. Румянцавым-Задунайскім на месцы абарончых збудаванняў і драўлянага замка М. Чартарыйскага. Да 1834 г. належаў Румянцавым, у 1834—56 гг.— генерал-фельдмаршалу І. Ф. Паскевічу. У 1785—93 гг. пабудаваны галоўны корпус — кампактны двухпавярховы аб'ём з бельведэрам, завершаным паўсферычным купалам. Галоўны фасад аформлены чатырохкалонным порцікам карынфскага ордэра, дваровы — шасцікалонным. Плоскасці фасадаў рытмічна падзелены пілястрамі. Будынак мае цокальны паверх з уязным пандусам і прасторную паўкруглую тэрасу з боку дваровага фасада. У інтэр'еры квадратная цэнтральная зала з нішамі абрамлена радамі карынфскіх калон, абліцаваных штучным мармурам, перакрыта кесаніраваным купалам, мае антрэсолі з балюстрадай, упрыгожана жывапісам і ляпным арнаментам. У 1794—1805 гг. дабудаваны сіметрычныя бакавыя флігелі і павільёны, злучаныя з галоўным корпусам галерэямі (дванаццаціпралётнымі іанічнымі каланадамі), якія прызначаліся для бібліятэкі і твораў жывапісу. У 1837—48 гг. з паўднёвага боку палаца надбудавана чатырохвугольная трох'ярусная вежа. Перакрыцці вежы аздоблены плафонамі на падугах і кесонамі. У дэкоры выкарыстаны фестоны, маскароны, паясы іонік, сухарыкаў, гірляндаў, меандра, аканта. У 1852 г. рэканструявана цэнтральная частка будынка (арх. А. Галонскі, А. Ідзкоўскі). Палац рэстаўрыраваны ў 1923—25 гг., разбураны і спалены нямецка-фашысцкімі захопнікамі ў 1941—43 гг., адноўлены ў 1969 г. Цяпер тут Гомельскі абласны краязнаўчы музей, Палац піянераў і школьнікаў.

Палац — помнік архітэктуры класіцызму.

**82б.** Парк. Закладзены ў пачатку 19 ст. Размешчаны ўздоўж р. Сож (800 м). Плошча разам з пладовым садам каля 25 га. Асноўныя пасадкі і ландшафтная арганізацыя тэрыторыі праведзены ў сярэдзіне 19 (з 1849 г.) і ў пачатку 20 ст. Большая частка парку пейзажная, толькі невялікі ўчастак перад палацам рэгулярны, уключае партэр з газонамі і кветнікамі. Быў



**82а.** *Палац. Галоўны фасад.*



**82а.** *Палац. План 1-га паверха.*



**82а.** *Палац. Фрагмент інтэр'ера.*



**82а.** *Палац. Капітэль інтэр'ера.*

багата ўпрыгожаны скульптурамі і малымі архітэктурнымі формамі (не зберагліся). Пейзажная частка парку перасечана глыбокім ярам з ручаём Гомій (ставок Лебядзінае воз.), цераз які перакінуты 2 масты (Верхні і Ніжні). Адзін з іх выкладзены бутавым каменем у форме архаічнай аркі. У парку вялікі і малы гроты, аранжарэя, маяк і іншыя збудаванні. Дрэвы мясцовых парод (дуб, граб, клён, ясень, ліпа) і экзоты (кедр сібірскі, лістоўніца японская, хвоя чорная, туя заходняя, піхта бальзамічная і інш.) скампанаваны ў маляўнічыя курціны. Цяпер тут парк культуры і адпачынку імя А. В. Луначарскага.

Парк — помнік садова-паркавага мастацтва.



**82а.** *Палац. Галоўны корпус.*



**82б.** *Куток парку.*

**82в.** Петрапаўлаўскі сабор. Пабудаваны ў 1809—19 гг. (арх. Дж. Кларк). Вышыня каля 25 м. У плане — выцягнуты крыж. Сяродкрыжжа вылучана паўсферычным купалам на высокім светлавым барабане. Чатыры дарычныя шасцікалонныя порцікі на тарцах і рады паўкалон бакавых фасадаў, увянчаныя трыгліфным фрызам, надаюць пабудове манументальнасць. Цяпер тут размешчаны планетарый.

Сабор — помнік архітэктуры класіцызму.



**82в.** *Петрапаўлаўскі сабор.*



**82в.** *Петрапаўлаўскі сабор. План.*

**82г.** Капліца. Пабудавана ў 1870—89 гг. (арх. Я. Чарвінскі). Дэкаратыўныя работы выканаңы мясцовымі майстрамі пад кіраўніцтвам мастака С. Садзікава. Мураванае квадратнае ў плане збудаванне накрыта высокім васьмігранным шатром з люкарнамі і цыбулепадобнай галоўкай (агульная вышыня 18 м). Такія ж галоўкі завяршаюць вуглавыя часткі. На паўднёвым фасадзе ўваход з лесвіцай і арачным парталам. Фасады абліцаваны светлай цэглай, аздоблены керамічнымі дэталямі і каляровай маёлікай. У дэкоры выкарыстаны бочкападобныя і вітыя слупы, закамары, ажурныя крыжы. Побач з капліцай надбудова ўвахода ў фамільную пахавальню Паскевічаў, вырашаная ў выглядзе невялікага аб'ёму, які ўвянчаны маленькім барабанам з галоўкай, звязана лесвіцай са склепам (даўжыня 28 м). У падлогу склепа ўмураваны мемарыяльныя пліты, на тарцовай сцяне мазаічнае паліхромнае пано. Капліца і пахавальня рэстаўрыраваны ў 1971—75 гг.

Капліца — помнік архітэктуры псеўдарускага стылю.

Палацавы ансамбль — помнік манументальнага дойлідства. Этапы фарміравання ансамбля адлюстроўваюць эвалюцыю архітэктуры Беларусі канца 18—19 ст.

**82д.** Мемарыяльная дошка ў гонар абвяшчэння Савецкай улады ў



**82в.** *Петрапаўлаўскі сабор. Аксанаметрыя.*



**82г.** *Капліца.*



**82г.** *Капліца. Папярочны разрэз.*

Гомелі і павеце. Устаноўлена ў 1957 г. на будынку абласнога краязнаўчага музея (былы палац).

Паведамленне аб перамозе ўзброенага паўстання ў Петраградзе і ўтварэнні рабоча-сялянскага ўрада — Савета Народных Камісараў (СНК) на чале з У. І. Леніным атрымана ў Гомелі 26.10(8.11).1917 г. Бальшавікі горада прывялі ў баявую гатоўнасць рэвалюцыйныя часці гарнізона, стварылі атрады Чырвонай гвардыі, устанавілі кантроль за чыгункай, поштай, тэлеграфам. 28.10(10.11).1917 г. на пасяджэнні Гомельскага Савета рабочых і салдацкіх дэпутатаў з прадстаўнікамі рабочых і салдат прынята рэзалюцыя аб падтрымцы СНК. 30.10(12.11). 1917 г. на аб'яднаным пасяджэнні Гомельскага Савета і выканкома павятовага Савета сялянскіх дэпутатаў ухвалены дэкрэты II Усерасійскага з'езда Саветаў, у горадзе і павеце абвешчана Савецкая ўлада, створаны ВРК.

**82е.** Мемарыяльная дошка ў памяць аб размяшчэнні штаба Цэнтральнага фронту. Устаноўлена ў 1975 г. на будынку абласнога краязнаўчага музея. У 1941 г. ў будынку музея размяшчаўся штаб Цэнтральнага фронту. Цэнтральны фронт 1-га фарміравання дзейнічаў з 24.7 да 25.8.1941 г. У склад фронту ўваходзілі 13-я, 21-я, з 1.8. 1941 г. 3-я арміі і група ваенна-павет-

раных сіл. Камандуючыя фронтам генерал-палкоўнік Ф. І. Кузняцоў, з 7.8.1941 г. генерал-лейтэнант М. Р. Яфрэмаў, член Ваеннага савета сакратар ЦК КП(б)Б П. К. Панамарэнка. Створаны для прыкрыцця стыку Заходняга і Паўднёва-Заходняга франтоў і баявых дзеянняў на Гомельска-Бабруйскім напрамку ў падтрымку Смаленскай абарончай аперацыі Заходняга фронту. Савецкія войскі сарвалі разлікі нямецка-фашысцкага камандавання на няспыннае прасоўванне да Масквы.

*Літ.:* Чантурия В. А. Архитектура Белоруссии конца XVIII — начала XIX века.— Мн., 1962; яго ж. Архитекторы и строители в Белоруссии в XVIII — XIX вв.— У кн.: Сборник научных работ Ин-та строительства и архитектуры АН БССР. Мн., 1960, в. 3; Лукомский Г. Гомельская усадьба княгини И. И. Варшавской, графини Паскевич-Эриванской.— Столица и усадьба, 1913, № 1; Диренок Е. Д. Большевики Гомельщины в период подготовки и проведения Великой Октябрьской социалистической революции.— Мн., 1957; Победа Советской власти в Белоруссии.— Мн., 1967; Революционная борьба в Гомельской губернии: Исторические материалы. В. 1.— Гомель, 1921; Хроника важнейших событий истории Коммунистической партии Белоруссии. Ч. 1—3.— Мн., 1962—80.

*В. Б. Караткевіч, А. М. Кулагін, В. М. Чарнатаў.*

**83. ПОМНІК АСТРОЎСКАМУ** Мікалаю Аляксеевічу (гіст.). На вул. Астроўскага, у скверы. Скульптура савецкага пісьменніка М. А. Астроўскага ўстаноўлена ў 1951 г.

**84. ПОМНІК ВЫЗВАЛЕННЯ** (гіст.). На пл. Паўстання.

Увосень 1943 г. войскі Беларускага фронту вялі жорсткія баі на Гомельскім напрамку, у кастрычніку 1943 г. захапілі плацдармы на заходнім беразе Сажа (на поўдзень ад Гомеля) і Дняпра (у раёне Лоева), што стварыла спрыяльныя ўмовы для далейшага наступлення з мэтай вызвалення міжрэчча Сажа і Дняпра. Камандаванне Беларускага фронту (камандуючы генерал арміі К. К. Ракасоўскі) распрацавала Гомельска-Рэчыцкую аперацыю, у якой з 10 да 30 лістапада ўдзельнічалі арміі: 50-я (генерал-лейтэнант І. В. Болдзін), 3-я (генерал-лейтэнант А. В. Гарбатаў), 63-я (генерал-лейтэнант У. Я. Калпакчы), 48-я (генерал-лейтэнант П. Л. Раманенка), 65-я (генерал-лейтэнант П. І. Батаў), 11-я (генерал-лейтэнант І. І. Фядзюнінскі), 61-я (генерал-лейтэнант П. А. Бялоў) і 16-я паветраная (генерал-палкоўнік С. І. Рудэнка). Войскам Беларускага фронту процістаялі нямецкія 2-я, частка сіл 9-й і 4-й армій групы армій «Цэнтр», у ходзе аперацыі пад Жлобін і Рагачоў былі сцягнуты з іншых участкаў фронту 7 пяхотных дывізій і брыгада СС. 10 лістапада войскі левага крыла Беларускага фронту пачалі наступленне з плацдарма на заходнім беразе Дняпра. 65-я армія з паўднёвага ўсходу і 48-я армія з паўночнага ўсходу нанеслі ўдар па Рэчыцы і 18 лістапада вызвалілі горад. Да 20 лістапада савецкія войскі прасунуліся больш як на 70 км, 25 лістапада фарсіравалі Бярэзіну, абышлі Гомель з захаду. Войскі правага крыла Беларускага фронту (3-я і 50-я арміі) пачалі наступленне 22 лістапада на поўнач ад Гомеля, вызвалілі Прапойск, Карму, Журавічы, 25 лістапада выйшлі да Дняпра ў раёне Новага Быхава. Была створана пагроза акружэння гомельскай групоўкі праціўніка. У ноч на 26 лістапада гітлераўскае камандаванне вырашыла пачаць адыход з міжрэчча Сажа і Дняпра. 26 лістапада Гомель быў вызвалены ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. 23 вайсковым часцям і злучэнням, якія вызначыліся ў аперацыі, нададзены ганаровыя найменні «Гомельскіх». У аперацыі актыўны ўдзел прымалі партызаны Гомельскага, Палескага і Магілёўскага злучэнняў: наносілі ўдары па праціўніку, які адступаў, паралізавалі рух на чыгунцы Жыткавічы — Калінкавічы, Калінкавічы — Жлобін, Оўруч — Мазыр, перарэзалі чыгунку Магілёў — Жлобін, вялі разведку, вызвалілі і ўтрымлівалі да падыходу часцей Чырвонай Арміі 34 населеныя пункты, пераправу цераз Бярэзіну.

У 1968 г. ў гонар вызваліцеляў пастаўлены помнік — танк Т-34 на бетонным пастаменце.

*Літ.:* В грозные годы.— Мн., 1973.

*В. Б. Караткевіч.*

**85. ПОМНІК ГАЛАВАЧОВУ** Паўлу Якаўлевічу (маст.). Вул. Севастопальская, на тэрыторыі прафесійна-тэхнічнага вучылішча № 56. Пастаўлены ў 1975 г. (скульпт. З. Азгур; бронза, граніт; вышыня пастамента 2 м, бюста 1 м).

Скульптурны бюст двойчы Героя Савецкага Саюза генерал-маёра авіяцыі П. Я. Галавачова ўстаноўлены на прамавугольным пастаменце, абліцаваным плітамі чырвонага паліраванага граніту. Рысы твару перададзены з дакладным падабенствам. Урачыстае і гераічнае ў вобразе падкрэслена строга франтальнай кампазіцыяй, выразнасцю сілуэта. Пляцоўка вакол помніка выкладзена бетоннымі плітамі. У вучылішчы адкрыты музей П. Я. Галавачова. Гл. таксама артыкул № 360 «Радзіма Галавачова Паўла Якаўлевіча».

*Л. Г. Лапцэвіч.*



84. *Помнік Вызвалення.*



85. *Помнік П. Я. Галавачову.*

**86. ПОМНІК ГОМЕЛЬСКІМ АПАЛЧЭНЦАМ** (гіст.). Рабочы пасёлак Касцюкоўка, вул. Гомельская. Пастаўлены ў 1960 г. на ўшанаванне памяці байцоў Гомельскага палка народнага апалчэння, якія разам з войскамі Чырвонай Арміі мужна абаранялі Гомель ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў у жніўні 1941 г. Гл. таксама артыкул № 51 «Магіла гомельскіх апалчэнцаў і магіла Барадзіна Цімафея Сцяпанавіча».

**87. ПОМНІК ДЗЯРЖЫНСКАМУ** Феліксу Эдмундавічу (гіст.). На вул. Білецкага, у скверы. Скульптура Ф. Э. Дзяржынскага пастаўлена ў 1948 г.

**88. ПОМНІК КАЛІНІНУ** Міхаілу Іванавічу (гіст.). На вул. Хімакова, каля прахадной вагонарамонтнага завода імя М. І. Калініна. Бюст М. І. Калініна ўстаноўлены ў 1950 г.

**89. ПОМНІК КАМСАМОЛЬЦАМ** (гіст., маст.). На скрыжаванні вуліц Карповіча і Жаркоўскага. Пастаўлены ў 1964 г. на сродкі камсамольцаў Гомельшчыны на ўшанаванне памяці камсамольцаў — воінаў і партызан, якія загінулі ў барацьбе супраць ня-

мецка-фашысцкіх захопнікаў у Вялікую Айчынную вайну (арх. Ю. Лысаў, скульпт. У. Лятун; граніт, бронза; вышыня абеліска 25 м, скульптуры 2 м).

Помнік — чатырохгранны абеліск на прамавугольным ступеньчатым цокалі, дамінуе над наваколлем. Да фасаднай грані абеліска прымыкае скульптура дзяўчыны-камсамолкі (пастаўлена ў 1975 г.), якая сімвалізуе радасць перамогі. Яе духоўны ўздым перададзены ў дынаміцы лёгкай і зграбнай фігуры, падкрэслены ўзнятымі рукамі з вымпелам, пластыкай адзення, нібы адхінутымі ветрам валасамі. Кантраст чырвонага і шэрага граніту, цёмнай бронзы ўзмацняе выразнасць помніка. На яго гранях памятныя надпісы. Падыходы да абеліска афармлены дэкаратыўнымі газонамі.
*Л. Г. Лапцэвіч.*

**90. ПОМНІК КІРАВУ** Сяргею Міронавічу (гіст.). Вул. Інтэрнацыянальная, на тэрыторыі станкабудаўнічага завода імя С. М. Кірава. Скульптура С. М. Кірава ўстаноўлена ў 1960 г.

**91. ПОМНІК ЛЕНІНУ** Уладзіміру Ільічу (гіст., маст.). На пл. Леніна. Пастаўлены ў 1958 г. ў гонар 40-годдзя БССР (скульпт. Ш. Мікатадзе, арх. І. Спірын; бронза, граніт; вышыня скульптуры 6 м, пастамента 3 м). З'яўляецца кампазіцыйным цэнтрам плошчы.

Бронзавая скульптура У. І. Леніна ўстаноўлена на прамавугольным гранітным пастаменце, да яго прымыкаюць трыбуны. Фігура правадыра ў энергічным руху. У правай руцэ кепка, левая трымае лацкан расшпіленага паліто. Партрэтнае падабенства дасягнута дэталёвай прапрацоўкай форм, умеранымі святлоценевымі кантрастамі. Каларыстычнае вырашэнне заснавана на спалучэнні цёмнай бронзы скульптуры, чырвонага граніту пастамента і трыбун.
*Л. Г. Лапцэвіч.*

**92. ПОМНІК ЛЕНІНУ** Уладзіміру Ільічу (гіст.). На вул. Астроўскага, у скверы. Скульптура У. І. Леніна ўстаноўлена ў 1954 г.



89. *Помнік камсамольцам.*



91. *Помнік У. І. Леніну.*

**93. ПОМНІК ЛЕНІНУ** Уладзіміру Ільічу (гіст.). На вул. Барыкіна, каля адміністрацыйнага будынка завода санітарна-тэхнічнага абсталявання. Скульптура У. І. Леніна ўстаноўлена ў 1953 г.

**94. ПОМНІК ЛЕНІНУ** Уладзіміру Ільічу (гіст.). На вул. Барыкіна, каля завода будаўнічых дэталей. Скульптура У. І. Леніна ўстаноўлена ў 1966 г.

**95. ПОМНІК ЛЕНІНУ** Уладзіміру Ільічу (гіст.). Вул. Барыкіна, на тэрыторыі завода пускавых рухавікоў. Скульптура У. І. Леніна ўстаноўлена ў 1978 г.

**96. ПОМНІК ЛЕНІНУ** Уладзіміру Ільічу (гіст.). Рабочы пасёлак Касцюкоўка, вул. Гомельская, каля будынка прафесійна-тэхнічнага вучылішча № 19. Бюст У. І. Леніна ўстаноўлены ў 1976 г.

**97. ПОМНІК ЛЕНІНУ** Уладзіміру Ільічу (гіст.). Вул. Дастаеўскага, на тэрыторыі дрэваапрацоўчага камбіната. Скульптура У. І. Леніна ўстаноўлена ў 1952 г.

**98. ПОМНІК ЛЕНІНУ** Уладзіміру Ільічу (гіст.). Вул. Жаркоўскага, на тэрыторыі дзіцячай бальніцы. Скульптура У. І. Леніна ўстаноўлена ў 1960 г.

**99. ПОМНІК ЛЕНІНУ** Уладзіміру Ільічу (гіст.). Вул. Ільіча, на тэрыторыі тлушчавага камбіната. Скульптура У. І. Леніна ўстаноўлена ў 1951 г.

**100. ПОМНІК ЛЕНІНУ** Уладзіміру Ільічу (гіст.). На вул. Ільіча, каля кінатэатра «Мір», у скверы. Скульптура У. І. Леніна ўстаноўлена ў 1954 г.

**101. ПОМНІК ЛЕНІНУ** Уладзіміру Ільічу (гіст.). На вул. Кірава, каля корпуса фізічнага і матэматычнага факультэтаў універсітэта. Скульптура У. І. Леніна ўстаноўлена ў 1964 г.

**102. ПОМНІК ЛЕНІНУ** Уладзіміру Ільічу (гіст.). Праспект Леніна, на тэрыторыі дзіцячага сада № 51. Скульптура У. І. Леніна ўстаноўлена ў 1964 г.

**103. ПОМНІК ЛЕНІНУ** Уладзіміру Ільічу (гіст.). На вул. Міжнароднай, каля будынка школы-інтэрната № 3. Скульптура У. І. Леніна ўстаноўлена ў 1960 г.

**104. ПОМНІК ЛЕНІНУ** Уладзіміру Ільічу (гіст.). На вул. Савецкай, каля будынка тэхнікума чыгуначнага транспарту. Бюст У. І. Леніна ўстаноўлены ў 1963 г.

**105. ПОМНІК ЛЕНІНУ** Уладзіміру Ільічу (гіст.). Вул. Савецкая, на тэрыторыі панчошна-трыкатажнай фаб-

рыкі імя 8 Сакавіка. Бюст У. І. Леніна ўстаноўлены ў 1972 г.

**106. ПОМНІК ЛЕНІНУ** Уладзіміру Ільічу (гіст.). На вул. Савецкай, каля адміністрацыйнага будынка завода «Электраапаратура». Бюст У. І. Леніна ўстаноўлены ў 1978 г.

**107. ПОМНІК ЛЕНІНУ** Уладзіміру Ільічу (гіст.). На тэрыторыі чыгуначнай станцыі Гомель-Сартавальны, каля адміністрацыйнага будынка лакаматыўнага дэпо. Бюст У. І. Леніна ўстаноўлены ў 1977 г.

**108. ПОМНІК ЛЕНІНУ** Уладзіміру Ільічу (гіст.). На вул. Шаўчэнкі, каля прахадной падшыпнікавага завода. Скульптура У. І. Леніна ўстаноўлена ў 1960 г.

**109. ПОМНІК ЛЕНІНУ** Уладзіміру Ільічу (гіст.). Вул. Шаўчэнкі, на тэрыторыі крупянога завода камбіната хлебапрадуктаў. Скульптура У. І. Леніна ўстаноўлена ў 1971 г.

**110. ПОМНІК ЛЕНІНУ** Уладзіміру Ільічу (гіст.). Вул. Шашэйная, на тэрыторыі завода сельскагаспадарчага машынабудавання імя 60-годдзя Вялікага Кастрычніка. Скульптура У. І. Леніна ўстаноўлена ў 1952 г.

**111. ПОМНІК ЛЕНІНУ** Уладзіміру Ільічу (гіст.). Каля адміністрацыйнага будынка хімічнага завода. Скульптура У. І. Леніна ўстаноўлена ў 1969 г.

**112. ПОМНІК МАРКСУ** Карлу (гіст.). На вул. Савецкай, каля будынка тэхнікума чыгуначнага транспарту. Бюст К. Маркса ўстаноўлены ў 1963 г.

**113. ПОМНІК ПРАЦОЎНАЙ СЛАВЫ** (гіст.). Сельмашаўскі завулак, перад цэнтральнай прахадной завода «Гомсельмаш». У гонар выпуску заводам у 1977 г. першага самаходнага кормаўборачнага камбайна ў 1978 г. ўстаноўлены помнік — камбайн КСК-100.

**114. ПОМНІК РАБОТНІКАМ ДРЭВААПРАЦОЎЧАГА КАМБІНАТА** (гіст.). Вул. Дастаеўскага, на тэрыторыі дрэваапрацоўчага камбіната. На ўшанаванне памяці работнікаў камбіната, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1970 г. пастаўлена стэла.

**115. ПОМНІК РАБОТНІКАМ ШКЛОЗАВОДА ІМЯ М. В. ЛАМАНОСАВА** (гіст.). Рабочы пасёлак Касцюкоўка, вул. Гомельская, на тэрыторыі завода. На ўшанаванне памяці 89 рабочых і служачых прадпрыемства, якія загінулі ў барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у Вялікую Айчынную вайну, у 1967 г. пастаўлена стэла з барэльефнай выявай юнака. Перад помнікам запалены Вечны агонь.

**116. ПОМНІК РАБОЧЫМ ВАГОНАРАМОНТНАГА ЗАВОДА ІМЯ М. І. КАЛІНІНА** (гіст.). На вул. Хімакова, каля адміністрацыйных будынкаў завода. У 1967 г. на ўшанаванне памяці 29 рабочых, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, устаноўлены абеліск, у 1971 г. абапал яго — 2 стэлы з выявамі жанчыны ў жалобе, воіна з аўтаматам і чашы з Вечным агнём (аўтары Д. Злотнікаў, І. Ратніцкі).

**117. ПОМНІК РАБОЧЫМ «ГОМСЕЛЬМАША»** (гіст.). Вул. Шашэйная, на плошчы перад прахадной завода. У Вялікую Айчынную вайну больш за 1500 рабочых «Гомсельмаша» змагаліся супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. На ўшанаванне памяці рабочых, якія загінулі на франтах, у падполлі і ў партызанах, у 1975 г. пастаўлены помнік (скульпт. Ю. Скарынка; бетон, граніт). На 3 чорных гранітных кубах — вянок Славы, у сярэдзіне якога — стэла з барэльефнымі выявамі воіна і жанчыны ў жалобе. Перад стэлай — пліта з імёнамі загінуўшых, запалены Вечны агонь.



115. *Помнік работнікам шклозавода імя М. В. Ламаносава.*

**118. ПОМНІК СУХОМУ** Паўлу Восіпавічу (гіст., маст.). Праспект Леніна, каля дома № 22.

Савецкі авіяканструктар, двойчы Герой Сацыялістычнай Працы (1957 г., 1965 г.), доктар тэхнічных навук (1940 г.) П. В. Сухі нарадзіўся 10.7. 1895 г. ў г. Глыбокае Віцебскай вобл. ў сям'і настаўніка. У 1897 г. бацькі пераехалі ў Гомель. Скончыў Маскоўскае вышэйшае тэхнічнае вучылішча (1925 г.). З 1925 г. інжынер-канструктар Цэнтральнага аэрагідрадынамічнага інстытута імя М. Я. Жукоўскага. З 1939 г. галоўны канструктар доследнага канструктарскага бюро, з 1956 г. генеральны канструктар. Пад агульным кіраўніцтвам А. М. Тупалева распрацаваў знішчальнікі І-4 (1926—27 гг.), І-14 (1932—34 гг.). Канструктар і начальнік канструктарскай брыгады пры распрацоўцы самалёта РД (АНТ-25), канструктар самалёта «Радзіма» (АНТ-37). Стварыў шматмэтавы самалёт Су-2, у 1942—43 гг.— браніраваны штурмавік Су-6. Адзін з стваральнікаў рэактыўнай і звышгукавой авіяцыі. Пад яго кіраўніцтвам распрацаваны рэактыўныя самалёты Су-9, Су-10, Су-15 і інш. з турбарэактыўнымі рухавікамі, звышгукавыя рэактыўныя самалёты з стрэлападобным і трохвугольным крылом (Су-7б і інш.). На самалётах яго канструкцыі Т-431 і Т-405 устаноўлены 2 рэкорды свету па вышыні (1959 г., 1962 г.), 2 рэкорды свету па скорасці палёту па замкнёнаму маршруту (1960 г., 1962 г.). Лаўрэат Ленінскай прэміі 1968 г., Дзяржаўнай прэміі СССР 1943 г. і 1975 г. Дэпутат Вярхоўнага Савета СССР у 1958—74 гг. Памёр 15.9.1975 г.

У 1977 г. на ўшанаванне памяці П. В. Сухога пастаўлены помнік (скульпт. З. Віленскі, арх. В. Саенка; бронза, граніт; вышыня бюста 1,2 м,



114. *Помнік работнікам дрэваапрацоўчага камбіната.*



117. *Помнік рабочым «Гомсельмаша».*

пастамента 3,5 м). Пагрудны бюст П. В. Сухога пастаўлены на прамавугольным пастаменце, абліцаваным плітамі чорнага граніту. Строгасць пластычных прыёмаў, мадэліроўка форм, пабудаваная на тонкіх пераходах гладкіх паверхняў, падкрэсліваюць унутраную сабранасць, засяроджанасць канструктара. Цёмная бронза бюста, чорны паліраваны граніт пастамента надаюць помніку строгасць і ўрачыстасць. Пляцоўка выкладзена шэрымі бетоннымі плітамі, перад помнікам фантан, вакол дэкаратыўныя насаджэнні.

*В. Б. Караткевіч, Л. Г. Лапцэвіч.*

**119. ПОМНІК У ГОНАР ВОЙСК БЕЛАРУСКАГА ФРОНТУ** (гіст.). Каля будынка аэравакзала. У гонар воінаў Беларускага фронту, якія 26.11.1943 г. вызвалілі Гомель ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў, у 1972 г. пастаўлены абеліск.

**120. ПОМНІК У ГОНАР ВОЙСК БЕЛАРУСКАГА ФРОНТУ** (гіст.). На 9-м км Чарнігаўскай шашы. У гонар воінаў Беларускага фронту, якія 26.11. 1943 г. вызвалілі Гомель ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў, у 1964 г. пастаўлены абеліск.

**121. ПОМНІК ХМЯЛЬНІЦКАМУ** Багдану Міхайлавічу (гіст.). На вул. Б. Хмяльніцкага, насупраць стадыёна «Лакаматыў». Скульптура Б. Хмяльніцкага ўстаноўлена ў 1958 г.

**122. ПОМНІК ЧАЙКОЎСКАМУ** Пятру Ільічу (гіст.). На вул. Жаркоўскага, каля музычнай школы імя П. І. Чайкоўскага. Скульптура кампазітара ўстаноўлена ў 1978 г.

**123. РАДЗІМА БІРБРАЕРА** Яўгена Абрамавіча (гіст.).

Герой Савецкага Саюза Я. А. Бірбраер нарадзіўся ў 1912 г. ў сям'і рамесніка. Член КПСС з 1934. Скончыў Ленінградскі інстытут журналістыкі (1934 г.), курсы «Выстрал» (1942 г.). З 1934 г. працаваў у рэдакцыі газеты ў Ленінградзе. Удзельнік савецка-фінляндскай вайны 1939—40 гг. У Вялікую Айчынную вайну на фронце з верасня 1941 г., з 1942 г. на Сталінградскім, Сцяпным франтах. Камандзір мінамётнай роты 225-га гвардзейскага стралковага палка 78-й гвардзейскай стралковай дывізіі 7-й гвардзейскай арміі гвардыі старшы лейтэнант Я. А. Бірбраер вызначыўся ў верасні 1943 г. пры фарсіраванні Дняпра ў Днепрапятроўскай вобл. Рота пад агнём праціўніка фарсіравала раку і агнём з мінамётаў падтрымлівала пераправу асноўных сіл палка, адбіла 12 контратак праціўніка. Я. А. Бірбраер загінуў 6.10.1943 г. ў баі. Пахаваны ў с. Барадаеўка Верхнедняпроўскага р-на Днепрапятроўскай вобл. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 26.10.1943 г. *Т. Р. Чуракова.*

**124. РАДЗІМА ДЗЯДОК** Вольгі Анатольеўны (гіст.).

Беларускі савецкі скульптар В. А. Дзядок нарадзілася 6.12.1906 г. Вучылася ў Ленінградскім мастацка-прамысловым тэхнікуме (1925—27 гг.), у Інстытуце пралетарскага выяўленчага мастацтва (1927—31 гг.), потым пераехала ў Мінск. У выстаўках удзельнічала з 1931 г. У 1920—30-я гады выканала шэраг статуэтак з фарфору. Аўтар барэльефу «Дзяўчынка» (1940-я гады), партрэтаў Д. Ібаруры (1949 г.), Дз. І. Мендзялеева (1955 г.), В. А. Моцарта (1956 г.), скульптурных партрэтаў У. І. Леніна (1947 г.), Героя Савецкага Саюза П. І. Купрыянава (1958 г.), «Партрэт сына» (1940-я гады), «Ніна» (1962 г.). В. А. Дзядок належаць жанравыя кампазіцыі «Ураджай» (1946 г.), «Партызанка» (1947 г.), «Даярка» (1950 г.), «Маладосць» (1963 г.), «Парыванне» (1964 г.) і інш. Памерла 10.10.1974 г. Пахавана ў Мінску на Кальварыйскіх могілках.

*Літ.:* Художники народов СССР: Биобиблиогр. словарь. Т. 3.— М., 1976.

*Г. М. Ярмоленка.*

**125. РАДЗІМА КАЛЕНІКАВА** Івана Емяльянавіча (гіст.).

Герой Савецкага Саюза І. Е. Каленікаў нарадзіўся 19.11.1912 г. ў сям'і рабочага. Член КПСС з 1940 г. Скончыў Саратаўскае бранятанкавае вучылішча (1937 г.), Акадэмічныя курсы пры Ваеннай акадэміі бранятанкавых войск (1944 г.). У Чырвонай Арміі з 1933 г. Удзельнік вызвалення Заходняй Беларусі ў 1939 г., савецка-фінляндскай вайны 1939—40 гг. У Вялікую Айчынную вайну з чэрвеня 1941 г. на Заходнім, Калінінскім, Варонежскім, Бранскім, 1-м і 2-м Украінскіх франтах. Удзельнік контрудару войск Чырвонай Арміі каля г. Сянно ў 1941 г. Намеснік камандзіра танкавай брыгады гвардыі маёр І. Е. Каленікаў вызначыўся ў баях на Кіеўскім напрамку. 4—8.11.1943 г. перадавы атрад танкавай брыгады пад камандаваннем І. Е. Каленікава захапіў чыгуначную станцыю Жуляны, перарэзаў шашу Кіеў — Жытомір, разбіў перадавы атрад танкавай дывізіі праціўніка, нанёс яму вялікія страты ў жывой сіле і тэхніцы. Званне Героя Савецкага Саюза І. Е. Каленікаву прысвоена 10.1.1944 г. Да 1957 г. служыў у Савецкай Арміі. Памёр 14.8.1969 г. У Гомелі на будынку школы № 2, у якой ён вучыўся, устаноўлена мемарыяльная дошка. *Т. Р. Чуракова.*

**126. РАДЗІМА КАРПОВІЧА** Пятра Уладзіміравіча (гіст.).

Рэвалюцыянер-тэрарыст П. У. Карповіч нарадзіўся 3.10.1874 г. Вучыўся ў Гомельскай і Слуцкай гімназіях, Маскоўскім (1895—96 гг.), Юр'еўскім (г. Тарту; 1898—99 гг.) універсітэтах. Выключаны за ўдзел у студэнцкім руху. У 1896—98 гг. вёў рэвалюцыйную агітацыю ў Гомелі і Нясвіжы, адзін з арганізатараў Гомельскага камітэта РСДРП, забяспечваў яго марксісцкай літаратурай. У 1900—01 гг. зблізіўся з эсэрамі. 14.2.1901 г. за рэпрэсіі супраць рэвалюцыйных студэнтаў смяротна параніў міністра асветы М. П. Багалепава. Засуджаны на 20 гадоў



118. *Помнік П. В. Сухому.*

катаргі, зняволены ў Шлісельбургскую крэпасць, потым сасланы ў Акатуй. У 1907 г. уцёк за мяжу, далучыўся да «Баявой арганізацыі» эсэраў. У 1908 г. адзін з удзельнікаў падрыхтоўкі няўдалага замаху на цара Мікалая II, потым адышоў ад эсэраў. Загінуў 31.3(13.4).1917 г. Адна з вуліц Гомеля названа яго імем.

*Літ.:* Агеев М. З., Зеленков М. И. Их именами названы улицы Гомеля.— Мн., 1974; Фигнер В. Шлиссельбургские узники. 1884—1905: Биограф. очерки.— М., 1920. *В. Б. Караткевіч.*

**127. РАДЗІМА КАТУНІНА** Ільі Барысавіча (гіст.).

Герой Савецкага Саюза І. Б. Катунін нарадзіўся 4.11.1908 г. ў сям'і рабочага. Член КПСС з 1931 г. З 1934 г. ў Арджанікідзеўскім і Бранскім аэраклубах. Скончыў Ейскую школу ваенных лётчыкаў (1934 г.). У 1927—31 гг. працаваў на Гомельскім станкабудаўнічым заводзе. У Вялікую Айчынную вайну з сакавіка 1943 г. на Паўночным фронце. Намеснік камандзіра эскадрыллі штурмавога авіяпалка капітан І. Б. Катунін вызначыўся 23.4.1944 г. На падыходзе да цэлі яго самалёт быў падбіты агнём зенітнай артылерыі праціўніка. Палаючай машынай І. Б. Катунін тараніў варожы транспарт водазмяшчэннем 5 тыс. т і патапіў яго. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 31.5.1944 г. Навечна залічаны ў спісы 1-й эскадрыллі мінна-тарпеднага авіяпалка. У Гомелі адна з вуліц названа яго імем, на будынку станкабудаўнічага завода ўстаноўлена мемарыяльная дошка. *Т. Р. Чуракова.*

**128. РАДЗІМА ЛІЗЮКОВА** Аляксандра Ільіча (гіст.).

Герой Савецкага Саюза, генерал-маёр (1942 г.) А. І. Лізюкоў нарадзіўся 14.3.1900 г. ў сям'і настаўніка. Член КПСС з 1919 г. Скончыў Смаленскія артылерыйскія курсы камсаставу (1919 г.), Вышэйшую ваенную аўтабранятанкавую школу (1923 г.), Ваенную акадэмію імя М. В. Фрунзе (1927 г.). З 1919 г. ў Чырвонай Арміі. У 1919—21 гг. на Заходнім, Паўднёва-Заходнім франтах, удзельнік барацьбы супраць белагвардзейскіх бандаў, камандзір артылерыйскага ўзвода, начальнік артылерыі і намеснік камандзіра бранепоезда ў час ліквідацыі антонаўшчыны ў 1921 г. У 1921—31 гг. і з 1940 г. на выкладчыцкай рабоце. Аўтар кніг і артыкулаў па ваеннай справе. З 1931 г. ў штабе начальніка ўзбраення РСЧА, з 1934 г. камандзір асобнага танкавага палка, танкавай брыгады. У Вялікую Айчынную вайну з чэрвеня 1941 г. на Заходнім, Бранскім франтах, удзельнік абароны Масквы, намеснік камандзіра 36-й танкавай дывізіі, камандзір 1-й Маскоўскай мотастралковай дывізіі, стралковага, 2-га танкавага карпусоў, з чэрвеня 1942 г. камандуючы 5-й танкавай арміяй. Вызначыўся ў баях пад Барысавам і на Салаўёвай пераправе цераз Дняпро ў 1941 г. Загінуў 25.7.1942 г. ў баі каля с. Мядзведжае Семілуцкага р-на Варонежскай вобл. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 5.8.1941 г. Імя А. І. Лізюкова прысвоена Саратаўскаму вышэйшаму камандна-інжынернаму вучылішчу, яго імем названа вуліца ў Варонежы, імем братоў Лізюковых — вуліца ў Гомелі.

*Літ.:* Родинский Д., Царьков Н. Повесть о братьях.— М., 1976. *Т. Р. Чуракова.*

**129. РАДЗІМА ЛІЗЮКОВА** Пятра Ільіча (гіст.).

Герой Савецкага Саюза П. І. Лізюкоў нарадзіўся 20.12.1908 г. ў сям'і настаўніка. Член КПСС з 1943 г. Брат А. І. Лізюкова. Скончыў Ленінградскую артылерыйскую школу (1931 г.). З 1927 г. ў Чырвонай Арміі. У Вялікую Айчынную вайну з чэрвеня 1941 г. на Заходнім, Паўднёва-Заходнім, Ленінградскім, 3-м Беларускім франтах, камандзір артылерыйскага дывызіёна, знішчальна-процітанкавага артылерыйскага палка, брыгады. 30.1. 1945 г. брыгада пад камандаваннем палкоўніка П. І. Лізюкова ў баі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў пад Кёнігсбергам адбіла некалькі жорсткіх танкавых контратак праціўніка. П. І. Лізюкоў загінуў у гэтым баі. Пахаваны ў пас. Ушакова Калінінградскай вобл. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 19.4.1945 г. Навечна залічаны ў спісы знішчальна-процітанкавага артылерыйскага палка. Яго імем названы рыбалоўны траўлер, імем братоў Лізюковых — вуліца ў Гомелі.

*Літ.:* Родинский Д., Царьков Н. Повесть о братьях.— М., 1976. *Т. Р. Чуракова.*

**130. РАДЗІМА ОКАРКАВА** Уладзіміра Андрэевіча (гіст.).

Герой Сацыялістычнай Працы У. А. Окаркаў нарадзіўся 4.11.1915 г. ў рабочай сям'і. Член КПСС з 1944 г. Скончыў Ленінградскі інстытут інжынераў чыгуначнага транспарту (1949 г.). У 1929—36 гг. працаваў на Гомельскай дыстанцыі сігналізацыі і сувязі, у 1936—37 гг. тэхнік, начальнік участка службы дыстанцыі сувязі Дняпроўскага рачнога параходства. З 1938 г. начальнік тэхнічнага аддзела службы сувязі Беларускай чыгункі. У Вялікую Айчынную вайну працаваў у арганізацыях па аднаўленню прыфрантавой чыгункі. З 1949 г. галоўны інжынер службы сігналізацыі і сувязі Беларускай чыгункі. Аўтар шэрагу вынаходак. Званне Героя Сацыялістычнай Працы прысвоена ў 1959 г. за поспехі ў развіцці чыгуначнага транспарту. Памёр 4.8.1981 г. Пахаваны ў Мінску на Чыжоўскіх могілках. *В. Б. Караткевіч.*

**131. РАДЗІМА ПУКСТА** Рыгора Канстанцінавіча (гіст.).

Беларускі савецкі кампазітар, заслужаны дзеяч мастацтваў БССР (1955 г.) Р. К. Пукст нарадзіўся 14.11.1900 г. ў сям'і чыгуначніка. Член КПСС з 1941 г. Скончыў Гомельскае тэхнічнае вучылішча (1918 г.), Маскоўскую кансерваторыю (1928 г., клас прафесара Г. Канюса). Працаваў у Гомелі на чыгунцы. Выкладаў спевы ў школах Гомеля. З 1929 г. ў Омскім, Гомельскім музычных тэхнікумах. У Вялікую Айчынную вайну ў складзе франтавой брыгады Беларускай дзяржаўнай філармоніі. З 1943 г. начальнік музычнага аддзела Упраўлення па справах мастацтва пры СНК БССР. У 1944—49 гг. і 1959—60 гг. выкладчык Беларускай кансерваторыі. У 1949—59 гг. хормайстар, мастацкі кіраўнік музычнага вяшчання Беларускага радыё, мастацкі кіраўнік музычных перадач Галоўнага ўпраўлення радыёінфармацыі Міністэрства культуры БССР. Творчую дзейнасць пачаў у 1920-я гады. Напісаў 6 сімфоній, сімфанічныя сюіты, п'есы, паэмы, фантазіі. Яго оперы «Машэка» (1945 г.), «Марынка» (першая беларуская опера для дзяцей, пастаўлена ў 1955 г.), «Свіцязянка» (1960 г.), вакальна-сімфанічныя творы — «Паэма аб Чырвонай Арміі» (1938 г.), кантата «А хто там ідзе?» (1958 г.) створаны на нацыянальным матэрыяле. Аўтар апрацовак беларускіх народных песень, харавых твораў, песень для дзяцей, рамансаў на тэксты рускіх і беларускіх паэтаў. Напісаў музыку для некалькіх спектакляў, фільмаў. Музыка кампазітара вызначаецца прастатой, выразнасцю і напеўнасцю, лірызмам, шырокім выкарыстаннем інтанацый, блізкіх да беларускай народнай песні. Памёр Р. К. Пукст 12.11.1960 г. Пахаваны ў Мінску на Усходніх могілках.

*Літ.:* Журавлёв Д. Н., Г. К. Пукст, заслуженный деятель искусств БССР.— Мн., 1963. *Г. М. Ярмоленка.*

**132. РАДЗІМА РАМАНАВА** Еўдакіма Раманавіча (гіст.).

Беларускі этнограф і фалькларыст, археолаг Е. Р. Раманаў нарадзіўся 30.8.1855 г. ў мястэчку Навабеліца (цяпер у межах Гомеля) у сям'і мяшчан. Скончыў Гомельскую прагімназію ў 1870 г. З 1872 г. настаўнік, інспектар народных вучылішчаў у Віцебскай, Гродзенскай, Віленскай і Магілёўскай губернях. З 1906 г. член Часовай камісіі па ўладкаванню Віленскай публічнай бібліятэкі і музея. У 1897—1903 гг. рэдактар неафіцыйнай часткі газеты «Могилёвские губернские ведомости». З 1910 г. загадчык секцыі этнаграфіі і археалогіі Паўночна-Заходняга аддзялення Рускага геаграфічнага таварыства. Друкаваўся з 1880 г. Правадзейны член Рускага геаграфічнага таварыства (1886 г.), Маскоўскага таварыства аматараў прыродазнаўства, антрапалогіі і этнаграфіі (1888 г.), Маскоўскага археалагічнага таварыства (1890 г., член-карэспандэнт з 1886 г.), Віцебскага статыстычнага камітэта (1891 г.). Аўтар прац па этнаграфіі, фальклору, мове, гісторыі і археалогіі Беларусі. Апублікаваў больш за 10 тыс. фальклорных твораў, даў апісанне матэрыяльнай і духоўнай культуры, сямейнага і грамадскага побыту беларускага сялянства. Выдаў «Беларускі зборнік» (в. 1—9, 1886—1912 гг.) — своеасаблівую энцыклапедыю побыту і культуры беларусаў дарэвалюцыйнага часу. У 1882—83 гг. займаўся археалагічнымі і антрапалагічнымі даследаваннямі. У 1886 г. адкрыў Барысаў камень — помнік эпіграфікі 12 ст., у 1886—94 гг. праводзіў археалагічныя раскопкі ў Магілёўскай і Віцебскай губернях, сабраў звесткі пра 1000 гарадзішчаў Беларусі, выявіў шмат стаянак першабытнага чалавека, складаў археалагічныя карты Магілёўскай, Віцебскай і Гродзенскай губерняў. Аўтар прац «Матэрыялы па гістарычнай тапаграфіі Віцебскай губерні. Павет Веліжскі» (1898 г.), «Магілёўская старына» (в. 1—3. 1900—03 гг.), «Матэрыялы па этнаграфіі Гродзенскай губерні» (в. 1—2. 1911—12 гг.). Папулярызаваў творы В. Дуніна-Марцінкевіча, Ф. Багушэвіча. У 1900 г. выдаў зборнік «Тарас на Парнасе» і іншыя беларускія вершы». Памёр Е. Р. Раманаў 20.1. 1922 г. ў Стаўрапалі.

*Літ.:* Бандарчык В. К., Е. Р. Раманаў.— Мн., 1961; яго ж. Гісторыя беларускай этнаграфіі. Пачатак XX ст.— Мн., 1970. *В. К. Бандарчык.*

**133. РАДЗІМА СКЛЯЗНЁВА** Георгія Міхайлавіча (гіст.).

Герой Савецкага Саюза Г. М. Склязнёў нарадзіўся 23.1.1911 г. ў сям'і служачых. Член КПСС з 1931 г. У 1931 г. вучыўся ў Маскоўскім вышэйшым тэхнічным вучылішчы імя Баўмана. Скончыў Горкаўскае танкавае вучылішча (1934 г.). У 1929—31 гг. працаваў у Гомелі на дрэваапрацоўчым камбінаце. Удзельнік нацыянальна-рэвалюцыйнай вайны ў Іспаніі 1936—39 гг., камандзір танкавага ўзвода. У час бою пад агнём ворага падпоўз да танка, які гарэў, вывеў яго з поля бою, выратаваў экіпаж і машыну. 12.2. 1937 г. ў баях пад Мадрыдам танк Г. М. Склязнёва быў падпалены, экіпаж змагаўся да канца. Званне Героя Савецкага Саюза Г. М. Склязнёву прысвоена 27.7.1937 г. Ён навечна занесены ў спісы Ташкенцкага танкавага вучылішча імя П. С. Рыбалкі. У Гомелі яго імем названа вуліца, на будынку школы № 2, у якой вучыўся, і будынку дрэваапрацоўчага камбіната ўстаноўлены мемарыяльныя дошкі. *Т. Р. Чуракова.*

**134. РАДЗІМА ХАТАЕВІЧА** Мендэля Маркавіча (гіст.).

Адзін з арганізатараў барацьбы за Савецкую ўладу на Беларусі М. М. Хатаевіч нарадзіўся 10.3.1893 г. ў сям'і гандляра. Член КПСС з 1913 г. З 1912 г. вёў рэвалюцыйную работу ў Гомелі. З 1913 г. член Палескага камітэта РСДРП. У 1914 г. арыштаваны і сасланы ў Сібір (1915—17 гг.). Пасля Лютаўскай рэвалюцыі вярнуўся ў Гомель, узначаліў арганізацыю РСДРП(б). З верасня 1917 г. член Паўночна-Заходняга абласнога камітэта РСДРП(б), член выканкома Гомельскага Савета. У 1918 г. старшыня Самарскага гаркома РКП(б), з 1919 г.— Гомельскага павятова-гарадскога камітэта РКП(б), член Гомельскага рэўкома. З жніўня 1919 г. ў Самарскім губкоме РКП(б). З мая 1920 г. на Заходнім фронце, начальнік палітаддзела 4-й арміі, 21-й дывізіі. З 1921 г. сакратар Гомельскага, з 1923 г.— Адэскага губкомаў РКП(б). У 1924—25 гг. у апараце ЦК ВКП(б), з 1925 г. сакратар Татарскага абкома, Сярэдняволжскага крайкома ВКП(б). З 1932 г. сакратар ЦК КП(б)У, адначасова з 1933 г. сакратар Днепрапятроўскага абкома КП(б)У, з 1937 г. другі сакратар ЦК КП(б)У. Член Палітбюро ЦК КП(б)У у 1932—37 гг. Член Цэнтральнай рэвізійнай камісіі ВКП(б) у 1925—27 гг., кандыдат у члены ЦК ВКП(б) у 1927—30 гг., член ЦК ВКП(б) з 1930 г. Член ВЦВК у 1922 г., член ЦВК СССР з 1930 г.

Памёр М. М. Хатаевіч 1.2.1939 г. *В. Б. Караткевіч.*

**135. РАДЗІМА ЦАРЫКАВА** Барыса Андрэевіча (гіст.).

Герой Савецкага Саюза Б. А. Царыкаў нарадзіўся 31.10.1926 г. Загінуў у баі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў 13.11.1943 г. Пахаваны ў г. п. Лоеў. У Гомелі імем Б. А. Царыкава названа вуліца, яго імя прысвоена школе № 25, у якой вучыўся. У 1962 г. на будынку школы ўстаноўлена мемарыяльная дошка. Гл. таксама артыкул № 1191 «Брацкая магіла савецкіх воінаў і партызан».

**136. РАДЗІМА ШАНДАЛАВА** Юрыя Абрамавіча (гіст.).

Герой Савецкага Саюза Ю. А. Шандалаў нарадзіўся 10.3.1923 г. ў сям'і рабочага. У Вялікую Айчынную вайну ў 1941 г. дабраахвотна пайшоў на фронт. Вызначыўся 16.4.1945 г. ў баях на левым беразе р. Одэр. 9-я штурмавая рота 674-га стралковага палка 150-й Ідрыцка-Берлінскай дывізіі пад камандаваннем старшага лейтэнанта Ю. А. Шандалава ўклінілася ў абарону праціўніка і адбівала контратакі ворага. У час чацвёртай контратакі Ю. А. Шандалаў з 2 байцамі падбіў 2 танкі. Акружаны гітлераўцамі, змагаўся да апошняга патрона, знішчыў 48 гітлераўцаў. Загінуў у гэтым баі. Пахаваны ў г. Гроснаўндорф (ГДР). Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 15.5.1946 г. У Гомелі яго імем названа вуліца, на будынку школы № 2, дзе ён вучыўся, установлена мемарыяльная дошка. *Т. Р. Чуракова.*

**137. СТАНКАБУДАЎНІЧЫ ЗАВОД** імя С. М. Кірава (гіст., архіт.). Вул. Інтэрнацыянальная, 10.

Станкабудаўнічы завод імя С. М. Кірава дзейнічае з 1888 г. Выпускаў водаправодныя трубы, якары, дробныя вырабы з жалеза. З 1917 г. называўся «Пралетарый».




**137.** *Станкабудаўнічы завод імя С. М. Кірава. Цэнтральная прахадная і адзін з карпусоў.*




**137.** *Мемарыяльная дошка ў гонар рэвалюцыйных падзей 1905—07 гг.*

У 1925 г. арганізавана арматурная вытворчасць, у 1927 г.— кацельная, у 1930 г.— паравых помпаў, у 1934 г.— папярочна-стругальных станкоў, у 1937 г.— серыйны выпуск даўбёжных станкоў. З 1934 г. станкабудаўнічы завод імя С. М. Кірава. У Вялікую Айчынную вайну ў 1941 г. эвакуіраваны ў Свярдлоўск, выпускаў прадукцыю для фронту. Аднаўленне ў Гомелі пачалося ў 1943 г., першую пасляваенную прадукцыю даў у 1945 г. З 1947 г. вырабляе складаныя папярочна-стругальныя, даўбёжныя і інш. спецыяльныя станкі. Асноўная прадукцыя: папярочна-стругальныя і паўдаўбёжныя станкі з гідраўлічным прывадам, абразіўна-адразныя станкі, аўтаматы і паўаўтаматы, фрэзерна-адразныя паўаўтаматы. Завод — галаўны пастаўшчык абразіўна-адразных і даўбёжных станкоў у сістэме СЭУ. У 1973 г. на Лейпцыгскім кірмашы папярочна-стругальны станок з гідраўлічным прывадам адзначаны залатым медалём. Мае 2 бібліятэкі, пункт аховы здароўя, санаторый-прафілакторый, піянерскі лагер, 3 дашкольныя ўстановы.

З старых пабудоў асталіся абапал цэнтральнай прахадной 2 будынкі пачатку 20 ст. Прамавугольныя ў плане цагляныя аб'ёмы з багата арнаментаванымі фасадамі. У 1970-я гады пабудаваны новыя сучасныя цэхі.

Мемарыяльная дошка ў гонар рэвалюцыйных падзей 1905—07 гг. На будынку прахадной. Устаноўлена ў 1964 г.

У Рэвалюцыю 1905—07 гг. каля тэрыторыі завода, на былой Кавальскай вул., адбыліся пад кіраўніцтвам Палескага камітэта РСДРП масавыя мітынгі і дэманстрацыі рабочых Гомеля супраць царскага самадзяржаўя, 16—22.1.1905 г.— забастоўка рабочых завода супраць расстрэлу рабочых у Пецярбургу. У красавіку 1905 г. тут прайшлі мітынгі і сходы, у якіх удзельнічалі 2—3 тыс. чалавек. У маі 1905 г. ў Гомелі адбыўся I з'езд арганізацый РСДРП Палескага р-на, які падтрымаў рашэнні III з'езда РСДРП. Пад кіраўніцтвам бальшавікоў гамяльчане прынялі актыўны ўдзел у Кастрычніцкай Усерасійскай палітычнай стачцы 1905 г. 12 кастрычніка прайшлі маніфестацыі, узброеныя сутыкненні рабочых з войскамі і паліцыяй. 8.12. 1905 г. ў падтрымку Снежаньскага ўзброенага паўстання ў Маскве выступілі гомельскія чыгуначнікі. 9 снежня да іх далучыліся рабочыя прадпрыемстваў Гомеля. Кіраваў забастоўкай выбраны па ініцыятыве рабочых камітэт дэлегатаў, які на працягу 11 дзён трымаў пад кантролем горад і чыгуначны вузел, фактычна быў органам улады.

Мемарыяльная дошка Катуніну Ільі Барысавічу. На будынку прахадной. Устаноўлена ў 1964 г. на ўшанаванне памяці Героя Савецкага Саюза І. Б. Катуніна, які ў 1927—31 гг. працаваў на заводзе. Яго імя навечна занесена ў спіс рабочых завода. Гл. таксама артыкул № 127 «Радзіма Катуніна Ільі Барысавіча».

*Літ.:* Гомельский станкостроительный завод имени С. М. Кирова.— Гомель, 1975; Диренок Е. Д. Полесская организация большевиков в борьбе против царизма (1903 — март 1917 гг.).— Мн., 1965.

*В. Б. Караткевіч, А. А. Міцянін.*

**138. ТЭХНІЧНАЕ ВУЧЫЛІШЧА** (архіт.). Вул. Кісялёва, 2. Пабудавана ў пачатку 20 ст. з цэглы. Цяпер тут тэхнічная школа машыністаў лакаматываў. Прамавугольны ў плане двухпавярховы будынак. Галоўны фасад з 2 бакавымі рызалітамі і павышанай цэнтральнай часткай. Асноўны кампазіцыйны акцэнт зроблены на галоўны ўваход, дэкарыраваны вітражом. Вялікія лучковыя вокны бакавых рызалітаў выдзелены скульптурнымі завяршэннямі. Ліштвы 1-га і 2-га паверхаў аб'яднаны ў агульную дэкаратыўную раму з перакрыжаваных дуг. Унутраная планіроўка 1-га паверха калідорная, 2-га — анфіладная.

Будынак — помнік архітэктуры стылю «мадэрн». *У. В. Алісейчык.*



**138.** *Будынак былога тэхнічнага вучылішча.*



**138.** *Будынак былога тэхнічнага вучылішча. План 1-га паверха.*

**139. ЯВАЧНАЯ КВАТЭРА ПАДПОЛЬШЧЫКАЎ** (гіст.). Вул. Дзяржынскага, 55.

Тут, у доме ўдзельніка Кастрычніцкай рэвалюцыі, пенсіянера Т. М. Мядзведзева, які з дачкой камсамолкай Валянцінай уваходзіў у падпольную групу Ц. С. Барадзіна і Р. І. Цімафеенкі, была адна з явачных кватэр Гомельскага апаратыўнага цэнтра.

У Вялікую Айчынную вайну з жніўня 1941 г. да лістапада 1943 г. ў Гомелі дзейнічала камуністычнае падполле, якім кіравалі Гомельскія падпольныя абком КП(б)Б і гарком КП(б)Б. Падполле аб'ядноўвала больш за 40 падпольных груп (больш як 400 чалавек). Для каардынацыі дзейнасці груп у лістападзе 1941 г. створаны апаратыўны цэнтр, куды ўвайшлі Ц. С. Барадзін (кіраўнік), Р. І. Цімафеенка, І. Б. Шылаў. Цэнтр наладзіў сувязь з падпольнымі групамі на падшыпнікавым заводзе, электрастанцыі, чыгуначным вузле, тлушчкамбінаце, паравозавагонарамонтным заводзе і інш. прадпрыемствах, з камсамольскай групай у в. Міхалькі Гомельскага р-на.

У 1973 г. на доме ўстаноўлена мемарыяльная дошка.

*Літ.:* Партизанская криничка.— 2 изд.— Мн., 1972. *В. Б. Караткевіч.*



**139.** *Дом па вуліцы Дзяржынскага, у якім была явачная кватэра апаратыўнага цэнтра.*

**140. ЯВАЧНАЯ КВАТЭРА ПАДПОЛЬШЧЫКАЎ** (гіст.). Вул. Песіна, 55.

Тут, у доме былой работніцы рамеснага вучылішча рачнікоў Н. Я. Карпенкі — падпольшчыцы групы Ц. С. Барадзіна і Р. І. Цімафеенкі — у Вялікую Айчынную вайну з лістапада 1941 г. да мая 1942 г. была адна з явачных кватэр Гомельскага апаратыўнага цэнтра. У маі 1942 г. на вул. Песіна быў знойдзены труп гітлераўскага афіцэра. У час павальных вобыскаў у доме Н. Я. Карпенкі гітлераўцы знайшлі зброю. Н. Я. Карпенка была арыштавана і ў чэрвені 1942 г. расстраляна.



**141.** *Дом па вуліцы Пляханава, у якім знаходзілася явачная кватэра падпольнай групы Ц. С. Барадзіна.*

У 1973 г. на доме ўстаноўлена мемарыяльная дошка.

*Літ.:* Партизанская криничка.— 2 изд.— Мн., 1972. *В. Б. Караткевіч.*

**141. ЯВАЧНАЯ КВАТЭРА ПАДПОЛЬШЧЫКАЎ** (гіст.). Вул. Пляханава, 46.

Тут, у доме М. А. Барадзіной — маці аднаго з арганізатараў і кіраўнікоў Гомельскага камуністычнага падполля Ц. С. Барадзіна — у перыяд часовай акупацыі Гомеля нямецка-фашысцкімі захопнікамі была явачная кватэра (1941—42 гг.) падпольнай групы Ц. С. Барадзіна. У рабоце групы ўдзельнічалі М. А. Барадзіна, яе дочкі Антаніна і Лідзія.

У 1962 г. на доме ўстаноўлена мемарыяльная дошка.

*Літ.:* Партизанская криничка.— 2 изд.— Мн., 1972. *В. Б. Караткевіч.*




# АКЦЯБРСКІ РАЁН

Пратасы
Воземля
Залессе
Майсееўка
Харомцы
Ляскавічы
Забалацце
Парэчча
Альбінск
АКЦЯБРСКІ
Гарохавішчы
Пружынішчы
Гаць
Любань
Буда
Чырвоная Слабада
Ламавічы
Валосавічы
Юркі

 Цэнтр раёна

 Цэнтры сельсаветаў

 Стаянкі, паселішчы, гарадзішчы

 Могільнікі (грунтавыя, курганныя), курганы

 Помнікі і памятныя месцы Вялікай Айчыннай вайны (месцы баёў, магілы савецкіх воінаў і партызан, Курганы Славы, помнікі землянкам і інш.)

 Помнікі ахвярам фашызму (месцы канцлагераў і лагераў смерці, месцы масавай загубы насельніцтва, спаленыя і неадноўленыя вёскі і інш.)

 Помнікі і месцы, звязаныя з імёнамі савецкіх партыйных, дзяржаўных і гаспадарчых дзеячаў, дзеячаў культуры, навукі і тэхнікі

 Адміністрацыйныя і грамадскія збудаванні дасавецкага перыяду



 Паркі і садова-паркавыя збудаванні

## II. АКЦЯБРСКІ

Гарадскі пасёлак, цэнтр раёна. Размешчаны на р. Нератоўка (прыток р. Пціч). За 190 км ад Гомеля. Чыгуначная станцыя на лініі Жлобін — Рабкор, аўтамабільнымі дарогамі злучаны з Глускам, Азарычамі, Парычамі, Капаткевічамі. Створаны ў 1954 г. ў выніку аб'яднання вёсак Карпілаўка, Рудобелка і Рудня.

Да Кастрычніцкай рэвалюцыі в. Рудобелка з навакольнымі землямі, частка якіх складае сучасную тэрыторыю гарадскога пасёлка, належала барону П. М. Урангелю. З навучальных устаноў было Рудабельскае вучылішча, заснаванае ў 1863 г.

22.11(5.12).1917 г. ў Рудобелцы арганізаваны валасны рэвалюцыйны камітэт, які абвясціў Савецкую ўладу. Старшынёй рэўкома быў выбраны А. Р. Салавей, сакратаром — М. А. Ляўкоў. У маёнтку Рудобелка была створана камуна. У перыяд акупацыі Беларусі войскамі кайзераўскай Германіі (1918 г.) і буржуазна-памешчыцкай Польшчы (1919—20 гг.) на тэрыторыі Рудабельскай і прылеглых да яе валасцей Бабруйскага павета захоўвалася Савецкая ўлада. Гэта тэрыторыя атрымала назву «Рудабельская рэспубліка». У гонар яе Рудабельская валасць у 1920 г. была названа Акцябрскай (гл. артыкул № 156 «Рудабельская рэспубліка»). Акцябрскі р-н з цэнтрам у Карпілаўцы утвораны ў 1939 г. ў складзе Палескай, з верасня 1944 г. Бабруйскай, з студзеня 1954 г. Гомельскай абласцей. У снежні 1962 г. раён скасаваны, яго тэрыторыя перададзена ў Светлагорскі р-н, у ліпені 1966 г. адноўлены.

У Вялікую Айчынную вайну ў сакавіку — красавіку 1942 г. і з 24.1 да 27.6.1944 г. пасёлак быў акупіраваны нямецка-фашысцкімі захопнікамі. За час акупацыі фашысты загубілі у раёне 5087 чалавек. У ліпені 1941 г. ў раёне з партыйнага і савецкага актыву быў арганізаваны партызанскі атрад «Чырвоны Кастрычнік» (узначальвалі Ц. П. Бумажкоў і Ф. І. Паўлоўскі). З восені 1941 г. да студзеня 1944 г. тэрыторыя Акцябрскага р-на ўваходзіла ў Акцябрска-Любанскую партызанскую зону. Тут дзейнічалі Акцябрскія падпольныя райкомы КП(б)Б (красавік 1943 г.— 26.6.1944 г.) і ЛКСМБ (жнівень 1941 г.— 26.6. 1944 г.). Выдавалася падпольная газета «Народны мсцівец». Вызвалены ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў 27.6. 1944 г.

Сучасны гарадскі пасёлак мае квартальную сістэму планіроўкі, выцягнуты з поўначы на поўдзень. Асноўным планіровачным ядром яго з'яўляецца Цэнтральная пл., на якой устаноўлены помнік Герою Савецкага Саюза Ц. П. Бумажкову. Тут размешчаны будынак райкома КПБ і райвыканкома, гандлёвы цэнтр. На Партызанскай пл. пастаўлены помнік У. І. Леніну. Жылая сядзібная забудова размешчана на галоўных вуліцах: Савецкай, Урыцкага, Бумажкова, Кірава, Ленінскай. На вул. Савецкай мураваныя двухпавярховыя жылыя будынкі. Ва ўсходняй частцы пасёлка ствараецца мікрараён, які забудоўваецца 3- і 5-павярховымі жылымі дамамі. У пасёлку дзейнічаюць завод сухога абястлушчанага малака, хлебазавод, спіртзавод, раённае вытворчае аб'яднанне бытавога абслугоўвання, раённае аб'яднанні Дзяржкамсельгастэхнікі, «Сельгасхімія», лясгас. Працуюць 2 сярэднія агульнаадукацыйныя школы, сярэдняе прафесійна-тэхнічнае вучылішча механізацыі сельскай гаспадаркі, 3 дзіцячыя дашкольныя ўстановы, Дом піянераў і школьнікаў, Дом культуры, раённая і дзіцячая бібліятэкі, бальніца, кінатэатр, гасцініца, музей народнай славы. Выдаецца газета «Чырвоны Кастрычнік».

Зона адпачынку — узбярэжжа р. Нератоўка.

*Літ.:* Почанин С. З. В грозовом восемнадцатом.— Мн., 1969; Каменская Н. В. Партийное подполье и партизанское движение в тылу белополяков на территории Белоруссии (1919—1920 гг.).— У кн.: Октябрь и гражданская война в СССР. М., 1966; Жураў А. Я. У баях народжаны.— 2 выд.— Мн., 1970; Шкляр Е. Н. Борьба трудящихся Литовско-Белорусской ССР с иностранными интервентами и внутренней контрреволюцией (1919—1920).— Мн., 1962; Памятная книжка Виленского учебного округа на 1874 год.— Вильна, 1874.

*В. С. Павaліхіна, А. Ю. Пятросава.*



II. *Цэнтральная плошча.*



142. *Помнік на брацкіх магілках савецкіх воінаў і партызан.*

**142. БРАЦКІЯ МОГІЛКІ САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). Вул. Савецкая, на могілках. У 59 магілах пахаваны 272 воіны Чырвонай Арміі, якія загінулі ў чэрвені 1944 г. пры вызваленні раёна ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў, і 41 партызан, што загінулі ў Вялікую Айчынную вайну. Сярод пахаваных — воіны 54-й і 96-й гвардзейскіх стралковых дывізій 3-га гвардзейскага стралковага корпуса, 48-й і 55-й гвардзейскіх стралковых дывізій 20-га стралковага корпуса 28-й арміі, камандзір атрада «Смерць фашызму» 123-й партызанскай брыгады імя 25-годдзя БССР А. Е. Папруга (загінуў 6.4.1944 г.), камісар партызанскага атрада імя Шчорса 37-й партызанскай брыгады імя А. Я. Пархоменкі М. С. Левітан (загінуў у сакавіку 1942 г.).

У 1955 г. на могілках пастаўлены помнік — скульптура воіна.

**143. БУДЫНАК, У ЯКІМ АДБЫВАЛАСЯ ПАДПОЛЬНАЯ ПАРТЫЙНАЯ КАНФЕРЭНЦЫЯ** (гіст.). Вул. Бумажкова, 12.

Канферэнцыя адбылася ў лютым 1942 г. ў Рудобелцы. Зацвердзіла стварэнне аб'яднання партызанскіх атрадаў — так званага «гарнізона Ф. І. Паўлоўскага» і яго штаба. Камандзір аб'яднання Ф. І. Паўлоўскі, камісар С. В. Маханько, начальнік штаба Р. І. Бар'яш. Было таксама разгледжана пытанне аб узмацненні ідэалагічнай работы сярод насельніцтва і партызан.

У 1948 г. на будынку, дзе праходзіла партканферэнцыя, устаноўлена мемарыяльная дошка.

**144. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 7,5 км на паўднёвы ўсход

ад пасёлка, у лесе, з правага боку шашы г. п. Акцябрскі — г. п. Глуск. 18 насыпаў паўсферычнай формы, вышынёй 0,6—1,3 м, дыяметрам 5—10 м. Каля асновы асобных курганоў прасочваюцца раўкі. Выявіў і абследаваў у 1982 г. А. А. Егарэйчанка. Раскопкі не праводзіліся.

**145. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). Вул. Бумажкова. Пахаваны астанкі 643 жыхароў, якіх 2.4.1942 г. спалілі жывымі нямецка-фашысцкія карнікі ў памяшканні клуба спіртзавода. У 1959 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**146. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). Вул. Гастэлы. Пахаваны астанкі 486 жыхароў былой в. Карпілаўка, якіх 3.4.1942 г. ў час карнай аперацыі расстралялі, а потым спалілі нямецка-фашысцкія карнікі. У 1959 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**147. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). Вул. Савецкая, каля сярэдняй школы № 1. Пахаваны астанкі 700 мірных жыхароў, якіх 2.4.1942 г. расстралялі, а потым спалілі нямецка-фашысцкія карнікі.

У канцы сакавіка 1942 г. каля 40 тыс. нямецка-фашысцкіх акупантаў, узброеных артылерыяй, танкамі і самалётамі, пачалі карную аперацыю супраць аб'яднання партызанскіх атрадаў Акцябрскага р-на на чале з Ф. І. Паўлоўскім. Некалькі дзён партызаны вялі цяжкія баі. Ім удалося пацясніць ворага каля в. Зацішша і вывесці ў лес частку мірнага насельніцтва. За час аперацыі карнікі часова захапілі пасёлак Рудобелку, загубілі 4 тыс. мірных жыхароў пасёлка, спалілі разам з жыхарамі 13 вёсак раёна. 5.4.1942 г. партызаны зноў вызвалілі райцэнтр.

У 1972 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура жанчыны ў жалобе.

*Літ.:* Из истории партизанского движения в Белоруссии (1941—1944 годы).— Мн., 1961. *В. М. Баскова.*

**148. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). За 0,5 км ад пасёлка, каля дарогі на Азарычы. Пахаваны астанкі 600 жыхароў былой в. Рудня, якіх 2.4.1942 г. спалілі нямецка-фашысцкія карнікі. У 1975 г. на магіле пастаўлены 2 стэлы.

**149. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА Ў ГОНАР ПАРТЫЗАН** (гіст.). Пл. Партызанская, на будынку выканкома пасялковага Савета. Устаноўлена ў 1959 у памяць аб знаходжанні ў Рудобелцы цэнтра партызанскай зоны.

У першыя месяцы Вялікай Айчыннай вайны ў раёне пад кіраўніцтвам Ц. П. Бумажкова і Ф. І. Паўлоўскага арганізаваны партызанскі атрад «Чырвоны Кастрычнік», які разам з іншымі партызанскімі групамі граміў нямецкія і паліцэйскія гарнізоны на тэрыторыі Акцябрскага і суседніх раёнаў. Увосень 1941 г. ў выніку вызвалення партызанамі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў часткі тэрыторыі Любанскага, Старобінскага, Акцябрскага і Глускага р-наў створана Акцябрска-Любанская партызанская зона, якую ўтрымлівалі Мінскае партызанскае злучэнне, злучэнне партызанскіх атрадаў Акцябрскага р-на (13 атрадаў, 1300 чалавек), з красавіка 1942 г. злучэнне партызанскіх атрадаў Мінскай і Палескай абласцей, з сакавіка 1943 г. Мінскае і Палескае партызанскія злучэнні. У кастрычніку 1941 г. ў пасёлку Рудобелка была адноўлена Савецкая ўлада; дзейнічалі райвыканкам, школы, электрастанцыя, шавецкая і кравецкая майстэрні, млын, майстэрня па вырабу зброі. У Акцябрскай зоне калгаснікі пад аховай партызан працавалі на палях. Гітлераўцы неаднаразова спрабавалі знішчыць партызанскую зону і захапіць Рудобелку. Самую вялікую карную аперацыю супраць партызан правялі ў сакавіку — красавіку 1942 г. Яны на некалькі дзён захапілі пасёлак і ўчынілі расправу над мірным насельніцтвам. 5.4.1942 г. партызаны зноў авалодалі пасёлкам і ўтрымлівалі да 24.1.1944 г.

*Літ.:* Из истории партизанского движения в Белоруссии (1941—1944 годы).— Мн., 1961; Всенародное партизанское движение в Белоруссии в годы Великой Отечественной войны (июнь 1941 — июль 1944). Т. 1.— Мн., 1967; В грозные годы.— Мн., 1973; В памяти народной.— Мн., 1969. *В. М. Баскова.*




**147.** *Помнік на магіле ахвяр фашызму.*

**150. МЕСЦА БАЗІРАВАННЯ АКЦЯБРСКАГА ПАДПОЛЬНАГА РАЙКОМА КП(б)Б І ШТАБА 123-й ПАРТЫЗАНСКАЙ БРЫГАДЫ ІМЯ 25-ГОДДЗЯ БССР** (гіст.). У Вялікую Айчынную вайну ў Рудобелцы базіраваўся Акцябрскі падпольны райком КП(б)Б, штаб 123-й партызанскай брыгады імя 25-годдзя БССР.

23.7.1941 г. Палескім абкомам КП(б)Б была зацверджана Акцябрская раённая партыйная тройка (першы сакратар райкома Ц. П. Бумажкоў, інструктар С. В. Маханько, прапагандыст У. Г. Козыр) і партызанскі атрад «Чырвоны Кастрычнік» пад камандаваннем Ц. П. Бумажкова. 1.8. 1941 г. Ц. П. Бумажкоў быў адкліканы ў ЦК КП(б)Б, камандзірам атрада назначаны Ф. І. Паўлоўскі. Партыйную работу ў раёне ў 1941—43 гг. праводзіла партыйная арганізацыя партызанскага атрада «Чырвоны Кастрычнік» пад кіраўніцтвам камісара атрада С. В. Маханько. Падпольны райком КП(б)Б створаны ў красавіку 1943 г., зацверджаны Палескім падпольным абкомам КП(б)Б 4.8.1943 г. Сакратаром быў прызначаны С. В. Маханько. У лістападзе 1943 г. С. В. Маханько адкліканы ў распараджэнне ЦК КП(б)Б, і паводле рашэння Палескага падпольнага абкома партыі з 15.11. 1943 г. сакратаром быў зацверджаны Я. А. Татараў. Падпольны райком партыі праводзіў вялікую палітычную і арганізатарскую работу па мабілізацыі савецкіх людзей на барацьбу супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. Выдаваў газету «Народны мсцівец» (рэдактар Ф. М. Камоцкі). Базіраваўся падпольны райком партыі ў 123-й партызанскай брыгадзе імя 25-годдзя БССР.

Брыгада створана ў маі 1942 г. на базе атрадаў «гарнізона Ф. І. Паўлоўскага», з лютага 1943 г. называлася 123-я брыгада, са студзеня 1944 г.— 123-я імя 25-годдзя БССР. Камандзіры брыгады Ф. І. Паўлоўскі (май 1942 г.— май 1944 г.), С. В. Маханько (в. а., красавік — кастрычнік 1943 г.), І. М. Мярзляк (май — ліпень 1944 г.); камісары С. В. Маханько (май 1942 г.— лістапад 1943 г.), С. І. Бацішчаў (в. а., красавік — кастрычнік 1943 г.), Я. А. Татараў (лістапад 1943 г.— ліпень 1944 г.). Партызаны брыгады грамілі нямецкія і паліцэйскія гарнізоны ў раёне, рабілі дыверсіі на камунікацыях ворага, да канца студзеня 1944 г. ўтрымлівалі пасёлак Рудобелку, дзе існавала Савецкая ўлада, вялі барацьбу супраць нямецка-фашысцкіх карнікаў, удзельнічалі ў аперацыі «Рэйкавая вайна» і інш. 26.6 і 5.7. 1944 г. брыгада (609 партызан, атрады «Чырвоны Кастрычнік», імя А. Ф. Каваленкі, «За Радзіму», імя 25-годдзя ВЛКСМ, «Смерць фашызму») 2 групамі злучылася з Чырвонай Арміяй (гл. таксама артыкул № 180 «Месца базіравання партызанскага атрада «Чырвоны Кастрычнік»).

У 1959 г. ў гонар падпольнага райкома КП(б)Б і 123-й партызанскай брыгады імя 25-годдзя БССР на будынку № 40 па вул. Савецкай устаноўлена мемарыяльная дошка.

*Літ.:* Всенародное партизанское движение в Белоруссии в годы Великой Отечественной войны (июнь 1941 — июль 1944). Т. 1.— Мн., 1967; Из истории партизанского движения в Белоруссии (1941—1944 годы).— Мн., 1961; Подпольные партийные

органы Компартии Белоруссии в годы Великой Отечественной войны (1941—1944).— Мн., 1975. *В. М. Баскова.*

**151. ПОМНІК БУМАЖКОВУ** Ціхану Піменавічу (гіст., маст.). На Цэнтральнай плошчы.

Герой Савецкага Саюза, адзін з арганізатараў і кіраўнікоў партызанскага руху ў Палескай вобл. ў Вялікую Айчынную вайну, дэпутат Вярхоўнага Савета БССР з 1938 г. Ц. П. Бумажкоў нарадзіўся 17.6.1910 г. ў пасёлку Свіягіна Спаскага р-на Прыморскага краю. Член КПСС з 1930 г. Працаваў дырэктарам цагельнага завода, старшынёй Петрыкаўскага райвыканкома. З ліпеня 1939 г. першы сакратар Акцябрскага райкома КП(б)Б Палескай вобл. У ліпені 1941 г. разам з Ф. І. Паўлоўскім арганізаваў і ўзначаліў партызанскі атрад «Чырвоны Кастрычнік». У ліпені 1941 г. атрад разам з часцямі Чырвонай Арміі стрымліваў ворага на р. Пціч, разграміў у в. Воземля Акцябрскага р-на штаб нямецкай дывізіі, знішчыў і захапіў 55 броне- і аўтамашын, 18 матацыклаў. 1.8.1941 г. Ц. П. Бумажкоў адазваны ў ЦК КП(б)Б і накіраваны на Цэнтральны фронт начальнікам палітаддзела дывізіі. Загінуў у верасні 1941 г. ў баі каля г. п. Оржыца Палтаўскай вобл. 6.8.1941 г. Ц. П. Бумажкову адным з першых савецкіх партызан прысвоена званне Героя Савецкага Саюза.

Імем Ц. П. Бумажкова названы калгас у Акцябрскім р-не, чыгуначная станцыя на лініі Бабруйск — Рабкор, кінатэатр у г. п. Акцябрскі, вуліцы ў Мінску і г. п. Акцябрскі.

Помнік пастаўлены ў 1961 г. (скульптар А. Заспіцкі; бетон, вышыня пастамента 3 м, скульптуры 3,5 м). На пастаменце ў форме рубленай каменнай глыбы ўзвышаецца скульптурная фігура Ц. П. Бумажкова. Герой паказаны ў баявых абставінах: у правай руцэ — бінокль, у левай — аўтамат, позірк скіраваны ўдалячынь. Пластыка фігуры, выраз твару падкрэсліваюць мужны характар, унутранае напружанне, вялікую маральную сілу героя.

*В. М. Баскова, Л. Г. Лапцэвіч.*



**151.** *Помнік Ц. П. Бумажкову.*

**152. ПОМНІК ЛЕНІНУ** Уладзіміру Ільічу (гіст.). На Партызанскай пл. Скульптура У. І. Леніна ўстаноўлена ў 1953 г.

**153. РАДЗІМА АДЗІНЦОВА** Лявонція Яфімавіча (гіст.).

Удзельнік барацьбы за Савецкую ўладу на Беларусі, Грамадзянскай вайны, адзін з арганізатараў Мінскага камуністычнага падполля ў Вялікую Айчынную вайну Л. Я. Адзінцоў (А д з і н е ц) нарадзіўся 14.7.1891 г. ў сялянскай сям'і. Член КПСС з 1918 г. Скончыў Рудабельскае народнае вучылішча. З 1914 г. ў арміі. Арганізатар чырвонагвардзейскіх атрадаў у Рудобелцы (1917 г.). У перыяд акупацыі воласці войскамі кайзераўскай Германіі (1918 г.) член Рудабельскага падраённага камітэта РКП(б), камандзір партызанскага атрада (1919—20 гг.). Пасля Грамадзянскай вайны працаваў у павятовых установах г. Бабруйск. У 1924—30 гг. намеснік наркома сацыяльнага забеспячэння БССР, у 1931—37 гг. старшыня Беларускага інваліднага кааператыўнага аб'яднання, старшыня ЦК сялянскай грамадскай узаемадапамогі, загадчык сакратарыята ЦВК БССР. У Вялікую Айчынную вайну Л. Я. Адзінцоў удзельнічаў у стварэнні і дзейнасці Мінскага камуністычнага падполля. На яго кватэры праводзіліся пасяджэнні Мінскага падпольнага гаркома КП(б)Б, нарады падпольшчыкаў, тут хавалі зброю, боепрыпасы, нелегальную літаратуру, медыкаменты. 24.10.1942 г. арыштаваны і закатаваны гітлераўцамі. Яго імем названа вуліца ў Мінску.

**154. РАДЗІМА ЛАПЫ** Міхаіла Дзям'янавіча (гіст.).

Дзекабрыст М. Дз. Лапа нарадзіўся ў 1798 г. ў маёнтку Рудобелка, якім валодаў яго бацька. З 1819 г. падпрапаршчык лейб-гвардыі Ізмайлаўскага палка ў Пецярбургу. У 1824 г. падпаручнік М. Дз. Лапа ўступіў у тайную рэвалюцыйную арганізацыю — Паўночнае таварыства дзекабрыстаў. За ўдзел у таварыстве 23.12.1825 г. зняволены ў Петрапаўлаўскую крэпасць. Вярхоўны крымінальны суд прыгаварыў яго да пазбаўлення чыноў і ссылкі ў салдаты. 22.8.1826 г. быў адпраўлены ў палявы полк Каўказскага корпуса з устанаўленнем за ім нагляду.




**152.** *Помнік У. І. Леніну.*

М. Дз. Лапа памёр пасля 1849 г. на радзіме.

*Літ.:* Восстание декабристов: Документы. Т. 15.— М., 1979. *В. М. Баскова.*

**155. РАДЗІМА САЛАЎЯ** Аляксандра Раманавіча (гіст.).

Удзельнік барацьбы за Савецкую ўладу на Беларусі, герой Грамадзянскай вайны А. Р. Салавей нарадзіўся ў 1897 г. ў беднай сялянскай сям'і. У 1-ю сусветную вайну на фронце, вёў рэвалюцыйную прапаганду сярод салдат. Член КПСС з 1917 г. У Кастрычніцкую рэвалюцыю ўдзельнічаў у штурме Зімняга палаца. З снежня 1917 г. на радзіме, узначальваў Рудабельскі валасны рэўком, штаб па фарміраванню Чырвонай гвардыі, змагаўся супраць легіянераў корпуса Доўбар-Мусніцкага. У час акупацыі Беларусі войскамі кайзераўскай Германіі (1918 г.) узначальваў падпольны падрайком РКП(б), які кіраваў партызанскай барацьбой на тэрыторыі так званай «Рудабельскай рэспублікі». Прымаў удзел у вызваленні Бабруйска ад нямецкіх акупантаў, разгроме стракапытаўскага мяцяжу ў Гомелі (сакавік 1919 г.) і кулацка-эсэраўскага мяцяжу ў Чарнігаўскай губерні. Улетку 1919 г. А. Р. Салавей быў адкліканы ў Бабруйскі павятовы рэўком, дзе яму даручылі сфарміраваць інтэрнацыянальны батальён. На чале гэтага батальёна, потым Барысаўскага палка змагаўся супраць польскіх інтэрвентаў, абараняў Мінск. У верасні — снежні 1919 г. на чале спецыяльнага атрада правёў рэйд па тылах белалатышскай арміі ад Пскова да Асвеі. З снежня 1919 г. камандаваў 1-м інтэрнацыянальным батальёнам палка

чырвоных камунараў, які вёў баі за Рэчыцу, Полацк, Барысаў, Лепель. Летам 1920 г. ў складзе корпуса Г. Дз. Гая вызваляў Вільню, Гродна. Загінуў 15.8.1920 г. ў баі каля мястэчка Кольна ў Польшчы.

*Літ.:* Грахоўскі С. Рудабельская рэспубліка.— Мн., 1968; Хаўратовіч І. Слова пра чырвонага камандзіра.— Маладосць, 1963, № 3. *В. М. Баскова.*

**156. «РУДАБЕЛЬСКАЯ РЭСПУБЛІКА»** (гіст.). Назву «Рудабельская рэспубліка» насіла тэрыторыя Рудабельскай і суседніх валасцей Бабруйскага павета, дзе захоўвалася Савецкая ўлада ў час акупацыі Беларусі войскамі кайзераўскай Германіі (1918 г.) і буржуазнай Польшчы (1919—20 гг.). Пасля ўстанаўлення ў лістападзе 1917 г. ў Рудобелцы Савецкай улады рэвалюцыйнымі пераўтварэннямі ў воласці кіраваў Рудабельскі рэўком, які ў перыяд барацьбы супраць польскага корпуса Доўбар-Мусніцкага (студзень — люты 1918 г.) быў рэарганізаваны ў штаб па фарміраванню Чырвонай гвардыі, а ў час акупацыі войскамі кайзераўскай Германіі — у падраённы камітэт РКП(б). У склад камітэта ўваходзілі: А. Р. Салавей (старшыня), Л. Я. Адзінцоў, М. А. Ляўкоў, П. Дз. Малаковіч, М. Ф. Ус, Н. Я. Званковіч. Дзейнасць Рудабельскага падрайкома з мая 1918 г. накіроўваў Бабруйскі падпольны камітэт РКП(б), з ліпеня — Бабруйскі райком РКП(б).

Рудабельская падпольная ячэйка аб'ядноўвала дзесяткі камуністаў і шмат спачуваючых. У воласці не існавала ніводнага населенага пункта, каб жыхары яго не былі партызанамі. Атрад М. А. Ляўкова налічваў 120 партызан, М. Ф. Уса — 150, Н. Я. Званковіча — 150, С. Р. Жынко — 130. Партызаны «Рудабельскай рэспублікі» ахоўвалі яе ад нападаў польскіх легіянераў і нямецкіх акупантаў, вялі палітычную агітацыю сярод сялян і салдат варожых фарміраванняў. У 1919—20 гг. на тэрыторыі воласці дзейнічала некалькі партызанскіх атрадаў пад агульным кіраўніцтвам М. А. Ляўкова і П. Дз. Малаковіча. Яны нападалі на ахову чыгуначных станцый, варожыя абозы, разбуралі масты. У студзені 1920 г. польскае камандаванне накіравала супраць рудабельскіх партызан карную экспедыцыю, якая 16 студзеня спаліла Рудобелку і некалькі навакольных вёсак. У баях з ворагамі загінулі М. Ф. Ус, Раман і Пётр Салаўі і інш.

Пра «Рудабельскую рэспубліку» беларускі пісьменнік С. І. Грахоўскі ў 1967 г. напісаў дакументальную аповесць, у 1968 г. па аповесці пастаўлены спектаклі Беларускім акадэмічным драматычным тэатрам імя Я. Купалы і Гомельскім абласным драматычным тэатрам, у 1972 г. зняты кінафільм на студыі «Беларусьфільм».

*Літ.:* Грахоўскі С. Рудабельская рэспубліка.— Мн., 1968; Лочмель И. Ф. Очерк истории борьбы белорусского народа против польских панов.— М., 1940; В памяти народной.— Мн., 1969; Хаўратовіч І. П. Слова пра чырвонага камандзіра.— Маладосць, 1963, № 3. *І. П. Хаўратовіч.*

**в. Альбінск, Ляскавіцкі сельсавет**

**157. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА Ў ГОНАР МІНСКАГА ПАДПОЛЬНАГА АБКОМА КП(б)Б, ШТАБОЎ МІНСКАГА ПАРТЫЗАНСКАГА ЗЛУЧЭННЯ, ПАРТЫЗАНСКАГА ЗЛУЧЭННЯ МІНСКАЙ І ПАЛЕСКАЙ АБЛАСЦЕЙ, ПАДПОЛЬНАЙ ДРУКАРНІ** (гіст.). На будынку клуба. Устаноўлена ў 1972 г. ў памяць аб базіраванні ў вёсцы ў Вялікую Айчынную вайну Мінскага падпольнага абкома КП(б)Б, штабоў Мінскага партызанскага злучэння, партызанскага злучэння Мінскай і Палескай абласцей, падпольнай друкарні.

**в. Бубнаўка, Парэцкі сельсавет**

**158. МАГІЛА САХОЎСКАГА** Генадзя Рыгоравіча (гіст.). За 0,5 км на паўднёвы ўсход ад вёскі, на могілках. Партызан Г. Р. Сахоўскі загінуў у 1944 г. ў баі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1970 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Булкаў, Акцябрскі сельсавет**

**159. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). На могілках. Пахаваны астанкі 40 жыхароў, якіх у красавіку 1942 г. ў час карнай аперацыі спалілі нямецка-фашысцкія захопнікі. У 1964 г. на магіле пастаўлена стэла.

**в. Валосавічы, цэнтр сельсавета**

**160. ГАРАДЗІШЧА** (археал.). За 1,2 км на паўднёвы ўсход ад вёскі. Пляцоўка круглая, дыяметрам каля 66 м, умацавана валам вышынёй 1,6—1,8 м, зарасла лесам. Гарадзішча вядома з канца 19 ст., абследаваў у 1982 г. А. А. Егарэйчанка. Раскопкі не праводзіліся.

**в. Вежын (не існуе), Ламавіцкі сельсавет**

**161. МЕСЦА СПАЛЕНАЙ ВЁСКІ** (гіст.). Вёска Вежын знаходзілася за 4 км на поўдзень ад в. Гаць. У лютым 1942 г. нямецка-фашысцкія захопнікі спалілі вёску разам з жыхарамі (70 чалавек). Вёска не адрадзілася. Увекавечана ў мемарыяльным комплексе Хатынь. Глядзі артыкул № 166 «Магіла ахвяр фашызму».

**в. Воземля, Пратасаўскі сельсавет**

**162. МЕСЦА БОЮ 1941 г.** (гіст.). 18.7. 1941 г. байцы знішчальнага батальёна пад камандаваннем Ц. П. Бумажкова сумесна з воінамі 66-га стралковага корпуса пад камандаваннем палкоўніка Л. В. Курмышова, пры падтрымцы бронецягніка № 52 разграмілі тут штаб нямецкай дывізіі.

План аперацыі быў распрацаваны пры ўдзеле сакратара Палескага абкома КП(б)Б Ф. М. Языковіча на аснове звестак пра ворага, здабытых байцамі разведузвода і мясцовымі жыхарамі. У дамоўлены час пачаўся артылерыйскі абстрэл штаба праціўніка з гармат бронецягніка, пасля чаго ў вёску з двух бакоў уварваліся байцы знішчальнага батальёна і стралковага корпуса. У выніку бою быў разгромлены штаб, захоплены трафеі, у т. л. апаратыўная карта з планам наступлення гітлераўскіх войск на Гомельска-Чарнігаўскім і Арлоўскім напрамках, якая была перададзена ў штаб 21-й арміі.

У 1975 г. ў памяць аб баявой аперацыі ў цэнтры вёскі пастаўлена стэла. *В. М. Баскова.*

**163. ПОМНІК АХВЯРАМ ФАШЫЗМУ** (гіст.). У цэнтры вёскі. На ўшанаванне памяці 38 аднавяскоўцаў, якіх расстралялі ў 1942 г. нямецка-фашысцкія захопнікі, у 1972 г. пастаўлены помнік — скульптура воіна.

**в. Вуглы, Пратасаўскі сельсавет**

**164. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). На заходняй ускраіне вёскі. На ўшанаванне памяці 20 аднавяскоўцаў, якія загінулі на франтах Вялікай Айчыннай вайны і ў партызанскай барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў, у 1969 г. пастаўлены абеліск.



162. *Помнік на месцы бою 1941 г.*

**в. Гарохавішчы, Любанскі сельсавет**

**165. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.) За 3 км на паўднёвы захад ад вёскі, у лесе. 5 насыпаў вышынёй да 2 м, дыяметрам да 10 м. Вядомы з 1924 г. Абследавала ў 1976 г. А. Г. Калечыц. Раскопкі не праводзіліся.

**в. Гаць, Ламавіцкі сельсавет**

**166. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). За 4 км на паўднёвы захад ад вёскі. Пахаваны астанкі 70 мірных жыхароў былой в. Вежын, якую спалілі ў лютым 1942 г. нямецка-фашысцкія захопнікі ў час карнай аперацыі. У 1965 г. на магіле пастаўлена стэла.

**в. Дзвесніца, Чырвонаслабодскі сельсавет**

**167. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА Ў ГОНАР МІНСКІХ ПАДПОЛЬНАГА АБКОМА КП(Б)Б І ПАРТЫЗАНСКАГА ЗЛУЧЭННЯ, ПАРТЫЗАНСКАГА ЗЛУЧЭННЯ МІНСКАЙ І ПАЛЕСКАЙ АБЛАСЦЕЙ, ПАДПОЛЬНАЙ ДРУКАРНІ** (гіст.). На будынку дзіцячай бібліятэкі. Устаноўлена ў 1972 г. ў памяць аб базіраванні ў Вялікую Айчынную вайну ва ўрочышчы Дзвесніца і на востраве Добры Мінскага падпольнага абкома КП(б)Б, штабоў Мінскага партызанскага злучэння і партызанскага злучэння Мінскай і Палескай абласцей, падпольнай друкарні. Гл. артыкул № 168 «Месца базіравання Мінскага падпольнага абкома КП(б)Б, штабоў Мінскага партызанскага злучэння, партызанскага злучэння Мінскай і Палескай абласцей, падпольнай друкарні».

**168. МЕСЦА БАЗІРАВАННЯ МІНСКАГА ПАДПОЛЬНАГА АБКОМА КП(б)Б, ШТАБОЎ МІНСКАГА ПАРТЫЗАНСКАГА ЗЛУЧЭННЯ, ПАРТЫЗАНСКАГА ЗЛУЧЭННЯ МІНСКАЙ І ПАЛЕСКАЙ АБЛАСЦЕЙ, ПАДПОЛЬНАЙ ДРУКАРНІ** (гіст.). За 2 км на захад ад вёскі, на востраве Добры і ва ўрочышчы Дзвесніца. Тут у Вялікую Айчынную вайну базіраваліся Мінскі падпольны абком КП(б)Б, штабы Мінскага партызанскага злучэння і партызанскага злучэння Мінскай і Палескай абласцей, падпольная друкарня.

Мінскі падпольны абком КП(б)Б створаны 7.7.1941 г. паводле рашэння ЦК КП(б)Б, прыступіў да работы 21.7.1941 г. Сакратары абкома В. І. Казлоў (21.7.1941 г.— ліпень 1944 г.), І. А. Бельскі (21.7.1941 г.— ліпень 1944 г.), А. Ф. Брагін (21.7.1941 г.— верасень 1941 г., загінуў), І. Дз. Варвашэня (21.7.1941 г.— май 1943 г.), Р. Н. Мачульскі (20.9.1942 г.— май 1943 г.; 11.9. 1943 г.— май 1944 г.); члены абкома А. Г. Бондар (21.7.1941 г.— 20.9.1942 г.), Р. Н. Мачульскі (21.7.1941 г.— 11.9. 1943 г.), А. І. Сцяпанава (21.7.1941 г.— ліпень 1944 г.). У лістападзе 1942 г.



168. *Мемарыяльная пліта і зямлянкі ў раёне базіравання Мінскага падпольнага абкома КП(б)Б, штабоў Мінскага партызанскага злучэння, партызанскага злучэння Мінскай і Палескай абласцей, падпольнай друкарні.*

ЦК КП(б)Б папоўніў склад Мінскага падпольнага абкома партыі. У яго ўвайшлі М. П. Пакроўскі (16.11. 1942 г.— чэрвень 1943 г.), І. С. Каноновіч (16.11.1942 г.— ліпень 1944 г.), К. Т. Мазураў (16.11.1942 г.— жнівень 1943 г.), І. Л. Сацункевіч (16.11. 1942 г.— сакавік 1943 г.). Друкаваны орган падпольнага абкома — газета «Звязда» [орган ЦК КП(б)Б і Мінскага абкома КП(б)Б].

Падпольны абком кіраваў баявымі дзеяннямі партызанскіх брыгад і атрадаў, якія змагаліся супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў на акупіраванай тэрыторыі Мінскай вобл., а таксама створаным у лістападзе 1941 г.— лютым 1942 г. Мінскім партызанскім злучэннем. У маі 1942 г. Мінскае злучэнне аб'ядналася з партызанскімі атрадамі, якія дыслацыраваліся ў паўночных раёнах Палескай вобл., у партызанскае злучэнне Мінскай і Палескай абласцей. Камандзірам быў прызначаны сакратар Мінскага абкома КП(б)Б В. І. Казлоў, які адначасова з'яўляўся ўпаўнаважаным ЦК КП(б)Б па Мінскай вобл.; намеснік камандзіра па кіраўніцтву баявымі аперацыямі Р. Н. Мачульскі, па разведцы і контрразведцы А. Г. Бондар, па рабоце падпольных партыйных арганізацый І. А. Бельскі і І. Дз. Варвашэня. У сакавіку 1943 г. партызанскае злучэнне Мінскай і Палескай абласцей было падзелена на Мінскае і Палескае партызанскія злучэнні. У Мінскае ўваходзіла 21 партызанская брыгада і асобна дзейныя атрады (усяго больш за 22 тыс. партызан). Камандзіры Мінскага партызанскага злучэння В. І. Казлоў, Р. Н. Мачульскі, І. А. Бельскі.

Ва ўрочышчы Дзвесніца і на востраве Добры працавала падпольная друкарня Мінскага абкома КП(б)Б.

У 1972 г. ва ўрочышчы Дзвесніца аднаўлены 3 партызанскія зямлянкі і ўстаноўлена мемарыяльная пліта.

*Літ.:* Всенародное партизанское движение в Белоруссии в годы Великой Отечественной войны (июнь 1941 — июль 1944). Т. 1.— Мн., 1967; В памяти народной.— Мн., 1969; Казлоў В. І. Людзі асобага складу.— Мн., 1967; Подпольные партийные органы Компартии Белоруссии в годы Великой Отечественной войны (1941—1944).— Мн., 1975. *В. М. Баскова.*

**в. Дзербін, Валосавіцкі сельсавет**

**169. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны 237 воінаў, якія загінулі ў студзені — чэрвені 1944 г. ў баях за вызваленне раёна ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. Сярод пахаваных — воіны 371-га стралковага палка 130-й стралковай дывізіі і 215-й асобнай знішчальнай процітанкавай дывізіі. У 1967 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна.

**в. Забалацце, Ляскавіцкі сельсавет**

**170. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАНА** (гіст.). На могілках. Пахаваны 42 воіны, якія загінулі ў 1943—44 гг. пры вызваленні раёна ад нямецка-фашысцкіх акупантаў, і партызан, што загінуў у 1944 г. У 1959 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**171. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). Вул. Камарова. Пахаваны астанкі 87 жыхароў, якіх 5.2.1944 г. ў час карнай аперацыі расстралялі і спалілі нямецка-фашысцкія захопнікі.



174. *Помнік на магіле ахвяр фашызму.*

У 1956 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Залессе, Акцябрскі сельсавет**

**172. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). За 1,5 км на паўночны захад ад вёскі. Пахаваны астанкі 76 жыхароў в. Перакалле, якіх у красавіку 1942 г. ў час карнай аперацыі спалілі нямецка-фашысцкія захопнікі. У 1964 г. на магіле пастаўлена стэла.

**173. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). За 1,5 км на паўночны ўсход ад вёскі. Пахаваны астанкі 14 жыхароў былой в. Колбік, якіх у красавіку 1942 г. ў час карнай аперацыі расстралялі і спалілі нямецка-фашысцкія захопнікі. У 1964 г. на магіле пастаўлена стэла.

**в. Кавалі, Акцябрскі сельсавет**

**174. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). За 150 м на паўночны ўсход ад вёскі. Пахаваны астанкі 720 жыхароў, якіх 2.4.1942 г. ў час карнай аперацыі загубілі і спалілі нямецка-фашысцкія захопнікі. У 1964 г. на магіле пастаўлена стэла.

**175. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). За 0,8 км на захад ад вёскі. Пахаваны астанкі 141 жыхара, якіх у красавіку 1944 г. ў час карнай аперацыі загубілі і спалілі нямецка-фашысцкія захопнікі. У 1964 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Колбік (не існуе), Акцябрскі сельсавет**

**176. МЕСЦА СПАЛЕНАЙ ВЁСКІ** (гіст.). Вёска Колбік знаходзілася за 1,5 км на паўночны ўсход ад в. Залессе. У красавіку 1942 г. нямецка-фашысцкія захопнікі ў час карнай аперацыі спалілі вёску разам з 14 жыхарамі. Вёска не адрадзілася.

**в. Курын, Ламавіцкі сельсавет**

**177. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). За 0,7 км на паўднёвы захад ад вёскі. Пахаваны астанкі 506 жыхароў, якіх у красавіку 1942 г. расстралялі і спалілі нямецка-фашысцкія захопнікі. Згарэла 138 двароў. У 1964 г. на магіле пастаўлена стэла. Вёска ўвекавечана ў мемарыяльным комплексе Хатынь.

**178. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). За 1 км на поўдзень ад вёскі. Пахаваны 95 мірных жыхароў былой в. Селішча. У красавіку 1942 г. нямецка-фашысцкія захопнікі сагналі жыхароў вёскі ў адзін дом быццам для допыту, потым невялікімі групамі выводзілі і расстрэльвалі. Забітых і параненых спалілі. Згарэла 29 двароў. У 1966 г. на магіле пастаўлена стэла. Гл. таксама артыкул № 208 «Месца спаленай вёскі».

**179. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). За 2 км на поўнач ад вёскі, на месцы былой в. Смуга. Пахаваны астанкі 175 жыхароў, якіх у красавіку 1942 г. ў час карнай аперацыі расстралялі і спалілі нямецка-фашысцкія захопнікі. У 1964 г. на магіле пастаўлена стэла. Гл. таксама артыкул № 210 «Месца спаленай вёскі».



177. *Помнік на магіле ахвяр фашызму.*

**180. МЕСЦА БАЗІРАВАННЯ ПАРТЫЗАНСКАГА АТРАДА «ЧЫРВОНЫ КАСТРЫЧНІК»** (гіст.). За 5 км ад вёскі, каля дарогі на в. Подгаць, у лесе.

У першыя дні Вялікай Айчыннай вайны на тэрыторыі Акцябрскага р-на для барацьбы супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў быў створаны знішчальны батальён, арганізатарамі і кіраўнікамі якога былі першы сакратар райкома КП(б)Б Ц. П. Бумажкоў і намеснік старшыні райвыканкома Ф. І. Паўлоўскі. Батальён налічваў каля 60 чалавек, дзейнічаў ва ўзаемасувязі з часцямі Чырвонай Арміі. У ліпені 1941 г. на базе батальёна Палескі абком КП(б)Б зацвердзіў партызанскі атрад «Чырвоны Кастрычнік». У студзені 1942 г. па ініцыятыве камандавання атрада створана аб'яднанне атрадаў пад назвай «гарнізон Ф. І. Паўлоўскага». У маі 1942 г. створана партызанская брыгада Ф. І. Паўлоўскага (з лютага 1943 г.— 123-я партызанская брыгада, са студзеня 1944 г.— 123-я партызанская брыгада імя 25-годдзя БССР), у якую ўвайшоў атрад «Чырвоны Кастрычнік». Камандзіры атрада «Чырвоны Кастрычнік»: Ц. П. Бумажкоў (ліпень — жнівень 1941 г.), Ф. І. Паўлоўскі (жнівень 1941 г.— студзень 1942 г.), Э. Я. Чырлін (люты — верасень 1942 г.), А. М. Калакін (верасень 1942 г.— красавік 1943 г.), А. І. Ахраменка (красавік — верасень 1943 г.), І. М. Мярзляк (верасень 1943 г.— май 1944 г.), В. Ф. Ягораў (май — ліпень 1944 г.); камісары: С. В. Маханько (жнівень 1941 г.— студзень 1942 г.), І. Я. Старжынскі (студзень 1942 г.— красавік 1944 г., загінуў), С. І. Коршак (красавік — ліпень 1944 г.). Арганізатарам атрада Ц. П. Бумажкову і Ф. І. Паўлоўскаму 6.8.1941 г. адным з першых савецкіх партызан прысвоена званне Героя Савецкага Саюза.

У 1948 г. на месцы базіравання атрада «Чырвоны Кастрычнік» пастаўлены абеліск.

*Літ.:* Из истории партизанского движения в Белоруссии (1941—1944 годы).— Мн., 1961; Всенародное партизанское движение в Белоруссии в годы Великой Отечественной войны (июнь 1941 — июль 1944). Т. 1.— Мн., 1967. *В. М. Баскова.*

**в. Ламавічы, цэнтр сельсавета**

**181. МЕСЦА БОЮ 1943 г.** (гіст.). Восенню 1943 г. партызаны атрадаў імя А. Ф. Каваленкі (камандзір М. С. Арцюшка, камісар Я. А. Сянько), «Смерць фашызму» (камандзір А. Е. Папруга, камісар — І. А. Канцар), «За Радзіму» (камандзір І. Т. Дайнека, камісар М. К. Грыб), «Чырвоны Кастрычнік» (камандзір І. М. Мярзляк, камісар І. Я. Старжынскі) 123-й партызанскай брыгады, імя М. Ф. Гастэлы (камандзір В. М. Багдановіч, камісар У. А. Станкевіч) 225-й партызанскай брыгады разграмілі ў вёсцы нямецка-фашысцкі гарнізон.

У 1960 г. ў памяць аб баявой аперацыі партызан на будынку выканкома сельсавета ўстаноўлена мемарыяльная дошка.

**182. ПОМНІК КІРАВУ** Сяргею Міронавічу (гіст.). Каля Дома культуры. Бюст С. М. Кірава ўстаноўлены ў 1971 г.

**183. ПОМНІК ШАРШНЁВАЙ** Рыме Іванаўне (гіст.). На ўскраіне вёскі, каля дарогі на в. Курын.

Удзельніца партызанскага руху і камсамольскага падполля ў Мінскай



183. *Помнік Р. І. Шаршнёвай.*

вобл. ў Айчынную вайну Р. І. Шаршнёва нарадзілася 28.7.1925 г. ў г. Добруш Гомельскай вобл. Член ВЛКСМ. У пачатку Вялікай Айчыннай вайны з сям'ёй эвакуіравалася ў Арэнбургскую вобл., вучылася ў 10-м класе. Напісала ў ЦК ВЛКСМ пісьмо з просьбай накіраваць яе на фронт. З ліпеня 1942 г. ў складзе партызанскага атрада імя М. Ф. Гастэлы, які быў створаны з камсамольцаў г. Масквы і накіраваны ў тыл ворага на тэрыторыю Беларусі. Сувязная-інструктар ЦК ЛКСМБ з Мінскім падпольным міжрайкомам ЛКСМБ. Арганізоўвала камсамольскае падполле, праводзіла палітыка-масавую работу сярод насельніцтва, удзельнічала ў баявых аперацыях партызан. 25.11. 1942 г. ў час аперацыі па разгрому варожага гарнізона ў в. Ламавічы Р. І. Шаршнёва падарвала варожы дзот, была цяжка паранена. Памерла ад ран 6.12.1942 г. ў в. Старасекі. Пахавана ў г. Любань у мемарыяльным парку. Пасмяротна ўзнагароджана ордэнам Чырвонага Сцяга.

У 1966 г. на ўшанаванне памяці Р. І. Шаршнёвай устаноўлены бюст.

*Літ.:* В памяти народной.— Мн., 1969; Друян И. Клятву сдержали.— Мн., 1975.
*В. М. Баскова.*

**в. Лаўстыкі, Акцябрскі сельсавет**

**184. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны астанкі 250 мірных жыхароў, якіх 2.4. 1942 г. ў час карнай аперацыі расстралялі і спалілі нямецка-фашысцкія захопнікі. У 1964 г. на магіле пастаўлены абеліск.


186. *Помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў і партызан.*


190. *Абеліск на месцы «Рудабельскіх варот».*

**185. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). За 0,2 км на паўднёвы захад ад вёскі. Пахаваны 550 мірных жыхароў, якіх загубілі нямецка-фашысцкія захопнікі ў пачатку красавіка 1942 г. У 1964 г. на магіле пастаўлена стэла.

**в. Любань, цэнтр сельсавета**

**186. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны 1100 воінаў і 7 партызан, якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у 1943—44 гг. Сярод пахаваных — воіны 48, 50, 55, 96-й гвардзейскіх стралковых дывізій 28-й арміі, Герой Савецкага Саюза Сяргей Дзям'янавіч Роман.

С. Дз. Роман нарадзіўся 11.9. 1917 г. ў г. Ейск Краснадарскага краю. Член ВЛКСМ. Да Вялікай Айчыннай вайны працаваў у Ейскім рыбалавецкім калгасе, потым малярам. На фронце з 1943 г. Радавы 168-га гвардзейскага стралковага палка 55-й гвардзейскай стралковай дывізіі С. Дз. Роман вызначыўся 24.6. 1944 г. ў час прарыву варожай абароны каля в. Пружынішчы Любанскага сельсавета. Ён першым падняўся ў атаку, быў паранены, але не пакінуў поля бою. У час штурму 2-й лініі абароны праціўніка адным з першых пайшоў у атаку на ворага, у рашаючы момант бою закрыў сваім целам амбразуру варожага дзота. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 24.3.1945 г. Імем героя названа вуліца ў г. Ейск, яго імя прысвоена Любанскай сярэдняй школе Акцябрскага р-на.

У 1966 г. ўстаноўлены надмагілле і стэла.

*Літ.:* Навечно в сердце народном.— 3 изд.— Мн., 1984; Лучинский А. 28-я армия в Бобруйской операции.— Военно-исторический журнал, 1969, № 2.
*В. М. Баскова.*

**в. Ляскавічы, цэнтр сельсавета**

**187. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). На тэрыторыі школы. Пахаваны астанкі 60 жыхароў вёскі, якіх 5. 2. 1944 г. ў час карнай аперацыі загубілі нямецка-фашысцкія захопнікі. У 1956 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**188. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). Каля школы. Пахаваны астанкі 52 жыхароў, якіх 5.2.1944 г. ў час карнай аперацыі загубілі нямецка-фашысцкія захопнікі. У 1956 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Малын, Акцябрскі сельсавет**

**189. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). За 0,4 км на ўсход ад вёскі, у лесе. Пахаваны 20 мірных жыхароў (жанчыны, старыя і дзеці), якіх у 1944 г. загубілі нямецка-фашысцкія захопнікі. У 1978 г. на магіле пастаўлена стэла.

**в. Мікуль-Гарадок, Любанскі сельсавет**

**190. «РУДАБЕЛЬСКІЯ ВАРОТЫ»** (гіст.). За 2 км на паўночны захад ад вёскі.

У час Гомельска-Рэчыцкай аперацыі 1943 г., калі войскі Беларускага фронту наблізіліся да граніц Акцябрскага р-на, партызаны 123-й брыгады імя 25-годдзя БССР (камандзір Ф. І. Паўлоўскі, камісар Я. А. Татараў) прарвалі каля вёскі лінію абароны нямецкіх войск і ўстанавілі непасрэд-


191. *Помнік на магіле ахвяр фашызму.*



193. *Помнік на магіле ахвяр фашызму.*

ную сувязь з 37-й і 60-й стралковымі дывізіямі 65-й арміі. З 28.11.1943 г. дзейнічалі так званыя «Рудабельскія вароты». У іх раёне дыслацыраваліся партызанскія атрады імя А. Ф. Каваленкі, «За Радзіму», «Чырвоны Кастрычнік». Партызаны па заданнях камандавання Чырвонай Арміі праводзілі разведку, дыверсіі на камунікацыях ворага. 21.12.1943 г. вораг атакаваў пазіцыі 60-й дывізіі і прарваў яе абарону, «вароты» былі закрыты.

У 1976 г. ў памяць аб «Рудабельскіх варотах» пастаўлены абеліск.

*Літ.:* Полки идут на Запад.— М., 1964.
*В. М. Баскова.*

**в. Новікі, Валосавіцкі сельсавет**

**191. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны 147 мірных жыхароў (жанчыны, старыя і дзеці), якіх у снежні 1943 г. загубілі нямецка-фашысцкія захопнікі. У 1961 г. на магіле пастаўлена стэла.

**в. Парэчча, цэнтр сельсавета**

**192. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 13 воінаў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну. У 1967 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**193. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). Каля клуба. Пахаваны 24 мірныя жыхары, якіх у 1941—44 гг. расстралялі нямецка-фашысцкія захопнікі. У 1967 г. на магіле пастаўлена стэла.

**194. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). Каля могілак. Пахаваны 66 мірных жыхароў, якіх у красавіку 1942 г. ў час карнай аперацыі загубілі нямецка-фашысцкія захопнікі. У 1960 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**195. ПАРТЫЗАНСКІ АЭРАДРОМ** (гіст.). За 0,2 км на ўсход ад вёскі, па дарозе на г. п. Акцябрскі. Тут у Вялікую Айчынную вайну размяшчаўся аэрадром Палескага партызанскага злучэння. У 1973 г. на месцы партызанскага аэрадрома пастаўлены мемарыяльны знак.

**196. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі, каля будынка выканкома сельсавета. На ўшанаванне памяці землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1967 г. пастаўлены помнік — скульптура воіна.

**в. Перакалле (не існуе), Акцябрскі сельсавет**

**197. МЕСЦА СПАЛЕНАЙ ВЁСКІ** (гіст.). Вёска Перакалле знаходзілася за 1,5 км на паўночны захад ад в. Залессе. У красавіку 1942 г. нямецка-фашысцкія захопнікі ў час карнай аперацыі спалілі вёску разам з жыхарамі (76 чалавек, 27 двароў). Вёска не адрадзілася. Увекавечана ў мемарыяльным комплексе Хатынь.

**в. Пратасы, цэнтр сельсавета**

**198. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). На могілках. Пахаваны 246 воінаў 28-й арміі і 8 партызан, якія загінулі ў баях за вызваленне раёна ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. Сярод пахаваных — члены экіпажа танка Т-34: механік-вадзіцель Герой Савецкага Саюза Міхаіл Арцёмавіч Бухтуеў, наводчык Рыгор Пятрухін, зараджаючы Ахмет Хісматулін, якія 25.6.1944 г. ў баі каля в. Чорныя Брады Пратасаўскага сельсавета таранілі варожы бранепоезд.

М. А. Бухтуеў нарадзіўся 23.11. 1925 г. ў пасёлку Кара-Хаш Таджынскага р-на Тувінскай АССР. Член ВЛКСМ. З 1941 г. ў Чырвонай Арміі. З чэрвеня 1944 г. на 1-м Беларускім фронце. Загінуў 25.6.1944 г. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 22.8. 1944 г. Яго імя прысвоена сярэдняй школе № 1 у г. Кызыл, на будынку школы, дзе вучыўся, устаноўлена мемарыяльная дошка.

У 1977 г. на магіле пастаўлена стэла.

*Літ.:* Лучинский А. 28-я армия в Бобруйской операции.— Военно-исторический журнал, 1969, № 2; Навечно в сердце народном.— 3 изд.— Мн., 1984.
*В. М. Баскова.*

**199. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны астанкі 23 жыхароў вёскі, якіх у красавіку 1942 г. спалілі нямецка-фашысцкія карнікі. У 1975 г. на магіле пастаўлена стэла.



195. *Помнік на месцы партызанскага аэрадрома.*



196. *Помнік землякам.*

**в. Пружынішчы, Любанскі сельсавет**

**200. ПОМНІК У ГОНАР ПОДЗВІГУ РОМАНА** Сяргея Дзям'янавіча (гіст.). У цэнтры вёскі.

Радавы 168-га гвардзейскага стралковага палка 55-й гвардзейскай стралковай дывізіі 28-й арміі С. Дз. Роман 24.6.1944 г. ў баі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў каля вёскі закрыў сваім целам амбразуру варожа-



198. *Помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў і партызан.*

га дзота. С. Дз. Роману 24.3.1945 г. прысвоена званне Героя Савецкага Саюза. Глядзі артыкул № 186 «Брацкая магіла савецкіх воінаў і партызан».

У памяць аб подзвігу героя ў 1964 г. пастаўлена стэла.

**чыгуначная станцыя Рабкор, Акцябрскі сельсавет**

**201. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). За 0,3 км на ўсход ад будынка вакзала. Пахаваны 56 мірных жыхароў. 2.4.1942 г. нямецка-фашысцкія захопнікі сагналі ў памяшканне чыгуначнай станцыі старых, жанчын і дзяцей, расстралялі іх, а потым спалілі. У 1960 г. на магіле пастаўлена стэла.

**202. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). За 1,5 км на захад ад станцыі, на месцы былога хутара. Пахаваны мірныя жыхары Ульяна Кузьмінічна і Ганна Паўлаўна Падуты (маці і дачка), якіх расстралялі ў 1944 г. нямецка-фашысцкія захопнікі. У 1977 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**203. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). За 2 км на паўднёвы ўсход ад чыгуначнай станцыі, у лесе. Пахаваны мірныя жыхары. У час карнай аперацыі ў красавіку 1942 г. нямецка-фашысцкія захопнікі расстралялі і спалілі сем'і чыгуначнікаў Ф. Шэйко і І. Ястрэмскага. У 1977 г. на магілах пастаўлены 2 стэлы.

**в. Радкаў, Валосавіцкі сельсавет**

**204. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). На паўночнай ускраіне вёскі. Пахаваны астанкі 9 мірных жыхароў вёскі, якіх у снежні 1943 г. спалілі нямецка-фашысцкія захопнікі. У 1966 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Рассвет, Пратасаўскі сельсавет**

**205. РАДЗІМА ПІНЧУКА** Андрэя Міхайлавіча (гіст.).

Герой Савецкага Саюза А. М. Пінчук нарадзіўся 14.7.1913 г. Член КПСС з 1940 г. Скончыў Парыцкую сярэднюю школу. Працаваў загадчыкам магазіна, старшынёй сельпо ў Акцябрскім райспажыўсаюзе. У 1935—38 гг. у Чырвонай Арміі. У Вялікую Айчынную вайну з чэрвеня 1941 г. на Заходнім, Паўднёва-Заходнім, Паўднёвым, Варонежскім, 2-м Украінскім франтах. Камандзір танкавага батальёна гвардыі маёр А. М. Пінчук вызначыўся ў баях на тэрыторыі Румыніі і Венгрыі. У раёне г. Ясы 20.8.1944 г. батальён прарваў абарону праціўніка і адкрыў дарогу для наступлення 6-й танкавай арміі, правёў танкі праз Паўднёвыя Карпаты. 5.12.1944 г. батальён удзельнічаў у прарыве лініі абароны ворага на паўночны ўсход ад Будапешта і адзін з першых выйшаў на р. Дунай. Знішчыў 8 танкаў, 77 гармат, 195 кулямётаў, 64 мінамёты праціўніка. Загінуў А. М. Пінчук 24.12.1944 г. Пахаваны ў г. Балта Адэскай вобл. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 28.4. 1945 г. У г. п. Парычы на будынку сярэдняй школы ўстаноўлена мемарыяльная дошка.

*Літ.:* Навечно в сердце народном.— 3 изд.— Мн., 1984. *В. М. Баскова.*



207. *Помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў.*

**в. Растаў, Парэцкі сельсавет**

**206. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны 14 мірных жыхароў (4 партызанскія сям'і), расстраляных у красавіку 1942 г. нямецка-фашысцкімі захопнікамі. У 1970 г. на магіле пастаўлена стэла.

**в. Рог, Валосавіцкі сельсавет**

**207. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны 80 воінаў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну ў барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. Сярод пахаваных — байцы 371-га стралковага палка 130-й стралковай дывізіі. У 1958 г. на магіле пастаўлена стэла.

**в. Селішча (не існуе), Ламавіцкі сельсавет**

**208. МЕСЦА СПАЛЕНАЙ ВЁСКІ** (гіст.). Вёска Селішча знаходзілася за 1 км на поўдзень ад в. Курын. У красавіку 1942 г. нямецка-фашысцкія захопнікі спалілі 95 мірных жыхароў і ўсе пабудовы (29 двароў). Вёска не адрадзілася. Увекавечана ў мемарыяльным комплексе Хатынь.

**в. Слабодка, Пратасаўскі сельсавет**

**209. ПОМНІК «БЕЛАРУСЬ ПАРТЫЗАНСКАЯ»** (гіст.). За 0,5 км на ўсход ад вёскі, каля дарогі Акцябрскі — Парычы.

З першых дзён Вялікай Айчыннай вайны працоўныя раёна ўключыліся ва ўсенародную барацьбу супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У ліпені 1941 г. з партыйнага і савецкага актыву ў раёне створаны партызанскі атрад «Чырвоны Кастрычнік». Увосень 1941 г. ў выніку вызвалення партызанамі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў часткі тэрыторыі Акцябрска-



209. *Помнік «Беларусь партызанская».*

га, Глускага, Любанскага і Старобінскага р-наў створана Акцябрска-Любанская партызанская зона. У Акцябрскім р-не была адноўлена Савецкая ўлада, дзейнічалі райвыканком і выканкомы сельсаветаў. Было наладжана гаспадарчае жыццё, вялася масава-палітычная работа сярод насельніцтва. Увосень 1942 г. ў многіх населеных пунктах раёна адкрыты савецкія школы.

У барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў загінуў кожны трэці жыхар раёна. У чэрвені 1944 г. 28-я армія (камандуючы генерал-лейтэнант А. А. Лучынскі), конна-механізаваная група пад камандаваннем генерал-лейтэнанта М. А. Пліева ва ўзаемадзеянні з партызанамі вызвалілі Акцябрскі р-н ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. 13 савецкім воінам, якія здзейснілі подзвігі на тэрыторыі раёна, арганізатарам партызанскага руху ў Акцябрскім р-не Ц. П. Бумажкову і Ф. І. Паўлоўскаму, а таксама ураджэнцу в. Рассвет Пратасаўскага сельсавета А. М. Пінчуку прысвоена званне Героя Савецкага Саюза; 1356 жыхароў раёна атрымалі баявыя ўзнагароды.

У 1982 г. ў гонар баявых дзеянняў савецкіх воінаў і партызан Акцябршчыны і на ўшанаванне памяці воінаў-вызваліцеляў і народных мсціўцаў, што загінулі на тэрыторыі раёна ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў, насыпаны курган, на вяршыні якога ўстаноўлены скульптура жанчыны з вінтоўкай і хлопчыка. Каля кургана — 8 пліт з надпісамі-прысвячэннямі. *В. М. Баскова.*

**в. Смуга (не існуе), Ламавіцкі сельсавет**

**210. МЕСЦА СПАЛЕНАЙ ВЁСКІ** (гіст.). Вёска Смуга знаходзілася за 2 км на паўночны ўсход ад в. Курын. У красавіку 1942 г. нямецка-фашысцкія захопнікі ў час карнай аперацыі спалілі вёску разам з жыхарамі (175 чалавек, 21 двор). Вёска не адрадзілася. Увекавечана ў мемарыяльным комплексе Хатынь.

**в. Старая Дуброва, Акцябрскі сельсавет**

**211. РАДЗІМА ЖУЛЕГІ** Рыгора Прохаравіча (гіст.).

Поўны кавалер ордэна Славы Р. П. Жулега нарадзіўся 1.1.1922 г. ў сялянскай сям'і. Член КПСС з 1942 г. Працаваў слесарам у в. Рудобелка Гомельскай вобл. У Чырвонай Арміі з 1940 г. У Вялікую Айчынную вайну з 1941 г. на Карэльскім, 2-м Беларускім франтах. Вызначыўся ў баях у Карэліі і на тэрыторыі Германіі. 11.6.1944 г. памочнік камандзіра ўзвода разведкі старшы сяржант Р. П. Жулега з групай воінаў уварваўся ў траншэі ворага, знішчыў 4 гітлераўцаў і захапіў «языка»; 23.



212. *Брама.*

10.1944 г. ў час адной з контратак арганізаваў абарону штаба палка і выратаваў сцяг палка; 7.3.1945 г. з разведчыкамі ўварваўся на станцыю Пільн (Усх. Прусія) і асабіста знішчыў 2 бронетранспарцёры і 22 гітлераўцаў, 4 узяў у палон. Пасля вайны да 1955 г. жыў і працаваў на радзіме. З 1955 г. — у пас. Крылова Калінінградскай вобл. Памёр 22.6. 1973 г.

*Літ.:* Навечно в сердце народном.— 3 изд.— Мн., 1984. *В. М. Удальцоў.*

**в. Харомцы, Ляскавіцкі сельсавет**

**212. БРАМА** (архіт.). На могілках. Пабудавана ў канцы 19 ст. з дрэва мясцовымі майстрамі. Брама прамавугольная ў плане, сіметрычнай кампазіцыі, накрыта двухсхільным дахам, у цэнтры якога — трохвугольны франтон, дэкарыраваны паясамі разнога арнаменту. У дэкаратыўнай аздобе шырока выкарыстаны хвалісты арнамент. Брама — помнік народнага дойлідства.

**213. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 2 км на захад ад вёскі, ва ўрочышчы Ляскаўшчына, у лесе. 150 насыпаў паўсферычнай формы, вышынёй 2 м, дыяметрам 10—12 м. Выявіла і абследавала ў 1976 г. А. Г. Калечыц. Раскопкі не праводзіліся.

**214. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны астанкі 207 жыхароў вёскі, якіх у 1944 г. загубілі нямецка-фашысцкія карнікі. У 1958 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**215. ПАРК** (архіт.). На ўсходняй ускраіне вёскі. Закладзены ў канцы 19 ст. як сядзібны.

Мае выразную геаметрычную планіроўку. Галоўнай кампазіцыйнай воссю з'яўляецца шырокая алея, якая падзяляе тэрыторыю парку на 2 часткі: паўночна-ўсходнюю і паўднёва-заходнюю. Кожная з іх разбіта алеямі на прамавугольныя ўчасткі, засаджаныя пладовымі дрэвамі. Алеі акаймаваны таполямі, ліпамі, клёнамі, дубамі і іншымі ліcцевымі дрэвамі. У паўднёва-заходняй частцы парку — яловая алея, якая адмяжоўвае тэрыторыю парку ад праезнай дарогі. Тут таксама знаходзіўся сядзібны дом (не збярогся).

Помнік сядзібна-паркавага мастацтва. *А. Ю. Пятросава.*

**в. Чорныя Брады, Пратасаўскі сельсавет**

**216. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал). За 0,5 км на поўдзень ад вёскі, ва ўрочышчы Курганне, у лесе. 15 насыпаў вышынёй каля 1,5 м, дыяметрам 10—15 м. 4 курганы пашкоджаны ямамі. Адкрыла і абследавала ў 1976 г. А. Г. Калечыц. Раскопкі не праводзіліся.

**217. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА САВЕЦКІМ ТАНКІСТАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі, на будынку бібліятэкі. Устаноўлена ў 1975 г. на ўшанаванне подзвігу савецкіх танкістаў, якія 25.6. 1944 г. ў баі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў таранілі палаючым танкам варожы браняпоезд. Гл. артыкул № 198 «Брацкая магіла савецкіх воінаў і партызан» і № 218 «Месца тарана браняпоезда праціўніка ў 1944 г.».

**218. МЕСЦА ТАРАНА БРАНЯПОЕЗДА ПРАЦІЎНІКА Ў 1944 г.** (гіст.). За 2 км на паўночны захад ад вёскі.

На подступах да Бабруйска 2-і батальён 15-й гвардзейскай танкавай Рэчыцкай Чырванасцяжнай брыгады 1-га гвардзейскага танкавага корпуса атрымаў загад заняць раз'езд Чорныя Брады. У час атакі 25.6.1944 г. танк



215. *Куток парку.*

Т-34 пад камандаваннем гвардыі лейтэнанта Дз. Я. Камарова вырваўся наперад, знішчыў каля ўзвода фашыстаў і некалькі агнявых кропак ворага. Калі скончыліся боепрыпасы і танк загарэўся, экіпаж вырашыў ісці на таран варожага бранепоезда, які вёў агонь па савецкіх танках і пяхоце. 3 воіны з 4 членаў экіпажа загінулі, камандзір танка астаўся жывым. Механіку-вадзіцелю танка М. А. Бухтуеву 22.8.1944 г. прысвоена званне Героя Савецкага Саюза (гл. артыкул № 198 «Брацкая магіла савецкіх воінаў і партызан»). Камандзір экіпажа, які здзейсніў таран, загінуў 4.9.1944 г. ў баі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў на тэрыторыі Польшчы. 26.9.1944 г. яму прысвоена званне Героя Савецкага Саюза.

У 1975 г. на месцы тарана ўстаноўлены памятны знак.

*Літ.:* Навечно в сердце народном.— 3 изд.— Мн., 1984. *В. М. Баскова.*

**в. Чырвоная Слабада, цэнтр сельсавета**

**219. МАГІЛА АСМЫКОВІЧА** Мікалая Захаравіча (гіст.). На могілках.

Поўны кавалер ордэна Славы М. З. Асмыковіч нарадзіўся 20.4.1916 г. ў в. Чырвоная Слабада ў сялянскай сям'і. Член КПСС з 1943 г. Працаваў у калгасе «Арэса» на Гомельшчыне. У 1937—39 гг. у Чырвонай Арміі, потым у органах НКУС у Мінску. У Вялікую Айчынную вайну з 1941 г. на Заходнім, Беларускім, 1-м Беларускім франтах. Удзельнік абарончых баёў на Беларусі і Украіне, Курскай бітвы, вызвалення Беларусі, Польшчы, разгрому гітлераўцаў у Германіі. Вызначыўся ў 1943 г. пры вызваленні в. Шацілкі (цяпер г. Светлагорск), дзе разлік гарматы пад камандаваннем старшага сяржанта М. З. Асмыковіча адбіў некалькі контратак праціўніка, знішчыў 2 танкі; у 1944 г. ў баях за г. Ковель Валынскай вобл. падбіў 2 танкі; 17.1.1945 г. пры прарыве варожай абароны на заходнім беразе р. Одэр і ў баях на плацдарме агнём прамой наводкай знішчыў гармату, станковы і 2 ручныя кулямёты, каля 30 гітлераўцаў. Пасля вайны працаваў у саўгасе «Чырвонаслабодскі» Акцябрскага р-на. Памёр 14.12.1976 г. У 1978 г. на магіле пастаўлены абеліск.

*Літ.:* Навечно в сердце народном.— 3 изд.— Мн., 1984. *В. М. Удальцоў.*



220. *Помнік на месцы былога лагера смерці.*

**в. Юркі, Валосавіцкі сельсавет**

**220. МЕСЦА ЛАГЕРА СМЕРЦІ** (гіст.). За 1 км на паўднёвы ўсход ад вёскі. Тут у Вялікую Айчынную вайну нямецка-фашысцкія захопнікі стварылі канцэнтрацыйны лагер.

Пад адкрытым небам, на пляцоўцы, абнесенай калючым дротам, гітлераўцы трымалі каля 10 000 старых, жанчын і дзяцей. Лагер моцна ахоўваўся, падступы да яго былі замініраваны. Вязням не дазвалялася разводзіць агонь. Усіх, хто спрабаваў парушыць жорсткі рэжым, расстрэльвалі. Сюды спецыяльна прывозілі хворых сыпным тыфам. Такія лагеры гітлераўцы стваралі каля лініі фронту для распаўсюджвання эпідэміі сыпнога тыфу сярод мірнага насельніцтва і воінаў Чырвонай Арміі. 19.3.1944 г. вязні лагера вызвалены Чырвонай Арміяй.

У 1964 г. на месцы лагера смерці пастаўлены помнік — скульптура воіна.

*Літ.:* Преступления немецко-фашистских оккупантов в Белоруссии. 1941—1944.— [2 изд.].— Мн., 1965.




# БРАГІНСКІ РАЁН

Рудня-Жураўлёва
Петрыцкае
Вуглы
Шкураты
Мікулічы
Буркі
Малейкі
БРАГІН
Астрагляды
Аляксееўка
Глухавічы
Ясяні
Малажын
Дублін
Спярыжжа
Чамярысы
Хракавічы
Выграбная Слабада
Савічы
Асарэвічы
Піркі
Крукі
Нов. Ёлча
Калыбань
Камарын
Пасудава
Верх. Жары
Гдзень

- Цэнтр раёна
- Цэнтры сельсаветаў
- Стаянкі, паселішчы, гарадзішчы
- Могільнікі (грунтавыя, курганныя), курганы
- Помнікі і памятныя месцы Вялікай Айчыннай вайны (месцы баёў, магілы савецкіх воінаў і партызан, Курганы Славы, помнікі землянкам і інш.)
- Помнікі ахвярам фашызму (месцы канцлагераў і лагераў смерці, месцы масавай загубы насельніцтва, спаленыя і неаднаўленыя вёскі і інш.)
- Помнікі сацыялістычнага будаўніцтва
- Помнікі і месцы, звязаныя з імёнамі савецкіх партыйных, дзяржаўных і гаспадарчых дзеячаў, дзеячаў культуры, навукі і тэхнікі
- Паркі і садова-паркавыя збудаванні

## III. БРАГІН

Гарадскі пасёлак, цэнтр раёна. Размешчаны на р. Брагінка, за 130 км на паўднёвы захад ад Гомеля, 28 км ад чыгуначнай станцыі Хойнікі. Аўтамабільнымі дарогамі злучаны з Хойнікамі, Камарынам, Рэчыцай, Лоевам.

У летапісах Брагін упершыню ўпамінаецца пад 1147 г. як горад Кіеўскага княства. У гэтым годзе северскія князі Вольгавічы і Давыдавічы ў час барацьбы з кіеўскім князем Ізяславам Мсціславічам разрабавалі і спустошылі яго. У 1189 г. кіеўскі князь Рурык Расціславіч аддаў Брагін жонцы сына Верхуславе, дачцы вялікага князя суздальскага Усевалада Юр'евіча. З 1360-х гадоў уваходзіў у склад Вялікага княства Літоўскага як уласнасць вялікіх князёў. У 1511 г. атрымаў грамату ад польскага караля Сігізмунда I, якая забяспечвала правы гараджан і давала ім розныя льготы. З 1569 г. ў складзе Рэчы Паспалітай. З канца 16 ст. Брагін — рэзідэнцыя князёў Вішнявецкіх. У 2-й палавіне 17 ст. перайшоў да князёў Канецпольскіх. Жыхары Брагіна ўдзельнічалі ў вызваленчай вайне ўкраінскага і беларускага народаў 1648—54 гг. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793 г.) у складзе Расійскай імперыі, мястэчка, цэнтр воласці Рэчыцкага павета Мінскай губерні. У 1905 г. ў Брагіне 2,7 тыс. жыхароў, 2 царквы, 1 сельская школа. Насельніцтва Брагіна прымала ўдзел у Рэвалюцыі 1905—07 гг. Савецкая ўлада ўстаноўлена ў лістападзе 1917 г. У лютым 1918 г.— снежні 1919 г. акупіраваны нямецкімі войскамі. З 1919 г. Брагін уваходзіў у склад Рэчыцкага павета Гомельскай губерні, з снежня 1926 г. цэнтр Брагінскага р-на Рэчыцкай, з 1927 г.— Гомельскай акруг. З 27.9. 1938 г. гарадскі пасёлак Палескай, з 1954 г.— Гомельскай абласцей. У 1939 г. ў Брагіне 4,7 тыс. жыхароў.

У Вялікую Айчынную вайну з жніўня 1941 г. да 23.11.1943 г. акупіраваны нямецка-фашысцкімі захопнікамі. З лістапада 1941 г. да верасня 1943 г. дзейнічала Брагінскае камуністычнае падполле. Групу ў Брагіне ўзначальваў камуніст П. Р. Зяновіч, з вясны 1942 г.— М. Л. Дубіна, з кастрычніка 1942 г.— С. І. Рэпчанка. Была ўстаноўлена сувязь з партызанскім атрадам імя Р. І. Катоўскага. Патрыёты прымалі па радыё і распаўсюджвалі зводкі Саўінфармбюро, збіралі зброю, ратавалі моладзь ад вывазу на катаргу ў Германію. На тэрыторыі раёна дзейнічалі Брагінскія падпольныя райкомы КП(б)Б (11.10—24.11.1943 г.) і ЛКСМБ (15.10—24.11.1943 г.). 23.11. 1943 г. 55-я стралковая дывізія 61-й арміі Беларускага фронту вызваліла Брагін.

Сучасны пасёлак мае радыяльную планіровачную структуру. Новы генеральны план распрацаваны ў 1973 г. Мінскім філіялам Цэнтральнага навукова-даследчага і праектнага інстытута горадабудаўніцтва. Грамадска-адміністрацыйны і гандлёвы цэнтр размешчаны на Цэнтральнай плошчы, якая знаходзіцца на скрыжаванні вуліц Савецкай і Кастрычніцкай. На цэнтральнай плошчы знаходзяцца будынкі райкома партыі, райвыканкома, Дома культуры, універмага і гаспадарчага магазіна. Жылая забудова пераважна аднапавярховая, драўляная. У цэнтральнай частцы размешчаны 2-, 4- і 5-павярховыя жылыя дамы. Паміж грамадска-адміністрацыйным цэнтрам і раённай бальніцай пабудаваны мікрараён 1.

У прамысловай зоне размешчаны: масласырзавод, хлебазавод, віназавод, камбінат бытавога абслугоўвання, раённае аб'яднанне Дзяржкамсельгастэхнікі, метэастанцыя. У пасёлку працуюць: сярэдняе прафесійна-тэхнічнае вучылішча механізацыі сельскай гаспадаркі, 2 сярэднія і музычная школы, Дом піянераў і школьнікаў, 4 дашкольныя ўстановы, Дом культуры, бібліятэка, бальніца, музей народнай славы. Выдаецца газета «Маяк Палесся». Помнікі: У. І. Леніну; на брацкіх магілах савецкіх воінаў; савецкіх воінаў, партызан і ахвяр фашызму; ахвяр фашызму; помнік савецкім танкістам.

Зона адпачынку — цэнтральны парк.

*Літ.:* Круталевич В. А. Административно-территориальное устройство БССР.— Мн., 1966; Жучкевич В. А. Краткий топонимический словарь Белоруссии.— Мн., 1974; Польскі С. А. Нарысы геаграфіі гарадоў Беларускай ССР (1917—1941 гг.).— Мн., 1973.

*А. І. Валахановіч, А. Ю. Пятросава.*

**221. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). Вул. Камсамольская, на могілках. Пахаваны 33 воіны, якія былі паранены пры вызваленні раёна ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў у лістападзе 1943 г. і памерлі ад ран у шпіталі ў 1943—44 гг. У 1962 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**222. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ, ПАРТЫЗАН І АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). Вул. Савецкая. Пахаваны 224 воіны 9-га гвардзейскага і 89-га стралковага карпусоў 61-й арміі, якія загінулі пры вызваленні Брагіна і навакольных вёсак, 9 партызан, што аддалі жыццё ў барацьбе супраць ворага ў 1941—43 гг., і 89 мірных жыхароў, загубленых нямецка-фашысцкімі захопнікамі. Сярод пахаваных — Героі Савецкага Саюза Павел Сцяпанавіч Мамкін і Мікалай Фёдаравіч Махаў.

Войскі 61-й арміі фарсіравалі Дняпро, прарвалі абарону праціўніка на заходнім беразе ракі і восенню 1943 г. з баямі ўступілі на тэрыторыю Брагінскага р-на. Пераадольваючы супраціўленне ворага, байцы 55-й стралковай дывізіі ў ноч на 23 лістапада прараваліся на ўскраіну пасёлка. Пасля ўпартых вулічных баёў на світанні 23.11.1943 г. Брагін быў вызвалены ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У баях за пасёлак удзельнічалі партызаны атрада імя Р. І. Катоўскага Палескага злучэння.



III. *Цэнтральная плошча.*



222. *Помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў, партызан і ахвяр фашызму.*

П. С. Мамкін нарадзіўся ў 1922 г. ў в. Бурцава Аленінскага р-на Калінінскай вобл. ў сялянскай сям'і. Член ВЛКСМ. Працаваў у калгасе трактарыстам. У Вялікую Айчынную вайну на фронце з 1941 г. Камандзір кулямётнага аддзялення, гвардыі малодшы сяржант П. С. Мамкін вызначыўся ў баях пры вызваленні Брагінскага р-на. 28.9.1943 г. з кулямётным разлікам ён першы фарсіраваў Дняпро, захапіў варожую траншэю, фланговым кулямётным агнём садзейнічаў пераправе нашых падраздзяленняў. У ноч на 2.10. 1943 г. адбіў контратаку праціўніка, знішчыў каля 100 гітлераўцаў. Загінуў у баі 18.10.1943 г. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 15.1.1944 г. Яго імя прысвоена піянерскай дружыне Дубаўскай васьмігадовай школы Аленінскага р-на.

М. Ф. Махаў нарадзіўся 13.3. 1921 г. ў с. Каргаполле Курганскай вобл. ў сялянскай сям'і. Член ВЛКСМ. Скончыў тэхнікум (1939 г.). Працаваў тэхнолагам на Сарокінскім маслазаводзе Цюменскай вобл. У Чырвонай Арміі з 1942 г. З мая 1943 г. на Бранскім і Цэнтральным франтах. Камандзір стралковага аддзялення 76-й гвардзейскай стралковай дывізіі сяржант



223. *Помнік на магіле ахвяр фашызму.*

М. Ф. Махаў вызначыўся пры вызваленні Брагінскага р-на. У ноч на 28.9. 1943 г. яго аддзяленне фарсіравала Дняпро, выбіла ворага з першай лініі абароны, замацавалася на плацдарме, што садзейнічала пераправе астатніх падраздзяленняў. М. Ф. Махаў загінуў 18.10.1943 г. ў баі за в. Жылічы. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 15.1.1944 г. Яго імем названы вуліцы ў Брагіне і Каргаполлі. Каргапольскай сярэдняй школе прысвоена імя М. Ф. Махава.

У 1957 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна.

*Літ.:* Навечно в сердце народном.— 3 изд.— Мн., 1984; Дровой Ф. М. Только крепче выходили из огня.— М., 1972.

*У. У. Бянько.*

**223. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). Вул. Пясочная, у скверы. Пахаваны 8000 мірных жыхароў, закатаваных і расстраляных нямецка-фашысцкімі захопнікамі ў 1941—43 гг. У 1957 г. на магіле насыпаны курган, на ім у 1980 г. ўстаноўлена стэла.

**224. ПОМНІК ЛЕНІНУ** Уладзіміру Ільічу (гіст.). На вул. Савецкай, каля Дома культуры. Скульптура У. І. Леніна ўстаноўлена ў 1949 г.

**225. ПОМНІК У ГОНАР САВЕЦКІХ ТАНКІСТАЎ** (гіст.). На вул. Савецкай, каля Дома культуры. У гонар танкістаў, якія ў кастрычніку 1943 г. ўдзельнічалі ў фарсіраванні Дняпра непадалёку ад в. Жылічы, у вызваленні раёна ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў, у 1983 г. пастаўлены помнік — танк Т-34 на пастаменце.

**в. Асарэвічы, цэнтр сельсавета**

**226. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). У скверы, каля школы. Пахаваны 54 воіны 9-га гвардзейскага стралковага корпуса, якія загінулі ў верасні — кастрычніку 1943 г. пры вызваленні тэрыторыі Асарэвіцкага сельсавета ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў, і 2 партызаны. Сярод пахаваных — Героі Савецкага Саюза Ерамей Іванавіч Данільянц, Абдурауф Ганіевіч Даўлетаў, Уладзімір Міхайлавіч Кастрыкін, Міхаіл Максімавіч Уласаў.

Е. І. Данільянц нарадзіўся 5.5. 1901 г. ў в. Аранзамін Нагорна-Карабахскай аўтаномнай вобл. ў сялянскай сям'і. Член КПСС з 1924 г. У Чырвонай Арміі з 1941 г., на фронце з кастрычніка 1942 г. Вызначыўся ў баі каля вёсак Вяле і Галкі Брагінскага р-на 28.9.1943 г.: знішчыў 2 кулямётныя кропкі праціўніка і шмат варожых салдат. Загінуў у гэтым баі. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 15.1.1944 г. На радзіме Е. І. Данільянцу пастаўлены помнік.

А. Г. Даўлетаў нарадзіўся ў 1918 г. ў в. Халілава Абзяліlаўскага р-на Башкірскай АССР у сялянскай сям'і. Кандыдат у члены КПСС. У Вялікую Айчынную вайну на фронце з



224. *Помнік У. І. Леніну.*

сакавіка 1943 г. Гвардыі лейтэнант, камандзір кулямётнага ўзвода А. Г. Даўлетаў вызначыўся пры вызваленні Брагінскага р-на. У ноч на 27.9.1943 г. на чале кулямётнага разліку адным з першых пераправіўся цераз Дняпро. Захапіў у палон гітлераўца, які даў каштоўныя звесткі. Адбіваючы варожыя контратакі, загінулі ўсе байцы разліку. А. Г. Даўлетаў адзін кулямётным агнём прыкрываў пераправу савецкіх войск. У баі за плацдарм загінуў. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 15.1.1944 г.

У. М. Кастрыкін нарадзіўся ў 1918 г. ў с. Кутлі Пічаеўскага р-на Тамбоўскай вобл. ў сялянскай сям'і. У Чырвонай Арміі з 1938 г., на фронце са студзеня 1942 г. Камандзір ад-



225. *Помнік у гонар савецкіх танкістаў.*



226. *Помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў і партызан.*

дзялення 76-й гвардзейскай стралковай дывізіі, гвардыі малодшы сяржант У. М. Кастрыкін вызначыўся пры фарсіраванні Дняпра каля г. п. Камарын. У ноч на 28.9.1943 г. пад агнём праціўніка пераправіўся на правы бераг, знішчыў варожыя кулямётныя кропкі, чым садзейнічаў пераправе падраздзялення. Загінуў у гэтым баі. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 15.1.1944 г.

М. М. Уласаў нарадзіўся 21.11. 1925 г. ў в. Аляксандраўка Іжморскага р-на Кемераўскай вобл. ў сялянскай сям'і. Працаваў трактарыстам у калгасе. У Вялікую Айчынную вайну на фронце з 1943 г. Снайпер М. М. Уласаў вызначыўся пры вызваленні Брагінскага р-на. У ноч на 27.9.1943 г. ў ліку першых пераправіўся цераз Дняпро, уварваўся ў варожую траншэю, гранатамі і ў рукапашным баі знішчыў шмат гітлераўцаў. З яго ўдзелам адбіты 2 контратакі. Загінуў у баі 16.10.1943 г. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 15.1.1944 г.

У 1967 г. ўстаноўлены надмагілле і абеліск.

*Літ.:* Навечно в сердце народном.— 3 изд.— Мн., 1984.

*У. У. Бянько, А. Г. Шчарбатаў.*

**227. ГАРАДЗІШЧА, БЕСКУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.).

**227а.** Гарадзішча. За 2 км ад вёскі, на правым беразе р. Лебядзеўка, ва ўрочышчы Пад'ямец, на ўзвышшы вышынёй 10 м над поймай. Выявіў у 1929 г. І. Х. Юшчанка, даследавала ў 1954 г. В. М. Мельнікоўская, абследаваў у 1975 г. В. Е. Собаль. Пляцоўка памерам 120×70 м, дрэнна захавалася. У культурным пласце 0,1 м знойдзены рэшткі ляпной керамікі мілаградскай і зарубінецкай культур ранняга жалезнага веку, рабрыстыя біканічныя гаршкі, 5 прасліц, адно з якіх арнаментавана: у сярэдняй частцы тры кальцавыя паглыбленні, вышэй — чатырохканцовая зорка з заштрыхаванымі сегментамі. Датуецца 6 ст. да н. э.— 2 ст. н. э.

Матэрыялы абследавання захоўваюцца ў Інстытуце археалогіі АН СССР і ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

**227б.** Бескурганны могільнік. Каля асновы гарадзішча. Выявіў у 1929 г. І. Х. Юшчанка, даследавала ў 1957 г. В. М. Мельнікоўская, абследаваў у 1975 г. В. Е. Собаль. Пахавальны абрад — трупаспаленне. Знойдзена ляпная кераміка. Датуецца 6 ст. да н. э.— 2 ст. н. э., адносіцца да мілаградскай і ранняга этапу зарубінецкай культур.

Матэрыялы абследавання захоўваюцца ў Інстытуце археалогіі АН СССР і Інстытуце гісторыі АН БССР.

*Літ.:* Юшчанка І. Х. Археалагічныя доследы ў Гомельскай акрузе.— Запіскі аддзела гуманітарных навук Беларус. Акад. навук, 1930, кн. 11. Працы археалагічнай камісіі, т. 2; Мельниковская О. Н. Племена Южной Белоруссии в раннем железном веке.— М., 1967.

*В. Е. Собаль.*

**228. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. На ўшанаванне памяці жыхароў Асарэвіцкага сельсавета, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1976 г. пастаўлены помнік — скульптурная кампазіцыя: воін і дзяўчынка.

**в. Астрагляды, цэнтр сельсавета**

**229. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі, каля канторы саўгаса «Астрагляды». На ўшанаванне памяці 389 жыхароў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1967 г. пастаўлены абеліск.

**230. РАДЗІМА ПАЛЕСКАГА** Вячаслава Пятровіча (гіст.).

Беларускі савецкі драматург, журналіст, заслужаны дзеяч культуры БССР (1967 г.) В. П. Палескі (сапраўднае Станкевіч) нарадзіўся 21.10.1912 г. ў сялянскай сям'і. Член КПСС з 1945 г. Пасля сканчэння Бабчынскай сярэдняй школы (1929 г.) настаўнічаў у вёсцы. З 1930 г. літаратурны супрацоўнік гомельскай абласной газеты «Палеская праўда», рэдактар літаратурна-маладзёжнага радыёвяшчання Беларускага радыёкамітэта. У 1932—33 гг. і 1935—41 гг. працаваў у газеце «Советская Белоруссия» (з 1935 г.— адказны сакратар). У Вялікую Айчынную вайну В. П. Палескі — рэдактар, адказны рэдактар радыёстанцыі «Савецкая Беларусь» у Маскве. З 1944 г. адказны сакратар, намеснік рэдактара газеты «Звязда», з 1960 г. дырэктар Мінскай студыі тэлебачання, з 1961 г. намеснік старшыні, у 1965—71 гг. старшыня Дзяржаўнага камітэта Савета Міністраў БССР па радыёвяшчанню і тэлебачанню.

Друкаваўся з 1930 г. Аўтар п'ес «Песня нашых сэрцаў» («Што пасееш, тое і пажнеш», пастаўлена ў 1949 г.), «Калі зацвітаюць сады» (пастаўлена ў 1950), «Гарачыя пірагі» (1958 г.). У 1976 г. выйшла кніга «П'есы». У творах В. П. Палескі паказваў сапраўдных герояў свайго часу, адлюстроўваў жыццё і быт калгаснай вёскі.

Член Рэвізійнай камісіі КПБ у 1966—71 гг., член ЦК КПБ з 1971 г. Дэпутат Вярхоўнага Савета БССР з 1971 г.

Памёр 18.6.1971 г. Пахаваны ў Мінску на Усходніх могілках.

*Літ.:* Пісьменнікі Савецкай Беларусі: Кароткі даведнік.— Мн., 1981.

*У. У. Бянько.*

**в. Буркі, Астраглядаўскі сельсавет**

**231. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У скверы, каля клуба. На ўшанаванне памяці 143 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1966 г. пастаўлены абеліск, на якім пліты з імёнамі загінуўшых.

**в. Бярозкі, Новаялчанскі сельсавет**

**232. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. На ўшанаванне па-



228. *Помнік землякам.*



231. *Помнік землякам.*

мяці 68 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1968 г. пастаўлены абеліск.

**в. Велімаў, Калыбанскі сельсавет**

**233. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). На паўднёвай ускраіне вёскі. Пахаваны 15 мірных жыхароў, якіх загубілі нямецка-фашысцкія захопнікі ў Вялікую Айчынную вайну. У 1965 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Верхнія Жары, цэнтр сельсавета**

**234. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У скверы, каля будынка выканкома сельскага Савета. На ўшанаванне памяці 103 землякоў, якія загінулі ў гады Вялікай Айчыннай вайны, у 1966 г. пастаўлены абеліск.

**в. Вуглы, цэнтр сельсавета**

**235. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля будынка праўлення калгаса імя Ф. Энгельса. На ўшанаванне памяці 142 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1967 г. пастаўлены абеліск.

**в. Выграбная Слабада, Слабадскі сельсавет**

**236. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). Каля школы. Пахаваны 4 воіны 9-га стралковага корпуса і партызаны атрада імя Р. І. Катоўскага Палескага злучэння, якія загінулі восенню 1943 г. пры вызваленні раёна ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. Тут жа пахаваны лётчыкі 165-га знішчальнага авіяпалка 286-й дывізіі 16-й паветранай арміі В. І. Ведзянееў і Г. Дз. Чарствоў, што загінулі ў кастрычніку 1943 г. У 1978 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна.

**в. Галкі, Асарэвіцкі сельсавет**

**237. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На паўднёва-заходняй ускраіне вёскі. Пахаваны 295 воінаў 9-га гвардзейскага стралковага і 7-га гвардзейскага кавалерыйскага карпусоў, якія загінулі ў верасні — кастрычніку 1943 г. пры вызваленні вёскі і суседніх населеных пунктаў ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. Сярод пахаваных — Героі Савецкага Саюза Канстанцін Данілавіч Грыцынін і Тафтызан Тагіравіч Міндыгулаў.

К. Д. Грыцынін нарадзіўся ў 1905 г. ў в. Ванаўка Цюлькубаскага р-на Чымкенцкай вобл. ў сялянскай сям'і. У Вялікую Айчынную вайну на фронце з верасня 1943 г., тэлефаніст узвода сувязі. Вызначыўся пры фарсіраванні Дняпра. 28.9.1943 г. забяспечыў тэлефоннай сувяззю эскадрон, які першы фарсіраваў раку. 30.9.1943 г. знішчыў самаходную гармату праціўніка. Загінуў у гэтым баі. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 15.1.1944 г.

Т. Т. Міндыгулаў нарадзіўся 29.5.1923 г. ў в. Кусеева Баймакскага р-на Башкірскай АССР у сялянскай сям'і. Член ВЛКСМ. Да Вялікай Айчыннай вайны працаваў на залатых капальнях. З красавіка 1942 г. на фронце, камандзір мінамётнага разліку, гвардыі сяржант Т. Т. Міндыгулаў вызначыўся пры вызваленні Брагінскага р-на. 29.9.1943 г. мінамётны разлік трапіў у акружэнне. Байцы на чале з Т. Т. Міндыгулавым змагаліся да апошняга патрона. У гэтым баі Т. Т. Міндыгулаў загінуў. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 15.1.1944 г. На радзіме ў в. Кусеева ўстаноўлены бюст героя, на будынку школы — мемарыяльная дошка.

У 1968 г. на брацкай магіле пастаўлены абеліск.

*Літ.:* Навечно в сердце народном.— 3 изд.— Мн., 1984.

*У. У. Бянько, А. Г. Шчарбатаў.*

**238. ПАСЕЛІШЧА** (археал). За 250 м на паўднёвы захад ад вёскі, на пясчаным узвышшы першай надпоймавай тэрасы правага берага Дняпра. Выявіў і абследаваў у 1977 г. У. П. Ксяндзоў. Культурны пласт (даследаваны на плошчы 10×10 м) 0,1—0,2 м. Знойдзены ляпная танкасценная кераміка з гарызантальнымі радамі насечак і адбіткамі палачкі на венчыках, а таксама крамянёвыя вырабы — 22 адшчэпы і ножападобная пласціна, аснова якой апрацавана плоскай рэтушшу. Паселішча адносіцца да эпохі неаліту, датуецца 5—3-м тысячагоддзямі да н. э.

Матэрыялы абследавання захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

*У. П. Ксяндзоў.*

**239. СЕЛІШЧА** (археал.). За 0,5 км на ўсход ад вёскі, ва ўрочышчы Стонча. Плошча 1,5 га. Выявіў у 1929 г. І. Х. Ючанка, абследаваў у 1975 г. В. Е. Собаль. Пад дзёрнам прасочаны культурны пласт 0,2—0,4 м, у якім знойдзена ляпная і ганчарная кераміка. Селішча адносіцца да ранняга жалезнага веку і да эпохі Кіеўскай Русі.

Матэрыялы абследавання зберагаюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

**в. Гарадзішча, Малейкаўскі сельсавет**

**240. ГАРАДЗІШЧА** (археал.). За 0,1 км на поўдзень ад вёскі, на невялікім узвышшы правага берага р. Брагінка.



237. *Помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў.*

Пляцоўка круглая, дыяметрам 110 м, з трох бакоў умацавана валам вышынёй 4 м. У заходняй частцы захаваліся рэшткі яшчэ аднага вала, які аддзяляўся ад першага ровам глыбінёй каля 2 м. Вядома з 1873 г. Абследавалі ў 1930 г. І. Х. Юшчанка, у 1975 г. В. Е. Собаль. Культурны пласт 0,4 м. Знойдзена ганчарная кераміка эпохі Кіеўскай Русі і больш позняга часу.

Матэрыялы абследаванняў захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

*Літ.:* Запольский М. Брагинская волость (исторический очерк).— У кн.: Календарь Северо-Западного края на 1889 год. М., 1889; Юшчанка І. Х. Археалагічнае абследаванне р. Брагінкі (вадазбор ніжняй Прыпяці).— У кн.: Працы секцыі археалогіі. Мн., 1932, т. 3. *В. Е. Собаль.*

**в. Гдзень, цэнтр сельсавета**

**241. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ, ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля будынка праўлення калгаса «Чырвоная Украіна». Пахаваны 12 воінаў, якія загінулі ў верасні 1943 г. пры вызваленні вёскі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў.

На ўшанаванне памяці воінаў, а таксама 146 землякоў, у т. л. Героя Савецкага Саюза П. І. Шпетнага, што загінулі на франтах Вялікай Айчыннай вайны, у 1966 г. пастаўлены абеліск.

**242. ГАРАДЗІШЧА** (археал.). На паўночна-заходняй ускраіне вёскі, па правым беразе р. Брагінка, ва ўрочышчы Гарадок. Займае ўзгорак вышынёй 6—8 м над поймай. Круглая ў плане пляцоўка дыяметрам 45 м. Адкрыў у 1929 г. І. Х. Юшчанка, абследавалі ў 1956 г. В. М. Мельнікоўская і Л. Д. Побаль, у 1975 г. В. Е. Собаль. У культурным пласце 0,45 м знойдзены ляпная і ганчарная кераміка, косці жывёл. Побач з гарадзішчам прасочваюцца рэшткі селішча, культурны пласт якога 0,4 м. Адносіцца да ранняга жалезнага веку і да эпохі Кіеўскай Русі.



241. *Помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў.*

Матэрыялы абследавання захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

*Літ.:* Юшчанка І. Х. Археалагічныя доследы ў Гомельскай акрузе.— Запіскі аддзела гуманітарных навук Беларус. Акад. навук, 1930, кн. 11. Працы археалагічнай камісіі, т. 2. *В. Е. Собаль.*

**243. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны 10 чалавек — камуністы і калгасныя актывісты, якія былі расстраляны нямецка-фашысцкімі захопнікамі 14.1. 1943 г. У 1960 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**244. РАДЗІМА ШПЕТНАГА** Паўла Іванавіча (гіст.). Герой Савецкага Саюза П. І. Шпетны нарадзіўся ў 1913 г. ў в. Гдзень у сялянскай сям'і. Член КПСС з 1940 г. У Чырвонай Арміі з 1936 г. У Вялікую Айчынную вайну з ліпеня 1941 г. на Заходнім і Сталінградскім франтах, камандзір узвода процітанкавых ружжаў. Гвардыі старшы лейтэнант П. І. Шпетны вызначыўся ў Курскай бітве. 12—13.7. 1943 г. ў баі на Белгарадскім напрамку з процітанкавага ружжа падбіў 6 танкаў праціўніка. Калі скончыліся патроны, са звязкай гранат кінуўся пад танк і цаною свайго жыцця сарваў танкавую контратаку праціўніка. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 10.1.1944 г. Пахаваны ў брацкай магіле ў с. Карташоўка Прохараўскага р-на Белгарадскай вобл. Імя П. І. Шпетнага прысвоена школе ў в. Гдзень.

*Літ.:* Навечно в сердце народном.— 3 изд.— Мн., 1984. *У. У. Бянько.*

**в. Глухавічы, цэнтр сельсавета**

**245. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАНА** (гіст.). Каля Дома культуры, у цэнтры вёскі. Пахаваны 3 воіны і партызан, якія загінулі 27.11.1943 г. пры вызваленні тэрыторыі Глухавіцкага сельсавета ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1967 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**246. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У скверы, каля будынка праўлення калгаса імя М. І. Калініна. На ўшанаванне памяці 288 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1967 г. пастаўлены абеліск.

**247. РАДЗІМА ПАЎЛЮЧЭНКІ** Міхаіла Міхайлавіча (гіст.).

Беларускі савецкі фізікахімік, акадэмік АН БССР (1959 г., член-карэспандэнт з 1956 г.), доктар хімічных навук, прафесар (1954 г.), заслужаны дзеяч навукі БССР (1972 г.). М. М. Паўлючэнка нарадзіўся 4.3.1909 г. ў сялянскай сям'і. Член КПСС з 1951 г. Скончыў Маскоўскі універсітэт (1933 г.). З 1934 г. працаваў асістэнтам кафедры фізічнай і калоіднай хіміі Беларускага дзяржаўнага універсітэта. У 1935 г. накіраваны ў Ленінградскі аптычны інстытут для выканання кандыдацкай дысертацыі. У 1938—59 гг. загадчык кафедры фізічнай і калоіднай хіміі БДУ, у 1957—68 гг. загадчык лабараторыі радыёхіміі. Адначасова з 1937 г. працаваў у АН БССР: з 1957 г. загадчык лабараторыі Інстытута хіміі, у 1959—66 гг. дырэктар, з 1966 г. загадчык лабараторыі цвёрдафазных рэакцый Інстытута агульнай і неарганічнай хіміі АН БССР.

Навуковыя даследаванні М. М. Паўлючэнкі прысвечаны тэорыі тапахімічных рэакцый, кінетыцы і механізму гетэрагенных хімічных рэакцый, радыёхіміі, малекулярнаму і эмісійнаму спектральнаму аналізу. Удзельні-




240. *Гарадзішча. План.*




242. *Гарадзішча. План.*

чаў у распрацоўцы тэхніка-эканамічнага абгрунтавання шляхоў развіцця прамысловасці мінеральных угнаенняў у БССР. Прапанаваў шэраг новых флотарэагентаў для флатацыйнага ўзбагачэння калійных руд.

Памёр М. М. Паўлючэнка 24.3.1975 г. Пахаваны на Паўночных могілках у Мінску. У 1977 г. на будынку Інстытута агульнай і неарганічнай хіміі АН БССР устаноўлена мемарыяльная дошка.

*Літ.:* Акадэмія навук Беларускай ССР.— Мн., 1979; М. М. Павлюченко.— Весці АН БССР. Сер. хімічных навук, 1969, № 2; Капуцкий Ф., Кононюк И., М. М. Павлюченко.— Вестник БГУ. Сер. 2, 1969. № 1.

*А. Г. Шчарбатаў.*

**пас. Громкі, Малажынскі сельсавет**

**248. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны 140 воінаў. Сярод пахаваных — воіны 356-й стралковай дывізіі 89-га стралковага корпуса 61-й арміі, якія загінулі ў кастрычніку 1943 г. пры вызваленні раёна ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1970 г. на магіле пастаўлены абеліск.



251. *Помнік на месцы гібелі М. Ф. Махава.*

**в. Дублін, Спярыжскі сельсавет**

**249. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі, каля Дома культуры. На ўшанаванне памяці 83 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1970 г. пастаўлены помнік — скульптура салдата з аўтаматам.

**в. Жалібор, Крукаўскі сельсавет**

**250. МАГІЛА САВЕЦКІХ АКТЫВІСТАЎ** (гіст.). На паўночна-ўсходняй ускраіне вёскі. Пахаваны старшыня былога Савіцкага валаснога выканкома член КПСС з 1917 г. П. А. Старахатны і яго сын Т. П. Старахатны — загадчык зямельнага аддзела валаснога выканкома, член КПСС з 1919 г. Загінулі ў 1921 г. ад рук ворагаў Савецкай улады. У 1953 г. ўстаноўлена надмагілле.

**в. Жылічы, Малажынскі сельсавет**

**251. МЕСЦА ГІБЕЛІ МАХАВА** Мікалая Фёдаравіча (гіст.). За 0,5 км на ўсход ад вёскі, на беразе р. Песачанка. Тут 18.10.1943 г. загінуў камандзір стралковага аддзялення, сяржант, Герой Савецкага Саюза (1944 г.) М. Ф. Махаў. Пахаваны ў брацкай магіле ў г. п. Брагін (гл. артыкул № 222 «Брацкая магіла савецкіх воінаў, партызан і ахвяр фашызму»). У 1976 г. на месцы гібелі героя пастаўлены абеліск.

**в. Жэрднае, Слабадскі сельсавет**

**252. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У скверы. На ўшанаванне памяці 52 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1980 г. пастаўлены абеліск.

**253. ПОМНІК ЧАРСТВОВУ** Георгію Дзмітрыевічу (гіст.). За 1 км на паўночны ўсход ад вёскі. Тут 3.10.1943 г. загінуў савецкі лётчык Г. Дз. Чарствоў. У 1975 г. на месцы яго гібелі пастаўлена стэла.

**в. Залессе, Калыбанскі сельсавет**

**254. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. На ўшанаванне памяці 112 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1967 г. пастаўлены абеліск.

**в. Зарэчча, Крыўчанскі сельсавет**

**255. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля будынка праўлення калгаса «Сцяг Леніна». На ўшанаванне памяці 142 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1967 г. пастаўлены абеліск.

**в. Іванкі, Камарынскі пасялковы Савет**

**256. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. На ўшанаванне памяці 17 аднавяскоўцаў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1979 г. пастаўлены абеліск.




253. *Помнік на месцы гібелі Г. Дз. Чарствова.*

**в. Кавака, Брагінскі пасялковы Савет**

**257. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 14 воінаў, якія памерлі ад ран у шпіталі ў 1943—44 гг. У 1967 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Калыбань, цэнтр сельсавета**

**258. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ, ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст). У цэнтры вёскі, каля Дома культуры. Пахаваны 3 воіны, якія загінулі ў кастрычніку 1943 г. пры вызваленні тэрыторыі Калыбанскага сельсавета ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1967 г. ўстаноўлены надмагілле, абеліск на ўшанаванне памяці 89 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну.

**259. ГАРАДЗІШЧА, КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.).

**259а.** Гарадзішча. За 4 км на поўдзень ад вёскі, ва ўрочышчы Газбуч, на правым беразе р. Брагінка. Авальная ў плане пляцоўка (памер 50×30 м) абнесена валам вышынёй 1,2 м, шырынёй 6—8 м. Адкрыў у 1929 г. І. Х. Юшчанка, абследавалі ў 1964 г. В. М. Мельнікоўская і Л. Д. Побаль, у 1975 г. В. Е. Собаль. Культурны пласт 0,2—0,4 м. Знойдзена ляпная кераміка ранняга жалезнага веку. Побач з гарадзішчам прасочваюцца сляды селішча з культурным пластом 0,3 м. Адносіцца да пачатку 1-га тысячагоддзя н. э.

Матэрыялы абследавання зберагаюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

**259б.** Курганны могільнік. За 2 км на паўднёвы захад ад вёскі, ва

урочышчы Замосце. 6 насыпаў вышынёй 0,5—1,5 м, дыяметрам 3—6 м. Адкрыў у 1929 г. І. Х. Юшчанка, абследаваў у 1975 г. В. Е. Собаль. Раскопкі не праводзіліся.

*Літ.:* Юшчанка І. Х. Археалагічныя доследы ў Гомельскай акрузе.— Запіскі аддзела гуманітарных навук Беларус. Акад. навук, 1930, кн. 11. Працы археалагічнай камісіі, т. 2. *В. Е. Собаль.*

**в. Каманоў, Вуглоўскі сельсавет**

**260. ГАРАДЗІШЧА** (археал.). Мясцовая назва Гарадок. За 2 км на паўднёвы ўсход ад вёскі, на левым беразе р. Брагінка. Займае пясчаную дзюну (3 м вышыні над поймай). Пляцоўка памерам 140×90 м выцягнута ў напрамку поўнач — поўдзень, абнесена 2 валамі вышынёй 2 м, паміж якімі прасочваецца роў глыбінёй 1,5 м. Адкрыў у 1929 г. І. Х. Юшчанка, абследаваў у 1975 г. В. Е. Собаль. Культурны пласт 0,25 м. У ім знойдзена таўстасценная ляпная кераміка з дамешкам жарствы ў цесце. Гарадзішча адносіцца да ранняга жалезнага веку (мілаградская і зарубінецкая культуры), датуецца канцом 1-га тысячагоддзя да н. э.— пачаткам 1-га тысячагоддзя н. э.

Матэрыялы абследавання зберагаюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

*Літ.:* Юшчанка І. Х. Археалагічнае абследаванне р. Брагінкі (вадазбор ніжняй Прыпяці).— У кн.: Працы секцыі археалогіі. Мн., 1932, т. 3. *В. Е. Собаль.*

**г. п. Камарын, цэнтр пасялковага Савета**

**261. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.).

Вул. Леніна, у скверы насупраць бальніцы. Пахаваны 627 воінаў 15-га стралковага корпуса 13-й арміі Цэнтральнага фронту, якія загінулі ў верасні 1943 г. пры фарсіраванні Дняпра і вызваленні Камарына, вёсак Новая Елча, Бярозкі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў, і 2 партызаны. Сярод пахаваных — Героі Савецкага Саюза Араз Анаеў, Васіль Іларыёнавіч Баяркін, Дзмітрый Фёдаравіч Грачушкін, Мікалай Данілавіч Грышчанка, Фёдар Кірылавіч Паўлоўскі, Мікалай Аляксандравіч Якаўлеў.

А. Анаеў нарадзіўся ў 1913 г. ў ауле Кодж Кізыл-Арвацкага р-на Туркменскай ССР у сям'і рабочых. У Чырвонай Арміі з 1941 г. З 1942 г. на Сталінградскім і Цэнтральным франтах. Вызначыўся пры вызваленні Брагінскага р-на. 4.10.1943 г. ў баі каля в. Калыбань памочнік камандзіра шаблевага ўзвода гвардыі старшына А. Анаеў падарваў бронемашыну з 7 фашыстамі і 2 станковымі кулямётамі. Загінуў у гэтым баі. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 15.1.1944 г. Яго імем названа вуліца ў Мінску.

В. І. Баяркін нарадзіўся 24.4.1914 г. на хутары Альгінка Цюльганскага р-на Арэнбургскай вобл. ў сялянскай сям'і. У Вялікую Айчынную вайну на фронце з кастрычніка 1942 г. Вызначыўся пры вызваленні Брагінскага р-на, фарсіраванні Дняпра. 28.9.1943 г. кулямётны разлік на чале з В. І. Баяркіным пераправіўся цераз раку і моцным агнём стварыў для нашых падраздзяленняў спрыяльныя ўмовы для атакі. 28.9.1943 г. каля в. Вяле яго разлік знішчыў 60 фашыстаў. Загінуў у гэтым баі. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 15.1.1944 г.

Дз. Ф. Грачушкін нарадзіўся 10.4.1921 г. ў в. Талкоеўка Сарочынскага р-на Арэнбургскай вобл. ў сям'і служачых. Член ВЛКСМ. Скончыў Тамбоўскае кавалерыйскае вучылішча. У Чырвонай Арміі з 1940 г. У Вялікую Айчынную вайну на фронце з 1943 г. Вызначыўся пры вызваленні Брагінскага р-на. Узвод процітанкавых ружжаў пад камандаваннем Дз. Ф. Грачушкіна фарсіраваў Дняпро і 29.9.1943 г. ў баі за в. Галкі адбіў танкавую контратаку праціўніка. Загінуў у гэтым баі. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 15.1.1944 г.

М. Д. Грышчанка нарадзіўся ў 1920 г. ў в. Амары Кіраўскага р-на Сахалінскай вобл. У Вялікую Айчынную вайну на фронце з 1942 г. Член КПСС з 1943 г. Вызначыўся ў баях на подступах да Дняпра. У баі 25.9.1943 г., калі ўзнікла небяспека акружэння мінамётнай роты, камандзір разліку М. Д. Грышчанка знішчыў гранатамі варожую бронемашыну і каля 20 гітлераўцаў, смяротна паранены, падняў воінаў у контратаку, у выніку якой вораг быў адкінуты. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 16.10.1943 г.

Ф. К. Паўлоўскі нарадзіўся 2.3.1921 г. ў с. Сасноўка Аляксандраўскага р-на Кіраваградскай вобл. ў сялянскай сям'і. Член КПСС з 1940 г. Скончыў Чаркаскі сельскагаспадарчы тэхнікум (1940 г.). У Вялікую Айчынную вайну на фронце з 1941 г. Камсорг стралковага батальёна лейтэнант Ф. К. Паўлоўскі вызначыўся ў баях на тэрыторыі Брагінскага р-на. 6.10.1943 г. з групай байцоў выбіў ворага з умацавання. У час контратакі праціўніка ўся група загінула. Застаўшыся адзін, Ф. К. Паўлоўскі працягваў бой да падыходу падмацавання, знішчыў 65 гітлераўцаў. Загінуў у гэтым баі. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 15.1.1944 г.

М. А. Якаўлеў нарадзіўся 6.4.1924 г. ў с. Сідараўскае Усць-Кубінскага р-на Валагодскай вобл. ў сялянскай сям'і. Член ВЛКСМ. У Чырвонай Арміі з 1942 г., з 1943 г. на Цэнтральным фронце. Гвардыі малодшы сяржант, кулямётчык М. А. Якаўлеў вызначыўся пры вызваленні Брагінскага р-на. 29.9.1943 г. пераправіўся цераз Дняпро, агнём з кулямёта прыкрываў пяхоту, якая атакавала варожыя траншэі. 30.9.1943 г. ў баі за в. Галкі адбіў контратаку, знішчыў каля 100 гітлераўцаў. Загінуў у баі 2.10.1943 г. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 15.1.1944 г.

У 1957 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна, устаноўлены надмагіллі і дошкі з імёнамі загінуўшых.

*Літ.:* Навечно в сердце народном.— 3 изд.— Мн., 1984.

*У. У. Бянько, А. Г. Шчарбатаў.*



**261.** *Помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў і партызан.*

**262. ПОМНІК ЛЕНІНУ** Уладзіміру Ільічу (гіст.). На вул. Леніна, у скверы. Скульптура У. І. Леніна ўстаноўлена ў 1947 г.

**263. ПОМНІК У ГОНАР ВОІНАЎ-ВЫЗВАЛІЦЕЛЯЎ** (гіст.). На вул. Леніна, недалёка ад Дома піянераў і школьнікаў.

У верасні 1943 г. войскі 15-га стралковага корпуса (камандзір — генерал-лейтэнант І. І. Люднікаў) 13-й арміі Цэнтральнага фронту ў ходзе наступальных аперацый выйшлі да Дняпра на граніцу Украіны з Беларуссю. Лінію абароны на Дняпры нямецка-фашысцкае камандаванне аб'явіла непрыступным усходнім валам. У ноч на 22 верасня воіны 15-га стралковага корпуса фарсіравалі Дняпро, праравалі абарону праціўніка і захапілі плацдарм. 23—24 верасня пасля ўпартых баёў былі вызвалены вёскі Новая Ёлча і Бярозкі, г. п. Камарын.

У 1976 г. ў гонар воінаў-вызваліцеляў пастаўлена стэла з гарэльефнымі выявамі савецкіх воінаў і партызан.

*Літ.:* История Великой Отечественной войны Советского Союза. 1941—1945. Т. 3.— М., 1961; Людников И. И. Дорога длиною в жизнь.— М., 1969.

*У. У. Бянько.*



263. *Помнік у гонар воінаў-вызваліцеляў.*

**в. Капоранка, Новаялчанскі сельсавет**

**264. ГАРАДЗІШЧА, СЕЛІШЧА** (археал.).

**264а.** Гарадзішча. За 5 км на паўднёвы ўсход ад вёскі, ва ўрочышчы «Востраў». Пляцоўка эліпсоіднай формы, плошча 650 м². Унутраны вал вышынёй 1 м, шырынёй 12—17 м. За ім прасочаны роў глыбінёй 0,5—0,8 м, шырынёй 14—15 м, які аддзяляў унутраны вал ад дадатковага. Вышыня дадатковага вала каля 2 м, шырыня 10—15 м. Вонкавы вал (вышыня каля 2 м, шырыня каля 15 м) аддзелены ад дадатковага другім ровам глыбінёй 0,5 м і шырынёй 3—8 м. З-за складанай абарончай сістэмы гарадзішча мае ў плане форму паўкруга. Агульная плошча больш за 14,3 га. Выявіў у 1929 г. І. Х. Юшчанка, абследавалі ў 1975 г. В. Е. Собаль, у 1977 г. М. І. Лашанкоў. Культурны пласт 0,1—0,15 м. У абрывах пляцоўкі знойдзены рэшткі ляпной керамікі. Гарадзішча адносіцца да мілаградскай (7—3 стагоддзі да н. э.) і ранняга этапа зарубінецкай культур (2 ст. да н. э.— 3 ст. н. э.).

**264б.** Селішча. На поўнач, захад і паўднёвы захад ад гарадзішча. Выявіў у 1929 г. І. Х. Юшчанка, абследаваў у 1975 г. В. Е. Собаль, у 1977 г. М. І. Лашанкоў. Культурны пласт 0,3 м. У ім знойдзены фрагменты ляпной керамікі з дамешкам жарствы ў цесце.

Матэрыялы абследаванняў захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

*Літ.:* Юшчанка І. Х. Археалагічныя доследы ў Гомельскай акрузе.— Запіскі аддзела гуманітарных навук Беларус. Акад. навук, 1930, кн. 11. Працы археалагічнай камісіі, т. 2.

*М. І. Лашанкоў, В. Е. Собаль.*

**в. Карлаўка, Камарынскі пасялковы Савет**

**265. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 18 воінаў, якія загінулі ў верасні — кастрычніку 1943 г. пры вызваленні раёна ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1963 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Кацічаў, Камарынскі пасялковы Савет**

**266. МЕСЦА ГІБЕЛІ АСЯДАЧ** Праскоўі Мікалаеўны (гіст.). За 1 км на паўднёвы захад ад вёскі.

П. М. Асядач у Вялікую Айчынную вайну была сувязной партызанскага атрада імя В. І. Чапаева, які дзейнічаў на тэрыторыі Палескай вобл. Здабывала і перадавала партызанам звесткі аб размяшчэнні, колькасным складзе і ўзбраенні варожых гарнізонаў. У маі 1943 г. схоплена гітлераўцамі. Карнікі пасля катаванняў закапалі партызанку жывой. Жыхары в. Аляксандраўка пахавалі П. М. Асядач на мясцовых могілках. У 1965 г. перазахавана на радзіме ў в. Ладыжычы Чарнобыльскага р-на Кіеўскай вобл.

У 1963 г. на месцы гібелі партызанскай сувязной пастаўлены абеліск.

*У. У. Бянько.*

**267. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. На ўшанаванне памяці 23 аднавяскоўцаў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1979 г. пастаўлены абеліск.

**в. Кірава, Камарынскі пасялковы Савет**

**268. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны 21 мірны жыхар в. Кірава, якія былі загублены нямецка-фашысцкімі захопнікамі 14.1.1943 г. У 1968 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**269. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У скверы, каля школы. На ўшанаванне памяці 79 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1967 г. пастаўлены абеліск.

**в. Краснае, Новаялчанскі сельсавет**

**270. МАГІЛА БЕРАЗЕНКІ** Цімафея Савельевіча (гіст.). У скверы, каля бальніцы. Старшы лейтэнант Ц. С. Беразенка загінуў 4.10.1943 г. пры вызваленні вёскі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1965 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**271. МАГІЛА САВЕЦКАГА ВОІНА** (гіст.). У скверы, каля бальніцы. Пахаваны воін, які загінуў у Вялікую Айчынную вайну. У 1963 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**272. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі, каля будынка канторы саўгаса «Краснае». На ўшанаванне памяці 174 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1968 г. пастаўлены абеліск.

**в. Крукі, цэнтр сельсавета**

**273. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН, ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі, каля будынка праўлення калгаса імя У. І. Леніна. Пахаваны 5 воінаў і 2 партызаны, якія загінулі ў лістападзе 1943 г. пры вызваленні раёна ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1967 г. на ўшанаванне памяці воінаў і партызан, а таксама 101 земляка, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Крыўча, Крыўчанскі сельсавет**

**274. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ, ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны 22 воіны, якія загінулі пры вызваленні тэрыторыі Крыўчанскага сельсавета ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў у 1943 г. У 1967 г. на ўшанаванне памяці воінаў, а таксама 209 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, пастаўлены помнік — скульптура воіна.

в. Кулажын, Крукаўскі сельсавет

**275. ГАРАДЗІШЧА** (археал.). Мясцовая назва Гарадок. За 1 км на захад ад вёскі, на левым беразе р. Несвіч. Пляцоўка памерам 125×100 м абнесена 2 валамі, размежаванымі ровам глыбінёй 1 м. Вышыня валоў 1,5 м, шырыня каля 10 м. Адкрыў у 1929 г. І. Х. Юшчанка, абследаваў у 1975 г. В. Е. Собаль. Культурны пласт 0,1 м. У ім знойдзена ляпная кераміка. Адносіцца да ранняга жалезнага веку. Датуецца канцом 1-га тысячагоддзя да н. э.— пачаткам 1-га тысячагоддзя н. э.

Матэрыялы абследавання захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР. Раскопкі не праводзіліся.

*Літ.:* Юшчанка І. Х. Археалагічныя доследы ў Гомельскай акрузе.— Запіскі аддзела гуманітарных навук Беларус. Акад. навук, 1930, кн. 11. Працы археалагічнай камісіі, т. 2. *В. Е. Собаль.*

в. Лубенікі, Вуглоўскі сельсавет

**276. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ, ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі, каля школы. Пахаваны 11 воінаў 89-га стралковага корпуса 61-й арміі, што загінулі ў кастрычніку 1943 г. пры вызваленні вёскі і навакольных населеных пунктаў ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1968 г. на ўшанаванне памяці воінаў і 22 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, пастаўлены абеліск.

в. Людзвінова, Новаялчанскі сельсавет

**277. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. На ўшанаванне памяці 12 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1967 г. пастаўлены абеліск.

в. Макрэц, Малейкаўскі сельсавет

**278. ГАРАДЗІШЧА** (археал.). За 0,4 км ад вёскі, на невысокім узвышшы, сярод балот. Пляцоўка роўная, прамавугольная ў плане, памерам 132×83 м. Умацавана валам вышынёй 2 м і шырынёй 16 м. Агульная плошча гарадзішча 18 860 м². Абследаваў у 1977 г. М. І. Лашанкоў. Культурны пласт 0,3 м. Раскопкі не праводзіліся.

*Літ.:* Лошенков М. И., Залашко Г. М. Работы Полесского отряда на Гомельщине.— У кн.: Археологические открытия 1977 года. М., 1978. *М. І. Лашанкоў.*

в. Малажын, цэнтр сельсавета

**279. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). У цэнтры вёскі, каля школы. Пахаваны 7 воінаў, якія загінулі ў кастрычніку 1943 г. пры вызваленні раёна ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1968 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**280. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У скверы, каля будынка праўлення калгаса «Першамайск». На ўшанаванне памяці 174 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1967 г. пастаўлены абеліск.

в. Малейкі, цэнтр сельсавета

**281. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 75 воінаў, якія загінулі ў 1943 г. пры вызваленні тэрыторыі Малейкаўскага сельсавета ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. Сярод пахаваных — воіны 356-й стралковай дывізіі. У 1965 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна ў жалобе.

**282. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля будынка праўлення калгаса «Пераможца». На ўшанаванне памяці 171 земляка, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1970 г. пастаўлены помнік — скульптурная кампазіцыя: воін падтрымлівае параненага.




275. *Гарадзішча. План.*



281. *Помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў.*



282. *Помнік землякам.*

в. Марытон, Астраглядаўскі сельсавет

**283. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 0,1 км ад дарогі з в. Марытон у в. Звяняцкае. Два насыпы вышынёй 2,8 м і 3 м, дыяметрам 10—12 м. Выявіў у 1975 г. В. Е. Собаль. Раскопкі не праводзіліся.

в. Мікулічы, цэнтр сельсавета

**284. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 0,3 км на захад ад вёскі, за калгасным садам. 29 (раней тут было 60) насыпаў вышынёй 0,5—2,5 м, дыяметрам 2—12 м. Выявіў і даследаваў 13 курганоў у 1980 г. У. З. Завітневіч. Абследавалі ў 1975 г. В. Е. Собаль, у 1977 г. Г. М. Залашка. Пахавальны абрад — трупапалажэнне ў ямах і на грунце галавой на захад. Глыбіня ям 0,3—1,5 м, у асобных выпадках сцены абмазаны глінай. Захаваліся рэшткі дамавін. Пахавальны інвентар: сякеры, нажы, цвікі, дэталі лука, вырабы з косці і рогу, пярсцёнкі з бронзавага дроту, спражкі, гузікі, частка бронзавых вагаў. Знойдзены манеты 10—11 стагоддзяў. Належаў палянам, датуецца 10—12 стагоддзямі.




284. *Курганны могільнік. План.*

Матэрыялы раскопак У. З. Завітневіча зберагаюцца ў Дзяржаўным гістарычным музеі ў Маскве.

*Літ.:* Русанова И. П. Курганы полян X — XII вв.— М., 1966.— (Свод археологических источников; выпуск ЕІ-24); Завитневич В. З. Вторая археологическая экскурсия в Припятское Полесье.— Киев, 1891. *Г. М. Залашка, В. Е. Собаль.*

**285. МАГІЛА ЖУКАВА** Пятра Сяргеевіча (гіст.). На могілках.

Герой Савецкага Саюза П. С. Жукаў нарадзіўся 22.1.1921 г. ў в. Мікулічы Брагінскага р-на ў сялянскай сям'і. Член КПСС з 1943 г. Скончыў Кіеўскае пяхотнае вучылішча (1941 г.). У Чырвонай Арміі з 1940 г. У Вялікую Айчынную вайну з чэрвеня 1941 г. на Паўднёва-Заходнім, Паўночна-Каўказскім, Паўднёвым, Цэнтральным і 1-м Беларускім франтах. Удзельнік вызвалення Новарасійска, Тамані, Керчы. Камандзір стралковага батальёна 55-й гвардзейскай стралковай дывізіі 28-й арміі маёр П. С. Жукаў вызначыўся ў чэрвені 1944 г. пры прарыве варожай абароны на рубяжы рэк Трэмля і Пціч, вызваленні вёсак на поўдзень ад Бабруйска. 25.6.1944 г. батальён пад яго камандаваннем з ходу прарваў абарончыя ўмацаванні праціўніка на захад ад в. Пружынішчы Акцябрскага р-на, абходным манеўрам адрэзаў яму шлях да адступлення, знішчыў 60 гітлераўцаў. 26.6.1944 г. пад моцным агнём праціўніка байцы батальёна пераадолелі 200-метровую палосу балота і штурмам авалодалі в. Любань. Знішчылі каля 100 фашыстаў, адбілі варожую контратаку, вызвалілі в. Забоззе і 27.6.1944 г. выйшлі да р. Пціч. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 24.3.1945 г. Пасля вайны ў Савецкай Арміі. З 1953 г. маёр запаса, інструктар Палескага абласнога савета ДТСААФ, з 1960 г. на гаспадарчай рабоце. Памёр П. С. Жукаў 22.12.1967 г.



286. *Помнік землякам.*




285. *Помнік на магіле П. С. Жукава.*

У 1973 г. на магіле пастаўлены абеліск.

*Літ.:* Навечно в сердце народном.— 3 изд.— Мн., 1984. *У. У. Бянько.*

**286. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. На ўшанаванне памяці 290 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1975 г. пастаўлены абеліск і пліты з імёнамі загінуўшых.

**в. Нежыхаў, Слабадскі сельсавет**

**287. МЕСЦА БАЗІРАВАННЯ БРАГІНСКАГА ПАДПОЛЬНАГА РАЙКОМА КП(б)Б і ШТАБА АСОБНАГА ПАРТЫЗАНСКАГА АТРАДА ІМЯ Р. І. КАТОЎСКАГА** (гіст.). У Вялікую Айчынную вайну ў Слабадскіх лясах, непадалёку ад вёскі, размяшчаліся Брагінскі падпольны райком КП(б)Б і штаб партызанскага атрада імя Р. І. Катоўскага.

Брагінскі падпольны райком КП(б)Б створаны па рашэнню Палескага падпольнага абкома КП(б)Б у кастрычніку 1943 г. Сакратар П. Р. Зяновіч (11.10.1943 г.— 24.11.1943 г.). Райком базіраваўся пры асобным партызанскім атрадзе імя Р. І. Катоўскага. Кіраваў барацьбой супраць акупантаў, наладжваў арганізацыйна-палітычную работу сярод насельніцтва, выпускаў лістоўкі.

Партызанскі атрад імя Р. І. Катоўскага створаны ў жніўні 1942 г. на базе Савіцкай падпольнай групы С. І. і Ф. І. Філіпенкаў і групы П. Р. Зіновіча. Зімою 1942—43 гг. атрад дзейнічаў асобнымі групамі. Камандзіры С. І. Філіпенка, А. Я. Міхневіч; камісары Ф. І. Філіпенка (загінуў), П. Р. Зіновіч.

Летам 1942 г. партызаны вялі баі па ліквідацыі апорных пунктаў ворага ў вёсках Хракавічы, Шкураты і інш., нападалі на варожыя гарнізоны ў вёсках Савічы, Радзін, Мікулічы, Баршчоўка. 22.7.1943 г. на дарозе Жэрдзнае — Выграбная Слабада разграмілі варожы транспарт. Знішчылі Амелькаўшчынскі шпаларэзны завод, склады з боепрыпасамі ў Брагіне, Аравічах, Савічах і Астраглядах. З дапамогай мясцовых падпольшчыкаў знішчылі каменданта г. п. Брагін і яго прыслужнікаў, абаранялі мірных жыхароў ад вывазу на катаржныя работы ў Германію. У 1943 г. для паспяховага наступлення Чырвонай Арміі зрабілі некалькі пераправаў цераз ба-



287. *Помнік у гонар Брагінскага падпольнага райкома КП(б)Б і штаба асобнага партызанскага атрада імя Р. І. Катоўскага.*

лоты. 24.11.1943 г. атрад (296 партызан) злучыўся з Чырвонай Арміяй.

У 1967 г. на паўднёвай ускраіне в. Нежыхаў, каля будынка пачатковай школы, у памяць аб дзейнасці Брагінскага падпольнага райкома КП(б)Б і партызанскага атрада імя Р. І. Катоўскага пастаўлены абеліск.

*Літ.:* Подпольные партийные органы Компартии Белоруссии в годы Великой Отечественной войны (1941—1944).— Мн., 1975. *У. У. Бянько.*

**в. Новая Грэбля, Чамярыскі сельсавет**

**288. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У скверы, каля школы. На ўшанаванне памяці 90 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1967 г. пастаўлены абеліск.

**в. Новая Ёлча, цэнтр сельсавета**

**289. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). На паўднёва-ўсходняй ускраіне вёскі. Пахаваны 17 жыхароў в. Ёлча, якіх загубілі нямецка-фашысцкія захопнікі ў 1942 г. У 1956 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Пажаркі, Брагінскі пасялковы Савет**

**290. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 2 км на захад ад вёскі. 51 выцягнуты па лініі поўнач-поўдзень курган. Вышынёй 0,5—2,5 м, дыяметрам 2—12 м. Каля асобных курганоў прасочваюцца раўкі. Выявіў і даследаваў у 1890 г. У. З. Завітневіч, які раскапаў 25 насыпаў. Пахавальны абрад — трупапалажэнне ў ямах і на грунце. Знойдзены бронзавы пярсцёнак, скроневыя кольцы, буйназярністыя пацеркі, гаршкі, нажы, рэшткі дамавін, абкладзеных бяростай. Абследаваў у 1975 г. В. Е. Собаль, у 1977 г. Г. М. Залашка. Могільнік належаў палянам. Датуецца 10—12 стагоддзямі.

Матэрыялы даследаванняў 1890 г. зберагаюцца ў Дзяржаўным гістарычным музеі ў Маскве.

*Літ.:* Русанова И. П. Курганы полян X — XII вв.— М., 1966.— (Свод археологических источников; в. ЕІ-24); Завитневич В. З. Вторая археологическая экскурсия в Припятское Полесье.— Киев, 1891. *Г. М. Залашка, В. Е. Собаль.*



290. *Курганны могільнік. План.*



293. *Помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў і партызан.*

**в. Пасудава, Калыбанскі сельсавет**

**291. ГАРАДЗІШЧА** (археал.). Мясцовая назва Гарадок. За 3—4 км на поўнач ад вёскі, ва ўрочышчы Куркова, сярод забалочанага поплаву ў лесе. Авальная ў плане пляцоўка памерам 90×130 м, выцягнута з захаду на ўсход, абнесена валам вышынёй 2 м, шырынёй 11—12 м. Адкрыў у 1929 г. І. Х. Юшчанка, абследавалі у 1957 г. В. М. Мельнікоўская, у 1964 г. Л. Д. Побаль, у 1975 г. В. Е. Собаль. Культурны пласт 0,1—0,2 м. У ім знойдзена ляпная кераміка. Гарадзішча адносіцца да ранняга жалезнага веку. Раскопкі не праводзіліся.

Матэрыялы абследавання зберагаюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

*Літ.:* Юшчанка І. Х. Археалагічныя доследы ў Гомельскай акрузе.— Запіскі аддзела гуманітарных навук Беларус. Акад. навук, 1930, кн. 11. Працы археалагічнай камісіі, т. 2. *В. Е. Собаль.*

**в. Петрыцкае, Малейкаўскі сельсавет**

**292. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). У цэнтры вёскі, каля клуба. Пахаваны 36 воінаў 81-й стралковай дывізіі 89-га стралковага корпуса 61-й арміі, якія загінулі ў кастрычніку 1943 г. пры вызваленні вёскі і навакольных населеных пунктаў ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1967 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Піркі, цэнтр сельсавета**

**293. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). У цэнтры вёскі, перад Домам культуры. Пахаваны 123 воіны 89-га і 9-га гвардзейскага стралковых карпусоў 61-й арміі, а таксама 37 партызан атрада імя М. М. Кацюбінскага, якія загінулі ў верасні — кастрычніку 1943 г. пры вызваленні в. Піркі і навакольных вёсак ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. Сярод пахаваных — Героі Савецкага Саюза Сяргей Купрыянавіч Галавашчанка і Васіль Фёдаравіч Загайнаў.

С. К. Галавашчанка нарадзіўся ў 1923 г. ў в. Новааляксандраўка Кемераўскай вобл. ў сялянскай сям'і. Член ВЛКСМ. У Чырвонай Арміі з 1941 г. З чэрвеня 1943 г. на фронце, кулямётчык 3-й кулямётнай роты 1183-га стралковага палка 356-й стралковай дывізіі. Вызначыўся пры фарсіраванні Дняпра ў Брагінскім р-не. У ноч на 29.9.1943 г. лодка, на якой перапраўляўся С. К. Галавашчанка з групай байцоў, была разбіта. Ён адзін з першых даплыў да берага і ўступіў у бой, прыкрываючы пераправу іншых падраздзяленняў. 4.10.1943 г. на чале групы з 5 байцоў уварваўся на ўскраіну в. Чэрнеў, у рукапашным баі знішчыў 2 гітлераўцаў. Загінуў у гэтым баі. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 15.1.1944 г.

В. Ф. Загайнаў нарадзіўся 13.1. 1903 г. ў в. Лапаўцы Новатар'яльскага р-на Марыйскай АССР у сялянскай сям'і. Працаваў рахункаводам у калгасе. У Вялікую Айчынную вайну на фронце з 1942 г. Кулямётчык яфрэйтар В. Ф. Загайнаў вызначыўся пры вызваленні Брагінскага р-на. 4.10. 1943 г. ў баі за плацдарм на заходнім беразе Дняпра агнём з кулямёта стрымліваў наступленне ворага, які спрабаваў акружыць роту. Быў паранены, але працягваў весці агонь. Загінуў у гэтым баі. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 15.1.1944 г. Яго імя прысвоена Піркаўскай сярэдняй школе.

У 1958 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна ў жалобе.

*Літ.:* Навечно в сердце народном.— 3 изд.— Мн., 1984; В памяти народной.— Мн., 1969. *У. У. Бянько.*

**294. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). На заходняй ускраіне вёскі. Пахаваны 12 мірных жыхароў, якіх расстралялі нямецка-фашысцкія захопнікі ў маі 1943 г. У 1977 г. на магіле ўстаноўлена гранітная пліта.

**в. Пучын, Слабадскі сельсавет**

**295. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля Дома культуры, у скверы. На ўшанаванне памяці 68 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1980 г. пастаўлены абеліск.

**в. Сабалі,**
**Брагінскі пасялковы Савет**

**296. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У скверы, каля Дома культуры. На ўшанаванне памяці 259 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1967 г. пастаўлены абеліск.

**297. РАДЗІМА САБАЛЕНКІ** Рамана Карпавіча (гіст.).

Беларускі савецкі пісьменнік Р. К. Сабаленка нарадзіўся 2.10.1907 г. ў сям'і селяніна-бедняка. Член КПСС з 1947 г. Скончыў Гомельскі педтэхнікум (1929 г.). Быў супрацоўнікам рэспубліканскай газеты «Звязда». Вучыўся на вячэрнім аддзяленні літфака Гомельскага педінстытута (1933—35 гг.). У 1935—41 гг. літработнік, стыльрэдактар, загадчык аддзела газеты «Палеская праўда» (потым — «Гомельская праўда»). У Вялікую Айчынную вайну на Калінінскім і 2-м Прыбалтыйскім франтах. Пасля дэмабілізацыі (1945 г.) да 1953 г. загадчык аддзела, намеснік рэдактара баранавіцкай абласной газеты «Чырвоная звязда». З 1953 г. ў Мінску: працаваў у газеце «Калгасная праўда», у часопісе «Маладосць», у 1957—66 гг. намеснік рэдактара газеты «Літаратура і мастацтва».

Творчую дзейнасць Раман Сабаленка пачаў як паэт. У 1928 г. часопіс «Маладняк» змясціў яго першы верш, у 1935 г. ў часопісе «Полымя» надрукавана паэма «Брагінь». Аўтар зборнікаў вершаў «З родных крыніц» (1950 г.) і «Мая эстафета» (1954 г.). Роднай бацькаўшчыне, яе людзям — стваральнікам новай сацыялістычнай явы ў пасляваенны час, змагарам за незалежнасць Радзімы ў суровыя гады Вялікай Айчыннай вайны, воінам-пераможцам, занятым мірнымі працоўнымі справамі, прысвечаны вершы паэта. З сярэдзіны 1950-х гадоў плённа працаваў у галіне прозы. Выйшлі кнігі нарысаў, апавяданняў, аповесцей пісьменніка: «Жменя зярнят» (1957 г.), «Юнацтва ў дарозе» (1958 г.), «Сустрэчы» (1958 г.), «Блакітнае зіянне» (1959 г.), «Каралінцы» (1960 г.), «Іду ў жыццё» (1961 г.), «Паляўнічыя боты» (1962 г.), «З пройдзеных дарог» (1962 г.), «Незамужняя ўдава; Былое астаецца ў сэрцы» (1965 г.), «Пад дажджом і сонцам» (1966 г.), «Спатканне пасля разлукі» (1971 г.), «Роздум у дарозе» (1973 г.), «Колерамі вясёлкі» (1975 г.), «Выбраныя творы» (т. 1—2, 1967—68 гг.), «Выбранае» (1977 г.). Цэнтральны герой Сабаленкі-празаіка — чалавек працы, які штодзённа клапоціцца, каб добра жылося людзям, каб прыгажэў і быў шчаслівы бацькоўскі край. У аповесцях і апавяданнях пісьменніка — рэалістычныя карціны жыцця народа ў складаныя часы яго гісторыі. Творы Рамана Сабаленкі перакладаліся на рускую і ўкраінскую мовы.

Памёр Р. К. Сабаленка 13.5.1975 г. Пахаваны ў г. п. Заслаўе Мінскага р-на. Імем пісьменніка названа вуліца ў Брагіне.

*Літ.:* Пісьменнікі Савецкай Беларусі: Кароткі даведнік.— Мн., 1981; Пяцьдзесят чатыры дарогі.— Мн., 1963.
*І. Ф. Кудраўцаў.*



299. *Гарадзішча. План.*



300. *Помнік землякам.*

**в. Савічы, цэнтр сельсавета**

**298. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ, ПАРТЫЗАН І АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). У цэнтры вёскі, каля канторы саўгаса «Савічы». Пахаваны 11 воінаў, 8 партызан атрада імя Р. І. Катоўскага, а таксама 33 мірныя жыхары в. Савічы, якія былі расстраляны і спалены нямецка-фашысцкімі захопнікамі ў 1941—43 гг. Сярод іх — бацькі, жонкі і дзеці партызан. У 1967 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна ў жалобе і 3 надмагіллі.

**299. ГАРАДЗІШЧА** (археал.). Мясцовая назва Гарадзец. За 1 км на ўсход ад вёскі, ва ўрочышчы Салавіца, у лесе. Гарадзішча мае 2 пляцоўкі, раздзеленыя валам-перамычкай. З боку дарогі ўмацавана ровам глыбінёй 1 м і 2 валамі вышынёй 1,5 м. Памеры першай пляцоўкі 45×40 м, другой — 65×40 м. Адкрыў у 1929 г. І. Х. Ючшанка, абследавалі ў 1957 г. В. М. Мельнікоўская, у 1964 г. Л. Д. Побаль, у 1975 г. В. Е. Собаль. Культурны пласт 0,1—0,15 м. У ім знойдзена ляпная кераміка. Адносіцца да ранняга жалезнага веку. Раскопкі не праводзіліся.

Матэрыялы абследавання зберагаюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

*Літ.:* Юшчанка І. Х. Археалагічныя доследы ў Гомельскай акрузе.— Запіскі аддзела гуманітарных навук Беларус. Акад. навук, 1930, кн. 11. Працы археалагічнай камісіі, т. 2. *В. Е. Собаль.*

**в. Спярыжжа, цэнтр сельсавета**

**300. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У скверы, каля Дома культуры. На ўшанаванне памяці 91 земляка, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1970 г. пастаўлены помнік — скульптура жанчыны з пальмавай галінкай.

**в. Старая Ёлча,**
**Новаялчанскі сельсавет**

**301. ГАРАДЗІШЧА** (археал.). У вёсцы, на правым беразе р. Брагінка, за калгасным садам, ва ўрочышчы Гарадок. Пляцоўка авальная ў плане, памерам 90×60 м. Вышыня над поймай 3 м. Адкрыў у 1929 г. І. Х. Юшчанка, абследаваў у 1975 г. В. Е. Собаль. Культурны пласт 0,45 м. У ім знойдзена ляпная і ганчарная кераміка. Адносіцца да ранняга жалезнага веку і сярэднявечча. Датуецца канцом 1-га тысячагоддзя да н. э.— пачаткам 1-га тысячагоддзя н. э. і больш познім часам. Раскопкі не праводзіліся.

Матэрыялы абследавання зберагаюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

*Літ.:* Юшчанка І. Х. Археалагічныя доследы ў Гомельскай акрузе.— Запіскі аддзела гуманітарных навук Беларус. Акад. навук, 1930, кн. 11. Працы археалагічнай камісіі, т. 2. *В. Е. Собаль.*

**в. Сцежарнае,**
**Крыўчанскі сельсавет**

**302. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. На ўшанаванне памяці 34 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1976 г. пастаўлена стэла з барэльефнай выявай воіна.

**в. Сялец, Малейкаўскі сельсавет**

**303. ГАРАДЗІШЧА** (археал.). За 3 км на поўнач ад вёскі, ва ўрочышчы Бярозавік, у пойме р. Брагінка. Пляцоўка трохвугольнай формы, плошча каля 0,3 га. Зберагліся рэшткі абарончага вала вышынёй 0,4 м. Выявіў і абследаваў у 1977 г. М. І. Лашанкоў. Раскопкі не праводзіліся.

**304. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У скверы, каля школы. На ўшанаванне памяці 66 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1965 г. пастаўлены помнік — скульптура воіна ў жалобе.

**в. Тэльман, Малейкаўскі сельсавет**

**305. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 6 воінаў, якія загінулі ў кастрычніку 1943 г. пры вызваленні вёскі і навакольных населеных пунктаў ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1957 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**306. ПАРК** (архіт.). У паўднёвай частцы вёскі, на правым беразе р. Брагінка. Закладзены ў канцы 18 ст. каля замка Вішнявецкіх (не збярогся). Парк спланаваны па радыяльна-рэгулярнай схеме. Перад замкам быў вялікі газон з валуном. У бок рэчкі разыходзіліся 3 алеі. У планіровачную структуру парку арганічна ўключана рэчка, па беразе якой праходзіць алея. Растуць ліпа, клён, граб, дуб, вяз, вярба.

Помнік садова-паркавага мастацтва.

**в. Хракавічы, Чамырыскі сельсавет**

**307. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ, ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У скверы, каля Дома культуры. Пахаваны 40 воінаў 9-га гвардзейскага стралковага корпуса 61-й арміі, якія загінулі ў кастрычніку 1943 г. пры фарсіраванні Дняпра і вызваленні вёскі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1966 г. на ўшанаванне іх памяці, а таксама памяці 106 землякоў, што загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, пастаўлены абеліск.

**308. ГАРАДЗІШЧА** (археал.). Мясцовая назва Гарадок. За 5 км на захад ад вёскі, на левым беразе р. Брагінка, ва ўрочышчы Хістына. Складаецца з трох пляцовак, якія прымыкаюць адна да адной у напрамку поўнач — поўдзень. Памеры пляцовак: 65×42 м, 65×45 м і 75×40 м. Кожная абнесена валам. Вышыня вала першай пляцоўкі 2 м, шырыня 8—10 м, двух астатніх адпаведна 0,5—1 м, 3—5 м. Адкрыў і даследаваў у 1929 г. І. Х. Юшчанка, абследавалі ў 1965 г. В. М. Мельнікоўская і Л. Д. Побаль, у 1975 г. В. Е. Собаль. У культурным пласце 0,2 м знойдзена ляпная кераміка. Адносіцца да мілаградскай культуры, датуецца 7—3 стагоддзямі да н. э.

Матэрыялы даследавання зберагаюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

*Літ.:* Юшчанка І. Х. Археалагічнае абследаванне р. Брагінкі (вадазбор ніжняй Прыпяці).— У кн.: Працы секцыі археалогіі. Мн., 1932, т. 3. *В. Е. Собаль.*



306. *Куток парку.*




306. *Парк. Схема планіроўкі: 1— рэшткі сцяны замка Вішнявецкіх, 2— хлеў (сучасная пабудова), 3 — валун.*

**309. ПАСЕЛІШЧЫ** (археал.).

**309а.** Паселішча-1. За 0,4 км на ўсход ад вёскі, на першай надпоймавай тэрасе, на дзюнных пясках. Памер 10×15 м. Выявіў у 1977 г. У. П. Ксяндзоў. У культурным пласце 0,2 м знойдзены рэшткі гліняных ляпных сасудаў і крамянёвыя прылады працы бронзавага веку.

**309б.** Паселішча-2. За 0,7 км на паўднёвы ўсход ад вёскі на першай надпоймавай тэрасе правага берага Дняпра, на дзюнных пясках. Плошча 150 м². Выявіў і абследаваў у 1977 г. У. П. Ксяндзоў. У культурным пласце 0,15 м знойдзены рэшткі посуду бронзавага веку, ляпная кераміка ранняга жалезнага веку і крамянёвыя прылады працы.

**309в.** Паселішча-3. За 0,8 км на паўднёвы ўсход ад вёскі, на астанцы першай надпоймавай тэрасы правага берага Дняпра. Плошча 100 м². Выявіў і абследаваў у 1977 г. У. П. Ксяндзоў. У культурным пласце каля 0,2 м знойдзены рэшткі посуду эпохі неаліту, упрыгожанага наколамі (нанесены канцом палачкі), насечкамі і адбіткамі грэбеня. Частка керамікі адносіцца да бронзавага веку.

**309г.** Паселішча-4. За 1 км на паўднёвы ўсход ад вёскі, на першай надпоймавай тэрасе правага берага Дняпра, на дзюнных пясках. Выявіў і абследаваў у 1977 г. У. П. Ксяндзоў. Памер 120×70 м. Паўночная частка паселішча разбурана. У культурным пласце каля 0,15 м знойдзены рэшткі вастрадоннага неалітычнага посуду, упрыгожанага наколамі і адбіткамі грэбеня, крамянёвыя нуклеусы, пласціны, тронкавы наканечнік стралы, наканечнік дроціка, скрабкі, адшчэпы з рэтушшу. Выяўлены таксама арнаментаваная кераміка і глінянае прасліца мілаградскай культуры.

**309д.** Паселішча-5. За 5 км на ўсход ад вёскі, на першай надпоймавай тэрасе правага берага Дняпра, на дзюнных пясках. Плошча 500 м². Выявіў у 1977 г. У. П. Ксяндзоў. У культурным пласце 0,2 м знойдзены рэшткі неалітычнага посуду, упрыгожанага адбіткамі грэбеня, крамянёвыя пласціны, наканечнік стралы трохвугольнай формы, адшчэпы. Адносіцца да позняга неаліту.

Матэрыялы абследавання зберагаюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

*У. П. Ксяндзоў.*




310. *Помнік на магіле ахвяр фашызму і месцы гібелі В. І. Ведзянеева.*

**в. Цалуйкі, Савіцкі сельсавет**

**310. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ, МЕСЦА ГІБЕЛІ ВЕДЗЯНЕЕВА** Васіля Іванавіча (гіст.). На могілках. Пахаваны 5 жыхароў вёскі, якіх загубілі нямецка-фашысцкія захопнікі восенню 1943 г. Разам з імі быў расстраляны лётчык 165-га знішчальнага авіяпалка В. І. Ведзянееў (пахаваны ў в. Выгробная Слабада). У 1979 г. на ўшанаванне іх памяці ўстаноўлена пліта.

**в. Чамярысы, цэнтр сельсавета**

**311. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі, каля Дома культуры.



311. *Помнік землякам.*

На ўшанаванне памяці 152 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1967 г. пастаўлены абеліск.

**в. Чыкалавічы, Калыбанскі сельсавет**

**312. ГАРАДЗІШЧА** (археал.). Мясцовая назва Г а р а д о к. За 5 км на ўсход ад вёскі, ва ўрочышчы Высокае. Пляцоўка памерам 260×150 м умацавана 2 валамі. Вонкавы вал авальнай формы, выцягнуты з поўначы на поўдзень, з унутраным валам прамавугольнай формы злучаецца 2 перамычкамі. Вышыня валоў 2,5 м, шырыня 14—15 м. Адкрыў у 1929 г. І. Х. Юшчанка, абследавалі ў 1964 г. В. М. Мельнікоўская і Л. Д. Побаль, у 1975 г. В. Е. Собаль. Раскопкі не праводзіліся.

*Літ.:* Ю ш ч а н к а І. Х. Археалагічныя доследы ў Гомельскай акрузе.— Запіскі аддзела гуманітарных навук Беларус. Акад. навук, 1930, кн. 11. Працы археалагічнай камісіі, т. 2; М е л ь н и к о в с к а я О. Н. Племена Южной Белоруссии в раннем железном веке.— М., 1967.

**313. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. На ўшанаванне памяці 89 землякоў, якія загінулі на франтах Вялікай Айчыннай вайны, у 1966 г. пастаўлены абеліск.

**в. Чэрнеў, Піркаўскі сельсавет**

**314. ГАРАДЗІШЧА** (археал.). За 1,5 км на паўднёвы захад ад вёскі, на правым беразе р. Брагінка, на пясчанай дзюне. Выявіў у 1964 г. Л. Д. Побаль, абследаваў у 1975 г. В. Е. Собаль. У раздзіманнях пясчанай дзюны сабраны адшчэпы крэменю і рэшткі неалітычнай керамікі, 2 венчыкі ад гаршкоў тшцінецкай культуры бронзавага веку, фрагменты таўстасценнай керамікі (з дамешкам жарствы ў гліне) ранняга жалезнага веку і рэшткі ганчарнай керамікі раннефеадальнага часу.

Матэрыялы даследаванняў зберагаюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

**в. Шкураты, Вуглоўскі сельсавет**

**315. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля будынка праўлення калгаса «Парыжская камуна». На ўшанаванне памяці 84 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1948 г. пастаўлены абеліск.




316. *Помнік землякам.*

**в. Ясяні, Спярыжскі сельсавет**

**316. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі, каля Дома культуры. На ўшанаванне памяці 42 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1970 г. пастаўлены помнік — на фоне абеліска скульптура партызана і дзяўчыны.




# БУДА–КАШАЛЁЎСКІ РАЁН

Мікалаеўка
Саўгасная
Дзербічы
Рагінь
Негаўка
Буда–Люшаўская
Забалоцце
Ліпінічы
Шарыбаўка
Патапаўка
Кашалёў
Ліпа
БУДА–КАШАЛЁВА
Губічы
Дуравічы
Шырокае
Марозавічы
Акцябр
Камунар
Недайка
Глазаўка
Пянчын
Асобіна
Елянец
Уваравічы
Уза
Стар. Буда
Крыўск
Стар. Гусявіца
Рудзянец
Калініна
Чабатовічы
Івольск
Хоўхла

Помнікі і памятныя месцы Вялікай Айчыннай вайны (месцы баёў, магілы савецкіх воінаў і партызан, Курганы Славы, помнікі зямлянкам і інш.)

Помнікі ахвярам фашызму (месцы канцлагераў і лагераў смерці, месцы масавай загубы насельніцтва, спаленыя і неадноўленыя вёскі і інш.)

Помнікі і месцы, звязаныя з імёнамі савецкіх партыйных, дзяржаўных і гаспадарчых дзеячаў, дзеячаў культуры, навукі і тэхнікі

Цэнтр раёна

Цэнтры сельсаветаў

Стаянкі, паселішчы, гарадзішчы

Могільнікі (грунтавыя, курганныя), курганы

Жылыя дамы, забудова вуліц савецкага перыяду

## IV. БУДА-КАШАЛЁВА

Горад, цэнтр раёна. Размешчаны ў міжрэччы прытокаў р. Сож — Ліпа і Уза, за 48 км на паўночны захад ад Гомеля, 18 км ад аўтамагістралі Ленінград — Адэса. Чыгуначная станцыя на лініі Мінск — Гомель.

Да 1861 г. вёска дзяржаўных сялян Кашалёўскай воласці Рагачоўскага павета Магілёўскай губерні, пачала расці пасля пракладкі ў 1873 г. Лібава-Роменскай чыгункі. З 1877 г. чыгуначная станцыя. У 1888 г. тут заснавана прадпрыемства па вырабу драўляных дэталей ткацкіх станкоў. Паводле перапісу 1897 г. ў Буда-Кашалёве 517 жыхароў. Напярэдадні 1-й сусветнай вайны было 58 двароў, ветраны млын. Савецкая ўлада ўстаноўлена ў лістападзе 1917 г. У сакавіку — лістападзе 1918 г. акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі. З 1924 г. цэнтр Буда-Кашалёўскага р-на Бабруйскай (1924—27 гг.), Гомельскай (1927—30 гг.) акруг, з 1938 г. гарадскі пасёлак Гомельскай вобл. 3,4 тыс. жыхароў (1939 г.), з 1971 г. горад.

З жніўня 1941 г. да 27.11.1943 г. Буда-Кашалёва акупіравана нямецка-фашысцкімі захопнікамі. У пасёлку і на тэрыторыі раёна дзейнічалі падпольныя раённыя камітэты КП(б)Б (сакавік — 23.11.1943 г.) і ЛКСМБ (1.6—25.11.1943 г.). Вызвалена ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў у выніку Гомельска-Рэчыцкай наступальнай аперацыі войскамі Беларускага фронту (камандуючы генерал арміі К. К. Ракасоўскі) пры ўдзеле партызан. У 1959 г. ў Буда-Кашалёве 4,6 тыс. жыхароў.

Плaніровачная структура горада прамавугольная, пераважае аднапавярховая забудова. Чыгунка аддзяляе ў паўднёвай частцы горада залінейны раён, дзе знаходзяцца чыгуначная станцыя і вакзал. Галоўныя вуліцы — Леніна, Савецкая, Камсамольская, 50 год Кастрычніка. Грамадскі цэнтр фарміруюць Цэнтральная пл. і вул. Леніна. Тут размешчаны будынкі райкома КПБ і гарвыканкома, Дома культуры, Дома піянераў і школьнікаў, універмага, гасцініцы. Паводле генеральнага плана, распрацаванага ў 1973 г. Мінскім філіялам Цэнтральнага навукова-даследчага і праектнага інстытута горадабудаўніцтва, праводзіцца рэканструкцыя цэнтральнай часткі горада, узводзяцца 2—5-паверховыя жылыя і грамадскія будынкі.

Працуюць масласырзавод, хлебазавод, кансервавы завод, філіял Веткаўскага вытворчага аб'яднання будаўнічых матэрыялаў, камбінат бытавога абслугоўвання, лясгас, раённае аб'яднанне Дзяржкамсельгастэхнікі.

У Буда-Кашалёве саўгас-тэхнікум, 2 сярэднія, музычная, вячэрняя, дзіцяча-юнацкая спартыўная школы, 2 бібліятэкі, бальніца. Выдаецца раённая газета «Авангард». Зялёная зона горада — 2 скверы на вул. Леніна і на рагу вуліц Леніна і Савецкай. Помнікі У. І. Леніну; двойчы Герою Савецкага Саюза П. Я. Галавачову; віцэ-адміралу В. П. Дразду; на брацкіх магілах савецкіх воінаў; савецкіх воінаў і партызана; на магіле ахвяр фашызму; Курган Славы, насыпаны на ўшанаванне памяці савецкіх воінаў, якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў на тэрыторыі раёна.

Зона адпачынку — уздоўж р. Ліпа.

*Літ.:* Список населённых мест Могилёвской губернии.— Могилёв, 1910.

*У. В. Алісейчык, Э. М. Савіцкі.*



IV. *Дом культуры.*

**317. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На паўночна-заходняй ускраіне горада, на тэрыторыі саўгаса-тэхнікума. Пахаваны 13 воінаў, якія загінулі ў баі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў пры вызваленні Буда-Кашалёва ці памерлі ад ран у 1943—44 гг. У 1952 г. на магіле пастаўлены абеліск.



318. *Помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў і партызана.*

**318. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАНА** (гіст.). У скверы па вул. Леніна. Пахаваны 18 воінаў і 1 партызан, якія загінулі ў лістападзе — снежні 1943 г. пры вызваленні раёна ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1960 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна і 3 надмагіллі.

**319. БЮСТ ГАЛАВАЧОВА** Паўла Якаўлевіча (маст.). Вул. Леніна, у скверы перад раённым Домам культуры.

У 1951 г. пастаўлены бюст двойчы Героя Савецкага Саюза П. Я. Галава-



IV. *Забудова вуліцы 50 год Кастрычніка.*



319. *Бюст П. Я. Галавачова.*

чова (скульпт. Я. Гаўрылаў; бронза, граніт; вышыня пастамента 2,5 м, бюста 1,5 м). У партрэце падкрэслены энергічны, валявы і мужны характар героя. Пластычнай мове скульптуры адпавядае просты расшыраны ўнізе пастамент, абліцаваны ружовым гранітам. На ім тэкст Указа Прэзідыума Вярхоўнага Савета СССР аб прысваенні ў другі раз П. Я. Галавачову звання Героя Савецкага Саюза, абапал тэксту — выявы сцягоў. Гл. артыкул № 360 «Радзіма Галавачова Паўла Якаўлевіча». *Л. Г. Лапцэвіч.*

**320. КУРГАН СЛАВЫ** (гіст.). На паўночнай ускраіне горада. Насыпаны ў 1971 г. на ўшанаванне памяці савецкіх воінаў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў на тэрыторыі раёна.

**321. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). За 1,5 км на паўночны захад ад горада. Пахаваны 483 мірныя жыхары Буда-Кашалёва, расстраляныя нямецка-фашысцкімі акупантамі ў снежні 1941 г. У 1944 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**322. МАГІЛА МАЛАДЗЁНКАВА** Васіля Міхайлавіча (гіст.). На могілках. Начальнік Буда-Кашалёўскага раённага аддзела МДБ БССР капітан В. М. Маладзёнкаў загінуў 17.5.1950 г. пры выкананні службовых абавязкаў. У 1950 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**323. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА ВЫХАВАНЦАМ ШКОЛЫ** (гіст.). Вул. Пушкіна, 2, на будынку сярэдняй школы № 1. Пастаўлена ў 1966 г. на ўшанаванне памяці 16 выпускнікоў школы, якія загінулі на франтах Вялікай Айчыннай вайны.

**324. ПОМНІК ЛЕНІНУ** Уладзіміру Ільічу (гіст.). На Цэнтральнай плошчы. Скульптура У. І. Леніна ўстаноўлена ў 1947 г.

**325. РАДЗІМА ДРАЗДА** Валянціна Пятровіча (гіст., маст.).

Савецкі военачальнік віцэ-адмірал В. П. Дрозд нарадзіўся 3.9.1906 г. ў сям'і чыгуначніка. Член КПСС з 1930 г. На флоце з 1925 г. У 1928 г. скончыў Ваенна-марское вучылішча імя М. В. Фрунзе. Служыў на Балтыйскім флоце. У 1936—37 гг. удзельнічаў у нацыянальна-рэвалюцыйнай вайне ў Іспаніі. У 1937—38 гг. камандзір брыгады эсмінцаў Балтыйскага флоту. 3 мая 1938 г. да жніўня 1940 г. камандуючы Паўночным флотам, удзельнік савецка-фінляндскай вайны 1939—40 гг. У Айчынную вайну з верасня 1941 г. камандуючы эскадрай караблёў Балтыйскага флоту. Пад камандаваннем В. П. Дразда савецкія маракі эвакуіравалі большую частку абаронцаў паўвострава Ханка. Загінуў 29.1.1943 г. ў час артабстрэлу на лядовай трасе пад Кранштатам. Узнагароджаны ордэнам Леніна і 2 ордэнамі Чырвонага Сцяга. Імя В. П. Дразда прысвоена караблю Паўночнага флоту. У Буда-Кашалёве яго імем названа вуліца. У скверы каля скрыжавання вуліц Савецкай і Леніна ў 1968 г. яму пастаўлены помнік (скульпт. С. Вакар, арх. В. Занковіч, Л. Левін; бетон; 3 м×2,5 м).

Помнік — стэла ў выглядзе насавой часткі карабля, на якой справа — рэльефная паясная выява віцэ-адмірала каля штурвала, ніжэй — тэкст-прысвячэнне. Стэла пастаўлена на цэментаванай пляцоўцы і агароджана ланцугамі на карабельных якарах.

*Літ.:* Голичников В. Два героических похода.— У кн.: Балтийцы. М., 1955. *Л. Г. Лапцэвіч, Э. М. Савіцкі.*

**в. Акцябр, цэнтр сельсавета**

**326. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). У цэнтры вёскі, каля будынка канторы саўгаса «Чырвонакастрычніцкі». Пахаваны 11 воінаў, якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў ці памерлі ад ран у 1943—44 гг. У 1959 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна са схіленым сцягам.

**327. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). На паўночна-заходняй ускраіне вёскі, злева ад дарогі на в. Доўск. 9 насыпаў вышынёй 0,8—1,2 м, дыяметрам 7—9 м. 3 курганы пашкоджаны. Вядомы з 1873 г. Абследаваў у 1976 г. Я. Г. Звяруга. Раскопкі не праводзіліся.

**в. Андрэеўка, Шырокаўскі сельсавет**

**328. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 1,5 км на паўночны ўсход ад вёскі, на левым беразе р. Ліпа, ва ўрочышчы Остаў. 50 курганоў вышынёй 0,5—1,2 м, дыяметрам 7—12 м. Насыпы заraслі хмызняком. Абследаваў у 1976 г. Я. Г. Звяруга. Раскопкі не праводзіліся.



325. *Помнік В. П. Дразду.*

**пасёлак Асавок, Недайскі сельсавет**

**329. ПАСЕЛІШЧА** (археал.). За 0,5 км на поўнач ад пасёлка, на правым беразе р. Ваўчыцы. Выявіў і абследаваў у 1981 г. М. У. Бычкоў. У агаленні схілу берага каля пераезда цераз раку культурны пласт 0,2—0,3 м. Знойдзены крамянёвыя нуклеусы, скрабкі з рэтушшу, ляпная кераміка. Паселішча адносіцца да позняга перыяду бронзавага і пачатку жалезнага вякоў. Датуецца канцом 2-га — пачаткам 1-га тысячагоддзя да н. э.

Матэрыялы абследавання захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР. *М. У. Бычкоў.*




327. *Курганны могільнік. План.*

**в. Асобіна, Камунараўскі сельсавет**

**330. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 8 воінаў, якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у 1943 г. У 1957 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Бацунь, Крыўскі сельсавет**

**331. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля будынка праўлення калгаса «Чырвоны шлях», у скверы. На ўшанаванне памяці 105 жыхароў вёскі — воінаў і партызан, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1968 г. пастаўлены помнік — скульптура воіна.

**в. Блюдніца, Камунараўскі сельсавет**

**332. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК, КУРГАН** (археал.).

**332а.** Могільнік. За 0,2 км на паўднёвы захад ад вёскі, на могілках. 10 насыпаў вышынёй 1,5—2 м, дыяметрам 10—12 м. Вядомы з 1873 г., абследавалі ў пачатку 20 ст. Е. Р. Раманаў, у 1976 г. Я. Г. Звяруга. 3 насыпы пашкоджаны ямамі. Раскопкі не праводзіліся.

**332б.** Курган. За 0,3 км на поўнач ад вёскі, у пойме р. Блюдніца. Вышыня 2 м, дыяметр 15 м. Вядомы з 1873 г., абследавалі ў пачатку 20 ст. Е. Р. Раманаў, у 1976 г. Я. Г. Звяруга. Раскопкі не праводзіліся. *Я. Г. Звяруга.*

**в. Броніца, Ліпініцкі сельсавет**

**333. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 2 км на ўсход ад вёскі. 4 насыпы: 3 вышынёй 1,3—1,5 м, дыяметрам 7—8 м, чацвёрты адпаведна — 2 м і 12 м. Вядомы з 1873 г., у 1976 г. абследаваў Я. Г. Звяруга. Раскопкі не праводзіліся.

**в. Буда-Люшаўская, цэнтр сельсавета**

**334. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). Каля клуба. Пахаваны 72 воіны, якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у 1941 і 1943 гг. ці памерлі ад ран у 1944 г. У 1979 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна.

**335. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 1 км на паўночны ўсход ад вёскі. 2 курганы вышынёй каля 1 м, дыяметрам 8—10 м. Адкрыў і абследаваў у 1976 г. Я. Г. Звяруга. Раскопкі не праводзіліся.

**336. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля клуба. На ўшанаванне памяці 190 аднавяскоўцаў — воінаў і партызан, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1969 г. пастаўлены помнік — скульптурная група: 3 воіны, што ідуць у атаку.

**в. Гаўлі, Патапаўскі сельсавет**

**337. КУРГАН СЛАВЫ** (гіст.). За 2 км на ўсход ад вёскі. На ўшанаванне памяці 600 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1969 г. насыпаны Курган.

**в. Глазаўка, цэнтр сельсавета**

**338. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). За 0,2 км ад будынка праўлення калгаса «Новае жыццё». Пахаваны 13 воінаў, якія загінулі ў лістападзе 1943 г. ў баі за вызваленне вёскі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1974 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна.

**пасёлак Губіцкі Кардон, Губіцкі сельсавет**

**339. ПОМНІК ПАРТЫЗАНАМ** (гіст.). На паўднёвай ускраіне пасёлка. 28.6. 1943 г. 8 камсамольцаў-падрыўнікоў партызанскага атрада імя В. І. Чапаева (пазней у брыгадзе імя Чапаева) пасля выканання задання трапілі ў варожую засаду і загінулі ў няроўным баі. У 1974 г. на месцы іх гібелі пастаўлена стэла.

**в. Губічы, цэнтр сельсавета**

**340. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). На заходняй ускраіне вёскі. Пахаваны 74 воіны і 11 партызан, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну. Сярод пахаваных — воіны 96-й стралковай дывізіі 56-га стралковага корпуса, якія загінулі ў лістападзе — снежні 1943 г. пры вызваленні раёна ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1953 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Дзербічы, Рагінскі сельсавет**

**341. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). На тэрыторыі школы. На ўшанаванне




336. *Помнік землякам.*




328. *Курганны могільнік. План.*




332. *Курганны могільнік і курган. План.*

333. *Курганны могільнік. План.*



339. *Помнік партызанам.*

памяці 127 жыхароў вёскі — воінаў і партызан, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1966 г. пастаўлены помнік — скульптурная група: воін са схіленым сцягам, стары і жанчына.

**в. Дубраўка, Ліпініцкі сельсавет**

**342. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 0,5 км на паўночны захад ад вёскі, на захад ад сучасных могілак (некалькі насыпаў знаходзяцца на заходняй і паўночнай ускраінах могілак). Каля 60 насыпаў вышынёй 0,5—0,6 м і 2—2,2 м, дыяметрам 6—7 м і 10—12 м. Вакол большасці курганоў прасочаны раўкі. Выявіў і абследаваў у 1976 г. Я. Г. Звяруга. Раскопкі не праводзіліся.




342. *Курганны могільнік. План.*




343. *Курганныя могільнікі. План: 1— могільнік-1; 2 — могільнік-2.*



343в. *Могільнік-3. План.*

**в. Дуравічы, цэнтр сельсавета**

**343. КУРГАННЫЯ МОГІЛЬНІКІ** (археал.).

**343а.** Могільнік-1. За 2 км на паўночны ўсход ад вёскі, за 0,7 км на паўночны ўсход ад моста цераз меліярацыйны канал. 21 курган вышынёй каля 2 м, дыяметрам 10—12 м. Асобныя насыпы вышынёй 1 м, дыяметрам 7—8 м. Вядомы з 1873 г. Абследаваў у 1975—76 гг. Я. Г. Звяруга. Раскопкі не праводзіліся.

**343б.** Могільнік-2. За 1,8 км на паўночны захад ад вёскі, за 0,5 км на паўночны захад ад моста цераз меліярацыйны канал. 11 значна пашкоджаных курганоў вышынёй да 1 м, дыяметрам 7—10 м. Вядомы з 1873 г. Абследаваў у 1976 г. Я. Г. Звяруга. Раскопкі не праводзіліся.

**343в.** Могільнік-3. За 3 км на паўднёвы захад ад вёскі, ва ўрочышчы Чыстыя Лужы. 33 насыпы вышынёй каля 1 м, дыяметрам пераважна 7—10 м, ёсць і 10—12 м. Вядомы з 1873 г. Абследаваў у 1976 г. Я. Г. Звяруга. Раскопкі не праводзіліся.

*Літ.:* Сведения 1873 г. о городищах и курганах.— Известия Археологической комиссии, СПб., 1903, т. 5; Древности железного века в междуречье Десны и Днепра.— М., 1962.— (Свод археологических источников; в. Д 1—12).

*Я. Г. Звяруга.*

**344. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У скверы. На ўшанаванне памяці 188 жыхароў вёскі — воінаў і партызан, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1957 г. пастаўлены помнік — скульптура воіна.

**в. Елянец, Недайскі сельсавет**

**345. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 2,5—3 км на паўночны ўсход ад вёскі, абапал лясной дарогі. 7 насыпаў вышынёй 0,5—0,9 м, дыяметрам 6—7 м. Абследаваў у 1976 г. Я. Г. Звяруга. Раскопкі не праводзіліся.

**346. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі, каля клуба. На ўшанаванне памяці 98 жыхароў вёскі — воінаў і партызан, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1967 г. пастаўлены помнік — скульптурная група: воін са схіленым у жалобе сцягам, стары і жанчына.

**в. Забаб'е,**
**Патапаўскі сельсавет**

**347. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАНА** (гіст.). На паўночна-ўсходняй ускраіне вёскі. Пахаваны 135 воінаў і 1 партызан, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну. Сярод пахаваных — воіны 197-й стралковай дывізіі 56-га стралковага корпуса, што загінулі ў лістападзе — снежні 1943 г. пры вызваленні раёна ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1953 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Забалоцце, цэнтр сельсавета**

**348. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 4,5 км ад вёскі, каля павароту дарогі на г. Буда-Кашалёва. Больш за 30 насыпаў, размешчаных уздоўж дарогі, вышынёй 0,4—0,5 м і 1,5—2 м, дыяметрам ад 4—5 м да 10—12 м. Каля асновы большасці насыпаў прасочваюцца раўкі глыбінёй 0,5—0,6 м. Абследаваў у 1975—76 гг. Я. Г. Звяруга. Раскопкі не праводзіліся.

**349. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля будынка праўлення калгаса «Іскра». На ўшанаванне памяці 192 землякоў — воінаў і партызан, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1956 г. пастаўлены помнік — скульптурная група: воін са схіленым сцягам, стары і жанчына.

**в. Івольск, цэнтр сельсавета**

**350. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). На паўднёва-ўсходняй ускраіне вёскі. Пахаваны 8 воінаў і 6 партызан, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1957 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**351. ГАРАДЗІШЧА** (археал.).

**351а.** Гарадзішча-1. За 1 км на захад ад вёскі, на левым беразе р. Івольскі. Кальцападобны пагорак узвышаецца над поплавам на 1,5—2 м. Вонкавы дыяметр гарадзішча 20 м, унутраны — 10 м. Вядома з 1873 г. Абследаваў у 1975—76 гг. Я. Г. Звяруга. Раскопкі не праводзіліся.

**351б.** Гарадзішча-2. Побач з гарадзішчам-1. Памеры 100×30 м, вышыня над поймай 1,5—2 м. У цэнтры пляцоўкі круглае ў плане паглыбленне дыяметрам 25 м. Вядома з 1873 г. Абследаваў у 1975—76 гг. Я. Г. Звяруга. У асобных месцах пляцоўкі прасочваецца культурны пласт 0,2 м. Раскопкі не праводзіліся.



345. *Курганны могільнік. План.*



352. *Помнік землякам.*



354. *Помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў і партызан.*

*Літ.:* Сведения 1873 г. о городищах и курганах.— Известия Археологической комиссии. СПб., 1903, в. 5; Романов Е. Р. Археологический очерк Гомельского уезда (Могилевской губернии).— Вильна, 1910.
*Я. Г. Зверуга.*

**352. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля будынка праўлення калгаса імя М. І. Калініна. На ўшанаванне памяці 263 землякоў — воінаў і партызан, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1973 г. пастаўлены помнік — стэла з барэльефнай шматфігурнай кампазіцыяй і дошка з надпісам-прысвячэннем перад ёй; абапал — 2 пліты з імёнамі загінуўшых.

**353. ПОМНІК КАЛІНІНУ** Міхаілу Іванавічу (гіст.). Каля будынка праўлення калгаса імя М. І. Калініна. Бюст М. І. Калініна ўстаноўлены ў 1979 г.

**в. Калініна, Калінінскі сельсавет**

**354. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны 6 воінаў і 3 партызаны, якія загінулі ў лістападзе — снежні 1943 г. пры вызваленні раёна ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1958 г. на брацкай магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна ў жалобе.

**пасёлак Камунар, цэнтр сельсавета**

**355. ЗАБУДОВА ПАСЁЛКА ГОМЕЛЬСКАЙ БРОЙЛЕРНАЙ ПТУШКАФАБРЫКІ** (архіт.). За 29 км ад Гомеля і 21 км ад Буда-Кашалёва, каля аўтамабільнай дарогі Гомель — Магілёў. Праект пасёлка цэнтральнай сядзібы распрацаваны ў 1968 г. Гомельскімі абласнымі праектнымі майстэрнямі інстытута «Белдзяржпраект». Пасёлак кампактны, з 2 узаемна перпендыкулярнымі вуліцамі, адна з'яўляецца працягам галоўнага ўезду з боку аўтамабільнай дарогі. На скрыжаванні вуліц сфарміравана плошча, дзе размешчаны Палац культуры з глядзельнай (на 400 месцаў) і спартыўнай заламі, універмаг, сталовая, камбінат бытавога абслугоўвання, гасцініца. Жылая забудова сканцэнтравана ў 3 роўнавялікіх кварталах. Тут пабудаваны 2 чатырохпавярховыя 16-кватэрныя, 3 пяціпавярховыя 15-кватэрныя, 2 пяціпавярховыя 60-кватэрныя дамы, 1 пяціпавярховы 90-кватэр-



355. *Палац культуры.*



355. *Панарама забудовы пасёлка.*

ны дом, сярэдняя школа, дзіцячы сад-яслі, бальніца. Забудова арганічна звязана з навакольным ландшафтам, удала вырашана азеляненне. Галоўны ўезд маляўніча афармлены зялёнымі насаджэннямі. Плошчу са спартыўна-паркавай зонай звязвае абсаджаная дрэвамі дарога.

Забудова пасёлка — адзін з прыкладаў сучаснага сельскага будаўніцтва.

*У. В. Алісейчык.*



355. *Панарама забудовы.*

**в. Кашалёў, цэнтр сельсавета**

**356. ГАРАДЗІШЧА** (археал.). За 0,5 км на поўнач ад вёскі. Пляцоўка чатырохвугольная, памерам 50×50 м, умацавана валам і ровам. Цяпер вал абараны, роў засыпаны. Вядома з 1873 г. Абследаваў у 1976 г. Я. Г. Звяруга. Раскопкі не праводзіліся.

**357. МАГІЛА ДАМНЕНКІ** Міхаіла Лаўрэнцьевіча (гіст.). Каля клуба. Партызан Грамадзянскай вайны М. Л. Дамненка нарадзіўся ў 1897 г. ў гэтай вёсцы. Загінуў у 1918 г. У 1965 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**358. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля клуба. На ўшанаванне памяці 101 жыхара вёскі — воінаў і партызан, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1966 г. пастаўлены помнік — скульптура жанчыны з лаўровым вянком, побач — сцяна з імёнамі загінуўшых.

**359. РАДЗІМА БУСЛАВА** Казіміра Паўлавіча (гіст.).

Беларускі савецкі філосаф, акадэмік АН БССР (1972 г., член-карэспандэнт з 1969 г.), доктар філасофскіх навук (1965 г.), прафесар (1966 г.), заслужаны дзеяч навукі БССР (1978 г.) К. П. Буслаў нарадзіўся 12.10.1914 г. ў сялянскай сям'і. Член КПСС з 1943 г. Скончыў Смаленскі педагагічны інстытут у 1938 г., Вышэйшую партыйную школу пры ЦК ВКП(б) у 1947 г., Акадэмію грамадскіх навук пры ЦК ВКП(б) у 1951 г. У 1944—48 гг. лектар ЦК КП(б)Б. З 1951 г. загадчык аддзела ЦК КПБ. У 1956—72 гг. дырэктар Інстытута філасофіі і права АН БССР, з 1970 г. выконваючы абавязкі, з 1973 г. акадэмік-сакратар Аддзялення грамадскіх навук АН БССР, з 1976 г. загадчык сектара Інстытута філасофіі і права АН БССР. Адначасова з 1951 г. дацэнт, потым прафесар БДУ, Мінскага радыётэхнічнага інстытута. Старшыня Беларускага аддзялення Філасофскага таварыства СССР (з 1972 г.). Навуковыя працы прысвечаны гістарычнаму матэрыялізму, праблемам сацыяльнага прагрэсу, гуманізму і культуры: «Свобода павінна быць свабодай на справе» (1961 г.), «Праблемы сацыяльнага прагрэсу ў творах У. І. Леніна (1917—1923 гг.)» (1963 г.), «Сацыяльнае адзінства, супярэчнасці, адказнасць» (1972 г.), «Сацыяльна-гістарычнае развіццё класаў у СССР» (1979 г.), «Фарміраванне сацыяльнага ў чалавеку» (1980 г.).

Кандыдат у члены ЦК КПБ у 1952—54 гг., член ЦК КПБ у 1954—61 гг. Дэпутат Вярхоўнага Савета БССР у 1955—59 гг.

Памёр 20.1.1983 г. Пахаваны ў Мінску на Усходніх могілках.

*Літ.:* Акадэмія навук Беларускай ССР.— Мн., 1979.



358. *Помнік землякам.*

**360. РАДЗІМА ГАЛАВАЧОВА** Паўла Якаўлевіча (гіст.).

Двойчы Герой Савецкага Саюза генерал-маёр авіяцыі (1957 г.) П. Я. Галавачоў нарадзіўся 2(15).12.1917 г. ў в. Кашалёў Буда-Кашалёўскага р-на ў сялянскай сям'і. Член КПСС з 1943 г. Скончыў Ваенна-паветраную акадэмію (1951 г.) і Акадэмію Генштаба (1959 г.). У 1933—38 гг. працаваў токарам і фрэзероўшчыкам у Гомелі. У Чырвонай Арміі з 1938 г. На фронце з чэрвеня 1941 г., камандзір звяна, эскадрыллі знішчальнага авіяпалка. Удзельнічаў у баях на Паўднёва-Заходнім, Сталінградскім, Паўднёвым, 4-м Украінскім, 3-м і 1-м Беларускім франтах. Зрабіў 457 баявых вылетаў, правёў 125 паветраных баёў, асабіста збіў 30 варожых самалётаў, адзін з іх тараніў. Быў 4 разы паранены. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 1.11.1943 г. і 29.6.1945 г. Пасля вайны служыў на адказных пасадах у Савецкай Арміі. Памёр 2.7.1972 г. Помнікі П. Я. Галавачову пастаўлены ў Буда-Кашалёве і Гомелі.

*Літ.:* Навечно в сердце народном.— 3 изд.— Мн., 1984.

**в. Крыўск, цэнтр сельсавета**

**361. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля клуба. На ўшанаванне памяці 134 жыхароў вёскі — воінаў і партызан, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1973 г. пастаўлены помнік — скульптурная група: 2 воіны, злева — сцяна з імёнамі загінуўшых.

**в. Ліпа, Акцябрскі сельсавет**

**362. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАНА** (гіст.). На ўсходняй ускраіне вёскі. Пахаваны 31 воін і 1 партызан, якія загінулі ў 1943 г. ў баях за вызваленне тэрыторыі раёна ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў ці памерлі ад ран у 1944 г. У 1956 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Ліпінічы, цэнтр сельсавета**

**363. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля Дома культуры. На ўшанаванне памяці 303 землякоў — воінаў і партызан, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1967 г. пастаўлены помнік — скульптура жанчыны з лаўровым вянком.

**в. Лозаў, Рагінскі сельсавет**

**364. МЕСЦА БОЮ 1943 г.** (гіст.). За 8 км на захад ад вёскі, у Лозаўскім лесе. Тут у красавіку 1943 г. партызаны 10-й Журавіцкай брыгады вялі бой супраць нямецка-фашысцкіх акупантаў, якія імкнуліся знішчыць партызанскія атрады, што дзейнічалі ў раёне варожых камунікацый.

З 25 красавіка полк рэгулярнай нямецкай арміі пачаў канцэнтравацца каля вёсак Доўск, Меркулавічы, Стары Крыўск, Новы Крыўск. Дадаткова быў сфарміраваны зборны полк, у які ўвайшлі нямецка-паліцэйскія гарнізоны г. Гомеля, Буда-Кашалёўскага, Жлобінскага, Журавіцкага, Кармянскага, Рагачоўскага, Чачэрскага р-наў Гомельскай вобл., Крычаўскага, Прапойскага, Чэрыкаўскага р-наў Магілёўскай вобл., а таксама кавалерыйскі полк. Усяго ў аперацыі супраць партызан удзельнічала каля 5 тыс. гітлераўцаў, узброеных палкавой артылерыяй, бронемашынамі, танкеткамі. 10-я Журавіцкая партызанская брыгада (камандзір С. М. Белых, камісар І. М. Дзікан, 9 атрадаў, 2494 партызаны), якая на той час дыслацыравалася ў Лозаўскім лесе, заняла абарону. У 9 гадзін 29 красавіка варожыя падраздзяленні пачалі наступленне каля в. Лозаў. Увесь дзень партызаны адбівалі атакі праціўніка, знішчылі 23 варожыя аўтамашыны, танкетку, бронемашыну, захапілі 30 коней. У гэтым баі загінуў камандзір брыгады С. М. Белых.

У 1964 г. ў гонар партызан 10-й Журавіцкай брыгады на месцы бою пастаўлена стэла.

*Літ.:* Всенародное партизанское движение в Белоруссии в годы Великой Отечественной войны (июнь 1941 — июль 1944). Т. 2. Кн. 1.— Мн., 1973.

*М. В. Кірэйшын.*

**в. Марозавічы, цэнтр сельсавета**

**365. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля школы. На ўшанаванне памяці жыхароў вёскі — воінаў і партызан, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1970 г. пастаўлены помнік — скульптура воіна з аўтаматам у руках.

**в. Мікалаеўка, цэнтр сельсавета**

**366. МАГІЛА ПАНАМАРОВА** Сяргея Аляксеевіча (гіст.). На могілках.

Герой Савецкага Саюза (1945 г.) С. А. Панамароў нарадзіўся 18.12. 1908 г. ў в. Мікалаеўка Буда-Кашалёўскага р-на ў сялянскай сям'і. Член КПСС з 1942 г. З 1932 г. працаваў у органах АДПУ і НКУС. У Чырвонай Арміі з 1939 г. Удзельнік вызвалення Заходняй Беларусі ў 1939 г. У Вялікую Айчынную вайну з чэрвеня 1941 г.



361. *Помнік землякам.*

на Заходнім, Паўночна-Заходнім, Бранскім, Беларускім, 1-м Украінскім, 3-м і 1-м Прыбалтыйскіх, 1-м Беларускім франтах. Ад'ютант старшы стралковага батальёна капітан С. А. Панамароў вызначыўся ў баях у час прарыву варожай абароны ў Польшчы і ўступлення на тэрыторыю Германіі. Наладзіў узаемадзеянне падраздзяленняў батальёна, распрацаваў план бою, забяспечыў пры наступленні сувязь батальёна з іншымі падраздзяленнямі. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 27.2.1945 г. Да 1946 г. служыў у Савецкай Арміі, маёр. Жыў і працаваў у Рагачоўскім р-не. Памёр 17.10.1968 г. У 1968 г. на магіле пастаўлены абеліск.

*Літ.:* Навечно в сердце народном.— 3 изд.— Мн., 1984. *Э. М. Савіцкі.*

**в. Недайка, цэнтр сельсавета**

**367. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). На могілках. Пахаваны 78 воінаў і партызан, якія загінулі ў лістападзе 1943 г. ў баях за вызваленне тэрыторыі раёна ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў ці памерлі ад ран у 1944 г. У 1953 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**368. МАГІЛА ФЁДАРАВА** Міхаіла Іванавіча (гіст.). На могілках. Партызан М. І. Фёдараў загінуў у 1943 г. ў баі супраць нямецка-фашысцкіх акупантаў. У 1945 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Новая Гусявіца, Гусявіцкі сельсавет**

**369. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 12 воінаў, якія загінулі ў лістападзе 1943 г. ў баях за вызваленне вёскі ад нямецка-фашысцкіх акупантаў ці памерлі ад ран у 1944 г. У 1958 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**370. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі, каля клуба. На ўшанаванне памяці 189 жыхароў вёскі — воінаў і партызан, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1971 г. пастаўлены абеліск.




373. *Курганны могільнік. План.*



374. *Помнік землякам.*

**пасёлак Пабядзіцель, Марозавіцкі сельсавет**

**371. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). На могілках. Пахаваны 49 воінаў і 30 партызан, якія загінулі ў 1943 г. ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў ці памерлі ад ран у 1944 г. У 1958 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Патапаўка, цэнтр сельсавета**

**372. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны 634 воіны, якія загінулі ў лістападзе 1943 г. ў баях за вызваленне тэрыторыі раёна ад нямецка-фашысцкіх акупантаў ці памерлі ад ран у 1944 г. Сярод пахаваных — воіны 56-га стралковага корпуса. У 1958 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна.

**373. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). На тэрыторыі могілак. 50 насыпаў вышынёй 0,8—1,2 м, дыяметрам 7—9 м. Асобныя курганы вышынёй больш за 1,5 м, дыяметрам 10—13 м. Каля асновы насыпаў прасочваюцца раўкі. Некалькі курганоў пашкоджаны. Вядомы з 1873 г. Абследаваў у 1976 г. Я. Г. Звяруга. Раскопкі не праводзіліся.

**в. Пянчын, Гусявіцкі сельсавет**

**374. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). На тэрыторыі школы. На ўшанаванне памяці 97 жыхароў вёскі — воінаў і партызан, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1962 г. пастаўлены помнік — скульптура воіна, абапал яе — сцены з імёнамі загінуўшых.

**в. Рагінь, цэнтр сельсавета**

**375. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). Каля школы. Пахаваны 301 воін і 3 партызаны, якія загінулі ў лістападзе 1943 г. ў баях за вызваленне тэрыторыі раёна ад нямецка-фашысцкіх акупантаў ці памерлі ад ран у 1944 г. Сярод пахаваных — воіны 56-га стралковага корпуса. У 1952 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**376. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля будынка канторы саўгаса «Рагінь». На ўшанаванне памяці 332 землякоў — воінаў і партызан, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1962 г. пастаўлены помнік — скульптурная група: воін са схіленым сцягам, стары і жанчына.

**в. Радзеева, Уваравіцкі пасялковы Савет**

**377. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля школы. На ўшанаванне памяці 115 жыхароў вёскі — воінаў і партызан, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1968 г. пастаўлены помнік — скульптура жанчыны з лаўровым вянком.

**в. Рудзянец, цэнтр Калінінскага сельсавета**

**378. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). У скверы, каля Дома культуры. Пахаваны 84 савецкія воіны і 4 партызаны, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну. У 1963 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптурная група: воін, стары і жанчына.

**в. Рудня-Кашалёўская, Кашалёўскі сельсавет**

**379. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 56 воінаў, якія загінулі ў лістападзе 1943 г. ў баях за вызваленне тэрыторыі раёна ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1954 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**380. МАГІЛА ТАЛМАЧОВА** Мікалая Самойлавіча (гіст.). На могілках. Капітан Чырвонай Арміі М. С. Талмачоў памёр 27.2.1944 г. ад ран, якія атрымаў у баі за вызваленне тэрыторыі раёна ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1944 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Саўгасная, Мікалаеўскі сельсавет**

**381. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны 37 воінаў і 2 партызаны, якія загінулі ў лістападзе 1943 г. ў баях супраць нямецка-фа-



376. *Помнік землякам.*

шысцкіх захопнікаў на тэрыторыі раёна. У 1979 г. на магіле пастаўлена мемарыяльная сцяна, абапал якой 2 стэлы з імёнамі загінуўшых.

**в. Слабада Люшаўская, Буда Люшаўскі сельсавет**

**382. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На паўночна-заходняй ускраіне вёскі. Пахаваны 113 воінаў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну. У 1952 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**383. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). На сучасных могілках. 10 курганоў вышынёй 1,5—2 м, дыяметрам 10—12 м. Вядомы з 1873 г. Абследаваў у 1976 г. Я. Г. Звяруга. Адзін курган моцна пашкоджаны, на асобных насыпах сучасныя пахаванні. 6 курганоў захаваліся добра. Раскопкі не праводзіліся.

**в. Смычок, Чабатовіцкі сельсавет**

**384. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). На могілках. Пахаваны 4 воіны і 2 партызаны, якія загінулі ў лістападзе 1943 г. пры вызваленні тэрыторыі раёна ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1957 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**385. МЕСЦА БАЗІРАВАННЯ УВАРАВІЦКАГА ПАДПОЛЬНАГА РАЙКОМА КП(б)Б І ПАРТЫЗАНСКАЙ БРЫГАДЫ ІМЯ М. А. ШЧОРСА** (гіст.). Размяшчаліся ў ваколіцах в. Смычок.

Уваравіцкі падпольны райком КП(б)Б дзейнічаў з 1.3.1943 г. да 23.11. 1943 г. Сакратар В. В. Юдзін. Райком вёў палітычную і арганізатарскую работу сярод насельніцтва, кіраваў партызанскім рухам на тэрыторыі раёна, выдаваў газету «Калектывіст».

Партызанская брыгада імя М. А. Шчорса створана ў верасні 1943 г. на базе асобнага атрада імя Шчорса. Камандзір брыгады А. П. Байкоў, камісар В. В. Юдзін. У маі — жніўні 1943 г. партызаны зрабілі больш за 20 дыверсій на чыгунках, у час «рэйкавай вайны» ў жніўні і верасні 1943 г. падарвалі больш за 310 рэек, 5 мастоў. Разграмілі 7 паліцэйскіх участкаў, знішчылі больш за 20 складоў і 16 прадпрыемстваў, якія працавалі на патрэбы ворага. На дзень злучэння з часцямі Чырвонай Арміі 23.11.1943 г. брыгада яднала 3 атрады: імя М. Ф. Гастэлы, імя М. А. Шчорса, «За Савецкую Беларусь» (905 партызан).

У 1968 г. ў гонар Уваравіцкага падпольнага райкома КП(б)Б і партызанскай брыгады імя М. А. Шчорса каля дарогі Чабатовічы — Смычок пастаўлена стэла.

*Літ.:* Непокоренная Белоруссия.— М., 1963; В грозные годы.— Мн., 1973; Подпольные партийные органы Компартии Белоруссии в годы Великой Отечественной войны (1941—1944).— Мн., 1975; Партизанские формирования Белоруссии в годы Великой Отечественной войны (июнь 1941 — июль 1944).— Мн., 1983.

*Э. М. Савіцкі.*

**386. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У скверы, каля клуба. На ўшанаванне памяці 124 жыхароў вёскі — воінаў і партызан, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1962 г. пастаўлены помнік — скульптура жанчыны.

**в. Старая Буда, Недайскі сельсавет**

**387. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 1 км на захад ад вёскі, на могілках. 22 насыпы вышынёй 2—3,5 м, дыяметрам 8—12 м. Выявіў і абследаваў у 1982 г. А. А. Хацкевіч. Раскопкі не праводзіліся.

**388. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля клуба. На ўшанаванне памяці 98 жыхароў вёскі — воінаў і партызан, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1968 г. пастаўлены помнік — скульптура жанчыны з лаўровым вянком.

**в. Струкі, Ліпініцкі сельсавет**

**389. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). На тэрыторыі школы. Пахаваны 98 воінаў і 2 партызаны, якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў на тэрыторыі раёна ў лістападзе 1943 г. У 1953 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Сялец, Кашалёўскі сельсавет**

**390. БРАЦКАЯ МАГІЛА ПАРТЫЗАН** (гіст.). На могілках. Пахаваны 3 партызаны, якія загінулі ў баі супраць нямецка-фашысцкіх акупантаў у 1943 г. У 1950 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**391. МАГІЛА САВЕЦКАГА ВОІНА** (гіст.). На могілках. Пахаваны воін Чырвонай Арміі, які загінуў у Вялікую Айчынную вайну.

**г. п. Уваравічы, цэнтр пасялковага Савета**

**392. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАНА** (гіст.). У садзе эксперыментальнай базы «Уваравічы». Пахаваны 22 воіны і 1 партызан, якія загінулі ў лістападзе 1943 г. ў баі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў за г. п. Уваравічы. У 1983 г. на магіле пастаўлена стэла з барэльефнымі выявамі воінаў.

**393. ГАРАДЗІШЧА, КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.).

**393а.** Гарадзішча. За 1 км на ўсход ад г. п. Уваравічы (ад канторы саўгаса). Пляцоўка гарадзішча квадратная (90×90 м) з круглаватымі вугламі і выпуклымі бакамі. Па ўсім перыметры насыпаны вал, уезд з паўднёвага боку. З трох бакоў гарадзішча ўмацавана ровам глыбінёй каля 1,0—1,5 м, шырынёй 6—9 м, з чацвёртага — балоцісты поплаў р. Уза. З боку поля вышыня гарадзішча 4—6 м, з боку поплава 8—9 м. Выявіў і абследаваў у 1893 г. Е. Р. Раманаў, абследаваў у 1976 г. Я. Г. Звяруга. Раскопкі не праводзіліся.

**393б.** Курганны могільнік. За 0,5 км на поўдзень ад г. п. Уваравічы, за р. Уза. 34 насыпы вышынёй 1 м, дыяметрам 7—8 м, некалькі курганоў вышынёй 0,5—0,6 м, дыяметрам 5—6 м. Асобныя насыпы вышынёй 1,7 м, дыя-




392. *Помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў і партызана.*




393б. *Курганны могільнік. План.*

метрам да 12 м. Адкрыў і абследаваў у 1893 г. Е. Р. Раманаў, абследаваў у 1976 г. Я. Г. Звяруга. Раскопкі не праводзіліся.

*Літ.:* Заметка Е. Р. Романова о дополнительных археологических местонахождениях.— У кн.: Труды Виленского отделения Московского предварительного комитета по устройству в Вильне 9 археологического съезда. Вильно, 1893. *Я. Г. Звяруга.*

**394. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). На паўднёва-заходняй ускраіне пасёлка, за 0,3 км справа ад дарогі Уваравічы — Буда-Кашалёва. Пахаваны 247 мірных жыхароў, расстраляных нямецка-фашысцкімі акупантамі ў 1942 г. У 1948 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**395. ПОМНІК ЛЕНІНУ** Уладзіміру Ільічу (гіст.). Завулак Савецкі, насупраць Дома культуры. Скульптура У. І. Леніна ўстаноўлена ў 1947 г.

**396. СЕЛІШЧА** (археал.). За 3 км на паўднёвы захад ад пасёлка, на першай надпоймавай тэрасе правага берага р. Уза. Памеры 100×60 м. Выявіў у 1981 г. А. А. Макушнікаў. У культурным пласце 0,1—0,2 м знойдзена ляпная і ганчарная кераміка. Адносіцца да 1-й палавіны 1-га тысячагоддзя н. э. і эпохі Кіеўскай Русі. Раскопкі не праводзіліся.

Матэрыялы абследавання зберагаюцца ў Гомельскім абласным краязнаўчым музеі. *А. А. Макушнікаў.*

**в. Уза, Калінінскі сельсавет**

**397. ПОМНІК ПАДПОЛЬШЧЫКАМ** (гіст.). Каля будынка канторы саўгаса «Праўда». На ўшанаванне памяці юных патрыётаў-падпольшчыкаў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1981 г. пастаўлены помнік — скульптура дзяўчыны з палаючым факелам.

**в. Фундамінка, Мікалаеўскі сельсавет**

**398. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 8 воінаў, якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у 1943 г. У 1970 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Хоўхла, цэнтр Бярвёнаўскага сельсавета**

**399. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны 5 воінаў і 5 партызан, якія загінулі ў 1943 г. ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1958 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**400. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля будынка праўлення калгаса «Чырвоная Зорка». На ўшанаванне памяці 123 землякоў — воінаў і партызан, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1967 г. пастаўлены помнік — скульптура жанчыны з лаўровым вянком у руках.

**401. РАДЗІМА ІСАЧАНКІ** Аляксандра Лаўрэнцьевіча — Героя Савецкага Саюза. Гл. артыкул № 10 «Брацкая магіла савецкіх воінаў і падпольшчыкаў» (г. Гомель).

**в. Чабатовічы, цэнтр сельсавета**

**402. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). У цэнтры вёскі. 3 насыпы вышынёй 1,2—1,6 м, дыяметрам 12—14 м (раней было 37 насыпаў). Вядомы з 1873 г. Даследаваў у 1893 г. У. Б. Антановіч, які раскапаў 14 курганоў. Пахавальны абрад — трупапалажэнне галавой на захад. Пахавальны інвентар: шкляныя, пазалочаныя і сердалікавыя пацеркі, бронзавыя грыўня з падвескамі, бранзалет, сяміпрамянёвыя скроневыя кольцы, нажы; каля ног нябожчыкаў — гаршкі. Абследаваў у 1976 г. Я. Г. Звяруга. Належаў радзімічам, датуецца 10—12 стагоддзямі.

*Літ.:* Антонович В. Б. Раскопки в бывшей земле радимичей.— У кн.: Чтения в историческом обществе Нестора-летописца. Киев, 1894, кн. 8. *Я. Г. Звяруга.*

**403. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. На ўшанаванне памяці 234 землякоў — воінаў і партызан, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1966 г. пастаўлены помнік — скульптурная група: воін са схіленым сцягам, стары і жанчына.



404а. *Могільнік-1. План.*

**пасёлак Чырвоны Курган, Чабатовіцкі сельсавет**

**404. КУРГАННЫЯ МОГІЛЬНІКІ** (археал.).

**404а.** Могільнік-1. За 1,5 км на паўночны захад ад пасёлка, абапал дарогі на в. Патапаўка. 18 курганоў вышынёй ад 0,7 м да 1,6 м (найчасцей 1 м), дыяметрам ад 5 м да 11 м (найчасцей 8 м). Насыпы зараслі хмызняком, 3 курганы моцна пашкоджаны. Выявіў і абследаваў у 1976 г. Я. Г. Звяруга. Раскопкі не праводзіліся.

**404б.** Могільнік-2. За 1 км на паўночны захад ад пасёлка, у лесе. 50 курганоў вышынёй 1,5—2,5 м, дыяметрам 8—10 м. Выявіў у 1982 г. А. А. Хацкевіч. Раскопкі не праводзіліся. *Я. Г. Звяруга, А. А. Хацкевіч.*

**в. Шарыбаўка, Кашалёўскі сельсавет**

**405. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАНА, ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны 52 воіны і 1 партызан, якія загінулі ў лістападзе 1943 г. ў баях за вызваленне тэрыторыі раёна ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў ці памерлі ад ран у 1944 г. У 1984 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна. Побач — стэла на ўшанаванне памяці 92 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну.

**в. Шырокае, цэнтр сельсавета**

**406. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля будынка канторы саўгаса «Камінтэрн». На ўшанаванне памяці 111 аднавяскоўцаў — воінаў і партызан, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1970 г. пастаўлена стэла з гарэльефнай выявай воіна.

# ВЕТКАЎСКІ РАЁН




Казацкія Балсуны
Навілаўка
Вял. Нямкі
Мал. Нямкі
Яноўка
Свяцілавічы
Стаўбун
Акшынка
Неглюбка
Жалезнікі
Рэчкі
Гарысты
Прысно
Хізы
Нов. Грамыкі
Шарсцін
Данілавічы
Барталамееўка
Беседзь
Стар. Закружжа
Пыхань
Навасёлкі
Сівінка
Радуга
Хальч
ВЕТКА
Тарасаўка
Стар. Сяло

Цэнтр раёна

Цэнтры сельсаветаў

Стаянкі, паселішчы, гарадзішчы

Могільнікі (грунтавыя, курганныя), курганы

Помнікі і месцы рэвалюцыйнага руху (Рэвалюцыя 1905–07 гг., Вялікая Кастрычніцкая сацыялістычная рэвалюцыя, Грамадзянская вайна, барацьба працоўных Заходняй Беларусі)

Цэнтры рамёстваў

Помнікі і памятныя месцы Вялікай Айчыннай вайны (месцы баёў, магілы савецкіх воінаў і партызан, Курганы Славы, помнікі землякам і інш.)

Помнікі ахвярам фашызму (месцы канцлагераў і лагераў смерці, месцы масавай загубы насельніцтва, спаленыя і неадноўленыя вёскі і інш.)

Помнікі сацыялістычнага будаўніцтва

Помнікі і месцы, звязаныя з імёнамі савецкіх партыйных, дзяржаўных і гаспадарчых дзеячаў, дзеячаў культуры, навукі і тэхнікі

Палацы, сядзібы, асабнякі

## V. ВЕТКА

Горад, цэнтр раёна. Размешчана за 22 км на паўночны ўсход ад Гомеля, на раўнінным левым беразе р. Сож. Прыстань. Назва ад аднайменнага вострава, утворанага р. Сож і невялікай затокай.

Заснавана ў 1685 г. як слабада ў Вялікім княстве Літоўскім рускімі стараверамі, якія ўцякалі сюды ад праследаванняў царскіх улад. Праз 10 гадоў — цэнтр старавераў. Належала памешчыкам Халецкім. Старавераў двойчы выганялі царскія войскі: у 1735 г. першая «выганка», у 1764 г.— другая. З 1772 г. ў складзе Расійскай імперыі, з 1784 г. мястэчка Беліцкага, з 1852 г. Гомельскага павета Магілёўскай губерні (у 1796—1802 гг. Беларускай губерні). Належала Станевічам. У 1880 г. ў Ветцы каля 6 тыс. жыхароў, 11 мураваных і 994 драўляныя будынкі, 6 канатных заводаў і 6 ветраных млыноў, 4 мураваныя і 120 драўляных крам; 2 разы ў год адбываліся трохдзённыя кірмашы. Жыхары займаліся земляробствам, гандлем, кавальскім рамяством, вырабам якараў і канатаў. У 1868 г. адкрыты жаночае, у 1874 г. мужчынскае народныя вучылішчы. 7,2 тыс. жыхароў у 1897 г. У 1904 г. дзейнічала сацыял-дэмакратычная група, якая ўваходзіла ў Палескі камітэт РСДРП. У студзені 1905 г. адбылася забастоўка рабочых канатнага завода, якая перарасла ў палітычную дэманстрацыю. У 1-ю сусветную вайну ў мястэчку стаяў 3-і запасны артдывізіён, дзе агітацыю вёў бальшавік І. Г. Малееў. У красавіку 1917 г. створаны валасны Савет салдацкіх дэпутатаў. Савецкая ўлада ўстаноўлена ў лістападзе 1917 г. З пачатку 1918 г. да снежня 1918 г. акупіравана германскімі войскамі. На нарадзе падпольнага бальшавіцкага штаба ў Гомелі ў пачатку снежня 1918 г. створаны Веткаўскі рэўком. У канцы снежня адбыўся з'езд Саветаў Веткаўскай воласці. З 1919 г. Ветка ў Гомельскай губерні РСФСР, з 1925 г. горад, з 1926 г. ў БССР, цэнтр раёна. У 1924 г. пабудавана электрастанцыя. Да 1941 г. працавалі ткацка-трыкатажная арцель імя Р. Люксембург, арцелі — швейная «Аб'яднанне», шавецкая «Працаўнік», дрэваапрацоўчая імя Н. К. Крупскай, калгас «Пралетарская перамога» і інш. 20.5.1931 г. пачала выходзіць газета «За бальшавіцкія тэмпы» (цяпер — «Перамога Кастрычніка»). 6 тыс. жыхароў у 1939 г.

У Вялікую Айчынную вайну з 18 жніўня 1941 г. акупіравана нямецка-фашысцкімі захопнікамі. На тэрыторыі раёна дзейнічалі падпольныя райкомы КП(б)Б (верасень 1943 г.— 2.10.1943 г.) і ЛКСМБ (3.9.1943 г.— 2.10.1943 г.). 28.9.1943 г. горад вызвалены часцямі 89-й і 159-й танкавых брыгад, 44-й мотастралковай брыгады 1-га танкавага корпуса, 17-й гвардзейскай кавалерыйскай дывізіі 2-га гвардзейскага кавалерыйскага корпуса Бранскага фронту.



V. *Вуліца В. І. Чапаева.*

Планіровачная структура горада вызначаецца сістэмай паралельных рацэ вуліц — Першамайскай, Леніна, Пралетарскай, Чапаева, Інтэрнацыянальнай, Кастрычніцкай, звязаных паміж сабой папярочнымі магістралямі — вуліцамі Батракова і Савецкай. Вул. Савецкая выходзіць на Красную пл.— грамадскі цэнтр горада. Тут у 1960—70-х гадах узведзены будынкі райкома партыі і райвыканкома, універмага, Дома культуры. У цэнтры плошчы разбіты сквер. Асноўная капітальная жылая забудова сканцэнтравана на вул. Чапаева. Паводле генеральнага плана, распрацаванага ў 1974 г. Мінскім філіялам Цэнтральнага навукова-даследчага і праектнага інстытута горадабудаўніцтва, на поўнач ад грамадскага цэнтра фарміруецца новы жылы раён. Горад расшырае свае граніцы на левым беразе р. Сож.

Прамысловыя прадпрыемствы сканцэнтраваны пераважна ў 3 прамысловых вузлах: паўночна-ўсходнім (бавоўнапрадзільная фабрыка, перасоўныя механізаваныя калоны № 51 і № 100, міжкалгасная перасоўная механізаваная калона № 44), паўднёвым (раённае аб'яднанне Дзяржкамсельгастэхнікі), паўднёва-ўсходнім (хлеба- і маслазавод). Працуюць ткацкая фабрыка (філіял рэчыцкага вытворчага ткацкага аб'яднання «Чырвоны Кастрычнік»), вытворчае аб'яднанне будаўнічых матэрыялаў і камбінат бытавога абслугоўвання, камбінат кааператыўнай прамысловасці.

У горадзе 2 сярэднія, вячэрняя, музычная і дзіцяча-юнацкая спартыўная школы, вучэбна-вытворчы камбінат, 3 дашкольныя ўстановы, Дом піянераў і школьнікаў, 2 бібліятэкі, клуб, бальніца, Музей народнага мастацтва (сярод экспанатаў старажытныя рэчы з калекцыі мясцовага жыхара Ф. Р. Шклярова). Помнікі: У. І. Леніну, савецкім воінам, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, абеліск на брацкай магіле мірных жыхароў, расстраляных нямецка-фашысцкімі акупантамі ў 1943 г.

Гарадская зона адпачынку — парк і берагі Сажа, загарадная — за 8 км уверх па цячэнні ва ўрочышчы Шубін.



V. *Фрагмент забудовы новага жылога раёна.*



V. *Куток гарадскога парку.*

*Літ.:* Мельников-Печерский П. И. Полн. собр. соч. Т. 13.— СПб.; М., 1898; Дембовецкий А. С. Опыт описания Могилевской губернии... Кн. 1—2.— Могилев, 1882—84; Никольский Н. М. История русской церкви.— 3 изд.— М., 1983; Малеев И. Г. Ветковская быль.— У кн.: В боях и походах. Мн., 1972.

*У. В. Алісейчык, М. Б. Батвіннік.*

**407. БЕСКУРГАННЫ МОГІЛЬНІК, СЕЛІШЧА** (археал.).

**407а.** Бескурганны могільнік. За 4—5 км на поўдзень ад горада, ва ўрочышчы Хаткі, на краі першай надпоймавай тэрасы левага берага р. Сож. Абследаваў у 1978—80 гг. А. А. Макушнікаў. Знойдзены рэшткі трупаспалення, накрытыя вялікім неарнаментаваным ляпным гаршком. Датуецца сярэдзінай — 3-й чвэрцю 1-га тысячагоддзя н. э. Раскопкі не праводзіліся.

**407б.** Селішча. На могільніку. Абследаваў у 1978—80 гг. А. А. Макушнікаў. Культурны пласт у агаленнях да 0,5 м. У ім знойдзены ляпны посуд, косці жывёл, рэшткі абпаленай гліны. Датуецца сярэдзінай — 3-й чвэрцю 1-га тысячагоддзя н. э. Раскопкі не праводзіліся.

Матэрыялы абследаванняў захоўваюцца ў Гомельскім абласным краязнаўчым музеі.

*Літ.:* Макушников О. А. Разведки в Гомельском Посожье.— У кн.: Археологические открытия 1980 года. М., 1981.

*А. А. Макушнікаў.*



V. *Фрагмент забудовы жылога мікрараёна.*

**408. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). Вул. Савецкая. Пахаваны 873 воіны, у т. л. воіны 197-й Бранскай, 96-й, 250-й, 287-й і 307-й стралковых дывізій, 1-га танкавага корпуса, 2-га гвардзейскага кавалерыйскага корпуса, якія загінулі ў 1943 г. ў баях за вызваленне горада і раёна ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1975 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна са схіленым сцягам, стэла і сцяна з імёнамі загінуўшых.

**409. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). На паўднёвай ускраіне горада, на тэрыторыі раённага аб'яднання Дзяржкамсельгастэхнікі. У Вялікую Айчынную вайну нямецка-фашысцкія захопнікі загубілі больш за 200 мірных жыхароў горада. У 1970 г. на ўшанаванне іх памяці на магіле пастаўлена стэла.

**410. ПАСЕЛІШЧА** (археал.). За 3 км на поўнач ад горада, ва ўрочышчы Цялячае, каля першай надпоймавай тэрасы правага берага р. Сож. Пляцоўка авальная, памерам 45×60 м. Абследаваў у 1981 г. С. Я. Расадзін. Культурны пласт у шурфах 0,5 м. Знойдзены фрагменты ганчарнай керамікі. Паселішча адносіцца да позняга сярэднявечча.

Матэрыялы абследавання захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

*С. Я. Расадзін.*

**411. ПОМНІК ЛЕНІНУ** Уладзіміру Ільічу (гіст.). На Краснай пл. Скульптура У. І. Леніна ўстаноўлена ў 1967 г.

**412. ПОМНІК ПРАЦОЎНАЙ СЛАВЫ** (гіст.). На паўднёвай ускраіне горада, каля будынка раённага аб'яднання Дзяржкамсельгастэхнікі. У 1977 г. ў гонар першых механізатараў раёна ўстаноўлены трактар на пастаменце.

**413. РАДЗІМА КАВАЛЁВА** Дзмітрыя Міхайлавіча (гіст.).

Рускі савецкі паэт Дз. М. Кавалёў нарадзіўся 17.6.1915 г. Сын каваля. Працаваў у калгасе, малатабойцам у суднарамонтных майстэрнях. Член КПСС з 1945 г. Скончыў рабфак у Гомелі (1939 г.). Вышэйшыя літаратурныя курсы ў Маскве (1957 г.). З 1940 г. ў Чырвонай Арміі. У Вялікую Айчынную вайну ваенны карэспандэнт газеты «Боевой курс» Паўночнага флоту. Пасля вайны выступаў у беларускім рэспубліканскім друку, працаваў у рэдакцыях часопісаў «Беларусь», «Вожык», газеты «Советская Белоруссия», потым у выдавецтве «Молодая гвардия». Быў членам Савета па беларускай літаратуры Саюза пісьменнікаў СССР.

Друкавацца пачаў у 1938 г. ў газеце «Гомельская праўда». Першы зборнік вершаў «Далёкія берагі» выйшаў у 1947 г. ў Мінску. Аўтар зборнікаў «Вершы» (1950 г.), «Мы не расстаёмся» (1953 г.), «Пра хлопчыка Жэньку з сяла Ніжнія Дзеравенькі» (1955 г.), «Рабінавыя ночы» (1958 г.), «Ціхая маланка» (1961 г.), «Маўчанне навальніц» (1964 г.), «Трывожны мір» (1970 г.), «Гады» (1971 г.), «Лірыка» і «Сам-насам з жыццём» (1979 г.) і інш. Лірыцы Дз. М. Кавалёва ўласцівы высокі пафас грамадзянскасці, тонкае адчуванне псіхалогіі чалавека, роднай прыроды. Шмат пісаў пра Беларусь. Пераклаў на рускую мову раман І. Мележа «Подых навальніцы», кнігу А. Адамовіча,



408. *Помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў.*



409. *Помнік на магіле ахвяр фашызму.*



411. *Помнік У. І. Леніну.*

Я. Брыля, У. Калесніка «Я — з вогненнай вёскі», вершы А. Куляшова, М. Танка, П. Панчанкі, К. Кірэенкі, А. Грачанікава, А. Жаўрука, М. Сурначова, А. Лойкі і інш., а таксама кнігу вершаў узбекскага паэта С. Джуры, які загінуў у баях за вызваленне Беларусі.

Памёр Дз. М. Кавалёў 10.3.1977 г. ў Маскве. Яго імем названа вуліца ў Ветцы.

*Літ.:* Пісьменнікі Савецкай Беларусі: Кароткі біягр. даведнік.— Мн., 1981; Бялюгін А. Шчырае, свежае слова.— Полымя, 1947, № 7. *М. Б. Батвіннік.*



415. *Разны франтон акна.*

**414. СЕЛІШЧА** (археал.). За 2 км на паўночны захад ад горада, на першай надпоймавай тэрасе левага берага р. Сож, ва ўрочышчы Селішча. Выцягнута на 0,4 км уздоўж поймы. Абследавалі ў 1979 г. В. А. Літвінаў, у 1980—81 гг. А. А. Макушнікаў. Культурны пласт у агаленнях каля 0,5 м. Знойдзены рэшткі ганчарнай керамікі, гліняныя грузілы, шлак, вырабы з крэменю. Раскопкі не праводзіліся. Матэрыялы абследавання захоўваюцца ў Гомельскім абласным краязнаўчым музеі.

*Літ.:* Макушников О. А. Разведки в Гомельском Посожье.— У кн.: Археологические открытия 1980 года. М., 1981. *А. А. Макушнікаў.*

**415. ЦЭНТР МАСТАЦКАГА РАМЯСТВА** (маст.). У Ветцы, навакольных вёсках для знадворнага дэкарыравання жылля шырока выкарыстоўваецца разьба па дрэве. Вядома з 17—18 стагоддзяў, спалучае рускія і беларускія традыцыі народнага архітэктурнага дэкору. У 18 — пачатку 19 ст. ліштвы акон аздаблялі нескладанай выемчатай разьбой геаметрычнага характару. У 2-й палавіне 19 ст. будынкі ўпрыгожвалі накладнымі разнымі рэечкамі, ромбамі, прамавугольнікамі. Ліштвы рабілі ў выглядзе трохвугольнага франтончыка з прафіляванымі накладкамі, дэкор карнізаў і вуглоў імітаваў элементы мураванай архітэктуры класіцызму. З канца 19 ст. шырока ўжывалася скразная прапілаваная разьба расліннага характару, якой аздабляліся ліштвы, карнізы, ганкі, вароты, у наш час — і веранды, мансарды, франтоны. Разьбу дапаўняе паліхромная размалёўка. Мясцовая разьба вызначаецца павышанай дэкаратыўнасцю, шматпланавасцю кампазіцыі, у якой пераважаюць стылізаваныя раслінныя матывы.

*Літ.:* Сахуто Е. Ветковское узорочье.— Неман, 1975, № 9; яго ж. Народная разьба па дрэву.— Мн., 1978. *Я. М. Сахута.*

**в. Барталамееўка, цэнтр сельсавета**

**416. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны 50 воінаў, у т. л. воіны 17-й



415. *Фрагмент разьбы*



418. *Помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў.*

гвардзейскай кавалерыйскай дывізіі, якія загінулі ў верасні 1943 г. ў баях за вызваленне в. Барталамееўкі і навакольных вёсак ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1960 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна.

**417. ПАСЕЛІШЧА** (археал.). За 0,3 км на ўсход ад вёскі, ва ўрочышчы Выдзьма, на пясчаным узгорку. Памер 100×300 м. Выявіла і абследавала ў 1978 г. А. Г. Калечыц. Культурны пласт 0,1 м. На выветраных участках і ў агаленнях знойдзены крамянёвыя прылады працы і зброя (пласціны, скрабкі, разцы, наканечнікі стрэл, нуклеусы), фрагменты ляпной керамікі. Адносіцца да каменнага і бронзавага вякоў. Раскопкі не праводзіліся. Матэрыялы абследавання захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР. *А. Г. Калечыц.*

**в. Беседзь, Барталамееўскі сельсавет**

**418. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны 436 воінаў, у т. л. воіны 17-й гвардзейскай кавалерыйскай дывізіі, якія загінулі ў верасні 1943 г. ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў пры вызваленні в. Беседзь і навакольных вёсак. У 1959 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна.

**в. Быкавец, Хізаўскі сельсавет**

**419. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 0,5 км на захад ад вёскі, на могілках. 6 насыпаў вышынёй 0,8—1,5 м (адзін насып — да 3 м), дыяметрам 4—10 м. Выявіў і абследаваў у пачатку 20 ст. Е. Р. Раманаў, абследавала ў 1975 г. С. М. Васільева. Раскопкі не праводзіліся.

**в. Вялікія Нямкі, цэнтр сельсавета**

**420. ГАРАДЗІШЧА, КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.).

**420а.** Г а р а д з і ш ч а. За 1 км на поўдзень ад вёскі, ва ўрочышчы Царкавішча, на высокім правым беразе р. Беседзь. Пляцоўка прамавугольнай формы, памерам 32×36 м. З паўднёвага і заходняга бакоў умацавана валам вышынёй 1,5 м, шырынёй 3 м. З паўночнага боку вал згладжаны (вышыня 0,3 м). Ва ўсходняй частцы пляцоўкі прасочваецца стромкі схіл да поймы р. Беседзь. Вядома з 1910 г., абследавала ў 1976 г. С. М. Васільева. Раскопкі не праводзіліся.

**420б.** М о г і л ь н і к. На паўночна-ўсходняй ускраіне вёскі, ва ўрочышчы Курганне, на другой надпоймавай тэрасе правага берага р. Беседзь. 5 насыпаў авальнай формы, вышынёй 1,4—1,5 м, дыяметрам 8—10 м. Вядомы з 1873 г., абследавалі ў пачатку 20 ст. Е. Р. Раманаў, у 1980 г. А. А. Макушнікаў. Раскопкі не праводзіліся.

*Літ.:* Сведения 1873 г. о городищах и курганах.— Известия Археологической комиссии. СПб., 1903, в. 5; Р о м а н о в Е. Р. Археологический очерк Гомельского уезда (Могилевской губернии).— Вильна, 1910. *С. М. Васільева, А. А. Макушнікаў.*

**пасёлак Гарадок, Стаўбунскі сельсавет**

**421. ГАРАДЗІШЧА** (археал.). За 1 км ад пасёлка, ва ўрочышчы Баяршчына, справа ад дарогі на пасёлак Калінін, на карэнным правым беразе р. Стаўбунка. Пляцоўка авальная, памерам 22×29 м, з трох бакоў абкружана падковападобным валам вышынёй 3 м, шырынёй 2,5 м, з паўднёвага ўсходу — круты схіл. Вядома з 1873 г., абследавалі ў пачатку 20 ст. Е. Р. Раманаў, у 1976 г. С. М. Васільева. Культурны пласт у агаленнях 0,2 м. Раскопкі не праводзіліся. *С. М. Васільева.*



421. *Гарадзішча.*

**в. Гарысты, Хізаўскі сельсавет**

**422. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 11 воінаў, у т. л. воіны 287-й стралковай дывізіі, якія загінулі ў 1943 г. ў баях за вызваленне вёскі і раёна ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1953 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**423. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). На цэнтральнай сядзібе саўгаса «Зарэчны». На ўшанаванне памяці 220 жыхароў вёсак Хізаўскага сельсавета, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1968 г. пастаўлены помнік — скульптурная кампазіцыя: воін са сцягам, партызан з аўтаматам і партызанка.



423. *Помнік землякам.*

**в. Глыбаўка, Новаграмыцкі сельсавет**

**424. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 2 км на поўнач ад вёскі, ва ўрочышчы Курганне. 7 насыпаў вышынёй 0,5—1,2 м, дыяметрам 5—12 м. Вядомы з 1910 г., абследавала ў 1976 г. С. М. Васільева. Раскопкі не праводзіліся.

**425. ПАСЕЛІШЧА** (археал.). За 0,3 км на паўднёвы захад ад вёскі, ва ўрочышчы Бабулін Бугор, на рэштках першай надпоймавай тэрасы левага берага р. Беседзь. Выявіла ў 1979 г. і даследавала ў 1980—81 гг. А. Г. Калечыц на плошчы 320 м². Культурны пласт каля 0,4 м. Выяўлены 6 ям, рэшткі 2 жытлаў і 7 агнішчаў. Знойдзены крамянёвыя прылады працы і зброя: наканечнікі стрэл, скрабкі, разцы, пласціны, сякерападобныя прылады, мікраліты. Паселішча адносіцца да эпохі мезаліту, датуецца 8—5-м тысячагоддзямі да н. э.



424. *Курганны могільнік.*




419. *Курганны могільнік. План.*




420а. *Гарадзішча. План.*




421. *Гарадзішча. План.*




424. *Курганны могільнік. План.*

Матэрыялы даследавання захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.
*А. Г. Калечыц.*

**в. Гута, Хізаўскі сельсавет**

**426. МАГІЛА МАКАРАНКІ** Івана Раманавіча (гіст.). На могілках.

Поўны кавалер ордэна Славы І. Р. Макаранка нарадзіўся 6.6.1907 г. ў в. Гута Веткаўскага р-на ў сялянскай сям'і. Працаваў у калгасе. У Вялікую Айчынную вайну з 1943 г. на 1-м Украінскім, 1-м і 3-м Прыбалтыйскіх, 1-м Беларускім франтах. Удзельнік вызвалення Украіны, Беларусі, Польшчы, баёў на тэрыторыі Германіі. Памочнік камандзіра сапёрнага ўзвода старшына І. Р. Макаранка вызначыўся пры вызваленні Украіны. 16.3.1944 г. з 4 групамі сапёраў зрабіў праходы ў драцяных загародах для наступаючых воінаў палка. Адбіваючы контратакі ворага, знішчыў 12 фашыстаў. Пры вызваленні Беларусі вызначыўся на подступах да г. Пінск. Разам з сапёрамі навёў пераправы цераз рэкі Стыр, Прыпяць, Ясельда, зняў 43 процітанкавыя міны. 17.4.1945 г. ўдзельнічаў у фарсіраванні р. Одэр у Германіі. З узводам сапёраў пабудаваў плыт і арганізаваў пераправу савецкіх воінаў, тэхнікі і ўзбраення. Пасля вайны жыў у родначй вёсцы, працаваў у калгасе. Памёр 16.5.1971 г. У 1973 г. на магіле пастаўлена стэла.

*Літ.:* Навечно в сердце народном.— 3 изд.— Мн., 1984.

**в. Данілавічы, цэнтр сельсавета**

**427. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). Каля школы. Пахаваны 19 воінаў, у т. л. воіны 4-й стралковай дывізіі, якія загінулі ў лістападзе 1943 г. ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1975 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна.

**428. МАГІЛА ЛЕБЕДЗЕВА** Івана Сяргеевіча (гіст.). Каля школы. Сакратар камсамольскай ячэйкі, селькор І. С. Лебедзеў нарадзіўся 9.2.1901 г. ў сялянскай сям'і. Скончыў царкоўнапрыходскую школу і педагагічныя курсы. У 1919 г. добраахвотнікам уступіў у Чырвоную Армію. Удзельнік Грамадзянскай вайны. У студзені 1923 г. вярнуўся ў родную вёску, вёў барацьбу супраць кулакоў і іх памагатых. Камсамольцы выбралі І. С. Лебедзева сакратаром ячэйкі. І. С. Лебедзеў — адзін з першых актыўных селькораў на Беларусі. Супрацоўнічаў у газетах «Новая деревня», «Палесская праўда», «Набат молодежи». У сваіх артыкулах выкрываў ворагаў Савецкай улады. 23.10.1924 г. ў час выступлення на сумесным сходзе членаў камсамольскай ячэйкі і таварыства ўзаемадапамогі, дэпутатаў сельсавета забіты кулакамі з абрэза праз акно.



428. *Помнік на магіле І. С. Лебедзева.*

У 1969 г. на магіле пастаўлены абеліск. Імем І. С. Лебедзева названы калгас у в. Данілавічы і Прыснянская сярэдняя школа.

*Літ.:* Булацкий Г. В. Первые рабселькоры Белоруссии.— Мн., 1969; В памяти народной.— Мн., 1969.
*М. Б. Батвінпік.*

**429. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля школы. На ўшанаванне памяці 110 землякоў, якія загінулі на франтах Вялікай Айчыннай вайны, у 1975 г. ўстаноўлены мемарыяльны знак.

**в. Жалезнікі, Свяцілавіцкі сельсавет**

**430. ГАРАДЗІШЧА, КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК, СЕЛІШЧА** (археал.).

**430а.** Гарадзішча. На паўднёва-ўсходняй ускраіне вёскі, ва ўрочышчы Гарадок, на мысе высокага правага берага р. Беседзь. Пляцоўка авальная, памерам 41×25 м. З поўначы і паўночнага ўсходу абмежавана р. Беседзь, з паўднёвага і часткова з заходняга бакоў захаваліся рэшткі вала вышынёй да 2 м, шырынёй да 4 м. Роў згладжаны. Вядома з 1873 г., абследавалі ў пачатку 20 ст. Е. Р. Раманаў, у 1975 г. С. М. Васільева. У абрыве берага прасочваецца культурны пласт да 0,7 м. У ім знойдзены рэшткі ляпной і асобныя фрагменты ганчарнай керамікі. Гарадзішча адносіцца да ранняга жалезнага веку і да эпохі ранняга феадалізму. Матэрыялы абследавання захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

**430б.** Могільнік. На паўднёва-заходняй ускраіне вёскі, каля могілак. 4 насыпы вышынёй 0,5—2,5 м, дыяметрам 6—10 м. Вядомы з 1873 г., абследавалі ў пачатку 20 ст. Е. Р. Раманаў, у 1975 г. С. М. Васільева. Раскопкі не праводзіліся.

**430в.** Селішча. На ўсходняй ускраіне вёскі, на краі першай надпоймавай тэрасы правага берага р. Беседзь, побач з гарадзішчам. Выявіў у 1980 г. А. А. Макушнікаў. Культурны пласт 0,1—0,2 м. У ім знойдзена ганчарная кераміка. Адносіцца да эпохі Кіеўскай Русі. Раскопкі не праводзіліся. Матэрыялы абследавання захоўваюцца ў Гомельскім абласным краязнаўчым музеі.

*Літ.:* Сведения 1873 г. о городищах и курганах.— Известия Археологической комиссии. СПб., 1903, в. 5; Романов Е. Р. Археологический очерк Гомельского уезда (Могилевской губернии).— Вильна, 1910; Макушников О. А. Разведки в Гомельском Посожье.— У кн.: Археологические открытия 1980 года. М., 1981.
*С. М. Васільева, А. А. Макушнікаў.*

**в. Казацкія Балсуны, Вялiканямкоўскі сельсавет**

**431. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ І САВЕЦКАГА ВОІНА** (гіст.). Каля школы. Пахаваны члены сем'яў партызан Хамякова, Балсуна і Максіменкі — 14 чалавек, пераважна дзеці, расстраляныя 27.1.1943 г. нямецка-фашысцкімі акупантамі, а таксама савецкі воін, які загінуў у Вялікую Айчынную вайну. У 1972 г. на ўшанаванне іх памяці на магіле пастаўлены абеліск.




**430а.** *Гарадзішча. План.*

**в. Малыя Нямкі, цэнтр сельсавета**

432. **КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 1,3 км на поўдзень ад вёскі, за 0,3 км на паўночны захад ад пасёлка Памяць. 2 насыпы вышынёй 1,2 і 1,4 м, дыяметрам 6 м. Вядомы з 1910 г., абследавала ў 1975 г. С. М. Васільева. Раскопкі не праводзіліся.

433. **ПАСЕЛІШЧА** (археал.). На паўночна-ўсходняй ускраіне вёскі, каля могілак. Выявіў у 1966 г. У. Дз. Будзько, абследавала ў 1975—76 гг. А. Г. Калечыц. Культурны пласт 0,1 м. Знойдзены крамянёвыя прылады працы і зброя: скрабкі, пласціны, скрэблы, праколкі, лістападобныя наканечнікі стрэл, адшчэпы, нуклеусы. Адносіцца да эпохі мезаліту, датуецца 8—5-м тысячагоддзямі да н. э. Матэрыялы абследавання захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

**в. Навасёлкі, Шарсцінскі сельсавет**

434. **БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны 697 воінаў, у т. л. воіны 17-й гвардзейскай кавалерыйскай дывізіі і 4-й стралковай дывізіі, якія загінулі ў верасні — кастрычніку 1943 г. ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1969 г. на магіле пастаўлены абеліск.

435. **БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На заходняй ускраіне вёскі, у садзе. Пахаваны 211 воінаў, у т. л. воіны 17-й гвардзейскай кавалерыйскай дывізіі і 4-й стралковай дывізіі, якія загінулі ў верасні — кастрычніку 1943 г. ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1953 г. на магіле пастаўлены абеліск.

436. **ГАРАДЗІШЧА, СЕЛІШЧА** (археал.).

**436а.** Гарадзішча. На паўднёвай ускраіне вёскі, на мысе, які ўтвораны шырокім ярам. Пляцоўка авальная, памерам 50×60 м. Валы і равы згладжаны, толькі ў паўночна-ўсходняй частцы прыкметна павышэнне да 0,3 м. Вядома з 1910 г., абследавала ў 1975 г. С. М. Васільева. Знойдзены ляпная кераміка, якая належала плямёнам штрыхаванай керамікі і мілаградскай культур, асобныя фрагменты керамікі адносяцца да эпохі бронзы. Раскопкі не праводзіліся. Матэрыялы абследавання захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.



**436а.** *Гарадзішча. План.*

**436б.** Селішча. На паўночна-ўсходняй ускраіне вёскі, на краі 4—7-метровай надпоймавай тэрасы правага берага р. Сож. Памер 200×60 м. Абследаваў у 1977 г. і 1980 г. А. А. Макушнікаў. З боку поймы культурны пласт 0,4—0,5 м. У ім знойдзены ляпная і ганчарная кераміка, абпаленыя камяні, глінянае грузіла, каменны брусок, бронзавы энкалпіён (крыжскладзень). Адносіцца да эпохі Кіеўскай Русі. Раскопкі не праводзіліся. Матэрыялы абследавання захоўваюцца ў Гомельскім абласным краязнаўчым музеі.

*Літ.:* Романов Е. Р. Археологический очерк Гомельского уезда (Могилевской губернии).— Вильна, 1910; Макушников О. А. Разведки в Гомельском Посожье.— У кн.: Археологические открытия 1980 года. М., 1981.

*С. М. Васільева, А. А. Макушнікаў.*

**в. Неглюбка, цэнтр сельсавета**

437. **БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны 5 воінаў 287-й стралковай дывізіі, якія загінулі ў верасні 1943 г. пры вызваленні вёскі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1959 г. на магіле пастаўлены абеліск.

438. **ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.) Каля будынка выканкома сельсавета. На ўшанаванне памяці 395 землякоў з Неглюбскага сельсавета, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1963 г. пастаўлены абеліск.

439. **ПОМНІК ЛЕНІНУ** Уладзіміру Ільічу (гіст.). У цэнтры вёскі. Бюст У. І. Леніна ўстаноўлены ў 1979 г.

440. **ЦЭНТР ТКАЦКАГА РАМЯСТВА** (гіст.). З сярэдзіны 19 ст. вёска вядома як цэнтр мастацкага ручнога ткацтва. Асаблівую вядомасць набылі традыцыйныя тканыя ручнікі з пераважна старадаўнім геаметрычным і геаметрычна-раслінным арнаментам. Узор гарызантальных арнаментальных палос складаецца з розных матываў («крывулі», «мядзведзь на жалудах», «павукі», «кучараўкі», «казлы», «рэдзькі», «лісты» і інш., да 25 назваў) і стварае кампазіцыйна цэласны арнамент, якім упрыгожваюцца канцы ручніка. Сярэдзіна запаўняецца вузкімі рытмічна размешчанымі палоскамі. Шчыльна затканы канец ручніка з 3 бакоў абшываецца кароткімі, у колер закладак, махрыкамі, часам аздабляецца вязанымі карункамі. Колеравая гама неглюбскіх ручнікоў яркая, найбольш пашыраны чырвоны, чорны і белы колеры. Тэхніка ткання закладная і пераборная. Памеры: даўжыня 350—500 см, шырыня 40—50 см, арнамент 80—140 см на кожным канцы.

У 1977 г. Гомельская фабрыка мастацкіх вырабаў адкрыла ў Неглюбцы ткацкі цэх. У вёсцы пры сярэдняй школе працуе гуртох «Юныя ткачыхі». Неглюбскія ручнікі экспанаваліся на выстаўках дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва ў краіне і за мяжой (Японія, Бельгія, Францыя, Канада, ЗША).

*Літ.:* Жабінская М. П. Мастацтва сяла Неглюбка.— Мн., 1976. *Дз. С. Трызна.*

**в. Новаіванаўка, Хізаўскі сельсавет**

441. **ГАРАДЗІШЧА** (археал.). За 2 км на поўдзень ад вёскі, ва ўрочышчы Гарадок, насупраць в. Беседзь, на мысе правага берага р. Беседзь. Гарадзішча з трох бакоў абмежавана поймай ракі. Даўжыня пляцоўкі 98 м, шырыня 18—52 м. У паўночнай частцы захаваліся 2 валы вышынёй да 2 м, шырынёй да 5 м, паміж імі прасочваецца роў глыбінёй да 3 м. У паўднёвай частцы — рэшткі 3 валаў вышынёй да 2 м, шырынёй да 4 м. Вядома з 1910 г., абследавала ў 1976 г. С. М. Васільева. Культурны пласт у агаленнях 0,3 м. У ім знойдзены фрагменты ляпной керамікі мілаградскай культуры.

Матэрыялы абследавання захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

*Літ.:* Романов Е. Р. Археологический очерк Гомельского уезда (Могилевской губернии).— Вильна, 1910.

*С. М. Васільева.*

**в. Новыя Грамыкі, цэнтр сельсавета**

442. **ГАРАДЗІШЧА, КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.).




**441.** *Гарадзішча. План.*

**442а.** Гарадзішча. За 1 км на поўнач ад вёскі, ва ўрочышчы Гарадок, на мысе карэннага левага берага р. Беседзь. Пляцоўка чатырохвугольнай формы, памерам 45×68 м, з паўднёвага і ўсходняга бакоў умацавана валам вышынёй да 4 м. У паўночнай частцы гарадзішча пляцоўка паніжаецца. Вядома з 1910 г. па звестках Е. Р. Раманава, абследавала ў 1975 г. С. М. Васільева. Культурны пласт у агаленнях да 0,4 м. Знойдзена вялікая колькасць ляпной керамікі. Раскопкі не праводзіліся.

**442б.** Могільнік. За 2 км на поўдзень ад вёскі, ва ўрочышчы Грамышчына ці Бугры, абапал дарогі на в. Барталамееўка. 4 насыпы вышынёй 1 і 1,7 м, дыяметрам 4 і 10 м. Вядомы з 1910 г., абследавала ў 1975 г. С. М. Васільева. Раскопкі не праводзіліся.

*Літ.:* Романов Е. Р. Археологический очерк Гомельского уезда (Могилевской губернии).— Вильна, 1910.

*С. М. Васільева.*

**443. ПАСЕЛІШЧЫ** (археал.).

**443а.** Паселішча-1. За 0,2 км на паўднёвы захад ад вёскі, на ўчастку першай надпоймавай тэрасы левага берага р. Беседзь, ва ўрочышчы Аўрамаў Бугор. Даследавала ў 1977—81 гг. А. Г. Калечыц. У час раскопак выяўлены рэшткі 2 паўзямлянак, якія размяшчаліся па адной лініі. Ніжнія часткі іх круглыя ў плане, дыяметрам больш за 2 м, заглыблены ў мацярык на 0,5 і 0,7 м. У цэнтры аднаго з жытлаў выяўлены сляды адкрытага агнішча і крамянёвыя вырабы: наканечнікі стрэл, скрабкі, разцы, нажападобныя пласціны з рэтушшу і без яе, нуклеусы і інш. Межы наземных частак жытлаў не вызначаны. Каля жытлаў знойдзена вялікая колькасць адкрытых агнішчаў. Адносіцца да позняга мезаліту (7—5-е тысячагоддзі да н. э.).




442. *Гарадзішча, курганны могільнік. Планы.*

**443б.** Паселішча-2. За 2 км на паўднёвы захад ад вёскі, ва ўрочышчы Грамышчына, каля левага берага р. Беседзь. Памер 200×100 м. Абследавала ў 1978—79 гг. А. Г. Калечыц. Культурны пласт 0,1 м. На паверхні сабрана многа крамянёвых прылад працы (нуклеусы, скрабкі, разцы, рэтушоры, наканечнікі стрэл і інш.), фрагменты ляпных пасудзін. Адносіцца да каменнага і бронзавага вякоў. Раскопкі не праводзіліся.

Матэрыялы раскопак і абследавання паселішчаў захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР. *А. Г. Калечыц.*

**в. Някрасава, Свяцілавіцкі сельсавет**

**444. КУРГАН** (археал.). На паўночнай ускраіне вёскі, ва ўрочышчы Курганне, каля абрыву карэннага правага берага р. Беседзь. Вышыня 1,5 м, дыяметр 8 м. Вядомы з 1873 г., абследавалі ў пачатку 20 ст. Е. Р. Раманаў, у 1975 г. С. М. Васільева.

**в. Папсуеўка, Сівінскі сельсавет**

**445. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. На ўшанаванне памяці 145 землякоў з вёсак калгаса «Пераможац», якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1968 г. пастаўлены помнік — 12-метровы абеліск, скульптура воіна і стэла з імёнамі загінуўшых.

**в. Пералёўка, Маланямкоўскі сельсавет**

**446. КУРГАН** (археал.). За 3 км на паўднёвы захад ад вёскі, ва ўрочышчы Сіні Вір, на левым беразе р. Беседзь. Вышыня 1,7 м, дыяметр 11 м. Адкрыў і абследаваў у 1910 г. Е. Р. Раманаў, абследавала ў 1975 г. С. М. Васільева.

**в. Петраполле, Навілаўскі сельсавет**

**447. ПАСЕЛІШЧА** (археал.). За 2 км на захад ад вёскі, ва ўрочышчы Негацень. Плошча каля 0,5 га. Адкрыў у 1926 г. К. М. Палікарповіч, даследавалі ў 1954 г. К. М. Палікарповіч і Я. Г. Краскоўская, у 1960 г. У. Дз. Будзько і І. М. Цюрына. Культурны пласт каля 0,2 м. Памер 100×50 м. Выяўлены фрагменты керамікі з грабеньчата-ямачным, лапчастым і кропкавым арнаментам. Сярод знаходак — крамянёвыя нажападобныя пласцінкі, наканечнікі стрэл, скрабкі, сякерападобныя прылады. Адносіцца да верхнедняпроўскай неалітычнай культуры, датуецца 3-м тысячагоддзем да н. э.

Матэрыялы раскопак захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР і Дзяржаўным музеі БССР.

*Літ.:* Палікарповіч К. М. Дагістарычныя стаянкі сярэдняга і ніжняга Сажа.— Запіскі аддзела гуманітарных навук, 1928, кн. 5, т. 1. *А. Г. Калечыц.*

**пас. Пралетарскі, Рэчкаўскі сельсавет**

**448. ПАСЕЛІШЧА** (археал.). За 3,2 км на паўночны захад ад пасёлка, на левым беразе р. Сож, за 0,2 км на паўднёвы ўсход ад рачнога паста Смедзін. Памерам 150×25 м. Выявіла ў 1976 г. і абследавала ў 1980 г. А. Г. Калечыц. У шурфах выяўлены культурны пласт 0,2—0,4 м. У ім знойдзены крамянёвыя прылады працы (разцы, скрабкі, нажападобныя пласціны, нуклеусы і інш.), ляпная кераміка. Адносіцца да эпохі неаліту і бронзавага веку. Раскопкі не праводзіліся.

Матэрыялы абследавання захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

**449. ПАСЕЛІШЧЫ, БЕСКУРГАННЫЯ МОГІЛЬНІКІ, КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.).

**449а.** Паселішча-1. За 0,2 км на поўдзень ад пасёлка, ва ўрочышчы Папова, на высокіх пясчаных дзюнах. Адкрыў у 1926 г. К. М. Палікарповіч, абследавалі ў 1965 г. І. І. Арцёменка, у 1976 г. А. Г. Калечыц. Знойдзены кераміка, упрыгожаная грабеньчатым, ямачным і лінейным арнаментам, крамянёвыя прылады працы (скрабкі, долатападобныя і сякерападобныя прылады, нуклеусы). Адносіцца да верхнедняпроўскай культуры неаліту, датуецца 3-м тысячагоддзем да н. э. Матэрыялы абследавання захоўваюцца ў Гомельскім абласным краязнаўчым музеі.

**449б.** Бескурганны могільнік-1. На паселішчы-1. Адкрыў у 1965 г. І. І. Арцёменка, даследаваў 3 магілы. Пахавальны абрад — трупаспаленне. У адной з іх знойдзены ляпная пасудзіна, 9 бурштынавых падвесак і меднае скроневае кольца. Помнік абследавала ў 1976 г. А. Г. Калечыц. Адносіцца да сярэднедняпроўскай культуры бронзавага веку, датуецца 2-м тысячагоддзем да н. э.

**449в.** Паселішча-2. За 1 км на захад ад пасёлка, ва ўрочышчы Курган, на задзернаваных дзюнах. Адкрыў у 1926 г. К. М. Палікарповіч, даследавалі ў 1965 г. І. І. Арцёменка,




449д. *Курганны могільнік. План.*

у 1976 г. А. Г. Калечыц. Культурны пласт у асобных месцах да 0,35 м. У ім знойдзена кераміка з грабеньчатым, ямачным, лапчастым і лінейным арнаментам. Адносіцца да верхнедняпроўскай культуры неаліту, датуецца 3-м тысячагоддзем да н. э.

**449г.** Бескурганны могільнік-2. На паселішчы-2. Адкрыў і даследаваў у 1965 г. І. І. Арцёменка. Раскапана адна магіла. Пахавальны абрад — трупаспаленне. Адносіцца да сярэднедняпроўскай культуры бронзавага веку, датуецца 2-м тысячагоддзем да н. э. Матэрыялы раскопак захоўваюцца ў Інстытуце археалогіі АН СССР і Інстытуце гісторыі АН БССР.

**449д.** Курганны могільнік. За 3 км на паўночны захад ад пасёлка, на левым беразе р. Сож, за 0,2 км на паўднёвы ўсход ад рачнога паста Смедзін. 28 насыпаў вышынёй 0,8—1,5 м, дыяметрам 5—12 м (адзін курган дыяметрам 15 м). Адкрыў і даследаваў у 1965 г. І. І. Арцёменка. Раскапаны адзін курган. У ім пустая магільная яма, рэшткі вогнішча, попел, ганчарная кераміка. Абследавала ў 1976 г. С. М. Васільева. Адносіцца да эпохі Кіеўскай Русі. Матэрыялы раскопак захоўваюцца ў Інстытуце археалогіі АН СССР.

*Літ.:* Палікарповіч К. М. Дагістарычныя стаянкі сярэдняга і ніжняга Сажа.— Запіскі аддзела гуманітарных навук, 1928, кн. 5, т. 1.

*С. М. Васільева, А. Г. Калечыц.*

**в. Прысно, цэнтр сельсавета**

**450. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). Каля школы. Пахаваны 172 воіны, у т. л. воіны 4-й стралковай дывізіі, якія загінулі ў 1943 г. ў баях за вызваленне вёскі і раёна ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1960 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна.

**451. ГАРАДЗІШЧЫ** (археал.).

**451а.** Гарадзішча-1. На паўночнай ускраіне вёскі, злева ад дарогі на пасёлак Аднаполле, на мысе. Пляцоўка трапецападобная, памерам 62×70 м, у паўночнай частцы вышыня каля 5 м. Вал разараны. Адкрыў у 1926 г. К. М. Палікарповіч, абследавалі ў 1936 г. А. М. Ляўданскі і А. Дз. Каваленя, у 1956 г. і 1957 г. В. М. Мельнікоўская, у 1975 г. С. М. Васільева. Культурны пласт у цэнтры пляцоўкі 0,1 м, у агаленні паўночнага схілу каля 0,9 м. Знойдзены абломкі ляпных гладкасценных гаршкоў і косці свойскіх жывёл. Адносіцца да мілаградскай культуры ранняга жалезнага веку, датуецца 7—3 стагоддзямі да н. э. Матэрыялы абследавання захоўваюцца ў Інстытуце археалогіі АН СССР і Інстытуце гісторыі АН БССР.

**451б.** Гарадзішча-2. Мясцовая назва Фомкін Рог. За 2,5 км на ўсход ад вёскі, ва ўрочышчы Барок,



**451а.** *Гарадзішча-1.*

на правым беразе р. Сож. Займае мысападобнае ўзвышша, з трох бакоў абкружанае поймай. Пляцоўка амаль прамавугольная, памерам 83×61 м, узвышаецца над поймай ракі на 8 м. З паўднёва-заходняга (напольнага) боку ўмацавана 2 валамі, паміж якімі прасочаны роў глыбінёй каля 1,5 м. Вышыня вонкавага вала 1,5 м, унутранага — каля 1 м. Адкрыў і абследаваў у 1926 г. К. М. Палікарповіч, абследавалі ў 1936 г. А. М. Ляўданскі і А. Дз. Каваленя, у 1956 г. В. М. Мельнікоўская, у 1975 г. С. М. Васільева. Раскопкі не праводзіліся.

*Літ.:* Палікарповіч К. М. Дагістарычныя стаянкі сярэдняга і ніжняга Сажа.— Запіскі аддзела гуманітарных навук, 1928, кн. 5, т. 1; Мельникoвская О. Н. Племена Южной Белоруссии в раннем железном веке.— М., 1967.

*С. М. Васільева.*

**452. ПАСЕЛІШЧЫ** (археал.).

**452а.** Паселішча-1. За 0,3 км на ўсход ад вёскі, ва ўрочышчы Бочачкі. Памерам 500×200 м. Адкрыў у 1926 г. К. М. Палікарповіч, абследавала ў 1974—77 гг. А. Г. Калечыц. Культурны пласт 0,1 м. Знойдзены крамянёвыя прылады працы і зброя (скрабкі, разцы, скоблі, наканечнікі стрэл і коп'яў, нуклеусы, адшчэпы, нажападобныя пласціны і інш.), рэшткі ляпной керамікі эпохі неаліту і бронзавага веку.

**452б.** Паселішча-2. За 1,5 км на ўсход ад вёскі, ва ўрочышчы Кашалапы, на невялікім узвышшы поймы правага берага р. Сож. Адкрыў у 1926 г. К. М. Палікарповіч, абследавала ў 1974—75 гг. А. Г. Калечыц. Культурны пласт 0,1 м. Знойдзены крамянёвыя прылады працы (скрабкі, нуклеусы, адшчэпы, нажападобныя пласціны) і фрагменты ляпной керамікі эпохі неаліту і бронзавага веку.

**452в.** Паселішча-3. За 1,5 км на паўночны ўсход ад вёскі, ва ўрочышчы Старое Аднаполле, на дзюнах. Памерам 700×300 м. Адкрыў у 1926 г. К. М. Палікарповіч, абследавала ў 1975—79 гг. А. Г. Калечыц. Культурны пласт 0,1 м. Знойдзены крамянёвыя прылады працы і зброя (разцы, вастрыі, скоблі, наканечнікі стрэл і коп'яў), ляпная кераміка сярэднедняпроўскай і сосніцкай культур бронзавага веку.

**452г.** Паселішча-4. За 0,3 км на паўночны ўсход ад вёскі, на невялікім узвышшы, сярод балота. Памерам 150×30 м. Адкрыў у 1926 г. К. М. Палікарповіч, абследавала ў 1975 г. А. Г. Калечыц. Культурны пласт 0,15 м. Знойдзены крамянёвыя прылады працы і ляпная кераміка бронзавага веку.

**452д.** Паселішча-5. За 0,3 км на поўдзень ад вёскі, на схіле вялікага астанца першай надпоймавай тэрасы правага берага р. Сож, ва ўрочышчы Сяльцо. Адкрыў у 1926 г. К. М. Палікарповіч, абследавала ў 1974—75 гг. А. Г. Калечыц. Культурны пласт 0,2 м. Знойдзены крамянёвыя прылады працы і ляпная кераміка эпохі неаліту.

Матэрыялы абследаванняў захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

*Літ.:* Палікарповіч К. М. Дагістарычныя стаянкі сярэдняга і ніжняга Сажа.— Запіскі аддзела гуманітарных навук, 1928, кн. 5, т. 1. *А. Г. Калечыц.*

**453. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля клуба. На ўшанаванне памяці 193 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1960 г. пастаўлена стэла.

**в. Пыхань, Данілавіцкі сельсавет**

**454. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). На ўскраіне вёскі. На ўшанаванне памяці 73 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1968 г. пастаўлена стэла.



**451б.** *Гарадзішча-2. План.*

**в. Радуга, цэнтр сельсавета**

**455. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ, ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі, каля будынка выканкома сельсавета. Пахаваны 249 воінаў, у т. л. воіны 96-й стралковай дывізіі, якія загінулі ў лістападзе 1943 г. ў баях за вызваленне раёна ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. Сярод пахаваных — Герой Савецкага Саюза Хутаранскі Анатоль Мікалаевіч.

А. М. Хутаранскі нарадзіўся 15.9.1919 г. ў г. п. Тамашпаль Вінніцкай вобл. Скончыў Краснадарскі інстытут замежных моў (1941 г.). На фронце з 1942 г. Камандзір танкавай роты старшы лейтэнант А. М. Хутаранскі вызначыўся пры фарсіраванні р. Сож і ў баі за плацдарм. 15.11. 1943 г. ён фарсіраваў раку, першым уварваўся ва ўмацаваны раён ворага, знішчыў 2 процітанкавыя гарматы, 3 дзоты, падавіў агонь 4 кулямётных кропак. Загінуў у баі 20.11.1943 г. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 26.4.1944 г. Навечна занесены ў спіс танкавага палка.

У Вялікую Айчынную вайну загінулі 207 жыхароў вёсак Радужскага сельсавета. Сярод іх — Герой Савецкага Саюза М. Р. Батракоў.

У 1953 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна. У 1975 г. на ўшанаванне памяці Герояў Савецкага Саюза А. М. Хутаранскага і М. Р. Батракова пастаўлены 2 стэлы, побач — пліты з імёнамі загінуўшых землякоў.

*Літ.:* Навечно в сердце народном.— 3 изд.— Мн., 1984. *М. Б. Батвінік.*

**456. ГАРАДЗІШЧА, СЕЛІШЧА** (археал.).

**456а.** Гарадзішча. За 1 км на паўднёвы ўсход ад вёскі, ва ўрочышчы Гарадок, на мысе, які ўтвораны 2 глыбокімі ярамі. Пляцоўка авальная памерам 29×32 м, з трох бакоў умацавана валам вышынёй каля 2 м, шырынёй 4 м. З боку поля прасочаны роў глыбінёй 1,5 м. Вядома з 1910 г., абследавалі ў 1936 г. А. М. Ляўданскі і А. Дз. Каваленя, у 1976 г. С. М. Васільева. Раскопкі не праводзіліся.

**456б.** Селішча. За 0,1 км на паўднёвы ўсход ад вёскі, на 10—15-метровай тэрасе правага берага р. Сож. Даўжыня 120—140 м, шырыня 40—50 м. Абмежавана 2 ярамі. Выявіў у 1978 г. і абследаваў у 1978—80 гг. А. А. Макушнікаў. Культурны пласт у агаленнях 0,1—0,2 м. У ім знойдзена ганчарная кераміка. Адносіцца да эпохі Кіеўскай Русі. Раскопкі не праводзіліся. Матэрыялы абследавання захоўваюцца ў Гомельскім абласным краязнаўчым музеі.

*Літ.:* Макушников О. А. Разведки в Гомельском Посожье.— У кн.: Археологические открытия 1980 года. М., 1981. *С. М. Васільева, А. А. Макушнікаў.*

**457. РАДЗІМА БАТРАКОВА** Міхаіла Рыгоравіча (гіст.).



455. *Помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў і землякам.*

Герой Савецкага Саюза М. Р. Батракоў нарадзіўся 5.8.1922 г. ў в. Радуга. Член КПСС з 1943 г. На фронце з 1941 г. У 1943 г. скончыў Майкопскае бранятанкавае вучылішча. Удзельнік баёў на Паўночным Каўказе, Кубані, Беларусі, у Літве і Усходняй Прусіі. Старшы лейтэнант М. Р. Батракоў вызначыўся пры вызваленні Прыбалтыкі. 26.7.1944 г. танкавая рота пад яго камандаваннем у цяжкім баі прарвала добра ўмацаваную абарону гітлераўцаў на правым беразе Нёмана каля Каўнаса, але ў варожым тыле шлях роце перагарадзілі 30 танкаў праціўніка. Савецкія танкісты адбілі 4 контратакі, знішчылі 14 танкаў, у т. л. 4 знішчыў экіпаж танка М. Р. Батракова. Загінуў 16.1.1945 г. ў баі на тэрыторыі Усходняй Прусіі, пахаваны ў г. Кібартай Літоўскай ССР. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 24.3. 1945 г. Імем М. Р. Батракова названа вуліца ў г. Ветка, на радзіме — сярэдняя школа, у памяць аб ім на брацкай магіле савецкіх воінаў пастаўлена стэла.

**в. Рудня-Шлягіна, Рэчкаўскі сельсавет**

**458. ПАСЕЛІШЧЫ, БЕСКУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.).



456а. *Гарадзішча. План.*

**458а.** Паселішча-1. За 1,5 км на паўднёвы захад ад вёскі, на схіле пясчанага ўзгорка памерам 300×350 м. Адкрыў у 1926 г., даследаваў у 1954 г. К. М. Палікарповіч, абследавала ў 1976 г. А. Г. Калечыц. Знойдзена ляпная кераміка, упрыгожаная грабеньчатым, ямачным і лапчастым арнаментам, крамянёвыя прылады працы і зброя (наканечнікі стрэл, скрабкі, нуклеусы і інш). Адносіцца да верхнедняпроўскай культуры неаліту, датуецца 3-м тысячагоддзем да н. э.

**458б.** Паселішча-2. За 2 км на поўдзень ад вёскі, на невысокім прадаўгаватым узгорку памерам 500×150 м, каля р. Сож. Адкрыў і даследаваў у 1926 г. К. М. Палікарповіч, даследавалі ў 1954 г. К. М. Палікарповіч і Я. Г. Краскоўская, у 1962—64 гг. І. І. Арцёменка і І. М. Цюрына. Ускрыта 1846 м². Культурны пласт 0,3—0,4 м. Знойдзены фрагменты посуду з грабеньчата-ямачным арнаментам, сякеры, скрабкі, нажы, наканечнікі стрэл. Адносіцца да верхнедняпроўскай культуры неаліту, датуецца 3-м тысячагоддзем да н. э.

Матэрыялы раскопак захоўваюцца ў Дзяржаўным музеі БССР і ў Інстытуце археалогіі АН СССР.

**458в.** Могільнік. На паселішчы-2. Адкрыў у 1926 г. К. М. Палікарповіч, даследавалі ў 1954 г. К. М. Палікарповіч і Я. Г. Краскоўская, у 1962—64 гг. І. І. Арцёменка і І. М. Цюрына. Даследаваны 94 пахаванні. Пахавальны абрад — трупаспаленне (толькі ў адной магільнай яме — трупапалажэнне). Знойдзены рэшткі посуду з шнуравым і наразным арнаментам, крамянёвыя прылады працы, наканечнікі стрэл, нажы, сякеры, бурштынавыя ўпрыгожанні. Адносіцца да сярэднедняпроўскай культуры бронзавага веку, датуецца 2-м тысячагоддзем да н. э.

Матэрыялы раскопак захоўваюцца ў Дзяржаўным музеі БССР, Інстытуце гісторыі АН БССР і Інстытуце археалогіі АН СССР.

*Літ.:* Палікарповіч К. М. Дагістарычныя стаянкі сярэдняга і ніжняга Сажа.— Запіскі аддзела гуманітарных навук, 1928, кн. 5, т. 1; Артеменко И. И. Племена Верхнего и Среднего Поднепровья в эпоху бронзы.— М., 1967.— (Материалы и исследования по археологии СССР; № 148). *А. Г. Калечыц.*

**в. Рэчкі, цэнтр сельсавета**

**459. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны 68 воінаў, у т. л. воіны 287-й стралковай дывізіі, якія загінулі ў 1943 г. ў баях за вызваленне раёна ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1953 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**460. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 66 воінаў, у т. л. воіны 287-й стралковай дывізіі, якія загінулі ў 1943 г. ў баях за вызваленне раёна



461. *Помнік землякам.*

ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1953 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**461. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля будынка выканкома сельсавета. На ўшанаванне памяці 287 воінаў, партызан і мірных жыхароў Рэчкаўскага сельсавета, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1975 г. пастаўлены помнік — скульптура жанчыны з вянком у руках і сцяна з імёнамі загінуўшых.



462. *Помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў.*

**в. Свяцілавічы, цэнтр сельсавета**

**462. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). Вул. Леніна, каля будынка універмага. Пахаваны 83 воіны, у т. л. воіны 197-й Бранскай і 287-й стралковых дывізій, якія загінулі ў 1943 г. ў баях за вызваленне вёскі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1953 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна.

**463. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАНА** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны 95 воінаў, у т. л. воіны 197-й Бранскай і 287-й стралковых дывізій, і партызан Гаўрыла Ільіч Клімовіч, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну.

Г. І. Клімовіч з ліпеня 1941 г. камандзір батальёна Гомельскага палка народнага апалчэння, з жніўня 1941 г. камандзір групы партыйна-савецкага актыву, якая ў верасні ўвайшла ў партызанскі атрад «Бальшавік». Загінуў у снежні 1941 г. ў баі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у в. Рудня-Стаўбунская.

У 1959 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптурная кампазіцыя: воін з дзяўчынкай.

*Літ.:* Партизанская криничка.— 2 изд.— Мн., 1972. *М. Б. Батвіннік.*

**464. БРАЦКАЯ МАГІЛА ЧЫРВОНЫХ ПАРТЫЗАН** (гіст.). На паўднёвай ускраіне вёскі, на правым беразе р. Беседзь, каля моста. У жніўні 1918 г. германскія акупанты расстралялі параненых у баі ў в. Піралёўка і ўзятых у палон 17 партызан. У 1947 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**465. ГАРАДЗІШЧА** (археал.). У цэнтры вёскі, ва ўрочышчы Гарадок, за 50 м ад моста, на высокім правым беразе р. Беседзь. Пляцоўка памерам 65×70 м па форме нагадвае чатырохвугольнік, абмежаваны валам вышынёй да 0,8 м. Роў згладжаны. Вядома з 1873 г., абследавалі ў пачатку 20 ст. Е. Р. Раманаў, у 1975 г. С. М. Васільева. Культурны пласт у абрыве берага ракі каля 1,2 м, у цэнтры пляцоўкі 0,3 м. Знойдзена ляпная кераміка. Гарадзішча адносіцца да зарубінецкай культуры ранняга жалезнага веку, датуецца 2 ст. да н. э.— 2 ст. н. э. Раскопкі не праводзіліся. Матэрыялы абследавання захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

*Літ.:* Сведения 1873 г. о городищах и курганах.— Известия Археологической комиссии. СПб., 1903, в. 5; Романов Е. Р. Археологический очерк Гомельского уезда (Могилевской губернии).— Вильна, 1910. *С. М. Васільева.*

**466. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля будынка канторы саўгаса «Свяцілавічы». На ўшанаванне памяці 294 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1968 г. пастаўлена стэла.

**467. ПОМНІК ЛЕНІНУ Уладзіміру Ільічу** (гіст.). У цэнтры вёскі. Скульптура У. І. Леніна ўстаноўлена ў 1969 г.

**в. Сівінка, цэнтр сельсавета**

**468. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На заходняй ускраіне вёскі, каля дарогі. Пахаваны 167 воінаў, у т. л. воіны 307-й і 399-й стралковых дывізій, 117-й танкавай брыгады 1-га танкавага корпуса, што загінулі ў 1943 г. ў баях за вызваленне раёна ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. Тут таксама пахаваны салдат 85-га асобнага пантонна-маставога батальёна І. Р. Педчанка, які адным з першых фарсіраваў р. Сож.




465. *Гарадзішча. План.*

У баі быў цяжка паранены і 22.11.1943 г. памёр. Яго імем названа вуліца ў Гомелі.

У 1968 г. на магіле пастаўлены абеліск. *М. Б. Батвіннік.*

**469. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. На ўшанаванне памяці 215 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1967 г. пастаўлена стэла.

**в. Старое Сяло, Хальчанскі сельсавет**

**470. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). У цэнтры вёскі, каля школы. Пахаваны 448 воінаў, у т. л. воіны 307-й стралковай дывізіі, якія загінулі ў 1943 г. ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў за пераправу цераз р. Сож. Сярод пахаваных — Герой Савецкага Саюза Нікіфар Ільіч Фенічаў.

Н. І. Фенічаў нарадзіўся 31.3.1912 г. ў г. Катаў-Іванаўск Чалябінскай вобл. ў сям'і рабочага. Да вайны працаваў рабочым на вагонабудаўнічым заводзе. На фронце з 1942 г. Камандзір стралковага аддзялення старшы сяржант Н. І. Фенічаў вызначыўся ў баях за вызваленне Веткаўскага р-на. 12—13.11.1943 г. адным з першых фарсіраваў р. Сож каля в. Старое Сяло, узяў у палон нямецкага афіцэра і захапіў радыёстанцыю праціўніка. Байцы аддзялення адбілі 2 контратакі ворага. Загінуў у баі 17.11.1943 г. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 15.1.1944 г.



471. *Помнік на магіле І. Я. Белякова.*



472. *Помнік землякам.*

У 1955 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна.

*Літ.:* Навечно в сердце народном.— 3 изд.— Мн., 1984. *М. Б. Батвіннік.*

**471. МАГІЛА БЕЛЯКОВА** Івана Яфімавіча (гіст.). У цэнтры вёскі. І. Я. Белякоў нарадзіўся ў 1896 г. ў в. Радуга. З 1929 г. працаваў старшынёй калгаса «Трэці рашаючы» ў гэтай вёсцы, потым старшынёй калгаса імя X з'езда Саветаў у в. Старое Сяло. Забіты ворагамі Савецкай улады ў 1935 г. У 1971 г. на магіле пастаўлены помнік — бюст І. Я. Белякова.

**472. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі, каля школы. На ўшанаванне памяці 245 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1967 г. пастаўлена стэла з барэльефнымі выявамі жанчыны, воіна і старога, побач — дошкі з імёнамі загінуўшых.

**473. СЕЛІШЧА** (археал.). За 0,3—0,4 км на паўднёвы захад ад вёскі, на краі 4—7-метровай надпоймавай тэрасы правага берага р. Сож, па дарозе ў пасёлак Залаты Рог. Выявіла ў канцы 1950-х гадоў В. М. Мельнікоўская, абследаваў у 1978—81 гг. А. А. Макушнікаў. Культурны пласт з боку поймы 0,1—0,3 м. У ім знойдзена ляпная кераміка. Адносіцца да 1-й палавіны 1-га тысячагоддзя н. э. Раскопкі не праводзіліся. Матэрыялы абследавання захоўваюцца ў Гомельскім абласным краязнаўчым музеі.

*Літ.:* Мельниковская О. Н. Племена Южной Белоруссии в раннем железном веке.— М., 1967; Макушников О. А. Разведки в Гомельском Посожье.— У кн.: Археологические открытия 1980 года. М., 1981. *А. А. Макушнікаў.*

**в. Старыя Грамыкі, Хізаўскі сельсавет**

**474. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК, СЕЛІШЧА** (археал.).

**474а.** Могільнік. За 0,3 км на паўднёвы захад ад вёскі, ва ўрочышчы Курганне, на правым беразе р. Бесядзь. 69 насыпаў вышынёй 0,5—2 м (4 насыпы вышынёй 2,5 м), дыяметрам 5—10 м (адзін насып дыяметрам 15 м). Абследавалі ў пачатку 20 ст. Е. Р. Раманаў, у 1975 г. С. М. Васільева. Раскопкі не праводзіліся.

**474б.** Селішча. На паўднёвай ускраіне вёскі, на правым беразе р. Бесядзь. Выцягнута ўздоўж берага ракі на 100—120 м. Абследаваў у 1980 г. А. А. Макушнікаў. Культурны пласт у абрывах каля 0,3 м. У ім знойдзена ганчарная кераміка. Селішча адносіцца да эпохі Кіеўскай Русі. Раскопкі не праводзіліся.

Матэрыялы абследавання захоўваюцца ў Гомельскім абласным краязнаўчым музеі.

*Літ.:* Макушников О. А. Разведки в Гомельском Посожье.— У кн.: Археологические открытия 1980 года. М., 1981. *С. М. Васільева, А. А. Макушнікаў.*

**в. Стаўбун, цэнтр сельсавета**

**475. МАГІЛА САВЕЦКАГА ВОІНА** (гіст.). На могілках. Пахаваны воін, які загінуў у баі ў жніўні 1941 г. У 1983 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Тарасаўка, цэнтр Калінінскага сельсавета**

**476. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны 408 воінаў, у т. л. воіны 307-й і 399-й стралковых дывізій, 117-й танкавай брыгады 1-га танкавага корпуса, якія загінулі ў 1943 г. ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1968 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна.

**в. Ухова, Рэчкаўскі сельсавет**

**477. ПАСЕЛІШЧЫ** (археал.).

**477а.** Паселішча-1. За 1 км на поўдзень ад вёскі, ва ўрочышчы Більдзюга, на левым беразе р. Сож. Памерам 100×30 м. Адкрыў у 1926 г. К. М. Палікарповіч, абследавала ў 1976 г. і 1980 г. А. Г. Калечыц. Культурны пласт 0,1 м. Знойдзены крамянёвыя прылады працы (скрабкі, пласціны, вастрыі, нуклеусы і інш.) і ляпная кераміка эпохі неаліту. Матэрыялы абследавання захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.



474а. *Курганны могільнік.*




474а. *Курганны могільнік. План.*

**477б.** Паселішча-2. За 0,5 км на паўднёвы захад ад вёскі, ва ўрочышчы Цыганскі Бугор. Памерам 200×80 м. Адкрыў у 1926 г. К. М. Палікарповіч, абследавала ў 1976—78 гг. А. Г. Калечыц. Культурны пласт каля 0,1 м. Знойдзены крамянёвыя прылады працы і рэшткі керамікі эпохі неаліту. Раскопкі не праводзіліся. Матэрыялы абследавання захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

*Літ.:* Палікарповіч К. М. Дагістарычныя стаянкі сярэдняга і ніжняга Сажа.— Запіскі аддзела гуманітарных навук, 1928, кн. 5, т. 1. *А. Г. Калечыц.*

**в. Хальч, цэнтр сельсавета**

**478. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). У цэнтры вёскі, у скверы. Пахаваны 363 воіны, у т. л. воіны 307-й і 250-й стралковых дывізій, якія загінулі ў 1943 г. ў баях за вызваленне раёна ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1953 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна і дошкі з імёнамі загінуўшых.

**479. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). У вёсцы, на правым беразе р. Сож. Пахаваны 340 воінаў, у т. л. воіны 307-й стралковай дывізіі, якія загінулі ў 1943 г. ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў пры фарсіраванні р. Сож і ўтрыманні плацдарма. У 1977 г. на магіле пастаўлены абеліск, 2 стэлы з надпісам-прысвячэннем і дошкі з імёнамі загінуўшых.

**480. ГАРАДЗІШЧА** (археал.). На ўсходняй ускраіне вёскі, на мысе 10—12-метровай тэрасы правага берага р. Сож. Пляцоўка пашкоджана ў пачатку 19 ст. ў час будаўніцтва ў цэнтральнай частцы гарадзішча палаца. Валы і равы не выяўлены. Абследавалі ў 1981 г. В. А. Літвінаў і С. Я. Расадзін. Культурны пласт 0,5 м, у многіх месцах перакапаны. У ім знойдзены рэшткі ляпной керамікі, абломкі ганчарнага посуду, фрагмент біканічнага арнаментаванага прасліца. Адносіцца да мілаградскай і зарубінецкай культур ранняга жалезнага веку і да эпохі Кіеўскай Русі. Раскопкі не праводзіліся. Матэрыялы абследавання захоўваюцца ў Гомельскім абласным краязнаўчым музеі.

*С. Я. Расадзін.*

**481. ГАРАДЗІШЧА, КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК, СЕЛІШЧА** (археал.).

**481а.** Гарадзішча. За 0,4 км на паўночны захад ад вёскі, ва ўрочышчы Зыбень, на мысе правага берага р. Сож. Пляцоўка памерам 35×30 м, выцягнута ў напрамку паўднёвы захад — паўночны ўсход, з заходняга боку абмежавана 2 глыбокімі ярамі, з поўдня — валам вышынёй да 2 м і ровам глыбінёй да 3—4 м. Абследаваў у 1981 г. А. А. Макушнікаў. Культурны пласт 0,2—1,0 м. У ім знойдзены рэшткі ляпнога посуду. Адносіцца да ранняга жалезнага веку, датуецца сярэдзінай — 3-й чвэрцю 1-га тысячагоддзя н. э. Раскопкі не праводзіліся. Матэрыялы абследавання захоўваюцца ў Гомельскім абласным краязнаўчым музеі.

**481б.** Могільнік. За 0,35 км на паўночны захад ад вёскі, каля ўсходняга краю гарадзішча. 5 насыпаў вышынёй 1—1,5 м, дыяметрам 8 м. Абследавалі ў пачатку 20 ст. Е. Р. Раманаў, у 1981 г. А. А. Макушнікаў. Раскопкі не праводзіліся.

**481в.** Селішча. За 0,5 км на поўдзень ад вёскі, на правым карэнным




478. *Помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў.*



479. *Помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў.*



482. *Помнік землякам.*

беразе р. Сож, ва ўрочышчы Сялецкі Роў. Выявіў і абследаваў у 1981 г. А. А. Макушнікаў. Культурны пласт у абрыве берага каля 0,5 м. У ім знойдзена ганчарная кераміка. Адносіцца да эпохі Кіеўскай Русі. Раскопкі не праводзіліся. Матэрыялы абследавання захоўваюцца ў Гомельскім абласным краязнаўчым музеі.

*Літ.:* Романов Е. Р. Археологический очерк Гомельского уезда (Могилевской губернии).— Вильна, 1910.

*А. А. Макушнікаў.*

**482. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля Дома культуры. На ўшанаванне памяці 200 аднавяскоўцаў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1971 г. пастаўлены помнік — скульптурная кампазіцыя: воіны, якія ідуць у бой, і стэла з імёнамі загінуўшых.

**483. СЯДЗІБА** (архіт.). На паўночны захад ад вёскі, на высокім правым беразе р. Сож. Пабудавана ў пачатку 19 ст. Уключае палац, пейзажны парк і гаспадарчыя пабудовы. Планіроўка ансамбля мае сіметрычна-восевую кампазіцыю: 2 аднапавярховыя флігелі з порцікамі на тарцах (не захаваліся) стваралі перад палацам курданёр з рэгулярна спланаваным партэрам. Гаспадарчыя пабудовы размешчаны ў баку ад палаца. Парк разбіты на паўднёвы захад ад палаца па схілах глыбокага яра.

Палац — кампактны, двухпавярховы, прамавугольны ў плане аб'ём, накрыты вальмавым дахам. Сіметрыю будынка парушае з усходняга боку аднапавярховая прыбудова з дадатковым уваходам. Цэнтральная частка галоўнага фасада вылучана шасцікалонным іанічным порцікам з трохвугольным драўляным франтонам. У цэнтры дваровага фасада паўкруглая тэраса з каланадаю на 1-м паверсе. 1-ы паверх мураваны, апрацаваны рустам, 2-і — драўляны, атынкаваны. Планіроўка калідорная. Парадныя памяшканні і галоўная зала на 2-м паверсе мелі выхады на балкон галоўнага фасада і паркавую тэрасу. У 1972—73 гг. палац рэстаўрыраваны. У ім размяшчаецца філіял Гомельскага абласнога краязнаўчага музея.

Сядзіба — тыповы прыклад сядзібнага будаўніцтва на Беларусі канца 18 — пачатку 19 ст., у ім увасоблены характэрныя рысы архітэктуры класіцызму.

*А. М. Кулагін.*

**в. Хізы, цэнтр сельсавета**

**484. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны 38 воінаў, у т. л. воіны 287-й стралковай дывізіі, якія загінулі ў 1943 г. ў баях за вызваленне раёна



483. *Сядзіба. Схема планіроўкі: 1 — палац; 2 — флігелі; 3 — гаспадарчыя пабудовы.*



483. *Сядзіба. Палац. Дваровы фасад.*



483. *Палац. План 1-га паверха.*



483. *Сядзіба. Палац. Галоўны фасад.*



483. *Сядзіба. Парк.*



487а. *Гарадзішча.*

ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1953 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**485. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 1,2 км на захад ад вёскі, ва ўрочышчы Дзеднае, у лесе. 10 насыпаў вышынёй 0,8—1,5 м, дыяметрам 6—10 м. Адкрыў і абследаваў у пачатку 20 ст. Е. Р. Раманаў, абследавала ў 1975 г. С. М. Васільева. Раскопкі не праводзіліся.

**пасёлак Чамярня,**
**Свяцілавіцкі сельсавет**

**486. БЕСКУРГАННЫ МОГІЛЬНІК, СЕЛІШЧА** (археал.).

**486а.** Могільнік. За 0,4 км на паўночны ўсход ад пасёлка, на левым беразе р. Беседзь, ва ўрочышчы Прыстань. Выявіў і абследаваў у 1981 г. А. А. Макушнікаў. У агаленнях знойдзены рэшткі ям з пахавальным абрадам трупаспалення, аплаўленая бронзавая спіраль. Адносіцца да позняга этапа зарубінецкай культуры, датуецца 1-й чвэрцю 1-га тысячагоддзя н. э. Раскопкі не праводзіліся. Матэрыялы абследавання захоўваюцца ў Гомельскім абласным краязнаўчым музеі.

**486б.** Селішча. На месцы могільніка. Абследаваў у 1981 г. А. А. Макушнікаў. Культурны пласт у агаленнях дзюннага ўзвышша 0,2—0,3 м. У ім знойдзены рэшткі грубай ляпной керамікі. Адносіцца да позняга этапа зарубінецкай культуры, датуецца 1-й чвэрцю 1-га тысячагоддзя н. э. Раскопкі не праводзіліся. Матэрыялы абследавання захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР і ў Гомельскім абласным краязнаўчым музеі.

*А. А. Макушнікаў.*

**487. ГАРАДЗІШЧА, КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.).

**487а.** Гарадзішча. За 0,4 км на поўнач ад пасёлка, ва ўрочышчы Каменная Гара, на мысе высокага правага берага р. Беседзь. Пляцоўка паўавальнай формы, памерам 21×22 м, вышыня над поймай каля 21 м. Умацавана падкованадобным валам з паўднёвага, заходняга і паўночнага бакоў. З усходняга боку прасочваецца круты схіл да поймы р. Беседзь. Вядома з 1873 г., абследавалі ў пачатку 20 ст. Е. Р. Раманаў, у 1975 г. С. М. Васільева. Раскопкі не праводзіліся.

**487б.** Курганны могільнік. За 0,2 км на поўнач ад пасёлка, справа ад дарогі Свяцілавічы — Вялікія Нямкі. 19 курганоў вышынёй 0,7—2 м, дыяметрам 3—10 м. Вядомы з 1873 г., даследаваў у пачатку 20 ст. Е. Р. Раманаў, абследавала ў 1975 г. С. М. Васільева. Пахавальны абрад — трупапалажэнне. Знойдзены пацеркі і арабскія манеты 10 ст. Належаў радзімічам. Матэрыялы даследавання захоўваюцца ў Дзяржаўным гістарычным музеі ў Маскве.

*Літ.:* Сведения 1873 г. о городищах и курганах.— Известия Археологической комиссии. СПб., 1903, в. 5; Романов Е. Р. Археологический очерк Гомельского уезда (Могилевской губернии).— Вильна, 1910.

*С. М. Васільева.*

**в. Шарсцін, цэнтр сельсавета**

**488. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На паўночна-ўсходняй ускраіне вёскі, у садзе. Пахаваны 588 воінаў, у т. л. воіны 307-й стралковай дывізіі, якія загінулі ў кастрычніку — лістападзе 1943 г. ў баях за вызваленне раёна ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1975 г. на магіле пастаўлены абеліск.



487б. *Курганны могільнік.*




487б. *Курганны могільнік. План.*



489. *Помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў і землякам.*

**489. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ, ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны 388 воінаў, у т. л. воіны 307-й стралковай дывізіі, што загінулі ў кастрычніку — лістападзе 1943 г. ў баях за вызваленне в. Шарсцін і навакольных вёсак ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1975 г. на ўшанаванне памяці воінаў і 278 аднавяскоўцаў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна ў жалобе, надмагілле, стэла з надпісам-прысвячэннем і дошкі з імёнамі загінуўшых землякоў.

**490. ГАРАДЗІШЧА, СЕЛІШЧЫ** (археал.).

**490а.** Гарадзішча. За 1 км на паўночны захад ад вёскі, ва ўрочышчы Гарадзішча, на мысе, які ўтвораны 2 ярамі. Пляцоўка прамавугольнай формы, памерам 72×80 м, вышыня над поймай каля 10 м. Па краі ўмацавана валам вышынёй 2 м, шырынёй да 4 м. Вядома з 1910 г., абследавалі ў 1926 г. К. М. Палікарповіч, у 1936 г. А. М. Ляўданскі і А. Дз. Каваленя, у 1956 г. В. М. Мельнікоўская, у 1975 г. С. М. Васільева. Культурны пласт 0,2 м. Знойдзена ляпная кераміка. Гарадзішча адносіцца да мілаградскай культуры ранняга жалезнага веку, датуецца 7—3 стагоддзямі да н. э. Матэрыялы абследавання за-



487а. *Гарадзішча. План.*

хоўваюцца ў Інстытуце археалогіі АН СССР.

**490б.** Селішча-1. За 0,4 км на паўночны захад ад вёскі, на краі 10—12-метровай надпоймавай тэрасы правага берага р. Сож. Абследаваў у 1980 г. А. А. Макушнікаў. Памерам 200×60 м. Культурны пласт 0,2—0,3 м. У ім знойдзены ляпная і ганчарная кераміка, жалезны нож і глінянае прасліца. Адносіцца да культуры тыпу верхняга пласта Банцараўшчыны (6—8 стагоддзі) і да эпохі Кіеўскай Русі. Раскопкі не праводзіліся. Матэрыялы абследавання захоўваюцца ў Гомельскім абласным краязнаўчым музеі.

**490в.** Селішча-2. За 0,5 км на поўнач ад заходняй ускраіны вёскі, ва ўрочышчы Барок, на краі астанца першай надпоймавай тэрасы правага берага р. Сож. Памерам 250×70 м. Выявіў у 1926 г. К. М. Палікарповіч, абследавалі ў 1979—81 гг. А. І. Драбушэўскі і А. А. Макушнікаў. Культурны пласт у агаленнях 0,2—0,4 м. У ім знойдзена грубая ляпная неарнаментаваная кераміка, у т. л. з расчосамі. Адносіцца да ранняга жалезнага веку. Раскопкі не праводзіліся. Матэрыялы абследавання захоўваюцца ў Гомельскім абласным краязнаўчым музеі.

**490г.** Селішча-3. На паўночна-ўсходняй ускраіне вёскі, на правым беразе р. Сож. Памерам 300×100 м. Абследаваў у 1981 г. А. А. Макушнікаў. Культурны пласт 0,2—0,3 м. У ім знойдзена ляпная і ганчарная кераміка. Адносіцца да ранняга жалезнага веку і да эпохі Кіеўскай Русі. Раскопкі не праводзіліся. Матэрыялы абследавання захоўваюцца ў Гомельскім абласным краязнаўчым музеі.

*Літ.:* Палікарповіч К. М. Дагістарычныя стаянкі сярэдняга і ніжняга Сажа.— Запіскі аддзела гуманітарных навук, 1928, кн. 5, т. 1; Макушников О. А. Разведки в Гомельском Посожье.— У кн.: Археологические открытия 1980 года. М., 1981; Романов Е. Р. Археологический очерк Гомельского уезда (Могилевской губернии).— Вильна, 1910.

*С. М. Васільева, А. А. Макушнікаў.*

**491. ПАСЕЛІШЧА** (археал.). За 0,3 км на ўсход ад вёскі, на дзюнах першай надпоймавай тэрасы правага берага р. Сож. Памерам 200×15 м. Выявіў у 1926 г. К. М. Палікарповіч, абследавала ў 1978—79 гг. А. Г. Калечыц. Культурны пласт 0,1 м. Знойдзены крамянёвыя прылады працы (скрабкі, вастрыі, нуклеусы, адшчэпы, пласціны) і фрагменты керамікі. Адносіцца да эпохі неаліту. Матэрыялы абследавання захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

# ГОМЕЛЬСКІ РАЁН




Бальшавін
Лапаціна
Насцюкоўка
Аздзелін
Цярэнічы
Рудня-Целяшоўская
Яроміна
Пакалюбічы
Целяшы
Стар. Беліца
Краснае
Урыцкае
ГОМЕЛЬ
Прыбар
Давыдаўка
Улукаўе
Сеўрукі
Чонкі
Бабовічы
Цагельня
Зябраўка
Клімаўка
Прыбыткі
Чкалава
Стар. Цярэшкавічы
Калініна
Даўгалессе
Міхалькі
Пясочная Буда
Стар. Дзятлавічы
Церуха
Рудня-Марымонава
Нов. Дзятлавічы
Грабаўка
Макаўе
Пракопаўка
Шарпілаўка
Чарацянка
Маркавічы
Глыбоцкае

Цэнтр раёна

Цэнтры сельсаветаў

Стаянкі, паселішчы, гарадзішчы

Могільнікі (грунтавыя, курганныя), курганы

Помнікі гаспадарчай дзейнасці, прамысловая архітэктура, гідратэхнічныя збудаванні

дасавецкага перыяду

савецкага перыяду

Помнікі і месцы рэвалюцыйнага руху (Рэвалюцыя 1905–07 гг., Вялікая Кастрычніцкая сацыялістычная рэвалюцыя, Грамадзянская вайна, барацьба працоўных Заходняй Беларусі)

Помнікі і месцы воінскай славы

Помнікі і памятныя месцы Вялікай Айчыннай вайны (месцы баёў, магілы савецкіх воінаў і партызан, Курганы Славы, помнікі землянкам і інш.)

Помнікі ахвярам фашызму (месцы канцлагераў і лагераў смерці, месцы масавай загубы насельніцтва, спаленыя і неадноўленыя вёскі і інш.)

 Помнікі і месцы, звязаныя з імёнамі савецкіх партыйных, дзяржаўных і гаспадарчых дзеячаў, дзеячаў культуры, навукі і тэхнікі

 Палацы, сядзібы, асабнякі

Жылыя дамы, забудова вуліц

 дасавецкага перыяду

  савецкага перыяду

 Культавая архітэктура

Адміністрацыйныя і грамадскія збудаванні

 дасавецкага перыяду

  савецкага перыяду

 Паркі і садова-паркавыя збудаванні

**в. Аздзелін, цэнтр сельсавета**

**492. ГАРАДЗІШЧА** (археал.). За 2 км на захад ад вёскі, на правым беразе р. Уза. Пляцоўка круглая, дыяметрам 32 м, абкружана балотам, умацаванняў не мае. Вядома з 1873 г. Абследаваў у 1981 г. У. У. Багамольнікаў. Раскопкі не праводзіліся.

**пас. Аляксееўка, Старабеліцкі сельсавет**

**493. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). У цэнтры пасёлка. Пахаваны 14 жыхароў, закатаваных нямецка-фашысцкімі захопнікамі 13.9.1943 г. У 1959 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Асаўцы, Давыдаўскі сельсавет**

**494. СЕЛІШЧА** (археал.). Паміж вёскай і пас. Нікольскі. Плошча каля 1 га. Выявіў і даследаваў у 1925 г. К. М. Палікарповіч. Знойдзены гладкасценная кераміка і рэшткі посуду з арнаментам у выглядзе круглых ямак. Абследаваў у 1975 г. Л. Д. Побаль. Адносіцца да мілаградскай (7—3 стагоддзі да н. э.) і зарубінецкай (2 ст. да н. э.— 5 ст. н. э.) культур ранняга жалезнага веку.

Матэрыялы раскопак захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

**в. Бабовічы, цэнтр сельсавета**

**495. ГАРАДЗІШЧА** (археал.). За 4 км на паўднёвы ўсход ад вёскі, у пойме левага берага р. Сож ва ўрочышчы Кравянец. Пляцоўка памерам 65×70 м умацавана 2 кальцавыміваламі вышынёй каля 2 м. Вядома з 1910 г., абследавалі ў пачатку 20 ст. Е. Р. Раманаў, у 1936 г. А. М. Ляўданскі і А. Дз. Каваленя, у 1976 г. У. У. Багамольнікаў. Раскопкі не праводзіліся.

**496. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі, на скрыжаванні вуліц Пралетарскай і Сялянскай. На ўшанаванне памяці 219 аднавяскоўцаў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1969 г. пастаўлены помнік — стэла з гарэльефнай выявай воіна і пліта з імёнамі загінуўшых.

**497. СЕЛІШЧА** (археал.). За 0,5—0,7 км на паўночны захад ад вёскі, на першай надпоймавай тэрасе правага берага р. Уза, каля могілак. Абследаваў у 1981 г. А. А. Макушнікаў. Культурны пласт 0,1—0,3 м прасочаны ў агаленнях тэрасы. Знойдзены рэшткі ганчарнага посуду і кавалак жалезнага нажа. Адносіцца да эпохі Кіеўскай Русі. Раскопкі не праводзіліся. Матэрыялы абследавання захоўваюцца ў Гомельскім абласным краязнаўчым музеі. *А. А. Макушнікаў.*

**рабочы пасёлак Бальшавік, цэнтр пасялковага Савета**

**498. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 25 воінаў, якія загінулі ў лістападзе 1943 г. пры вызваленні раёна ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1956 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**499. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля будынка выканкома пасялковага Савета. На ўшанаванне памяці 175 землякоў, якія загінулі ў Айчынную вайну ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў, у 1974 г. пастаўлены абеліск, побач з ім — стэла.

**пас. Барэц, Цярэшкавіцкі сельсавет**

**500. МЕСЦА БАЗІРАВАННЯ ГОМЕЛЬСКАГА ПАДПОЛЬНАГА ГАРКОМА КП(б)Б І ПАРТЫЗАНСКАГА АТРАДА «БАЛЬШАВІК»** (гіст.). За 3 км на паўднёвы ўсход ад пасёлка, ва ўрочышчы Партызанская Крынічка.

Гомельскі гарком КП(б)Б створаны 19.8.1941 г. Сакратары: Е. І. Барыкін (19.8.1941 г.— 17.11.1943 г.), С. Ф. Антонаў (19.8.1941 г.— 12.3.1943 г.), А. М. Балхавіцін (12.3—26.7.1943 г.). Падпольны гарком КП(б)Б вёў палітычную і арганізацыйную работу сярод насельніцтва, узначальваў камуністычнае падполле і партызанскі рух. Дзейнічаў да 17.11.1943 г.

Партызанскі атрад «Бальшавік» сфарміраваны з партыйна-савецкага актыву Гомеля 17 жніўня 1941 г. Камандзіры атрада: І. С. Федасеенка, І. Ф. Гамарка, П. І. Цэнібрычанка, камісары С. Ф. Антонаў, Е. І. Барыкін, А. М. Балхавіцін, В. М. Паляніčка, Г. Н. Эркін. У верасні 1941 г. атрад «Бальшавік» аб'яднаўся з Навабеліцкім атрадам, у маі 1942 г.— з Гомельскім сельскім атрадам. Да 20.10.1943 г.— асобна дзейны атрад Гомельскага партызанскага злучэння. Вёў баявую дзейнасць на шашэйных дарогах Гомель — Чарнігаў, Гомель — Рэчыца, Гомель — Чонкі. Толькі за перыяд з 19.8 да 10.11.1941 г. партызаны ўзарвалі каля 30 аўтамашын, знішчылі 350 гітлераўцаў, спалілі 2 чыгуначныя масты на дарозе Гомель — Рэчыца і вывелі са строю некалькі кіламетраў тэлеграфна-тэлефоннай лініі. 12.7.1942 г. група партызан на чале з Е. І. Барыкіным падарвала варожы эшалон з жывой сілай і баявой тэхнікай ворага паміж станцыямі Зябраўка і Паранёўка. 31.12.1942 г. атрад «Бальшавік» сумесна з Лоеўскім атрадам «За Радзіму» разграміў у Лоеве варожы гарнізон. Партызаны праводзілі дыверсіі на чыгуначных і шашэйных дарогах Гомель — Калінкавічы, Гомель — Жлобін. У ліпені — жніўні 1943 г. падарвалі 42 варожыя эшалоны, у баях знішчылі больш за 40 аўтамашын, у Навабеліцы падарвалі склад боепрыпасаў і гаручага. Самастойна і з іншымі партызанскімі фарміраваннямі разграмілі гарнізоны ворага ў вёсках Асінаўка, Рудня-Барталамееўская, Будзішча, Валосавічы, Палессе Чачэрскага, Казацкія Балсуны, Пералёўка Свяцілавіцкага, Баршчоўка Лоеўскага, Узнаж Васілевіцкага, Якімаўка Гомельскага р-наў. У кастрычніку 1943 г. на базе атрада створана партызанская брыгада «Бальшавік». У лістападзе 1943 г. разам з брыгадамі «Жалязняк», імя П. К. Панамарэнкі і атрадам 108-м імя Р. І. Катоўскага напала на варожы гарнізон у в. Горваль Рэчыцкага р-на і захапіла калону аўтамашын. Разам з часцямі Чырвонай Арміі вялі баі каля в. Баравікі і чыгуначнай станцыі Шацілкі.

23.11.1943 г. брыгада ў складзе 3 атрадаў — «Бальшавік», «Патрыёт Радзімы», імя Чкалава (531 партызан) злучылася з Чырвонай Арміяй. Камандзіру дыверсійнай групы Ф. П. Котчанку і сакратару Гомельскага падпольнага гаркома ЛКСМБ падрыўніку атрада «Бальшавік» А. Л. Ісачанку прысвоена званне Героя Савецкага Саюза.

У 1967 г. ў гонар дзейнасці Гомельскага падпольнага гаркома КП(б)Б і партызанскага атрада «Бальшавік» пастаўлена стэла.



500. *Помнік у гонар Гомельскага падпольнага гаркома КП(б)Б і партызанскага атрада «Бальшавік».*

*Літ.:* Партизанская криничка.— 2 изд.— Мн., 1972; Из истории партизанского движения в Белоруссии (1941—1944 годы).— Мн., 1961; Подпольные партийные органы Компартии Белоруссии в годы Великой Отечественной войны (1941—1944).— Мн., 1975. *Т. Р. Чуракова.*

**пас. Баштан, Грабаўскі сельсавет**

**501. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 6 воінаў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1970 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**502. ПОМНІК МАЯКОЎСКАМУ** Уладзіміру Уладзіміравічу (гіст.). У цэнтры вёскі. Бюст У. У. Маякоўскага ўстаноўлены ў 1975 г.



505. *Помнік на месцы спаленай вёскі.*

**пас. Будзілка, Прыбыткаўскі сельсавет**

**503. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На паўночна-ўсходняй ускраіне вёскі. Пахаваны 287 воінаў, якія загінулі восенню 1943 г. ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1949 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Васілева, Даўгалескі сельсавет**

**504. ГАРАДЗІШЧА** (археал.). За 0,18 км на захад ад вёскі. Пляцоўка трохвугольная (105×55×105 м), умацавана кальцавым валам, вышынёй 1—1,5 м. Выявіў і абследаваў у 1962 г. Л. Д. Побаль, абследаваў у 1976 г. У. У. Багамольнікаў. Раскопкі не праводзіліся.

**в. Вясёлае Поле (не існуе), Урыцкі сельсавет**

**505. МЕСЦА СПАЛЕНАЙ ВЁСКІ** (гіст.). Вёска Вясёлае Поле знаходзілася за 1,5 км на паўднёвы захад ад в. Урыцкае. 2.11.1943 г. ў яе ўварваліся на 2 танках нямецка-фашысцкія карнікі. Яны абрабавалі жыхароў і спалілі вёску (45 двароў). 14 жыхароў прымусілі босымі прайсці па вогнішчу, пасля гэтага загналі іх у лазню, кінулі туды гранату, аблілі будынак бензінам і падпалілі. Вёска не адрадзілася. У 1977 г. на месцы яе пастаўлена стэла. *Т. Р. Чуракова.*

**в. Гадзічава, Маркавіцкі сельсавет**

**506. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны 19 воінаў, якія загінулі ў жніўні 1941 г. ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1957 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**507. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Насупраць клуба, у скверы. На ўшанаванне памяці 98 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў, у 1968 г. пастаўлена стэла.

**508. СЕЛІШЧА** (археал.). За 2,5 км на захад ад вёскі. Займае край першай надпоймавай тэрасы правага берага р. Нямыльня (левы прыток р. Сож). Месцамі назіраюцца заплавіны глыбінёй каля 0,8—1,0 м ад сучаснай паверхні. Выявіў і абследаваў у 1981 г. А. А. Макушнікаў. У абрыве ўздоўж ракі прасочваецца культурны пласт 0,2—0,3 м з ляпной і ганчарнай керамікай. Адносіцца да культуры тыпу верхняга пласта Банцараўшчыны і да эпохі Кіеўскай Русі. Матэрыялы абследавання захоўваюцца ў Гомельскім абласным краязнаўчым музеі. *А. А. Макушнікаў.*

**509. ЦАРКВА** (архіт.). У цэнтры вёскі. Пабудавана ў 1-й палавіне 19 ст. з цэглы.

Мае цэнтрычную аб'ёмна-прасторавую кампазіцыю. Квадратны ў плане асноўны аб'ём прарэзаны 3 восевымі ўваходамі з галоўнага і бакавых фасадаў. Уваходы вылучаны аднолькавымі чатырохкалоннымі порцікамі тасканскага ордэра. Дах царквы ступеньчаты, завершаны шматгранным шатром. Пластычнае вырашэнне фасадаў стрыманае. Атынкаваныя плоскасці сцен прарэзаны аконнымі праёмамі ў 2 ярусы, падзелены ў цэнтральнай частцы тонкім паяском і завершаны прафіляваным карнізам з сухарыкамі. Пояс і карніз праходзяць па ўсім перыметры будынка. Інтэр'ер зальны. Драўляная столь апіраецца на 4 слупы з магутнымі падпружнымі аркамі, якія вылучаюць цэнтральную прастору залы.

Царква — помнік архітэктуры з элементамі класіцызму. *С. Г. Багласаў.*



509. *Царква.*



509. *Царква. План.*



510. *Помнік на магіле ахвяр фашызму.*

**в. Галееўка, Старабеліцкі сельсавет**

**510. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). На паўднёвай ускраіне вёскі. Пахаваны 78 мірных жыхароў вёсак Галееўка і Аляксееўка, якіх 13.9. 1943 г. спалілі нямецка-фашысцкія захопнікі. У 1976 г. на магіле пастаўлены 2 стэлы, на адной з іх рэльефная выява жанчыны ў жалобе.

**в. Глыбоцкае, цэнтр сельсавета**

**511. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны 7 воінаў, якія загінулі 27.9. 1943 г. ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1957 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**512. ГАРАДЗІШЧА** (археал.). За 0,5 км на захад ад вёскі, на беразе балота Струпаў. Пляцоўка дыяметрам 20 м. Вядома з 1873 г., абследавалі ў 1910 г. Е. Р. Раманаў, у 1976 г. У. У. Багамольнікаў. Як паведамляў Е. Р. Раманаў, пры сельскагаспадарчых работах на пляцоўцы сяляне знайшлі скарб арабскіх дырхемаў дынастыі Саманідаў 895—910 гг. (77 манет захоўваюцца ў Эрмітажы). Раскопкі не праводзіліся.

*Літ.:* Романов Е. Р. Археологический очерк Гомельского уезда (Могилевской губернии).— Вильна, 1910.

**513. ЦАРКВА РАСТВА БАГАРОДЗІЦЫ** (архіт.). У цэнтральнай частцы вёскі. Пабудавана ў 1881 г. з дрэва.

Мае крыжападобную ў плане сіметрычную кампазіцыю, якая складаецца з асноўнага аб'ёму і прылеглых да яго крылаў трансепта і бабінца, злучанага са званіцай. Чатырох'ярусная з купалам званіца фарміруе галоўны заходні фасад царквы. Асноўны аб'ём квадратны ў плане, з высокім васьмігранным барабанам і купалам. У афармленні фасадаў выкарыстаны гарызантальная шалёўка, тонкія разныя паясы, прафіляваныя карнізы, пілястры і ліштвы. Прасторавым цэнтрам інтэр'ера з'яўляецца высокі асноўны аб'ём, у які раскрываюцца бабінец і бакавыя памяшканні. Сцены ашаляваныя, падлога драўляная. Барабан і купал асноўнага аб'ёму дэкарыраваны жывапісам.



513. *Царква Раства багародзіцы.*



513. *Царква Раства багародзіцы. План.*

Царква — помнік драўлянага дойлідства з элементамі псеўдарускага стылю. *С. Г. Багласаў.*

**514. ЦАРКОЎНАПРЫХОДСКАЯ ШКОЛА** (архіт.). На заходняй ускраіне вёскі. Пабудавана ў канцы 19 ст. з цэглы. Цяпер выкарыстоўваецца для гаспадарчых патрэб.

Будынак аднапавярховы, прамавугольны ў плане, накрыты вальмавым дахам. Цэнтральны ўваход вылучаны рызалітам са ступеньчатым атыкам.



514. *Царкоўнапрыходская школа. План.*

Сцены прарэзаны вялікімі лучковымі праёмамі. Дэкаратыўныя элементы фасадаў — абрамленне акон, раскрапоўка атыка і карніз. Унутраная планіроўка сіметрычная. Калідор падзяляе аб'ём на 2 класы.

Школа — помнік грамадзянскай архітэктуры. *С. Г. Багласаў.*

**в. Грабаўка, цэнтр сельсавета**

**515. ПАРК** (архіт.). На поўнач ад вёскі. Закладзены ў 2-й палавіне 19 ст.

Асноўная частка парку — яблыневы сад. Доўгая ліпавая алея падзяляе яго на 2 часткі: заходнюю і ўсходнюю. Заходняя таксама падзелена ліпавымі алеямі на прамавугольныя ўчасткі. На адным з іх — аднапавярховы драўляны сядзібны дом (цяпер перабудаваны). Каля яго захавалася частка пейзажнага парку: група маляўнічых палянак, засаджаных дрэвамі. На тэрыторыі заходняй часткі знаходзіцца старажытны курган.

Прыклад эканамічных паркаў Беларусі.

**516. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля школы. На ўшанаванне памяці 32 аднавяскоўцаў, якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у Вялікую Айчынную вайну, у 1970 г. пастаўлены абеліск.

**в. Даўгалессе, цэнтр сельсавета**

**517. МАГІЛА САВЕЦКІХ АКТЫВІСТАЎ І ВОІНА** (гіст.). На могілках. Пахаваны 4 савецкія актывісты, расстраляныя нямецка-фашысцкімі захопнікамі ў 1941 г., і савецкі афіцэр, які загінуў у Вялікую Айчынную вайну. У 1969 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**пас. Дубавец, Даўгалескі сельсавет**

**518. ПОМНІК ДЭСАНТНІКАМ** (гіст.). На паўночна-заходняй ускраіне вёскі. У жніўні 1942 г. з Вялікай зямлі ў тыл ворага ў раёне в. Дубавец быў скінуты дэсант (3 медыцынскія работнікі) для партызанскіх атрадаў, якія дзейнічалі на тэрыторыі Гомельскага р-на. Дэсантнікі былі захоплены нямецка-фашысцкімі акупантамі і расстраляны. У 1976 г. на месцы іх гібелі пастаўлена стэла.

**в. Зябраўка, цэнтр сельсавета**

**519. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля школы. На ўшанаванне памяці 140 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1962 г. пастаўлены помнік — скульптура воіна.

**520. ПОМНІК ЦАРЫКАВУ** Барысу Андрэевічу (гіст.). Каля школы. На ўшанаванне памяці Героя Савецкага Саюза Б. А. Царыкава, які вызначыўся ў баях пры вызваленні Гомельшчыны ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў, у 1966 г. пастаўлены помнік — паплечны бюст героя. Гл. таксама ар-



515. *Куток парку.*



515. *Парк. План: 1 — сядзібны дом; 2 — курган; 3 — яблыневы сад.*



515. *Сядзібны дом.*

тыкул № 1191 «Брацкая магіла савецкіх воінаў і партызан» (Лоеўскі р-н).

**пас. Ільіч, Улукаўскі сельсавет**

**521. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). За 3,5 км на паўночны ўсход ад вёскі, ва ўрочышчы Баравая. Пахаваны 49 воінаў, якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у Вялікую Айчынную вайну. У 1973 г. на магіле пастаўлена стэла.

**522. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК, СЕЛІШЧЫ** (археал.).

**522а.** Могільнік. За 5 км на поўнач ад пасёлка, ва ўрочышчы Баравая (Баравое), на першай надпоймавай тэрасе левага берага р. Сож. 20 насыпаў вышынёй 0,5—1,5 м, дыяметрам 8—10 м. Выявіў у 1980 г. А. А. Макушнікаў. Раскопкі не праводзіліся.

**522б.** Селішча-1. На заходняй ускраіне вёскі, на краі першай надпоймавай тэрасы левага берага р. Сож. Шырыня селішча (паводле знаходак) 40 м. Выявіў у 1977 г. і абследаваў у 1980 г. А. А. Макушнікаў. Культурны пласт 0,15 м прасочаны ў абрывах тэрасы на працягу 100 м уздоўж берага. Знойдзены абломкі ляпнога посуду, абпаленыя камяні. Селішча адносіцца да позняга этапа зарубінецкай культуры. Датуецца 2—5 стагоддзямі н. э.

**522в.** Селішча-2. За 1 км на поўдзень ад вёскі, ва ўрочышчы Гарэлы (Глыбокі) Алёс, на мысе правага берага невялікага ручая (перасыхае), які ўпадае ў Сож. Выявіў і абследаваў у 1980 г. А. А. Макушнікаў. Культурны пласт 0,1 м прасочаны на ўчастку поля памерам 100×50 м. Знойдзены рэшткі ганчарнай керамікі эпохі Кіеўскай Русі.

Матэрыялы абследавання селішчаў захоўваюцца ў Гомельскім абласным краязнаўчым музеі. *А. А. Макушнікаў.*

**523. РАДЗІМА СЕМЯНЦОВА** Міхаіла Іванавіча (гіст.).

Герой Савецкага Саюза М. І. Семянцоў нарадзіўся 26.9.1917 г. ў сям'і рабочага. Член КПСС з 1942 г. Працаваў на чыгунцы ў Гомелі рабочым. З 1938 г. ў Чырвонай Арміі, у 1940 г. скончыў Адэскую ваенна-авіяцыйную школу пілотаў. З 1941 г. на франтах Вялікай Айчыннай вайны, удзельнік баёў у Данбасе, на Каўказе, Курскай Дузе, Украіне, у Польшчы, Германіі. Намеснік камандзіра эскадрыллі знішчальнага авіяпалка гвардыі старшы лейтэнант М. І. Семянцоў з чэрвеня 1941 г. да ліпеня 1943 г. зрабіў 270 баявых вылетаў, удзельнічаў у 69 паветраных баях, асабіста збіў 12, у складзе групы — 9 самалётаў праціўніка. Тараніў варожыя самалёты ў канцы 1942 г. каля г. Эліста і ў час наступлення на Кіеў у 1943 г. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 28.9.1943 г. Загінуў у баі 12.2.1945 г. Яго імем названа вуліца ў пасёлку.

*Літ.:* Навечно в сердце народном.— 3 изд.— Мн., 1984.

**524. СТАЯНКІ** (археал.).

**524а.** Стаянка-1. За 0,8 км ад вёскі, ва ўрочышчы Гарэлы (Глыбокі) Алёс. Памер 50×70 м. Выявіў і абследаваў у 1979 г. Ю. У. Абадэнка. У культурным пласце 0,1 м знойдзены крамянёвыя прылады працы: нажападобныя пласціны, скрабкі, разцы, адшчэпы з рэтушшу, тронкавыя наканечнікі стрэл і інш.

**524б.** Стаянка-2. На паўднёва-заходняй ускраіне вёскі, на 10—12-метровай тэрасе р. Сож. Памер 30×50 м. Выявіў і абследаваў у 1979 г. Ю. У. Абадэнка. Культурны пласт 0,15 м. Сабрана 548 крамянёвых вырабаў, аналагічных крамянёваму інвентару стаянкі-1.

**524в.** Стаянка-3. За 1,2 км на поўдзень ад вёскі, на правым схіле ўрочышча Гарэлы (Глыбокі) Алёс, на мысе левага берага р. Сож. Памер 40×100 м. Выявіў і абследаваў у 1979 г. Ю. У. Абадэнка. Культурны пласт 0,15 м. Сабраны крамянёвыя прылады працы, блізкія да інвентару стаянак 1 і 2.

**524г.** Стаянка-4. За 0,4 км на паўднёвы захад ад вёскі. Памер 20×40 м. Выявіў і абследаваў у 1979 г. Ю. У. Абадэнка. Культурны пласт 0,1 м. Знойдзены крамянёвыя нажападобныя пласціны, скрабкі, разцы, вастры, адшчэпы з рэтушшу і інш. Стаянкі датуюцца 8—5-м тысячагоддзямі да н. э., адносяцца да эпохі мезаліту.

Матэрыялы абследавання захоўваюцца ў Гомельскім абласным краязнаўчым музеі.

**пас. Калінаўка, Целяшоўскі сельсавет**

**525. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 0,5 км на ўсход ад пасёлка ва ўрочышчы Сіянск, побач з урочышчам Латышы. Захаваліся 25 курганоў вышынёй 0,5—2,5 м, дыяметрам 4—16 м. Вядомы з 1873 г., абследаваў у пачатку 20 ст. Е. Р. Раманаў. У 1977 г. У. У. Багамольнікаў раскапаў 7 насыпаў. 2 курганы былі пустыя, у 4 пахавальны абрад трупапалажэнне на гарызонце, на попельнавугальнай праслойцы галавою на захад, у адным — на ўсход. Рэчы былі толькі ў 2 курганах: у адным бронзавае паясное кольца, у другім — 2 бронзавыя пацеркі (цыліндрычная малінападобная і эліпсоідная з імітацыяй зерні). Могільнік датуецца 10—12 стагоддзямі, належаў радзімічам.



525. *Курганны могільнік. План.*

Матэрыялы раскопак захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

*Літ.:* Романов Е. Р. Археологический очерк Гомельского уезда (Могилевской губернии).— Вильна, 1910; Древности железного века в междуречье Десны и Днепра.— М., 1962.— (Свод археологических источников; в. Д1-12).

*У. У. Багамольнікаў.*

**526. СЕЛІШЧА** (археал.). За 0,3 км на паўночны ўсход ад пасёлка, на правым беразе р. Уза. Пашкоджаны кар'ерам. Выявіў у 1979 г. А. І. Драбушэўскі, абследаваў у 1981 г. А. А. Макушнікаў. Культурны пласт 0,1—0,3 м. Знойдзены гліняныя праслíцы, рэшткі ляпнога і ганчарнага посуду. Адносіцца да 3-й чвэрці 1-га тысячагоддзя н. э. і да эпохі Кіеўскай Русі. Раскопкі не праводзіліся. Матэрыялы абследавання захоўваюцца ў Гомельскім абласным краязнаўчым музеі.

*А. А. Макушнікаў.*

**пас. Калініна, Цярэшкавіцкі сельсавет**

**527. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На паўднёва-заходняй ускраіне пасёлка, злева ад дарогі Гомель — Чарнігаў. Пахаваны 373 воіны 29-га стралковага корпуса 11-й арміі Беларускага фронту, якія загінулі ў лістападзе 1943 г. ў баях пры вызваленні Гомельшчыны ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. Сярод пахаваных — Герой Савецкага Саюза Міхаіл Міхайлавіч Куюкаў.

М. М. Куюкаў нарадзіўся 5.11.1924 г. ў с. Стара-Абашава Новакузнецкага р-на Кемераўскай вобл. З сялян. Член ВЛКСМ. У Вялікую Айчынную вайну на фронце з 1942 г. Кулямётчык радавы М. М. Куюкаў вызначыўся пры вызваленні Гомельшчыны. 30.9.1943 г. ў баі за в. Скіток адбіў 3 контратакі праціўніка, цяжка паранены працягваў бой. Калі выйшаў са строю кулямёт, вёў агонь з аўтамата. Быў акружаны гітлераўцамі. Каб не трапіць да ворага жывым, застрэліўся. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 15.1.1944 г.

У 1958 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна.

*Літ.:* Навечно в сердце народном.— 3 изд.— Мн., 1984. *Т. Р. Чуракова.*

**528. ПАСЕЛІШЧА** (археал.). За 0,3 км на паўднёвы ўсход ад пасёлка, ва

урочышчы Чурылава. Выявіла і абследавала ў 1975 г. А. Г. Калечыц. Культурны пласт 0,1—0,2 м, часткова пашкоджаны кар'ерам. Знойдзены нуклеусы, скрабкі, сякерападобныя прылады, наканечнікі стрэл і коп'яў, рэтушоры, адшчэпы, пласціны, рэшткі ляпнога посуду эпохі неаліту і бронзавага веку.

Матэрыялы абследавання захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР. *А. Г. Калечыц.*

**в. Кантакузаўка, Зябраўскі сельсавет**

**529. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 4 воіны, якія загінулі ў 1943 г. пры вызваленні вёскі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1968 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна.

**530. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 5 мірных жыхароў вёскі, якіх расстралялі нямецка-фашысцкія захопнікі ў жніўні 1941 г. У 1967 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Каранеўка, Зябраўскі сельсавет**

**531. СЯДЗІБНЫ ДОМ** («паляўнічы домік»; архіт.). На паўднёвай ускраіне вёскі. Пабудаваны ў 2-й палавіне 19 ст. з цэглы.

Дом стаіць на невялікім адасобленым участку, які абмежаваны алеямі і засаджаны дрэвамі. Перад галоўным фасадам — прамавугольная сажалка. Будынак двухпавярховы, прамавугольны ў плане, з цэнтральным рызалітам, накрыты вальмавым дахам. Рызаліт завершаны трохвугольным франтонам і па вуглах аздоблены рустам. Франтон дэкарыраваны арачнай нішай, дзе знаходзіўся фамільны герб. Аконныя праёмы 2-га паверха рызаліта значна вышэйшыя, аздоблены ліштвамі. Мастацкую выразнасць будынку надае кантраст чырвоных неатынкаваных сцен і белых афарбаваных дэкаратыўных дэталей. Сілуэт будынка ўзбагачаюць 2 высокія фігурныя коміны. Пачатковая анфіладная планіроўка не захавалася.

Сядзібны дом — помнік архітэктуры рамантычнага кірунку. *С. Г. Багласаў.*

**в. Касцюкоўка, Яромінскі сельсавет**

**532. РАДЗІМА ГАЎРЫЛЕНКІ** Паўла Нічыпаравіча (гіст.).

Беларускі савецкі жывапісец П. Н.



531. *Сядзібны дом («паляўнічы домік»). План 1-га паверха.*



539. *Помнік падпольшчыкам.*

Гаўрыленка нарадзіўся 15.2.1902 г. ў сялянскай сям'і. Член КПСС з 1927 г. Служыў у Чырвонай Арміі. Скончыў Віцебскі мастацкі тэхнікум (1930 г., вучань В. Руцая). Адзін з арганізатараў аб'яднання моладзі Асацыяцыі мастакоў рэвалюцыі ў Віцебску (1928—30 гг.). З 1930 г. ў Мінску. У 1933—36 гг. старшыня аргкамітэта, у 1956—61 гг. старшыня праўлення Саюза мастакоў БССР. У Вялікую Айчынную вайну з 1941 г. на фронце. З 1942 г. начальнік аддзела выяўленчага мастацтва Упраўлення па справах мастацтва пры СНК БССР. У выстаўках удзельнічаў з 1927 г. Працаваў у жанрах сюжэтна-тэматычнай карціны і пейзажу. Сярод работ палотны на тэмы: сацыялістычнага будаўніцтва — «Калгасная брыгада» (1931 г.), «Будоўля» (1932 г.), «Разгрузка Аршанскага элеватара» (1933 г.); гісторыка-рэвалюцыйных падзей на Беларусі — «Разбраенне карнілаўцаў. Гомель. 1917 г.» (1940 г.); гераічнай барацьбы беларускага народа з нямецка-фашысцкімі захопнікамі ў Вялікую Айчынную вайну — «Прарыў нямецкай абароны» (1942 г.), «Вяртанне партызан з аперацыі», «Партрэт хлопчыка-партызана» (1943 г.), «Партызаны на Палессі» (1944 г.), «Пераправа» (1947 г.), «Фарсіраванне ракі» (1948 г.), «На партызанскім аэрадроме» (1950 г.); працоўных будняў горада і вёскі — «Збор яблыкаў» (1949 г.), «Малацьба» (1950 г.), «Узорванне новых земляў» (1952 г.), «Ідзе эшалон» (1957 г.), «Вясна» (1958 г.), «На рыштаваннях» (1960 г.). Пісаў пейзажы: «Завадзь» (1946 г.). «Алея ў садзе» (1949 г.), «Возера Нарач» (1951 г.), «Мокры луг» (1960 г.). Галоўны мастак па афармленню інтэр'ера павільёна БССР на ВДНГ СССР у Маскве. Дэпутат Вярхоўнага Савета БССР у 1951—55 гг.

Памёр П. Н. Гаўрыленка 4.2.1961 г. Пахаваны ў Мінску на Усходніх могілках.

*Літ.:* Аладава А. В., П. Н. Гаўрыленка.— Мн., 1963; Орлова М. А. Искусство Советской Белоруссии.— М., 1960; Художники народов СССР: Биобиблиогр. словарь. Т. 2.— М., 1972. *Г. М. Ярмоленка.*

**в. Клімаўка, Прыбыткаўскі сельсавет**

**533. ГАРАДЗІШЧА** (археал.). За 0,4 км на ўсход ад вёскі, на беразе р. Вуць, левага прытока р. Сож. Пляцоўка авальная памерам 30×20 м, умацаванняў не мае. Вядома з 1910 г., абследаваў у пачатку 20 ст. Е. Р. Раманаў, у 1976 г. У. У. Багамольнікаў. Раскопкі не праводзіліся.

**534. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля клуба. На ўшанаванне памяці 224 землякоў з вёсак Клімаўка, Калініна, Каравышань, Цагельня, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1968 г. пастаўлена стэла.

**в. Краснае, цэнтр сельсавета**

**535. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). У скверы, каля будынка праўлення калгаса «Перамога». Пахаваны 258 воінаў і 5 партызан, якія загінулі восенню 1943 г. ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1959 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна.

**в. Лапаціна, Пакалюбіцкі сельсавет**

**536. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля школы. На ўшанаванне памяці 174 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў, у 1967 г. пастаўлены помнік — скульптурная кампазіцыя: воін і жанчына.

**в. Маркавічы, цэнтр сельсавета**

**537. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На паўночна-ўсходняй ускраіне вёскі, у скверы. Пахаваны 39 воінаў, якія загінулі восенню 1943 г. ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1958 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна.

**538. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля клуба. На ўшанаванне памяці 162 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў, у 1968 г. пастаўлены абеліск.

**в. Міхалькі, Даўгалескі сельсавет**

**539. ПОМНІК ПАДПОЛЬШЧЫКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі, каля канторы саўгаса «Мірны». У Вялікую Айчынную вайну ў вёсцы дзейнічала (жнівень 1941 г.— чэрвень 1942 г.) камуністычнае падполле, групы пад кіраўніцтвам Ц. Ф. Марозава, М. Я. Мацвеенкі і К. В. Бурага. Падпольшчыкі падтрымлівалі сувязь з Гомельскім камуністычным падполлем, здабывалі для партызан разведданыя, перадавалі ім зброю, боепрыпасы, прадукты харчавання, дакументы, распаўсюджвалі сярод насельніцтва зводкі Саўінфарм-



545. *Помнік у гонар абаронцаў Гомеля.*

бюро, расклейвалі лістоўкі. Патрыёты спалілі 11 мастоў, падарвалі аўтамашыну, знішчылі лінію тэлефоннай сувязі па працягу 12 км, 11 гітлераўцаў. У 1943 г. нямецка-фашысцкія захопнікі арыштавалі і закатавалі 20 падпольшчыкаў.

У 1977 г. на ўшанаванне памяці загінуўшых установлены помнік — на круглым стылабаце пілон з скульптурнымі выявамі юнака і дзяўчыны і вянком у завяршэнні. *Т. Р. Чуракова.*

**в. Новыя Цярэшкавічы, Цярэшкавіцкі сельсавет**

**540. ГАРАДЗІШЧА** (археал.). За 0,7 км на ўсход ад вёскі, на правым беразе р. Церуха, у месцы ўпадзення яе ў р. Сож. Пляцоўка авальная, памерам 80×40 м, умацавання не мае. Вядома з 1910 г., абследавалі ў пачатку 20 ст. Е. Р. Раманаў, у 1975 г. У. У. Багамольнікаў. Раскопкі не праводзіліся.

**пас. Пабеда, Улукаўскі сельсавет**

**541. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На ўсходняй ускраіне пасёлка, справа ад дарогі Гомель — Добруш. Пахаваны 161 воін, якія загінулі ў 1943 г. ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1965 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна.

**в. Пакалюбічы, цэнтр сельсавета**

**542. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны 491 воін, якія загінулі 26.11. 1943 г. пры вызваленні вёскі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. Сярод пахаваных — воіны 4-й і 217-й стралковых дывізій 11-й арміі Беларускага фронту, 6 лётчыкаў і 6 паветраных стралкоў 217-га і 231-га штурмавых авіяпалкоў 16-й паветранай арміі. У 1959 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна.

**543. ГАРАДЗІШЧА** (археал.). За 2 км на захад ад вёскі, на высокай тэрасе правага берага р. Сож, у месцы ўпадзення ў яе р. Хоўхля. Пляцоўка памерам 170×75 м умацавана кальцавым валам вышынёй каля 2 м. Вядома з 1873 г., абследавалі ў пачатку 20 ст. Е. Р. Раманаў, у 1956 г. В. М. Мельнікоўская, даследавалі ў 1936 г. А. М. Ляўданскі і А. Дз. Каваленя. У культурным пласце 0,6 м знойдзены грубаляпная кераміка, камяні, гліна, косці жывёл. Абследаваў у 1981 г. С. Я. Расадзін. Датуецца 2 ст. да н. э.— 2 ст. н. э., адносіцца да зарубінецкай культуры.

Матэрыялы раскопак захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

*Літ.:* Сведения 1873 г. о городищах и курганах.— Известия Археологической комиссии. СПб., 1903, в. 5; Романов Е. Р. Археологический очерк Гомельского уезда (Могилевской губернии).— Вильна, 1910. *У. Дз. Будзько.*

**544. МЕСЦА ЗАГУБЫ АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). За 0,2 км ад клуба калгаса імя У. І. Леніна. Тут 6.11. 1941 г. нямецка-фашысцкія захопнікі расстралялі 11 мірных жыхароў вёскі. На ўшанаванне іх памяці ў 1959 г. пастаўлена стэла.

**545. ПОМНІК АБАРОНЦАМ ГОМЕЛЯ** (гіст.). Каля будынка школы. З 13 да 19.8.1941 г. войскі 21-й арміі (генерал-лейтэнант М. Р. Яфрэмаў) Цэнтральнага фронту сумесна з 3 батальёнамі палка народнага апалчэння (больш за 2300 чалавек; камандзір Ф. Я. Уткін, камісар С. Р. Шчуцкі) вялі жорсткія баі з 2-й нямецкай арміяй, якая штурмавала горад. 18.8.1941 г. полк народнага апалчэння заняў абарону каля вёсак Сямёнаўка і Пакалюбічы, якія па некалькі разоў пераходзілі з рук у рукі. У час адной з варожых атак быў смяротна паранены камандзір Ф. Я. Уткін. 19 жніўня пры падтрымцы танкаў і самалётаў нямецкія войскі прарваліся ў горад, пачаліся вулічныя баі. У ноч на 20 жніўня абаронцы пакінулі Гомель.

У 1961 г. ў гонар абаронцаў Гомеля пастаўлена стэла. Гл. таксама артыкул № 51 «Магіла гомельскіх апалчэнцаў і магіла Барадзіна Цімафея Сцяпанавіча».

*Літ.:* Андрющенко Н. К. Народное ополчение Белоруссии.— Мн., 1980. *Т. Р. Чуракова.*

**546. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У скверы. На ўшанаванне памяці 294 землякоў, якія загінулі на франтах Вялікай Айчыннай вайны, у 1967 г. пастаўлены помнік — скульптурная кампазіцыя: воін і жанчына, а таксама пліта з імёнамі загінуўшых.

**547. ПОМНІК ЛЕНІНУ** Уладзіміру Ільічу (гіст.). У цэнтры вёскі, каля



546. *Помнік землякам.*

будынка праўлення калгаса імя У. І. Леніна. Бюст У. І. Леніна ўстаноўлены ў 1977 г.

**пас. Плёсы, Пакалюбіцкі сельсавет**

**548. СТАЯНКІ** (археал.).

**548а.** Стаянка-1. За 1,5 км на поўнач ад вёскі, на першай надпоймавай тэрасе правага берага р. Сож, каля меліярацыйнага канала. Памер 30×50 м. Выявіў у 1973 г. і абследаваў у 1979 г. Ю. У. Абадэнка. У культурным пласце 0,15 м знойдзены крамянёвыя скрэбла, скрабкі, разцы і інш. Адносіцца да эпохі мезаліту. Датуецца 8—5 стагоддзямі да н. э.

**548б.** Стаянка-2. За 2 км на поўдзень ад вёскі, на правым беразе р. Сож, побач з вадазборным каналам. Памер 15×80 м. Выявіў у 1973 г. і абследаваў у 1979 г. Ю. У. Абадэнка. На ўчастку першай надпоймавай тэрасы прасочаны культурны пласт 0,1 м. Знойдзены крамянёвыя наканечнікі стрэл, скрабкі, разцы, скоблі, вастрыі, мікраліты, прылады, якімі секлі фрагменты ляпной керамікі. Адносіцца да эпохі неаліту, датуецца 5—3-м тысячагоддзямі да н. э.

Матэрыялы абследавання захоўваюцца ў Гомельскім абласным краязнаўчым музеі.

**в. Пракопаўка, Чарацянскі сельсавет**

**549. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). У скверы, каля школы. Пахаваны 56 воінаў, якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у верасні 1943 г. У 1958 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна з аўтаматам.

**в. Прудок, Пакалюбіцкі сельсавет**

**550. ГАРАДЗІШЧА** (археал.). За 2 км на поўнач ад вёскі, на правым беразе р. Сож. Вышыня над поймай каля 10 м. Пляцоўка памерам 100×50 м была ўмацавана валам і ровам (не захаваліся). Выявіў у 1910 г. Е. Р.

Раманаў, даследавалі ў 1936 г. А. М. Ляўданскі і А. Дз. Каваленя. У культурным пласце 0,6 м знойдзена ляпная кераміка ранняга жалезнага веку. Матэрыялы даследавання захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

**в. Прыбар, цэнтр сельсавета**

**551. ГАРАДЗІШЧА** (археал.). Мясцовая назва Гарадок. Насупраць вёскі, на левым беразе р. Уза, на краі тэрасы. Пляцоўка авальная, памерам 40×25 м моцна пашкоджана. З паўднёвага боку захаваліся рэшткі вала вышынёй 0,7—1 м. Абследаваў у 1981 г. С. Я. Расадзін. У шурфе 2×1 м культурны пласт 0,5 м. У ім знойдзены рэшткі ляпнога і ганчарнага посуду, перапаленыя камяні. У агаленнях культурны пласт моцна насычаны рэшткамі ляпной керамікі. Гарадзішча адносіцца да мілаградскай і зарубінецкай культур ранняга жалезнага веку і да эпохі Кіеўскай Русі. Раскопкі не праводзіліся. *С. Я. Расадзін.*

**в. Прыбыткі, цэнтр сельсавета**

**552. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля будынка выканкома сельсавета. На ўшанаванне памяці 83 землякоў, якія загінулі на франтах Вялікай Айчыннай вайны, у 1966 г. пастаўлена стэла.

**в. Пясочная Буда, Грабаўскі сельсавет**

**553. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны 73 воіны, якія загінулі ў 1941—43 гг. у баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. Сярод пахаваных — экіпаж самалёта 54-га бамбардзіровачнага палка (камандзір падпалкоўнік М. А. Крыўцоў, штурман маёр І. І. Сомаў, стралок-радыст старшына М. А. Паўлаў), які 12.1. 1944 г. паўтарыў подзвіг М. Гастэлы — накіраваў ахоплены агнём самалёт на вялікую колькасць эшалонаў праціўніка на чыгуначнай станцыі Калінкавічы.

У 1959 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна. *Т. Р. Чуракова.*

**554. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На паўночна-заходняй ускраіне вёскі. Пахаваны 100 воінаў, якія загінулі ў верасні 1943 г. пры вызваленні вёскі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1959 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Рагі Ілецкія, Маркавіцкі сельсавет**

**555. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. На ўшанаванне памяці 32 аднавяскоўцаў, якія загінулі на франтах і ў партызанскай барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у Вялікую Айчынную вайну, у 1968 г. пастаўлены абеліск.

**в. Раманавічы, Улукаўскі сельсавет**

**556. ПАСЕЛІШЧА** (археал.). За 0,5 км на ўсход ад вёскі, ва ўрочышчы Селішча, на дзюнах правага берага р. Іпуць. Выявіў у 1890 г. М. Ф. Беляшэўскі, абследавалі ў 1924 г. К. М. Палікарповіч і А. В. Кротаў, у 1957—58 гг. І. І. Арцёменка; даследавалі ў 1962—63 гг. І. В. Гаўрылава, у 1976 г. А. Г. Калечыц. У культурным пласце 0,15—0,2 м знойдзены рэшткі агнішчаў, ляпная кераміка з грабеньчатым, лапчастым, ямачным, шнуравым і лінейным арнаментамі. Сярод крамянёвага інвентару — ромбападобныя і трохвугольныя наканечнікі стрэл, ножападобныя пласцінкі, скрабкі, скрэблы, разцы, сякерападобныя прылады. Помнік адносіцца да верхнедняпроўскай (неаліт), сярэднедняпроўскай і сосніцкай культур (бронзавы век), датуецца 3—2-м тысячагоддзямі да н. э. Матэрыялы раскопак захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР і Інстытуце археалогіі АН СССР.

*Літ.:* Беляшевский Н. Ф. Несколько новых стоянок каменного века по Днепру и его притокам.— Киевская старина, 1891, т. 32, № 3; Палікарповіч К. М. Дагістарычныя стаянкі сярэдняга і ніжняга Сажа.— Запіскі аддзела гуманітарных навук, 1928, кн. 5, т. 1; Гаврилова И. В. Дюнная стоянка Романовичи.— У кн.: Краткие сообщения о докладах и полевых исследованиях Ин-та археологии. М., 1964, в. 97. *А. Г. Калечыц.*

**557. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі, у скверы. На ўшанаванне памяці 238 землякоў, якія загінулі на франтах Вялікай Айчыннай вайны, у 1971 г. пастаўлены абеліск, абапал яго — стэлы з імёнамі загінуўшых.

**в. Рудня-Марымонава, цэнтр сельсавета**

**558. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На паўднёвай ускраіне вёскі. Пахаваны 136 воінаў, якія загінулі ў 1943 г. ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1958 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**559. ГАРАДЗІШЧА, СЕЛІШЧА** (археал.).

**559а.** Гарадзішча. За 0,5 км на захад ад вёскі, на левым беразе Дняпра. Пляцоўка памерам 100×80 м, з усходняга боку ўмацавана дугападобным валам вышынёй 3—4 м і ровам глыбінёй 2—3 м. Адкрыў у пачатку 20 ст. Е. Р. Раманаў, абследаваў у 1957, 1975 і 1977 гг. Л. Д. Побаль. Знойдзена ляпная кераміка мілаградскай (7—3 стагоддзі да н. э.) і ранняга этапа зарубінецкай (3 ст. да н. э.— 2 ст. н. э.) культур ранняга жалезнага веку.

**559б.** Селішча. Побач з гарадзішчам, цягнецца ўздоўж ракі на адлегласці да 0,5 км. Адкрыў у 1957 г. і абследаваў у 1975 і 1977 гг. Л. Д. Побаль. Знойдзены ляпная кераміка мілаградскай і фрагмент глінянай пацеркі зарубінецкай культур, шмат керамікі раннефеадальнага часу і жалезны наканечнік стралы. Адносіцца да мілаградскай і ранняга этапу зарубінецкай культур, датуецца 7 ст. да н. э.— 2 ст. н. э. У раннефеадальны час тут жылі ўсходнія славяне, верагодна, радзімічы. Раскопкі не праводзіліся.

Матэрыялы абследаванняў захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

*Літ.:* Романов Е. Р. Археологический очерк Гомельского уезда (Могилевской губернии).— Вильна, 1910; Поболь Л. Д. Славянские древности Белоруссии.— Мн., 1974. *Л. Д. Побаль.*

**в. Рудня-Прыбыткаўская, Прыбыткаўскі сельсавет**

**560. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля клуба. На ўшанаванне памяці 56 землякоў, якія загінулі на франтах Вялікай Айчыннай вайны, у 1970 г. пастаўлена стэла.

**в. Рудня-Целяшоўская, Целяшоўскі сельсавет**

**561. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. На ўшанаванне памяці 116 землякоў з калгаса «Красная площча», якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1976 г. пастаўлены абеліск і 2 стэлы.

**в. Сасноўка, Давыдаўскі сельсавет**

**562. СЕЛІШЧА** (археал.). За 0,3 км на ўсход ад вёскі, на правым беразе р. Уза, каля лесу. Займае плошчу 0,8 га. Выявіў і даследаваў у 1925 г. К. М. Палікарповіч, абследаваў у 1976 г. У. У. Багамольнікаў. Знойдзены абломкі і цэлы посуд з ямачным арнаментам, рэшткі гладкасценнай керамікі. Адносіцца да мілаградскай (7—3 стагоддзі да н. э.) і позняга этапа зарубінецкай (2—5 ст. н. э.) культур ранняга жалезнага веку. Размешчана на месцы стаянкі каменнага веку. Матэрыялы даследаванняў захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

**в. Сеўрукі, цэнтр сельсавета**

**563. ПАШТОВАЯ СТАНЦЫЯ** (архіт.). За 3 км на ўсход ад вёскі, за 12 км



563. *Паштовая станцыя. План.*

на поўдзень ад Гомеля, на шашы Ленінград — Адэса. Пабудавана ў 2-й палавіне 19 ст. з цэглы. Займае прамавугольны ўчастак, абмежаваны плотам і будынкамі, якія ўтвараюць вялікі ўнутраны двор з калодзежам у цэнтры. Уключае станцыйны дом і 2 стайні. Дом аднапавярховы, прамавугольны ў плане з 2 уваходнымі тамбурамі з боку галоўнага і дваровага фасадаў. Накрыты вальмавым дахам, мае анфіладную сістэму планіроўкі. Сцены атынкаваны і прарэзаны лучковымі вокнамі з ліштвамі. Сцены тамбура з боку галоўнага фасада прарэзаны вялікімі лучковымі праёмамі.

Стайні размешчаны на поўдзень і на поўнач ад дома, тарцовымі сценамі, афармленымі ў адзінай з галоўным фасадам дома пластыцы, выходзяць на шашу. Абедзве стайні каркаснай канструкцыі: слупы цагляныя, сцены паміж імі драўляныя.

Станцыя вырашана па схеме, традыцыйнай для такога тыпу пабудоў, і з'яўляецца прыкладам грамадзянскай архітэктуры. *С. Г. Багласаў.*



565. *Мікалаеўская царква.*



565. *Мікалаеўская царква. План.*



566. *Помнік землякам.*

**пас. Скіток, Цярэшкавіцкі сельсавет**

**564. МЕСЦА ФАРСІРАВАННЯ РАКІ СОЖ** (гіст.). На паўднёва-заходняй ускраіне вёскі. У кастрычніку 1943 г. воіны 102-й Далёкаўсходняй Ноўгарад-Северскай стралковай дывізіі 48-й арміі Беларускага фронту фарсіравалі Сож і разгарнулі баі на правым беразе ракі на подступах да Гомеля. У 1960 г. на месцы фарсіравання воінамі Чырвонай Арміі р. Сож пастаўлены абеліск.

**в. Старая Беліца, цэнтр сельсавета**

**565. МІКАЛАЕЎСКАЯ ЦАРКВА** (архіт.). У цэнтры вёскі. Пабудавана ў 1-й палове 18 ст. з дрэва.

Храм трохзрубны, восевай кампазіцыі. Да цэнтральнага квадратнага ў плане аб'ёму з захаду і ўсходу прылягаюць пяцігранная апсіда і бабінец. Усе аб'ёмы завершаны фігурнымі галоўкамі на шасцігранных барабанах (цэнтральны з іх — светлавы). Пачатковая кампазіцыя парушана прыбудаванымі пазней тамбурамі — цэнтральным і 2 бакавымі. Сцены складзены з брусоў, якія звонку вертыкальна ашаляваны дошкамі з нашчыльнікамі. Высока размешчаныя аконныя праёмы прамавугольнай формы. Інтэр'ер мае трохчасткавае вырашэнне. Аб'ёмы злучаны шырокімі арачнымі праёмамі.

Царква — помнік драўлянага дойлідства з элементамі стылю барока. *С. Г. Багласаў.*

**566. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі, у скверы. На ўшанаванне памяці 119 аднавяскоўцаў, якія загінулі на франтах Вялікай Айчыннай вайны, у 1971 г. пастаўлены помнік — скульптура воіна і стэла.

**567. СЯДЗІБА** (архіт.). На паўднёвай ускраіне вёскі.

Сфарміравана ў канцы 18 — 1-й палавіне 19 ст. Уключае жылы дом, невялікі парк, сад і свіран. Сядзіба займае трапецападобны раўнінны ўчастак, абмежаваны алеямі з таполяў. З поўначы на поўдзень участак перасякае дарога. На захад ад дарогі размешчаны жылы дом, парк, свіран, сад, на ўсход — сад і сажалка. Цяпер тут сярэдняя школа. Сядзібны дом пабудаваны ў 1796 г. з дрэва. Рэканструяваны ў 1950-я гады. Прамавугольны ў плане аб'ём выцягнуты па папярочнай восі і накрыты двухсхільным дахам з вальмамі над тарцовымі часткамі. Сцены прарэзаны высокімі прамавугольнымі вокнамі і аздоблены




567. *Сядзіба. Схема планіроўкі: 1 — жылы дом, 2 — свіран, 3 — курган, 4 — камяні з надпісамі, 5 — сад.*



567. *Сядзібны дом.*



567. *Сядзібны дом. План.*

ліштвамі. Спачатку цэнтральная частка была двухпавярховай, мела парадны ўваход, насупраць якога размяшчалася вялікая зала. Па баках залы знаходзіліся жылыя памяшканні, у тарцовых частках былі пакоі з асобнымі ўваходамі для прыслугі. Парк закладзены ў канцы 18 ст. як рэгулярны. Пазней атрымаў пейзажную планіроўку, характэрную для паркаў эпохі рамантызму. Захавалася некалькі звілістых дарожак і асобныя дрэвы, сярод якіх вылучаюцца пасаджаныя вакол дома ліпы і некалькі лістоўніц. Па восі дома, каля заходняй алеі, размешчаны курган. У парку знаходзяцца 2 камяні з алегарычнымі надпісамі.

Свіран пабудаваны ў сярэдзіне 19 ст. з дрэва ў стылі ампір. Мае сіметрычную кампазіцыю. З боку галоўнага фасада па цэнтру зроблена вялікая ніша з уваходам. Накрыты двухсхільным дахам, які ўтварае на галоўным фасадзе навес. Аб'ём падзелены на 3 вялікія і 2 маленькія адсекі з самастойнымі ўваходамі. Сцены галоўнага і бакавых фасадаў складзены з брусоў, дваровага — з бярвенняў. У аздабленні фасадаў выкарыстаны калоны з дарычнымі капітэлямі, пілястры і паўцыркульныя праёмы.

Сядзіба — помнік архітэктуры эпохі рамантызму. *С. Г. Багласаў.*

**в. Уза, Давыдаўскі сельсавет**

**568. ГАРАДЗІШЧА** (археал.). За 1 км на поўдзень ад вёскі, побач са старым рэчышчам р. Уза. Вышыня над поймай 10 м. Гарадзішча складаецца з трох пляцовак: першая памерам 120×100 м, з боку ракі ўмацавана валам вышынёй 1,5 м; другая знаходзіцца на поўдзень ад першай, яе памер 120×50 м; трэцяя памерам 100×40 м, аддзелена ад другой валам вышынёй каля 1,5 м. Па краі гарадзішча з боку поля прасочаны вал вышынёй 0,5 м і роў глыбінёй каля 1 м. Вядома з 1910 г., абследавалі ў пачатку 20 ст. Е. Р. Раманаў, у 1936 г. А. М. Ляўданскі і А. Дз. Каваленя, у 1981 г. У. У. Багамольнікаў. У культурным пласце 0,5—1 м знойдзена ляпная гладкасценная кераміка ранняга жалезнага веку.

Матэрыялы абследаванняў захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

*Літ.:* Романов Е. Р. Археологический очерк Гомельского уезда (Могилевской губернии).— Вильна, 1910.

*У. Дз. Будзько.*

**в. Улукаўе, цэнтр сельсавета**

**569. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ, ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны 180 воінаў, якія загінулі восенню 1943 г. пры вызваленні вёскі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1977 г. на магіле пастаўлена стэла і мемарыяльная сцяна з імёнамі 229 аднавяскоўцаў, што загінулі ў Вялікую Айчынную вайну.



573. *Помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў і ахвяр фашызму*

**570. МАГІЛА САРОКІНАЙ** Ганны Сямёнаўны (гіст.). На могілках.

Герой Сацыялістычнай Працы Г. С. Сарокіна нарадзілася ў в. Перасяцінец Брагінскага р-на 14.12.1913 г. ў сялянскай сям'і. У 1931—58 гг. даярка калгаса імя Чапаева, у 1959—70 гг.— саўгаса «Бярозкі». Званне Героя Сацыялістычнай Працы прысвоена 22.3. 1966 г. за высокія надоі і павелічэнне нарыхтовак малака. Г. С. Сарокіна памерла 13.3.1970 г.

У 1970 г. на магіле пастаўлены абеліск. *Т. Р. Чуракова.*

**в. Целяшы, цэнтр сельсавета**

**571. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 266 воінаў, якія загінулі восенню 1943 г. пры вызваленні вёскі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1959 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**572. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). На паўднёва-ўсходняй ускраіне вёскі, у калгасным садзе. Пахаваны 22 мірныя жыхары, якія былі па-зверску закатаваны фашыстамі ў 1943 г. У 1959 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Церуха, цэнтр сельсавета**

**573. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). На паўночнай ускраіне вёскі, справа ад дарогі Гомель — Чарнігаў. Пахаваны 472 воіны 19-га стралковага корпуса 65-й арміі Цэнтральнага фронту, якія загінулі ў верасні 1943 г. пры вызваленні вёскі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў, і 42 мірныя жыхары в. Церуха, загубленыя гітлераўцамі ў 1943 г. Сярод пахаваных — Герой Савецкага Саюза Аляксандр Дзмітрыевіч Валогін.

А. Дз. Валогін нарадзіўся 4.11. 1924 г. ў с. Пячорскае (цяпер г. Акцябрск Куйбышаўскай вобл.). Працаваў токарам механічнай майстэрні асфальтавага завода. У 1942—43 гг. курсант Тамбоўскага кулямётнага вучылішча. З 8.8.1943 г. на Цэнтральным фронце. Гвардыі малодшы сяржант А. Дз. Валогін вызначыўся ў баях за г. Дзмітраўск Арлоўскай вобл. Агнём са станковага кулямёта знішчыў 75 фашыстаў. 12.9.1943 г. пры фарсіраванні р. Дзясна забяспечваў пераправу батальёна на правы бераг ракі, падавіў 2 кулямётныя кропкі ворага, знішчыў 30 гітлераўцаў. Загінуў 17.10.1943 г. пры фарсіраванні р. Сож у раёне вёскі Чырвоная Даліна. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 25.1.1944 г.

У 1959 г. на брацкай магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна. Імем А. Дз. Валогіна названа вуліца на радзіме. *Т. Р. Чуракова.*

**в. Чарацянка, цэнтр сельсавета**

**574. ГАРАДЗІШЧЫ** (археал.).

**574а.** Гарадзішча-1. За 2 км на поўдзень ад вёскі, ва ўрочышчы Мошкі. Пляцоўка круглая, дыяметрам 50 м, умацавана кальцападобным валам вышынёй 2,5 м, шырынёй да 3 м. Ад вала ў напрамку да цэнтра пляцоўкі назіраецца паступовы схіл (да 9 м), толькі ў цэнтральнай частцы пляцоўка роўная. З паўднёва-ўсходняга боку ёсць роў глыбінёй 0,2—0,5 м, шырынёй каля 1 м. Вядома з 1873 г., абследавалі ў пачатку 20 ст. Е. Р. Раманаў, у 1976 г. У. У. Багамольнікаў. Раскопкі не праводзіліся.

**574б.** Гарадзішча-2. Мясцовая назва Гарадзец. За 0,8—1 км на поўдзень ад вёскі, справа ад дарогі ў в. Глыбоцкае. Займае невялікі астанец першай надпоймавай тэрасы безназоўнай ракі. Пляцоўка прамавугольная, памерам 55×40 м. Умацавана валам вышынёй каля 3 м. Захаванасць помніка добрая. Пляцоўка здзірванела, раздзелена на 2 часткі ровам глыбінёй 1 м, шырынёй каля 2 м. Вядома з 1856 г. У 1981 г. С. Я. Расадзін заклаў на пляцоўцы гарадзішча 2 шурфы памерам 1×1 м. Культурны пласт 0,4 м. У ім знойдзены ляпная кераміка, кавалкі шлаку, дробныя косці жывёл.

*Літ.:* Сведения 1873 г. о городищах и курганах.— Известия Археологической комиссии. СПб., 1903, в. 5; Романов Е. Р. Археологический очерк Гомельского уезда (Могилевской губернии).— Вильна, 1910.

*С. Я. Расадзін.*

**575. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля клуба, у скверы. На ўшанаванне памяці 155 землякоў, якія загінулі на франтах Вялікай Айчыннай вайны, у 1977 г. пастаўлены помнік — пілон і дошкі з імёнамі загінуўшых.

**576. УСПЕНСКАЯ ЦАРКВА** (архіт.). На паўночнай ускраіне вёскі. Пабудавана ў 1865—68 гг. з цэглы.

Храм крыжова-купальнай кампазіцыі са званіцай і прамавугольнай апсідай. Сяродкрыжжа завершана купалам на васьміграннным барабане з вялікай цыбулепадобнай галоўкай. Сцены прарэзаны паўцыркульнымі праёмамі. Вылучаецца спрошчанай трактоўкай дэталей, строгай статыкай архітэктурных форм, выкарыстаннем двухколернай афарбоўкі фасадаў (плоскасці сцен — вохра, ордэрныя дэталі — белыя).

Царква — помнік архітэктуры псеўдарускага стылю. *С. Г. Багласаў.*

**в. Чонкі, Сеўрукоўскі сельсавет**

**577. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). Насупраць дома адпачынку. Пахаваны 1761 воін, якія загінулі 10—11.10.1943 г. ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. Сярод пахаваных — воіны 194-й стралковай дывізіі 48-й арміі, якія загінулі ў раёне вёсак Чонкі і Бабовічы пры фарсіраванні р. Сож і аваладанні плацдармам на правым беразе ракі. У 1959 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна.

**578. МЕСЦА БАЗІРАВАННЯ АПЕРАТЫЎНА-ВУЧЭБНАГА ЦЭНТРА** (гіст.). У раёне вёскі ў ліпені — жніўні 1941 г. базіраваўся Аператыўна-вучэбны цэнтр. Існаваў у Вялікую Айчынную вайну пры Заходнім фронце для падрыхтоўкі і засылкі дыверсійных груп у тыл нямецка-фашысцкіх захопнікаў. Створаны ў Гомелі паводле загада камандуючага Заходнім фронтам С. К. Цімашэнкі ад 13.7.1941 г. на базе школы кароткатэрміновага навучання метадам партызанскай барацьбы [арганізавана паводле рашэння ЦК КП(б)Б у канцы чэрвеня 1941 г.]. На працягу лета 1941 г. у партызанскай школе Аператыўна-вучэбнага цэнтра прайшлі падрыхтоўку амаль паўтары тысячы чалавек, большасць якіх была перапраўлена за лінію фронту, а астатнія пакінуты ў прыфрантавой палосе. З адыходам Чырвонай Арміі цэнтр перамяшчаўся ў Бранск, Тулу, Разань, Маскву. Расфарміраваны 15.7.1942 г. паводле загада Наркома абароны СССР.

У 1977 г. ў памяць аб дзейнасці Аператыўна-вучэбнага цэнтра на будынку дома адпачынку «Чонкі» ўстаноўлена мемарыяльная дошка. *Т. Р. Чуракова.*

**579. ПОМНІК ЛЕНІНУ** Уладзіміру Ільічу (гіст.). Каля дома адпачынку «Чонкі». Скульптура У. І. Леніна ўстаноўлена ў 1950 г.

**580. ПОМНІК У ГОНАР БЕЛАРУСКАГА ШТАБА ПАРТЫЗАНСКАГА РУХУ** (гіст., маст.). На вул. Кастрычніцкай. Тут у лютым — ліпені 1944 г. размяшчаўся Беларускі штаб партызанскага руху (БШПР). Створаны



575. *Помнік землякам.*



576. *Успенская царква.*



580. *Помнік у гонар Беларускага штаба партызанскага руху.*

9.9.1942 г. паводле пастановы Дзяржаўнага Камітэта Абароны СССР для кіраўніцтва партызанскім рухам на тэрыторыі Беларусі, акупіраванай нямецка-фашысцкімі захопнікамі ў Вялікую Айчынную вайну. Спачатку размяшчаўся ў в. Цімохіна Таропецкага р-на Калінінскай вобл., з лістапада 1942 г. ў Маскве, у маі 1943 г.— лютым 1944 г. на станцыі Сходня Маскоўскай вобл., з ліпеня 1944 г. ў в. Лошыца каля Мінска. Вёў работу пад кіраўніцтвам ЦК КП(б)Б, арганізацыйна падпарадкоўваўся Цэнтральнаму штабу партызанскага руху. Начальнік штаба 2-і сакратар ЦК КП(б)Б П. З. Калінін, намеснікі (у розны час) — І. М. Арцём'еў, І. П. Ганенка, В. І. Закурдаеў, І. А. Крупеня, А. А. Прохараў, І. І. Рыжыкаў, Р. Б. Эйдзінаў. БШПР распрацоўваў і ажыццяўляў мерапрыемствы па разгортванню партызанскай барацьбы, арганізоўваў і кантраляваў баявую дзейнасць брыгад і атрадаў, вырашаў пытанні забеспячэння партызан сувяззю, зброяй і боепрыпасамі, арганізоўваў авіяперавозкі ваенных грузаў і асабовага складу, праводзіў эвакуацыю параненых у савецкі тыл, кіраваў падрыхтоўкай і ўлікам партызанскіх кадраў. Накіраваў у тыл ворага больш за 10 тыс. байцоў і арганізатараў партызанскага руху, пераправіў партызанам 236 радыёстанцый, 2674 кулямёты, 1383 процітанкавыя ружжы, 1384 мінамёты, 41 776 вінтовак, 18 684 аўтаматы, 7124 пісталеты і рэвальверы, 44 тыс. камплектаў адзення, боепрыпасы і медыкаменты. На 1.7.1943 г. меў аддзелы: аператыўны, інфармацыйны, разведвальны, сувязі, кадраў, сакрэтны, шыфравальны, фінансавы, адміністрацыйна-гаспадарчы і санітарнай часці, навучальна-рэзервовы пункт, у лютым 1944 г. створаны інжынерна-тэхнічны аддзел. Для каардынацыі баявой дзейнасці партызан з часцямі Чырвонай Арміі пры ваенных саветах франтоў (па меры іх набліжэння да тэрыторыі Беларусі) фарміраваліся аператыўныя групы і прадстаўніцтвы БШПР. 14.11. 1944 г. расфарміраваны.

У 1969 г. ў памяць аб размяшчэнні ў вёсцы Беларускага штаба партызанскага руху пастаўлены помнік (скульпт. У. Ананька, арх. В. Занковіч, Л. Левін; бетон; вышыня 5 м) — прамавугольная стэла, урэзаная ў бетонны блок няправільнай формы. На стэле рэльефная выява партызана з аўтаматам у руках.

*Л. Г. Лапцэвіч, Т. Р. Чуракова.*

**581. РАДЗІМА ЗАЙЦАВА** Івана Сцяпанавіча (гіст.).

Герой Савецкага Саюза І. С. Зайцаў нарадзіўся 9.10.1926 г. З сялян. У Вялікую Айчынную вайну з снежня 1943 г. на 3-м Украінскім і 1-м Беларускім франтах. Вызначыўся 16.4. 1945 г. ў баі за станцыю Вербіг (Германія). Цяжкапаранены І. С. Зайцаў закрыў сваім целам амбразуру варожага дзота, кулямётны агонь якога стрымліваў наступленне савецкіх воінаў. Пахаваны ў г. Костшын (ПНР). Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 31.5.1945 г.

*Літ.:* Навечно в сердце народном.— 3 изд.— Мн., 1984.

**582. СЕЛІШЧА.** За 0,4 км на паўднёвы захад ад пасёлка, на краі надпоймавай тэрасы правага берага р. Іпуць. У 1978 г. выявіў і абследаваў 1 га плошчы А. А. Макушнікаў. Помнік пашкоджаны кар'ерам. Культурны пласт 0,2—0,5 м, шэрага колеру. Знойдзены рэшткі ляпнога і ганчарнага посуду, глінянае прасліца. Адносіцца да сярэдзіны — 3-й чвэрці 1-га тысячагоддзя н. э. і эпохі Кіеўскай Русі. Раскопкі не праводзіліся. Матэрыялы абследавання захоўваюцца ў Гомельскім абласным краязнаўчым музеі.

*Літ.:* Макушников О. А. Разведки в Гомельском Посожье.— У кн.: Археологические открытия 1980 года. М., 1981.

*А. А. Макушнікаў.*

### в. Шарпілаўка, цэнтр сельсавета

**583. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). У цэнтры вёскі, насупраць школы. Пахаваны 284 воіны 19-га стралковага корпуса 65-й арміі Цэнтральнага фронту, якія загінулі у верасні — кастрычніку 1943 г. пры вызваленні вёскі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1974 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна.



585. *Помнік землякам.*

### в. Яроміна, цэнтр сельсавета

**584. МАГІЛА ХАВАНСКАГА** Мікалая Пятровіча (гіст.). На могілках.

Герой Сацыялістычнай Працы М. П. Хаванскі нарадзіўся 18.1.1923 г. ў в. Стралічава Хойніцкага р-на. Член КПСС з 1955 г. Удзельнік Вялікай Айчыннай вайны. З 1951 г. старшыня калгаса імя XXII з'езда КПСС Гомельскага р-на. Званне Героя Сацыялістычнай працы прысвоена 22.3.1966 г. за поспехі ў развіцці сельскагаспадарчай вытворчасці. Дэпутат Вярхоўнага Савета БССР у 1963—67 гг. М. П. Хаванскі памёр 14.1.1974 г. У 1975 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**585. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля будынка выканкома сельсавета. На ўшанаванне памяці 267 землякоў, якія загінулі на франтах Айчыннай вайны, у 1967 г. пастаўлены помнік — стэла з барэльефнай выявай воінаў, абапал яе пліты з імёнамі загінуўшых.

**586. ПОМНІК ЛЕНІНУ** Уладзіміру Ільічу (гіст.). Каля Дома культуры. Бюст У. І. Леніна ўстаноўлены ў 1967 г.

# ДОБРУШСКІ РАЁН




Кругоўка
Дзям'янкі
Дубовы Лог
Мар'іна
ДОБРУШ
Рассвет
Харошаўка
Жгунская Буда
Карма
Жгунь
Крупец
Агародня-Гомельская
Пераростъ
Насовічы
Івакі
Кузьмінічы
Васільеўка
Чырв. Партызан
Вуць
Церахоўка
Баршчоўка
Чырв. Буда
Дубраўка
Леніна
Кругавец-Калініна
Усохская Буда

- Цэнтр раёна
- Цэнтры сельсаветаў
- Стаянні, паселішчы, гарадзішчы
- Могільнікі (грунтавыя, курганныя), курганы
- Помнікі гаспадарчай дзейнасці, прамысловая архітэктура, гідратэхнічныя збудаванні, дасавецкага перыяду
- Помнікі і месцы рэвалюцыйнага руху (Рэвалюцыя 1905–07 гг., Вялікая Кастрычніцкая сацыялістычная рэвалюцыя, Грамадзянская вайна, барацьба працоўных Заходняй Беларусі)
- Помнікі і памятныя месцы Вялікай Айчыннай вайны (месцы баёў, магілы савецкіх воінаў і партызан, Курганы Славы, помнікі землянкам і інш.)
- Помнікі ахвярам фашызму (месцы канцлагераў і лагераў смерці, месцы масавай загубы насельніцтва, спаленыя і неадноўленыя вёскі і інш.)
- Помнікі сацыялістычнага будаўніцтва
- Помнікі і месцы, звязаныя з імёнамі савецкіх партыйных, дзяржаўных і гаспадарчых дзеячаў, дзеячаў культуры, навукі і тэхнікі
- Палацы, сядзібы, асабнякі
- Культавая архітэктура
- Адміністрацыйныя і грамадскія збудаванні дасавецкага перыяду

## VI. ДОБРУШ

Горад абласнога падпарадкавання, цэнтр раёна. За 28 км на ўсход ад Гомеля, на р. Іпуць. Чыгуначная станцыя на лініі Гомель — Унеча, аўтамабільнымі дарогамі звязаны з Гомелем, Веткай, Церахоўкай, Навазыбкавам.

Вядомы з 16 ст. як вёска Гомельскага староства Рэчыцкага павета ў Вялікім княстве Літоўскім. Паводле 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772 г.) у складзе Расійскай імперыі, сяло Вылеўскай валасці Беліцкага (з 1852 г. Гомельскага) павета, цэнтр Добрушскай эканоміі (фальварка), які аб'ядноўваў 14 навакольных вёсак. Каля 1795 г. тут заснаваны мануфактуры: палатняна-парусінавая (60 рабочых у 1812 г.), чыгуналіцейная (11 рабочых у 1861 г.), пазней — медзеапрацоўчая (10 рабочых у 1861 г.), мукамольная (18 рабочых у 1859 г.) і цукровы завод. У 1834 г. Гомельскі маёнтак, у т. л. Добруш, набыў князь І. Ф. Паскевіч, нашчадкі якога ў 1870 г. заснавалі папяровую фабрыку (835 рабочых у 1900 г., 1300 — у 1913 г.). У 1886 г. ў Добрушы 185 двароў, больш за тысячу жыхароў, царква, школа, бальніца, 2 ветракі, крамы, заезны двор. З жніўня 1887 г. Добруш — чыгуначная станцыя Палескіх чыгунак. У пачатку 20 ст. ў горадзе больш за 2,5 тыс. жыхароў. З 1903 г. дзейнічала група РСДРП, з 1912 г.— праўдзісцкая група, якая мела сувязь з бальшавіцкай фракцыяй 4-й Дзяржаўнай думы. Толькі за 6 месяцаў 1914 г. група правяла сярод рабочых 6 грашовых збораў у фонд газеты «Правда». Пасля Лютаўскай буржуазна-дэмакратычнай рэвалюцыі ў Добрушы быў выбраны Савет рабочых дэпутатаў, у якім летам 1917 г. сфарміравалася бальшавіцкая фракцыя. У лістападзе 1917 г. ўстаноўлена Савецкая ўлада. 6—7.3.1918 г. аб'яднаныя сілы чырвонагвардзейцаў 1-га і 2-га гомельскіх атрадаў разам з чырвонагвардзейцамі навакольных вёсак вялі бой з войскамі кайзераўскай Германіі за станцыю Добруш. На дапамогу чырвонагвардзейцам падышоў атрад маскоўскіх рабочых. У сакавіку 1918 г.— студзені 1919 г. Добруш акупіраваны германскімі і гетманскімі войскамі. З красавіка 1919 г. ў складзе Гомельскай губерні. У сувязі з узбуйненнем валасцей Добруш з 1923 г. цэнтр новай Добрушскай воласці. У снежні 1926 г.— жніўні 1927 г. цэнтр раёна, потым горад у складзе Гомельскага р-на. З 1931 г. падпарадкаваны Гомельскаму гарсавету, з 1935 г. цэнтр адноўленага Добрушскага р-на. Паводле перапісу 1926 г. ў Добрушы 6,2 тыс. жыхароў. У лютым 1935 г.— 13,8 тыс. жыхароў.

У пачатку Вялікай Айчыннай вайны створаны атрад народнага апалчэння, у якім на 1.8.1941 г. было каля 500 чалавек. 22.8.1941 г. Добруш акупіраваны нямецка-фашысцкімі войскамі. Па ініцыятыве мясцовых камуністаў, якія засталіся на акупіраванай тэрыторыі, дзейнічала некалькі патрыятычных груп (летам 1942 г. больш за 100 падпольшчыкаў). На тэрыторыі раёна дзейнічалі падпольныя райкомы КП(б)Б (чэрвень — 27.9. 1943 г.) і ЛКСМБ (ліпень — 27.9. 1943 г.). 10.10.1943 г. часці 48-й арміі Бранскага фронту вызвалілі Доб-



VI. *Плошча Леніна.*



VI. *Забудова вуліцы Палявой.*

руш ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. З 1963 г. горад абласнога падпарадкавання.

Рака Іпуць падзяляе Добруш на 2 часткі. Сістэма вуліц нерэгулярная. Горад развіваецца ў паўднёвым і паўночным напрамках. Забудоўваецца паводле генплана 1973 г. (распрацаваны ў Мінскім філіяле Цэнтральнага навукова-даследчага і праектнага інстытута горадабудаўніцтва). Адміністрацыйна-грамадскі цэнтр — пл. Леніна, на якой пастаўлены помнік У. І. Леніну, будынкі райвыканкома і райкома партыі, кінатэатра, камбіната бытавога абслугоўвання, гасцініцы, школы. Асноўныя вуліцы: К. Маркса, Савецкая, праспект Міру, Камарова.

У горадзе працуюць: папяровая фабрыка «Герой працы», заводы сухога абястлушчанага малака, фарфоравы, крухмальны, хлебазавод, аддзяленне Міжкалгасбуда, раённае аб'яднанне Дзяржкамсельгастэхнікі, сярэдняе гарадское прафесійна-тэхнічнае вучылішча, вячэрняя музычная і 5 сярэдніх школ, 8 дашкольных устаноў, раённы Дом культуры, Палац культуры, кінатэатр, 5 бібліятэк, Дом піянераў і школьнікаў, бальніца. Выдаецца раённая газета «Ленінец». Помнікі: падпольшчыкам і ахвярам фашызму; на 2 брацкіх магілах савецкіх воінаў і на 3 магілах савецкіх воінаў і партызан, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну; помнік чырвонагвардзейцам і партызанам, што загінулі ў 1918 г.

Зона адпачынку — урочышча Лядцы на паўднёвай ускраіне горада.

*Літ.:* Болбас М. Ф. Развитие промышленности в Белоруссии (1795—1861 гг.).— Мн., 1966; Борьба за Советскую власть в Белоруссии. 1918—1920 гг. Т. 1.— Мн., 1968; Восстановление народного хозяйства Гомельской губернии (1921—1925 гг.).— Гомель, 1960; Кудрявицкий И., Игнатенко И., Прохоров В. Трудящиеся Гомельской губернии в борьбе за восстановление народного хозяйства (1921—1925 гг.).— Мн., 1961; Михайлашев Н. А. Буря гнева: Записки чекиста.— Мн., 1971; Подпольные партийные органы Компартии Белоруссии в годы Великой Отечественной войны (1941—1944).— Мн., 1975; Подпольные комсомольские органы Белоруссии в годы Великой Отечественной войны (1941—1944).— Мн., 1976; Почанин С. З. В грозовом восемнадцатом.— Мн., 1969.

*М. І. Камінскі, А. Ю. Пятросава.*

**587. БАЛЬНІЦА** (архіт.). Вул. Чапаева, 3. Пабудавана ў 2-й палавіне 19 ст. з цэглы.

Будынак трохпавярховы, прамавугольны ў плане, з 2 бакавымі ўваходамі. Цэнтральная частка будынка вылучана неглыбокім руставаным рызалітам. Па гарызанталі сцены падзелены карнізамі на ярусы. Прамавугольныя аконныя праёмы 2-га і 3-га паверхаў упрыгожаны ліштвамі з замковым каменем. 1-ы паверх паўцокальны, прарэзаны прамавугольнымі аконнымі праёмамі без ліштваў. Над уваходам у левае крыло дэкаратыўны казырок на фігурных кранштэйнах і вонкавая металічная лесвіца з ажурнымі парэнчамі (чыгуннае ліццё). Планіроўка калідорная з 2 тарцовымі лесвічнымі клеткамі.

Будынак бальніцы — прыклад грамадзянскай архітэктуры з выкарыстаннем элементаў неакласіцызму.

*А. Ю. Пятросава.*



587. *Бальніца. План 1-га паверха.*

**588. БРАЦКАЯ МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ І ПАДПОЛЬШЧЫКАЎ** (гіст.). Вул. Гомельская. Пахаваны 184 мірныя жыхары, якіх у кастрычніку 1941 г. загубілі гітлераўцы. Тут жа, на тэрыторыі былой МТС, 21.11.1941 г. нямецка-фашысцкія захопнікі па даносу здрадніка схапілі і расстралялі 19 камуністаў, якія па заданню Добрушскага райкома КП(б)Б асталіся на акупіраванай тэрыторыі для падпольнай барацьбы супраць ворага. У 1964 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**589. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). Вул. Гагарына. Пахаваны 26 воінаў, якія загінулі ў кастрычніку 1943 г. пры вызваленні горада ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1954 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптурная кампазіцыя: жанчына і воін у жалобе.



589. *Помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў.*

**590. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На могілках, ва ўрочышчы Лядцы. Пахаваны 222 воіны, якія загінулі ў кастрычніку 1943 г. пры вызваленні горада ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў або пазней памерлі ад ран у шпіталі. У 1960 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна з аўтаматам.

**591. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). Праспект Луначарскага, у парку. Пахаваны 55 воінаў. Сярод пахаваных — воіны 42-га стралковага корпуса 48-й арміі, што загінулі 10.10.1943 г. пры вызваленні Добруша ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў і 2 партызаны, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну. У 1950 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна і ўстаноўлены пліты з імёнамі загінуўшых.

**592. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). Вул. Чырвонаармейская. Пахаваны 109 воінаў і партызан, якія загінулі ў кастрычніку 1943 г. ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў або памерлі ад ран у шпіталі. У 1960 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура салдата з аўтаматам.

**593. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАНА** (гіст.). На гарадскіх могілках, ва ўрочышчы Дубы. Пахаваны 48 воінаў і 1 партызан, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну. У 1954 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**594. БРАЦКАЯ МАГІЛА ЧЫРВОНАГВАРДЗЕЙЦАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). Вул. Лазо. У сакавіку 1918 г. ў баі супраць германскіх войск загінулі 10 чырвонагвардзейцаў 1-га Курскага бронеатрада, 1-га і 2-га Гомельскіх, 1-га Маскоўскага атрадаў Чырвонай Арміі і партызан. У 1927 г. на магіле пастаўлены абеліск.



592. *Помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў і партызан.*

**595. КУРГАННЫЯ МОГІЛЬНІКІ** (археал.).

**595а.** Могільнік-1. За 3 км на поўнач ад горада, на левым беразе р. Іпуць, ва ўрочышчы Баравое Балота, абапал дарогі Добруш — в. Плоскае. 39 кургаиоў дыяметрам ад 5,2 да 13 м, вышынёй ад 0,6 да 1,8 м. Адкрыў у 1910 г. Е. Р. Раманаў, абследавала ў 1976 г. В. М. Ляўко. У 1910 г. М. М. Філонаў раскапаў 6 кургаиоў. Пахавальны абрад — трупапалажэнне. У жаночых пахаваннях знойдзены сердалікавыя пацеркі, звітая з 4 столак дроту і з шыпамі на канцах шыйная грыўня, хрусталёвыя пазалочаныя пацеркі, бронзавыя пярсцёнкі, кольцы ад завушніц, праслііца з ружовага шыферу. У мужчынскім пахаванні знойдзена шырокае свінцовае кольца ад тронак нажа. Належаў радзімічам, датуецца 10—12 стагоддзямі.

**595б.** Могільнік-2. За 1,5 км на поўнач ад горада, ва ўрочышчы Ракітня. 14 насыпаў дыяметрам 8—17 м, вышынёй 0,6—1,5 м. Каля асновы асобных курганоў захаваліся невялікія раўкі. Выявілі і даследавалі ў 1910 г. М. М. Філонаў і Е. Р. Раманаў. Раскапана 5 насыпаў. Пахавальны абрад — трупапалажэнне. Знойдзены 5 плоскіх і трохгранных пярсцёнкаў, 2 кольцы і адна пазалочаная пацерка. Абследавала ў 1976 г. В. М. Ляўко. Належаў радзімічам, датуецца 10—12 стагоддзямі.

Матэрыялы даследавання захоўваюцца ў Гісторыка-этнаграфічным музеі ў Вільнюсе.

*Літ.:* Романов Е. Р. Археологический очерк Гомельского уезда (Могилевской губернии).— Вильна, 1910; Соловьёва Г. Ф. Погребальные обряды.— У кн.: Древности железного века в междуречье Десны и Днепра. М., 1962.
*В. М. Ляўко.*



595а. *Курганны могільнік-1. План.*



595б. *Курганны могільнік-2. План.*

**596. МАГІЛА КУХАРАВА** Фёдара Якаўлевіча (гіст.). Праспект Луначарскага, у парку.

Герой Савецкага Саюза Ф. Я. Кухараў нарадзіўся 18.3.1924 г. ў Добрушы. Член КПСС з 1944 г. Працаваў у Данбасе ўрубавым машыністам. З пачатку Вялікай Айчыннай вайны жыў у Добрушы, збіраў зброю і боепрыпасы для партызан, распаўсюджваў лістоўкі, праводзіў дыверсіі на чыгунцы Гомель — Бранск, пусціў пад адхон 3 варожыя эшалоны. З ліпеня 1943 г. партызан атрада імя В. М. Молатава Добрушскай партызанскай брыгады імя І. В. Сталіна. У жніўні ўзначаліў дыверсійную групу, якая пусціла пад адхон 24 эшалоны з жывой сілай і тэхнікай праціўніка. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 15.8.1944 г. Пасля вызвалення Добрушскага р-на ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў удзельнічаў у размініраванні тэрыторыі, потым працаваў сакратаром камітэта камсамола папяровай фабрыкі «Герой працы». Загінуў у маі 1946 г. У 1948 г. ўстаноўлена надмагільная пліта. На будынку школы № 2 у Добрушы, дзе ён вучыўся, устаноўлена мемарыяльная дошка.

*Літ.:* В памяти народной.— Мн., 1969; Камсамольцы-героі Беларусі.— Мн., 1959; Кухарев С. Парень из Добруша.— У кн.: Люди легенд. М., 1966, в. 2; Навечно в сердце народном.— 3 изд.— Мн., 1984.
*М. Б. Батвіннік.*

**597. МАГІЛА ХЛУДНЁВА** Фёдара Мацвеевіча (гіст.). На могілках, ва ўрочышчы Лядцы.

Герой Савецкага Саюза Ф. М. Хлуднёў нарадзіўся 20.6.1917 г. ў с. Жындо 2-е Красначыкойскага р-на Чыцінскай вобл. ў сялянскай сям'і. Працаваў у лестрансгасе ў г. Хілок Чыцінскай вобл. З 1941 г. ў Чырвонай Арміі. У Вялікую Айчынную вайну на фронце з красавіка 1943 г. Вызначыўся 18—19.11.1943 г. ў баі на поўдзень ад г. Рэчыца. Двойчы паранены, Ф. М. Хлуднёў не пакінуў поле бою, з ручнога кулямёта адбіў 4 атакі ворага. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 24.12.1943 г. Памёр ад ран 5.1.1944 г. У 1960 г. на магіле пастаўлены абеліск. Яго імем названы вуліцы ў Добрушы і г. Хілок.

*Літ.:* Горячий А. Последний бросок.— У кн.: Золотые звёзды забайкальцев. Чита, 1966; Навечно в сердце народном.— 3 изд.— Мн., 1984. *М. Б. Батвіннік.*

**598. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА КУХАРАВУ** Фёдару Якаўлевічу (гіст.). Вул. Войкава, 1, на будынку сярэдняй школы № 2. Устаноўлена ў 1965 г. на ўшанаванне памяці Героя Савецкага Саюза Ф. Я. Кухарава, які ў гэтай школе вучыўся ў 1930—40 гг.

**599. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА РАМАНАВУ** Паўлу Мінаевічу (гіст.). На адміністрацыйным будынку папяровай фабрыкі «Герой Працы». Устаноўлена ў 1965 г.

Герой Савецкага Саюза П. М. Раманаў нарадзіўся ў 1905 г. ў г. Чыта. Член КПСС з 1929 г. З 1920 г. рабочы, з 1933 г. на партыйнай і савецкай рабоце, у 1938—40 гг. старшыня фабкома Добрушскай папяровай фабрыкі «Герой працы», дырэктар торфазавода «Шлях сацыялізма». У Вялікую Айчынную вайну адзін з арганізатараў і кіраўнікоў партызанскага руху ў Віцебскай вобл. З мая 1942 г. другі сакратар Суражскага, з верасня 1942 г. першы сакратар Бешанковіцкага падпольных райкомаў КП(б)Б. З кастрычніка 1942 г. адначасова камандзір партызанскай брыгады «За Савецкую Беларусь». Загінуў у баі ў маі 1944 г. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 15.8.1944 г. Яго імя прысвоена саўгасу ў Бешанковіцкім р-не, названы вуліцы ў Добрушы і Бешанковічах. Імя П. М. Раманава навечна занесена ў спісы рабочых фабрыкі.
*М. Б. Батвіннік.*

**600. ПАПЯРОВАЯ ФАБРЫКА «ГЕРОЙ ПРАЦЫ»** (архіт., гіст.). Праспект Луначарскага, 8, у левабярэжнай частцы горада. Пабудавана ў 1870 г. з цэглы.

Фабрычны комплекс — значная па плошчы замкнёная тэрыторыя з адна- і двухпавярховымі будынкамі. Цэнтральны, у якім размешчаны адміністрацыйныя службы, мае нерэгулярную сістэму планіроўкі і асіметрычную аб'ёмна-прасторавую кампазіцыю. Сцены будынка ўмацаваны плоскімі ла-



600. *Папяровая фабрыка «Герой працы». Адміністрацыйны будынак.*



600. *Папяровая фабрыка «Герой працы». Вежа.*

паткамі, па вуглах — невялікія зубчастыя вежы (матыў, тыповы для прамысловай архітэктуры 2-й палавіны 19 ст.). Астатнія пабудовы кампазіцыйна падпарадкаваны цэнтральнаму будынку. Аднапавярховыя карпусы, пастаўленыя па перыметры тэрыторыі фабрыкі,— своеасаблівая агароджа комплексу, дамінантай кампазіцыі якога з'яўляецца высокая вуглавая вежа з паўцыркульнымі вокнамі. Фасады пабудоў лаканічныя па дэкору, расчлянёны плоскімі лапаткамі, пад карнізамі праходзяць паясы сухарыкаў. Дэкаратыўнае афармленне прахадной, размешчанай у адным з такіх будынкаў, больш насычанае (рэльефны арнамент, лучковыя аконныя праёмы з ліштвамі і замковым каменем). У архітэктуры фабрычнага ансамбля прасочваюцца рысы неаготыкі.

Фабрыка заснавана ў 1870 г. нашчадкамі князя І. Ф. Паскевіча. Пабудавана як завод драўніннай масы, з 1871 г. папяровая фабрыка. У 1913 г. па аб'ёму вытворчасці і тэхнічнаму абсталяванню лічылася адным з лепшых прадпрыемстваў у Еўропе. У студзені 1919 г. фабрыка нацыяналізавана, у 1922 г. прысвоена найменне «Герой працы». У студзені 1929 г. ўзнагароджана ордэнам Працоўнага Чырвонага Сцяга БССР. У пачатку Вялікай Айчыннай вайны асноўнае абсталяванне фабрыкі было эвакуіравана ў г. Краснакамск Пермскай вобл. У час нямецка-фашысцкай акупацыі ў цэхах фабрыкі гітлераўцы рамантавалі танкі. Па заданню Добрушскай партызанскай брыгады імя І. В. Сталіна (камандзір І. П. Крывенчанка, камісар І. М. Гатальскі) дыверсійная група ў складзе партызан П. Бязменава, В. Клышына, М. Гаршунова, І. і Я. Чуніхіных з дапамогай падпольшчыкаў І. Курыліна, П. Саладкова ўзарвалі электрычныя турбіны, спалілі танкарамонтныя майстэрні, ліцейны і кардонны цэхі. Аднаўленне фабрыкі пачалося ў 1945 г. З 1951 г. цэлюлозна-папяровы камбінат «Герой Працы», працавалі ўсе 6 папераробных машын, аб'ём вытворчасці дасягнуў даваеннага. У 1960—66 гг. прадпрыемства мадэрнізавана, асвоены выпуск святлоадчувальнай паперы. Цяпер на фабрыцы 4 асноўныя цэхі: папяровы, сшыткавы, папяровых вырабаў, тэхнічнай паперы. З 1976 г. папяровая фабрыка «Герой працы». Прадукцыя экспартуецца за межы рэспублікі і ў многія краіны свету. Мае Дом культуры, спартыўны комплекс, 2 бібліятэкі, пункт аховы здароўя, піянерлагер, 4 дашкольныя ўстановы. Выдаецца шматтыражная газета «Бумажник».

М е м а р ы я л ь н а я  д о ш к а  п а р т ы з а н а м  і  п а д п о л ь ш ч ы к а м. На будынку фабрыкі. Устаноўлена ў 1966 г. ў памяць аб подзвігу партызан і падпольшчыкаў.

П о м н і к  р а б о ч ы м  ф а б р ы к і  «Г е р о й  п р а ц ы». У Вялікую Айчынную вайну ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў загінулі 324 рабочыя фабрыкі. За баявыя подзвігі ў Вялікую Айчынную вайну рабочым фабрыкі П. М. Бухонку і П. М. Раманаву прысвоена званне Героя Савецкага Саюза (гл. артыкулы № 609 «Радзіма Бухонкі Пятра Мікалаевіча» і № 599 «Мемарыяльная дошка Раманаву Паўлу Мінаевічу»). У 1975 г. на ўшанаванне іх памяці каля прадпрыемства пастаўлены помнік — скульптура воіна і стэла.

*Літ.:* К о в ш а р о в  Н. Добрушский целлюлозно-бумажный.— Мн., 1970.

*М. І. Камінскі, А. Ю. Пятросава.*

**601. ПОМНІК АСТРОЎСКАМУ** Мікалаю Аляксеевічу (гіст.). Праспект Луначарскага. Бюст М. А. Астроўскага ўстаноўлены ў 1970 г.

**602. ПОМНІК ВЫЗВАЛЕННЯ** (гіст.). На праспекце Луначарскага, у парку. У ходзе наступальнай аперацыі




600. *Помнік работнікам папяровай фабрыкі «Герой працы», якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну.*

Бранскага фронту 10.10.1943 г. 73-я стралковая дывізія (камандзір генерал-маёр Д. І. Смірноў) 42-га стралковага корпуса вызваліла г. Добруш ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1982 г. ў гонар вызвалення на пастаменце ўстаноўлена гармата.

**603. ПОМНІК ГОРКАМУ** Аляксею Максімавічу (гіст.). На праспекце Луначарскага. Бюст А. М. Горкага ўстаноўлены ў 1970 г.

**604. ПОМНІК ЛЕНІНУ** Уладзіміру Ільічу (маст.). На пл. Леніна. Пастаўлены ў 1966 г. (скульпт. Дз. Папоў; бетон; вышыня пастамента 3 м, скульптуры 3 м). Скульптурная фігура У. І. Леніна пастаўлена на квадратны ў плане пастамент, з трох бакоў якога барэльефныя выявы эпізодаў барацьбы працоўных за краіну Саветаў у Грамадзянскую і Вялікую Айчынную войны, а таксама за аднаўленне народнай гаспадаркі пасля вайны. Вертыкальныя аб'ёмы помніка і ўстаноўленая перад ім гарызантальная трыбуна аб'яднаны ў адзіную кампазіцыю. *Г. М. Ярмоленка.*

**605. ПОМНІК ЛЕНІНУ** Уладзіміру Ільічу (гіст.). Праспект Луначарскага, у парку. Скульптура У. І. Леніна ўстаноўлена ў 1951 г.

**606. ПОМНІК ЛЕНІНУ** Уладзіміру Ільічу (гіст.). На тэрыторыі папяровай фабрыкі «Герой працы». Скульптура У. І. Леніна ўстаноўлена ў 1951 г.

**607. ПОМНІК МАЯКОЎСКАМУ** Уладзіміру Уладзіміравічу (гіст.). Каля будынка сярэдняй школы № 3. Бюст



604. *Помнік У. І. Леніну.*

У. У. Маякоўскага ўстаноўлены ў 1981 г.

**608. ПОМНІК ПУШКІНУ** Аляксандру Сяргеевічу (гіст.). Каля будынка сярэдняй школы № 3. Бюст А. С. Пушкіна ўстаноўлены ў 1981 г.

**609. РАДЗІМА БУХОНКІ** Пятра Мікалаевіча (гіст.).

Герой Савецкага Саюза П. М. Бухонка нарадзіўся 12.7.1906 г. ў сялянскай сям'і. З 1928 г. працаваў на цэлюлозна-папяровай фабрыцы «Герой працы». У Вялікую Айчынную вайну на фронце з 1941 г. Сапёр П. М. Бухонка вызначыўся пры фарсіраванні Дняпра на Украіне. 26.9.1943 г. пад агнём праціўніка перапраўляў байцоў цераз раку. Паранены, ліквідаваў у лодцы прабоіны і даставіў дэсант на бераг. Памёр 5.2.1944 г. ад ран. Пахаваны ў брацкай магіле ў в. Бузулукі Крынічанскага р-на Днепрапятроўскай вобл. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 19.3.1944 г. У 1965 г. на ўшанаванне яго памяці на будынку фабрыкі «Герой працы» ўстаноўлена мемарыяльная дошка. Імя П. М. Бухонкі навечна занесена ў спісы рабочых Добрушскай папяровай фабрыкі «Герой працы», яго імем названа вуліца ў Добрушы. *М. Б. Батвіннік.*

**610. РАДЗІМА УЛАСЕНКІ** Ільі Архіпавіча (гіст.).

Герой Савецкага Саюза, генерал-маёр (1954 г.) І. А. Уласенка нарадзіўся 19.7.1902 г. ў сям'і рабочых. Член КПСС з 1929 г. Працаваў на Добрушскай папяровай фабрыцы. З 1924 г. ў Чырвонай Арміі. У Вялікую Айчынную вайну з ліпеня 1941 г. на Заходнім, Сталінградскім, Цэнтральным, 1-м Беларускім франтах. Начальнік палітаддзела, намеснік камандзіра стралковай дывізіі па палітчастцы гвардыі палкоўнік І. А. Уласенка вызначыўся ў баях за Дняпро на поўнач ад Кіева. 23—25.9.1943 г. пры фарсіраванні Дняпра і ў баях на плацдарме мабілізаваў воінаў на масавы гераізм, што садзейнічала выкананню дывізіяй баявой задачы. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 17.10.1943 г. Да 1957 г. служыў у Савецкай Арміі. Памёр І. А. Уласенка 11.5.1963 г. Пахаваны ў г. Кіеве. Яго імем названа вуліца ў Добрушы.

*Літ.:* Навечно в сердце народном.— 3 изд.— Мн., 1984. *М. Б. Батвіннік.*

**611. РАДЗІМА ЧЫЖЭЎСКАГА** Міхаіла Рыгоравіча (гіст.).

Савецкі вучоны ў галіне земляробства і глебазнаўства М. Р. Чыжэўскі нарадзіўся 24.1.1896 г. ў сям'і рабочых. Член-карэспандэнт АН БССР (з 1940 г.), доктар сельскагаспадарчых навук (з 1950 г.), прафесар (з 1934 г.). Член КПСС з 1938 г. У 1923 скончыў Маскоўскую сельскагаспадарчую акадэмію імя К. А. Ціміразева. Працаваў там жа асістэнтам, дацэнтам, з 1933 г. прафесар кафедры глебазнаўства, з 1938 загадчык, з 1960 г. прафесар кафедры агульнага земляробства. Асноўныя навуковыя працы прысвечаны праблемам паглыблення і акультурвання ворнага слою, павышэння ўрадлівасці лёгкіх пясчаных глеб. Удзельнічаў у даследаванні глеб Беларусі. Р. М. Чыжэўскі памёр 28.9.1964 г. ў Маскве.



602. *Помнік Вызвалення.*



607. *Помнік У. У. Маякоўскаму.*

*Літ.:* Акадэмія навук Беларускай ССР.— Мн., 1979. *М. Б. Батвіннік.*

**в. Агародня-Гомельская, цэнтр сельсавета**

**612. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАНА** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны 37 воінаў і 1 партызан, якія загінулі ў верасні 1943 г. пры вызваленні вёскі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1956 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна з аўтаматам.

**в. Агародня-Кузьмініцкая, Агародня-Гомельскі сельсавет**

**613. РАДЗІМА КІСЯЛЁВА** Ціхана Якаўлевіча (гіст.).

Савецкі партыйны і дзяржаўны дзеяч, Герой Сацыялістычнай Працы (1977 г.) Ц. Я. Кісялёў нарадзіўся 30.7.1917 г. Член КПСС з 1940 г. Скончыў Гомельскі педінстытут (1941 г.), у 1946 г. ВПШ пры ЦК ВКП(б). З 1936 г. на педагагічнай рабоце ў школах Ельскага р-на. У 1941—44 гг. выкладчык, дырэктар школы ў Сталінградскай вобл. З 1944 г. інструктар Гомельскага абкома, з 1946 г. кіраўнік лектарскай групы Брэсцкага абкома КП(б)Б. З 1948 г. ў апараце ЦК КП(б)Б: загадчык аддзела школ упраўлення прапаганды і агітацыі, намеснік загадчыка, загадчык аддзела прапаганды і агітацыі. З 1952 г. першы сакратар Брэсцкага абкома КПБ. З ліпеня 1955 г. сакратар, з ліпеня 1956 г. другі сакратар ЦК КПБ. У 1959—78 гг. старшыня Савета Міністраў БССР. У 1978—80 гг. намеснік старшыні Савета Міністраў СССР. З кастрычніка 1980 г. першы сакратар ЦК КПБ, кандыдат у члены Палітбюро ЦК КПСС. У 1967 г. ўзначальваў дэлегацыю БССР на V Надзвычайнай спецыяльнай сесіі Генеральнай Асамблеі ААН. Член ЦК КПСС з 1961 г. Член ЦК КПБ з 1952 г., член Бюро ЦК КПБ у 1955—78 гг. і з 1980 г. Дэпутат Вярхоўнага Савета СССР з 1954 г., намеснік старшыні Савета Нацыянальнасцей Вярхоўнага Савета СССР у 1958—62 гг. Член Прэзідыума Вярхоўнага Савета СССР з 1981 г. Дэпутат Вярхоўнага Савета БССР з 1951 г. Член Прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР з 1981 г.

Памёр Ц. Я. Кісялёў 11.1.1983 г. Пахаваны ў Мінску на Усходніх могілках. Імя Ц. Я. Кісялёва прысвоена Мінскаму вытворчаму тонкасуконнаму аб'яднанню, Рамязоўскай сярэдняй школе Ельскага р-на, саўгас «Мухавец» Брэсцкага р-на перайменаваны ў саўгас імя Ц. Я. Кісялёва, яго імем названа вуліца ў Мінску, марское судна, на доме у Мінску, дзе жыў Ц. Я. Кісялёў, устаноўлена мемарыяльная дошка.

**в. Андрэеўка, Усоха-Будскі сельсавет**

**614. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 12 мірных жыхароў, якіх у 1943 г. расстралялі нямецка-фашысцкія захопнікі. У 1962 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Антонаўка, Насовіцкі сельсавет**

**615. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). За 0,5 км на паўночны ўсход ад вёскі. Пахаваны 2 воіны, якія загінулі ў 1941 г. У 1965 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Ачэса-Рудня, Кругоўскі сельсавет**

**616. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На паўднёвай ускраіне вёскі. Пахаваны 17 воінаў, якія загінулі ў верасні 1943 г. пры вызваленні вёскі ад нямецка-фашысцкіх акупантаў. У 1959 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна з аўтаматам.

**в. Баршчоўка, цэнтр сельсавета**

**617. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны 11 воінаў, якія загінулі ў верасні 1943 г. пры вызваленні вёскі ад нямецка-фашысцкіх акупантаў або памерлі ад ран у шпіталі. У 1959 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна з аўтаматам.

**в. Васільеўка, цэнтр сельсавета**

**618. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). Вул. Садовая. Пахаваны 22 воіны, якія загінулі ў верасні — кастрычніку 1943 г. пры вызваленні раёна ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1957 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна з аўтаматам.

**619. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны 7 воінаў і партызан, якія загінулі ў 1941—43 гг. у баях супраць нямецка-фашысцкіх акупантаў. У 1957 г. на магіле пастаўлены абеліск.



608. *Помнік А. С. Пушкіну.*

**620. ГАРАДЗІШЧА** (археал.). За 2 км на ўсход ад вёскі, на правым беразе р. Харапуць. Пляцоўка авальная, памерам 20×40 м. Вышыня над поймай 2 м. Абследавалі ў 1910 г. Е. Р. Раманаў, у 1976 г. В. М. Ляўко. Культурны пласт 0,8 м. У ім знойдзены значная колькасць вугалю, малавыразныя фрагменты ляпной керамікі. Раскопкі не праводзіліся. Матэрыялы абследавання захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

**621. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Вул. Кастрычніцкая. На ўшанаванне памяці 284 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1968 г. пастаўлены абеліск.

**в. Вуць, цэнтр сельсавета**

**622. ГАРАДЗІШЧА** (археал.). Мясцовая назва Г а р а д о к. На паўночнай ускраіне вёскі, на левым беразе р. Вуць. Пляцоўка круглая, дыяметрам 20 м, вышынёй 2 м. Вядома з 1873 г., абследавалі ў 1910 г. Е. Р. Раманаў, у 1976 г. В. М. Ляўко. Раскопкі не праводзіліся.

**623. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. На ўшанаванне памяці 331 земляка, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1973 г. пастаўлены помнік: на фоне абеліска стэла і 2 пліты ў выглядзе разгорнутай кнігі з імёнамі загінуўшых.

**в. Вылева, Дзям'янаўскі сельсавет**

**624. ГАРАДЗІШЧА, КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.).

**624а.** Гарадзішча. На ўсходняй ускраіне вёскі, на правым беразе р. Іпуць, ва ўрочышчы Гарадзец. Пляцоўка прадаўгаватая з закругленымі вугламі, выцягнута з паўночнага ўсходу на паўднёвы захад. Памеры 75×46 м, вышыня ад узроўню ракі 9,5 м. З боку поля было ўмацавана 2 валамі (адзін разбураны пры будаўніцтве шашы) і равамі. Вышыня вала 3—5 м, шырыня 8,5—13,5 м. Вядома з 1873 г. Абследавалі ў 1910 г. Е. Р. Раманаў, у 1957 г. І. І. Арцёменка і В. М. Мельнікоўская, у 1976 г. В. М. Ляўко. Культурны пласт 1,5 м. У ім знойдзена ляпная кераміка, ажурная бронзавая бляха з пятлёй для прымацавання да адзення, а таксама фрагменты керамікі бронзавага веку. Побач з гарадзішчам (з боку р. Іпуць на плошчы каля 0,5 км²) выяўлены рэшткі ляпной керамікі. Відавочна, тут было селішча ранняга жалезнага веку. Гарадзішча адносіцца да мілаградскай (7—3 стагоддзі да н. э.) і зарубінецкай (2 стагоддзе да н. э.— 2 стагоддзе н. э.) культур.




624а. *Гарадзішча. План.*




624б. *Курганны могільнк. План*

Матэрыялы абследавання захоўваюцца ў Інстытуце археалогіі АН СССР і Інстытуце гісторыі АН БССР.

**624б.** Курганны могільнік. За 3 км на паўднёвы ўсход ад вёскі, на левым беразе р. Іпуць, ва ўрочышчы Часнакова Балота. 40 насыпаў дыяметрам 8—17 м, вышынёй каля 1,5 м. Выявілі і даследавалі ў 1910 г. М. М. Філонаў і Е. Р. Раманаў. Яны раскапалі 12 насыпаў. У 1976 г. абследавала В. М. Ляўко. Выяўлены рэшткі пахавальных вогнішчаў, невыразныя сляды трупаспаленняў. Знойдзены 3 фрагменты ляпнога посуду бронзавага веку, кальцыніраваныя косці, абломкі глінянай статуэткі, кераміка 6—8 стагоддзяў да н. э.

Матэрыялы раскопак захоўваюцца ў гісторыка-этнаграфічным музеі Літоўскай ССР.

*Літ.:* Романов Е. Р. Археологический очерк Гомельского уезда (Могилевской губернии).— Вильна, 1910; Сведения 1873 г. о городищах и курганах.— Известия Археологической комиссии. СПб., 1903, в. 5. *В. М. Ляўко.*

**625. ЦАРКВА** (архіт.). У цэнтры вёскі. Пабудавана ў другой палавіне 19 ст. з дрэва.

Храм крыжова-купальны з пяціграннай апсідай. Над сяродкрыжжам асноўнага аб'ёму ўзвышаецца вялікі шлемападобны купал на светлавым васьмерыку. Дамінантай кампазіцыі з'яўляецца двух'ярусная званіца (над бабінцам), увянчаная шатровым дахам. Галоўны і бакавыя ўваходы вылучаны ганкамі з казыркамі. Сцены гарызантальна ашаляваны, прарэзаны высокімі прамавугольнымі аконнымі праёмамі з ліштвамі, сандрыкамі і дэкаратыўнымі рашоткамі.

Царква — помнік народнага дойлідства з элементамі псеўдарускага стылю. *А. Ю. Пятросава.*



625. *Царква.*



625. *Царква. План.*

**в. Гардуны, Вуцеўскі сельсавет**

**626. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны 8 воінаў, якія загінулі ў 1941 г. і пры вызваленні раёна ад нямецка-фашысцкіх акупантаў у верасні 1943 г. У 1960 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна з аўтаматам.

**627. ГАРАДЗІШЧА** (археал.). За 0,8 км на паўночны ўсход ад вёскі, на правым беразе р. Вуць. Вышыня над поймай 6,3 м. Пляцоўка роўная, авальная, памерам 66×78 м. З паўночна-ўсходняга боку захаваліся рэшткі вала вышынёй 0,7 м, шырынёй 3,5 м. Вядома з 1873 г. Абследавалі ў 1885 г. А. Ланачэўскі, у 1893 г. і 1910 г. Е. Р. Раманаў, у 1976 г. В. М. Ляўко. Раскопкі не праводзіліся.

**в. Дзям'янкі, цэнтр сельсавета**

**628. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На заходняй ускраіне вёскі. Пахаваны 136 воінаў, у т. л. воіны 117-й танкавай брыгады і 471-га стралковага палка 73-й стралковай дывізіі, якія загінулі ў верасні 1943 г. пры вызваленні раёна ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1957 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура салдата і 2 стэлы з імёнамі загінуўшых.



625. *Царква. Фрагмент акна з рашоткай.*



628. *Помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў.*

**629. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. На ўшанаванне памяці 218 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1970 г. пастаўлена стэла.

**630. СЕЛІШЧА** (археал.). За 1,5 км на ўсход ад вёскі, ва ўрочышчы Асавец, на правым беразе р. Іпуць, на краі астанца першай надпоймавай тэрасы. Абследавалі ў 1978 г. А. І. Драбушэўскі і А. А. Макушнікаў, у 1982 г. У. А. Літвінаў і А. А. Макушнікаў. Культурны пласт 0,2—0,3 м выяўлены на плошчы 1,12 га. Знойдзены ганчарная кераміка, абпаленыя камяні, вугаль, гаршчок 12—13 стагоддзяў, бронзавы пярсцёнак, жалезнае крэсіва, нажы, рыбалоўны кручок, рамка ад спражкі, кольца, глінянае і каменнае грузілы, кавалак гладкага шклянога бранзалета. Датуецца 12—13 стагоддзямі. Раскопкі не праводзіліся.

Матэрыялы абследавання захоўваюцца ў Гомельскім абласным краязнаўчым музеі.

*Літ.:* Макушников О. А. Разведки в Гомельском Посожье.— У кн.: Археологические открытия 1980 года. М., 1981. *А. А. Макушнікаў.*

**631. СТАЯНКІ** (археал.).

**631а.** Стаянка-1. За 0,8 км на паўднёвы ўсход ад вёскі, у пойме правага берага р. Іпуць, ва ўрочышчы Стрэчава. Выявіла ў 1977 г. і абследавала ў 1978—80 гг. А. Г. Калечыц. Культурны пласт каля 0.2 м прасочаны на плошчы 200×100 м. Знойдзены крамянёвыя прылады працы і фрагменты ляпной керамікі. Адносіцца да эпохі неаліту.

**631б.** Стаянка-2. За 0,7 км на паўднёвы ўсход ад вёскі, на пясчаных узвышшах правага берага р. Іпуць, ва ўрочышчы Асавец. Выявіла ў 1977 г. і абследавала ў 1978—80 гг. А. Г. Калечыц. У культурным пласце 0,2—0,3 м на плошчы 100×40 м знойдзены крамянёвыя прылады працы, ляпная кераміка неалітычнага часу. Трапляюцца рэшткі ляпнога посуду бронзавага веку і ранняга жалезнага веку.

Матэрыялы абследавання захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР. *А. Г. Калечыц.*

**632. СЯДЗІБНЫ ДОМ** (архіт.). На паўднёва-заходняй ускраіне вёскі, на высокім правым беразе р. Іпуць. Пабудаваны ў канцы 19 ст. з цэглы.

Двухпавярховы будынак складанай асіметрычнай аб'ёмна-прасторавай кампазіцыі. Цэнтр галоўнага фасада вылучаны развітай уваходнай часткай з высокім ганкам і стылізаваным порцікам на 2 калонках. Сцены 1-га паверха гарызантальна руставаны, прарэзаны высокімі прамавугольнымі аконнымі праёмамі ў ліштвах. На 2-м паверсе вокны паўцыркульныя, у прасценках — філёнгавыя лапаткі. Бакавыя і дваровы фасады асіметрычныя. Аб'ёмна-прасторавую кампазіцыю будынка ўзбагачаюць вуглавы паўкруглы эркер, вялікая тэраса, дзве прыбудоўкі да дваровага і бакавога фасадаў.

Сядзібны дом — помнік архітэктуры з выкарыстаннем элементаў псеўдарускага стылю. *А. Ю. Пятросава.*



632. *Сядзібны дом. Галоўны фасад.*



632. *Сядзібны дом. Бакавы фасад.*



632. *Сядзібны дом. План 1-га паверха.*

**в. Дубовы Лог, Дзям'янкаўскі сельсавет**

**633. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны 15 воінаў, у т. л. воіны 117-й танкавай брыгады 48-й арміі, якія загінулі 27.9.1943 г. пры вызваленні вёскі ад нямецка-фашысцкіх акупантаў. У 1966 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна з аўтаматам.

**634. ПАСЕЛІШЧА** (археал.). За 5 км на паўднёвы захад ад вёскі, ва ўрочышчы Падлужжа, на S-падобным узвышшы, якое прымыкала да старыцы правага берага р. Іпуць. Выявіла і даследавала ў 1979—81 гг. А. Г. Калечыц. Плошча 192 м². У культурным пласце каля 0,5 м знойдзены вялікая колькасць крамянёвых вырабаў (сякерападобныя прылады працы, адшчэпы, пласціны, разцы, наканечнікі



635. *Помнік землякам.*

стрэл, трапецыі), ляпная кераміка эпохі неаліту і бронзавага веку.

Матэрыялы даследавання захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.
*А. Г. Калечыц.*

**635. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. На ўшанаванне памяці 180 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1975 г. пастаўлены абеліск, на якім выява пяціканцовай зоркі і вертыкальна размешчаныя на грані лічбы 1941, 1942, 1943, 1944, 1945, побач стэла з імёнамі загінуўшых.

**636. СТАЯНКІ** (археал.).

**636а.** Стаянка-1. За 2 км на поўдзень ад вёскі, ва ўрочышчы Высокая Грыва. Памер 100×90 м. Выявіла ў 1978 г. і абследавала ў 1979 г. А. Г. Калечыц. Культурны пласт у шурфах 0,2—0,3 м. Знойдзены сякерападобныя прылады працы, скрэблы, разцы, нуклеусы, пласціны, адшчэпы. Адносіцца да каменнага веку.

**636б.** Стаянка-2. За 1,5 км на поўдзень ад вёскі, ва ўрочышчы Даёмкіна Грыва. Падкովападобнае ўзвышша памерам 150×20 м. Выявіла ў 1978 г. і абследавала ў 1979 г. А. Г. Калечыц. У агаленнях знойдзены крамянёвыя прылады працы (нуклеусы, пласціны, адшчэпы). Адносіцца да каменнага веку.

**636в.** Стаянка-3. За 1,7 км на поўдзень ад вёскі, ва ўрочышчы Фядоткіна Грыва. Выявіла ў 1978 г. і даследавала ў 1979 г. А. Г. Калечыц. У раскопе плошчай 24 м² прасочаны культурны пласт каля 0,4 м. Знойдзены крамянёвыя прылады працы (пласціны, рэтушоры, скрэблы, разцы, наканечнік стралы і інш.), рэшткі ляпной керамікі. Адносіцца да эпохі неаліту.

**636г.** Стаянка-4. За 1,8 км на поўдзень ад вёскі, ва ўрочышчы Мішурова Грыва, на вузкім прадаўгаватым узвышшы. Памер 100×15 м. Выявіла і даследавала ў 1979 г. А. Г. Калечыц. У раскопе плошчай 24 м² культурны пласт 0,4—0,5 м. У ім прасочаны контуры ямы і 2 агнішчаў, знойдзены крамянёвыя прылады працы (рэтушоры, нуклеусы, скрэблы, разцы, скоблі), ляпная кераміка эпохі неаліту і бронзавага веку.

**636д.** Стаянка-5. За 3 км на паўднёвы захад ад вёскі, ва ўрочышчы Цітаў Бугор. Выявіла і даследавала ў 1978 г. А. Г. Калечыц. У раскопе плошчай 36 м² прасочаны культурны пласт каля 0,4 м. Знойдзены фрагменты ляпной керамікі эпохі неаліту і бронзавага веку, крамянёвыя прылады працы (наканечнікі стрэл, рэтушоры, скрэблы, разцы і інш.).

**636е.** Стаянка-6. За 2,7 км на паўднёвы захад ад вёскі, ва ўрочышчы Папова Грыва. Вышыня над поплавам 0,5 м. Выявіла і абследавала ў 1979 г. А. Г. Калечыц. У раскопе плошчай 16 м² прасочаны культурны пласт 0,15 м, які залягаў пад торфам. У ім знойдзены ляпная кераміка эпохі неаліту і крамянёвыя прылады працы.

Матэрыялы абследавання захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.
*А. Г. Калечыц.*

**в. Дубраўка, цэнтр сельсавета**

**637. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). Вул. Савецкая. Пахаваны 20 воінаў, якія загінулі ў верасні 1943 г. пры вызваленні вёсак Дубраўка і Чырвоная Буда ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1959 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна з аўтаматам.

**в. Жгунская Буда, Жгунскі сельсавет**

**638. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны 55 воінаў, якія загінулі ў верасні 1943 г. пры вызваленні вёскі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1964 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна з аўтаматам.

**639. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. На ўшанаванне памяці 134 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1977 г. пастаўлены 2 стэлы з імёнамі загінуўшых.

**в. Жгунь, цэнтр сельсавета**

**640. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАНА** (гіст.). Вул. Савецкая. Пахаваны 65 воінаў і 1 партызан, якія загінулі ў верасні 1943 г. пры вызваленні раёна ад нямецка-фашысцкіх акупантаў. У 1958 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна з аўтаматам.

**в. Запрудоўка, Насовіцкі сельсавет**

**641. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 2 воіны, якія загінулі ў верасні 1943 г. пры вызваленні вёскі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1955 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Івакі, цэнтр сельсавета**

**642. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 0,7 км на захад ад вёскі, на краі поля, налева ад палявой дарогі ў в. Насовічы. 137 паўсферычных розных па памерах насыпаў. У паўднёва-ўсходняй частцы могільніка 15 курганоў дыяметрам 5—12 м, вышынёй 0,8—1,7 м. У паўночна-заходняй частцы 122 невялікія курганы, размешчаныя праз 0,7—1,2 м адзін ад аднаго, кожны дыяметрам 1,2—2,3 м,



642. *Курганны могільнік.*



642. *Курганны могільнік. План.*



644. *Помнік землякам.*

вышынёй 0,4—0,7 м. Агульная плошча могільніка каля 2 га. Вядомы з 1873 г., абследавалі ў 1873 г. А. Ланачэўскі, у 1893 і 1910 гг. Е. Р. Раманаў, у 1976 г. В. М. Ляўко. Раскопкі не праводзіліся. *В. М. Ляўко.*

**643. МАГІЛА САВЕЦКАГА ВОІНА** (гіст.). Вул. 50 год Кастрычніка. Пахаваны воін, які загінуў у верасні 1943 г. пры вызваленні вёскі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1967 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**644. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі, каля будынка выканкома сельскага Савета. На ўшанаванне памяці 147 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1974 г. пастаўлены абеліск і стэла з імёнамі загінуўшых.

**в. Ігаўка, Крупецкі сельсавет**

**645. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). На паўночна-ўсходняй ускраіне вёскі, каля канторы саўгаса «Новы шлях». На ўшанаванне памяці 79 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1971 г. пастаўлены помнік — 2 пілоны з бюстамі юнака і дзяўчыны і стэла з дошкамі, на якіх імёны загінуўшых.

**в. Карма, цэнтр сельсавета**

**646. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны 10 воінаў, у т. л. воіны 194-й стралковай дывізіі 48-й арміі Бранскага фронту, якія загінулі ў верасні 1943 г. пры вызваленні вёскі ад нямецка-фашысцкіх акупантаў. У 1959 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна з аўтаматам.

**647. БРАЦКАЯ МАГІЛА ЧЫРВОНЫХ ПАРТЫЗАН** (гіст.). На могілках. Пахаваны 8 партызан, якія загінулі ў 1918 г. ў баях супраць войск кайзераўскай Германіі. У 1927 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**648. ПАКРОЎСКАЯ ЦАРКВА** (архіт.). У цэнтры вёскі. Пабудавана ў 2-й палавіне 19 ст. з цэглы.

Крыжападобная ў плане, трохапсідная. Над сярэдкрыжжам невялікая галоўка на чацверыку. Дамінантай аб'ёмна-прасторавай кампазіцыі з'яўляецца высокая двух'ярусная званіца, якая прымыкае да бабінца. Паверхня сцен гарызантальна руставана. Аконныя і дзвярныя праёмы дэкарыраваны ліштвамі з кілепадобнымі завяршэннямі франтончыкаў, аркамі з паўкалонамі. Неф і трансепт храма перакрыты цыліндрычнымі скляпеннямі, бабінец — крыжовым, апсіды — конхамі.

Царква — помнік архітэктуры псеўдарускага стылю. *А. Ю. Пятросава.*

**649. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Вул. Кірава. На ўшанаванне памяці 360 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1975 г. пастаўлены помнік: скульптурная кампазіцыя — воін і партызан.

**650. РАДЗІМА ЦЕРАШКОВА** Аляксея Дзмітрыевіча (гіст.).



646. *Помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў.*

Герой Савецкага Саюза генерал-лейтэнант (1945 г.) А. Дз. Церашкоў нарадзіўся 2.3.1893 г. ў сялянскай сям'і. Член КПСС з 1917 г. Скончыў камандныя курсы «Выстрал» у 1922 г., Вышэйшую ваенна-педагагічную школу ў 1928 г., Вышэйшыя акадэмічныя курсы ў 1941 г. З 1914 г. да 1917 г. ў арміі. Пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі на партыйнай і савецкай рабоце ў Гомельскім павеце. З 1918 г. ў Чырвонай Арміі. Удзельнік Грамадзянскай вайны на Петраградскім і Заходнім франтах: камандзір роты, батальёна, памочнік камандзіра палка. Удзельнік баёў на Халхін-Голе і нацыянальна-рэвалюцыйнай вайны ў Іспаніі. У Вялікую Айчынную вайну з кастрычніка 1941 г. на Заходнім і 1-м Беларускім франтах: камандзір стралковай дывізіі, корпуса. Дывізія пад камандаваннем А. Дз. Церашкова вызначылася ў 1941 г. пры абароне Тулы. Корпус пад яго камандаваннем 14.1.1945 г. прарваў абарону праціўніка на левым беразе р. Вісла, фарсіраваў р. Варта, за 15 дзён прайшоў з баямі каля 400 км і ўступіў на тэрыторыю Германіі, знішчыў 101 гармату, 13 танкаў, 117 аўтамашын, 20 складоў са зброяй, узяў у палон больш за 1,5 тыс. варожых салдат і афіцэраў. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 6.4.1945 г. Генерал-лейтэнант А. Дз. Церашкоў да 1953 г. ў Савецкай Арміі. Памёр А. Дз. Церашкоў 18.3.1960 г. Пахаваны ў г. Горкі (РСФСР). Яго імем названа вуліца ў г. Добруш.

*Літ.:* Навечно в сердце народном.— 3 изд.— Мн., 1984. *М. Б. Батвіннік.*



645. *Помнік землякам.*



648. *Пакроўская царква.*



648. *Пакроўская царква. План.*

**в. Кругавец-Калініна, цэнтр сельсавета**

**651. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАНА** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны 27 воінаў, якія загінулі ў верасні 1943 г. пры вызваленні вёскі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў, і партызан, што загінуў у Вялікую Айчынную вайну. У 1958 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна.

**652. ПОМНІК ДРУЖБЫ** (гіст., маст.). За 7 км на паўднёвы ўсход ад вёскі, на граніцы РСФСР, УССР і БССР. Пастаўлены ў 1975 г. ў гонар 30-годдзя Перамогі савецкага народа над фашысцкай Германіяй як сімвал непарушнага адзінства, баявой і працоўнай садружнасці рускага, украінскага і беларускага народаў. Помнік (арх. Л. Стукалеў, А. Мяжэнны, скульпт. Б. Клімушка, Я. Горбань; бетон; бронза; вышыня 20 м) — 3 высока ўзнятыя беламармуровыя пілоны — сімвал 3 братніх рэспублік. У верхніх частках пілонаў выявы дзяржаўных гербаў і нацыянальных арнаментаў рэспублік. Унізе пілоны аб'яднаны шырокім бронзавым кольцам, на якім гарэльефы, што адлюстроўваюць гістарычны шлях савецкага народа.

Да манумента пракладзены тры алеі. *Г. М. Ярмоленка.*

**653. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. На ўшанаванне памяці 222 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1964 г. пастаўлены 4 стэлы, на іх мармуровыя дошкі з імёнамі загінуўшых.



648. *Пакроўская царква. Інтэр'ер.*

**в. Кругоўка, цэнтр сельсавета**

**654. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. На ўшанаванне памяці 380 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1967 г. пастаўлены абеліск і 2 стэлы з імёнамі загінуўшых.

**в. Крупец, цэнтр сельсавета**

**655. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны 62 воіны, у т. л. воіны 175-й Уральскай стралковай дывізіі, якія загінулі ў кастрычніку 1943 г. пры вызваленні вёскі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў ці памерлі ад ран у шпіталі. У 1952 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна.

**656. ГАРАДЗІШЧА** (археал.). У цэнтры вёскі, на беразе р. Крупкі, якая агінае гарадзішча з поўдня і захаду. Пляцоўка круглая, дыяметрам 120 м, вышынёй 11,5 м. З паўночнага боку рэшткі ўнутранага і вонкавага валоў. Вышыня ўнутранага вала 0,6 м, шырыня 3,2 м, вышыня вонкавага 8,5, шырыня 17 м. Вядома з 1873 г., абследавалі ў 1910 г. Е. Р. Раманаў, у 1976 г. В. М. Ляўко. У шурфах і агаленнях выяўлены культурны пласт каля 0,6 м, у якім знойдзены фрагменты грубай ляпной і ганчарнай керамікі. Адносіцца да ранняга жалезнага веку і да эпохі Кіеўскай Русі. Раскопкі не праводзіліся.

Матэрыялы абследавання захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

**657. МАГІЛА БАЛЮНОВАЙ** Праскоўі Васілеўны (гіст.). На могілках.

Герой Сацыялістычнай працы П. В. Балюнова нарадзілася 30.10.1909 г. ў сялянскай сям'і. Член КПСС з 1959 г. З 1932 г. да 1941 г. працавала ў калгасе «Шлях сацыялізму», у 1943—71 гг. даярка калгаса «Беларусь». Званне Героя Сацыялістычнай Працы



649. *Помнік землякам.*



652. *Помнік Дружбы.*

прысвоена 22.3.1966 г. за поспехі ў павелічэнні вытворчасці і нарыхтовак мяса-малочнай прадукцыі. Памерла 15.4.1981 г.

У 1983 г. на магіле пастаўлена стэла. *М. Б. Батвіннік.*

**658. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Вул. Савецкая. Каля Дома культуры. На ўшанаванне памяці 270 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1967 г. пастаўлены абеліск і 2 стэлы з імёнамі загінуўшых.

**659. ТРОЦКАЯ ЦАРКВА** (архіт.). У цэнтры вёскі. Пабудавана ў сярэдзіне 19 ст. з дрэва. Храм крыжападобны ў плане. Складаецца з кубічнага асноўнага аб'ёма, пяціграннай апсіды, трох прырубаў і бабінца. Асноўны аб'ём накрыты шатровым дахам з купалам на светлавым васьміграннам барабане. Над бабінцам узвышаецца двух'ярусная званіца, завершаная галоўкай. Сцены прарэзаны прамавугольнымі аконнымі праёмамі ў ліштвах. Інтэр'ер царквы дэкарыраваны размалёўкай на біблейскія сюжэты.

Царква — помнік драўлянага дойлідства. *А. Ю. Пятросава.*

**в. Кузьмінічы, цэнтр сельсавета**

**660. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны 5 воінаў, якія загінулі ў кастрычніку 1943 г. пры вызваленні вёскі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1957 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна з вянком.

**661. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. На ўшанаванне памяці 354 аднавяскоўцаў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1965 г. пастаўлены 2 стэлы, на якіх мармуровыя дошкі з імёнамі загінуўшых.

**в. Лагуны, Насовіцкі сельсавет**

**662. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). За 1,2 км на захад ад вёскі. Пахаваны 34 воіны, якія загінулі ў кастрычніку 1943 г. пры вызваленні вёскі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1965 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптурная група: воін са сцягам, партызан і партызанка. На пастаменце выява ордэна Айчыннай вайны і дошка з надпісам-прысвячэннем.



659. *Троіцкая царква. План.*

**663. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). За 1,5 км на захад ад вёскі, на могілках. Пахаваны 51 воін, у т. л. воіны 175-й Уральскай дывізіі, якія загінулі ў кастрычніку 1943 г. пры вызваленні вёскі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1967 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна з аўтаматам. На пастаменце дошкі з надпісам-прысвячэннем і з імёнамі загінуўшых.

**в. Леніна, цэнтр сельсавета**

**664. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны 16 воінаў, якія загінулі ў верасні 1943 г. пры вызваленні вёскі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў, і 3 партызаны. У 1959 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна з вянком.

**665. ГАРАДЗІШЧА** (археал.). За 3 км на паўднёвы ўсход ад вёскі, па дарозе ў в. Лук'янаўка, на беразе р. Харашанкі. Пляцоўка здзірванелая, памерам 100×55 м, вышыня над поймай 4,5 м. У паўднёва-заходнім вуглу былы калодзеж. Умацавана ўнутраным валам вышынёй 0,8 м, шырынёй 3 м. З поўначы, захаду і поўдня прасочваецца першы вонкавы вал вышынёй 0,7 м, шырынёй 3 м. З паўднёва-заходняга боку да вала прымыкае роў глыбінёй 1 м. Другі вонкавы вал вышынёй 0,3—0,4 м, шырынёй 2,2 м знаходзіцца побач з ровам, на краі пляцоўкі. Абследавалі ў 1910 г. Е. Р. Раманаў, у 1976 г. В. М. Ляўко. У агаленнях усходняга краю пляцоўкі каля вонкавага вала прасочваецца культурны пласт 0,35 м, у якім знойдзены фрагменты ляпной і ганчарнай керамікі.

Матэрыялы абследавання захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

*Літ.:* Романов Е. Р. Археологический очерк Гомельского уезда (Могилевской губернии).— Вильна, 1910.

*В. М. Ляўко.*



659. *Троіцкая царква.*



662. *Помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў.*

**666. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. На ўшанаванне памяці 165 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1969 г. пастаўлены помнік — скульптура воіна.

**пас. Леніндар, Ленінскі сельсавет**

**667. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). Мясцовая назва Французскія Магілы. За 0,5 км на поўдзень ад вёскі, ва Усохскім лесе. 4 курганы вышынёй 1,5 м, дыяметрам 5—11 м. Насыпы здзірванелыя, зараслі хмызняком і хвойнікам. Выявіла і даследавала ў 1976 г. В. М. Ляўко. Раскопкі не праводзіліся.



665. *Гарадзішча.*

**в. Лявонцьева, Дзям'янкаўскі сельсавет**

**668. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАНА** (гіст.). За 3 км на паўднёвы захад ад вёскі, ва ўрочышчы Шабрынскае. Пахаваны 111 воінаў, якія загінулі пры вызваленні раёна ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў або памерлі ад ран у 1943—44 гг., і 1 партызан. У 1979 г. на магіле пастаўлены 3 стэлы, на 2 — імёны загінуўшых.

**669. ГАРАДЗІШЧА** (археал.). За 2,5 км на паўднёвы захад ад вёскі, у пойме р. Спонка (левы прыток р. Сож). Пляцоўка памерам 55×42 м. Штучных умацаванняў няма. Абследаваў у канцы 1960-х гадоў Л. Д. Побаль. Раскопкі не праводзіліся.

**670. МАГІЛА САВЕЦКАГА ВОІНА** (гіст.). На могілках. Воін загінуў у кастрычніку 1943 г. ў баі супраць нямецка-фашысцкіх акупантаў. У 1976 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**урочышча Лясная Варта (Няцёша), Агародня-Гомельскі сельсавет**

**671. МЕСЦА БАЗІРАВАННЯ ДЫВЕРСІЙНА-РАЗВЕДВАЛЬНАГА АТРАДА БРАНСКАГА ФРОНТУ** (гіст.). У чэрвені 1942 г. дыверсійна-разведвальны атрад Бранскага фронту ў складзе 70 байцоў пад камандаваннем капітана М. С. Кавалёва быў дэсантаваны ў раён Навазыбкаўскіх лясоў, да кастрычніка 1943 г. базіраваўся ва ўрочышчы Лясная Варта (Няцёша). Байцы атрада пусцілі пад адхон 29 эшалонаў, знішчылі 5 мастоў, шмат жывой сілы і тэхнікі праціўніка. У маі 1943 г. атрад вёў баі супраць нямецка-фашысцкіх карнікаў. У кастрычніку 1943 г. злучыўся з часцямі Чырвонай Арміі. У 1978 г. ў памяць аб дзейнасці атрада ўстаноўлена стэла.

*Літ.:* Сіманоўскі І. Рэйды бясстрашных.— Беларусь, 1969, № 7.

**672. ПАСЕЛІШЧА** (археал.). За 0,8 км на захад ад вёскі, ва ўрочышчы Падлужжа. Выявіла ў 1979 г. і даследавала ў 1980—81 гг. 192 м² плошчы А. Г. Калечыц. Культурны пласт каля 0,5 м. Знойдзены крамянёвыя вырабы: сякерападобныя прылады працы, адшчэпы, пласціны, разцы, скоблі, наканечнікі стрэл, трапецыі, серпападобныя прылады, ляпная кераміка эпохі неаліту і бронзавага веку.

Матэрыялы даследавання захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

*А. Г. Калечыц.*

**в. Мар'іна, Рассветаўскі сельсавет**

**673. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). За 1 км на поўнач ад вёскі. Пахаваны 2 воіны, якія загінулі ў кастрычніку 1943 г. ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1965 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**674. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны 287 воінаў і партызан, у т. л. воіны 73-й і 307-й стралковых дывізій 48-й арміі, якія загінулі ў кастрычніку 1943 г. пры вызваленні вёскі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1953 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна з аўтаматам.




668. *Помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў і партызана.*

**в. Марозаўка, Кругоўскі сельсавет**

**675. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ, ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны 3 воіны, якія загінулі ў 1943 г. пры вызваленні вёскі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. На ўшанаванне памяці савецкіх воінаў і 135 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1980 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна з аўтаматам, абапал — 2 стэлы з надпісамі-прысвячэннямі і імёнамі загінуўшых жыхароў вёскі.

**в. Мікалаеўка, Усоха-Будскі сельсавет**

**676. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны 6 воінаў, якія загінулі ў верасні 1943 г. пры вызваленні вёскі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1952 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптурная група: на фоне сцяга воін, партызан і партызанка.

**677. МАГІЛА ПАРТЫЗАНА** (гіст.). На могілках. Партызан загінуў у Вялікую Айчынную вайну. У 1962 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Насовічы, цэнтр сельсавета**

**678. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). Вул. Савецкая, у



675. *Помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў.*

скверы. Пахаваны воін, што памёр ад ран у жніўні 1941 г., і 23 воіны, якія загінулі пры вызваленні вёскі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў або памерлі ад ран у шпіталі ў верасні — кастрычніку 1943 г. У 1959 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна з вянком.

**679. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Вул. Савецкая, у скверы. На ўшанаванне памяці 374 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1975 г. пастаўлены помнік — абеліск і дошкі з імёнамі загінуўшых.

**680. ПОМНІК НАСТАЎНІКАМ І ВУЧНЯМ** (гіст.). Вул. Садовая, побач са школай. На ўшанаванне памяці 21 настаўніка і выпускніка школы, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1968 г. пастаўлены абеліск.

**681. СЕЛІШЧА** (археал.). За 2,5 км на захад ад вёскі, на ўчастку тэрасы правага берага р. Вуць. Выявіў і абследаваў у 1981 г. А. А. Макушнікаў. Культурны пласт 0,3—0,4 м. Знойдзена ляпная кераміка, рэшткі ганчарнага посуду, фрагменты гліняных патэльняў. Датуецца канцом 1-га тысячагоддзя н. э.

Матэрыялы абследавання захоўваюцца ў Гомельскім абласным краязнаўчым музеі.



678. *Помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў.*



679. *Помнік землякам.*

**в. Ніўкі, Церахоўскі пасялковы Савет**

**682. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны 6 воінаў, якія загінулі пры вызваленні вёскі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў у кастрычніку 1943 г. або памерлі ад ран. У 1965 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна з аўтаматам.

**в. Перарост, цэнтр сельсавета**

**683. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). На могілках. Пахаваны 70 воінаў, якія загінулі ў кастрычніку 1943 г. пры вызваленні вёскі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў або памерлі ад ран у шпіталі, і 3 партызаны, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну. У 1954 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна з аўтаматам.

**684. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Вул. Цэнтральная. На ўшанаванне памяці 365 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1968 г. пастаўлены абеліск і стэла.

**пас. Селішча 1-е, Кармянскі сельсавет**

**685. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 8 воінаў, якія загінулі ў кастрычніку 1943 г. пры вызваленні вёскі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1969 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**пас. Уборак,**
**Агародня-Гомельскі сельсавет**

**686. МЕСЦА БАЗІРАВАННЯ ДОБРУШСКАГА ПАДПОЛЬНАГА РАЙКОМА КП(б)Б І ДОБРУШСКАЙ ПАРТЫЗАНСКАЙ БРЫГАДЫ ІМЯ І. В. СТАЛІНА** (гіст.).

Добрушскі падпольны райком КП(б)Б створаны ў чэрвені 1943 г. (сакратар І. М. Гатальскі), дзейнічаў да 27.9.1943 г., базіраваўся пры Добрушскай партызанскай брыгадзе імя І. В. Сталіна. Райком КП(б)Б узначальваў камуністычнае падполле, партызанскі рух, вёў палітычную і арганізацыйную работу сярод насельніцтва.

Добрушская партызанская брыгада імя І. В. Сталіна створана ў ліпені 1943 г. на базе атрада імя В. М. Молатава (арганізаваны ў маі 1943 г. Камандзір І. П. Крывенчанка, камісар І. М. Гатальскі). Партызаны брыгады праводзілі дыверсіі на чыгунках Гомель — Бранск, Гомель — Жлобін, Гомель — Бахмач, удзельнічалі ў баях за ўтрыманне партызанскай зоны і за выхад з акружэння ў час карных аперацый. 27.9.1943 г. брыгада (771 партызан, атрады імя В. М. Молатава і С. М. Будзённага) злучылася з Чырвонай Арміяй, удзельнічала ў вызваленні тэрыторыі Добрушскага р-на ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў.

У 1980 г. ў гонар баявой дзейнасці партызанскай брыгады імя І. В. Сталіна ў цэнтры пасёлка ўстаноўлена стэла з надпісам-прысвячэннем.

*Літ.:* Подпольные партийные органы Компартии Белоруссии в годы Великой Отечественной войны (1941—1944).— Мн., 1975; Михайлашев Н. А. Буря гнева: Записки чекиста.— Мн., 1971.

*М. Б. Батвінік.*

**в. Усохская Буда,**
**цэнтр сельсавета**

**687. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). На могілках. Пахаваны 6 воінаў, якія загінулі ў верасні 1943 г. пры вызва-



686. *Помнік у гонар Добрушскай партызанскай брыгады імя І. В. Сталіна.*



688. *Помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў і партызана.*

ленні вёскі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў, і 3 партызаны. У 1959 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна з аўтаматам.

**в. Харошаўка, Агародня-Гомельскі сельсавет**

**688. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАНА, ПОМНІКІ Ў ПАМЯЦЬ АБ ЗЛУЧЭННІ ДОБРУШСКАЙ ПАРТЫЗАНСКАЙ БРЫГАДЫ ІМЯ І. В. СТАЛІНА З САВЕЦКАЙ АРМІЯЙ І ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі, каля школы. Пахаваны 7 воінаў, што загінулі ў верасні 1943 г. пры вызваленні вёскі Харошаўка і пас. Уборак ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў і 1 партызан, які загінуў у Вялікую Айчынную вайну. У 1963 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна.

Побач у 1977 г. пастаўлены стэлы ў памяць аб злучэнні Добрушскай партызанскай брыгады імя І. В. Сталіна з часцямі Чырвонай Арміі, а таксама на ўшанаванне памяці 170 жыхароў вёскі Харошаўка і пас. Уборак, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну ў барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў.

*М. Б. Батвіннік.*

**689. МАГІЛА АТРОШЧАНКІ** Андрэя Трыфанавіча (гіст.). На могілках. Партызан Добрушскай партызанскай брыгады імя І. В. Сталіна А. Т. Атрошчанка загінуў у 1943 г. У 1947 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**г. п. Цярахоўка, цэнтр пасялковага Савета**

**690. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). У цэнтры пасёлка, у скверы. Пахаваны 54 воіны, у т. л. воіны 354-й стралковай дывізіі, якія загінулі 26.9.1943 г. пры вызваленні гарадскога пасёлка ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў або памерлі ад ран у шпіталі. У 1959 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна.

**691. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Вул. Леніна, каля будынка праўлення калгаса «Чырвоны Кастрычнік». На ўшанаванне памяці 259 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1969 г. пастаўлены помнік: стэла з вывамі твараў 2 воінаў і старога, сцяна з імёнамі загінуўшых.

**692. ПОМНІК ЛЕНІНУ** Уладзіміру Ільічу (гіст.). У цэнтры пасёлка, у скверы. Скульптура У. І. Леніна ўстаноўлена ў 1964 г.

**693. ПОМНІК НАСТАЎНІКАМ І ВУЧНЯМ** (гіст.). На вул. Леніна. На ўшанаванне памяці 58 настаўнікаў і вучняў мясцовай школы, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1968 г. пастаўлена стэла.

**в. Чырвоная Буда, Дубраўскі сельсавет**

**694. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). Вул. Ленінская. Пахаваны 15 воінаў, якія загінулі ў 1941 г. ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1969 г. на магіле ўстаноўлена пліта.

**695. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). На вул. Ленінскай. На ўшанаванне памяці 256 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1971 г. пастаўлена стэла, на якой мармуровыя дошкі з імёнамі загінуўшых.

**пас. Чырвоная Гара, Насовіцкі сельсавет**

**696. СЕЛІШЧА** (археал.). За 0,2 км на паўднёвы захад ад пасёлка, на правым беразе р. Вуць, побач з могілкамі. Выявіў і абследаваў у 1980 г. А. А. Макушнікаў. Плошча 16 га. У культурным пласце 0,2 м, знойдзена ляпная і ганчарная кераміка. Адносіцца да 1-й палавіны 1-га тысячагоддзя н. э. і да эпохі Кіеўскай Русі. Раскопкі не праводзіліся.

Матэрыялы абследавання захоўваюцца ў Гомельскім абласным краязнаўчым музеі.

*Літ.:* Макушников О. А. Разведки в Гомельском Посожье.— У кн.: Археологические открытия 1980 года. М., 1981.

*А. А. Макушнікаў.*

**в. Чырвоны Партызан, Кузьмініцкі сельсавет**

**697. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны 3 воіны, якія загінулі ў 1941 г. ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1963 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна з аўтаматам.



698. *Царква. План.*



691. *Помнік землякам.*

**698. ЦАРКВА** (архіт.). У цэнтры вёскі. Пабудавана ў канцы 19 ст. з дрэва.

Крыжова-купальны аднанефавы з пяціграннай апсідай храм накрыты шатровым дахам, у якім прарэзаны люкарны, аздобленыя разьбой. Над цэнтральным аб'ёмам узвышаецца невялікі купал на васьмерыку. Над бабінцам высокая трох'ярусная званіца. Ярусы аддзелены развітымі разнымі карнізамі. Сцены прарэзаны прамавугольнымі аконнымі праёмамі ў ліштвах.

Царква — помнік драўлянага народнага дойлідства з шырокім выкарыстаннем разьбы ў дэкоры.

*А. Ю. Пятросава.*

**в. Чырвоны Рог, Васільеўскі сельсавет**

**699. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны 10 воінаў, якія загінулі ў верасні 1943 г. пры вызваленні вёскі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1957 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна з аўтаматам.



698. *Царква.*

# ЕЛЬСКІ РАЁН






Могільнікі (грунтавыя, курганныя), курганы

Помнікі і памятныя месцы Вялікай Айчыннай вайны (месцы баёў, магілы савецкіх воінаў і партызан, Курганы Славы, помнікі землякам і інш.)

Помнікі ахвярам фашызму (месцы канцлагераў і лагераў смерці, месцы масавай загубы насельніцтва, спаленыя і неадноўленыя вёскі і інш.)

Помнікі сацыялістычнага будаўніцтва

Помнікі і месцы, звязаныя з імёнамі савецкіх партыйных, дзяржаўных і гаспадарчых дзеячаў, дзеячаў культуры, навукі і тэхнікі

Культавая архітэктура

Цэнтр раёна

Цэнтры сельсаветаў

## VII. ЕЛЬСК

Горад, цэнтр Ельскага р-на. За 177 км на паўднёвы захад ад Гомеля. Чыгуначная станцыя на лініі Калінкавічы — Оўруч.

Паводле пісьмовых крыніц вядомы з 16 ст., у некаторых пад назваю К а р а л і н. Уваходзіў у склад Мазырскага павета Вялікага княства Літоўскага. З 1569 г. ў складзе Рэчы Паспалітай. У 18 ст. мястэчка Мазырскага павета. Належаў Спадам, потым Аскеркам. З 1793 г. ў складзе Расійскай імперыі, мястэчка Міхалкаўскай воласці Мазырскага павета Мінскай губерні. У 1886 г. ў Ельску было 44 двары, вінакурны завод, 3 крамы, школа, паштовая станцыя на шляху Мазыр — Оўруч, царква. Паводле перапісу 1897 г. 600 жыхароў. З пабудовай у 1873 г. чыгункі Жлобін — Оўруч стаў чыгуначнай станцыяй. У Рэвалюцыю 1905—07 гг. жыхары Ельска выступалі супраць самадзяржаўя. Савецкая ўлада ўстаноўлена ў лістападзе 1917 г. У лютым — снежні 1918 г. акупіраваны войскамі кайзераўскай Германіі.

З ліпеня 1924 г. цэнтр Каралінскага, з лютага 1931 г.— Ельскага р-наў. З 27.9.1938 г. гарадскі пасёлак. У 1939 г. ў Ельску 3878 жыхароў. У Вялікую Айчынную вайну з 23.8. 1941 г. да 11.1.1944 г. акупіраваны нямецка-фашысцкімі захопнікамі. У Ельску і на тэрыторыі раёна дзейнічалі Ельскае камуністычнае падполле, падпольныя райкомы КП(б)Б (23.8. 1941 г.— 11.1.1944 г.) і ЛКСМБ (1.2. 1943 г.— 11.1.1944 г.). Выдавалася падпольная газета «Кліч Радзімы».

У 1943 г. ў Ельску дыслацыраваўся 101-ы славацкі полк, афіцэр якога Ян Налепка з групай салдат-антыфашыстаў 15.5.1943 г. перайшоў да партызан злучэння А. М. Сабурава. 11.1.1944 г. падраздзяленні 415-й стралковай дывізіі 61-й арміі Беларускага фронту ва ўзаемадзеянні з партызанамі 37-й Ельскай брыгады партызанскага злучэння Паўднёва-Прыпяцкай зоны Палескай вобл. вызвалілі Ельск. З студзеня 1954 г. ў складзе Гомельскай вобл., цэнтр раёна. У 1959 г. было 4,8 тыс. жыхароў, у 1970 г.— 6,5 тыс. жыхароў. З 5.7.1971 г. горад.

Першы праект планіроўкі горада распрацаваны ў 1954 г. інстытутам «Белсельпраект». Сучасная забудова Ельска ажыццяўляецца паводле генеральнага плана, распрацаванага ў 1968 г. Гомельскімі абласнымі праектнымі майстэрнямі інстытута «Белдзяржпраект». Цэнтр горада — пл. Леніна. Тут размешчаны будынкі райкома КПБ і райвыканкома, універмаг. На вуліцах Ленінскай, Пушкіна, у мікрараёне «50 гадоў СССР» будуюцца 3—5-павярховыя жылыя дамы. Помнікі: У. І. Леніну, землякам, настаўнікам і вучням, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, на брацкіх магілах савецкіх воінаў, савецкіх воінаў, партызан і падпольшчыка. Захаваўся помнік драўлянага дойлідства 18 ст.— Троіцкая царква.

Прамысловая зона ў паўночнай частцы горада. Працуюць: заводы жалезабетонных вырабаў, кансервавы, маслазавод, хлебазавод, спіртзавод, мэблевая фабрыка, камбінат бытавога абслугоўвання, раённае аб'яднанне Дзяржкамсельгастэхнікі. У Ельску 4 сярэднія агульнаадукацыйныя, музычная і дзіцяча-юнацкая спартыўная школы, Дом піянераў і школьнікаў, 5 дашкольных устаноў, Дом культуры, 2 бібліятэкі, музей народнай славы, бальніца. Выдаецца раённая газета «Ленінская праўда».

Зона адпачынку — у раёне пас. Чырвоны Пільшчык.

*Літ.:* Ж у ч к е в и ч В. А. Краткий топонимический словарь Белоруссии.— Мн., 1974; П о л ь с к і С. А. Нарысы геаграфіі гарадоў Беларускай ССР (1917—1941 гг.).— Мн., 1973.

*А. І. Валахановіч, А. М. Кулагін.*

**700. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). За 2 км на ўсход ад Ельска, каля шашы Мазыр — Оўруч. Пахаваны 21 воін, якія загінулі ў канцы 1943 г. пры вызваленні раёна ад нямецка-фашысцкіх акупантаў. У 1967 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна.

**701. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ, ПАРТЫЗАН І ПАДПОЛЬШЧЫКА** (гіст.). Вул. Карповіча, на могілках. Пахаваны 12 воінаў і 10 партызан, а таксама сакратар Ельскага падпольнага райкома КП(б)Б Іван Архіпавіч Козінцаў, якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у 1941—44 гг.

І. А. К о з і н ц а ў нарадзіўся ў 1900 г. ў в. Паўлаўка Ельскага р-на ў сялянскай сям'і. Член КПСС з 1928 г. У 1937—41 гг. сакратар Ельскага райкома КП(б)Б. У Вялікую



700. *Помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў.*



VII. *Плошча Леніна.*

Айчынную вайну з жніўня 1941 г. сакратар Ельскага падпольнага райкома КП(б)Б, адзін з арганізатараў і кіраўнікоў камуністычнага падполля і партызанскага руху на тэрыторыі Ельскага р-на. Загінуў 16.7.1942 г. ў баі пры разгроме варожага гарнізона ў в. Рамязы (гл. артыкул № 736 «Мемарыяльная дошка партызанам»).

У 1952 г. на брацкай магіле пастаўлены абеліск.

*Літ.:* Подпольные партийные органы Компартии Белоруссии в годы Великой Отечественной войны (1941—1944).— Мн., 1975; Ветров И. Д. Братья по оружию.— Мн., 1965; В грозные годы.— Мн., 1973. *Г. І. Дулеба.*

**702. ДОМ, ДЗЕ Ў 1942—43 гг. ЖЫЎ НАЛЕПКА** Ян (гіст.). Вул. Савецкая, 40.

Герой Савецкага Саюза, Герой Славацкага нацыянальнага паўстання Ян Налепка (партызанскі псеўданім Рэпкін) нарадзіўся 20.9. 1912 г. ў в. Сміжані (Усходняя Славакія) у сялянскай сям'і. З 1934 г. ў Чэхаславацкай арміі. У 1936 г. скончыў афіцэрскую школу. У 1939 г. мабілізаваны ў славацкую армію. У 1941 г. марыянетачны ўрад Славакіі накіраваў вайсковую часць, у якой служыў Я. Налепка, на савецка-германскі фронт. Начальнік штаба 101-га славацкага палка, які павінен быў ахоўваць камунікацыі нямецка-фашысцкіх войск у зоне Карасцень — Оўруч — Ельск — Мазыр, Гомель — Брэст і весці барацьбу з партызанамі. Стварыў падпольную антыфашысцкую групу, якая вяла прапаганду і агітацыю сярод салдат палка. У пачатку 1942 г. Я. Налепка і іншыя члены групы ўстанавілі сувязь з савецкімі партызанамі Палескай і Мінскай абласцей, перадавалі звесткі разведкі, медыкаменты, зброю, боепрыпасы, дапамагалі ў правядзенні баявых аперацый, выратоўвалі савецкіх людзей ад загубы. Пад уплывам агітацыі групы Я. Налепкі многія славацкія салдаты і афіцэры перайшлі на бок партызан. Гітлераўцам стала вядома аб дзейнасці Я. Налепкі. Каб пазбегнуць расправы, ён з групай славакаў-антыфашыстаў у маі 1943 г. перайшоў да партызан украінскага злучэння пад камандаваннем А. М. Сабурава, арганізаваў і ўзначаліў славацкі партызанскі атрад, які дзейнічаў у раёне Оўруч — Ельск — Мазыр — Алеўск. Кандыдат у члены КПСС з 1943 г. Ян Налепка загінуў 16.11.1943 г. пры вызваленні г. Оўруч, пахаваны там жа. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 2.5.1945 г., званне Героя Славацкага нацыянальнага паўстання — 5.5.1945 г. Яго імем названа вуліца ў Ельску. У гарадах Оўруч і Спішска-Нова-Вес (ЧССР) Я. Налепку пастаўлены помнікі.

У 1967 г. на доме, дзе жыў Я. Налепка, устаноўлена мемарыяльная дошка.



702. *Дом, у якім жыў Ян Налепка.*

*Літ.:* Ветров И. Д. Братья по оружию.— Мн., 1965; В памяти народной.— Мн., 1969; Люди легенд. В. 4.— М., 1971; Навечно в сердце народном.— 3 изд.— Мн., 1984. *Г. І. Дулеба.*

**703. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА ВУЧНЯМ** (гіст.). Вул. Ленінская, 54, на будынку сярэдняй школы № 1. Устаноўлена ў 1967 г. на ўшанаванне памяці 11 вучняў, якія загінулі ў барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх акупантаў у Вялікую Айчынную вайну.

**704. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА ВЫЗВАЛІЦЕЛЯМ** (гіст.). Вул. Ленінская, 11. Устаноўлена ў 1969 г. ў гонар воінаў і партызан, якія ўдзельнічалі ў вызваленні Ельска ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў.

У пачатку снежня 1943 г. падраздзяленні 415-й стралковай дывізіі (камандзір палкоўнік П. І. Машчалкоў) 61-й арміі Беларускага фронту разам з партызанамі 37-й Ельскай брыгады партызанскага злучэння Паўднёва-Прыпяцкай зоны Палескай вобл. (гл. артыкул № 722 «Мемарыяльная дошка ў гонар 37-й Ельскай партызанскай брыгады») пачалі вызваленне Ельска, 7 снежня авалодалі яго паўднёва-заходняй часткай. Аднак праціўнік, атрымаўшы значнае падмацаванне жывой сілай і тэхнікай, перайшоў у контратаку. 8 снежня савецкія воіны і партызаны вымушаны былі адступіць. 9.1.1944 г. часці 415-й стралковай дывізіі і партызаны 37-й Ельскай партызанскай брыгады зноў разгарнулі наступленне, 11 студзеня зламалі варожае супраціўленне і вызвалілі Ельск. *Г. І. Дулеба.*

**705. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА НАСТАЎНІКАМ** (гіст.). Вул. Ленінская, 54, на будынку сярэдняй школы № 1. Устаноўлена ў 1967 г. на ўшанаванне памяці 5 настаўнікаў школы, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну ў барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў.

**706. МЕСЦА ДЗЕЙНАСЦІ КАМУНІСТЫЧНАГА ПАДПОЛЛЯ** (гіст.). У Ельску і раёне ў Вялікую Айчынную вайну пад кіраўніцтвам Палескага падпольнага абкома КП(б)Б, Ельскіх падпольных райкомаў КП(б)Б і ЛКСМБ дзейнічала камуністычнае падполле. У жніўні 1941 г. створаны падпольныя групы ў Ельску — кіраўнікі Я. М. Шэцка, А. І. Сухамель, у в. Скароднае — М. Н. Драчэўскі, у снежні 1941 г. у в. Боўгарка — кіраўнік І. Р. Шульга (гл. таксама артыкул № 740 «Мемарыяльная дошка камсамольцам-падпольшчыкам»). Падпольшчыкі трымалі сувязь з 37-й Ельскай партызанскай брыгадай, распаўсюджвалі сярод насельніцтва зводкі Саўінфармбюро, антыфашысцкія лістоўкі і газету «Кліч Радзімы», выкрывалі гітлераўскіх агентаў, вялі агітацыйную работу ў фарміраваннях ворага. Пад іх уплывам каля 40 славакаў адмовіліся служыць гітлераўцам і перайшлі да партызан. Члены 2 падпольных груп Ельска працавалі на чыгунцы, прадпрыемствах, у нямецка-фашысцкіх установах. Яны збіралі звесткі аб праціўніку, здабывалі прадукты, бланкі пашпартоў, медыкаменты, зброю і боепрыпасы, перадавалі іх партызанам, псавалі абсталяванне на прадпрыемствах ворага. У Ельску вывелі са строю майстэрню, у якой гітлераўцы рамантавалі ваенную тэхніку, узарвалі чыгуначны мост, паравоз і будынак дэпо вузкакалейнай чыгункі, спалілі мост цераз р. Мытва на шашы Оўруч — Мазыр, памагалі партызанам у правядзенні баявых аперацый. Камсамольцы Скараднянскай групы спалілі мост цераз р. Славечна. Боўгарская група інфармавала партызан пра рух варожых войск, здабывала зброю, удзельнічала ў дыверсіях. Па даносу правакатараў у 1943 г. гітлераўцы схапілі І. П. Казака, І. І. Мазуркевіча, М. І. Мазуркевіча, І. Е. Уласенку, Я. М. Шэцка і пасля катаванняў расстралялі. У барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў загінулі таксама П. Е. Арцямчук, Н. Ц. Бусел, А. А. Козінцаў, А. П. Касенка, А. І. Сухамель.

*Літ.:* Подпольные партийные органы Компартии Белоруссии в годы Великой Отечественной войны (1941—1944).— Мн., 1975; Подпольные комсомольские органы Белоруссии в годы Великой Отечественной войны (1941—1944).— Мн., 1976; Ветров И. Д. Братья по оружию.— Мн., 1965; Ильинковский М. К. Шла война народная.— Мн., 1973. *Г. І. Дулеба.*

**707. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). На вул. Ленінскай, у цэнтры горада. На ўшанаванне памяці жыхароў Ельска і Ельскага р-на, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну ў барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў, у 1969 г. пастаўлены абеліск.

**708. ПОМНІК ЛЕНІНУ** Уладзіміру Ільічу (гіст.). На вул. Ленінскай, перад будынкам Дома культуры. Скульптура У. І. Леніна ўстаноўлена ў 1961 г.

**709. ПОМНІК НАСТАЎНІКАМ І ВУЧНЯМ** (гіст.). Вул. Ленінская, на тэрыторыі сярэдняй школы № 1. На ўшанаванне памяці 5 настаўнікаў і 11 вучняў школы, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну ў барацьбе

супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў, у 1967 г. пастаўлены абеліск.

**710. ТРОІЦКАЯ ЦАРКВА** (архіт.). Вул. Ленінская, 3. Пабудавана ў 1770-я гады з дрэва, у 1870—71 гг. да бабінца прыбудавана званіца.

Храм пяцізрубны, крыжова-цэнтрычнай кампазіцыі. Складаецца з цэнтральнага васьміграннага ў плане зруба і прылеглых да яго прамавугольнага бабінца, пяцігранцай апсіды і 2 бакавых прыбудоў. Цэнтральны зруб завершаны масіўным светлавым барабанам-васьмерыком, які пераходзіць у вялікі купал з малым васьмігранным барабанам і цыбулепадобнай галоўкай. Астатнія зрубы больш нізкія, накрыты пакатымі двухсхільнымі дахамі з вальмамі ў тарцах. Трох'ярусная званіца (васьмярык на 2 чацверыках) завершана шатром. Сцены будынка звонку вертыкальна і гарызантальна ашаляваны дошкамі з нашчыльнікамі, прарэзаны высокімі арачнымі і васьміграннымі аконнымі праёмамі, аздобленымі плоскімі ліштвамі. У інтэр'еры дамінуе цэнтральны двухсветлавы аб'ём, які шырокімі праёмамі звязаны з бабінцам, апсідай і бакавымі прыбудовамі. Перакрыццё плоскае, бэлечнае. У верхняй частцы бабінца размешчаны хоры.

Царква — помнік народнага драўлянага дойлідства з элементамі класіцызму.

*Літ.:* Якімовіч Ю. А. Драўлянае дойлідства Беларускага Палесся. XVII—XIX стст.— Мн., 1978. *А. М. Кулагін.*

**в. Багуцічы, Багуціцкі сельсавет**

**711. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). На могілках. Пахаваны 24 воіны і партызаны, якія загінулі ў 1943—44 гг. у баях супраць нямецка-фашысцкіх



707. *Помнік землякам.*



708. *Помнік У. І. Леніну.*

акупантаў. У 1964 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Валаўск, цэнтр сельсавета**

**712. МАГІЛА ШЧАРБАКОВА** Івана Фёдаравіча (гіст.). На могілках. Савецкі воін І. Ф. Шчарбакоў загінуў у баі супраць нямецка-фашысцкіх акупантаў у 1944 г. У 1957 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**713. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). За 0,2 км на ўсход ад вёскі. На ўшанаванне памяці 251 жыхара вёскі, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну ў барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў, у 1979 г. пастаўлена стэла.

**в. Вярхі, Старавысокаўскі сельсавет**

**714. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны 100 жыхароў, расстраляных 18.7. 1942 г. нямецка-фашысцкімі захопнікамі ў час карнай аперацыі. Вёску (46 двароў) акупанты спалілі. У 1967 г. на магіле пастаўлены абеліск. Вёска ўвекавечана ў мемарыяльным комплексе Хатынь.

**в. Грышы, Засінцаўскі сельсавет**

**715. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНА І ПАРТЫЗАНА** (гіст.). На могілках. Пахаваны воін і партызан, якія загінулі ў 1943 і 1944 гг. у баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1957 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Дуброва, Старавысокаўскі сельсавет**

**716. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). На могілках. Пахаваны 8 воінаў і партызан, якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у 1943—44 гг. У 1957 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**717. КУРГАН ПАМЯЦІ** (гіст.). За 0,5 км на поўдзень ад вёскі. Насыпаны ў 1967 г. на ўшанаванне памяці 136 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну ў барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. На вяршыні Кургана пастаўлена скульптура воіна.

**в. Жукі, Качышчанскі сельсавет**

**718. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). У цэнтры вёскі. Летам 1943 г. нямецка-фашысцкія захопнікі ў вёсцы загубілі больш за 3,5 тыс. мірных жыхароў, прывезеных сюды з розных населеных пунктаў Ельскага і іншых раёнаў Палескай вобл. У 1972 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура жанчыны, стэла з надпісам-прысвячэннем і мемарыяльная сцяна.

**в. Забалацце (не існуе), Старавысокаўскі сельсавет**

**719. МЕСЦА СПАЛЕНАЙ ВЁСКІ, МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). Вёска Забалацце знаходзілася за 3 км на паўночны ўсход ад в. Будкі. 18.7. 1942 г. ў час карнай аперацыі нямецка-фашысцкія акупанты расстралялі 167 жыхароў і спалілі вёску (76 двароў). Пасля Айчыннай вайны вёска не адрадзілася, увекавечана ў мемарыяльным комплексе Хатынь. Ахвяры фашызму пахаваны на месцы спаленай вёскі. У 1975 г. на магіле пастаўлена стэла з барэльефнымі выявамі мужчын, жанчын і дзяцей.



710. *Троіцкая царква. Фрагмент бакавога фасада.*

**в. Загацце, Качышчанскі сельсавет**

**720. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). На ўсходняй ускраіне вёскі. Пахаваны 25 жыхароў вёскі, загубленых нямецка-фашысцкімі акупантамі ў ліпені 1942 г. У 1969 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Засінцы, цэнтр сельсавета**

**721. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). На паўночна-ўсходняй ускраіне вёскі. На ўшанаванне памяці 106 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну ў барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў, у 1967 г. пастаўлена стэла з барэльефнай выявай галавы жанчыны і імёнамі загінуўшых.

**в. Зашыр'е, Старавысокаўскі сельсавет**

**722. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА Ў ГОНАР 37-й ЕЛЬСКАЙ ПАРТЫЗАНСКАЙ БРЫГАДЫ** (гіст.). Устаноўлена ў 1970 г. на будынку сярэдняй школы.

У Вялікую Айчынную вайну ў час нямецка-фашысцкай акупацыі ў лясах вакол в. Зашыр'е базіраваліся Ельскі партызанскі атрад, пазней 37-я Ельская партызанская брыгада Паўднёва-Прыпяцкай зоны Палескай вобл. Ельскі партызанскі атрад створаны ў лютым 1942 г. ў выніку аб'яднання Качышчанскай і Скарадзянскай партызанскіх груп. Камандзіры атрада Ф. М. Руцкі, А. С. Мішчанка, камісары А. С. Мішчанка, А. Л. Жыльскі, З. Я. Чарнаглаз, Я. А. Татараў (в. а.), І. П. Пастухоў. Летам 1942 г. ў склад атрада ўваходзіла каля 130 партызан. 1.7.1943 г. Ельскі атрад быў разгорнуты ў 37-ю Ельскую партызанскую брыгаду Паўднёва-Прыпяцкай зоны Палескай вобл. Камандзір брыгады А. С. Мішчанка, камісары Я. А. Татараў (ліпень — кастрычнік 1943 г.), І. П. Пастухоў (кастрычнік 1943 г.— студзень 1944 г.). Дзейнічала на тэрыторыі Ельскага і суседніх раёнаў Палескай вобл. Партызаны наносілі ўдары па камунікацыях ворага — на чыгуначных участках Ельск — Мазыр, Ельск — Оўруч, на грунтавых і шашэйных дарогах. Найбольш значныя засадныя баі супраць акупантаў правялі 12 жніўня і 14 лістапада 1942 г., 30.3.1943 г. на дарогах Скароднае — Валаўская Рудня, Оўруч — Ельск. Некалькі баёў праведзены сумесна з украінскімі партызанскімі атрадамі злучэння С. А. Каўпака. У верасні 1943 г. ўдзельнічалі ў аперацыі «Рэйкавая вайна» на чыгуначным участку Багуцічы — Ельск. Пусцілі пад адхон 27 эшалонаў з жывой сілай і тэхнікай ворага, падарвалі больш за 700 рэек, каля 100 платформ, пашкодзілі 15 км чыгуначнага палатна, 42 км тэлефонна-тэлеграфнай лініі, знішчылі 66 мастоў. Разам з часцямі Чырвонай Арміі партызаны брыгады вызвалілі г. Ельск. 27.11.1943 г.— 11.1.1944 г. брыгада (755 партызан) паатрадна («Бальшавік», імя В. І. Чапаева, «За Радзіму», «Смерць фашызму») злучылася з Чырвонай Арміяй.

*Літ.:* Ветров И. Д. Братья по оружию.— Мн., 1965; В грозные годы.— Мн., 1973; Партизанские формирования Белоруссии в годы Великой Отечественной войны (июнь 1941 — июль 1944).— Мн., 1983. *Г. І. Дулеба.*

**в. Казлы, Засінцаўскі сельсавет**

**723. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны 23 жыхары вёскі, якіх 8.6.1943 г. загубілі нямецка-фашысцкія акупанты. У 1957 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Копанка (не існуе), Качышчанскі сельсавет**

**724. МЕСЦА СПАЛЕНАЙ ВЁСКІ, МОГІЛКІ АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). Вёска Копанка знаходзілася за 2,5 км на поўнач ад в. Кочышча. 18.7.1942 г. ў вёску ўварваліся нямецка-фашысцкія акупанты, сагналі мясцовых жыхароў у калгаснае гумно і падпалілі. Тых, хто спрабаваў уцячы, расстрэльвалі ці кідалі ў агонь жывымі. Нямецка-фашысцкія захопнікі загубілі тут 186 жыхароў і спалілі вёску (62 двары). Пасля Айчыннай вайны вёска не адрадзілася, увекавечана ў мемарыяльным комплексе Хатынь.

Ахвяры фашызму пахаваны на месцы спаленай вёскі. У 1974 г. на могілках пастаўлены помнікі — пліта са складаным па канфігурацыі праломам, у цэнтры якога скульптурная кампазіцыя: стары, жанчына і дзяўчынка, побач — стэла, за 300 м ад пліты — абеліск.

*Літ.:* В памяти народной.— Мн., 1969. *Г. І. Дулеба.*

**в. Кочышча, цэнтр сельсавета**

**725. БРАЦКАЯ МАГІЛА ПАРТЫЗАН** (гіст.). На могілках. Пахаваны 8 пар-



718. *Помнік на магіле ахвяр фашызму.*



710. *Троіцкая царква. Выгляд з боку апсіды.*



710. *Троіцкая царква. План.*



719. *Помнік на магіле ахвяр фашызму.*



724. *Помнік на могілках ахвяр фашызму.*

тызан Ельскага партызанскага атрада, якія загінулі ў 1942 г. пры выкананні баявога задання. У 1970 г. на магіле пастаўлена стэла.

**726. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). На могілках. Пахаваны 13 воінаў і партызан, якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх акупантаў у 1942—44 гг. У 1957 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**727. МАГІЛА РАБЧЫНСКАГА** Дзям'яна Андрэевіча (гіст.). На могілках.

Дз. А. Рабчынскі нарадзіўся ў 1876 г. ў в. Кочышча ў сялянскай сям'і. З 1926 г. працаваў ў зямельным аддзеле Каралінскага (Ельскага) райвыканкома. З 1929 г. старшыня калгаса «Рэвалюцыя», з 1936 г.— калгаса «Чырвоны араты», з 1938 г.— калгаса «Абарона Саветаў», з 1940 г. намеснік старшыні калгаса «Рэвалюцыя» Ельскага р-на. Расстраляны нямецка-фашысцкімі захопнікамі 30.5. 1942 г.

У 1974 г. на магіле пастаўлены абеліск.

*Літ.:* В грозные годы.— Мн., 1973.

*Г. І. Дулеба.*

**в. Круглае (не існуе), Качышчанскі сельсавет**

**728. МЕСЦА СПАЛЕНАЙ ВЁСКІ, МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). Вёска Круглае знаходзілася за 4 км на паўночны захад ад в. Чэрцень. 18.7.1942 г. ў час карнай аперацыі нямецка-фашысцкія карнікі расстралялі 41 жыхара, вёску (15 двароў) спалілі. Пасля Айчыннай вайны вёска не адрадзілася, увекавечана ў мемарыяльным комплексе Хатынь.

Ахвяры фашызму пахаваны на месцы спаленай вёскі. У 1972 г. на магіле пастаўлена стэла з барэльефнымі выявамі галоў старога, жанчыны і дзіцяці.



728. *Помнік на магіле ахвяр фашызму.*




733. *Помнік землякам.*

**в. Кузьмічы, Скараднянскі сельсавет**

**729. МОГІЛКІ АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). За 2 км на ўсход ад вёскі, ва ўрочышчы Пудаўка. 12.6.1943 г. нямецка-фашысцкія акупанты акружылі вёску, 96 жыхароў сагналі ва урочышча Пудаўка і расстралялі. У 1957 г. на могілках пастаўлены стэла і 2 абеліскі.

**в. Млынок, цэнтр сельсавета**

**730. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). На могілках. Пахаваны 43 воіны і партызаны, якія загінулі ў 1942—44 гг. у баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1963 г. на брацкай магіле пастаўлены абеліск.

**в. Новая Рудня, Роза-Люксембургскі сельсавет**

**731. КУРГАН ДРУЖБЫ** (гіст.). За 1 км на паўднёвы ўсход ад вёскі, каля шашы Мазыр — Оўруч, на граніцы Ельскага р-на БССР і Оўруцкага р-на УССР. Насыпаны ў 1967 г. ў гонар братняй дружбы ўкраінскага і беларускага народаў. На вяршыні Кургана — памятны знак.

**в. Падгалле, Засінцаўскі сельсавет**

**732. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 11 мірных жыхароў вёскі, расстраляных нямецка-фашысцкімі акупантамі летам 1943 г. У 1957 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**733. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. На ўшанаванне памяці 83 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну ў барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў, у 1975 г. пастаўлены помнік — скульптура жанчыны ў жалобе і стэла.

**в. Рамязы, цэнтр сельсавета**

**734. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН, МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны 36 воінаў і партызан, якія загінулі ў 1942—44 гг. у баях супраць нямецка-фашысцкіх акупантаў. У 1968 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна. Побач — дошка з імёнамі




737. *Курганны могільнік. План.*

68 аднавяскоўцаў, што аддалі жыццё за Радзіму ў Вялікую Айчынную вайну.

**735. КУРГАН** (археал.). За 2 км на поўдзень ад вёскі, ва ўрочышчы Язда. Вышыня 0,9 м, дыяметр 15 м. Вядомы з 1924 г. Абследаваў у 1976 г. П. Ф. Лысенка.

**736. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА ПАРТЫЗАНАМ** (гіст.). Устаноўлена ў 1975 г. на будынку сярэдняй школы.

16.7.1942 г. група партызан Ельскага партызанскага атрада зрабіла налёт на варожы гарнізон, які размяшчаўся ў вёсцы, і разграміла яго. Партызаны знішчылі 8 гітлераўцаў і некалькі паранілі, захапілі кулямёт, шмат боепрыпасаў. У гэтым баі загінуў сакратар Ельскага падпольнага райкома КП(б)Б І. А. Козінцаў.

*Літ.:* Ветров И. Д. Братья по оружию.— Мн., 1965; В грозные годы.— Мн., 1973. *Г. І. Дулеба.*

**в. Роза Люксембург, цэнтр сельсавета**

**737. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 3 км на поўнач ад вёскі. 5 насыпаў вышынёй 0,5—0,9 м, дыяметрам 5—10 м. Абследаваў у 1976 г. П. Ф. Лысенка. Раскопкі не праводзіліся.

**в. Санюкі, Млыноцкі сельсавет**

**738. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 32 воіны, якія загінулі ў 1943—44 гг. у баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1967 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна.

**в. Скароднае, цэнтр сельсавета**

**739. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ, ПАРТЫЗАН І АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны 2 воіны і 14 партызан (сярод іх партызаны злучэнняў С. А. Каўпака і А. М. Сабурава), якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх акупантаў у 1942—44 гг., і 160 мірных жыхароў.

23.11.1942 г. нямецка-фашысцкія захопнікі ўварваліся ў вёску. Яны рабавалі маёмасць, здзекаваліся над жыхарамі, расстрэльвалі дзяцей, жанчын і старых. Акупанты загубілі 305 чалавек, спалілі вёску (206 двароў). 160 ахвяр пахаваны ў брацкай магіле, астатнія — у адзіночных магілах на мясцовых могілках. У 1957 г. на магіле савецкіх воінаў, партызан і ахвяр фашызму пастаўлены помнік — скульптура воіна і 3 абеліскі. *Г. І. Дулеба.*



745. *Курган Славы.*

**740. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА КАМСАМОЛЬЦАМ - ПАДПОЛЬШЧЫКАМ** (гіст.). Устаноўлена ў 1967 г. на будынку Дома культуры.

У Вялікую Айчынную вайну ў в. Скароднае і навакольных населеных пунктах дзейнічала падпольная камсамольская група, якая ўваходзіла ў Ельскае камуністычнае падполле. Створана ў жніўні 1941 г. камсамольцам М. Н. Драчэўскім. У групу ўваходзілі С. Н. Дзегцярова, М. П. Марозенка, Н. М. Стахоўская. Падпольшчыкі распаўсюджвалі зводкі Саўінфармбюро, збіралі і перадавалі партызанам зброю, боепрыпасы, праводзілі дыверсіі на камунікацыях ворага (падрывалі масты, рабілі завалы на дарогах, псавалі тэлефонна-тэлеграфную сувязь). У лютым 1942 г. гітлераўцы напалі на след падпольшчыкаў, схапілі М. Н. Драчэўскага, Н. М. Стахоўскую і пасля жорсткіх катаванняў расстралялі. *Г. І. Дулеба.*

**741. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА СЛАВЕЦКАЙ Марыі Францаўны І ЦЕХАНОВІЧ Анастасіі Фамінічне** (гіст.). На будынку Скараднянскай участковай бальніцы.

Напярэдадні Вялікай Айчыннай вайны М. Ф. Славецкая працавала ўрачом, А. Ф. Цехановіч медыцынскай сястрой у Скараднянскай бальніцы. У першыя нямецка-фашысцкай акупацыі М. Ф. Славецкая лячыла параненых партызан, дапамагала ім медыкаментамі. Расстраляна гітлераўцамі ў лістападзе 1942 г. Камсамолка А. Ф. Цехановіч была партызанкай Ельскага атрада. Удзельнічала ў баях супраць нямецка-фашысцкіх акупантаў, аказвала медыцынскую дапамогу параненым і хворым партызанам. Загінула ў снежні 1942 г. ў баі каля в. Глушкавічы Лельчыцкага р-на.

На ўшанаванне памяці М. Ф. Славецкай і А. Ф. Цехановіч у 1969 г. ўстаноўлена мемарыяльная дошка.

*Літ.:* В грозные годы.— Мн., 1973. *Г. І. Дулеба.*

**в. Славечна, Роза-Люксембургскі сельсавет**

**742. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). За 2 км на паўночны ўсход ад вёскі, справа ад шашы Мазыр — Оўруч. Пахаваны 7 воінаў, якія загінулі ў 1944 г. ў баях супраць нямецка-фашысцкіх акупантаў. У 1957 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна.

**743. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). На могілках. Пахаваны 55 воінаў і партызан, якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у 1943—44 гг. У 1957 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**744. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). За 1 км на ўсход ад вёскі, у лесе. Пахаваны 6 мірных жыхароў, якіх летам 1943 г. загубілі нямецка-фашысцкія акупанты. У 1957 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Старое Высокае, цэнтр сельсавета**

**745. КУРГАН СЛАВЫ** (гіст.). На паўднёва-ўсходняй ускраіне вёскі. Насыпаны ў 1967 г. на ўшанаванне памяці 144 землякоў, што загінулі ў Вялікую Айчынную вайну ў барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх акупантаў. На вяршыні Кургана пастаўлена скульптура воіна.

**пас. Чырвоны Пільшчык, Ельскі гарадскі Савет**

**746. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры пасёлка. На ўшанаванне памяці 43 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну ў барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх акупантаў, у 1957 г. пастаўлены абеліск.




# ЖЛОБІНСКІ РАЁН




Цэнтр раёна

Цэнтры сельсаветаў

Стаянкі, паселішчы, гарадзішчы

Могільнікі (грунтавыя, курганныя), курганы

Помнікі гаспадарчай дзейнасці, прамыслова архітэктура, гідратэхнічныя збудаванні дасавецкага перыяду

Помнікі і памятныя месцы Вялікай Айчыннай вайны (месцы баёў, магілы савецкіх воінаў і партызан, Курганы Славы, помнікі землякам і інш.)

Помнікі ахвярам фашызму (месцы канцлагераў і лагераў смерці, месцы масавай загубы насельніцтва, спаленыя і неадноўленыя вёскі і інш.)

Помнікі сацыялістычнага будаўніцтва

Помнікі і месцы, звязаныя з імёнамі савецкіх партыйных, дзяржаўных і гаспадарчых дзеячаў, дзеячаў культуры, навукі і тэхнікі

Палацы, сядзібы, асабнякі

Культавая архітэктура

# VIII. ЖЛОБІН

Горад абласнога падпарадкавання, цэнтр раёна. За 83 км на паўночны захад ад Гомеля. Вузел чыгунак на Мінск, Магілёў, Гомель, Калінкавічы і аўтамабільных дарог на Бабруйск, Гомель, Рагачоў, Светлагорск. Прыстань на Дняпры.

Упершыню ўпамінаецца ў 1492 г. як невялікае паселішча ў Вялікім княстве Літоўскім, належала магнацкаму роду Ходкевічаў. З 1566 г. ў Рэчыцкім павеце Мінскага ваяводства. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793 г.) у складзе Расійскай імперыі, мястэчка Рагачоўскага павета. У 1880 г. ў мястэчку 1968 жыхароў, 392 дамы, 67 крам, царква. У канцы 19 ст. праз Жлобін пракладзена Лібава-Роменская чыгунка, у 1902 г.— чыгунка Пецярбург — Адэса, што значна садзейнічала развіццю горада. У пачатку 20 ст. здадзена ў эксплуатацыю чыгуначная лінія Жлобін — Калінкавічы. Паводле перапісу 1897 г. ў горадзе было 2,1 тыс. жыхароў. Дзейнічалі цагельнае, гарбарнае, крупадзёрнае прадпрыемствы. У пачатку 20 ст. ў Жлобіне прыстань, буйны лесасклад, лесапільны завод.

У снежні 1905 г. ў Жлобіне адбылася забастоўка чыгуначнікаў. Савецкая ўлада ўстаноўлена ў лістападзе 1917 г. У лютым 1918 г. атрады Чырвонай гвардыі, латышскіх стралкоў і рэвалюцыйных матросаў у раёне Жлобін — Рагачоў разбілі 1-ю польскую дывізію, якая ўдзельнічала ў мяцяжы польскага корпуса Доўбар-Мусніцкага. У лютым — лістападзе 1918 г. Жлобін акупіраваны войскамі кайзераўскай Германіі. З мая 1918 г. дзейнічаў падпольны камітэт РКП(б). З 1924 г. Жлобін — цэнтр раёна, у 1939 г.— 19,3 тыс. жыхароў.

У Вялікую Айчынную вайну ў ліпені — жніўні 1941 г. на Жлобінскім напрамку гераічна змагаўся 63-і стралковы корпус Л. Р. Пятроўскага 21-й арміі Заходняга фронту (з 24.7.1941 г. Цэнтральны фронт). З жніўня 1941 г. горад акупіраваны нямецка-фашысцкімі захопнікамі, якія загубілі тут 1,2 тыс. мірных жыхароў, разбурылі горад. З кастрычніка 1941 г. да лістапада 1943 г. дзейнічала Жлобінскае камуністычнае падполле. На тэрыторыі раёна дзейнічалі падпольныя райкомы КП(б)Б (май — 25.11.1943 г.) і ЛКСМБ (ліпень — кастрычнік 1942 г. і май — 25.11.1943 г.). Выдавалася падпольная газета «Шлях сацыялізма». 26.6.1944 г. горад быў вызвалены ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. Тром вайсковым злучэнням і часцям Чырвонай Арміі, якія вызначыліся пры вызваленні горада, нададзены ганаровыя найменні «Жлобінскіх». З 1963 г. горад абласнога падпарадкавання.



VIII. *Цэнтральная плошча.*

Пасля вайны Жлобін адноўлены. Забудоўваецца паводле генеральнага плана, распрацаванага ў 1964 г. інстытутам «Белдзяржпраект» (са зменамі, зробленымі ў 1975 г. Мінскім філіялам Цэнтральнага навукова-даследчага і праектнага інстытута горадабудаўніцтва). Развіццё горада прадугледжана ў паўночным напрамку. Агульнагарадскі цэнтр размешчаны на поўнач ад чыгуначнага вакзала. На Цэнтральнай плошчы, абмежаванай вуліцамі Першамайскай і Валадарскага, размешчаны будынкі райкома КПБ і рай-



VIII. *Фрагмент забудовы Цэнтральнай плошчы.*

10



VIII. *Забудова вуліцы Першамайскай. Фрагмент.*

выканкома, раённы Дом культуры, сярэдняя школа № 1 і інш. Галоўная вуліца (Першамайская) праходзіць уздоўж чыгуначнай лініі, звязвае цэнтральную і паўночную часткі горада з паркам і Дняпром. Прамысловыя прадпрыемствы: металургічны камбінат, цагельны, рамонтна-механічны, камбікормавы, пладова-агароднінны, малочны заводы, хлебазавод, ільнозавод, мясакамбінат, камбінат будаўнічых матэрыялаў, швейная, мастацкай інкрустацыі, мэблевая, штучнай футры фабрыкі. Працуюць раённае аб'яднанне Дзяржкамсельгастэхнікі, камбінат бытавога абслугоўвання, лясгас.

У горадзе 12 агульнаадукацыйных школ, 17 дашкольных устаноў, 10 масавых бібліятэк, 2 бальніцы, 12 іншых медыцынскіх устаноў, раённы Дом культуры, 12 клубных устаноў, кінатэатр, стадыён. Выдаецца газета «Камуніст». Помнікі: У. І. Леніну, савецкім воінам 63-га стралковага корпуса 21-й арміі, на вайсковых могілках, магіле ахвяр фашызму.

Зоны адпачынку — парк культуры і адпачынку па вул. Савецкай, р. Дняпро з прылеглымі лясными масівамі.

*Літ.:* Кухарев Н. В. Жлобин: Историко-экономический очерк.— Мн., 1975; Дембовецкий А. С. Опыт описания Могилевской губернии... Кн. 1—3.— Могилев, 1882—84.

*А. І. Валахановіч, А. А. Міцянін.*

**747. ВАЙСКОВЫЯ МОГІЛКІ** (гіст.). На вул. Кутузава, у скверы. Пахаваны 553 савецкія воіны і 2 партызаны, якія загінулі пры вызваленні горада ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў.

Жлобін быў адным з найважнейшых апорных пунктаў абароны нямецка-фашысцкіх акупантаў. У ходзе Бабруйскай аперацыі падраздзяленні 48-й арміі (камандуючы генерал-лейтэнант П. Л. Раманенка) 1-га Беларускага фронту 26.6.1944 г. вызвалілі горад. 115-му ўмацаванаму раёну, 4-му матарызаванаму пантонна-маставаму палку і 196-й штурмавой авіядывізіі, што вызначыліся ў баях за вызваленне Жлобіна, прысвоена ганаровае найменне «Жлобінскіх».

У 1955 г. на могілках пастаўлены помнік — скульптура воіна.

*Літ.:* Кухарев Н. В. Жлобин: Историко-экономический очерк.— Мн., 1975.

*В. В. Семянюк.*

**748. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). За 1 км на поўдзень ад горада. Пахавана больш за 2500 мірных жыхароў Жлобіна, г. п. Стрэшын і іншых населеных пунктаў раёна, якія былі загублены нямецка-фашысцкімі захопнікамі ў 1941—43 гг. У 1965 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**749. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА КАЛІНІНУ** Міхаілу Іванавічу (гіст.). На будынку чыгуначнага вакзала. Устаноўлена ў 1963 г. У Грамадзянскую вайну старшыня ВЦВК М. І. Калінін узначальваў (красавік 1919 г.— лістапад 1920 г.) агітацыйна-інструктарскі поезд «Кастрычніцкая рэвалюцыя». У чэрвені 1919 г. поезд быў накіраваны на Заходні фронт, 16.7.1919 г. прыбыў у Жлобін. У дэпо чыгуначнай станцыі адбыўся мітынг, на якім з прамовай перад рабочымі выступіў М. І. Калінін. Ён заклікаў хутчэй забяспечыць бесперапынны рух па чыгунцы і тым самым садзейнічаць разгрому ворагаў Савецкай улады, аднаўленню разбуранай гаспадаркі.

*Літ.:* Яцкевич И. В. Всесоюзный староста на белорусской земле.— Мн., 1975.

*В. В. Семянюк.*

**750. ПОМНІК ВОІНАМ 63-га СТРАЛКОВАГА КОРПУСА 21-й АРМІІ** (гіст.). На Цэнтральнай пл. У ліпені — жніўні 1941 г. воіны 63-га стралковага корпуса (камкор Л. Р. Пятроўскі) 21-й арміі абаранялі Дняпроўскі рубеж на лініі Рагачоў — Жлобін — Стрэшын. Воіны 21-й арміі, контратакуючы нямецка-фашысцкія войскі, да канца ліпеня ўклініліся ў размяшчэнне праціўніка да 30 кіламетраў, больш як на месяц спынілі яго наступленне на Гомельскім напрамку. За гэты час у савецкі тыл эвакуіраваны частка насельніцтва Гомеля, абсталяванне прамысловых прадпрыемстваў, матэрыяльныя каштоўнасці.

У 1968 г. ў гонар баявых дзеянняў воінаў стралковага корпуса ўстаноўлены абеліск.

*Літ.:* Кухарев Н. В. Жлобин: Историко-экономический очерк.— Мн., 1975.

*В. В. Семянюк.*

**751. ПОМНІК ЛЕНІНУ** Уладзіміру Ільічу (гіст.). На вул. Дзяржынскага. Бюст У. І. Леніна ўстаноўлены ў 1949 г.

**752. ПОМНІК ЛЕНІНУ** Уладзіміру Ільічу (гіст.). На вул. Паўночнай. Бюст У. І. Леніна ўстаноўлены ў 1967 г.

**753. ПОМНІК ЛЕНІНУ** Уладзіміру Ільічу (гіст.). На вул. Урыцкага, у Піянерскім парку. Скульптура У. І. Леніна ўстаноўлена ў 1948 г.

**754. ПОМНІК ЛЕНІНУ** Уладзіміру Ільічу (гіст.). На прывакзальнай плошчы. Скульптура У. І. Леніна ўстаноўлена ў 1949 г.

**755. РАДЗІМА БАРТАШОВА** Макара Уласавіча (гіст.).

Герой Савецкага Саюза М. У. Барташоў нарадзіўся 7.9.1909 г. ў сям'і рабочага. Член КПСС з 1931 г. У 1930 г. скончыў Ленінградскую ваенна-тэарэтычную школу лётчыкаў, у 1932 г.— Ейскую школу марскіх лётчыкаў. У Чырвонай Арміі з 1929 г. Вызначыўся ў 1945 г. ў час разгрому імпе-



747. *Помнік на вайсковых могілках.*



750. *Помнік у гонар воінаў 63-га стралковага корпуса 21-й арміі.*

рыялістычнай Японіі. 12-я дывізія марской авіяцыі, якой камандаваў палкоўнік М. У. Барташоў, 9—16.8. 1945 г. наносіла масіраваныя ўдары па часцях Квантунскай арміі ў партах Юкі, Расін, Сейсін, па чыгуначных станцыях Фуней і Тумань, знішчыла 24 караблі і транспарты, 7 артылерыйскіх батарэй, 11 эшалонаў, 8 складоў, электрастанцыю, 2 паравозы, дэпо, каля 2,6 тыс. салдат і афіцэраў праціўніка. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена М. У. Барташову 14.9.1945 г. Загінуў 7.2.1948 г. пры выкананні службовых абавязкаў. Пахаваны ў г. Калінінградзе. Яго імем названа вуліца ў Жлобіне.

*Літ.:* Навечно в сердце народном.— 3 изд.— Мн., 1984. *В. В. Семянюк.*

**756. РАДЗІМА КАВЯЗІНА** Мікалая Аляксандравіча (гіст.).

Беларускі савецкі рэжысёр, педагог, мастак, тэатральны дзеяч, заслужаны артыст БССР (1949 г.) М. А. Кавязін нарадзіўся 15.9.1898 г. ў сям'і чыгуначніка. У Грамадзянскую вайну быў акцёрам вандроўнай трупы пры Галоўпалітасвеце. Потым працаваў выкладчыкам чарчэння і малявання ў школах Мінска. У 1931—37 гг. мастацкі кіраўнік створанага ім у Мінску Беларускага тэатра юнага гледача імя Н. К. Крупскай. У 1939—41 гг. мастацкі кіраўнік Белдзяржэстрады, з 1944 г.— Палескага тэатра імя Я. Купалы (г. Мазыр), з 1945 г. Бабруйскага абласнога драматычнага тэатра, з 1947 г.— Гродзенскага абласнога драматычнага тэатра.

Пастаноўкі М. А. Кавязіна вызначаліся дакладнай формай, выразным раскрыццём ідэі твора. Рэжысёр і мастак спектакляў: «На штурм» Я. Маўра (1931 г.), «Наш» М. Зныка (1932 г.), «Вінтоўка № 492116» А. Крона (1935 г.) і «Шлях далёкі» М. Шастакова (1934 г.), «Дружына» А. Бруштэйн (1935 г.), «Мікола Гоман» В. Сташэўскага (1936 г.); рэжысёр спектакляў «Без віны вінаватыя» (1945 г.), «Праўда добра, а шчасце лепш» (1946 г.), «Свае людзі — паладзім» (1949 г.) А. Астроўскага, «Так і будзе» (1945 г.), «Рускае пытанне» (1947 г.), «Чужы цень» (1949 г.) К. Сіманава, «Даманевідзімка» (1946 г.) П. Кальдэрона, «Лісічкі» (1946 г.) Л. Хелман, «Вялікая сіла» (1948 г.) Б. Рамашова, «Маскоўскі характар» (1948 г.) А. Сафронава, «Шчасце» (1949 г.) паводле П. Паўленкі, «На дне» (1950 г.) М. Горкага.

М. А. Кавязін памёр 9.3.1950 г. Пахаваны ў Гродне.

*Літ.:* Есакоў А. Мікола Кавязін.— У кн.: Слова пра майстроў сцэны. Мн., 1967; Няфёд У. І. Гісторыя беларускага тэатра.— Мн., 1982. *У. І. Няфёд.*

**в. Адраджэнне, Папаратнянскі сельсавет**

**757. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). Вул. Заводская. Пахаваны 315 воінаў, якія загінулі ў чэрвені 1944 г. пры вызваленні раёна ад нямецка-фашысцкіх акупантаў. У 1952 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна.



758. *Курганны могільнік. План.*



759. *Помнік землякам.*

**758. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 0,8 км на паўночны ўсход ад вёскі. Захавалася 36 курганоў дыяметрам 6—15 м, вышынёй 0,5—2,5 м. Многія пашкоджаны. У 1960 г. разбураныя курганы абследаваў Г. В. Штыхаў. Пахавальны абрад — трупапалажэнне. Знойдзены бронзавыя змеегаловыя бранзалеты (цэлы і 2 абломкі), шкляныя пацеркі, у т. л. пазалочаныя, ганчарны гаршчок. Належаў радзімічам, датуецца 11 ст.

Матэрыялы абследавання захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР. *У. У. Багамольнікаў.*

**759. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі, каля клуба. На ўшанаванне памяці 43 аднавяскоўцаў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1967 г. пастаўлены помнік — скульптурная кампазіцыя: жанчына з дзяўчынкай.

**в. Акцябр, цэнтр сельсавета**

**760. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны 145 воінаў і 2 партызаны, якія загінулі ў 1943—44 гг. у барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1955 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна.

**761. ГАРАДЗІШЧА** (археал.). За 3 км на паўднёвы захад ад вёскі, на беразе воз. Гораўна, каля сучасных могілак. Пляцоўка памерам 95×90 м. Паўночная частка абмежавана ярам, паўднёвая і паўднёва-ўсходняя ўмацаваны валам вышынёй каля 5 м і ровам глыбінёй 1,5 м. Выявіў у 1900 г. Е. Р. Раманаў, абследавалі ў 1951—53 гг. Ю. У. Кухарэнка, у 1957 г. І. І. Арцё-

менка, у 1958 г. Л. Д. Побаль, у 1978 г. Н. М. Дубіцкая. У агаленнях прасочаны культурны пласт 0,15—0,2 м. Знойдзены 2 кавадлы, 3 малаткі, абцугі. Адносіцца да мілаградскай і зарубінецкай культур ранняга жалезнага веку, датуецца 6—2 стагоддзямі да н. э.

Матэрыялы абследавання захоўваюцца ў Інстытуце археалогіі АН СССР і Інстытуце гісторыі АН БССР.

*Літ.:* Мельниковская О. Н. Племена Южной Белоруссии в раннем железном веке.— М., 1967; Романов Е. Р. Археологические разведки в Могилевской губернии.— Вильна, [1912].

*Н. М. Дубіцкая.*

**в. Аляксандраўка, Майскі сельсавет**

**762. ПОМНІК У ГОНАР ПАРТЫЗАН 266-га АТРАДА ІМЯ М. В. ФРУНЗЕ** (гіст.). Ва ўрочышчы Гуляй-Поле.

Партызанскі атрад 266-ы імя М. В. Фрунзе створаны 25.5.1943 г. з ініцыятыўнай групы У. Б. Паўлава (камандзір У. Б. Паўлаў, камісар У. І. Дубінін). Дзейнічаў на акупіраванай тэрыторыі Жлобінскага р-на. Партызаны атрада разам з іншымі атрадамі 10-й Журавіцкай брыгады праводзілі дыверсіі на чыгуначным участку Гомель — Жлобін, удзельнічалі ў «рэйкавай вайне», у разгроме варожых апорных пунктаў, паліцэйскіх участкаў.

У 1975 г. ў гонар баявых дзеянняў атрада ўстаноўлены помнік.

**в. Антонаўка, Кароткавіцкі сельсавет**

**763. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). На паўночнай ускраіне вёскі, справа ад дарогі ў в. Кароткавічы. Пахаваны 171 воін і 2 партызаны, якія загінулі ў снежні 1943 — чэрвені 1944 гг. у барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1959 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна.

**764. ПОМНІК У ГОНАР ПАРТЫЗАНСКАГА АТРАДА «СМЕРЦЬ ФАШЫЗМУ»** (гіст.). За 1 км на поўнач ад вёскі, справа ад дарогі ў в. Кароткавічы.

Атрад «Смерць фашызму» створаны ў кастрычніку 1942 г. з ініцыятыўных груп І. А. Крышнева (15 чалавек) і Дз. Ц. Шыбінскага (8 чалавек), засланых у ліпені 1942 г. з савецкага тылу, групы А. І. Севасцьянчыка, арганізаванай у ліпені 1942 г. з жыхароў в. Антонаўка Стрэшынскага р-на і групы, вылучанай у ліпені 1942 г. з атрада імя К. Я. Варашылава Брэсцкай вобл. У маі 1943 г. атрад «Смерць фашызму» быў падзелены на 2 асобныя: «Смерць фашызму» (камандзір Дз. Ц. Шыбінскі, камісар А. І. Севасцьянчык), дзейнічаў у Стрэшынскім р-не і атрад «Жалязняк» (камандзір В. І. Шаруда, камісар Г. В. Злынаў) — у Жлобінскім р-не. Паводле рашэння штаба Гомельскага партызанскага злучэння на базе атрада «Смерць фашызму» ў верасні 1943 г. створана партызанская брыгада імя П. К. Панамарэнкі. Партызаны ўтрымлівалі і кантралявалі тэрыторыю Стрэшынскага і Жлобінскага р-наў, разграмілі гарнізоны ў в. Мормаль (снежань 1942 г.), Таўстыкі, Верхняя Алба (люты 1943 г.), Радуша (сакавік 1943 г.), паліцэйскія ўчасткі ў вёсках Лукі і Сцяпы, на станцыі Чырвоны Бераг у сакавіку 1943 г., вялі засадныя баі ў в. Радуша Жлобінскага р-на. У лістападзе 1943 г. пры падыходзе часцей Чырвонай Арміі разам з брыгадай «Жалязняк» і 108-м атрадам імя Р. І. Катоўскага перарэзалі дарогу Горваль — Шацілкі, удзельнічалі ў разгроме варожага гарнізона ў в. Горваль.

У гонар баявых дзеянняў партызан у 1975 г. пастаўлены абеліск.

*Літ.:* В грозные годы.— Мн., 1973; Непокоренная Белоруссия.— М., 1963; Кухарев Н. В. Жлобин: Историко-экономический очерк.— Мн., 1975. *В. В. Семянюк.*



761. *Гарадзішча.*



762. *Помнік у гонар партызан 266-га атрада імя М. В. Фрунзе.*

**в. Атрубы, Кабанаўскі сельсавет**

**765. ГАРАДЗІШЧА** (археал.). За 0,5 км на паўночны захад ад вёскі, на левым карэнным беразе Дняпра. Выявіў у 1977 г. У. П. Ксяндзоў. Пляцоўка гарадзішча памерам 105×75 м выцягнута ўздоўж ракі з поўначы на поўдзень з невялікім нахілам на захад. Умацавана ровам глыбінёй 3,5 м, добра захавалася. Раскопкі не праводзіліся.

**в. Бабоўка, Старарудняндскі сельсавет**

**766. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАНА** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны 220 воінаў і партызан, якія загінулі ў 1943 — чэрвені 1944 гг. у барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1956 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна.

**в. Браткі (не існуе), Кароткавіцкі сельсавет**

**767. МЕСЦА СПАЛЕНАЙ ВЁСКІ** (гіст.). Вёска Браткі знаходзілася за 2,5 км на поўдзень ад в. Кароткавічы. У кастрычніку 1943 г. нямецка-фашысцкія захопнікі загубілі 27 яе жыхароў і спалілі вёску (10 двароў). Вёска не адрадзілася. Увекавечана ў мемарыяльным комплексе Хатынь.

**в. Васілевічы, Дабрагашчанскі сельсавет**

**768. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 300 воінаў, якія загінулі ў чэрвені 1944 г. пры вызваленні раёна ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1953 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна.

**769. ПАСЕЛІШЧЫ** (археал.).

**769а.** Паселішча-1. За 0,5 км на ўсход ад вёскі, на дзюнным пагорку першай надпоплаўнай тэрасы левага берага р. Бярэзіна. Плошча 600 м². Выявіў і абследаваў у 1977 г. У. П. Ксян-




764. *Помнік у гонар партызанскага атрада «Смерць фашызму».*

дзоў. Культурны пласт 0,1 м. Знойдзены крамянёвыя адшчэпы, нуклеусы, скрабкі. Адносіцца да каменнага веку.

**769б.** Паселішча-2. За 0,7 км на ўсход ад вёскі. За 0,2 км на паўднёвы захад ад паселішча-1. Плошча 200 м². Абследаваў у 1977 г. У. П. Ксяндзоў. Культурны пласт 0,15 м. Знойдзены крамянёвыя пласціны, адшчэпы, вастрыё яніславіцкага тыпу. Адносіцца да позняга мезаліту, датуецца 6—5-м тысячагоддзямі да н. э.

**769в.** Паселішча-3. За 0,07 км на паўночны ўсход ад вёскі, на дзюнным пагорку. Плошча 400 м². Выявіў і абследаваў у 1977 г. У. П. Ксяндзоў. У агаленнях культурны пласт 0,15 м. Знойдзены рэшткі ляпной керамікі, крамянёвыя скрабкі, адшчэпы, пласціны і інш. Адносіцца да эпохі неаліту, датуецца 4—3-м тысячагоддзямі да н. э.

**769г.** Паселішча-4. За 0,7 км на паўночны захад ад вёскі. Плошча 100 м². Выявіў і абследаваў у 1977 г. У. П. Ксяндзоў. Культурны пласт ва ўсходняй частцы паселішча 0,15 м. Знойдзены крамянёвыя адшчэпы, нажападобныя пласціны, вастрыі, скрабкі. Адносіцца да позняга мезаліту, датуецца 6—5-м тысячагоддзямі да н. э.

**769д.** Паселішча-5. За 0,8 км на паўночны захад ад вёскі, на астанцы першай надпоплаўнай тэрасы. Плошча 400 м². Выявіў і абследаваў у 1977 г. У. П. Ксяндзоў. Культурны пласт 0,2 м. Знойдзены больш за 200 фрагментаў ляпной керамікі, у т. л. рэшткі танкасценнага посуду, арнаментаванага наколамі і адбіткамі грэбеня, наразнымі лініямі і ямкамі на шыйках, крамянёвыя скрабкі, нажападобныя пласціны, адшчэпы, нуклеусы, наканечнік стралы трохвугольнай формы, вастрыё, сякерападобныя прылады працы. Адносіцца да эпохі неаліту і бронзавага веку, датуецца 4—1-м тысячагоддзямі да н. э.

Матэрыялы абследавання захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

*У. П. Ксяндзоў.*

**пас. Верны, Пірэвіцкі сельсавет**

**770. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). На ўсходняй ускраіне пасёлка. Пахаваны 56 мірных жыхароў, якія былі расстраляны 27.9.1943 г. нямецка-фашысцкімі захопнікамі. У 1955 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Верхняя Алба, цэнтр сельсавета**

**771. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). У цэнтры вёскі, каля будынка выканкома сельсавета. Пахаваны 328 воінаў 73-й стралковай дывізіі 48-й арміі 1-га Беларускага фронту, якія загінулі ў чэрвені 1944 г. пры вызваленні раёна ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1953 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна.

**772. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 0,5 км на ўсход ад вёскі, ва ўрочышчы Курганне, паміж в. Верхняя Алба і пас. Сасновым, за могілкамі. 8 насыпаў вышынёй 1,5—2 м, дыяметрам 6—8 м. Абследавала ў 1983 г. Н. М. Дубіцкая. Раскопкі не праводзіліся.

**773. ПАСЕЛІШЧА** (археал.). За 0,3 км на поўнач ад могілак, на правым беразе Дняпра. Выявіў і даследаваў у 1977 г. У. П. Ксяндзоў. Культурны пласт 0,1 м. У раскопе агульнай плошчай 42 м² знойдзены крамянёвыя вырабы і грабеньчата-накольчатая кераміка. Адносіцца да эпохі неаліту, датуецца 4—3-м тысячагоддзямі да н. э.

Матэрыялы раскопак захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

**774. РАДЗІМА РОГАВА** Міхаіла Сафронавіча (гіст.).

Герой Савецкага Саюза М. С. Рогаў нарадзіўся 17.10.1916 г. ў сялянскай сям'і. Працаваў у калгасе. У Чырвонай Арміі з 1939 г. У Вялікую Айчынную вайну з 1941 г. на Паўднёвым, Паўднёва-Заходнім, 2-м Украінскім франтах. Старшына эскадрона кавалерыйскага палка М. С. Рогаў вызначыўся пры вызваленні Румыніі. 29.8.1944 г. з трыма добраахвотнікамі прайшоў цераз міннае поле, уварваўся ў варожыя траншэі, знішчыў разлік станковага кулямёта і дзот, што садзейнічала наступленню палка. Загінуў М. С. Рогаў 25.10.1944 г. ў баі пры вызваленні Венгрыі. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 24.3.1945 г. Яго імя прысвоена школе ў в. Верхняя Алба.

У 1967 г. на будынку школы ўстаноўлена мемарыяльная дошка.

*Літ.:* Навечно в сердце народном.— 3 изд.— Мн., 1984. *В. В. Семянюк.*

**в. Гарадок, Верхнеалбянскі сельсавет**

**775. ГАРАДЗІШЧА** (археал.). За 0,2 км на паўночны ўсход ад вёскі, ва ўрочышчы Тарэлка, на левым беразе безназоўнай рэчкі (прыток р. Бярэзіна). Пляцоўка памерам 47×53 м², здзірванелая, умацавана валам вышынёй 1,5—2 м, шырынёй каля асновы 8 м. З вонкавага боку ад вала прасочаны сляды рова, з захаду — уезд на пляцоўку. Даследавала ў 1983 г. Н. М. Дубіцкая на плошчы 16 м². Культурны пласт 0,7 м. Знойдзена ляпная кераміка і косці жывёл. Адносіцца да мілаградскай культуры ранняга жалезнага веку. Матэрыялы раскопак захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР. *Н. М. Дубіцкая.*

**776. ПАСЕЛІШЧЫ** (археал.).

**776а.** Паселішча-1. За 0,5 км на паўднёвы ўсход ад вёскі, ва ўрочышчы Ляды, у пойме левага берага р. Бярэзіна. Плошча 1100 м². Выявіў і абследаваў у 1977 г. У. П. Ксяндзоў. Культурны пласт 0,1—0,15 м. Знойдзена больш за 200 фрагментаў ляпной керамікі, упрыгожаных адбіткамі грэбеня, і каля 300 крамянёвых вырабаў (адшчэпы і пласціны, у т. л. прылады працы з рэтушшу). Адносіцца да эпохі неаліту, датуецца 4—3-м тысячагоддзямі да н. э.

**776б.** Паселішча-2. За 1,2 км на поўдзень ад вёскі, на дзюнным пагорку ў пойме р. Бярэзіна. Выявіў і абследаваў у 1977 г. У. П. Ксяндзоў. Культурны пласт 0,15 м прасочаны на плошчы 500 м². Знойдзены рэшткі ляпной керамікі, крамянёвыя прылады працы і зброя (адшчэпы, нажападобныя пласцінкі, наканечнік стралы, трапецыя, скрабок). Адносіцца да бронзавага веку. Датуецца канцом 3-га — пачаткам 1-га тысячагоддзя да н. э.

**776в.** Паселішча-3. За 1,5 км на паўднёвы захад ад вёскі. Плошча 300 м². Выявіў і абследаваў у 1977 г. У. П. Ксяндзоў. Культурны пласт 0,1 м. Знойдзены рэшткі ляпной керамікі з арнаментам у выглядзе адбіткаў грэбеня і наразных ліній, крамянёвыя прылады працы і зброя (адшчэпы з рэтушшу, наканечнік стралы, пласціны і інш.). Адносіцца да бронзавага веку. Датуецца канцом 3 — пачаткам 1-га тысячагоддзя да н. э.

**776г.** Паселішча-4. За 3 км на паўднёвы захад ад вёскі ва ўрочышчы Вітаўт, на першай надпоймавай тэрасе. Плошча 1400 м². Выявіў і даследаваў у 1977 г. У. П. Ксяндзоў. На плошчы 44 м² ускрыты 2 культурныя пласты 0,3 і 0,4 м з рэшткамі агнішчаў і гаспадарчых ям, якія адносяцца да эпохі мезаліту (ніжні) і неаліту (верхні). Знойдзены крамянёвыя прылады працы і зброя (наканечнікі стрэл, скрабкі, разцы, вастрыё, праколкі, трапецыі, пласціны з рэтушшу, нуклеусы і інш.). Датуецца 7—5-м тысячагоддзямі да н. э. (ніжні культурны пласт) і 4—2-м тысячагоддзямі да н. э. (верхні культурны пласт).

**776д.** Паселішча-5. За 0,05 км на паўднёвы захад ад могілак, на дзюнным пагорку. Плошча 400 м². Выявіў і абследаваў у 1977 г. У. П. Ксяндзоў. У культурным пласце 0,2 м знойдзены рэшткі грубаляпной таўстасценнай керамікі. Адносіцца да ранняга жалезнага веку, датуецца першымі стагоддзямі н. э.

Матэрыялы абследавання захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

*У. П. Ксяндзоў.*

**в. Гарбачоўка, Чырвонабярэжскі сельсавет**

**777. ГАРАДЗІШЧА, КУРГАННЫЯ МОГІЛЬНІКІ** (археал.).

**777а.** Гарадзішча. За 0,15 км на ўсход ад вёскі. Пляцоўка прамавугольная, памерам 140×90 м, выцягнута з захаду на ўсход. Захаваўся вал вышынёй 2 м і роў глыбінёй 1,5 м, шы-



777б. *Курганны могільнік-1.*

рынёй 2 м. Вядома з 1873 г. Абследавала ў 1978 г. Н. М. Дубіцкая. Раскопкі не праводзіліся.

**777б.** Курганны могільнік-1. На гарадзішчы. 3 насыпы дыяметрам 7—14 м, вышынёй 0,5—3 м. Курганы зараслі хмызняком. Вядомы з 1873 г., абследавалі ў 1977 г. У. У. Багамольнікаў, у 1978 г. Н. М. Дубіцкая. Раскопкі не праводзіліся.

**777в.** Курганны могільнік-2. На ўсходняй ускраіне вёскі. 7 насыпаў дыяметрам 7—12 м, вышынёй 1—1,25 м. Вядомы з 1873 г. Абследаваў у 1976 г. У. У. Багамольнікаў. Раскопкі не праводзіліся. *Н. М. Дубіцкая.*

**в. Гелін, Папаратнянскі сельсавет**

**778. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАНА** (гіст.). У калгасным садзе. Пахаваны 488 воінаў і партызан. Сярод пахаваных — воіны 73-й стралковай дывізіі 48-й арміі 1-га Беларускага фронту, якія загінулі ў чэрвені 1944 г. пры вызваленні раёна ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1967 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна.

**779. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля школы. На ўшанаванне памяці 30 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1952 г. пастаўлены помнік — скульптура жанчыны.

**в. Грачухі, Ракцянскі сельсавет**

**780. РАДЗІМА СТРАНАКОВА** Пракопа Авяр'янавіча (гіст.).

Герой Савецкага Саюза П. А. Странакоў нарадзіўся 6.6.1917 г. ў сялянскай сям'і. Член КПСС з 1943 г. У 1941 г. скончыў Вышэйшую афіцэрскую артылерыйскую школу. У Чырвонай Арміі з 1938 г. У Вялікую Айчынную вайну з 1942 г. на Бранскім, Цэнтральным, Беларускім, 1-м Беларускім франтах. Камандзір артылерыйскага ўзвода лейтэнант П. А. Странакоў вызначыўся пры вызваленні Лоеўскага р-на Гомельскай вобл. 12.10.1943 г. група разведчыкаў пад яго камандаваннем пераправілася цераз Дняпро, правяла разведку агнявых сродкаў ворага, якія потым былі знішчаны савецкай артылерыяй. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 24.12.1943 г. Да 1958 г. служыў у Савецкай Арміі, маёр. Памёр 12.10.1961 г.

*Літ.:* Навечно в сердце народном.— 3 изд.— Мн., 1984. *В. В. Семянюк.*



777в. *Курганны могільнік-2. План.*

**в. Грушка (не існуе), Кароткавіцкі сельсавет**

**781. МЕСЦА СПАЛЕНАЙ ВЁСКІ** (гіст.). Вёска Грушка знаходзілася за 2 км на поўдзень ад в. Кароткавічы. У кастрычніку 1943 г. нямецка-фашысцкія захопнікі загубілі 20 яе жыхароў і спалілі вёску (11 двароў). Вёска не адрадзілася. Увекавечана ў мемарыяльным комплексе Хатынь.

**в. Дабрагошча, цэнтр сельсавета**

**782. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). Вул. Школьная. Пахаваны 1092 воіны і 4 партызаны. Сярод пахаваных — воіны 217-й стралковай дывізіі 48-й арміі 1-га Беларускага фронту і партызаны, якія загінулі ў чэрвені 1944 г. пры вызваленні раёна ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1953 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна.



778. *Помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў і партызана.*



779. *Помнік землякам.*

**783. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі, у скверы. На ўшанаванне памяці 274 землякоў з вёсак Дабрагошча, Яшчыцы, Сельнае, Заброддзе і Васілевічы, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1967 г. пастаўлена стэла з барэльефнай выявай воіна і імёнамі загінуўшых.

**784. ПОМНІК ЛЕНІНУ** Уладзіміру Ільічу (гіст.). Каля канторы саўгаса «Мормаль». Бюст У. І. Леніна ўстаноўлены ў 1971 г.

**в. Даліна, Стараруднянскі сельсавет**

**785. КУРГАННЫЯ МОГІЛЬНІКІ** (археал.).

**785а.** Могільнік-1. За 0,5 км на паўднёвы захад ад вёскі. 14 курганоў дыяметрам 8—12 м, вышынёй 1—2,5 м. Зараслі лесам, многія пашкоджаны. Выявіў у 1971 г. і абследаваў у 1976 г. У. У. Багамольнікаў. Раскопкі не праводзіліся.

**785б.** Могільнік-2. За 0,7 км на паўднёвы захад ад вёскі. 21 курган дыяметрам 8—12 м, вышынёй 1—2,5 м. Многія насыпы зараслі лесам, пашкоджаны. Выявіў у 1971 г. і абследаваў



782. *Помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў і партызан.*

у 1976 г. У. У. Багамольнікаў. Раскопкі не праводзіліся. *У. У. Багамольнікаў.*

**в. Дворышча, Шчадрынскі сельсавет**

**786. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАНА** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны 68 воінаў і партызан, якія загінулі ў 1944 г. пры вызваленні вёскі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1956 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна.

**в. Дзяніскавічы, Майскі сельсавет**

**787. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 0,3 км на паўночны захад ад вёскі. Захаваўся 31 курган дыяметрам 10—12 м, вышынёй 2 м. Многія пашкоджаны, большасць зарасла кустамі. Вядомы з 1873 г. У 1975 г. У. У. Багамольнікаў даследаваў 4 курганы. Пахавальны абрад — трупапалажэнне. У адным знойдзены косці чалавека, абломкі керамікі, крыжык, 2 ганчарныя гаршкі, пацеркі, лунніцы, у 3 іншых знойдзены пахаванні часоў позняга феадалізму, у 2 пахаваны жанчыны галавою на захад, знойдзены пазалочаныя шкляныя бочкападобныя пацеркі, дробны бісер, металічныя прызматычныя пацеркі, біэліпсоідная падвеска. У 3-м пахаваны мужчына галавою на ўсход, рэчаў не знойдзена. Належаў радзімічам, датуецца 11 ст.

Матэрыялы раскопак захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

*Літ.:* Сведения 1873 г. о городищах и курганах.— Известия Археологической комиссии. СПб., 1903, в. 5; Богомольников В. В., Косолапов А. Ф., Тарабей В. В. Раскопки курганов у деревень Курганье и Денисковичи.— У кн.: Археологические открытия 1975 года. М., 1976. *У. У. Багамольнікаў.*




783. *Помнік землякам.*

**788. РАДЗІМА СЕЎЧАНКІ** Антона Нічыпаравіча (гіст.).

Беларускі савецкі фізік, акадэмік АН БССР (1953 г.), доктар фізіка-матэматычных навук, прафесар (1953 г.), Герой Сацыялістычнай Працы (1971 г.), заслужаны дзеяч навукі БССР (1967 г.) А. Н. Сеўчанка нарадзіўся 22.2.1903 г. ў сялянскай сям'і. Член КПСС з 1930 г. У 1932 г. скончыў БДУ. У 1934—53 гг. старшы навуковы супрацоўнік, намеснік начальніка лабараторыі ў Дзяржаўным аптычным інстытуце ў Ленінградзе, з 1953 г. загадчык сектара фізікі і матэматыкі Фізіка-тэхнічнага інстытута АН БССР і адначасова загадчык кафедры фізічнай оптыкі БДУ. У 1955—57 гг. дырэктар Інстытута фізікі і матэматыкі АН БССР, адначасова ў 1955—70 гг. загадчык лабараторыі люмінесцэнцыі Інстытута фізікі АН БССР. У 1957—72 гг. рэктар БДУ, у 1972—78 гг. дырэктар НДІ прыкладных фізічных праблем БДУ. У 1957—73 гг. член Прэзідыума АН БССР. Навуковыя працы па спектраскапіі уранілавых злучэнняў, люмінесцэнцыі рэдкіх зямель, спектраскапіі і фотахіміі парфірынаў і біялагічна актыўных злучэнняў. Член Рэвізійнай Камісіі КПБ у 1960—61 гг., член ЦК КПБ у 1961—78 гг. Дэпутат Вярхоўнага Савета СССР у 1958—62 гг., Вярхоўнага Савета БССР у 1955—59 гг., 1963—75 гг.

Памёр А. Н. Сеўчанка 26.9.1978 г. Пахаваны ў Мінску на Усходніх могілках. У Мінску на доме, дзе ён жыў, устаноўлена мемарыяльная дошка. Яго імя прысвоена НДІ прыкладных фізічных праблем БДУ.

*Літ.:* А. Н. Севченко.— Успехи физических наук, 1973, т. 109, в. 2; Акадэмія навук Беларускай ССР.— Мн., 1979. *В. В. Семянюк.*



784. *Помнік У. І. Леніну.*

**в. Жырхаўка, Навамаркавіцкі сельсавет**

**789. ПАСЕЛІШЧА** (археал.). Ва ўсходняй частцы вёскі, на схіле даліны Дняпра. Плошча 500 $м^2$. Выявіў і абследаваў у 1977 г. У. П. Ксяндзоў. У культурным пласце магутнасцю 0,2 м, на плошчы 80 $м^2$ знойдзена ляпная кераміка з арнаментам у выглядзе наразных ліній і адбіткаў ямак, крамянёвыя вырабы (адшчэпы, пласціны, нуклеусы, скрабкі, фрагмент наканечніка стралы). Адносіцца да бронзавага веку, датуецца канцом 3 — пачаткам 1-га тысячагоддзя да н. э. Раскопкі не праводзіліся.



787. *Курганны могільнік. План.*

Матэрыялы абследавання захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР. *У. П. Ксяндзоў.*

**в. Завад, Стараруднянскі сельсавет**

**790. ПОМНІК ВОІНАМ ЗНІШЧАЛЬНАГА БАТАЛЬЁНА** (гіст.). За 1 км на поўдзень ад вёскі, каля дарогі Гомель — Жлобін.

У час абарончых баёў пад Жлобінам у чэрвені 1941 г. з жыхароў горада быў створаны знішчальны батальён (камандзір В. А. Міронаў, камісар Г. В. Злынаў). У ліпені — жніўні 1941 г. батальён вёў разведку, затрымліваў і абясшкоджваў фашысцкіх дыверсантаў, памагаў эвакуіраваць у савецкі тыл насельніцтва і прамысловае абсталяванне. Застаўшыся ў тыле ворага, многія байцы батальёна сталі арганізатарамі партызанскай барацьбы і падпольных груп, змагаліся супраць ворага ў партызанскіх атрадах і ў падполлі.

У 1979 г. ў гонар баявых дзеянняў Жлобінскага знішчальнага батальёна пастаўлены абеліск.

*Літ.:* Андрющенко Н. К. Народное ополчение Белоруссии.— Мн., 1980. *В. В. Семянюк.*



790. *Помнік воінам знішчальнага батальёна.*

**в. Заграддзе (не існуе), Малевіцкі сельсавет**

**791. РАДЗІМА КАЗЛОВА** Васіля Іванавіча (гіст.).

Партыйны і дзяржаўны дзеяч БССР, адзін з арганізатараў і кіраўнікоў партызанскага руху на Беларусі ў Вялікую Айчынную вайну В. І. Казлоў нарадзіўся 5.2.1909 г. ў сялянскай сям'і. Член КПСС з 1927 г. Герой Савецкага Саюза (1942 г.), генерал-маёр (1943 г.). У 1933 г. скончыў Камуністычны універсітэт Беларусі імя У. І. Леніна ў Мінску. З 1917 г. рабочы, слесар дэпо станцыі Жлобін. У 1925—27 гг. у Чырвонай Арміі, у 1928—40 гг. на партыйнай і савецкай рабоце ў Жлобінскім, Старобінскім, Чэрвеньскім р-нах. З 1940 г. намеснік старшыні Саўнаркома БССР. З сакавіка 1941 г. сакратар Мінскага абкома КП(б)Б. У пачатку Вялікай Айчыннай вайны пакінуты ў тыле ворага для арганізацыі камуністычнага падполля і партызанскага руху. З ліпеня 1941 г. першы сакратар Мінскага падпольнага абкома КП(б)Б і камандзір Мінскага партызанскага злучэння. У 1944—48 гг. першы сакратар Мінскага абкома і гаркома КП(б)Б. У 1947 г. старшыня Вярхоўнага Савета БССР. У 1948—67 гг. старшыня Прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР і намеснік Старшыні Прэзідыума Вярхоўнага Савета СССР. З 1956 г. кандыдат у члены, у 1966—67 гг. член ЦК КПСС, член ЦК КПБ, член Бюро ЦК КПБ у 1945—67 гг. Дэпутат Вярхоўнага Савета СССР у 1946—67 гг., Вярхоўнага Савета БССР у 1947—67 гг.

В. І. Казлоў памёр 2.12.1967 г. Пахаваны ў Мінску на Усходніх могілках. На ўшанаванне памяці В. І. Казлова ў Салігорску пастаўлены помнік, у Беларускім дзяржаўным музеі гісторыі Вялікай Айчыннай вайны адкрыты мемарыяльны зал. Імем В. І. Казлова названы вуліцы ў Мінску, Салігорску, Жлобіне. Яго імя прысвоена Мінскаму электратэхнічнаму заводу, саўгасу і школе ў Жлобінскім р-не. У Мінску на доме, дзе ён жыў, устаноўлена мемарыяльная дошка.

*Літ.:* Минск: Энциклопедический справочник.— 2 изд.— Мн., 1983; Навечно в сердце народном.— 3 изд.— Мн., 1984. *В. В. Семянюк.*

**в. Залессе (не існуе), Кароткавіцкі сельсавет**

**792. МЕСЦА СПАЛЕНАЙ ВЁСКІ** (гіст.). Вёска Залессе знаходзілася за 1 км на ўсход ад вёскі Дубрава. У кастрычніку 1943 г. нямецка-фашысцкія захопнікі загубілі 23 яе жыхароў і спалілі вёску (17 двароў). Вёска не адрадзілася. Увекавечана ў мемарыяльным комплексе Хатынь.

**в. Замен-Рыння, Шчадрынскі сельсавет**

**793. ГАРАДЗІШЧА** (археал.). Мясцовая назва Гарадок. За 5 км на паўночны ўсход ад вёскі, ва ўрочышчы Божы Брод. Пляцоўка авальнай формы, памерам 82×62 м. Умацавана 2 валамі і ровам. Вышыня першага вала (вонкавага) 2 м, шырыня 6 м, другога (унутранага) адпаведна 1,6 м, 2,5 м. Глыбіня рова 2 м, шырыня 1 м. Гарадзішча зарасло лесам, мясцовасць вакол яго забалочана. Вядома з 1924 г. Абследавала ў 1981 г. Н. М. Дубіцкая. Раскопкі не праводзіліся. *Н. М. Дубіцкая.*

**794. МАГІЛА ШЫШКО** Канстанціна Кандратавіча (гіст.). На могілках. Лейтэнант Чырвонай Арміі К. К. Шышко загінуў у чэрвені 1944 г. пры вызваленні раёна ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1969 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Замосце (не існуе), Кароткавіцкі сельсавет**

**795. МЕСЦА СПАЛЕНАЙ ВЁСКІ** (гіст.). Вёска Замосце знаходзілася за 1 км на захад ад в. Плёсавічы. У кастрычніку 1943 г. нямецка-фашысцкія захопнікі загубілі 4 жыхароў і спалілі вёску (10 двароў). Вёска не адрадзілася.

**в. Зломнае, Стрэшынскі пасялковы Савет**

**796. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). На заходняй ускраіне вёскі. Пахаваны 12 жыхароў вёскі, якіх у 1943 г. расстралялі нямецка-фашысцкія захопнікі. У 1968 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Кабанаўка, цэнтр сельсавета**

**797. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). На паўднёва-заходняй ускраіне вёскі. Пахаваны 250 воінаў і 2 партызаны, якія загінулі ў чэрвені 1944 г. ў баях пры вызваленні раёна ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1953 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура салдата.

**в. Казімірава, Малевіцкі сельсавет**

**798. БРАЦКАЯ МАГІЛА ВОІНАЎ САВЕЦКАЙ АРМІІ І СУПРАЦОЎНІКАЎ ВАЕНКАМАТА** (гіст.). Каля могілак. Пахаваны 10 чырвонаармейцаў і 13 супрацоўнікаў Бабруйскага ваенкамата, якія загінулі ў 1920 г. Тут жа пахаваны 10 савецкіх воінаў, якія загінулі ў 1944 г. пры вызваленні вёскі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў.

У пачатку сакавіка 1920 г. войскі буржуазнай Польшчы аднавілі ваенныя дзеянні супраць маладой Савецкай краіны. Наступленне на Жлобін вялі 4 групы: першая па Рагачоўскай шашы, другая з Бабруйска на в. Туркі, трэцяя на в. Шчадрын, чацвёртая на в. Плесавічы. 3.3.1920 г. польскія войскі прарвалі фронт каля в. Радуша і захапілі в. Казімірава. Інтэрвенты ўчынілі жорсткую расправу над палоннымі. Былі расстраляны супрацоўнікі ваенкамата і чырвонаармейцы.

У 1956 г. на магіле пастаўлена стэла. *В. В. Семянюк.*

**в. Кароткавічы, цэнтр сельсавета**

**799. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). У цэнтры вёскі, на плошчы. Пахаваны 668 воінаў і 4 партызаны, якія загінулі ў снежні 1943 г., студзені — чэрвені 1944 г. ў барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1959 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура салдата.

**800. ГАРАДЗІШЧА** (археал.). За 4 км на паўднёвы захад ад вёскі, сярод ба-



801. *Помнік спаленым вёскам.*

лота. Пляцоўка авальная, памерам 48×40 м, умацавана кольцападобным валам вышынёй 2,5 м, шырынёй 3,5 м. Другі вал дзяліць пляцоўку на 2 часткі. Вядома з 1924 г. Абследаваў у 1975 г. У. У. Багамольнікаў. Раскопкі не праводзіліся.

**801. ПОМНІК СПАЛЕНЫМ ВЁСКАМ** (гіст.). На паўночнай ускраіне вёскі. У канцы 1943 г. і пачатку 1944 г. нямецка-фашысцкія акупанты спалілі разам з жыхарамі 5 вёсак: Браткі (27 жыхароў, 10 двароў), Грушка (20 жыхароў, 11 двароў), Залессе (23 жыхары, 17 двароў), Замосце (4 жыхары, 10 двароў), Красноўка (45 жыхароў, 10 двароў). Вёскі не адрадзіліся. У 1977 г. ў памяць аб спаленых вёсках пастаўлена стэла. Увекавечаны (акрамя в. Замосце) у мемарыяльным комплексе Хатынь.

**в. Касакоўка, Папаратнянскі сельсавет**

**802. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля канторы праўлення калгаса «Шлях Леніна». На ўшанаванне памяці землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1980 г. пастаўлены помнік — скульптура воіна.

**в. Кірава, цэнтр сельсавета**

**803. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАНА** (гіст.). Каля школы. Пахаваны 82 воіны і партызан, якія загінулі ў 1944 г. пры вызваленні раёна ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1952 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна.

**804. ПОМНІК СВЯРДЛОВУ** Якаву Міхайлавічу (гіст.). Каля будынка праўлення калгаса імя Я. М. Свярдлова. Бюст Я. М. Свярдлова ўстаноўлены ў 1980 г.

**пас. Колас, Пірэвіцкі сельсавет**

**805. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). На паўднёвай ускраіне пасёлка. 6 пашкоджаных курганоў дыяметрам 10 м, вышынёй 2 м. Выявіў і даследаваў у 1974 г. У. У. Багамольнікаў, раскапаны адзін курган. Пахавальны абрад — трупаспаленне. Знойдзены абломкі 2 ляпных гаршкоў — аднаго ў насыпе і аднаго на гарызонце. Належаў радзімічам, датуецца 6—7 стагоддзямі н. э.

Матэрыялы раскопак захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

**в. Красноўка (не існуе), Кароткавіцкі сельсавет**

**806. МЕСЦА СПАЛЕНАЙ ВЁСКІ** (гіст.). Вёска Красноўка знаходзілася за 2 км на паўднёвы ўсход ад в. Кароткавічы. У кастрычніку 1943 г. нямецка-фашысцкія захопнікі загубілі 45 яе жыхароў і спалілі вёску (10 двароў). Вёска не адрадзілася. Увекавечана ў мемарыяльным комплексе Хатынь.

**в. Курганне, Чырвонабярэжскі сельсавет**

**807. КУРГАННЫЯ МОГІЛЬНІКІ** (археал.). На паўднёвай ускраіне вёскі ўздоўж р. Дабасна (прыток Дняпра). **807а.** М о г і л ь н і к - 1. Паміж в. Курганне і р. Дабасна. 55 курганоў вышынёй 0,5—2,5 м, дыяметрам 10—12 м. Выявіў і даследаваў у 1972—76 гг. У. У. Багамольнікаў, раскапаны 28 насыпаў. Пахавальны абрад — трупапалажэнне, галавою на захад, у адным выпадку галавою на ўсход, у другім — трупаспаленне. Адзін курган быў пусты. У многіх курганах знойдзены ганчарныя гаршкі, скроневыя кольцы (у т. л. сяміпрамянёвыя), пацеркі (дробны бісер, шкляныя пазалочаныя цыліндрычныя і бочкападобныя сердалікавыя біпірамідальныя, прызматычныя бурштынавыя і інш.), каса, серп, прасліцы, крэсівы, ліраподобныя спражкі, паясныя кольцы, крыж-складзень, кручок-падвеска з выявамі конскіх галовак. Належаў радзімічам, датуецца 11 — 1-й трэццю 12 ст.



807а. *Могільнік-1. План.*



807б. *Могільнік-2. План.*

**807б.** М о г і л ь н і к - 2. Побач з могільнікам-1, на захад ад яго. 35 курганоў вышынёй 1—2 м, дыяметрам 10—12 м. Выявіў і даследаваў у 1972 г. У. У. Багамольнікаў. Раскапана 7 насыпаў. Пахавальны абрад — трупапалажэнне на гарызонце і ў яме. Знойдзены шкляныя пазалочаныя і сердалікавыя біпірамідальныя пацеркі, нож, пярсцёнак, ганчарная кераміка, металічная буйназярністая пацерка. Належаў дрыгавічам, датуецца 11—12 стагоддзямі.

**807в.** М о г і л ь н і к - 3. За 1 км на захад ад могільніка-2. 3 курганы вышынёй 2 м, дыяметрам 12—13 м. Выявіў і абследаваў у 1972 г. У. У. Багамольнікаў. Раскопкі не праводзіліся.

Матэрыялы раскопак захоўваюцца ў Гомельскім абласным краязнаўчым музеі. *У. У. Багамольнікаў.*



808. *Помнік падпольшчыкам і партызанам.*

**в. Лугавая Вірня, Майскі сельсавет**

**808. ПОМНІК ПАДПОЛЬШЧЫКАМ І ПАРТЫЗАНАМ** (гіст.). За 1 км на ўсход ад вёскі.

У Вялікую Айчынную вайну ў акупіраваных нямецка-фашысцкімі захопнікамі г. Жлобін і Жлобінскім р-не ў кастрычніку 1941 г.— лістападзе 1943 г. дзейнічала камуністычнае падполле. У кастрычніку 1941 г. створаны падпольныя групы: у Жлобінскім паравозным дэпо (кіраўнікі Ц. П. Міненкаў і І. М. Казлоў); камсамольска-маладзёжныя (М. І. Елісееў, Г. В. Канаплянікава, А. П. Цямінская); у друкарні (М. П. Калеснічэнка); група

Р. П. Баранава; у вёсках Святое (А. І. Карунчык), Антонаўка (А. І. Севасцьянчык), Мармаль (І. А. Лебедзеў), Бабоўка (Н. А. Дражнін), Кабанаўка (М. Дз. Антуськоў), Малевіцкім сельсавеце (І. М. Шаўцоў). У 1942 г. ўзніклі новыя групы: у Жлобіне — Гарбатага, Т. І. Раміська, І. І. Цыркунова, Дз. В. Ніжнікава, С. А. Казлова; у вёсках Шапарня (кіраўнік У. Б. Паўлаў), Адраджэнне (П. Б. Кіраў), Папаратнае (В. З. Фамёнак), Саланое (П. С. Дзегцяроў), Старая Рудня (А. П. Капусцін), Яшчыцы (Т. Ф. Бацькаў). Падпольшчыкі прымалі па радыё і распаўсюджвалі зводкі Саўінфармбюро, вывелі са строю больш за 50 паравозаў, зрывалі водазабеспячэнне чыгуначнага вузла, узарвалі механічны цэх дэпо, спалілі маслазавод, лесазавод, цагельню, склады, мініравалі паязды, здабывалі і перадавалі партызанам зброю, боепрыпасы, медыкаменты, звесткі пра абарончыя рубяжы нямецкіх войск, рух паяздоў. У барацьбе з акупантамі загінулі: Р. П. Баранаў, З. Булкін, Я. Гарошка, С. Гарэлік, Н. А. Дражнін, М. П. Калеснічэнка, А. Каробкін, А. А. Кірэйка, Л. С. Корабава, В. Я. і І. В. Міронцавы, І. Татарэнка, бацька і дачка Ямпольскія і інш.

Партызанская барацьба на Жлобіншчыне шырока разгарнулася з верасня 1942 г. Для кіраўніцтва барацьбой камуністычнага падполля і партызанскіх атрадаў супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў Гомельскі абком КП(б)Б стварыў 29.6.1942 г. Жлобінскі раённы падпольна-партыйны цэнтр. 3.7.1942 г. быў зацверджаны склад цэнтра: Дз. Ц. Шыбінскі (кіраўнік), І. А. Крышнёў, І. М. Дзікан, К. К. Карпенка. У верасні 1942 г. ЦК КП(б)Б накіраваў на чале самастойных груп Дз. Ц. Шыбінскага ў Стрэшынскі, І. А. Крышнёва ў Жлобінскі р-ны. 24.9.1942 г. абедзве групы аб'ядналіся ў адзін партызанскі атрад «Смерць фашызму» (камандзір І. А. Крышнёў, камісар Дз. Ц. Шыбінскі). Міжрайком КП(б)Б пачаў сваю дзейнасць з кастрычніка 1942 г., базіраваўся ў партызанскім атрадзе «Смерць фашызму». У маі 1943 г. атрад падзелены на 2 — «Смерць фашызму» і «Жалязняк». У верасні 1943 г. на базе атрада «Смерць фашызму» створана партызанская брыгада імя П. К. Панамарэнкі (камандзір І. І. Бандарэнка (верасень — лістапад 1943 г.), камісар Я. Р. Садавой (верасень — лістапад 1943 г.). Партызаны ў снежні 1942 г., студзені — красавіку, чэрвені, кастрычніку 1943 г. ўдзельнічалі ў баях супраць карнікаў, у разгроме варожых апорных пунктаў у вёсках Мармаль, Таўстыкі, г. п. Стрэшын Стрэшынскага, в. Радуша Жлобінскага р-наў, у баях каля в. Лубенікі, пас. Майскі Брагінскага, вёсак Пружынішчы Парыцкага, Новыя Маркавічы Стрэшынскага р-наў. У жніўні 1943 г. падарвалі каля 200 рэек. Гл. таксама артыкул № 764 «Помнік у гонар партызанскага атрада «Смерць фашызму».

Атрад «Жалязняк» рэарганізаваны ў брыгаду (камандзір В. І. Шаруда, камісар Г. В. Злынаў). Партызаны наносілі ўдары на чыгунцы Жлобін — Гомель, Жлобін — Калінкавічы, на шашэйных і грунтавых дарогах у раёнах дыслакацыі. Толькі ў жніўні і верасні 1943 г. падарвалі больш за 1,5 тыс. рэек. У ліпені — жніўні 1943 г. падарвалі або пашкодзілі 11 мастоў, 56 аўтамашын, разграмілі 5 варожых апорных пунктаў. У баях захапілі 22 кулямёты, 4 мінамёты, каля 150 вінтовак, паліцэйскія ўчасткі ў вёсках Лукі і Сцяпы, на станцыі Чырвоны Бераг, з атрадам 108-м імя Р. І. Катоўскага — гарнізон у в. Замен-Рыння Жлобінскага р-на (жнівень 1943 г.). У снежні 1942 г., студзені, сакавіку 1943 г. з іншымі атрадамі вялі баі супраць карных экспедыцый ворага каля вёсак Петрыцкае Брагінскага, Лазараўка, Пружынішчы, Прыстань Акцябрскага, Антонаўка, Кароткавічы, Майскае Жлобінскага р-наў. У кастрычніку 1943 г. абаранялі партызанскую зону ў межах вёсак Задзярдзеўка, Шолкавічы, Чарнейкі і Сведскае Васілевіцкага р-на. У лістападзе 1943 г. пры падыходзе часцей Чырвонай Арміі разам з партызанамі брыгады імя П. К. Панамарэнкі і атрадам 108-м імя Р. І. Катоўскага перарэзалі дарогу Горваль — Шацілкі, напалі на апорны пункт у в. Горваль, захапілі больш за 100 аўтамашын.

У 1972 г. ў гонар баявых дзеянняў падпольшчыкаў і партызан устаноўлены абеліск з барэльефнай выявай партызана з аўтаматам.

*Літ.:* В грозные годы.— Мн., 1973.

*В. В. Семянюк.*

**в. Лукі, цэнтр сельсавета**

**809. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). У цэнтры вёскі, каля будынка выканкома сельскага Савета. Пахаваны 217 воінаў, якія загінулі ў чэрвені 1944 г. пры вызваленні раёна ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1955 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна.

**в. Ляды, Кабанаўскі сельсавет**

**810. БРАЦКІЯ МАГІЛЫ САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На могілках. У 4 магілах пахаваны воіны, якія загінулі ў 1943—44 гг. у барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1949 г. на магілах пастаўлены абеліск.

**811. ВЕТРАНЫ МЛЫН** (архіт.). На паўднёва-заходняй ускраіне вёскі. Пабудаваны ў канцы 19 ст. з дрэва.

Млын шатровага тыпу з 2 жарнавымі паставамі ўяўляе сабой васьміgranную ўсечаную піраміду каркаснай канструкцыі, якая стаіць на драўляным зрубе. Завершаны васьмігранным шатром, які паварочваецца вакол вертыкальнай восі пры дапамозе 2 кансолей. Асновай канструкцыі з'яўляецца магутны слуп — матавіла. На слуп пасаджана кола-шасцярня, што прыводзіць у рух жарнавыя паставы. Цяпер млын мае электрычны прывод.

Ветраны млын — прыклад вытворчай пабудовы. *А. Ю. Пятросава.*

**в. Лясань, Салонскі сельсавет**

**812. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 2 км на захад ад вёскі. 27 насыпаў вышынёй 0,5—3 м, дыяметрам 3—14 м. Курганы здзірванелыя, зараслі лесам, асобныя пашкоджаны. Выявіла і абследавала ў 1978 г. Н. М. Дубіцкая. Раскопкі не праводзіліся.

**в. Майскае, цэнтр сельсавета**

**813. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). У цэнтры вёскі, каля Дома культуры. Пахаваны 1018 воінаў і 2 партызаны, якія загінулі ў 1943—44 гг. у барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. Сярод пахаваных — воіны 96-й стралковай дывізіі 48-й арміі 1-га Беларускага фронту. У 1955 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна.

**814. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). На заходняй ускраіне вёскі, каля могілак. На ўшанаванне памяці 263 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1967 г. пастаўлены помнік — скульптурная кампазіцыя: салдат і дзяўчынка.



811. *Ветраны млын.*

**815. ПОМНІК ЛЕНІНУ** Уладзіміру Ільічу (гіст.). У парку. Скульптура У. І. Леніна ўстаноўлена ў 1975 г.

**816. РАДЗІМА ЧАВУСКАГА** Міхася (гіст.).

Беларускі савецкі пісьменнік Міхась (Майсей Моталевіч) Чавускі нарадзіўся 25.12.1904 г. ў сям'і шаўца. Член КПСС з 1927 г. Вучыўся ў Камуністычным інстытуце журналістыкі ў Ленінградзе (1934—37 гг.). Працоўную дзейнасць пачаў у 1917 г. наборшчыкам у друкарні ў Жлобіне. У 1924—26 гг. і 1928—30 гг. рабочы ў адной з друкарняў Мінска. У 1926—28 гг. служыў у Чырвонай Арміі. Пасля дэмабілізацыі працаваў у Белспажыўсаюзе. У 1935—37 гг. на партыйнай рабоце, потым загадчык аддзела ў рэдакцыях газет «Советская Белоруссия», «Звязда», рэдактар мінскай раённай газеты «Шлях сацыялізма», інструктар ЦК КП(б)Б. У 1938—41 гг. галоўны рэдактар БелТА. У Вялікую Айчынную вайну адказны рэдактар сатырычнага выдання ЦК КП(б)Б «Раздавім фашысцкую гадзіну», з 1943 г. рэдагаваў лістоўку-плакат Вілейскага падпольнага абкома КП(б)Б «Партызанскае слова». У 1944—47 гг. намеснік старшыні і галоўны рэдактар Камітэта радыёфікацыі і радыёвяшчання пры СМ БССР. З 1947—67 гг. працаваў у часопісе «Вожык» (у 1947—55 гг. рэдактар). У 1964—70 гг. узначальваў Бюро прапаганды мастацкай літаратуры Саюза пісьменнікаў БССР.

Друкавацца пачаў у 1940 г. Пісаў сатырычныя і гумарыстычныя апавяданні, фельетоны, гумарэскі. Аўтар зборнікаў апавяданняў, аднаактовак і сцэнак «Крытычны момант» (1954 г.), «Індык на курорце» (1960 г.), «Рука руку мые» (1964 г.), «Чаму ж не смяяцца?» (1969 г.), «Стрэлены Вераб'ёў» (1976 г.), дакументальнай аповесці «Фарбамі гневу» (1975 г.). У творах высмейваў мяшчанства, кар'ерызм, двурушніцтва, бюракратызм, падхалімства і інш.



811. *Ветраны млын. План.*

Памёр 1.7.1984 г. Пахаваны ў Мінску на Паўночных могілках.

*Літ.:* Пісьменнікі Савецкай Беларусі.— Мн., 1981. *В. В. Семянюк.*

**в. Малевічы, цэнтр сельсавета**

**817. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). У цэнтры вёскі, у скверы. Пахаваны 45 воінаў 170-й стралковай дывізіі 48-й арміі 1-га Беларускага фронту, якія загінулі ў чэрвені 1944 г. пры вызваленні раёна ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1955 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура салдата з аўтаматам.

**в. Мормаль, Дабрагашчанскі сельсавет**

**818. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАНА** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны 393 воіны і партызан, якія загінулі ў 1943—44 гг. у барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1952 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура салдата.

**819. МЕСЦА ПОДЗВІГУ ЖУЙКОВА** Мікалая Пятровіча **І МАЗІЛІНА** Піліпа Мікалаевіча (гіст.). За 1,5 км на паўднёвы захад ад вёскі.

1.3.1944 г. воінам 13-га асобнага кулямётнага батальёна 115-га ўмацаванага раёна пад камандаваннем лейтэнанта М. П. Жуйкова была пастаўлена задача авалодаць вышынёй, якая з'яўлялася апорным пунктам ворага. Пасля артпадрыхтоўкі байцы авалодалі перадавымі траншэямі праціўніка. Ад прамога пападання снарада загінулі байцы кулямётнага разліку сяржанта П. М. Мазіліна. У напружаны момант бою М. П. Жуйкоў кінуўся да варожага дзота і закрыў сваім целам яго амбразуру. Але неўзабаве кулямёт зноў пачаў страляць, і сяржант П. М. Мазілін паўтарыў подзвіг свайго камандзіра. Натхнёныя подзвігамі сваіх таварышаў, воіны падняліся ў атаку і авалодалі вышынёй.

У 1979 г. на месцы бою ўстаноўлены мемарыяльны знак.

*Літ.:* Кухарев Н. В. Жлобин: Историко-экономический очерк.— Мн., 1975. *В. В. Семянюк.*

**в. Нівы, Салонскі сельсавет**

**820. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля канторы саўгаса «Нівы». На ўшанаванне памяці 81 земляка, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1979 г. пастаўлены абеліск.

**в. Ніжняя Алба, Верхнеалбянскі сельсавет**

**821. ПАСЕЛІШЧА** (археал.). За 0,15 км на паўночны захад ад вёскі, каля могілак. Паселішча часткова пашкоджана. Выявіў і абследаваў у 1977 г. У. П. Ксяндзоў. У агаленнях культурны пласт 0,1 м на плошчы 80 м$^2$. Знойдзены рэшткі ляпной керамікі і крамянёвыя адшчэпы. Адносіцца да бронзавага і ранняга жалезнага вякоў. Матэрыялы абследавання зберагаюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

*У. П. Ксяндзоў.*



819. *Мемарыяльны знак на месцы подзвігу М. П. Жуйкова і П. М. Мазіліна.*

**в. Новая Каменка, Стрэшынскі пасялковы Савет**

**822. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). Паміж пасёлкамі Новая Каменка і Старая Каменка. Захавалася 32 насыпы дыяметрам 8—18 м, вышынёй 0,2—2,5 м. Вядомы з 1873 г. Даследаваў у 1905 г. Е. Р. Раманаў, раскапана 8 курганоў. Пахавальны абрад — трупапалажэнне галавою на захад, трапляюцца пахаванні галавою на ўсход. Пад галаву адной з пахаваных жанчын была паложана дошка. Чатыры курганы без рэчаў, у астатніх знойдзены скіпрамянёвыя і адно сямілапчастае кольцы, гладкія і арнаментаваныя лунніцы, пятлістыя падвескі, кручаная шыйная грыўня з гранёнымі галоўкамі на канцах, розныя тыпы пярсцёнкаў, 2 гладкія і 1 кручаны бранзалеты, скроневыя кольцы з завітком на адным канцы, розныя пацеркі (дробны бісер, сінія шкляныя і інш.), тачыльны камень з крэменем, ліраладобная спражка і жалезнае паяснoе кольца, разбіты гаршчок. Абследаваў у 1975 г. У. У. Багамольні-



822. *Курганны могільнік.*

каў. Могільнік датуецца 11—12 стагоддзямі, належаў радзімічам.

Матэрыялы даследавання Е. Р. Раманава захоўваюцца ў Дзяржаўным Эрмітажы ў Ленінградзе.

*Літ.:* Романов Е. Р. Археологические разведки в Могилевской губернии.— Вильна, [1912]; Сведения 1873 г. о городищах и курганах.— Известия Археологической комиссии. СПб., 1903, в. 5.

*У. У. Багамольнікаў.*

**в. Новая Карма, Папаратнянскі сельсавет**

**823. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля клуба. На ўшанаванне памяці 58 аднавяскоўцаў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1967 г. пастаўлены помнік — скульптура воіна.

**в. Новыя Лукі, Луцкі сельсавет**

**824. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 2 км на ўсход ад вёскі. 7 паўсферычных у плане насыпаў дыяметрам 4—12 м, вышынёй 1—2 м. Курганы здзірванелыя, зараслі хмызняком. Вядомы з 1873 г. Абследавала ў 1978 г. Н. М. Дубіцкая. Раскопкі не праводзіліся.



822. *Курганны могільнік. План.*



828. *Помнік землякам.*

**в. Новыя Маркавічы, цэнтр сельсавета**

**825. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). Каля будынка выканкома сельскага Савета. Пахаваны 279 воінаў і 18 партызан, якія загінулі ў 1943—44 гг. у барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1955 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна.

**826. ПОМНІК ЛЕНІНУ** Уладзіміру Ільічу (гіст.). Каля будынка выканкома сельскага Савета. Бюст У. І. Леніна ўстаноўлены ў 1972 г.

**в. Папаратнае, цэнтр сельсавета**

**827. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). Каля Дома культуры. Пахаваны 1051 воін. Сярод пахаваных — воіны 73-й стралковай дывізіі 48-й арміі 1-га Беларускага фронту, якія загінулі ў чэрвені 1944 г. пры вызваленні раёна ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1954 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна.

**828. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У парку. На ўшанаванне памяці 75 аднавяскоўцаў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1954 г. пастаўлены помнік — скульптура воіна ў жалобе.

**в. Пірэвічы, цэнтр сельсавета**

**829. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны 139 воінаў і 6 партызан, якія загінулі ў снежні 1943—44 гг. у барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. Сярод пахаваных — воіны 399-й стралковай дывізіі 48-й арміі 1-га Беларускага фронту. У 1955 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна.

**830. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У парку. На ўшанаванне памяці 446 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1976 г. пастаўлены помнік — трохгранны абеліск з рэльефным фрызам унізе. На гранях абеліска імёны загінуўшых.

**831. УСЯСВЯЦКАЯ ЦАРКВА** (архіт.). У цэнтры вёскі. Пабудавана ў 1902 г. з цэглы.

Царква крыжападобная ў плане, з трохапсіднай алтарнай часткай і выцягнутым па папярочнай восі вузкім бабінцам. У агульнай кампазіцыі дамінуе асноўны кубічны аб'ём, накрыты пакатым вальмавым дахам. Над дахам круглы барабан на васьмерыку. Уваходы з 3 бакоў. Галоўны аформлены вялікім мураваным ганкам з арачнымі праёмамі, бакавыя — ганкамі з навісямі, размешчанымі пад вуглом да восі будынка. Сцены прарэзаны паўцыркульнымі аконнымі праёмамі з ліштвамі. У дэкоры выкарыстаны какошнікі, закамары, арката. У інтэр'еры асноўнае памяшканне перакрыта сферычным купалам з ліхтаром, іншыя — цыліндрычнымі скляпеннямі. Ніжнія часткі сцен abліцаваны керамічнай пліткай.

Царква — помнік архітэктуры псеўдарускага стылю. *А. А. Міцянін.*

**в. Плесавіцкая Слабодка, Кароткавіцкі сельсавет**

**832. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля будынка праўлення калгаса імя Ф. Энгельса. На ўшанаванне памяці 86 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1979 г. пастаўлены абеліск.



829. *Помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў і партызан.*




830. *Помнік землякам. Фрагмент.*

**в. Плесавічы, Кароткавіцкі сельсавет**

833. **КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 0,8 км на ўсход ад вёскі. Захавалася 5 кurганоў вышынёй 1—2,5 м, дыяметрам да 15 м, 2 з іх пашкоджаны. Вядомы з 1924 г. Абследаваў у 1975 г. У. У. Багамольнікаў. Раскопкі не праводзіліся.

**в. Праскурні, Акцябрскі сельсавет**

834. **ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі, каля клуба. На ўшанаванне памяці 86 аднавяскоўцаў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў, у 1969 г. пастаўлены помнік — скульптура воіна.



831. *Усясвяцкая царква.*



831. *Усясвяцкая царква. План.*

**в. Прыбудак, Навамаркавіцкі сельсавет**

835. **БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны 12 воінаў, якія загінулі ў чэрвені 1944 г. пры вызваленні вёскі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1966 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна.

**в. Радуша, цэнтр сельсавета**

836. **БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны 28 воінаў, якія загінулі ў 1944 г. пры вызваленні вёскі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1958 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна.

837. **МАГІЛА КАВАЛЕНКІ** Васіля Ігнатавіча (гіст.). У цэнтры вёскі, побач з брацкай магілай савецкіх воінаў. Савецкі актывіст В. І. Каваленка загінуў 8.03.1924 г. ад рук ворагаў Савецкай улады. На магіле ў 1974 г. пастаўлены абеліск.

838. **ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У скверы, каля Дома культуры. На ўшанаванне памяці 131 земляка, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1967 г. пастаўлены помнік — скульптура жанчыны і сцяна, на якой пліты з імёнамі загінуўшых.

**в. Рудзенка, Пірэвіцкі сельсавет**

839. **МЕСЦА ГІБЕЛІ ПЯТРОЎСКАГА** Леаніда Рыгоравіча (гіст.). За 1 км на поўдзень ад вёскі, на скрыжаванні дарог Жлобін — Гомель і Скепня — Салтанаўка, справа ад дарогі ў Салтанаўку. 17.8.1941 г. ў баі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў загінуў камандзір 63-га стралковага корпуса 21-й арміі генерал-лейтэнант Л. Р. Пятроўскі. Пахаваны ў брацкай магіле ў в. Старая Рудня (гл. артыкул № 846 «Брацкая магіла савецкіх воінаў»). У 1945 г. на месцы яго гібелі пастаўлена стэла.



831. *Усясвяцкая царква. Фасад, дэкарыраваны кафляй. Фрагмент.*



838. *Помнік землякам.*

**в. Рэкта, цэнтр сельсавета**

840. **БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). У цэнтры вёскі, на плошчы. Пахаваны 97 воінаў, якія загінулі ў чэрвені 1944 г. ў баях пры вызваленні раёна ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1959 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура салдата.

**в. Саланое, цэнтр сельсавета**

841. **КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 1 км на поўдзень ад вёскі. Захаваліся 2 курганы. Вышыня аднаго 1,5 м, дыяметр 8 м, другога адпаведна 1,8 м і 10 м. Курганы належалі дрыгавічам, датуюцца 11 ст. Вядомы з 1893 г. У 1905 г. Е. Р. Раманаў раскапаў 10 кurганоў. Пахавальны абрад — трупапалажэнне на спіне, галавой на захад. У большасці курганоў было па аднаму нябожчыку. У адным кургане ўскрыта труна з 2 шкілетамі. Знойдзены пярсцёнкападобныя скроневыя кольцы з завіткамі, буйназярністыя металічныя пацеркі, заходнееўрапейская (кёльнская) сярэбраная манета 10 ст., пярсцёнкі, шкляныя і сердалікавыя пацеркі, гаршчок з хвалістым арнаментам, абломкі урны з арнаментам у выглядзе ёлачкі і інш. Абследаваў у 1976 г. У. У. Багамольнікаў.

Матэрыялы раскопак захоўваюцца ў Дзяржаўным Эрмітажы ў Ленінградзе.

*Літ.:* Заметка Е. Р. Романова о дополнительных археологических местонахождениях.— У кн.: Труды Виленского отделения Московского предварительного комитета по устройству в Вильне 9 археологического съезда, Вильно, 1893; Романов Е. Р. Археологические разведки в Могилевской губернии.— Вильна, [1912].

*У. У. Багамольнікаў.*

842. **ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі, у садзе. На ўшана-



839. *Помнік на месцы гібелі Л. Р. Пятроўскага.*

ванне памяці 101 земляка, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1976 г. пастаўлены помнік — скульптурная кампазіцыя: 2 воіны.

**в. Салтанаўка, Пірэвіцкі сельсавет**

**843. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). Каля чыгуначнай станцыі. Пахаваны 27 воінаў, якія загінулі ў чэрвені 1944 г. ў баях пры вызваленні раёна ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1957 г. на магіле пастаўлены помнік — абеліск і скульптура воіна.

**в. Селівонаўка, Кіраўскі сельсавет**

**844. РАДЗІМА КАВАЛЁВА** Мікалая Кузьміча (гіст.).

Герой Савецкага Саюза М. К. Кавалёў нарадзіўся ў жніўні 1917 г. ў сям'і рабочага. Член КПСС з 1939 г. Скончыў ваенна-палітычнае вучылішча (1941 г.), курсы «Выстрал» (1943 г.). Працаваў тэхнікам у дэпо станцыі Жлобін. З 1938 г. ў Чырвонай Арміі. У Вялікую Айчынную вайну на фронце з жніўня 1941 г. Удзельнік абароны Масквы, вызвалення Беларусі, Прыбалтыкі. Вызначыўся ў баях ва Усходняй Прусіі. Полк пад камандаваннем гвардыі падпалкоўніка М. К. Кавалёва ў баі на подступах да в. Ленхевен знішчыў 2 самаходныя гарматы, 20 кулямётаў, каля 200 гітлераўцаў. Загінуў М. К. Кавалёў 17.3. 1945 г. ў гэтым баі. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 29.6.1945 г.

*Літ.:* Навечно в сердце народном.— 3 изд.— Мн., 1984.

**в. Скепня, Пірэвіцкі сельсавет**

**845. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На заходняй ускраіне вёскі. Пахаваны 53 воіны, якія загінулі ў 1944 г. пры вызваленні раёна ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. Сярод пахаваных — Герой Савецкага Саюза Іван Аркадзевіч Лазенка.

І. А. Лазенка нарадзіўся 22.4. 1917 г. ў в. Каўтунаўка Прылукскага р-на Чарнігаўскай вобл. ў сялянскай сям'і. Член КПСС з 1943 г. У 1940 г. скончыў Харкаўскае лётнае вучылішча. У Чырвонай Арміі з 1938 г. У Вялікую Айчынную вайну з чэрвеня 1941 г. на Паўднёвым, Паўднёва-Заходнім, Сталінградскім, Цэнтральным, Беларускім франтах. Зрабіў 154 баявыя вылеты, знішчыў 43 танкі, 125 аўтамашын, 13 гармат палявой артылерыі, 12 зенітных кропак, 2 самаходныя гарматы, 1 паравоз. У паветраным баі збіў 2 самалёты, 7 знішчыў на аэрадромах. Камандзір эскадрыллі штурмавога авіяпалка капітан І. А. Лазенка вызначыўся пры вызваленні Гомельскай вобл. У час налёту на варожыя пазіцыі ў раёне Лоева 17.10. 1943 г. знішчыў 4 палявыя і 2 зенітныя гарматы, 5 аўтамашын і больш за 100 гітлераўцаў. Загінуў 15.12. 1943 г. ў паветраным баі. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 13.5. 1944 г. На радзіме героя пастаўлены помнік.

У 1956 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна з аўтаматам.

*Літ.:* Навечно в сердце народном.— 3 изд.— Мн., 1984. *В. В. Семянюк.*

**в. Старая Рудня, цэнтр сельсавета**

**846. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). У цэнтры вёскі каля Палаца культуры. Пахаваны 121 воін, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну. Сярод пахаваных — генерал-лейтэнант Леанід Рыгоравіч Пятроўскі.



845. *Помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў.*



847. *Помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў.*

Л. Р. Пятроўскі нарадзіўся 30.5.1902 г. ў г. п. Шчарбінаўка Дзяржынскага гарсавета Данецкай вобл. ў сям'і рэвалюцыянера-бальшавіка Р. І. Пятроўскага. Член КПСС з 1916 г. У Чырвонай гвардыі з 1917 г., з 1918 г. ў Чырвонай Арміі. У Грамадзянскую вайну на Паўночным, Усходнім, Паўднёвым і Заходнім франтах: камандзір роты, батальёна, палка. Скончыў Акадэмію РСЧА (1922 г.). У пачатку Вялікай Айчыннай вайны камандаваў 63-м стралковым корпусам, які з ліпеня 1941 г. абараняў Дняпроўскі рубеж на лініі Рагачоў — Жлобін — Стрэшын. 13.7.1941 г. корпус перайшоў у контрнаступленне, фарсіраваў Дняпро, штурмам авалодаў Жлобінам і Рагачовам і прасунуўся на захад да 30 км. Гітлераўцы кінулі супраць корпуса 7 дывізій. 17.8.1941 г. ў баі каля в. Рудзенка Л. Р. Пятроўскі загінуў. На месцы гібелі пастаўлена стэла. Член ЦК КП(б)Б у 1937—38 гг. Яго імя прысвоена Стараруднянскай сярэдняй школе.

У 1958 г. на магіле пастаўлены бюст Л. Р. Пятроўскага.

*Літ.:* Сандалов Л. М. На гомельском направлении.— У кн.: В грозные годы. Мн., 1973. *В. В. Семянюк.*

## IX. СТРЭШЫН

Гарадскі пасёлак, цэнтр пасялковага Савета. На правым беразе Дняпра, за 21 км на поўдзень ад Жлобіна, на аўтамабільнай дарозе Жлобін — Рэчыца.

Археалагічныя матэрыялы сведчаць аб тым, што Стрэшын узнік у 12 ст.



846. *Помнік Л. Р. Пятроўскаму.*

як невялікі феадальны замак, які быў абкружаны валам шырынёй 10—12 м і ровам. Побач з замкам пазней вырасла невялікае неўмацаванае паселішча. Паводле пісьмовых крыніц вядомы з 2-й палавіны 14 ст. Некаторыя даследчыкі атаясамліваюць яго з старажытным горадам Стрэжавам, які ўпамінаецца ў летапісах пад 1127—28 гг. і 1159 г. У «Спісе гарадоў далёкіх і блізкіх» (14 ст.) Стрэшын упамінаецца ў ліку гарадоў Кіеўскай Русі разам з Рагачовам і Любечам. У 1399 г. Стрэшын упамінаецца ў дарчай грамаце вялікага князя літоўскага Вітаўта, належаў віленскім канонікам. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793 г.) у складзе Расійскай імперыі, цэнтр воласці Рагачоўскага павета, мястэчка, уладанне графа Остэрмана.

Да Кастрычніцкай рэвалюцыі Стрэшын — невялікае мястэчка, цэнтр воласці з насельніцтвам каля 2 тыс. чалавек, якое займалася лясным промыслам і дробным гандлем. Савецкая ўлада ўстаноўлена ў лістападзе 1917 г. У 1924—27 гг. і 1939—55 гг. цэнтр раёна, у 1927—39 гг. і з 1956 г. ў Жлобінскім р-не, з 1938 г. гарадскі пасёлак. У Айчынную вайну з жніўня 1941 г. да 29.11.1943 г. акупіраваны нямецка-фашысцкімі захопнікамі, якія загубілі тут 319 мірных жыхароў. Дзейнічалі падпольныя райкомы КП(б)Б (май — 21.11.1943 г.) і ЛКСМБ (май — 29.11.1943 г.). Пасля вайны пасёлак адноўлены і значна вырас.

Сучаснае архітэктурна-планіровачнае вырашэнне пасёлка грунтуецца на аснове структуры, якая склалася гістарычна. Жылая забудова пераважна сядзібная.

Працуюць цагельны завод, камбінат бытавога абслугоўвання, цэх безалкагольных напіткаў. Ёсць сярэдняя школа, Дом культуры, клуб, 2 бібліятэкі, яслі-сад, бальніца, гандлёвы комплекс. На цэнтральнай плошчы помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў. Збераглася царква 19 ст.

Зона адпачынку — на беразе Дняпра.

*Літ.:* Тихомиров М. Н. Древнерусские города.— 2 изд.— М., 1956; История культуры Древней Руси. Т. 1.— М.; Л., 1951; Сементовский А. М. Белорусские древности. В. 1.— СПб., 1890; Алексеев Л. В. Полоцкая земля в IX—XIII вв.: (Очерки истории Северной Белоруссии).— М., 1966; Полное собрание русских летописей. Т. 2.— М., 1962; Акты, относящиеся к истории Западной России... Т. 1.— СПб., 1846.

*Э. М. Загарульскі, А. Ю. Пятросава.*

**847. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). Вул. Леніна, на цэнтральнай плошчы. Пахаваны 469 воінаў. Сярод пахаваных — воіны 399-й дывізіі 48-й арміі 1-га Беларускага фронту, якія загінулі ў чэрвені 1944 г. пры вызваленні раёна ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1956 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна.

**848. ГАРАДЗІШЧА** (археал.). На паўднёва-ўсходняй ускраіне пасёлка на мысе правага берага Дняпра. Пляцоўка няправільнай формы, выцягнута ўздоўж ракі. З паўднёвага боку абрываецца (амаль пад прамым вуглом), з паўночнага і заходняга — вышыня схілаў над поплавам Дняпра 20—25 м. З усходу — пакаты спуск. Даследаваў у 1966 г. Э. М. Загарульскі на плошчы 100 м². Культурны пласт 1,6 м. Знойдзены сланцавыя праслíцы, шкляныя бранзалеты, кераміка і інш. З боку поля гарадзішча мела магутныя земляныя ўмацаванні (не захаваліся). Пасяленне тут узнікла не пазней 12 ст. Мяркуюць, што гэта гарадзішча старажытнага горада Полацкай зямлі Стрэжава, які ўпамінаецца ў летапісах пад 1127—28 гг.

Матэрыялы даследавання захоўваюцца ў Археалагічным музеі БДУ імя У. І. Леніна ў Мінску.

*У. У. Багамольнікаў.*

**849. ПАКРОЎСКАЯ ЦАРКВА** (архіт.). На перакрыжаванні вуліц Леніна і Калініна. Пабудавана ў 1807 г. з цэглы.

Храм цэнтрычны, складаецца з асноўнага аб'ёму (у плане квадрат са зрэзанымі вугламі) і прылеглых да яго з 4 бакоў паўкруглых аб'ёмаў. Ва ўсходняй знаходзіцца алтар, у астатніх зроблены ўваходы з высокімі мураванымі ганкамі. Цэнтральны аб'ём дамінуе ў агульнай кампазіцыі і мае сферычнае пакрыццё, завершанае круглым светлавым барабанам з невялікім купалам. Шырокія грані цэнтральнага аб'ёму маюць франтонныя завяршэнні. Фасады аздоблены пілястрамі і паўцыркульнымі нішамі, у якіх размешчаны вокны. У інтэр'еры перакрыцці аб'ёмаў, што прылягаюць да асноўнай залы, вырашаны ў выглядзе конхаў, якія пераходзяць у ветразевае скляпенне залы. Пад будынкам зроблена крыпта, куды вя-



IX. *Будынак універмага.*

дуць двухмаршавыя лесвіцы, размешчаныя па баках галоўнага ўвахода.

Царква — помнік архітэктуры класіцызму.

*Літ.:* Чантурия В. А. История архитектуры Белоруссии.— 2 изд.— Мн., 1977. *А. А. Міцянін.*

**850. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). На вул. Леніна, каля Дома культуры. На ўшанаванне памяці 319 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1965 г. пастаўлены помнік — скульптурная кампазіцыя: воін і дзяўчына.

**851. РАДЗІМА БЯРНАЦКАГА** Дзмітрыя Васілевіча (гіст.).

Герой Савецкага Саюза Дз. В. Бярнацкі нарадзіўся 24.7.1912 г. ў сялянскай сям'і. Член КПСС з 1942 г. У 1942 г. скончыў Арлоўскае ваеннае пяхотнае вучылішча. У Чырвонай Арміі з 1941 г. У Вялікую Айчынную вайну з ліпеня 1942 г. на Сталінградскім, Данскім, Сцяпным, 2-м і 1-м Украінскім франтах. Вызначыўся пры фарсіраванні р. Одэр каля г. Брэслаў (цяпер Вроцлаў). Ноччу 21.1.1945 г. група байцоў на чале з Дз. В. Бярнацкім пераправілася цераз раку і ў рукапашным баі выбіла праціўніка з траншэй, адбіла 5 варожых контратак. Загінуў 23.1.1945 г. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 27.6.1945 г.

*Літ.:* Навечно в сердце народном.— 3 изд.— Мн., 1984. *В. В. Семянюк.*



849. *Пакроўская царква.*



849. *Пакроўская царква. План.*



850. *Помнік землякам.*

**в. Сцяпы, цэнтр сельсавета**

**852. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ І АНІШЧАНКУ** Сяргею Пятровічу (гіст.). У цэнтры вёскі, каля школы. У Вялікую Айчынную вайну ў барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў загінулі 122 землякі. Сярод іх — Герой Савецкага Саюза С. П. Анішчанка. У 1974 г. на ўшанаванне памяці землякоў пастаўлены помнік — 2 стэлы і мемарыяльная сцяна.

**853. РАДЗІМА АНІШЧАНКІ** Сяргея Пятровіча (гіст.).

Герой Савецкага Саюза С. П. Анішчанка нарадзіўся 20.4.1923 г. ў сялянскай сям'і. У 1940—41 гг. працаваў настаўнікам. У Вялікую Айчынную вайну партызан брыгады «Жалязняк». У Чырвонай Арміі з восені 1943 г. Вызначыўся 24—25.6.1944 г. ў час прарыву абароны ворага і фарсіраванні р. Друць каля в. Каласы Рагачоўскага р-на. З групай байцоў С. П. Анішчанка пад моцным агнём праціўніка пераплыў раку і выбіў ворага з траншэі, захапіў плацдарм. Загінуў 31.7.1944 г. ў баі пры вызваленні Польшчы, пахаваны ў в. Стрэбня Беластоцкага ваяводства ПНР. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена С. П. Аніщанку 24.3.1945 г. Яго імя прысвоена Шчадрынскай сярэдняй школе Жлобінскага р-на, у якой ён вучыўся, на радзіме пастаўлены помнік.

*Літ.:* Навечно в сердце народном.— 3 изд.— Мн., 1984. *В. В. Семянюк.*

**в. Таўстыкі, Навамаркавіцкі сельсавет**

**854. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 27 воінаў, якія загінулі ў чэрвені 1944 г. пры вызваленні раёна ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1955 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура салдата.

**855. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 0,1 км на поўнач ад вёскі, каля дамбы, у хвойніку. 12 насыпаў дыяметрам 4—8 м, вышынёй 0,6—2,1 м. Абследавала ў 1983 г. Н. М. Дубіцкая. Раскопкі не праводзіліся.

**в. Цупер, Майскі сельсавет**

**856. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). На паўднёвай ускраіне вёскі, каля могілак. На ўшанаванне памяці 70 аднавяскоўцаў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1967 г. пастаўлены помнік — скульптура воіна са сцягам.

**в. Чорная Вірня, Майскі сельсавет**

**857. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 2 км на паўднёвы ўсход ад вёскі, ва ўрочышчы Мышалоўка. Захавалася 14 курганоў дыяметрам 6—15 м, вышынёй 0,6—2,5 м, зараслі рэдкім лесам. Вядомы з 1873 г. Абследаваў у 1975 г. У. У. Багамольнікаў. Раскопкі не праводзіліся.

**в. Чырвоная Горка, Лукаўскі сельсавет**

**858. ГАРАДЗІШЧА** (археал.). За 2 км на паўднёвы ўсход ад вёскі. Займае высокую (20—25 м над наваколлем) граду правага берага Дняпра. Пляцоўка авальная, памерам 90×35 м, з поўначы і ўсходу ўмацавана валам вышынёй каля 3 м і ровам глыбінёй 1 м, шырынёй 8 м. Вядома з 1935 г. Абследавалі ў 1958 г. Л. Д. Побаль, у 1978 г. Н. М. Дубіцкая. У агаленнях культурны пласт 0,15 м. Знойдзены рэшткі ляпной керамікі з адбіткамі на шыйцы, насечкай па краі венчыка і штрыхамі па паверхні посуду. Аднасіцца да мілаградскай і зарубінецкай культур ранняга жалезнага веку, датуецца 6 ст. да н. э.— 2 ст. н. э.



852. *Помнік землякам.*



857. *Курганны могільнік.*

Матэрыялы абследавання захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

*Літ.:* Поболь Л. Д. Славянские древности Белоруссии: (ранний этап зарубинецкой культуры).— Мн., 1971.

*Н. М. Дубіцкая.*

**в. Чырвоная Слабада, Чырвонабярэжскі сельсавет**

**859. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 128 воінаў, якія загінулі ў чэрвені 1944 г. пры вызваленні раёна ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1947 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура салдата.

**в. Чырвоны Бераг, цэнтр сельсавета**

**860. МАГІЛА ІСАЕВА** Леаніда Васілевіча (гіст.). Каля будынка сельскагаспадарчага тэхнікума. Гвардыі капітан Чырвонай Арміі Л. В. Ісаеў загінуў 25.6.1944 г. У 1966 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**861. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). На тэрыторыі сельскагаспадарчага тэхнікума. На ўшанаванне памяці 49 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1967 г. пастаўлена стэла з надпісам-прысвячэннем, барэльефнай выявай жанчыны ў жалобе і імёнамі загінуўшых.

**862. СЯДЗІБА** (архіт.). На паўночнай ускраіне вёскі, на беразе р. Дабасна. Сфарміравана ў канцы 19 ст. Ансамбль сядзібы ўключае сядзібны дом, флігель, шэраг гаспадарчых будынкаў, абкружаных паркам. Тэрыторыя сядзібы абнесена высокай цаглянай агароджай, у якую ўбудавана псеўдагатычная ўязная брама ў выглядзе стральчатай аркі.

Сядзібны дом пабудаваны ў 1890—93 гг. паводле праекта арх. К. Шрэтэра. Мураваны двухпавярховы будынак з высокім двухсхільным дахам мае асіметрычную шматпланавую кампазіцыю, заснаваную на спалучэнні асноўнага прамавугольнага ў плане аб'ёму і папярочнага корпуса, які выступае на галоўным фасадзе рызалітам. На вуглах і плоскасцях сцен гранёныя аздобленыя рустам эркеры з контрфорсамі і шатрамі з лускаватым пакрыццём. Галоўны ўваход вылучаны манументальнай галерэяй з масіўнымі пілонамі, стральчатай аркатурай і вадазлівамі ў выглядзе хі-



861. *Помнік землякам.*



862. *Сядзіба. Уязная брама.*




862. *Сядзіба. Схема планіроўкі: 1 — палац; 2 — флігель; 3 — стайня; 4 — гаспадарчыя пабудовы; 5 — брама з агароджай; 6 — вёска.*



858. *Гарадзішча.*



862. *Сядзібны дом. План.*



862. *Сядзібны дом.*



862. *Сядзіба. Куток парку.*



862. *Сядзіба. Флігель.*



862. *Сядзібны дом. Інтэр'ер вестыбюля. Фрагмент.*

мер (чыгуннае ліццё). Гарызантальны падзел на 2 ярусы выразна падкрэслены арнаментамі і дэкорам міжпаверхавага пояса і завяршальнага карніза, якія ідуць па перыметры будынка. На фасадзе — розныя па велічыні аконныя праёмы з плоскаснымі і аздобленымі рустам ліштвамі. Каларыстычнае вырашэнне заснавана на кантрасце пабеленых дэкаратыўных элементаў і чырвонай цаглянай муроўкі. Планіроўка анфіладная. У інтэр'еры вестыбюля багаты ляпны арнамент. Уваходны партал у цэнтральную залу, аздобленую ў стылі неабарока, фланкіраваны камінамі. Зберагліся фрагменты керамічнай падлогі. Падобную архітэктуру мае больш просты па кампазіцыі флігель. У будынку размешчаны Чырвонабярэжскі сельскагаспадарчы тэхнікум.

Парк створаны ў канцы 19 ст. Плошча каля 10 га (разам з пладовым садам). Мае пайзажна-рэгулярную планіроўку. Асноўная сетка дарожак і акружны прагулачны маршрут падзяляюць парк на некалькі зон: пладовы сад, пейзажны ландшафт заходняй часткі, курціны вакол сядзібнага дома і па берагах ракі. Пераважаюць хвойныя пароды: елкі чырвоная і звычайная змеепадобная, лістоўніца еўрапейская, піхта сібірская, хвоя веймутава; з ліставых парод растуць ліпы амерыканская, буйналістая, еўрапейская, каўказская, клён вастралісты Шведлера, конскі каштан звычайны, дуб чырвоны і інш.

Сядзіба — помнік архітэктуры эклектыкі садова-паркавага мастацтва.

*А. М. Кулагін.*

**в. Чэцверня, Стараруднянскі сельсавет**

**863. БРАЦКІЯ МОГІЛКІ САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). У цэнтры вёскі. У 7 брацкіх магілах пахаваны 331 воін. Сярод пахаваных — воіны 96-й стралковай дывізіі 48-й арміі 1-га Беларускага фронту, якія загінулі ў чэрвені 1944 г. пры вызваленні раёна ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1958 г. на могілках пастаўлены помнік — скульптура воіна.

**864. МЕСЦА ГІБЕЛІ НАЗАРЭНКІ** Вадзіма Андрэевіча (гіст.). За 4 км на захад ад вёскі, на левым беразе Дняпра. Лётчык В. А. Назарэнка загінуў у 1943 г. ў паветраным баі. У 1981 г. на месцы яго гібелі пастаўлены абеліск.

**в. Шапарня, Кіраўскі сельсавет**

**865. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). У цэнтры вёскі, каля клуба. Пахаваны 33 воіны 323-й і 250-й стралковых дывізій 3-й арміі 1-га Беларускага фронту, якія загінулі ў чэрвені 1944 г. пры вызваленні раёна ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1955 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура салдата.

**в. Шчадрын, цэнтр сельсавета**

**866. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАНА** (гіст.). Каля будынка выканкома сельскага Савета. Пахаваны 40 воінаў і партызан, якія загінулі ў чэрвені 1944 г. пры вызваленні вёскі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1958 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна.

**867. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). За 400 м на паўднёвы ўсход ад вёскі, каля лесу. Пахавана больш за 2 тыс. мірных жыхароў, якіх 8.3. 1942 г. загубілі нямецка-фашысцкія захопнікі. У 1954 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**868. РАДЗІМА ВІХНІНА** Залмана Давыдавіча (гіст.).

Герой Савецкага Саюза З. Д. Віхнін нарадзіўся ў ліпені 1909 г. ў сям'і служачых. Член КПСС з 1938 г. У Чырвонай Арміі з 1939 г. У Вялікую Айчынную вайну з лютага 1943 г. на Ленінградскім і Цэнтральным франтах. Капітан З. Д. Віхнін вызначыўся пры вызваленні Брагінскага р-на Палескай вобл. 25.9.1943 г. на чале групы прыкрыцця фарсіраваў Дняпро і забяспечыў пераправу 2 батальёнаў пяхоты. Байцы групы занялі в. Бярозкі і расшырылі плацдарм на правым беразе Дняпра. Загінуў З. Д. Віхнін 27.9.1943 г. ў баі пры вызваленні в. Новая Ёлча. Пахаваны ў г. Чарнігаў. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 16.10.1943 г.

*Літ.:* Навечно в сердце народном.— 3 изд.— Мн., 1984. *В. В. Семянюк.*

**в. Шчытнае, Пірэвіцкі сельсавет**

**869. ПАСЕЛІШЧЫ** (археал.).

**869а.** Паселішча-1. За 3 км на захад ад вёскі, ва ўрочышчы Бярозавая Града, у паўднёвай частцы астанца першай надпоплаўнай тэрасы левага берага Дняпра. Выявіў і абследаваў у 1977 г. У. П. Ксяндзоў. На плошчы 50 м² прасочаны культурны пласт 0,1 м. Знойдзены крамянёвыя адшчэпы, нажападобныя пласціны, нуклеусы. Адносіцца да позняга мезаліту. Датуецца 6—4-м тысячагоддзямі да н. э.

**869б.** Паселішча-2. За 3 км на захад ад вёскі, за 250 м на поўдзень



871а. *Курганны могільнік-1.*



**871б.** *Курганны могільнік-2.*

ад паселішча-1. Плошча 500 м². Выявіў і абследаваў у 1977 г. У. П. Ксяндзоў. Культурны пласт 0,1—0,15 м. Знойдзены фрагменты ляпнога посуду. Паверхня танкасценных гаршкоў упрыгожана гарызантальнымі лініямі наколаў. Знойдзены крамянёвыя адшчэпы, нажападобныя пласціны, трапецыі, фрагмент наканечніка стралы трохвугольнай формы, скрабок. Адносіцца да эпохі неаліту, датуецца 4—3-м тысячагоддзямі да н. э.

**869в.** Паселішча-3. За 2,7 км на захад ад вёскі, за 0,2 км на ўсход ад паселішча-2. Плошча 50 м². Выявіў у 1977 г. У. П. Ксяндзоў. Культурны пласт 0,2 м прасочаны ў агаленнях. Знойдзены крамянёвыя прылады працы. Адносіцца да каменнага веку.

**869г.** Паселішча-4. За 2,6 км на захад ад вёскі, за 350 м на паўднёвы ўсход ад паселішча-3. Плошча 1000 м². Выявіў і абследаваў у 1977 г. У. П. Ксяндзоў. У культурным пласце 0,15 м знойдзены крамянёвыя нажападобныя пласціны, адшчэпы, скрабкі, наканечнікі стрэл. Адносіцца да эпохі неаліту, датуецца 4—3-м тысячагоддзямі да н. э.

Матэрыялы абследаванняў захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.
*У. П. Ксяндзоў.*

**в. Шыхаў, Верхнеалбянскі сельсавет**

**870. ПАСЕЛІШЧА, МАЙСТЭРНЯ** (археал.).

**870а.** Паселішча. За 0,5 км на поўнач ад вёскі, на правым беразе Дняпра, на другой надпоплаўнай тэрасе. Плошча каля 2000 м². Выявілі ў 1966 г. У. Ф. Ісаенка і І. М. Ціханенкаў. Даследавалі ў 1971 г. У. Ф. Капыцін, у 1977 г. У. П. Ксяндзоў. У агаленнях сабраны каменныя прылады працы, выяўлены рэшткі 6 агнішчаў. У раскопе плошчай 50 м² таксама знойдзены каменныя прылады працы і рэшткі агнішча. Датуецца 8—5-м тысячагоддзямі да н. э.

Матэрыялы даследавання захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР і Магілёўскім педінстытуце.

**870б.** Майстэрня. За 0,4 км на поўдзень ад могілак. Плошча 300 м². Выявіў і абследаваў у 1977 г. У. П. Ксяндзоў. Знойдзены нуклеусы, нажападобныя пласціны і адшчэпы. Адносіцца да каменнага веку. Раскопкі не праводзіліся.

Матэрыялы абследавання захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

*Літ.:* Исаенко В. Ф., Тихоненков И. М. Об ареалах археологических культур каменного и бронзового веков на территории Белорусского Поднепровья.— У кн.: Вопросы истории и археологии. Мн., 1966. *У. П. Ксяндзоў.*

**пас. Эрд, Шчадрынскі сельсавет**

**871. КУРГАННЫЯ МОГІЛЬНІКІ** (археал.).



**871в.** *Курганны могільнік-3.*

**871а.** Курганны могільнік-1. За 250 м на захад ад пасёлка, ва ўрочышчы Курганне. 116 насыпаў вышынёй 0,5—3 м, дыяметрам 5—18 м. Каля асновы курганоў прасочваюцца раўкі. Выявіла і абследавала ў 1981 г. Н. М. Дубіцкая.

**871б.** Курганны могільнік-2. Мясцовая назва Напалеонаўскія Капцы. За 1,5—2 км на паўночны ўсход ад пасёлка. 27 насыпаў вышынёй 0,5—3 м, дыяметрам 6—14 м. Могільнік зарос кустамі, насыпы здзірванелыя. Захаванасць добрая. Выявіла і абследавала ў 1981 г. Н. М. Дубіцкая.

**871в.** Курганны могільнік-3. За 1,5 км на паўднёвы ўсход ад пасёлка. 55 насыпаў вышынёй 0,5—3 м, дыяметрам 6—14 м. Курганы здзірванелыя, зараслі кустамі. Захаванасць добрая. Выявіла і абследавала ў 1981 г. Н. М. Дубіцкая. Раскопкі не праводзіліся.
*Н. М. Дубіцкая.*




# ЖЫТКАВІЦКІ РАЁН

Беразнякі
Мілевічы
Цімашэвічы
Залюцічы
Буда
Дзякавічы
Вятчын
Пухавічы
Сяменча
Ленін
Белае
Юркевічы
Марохарава
Бялёў
Людзяневічы
ЖЫТКАВІЧЫ
Браніслаў
Грабянёўскі
Рудня
Града
Чарацянка
Кольна
Запясочча
Боркі
Верасніца
Тураў
Знаменка
Хваенск
Перароў
Хлупін
Хільчыцы
Азяраны
Сямурадцы
Рычоў
Беражцы

Цэнтр раёна

Цэнтры сельсаветаў

Стаянні, паселішчы, гарадзішчы

Могільнікі (грунтавыя, курганныя), курганы

Помнікі і памятныя месцы Вялікай Айчыннай вайны (месцы баёў, магілы савецкіх воінаў і партызан, Курганы Славы, помнікі землякам і інш.)

Помнікі ахвярам фашызму (месцы канцлагераў і лагераў смерці, месцы масавай загубы насельніцтва, спаленыя і неадноўленыя вёскі і інш.)

Помнікі і месцы, звязаныя з імёнамі савецкіх партыйных, дзяржаўных і гаспадарчых дзеячаў, дзеячаў культуры, навукі і тэхнікі

Культавая архітэктура

## Х. ЖЫТКАВІЧЫ

Горад, цэнтр раёна. У паўднёва-заходняй частцы вобласці, за 238 км ад Гомеля. Чыгуначная станцыя на лініі Гомель — Лунінец. Аўтамабільнымі дарогамі злучаны з Брэстам і Калінкавічамі.

У Вялікім княстве Літоўскім Жыткавічы — вёска Слуцкага княства Навагрудскага ваяводства. Паводле 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793 г.) у складзе Расійскай імперыі, цэнтр воласці Мазырскага павета. З 1886 г. чыгуначная станцыя. У 1897 г. ў Жыткавічах 1,2 тыс. жыхароў, народнае двухкласнае вучылішча, аптэка, паштовае аддзяленне, лесапільны завод, царква. У год са станцыі адпраўлялі да 280 тыс. пудоў лесаматэрыялаў. У Жыткавічах і воласці былі развіты бандарны промысел, саматужны выраб драўляных прылад для земляробства (сохі, бароны і інш.). У Лютаўскую рэвалюцыю 1917 г. адбыліся рэвалюцыйныя выступленні рабочых, летам 1917 г.— 12-дзённая палітычная забастоўка на лесапільным заводзе. Савецкая ўлада ўстаноўлена ў лістападзе 1917 г. У 1923 г. было 2,9 тыс. жыхароў. З 1924 г. мястэчка, цэнтр раёна ў Мазырскай акрузе, з 1938 г. гарадскі пасёлак у Палескай вобл. У 1939 г. ў Жыткавічах 4,3 тыс. жыхароў.

У Вялікую Айчынную вайну з жніўня 1941 г. акупіраваны нямецка-фашысцкімі захопнікамі. На тэрыторыі раёна дзейнічала камуністычнае падполле (сакавік — лістапад 1942 г.), падпольныя райкомы КП(б)Б (10.8. 1943 г.— 6.7.1944 г.) і ЛКСМБ (1.7. 1943 г.—6.7.1944 г.). 6.7.1944 г. Жыткавічы вызвалены ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў войскамі 55-й стралковай дывізіі 61-й арміі 1-га Беларускага фронту. Са студзеня 1954 г. ў складзе Гомельскай вобл. З 19.11. 1971 г. горад.

Забудова горада квартальная, пераважна аднапавярховая, драўляная, у цэнтры і мікрараёне — 2—3-павярховая. На перакрыжаванні вуліц К. Маркса і Ф. Энгельса — пл. Леніна. Горад развіваецца паводле генеральнага плана, распрацаванага Беларускім дзяржаўным навукова-даследчым і праектным інстытутам горадабудаўніцтва ў 1976 г. Прадугледжана перспектыўная забудова цэнтра ўздоўж бульвара па вул. Энгельса. У горадзе працуюць вытворчае лесанарыхтоўчае аб'яднанне «Жыткавічлес», маслазавод (філіял Петрыкаўскага завода сухога абястлушчанага малака), хлебазавод, элеватар, раённае аб'яднанне Дзяржкамсельгастэхнікі, райсельгасхімія, камбінат бытавога абслугоўвання, лясгас, метэастанцыя, сярэдняе прафесійна-тэхнічнае вучылішча механізацыі меліярацыйных работ, 2 сярэднія, 2 васьмігадовыя, музычная і дзіцяча-юнацкая спартыўная школы, 7 дашкольных устаноў, Дом піянераў і школьнікаў, Дом культуры, кінатэатр, цэнтралізаваная бібліятэка, філіял Тураўскага краязнаўчага музея, бальніца. Выдаецца газета «Новае Палессе». Помнікі: У. І. Леніну, на брацкай магіле савецкіх воінаў і партызан, М. М. Марозу.

Зона адпачынку — у гарадскім парку, за горадам — берагі рэк Прыпяць, Скрыпіца, паблізу вёсак Найда, Белае.

*Літ.:* Волости и важнейшие селения Европейской России. В. 5.— СПб., 1886; Памятная книжка Минской губернии на 1906 г.— Мн., 1905; Гомельская область. Белорусская ССР.— 2 изд.— Мн., 1976; В грозные годы.— Мн., 1973; Победа Советской власти в Белоруссии.— Мн., 1967.

*М. І. Камінскі, С. Ф. Самбук.*

**872. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). У скверы, каля вакзала. Пахаваны 139 воінаў, якія загінулі ў ліпені 1944 г. пры вызваленні горада ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў, і 29 партызан, што загінулі ў Вялікую Айчынную вайну.

У час Беларускай аперацыі 1944 г. ў выніку паспяховага наступлення войск правага крыла 1-га Беларускага фронту на Баранавіцкім напрамку камандаванне нямецка-фашысцкіх войск 27.6.1944 г. пачало адвод сваіх часцей з рубяжа на р. Пціч у напрамку Жыткавіч. Войскі 23-й і 55-й стралковых дывізій 61-й арміі 1-га Беларускага фронту пераправіліся каля гарадскога пасёлка Тураў цераз р. Прыпяць і пры падтрымцы караблёў Дняпроўскай ваеннай флатыліі разгарнулі наступленне ў напрамку Жыткавіч, што дэзарганізавала адступленне ворага. Пасля жорсткіх баёў у ноч на 6.7. 1944 г. воіны Чырвонай Арміі вызвалілі гарадскі пасёлак.



Х. *Будынак райвыканкома.*



Х. *Вуліца Энгельса. Фрагмент.*

У 1958 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна ў жалобе.

*Літ.:* Кислый Г. П. На притоках Днепра.— М., 1959. *В. М. Удальцоў.*

**873. МАГІЛА ДВОРКІНА** М. С. (гіст.). На вул. Фрунзе, у двары дзіцячага сада-ясляў № 3. Пагранічнік М. С. Дворкін загінуў у 1931 г. пры затрыманні парушальніка граніцы. У 1969 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**874. ПОМНІК ЛЕНІНУ** Уладзіміру Ільічу (гіст.). На пл. Леніна перад будынкам райвыканкома. Скульптура У. І. Леніна ўстаноўлена ў 1965 г.

**875. ПОМНІК ЛЕНІНУ** Уладзіміру Ільічу (гіст.). На вул. Савецкай, каля школы-інтэрната. Скульптура У. І. Леніна ўстаноўлена ў 1965 г.

**876. ПОМНІК МАРОЗУ** Міхаілу Міхайлавічу (маст.). Вул. Сацыялістычная, на тэрыторыі школы. Пастаўлены ў 1981 г. на ўшанаванне памяці камсамольца М. М. Мароза, які загінуў, ратуючы жыццё калгаснікаў і сваіх таварышаў — навучэнцаў Аршанскага педагагічнага вучылішча (гл. артыкул № 879 «Магіла Мароза Міхаіла Міхайлавіча»).

На прамавугольным пастаменце бронзавая скульптура М. Мароза ва ўвесь рост (скульпт. М. Патапаў, С. Бандарэнка; бронза, бетон, мармур; вышыня пастамента 2 м, фігуры 2,2 м). Выпрастаныя плечы, паварот галавы, адкрыты твар ствараюць лірычны і разам з тым мужны вобраз юнака, пераканаўчага ў правільнасці выбранага рашэння. На пастаменце дошка з тэкстам Указа Прэзідыума Вярхоўнага Савета СССР аб узнагароджанні М. М. Мароза ордэнам Чырвонай Зоркі. *Л. Г. Лапцэвіч.*

**в. Азяраны, цэнтр сельсавета**

**877. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны 185 воінаў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну. Сярод пахаваных — воіны 23-й стралковай дывізіі 61-й арміі 1-га Беларускага фронту, якія загінулі ў пачатку ліпеня 1944 г. пры вызваленні вёскі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1957 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна ў жалобе.

**878. СЕЛІШЧЫ** (археал.).

**878а.** Селішча-1. За 0,6 км на паўднёвы захад ад вёскі, на правым беразе р. Сцвіга, ва ўрочышчы Закорчын. Выявіў у 1961 г. і абследаваў у 1962 і 1974 гг. Л. Д. Побаль. Культурны пласт 0,3—0,4 м прасочваецца ўздоўж ракі на адлегласці 200 м. У ім знойдзены фрагменты ляпной і ганчарнай керамікі, вырабы з жалеза і гліны. Адносіцца да ранняга жалезнага веку і да эпохі феадалізму. Раскопкі не праводзіліся.

Матэрыялы абследавання захоўваюцца ў Тураўскім краязнаўчым музеі.

**878б.** Селішча-2. За 1 км на паўночны ўсход ад вёскі, на правым беразе р. Сцвіга, ва ўрочышчы Галечыцкае Поле. Плошча каля 1 га. Выявіў у 1961 г. і абследаваў у 1962 і 1974 гг. Л. Д. Побаль. У абрыве берага прасочаны культурны пласт каля 0,3 м, у якім былі рэшткі грубага ляпнога посуду ранняга жалезнага веку. Раскопкі не праводзіліся.



*877. Помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў.*

Матэрыялы абследавання захоўваюцца ў Тураўскім краязнаўчым музеі.

*Літ.:* Побаль Л. Д. Древности Туровщины.— Мн., 1969; яго ж. Археологические памятники Белоруссии: Железный век.— Мн., 1983. *Л. Д. Побаль.*

**в. Беразнякі, Мілевіцкі сельсавет**

**879. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). На ўсходняй ускраіне вёскі пахаваны каля 100 жыхароў — старых, жанчын, дзяцей, загубленых фашысцкімі карнікамі ў другой палавіне лютага 1943 г. У 1975 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**880. МЕСЦА ЗАГУБЫ АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). На заходняй ускраіне вёскі. Тут у другой палавіне лютага 1943 г. ў час карнай аперацыі нямецка-фашысцкія захопнікі закатавалі 3 мірных жыхароў вёскі. У 1975 г. на месцы загубы пастаўлены мемарыяльны знак.

**881. МЕСЦА ЗАГУБЫ АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). На ўсходняй ускраіне вёскі. Тут у лютым 1943 г. ў час карнай аперацыі нямецка-фашысцкія захопнікі расстралялі 4 мірных жыхароў вёскі. У 1975 г. на месцы загубы пастаўлены мемарыяльны знак.

**в. Бечы, Азяранскі сельсавет**

**882. ГАРАДЗІШЧА** (археал.). За 1 км на поўдзень ад вёскі, на правым беразе р. Сцвіга, ва ўрочышчы Гарадзец. Пляцоўка падзелена валам на 2 часткі: заходнюю плошчай 2,6 га, усходнюю — каля 6,8 га. На пляцоўках з паўночна-заходняга і паўднёвага бакоў прасочваюцца сляды ўваходаў. Вал вышынёй 1—2 м, шырынёй 10—12 м, у заходняй частцы часткова разбураны. Вядома з канца 19 ст., абследавалі ў 1928 г. А. Дз. Каваленя і С. С. Шутаў, у 1961 і 1974 гг. Л. Д. Побаль. Выяўлены рэшткі грубай ляпной керамікі і слаба выражаны культурны пласт 0,1—0,2 м. Адносіцца да ранняга жалезнага веку. Магчыма, гэта гарадзішча-сховішча. Раскопкі не праводзіліся.

Матэрыялы абследавання захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

*Літ.:* Каваленя А. Д., Шутаў С. С. Матэрыялы з дагісторыі Тураўшчыны.— Запіскі аддзела гуманітарных навук Беларус. Акад. навук, 1930, кн. 11. Працы археалагічнай камісіі, т. 2; Кухаренко Ю. В. Средневековые памятники Полесья.— М., 1961; Побаль Л. Д. Древности Туровщины.— Мн., 1969; яго ж. Археологические памятники Белоруссии: Железный век.— Мн., 1983. *Л. Д. Побаль.*

**в. Боркі, Руднянскі сельсавет**

**883. ГАРАДЗІШЧА** (археал.). За 8 км на паўночны захад ад вёскі, ва ўрочышчы Гарадок. Пляцоўка памерам 150×140 м, з усіх бакоў умацавана валам вышынёй каля 1 м. Вядома з 1924 г. Абследавалі ў 1929 г. А. Дз. Каваленя і С. С. Шутаў, у 1974 г. Л. Д. Побаль. Раскопкі не праводзіліся.

**884. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля будынка васьмігадовай школы. На ўшанаванне памяці 27 вяскоўцаў, якія загінулі на франтах Вялікай Айчыннай вайны і ў партызанскай барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў, у 1967 г. пастаўлены абеліск.

**в. Браніслаў, цэнтр сельсавета**

**885. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля будынка выканкома сельсавета. На ўшанаванне памяці 60 землякоў, якія загінулі на франтах Вялікай Айчыннай вайны і ў партызанскай барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў, у 1970 г. пастаўлены абеліск.

**886. ПОМНІК ЛЕНІНУ** Уладзіміру Ільічу (гіст.). У цэнтры вёскі. Скульптура У. І. Леніна ўстаноўлена ў 1978 г.

**в. Бялёў, Марохараўскі сельсавет**

**887. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі, каля школы. На ўша-



882. *Гарадзішча.*



885. *Помнік землякам.*

наванне памяці 84 жыхароў вёскі, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну ў барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў, у 1975 г. пастаўлена стэла з выявамі зорак і імёнамі загінуўшых.

**в. Бярэжцы, Рычоўскі сельсавет**

**888. МАГІЛА МАРОЗА** Міхаіла Міхайлавіча (гіст.). На могілках.

Камсамолец М. М. Мароз нарадзіўся 18.11.1959 г. ў в. Беражцы ў сялянскай сям'і. Член ВЛКСМ з 1975 г. Скончыў 8 класаў Хільчыцкай сярэдняй школы. У 1974 г. праўленнем калгаса «Шлях да камунізму» быў накіраваны на вучобу ў Аршанскае педагагічнае вучылішча. У верасні 1977 г. разам з іншымі навучэнцамі быў на ўборцы бульбы ў калгасе «Прагрэс» Дубровенскага р-на. У час работы заўважыў на транспарцёры бульбаўборачнага камбайна пражавелы снарад, які рухаўся ў барабан агрэгата. Спыніць машыну было позна. М. Мароз падхапіў смяртэльны груз і пабег далей ад людзей. Выратаваў іх, але ад выбуху загінуў сам.

У кастрычніку 1977 г. М. М. Мароз пасмяротна ўзнагароджаны ордэнам Чырвонай Зоркі. У Жыткавічах яму пастаўлены помнік (гл. артыкул № 876 «Помнік Марозу Міхаілу Міхайлавічу»), у музеі Аршанскага педагагічнага вучылішча — бронзавы бюст Мароза, на месцы подзвігу насыпаны Курган, на якім устаноўлена мемарыяльная пліта. Подзвігу камсамольца прысвечана п'еса М. Саенка «Спытай сябе». Яго імя занесена ў кнігу гонару ЦК ВЛКСМ і ЦК ЛКСМБ, прысвоена шэрагу піянерскіх дружын і атрадаў у школах раёна, імем героя названы цеплаход.

У 1979 г. на магіле пастаўлены абеліск. *В. М. Удальцоў.*

**в. Вадапойла, Руднянскі сельсавет**

**889. МАГІЛА НЕКРАШЭВІЧА** Івана Пятровіча (гіст.). На ўсходняй ускраіне вёскі. Савецкі патрыёт І. П. Некрашэвіч расстраляны ў Вялікую Айчынную вайну нямецка-фашысцкімі захопнікамі. У 1982 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Вароніна, Верасніцкі сельсавет**

**890. БЕСКУРГАННЫ МОГІЛЬНІК, СЕЛІШЧЫ** (археал.).

**890а.** Бескурганны могільнік. У цэнтры вёскі. Выявіў у 1952 г. Ю. У. Кухарэнка, абследаваў у 1961 і 1974 гг. Л. Д. Побаль. У 1952—54 гг. Ю. У. Кухарэнка раскапаў 52 пахаванні зарубінецкай культуры. Пахавальны абрад — трупаспаленне ў круглых і прадаўгаватых ямах. Знойдзены 43 гаршкі, 39 місак, 3 чаркі, 3 кубкі, 3 фрагменты керамікі, 18 сярэднелатэнскіх фібул, 13 вялікіх бронзавых шпілек, 2 падковападобныя фібулы. Адносіцца да зарубінецкай культуры ранняга жалезнага веку, датуецца 2 ст. да н. э.— 2 ст. н. э. Матэрыялы раскопак захоўваюцца ў Гістарычным музеі ў Маскве, Гомельскім абласным і Тураўскім краязнаўчым музеях.

**890б.** Селішча-1. За 0,3 км на поўнач ад вёскі, на правым беразе старыцы р. Вароніна, ва ўрочышчы Ніва. Абследавалі ў 1961 г. Ю. У. Кухарэнка, у 1961 і 1974 гг. Л. Д. Побаль. У абрывах уздоўж берага ракі на працягу 0,2 км прасочаны культурны пласт 0,6—0,7 м. У ім знойдзены ляпная кераміка, абпаленая гліна, косці і зубы жывёл. Адносіцца да зарубінецкай культуры ранняга жалезнага веку, датуецца 2 ст. да н. э.— 2 ст. н. э. Матэрыялы абследавання захоўваюцца ў Тураўскім краязнаўчым музеі.

**890в.** Селішча-2. За 0,8 км на поўнач ад вёскі, на левым беразе р. Струмень. Абследаваў у 1961 і 1974 гг. Л. Д. Побаль. Селішча зверху засыпана слоем пяску таўшчынёю 0,6—0,8 м. З боку абрыву ўздоўж ракі на працягу 0,1 км прасочаны культурны пласт 0,25—0,3 м чорнага колеру. Выяўлена грубаляпная кераміка ранняга жалезнага веку. Датуецца 2 ст. да н. э.— 2 ст. н. э. Кераміка захоўваецца ў Тураўскім краязнаўчым музеі.

*Літ.:* Кухаренко Ю. В. Памятники железного века на территории Полесья.— М., 1961; Поболь Л. Д. Древности Туровщины.— Мн., 1969; яго ж. Археологические памятники Белоруссии: Железный век.— Мн., 1983. *Л. Д. Побаль.*

**в. Верасніца, цэнтр сельсавета**

**891. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ПАГРАНІЧНІКАЎ І ПАРТЫЗАНА, ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны 9 пагранічнікаў, якія загінулі 9.7.1941 г. ў баі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў, і 1 партызан, што аддаў жыццё за Радзіму 24.1.1942 г. У 1957 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна ў жалобе, у 1969 г. ўстаноўлены 2 дошкі з імёнамі 117 землякоў, якія загінулі на франтах Вялікай Айчыннай вайны. *В. М. Удальцоў.*

**892. СЕЛІШЧА** (археал.). За 0,2 км на паўночны ўсход ад вёскі, на правым беразе старыцы р. Прыпяць (Шырокае возера), ва ўрочышчах Сушня і Градка. Працягласць селішча ўздоўж ракі больш за 1 км. Вядома з 1928 г. Абследавалі ў 1953 г. Ю. У. Кухарэнка, у 1961 і 1974 гг. Л. Д. Побаль. У абрывах выяўлена кераміка мілаградскай, зарубінецкай культур і ранняга феадалізму. Раскопкі не праводзіліся.

Матэрыялы абследавання захоўваюцца ў Тураўскім краязнаўчым музеі.

**в. Вятчын, Дзякавіцкі сельсавет**

**893. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). На паўночна-ўсходняй ускраіне вёскі.



887. *Помнік землякам.*

Неаднаразовыя спробы нямецка-фашысцкіх акупантаў паралізаваць дзейнасць палескіх партызан на чыгуначным участку Жыткавічы — Калінкавічы і забяспечыць рэгулярную дастаўку грузаў на фронт не мелі поспеху. 12.2.1943 г. ўзмоцненыя сілы нямецка-фашысцкіх акупантаў пры падтрымцы артылерыі і бамбардзіроўшчыкаў пачалі наступленне з боку чыгуначных станцый Жыткавічы, Капцэвічы і Старушкі з мэтай акружыць і знішчыць партызан у раёне р. Арэса. На сваім шляху яны палілі вёскі, забівалі мірных жыхароў. У пачатку сакавіка 1943 г. карнікі ўварваліся ў в. Вятчын, сагналі 800 жыхароў у кароўнік і спалілі іх.

На ўшанаванне памяці ахвяр фашызму на магіле ў 1966 г. пастаўлены абеліск.

*Літ.:* Мачульский Р. Н. Вечный огонь: Партизанские записки.— 3 изд.— Мн., 1978. *В. М. Удальцоў.*

**894. МАГІЛА ГАЎРЫЛОВІЧА** Аляксандра (гіст.). На могілках. Партызан А. Гаўрыловіч загінуў у барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у Вялікую Айчынную вайну. У 1967 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Града, Бранíслаўскі сельсавет**

**895. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. На ўшанаванне памяці 30 землякоў, якія загінулі на франтах Вялікай Айчыннай вайны і ў партызанскай барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў, у 1975 г. пастаўлены абеліск і 3 пліты з імёнамі загінуўшых.

**в. Дзякавічы, цэнтр сельсавета**

**896. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). На ўсходняй ускраіне вёскі. 6.3.1943 г. ў час карнай аперацыі нямецка-фашысцкіх войск супраць партызан Палескага партызанскага злучэння акупанты ўварваліся ў вёску і ўчынілі расправу над яе жыхарамі. Яны расстралялі і спалілі жывымі 651 чалавека — старых, жанчын і дзяцей, згарэлі 225 двароў. На ўшанаванне памяці ахвяр фашызму ў 1975 г. на магіле ўзведзены мемарыяльны комплекс: скульптура жанчыны ў жалобе і стэла з надпісам-прысвячэннем.

**в. Ельна, Ленінскі сельсавет**

**897. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны 112 жыхароў, якіх загубілі нямецка-фашысцкія карнікі ў сярэдзіне лютага 1943 г. У 1967 г. на магіле пастаўлена стэла.

**898. МАГІЛА СТРУКА** Міхаіла Сямёнавіча (гіст.). На могілках.

Поўны кавалер ордэна Славы М. С. Струк нарадзіўся 11.2.1922 г. ў в. Запясочча ў сялянскай сям'і. У Вялікую Айчынную вайну з 1941 г. на Ленін-



896. *Помнік на магіле ахвяр фашызму.*

градскім, 2-м Беларускім франтах. Разведчык асобнай разведроты яфрэйтар М. С. Струк вызначыўся ў баях у Ленінградскай вобл. і пры вызваленні Польшчы. У чэрвені 1944 г. каля г. Койвіста (цяпер г. Прымորск) група прыкрыцця пад яго камандаваннем забяспечыла захоп 4 палонных; 20.9.1944 г. ў час разведкі захапіў 18 палонных; у студзені 1945 г. ў баі на Нараўскім плацдарме знішчыў варожы кулямёт з разлікам, узяў у палон 4 гітлераўцаў. Пасля вайны жыў на радзіме, працаваў у калгасе «Перамога». Памёр 12.7.1975 г. У 1977 г. на магіле пастаўлена стэла.

*Літ.:* Навечно в сердце народном.— 3 изд.— Мн., 1984. *В. М. Удальцоў.*

**в. Запясочча, Верасніцкі сельсавет**

**899. СЕЛІШЧЫ** (археал.).

**899а.** Селішча-1. За 1,5 км на захад ад вёскі, ва ўрочышчы Ракіта. Абследаваў у 1961 і 1974 гг. Л. Д. Побаль. Культурны пласт 0,3—0,4 м прасочваецца ўздоўж старыцы р. Прыпяць на працягу 1 км. Выяўлены грубаляпная кераміка ранняга жалезнага веку, ганчарная кераміка раннефеадальнага часу.

**899б.** Селішча-2. За 1,5 км на паўночны захад ад вёскі, на левым беразе старыцы р. Прыпяць, ва ўрочышчы Аржышча. Абследаваў у 1961 і 1974 гг. Л. Д. Побаль. Культурны пласт у агаленнях 0,2—0,3 м прасочаны на працягу 60 м. Выяўлена кераміка жалезнага веку і раннефеадальнага часу. Раскопкі не праводзіліся.

Матэрыялы абследавання захоўваюцца ў Тураўскім краязнаўчым музеі.

*Літ.:* Поболь Л. Д. Древности Туровщины.— Мн., 1969; его ж. Археологические памятники Белоруссии: Железный век.— Мн., 1983. *Л. Д. Побаль.*

**в. Знаменка, Азяранскі сельсавет**

**900. СЕЛІШЧЫ** (археал.).

**900а.** Селішча-1. За 0,9 км на ўсход ад вёскі, паміж левым берагам р. Сцвіга і старыцай р. Прыпяць. Плошча каля 0,8 га. Абследаваў у 1961 і 1974 гг. Л. Д. Побаль. Культурны пласт 0,4—0,5 м, перамешаны з пяском. Выяўлена ганчарная кераміка з хвалістым і лінейным арнаментам. Адносіцца да ранняга феадалізму. Раскопкі не праводзіліся.

**900б.** Селішча-2. За 0,8 км на паўднёвы захад ад вёскі, ва ўрочышчы Востраў, на левым беразе старыцы р. Сцвіга. Абследаваў у 1961 і 1974 гг. Л. Д. Побаль. Культурны пласт 0,3 м прасочаны на працягу 0,5 км уздоўж берага старыцы. У ім знойдзена ляпная кераміка зарубінецкай культуры (3 ст. да н. э.— 5 ст. н. э.). Раскопкі не праводзіліся.

Матэрыялы абследавання захоўваюцца ў Тураўскім краязнаўчым музеі.

*Літ.:* Поболь Л. Д. Древности Туровщины.— Мн., 1969; его ж. Археологические памятники Белоруссии: Железный век.— Мн., 1983. *Л. Д. Побаль.*

**в. Іёвічы, Ленінскі сельсавет**

**901. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 75 мірных жыхароў, якіх загубілі нямецка-фашысцкія карнікі 15.2.1943 г. У 1967 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Кольна, Рудиянскі сельсавет**

**902. КУРГАН СЛАВЫ** (гіст.). Каля Дома культуры. На ўшанаванне памяці 75 жыхароў вёскі, якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у Вялікую Айчынную вайну, у 1957 г. насыпаны Курган Славы, на вяршыні якога абеліск.

**в. Крэмнае,**
**Тураўскі пасялковы Савет**

**903. СЕЛІШЧА** (археал.). За 0,2 км на паўднёвы захад ад вёскі, ва ўрочышчы Зарэшнік. Цягнецца на 0,3 км уздоўж правага берага старыцы р. Прыпяць. Абследаваў у 1961 і 1974 гг. Л. Д. Побаль. У агаленнях прасочаны культурны пласт 0,2—0,25 м. Выяўлены грубаляпная кераміка ранняга жалезнага веку, ганчарная кераміка раннефеадальнага часу. Раскопкі не праводзіліся.

Матэрыялы абследавання захоўваюцца ў Тураўскім краязнаўчым музеі.

**в. Ленін, цэнтр сельсавета**

**904. БРАЦКАЯ МАГІЛА КАМСАМОЛЬЦАЎ** (гіст.). На паўночна-ўсходняй ускраіне вёскі. Пахаваны 7 камсамольцаў. У Вялікую Айчынную вайну маладыя патрыёты хавалі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў грамадскую маёмасць і жывёлу. У ліпені 1941 г. схоплены гітлераўцамі і расстраляны. У 1981 г. на магіле пастаўлена стэла.

**905. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВАЕННАПАЛОННЫХ І АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). На паўночна-заходняй ускраіне вёскі. Пахаваны 1250 савецкіх ваеннапалонных і мірных жыхароў, расстраляных у 1941—42 гг. нямецка-фашысцкімі захопнікамі. У 1972 г. на магіле насыпаны Курган, на вяршыні яго пастаўлены абеліск.

**906. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). На вул. Набярэжнай. Пахаваны 46 воінаў і партызан, якія загінулі ў барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. Сярод пахаваных — воіны 55-й Мазырскай стралковай дывізіі 61-й арміі 1-га Беларускага фронту, якія загінулі тут у ліпені 1944 г. У 1959 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна са сцягам.

**907. МАГІЛА АЛЕЙНІКА** Нахмана Вольфавіча (гіст.). На паўночна-ўсходняй ускраіне вёскі. Савецкі патрыёт Н. В. Алейнік закатаваны нямецка-фашысцкімі захопнікамі ў ліпені 1941 г. У 1981 г. на магіле пастаўлена стэла.

**908. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). На паўночна-заходняй ускраіне вёскі. Тут 14.8.1942 г. нямецка-фашысцкія захопнікі расстралялі 1850 мірных жыхароў в. Ленін. У 1973 г. на магіле пастаўлена стэла.

**909. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). На паўночна-ўсходняй ускраіне вёскі. Пахаваны 5 мірных жыхароў, якіх расстралялі нямецка-фашысцкія захопнікі 6.11.1941 г. У 1981 г. на магіле пастаўлена стэла.

**910. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 1200 мірных жыхароў вёсак, спаленых ці расстраляных 16.2.1943 г. нямецка-фашысцкімі акупантамі ў час карнай аперацыі. У 1964 г. на магіле пастаўлена стэла.

**911. МАГІЛА ЧОПЧЫЦАЎ** (гіст.). На могілках. Старшыня Ленінскага сельсавета У. І. Чопчыц, яго дачка Наталля — сакратар падпольнай камсамольска-маладзёжнай арганізацыі в. Грычынавічы і яшчэ 5 членаў сям'і загінулі 13.2.1943 г. ў час карнай аперацыі нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1979 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**912. ПОМНІК ЛЕНІНУ** Уладзіміру Ільічу (гіст.). У цэнтры вёскі, каля будынка выканкома сельсавета. Скульптура У. І. Леніна ўстаноўлена ў 1979 г.

**913. ПОМНІК ПАРТЫЗАНАМ** (гіст.). На вул. Набярэжнай. У ноч на 2.9. 1942 г. партызаны атрадаў «Камарова» (В. З. Каржа), «Пятровіча» (А. П. Савіцкага), імя М. Ц. Шыша (150 чалавек) пад агульным камандаваннем члена Пінскага падпольнага абкома КП(б)Б В. З. Каржа разграмілі варожы гарнізон у вёсцы, знішчылі 19 фашыстаў, вызвалілі з турмы 48 савецкіх патрыётаў. У памяць аб баявой аперацыі партызан у 1960 г. пастаўлена стэла. *В. М. Удальцоў.*

**в. Людзяневічы, цэнтр сельсавета**

**914. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны 2 воіны 23-й стралковай дывізіі 61-й арміі 1-га Беларускага фронту, якія загінулі ў ліпені 1944 г. ў



913. *Помнік на месцы бою партызан у 1942 г.*

баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1982 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна.

**в. Марохарава, цэнтр сельсавета**

**915. МАГІЛА САВЕЦКАГА ВОІНА, ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У парку. Пахаваны воін Чырвонай Арміі, які загінуў летам 1941 г. У 1966 г. на магіле пастаўлены абеліск. На 3 яго гранях — мармуровыя дошкі з імёнамі 49 землякоў з вёсак Марохарава, Замошша і Дуброва, якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў на франтах Вялікай Айчыннай вайны.

**в. Мілевічы, цэнтр сельсавета**

**916. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). На ўсходняй ускраіне вёскі. Пахаваны 400 мірных жыхароў, якіх спалілі або расстралялі нямецка-фашысцкія захопнікі 15.2.1943 г. У 1965 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Найда, Руднянскі сельсавет**

**917. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). На паўднёва-ўсходняй ускраіне вёскі. Пахаваны 28 мірных жыхароў вёсак Грэбень і Вадапойла, якіх загубілі нямецка-фашысцкія карнікі ў красавіку 1943 г. У 1982 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Новыя Мілевічы, Мілевіцкі сельсавет**

**918. БРАЦКАЯ МАГІЛА ПАРТЫЗАН** (гіст.). За 10 км на ўсход ад вёскі, ва ўрочышчы Калоннае. Пахаваны 16 партызан, якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у Вялікую Айчынную вайну. У 1960 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Пагост, Азяранскі сельсавет**

**919. СЕЛІШЧЫ** (археал.).

**919а.** С е л і ш ч а - 1. За 1 км на паўднёвы захад ад вёскі, абкружана старыцамі р. Сцвіга. Плошча селішча каля 2 га. Абследаваў у 1961 і 1974 гг. Л. Д. Побаль. Знойдзена ляпная кераміка жалезнага веку.

**919б.** С е л і ш ч а - 2. Мясцовая назва Т а н е л ь н я. За 1 км на захад ад вёскі, ва ўрочышчах Вузкае і Грабелька, на правым беразе старыцы р. Прыпяць. Плошча каля 1 га. Абследаваў у 1961 і 1974 гг. Л. Д. Побаль. На паверхні і ў агаленнях берага знойдзена ляпная кераміка ранняга жалезнага веку і ганчарная кераміка раннефеадальнага часу. Раскопкі не праводзіліся.

Матэрыялы абследаванняў захоўваюцца ў Тураўскім краязнаўчым музеі.

*Літ.:* П о б о л ь Л. Д. Древности Туровщины.— Мн., 1969; е г о ж. Археологические памятники Белоруссии: Железный век.— Мн., 1983. *Л. Д. Побаль.*

**в. Палянка, Марохараўскі сельсавет**

**920. МАГІЛА КРАЎЧАНКІ** Пятра Кірылавіча (гіст.). На могілках. Савецкі афіцэр, лейтэнант П. К. Краўчанка нарадзіўся ў 1915 г. ў г. Краматорск. У Вялікую Айчынную вайну камандзір сапёрнага падраздзялення. Загінуў у ліпені 1944 г. пры разміраванні маста ў в. Рудня Коленская. У 1966 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Перароў, цэнтр сельсавета**

**921. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны 24 воіны, якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у 1944 г. Сярод пахаваных — воіны 23-й стралковай дывізіі 61-й арміі 1-га Беларускага фронту, што загінулі ў пачатку ліпеня 1944 г. пры вызваленні раёна. У 1968 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**922. ГАРАДЗІШЧЫ** (археал.).

**922а.** Г а р а д з і ш ч а - 1. За 2,5 км на паўднёвы захад ад вёскі, ва ўрочышчы Свінуха. Пляцоўка круглая дыяметрам 60 м, умацавана кальцавым валам вышынёй 1—1,7 м, шырынёй 8—10 м. Вядома з 1928 г. Абследавалі ў 1929 г. А. Дз. Каваленя і С. С. Шутаў, у 1961 г. В. В. Сядоў, у 1974 г. Л. Д. Побаль. Раскопкі не праводзіліся.

13 Зак. 155

**922б.** Гарадзішча-2. За 3 км на поўдзень ад вёскі, у лесе, ва ўрочышчы Гарадзішча. Пляцоўка прадаўгавата-авальнай формы, памерам 80×40 м, умацавана валам вышынёй да 1,5 м, шырынёй 5—7 м. Вядома з 1924 г. Абследавалі ў 1961 г. В. В. Сядоў, у 1974 г. Л. Д. Побаль. Раскопкі не праводзіліся.

*Літ.:* Кухаренко Ю. В. Средневековые памятники Полесья.— М., 1961; Поболь Л. Д. Древности Туровщины.— Мн., 1969; яго ж. Археологические памятники Белоруссии: Железный век.— Мн., 1983. *Л. Д. Побаль.*

**в. Поўчын, Верасніцкі сельсавет**

**923. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны 170 жыхароў вёсак Запясочча і Поўчын, якія загубілі нямецка-фашысцкія захопнікі 24.4.1944 г. ў час карнай аперацыі. У 1977 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптурная кампазіцыя: жанчына і паранены юнак.

**в. Пухавічы, Марохараўскі сельсавет**

**924. БРАЦКАЯ МАГІЛА ПАРТЫЗАН** (гіст.). На могілках. Пахаваны 4 партызаны, якія загінулі ў 1943 г. ў барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1965 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**925. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля будынка праўлення калгаса «Зара». На ўшанаванне памяці 9 землякоў, якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў на франтах Вялікай Айчыннай вайны і ў партызанскай барацьбе, у 1972 г. пастаўлены абеліск.

**926. ПОМНІК НА МЕСЦЫ ПАРТЫЗАНСКАГА АЭРАДРОМА** (гіст.). У вёсцы, каля будынка праўлення калгаса «Зара». З 3.1 да 3.2.1943 г. тут дзейнічаў аэрадром, які абслугоўваў партызанскае злучэнне С. А. Каўпака ў час яго рэйду па тылах ворага. Узлётнай паласой быў лёд воз. Чырвонае. У памяць аб партызанскім аэрадроме ў 1967 г. пастаўлена стэла.

**927. РАДЗІМА АГІЕВІЧА** Уладзіміра Іванавіча (гіст.).

Беларускі савецкі крытык і літаратуразнавец У. І. Агіевіч нарадзіўся 26.9.1910 г. ў сям'і беднага селяніна. У 1929—33 гг. працаваў у сельскай школе. У 1937 г. скончыў Магілёўскі педагагічны інстытут. Выкладаў у Слуцкім педагагічным вучылішчы. Удзельнік Вялікай Айчыннай вайны. У 1943—46 гг. вучоны сакратар Аддзялення грамадскіх навук АН БССР, выкладчык у вышэйшых навучальных установах Мінска. Друкаваўся з 1928 г. Аўтар артыкулаў пра творчасць Я. Купалы і Я. Коласа, пасляваенную беларускую паэзію, па гісторыі беларускай літаратуры. Лепшыя з іх склалі зборнік «Літаратура і жыццё» (1954 г.). Адзін з складальнікаў падручнікаў: «Кніга для чытання ў другім класе школ рабочай і сельскай моладзі» і «Кніга для чытання ў трэцім класе школ рабочай і сельскай моладзі» (1952 г.). Пераклаў на беларускую мову аповесць М. Прыляжаевай «З табой таварышы» (1950 г.).

Памёр У. І. Агіевіч 4.10.1952 г. Пахаваны ў Мінску на Вайсковых могілках.

*Літ.:* Пісьменнікі Савецкай Беларусі: Кароткі даведнік.— Мн., 1981; Александровіч С. Палымянае слова крытыка.— Беларусь, 1954, № 12. *В. М. Удальцоў.*

**в. Рыдча, Рычоўскі сельсавет**

**928. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). На ўскраіне вёскі, каля дарогі на в. Рычоў. 7 насыпаў вышынёй каля 1 м, дыяметрам каля 7 м. Абследавалі ў 1929 г. А. Дз. Каваленя і С. С. Шутаў, у 1961 і 1974 гг. Л. Д. Побаль. Раскопкі не праводзіліся.

**в. Рычоў, цэнтр сельсавета**

**929. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны 48 воінаў і партызан, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў на тэрыторыі сельсавета. Сярод пахаваных — воіны 23-й стралковай дывізіі 61-й арміі, што вяла тут наступальныя баі ў пачатку ліпеня 1944 г. У 1958 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна з аўтаматам.

**930. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК, СЕЛІШЧА** (археал.).

**930а.** Курганны могільнік. На паўночнай ускраіне вёскі. Захавалася 40 курганоў (раней было 211), вышынёй пераважна 1—1,5 м, дыяметрам 9—15 м. У канцы 19 ст. 10 курганоў раскапаў У. З. Завітневіч. Тры курганы даследавалі ў 1927 г. А. Дз. Каваленя і С. А. Дубінскі. У 1950-я гады адзін курган раскапаў Л. А. Міхайлоўскі, у 1961 г. 2 курганы — В. В. Сядоў і П. Ф. Лысенка. Абследаваў у 1974 г. Л. Д. Побаль. Пахавальны абрад — трупапалажэнне на грунце, зрэдку ў насыпе, галавою на захад, часам трупаспаленне. Інвентар: ганчарны посуд, сердалікавыя і зярнёныя пацеркі. Могільнік датуецца 10—13 стагоддзямі, належаў дрыгавічам. Матэрыялы даследавання захоўваюцца ў Тураўскім краязнаўчым музеі.

**930б.** Селішча. За 0,9 км на поўнач ад вёскі, паміж вёскамі Рычоў і Буйразь, ва ўрочышчы Першая Горка (Горліца, ці Гарадзішча). Вышыня над поймай 2 м. Плошча каля 1,9 га. Абследавалі ў 1928 г. А. Дз. Каваленя і С. С. Шутаў, у 1961 і 1974 гг. Л. Д. Побаль. Знойдзены рэшткі ляпной керамікі ранняга жалезнага веку і ганчарнай керамікі раннефеадальнага часу. Раскопкі не праводзіліся. Матэрыялы абследавання захоўваюцца ў Тураўскім краязнаўчым музеі.



**930а.** *Курганны могільнік.*

*Літ.:* Завитневич В. З. Из археологической экскурсии в Припятское Полесье.— Киев, 1890; Каваленя А. Д., Шутаў С. С. Матэрыялы з дагісторыі Тураўшчыны.— Запіскі аддзела гуманітарных навук Беларус. Акад. навук, 1930, кн. 11. Працы археалагічнай камісіі, т. 2; Поболь Л. Д. Древности Туровщины.— Мн., 1969. *Л. Д. Побаль.*

**в. Старажоўцы, Рычоўскі сельсавет**

**931. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК, СЕЛІШЧЫ** (археал.).

**931а.** Курганны могільнік. Уздоўж старыцы р. Сцвіга, з усходняга боку селішча-2. 4 насыпы вышынёй 1,5 м, дыяметрам 12 м. Абследаваў у 1961 і 1974 гг. Л. Д. Побаль. Раскопкі не праводзіліся.

**931б.** Селішча-1. За 2 км на захад ад вёскі, ва ўрочышчы Цярэбша, на правым беразе р. Сцвіга. Абследаваў у 1961 і 1974 гг. Л. Д. Побаль. Культурны пласт прасочаны на плошчы 11,25 га. Знойдзены рэшткі ляпной керамікі ранняга жалезнага веку і ганчарнай керамікі раннефеадальнага часу. У паўночнай частцы пляцоўкі выяўлены рэшткі агнішчаў. Раскопкі не праводзіліся. Матэрыялы абследавання захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

**931в.** Селішча-2. Мясцовая назва Возера Рачкоў. За 0,5 км ад моста цераз р. Сцвіга, на правым яе беразе ва ўрочышчы Адрыянкі. Абследаваў у 1961 і 1974 гг. Л. Д. Побаль. На плошчы каля 2 га знойдзены грубаляпная кераміка ранняга жалезнага веку, у т. л. глянцаваная зарубінецкай культуры, кальцыніраваныя косці. Раскопкі не праводзіліся. Матэрыялы абследавання захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

*Літ.:* Поболь Л. Д. Древности Туровщины.— Мн., 1969. *Л. Д. Побаль.*

**932. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. На ўшанаванне памяці 44 жыхароў вёскі, якія загінулі на франтах Вялікай Айчыннай вайны і ў партызанскай барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў, у 1967 г. пастаўлены абеліск.

**пас. Старушкі, Марохараўскі сельсавет**

**933. МЕСЦА БОЮ ПАРТЫЗАН** (гіст.). 7.4.1943 г. 125-я і 210-я Капаткевіцкія партызанскія брыгады Палескага партызанскага злучэння праводзілі аперацыю па захопу варожага эшалона са зброяй паміж чыгуначнымі станцыямі Брынёва і Старушкі. Кіра-

ваў аперацыяй упаўнаважаны ЦК КП(б)Б па Палескай вобл., сакратар Палескага падпольнага абкома КП(б)Б, камандзір Палескага партызанскага злучэння Ф. М. Языковіч. Цягнік быў падарваны мінай і спынены. Партызаны атакавалі эшалон і разграмілі яго. У час бою Ф. М. Языковіч загінуў.

У 1969 г. ў памяць аб баявой аперацыі партызан на будынку чыгуначнай станцыі ўстаноўлена мемарыяльная дошка.

*Літ.:* Ветров И. Д. Братья по оружию.— Мн., 1965. *В. М. Удальцоў.*

**934. МЕСЦА ГІБЕЛІ ЯЗЫКОВІЧА** Фёдара Міхайлавіча (гіст.). За 5 км на захад ад станцыі, на лініі Калінкавічы — Лунінец. 7.4.1943 г. ў час разгрому 125-й і 210-й Капаткевіцкімі партызанскімі брыгадамі варожага эшалона загінуў упаўнаважаны ЦК КП(б)Б па Палескай вобл., сакратар Палескага падпольнага абкома КП(б)Б, камандзір Палескага партызанскага злучэння Ф. М. Языковіч. У 1963 г. на месцы яго гібелі пастаўлены абеліск.

**в. Старыя Залюціч ы, Ленінскі сельсавет**

**935. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). За 4 км на паўночны захад ад вёскі, у лесе. Пахаваны 254 жыхары вёсак Старыя Залюцічы і Іевічы, якіх расстралялі нямецка-фашысцкія карнікі ў лютым 1943 г. У 1966 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Сямурадцы, Рычоўскі сельсавет**

**936. СЕЛІШЧЫ** (археал.).

**936а.** Селішча-1. За 0,5 км на паўночны захад ад вёскі, ва ўрочышчы Барачак. Плошча каля 5 га. Абследавалі ў 1928 г. А. Дз. Каваленя і С. С. Шутаў, у 1961 і 1974 гг. Л. Д. Побаль. Знойдзены фрагменты грубаляпной керамікі ранняга жалезнага веку і ганчарнай керамікі раннефеадальнага часу. Раскопкі не праводзіліся.

**936б.** Селішча-2. На заходняй ускраіне вёскі, ва ўрочышчы Сад. Абследаваў у 1961 і 1974 гг. Л. Д. Побаль. Плошча каля 1 га. Выяўлена грубаляпная гладкасценная кераміка ранняга жалезнага веку. Раскопкі не праводзіліся.

**936в.** Селішча-3. За 2 км на поўдзень ад вёскі, ва ўрочышчы Вялікая Ляхавіца, на правым беразе р. Сцвіга. Плошча 4,55 га. Абследаваў у 1961 і 1974 гг. Л. Д. Побаль. У паўднёвай частцы селішча ў 5 месцах уздоўж старыцы выяўлены попел, вуголле і ляпная кераміка. Раскопкі не праводзіліся.

Матэрыялы абследавання захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

*Літ.:* Побаль Л. Д. Древности Туровщины.— Мн., 1969. *Л. Д. Побаль.*

## XI. ТУРАЎ

Гарадскі пасёлак, цэнтр пасялковага Савета. За 27 км ад Жыткавіч. Аўтамабільнымі дарогамі злучаны з Давыд-Гарадком, Жыткавічамі, Лельчыцамі. Прыстань на р. Прыпяць.

Упершыню ўпамінаецца ў «Аповесці мінулых часоў» пад 980 г. Самы старажытны горад на тэрыторыі рассялення дрыгавічоў. З канца 10 ст. палітычны, эканамічны і культурна-рэлігійны цэнтр Тураўскага княства. Першы летапісны князь Тур. Ад яго імя і пайшла назва горада. З 988 г. ў Тураве княжылі прадстаўнікі дынастыі Рурыкавічаў. Першы з іх быў Святаполк Акаянны (988—1015 гг.), сын кіеўскага вялікага князя Уладзіміра Святаславіча. Пасля яго смерці Тураўская зямля ўключана ў Кіеўскае княства. Яраслаў Мудры ў 1052 г. аддаў Тураў і Тураўскае княства свайму трэцяму сыну Ізяславу. У 1073 г. Тураў перайшоў да Усевалада Яраславіча, у 1076 г.— зноў да Ізяслава, з 1078 г.— да яго сына Яраполка. У 1087—1113 г. тураўскім князем быў Святаполк Ізяславіч, з 1113 г.— ва ўладанні кіеўскага вялікага князя Уладзіміра Манамаха, з 1125 г.— у яго сына Вячаслава. З 1142 г. да 1158 г. пераходзіў ад адных князёў да другіх. У 1158 г. тут аднавіў на троне дынастыю Ізяславічаў унук Святаполка Ізяславіча Юрый Яраславіч, які дамогся незалежнасці Тураўскага княства.

Старажытны Тураў быў адным з важнейшых культурных і рэлігійных цэнтраў Кіеўскай Русі. Тут жыў і працаваў славуты дзеяч старажытнарускай культуры Кірыла Тураўскі (гл. артыкул № 941 «Радзіма Кірылы Тураўскага»). У 2-й палавіне 12 ст. Тураўскае княства ўступіла ў стадыю феадальнай раздробленасці і Тураў страціў сваё ранейшае палітычнае значэнне. У канцы 13 — пачатку 14 ст. вызначаўся развітым рамяством і гандлем. З 1320-х гадоў у складзе Вялікага княства Літоўскага. Спачатку захоўвалася мясцовая дынастыя, з 30-х гадоў 15 ст. перайшоў да вялікага князя Вялікага княства Літоўскага Свідрыгайлы, з канца 15 ст. ўладанне М. Л. Глінскага, у 1508—1620 гг.— князёў Астрожскіх, пасля Сапегаў, Патоцкіх. З 15 ст. ўваходзіў у склад Трокскага, з 1566 г. Берасцейскага ваяводстваў. У 1502 і 1521 гг. на Тураў нападалі татары. Насельніцтва актыўна ўдзельнічала ў вызваленчай вайне ўкраінскага і беларускага народаў 1648—54 гг. У 1649 г. спалены войскамі князя Януша Радзівіла. Пасля руска-польскай вайны 1654—1667 гг. Тураў быў спустошаны: у 1648 г. ў ім налічваўся 401 дом, у 1667 г.— толькі 111. У 1748 г. ўладальнікам большай часткі Турава як «графства» стаў маршалак галоўнага трыбунала літоўскага Ян Міхал Салагуб. У 1790 г. тут было 497 дамоў. У 1793 г. паводле 2-га падзелу Рэчы Паспалітай Тураў у складзе Расійскай імперыі, цэнтр воласці Мазырскага павета Мінскай губерні. У канцы 19 ст. ў Тураве было каля 2700 жыхароў, цагельня, млын, штогод адбываліся 2 кірмашы.

Савецкая ўлада ўстаноўлена ў лістападзе 1917 г., з лютага 1918 г. да студзеня 1919 г. Тураў акупіраваны войскамі кайзераўскай Германіі, 10.7. 1919 г.— войскамі буржуазнай Польшчы. Вызвалены Мазырскай групай войск Чырвонай Арміі ў ліпені 1920 г. 14.10.1920 г. зноў заняты польскімі войскамі. У канцы лістапада 1920 г. яны адступілі. Была адноўлена Савецкая ўлада. Войскі Чырвонай Арміі ўступілі ў Тураў пасля падпісання савецка-польскага мірнага дагавору ў Рызе ў сакавіку 1921 г. У 1923 г. ў Тураве 6217 жыхароў. З 1924 г. цэнтр раёна, з 1938 г. гарадскі пасёлак Палескай вобл. У 1939 г. 5455 жыхароў.

У Вялікую Айчынную вайну 15.7. 1941 г. акупіраваны нямецка-фашысцкімі захопнікамі. У ноч на 4.8.1941 г. Тураўскі партызанскі атрад выбіў нямецка-фашысцкіх захопнікаў з Турава. Баі за Тураў працягваліся да 23.8.1941 г. У час акупацыі на тэрыторыі раёна дзейнічалі падпольныя райкомы КП(б)Б (8.10.1943 г.— 6.2. 1944 г.) і ЛКСМБ (жнівень — лістапад 1941 г., 1.6.1943 г.— 6.2.1944 г.), тураўскае камсамольскае падполле (з 31.10. 1941 г. да ліпеня 1944 г.), выдавалася падпольная газета «Ленинские заветы». Вызвалены ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў 5.7.1944 г. ў выніку Беларускай аперацыі 1944 г. часцямі 61-й арміі і Дняпроўскай ваеннай флатыліі 1-га Беларускага фронту. З 1954 г. ў складзе Гомельскай вобл. З красавіка 1962 г. ў Жыткавіцкім р-не.

Першапачатковая планіровачная структура Турава складалася з дзядзінца і вакольнага горада, размежаваных валам. Захаваліся фрагменты былых абарончых збудаванняў. На тэрыторыі гарадзішча выяўлены рэшткі праваслаўнага храма 12 ст., драўляных жылых і гаспадарчых пабудоў зрубнай канструкцыі. У 16 ст. на месцы Замкавай гары быў умацаваны замак. Горад складаўся з мястэчка і 2 прадмесцяў — Заяцэлле і Запясочча, размежаваных курганным насыпам. Сучасны Тураў забудаваны паводле генплана, распрацаванага ў 1961 г. інстытутам «Белдзяржпраект». Планіровачная структура пасёлка квартальная. Асноўныя капітальныя будынкі сканцэнтраваны на вуліцах Ленінскай, Кірава, Інтэрнацыянальнай, Калгаснай. У цэнтры пасёлка — будынак пасялковага Савета, універмаг, парк і сквер. У забудове пераважаюць індывідуальныя жылыя дамы сядзібнага тыпу. Мікра-



937. *Помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў.*

раён сучаснай забудовы фарміруецца ў паўднёва-ўсходняй частцы пасёлка. Новы генеральны план, распрацаваны Беларускім дзяржаўным навукова-даследчым і праектным інстытутам горадабудаўніцтва, прадугледжвае захаванне квартальнай схемы планіроўкі.

У Тураве працуюць маслазавод, хлебазавод, участак Капцэвіцкага агароднінасушыльнага завода, цагельны цэх Петрыкаўскага камбіната будаўнічых матэрыялаў, камбінат бытавога абслугоўвання. У пасёлку 2 сярэднія, музычная школы, дзіцячы сад, Дом піянераў і школьнікаў, 2 Дамы культуры, клуб, 2 бібліятэкі, краязнаўчы музей, бальніца. Помнікі: на брацкай магіле савецкіх воінаў, землякам. Зона адпачынку і спартыўны комплекс — берагі р. Прыпяць.

*Літ.:* Słownik geograficzny Królestwa Polskiego i innych krajów słowiańskich. T. 12.— Warszawa, 1892, s. 649—652; Грушевский А. С. Пинское Полесье: Исторические очерки. Ч. 1.— Киев, 1901; Лысенко П. Ф. Города Туровской земли.— Мн., 1974.

*А. П. Грыцкевіч, А. М. Кулагін.*



939а. *Замчышча.*

**937. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). Вул. Ленінская, каля аўтавакзала. Пахаваны 146 воінаў 23-й стралковай дывізіі 61-й арміі 1-га Беларускага фронту, якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у ліпені 1944 г. пры вызваленні г. п. Тураў. У 1957 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна ў жалобе.

**838. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). Вул. Чапаева, на могілках. Пахаваны 5 воінаў, якія загінулі ў ліпені 1944 г. ў баях пры вызваленні пасёлка ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1957 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**939. ЗАМЧЫШЧА, КУРГАН, СЕЛІШЧЫ** (археал.).

**939а.** З а м ч ы ш ч а. У паўночна-заходняй частцы пасёлка, пры ўпадзенні былой р. Язда ў р. Струмень. Памеры 180×200 м. Падзелена глыбокім ровам на 2 пляцоўкі: 75×70 м і 150×100 м. Былі ўмацаваны валамі (цяпер разбураны). З боку поля ў некаторых месцах прасочваюцца рэшткі рова. Даследавалі ў 1889 г. У. З. Завітневіч, у 1909 г. А. К. Сніткa, у 1927 г. А. Дз. Каваленя і С. С. Шутаў, абследавалі ў 1929 г. А. М. Ляўданскі, у 1974 г. Л. Д. Побаль. Раскопкі ў 1961 г. праводзілі В. В. Сядоў і М. Дз. Палубаярынава, у 1963 г. М. К. Каргер раскапаў руіны храма 12 ст., дзе выявіў пахаванні ў саркафагах. Даследаваў замчышча ў 1962—63 гг. і ў 1968 г. П. Ф. Лысенка. Ім выяўлены рэшткі наземных драўляных жытлаў і гаспадарчыя пабудовы зрубнай канструкцыі з глінабітнымі і цаглянымі печамі. Знойдзены рэшткі шкляных бранзалетаў, аконнага шкла, шыферных прасліц, касцяных вырабаў, наканечнікаў стрэл і кап'я, нажы, крэсівы, металічныя замкі, бранзалеты, пярсцёнкі, скроневыя кольцы, унікальныя свінцовыя абразкі, шахматныя фігуркі, шкляны посуд, касцяныя вырабы. Матэрыялы раскопак сведчаць аб тым, што старажытны Тураў меў шырокія гандлёвыя сувязі з Кіевам, Паўночным Прычарнамор'ем, Блізкім Усходам, Малой Азіяй, Валынню і Прыбалтыкай. Вялікае развіццё тут атрымалі жалезаапрацоўчае, ювелірнае, касцярэзнае, дрэваапрацоўчае, шавецкае і ганчарнае рамёствы.

Матэрыялы раскопак захоўваюцца ў Тураўскім краязнаўчым музеі і Беларускім музеі сацыялістычнага пераўтварэння Палесся ў Пінску, Інстытуце гісторыі АН БССР і Інстытуце археалогіі АН СССР.

**939б.** К у р г а н. За 3 км на паўднёвы ўсход ад Турава, ва ўрочышчы Бабруйкава Гара. Вышыня 3,5—4 м, дыяметр 15—18 м. Вядомы з 1928 г. Абследавалі ў 1929 г. С. С. Шутаў і С. А. Дубінскі, у 1961 і 1974 гг. Л. Д. Побаль.

**939в.** С е л і ш ч а - 1. На востраве Балоння, на левым беразе р. Струмень, у паўночна-заходняй частцы пасёлка. Абследаваў у 1961 і 1974 гг. Л. Д. Побаль. На плошчы каля 0,5 га знойдзена ганчарная кераміка раннефеадальнага часу. Мяркуюць, што тут была частка пасялення старажытнага Турава. Раскопкі не праводзіліся. Матэрыялы абследавання захоўваюцца ў Тураўскім краязнаўчым музеі.

**939г.** С е л і ш ч а - 2. Ва ўрочышчы Зарэчка, на левым беразе старыцы р. Прыпяць. Абследаваў у 1961 і 1974 гг. Л. Д. Побаль. У абрывах уздоўж старыцы ракі на працягу 0,2 км прасочаны культурны пласт 0,15—0,2 м. Знойдзены фрагменты ляпной керамікі ранняга жалезнага веку. Раскопкі не праводзіліся. Матэрыялы абследавання захоўваюцца ў Тураўскім краязнаўчым музеі.

*Літ.:* Завитневич В. З. Из археологической экскурсии в Припятское Полесье.— Киев, 1890; Каваленя А. Д., Шутаў С. С. Матэрыялы з дагісторыі Тураўшчыны.— Запіскі аддзела гуманітарных навук Беларус. Акад. навук, 1930, кн. 11. Працы археалагічнай камісіі, т. 2; Лысенко П. Ф. Города Туровской земли.— Мн., 1974; Полубояринова М. Д. Раскопки древнего Турова (1961 г.).— Краткие сообщения о докладах и полевых исследованиях Ин-та археологии, 1963, № 96; Дневник раскопки в местечке Турове Минской губернии.— Минская старина, 1911, в. 2.

*Л. Д. Побаль.*

**940. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). На вул. Ленінскай, у скверы. На ўшанаванне памяці 222 землякоў, якія




939. *Замчышча. План.*

загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у Вялікую Айчынную вайну, у 1972 г. пастаўлены абеліск.

**941. РАДЗІМА КІРЫЛЫ ТУРАЎСКАГА** (гіст.).

Царкоўны дзеяч і пісьменнік Старажытнай Русі Кірыла Тураўскі нарадзіўся каля 1130 г. ў сям'і багатых гараджан. Адукацыю атрымаў у Тураве. З юнацкіх гадоў рыхтаваў сябе да царкоўнай дзейнасці, прыняў манаскі сан. У манастыры вывучаў грэчаскую мову і візантыйскую багаслоўскую літаратуру. Стаўшы тураўскім епіскапам, праславіўся як прапаведнік, майстар так званага ўрачыстага царкоўнага красамоўства. Першыя звесткі аб ім як дзеячы старажытнарускай літаратуры змешчаны ў агіяграфічным зборніку «Пралог» («Житие Кирилла Туровского»). Вядомы яго 8 «слоў», або павучэнняў, прысвечаных царкоўным святам, 3 прытчы [«Прытча пра душу і цела (пра сляпога і кульгавага)», «Аповесць пра бяспечнага цара і мудрага саветніка», «Казанне пра чарнарызскі чын»], каля 30 малітваў і некалькі канонаў. Па сведчанню «Жития» Тураўскі вёў актыўную перапіску з уладзіміра-суздальскім князем Андрэем Багалюбскім, напісаў выкрыццё ерасі аб «суботнім пасце растоўскага епіскапа Фёдара» (не захаваліся). Публіцыстычныя па сваім характары гэтыя творы гучаць асуджэннем сепаратысцкіх настрояў феадалаў, заклікам да аб'яднання зямлі рускай. «Словы», звязаныя з біблейскімі сюжэтамі, пропаведдзю хрысціянскіх догмаў, адлюстравалі і натуральнае чалавечае захапленне хараством прыроды, духоўныя пошукі. Яны вызначаюцца багатай паэтычнай сімволікай, велічнасцю вобразаў, узнёсласцю і паэтыкай. Літаратурная творчасць Кірылы Тураўскага высока ацэнена сучаснікамі, якія называлі яго «Златоуст, паче всех воссиявший нам на Руси». Творы яго ўключаны старажытнарускімі кніжнікамі ў зборнікі «Златоуст» і «Торжественник», былі шырока вядомыя не толькі на Русі, але і за яе межамі. Перапісваліся да 19 ст.

Памёр Кірыла Тураўскі каля 1182 г.

*Літ.:* Гісторыя беларускай дакастрычніцкай літаратуры. Т. 1.— Мн., 1968; История белорусской дооктябрьской литературы.— Мн., 1977. *В. М. Удальцоў.*

**942. УСЯСВЯЦКАЯ ЦАРКВА** (архіт.). На вул. Ленінскай. Пабудавана ў 1810 г. з дрэва.

Царква трохзрубная: прамавугольныя ў плане бабінец, асноўны аб'ём і алтарная апсіда. Складзена з брусоў на падмурку і накрыта бляхай. Сцены знадворку ашаляваны дошкамі, прарэзаны прамавугольнымі акнымі праёмамі. Спачатку ўсе 3 зрубы мелі шатровыя вярхі з дэкаратыўнымі галоўкамі і крыжамі. Пры перабудове храма ў 20 ст. вярхі заменены двухсхільнымі дахамі. Тады ж з захаду да бабінца прыбудавана двух'ярусная званіца (васьмярык на чацверыку), завершаная шатровым дахам. Усе памяшканні злучаны паміж сабой вялікімі праёмамі (прамавугольным у бабінцы і са зрэзанымі вугламі ў алтары). Алтарная частка аддзелена ад асноўнага аб'ёму двух'ярусным разным іканастасам. Царскія вароты аздоблены ракайлямі і разеткамі.

Царква — помнік народнага дойлідства. *Ю. А. Якімовіч.*

**в. Хваенск, Азяранскі сельсавет**

**943. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 0,5 км на паўднёвы захад ад вёскі. 2 насыпы вышынёй 1,2 м, дыяметрам 9 м. Адкрылі і абследавалі ў 1929 г. А. Дз. Каваленя і С. С. Шутаў, абследаваў у 1974 г. Л. Д. Побаль. Раскопкі не праводзіліся.

**в. Хвойка, Дзякавіцкі сельсавет**

**944. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). На заходняй ускраіне вёскі. Пахаваны 22 воіны і партызаны, якія загінулі ў 1944 г. на тэрыторыі сельсавета ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. Сярод пахаваных — 17 партызан 50-й Жыткавіцкай брыгады. У 1967 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна з аўтаматам.

**в. Хільчыцы, Рычоўскі сельсавет**

**945. ГАРАДЗІШЧА, СЕЛІШЧА** (археал.).

**945а.** Гарадзішча. За 0,5 км на поўдзень ад вёскі, на пясчанай дзюне, якая цягнецца на 2,5—3 км уздоўж забалочанай поймы р. Сцвіга, ва ўрочышчы Прыстань. Памер 45×38 м. З боку поля пляцоўка была ўмацавана падкованападобным валам вышынёй 1,8 м. Вядома з канца 19 ст. Абследавалі ў 1928 г. А. Дз. Каваленя і С. С. Шутаў, у 1961 г. Ю. У. Кухарэнка, у 1974 г. Л. Д. Побаль. Культурны пласт 0,3—0,4 м. Знойдзены кераміка мілаградскай культуры, грубаляпная і карычневая глянцаваная кераміка зарубінецкай культуры, праслiцы, характэрныя для помнікаў зарубінецкай культуры, ляпная кераміка, блізкая да Хатомеля. Матэрыялы абследаванняў даюць падставу меркаваць, што гарадзішча, як і большасць такога тыпу помнікаў верхняга Падняпроўя, належала плямёнам мілаградскай культуры. У 1-й палавіне 1-га тысячагоддзя н. э. яно выкарыстоўвалася плямёнамі зарубінецкай культуры.

**945б.** Селішча. За 2 км на паўднёвы ўсход ад вёскі, ва ўрочышчы Муравін, на пясчаным узвышшы. Выявіў у 1980 г. і даследаваў у 1981 г. на плошчы 300 м² Г. М. Залашка. Культурны пласт 0,3 м. Знойдзены фрагменты ляпной керамікі мілаградскай і зарубінецкай культур, расшчэплены крэмень і кальцыніраваныя косці, больш за 600 фрагментаў ад гаршкоў (венчыкі, днішчы, ручкі ад посуду), бронзавыя наканечнікі стрэл скіфскага тыпу (з шыпам на ўтулцы), трапецападобная падвеска, кольца, фрагмент шпількі, рымская сіняя шкляная пацерка, 2 крамянёвыя наканечнікі стрэл, праслiцы, сярпы, рэшткі жалезных вырабаў, гліняных кружкоў невядомага прызначэння. Селішча адносіцца да жалезнага веку, датуецца 7—1 стагоддзямі да н. э. Раней на гэтым месцы была стаянка бронзавага веку.

Матэрыялы раскопак захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

*Літ.:* Каваленя А. Д., Шутаў С. С. Матэрыялы з дагісторыі Тураўшчыны.— Запіскі аддзела гуманітарных навук Беларус. Акад. навук, 1930, кн. 11. Працы археалагічнай камісіі, т. 2; Кухаренко Ю. В. Средневековые памятники Полесья.— М., 1961; Поболь Л. Д. Древности Туровщины.— Мн., 1969. *Г. М. Залашка, Л. Д. Побаль.*

**946. ПАСЕЛІШЧЫ** (археал.).

**946а.** Паселішча-1. За 1 км на поўнач ад вёскі, ва ўрочышчы Прыстань. Выявілі ў 1927 г. А. Дз. Каваленя і С. С. Шутаў, абследаваў у 1976 г. У. Ф. Ісаенка. У абгаленых вялікай дзюны памерам 240×100 м знойдзены невялікія крамянёвыя пласцінкі, прылады геаметрычных форм, мікраліты. Адносіцца да эпохі мезаліту. Датуецца 8—5-м тысячагоддзямі да н. э.



942. *Усясвяцкая царква. План.*



942. *Усясвяцкая царква. Від з боку званіцы.*

**946б.** Паселішча-2. За 2 км на паўночны ўсход ад вёскі, ва ўрочышчы Горка. Адкрылі ў 1927 г. А. Дз. Каваленя і С. С. Шутаў, абследаваў у 1976 г. У. Ф. Ісаенка. На плошчы 150×45 м знойдзены крамянёвыя прылады працы (скрабкі, разцы, праколкі і інш.) і кераміка з ямачна-грабеньчатым арнаментам. Адносіцца да эпохі неаліту, датуецца 4—3-м тысячагоддзямі да н. э.

Матэрыялы абследавання захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

*Літ.:* Каваленя А. Д., Шутаў С. С. Матэрыялы з дагісторыі Тураўшчыны.— Запіскі аддзела гуманітарных навук Беларус. Акад. навук, 1930, кн. 11. Працы археалагічнай камісіі, т. 2; Исаенко В. Ф. Археологическая карта Белоруссии. В. 1.— Мн., 1968.

*У. Ф. Ісаенка.*

**в. Чэрнічы, Азяранскі сельсавет**

**947. СЕЛІШЧЫ** (археал.).

**947а.** Селішча-1. За 0,5 км на поўнач ад вёскі, ва ўрочышчы Старое Сяло. Займае плато ўздоўж старыцы р. Прыпяць. Плошча каля 0,9 га. Выявіў у 1961 г. і абследаваў у 1974 г. Л. Д. Побаль. Знойдзена вялікая колькасць рознай па часу керамікі — ад ранняга жалезнага веку да позняга сярэднявечча. Раскопкі не праводзіліся.

**947б.** Селішча-2. За 0,6 км на паўночны ўсход ад вёскі, ва ўрочышчы Балонне. Займае плато на поплаве старыцы р. Прыпяць. Плошча 4,6 га. Выявіў у 1961 г. Л. Д. Побаль. На паверхні сабрана ляпная кераміка ранняга жалезнага веку і ганчарная кераміка раннефеадальнага часу. Раскопкі не праводзіліся. Матэрыялы абследавання захоўваюцца ў Тураўскім краязнаўчым музеі.

*Літ.:* Поболь Л. Д. Древности Туровщины.— Мн., 1969.

**в. Юркевічы, цэнтр сельсавета**

**948. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). У парку. Пахаваны 6 воінаў і 7 партызан, якія загінулі ў барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў на тэрыторыі сельсавета ў 1943 г.— ліпені 1944 г. У 1960 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна з аўтаматам.




# КАЛІНКАВІЦКІ РАЁН

Азарычы
Крукавічы
Савічы
Казанск
Халоднікі
Міроненкі
Казловічы
Ліпава
Лукі
Каплічы
Даманавічы
Залатуха
Кротаў
Зеляночы
Насавічы
Навінкі
Шыічы
Гарочычы
Замосце
Нахаў
Якімавічы
Гарбавічы
Дудзічы
Міхнавічы
Аляксандраўка
КАЛІНКАВІЧЫ
Мал. Аўцюкі
Сырод
Хобнае
Вял. Аўцюкі
Прудок
Агароднікі
Юравічы
Бярозаўка

Цэнтр раёна

Цэнтры сельсаветаў

Стаянкі, паселішчы, гарадзішчы

Могільнікі (грунтавыя, курганныя), курганы

Помнікі і месцы рэвалюцыйнага руху (Рэвалюцыя 1905–07 гг., Вялікая Кастрычніцкая сацыялістычная рэвалюцыя, Грамадзянская вайна, барацьба працоўных Заходняй Беларусі)

Помнікі і памятныя месцы Вялікай Айчыннай вайны (месцы баёў, магілы савецкіх воінаў і партызан, Курганы Славы, помнікі землянкам і інш.)

Помнікі ахвярам фашызму (месцы канцлагераў і лагераў смерці, месцы масавай загубы насельніцтва, спаленыя і неадноўленыя вёскі і інш.)

Помнікі і месцы, звязаныя з імёнамі савецкіх партыйных, дзяржаўных і гаспадарчых дзеячаў, дзеячаў культуры, навукі і тэхнікі

Палацы, сядзібы, асабнякі

Культавая архітэктура

Адміністрацыйныя і грамадскія збудаванні дасавецкага перыяду

## XII. КАЛІНКАВІЧЫ

Горад абласнога падпарадкавання, цэнтр раёна. За 122 км ад Гомеля. Вузел чыгуначных ліній на Гомель, Жлобін, Брэст, Оўруч і аўтамабільных дарог на Гомель, Парычы, Жыткавічы, Оўруч.

Археалагічныя звесткі сведчаць, што людзі жылі тут яшчэ ў бронзавы век. У пісьмовых крыніцах вядомы з 18 ст. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793 г.) у складзе Расійскай імперыі, мястэчка Рэчыцкага павета Мінскай губерні, належалі князям Шахоўскім, з 1805 г. перайшлі ў казну. У 1860-я гады ў мястэчку было 100 двароў. Развіццё атрымалі ў сувязі з будаўніцтвам Палескіх чыгунак. З 1882 г. чыгуначная станцыя. Паводле перапісу 1897 г. 1,3 тыс. жыхароў, 196 двароў. Пасля будаўніцтва чыгункі Жлобін — Корасцень (1907—10 гг.) чыгуначны вузел. У чэрвені 1905 г. ў Калінкавічах адбылася забастоўка бракароў. Пасля Лютаўскай буржуазна-дэмакратычнай рэвалюцыі 1917 г. быў створаны (у красавіку) Савет рабочых дэпутатаў. 30.8.1917 г. на чыгуначнай станцыі Калінкавічы чырвонагвардзейцы затрымалі эшалоны з пяхотай і артылерыяй, якія накіроўваліся на дапамогу Карнілаву з Паўднёва-Заходняга фронту. Савецкая ўлада ўстаноўлена ў лістападзе 1917 г.

1.1.1918 г. агульны сход сялян, рабочых і салдат Калінкавіч прыняў рэзалюцыю аб падтрымцы Савецкай улады і неабходнасці барацьбы з контррэвалюцыяй. З лютага да снежня 1918 г. акупіраваны войскамі кайзераўскай Германіі. Для барацьбы з знешняй і ўнутранай контррэвалюцыяй у лістападзе 1919 г. быў сфарміраваны Калінкавіцкі камуністычны атрад. 6.3.1920 г. Калінкавічы акупіраваны войскамі буржуазнай Польшчы. Тут дзейнічала падпольная група, у склад якой уваходзіў палітработнік Чырвонай Арміі Р. Салаўёў і некалькі мясцовых жыхароў. Яны былі схоплены акупантамі і забіты. 29.6.1920 г. Чырвоная Армія вызваліла Калінкавічы.

З 1926 г. горад. У 1924—30 гг. і з 1939 г. раённы цэнтр. У Вялікую Айчынную вайну 21.8.1941 г. Калінкавічы акупіраваны нямецка-фашысцкімі захопнікамі. З верасня 1941 г. да снежня 1943 г. ў горадзе дзейнічала камуністычнае падполле, якое ўзначальвалі Калінкавіцкія падпольныя гарком КП(б)Б (28.8—10.12.1943 г.), райкомы КП(б)Б (7.5—28.11.1943 г.), ЛКСМБ (21.3—28.11.1943 г.). Выдавалася падпольная газета «Партызан». 14.1.1944 г. ў выніку Мазырска-Калінкавіцкай наступальнай аперацыі войскі 61-й і 65-й армій пры падтрымцы 16-й паветранай арміі Беларускага фронту вызвалілі Калінкавічы ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. З 7.3. 1963 г. Калінкавічы — горад абласнога падпарадкавання.

Генеральны план забудовы горада распрацаваны ў 1979 г. Беларускім навукова-даследчым і праектным інстытутам горадабудаўніцтва.

Падзелены на 4 планіровачныя р-ны. Кампазіцыйным ядром з'яўляецца пл. Леніна, якая разам з вуліцамі 50 гадоў Кастрычніка, Фрунзе і Савецкай фарміруе грамадска-адміністрацыйны цэнтр. Тут размешчаны будынкі райвыканкома, гаркома партыі, Дома сувязі, Дома культуры. Жылая забудова квартальная, з прамавугольнай сеткай вуліц. Прамысловая зона ўключае 3 асноўныя раёны: паўночны, заходні, паўднёвы (шэраг прадпрыемстваў размешчаны ў цэнтральнай частцы). Працуюць заводы жалезабетонных вырабаў і дахавых матэрыялаў, рамонтна-механічны, мэблевая фабрыка, мэблевы камбінат (у складзе Мазырскага вытворчага мэблевага аб'яднання), мясакамбінат, хлебапрадуктаў, віннакансервавы камбінаты, завод заменьнікаў неразведзенага малака, хлебазавод, філіял Мазырскай птушкафабрыкі, завод бытавой хіміі, камбінаты камунальных прадпрыемстваў і бытавога абслугоўвання, прамкамбінат, раённае аб'яднанне Дзяржкамсельгастэхнікі, лясгас.

У Калінкавічах саўгас-тэхнікум, 10 сярэдніх агульнаадукацыйных, музычная, 2 дзіцяча-юнацкія спартыўныя школы, 12 дашкольных устаноў, 8 масавых бібліятэк, Дом культуры, 6 клубаў, кінатэатр, Дом быту, 2 Дамы піянераў і школьнікаў, 2 бальніцы, 5 урачэбных амбулаторна-паліклінічных устаноў, 7 фельчарскіх пунктаў, станцыя хуткай медыцынскай дапамогі, санітарна-эпідэміялагічная станцыя, 2 аптэкі, гасцініца, Дом фізкультуры з плавальным басейнам. Выдаецца газета «За камунізм». Помнікі: У. І. Леніну, у гонар вызвалення горада ад нямецка-фашысцкіх акупантаў, на брацкіх могілках і магілах савецкіх воінаў, савецкіх воінаў і партызан.

Зона адпачынку — ва ўсходняй частцы горада ў лясной паласе.

*Літ.:* Труды Минского губернского статистического комитета. В. 1.— Мн., 1870; Революционные события в Гомеле и Гомельской области в годы первой русской революции 1905—1907 гг.— Гомель, 1955; Великая Октябрьская социалистическая революция в Белоруссии. Т. 2.— Мн., 1957; Трудящиеся Гомельщины в борьбе за власть Советов (1917—1920 гг.).— Гомель, 1958; Батов П. И. В походах и боях.— 3 изд.— Мн., 1974; Ветров И. Д. Братья по оружию.— Мн., 1965.

*Х. Ю. Бейлькін, Г. І. Дулеба, А. Ю. Пятросава.*

**949. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). Вул. Савецкая, каля сярэдняй школы № 7. Пахаваны 190 воінаў, якія загінулі ў баях пры вызваленні Калінкавіч ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў ці памерлі ад ран у 1944 г. Сярод пахаваных воіны 61-й і 65-й армій Беларускага фронту, Герой Савецкага Саюза Аляксей Дзмітрыевіч Данілаў.



949. *Помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў.*

А. Дз. Данілаў нарадзіўся ў 1907 г. ў в. Ужга Кайгародскага р-на Комі АССР у сялянскай сям'і. Член КПСС з 1941 г. У Чырвонай Арміі з мая 1942 г. Удзельнік баёў з верасня 1942 г. на Данскім, Бранскім, Цэнтральным франтах, вызвалення Беларусі. Парторг роты сяржант 221-га стралковага палка 77-й гвардзейскай стралковай дывізіі 61-й арміі А. Дз. Данілаў вызначыўся ў верасні 1943 г. пры вызваленні Камарынскага р-на Палескай вобл. Пры фарсіраванні Дняпра выратаваў з разбітай лодкі параненых байцоў. У бai за плацдарм знішчыў каля 50 гітлераўцаў. Загінуў 13.1.1944 г. ў час баёў за г. Калінкавічы. Званне Героя Савецкага Саюза А. Дз. Данілаву прысвоена 15.1.1944 г.

У 1975 г. на брацкай магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна.

*Літ.:* Навечно в сердце народном.— 3 изд.— Мн., 1984.

**950. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАНА** (гіст.). На вул. Савецкай. Пахаваны 327 воінаў і 1 партызан, якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў ці памерлі ад ран у 1943—44 гг. Сярод пахаваных — воіны 61-й, 65-й і 16-й паветранай армій Беларускага фронту, што загінулі ў студзені 1944 г. пры вызваленні Калінкавіч. У 1975 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна.

**951. БРАЦКІЯ МОГІЛКІ САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). Вул. Куйбышава. Пахаваны 336 воінаў і 4 партызаны, якія загінулі ў баях

супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў ці памерлі ад ран у 1943—44 гг. Сярод пахаваных — воіны 61-й, 65-й і 16-й паветранай армій, што загінулі ў студзені 1944 г. пры вызваленні Калінкавіч, Героі Савецкага Саюза Аляксей Мікалаевіч Азёрын, Міхаіл Сямёнавіч Барысаў, Цярэнцій Іванавіч Брагонін, Міхаіл Іванавіч Быкоўскі, Аляксандр Акімавіч Лысенка, Андрэй Рыгоравіч Ніканаў, Барыс Мікалаевіч Сураўцаў і Пётр Мікалаевіч Суркоў.

А. М. Азёрын нарадзіўся 12.4. 1924 г. ў с. Дурасаўка Саранскага р-на Мардоўскай АССР у сялянскай сям'і. Член ВЛКСМ. У Вялікую Айчынную вайну на фронце з жніўня 1943 г. Гвардыі сяржант, камандзір аддзялення аўтаматчыкаў 237-га гвардзейскага стралковага палка 76-й стралковай дывізіі 61-й арміі А. М. Азёрын вызначыўся пры вызваленні Чарнігаўскай вобл. У верасні 1943 г. пад агнём праціўніка аддзяленне пад яго камандаваннем фарсіравала Дняпро, захапіла плацдарм, замацавалася на ім і тым самым садзейнічала пераправе іншых падраздзяленняў дывізіі. Загінуў 13.1. 1944 г. пры вызваленні Калінкавіч. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 15.1.1944 г. Яго імем названа вуліца ў Калінкавічах.

М. С. Барысаў нарадзіўся 22.1. 1904 г. ў в. Барскае-Рыкіна Вязнікаўскага р-на Уладзімірскай вобл. ў сялянскай сям'і. Член КПСС з 1926 г. З 1923 г. ў Чырвонай Арміі. У 1926 г. скончыў Саратаўскае ваеннае вучылішча, у 1936 г.— Ваенную акадэмію імя М. В. Фрунзе. У Вялікую Айчынную вайну на фронце з 1941 г. Гвардыі палкоўнік, камандзір 212-га гвардзейскага стралковага палка 75-й гвардзейскай стралковай дывізіі М. С. Барысаў вызначыўся пры вызваленні Украіны і Беларусі. 22—23.9.1943 г. полк пад яго камандаваннем фарсіраваў рэкі Дзясну і Дняпро, захапіў і ўтрымліваў плацдарм, адбіў некалькі контратак праціўніка, што забяспечыла пераправу савецкіх войск. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 17.10.1943 г. Загінуў у баі 9.2.1944 г. Яго імем названа вуліца ў Калінкавічах.

Ц. І. Брагонін нарадзіўся 10.11. 1909 г. ў с. Сухі Данец Багучарскага р-на Варонежскай вобл. ў сялянскай сям'і. Член КПСС. У Вялікую Айчынную вайну з ліпеня 1941 г. на Заходнім, Данскім, Бранскім, Цэнтральным і Беларускім франтах. Камандзір аддзялення разведкі 156-га артылерыйскага палка 77-й гвардзейскай стралковай дывізіі гвардыі старшы сяржант Ц. І. Брагонін вызначыўся ў верасні — кастрычніку 1943 г. пры фарсіраванні Дняпра ў Камарынскім р-не Палескай вобл. Разведчыкі пад яго камандаваннем пад моцным агнём ворага пераправіліся цераз Дняпро,



951. *Помнік на брацкіх магілках савецкіх воінаў і партызан.*

карэкціравалі агонь дывізіёна, што дапамагло пяхоце і дывізіёну пераправіцца цераз раку. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 16.11. 1943 г. Ц. І. Брагонін загінуў у баі 21.1.1944 г. пры вызваленні Калінкавіцкага р-на. Яго імем названа вуліца ў Калінкавічах.

М. І. Быкоўскі нарадзіўся 19.4. 1919 г. ў с. Манькава Чарткоўскага р-на Растоўскай вобл. ў сям'і служачага. Кандыдат у члены КПСС. У 1937 г. скончыў Растоўскі аўтадарожны тэхнікум. У Чырвонай Арміі з 1938 г., у 1940 г. скончыў 1-е Арджанікідзеўскае пяхотнае вучылішча. У Вялікую Айчынную вайну на фронце з 1941 г. Камандзір стралковага батальёна 81-й стралковай дывізіі капітан М. І. Быкоўскі вызначыўся пры фарсіраванні Дняпра. У кастрычніку 1943 г. батальён пад яго камандаваннем пад моцным агнём праціўніка пераправіўся цераз Дняпро каля Лоева Гомельскай вобл., авалодаў плацдармам і ўтрымліваў яго 3 сутак, адбіў 19 контратак ворага. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена М. І. Быкоўскаму 15.1.1944 г. Загінуў у баі 27.1.1944 г. Яго імем названа вуліца ў Калінкавічах.

А. А. Лысенка нарадзіўся 6.5. 1920 г. ў с. Балахопаўскае Качубееўскага р-на Стаўрапольскага краю ў сялянскай сям'і. Член КПСС з 1941 г. З 1939 г. ў Чырвонай Арміі. У Вялікую Айчынную вайну на фронце з чэрвеня 1941 г. Удзельнік баёў пад Сталінградам, на Курскай дузе, вызвалення Украіны, Беларусі. Намеснік камандзіра стралковага батальёна 321-га стралковага палка 15-й стралковай дывізіі старшы лейтэнант А. А. Лысенка вызначыўся 2.10.1943 г. пры фарсіраванні Дняпра ў Камарынскім р-не. Батальён пад яго камандаваннем першым фарсіраваў раку, захапіў плацдарм і на працягу дня адбіў 9 контратак праціўніка. Загінуў А. А. Лысенка ў баі 12.1.1944 г. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 15.1. 1944 г. Яго імем названа вуліца ў Калінкавічах.

А. Р. Ніканаў нарадзіўся 6.7. 1901 г. ў с. Белазёркі Краснаярскага р-на Куйбышаўскай вобл. ў сялянскай сям'і. Член КПСС з 1938 г. У Чырвонай Арміі з 1919 г. У 1926 г. скончыў Уладзікаўказскую пяхотную школу, у 1938 г.— Вышэйшыя Маскоўскія камандныя курсы. У Вялікую Айчынную вайну на фронце з ліпеня 1941 г. Камандзір 685-га стралковага палка 193-й стралковай дывізіі падпалкоўнік А. Р. Ніканаў вызначыўся ў баях пры вызваленні Лоеўскага р-на Гомельскай вобл. Полк пад яго камандаваннем 16.10.1943 г. фарсіраваў Дняпро, выбіў ворага з умацаванняў на правым беразе ракі, што садзейнічала пераправе іншых часцей дывізіі. Званне Героя Савецкага Саюза А. Р. Ніканаву прысвоена 30.10.1943 г. Загінуў 30.1.1944 г. ў баі за в. Азарычы Калінкавіцкага р-на. Імем героя названы вуліцы ў Калінкавічах і ў с. Белазёркі, вёска Рылавічы Калінкавіцкага р-на перайменавана ў в. Ніканава. Яго імя прысвоена школе на радзіме.

Б. М. Сураўцаў нарадзіўся 6.4. 1902 г. ў г. Малмыж Кіраўскай вобл. ў сям'і служачага. Кандыдат у члены

КПСС. У 1939 г. скончыў настаўніцкі інстытут у г. Самарканд. У Чырвонай Арміі са снежня 1941 г. На фронце з красавіка 1942 г. Камандзір аддзялення асобнага сапёрнага батальёна 69-й стралковай дывізіі старшы сяржант Б. М. Сураўцаў вызначыўся ў кастрычніку 1943 г. пры фарсіраванні Дняпра ў Лоеўскім р-не. Пад моцным агнём праціўніка на лодках першым пераправіў на правы бераг ракі стралковы ўзвод, удзельнічаў у баі за авалоданне плацдармам. Пасля захопу першай траншэі ворага на лодцы зрабіў яшчэ 6 рэйсаў і перавёз на правы бераг Дняпра стралковую роту. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 30.10.1943 г. Б. М. Сураўцаў загінуў у баі 21.1.1944 г. Яго імя прысвоена сярэдняй школе № 45 г. Самарканда, імем героя названы вуліца ў г. Малмыж і параход Крамянчугскага рачнога порта.

П. М. Суркоў нарадзіўся 11.7. 1915 г. ў с. Ермакоўскае Ермакоўскага р-на Краснаярскага краю ў сялянскай сям'і. Член КПСС з 1937 г. У Вялікую Айчынную вайну на фронце з 1942 г. Намеснік камандзіра батальёна 212-га гвардзейскага палка 75-й гвардзейскай стралковай дывізіі старшы лейтэнант П. М. Суркоў вызначыўся пры вызваленні Украіны і Беларусі. 24.9.1943 г. група воінаў пад яго камандаваннем фарсіравала Дняпро каля Кіева, захапіла параход «Нікалаеў» і баржу з маёмасцю праціўніка, якія потым былі выкарыстаны для пераправы палка на правы бераг ракі. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 17.10.1943 г. П. М. Суркоў загінуў у баі 12.1.1944 г. пры вызваленні г. Калінкавічы ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. Яго імем названа вуліца ў с. Ермакоўскае, імя героя прысвоена школе ў с. Раз'езджае Ермакоўскага р-на, у якой ён працаваў настаўнікам. На будынку гэтай школы ўстаноўлена мемарыяльная дошка.

У 1964 г. на брацкіх магілках пастаўлены помнікі — скульптура воіна і абеліскі.

*Літ.:* Навечно в сердце народном.— 3 изд.— Мн., 1984. *Г. І. Дулеба.*

**952. ГАРАДЗІШЧА** (археал.). За 0,5 км на паўднёвы захад ад горада, на левым беразе р. Ненач. Пляцоўка круглая, дыяметрам 80 м, у цэнтры пашкоджана палявой дарогай. Абследаваў у 1950-я гады Ю. У. Кухарэнка, у 1961 і 1976 гг. У. Ф. Ісаенка. У агаленнях культурны пласт 0,6—0,8 м. Знойдзены рэшткі ляпных пасудзін бронзавага і ранняга жалезнага вякоў, а таксама ганчарнай керамікі эпохі Кіеўскай Русі. Раскопкі не праводзіліся.

Матэрыялы абследавання захоўваюцца ў Мазырскім краязнаўчым музеі і ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

*Літ.:* Кухаренко Ю. В. Средневековые памятники Полесья.— М., 1961; его ж. Первобытные памятники Полесья.— М., 1962. *У. Ф. Ісаенка.*

**953. ДОМ, ДЗЕ БЫЛА ЯВАЧНАЯ КВАТЭРА ПАДПОЛЬШЧЫКАЎ** (гіст.). Вул. Падольская, 1. Тут у Вялікую Айчынную вайну жыў актыўны ўдзельнік Калінкавіцкага камуністычнага падполля Іван Васілевіч Змушко. У яго кватэры ў 1941—43 гг. праводзіліся канспіратыўныя сходы, сустрэчы падпольшчыкаў з прадстаўнікамі партызанскіх атрадаў, на якіх абмяркоўваліся пытанні арганізацыі падполля, барацьбы супраць нямецка-фашысцкіх акупантаў, распрацоўваліся планы дыверсійна-разведвальнай работы і антыфашысцкай прапаганды, знаходзіліся тайнікі для захоўвання зброі, антыфашысцкай літаратуры і інш. На кватэры неаднаразова бывалі кіраўнікі Калінкавіцкага камуністычнага падполля П. С. Ануфрыеў, В. І. Баравік, Н. К. Ергулевіч, падпольных камсамольска-маладзёжных арганізацый К. Ф. Ярмілаў, М. М. Судас.

У 1946 г. на доме, дзе была явачная кватэра падпольшчыкаў, устаноўлена мемарыяльная дошка.

*Літ.:* Ветров И. Д. Братья по оружию.— Мн., 1965. *Г. І. Дулеба.*

**954. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА ПАДПОЛЬШЧЫКАМ** (гіст.). Вул. Рэвалюцыйная, 10, на будынку сярэдняй школы № 4. Устаноўлена ў 1964 г.

З верасня 1941 г. да жніўня 1942 г. ў акупіраваным нямецка-фашысцкімі захопнікамі г. Калінкавічы дзейнічала падпольная камсамольска-маладзёжная арганізацыя «Смугнар» («Смерть угнетателям народа»). Вясной 1942 г. ў яе склад уваходзіла больш за 10 чалавек. Узначальваў гэту арганізацыю камсамолец К. Ф. Ярмілаў. Патрыёты здабывалі для партызан зброю, звесткі аб ворагу, распаўсюджвалі сярод насельніцтва зводкі Саўінфармбюро, знішчалі гітлераўскіх прыслужнікаў, рабілі дыверсіі на камунікацыях праціўніка. У жніўні 1942 г. фашысты напалі на след падпольнай арганізацыі. Яны схапілі і загубілі М. П. Змушко, І. А. Корбаля, В. Р. Сякача, В. А. Такарскага, В. А. Таларая, К. Ф. Ярмілава, П. М. Яроменку і некаторых іншых падпольшчыкаў. М. П. Змушко, В. А. Талараў, К. Ф. Ярмілаў узнаг. ордэнам Айчыннай Вайны 2-й ступені.

*Літ.:* В памяти народной.— Мн., 1969; Ветров И. Д. Братья по оружию.— Мн., 1965; Всенародная борьба в Белоруссии против немецко-фашистских захватчиков в годы Великой Отечественной войны. Т. 1—2. Мн., 1983—84. *Г. І. Дулеба.*

**955. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА ПАДПОЛЬШЧЫКАМ** (гіст.). На будынку чыгуначнай станцыі. Устаноўлена ў 1964 г.

У Вялікую Айчынную вайну ў акупіраваным ворагам г. Калінкавічы з верасня 1941 г. дзейнічала падпольная камсамольска-маладзёжная арганізацыя «Смугнар». У жніўні 1942 г. гітлераўцы арыштавалі і загубілі большасць яе членаў (гл. артыкул № 954 «Мемарыяльная дошка падпольшчыкам»). Нягледзячы на крывавыя расправы акупантаў, маладыя патрыёты не спынялі барацьбы. Увосень 1942 г. на Калінкавіцкім чыгуначным вузле ўзнікла новая падпольная камсамольска-маладзёжная група, якую ўзначаліў М. М. Судас. У яе склад уваходзілі А. С. Драбніца, А. А. Драбніца, І. А. Драбніца, В. С. Жамойдзік, Т. В. Карнеявец, М. І. Манько, А. С. Мужэнка і інш. Падпольшчыкі распаўсюджвалі зводкі Саўінфармбюро, лістоўкі, здабывалі і перадавалі партызанам зброю, медыкаменты, паперу, звесткі аб размяшчэнні гарнізонаў, ваенных баз праціўніка, руху паяздоў, рабілі дыверсіі на чыгунцы. У канцы верасня 1943 г. падпольшчыкі пайшлі ў партызаны.

*Літ.:* Ветров И. Д. Братья по оружию.— Мн., 1965; В едином строю.— Мн., 1970; Всенародная борьба в Белоруссии против немецко-фашистских захватчиков в годы Великой Отечественной войны. Т. 1—2.— Мн., 1983—84. *Г. І. Дулеба.*

**956. МОГІЛКІ АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). Вул. Савецкая, каля чыгуначнага пераезда. У верасні 1941 г. нямецка-фашысцкія захопнікі стварылі ў горадзе гета. 27.9.1941 г. яны вывезлі на ўскраіну горада да чыгуначнага пераезда каля 300 вязняў (старыя, жанчыны, дзеці) і расстралялі іх. У 1953 г. на магілках пастаўлены мемарыяльны знак.

**957. ПОМНІК ВЫЗВАЛЕННЯ** (гіст.). На вул. Фрунзе.

У канцы лістапада 1943 г. часці Беларускага фронту пачалі наступленне ў напрамку Калінкавіч. Гітлераўцы ператварылі горад і навакольныя населеныя пункты ў моцны вузел абароны з развітай сістэмай траншэй, дзотаў, вялікай колькасцю мінных палёў і драцяных загарод. У пачатку снежня 1943 г. савецкія войскі, перадольваючы жорсткае супраціўленне ворага, падышлі да Калінкавіч. На



957. *Помнік Вызвалення.*



959. *Помнік У. І. Леніну.*

подступах да горада больш за месяц ішлі цяжкія баі. 14.1.1944 г. ў ходзе Мазырска-Калінкавіцкай аперацыі горад быў вызвалены ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У вызваленні Калінкавіч удзельнічалі: 12-я (камандзір палкоўнік Дз. К. Малькоў), 76-я (камандзір генерал-маёр А. В. Кірсанаў), 77-я (камандзір генерал-маёр В. С. Аскалепаў) гвардзейскія, 81-я (камандзір палкоўнік І. П. Харыкаў) і 356-я (камандзір генерал-маёр М. Р. Макараў) стралковыя дывізіі; 6-я артылерыйская дывізія прарыву (камандзір генерал-маёр артылерыі А. С. Біцюцкі), 68-я асобная танкавая брыгада (камандзір падпалкоўнік Р. А. Цімчанка) 61-й арміі, 1-ы гвардзейскі танкавы корпус (камандзір генерал-маёр танкавых войск М. Ф. Паноў) 65-й арміі і 3-і бамбардзіровачны авіяцыйны корпус (камандзір генерал-маёр авіяцыі А. З. Каравацкі) 16-й паветранай арміі і інш. 20 часцям, якія вызначыліся пры вызваленні горада, нададзена ганаровае найменне «Калінкавіцкіх».

У 1975 г. ў гонар вызвалення горада ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў пастаўлены помнік — танк на пастаменце.

*Літ.:* В грозные годы.— Мн., 1973; Освобождение Белоруссии 1944.— 2 изд.— М., 1974; В памяти народной.— Мн., 1969.
*Г. І. Дулеба.*

**958. ПОМНІК ЛЕНІНУ** Уладзіміру Ільічу (гіст.). Вул. 50 гадоў Кастрычніка, каля будынка дзіцячай паліклінікі. Бюст У. І. Леніна ўстаноўлены ў 1965 г.

**959. ПОМНІК ЛЕНІНУ** Уладзіміру Ільічу (гіст.). На пл. Леніна, каля Дома культуры. Скульптура У. І. Леніна ўстаноўлена ў 1969 г.

**960. ПОМНІК ЛЕНІНУ** Уладзіміру Ільічу (гіст.). На вул. Савецкай, у скверы. Скульптура У. І. Леніна ўстаноўлена ў 1960 г.

**961. ПОМНІК САВЕЦКІМ ЛЁТЧЫКАМ** (гіст.). За 3 км на захад ад горада, каля шашы Калінкавічы — Жыткавічы.

12.1.1944 г. савецкія войскі вялі цяжкія баі на подступах да Калінкавіч. У баях вызначыўся экіпаж самалёта 301-й бамбардзіровачнай авіядывізіі 16-й паветранай арміі ў складзе падпалкоўніка М. А. Крыўцова, маёра І. І. Сомава і старшыны М. А. Паўлава. Экіпаж бамбіў варожыя ўмацаванні, наносіў удары па жывой сіле і тэхніцы праціўніка. 12.1.1944 г. ў час выканання чарговага баявога задання самалёт быў падбіты агнём варожых зенітак. Адважныя лётчыкі паўтарылі подзвіг М. Ф. Гастэлы — накіравалі ахопленую полымем машыну на скопішча фашысцкіх эшалонаў на чыгуначнай станцыі Калінкавічы.

На ўшанаванне памяці геройчнага экіпажа ў 1975 г. пастаўлены абеліск. Імёнамі М. А. Крыўцова, І. І. Сомава і М. А. Паўлава названы вуліцы ў Калінкавічах.

*Літ.:* В грозные годы.— Мн., 1973.
*Г. І. Дулеба.*

**962. РАДЗІМА АНУФРОВІЧ** Марыі (гіст.). Удзельніца рэвалюцыйнага руху 1880-х гадоў М. Ануфровіч нарадзілася ў 1856 г. У 1882 г. ўступіла ў польскую рэвалюцыйную арганізацыю ў Пецярбургу. З канца 1882 г. з'яўлялася агентам ЦК партыі «Пралетарыят». У снежні 1883 г. накіравана для рэвалюцыйнай работы ў Кракаў. У Аўстрыі была арыштавана і выдадзена царскім уладам. Саслана на катаргу ў Сібір. Год смерці М. Ануфровіч невядомы.

**963. РАДЗІМА АНУФРОВІЧА** Баляслава (гіст.). Удзельнік рэвалюцыйнага руху 1880-х гадоў Б. Ануфровіч (гады нараджэння і смерці невядомы) рэвалюцыйную дзейнасць пачаў у Вільні, з'яўляўся актыўным дзеячам партый «Народная воля» і «Пралетарыят». У 1884 г. прымаў удзел у арганізацыі ўцёкаў рэвалюцыянераў з кіеўскай турмы. У жніўні 1884 г. засуджаны па справе «Пралетарыяту» і сасланы ў Сібір.

**964. РАДЗІМА ЛЯЛЬЧУКА** Сямёна Абрамавіча (гіст.).

Яўрэйскі савецкі паэт С. А. Лялъчук нарадзіўся 25.9.1918 г. ў сям'і служачага. У 1939 г. скончыў Мінскі педагагічны інстытут імя А. М. Горкага. У Вялікую Айчынную вайну на фронце. Загінуў у 1944 г. Першыя вершы надрукаваў у газеце «Юнгер ленінец» («Юны ленінец»). У сааўтарстве з іншымі паэтамі выдаў у 1940 г. калектыўны «Зборнік вершаў». Асобныя творы паэта перакладзены на беларускую мову і апублікаваны ў зборніку «Мы іх не забудзем» (1949 г.). Вершы С. Лялъчука ўслаўляюць прыгажосць роднай зямлі, прасякнуты грамадзянскасцю і лірызмам.

*Літ.:* Пісьменнікі Савецкай Беларусі.— Мн., 1981.
*В. М. Удальцоў.*

**в. Агароднікі, Бярозаўскі сельсавет**

**965. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАНА** (гіст.). На



961. *Помнік савецкім лётчыкам.*

магілках. Пахаваны 88 воінаў і партызан, што загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў ці памерлі ад ран у 1943—44 гг.

У 1965 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна.

## XIII. АЗАРЫЧЫ

Гарадскі пасёлак, цэнтр пасялковага Савета і саўгаса «Азарычы». Размешчаны на р. Віша (прыток р. Іпа). За 45 км ад Калінкавіч, 22 км ад чыгуначнай станцыі Халоднікі (на лініі Жлобін — Калінкавічы), на аўтамабільнай дарозе Калінкавічы — Бабруйск.

Азарычы ў сярэдзіне 16 ст. ўваходзілі ў Мазырскі павет Вялікага княства Літоўскага. Прывілеем караля Станіслава Аўгуста 8.1.1786 г. ў пасёлку былі ўстаноўлены 2 кірмашы на год. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793 г.) у складзе Расійскай імперыі. З 1799 г. Азарычы належалі памешчыкам Лашкаровым. У 1878 г. налічвалася 900 жыхароў. Паводле перапісу 1897 г. было 1338 чалавек; мястэчка, цэнтр воласці Бабруйскага павета Мінскай губерні. У пачатку 20 ст. ў Азарычах 230 двароў, 2025 жыхароў, народнае вучылішча, аддзяленне сувязі, бальніца на 15 ложкаў. Савецкая ўлада ўстаноўлена ў лістападзе 1917 г. У 1924—31 гг. цэнтр Азарыцкага, у 1935—60 гг.— Даманавіцкага р-наў. У Айчынную вайну з ліпеня 1941 г. да 21.1. 1944 г. акупіраваны нямецка-фашысцкімі захопнікамі. Каля Азарыч у пачатку сакавіка 1944 г. гітлераўцы стварылі 3 лагеры смерці. Дзейнічалі Даманавіцкія падпольныя райкомы КП(б)Б (красавік 1943 г.— 18.11. 1943 г.) і ЛКСМБ (жнівень 1942 г.— 18.11.1943 г.). З 17.11.1959 г. пасёлак, з 1960 г. ў Калінкавіцкім р-не Гомельскай вобл.

Пасёлак размешчаны на раўніннай тэрыторыі. Забудаваны пераважна індывідуальнымі аднапавярховымі драўлянымі жылымі дамамі. Планіроўка рэгулярная, з прамавугольнай вулічнай сеткай. Уздоўж галоўнай вул. Кастрычніцкай, якая ідзе перпендыкулярна вул. Бабруйскай (адрэзак шашы), узведзены мураваныя будынкі адміністрацыйных устаноў, прадпрыемстваў грамадскага харчавання, бытавога абслугоўвання і гандлю. У старажытнай частцы пасёлка па сучаснай вул. Камсамольскай захаваліся фрагменты прысядзібнага парку і штучная сажалка. Пасля Айчыннай вайны, якая прынесла вялікія страты жыллёваму фонду, паявіліся новыя вуліцы: Чкалава, Гагарына, Кірава, Дзяржынскага, Самсонавай.

У пасёлку дзейнічаюць хлебапякарня, сепаратарнае аддзяленне Мазырскага малочнага завода, цэх Калінкавіцкага рамонтна-будаўнічага ўпраўлення (перапрацоўка драўніны), лясгас. Працуюць: сярэдняя школа, васьмігадовая дапаможная школа-інтэрнат, яслі-сад, Дом культуры, 2 бібліятэкі, бальніца, аптэка, аддзяленне сувязі, Дом быту. Помнікі: У. І. Леніну; на 2 брацкіх магілах савецкіх воінаў і партызан, якія загінулі пры вызваленні Азарыч ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў.

Зона адпачынку — берагі р. Віша, штучнае вадасховішча за 7 км на паўночны захад ад пасёлка.

*Т. В. Габрусь, Г. М. Новікава.*



968. *Мемарыяльны комплекс вязням Азарыцкага лагера смерці.*

**966. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). Вул. Самсонавай. Пахаваны 127 воінаў, якія загінулі ў 1944 г. ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. Сярод пахаваных — воіны 65-й арміі, якія загінулі ў студзені 1944 г. пры вызваленні гарадскога пасёлка і іншых населеных пунктаў Азарыцкага пасялковага Савета, Герой Савецкага Саюза Зінаіда Аляксандраўна Самсонава.

З. А. Самсонава нарадзілася 14.10.1924 г. ў в. Бабкова Ягор'еўскага р-на Маскоўскай вобл. ў рабочай сям'і. Кандыдат у члены КПСС. У 1942 г. вучылася ў Ягор'еўскім медыцынскім вучылішчы. У кастрычніку 1942 г. добраахвотна пайшла ў Чырвоную Армію. Санінструктар 667-га стралковага палка 218-й стралковай дывізіі старшы сяржант З. А. Самсонава вызначылася ў верасні 1943 г. пры вызваленні Чаркаскай вобл. ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. Пад агнём праціўніка на падручных сродках адна з першых фарсіравала Дняпро, вынесла з поля бою і пераправіла на левы бераг ракі 30 параненых байцоў. Загінула ў баі 27.1.1944 г. пры вызваленні Даманавіцкага р-на. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена



966. *Помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў.*

3.6.1944 г. У с. Калычава Ягор'еўскага р-на створаны Музей баявой славы імя Зінаіды Самсонавай. Яе імем названы вуліцы ў Азарычах і ў с. Калычава, у Ягор'еўскім медыцынскім вучылішчы ўстаноўлены бюст З. А. Самсонавай.

У 1965 г. на брацкай магіле ўстаноўлены помнік — скульптура воіна.

*Літ.:* Навечно в сердце народном.— 3 изд.— Мн., 1984. *Г. І. Дулеба.*

**967. БРАЦКІЯ МОГІЛКІ САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). Вул. Бабруйская. Пахаваны 532 воіны, якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў ці памерлі ад ран у 1943—44 гг. Сярод пахаваных — воіны 65-й арміі, што загінулі ў студзені 1944 г. пры вызваленні гарадскога пасёлка. У 1960 г. на могілках пастаўлены помнік — скульптура воіна і ўстаноўлены дошкі з імёнамі загінуўшых.

**968. МЕМАРЫЯЛЬНЫ КОМПЛЕКС ВЯЗНЯМ АЗАРЫЦКАГА ЛАГЕРА СМЕРЦІ** (гіст.). За 4 км на паўночны захад ад пасёлка, каля шашы Азарычы — г. п. Акцябрскі.

У пачатку сакавіка 1944 г. нямецка-фашысцкія захопнікі стварылі каля г. п. Азарычы, вёсак Дзерць і Падасіннік 3 лагеры смерці. Пад выглядам эвакуацыі сюды было прывезена больш за 50 тыс. савецкіх грамадзян. Усе лагеры знаходзіліся пад адкрытым небам, на пляцоўках, абгароджаных калючым дротам. Вакол іх былі міннае поле і вышкі з узброенай аховай. Зняволеным забаранялі раскладаць агні, рабіць зямлянкі, іх марылі голадам. Гітлераўцы ўчынялі масавыя расстрэлы і павешанні, атручвалі людзей і спальвалі жывымі. Каб распаўсюдзіць эпідэмію сярод наступаючых савецкіх воінаў, гітлераўцы заражалі вязняў тыфам і іншымі інфекцыйнымі хваробамі. Сотні зняволеных штодзённа паміралі. Да дня вызвалення 18—19.3.1944 г. ў жывых засталося 33 480 чалавек, у т. л. дзяцей да 13 гадоў 15 960, жанчын 13 072, старых 4448.

У 1965 г. на ўшанаванне памяці вязняў на месцы лагера смерці каля г. п. Азарычы ўзведзены мемарыяльны комплекс. У цэнтры архітэктурна-скульптурнай кампазіцыі на кубічным пастаменце ўзвышаецца гранёны абеліск, фланкіраваны плоскімі бетоннымі стэламі, на якіх барэльефныя выявы салдата і жанчыны, партызана і дзяўчынкі, а таксама пілонамі з арачнымі нішамі і мемарыяльнымі дошкамі. П'едэсталы дэкарыраваны паясамі гірляндаў.

*Літ.:* Преступления немецко-фашистских оккупантов в Белоруссии. 1941—1944.— [2 изд.] — Мн., 1965; Нюрнбергский процесс над главными немецкими военными преступниками: Сб. материалов. Т. 4.— М., 1959; В памяти народной.— Мн., 1969. *Г. І. Дулеба.*

**969. ПОМНІК ЛЕНІНУ** Уладзіміру Ільічу (гіст.). На вул. Кастрычніцкай, у парку. Скульптура У. І. Леніна ўстаноўлена ў 1960 г.

**в. Аляксандраўка, Малааўцюкоўскі сельсавет**

**970. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны 454 воіны, якія загінулі ў 1943—44 гг. у баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. Сярод пахаваных — воіны 2-га і 7-га гвардзейскіх кавалерыйскіх, 9-га гвардзейскага і 89-га стралковых карпусоў, якія загінулі ў лістападзе 1943 г.— студзені 1944 г. пры вызваленні в. Аляксандраўка і навакольных населеных пунктаў. У 1965 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна і ўстаноўлены дошкі з імёнамі загінуўшых.

**971. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). За 1 км на поўнач ад вёскі. Пахаваны 143 воіны, якія загінулі ў 1943—44 гг. у баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. Сярод пахаваных — воіны 2-га і 7-га гвардзейскіх кавалерыйскіх, 9-га гвардзейскага і 89-га стралковых карпусоў, што загінулі ў лістападзе 1943 г.— студзені 1944 г. ў наваколлі вёскі. У 1975 г. на магіле пастаўлена стэла з барэльефам воіна.

**в. Бабровічы, Гарочыцкі сельсавет**

**972. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны 132 воіны і партызаны, якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў ці памерлі ад ран у 1944 г. У 1956 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Буда, Гарочыцкі сельсавет**

**973. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). На могілках. Пахаваны 477 воінаў і партызан, якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў ці памерлі ад ран у 1943—44 гг. У 1966 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна.

**в. Бярозаўка, цэнтр сельсавета**

**974. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 168 воінаў, якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў ці памерлі ад ран у 1943—44 гг. У 1964 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна.

**в. Варатын, Савіцкі сельсавет**

**975. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). Каля клуба. Пахаваны 298 воінаў, якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў ці памерлі ад ран у 1944 г. У 1965 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна.

**в. Віша, Крукавіцкі сельсавет**

**976. ГАРАДЗІШЧА** (археал.). Мясцовая назва А к о п. За 2 км на поўдзень ад вёскі. Гарадзішча авальнае, мае 2 выцягнутыя з поўначы на поўдзень пляцоўкі. Заходняя памерам 100×75 м абнесена валам вышынёй каля 1,5 м. Усходняя памерам 80×25 м аддзелена ад заходняй валам вышынёй 1,6 м. Захаванасць добрая. Выявіў у 1975 г. В. Е. Собаль. Культурны пласт 0,3 м. Раскопкі не праводзіліся.



967. *Помнік на брацкіх могілках савецкіх воінаў.*

**в. Вялікія Аўцюкі, цэнтр сельсавета**

**977. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). За 2 км на поўдзень ад вёскі. Пахаваны 3 чырвонаармейцы (загінулі ў Грамадзянскую вайну) і 315 савецкіх воінаў 2-га гвардзейскага кавалерыйскага, 9-га гвардзейскага і 89-га стралковых карпусоў 61-й арміі, якія загінулі ў лістападзе — снежні 1943 г.— студзені 1944 г. пры вызваленні тэрыторыі Вялікааўцюкоўскага сельсавета. Сярод пахаваных — Герой Савецкага Саюза Аляксей Арсенавіч Князеў.

А. А. К н я з е ў нарадзіўся 9.5. 1923 г. ў в. Бронніца Ноўгарадскага р-на і вобл. ў сялянскай сям'і. Член ВЛКСМ. У Вялікую Айчынную вайну на фронце з 1941 г. Камандзір кулямётнага аддзялення 215-га гвардзейскага стралковага палка 77-й гвардзейскай стралковай дывізіі 61-й арміі



970. *Помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў.*

гвардыі старшы сяржант А. А. Князеў вызначыўся пры вызваленні вёскі Вялікія Аўцюкі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. 3.12.1943 г. ў час контратакі ворага кулямётчыкі мужна змагаліся і не адступілі. Калі танк ворага раздавіў кулямёт А. А. Князева, ён прадаўжаў адбіваць атакі гранатамі. Загінуў у гэтым баі. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 3.6.1944 г. Яго імем названа вуліца ў г. п. Пралетарый Ноўгарадскага р-на. На доме, дзе ён жыў, устаноўлена мемарыяльная дошка.

У 1966 г. на брацкай магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна.

*Літ.:* Навечно в сердце народном.— 3 изд.— Мн., 1984. *Г. І. Дулеба.*

**978. РАДЗІМА МАСКАЛЕНКІ** Якава Раманавіча (гіст.).

Герой Савецкага Саюза Я. Р. Маскаленка нарадзіўся 2.3.1922 г. ў сялянскай сям'і. Член КПСС з 1950 г. У 1940 г. скончыў Мазырскае педагагічнае вучылішча. Працаваў настаўнікам у Дудзіцкай сярэдняй школе Калінкавіцкага р-на. У Чырвонай Арміі з кастрычніка 1940 г. У Вялікую Айчынную вайну на фронце з 1941 г. У 1942—43 гг. партызан 2-й Калінкавіцкай партызанскай брыгады. З чэрвеня 1944 г. на фронце. Радавы 1323-га стралковага палка 415-й стралковай дывізіі 61-й арміі Я. Р. Маскаленка вызначыўся ў баях пры вызваленні Пінска. З групай воінаў-дэсантнікаў высадзіўся ў цэнтры горада на беразе Піны і на працягу 2 дзён трымаў абарону да падыходу часцей Чырвонай Арміі. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 24.3.1945 г. З снежня 1945 г. працаваў настаўнікам на радзіме, з ліпеня 1947 г. на прафсаюзнай і гаспадарчай рабоце ў Мінску.

Памёр 18.3.1966 г. Пахаваны ў Мінску на Усходніх могілках.

*Літ.:* Навечно в сердце народном.— 3 изд.— Мн., 1984. *Г. І. Дулеба.*

**в. Вялікія Ліцвінавічы, Азарыцкі пасялковы Савет**

**979. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 113 воінаў, якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў ці памерлі ад ран у 1943—44 гг. У 1965 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна.

**в. Гарбавічы, цэнтр сельсавета**

**980. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). Каля школы. Пахаваны 165 воінаў і партызан, якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў ці памерлі ад ран у 1944 г. У 1964 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна.

**в. Гарочычы, цэнтр сельсавета**

**981. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). На



977. *Помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў.*

могілках. Пахаваны 46 воінаў і партызан, якія загінулі ў 1943—44 гг. у баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1956 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна.

**Чыгуначная станцыя Гарочычы, Гарочыцкі сельсавет**

**982. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАНА** (гіст.). На паўночна-заходняй ускраіне станцыі. Пахаваны 47 воінаў і 1 партызан, якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў ці памерлі ад ран у 1944 г. У 1975 г. на магіле пастаўлена стэла з барэльефнай выявай воіна.

**в. Гогалева, Ліпаўскі сельсавет**

**983. ГАРАДЗІШЧА** (археал.). За 1,5 км ад вёскі, ва ўрочышчы Гарадзішча, на асушаным балоце. Пляцоўка круглая, дыяметрам 65 м, умацавана валам вышынёй 1,5 м, шырынёй 13 м, пашкоджана ямамі. Выявіў у 1975 г. В. Е. Собаль. Культурны пласт каля 0,15 м. Раскопкі не праводзіліся.

**984. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА Ў ГОНАР ВАСІЛЕВІЦКІХ ПАДПОЛЬНЫХ РАЙКОМАЎ КП(б)Б І ЛКСМБ, ВАСІЛЕВІЦКАЙ ПАРТЫЗАНСКАЙ БРЫГАДЫ ІМЯ П. К. ПАНАМАРЭНКІ** (гіст.). На будынку магазіна. Устаноўлена ў 1975 г.

У вёсцы і навакольных лясах у 1943 г. базіраваліся Васілевіцкія падпольныя райкомы КП(б)Б і ЛКСМБ, Васілевіцкая партызанская брыгада імя П. К. Панамарэнкі Палескага злучэння.

Падпольны райком КП(б)Б дзейнічаў з ліпеня да 17.11.1943 г. Сакратар П. П. Гудаў. Райком партыі ўзначальваў падпольную барацьбу і партызанскі рух, вёў палітычную работу сярод насельніцтва, выдаваў падпольную газету «Сацыялістычная праца». Райком ЛКСМБ дзейнічаў з 1.6 да 17.11. 1943 г. Сакратары У. Я. Сапончык, М. А. Ясянкоў (па прапагандзе). Райком камсамола вёў палітыка-выхаваўчую і арганізатарскую работу сярод моладзі, мабілізоўваў яе на барацьбу супраць ворага.

Васілевіцкая партызанская брыгада імя П. К. Панамарэнкі створана ў кастрычніку 1943 г. на базе партызанскага атрада імя П. К. Панамарэнкі (арганізаваны ў красавіку 1943 г., да верасня 1943 г. атрад Васілевіцкі). Вяла баявыя дзеянні супраць нямецка-фашысцкіх акупантаў на тэрыторыі Васілевіцкага р-на. Камандзір брыгады С. А. Смерцін, камісар П. П. Гудаў. Партызаны брыгады праводзілі дыверсіі на чыгуначных і шашэйных дарогах, разгромілі варожы гарнізон у в. Савічы, вялі бai супраць гітлераўцаў каля вёсак Залатуха і Асташкавічы. Разам з 99-й Калінкавіцкай і 101-й Даманавіцкай партызанскімі брыгадамі разграмілі буйны гарнізон працііўніка ў в. Ведрыч, вывелі са строю чыгуначны ўчастак Галявіцы — Калінкавічы. Партызаны брыгады ўдзельнічалі ў вызваленні г. п. Васілевічы ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. 17.11.1943 г. брыгада (5-ы, 7-ы і 9-ы атрады, 365 партызан) злучылася з Чырвонай Арміяй.

*Літ.:* Подпольные партийные органы Компартии Белоруссии в годы Великой Отечественной войны (1941—1944).— Мн., 1975; Подпольные комсомольские органы Белоруссии в годы Великой Отечественной войны (1941—1944).— Мн., 1976; Ветров И. Д. Братья по оружию.— Мн., 1965; Партизанские формирования Белоруссии в годы Великой Отечественной войны (июнь 1941 — июль 1944).— Мн., 1983. *Г. І. Дулеба.*

**985. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА Ў ГОНАР ЗЛУЧЭННЯ 99-й КАЛІНКАВІЦКАЙ ПАРТЫЗАНСКАЙ БРЫГАДЫ З ЧЫРВОНАЙ АРМІЯЙ** (гіст.). У цэнтры вёскі, на будынку магазіна. Устаноўлена ў 1975 г.

99-я Калінкавіцкая партызанская брыгада Палескага злучэння дзейнічала супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў на акупіраванай тэрыторыі Калінкавіцкага і суседніх з ім раёнаў. Гл. артыкул № 1000 «Мемарыяльная дошка ў гонар Калінкавіцкіх падпольных райкомаў КП(б)Б, ЛКСМБ і штаба 99-й Калінкавіцкай партызанскай брыгады».

**в. Гулевічы, Сыродскі сельсавет**

**986. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). На могілках. Пахаваны 75 воінаў і партызан, якія загінулі ў 1943—44 гг. у баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1956 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна.

**987. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА Ў ГОНАР ПАРТЫЗАНСКАГА АТРАДА ІМЯ К. Я. ВАРАШЫЛАВА** (гіст.). На будынку клуба. Устаноўлена ў 1975 г.

Партызанскі атрад імя К. Я. Варашылава створаны ў чэрвені 1942 г. Дзейнічаў у Калінкавіцкім, Хойніцкім, Васілевіцкім, Мазырскім і Акцябрскім р-нах. Камандзіры К. М. Бакун (чэрвень 1942 г.— студзень 1943 г.), М. С. Дзячэнка (студзень — май 1943 г.), камісары М. С. Дзячэнка (чэрвень 1942 г.— студзень 1943 г.), В. А. Караткевіч (студзень — май 1943 г.). У маі 1943 г. на базе атрада сфарміравана 99-я Калінкавіцкая партызанская брыгада.

*Літ.:* Ветров И. Д. Братья по оружию.— Мн., 1965; Партизанские формирования Белоруссии в годы Великой Отечественной войны (июнь 1941 — июль 1944).— Мн., 1983.

**в. Даманавічы, цэнтр сельсавета**

**988. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). У паўночнай частцы вёскі, у парку. Пахаваны 389 воінаў і партызан, што загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў ці памерлі ад ран у 1943—44 гг. У 1966 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна.

**989. БУДЫНАК ШКОЛЫ, МЕСЦА ВУЧОБЫ ДЗЕНІСОВІЧ** Надзеі Мікалаеўны (архіт., гіст.). У цэнтры вёскі.

Пабудавана ў канцы 19 ст. з цэглы. У 1930-я гады да яе прыбудаваны 2 бакавыя крылы, у 60-я гады — двухпавярховы корпус. Двухпавярховы ў плане будынак мае сіметрычную кампазіцыю. Вось сіметрыі вылучана ўваходам з навіссю і высокім паўцыркульным акном.

У 1930—32 гг. тут у сярэдняй школе вучылася Надзея Мікалаеўна Дзенісовіч, актыўная ўдзельніца партызанскага руху ў Вялікую Айчынную вайну. Н. М. Дзенісовіч нарадзілася ў 1917 г. ў в. Блудзень (цяпер в. Дзенісовічы) Калінкавіцкага р-на ў сялянскай сям'і. Член КПСС. Скончыла Мазырскі педагагічны тэхнікум. Працавала настаўніцай у Даманавіцкім р-не Палескай вобл. У Вялікую Айчынную вайну з мая 1942 г. камісар Даманавіцкага партызанскага атрада. Летам 1942 г., вяртаючыся з чарговага баявога задання, Н. М. Дзенісовіч трапіла ў варожую засаду. Нямецка-фашысцкія карнікі схапілі партызанку і патрабавалі паказаць месца размяшчэння атрада. Н. М. Дзенісовіч адмовілася. У ліпені 1942 г. пасля жорсткіх катаванняў гітлераўцы расстралялі партызанку, яе маці і бацьку. Пасмяротна ўзнагароджана ордэнам Чырвонай Зоркі. У 1975 г. на ўшанаванне памяці Н. М. Дзенісовіч на будынку школы ўстаноўлена мемарыяльная дошка, в. Блудзень перайменавана ў в. Дзенісовічы. *Г. І. Дулеба.*

**990. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА Ў ГОНАР ДАМАНАВІЦКІХ ПАДПОЛЬНЫХ РАЙКОМАЎ КП(б)Б І ЛКСМБ, 101-й ДАМАНАВІЦКАЙ ПАРТЫЗАНСКАЙ БРЫГАДЫ** (гіст.). На будынку клуба. Устаноўлена ў 1975 г.

У лясах вакол в. Даманавічы ў Вялікую Айчынную вайну базіраваліся Даманавіцкія падпольныя райкомы КП(б)Б і ЛКСМБ, 101-я Даманавіцкая партызанская брыгада.

Даманавіцкі падпольны райком КП(б)Б дзейнічаў з красавіка да 18. 11.1943 г. Сакратары М. Я. Казлоў (да ліпеня 1943 г.), С. І. Уладыкоўскі. Падпольны райком узначальваў камуністычнае падполле, кіраваў партызанскім рухам у раёне, праводзіў палітычную работу сярод насельніцтва, выдаваў падпольную газету «Голас партызана».

Даманавіцкі падпольны райком ЛКСМБ дзейнічаў з жніўня 1942 г. да сярэдзіны лістапада 1943 г. Сакратары: І. М. Крычаўцаў, А. У. Броўка (сакратар па прапагандзе да верасня 1943 г.), Д. М. Раманішка (сакратар па прапагандзе з верасня 1943 г.). Райком камсамола ўзначальваў камсамольскае падполле, вёў палітыка-выхаваўчую работу сярод моладзі.

101-я Даманавіцкая партызанская брыгада створана ў чэрвені 1943 г. на базе Даманавіцкага партызанскага атрада (арганізаваны ў маі 1942 г.). Камандзіры брыгады М. А. Чарнавусаў (чэрвень — верасень 1943 г.), В. М. Мінін (з верасня 1943 г.), камісар М. Я. Казлоў. Дзейнічала супраць нямецка-фашысцкіх акупантаў у Васілевіцкім і Даманавіцкім р-нах Палескай вобл. Партызаны брыгады вялі адкрытыя і засадныя баі супраць акупантаў, рабілі дыверсіі на камунікацыях праціўніка, абаранялі мясцовае насельніцтва ад загубы і вывазу на катаржныя работы ў Германію, разграмілі варожыя гарнізоны ў вёсках Даманавічы, Каплічы, Ліпава, Савічы, падарвалі больш за 30 мастоў на чыгуначных, шашэйных і грунтавых дарогах, пусцілі пад адхон 36 эшалонаў з жывой сілай і тэхнікай, разбурылі 63 платформы чыгуначных станцый, збілі 2 самалёты праціўніка, знішчылі больш за 1 тыс. гітлераўцаў. 101-я Даманавіцкая брыгада ўзаемадзейнічала з 99-й Калінкавіцкай і Васілевіцкай імя П. К. Панамарэнкі партызанскімі брыгадамі. У жніўні 1943 г. яны разграмілі гарнізон праціўніка ў в. Ведрыч Васілевіцкага р-на. 18.11. 1943 г. брыгада (743 партызаны, атрады «За Радзіму», «Мсцівец», імя Чапаева, «Смерць фашызму») злучылася з Чырвонай Арміяй.



989. *Будынак школы. План 1-га (уверсе) і 2-га паверхаў.*

*Літ.:* Подпольные партийные органы Компартии Белоруссии в годы Великой Отечественной войны (1941—1944).— Мн., 1975; Ветров И. Д. Братья по оружию.— Мн., 1965; Непокоренная Белоруссия.— М., 1963; Подпольные комсомольские органы Белоруссии в годы Великой Отечественной войны (1941—1944).— Мн., 1976; Партизанские формирования Белоруссии в годы Великой Отечественной войны (июнь 1941 — июль 1944).— Мн., 1983. *Г. І. Дулеба.*

**991. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). На могілках. На ўшанаванне памяці 74 жыхароў Даманавіцкага сельсавета, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1969 г. пастаўлены помнік — скульптура жанчыны ў жалобе.

**в. Дзенісовічы, Даманавіцкі сельсавет**

**992. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны 31 воін, якія загінулі ў 1943—44 гг. у баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1965 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна.

**в. Дудзічы, цэнтр сельсавета**

**993. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАНА** (гіст.). На могілках. Пахаваны 28 воінаў і партызан, якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў ці памерлі ад ран у 1943—44 гг. У 1958 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна.

**994. МЕСЦА РЭВАЛЮЦЫЙНАГА ВЫСТУПЛЕННЯ СЯЛЯН 1905 г.** (гіст.). У рэвалюцыю 1905—07 гг. у вёсцы адбылося адно з буйнейшых на Беларусі рэвалюцыйных выступленняў сельскагаспадарчых рабочых. У ім удзельнічала каля 200 чалавек. Было выклікана жорсткай эксплуатацыяй памешчыка, злоўжываннямі адміністрацыі маёнтка. У чэрвені 1905 г. батракі і сяляне вёскі сабраліся каля валаснога праўлення на сход. На ім выступіў прадстаўнік Мазырскай групы арганізацыі РСДРП. З яго дапамогай былі выпрацаваны, потым прыняты сходам і прад'яўлены паме-

шчыку патрабаванні батракоў аб павышэнні зарплаты, скарачэнні рабочага дня, паляпшэнні ўмоў працы і быту. Батракі аб'явілі забастоўку, якая працягвалася некалькі дзён. Падаўлена царскімі ўладамі.

*Літ.:* Хроника важнейших событий истории Коммунистической партии Белоруссии. Ч. 1.— Мн., 1962; Революционное движение в Белоруссии 1905—1907 гг.— Мн., 1955. *Г. І. Дулеба.*

**в. Залатуха,**
**цэнтр Чкалаўскага сельсавета**

**995. ГАРАДЗІШЧА** (археал.). Мясцовая назва Гарадзінка. За 4 км на захад ад вёскі, ва ўрочышчы Дубовае, у бярозавым лесе. Пляцоўка авальная, памерам 90×80 м, умацавана валам (моцна пашкоджаны) вышынёй каля 0,5 м, шырынёй 10 м. За валам прасочваецца неглыбокі роў. Адкрыў у 1975 г. В. Е. Собаль. Культурны пласт 0,15 м. Раскопкі не праводзіліся.

**996. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. На ўшанаванне памяці 126 аднавяскоўцаў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1966 г. пастаўлены помнік — скульптура воіна і 2 стэлы, на якіх дошкі з імёнамі загінуўшых.

**в. Замосце, Нахаўскі сельсавет**

**997. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 49 воінаў, якія загінулі ў 1941 г. і 1943—44 гг. у баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1966 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна.

**в. Зяляночы, Зяляноцкі сельсавет**

**998. БРАЦКАЯ МАГІЛА КАМСАМОЛЬЦАЎ-ПАДПОЛЬШЧЫКАЎ** (гіст.). На могілках. Пахаваны камсамольцы-падпольшчыкі В. Ц. і М. Ц. Уласенкі, якіх 22.7.1942 г. расстралялі нямецка-фашысцкія захопнікі. У 1971 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**999. БРАЦКАЯ МАГІЛА ПАРТЫЗАН** (гіст.). На могілках. Пахаваны 3 партызаны, якія загінулі ў 1943 г. ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1972 г. на магіле пастаўлена стэла з барэльефам воіна.



996. *Помнік землякам.*



1001. *Помнік землякам.*

**1000. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА Ў ГОНАР КАЛІНКАВІЦКІХ ПАДПОЛЬНЫХ РАЙКОМАЎ КП(б)Б, ЛКСМБ І ШТАБА 99-Й КАЛІНКАВІЦКАЙ ПАРТЫЗАНСКАЙ БРЫГАДЫ** (гіст.). Устаноўлена ў 1975 г. на будынку клуба. У вёсцы і яе наваколлі ў Вялікую Айчынную вайну базіраваліся Калінкавіцкія падпольныя райкомы КП(б)Б і ЛКСМБ, штаб 99-й Калінкавіцкай партызанскай брыгады Палескага злучэння.

Калінкавіцкі падпольны райком КП(б)Б дзейнічаў з 7.5 да 28.11. 1943 г. Сакратар В. А. Караткевіч. Райком партыі ўзначальваў партызанскі рух, падпольную барацьбу, праводзіў палітычную работу сярод насельніцтва, выдаваў падпольную газету «Партызан».

Калінкавіцкі падпольны райком ЛКСМБ дзейнічаў з 21 сакавіка да 28.11.1943 г. Сакратары К. С. Гаруля (да 1.5.1943 г.), І. І. Смарыга (з 1.5. 1943 г.), Г. Я. Варажун (сакратар па прапагандзе, з 14.9.1943 г.). Райком ЛКСМБ узначальваў на тэрыторыі раёна барацьбу моладзі супраць акупантаў.

99-я Калінкавіцкая партызанская брыгада створана ў маі 1943 г. на базе атрада імя К. Я. Варашылава (арганізаваны ў чэрвені 1942 г.) Палескага партызанскага злучэння. Камандзір брыгады В. А. Караткевіч, камісар С. П. Ракіцкі. Дзейнічала супраць нямецка-фашысцкіх акупантаў на тэрыторыі Калінкавіцкага і суседніх р-наў Палескай вобл. Партызаны рабілі дыверсіі на варожых камунікацыях, узарвалі электрастанцыю ў Калінкавічах, знішчалі жывую сілу і тэхніку праціўніка, патапілі на Прыпяці параход і 2 баржы, спалілі лесапільню і пенькаказавод у в. Гарочычы, удзельнічалі ў «рэйкавай вайне». Толькі ў ноч на 4.8.1943 г. на ўчастку Гарочычы — Юшкі разбурылі каля 2 км чыгуначнага палатна, вялі баі па знішчэнню варожых гарнізонаў. Брыгада злучылася з Чырвонай Арміяй паатрадна: у лістападзе, снежні 1943 г., чэрвені 1944 г. (604 партызаны, атрады 2-і імя Р. І. Катоўскага, 3-і імя М. А. Шчорса, 5-ы, 1-ы імя К. Я. Варашылава).

*Літ.:* Подпольные партийные органы Компартии Белоруссии в годы Великой Отечественной войны (1941—1944).— Мн., 1975; Подпольные комсомольские органы Белоруссии в годы Великой Отечественной войны (1941—1944).— Мн., 1976; Ветров И. Д. Братья по оружию.— Мн., 1965; Всенародное партизанское движение в Белоруссии в годы Великой Отечественной войны (июнь 1941 — июль 1944). Т. 2. Кн. 1—2.— Мн., 1973—78; Партизанские формирования Белоруссии в годы Великой Отечественной войны (июнь 1941 — июль 1944).— Мн., 1983. *Г. І. Дулеба.*

**1001. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля клуба. На ўшанаванне памяці 134 жыхароў Зяляноцкага сельсавета, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1971 г. пастаўлены помнік — на невысокім кургане скульптура воіна. Каля падножжа кургана — дошкі з імёнамі загінуўшых.

**в. Кавалькі,**
**Азарыцкі пасялковы Савет**

**1002. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). Каля школы. Пахаваны 16 воінаў, якія памерлі ад ран у 1944 г. У 1969 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Казанск, Казловіцкі сельсавет**

**1003. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 55 воінаў, якія загінулі ў 1943—44 гг. у баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1965 г. на ма-



1003. *Помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў.*



1005. *Гарадзішча. План.*

гіле пастаўлены помнік — скульптура воіна і пліты з імёнамі загінуўшых.

**в. Казловічы, цэнтр сельсавета**

**1004. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ, ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У паўночнай частцы вёскі. Пахаваны 153 воіны, якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў ці памерлі ад ран у 1943—44 гг.

У 1980 г. на ўшанаванне памяці воінаў і 93 землякоў на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна і 2 стэлы з імёнамі загінуўшых вяскоўцаў.

**1005. ГАРАДЗІШЧА** (археал.). Мясцовая назва А к о п. За 4 км на паўднёвы ўсход ад вёскі, ва ўрочышчы Горы. Гарадзішча авальнае, падзелена перамычкай-валам на 2 пляцоўкі, абнесены 2 валамі, паміж якімі прасочаны роў. Вышыня вонкавага вала 1,5 м, шырыня 7—8 м, вышыня ўнутранага — 2,5 м. Паўночная пляцоўка памерам 98×155 м, паўднёвая — 60×110 м. Агульная плошча гарадзішча 2,2 га. Вядома з 1924 г. Абследаваў у 1975 г. В. Е. Собаль. Культурны пласт не перавышае 0,3 м. Раскопкі не праводзіліся.

**1006. ПОМНІК ЛЕНІНУ** Уладзіміру Ільічу (гіст.). У цэнтры вёскі. Бюст У. І. Леніна ўстаноўлены ў 1975 г.

**в. Каплічы, цэнтр сельсавета**

**1007. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны 342 воіны і партызаны, якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў ці памерлі ад ран у 1944 г. У 1966 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна.

**1008. РАДЗІМА КРАЎЧАНКІ** Усевалада Ігнатавіча (гіст.).

Беларускі савецкі пісьменнік У. І. Краўчанка нарадзіўся 1.10.1915 г. ў сям'і настаўніка. Член КПСС з 1949 г. У 1933—37 гг. завочна вучыўся ў БДУ. З 1933 г. працаваў у раённай газеце «Калгаснік Мазыршчыны», з 1935 г.— у акруговай газеце «Бальшавік Палесся». У Вялікую Айчынную вайну супрацоўнічаў у армейскай газеце «Боевое знамя», з 1943 г.— у газеце «Савецкая Беларусь». З 1945 г. адказны сакратар часопіса «Полымя». З 1950 г. адказны сакратар, з 1953 г. галоўны рэдактар часопіса «Бярозка». Першае апавяданне надрукаваў у 1933 г. Пісаў апавяданні, аповесці, п'есы. Выдаў зборнікі «На крутым павароце» (1937 г.), «Калгасныя навелы» (1940 г.), «Зямля гудзе» (1945 г.), «У імя Радзімы» (1948 г.), «Вясна на Палессі» (1952 г.), «Крыгаход» (1957 г.), «Над хвалямі Прыпяці» (1964 г.) і інш. Пісаў для дзяцей: «Таямніца аднае вышкі» (1935 г.), «Злачынства ля Зялёнай тоні» (1961 г.) і інш. Выдаў зборнік аднаактовых п'ес «Апошняя варажба» (1960 г.). У творах адлюстроўваў новы быт палескай вёскі, гераічную барацьбу беларускіх партызан, мірную стваральную працу савецкіх людзей у пасляваенны перыяд.

У. І. Краўчанка памёр 27.8.1961 г. Пахаваны ў Мінску на Усходніх могілках.

*Літ.:* Пісьменнікі Савецкай Беларусі: Кароткі даведнік.— Мн., 1981. *Г. І. Дулеба.*

**в. Карма, Зеляноцкі сельсавет**

**1009. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 23 воіны, якія загінулі ў 1943 г. ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1979 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна.

**в. Клінск, Якімавіцкі сельсавет**

**1010. ГАРАДЗІШЧА** (археал.). За 3 км на поўнач ад вёскі, ва ўрочышчы Гарадзінка. Пляцоўка авальная, памерам 330×280 м, умацавана 2 валамі. Вышыня вонкавага вала каля 1 м, шырыня каля 5 м, унутранага адпаведна каля 3,5 м і каля 15 м. Выявіў у 1957 г. Л. Д. Побаль. Абследаваў у 1976 г. У. Ф. Ісаенка. Раскопкі не праводзіліся.

**в. Кротаў, Капліцкі сельсавет**

**1011. ГАРАДЗІШЧА** (археал.). Мясцовыя назвы А к о п, Г а р а д о к. За 6 км на паўночны захад ад вёскі, за 0,3 км справа ад лясной дарогі. Пляцоўка круглай формы, дыяметрам 50 м, умацавана валам вышынёй 1,5 м, шырынёй 10 м. За валам прасочваюцца рэшткі рова глыбінёй 0,8 м, шырынёй 2 м. Выявіў у 1928 г. В. П. Тарановіч, абследаваў у 1975 г. В. Е. Собаль. Культурны пласт 0,35 м. Раскопкі не праводзіліся.

*Літ.:* Т а р а н о в і ч [В. П.] Старасветчына Мазыршчыны ў матэрыяльных помніках.— Наш край, 1928, № 8—9.

*В. Е. Собаль.*



1014. *Жылы дом. План.*

**в. Ліпава, цэнтр сельсавета**

**1012. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). На могілках. Пахаваны 190 воінаў і партызан, якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў ці памерлі ад ран у 1943—44 г.

У 1965 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна.

**1013. ПОМНІК ЛЕНІНУ** Уладзіміру Ільічу (гіст.). У цэнтры вёскі. Бюст У. І. Леніна ўстаноўлены ў 1965 г.

**1014. СЯДЗІБА** (архіт.). На ўсходняй ускраіне вёскі. Сфарміравана ў сярэ-



1014. *Сядзіба. Куток парку.*



1014. *Сядзіба. Жылы дом.*

дзіне 19 ст. Складаецца з жылога дома і парку.

Жылы дом размешчаны ў цэнтральнай частцы парку. Пабудаваны ў 1855—62 гг. з цэглы. Будынак прамавугольны ў плане, двухпавярховы, накрыты вальмавым дахам. Галоўны фасад мае сіметрычную кампазіцыю. Цэнтральны рызаліт завершаны трохвугольным франтонам. Вось сіметрыі падкрэслена балконам і парадным уваходам. У аздабленні фасадаў выкарыстаны спрошчаныя класіцыстычныя элементы. Унутры цэнтральнае месца займае паўкруглая ў плане зала, па баках якой уздоўж калідораў размешчаны пакоі.

Парк закладзены як батанічны сад. Планіроўка пейзажнага тыпу. Захаваліся рэдкія пароды дрэў.

Помнік сядзібнага будаўніцтва.

*С. Г. Багласаў.*

**в. Лозкі, Нахаўскі сельсавет**

**1015. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). Каля будынка канторы лясніцтва. Пахаваны 476 жыхароў.

22.6.1942 г. ў вёску ўварваліся гітлераўскія карнікі. Яны сагналі жыхароў у 3 хаты, аблілі хаты бензінам і падпалілі. Тых, хто ўцякаў, расстрэльвалі ці жывымі кідалі ў агонь. У 1969 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура жанчыны ў жалобе.

**в. Лукі, Чкалаўскі сельсавет**

**1016. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). На могілках. Пахаваны 60 воінаў і партызан, якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў ці памерлі ад ран у 1943—44 гг. У 1964 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна.

**1017. БРАЦКАЯ МАГІЛА ЧЫРВОНААРМЕЙЦАЎ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 3 чырвонаармейцы, якія загінулі ў Грамадзянскую вайну. У 1967 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**1018. ГАРАДЗІШЧА** (археал.). За 2,5 км на паўночны захад ад вёскі, ва ўрочышчы Гарадзінка. Пляцоўка круглай формы, дыяметрам 50 м, умацавана валам вышынёй 1,5 м. Вядома з 1924 г. Абследаваў у 1976 г. У. Ф. Ісаенка. Раскопкі не праводзіліся.

**1019. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля клуба. На ўшанаванне памяці 79 аднавяскоўцаў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1966 г. пастаўлены помнік — скульптура воіна.

**в. Ляскі, Зеляноцкі сельсавет**

**1020. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАНА** (гіст.). На могілках. Пахаваны 170 воінаў і 1 партызан, што загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў ці памерлі ад ран у 1943—44 гг. У 1960 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна.



1022. *Помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў і партызан.*

**в. Малыя Аўцюкі, цэнтр сельсавета**

**1021. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). За 1 км на паўднёвы ўсход ад вёскі. Пахаваны 290 воінаў і партызан, што загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў ці памерлі ад ран у 1943—44 г. Сярод пахаваных — воіны 2-га і 7-га гвардзейскіх кавалерыйскіх, 9-га гвардзейскага і 89-га стралковых карпусоў, якія загінулі ў лістападзе 1943 г.— студзені 1944 г. ў наваколлі вёскі. У 1965 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна.

**в. Міроненкі, Ліпаўскі сельсавет**

**1022. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны 185 воінаў і партызан, якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў ці памерлі ад ран у 1942—44 гг. Сярод пахаваных — воіны 65-й арміі, Герой Савецкага Саюза Іосіф Акімавіч Міроненка.

І. А. Міроненка нарадзіўся ў сакавіку 1913 г. ў с. Першамайскае Крымскага р-на Краснадарскага краю ў сялянскай сям'і. У Вялікую Айчынную вайну на фронце з кастрычніка 1941 г. Памочнік камандзіра ўзвода 605-га стралковага палка 132-й стралковай дывізіі старшына І. А. Міроненка вызначыўся ў верасні 1943 г. пры вызваленні Украіны. З групай воінаў фарсіраваў рэкі Сейм, Дзясну, замацаваўся на плацдарме, што садзейнічала пераправе часцей дывізіі. З першым дэсантам пераправіўся цераз Дняпро, удзельнічаў у адбіцці контратак ворага, знішчыў процітанкавую гармату, 2 кулямётныя разлікі праціўніка, 30 гітлераўцаў. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 17.10. 1943 г. Загінуў 10.1.1944 г. ў баі пры вызваленні Калінкавіцкага р-на. Яго імем названа вёска (былая Мнагаверш), дзе ён пахаваны.

У 1967 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна ў жалобе.

*Літ.:* Навечно в сердце народном.— 3 изд.— Мн., 1984. *Г. І. Дулеба.*

**1023. ПОМНІК КІРАВУ** Сяргею Міронавічу (гіст.). У цэнтры вёскі. Бюст С. М. Кірава ўстаноўлены ў 1978 г.

**в. Міхайлаўскае, Савіцкі сельсавет**

**1024. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). Каля клуба. Пахаваны 397 воінаў, якія загінулі ў 1943—44 гг. у баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1965 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна.

**в. Міхнавічы, цэнтр сельсавета**

**1025. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). На паўднёвай ускраіне вёскі. Пахаваны 421 воін і 2 партызаны, што загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў ці памерлі ад ран у 1943—44 гг. У 1964 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна.

**1026. РАДЗІМА КЛЯШЧОВА** Аляксея Яўхімавіча (гіст.).

Савецкі партыйны і дзяржаўны дзеяч, адзін з арганізатараў і кіраўнікоў Камуністычнага падполля і партызанскага руху на Беларусі ў Вялікую Айчынную вайну А. Я. Кляшчоў нарадзіўся 12.2.1905 г. ў сялянскай сям'і. Член КПСС з 1928 г. Генерал-маёр (1943 г.), Герой Савецкага Саюза (1.1.1944 г.). У 1924—26 гг. на савецкай рабоце ў Петрыкаўскім р-не Гомельскай вобл. У 1927—29 гг. служыў у Чырвонай Арміі. З 1930 г. на гаспадарчай рабоце на Магілёўшчыне, Віцебшчыне і Брэстчыне. У Вялікую Айчынную вайну член (ліпень — верасень 1941 г.) Пінскага падпольнага абкома КП(б)Б, з верасня 1942 г. ўпаўнаважаны ЦК КП(б)Б па Пінскай вобл., з 23.4 да 10.10.1943 г. першы сакратар Пінскага падпольнага абкома КП(б)Б, адначасова камандзір Пінскага партызанскага злучэння. У 1944—47 гг. першы сакратар Пінскага, Палацкага абкомаў і гаркомаў КП(б)Б, з 1948 г. старшыня Савета Міністраў БССР. У 1954 г. ўпаўнаважаны ЦК КПСС па Кустанайскай вобл., у 1955—60 гг. першы сакратар Какчэтаўскага абкома Кампартыі Казахстана. Член ЦК КПБ, член Бюро ЦК КПБ у 1948—53 гг. Дэпутат Вярхоўнага Савета СССР у 1946—54 гг. і ў 1958—62 гг., Вярхоўнага Савета БССР у 1947—55 гг.

А. Я. Кляшчоў памёр 13.12.1968 г. Пахаваны ў Маскве. Яго імя прысвоена Пінскаму гідрамеліярацыйнаму тэхнікуму.

*Літ.:* Казлоў В. І. Людзі асобага складу.— Мн., 1967; Подпольные партий-

ные органы Компартии Белоруссии в годы Великой Отечественной войны (1941—1944).— Мн., 1975; Навечно в сердце народном.— 3 изд.— Мн., 1984. *Г. І. Дулеба.*

**в. Навасёлкі, Капліцкі сельсавет**

**1027. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). Ва ўсходняй частцы вёскі. Пахаваны 260 воінаў, якія загінулі ў 1941 г. і 1943—44 гг. у баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1966 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна.

**в. Навінкі, Чкалаўскі сельсавет**

**1028. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На могілках. Пахаваны воіны, якія загінулі ў 1943—44 гг. у баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1963 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**1029. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ, ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны 109 воінаў, што загінулі ў 1943—44 гг. у баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1963 г. на магіле пастаўлены помнікі — скульптура воіна, побач 2 стэлы з імёнамі 124 аднавяскоўцаў, што загінулі ў Вялікую Айчынную вайну.

**1030. ГАРАДЗІШЧА** (археал.). Мясцовая назва Г а р а д о к. За 3 км на паўночны ўсход ад цэнтра вёскі, на левым беразе р. Мядзведка. Пляцоўка авальная, памерам 65×50 м, абнесена валам вышынёй 2 м, шырынёй 10 м, заходняя частка якога разбурана. Абследаваў у 1975 г. В. Е. Собаль. Культурны пласт 0,3 м. Знойдзена ляпная кераміка з дамешкамі жарствы. Адносіцца да ранняга жалезнага веку. Раскопкі не праводзіліся.

Матэрыялы абследавання захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР. *В. Е. Собаль.*

**в. Насавічы, цэнтр Зеляноцкага сельсавета**

**1031. ГАРАДЗІШЧА** (археал.). Мясцовая назва Г а р а д о к. За 1,5 км на поўдзень ад цэнтра вёскі, на асушаным балоце. Пляцоўка круглая, дыяметрам 55 м, умацавана валам вышынёй 2 м, шырынёй 12 м. Адкрыў у 1928 г. В. П. Тарановіч, абследаваў у 1975 г. В. Е. Собаль. Культурны пласт 0,25 м. Раскопкі не праводзіліся.

**1032. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. На ўшанаванне памяці 174 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1972 г. пастаўлена стэла.

**в. Нахаў, цэнтр сельсавета**

**1033. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. На ўшанаванне памяці 60 аднавяскоўцаў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1971 г. пастаўлена стэла.

**пас. Нахаўскі, Нахаўскі сельсавет**

**1034. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). У цэнтры пасёлка.



1035. *Помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў. Фрагмент.*

Пахаваны 199 воінаў, якія загінулі ў 1941, 1943—44 гг. у баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1965 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна.

**в. Прудок, цэнтр сельсавета**

**1035. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ, ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). На паўднёвай ускраіне вёскі. Пахаваны 212 воінаў, якія загінулі ў 1943—44 гг. у баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1967 г. на магіле пастаўлена стэла, побач насыпаны курган, на вяршыні якога ўстаноўлены скульптура воіна і 7 пліт з імёнамі 166 землякоў, што загінулі ў Вялікую Айчынную вайну.

**1036. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА Ў ГОНАР КАЛІНКАВІЦКАГА ПАДПОЛЬНАГА РАЙКОМА КП(б)Б І 99-й КАЛІНКАВІЦКАЙ ПАРТЫЗАНСКАЙ БРЫГАДЫ** (гіст.). На будынку камбіната бытавога абслугоўвання. Устаноўлена ў 1964 г. У Вялікую Айчынную вайну ў раёне базіраваліся Калінкавіцкі падпольны райком КП(б)Б і штаб 99-й Калінкавіцкай партызанскай брыгады. Гл. таксама артыкул № 1000 «Мемарыяльная дошка ў гонар Калінкавіцкіх падпольных райкомаў КП(б)Б, ЛКСМБ і штаба 99-й Калінкавіцкай партызанскай брыгады».

*Літ.:* В е т р о в И. Д. Братья по оружию.— Мн., 1965.

**1037. ПОМНІК ДЗЯРЖЫНСКАМУ** Феліксу Эдмундавічу (гіст.). У цэнтры вёскі. Бюст Ф. Э. Дзяржынскага ўстаноўлены ў 1978 г.

**в. Рудня-Антонаўская, Гарбавіцкі сельсавет**

**1038. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 15 воінаў, якія загінулі ў 1944 г. ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1975 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна і стэла.

**1039. ГАРАДЗІШЧА, КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.).

**1039а.** Г а р а д з і ш ч а. За 1,5 км на паўднёвы ўсход ад вёскі, ва ўрочышчы Горбаўшчына, на левым беразе р. Ненач. Пляцоўка круглая дыяметрам да 110 м. Вядома з 1924 г. Абследаваў у 1976 г. У. Ф. Ісаенка. Раскопкі не праводзіліся.

**1039б.** К у р г а н н ы  м о г і л ь н і к. За 1,5 км на паўднёвы ўсход ад вёскі, побач з гарадзішчам. 10 насыпаў дыяметрам 2—5 м, вышынёй 1—1,5 м. Вядомы з 1924 г. Абследаваў у 1976 г. У. Ф. Ісаенка. Раскопкі не праводзіліся. *У. Ф. Ісаенка.*

**в. Рудня-Гарбавіцкая, Гарбавіцкі сельсавет**

**1040. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). На могілках. Пахаваны 84 воіны і партызаны, якія загінулі ў 1944 г. ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў ці памерлі ад ран. У 1964 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна.

**1041. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА Ў ГОНАР ПАРТЫЗАНСКАГА АТРАДА «ХРАБРАЦЫ»** (гіст.). На будынку клуба. Устаноўлена ў 1964 г.

Каля вёскі ў Айчынную вайну дыслацыраваўся спецатрад НКДБ БССР, які дзейнічаў на акупіраванай тэрыторыі Жлобінскага, Рагачоўскага, Акцябрскага, Асіповіцкага, Бабруйскага, Быхаўскага, Косаўскага, Лунінецкага, Пінскага р-наў. 1.7.1942 г. група (14 чалавек) з Масквы перапраўлена ў варожы тыл. 17.3.1943 г. на базу групы закінуты 22 байцы, 7.6.1943 г.— яшчэ 4. Група папоўнілася мясцовымі жыхарамі. Быў сфарміраваны атрад. Камандзір А. М. Рабцэвіч. Партызаны правялі больш за 200 дыверсій на чыгунках, шашэйных дарогах, падарвалі больш за 90 варожых эшалонаў, знішчылі і папсавалі 24 танкі (у т. л. 5 «тыграў»), 23 бронемашыны, бранепоезд, 102 аўтамашыны, 35 электраматораў, 2 катэры, узарвалі склад з авіябомбамі, разбурылі 5 мастоў, 3 лесапільныя заводы, пашкодзілі 2,5 км тэлефонна-тэлеграфнай сувязі, разграмілі 2 варожыя гарнізоны і інш. Здабывалі і перадавалі савецкаму камандаванню даныя разведкі, у т. л. пра абарончыя збудаванні на рэках Сож, Дняпро, Бярэзіна, Прыпяць, вялі прапаганду сярод насельніцтва. 12.7.1944 г. атрад (204 чалавекі) злучыўся з Чырвонай Арміяй. Камандзіру атрада А. М. Рабцэвічу прысвоена званне Героя Савецкага Саюза.

*Літ.:* В лесах Белоруссии.— Мн., 1977. *Г. І. Дулеба.*

**в. Савічы, цэнтр сельсавета**

**1042. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны 416 воінаў і партызан, якія загінулі ў 1944 г. ў баях

супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1965 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна.

**в. Садкі, Якімавіцкі сельсавет**

**1043. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАНА** (гіст.). За 1,5 км на ўсход ад вёскі, у лесе. Пахаваны 68 воінаў і 1 партызан, якія загінулі ў 1943—44 гг. у баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1963 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна.

**в. Сельцы, Гарочыцкі сельсавет**

**1044. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 59 воінаў, якія загінулі ў 1944 г. ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў ці памерлі ад ран. У 1956 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна.

**в. Слабодка, Бярозаўскі сельсавет**

**1045. ПАСЕЛІШЧЫ** (археал.).

**1045а.** Паселішча-1. За 3 км на паўднёвы захад ад вёскі, на левым беразе р. Тур'я. Выявіў у 1960 г. і даследаваў у 1964 г. У. Ф. Ісаенка. У раскопе агульнай плошчай 124 м² і ў шурфах агульнай плошчай 64 м² выяўлены культурны пласт 0,2—0,5 м, які прасочваецца на працягу 0,7 км уздоўж ракі. Знойдзены 480 апрацаваных крамянёў, 88 крамянёвых прылад працы, 620 фрагментаў ляпнога посуду. Адносіцца да сярэдняга этапа днепра-данецкай культуры эпохі неаліту. Матэрыялы раскопак захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

**1045б.** Паселішча-2. За 1,5 км на паўднёвы захад ад вёскі, на паўночным схіле невялікага ўзвышша ў пойме р. Тур'я. Культурны пласт 0,3—0,4 м прасочаны на плошчы 0,6 га. Вядома з 1924 г. Абследаваў у 1976 г. У. Ф. Ісаенка. Раскопкі не праводзіліся.

**1045в.** Паселішча-3. За 2 км на захад ад вёскі, ва ўрочышчы Бярозаўскі Поплаў. Памер 60×30 м. Выявіў у 1932 г. А. Дз. Каваленя, абследаваў у 1976 г. У. Ф. Ісаенка. Культурны пласт 0,2 м. Раскопкі не праводзіліся.

На ўсіх паселішчах на паверхні трапляюцца рэшткі матэрыяльнай культуры жалезнага веку.




**1045.** *Паселішчы. План.*



**1046.** *Помнік на брацкіх могілках савецкіх воінаў.*

*Літ.:* Исаенко В. Ф. Неолит Припятского Полесья.— Мн., 1976.

*У. Ф. Ісаенка.*

**в. Сышчыцы, Крукавіцкі сельсавет**

**1046. БРАЦКІЯ МОГІЛКІ САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На паўночна-заходняй ускраіне вёскі. Пахаваны 1052 воіны, што загінулі ў 1941 г. і 1943—44 гг. у баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў ці памерлі ад ран. Сярод пахаваных — воіны 65-й арміі, якія загінулі ў студзені 1944 г. пры вызваленні раёна. У 1958 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна.

**в. Турцэвічы, Гарбавіцкі сельсавет**

**1047. РАДЗІМА ТУРЦЭВІЧА** Мікалая Фёдаравіча (гіст.).

Герой Савецкага Саюза М. Ф. Турцэвіч нарадзіўся 15.10.1914 г. ў сялянскай сям'і. Кандыдат у члены КПСС. З 1936 г. ў Чырвонай Арміі. Удзельнік савецка-фінляндскай вайны 1939—40 гг. Камандзір узвода 150-й стралковай дывізіі лейтэнант М. Ф. Турцэвіч вызначыўся 14.2.1940 г. Група воінаў на чале з М. Ф. Турцэвічам пад моцным кулямётным і артылерыйскім агнём праціўніка пранікла ў тыл ворага, разведала агнявую сістэму праціўніка і даставіла звесткі савецкаму камандаванню. У час выканання гэтага баявога задання М. Ф. Турцэвіч загінуў. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 7.4.1940 г.

На ўшанаванне памяці героя в. Каўбасічы перайменавана ў Турцэвічы.

*Г. І. Дулеба.*

**в. Убалаць, Зеляноцкі сельсавет**

**1048. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 129 воінаў, якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў ці памерлі ад ран у 1943—44 гг. У 1961 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна.

**в. Халоднікі, Даманавіцкі сельсавет**

**1049. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН, ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны 358 воінаў і партызан, якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў ці памерлі ад ран у 1943—44 гг. У 1965 г. на магіле пастаўлены помнікі — скульптура воіна, абапал якой 2 стэлы з барэльефнымі выявамі воінаў і з імёнамі 98 землякоў, што загінулі ў Вялікую Айчынную вайну.

**1050. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА Ў ГОНАР 101-Й ДАМАНАВІЦКАЙ ПАРТЫЗАНСКАЙ БРЫГАДЫ** (гіст.). На будынку клуба. Устаноўлена ў 1975 г. Гл. таксама артыкул № 990 «Мемарыяльная дошка ў гонар Даманавіцкіх падпольных райкомаў КП(б)Б і ЛКСМБ, 101-й Даманавіцкай партызанскай брыгады».

**1051. ПОМНІК ЛЕНІНУ** Уладзіміру Ільічу (гіст.). У цэнтры вёскі. Бюст У. І. Леніна ўстаноўлены ў 1960 г.

**в. Хамічы, Азарыцкі пасялковы Савет**

**1052. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). Каля школы. Пахаваны 144 воіны, што загінулі ў баях

супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў ці памерлі ад ран у 1943—44 гг. У 1965 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна.

**в. Хамічы, Ліпаўскі сельсавет**

**1053. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На заходняй ускраіне вёскі. Пахаваны 167 воінаў, што загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў ці памерлі ад ран у 1943—44 гг. У 1968 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна.

**в. Хобнае, цэнтр сельсавета**

**1054. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН, ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля клуба. Пахаваны 36 воінаў і партызан, што загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў ці памерлі ад ран у 1943—44 гг. У 1965 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна, у 1975 г.— 2 стэлы і 15 надмагільных пліт, якія ўшаноўваюць таксама памяць 182 аднавяскоўцаў, што загінулі ў Вялікую Айчынную вайну.

**в. Шарэйкі, Юравіцкі сельсавет**

**1055. ПАСЕЛІШЧЫ** (археал.).

**1055а.** Паселішча-1. За 0,5 км на поўнач ад вёскі, на паўночным беразе воз. Горкі, на 2 пясчаных узвышшах. Выявіў у 1960 г. і даследаваў у 1961, 1964, 1970 і 1973 гг. У. Ф. Ісаенка. На паверхні ўзвышшаў і ў агаленнях знойдзены крамянёвыя прылады працы і кераміка эпохі неаліту, а таксама пахаванне ранняга жалезнага веку з пахавальным абрадам трупаспалення.

**1055б.** Паселішча-2. За 3 км на ўсход ад вёскі, на паўночным беразе воз. Крывуля. Займае астанец першай надпоймавай тэрасы і цягнецца ўздоўж берага на 200 м. Выявіў у 1960 г. і даследаваў у 1961, 1969, 1970 і 1973 гг. У. Ф. Ісаенка. У тоўшчы гумуснага пласта на глыбіні 0,2—0,4 м ад паверхні знойдзена 37 крамянёвых прылад працы, 200 апрацаваных крамянёў, 170 абломкаў керамікі ад 13—15 пасудзін. Адносіцца да днепра-данецкай культуры, асобныя знаходкі — да культуры шнуравой керамікі, бронзавага веку.

**1055в.** Паселішча-3. На пясчаных узгорках уздоўж паўднёвага берага воз. Пясчанка. Даўжыня паселішча 140 м. Выявіў у 1961 г. і даследаваў у 1969, 1970 гг. У. Ф. Ісаенка. Культурны пласт — 0,2 м. Знойдзены 170 апрацаваных крамянёў, 23 крамянёвыя прылады працы, 70 фрагментаў ад 5—6 гліняных пасудзін. Адносіцца да днепра-данецкай культуры.

Матэрыялы раскопак захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

*Літ.:* Исаенко В. Ф. Неолит Припятского Полесья.— Мн., 1976.

*У. Ф. Ісаенка.*



1049. *Помнікі на брацкай магіле савецкіх воінаў і партызан.*

**в. Шычы, цэнтр сельсавета**

**1056. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). На паўднёвай ускраіне вёскі. Пахаваны 166 воінаў і 2 партызаны, якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў ці памерлі ад ран у 1943—44 гг. Сярод пахаваных — воіны 81-й і 356-й стралковых дывізій 61-й арміі, што загінулі ў студзені 1944 г. пры вызваленні раёна, намеснік камандзіра эскадрыллі 431-га штурмавога авіяпалка 16-й паветранай арміі малодшы лейтэнант Юрый Пятровіч Шлыкаў, які паўтарыў подзвіг М. Ф. Гастэлы.

13.1.1944 г. разам з іншымі лётчыкамі палка Ю. П. Шлыкаў бамбіў варожыя ўмацаванні, наносіў удары па жывой сіле і тэхніцы праціўніка ў Даманавіцкім р-не Палескай вобл. У час бою снарадам быў разбіты бензабак самалёта. Адважны лётчык накіраваў ахопленую полымем машыну на скопішча танкаў ворага.

У 1965 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна.

*Літ.:* В грозные годы.— Мн., 1973.

*Г. І. Дулеба.*

**в. Юравічы, цэнтр сельсавета**

**1057. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 325 воінаў, якія загінулі ў 1943—44 гг. у баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў ці памерлі ад ран. У 1964 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна.

**1058. ГАРАДЗІШЧА, КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.).

**1058а.** Гарадзішча. На тэрыторыі калгаснага саду. Вышыня гарадзішча над далінай Прыпяці 30 м. Адна пляцоўка плошчай каля 1 га умацавана падкowападобным валам вышынёй да 6 м і ровам глыбінёй 4 м, другая — плошчай 5 га з боку поля ўмацавана валам (знесены) і ровам (засыпаны). Даследавалі ў 1931 г. А. М. Ляўданскі і К. М. Палікарповіч, у 1965 і 1975 гг. У. Ф. Ісаенка. Культурны пласт 1 м. Знойдзены ляпная кераміка ранняга жалезнага веку, рэшткі ганчарных гаршкоў старажытнарускага часу, кафля 15—16 стагоддзяў. Каля падножжа ўзвышша побач з гарадзішчам прасочаны рэшткі пасада.



1059. *Будынак былога калегіума езуітаў. План 2-га паверха.*

**1058б.** Курганны могільнік. На поўдзень ад гарадзішча, за ярам. Раней было 14 курганоў, захавалася 6 насыпаў дыяметрам 4—10 м, вышынёй 1—3 м. Даследавалі ў 1931 г. А. М. Ляўданскі, у 1959 і 1976 гг. У. Ф. Ісаенка. У 5 раскапаных курганах пахавальны абрад — трупапалажэнне на гарызонце. Знойдзены філігранная пацерка, трохпацеркавыя завушніцы, рэшткі дамавін, якія змацаваны па вуглах жалезнымі цвікамі. Могільнік належаў дрыгавічам, датуецца 12—13 стагоддзямі.

Матэрыялы раскопак захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

*Літ.:* Исаенко В. Ф. Находка со знаком Рюриковичей.— Советская археология, 1967, № 2; його ж. Древняя история восточного Полесья.— Мн., 1975.

*У. Ф. Ісаенка.*

**1059. КАСЦЁЛ І КАЛЕГІУМ ЕЗУІТАЎ** (архіт.). У цэнтры вёскі, на беразе р. Прыпяць. Комплекс пабудаваны ў 1710—46 гг. з цэглы на месцы драўлянага кляштара, узведзенага ў 2-й палавіне 17 ст. З 1778 г. тут дзейнічаў езуіцкі калегіум. У 1820 г. перададзены бернардзінскаму ордэну. Закрыты пасля паўстання 1863—64 гг. Комплекс уключае касцёл і корпус калегіума, аб'яднаныя ў адзіную аб'ёмна-



1059. *Будынак былога калегіума езуітаў.*

прасторавую кампазіцыю. Размешчаны на высокім узгорку, за высокай мураванай агароджай з уязной брамай (захаваліся паўднёвая і заходняя сцены), абкружаны пладовым садам. Па вуглах агароджы і абапал брамы круглыя ў плане вежы з байніцамі. Цяпер у корпусе калегіума медыцынская ўстанова.

Касцёл. Трохнефавая мураваная базіліка з выцягнутай паўкруглай апсідай і двухвежавым галоўным фасадам, які падзелены на 3 ярусы развітымі антаблементамі, расчлянёны вязкамі пілястраў, крапаваны франтонамі. Разнастайныя нішы і вокны аздоблены складанымі профілямі і лепкай. Бакавыя сцены расчлянёны спаранымі лапаткамі і неглыбокімі нішамі. Абапал алтара двухпавярховыя сакрысціі. Да паўночнай сакрысціі прылягае двухпавярховы калідор, які вядзе ў будынак калегіума. Пад касцёлам размешчана крыпта.

Корпус калегіума. Двухпавярховы П-падобны ў плане. Сіметрычная аб'ёмна-прасторавая кампазіцыя будынка падкрэслена 2 трох'яруснымі вежамі на вуглах дваровага фасада. Сцены рытмічна расчлянёны пілястрамі, аконныя праёмы маюць фігурныя абрамленні. Планіроўка галерэйная з вялікай залай у цэнтры. Перакрыцці абодвух паверхаў скляпеністыя.

Касцёл і калегіум езуітаў — помнікі архітэктуры позняга барока.

*А. М. Кулагін.*

## 1060. ПАСЕЛІШЧЫ (археал.).

**1060а.** Паселішча-1. У цэнтры вёскі, на паўночна-заходнім стромкім схіле тэрасападобнага плато, якое ўзвышаецца над летнім межавым узроўнем вады ў Прыпяці на 24—25 м. Адкрыў у 1929 г. і даследаваў у 1929—31 гг. К. М. Палікарповіч, даследавалі ў 1958—60 гг. У. Дз. Будзько, у 1977 г. У. П. Ксяндзоў. Ускрыта 268 м². Культурны пласт на глыбіні 8—9 м ад паверхні плато складаецца з 2 гарызонтаў, раздзеленых праслойкай суглінку. У ніжнім гарызонце выяўлены рэшткі агнішчаў, выкладзеных камянямі, і руіны моцна дэфармаваных жытлаў з касцей мамантаў, буйных плоскіх і трубчатых касцей мамантаў. Сабраны крамянёвыя прылады працы: вастрыі з прытупленым рэтушшу краем, скрабкі, пласціны-нажы, нуклеусы. У верхнім гарызонце прасочаны рэшткі агнішчаў, выкладзеных камянямі, і руіны моцна дэфармаваных жытлаў з касцей маманта, буйных камянёў і пліт валуновага паходжання. Знойдзены: крамянёвыя бакавыя разцы, ножападобныя пласціны, вастрыі і пласцінкі з прытупленым рэтушшу краем, прылады з лускаватай падчоскай канцоў, скрабкі, адбойнікі, рэтушоры, нуклеусы; вырабы з біўня маманта — абломак капалкі, пласцінка з геаметрычным узорам у выглядзе шасцівугольнікаў і зігзагаў, абломкі пласцін з паліроўкай і штрыхоўкай па ўсёй паверхні. Паводле інвентару і вырабаў з косці верхні пласт помніка нагадвае паселішча Елісеевічы ў Бранскай вобласці, ніжні адносіцца да позняга палеаліту. Гэта адзін з самых старажытных помнікаў на Беларусі. Датуецца 26470±420 г.

Матэрыялы раскопак захоўваюцца ў Дзяржаўным музеі БССР.

**1060б.** Паселішча-2. За 1—1,5 км на паўднёвы захад ад цэнтра вёскі, на пясчаных узгорках. З паўночнага боку каля ўзгоркаў працякае р. Прыпяць. Паверхня пашкоджана выдзіманнямі, на месцы якіх прасочваецца пласт падзолу каля 0,3 м, перакрыты праслойкай наноснага пяску да 1 м. Адкрылі і абследавалі ў 1929—31 гг. К. М. Палікарповіч і А. Дз. Каваленя, даследаваў у 1960—65 гг. У. Ф. Ісаенка. На дне выдзіманняў выяўлены рэшткі 4 агнішчаў. Культурны пласт 0,3 м прасочваецца на працягу 0,3 км. Знойдзены 71 крамянёвая прылада працы, 280 апрацаваных крамянёў. Адносіцца да эпохі мезаліту (8—5-е тысячагоддзі да н. э.).

**1060в.** Паселішча-3. За 1 км на захад ад вёскі, на заходнім беразе воз. Ліцвін. Адкрыў і даследаваў (на плошчы 180 м²) у 1962—63 гг. У. Ф. Ісаенка. Культурны пласт 0,2—0,3 м на глыбіні 0,3—0,5 м. У паўночнай частцы раскопу ўскрыты рэшткі паўзямлянкавага жытла памерамі 5,0×3,4 м. Заглыбленая частка жытла запоўнена культурным пластом з праслойкамі вугалля. Уваход у паўзямлянку, верагодна, знаходзіўся ў паўднёвай частцы, дзе знойдзены некалькі перапаленых камянёў і пляма попелу. Знойдзены крамянёвы нож і некалькі кавалкаў керамікі. За 4 м на захад ад жытла прасочана яма дыяметрам 2 м і агнішча памерам 2,5× ×1,8 м. З усходняга боку жытла выяўлена некалькі месцаў з абломкамі посуду. Усяго знойдзена 300 апрацаваных крамянёў, 650 фрагментаў ляпной керамікі ад 35 вастрадонных гліняных гаршкоў. Адносіцца да ўсходнепалескага варыянта днепра-данецкай культуры эпохі неаліту.

**1060г.** Паселішча-4. За 0,2 км на поўнач ад паселішча Юравічы-3. Выявіў і даследаваў у 1962—66 гг. У. Ф. Ісаенка. Раскапана 570 м² плошчы. Каля наземнага жытла памерамі 4,6× ×4,8 м і рэшткаў 2 агнішчаў знойдзены абломкі ляпнога посуду, 700 апрацаваных крамянёў, 51 прылада працы (наканечнікі стрэл, праколкі, нажы, пласцінкі, скрабкі, скоблі). Адносіцца да ўсходнепалескага варыянта днепра-данецкай культуры (позні неаліт).

**1060д.** Паселішча-5. На паўночна-ўсходнім беразе воз. Ліцвін, каля Дома адпачынку чыгуначнікаў. Памеры 80×20 м. Адкрыў у 1960 г. У. Ф. Ісаенка. У 1968—69 гг. раскапана 142 м² плошчы. Каля ўскрытага агнішча знойдзены абломкі больш як 50 ляпных гаршкоў, 400 апрацаваных крамянёў, крамянёвыя трохвугольныя наканечнікі стрэл, трапецыі, скрабкі, скоблі, нажы з пласцін і шырокіх ад-



**1059.** *Будынак былога касцёла езуітаў.*



1060а. *Паселішча-1. План.*



1060а. *Паселішча-1.*

шчэпаў. Выяўлены таксама косці лася, каня, касулі. Адносіцца да ўсходнепалескага варыянта днепра-данецкай культуры. Паўночная частка помніка занята селішчам 6—8 ст. Выявіў у 1962 г. У. Ф. Ісаенка, даследаваў у 1976 г. В. Б. Перхаўка. Прасочаны рэшткі 2 жытлаў зрубнай канструкцыі плошчай 17 і 20 м², заглыбленых у зямлю. Посуд характэрны для культурнага тыпу верхняга пласта Банцараўшчыны.

Матэрыялы раскопак захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

*Літ.:* Исаенко В. Ф. Неолит Припятского Полесья.— Мн., 1976; Будько В. Д. Юревичская верхнепалеолитическая стоянка.— У кн.: Белорусские древности. Мн., 1967.

*У. Дз. Будзько, У. Ф. Ісаенка.*

**1061. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. На ўшанаванне памяці 185 жыхароў Юравіцкага сельсавета, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1967 г. пастаўлены абеліск.

**1062. ПОМНІК ЛЕНІНУ** Уладзіміру Ільічу (гіст.). У цэнтры вёскі, каля клуба. Скульптура У. І. Леніна ўстаноўлена ў 1975 г.

**1063. ПОМНІК ЛЕНІНУ** Уладзіміру Ільічу (гіст.). За 1 км на захад ад вёскі, на тэрыторыі піянерскага лагера. Скульптура У. І. Леніна ўстаноўлена ў 1975 г.

**1064. РАДЗІМА МІЦКЕВІЧА** Уладзіміра Фёдаравіча (гіст.).

Партыйны і дзяржаўны дзеяч БССР У. Ф. Міцкевіч нарадзіўся 21.1.1920 г. ў сялянскай сям'і. Член КПСС з 1944 г. У 1939 г. скончыў Гомельскі заатэхнікум, у 1940 г.— ваеннае авіятэхнічнае вучылішча, у 1953 г.— Вышэйшую партыйную школу пры ЦК КПСС. З 1939 г. ў Чырвонай Арміі. Удзельнік Вялікай Айчыннай вайны. Працаваў з 1946 г. інструктарам Тамбоўскага абкома ВКП(б), з 1948 г. дырэктарам Мінскай інкубатарна-птушкагадоўчай станцыі, з 1949 г. ў Мінскім абкоме КП(б)Б, аблвыканкоме. З 1950 г. другі, з 1951 г. першы сакратар Смалявіцкага райкома КП(б)Б. З 1955 г. старшыня Мінскага аблвыканкома, у 1962—68 гг. першы сакратар Гродзенскага абкома КПБ. З студзеня 1968 г. сакратар ЦК КПБ. З мая 1974 г. першы намеснік старшыні Савета Міністраў БССР. З 1976 г. член Цэнтральнай рэвізійнай камісіі КПСС. З 1956 г. член ЦК КПБ, з 1968 г. член Бюро ЦК КПБ. Дэпутат Вярхоўнага Савета СССР у 1962—70 гг. і ў 1974—83 гг., Вярхоўнага Савета БССР у 1955—63 гг. і ў 1967—83 гг. У 1985 г. на магіле ўстаноўлены бюст У. Ф. Міцкевіча. Яго імя прысвоена цеплаходу Гомельскага рачнога параходства, саўгасу-тэхнікуму ў Калінкавічах.

Памёр 16.2.1983 г. Пахаваны ў Мінску на Усходніх могілках.

*Г. І. Дулеба.*

**в. Юшкі, Дудзіцкі сельсавет**

**1065. ГАРАДЗІШЧЫ** (археал.).

**1065а.** Гарадзішча-1. Мясцовая назва Вялікае Гарадзішча. За 2 км на поўнач ад вёскі, сярод балота, каля чыгункі. Пляцоўка авальная, памерам 73×85 м, абнесена валам вышынёй 1,5—2 м, шырынёй 12—18 м. Адкрыў у 1928 г. В. П. Тарановіч, абследаваў у 1975 г. В. Е. Собаль. Раскопкі не праводзіліся.

**1065б.** Гарадзішча-2. Мясцовая назва Малое Гарадзішча. За 1,5 км на паўночны захад ад вёскі. Пляцоўка авальная, памерам 95×115 м, абнесена валам вышынёй каля 1 м, шырынёй 12 м. Адкрыў у 1928 г. В. П. Тарановіч, абследаваў у 1975 г. В. Е. Собаль. Раскопкі не праводзіліся.

*Літ.:* Тарановіч [В. П.] Старасветчына Мазыршчыны ў матэрыяльных помніках.— Наш край, 1928, № 8—9.

*В. Е. Собаль.*

**1066. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны 4 жыхары вёскі, якіх летам 1943 г. расстралялі нямецка-фашысцкія акупанты. У 1950 г. на магіле пастаўлены мемарыяльны знак.

**в. Якімавічы, цэнтр сельсавета**

**1067. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны 220 воінаў і 3 партызаны, якія загінулі ў 1943—44 гг. у баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў ці памерлі ад ран. У 1963 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна.

**в. Ямнае, Капліцкі сельсавет**

**1068. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. На ўшанаванне памяці 26 аднавяскоўцаў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1969 г. пастаўлена стэла.




# КАРМЯНСКІ РАЁН

Залатаміно
Акцяброва
Рудня
Валынцы
Каменка
Ліцвінавічы
Струмень
Барсукі
КАРМА
Кляпіна
Стараград
Хізаў
Кароцькі
Багданавічы
Высокае
Баравая Буда
Ворнаўка
Струкачоў
Лужок
Дубавіца

Цэнтр раёна

Цэнтры сельсаветаў

Стаянкі, паселішчы, гарадзішчы

Могільнікі (грунтавыя, курганныя), курганы

Помнікі гаспадарчай дзейнасці, прамысловая архітэктура, гідратэхнічныя збудаванні дасавецкага перыяду

Помнікі і месцы рэвалюцыйнага руху (Рэвалюцыя 1905–07 гг., Вялікая Кастрычніцкая сацыялістычная рэвалюцыя, Грамадзянская вайна, барацьба працоўных Заходняй Беларусі)

Помнікі і памятныя месцы Вялікай Айчыннай вайны (месцы баёў, магілы савецкіх воінаў і партызан, Курганы Славы, помнікі землянам і інш.)

Помнікі ахвярам фашызму (месцы канцлагераў і лагераў смерці, месцы масавай загубы насельніцтва, спаленыя і неадноўленыя вёскі і інш.)

Помнікі і месцы, звязаныя з імёнамі савецкіх партыйных, дзяржаўных і гаспадарчых дзеячаў, дзеячаў культуры, навукі і тэхнікі

## XIV. КАРМА

Гарадскі пасёлак, цэнтр раёна. Прыстань на р. Сож. За 110 км на поўнач ад Гомеля, 55 км ад чыгуначнай станцыі Рагачоў на лініі Магілёў — Жлобін. Аўтамабільнымі дарогамі злучана з Чачэрскам, Гомелем, Магілёвам, Рагачовам. Вядома з 17 ст. як мястэчка Рэчыцкага павета Мінскага ваяводства Вялікага княства Літоўскага. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772 г.) у складзе Расійскай імперыі, мястэчка, цэнтр воласці Рагачоўскага павета Магілёўскай, Беларускай губерняў. Належала дваранскаму роду Быкоўскіх. На канец 19 ст. (1880 г.) было 149 драўляных дамоў, 36 крам, мураваная царква (пабудавана ў 1832 г.), 3 сінагогі, вадзяны млын. Паводле перапісу 1897 г. ў Карме 2649 жыхароў.

Напярэдадні і ў Рэвалюцыю 1905—07 гг. дзейнічала арганізацыя РСДРП Палескага камітэта РСДРП, у сакавіку — красавіку 1917 г. створаны Савет рабочых дэпутатаў. Савецкая ўлада ўстаноўлена ў лістападзе 1917 г. У 1918—19 гг. у воласці працаваў П. М. Лепяшынскі. У 1923 г. ў Карме было 1,5 тыс. жыхароў. У 1919—24 гг. пасёлак у складзе Гомельскай губерні РСФСР, з сакавіка 1924 г. ў складзе БССР. У ліпені 1924 г. — ліпені 1930 г. цэнтр раёна Магілёўскай акругі, з 15.1.1938 г. ў складзе Гомельскай вобл. З 27.9.1938 г. гарадскі пасёлак.

У Вялікую Айчынную вайну з жніўня 1941 г. акупіравана нямецка-фашысцкімі захопнікамі. 3 мая 1942 г. на тэрыторыі раёна дзейнічаў Кармянскі партызанскі атрад. З 15.8.1941 г. да 2.10.1943 г. дзейнічалі падпольныя райкомы КП(б)Б і ЛКСМБ. 25.11.1943 г. Карма вызвалена воінамі 121-й гвардзейскай дывізіі 3-й арміі Беларускага фронту. У 1962—65 гг. Карма ў Рагачоўскім, у 1965—66 гг. у Чачэрскім р-нах. У 1966 г. Кармянскі р-н адноўлены.

Сучасная планіроўка пасёлка прамавугольная, квартальная. У месцы перасячэння вуліц Ільюшэнкі і Абатурава, дзе цяпер сквер, была рыначная плошча — гістарычны цэнтр паселення. Паводле генплана 1964 г., распрацаванага Гомельскім філіялам інстытута «Белдзяржпраект», у пачатку вул. Ільюшэнкі пабудаваны новы грамадскі цэнтр. Тут на цэнтральнай плошчы размешчаны будынкі Дома Саветаў, Дома культуры, гасцініцы, універмага, рэстарана. Вул. Кастрычніцкая звязвае цэнтр пасёлка з вул. Абатурава. Капітальная жылая забудова вядзецца ў раёне вуліц Леніна, Ільюшэнкі, Абатурава і Кастрычніцкай. У паўночна-ўсходняй частцы пасёлка фарміруецца новы жылы раён з 3—5-павярховымі дамамі.

Прамысловыя прадпрыемствы: філіял Рэчыцкага вытворчага ткацкага аб'яднання «Чырвоны Кастрычнік», хлебазавод, малаказавод, ільнозавод, спіртзавод, цэх па перапрацоўцы сельскагаспадарчай сыравіны, камбінат будаўнічых матэрыялаў. Працуюць: камбінат бытавога абслугоўвання, раённыя аб'яднанні Дзяржкамсельгастэхнікі і «Сельгасхімія». У пасёлку 3 сярэднія (у т. л. школа-інтэрнат), вячэрняя сярэдняя, музычная і дзіцяча-юнацкая спартыўная школы, 3 дзіцячыя дашкольныя ўстановы, 2 бібліятэкі, бальніца. Выдаецца газета «Зара над Сожам». Помнікі: на брацкіх магілах змагароў за Савецкую ўладу, савецкіх воінаў і партызан, на магіле ахвяр фашызму.

Зона адпачынку — берагі р. Сож.

*Літ.:* Дембовецкий А. С. Опыт описания Могилёвской губернии... Кн. 2.— Могилёв, 1884; Горбатов А. В. Годы и войны.— М., 1965; Хохлов А. Красная гвардия Белоруссии в борьбе за власть Советов (март 1917 — март 1918 гг.).— Мн., 1965; В боях и походах.— Мн., 1972; Михайлашев Н. Буря гнева: Записки чекиста.— Мн., 1971; Горбатов А., Ивашечкин М. Наступление 3-й армии севернее Гомеля.— Военно-исторический журнал, 1962, № 8; Дончик В. Д. Рогачёв: Историко-экономический очерк.— Мн., 1974.

*У. В. Алісейчык, А. П. Грыцкевіч.*




XIV. *Цэнтральная плошча.*

**1069. БРАЦКАЯ МАГІЛА ЗМАГАРОЎ ЗА САВЕЦКУЮ ЎЛАДУ** (гіст.). Каля Дома культуры, у скверы. Пахаваны член Кармянскага рэўкома І. Г. Абатураў, начальнік міліцыі І. А. Ільюшэнка і старшы міліцыянер Ф. М. Давыдзенка, актывіст Гашко, якія загінулі ў лютым 1919 г. ў час кулацкага мяцяжу.

25.2.1919 г. мясцовае кулацтва, падбухторваемае белагвардзейцамі, духавенствам і эсэрамі, захапіла ўладу ў Кармянскай воласці, пачаліся пагромы і забойствы савецкіх актывістаў. У Карму быў накіраваны створаны ў Рагачове для падтрымання рэвалюцыйнага парадку ўзвод асобага прызначэння, які 26.2.1919 г. ліквідаваў мяцеж.

У 1962 г. на магіле пастаўлены абеліск. Імёнамі І. Г. Абатурава, І. А. Ільюшэнкі, Ф. М. Давыдзенкі названы вуліцы ў Карме.

*Літ.:* В боях за Белоруссию.— 2 изд.— Мн., 1974.

**1070. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН, ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). На плошчы, у скверы. Пахаваны 72 воіны і партызаны, якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у 1943 г.

Пасёлак быў вызвалены ў выніку Гомельска-Рэчыцкай наступальнай аперацыі (кастрычнік — лістапад 1943 г.) вайсковымі падраздзяленнямі 3-й арміі (камандуючы генерал-лейтэнант А. В. Гарбатаў) Беларускага фронту. Наступленне на Карму — моцны вузел абароны фашысцкіх войск на Гомельскім напрамку — пачалося 22.11.1943 г. 121-я гвардзейская дывізія наносіла ўдары па ворагу уздоўж заходняга берага р. Сож.



XIV. *Вуліца Кастрычніцкая. Фрагмент забудовы.*



XIV. *Фрагмент жылой забудовы паўночна-ўсходняй часткі пасёлка.*

24 лістапада 342-і і 340-ы стралковыя палкі гэтай дывізіі выйшлі на паўночную і паўночна-ўсходнюю, усходнюю і паўднёва-ўсходнюю ўскраіны пасёлка. 25.11.1943 г. супраціўленне ворага было зламана, пасёлак вызвалены.

У 1967 г. на брацкай магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна, абапал яе дошкі з імёнамі 290 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну.

*Літ.:* Освобождение Белоруссии. 1944.— 2 изд.— М., 1974; Горбатов А. В. Годы и войны.— М., 1965. *М. К. Кошалеў.*

**1071. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). Вул. Леніна, на могілках. Пахаваны каля 1,5 тыс. мірных жыхароў пасёлка і іншых населеных пунктаў Гомельскай вобл., закатаваных нямецка-фашысцкімі захопнікамі ў 1941—43 гг. У 1966 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**1072. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА СУПРАЦОЎНІКАМ МІЛІЦЫІ** (гіст.). Вул. Абатурава, 8, на будынку Кармянскага райаддзела ўнутраных спраў. На ўшанаванне памяці капітана міліцыі І. І. Балахонава (загінуў 5.1. 1966 г. пры выкананні службовых абавязкаў) і старшага лейтэнанта міліцыі М. Ф. Малайчука (загінуў 17.2. 1965 г. пры выкананні службовых абавязкаў). М. Ф. Малайчук пасмяротна ўзнагароджаны ордэнам Чырвонай Зоркі, яго імем названы вуліцы ў Гомелі і Карме.

**в. Акцяброва, цэнтр сельсавета**

**1073. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ, ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі, каля клуба. Пахаваны 31 воін, якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў на тэрыторыі раёна. У 1963 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна. Побач устаноўлены дошкі з імёнамі 234 землякоў, што загінулі ў Вялікую Айчынную вайну.

**в. Багданавічы, Кароцькаўскі сельсавет**

**1074. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 1,5 км на паўднёвы захад ад вёскі. 7 курганоў дыяметрам 10—12 м, вышынёй да 1,5 м. Вядомы з 1873 г., абследаваў у 1976 г. В. І. Шадыра. Раскопкі не праводзіліся.

**в. Барсукі, цэнтр сельсавета**

**1075. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ, ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны 72 воіны, якія загінулі ў 1943 г. на тэрыторыі раёна ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў.

Пасля вызвалення 25.11.1943 г. Кармы часці 3-й арміі Беларускага фрон-



XIV. *Забудова вуліцы Ільюшэнкі.*



1069. *Помнік на брацкай магіле змагароў за Савецкую ўладу.*



1070. *Помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў і партызан.*

ту працягвалі наступленне. 337-ы і 340-ы палкі 121-й гвардзейскай стралковай дывізіі наступалі ў напрамку вёсак Барсукі, Навасёлкі, Рэут. Нямецка-фашысцкае камандаванне падцягнула сюды пяхоту і танкі і нанесла рад моцных контрудараў па левым флангу 340-га палка. Аднак атакі ворага былі адбіты, і 26 лістапада часці Чырвонай Арміі выйшлі да Дняпра.

У 1958 г. на магіле воінаў, якія загінулі ў гэтых баях, пастаўлены помнік — скульптура воіна з аўтаматам. Побач устаноўлены дошкі з імёнамі 155 землякоў, што загінулі ў Вялікую Айчынную вайну.

*Літ.:* Горбатов А. В. Годы и войны.— М., 1965; Горбатов А., Ивашечкин М. Наступление 3-й армии севернее Гомеля.— Военно-исторический журнал, 1962, № 8. *М. К. Кошалеў.*



1076. *Ветраны млын. Разрэз.*

**в. Бярозаўка, Каменскі сельсавет**

**1076. ВЕТРАНЫ МЛЫН** (архіт.). На поўнач ад вёскі. Пабудаваны ў 1905 г. з дрэва.

Млын шатровага тыпу з 2 паставамі. Каркасны корпус (усечаная васьміганная піраміда) пастаўлены на нізкі зруб. Корпус увянчаны шатром з гарызантальным валам, на канцы якога ўмацаваны крылы. Шацёр паварочваецца на 2 дубовых кольцах, ва ўнутраныя пазы якіх укладзены металічныя шары. Паварот ажыццяўляецца з зямлі з дапамогай 2 жэрдак, прымацаваных да бакавых кансольных бэлек шатра. На яго гарызантальную вось насаджана вядучае кола-шасцярня, звязанае з цэўкамі шасцярні вертыкальнай восі — масіўнага дубовага бруса. Унізе на восі замацавана другое кола-шасцярня, якое счэплена з цэўкамі гарызантальных шасцерняў, звязаных з верхнімі камянямі жорнаў. Над кожным з паставаў умацаваны коўш для засыпкі зерня.

Млын — помнік традыцыйнага прамысловага дойлідства Беларусі. *У. В. Алісейчык.*

**1077. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 1,5 км на поўдзень ад вёскі, справа ад дарогі на в. Пакроўск. 3 курганы вышынёй 1 м, 2,7 м і 3,5 м, дыяметрам 6,5—10 м. Вядомы з 1873 г., абследаваў у 1976 г. В. І. Шадыра. Раскопкі не праводзіліся.

**пас. Вазнясенск, Ліцвінавіцкі сельсавет**

**1078. ГАРАДЗІШЧА** (археал.). Мясцовая назва Гарадок. За 0,3 км на поўдзень ад пасёлка, на правым беразе р. Вілянка (левы прыток р. Сож). Вядома з 1873 г. Абследавалі ў 1956 г. В. М. Мельнікоўская, у 1975 г. В. І. Шадыра. Пляцоўка авальная, памерам 60×45 м. З паўднёвага захаду і захаду — забалочаны поплаў. З поўдня і паўднёвага ўсходу гарадзішча абмежавана глыбокім ярам, з поўначы і паўночнага ўсходу ўмацавана 3 валамі і равамі. Вышыня валоў 1,8—2 м, глыбіня равоў 2 м. Унутраны вал на ўсходняй частцы вышынёй 3 м насыпаны па краі пляцоўкі. Культурны пласт 1,2 м прасочаны ў заходняй частцы пляцоўкі. Знойдзена кераміка. Адносіцца да мілаградскай культуры ранняга жалезнага веку, датуецца 7 ст. да н. э.— 3 ст. н. э.

Матэрыялы абследавання захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

*Літ.:* Сведения 1873 г. о городищах и курганах.— Известия Археологической комиссии. СПб., 1903, в. 5; Мельниковская О. Н. Племена Южной Белоруссии в раннем железном веке.— М., 1967. *В. І. Шадыра.*

**в. Валынцы, цэнтр сельсавета**

**1079. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАНА** (гіст.). На паўночнай ускраіне вёскі, каля школы. Пахаваны 168 воінаў і 1 партызан, якія загінулі ў 1943—44 гг. у баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў на тэрыторыі раёна. У 1959 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна з аўтаматам.

**1080. СЕЛІШЧА, КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.).



1078. *Гарадзішча.*

**1080а.** Селішча. За 3,5 км на поўнач ад вёскі. Займае мыс левага размытага берага р. Сож. Памеры 125×100 м. Вышыня схілаў з усходняга боку 2,5 м, з паўночнага — 2,6 м, з заходняга — 3,8 м. Адкрыў і абследаваў у 1910 г. Е. Р. Раманаў, абследаваў у 1976 г. В. І. Шадыра. Культурны пласт у абрывах 0,25 м. Раскопкі не праводзіліся.

**1080б.** Курганны могільнік. За 3,5 км на поўнач ад вёскі, на высокім левым беразе р. Сож, за 0,6 км на паўночны ўсход ад прыстані Прыбар, ва ўрочышчы Курганне. 38 насыпаў вышынёй 0,4—2 м, дыяметрам 6—10 м. Адкрыў і абследаваў у пачатку 20 ст. Е. Р. Раманаў, абследавалі ў 1928 г. К. М. Палікарповіч, у 1976 г. В. І. Шадыра. Раскопкі не праводзіліся.

*Літ.:* Романов Е. Р. Археологический очерк Гомельского уезда (Могилёвской губернии).— Вильна, 1910; Палікарповіч К. М. Дагістарычныя стаянкі сярэдняга і ніжняга Сажа.— Запіскі аддзела гуманітарных навук, 1928, кн. 5, т. 1. *В. І. Шадыра.*

**в. Васільеўка, Струменскі сельсавет**

**1081. ПАСЕЛІШЧА** (археал.). За 0,5 км на паўночны ўсход ад вёскі, каля старыцы воз. Пральня. Займае невысокае (1,5 м над поймай) узвышша, выцягнутае ўздоўж паўночнага берага возера на 80 м. Выявіў у 1927 г. К. М. Палікарповіч, абследавала ў 1975 г. А. Г. Калечыц. Культурны пласт каля 0,1 м. Знойдзены крамянёвыя адшчэпы, пласцінкі, праколкі, скрабкі, скрэбла, сякерападобныя прылады працы. Адносіцца да эпохі мезаліту. Датуецца 8—4-м тысячагоддзем да н. э.

Матэрыялы абследавання зберагаюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР. *А. Г. Калечыц.*




**1080б.** *Курганны могільнік. План.*



**1084.** *Гарадзішча.*

**в. Вашчанкі, Ліцвінавіцкі сельсавет**

**1082. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ, ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). На паўднёвай ускраіне вёскі, у скверы. Пахаваны 3 воіны, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну. У 1968 г. на магіле пастаўлены абеліск. Абапал яго — дошкі з імёнамі 150 землякоў, што загінулі ў Вялікую Айчынную вайну.

**в. Ворнаўка, цэнтр сельсавета**

**1083. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ, ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі, насупраць будынка клуба. Пахаваны 63 воіны, якія загінулі ў 1943—44 гг. на тэрыторыі раёна ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1958 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна з аўтаматам. Побач — мемарыяльныя дошкі з імёнамі 152 землякоў, што загінулі ў Вялікую Айчынную вайну.

**1084. ГАРАДЗІШЧА** (археал.). За 1,5 км на поўдзень ад вёскі, ва ўрочышчы Грэнск, на правым высокім беразе р. Сож. Пляцоўка авальнай формы, памерам 66×73 м. З паўночна-заходняга боку ўмацавана дугападобным валам даўжынёй 85 м і вышынёй 2,5 м. З паўднёвага і паўднёва-заходняга бакоў прасочаны 2 валы даўжынёй 30—40 м, шырынёй 4—6 м і равы глыбінёй 0,4—0,6 м. Вядома з канца 19 ст. Даследавалі ў 1936 г. А. М. Ляўданскі і А. Дз. Каваленя, раскапана 220 м² плошчы. У культурным пласце 0,5—1 м выяўлены шмат ляпной керамікі, прасліцы, падвеска, касцяная іголка, 2 ліцейныя формы, бронзавыя кольца, жалезная сякера-кельт. Прасочаны 2 каменныя агнішчы, а таксама месцы плаўкі жалеза. У 1957 г. абследавала В. М. Мельнікоўская, у 1969 г. У. Дз. Будзько і Е. А. Шмідт, у 1975 г. В. І. Шадыра. Адносіцца да мілаградскай і зарубінецкай культур ранняга жалезнага веку, датуецца 7—6 ст. да н. э.— 2 ст. н. э.

Матэрыялы раскопак захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

*Літ.:* Сведения 1873 г. о городищах и курганах.— Известия Археологической комиссии. СПб., 1903, в. 5; Поболь Л. Д. Славянские древности Белоруссии: (свод археологических памятников раннего этапа зарубинецкой культуры — с середины III в. до н. э. по начало II в. н. э.).— Мн., 1974. *В. І. Шадыра.*

**в. Высокае, Ворнаўскі сельсавет**

**1085. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. На ўшанаванне памяці 62 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1975 г. пастаўлены абеліск.

**в. Дубавіца, Струкачоўскі сельсавет**

**1086. ГАРАДЗІШЧА** (археал.). За 1 км на паўночны ўсход ад вёскі, за 0,1 км справа ад дарогі на в. Расохі, на мысе правага берага р. Горна. Пляцоўка авальная, памерам 33×30 м, вышыня над поймай ракі 12 м. З паўночнага, усходняга і паўднёвага бакоў прасочаны вал вышынёй 2 м і роў глыбінёй 2,5 м. З паўночнага боку знаходзіцца ўезд на пляцоўку ў выглядзе перамычкі рова шырынёй 2,5 м. З поўдня і паўднёвага ўсходу каля асновы вала праходзіць траншэя часоў Айчыннай вайны 1941—45 гг. Гарадзішча вядома з 1873 г. Абследаваў у 1976 г. В. І. Шадыра. Культурны пласт 0,4 м. Раскопкі не праводзіліся.

*Літ.:* Сведения 1873 г. о городищах и курганах.— Известия Археологической комиссии. СПб., 1903, в. 5; Древности железного века в междуречье Десны и Днепра.— М., 1962.— (Свод археологических источников; в. Д 1—12). *В. І. Шадыра.*

**в. Енцы, Ворнаўскі сельсавет**

**1087. РАДЗІМА НЕСЦЯРОВІЧА** Паўла Уладзіміравіча — Героя Савецкага Саюза (гіст.). Гл. артыкул № 54 «Магіла Несцяровіча Паўла Уладзіміравіча».



**1091а.** *Гарадзішча. План.*



1092. *Курганны могільнік.*

**в. Задуб'е, Старагрздскі сельсавет**

**1088. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На паўночнай ускраіне вёскі. Пахаваны 36 воінаў, якія загінулі ў 1941 і 1943 гг. на тэрыторыі раёна ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. Сярод пахаваных — воіны 121-й гвардзейскай дывізіі 3-й арміі Беларускага фронту. У 1966 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Залатаміно, цэнтр сельсавета**

**1089. ГАРАДЗІШЧА** (археал.). За 0,5 км на паўночны захад ад вёскі, на правым беразе безыменнага ручая, прытока р. Сож. Займае высокі ўчастак берагавой тэрасы (вышыня над поймай 6—7 м). Помнік добра захаваўся. Пляцоўка круглая, дыяметрам 25 м, умацавана 2 падковападобнымі валамі і равамі. Вышыня ўнутранага вала 2,5—3 м, вонкавага — 1—1,5 м. Глыбіня равоў 5 і 1 м. З паўднёвага боку пляцоўка прымыкае да абрыву тэрасы. Абследаваў у 1981 г. С. Я. Расадзін. У 2 шурфах памерам 1×1 м выяўлены культурны пласт 0,3 м, у якім знойдзены фрагменты ляпной керамікі.

Матэрыялы абследавання захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.
*С. Я. Расадзін.*

**1090. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У скверы. На ўшанаванне памяці землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1967 г. пастаўлены абеліск.

**в. Зяцькавічы, Ліцвінавіцкі сельсавет**

**1091. ГАРАДЗІШЧА, КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.).

**1091а.** Гарадзішча. За 1,5 км на паўднёвы ўсход ад вёскі, на правым беразе р. Мужанка, ва ўрочышчы Гарадок. Пляцоўка круглая, дыяметрам 55 м. З заходняга боку ўмацавана 2 дугападобнымі валамі даўжынёй 120 і 130 м, шырынёй 3—5 м, вышынёй каля 2 м і равамі глыбінёй 0,6—0,8 м. Даследавалі ў 1936 г. А. М. Ляўданскі і А. Дз. Каваленя, у 1976 г. В. І. Шадыра. У культурным пласце 0,3—0,6 м знойдзены косці жывёл, камяні, абломкі глінянага посуду. Адносіцца да мілаградскай культуры, датуецца 7 ст. да н. э.— 2 ст. н. э. Матэрыялы раскопак захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

**1091б.** Курганны могільнік. За 0,6 км на паўднёвы захад ад вёскі. 3 курганы вышынёй 1,3, 1,7 і 1,8 м, дыяметрам 6,7 і 15 м. Вядомы з 1873 г. Абследавалі ў 1956 г. В. М. Мельнікоўская, у 1976 г. В. І. Шадыра. Раскопкі не праводзіліся.

*Літ.:* Сведения 1873 г. о городищах и курганах.— Известия Археологической комиссии. СПб., 1903, в. 5. *В. І. Шадыра.*

**в. Казімірова, Залатамінскі сельсавет**

**1092. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 1 км на поўнач ад вёскі, абапал дарогі на в. Глінка Паштовая, на правым беразе р. Сож. 46 курганоў вышынёй ад 0,6 да 2,85 м, дыяметрам ад 5 да 12 м. З паўночнага боку могільніка знаходзіцца глыбокі і шырокі роў. Вядомы з 1873 г. Абследавалі ў 1893 г. Е. Р. Раманаў, у 1976 г. В. І. Шадыра. Раскопкі не праводзіліся.

*Літ.:* Сведения 1873 г. о городищах и курганах.— Известия Археологической комиссии. СПб., 1903, в. 5; Заметка Е. Р. Романова о дополнительных археологических местонахождениях.— У кн.: Труды Виленского отделения Московского предварительного комитета по устройству в Вильне 9 археологического съезда. Вильно, 1893. *В. І. Шадыра.*

**1093. ПАСЕЛІШЧА** (археал.). За 0,7 км на ўсход ад вёскі, на невысокім (3 м над наваколлем) узвышшы. Выявіў у 1927 г. К. М. Палікарповіч, абследавала ў 1975 г. А. Г. Калечыц. У культурным пласце 0,3 м знойдзены крамянёвыя вырабы і рэшткі ляпной керамікі. Адносіцца да эпохі неаліту і бронзавага веку. Матэрыялы абследавання захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

**в. Каменка, цэнтр сельсавета**

**1094. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны 77 воінаў, якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у 1944 г. У 1958 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна з аўтаматам.

**1095. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі, у скверы. На ўшанаванне памяці 255 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1976 г. пастаўлены мемарыяльны знак.

**в. Карэцькі, цэнтр сельсавета**

**1096. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У скверы, насупраць васьмігадовай школы. На ўшанаванне памяці 149 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1970 г. пастаўлены помнік — скульптурная кампазіцыя: 3 воіны.

**в. Касцюкоўка, Залатамінскі сельсавет**

**1097. КУРГАН СЛАВЫ** (гіст.). За 0,5 км на поўнач ад вёскі, на беразе р. Сож.

У ходзе Гомельска-Рэчыцкай аперацыі 1943 г. па вызваленню міжрэчча Сажа і Дняпра перад войскамі 3-й арміі (камандуючы — генерал-лейтэнант А. В. Гарбатаў), якая ўваходзіла ў склад Беларускага фронту, была пастаўлена задача: актыўнымі дзеяннямі адцягнуць на сябе з напрамку галоўнага ўдару савецкіх войск част-



1096. *Помнік землякам.*

ку сіл праціўніка, што дало б магчымасць хутчэй вызваліць г. Гомель. Камандаванне 3-й арміі вырашыла перайсці ў наступленне з невялікага плацдарма на заходнім беразе р. Сож у раёне в. Міхеева. 12 кастрычніка 120-я, 121-я гвардзейскія і 269-я стралковая дывізіі 3-й арміі прарвалі абарону праціўніка. Былі вызвалены вёскі Міхеева, Студзянец, Салабута, але пад моцным агнём ворага савецкія воіны мусілі адысці. 23 лістапада савецкія войскі зноў пачалі наступленне. 283-я і 17-я стралковыя дывізіі наступалі ў напрамку в. Хляўно, 362-я дывізія з мэтай расшырэння прарыву ў паўночным напрамку, 121-я на в. Ліцвінавічы і г. п. Карму. У напружаных баях савецкія воіны праявілі мужнасць і масавы гераізм. Асабліва вызначыўся камандзір асобнай стралковай роты капітан М. Г. Калінкін, які закрыў сваім целам амбразуру варожага дзота (гл. артыкул № 1126 «Магіла Калінкіна Міхаіла Герасімавіча»). Войскі 3-й арміі прарвалі абарону праціўніка, з баямі прайшлі 16 км шырынёй па фронту да 20 км, перарэзалі шашу Слаўгарад — Доўск, што дало магчымасць пераправіцца на правы бераг Сажа другому эшалону арміі і працягваць наступленне. У ходзе яго войскі 3-й арміі стварылі пагрозу акружэння гомельскай групоўкі праціўніка з поўначы, адцягнулі на сябе частку сіл праціўніка з-пад Гомеля. За выкананне гэтай аперацыі 121-й гвардзейскай стралковай і 283-й стралковай дывізіям было нададзена найменне «Гомельскіх».

У 1968 г. ў памяць аб гераізме савецкіх воінаў на месцы прарыву насыпаны Курган Славы, каля яго асновы ўстаноўлена пліта з апісаннем подзвігу Героя Савецкага Саюза М. Г. Калінкіна.

*Літ.:* Горбатов А. В. Годы и войны.— М., 1965; Навечно в сердце народном.— 3 изд.— Мн., 1984. *М. К. Кошалеў.*

**1098. ПАСЕЛІШЧА** (археал.). За 0,8 км на поўдзень ад вёскі, ва ўрочышчы Узлужжа. Выявіў у 1924 К. М. Палікарповіч, абследавала ў 1975 г. А. Г. Калечыц. У культурным пласце 0,15 м знойдзены крамянёвыя вырабы і рэшткі ляпной керамікі. Паселішча адносіцца да каменнага і бронзавага вякоў. Частка пласцiністых наканечнікаў стрэл, магчыма, эпохі мезаліту. Матэрыялы абследавання захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

**в. Кляпіна, Валынецкі сельсавет**

**1099. БРАЦКАЯ МАГІЛА ПАРТЫЗАН** (гіст.). За 0,2 км на поўнач ад вёскі. Пахаваны партызаны М. М. Сляпцоў і К. І. Чабаткоў, якія загінулі ў барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у 1942 г. У 1949 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**1100. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 3 км на поўнач ад вёскі, за 0,7 км ад моста цераз р. Кляпінка, абапал дарогі на Валынцы. 4 насыпы: 3 справа ад дарогі і 1 злева вышынёй 1,3—1,6 м, дыяметрам 6,5—8,5 м. Курганы зараслі лесам і здзірванелі. Адкрыў і абследаваў у 1976 г. В. І. Шадыра. Раскопкі не праводзіліся.

**1101. МАГІЛА КАЧУЕЎСКАГА** Паўла Паўлавіча (гіст.). На могілках. Камандзір партызанскага атрада «Другія» П. П. Качуеўскі загінуў 4.7.1942 г. ў баі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1949 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Курганне, Акцябраўскі сельсавет**

**1102. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На могілках. Пахаваны воіны, якія загінулі ў 1941 і 1943 гг. у баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1967 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**1103. КУРГАННЫЯ МОГІЛЬНІКІ** (археал.).

**1103а.** Могільнік-1. За 0,4 км на поўдзень ад вёскі. 15 курганоў вышынёй 1—2,3 м, дыяметрам 3—10 м. Выявіў і абследаваў у 1976 г. В. І. Шадыра. Раскопкі не праводзіліся.

**1103б.** Могільнік-2. За 0,5 км на паўднёвы захад ад вёскі. 20 курганоў вышынёй 1—3 м, дыяметрам 5—10 м. Выявіў і абследаваў у 1976 г. В. І. Шадыра. Раскопкі не праводзіліся.

**в. Лазовіца, Струменскі сельсавет**

**1104. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. На ўшанаванне памяці аднавяскоўцаў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1956 г. пастаўлены абеліск.

**в. Лебядзёўка, Каменскі сельсавет**

**1105. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 0,25 км на паўднёвы ўсход ад вёскі. 7 курганоў вышынёй 1,4—2 м, дыяметрам 6,5—10 м. Вядомы з 1873 г. Абследаваў у 1975 г. В. І. Шадыра. Раскопкі не праводзіліся.



**1103а.** *Курганны могільнік-1.*



**1110.** *Помнік П. М. Лепяшынскаму.*

**в. Ліцвінавічы, цэнтр сельсавета**

**1106. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ, ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля сярэдняй школы. Пахаваны 105 воінаў, якія загінулі ў лістападзе 1943 г. пры вызваленні раёна ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1958 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна. Побач устаноўлены дошкі з імёнамі 76 землякоў, што загінулі ў Вялікую Айчынную вайну.

**1107. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 0,3 км на захад ад вёскі. Захаваліся 3 насыпы вышынёй 1,2, 2 і 2,2 м, дыяметрам адпаведна 5, 7 і 8 м. Вядомы з 1873 г. Абследаваў у 1976 г. В. І. Шадыра. Раскопкі не праводзіліся.

**1108. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА ЛЕПЯШЫНСКАМУ** Панцеляймону Мікалаевічу (гіст.). На будынку сярэдняй школы. Устаноўлена ў 1959 г.

Летам 1918 г. П. М. Лепяшынскі прыехаў у Ліцвінавічы, каб заснаваць па прапанове У. І. Леніна працоўную школу. Неабходнае для яе абсталяванне было прывезена з Масквы. Валвыканком выдзеліў для школы памяшканне. Педагагічны калектыў, у ліку якога былі яго жонка В. Б. Лепяшынская і дачка В. П. Лепяшынская, сваяк П. М. Лепяшынскага М. І. Кернажыцкі, распрацаваў для школы навучальныя праграмы. Навучанне і выхаванне спалучалася з працай, значнае месца займала эстэтычнае выхаванне, выхаванне якасцей новага грамадзяніна — калектывізму, узаемадапамогі, таварыскасці. Выхаванцы праводзілі палітыка-асветніцкую работу сярод насельніцтва. Па прапанове Наркамасветы РСФСР у канцы 1919 г. школа была пераведзена ў Маскву, 22 яе вучні сталі першымі выхаванцамі Маскоўскай доследна-паказальнай школы Наркамасветы.

*Літ.:* Ильюшин И., Умрейко С. Народное образование в Белорусской ССР.— 2 изд.— Мн., 1961. *В. В. Семянюк.*

**1109. ПАСЕЛІШЧА** (археал.). За 2 км на ўсход ад вёскі, на правым беразе р. Сож, ва ўрочышчы Цялец. Выявіў у 1924 г. К. М. Палікарповіч, абследавала ў 1976 г. А. Г. Калечыц. Пляцоўка зарасла лесам. Культурны пласт 0,1 м прасочваецца толькі ў размывах. Найбольш выразны на ўчастку 300×50 м, які прымыкае да вусця р. Перагонка. Тут знойдзены крамянёвыя пласціны, адшчэпы, скрабкі, наканечнікі стрэл. Адносіцца да эпохі неаліту і бронзавага веку.

Матэрыялы абследавання захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР. *А. Г. Калечыц.*

**1110. ПОМНІК ЛЕПЯШЫНСКАМУ** Панцеляймону Мікалаевічу (гіст., маст.). У скверы, перад будынкам сярэдняй школы.

Дзеяч рэвалюцыйнага руху, публіцыст, доктар гістарычных навук П. М. Лепяшынскі нарадзіўся 29.2. 1868 г. ў в. Студзянец Касцюковіцкага р-на. Член КПСС з 1898 г. У 1891 г. скончыў Кіеўскі універсітэт. У час вучобы ў Пецярбургскім універсітэце (1886—90 гг.) член нарадавольскага гуртка, узначальваў беларускае зямляцтва; за удзел у рэвалюцыйным руху ў 1890 г. выключаны з універсітэта. У 1892 г. ў Севастопалі працягваў рэвалюцыйную дзейнасць. У 1894 г. ў Пецярбургу ўступіў у марксісцкі гурток. За рэвалюцыйную дзейнасць двойчы арыштаваны (1895 г., 1902 г.) і высланы ў Енісейскую губерню, сустракаўся з У. І. Леніным. У 1899 г. ў ліку 17 ссыльных падпісаў «Пратэст расійскіх сацыял-дэмакратаў» супраць «эканамістаў». З 1900 г. агент «Искры» ў Пскове. Член Аргкамітэта па скліканні II з'езда РСДРП. З 1903 г. ў Жэневе, далучыўся да бальшавікоў, сакратар Савета партыі, адзін з стваральнікаў бібліятэкі і архіва ЦК РСДРП, удзельнік падрыхтоўкі III з'езда РСДРП (1905 г.). У 1907—09 гг. выкладаў матэматыку ў Аршанскім рэальным вучылішчы. На Аршанскім чыгуначным вузле разам з жонкай В. Б. Лепяшынскай аднавіў арганізацыю РСДРП. Пасля Лютаўскай рэвалюцыі 1917 г. гарадскі галава ў Оршы. Пасля перамогі Кастрычніцкай рэвалюцыі Лепяшынскі з 1918 г. працаваў у Наркамаце асветы РСФСР (Петраград). Летам 1918 г. заснаваў і ўзначаліў школукамуну ў в. Ліцвінавічы Кармянскага р-на (гл. артыкул № 1108 «Мемарыяльная дошка Лепяшынскаму Панцеляймону Мікалаевічу»). У 1921—24 гг. удзельнічаў у арганізацыі і кіраваў Гістпартам. З 1927 г. дырэктар Гістарычнага музея, у 1935—36 гг.— Музея Рэвалюцыі ў Маскве. Аўтар прац па гісторыі партыі, педагогіцы, успамінаў пра У. І. Леніна, літаратурных твораў.

П. М. Лепяшынскі памёр 29.9.1944 г. Яго імя прысвоена калгасу і сярэдняй школе ў Кармянскім р-не, імем П. М. Лепяшынскага названы вуліца ў Магілёве, цеплаход. Ганаровы камсамолец Беларусі, ганаровы старшыня Аршанскага райвыканкома. У 1967 г. ўстаноўлена Дзяржаўная прэмія БССР імя П. М. Лепяшынскага за лепшыя публіцыстычныя творы. У 1968 г. ў в. Ліцвінавічы адкрыты мемарыяльны музей П. М. Лепяшынскага.

У 1973 г. каля школы пастаўлены помнік (скульпт. С. Адашкевіч; бетон; вышыня 3,2 м) — паплечны бюст П. М. Лепяшынскага на двухметровым квадратным у плане пастаменце. Пластыка партрэта лаканічная. У спакойным засяроджаным позірку ўнутраная духоўная сіла. Вакол помніка разбіты сквер.

*Літ.:* У истоков партии.— Мн., 1969; Булацкий Г. В. Ленинской гвардии солдат.— 2 изд.— Мн., 1970. *М. К. Кошалеў, Г. М. Ярмоленка.*

**в. Лубянка, Старагградскі сельсавет**

**1111. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На паўночнай ускраіне вёскі. Пахаваны 12 воінаў 121-й стралковай дывізіі 3-й арміі Беларускага фронту, якія загінулі ў лістападзе 1943 г. ў баях пры вызваленні раёна ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1957 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна.

**в. Лужок, цэнтр сельсавета**

**1112. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ, ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля сярэдняй школы. Пахаваны 25 воінаў, якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў пры вызваленні раёна. У 1958 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна. Побач устаноўлены дошкі з імёнамі 244 землякоў, што загінулі ў Вялікую Айчынную вайну.

**пас. Луначарскі, Залатамінскі сельсавет**

**1113. ГАРАДЗІШЧА** (археал.). За 0,8 км на ўсход ад пасёлка, ва ўрочышчы Гарадок, на правым беразе р. Сож. Памеры 66×57,5 м. Вышыня гарадзішча над поймай ракі 16 м. З боку поля пляцоўку абмяжоўваюць вал вышынёй 1,2 м, шырынёй 0,4—0,6 м і роў глыбінёй 1,8 м. Яшчэ адзін дугападобны вал даўжынёй 20 м і шырынёй 4 м прасочаны ў паўночна-ўсходняй частцы пляцоўкі. Вядома з 1873 г. У 1936 г. А. М. Ляўданскі і А. Дз. Каваленя заклалі пры абследаванні гарадзішча 2 шурфы. Культурны пласт 0,9—1 м. У ім знойдзены абпаленыя камяні, косці жывёл, абломкі ляпнога, часткова штрыхаванага посуду. У 1976 г. гарадзішча абследаваў В. І. Шадыра. Адносіцца да мілаградскай і ранняга этапу зарубінецкай культур, датуецца 6 ст. да н. э.— 3 ст. н. э.

Матэрыялы раскопак захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

*Літ.:* Сведения 1873 г. о городищах и курганах.— Известия Археологической комиссии. СПб., 1903, в. 5; Поболь Л. Д. Славянские древности Белоруссии: (свод археологических памятников раннего этапа зарубинецкой культуры — с середины III в. до н. э. по начало II в. н. э.).— Мн., 1974. *В. І. Шадыра.*

**в. Малянік, Струменскі сельсавет**

**1114. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). На заходняй ускраіне вёскі. На ўшанаванне памяці 65 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1967 г. пастаўлены абеліск.

**в. Новы Млын, Ворнаўскі сельсавет**

**1115. ГАРАДЗІШЧА** (археал.). За 1,5 км на ўсход ад вёскі, ва ўрочышчы Гарадок, на пагорку вышынёй 5 м. Пляцоўка выцягнута з захаду на ўсход, памерам 60×35 м. На паўночнай і паўночна-ўсходняй ускраінах гарадзішча прасочаны вал вышынёй 2,2 м, даўжынёй 40 м і роў глыбі-



1113. *Гарадзішча.*




1115. *Гарадзішча. План.*

нёй 0,3 м. Паўночны і ўсходні схілы больш стромкія і на 2 м вышэй за іншыя. Адкрыла і абследавала ў 1956 г. В. М. Мельнікоўская, абследаваў у 1976 г. В. І. Шадыра. У культурным пласце выяўлены крамянёвыя прылады працы і фрагменты ляпной керамікі. Адносіцца да мілаградскай культуры, датуецца 6 ст. да н. э.— 2 ст. н. э. Раней тут існавала паселішча каменнага веку.

Матэрыялы абследавання захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

*Літ.:* Древности железного века в междуречье Десны и Днепра.— М., 1962.— (Свод археологических источников; в. Д 1—12); Мельниковская О. Н. Племена Южной Белоруссии в раннем железном веке.— М., 1967. *В. І. Шадыра.*

**пас. Пакроўск, Каменскі сельсавет**

**1116. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). На паўночнай ускраіне вёскі. 7 насыпаў вышынёй ад 1 да 5 м, дыяметрам 6—14 м. Адкрыў і абследаваў ў 1976 г. В. І. Шадыра. Раскопкі не праводзіліся.

**в. Рудня, Ліцвінавіцкі сельсавет**

**1117. ГАРАДЗІШЧА** (археал.). За 1,5 км на паўднёвы ўсход ад вёскі, на правым беразе р. Касалянка (на вышыні 6—7 м над поймай ракі). Пляцоўка чатырохвугольная ў плане, выцягнута з поўначы на поўдзень, памерам 110×30 м. З паўночнага, заходняга і паўднёвага бакоў пляцоўкі праходзіць траншэя шырынёй 1,5—2 м, глыбінёй да 0,4 м. Адкрыў і абследаваў у 1976 г. В. І. Шадыра. Культурны пласт 0,8 м. Раскопкі не праводзіліся.

**1118. МАГІЛА САВЕЦКАГА ВОІНА, ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля клуба, у скверы. Пахаваны воін, што загінуў у 1941 г. ў баі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1952 г. на магіле пастаўлены абеліск, на якім дошка з надпісам-прысвячэннем 50 землякам, што загінулі ў Вялікую Айчынную вайну.

**в. Стараград, цэнтр сельсавета**

**1119. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). У цэнтры вёскі, каля будынка канторы саўгаса «Стараградскі». Пахаваны воіны, што загінулі тут у баях у 1941 г., а таксама 17 воінаў 121-й стралковай дывізіі 3-й арміі Беларускага фронту, якія загінулі ў лістападзе 1943 г. пры вызваленні вёскі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1959 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна са схіленым у жалобе сцягам.




1116. *Курганны могільнік. План.*



1117. *Гарадзішча.*

**1120. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 0,2 км на поўнач ад гаспадарчага двара саўгаса «Стараградскі», злева ад шашы Доўск — Карма, на полі. 40 курганоў вышынёй 1—3 м, дыяметрам 4—12 м. Вядомы з 1873 г., абследаваў у 1978 г. В. І. Шадыра. На асобных насыпах у верхняй частцы выяўлены ямы, зробленыя скарбашукальнікамі. Раскопкі не праводзіліся.

*Літ.:* Сведения 1873 г. о городищах и курганах.— Известия Археологической комиссии. СПб., 1903, в. 5. *В. І. Шадыра.*

**1121. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). На паўднёвай ускраіне вёскі, у скверы. На ўшанаванне памяці 269 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1976 г. пастаўлена стэла.

**в. Струкачоў, цэнтр сельсавета**

**1122. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). У цэнтры вёскі, у школьным скверы. Пахаваны 49 воінаў, якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у 1943—44 г. пры вызваленні тэрыторыі раёна. У 1957 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна.

**в. Струмень, цэнтр сельсавета**

**1123. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН, ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля будынка праўлення калгаса «Радзіма», у скверы. Пахаваны 47 воінаў і 1 партызан, якія загінулі ў баях за вызваленне раёна ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1959 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна са схіленым у жалобе сцягам. Побач — дошкі з імёнамі 137 землякоў, што загінулі ў Вялікую Айчынную вайну.

**1124. ПАСЕЛІШЧА** (археал.). За 0,5 км на паўднёвы захад ад вёскі, на тэрасе левага берага р. Струменка, ва ўрочышчы Нарач. Плошча 2500 м². Выявіў у 1927 г. К. М. Палікарповіч, даследавала ў 1976 г. А. Г. Калечыц. У раскопе плошчай 464 м² выяўлены культурны пласт каля 0,6 м. У ім прасочаны 7 гаспадарчых ям і 2 агнішчы. Знойдзена ляпная кераміка, у т. л. пасудзіны бронзавага веку, крамянёвыя прылады працы і зброя: скрабкі, скоблі, скрэблы, разцы, наканечнікі стрэл і дроцікаў і інш. Адносіцца да эпохі неаліту і бронзавага веку.

Матэрыялы даследаванняў захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР. *А. Г. Калечыц.*

**1125. ПАСЕЛІШЧЫ, БЕСКУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.).

**1125а.** П а с е л і ш ч а - 1. За 1,5 км на захад ад вёскі, у міжрэччы рэк Струменка і Сож. Плошча 6000 м². Адкрыў у 1926 г. К. М. Палікарповіч, даследавала ў 1976 г. А. Г. Калечыц. У культурным пласце 0,4 м знойдзены неалітычная кераміка з ямачна-грабеньчатым арнаментам, крамянёвыя прылады працы: разцы, скрабкі, цёслы, праколкі, нуклеусы і інш. Адносіцца да верхнедняпроўскай культуры, датуецца 3-м тысячагоддзем да н. э.

**1125б.** П а с е л і ш ч а - 2. За 0,5 км на паўночны захад ад вёскі, ва ўрочышчы Біручыха, на пясчанай выдме. Даўжыня з паўднёвага ўсходу на паўночны захад 300 м, шырыня 10—20 м. Выявіў у 1926 г. К. М. Палікарповіч, даследавала у 1976 г. (200 м²) А. Г. Калечыц. Культурны пласт 0,4 м. У ім знойдзены неалітычная кераміка, фрагменты посуду бронзавага веку. Прасочана некалькі попельных плям. Крамянёвы інвентар характэрны для неалітычных стаянак Пасожжа: скрабкі, разцы, праколкі, нуклеусы. Адносіцца да верхнедняпроўскай культуры, датуецца 3-м тысячагоддзем да н. э.

**1125в.** П а с е л і ш ч а - 3 і м о г і л ь н і к. Знаходзяцца на паселішчы-1, вышэй неалітычнага культурнага пласта. Адкрыў у 1926 г. К. М. Палікарповіч, даследавала ў 1976 г. А. Г. Калечыц. У культурным пласце 0,4—



1129. *Курганны могільнік. Адзін з курганоў.*

0,6 м прасочаны гаспадарчыя ямы, агнішчы, 4 паўзямлянкавыя жытлы, 3 пахаванні па абраду трупаспалення, кераміка сярэднедняпроўскай і сосніцкай культур. Адносіцца да сярэднедняпроўскай культуры, датуецца 2-м тысячагоддзем да н. э.

Матэрыялы раскопак захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

*Літ.:* Палікарповіч К. М. Дагістарычныя стаянкі сярэдняга і ніжняга Сажа.— Запіскі аддзела гуманітарных навук, 1928. кн. 5, т. 1. *А. Г. Калечыц.*

**в. Студзянец, Залатамінскі сельсавет**

**1126. МАГІЛА КАЛІНКІНА** Міхаіла Герасімавіча (гіст.). За 1,2 км на ўсход ад вёскі, у лесе.

Герой Савецкага Саюза М. Г. Калінкін нарадзіўся ў 1916 г. ў Ленінградзе. Член КПСС з 1940 г. У Чырвонай Арміі з 1938 г. На фронце з 1941 г., камандзір асобнай стралковай роты капітан М. Г. Калінкін вызначыўся 22.11.1943 г. ў баі пры вызваленні в. Студзянец. У рашаючы момант бою М. Г. Калінкін закрыў сваім целам амбразуру дзота, што дало магчымасць байцам захапіць важны плацдарм і вызваліць в. Студзянец. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 15.1.1944 г. У 1979 г. на магіле пастаўлены абеліск.

*Літ.:* Навечно в сердце народном.— 3 изд.— Мн., 1984.

**в. Сырская Буда, Барсукоўскі сельсавет**

**1127. РАДЗІМА АСТАПЕНКІ** Алеся (гіст.).

Беларускі савецкі паэт Астапенка Алесь (Аляксандр Кірылавіч) нарадзіўся 14.7.1920 г. ў сялянскай сям'і. У 1938—41 гг. вучыўся у Мінскім педагагічным інстытуце імя А. М. Горкага. Удзельнік Айчыннай вайны. З 1943 г. працаваў на Беларускім радыё, у 1946—53 гг.— у рэдакцыях рэспубліканскіх газет і часопісаў. Друкаваўся з 1942 г. У вершах услаўляў ваенны подзвіг савецкага чалавека, яго стваральную працу. Выдаў зборнікі вершаў «Выпрабаванне» (1947 г.), «Дзень маёй Радзімы» (1952 г.), «Сэрца спявае» (1960 г.). Пераклаў на беларускую мову паасобныя творы М. Ісакоўскага, Я. Райніса, П. Тычыны. А. Астапенка памёр 20.7.1970 г. Пахаваны ў Мінску на Усходніх могілках.

*Літ.:* Пісьменнікі Савецкай Беларусі: Кароткі даведнік.— Мн., 1981.

**в. Труд, Струменскі сельсавет**

**1128. ПОМНІК ПАРТЫЗАНАМ** (гіст.). У скверы.

Кармянскі партызанскі атрад (камандзір А. І. Ушаў, камісары М. С. Бруёк, І. А. Асташонак) створаны 30. 5.1942 г., дзейнічаў на поўначы Гомельскай вобл. У верасні 1942 г. частка атрада ўлілася ў партызанскае злучэнне Фёдарава Чарнігаўскай вобл. Другая яго частка ў лютым 1943 г. папоўнілася партызанамі з атрада імя Калініна, мясцовымі жыхарамі і аформілася ў атрад імя Варашылава, які ў сакавіку 1943 г. быў уключаны ў склад 1-й Гомельскай партызанскай брыгады. Партызаны ў ліпені 1943 г. разграмілі варожы гарнізон ў Карме, захапілі збожжа, якое гітлераўцы падрыхтавалі для адпраўкі ў Германію. Народныя мсціўцы актыўна ўдзельнічалі ў аперацыі «Рэйкавая вайна» і разам з часцямі Чырвонай Арміі ў лістападзе 1943 г. вялі баі за вызваленне Кармянскага р-на. 23.11.1943 г. атрад (476 партызан) злучыўся з часцямі Чырвонай Арміі.

У 1976 г. ў гонар баявой дзейнасці партызан пастаўлены помнік — абеліск і зямлянка.

*Літ.:* Всенародное партизанское движение в Белоруссии в годы Великой Отечественной войны (июнь 1941 — июль 1944). Т. 1.— Мн., 1967; В боях и походах.— Мн., 1972. *В. В. Семянюк.*

**в. Хізаў, Стараградскі сельсавет**

**1129. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 2 км на ўсход ад вёскі, за 1 км на захад ад в. Тарахаўка. 18 насыпаў вышынёй 1,5—2 м, дыяметрам 10—15 м. Адкрыў і даследаваў у 1890 г. В. К. Чарапанаў, які раскапаў 1 курган. Пахавальны абрад — трупапалажэнне ў яме, галавой на ўсход. Знойдзены шкляныя пазалочаныя пацеркі, біэліпсападобныя і гронкападобныя падвескі, прасліцы. Помнік абследавалі ў 1961 г. В. У. Сядоў, у 1976 г. В. І. Шадыра. Датуецца 11 ст., належаў радзімічам.

*Літ.:* Черепанов В., Спицын А. Раскопки кургана в им. Хизово Рогачёвского у. Могилёвской губ.— Записки русского археологического общества. СПб., 1901, т. 12, в. 1—2. *В. І. Шадыра.*

**1130. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). На паўднёва-ўсходняй ускраіне вёскі, каля канторы племсаўгаса «Багдановічы». На ўшанаванне памяці 144 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1952 г. пастаўлены абеліск.

**в. Хляўно, Залатамінскі сельсавет**

**1131. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На могілках. Пахаваны воіны 283-й стралковай дывізіі, якія загінулі ў 1943 г. ў баях за вызваленне в. Хляўно ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1958 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**1132. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). Каля сярэдняй школы. Пахаваны 290 воінаў, якія памерлі ў 1943 г. ад ран у палявым шпіталі, і 5 партызан. У 1958 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна.

**1133. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 0,3 км на ўсход ад вёскі, на ўсходняй ускраіне могілак, з правага боку ад дарогі на в. Міхеева. 4 насыпы вышынёй 1,2—1,7 м, дыяметрам 7—10 м. Абследавалі ў 1956 г. В. М. Мельнікоўская, у 1976 г. В. І. Шадыра. Раскопкі не праводзіліся.



# ЛЕЛЬЧЫЦКІ РАЁН




Стаянкі, паселішчы, гарадзішчы

Могільнікі (грунтавыя, курганныя), курганы

Помнікі і месцы рэвалюцыйнага руху (Рэвалюцыя 1905–07 гг., Вялікая Кастрычніцкая сацыялістычная рэвалюцыя, Грамадзянская вайна, барацьба працоўных Заходняй Беларусі)

Помнікі і памятныя месцы Вялікай Айчыннай вайны (месцы баёў, магілы савецкіх воінаў і партызан, Курганы Славы, помнікі землякам і інш.)

Помнікі ахвярам фашызму (месцы канцлагераў і лагераў смерці, месцы масавай загубы насельніцтва, спаленыя і неадноўленыя вёскі і інш.)

Помнікі і месцы, звязаныя з імёнамі савецкіх партыйных, дзяржаўных і гаспадарчых дзеячаў, дзеячаў культуры, навукі і тэхнікі

Культавая архітэктура

Цэнтр раёна

Цэнтры сельсаветаў

## XV. ЛЕЛЬЧЫЦЫ

Гарадскі пасёлак. Размешчаны на левым беразе р. Убарць, за 215 км ад Гомеля і 67 км ад чыгуначнай станцыі Ельск, аўтамабільнымі дарогамі злучаны з Мазыром, Туравам, Глушкавічамі.

Вядомы з 16 ст. як мястэчка Мазырскага павета ў Кіеўскім, з 1569 г. ў Мінскім ваяводствах Вялікага княства Літоўскага. З 1793 г. пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай у складзе Расійскай імперыі, цэнтр воласці Мазырскага павета Мінскай губерні. У 1897 г. ў мястэчку 890 жыхароў, млын, царква, народная школа. Савецкая ўлада ўстаноўлена ў лістападзе 1917 г. З лютага 1918 г. да пачатку 1919 г. Лельчыцы акупіраваны войскамі кайзераўскай Германіі, у сакавіку — ліпені 1920 г.— буржуазнай Польшчы. З ліпеня 1924 г. цэнтр р-на, з 27.9.1938 г. гарадскі пасёлак у Палескай вобласці.

У Вялікую Айчынную вайну з 23.9. 1941 г. да 23.1.1944 г. Лельчыцы акупіраваны нямецка-фашысцкімі захопнікамі, якія загубілі тут 685 мірных жыхароў, спалілі пасёлак, усе вёскі раёна. На тэрыторыі раёна дзейнічалі Лельчыцкія падпольныя райкомы КП(б)Б (24.3.1943 г.— 15.1.1944 г.) і ЛКСМБ (жнівень — верасень 1941 г.; 19.4.1943 г.— 15.1.1944 г.); выдавалася падпольная раённая газета «Па сталінскаму шляху». У ліпені — верасні 1941 г. ў Лельчыцах і наваколлі вялі баявыя дзеянні пагранічны атрад і знішчальны батальён, Лельчыцкі і Тураўскі партызанскія атрады, якія двойчы (у ліпені і верасні) вызвалялі Лельчыцы. Пазней у раёне дзейнічала Лельчыцкая партызанская брыгада. У ноч на 26.11.1942 г. партызанскае злучэнне С. А. Каўпака разграміла тут буйны варожы гарнізон. У 1943 г. ў раёне базіраваліся партызанскія злучэнні УССР і падпольны ЦК КП(б)У. З 1954 г. Лельчыцы ў Гомельскай вобл., у 1962—65 гг.— у Мазырскім р-не, з 1965 г. цэнтр Лельчыцкага р-на.

Забудова пасёлка квартальная, пераважна аднапавярховая, сядзібнага тыпу. У цэнтральнай частцы пабудаваны 2—4-павярховыя дамы. На перакрыжаванні Савецкай і Чырвонаармейскай вуліц сфарміравана цэнтральная плошча, дзе размешчаны адміністрацыйныя і культурна-асветныя ўстановы, магазіны.

У 1978 г. Беларускі дзяржаўны навукова-даследчы і праектны інстытут горадабудаўніцтва распрацаваў генеральны план, які прадугледжвае далейшае развіццё пасёлка. Жыллёвае будаўніцтва вядзецца па вуліцах Чырвонаармейскай, Савецкай, Перамогі, прамысловае — у заходняй частцы пасёлка. Асноўныя прадпрыемствы: хлебазавод, маслазавод, вытворчы ўчастак Калінкавіцкага вінна-кансервавага завода, камбінат будаўнічых матэрыялаў. Працуюць раённыя аб'яднанні Дзяржкамсельгастэхнікі і «Сельгасхімія», раённае вытворчае ўпраўленне бытавога абслугоўвання, лясгас, метэастанцыя. У гарадскім пасёлку 3 сярэднія (у т. л. вочна-завочная), дзіцяча-юнацкая спартыўная і музычная школы, 4 сады-яслі, Дом піянераў і школьнікаў, Дом культуры, кінатэатр, 2 бібліятэкі, музей народнай славы, бальніца. Выдаецца газета «Светлае жыццё». Помнікі: У. І. Леніну, на брацкай магіле членаў апаратыўнай групы ЦК ВЛКСМ, лётчыкаў і партызана, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, на магіле ахвяр фашызму.

Зона адпачынку — паркі на левым беразе Убарці і па вул. Чырвонаармейскай.

*Літ.:* Волости и важнейшие селения Европейской России. В. 5.— СПб., 1886; СССР: Административно-территориальное деление союзных республик.— М., 1939;



**XV.** *Вуліца Савецкая. Фрагмент забудовы.*



**XV.** *Забудова вуліцы Перамогі.*

Гомельская область. Белорусская ССР.— 2 изд.— Мн., 1976; Экономика Советской Белоруссии. 1917—1967.— Мн., 1967; Непокорённая Белоруссия.— М., 1963; Всенародное партизанское движение в Белоруссии в годы Великой Отечественной войны (июнь 1941 — июль 1944). Т. 1.— Мн., 1967; Бакрадзе Д. Кровью героев.— Тбилиси, 1961; его ж. Карпатский рейд.— М., 1968; Руднев С. В. Легендарный рейд.— Ужгород, 1967; В грозные годы.— Мн., 1973.

*М. І. Камінскі, А. М. Кулагін.*

**1134. БРАЦКАЯ МАГІЛА ЧЛЕНАЎ АПЕРАТЫЎНАЙ ГРУПЫ ЦК ВЛКСМ, ЛЕТЧЫКАЎ І ПАРТЫЗАНА** (гіст.). Вул. Савецкая, у скверы.

28.4.1943 г. ЦК ВЛКСМ накіраваў у Лельчыцкі р-н аператыўную групу для актывізацыі дзейнасці камсамольскіх арганізацый. У час пасадкі самалёт загарэўся, члены аператыўнай групы і лётчыкі (11 чалавек) загінулі. Сярод пахаваных — намеснік загадчыка аддзела агітацыі і прапаганды ЦК ВЛКСМ І. А. Задарожны, пісьменнік, карэспандэнт газеты «Комсомольская правда» І. М. Меншыкаў, сакратар Житомірскага абкома камсамола А. Дз. Харытонаў. У брацкай магіле пахаваны таксама партызан, які загінуў у баі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў.

У 1972 г. на магіле пастаўлены помнік — двухфігурная скульптурная кампазіцыя.

**1135. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). На могілках. Пахаваны каля 700 жыхароў пасёлка, якіх у верасні 1941 г. і ў чэрвені 1942 г. расстралялі нямецка-фашысцкія акупанты. У 1965 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**1136. МЕСЦА БОЮ 1942 г.** (гіст.). Адбыўся ў пасёлку ў час рэйду ўкраінскага партызанскага злучэння С. А. Каўпака з Бранскіх лясоў на Правабярэжную Украіну. У ноч на 26.11. 1942 г. Шалыгінскі і Пуціўлеўскі партызанскія атрады пры ўдзеле мясцовых партызан пачалі наступленне на пасёлак. У 8 гадзін раніцы, нягледзячы на перавагу ворага ва ўзбраенні, бой закончыўся перамогай партызан.

У 1972 г. ў памяць аб баявой аперацыі народных мсціўцаў у фае кінатэатра «Партызан» устаноўлена мемарыяльная дошка.

*Літ.:* Брайко П., Калиненко О. Внимание, Ковпак! — 2 изд.— М., 1975.

*В. М. Баскова.*



1134. *Помнік на брацкай магіле членаў аператыўнай групы ЦК ВЛКСМ, лётчыкаў і партызана.*



1137. *Помнік У. І. Леніну.*

**1137. ПОМНІК ЛЕНІНУ** Уладзіміру Ільічу (гіст.). На вул. Савецкай, каля будынка райкома КПБ. Скульптура У. І. Леніна ўстаноўлена ў 1953 г.

**в. Астражанка, цэнтр сельсавета**

**1138. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 54 савецкія воіны, якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў ці памерлі ад ран у шпіталі ў студзені — лютым 1944 г. Сярод пахаваных — воіны 4-й гвардзейскай кавалерыйскай дывізіі, якая ўдзельнічала ў вызваленні вёскі ад нямецка-фашысцкіх акупантаў. У 1960 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**1139. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. На ўшанаванне памяці 60 аднавяскоўцаў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну на франтах і ў партызанскай барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў, у 1975 г. пастаўлены помнік — скульптура воіна.

**в. Асянское, Маркоўскі сельсавет**

**1140. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). На могілках. Пахаваны 2 воіны і 10 партызан, якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у снежні 1943 г.— студзені 1944 г. У 1957 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**1141. СЕЛІШЧА** (археал.). За 1,5 км на поўнач ад вёскі, на пясчанай дзюне. Плошча 300 м², культурны пласт 0,1 м. Абследаваў у 1983 г. Г. М. Залашка. Знойдзены крамянёвыя наканечнікі стрэл, ляпная, дрэнна абпаленая кераміка і рэшткі ганчарнага посуду. У шурфе 2×2 м выяўлены праслойка попелу з вуголлем, у цэнтры якога яма ад слупа. Адносіцца да ранняга жалезнага веку і эпохі Кіеўскай Русі. Матэрыялы абследавання захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

*Г. М. Залашка.*

**в. Баравое, Маркоўскі сельсавет**

**1142. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). На могілках. Пахаваны 3 воіны і 4 партызаны, якія загінулі ў барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у жніўні 1943 г.— студзені 1944 г. У 1958 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**1143. ЦАРКВА** (архіт.). У заходняй частцы вёскі. Пабудавана ў 18 ст. з дрэва. Да асноўнага прамавугольнага ў плане зруба, які ўключае неф і алтарную частку, з захаду прыбудаваны бабінец з тамбурам. Сцены складзены з брусоў «у лапу», пастаўлены падрубамі на штандары, вертыкальна ашаляваны дошкамі з нашчыльнікамі. Вокны прамавугольныя і арачныя. Над асноўным аб'ёмам — нізкі двух'ярусны верх (васьмярык на чацвярыку) з прамавугольнымі ў ніжнім і арачнымі ў верхнім ярусах аконнымі праёмамі. Завяршэнне шатровае з цыбулепадобнай галоўкай. Над тамбурам двух'ярусная чацверыковая званіца з шатровым дахам. Над алтарнай часткай дах упрыгожвае невысокі дэкаратыўны шацёр з галоўкай. У інтэр'еры дамінуе асноўны аб'ём з двух'ярусным верхам. Астатнія памяшканні маюць плоскую бэлечную столь.

Царква — помнік народнага дойлідства Прыпяцкага Палесся.

*Ю. А. Якімовіч.*

**в. Буда-Лельчыцкая, Лельчыцкі сельсавет**

**1144. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі, каля клуба. На ўшанаванне памяці 49 аднавяскоўцаў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну на франтах і ў партызанскай барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1967 г. пастаўлены помнік — скульптура воіна.

**в. Буда-Сафіеўка, Буйнавіцкі сельсавет**

**1145. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). За 1,5 км на поўдзень ад вёскі. Пахаваны 67 савецкіх воінаў, якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў ці памерлі



1143. *Царква. План.*

ад ран у шпіталі ў студзені — лютым 1944 г. У 1963 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**1146. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. На ўшанаванне памяці 103 аднавяскоўцаў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў, у 1967 г. пастаўлены помнік — скульптура воіна.

**в. Буйнавічы, цэнтр сельсавета**

**1147. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). Каля школы-інтэрната. Пахаваны 84 воіны, якія загінулі ў студзені — лютым 1944 г. пры вызваленні раёна ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў ці памерлі ад ран у шпіталі. У 1956 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**1148. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 34 воіны, якія загінулі ў 1944 г. пры вызваленні раёна ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. Сярод пахаваных — воіны 23-й стралковай дывізіі 61-й арміі Беларускага фронту. У 1963 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна.

**1149. БРАЦКАЯ МАГІЛА ЧЫРВОНААРМЕЙЦАЎ** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны 3 чырвонаармейцы, якія загінулі ў 1920 г. ў барацьбе супраць белапольскіх акупантаў. У 1974 г. на магіле пастаўлена стэла.

**в. Букча, цэнтр сельсавета**

**1150. БРАЦКАЯ МАГІЛА ПАРТЫЗАН** (гіст.). У цэнтры вёскі, каля будынка выканкома сельскага Савета. Пахаваны 14 партызан злучэння С. А. Каўпака, якія загінулі ў снежні 1942 г. каля вёскі ў баі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1972 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна.

**в. Ветвіца, Замошскі сельсавет**

**1151. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). На



1148. *Помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў.*



1153. *Помнік на магіле ахвяр фашызму.*

могілках. Пахаваны 32 воіны і 5 партызан, якія загінулі ў лютым 1944 г. ў баі за вызваленне вёскі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1961 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Глушкавічы, цэнтр сельсавета**

**1152. БРАЦКАЯ МАГІЛА ПАРТЫЗАН** (гіст.). Каля Дома культуры. Пахаваны 11 партызан злучэння С. А. Каўпака, якія загінулі ў лістападзе 1942 г. ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1965 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура салдата.

**1153. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). Каля Дома культуры. Пахаваны 290 жыхароў вёскі, якіх расстралялі і спалілі 26—27.12.1942 г. нямецка-фашысцкія карнікі. У 1960 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура жанчыны ў жалобе.

**в. Грабяні, цэнтр сельсавета**

**1154. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). Мясцовая назва Гурбаны. На заходняй ускраіне вёскі, насупраць могілак, ва ўрочышчы Струбачы. 7 насыпаў вышынёй 0,3 м, дыяметрам 7—8 м. Абследаваў у 1976 г. П. Ф. Лысенка. Раскопкі не праводзіліся.

**1155. МАГІЛА ЖОЛУДЗЕВА** Івана Мікалаевіча (гіст.). На могілках. Партызан І. М. Жолудзеў загінуў у лістападзе 1942 г. пры выкананні баявога задання. У 1968 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**1156. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі, у скверы. На ўшанаванне памяці 143 жыхароў вёсак Грабянёўскага сельсавета, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну ў барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў, у 1968 г. пастаўлены помнік — скульптура воіна.

**в. Дзяржынск, цэнтр сельсавета**

**1157. МЕСЦА БОЮ 1943 г.** (гіст.). За 1 км на паўночны захад ад вёскі, па дарозе на Тураў. Тут 5.1. 1943 г. партызаны злучэння А. М. Сабурава разграмілі нямецка-фашысцкі карны атрад. У 1967 г. на месцы бою пастаўлены абеліск.

**в. Дубніцкае, Дуброўскі сельсавет**

**1158. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 0,2 км на паўднёвы захад ад вёскі, ва ўрочышчы Дубіна. 8 курганоў вышынёй 0,5—0,7 м, дыяметрам 0,6—0,8 м. Выявіў і абследаваў у 1976 г. П. Ф. Лысенка. Раскопкі не праводзіліся.

**1159. МЕСЦА ПАРТЫЗАНСКАГА АЭРАДРОМА** (гіст.). За 3 км на ўсход ад вёскі. У сакавіку 1943 г. тут быў створаны партызанскі аэрадром.

Спачатку прымаў грузы Украінскага штаба партызанскага руху для злучэння А. М. Сабурава, з мая 1943 г.— для іншых украінскіх і беларускіх партызанскіх злучэнняў, а таксама




1154. *Курганны могільнік. План.*




1158. *Курганны могільнік. План.*



1159. *Помнік на месцы партызанскага аэрадрома.*

для 1-га Малдаўскага партызанскага злучэння пад камандаваннем В. А. Андрэева. З 1.3.1943 г. да 26.6.1943 г. было прынята 65 самалётаў з грузамі для партызан, 64 самалёты скінулі над аэрадромам грузы на парашутах. У савецкі тыл вывезены 146 раненых. У асобныя ночы прылятала па 6—8 самалётаў 101-га авіяцыйнага палка далёкага дзеяння, якім камандавала Герой Савецкага Саюза В. С. Грызадубава.

У 1980 г. на месцы, дзе быў аэрадром, пастаўлена стэла.

*Літ.:* Сабуров А. Н. За линией фронта: Партизанские записки.— Петрозаводск, 1965. *В. М. Баскова.*

**в. Дуброва, цэнтр сельсавета**

**1160. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі, каля клуба. На ўшанаванне памяці 72 жыхароў вёскі, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну ў барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў, у 1967 г. пастаўлены помнік — скульптура салдата.

**в. Замошша, цэнтр сельсавета**

**1161. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 154 воіны, якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у студзені — лютым 1944 г. Сярод пахаваных — воіны 14-й гвардзейскай кавалерыйскай дывізіі 7-га гвардзейскага кавалерыйскага корпуса, якія прымалі ўдзел у вызваленні вёскі. У 1967 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна.

**1162. ПОМНІК САВЕЦКІМ ВОІНАМ** (гіст.). На перакрыжаванні вуліц Садовай і Сялянскай. На гэтым месцы ў студзені 1944 г. пры вызваленні вёскі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў загінулі 7 савецкіх воінаў. У 1980 г. на ўшанаванне іх памяці пастаўлены абеліск.

**в. Іванава Слабада, Тонежскі сельсавет**

**1163. КУРГАННЫЯ МОГІЛЬНІКІ** (археал.).

**1163а.** Могільнік-1. За 0,8 км на захад ад вёскі, ва ўрочышчы Курганы. 37 насыпаў вышынёй 0,6—1,7 м, дыяметрам 6—12 м. Курганы здзірванелі, каля іх захаваліся рэшткі равочкаў. Абследаваў у 1976 г. П. Ф. Лысенка. Раскопкі не праводзіліся.

**1163б.** Могільнік-2. За 3 км на захад ад вёскі. 4 насыпы вышынёй 0,5—1,8 м, дыяметрам 5—12 м. Абследаваў у 1976 г. П. Ф. Лысенка. Раскопкі не праводзіліся.

*Літ.:* Исаенко В. Ф. Древняя история восточного Полесья.— Мн., 1975. *П. Ф. Лысенка.*

**в. Ліпляны, Лельчыцкі сельсавет**

**1164. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі, каля клуба. На ўшанаванне памяці 81 земляка, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну ў барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў, у 1967 г. пастаўлены помнік — скульптура воіна.

**в. Ліснае, Буйнавіцкі сельсавет**

**1165. СЕЛІШЧА** (археал.). За 0,5 км на поўнач ад вёскі на дзюне. Плошча 200 м². Раскопкі праводзіў у 1983 г. Г. М. Залашка. У раскопе плошчай 16 м² культурны пласт 0,2 м. Знойдзены крамянёвыя адшчэпы, ляпная кераміка, сярод якой некалькі абломкаў глянцаванага посуду, з арнаментам у выглядзе ямак, адбіткаў пазногця, а таксама фрагменты ганчарных пасудзін. Адносіцца да ранняга жалезнага веку і эпохі Кіеўскай Русі. Матэрыялы раскопак захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР. *Г. М. Залашка.*

**в. Маркоўскае, цэнтр сельсавета**

**1166. МЕСЦА БАЗІРАВАННЯ ПАРТЫЗАНСКАГА ЗЛУЧЭННЯ А. М. САБУРАВА, ПАРТЫЗАНСКАГА АТРАДА Я. НАЛЕПКІ, ЛЕЛЬЧЫЦКІХ ПАДПОЛЬНЫХ РАЙКОМАЎ КП(б)Б І ЛКСМБ, ЛЕЛЬЧЫЦКАЙ ПАРТЫЗАНСКАЙ БРЫГАДЫ** (гіст.).



1163. *Курганныя могільнікі. План.*



1166. *Помнік на месцы базіравання партызанскага злучэння А. М. Сабурава, партызанскага атрада Я. Налепкі, Лельчыцкіх падпольных райкомаў КП(б)Б і ЛКСМБ, Лельчыцкай партызанскай брыгады.*

У вёсцы і яе наваколлі ў канцы 1942 г.— жніўні 1943 г. базіравалася ўкраінскае партызанскае злучэнне пад камандаваннем А. М. Сабурава. Злучэнне створана ў сакавіку 1942 г. на базе арганізаванага ў 1941 г. атрада А. М. Сабурава. У кастрычніку 1942 г. злучэнне пачало рэйд па тылах ворага на тэрыторыі Правабярэжнай Украіны, Лельчыцкага, Ельскага і інш. раёнаў Беларусі. На сваім шляху народныя мсціўцы грамілі варожыя гарнізоны, разбуралі камунікацыі праціўніка, праводзілі палітычную работу сярод насельніцтва. У маі 1943 г. да партызан злучэння А. М. Сабурава перайшла група славакаў-антыфашыстаў. 17.5.1943 г. быў арганізаваны славацкі партызанскі атрад на чале з Янам Налепкай (партызанскі псеўданім Рэпкін). Атрад удзельнічаў у разгроме нямецка-фашысцкіх гарнізонаў у Давыд-Гарадку, Ельску, Оўручы, праводзіў дыверсіі на чыгуначных і шашэйных дарогах, у 1944—45 гг. у складзе 1-га Чэхаславацкага армейскага корпуса вызваляў Чэхаславакію.

У ваколіцах вёскі базіраваліся Лельчыцкія падпольныя райкомы КП(б)Б (дзейнічаў з 24.3.1943 г. да 15.1.1944 г., сакратар Р. Л. Лін) і ЛКСМБ (жнівень — верасень 1941 г.; 19.4.1943 г.— 15.1.1944 г., сакратары: Я. Ш. Эрлох — у 1941 г.; Ф. Р. Новікаў да 16.7.1943 г., загінуў; К. І. Буднецкі з 16.7.1943 г.). Друкаваны орган падпольнага райкома КП(б)Б — газета «Па сталінскаму шляху».

Лельчыцкая партызанская брыгада створана ў верасні 1943 г. паводле загаду штаба партызанскага злучэння Паўднёва-Прыпяцкай зоны на базе асобных атрадаў імя М. І. Кутузава (да 4.6.1943 г. Лельчыцкі атрад), імя

М. І. Калініна, імя А. В. Суворава. Камандзір брыгады К. М. Дамброўскі, камісар Р. Л. Лін.

Партызаны вясной 1943 г. правялі аперацыі па знішчэнню варожых суднаў на Прыпяці, сумесна з атрадамі Мазырскай брыгады імя Аляксандра Неўскага і атрадамі ўкраінскіх партызан разграмілі гарнізон праціўніка ў в. Скрыгалаў Мазырскага р-на. У ліпені — жніўні 1943 г. вялі баі супраць нямецка-фашысцкіх карнікаў, удзельнічалі ў «рэйкавай вайне» на чыгуначным участку Ельск — Багуцічы — Славечна. Зімой 1944 г. разам з часцямі Чырвонай Арміі вызвалілі вёскі Астражанка, Замошша, Сіманічы, пабудавалі мост цераз р. Убарць для наступаючых часцей Чырвонай Арміі. 15.1.1944 г. брыгада (661 партызан) злучылася з Чырвонай Арміяй.

У 1980 г. ў гонар партызан злучэння А. М. Сабурава, славацкага атрада Я. Налепкі, Лельчыцкай партызанскай брыгады, Лельчыцкіх падпольных райкомаў КП(б)Б і ЛКСМБ каля будынка выканкома сельскага Савета ўстаноўлены мемарыяльны знак.

*Літ.:* Вершигора П. П., Зеболов В. А. Партизанские рейды.— Кишинев, 1962; Сабуров А. Н. Отвоеванная весна. Кн. 1—2.— М., 1968; Огни партизанской дружбы.— Мн., 1962; Подпольные партийные органы Компартии Белоруссии в годы Великой Отечественной войны (1941—1944).— Мн., 1975.

*В. М. Баскова.*

**в. Мілашавічы, цэнтр сельсавета**

**1167. БРАЦКАЯ МАГІЛА ПАРТЫЗАН** (гіст.). У цэнтры вёскі, каля будынка выканкома сельскага Савета. Пахаваны 2 партызаны-разведчыкі злучэння С. А. Каўпака — старшы лейтэнант, камандзір роты І. В. Нізаў і Рыгор Канякоў, якія загінулі ў лістападзе 1942 г. У 1957 г. на магіле пастаўлены абеліск.




1168. *Курганны могільнік. План.*



1172. *Курганны могільнік. План.*



1173. *Помнік на месцы стварэння 1-га Малдаўскага партызанскага злучэння.*

**1168. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 1 км на ўсход ад вёскі, ва ўрочышчы Сельская Ніўка, у лесе. 20 курганоў вышынёй 0,6—1,2 м, дыяметрам 7—9 м. Абследавалі ў 1964 г. Ю. У. Кухарэнка, у 1976 г. П. Ф. Лысенка. Раскопкі не праводзіліся.

**1169. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). За 0,3 км ад будынка выканкома сельскага Савета. Пахаваны 55 мірных жыхароў. 22.12.1942 г. нямецка-фашысцкія карнікі акружылі вёску, сагналі на плошчу жанчын, старых і дзяцей і расстралялі. У 1956 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**1170. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Насупраць будынка выканкома сельскага Савета. На ўшанаванне памяці 110 аднавяскоўцаў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў, у 1967 г. пастаўлены помнік — скульптура воіна.

**1171. СТАЯНКА, СЕЛІШЧЫ** (археал.).

**1171а.** Стаянка. За 0,5 км на паўднёвы захад ад вёскі, у месцы павароту р. Убарць на паўднёвы ўсход. Плошча каля 0,5 га. Культурны пласт 0,2 м. Знойдзены рэшткі ляпнога посуду, крамянёвыя адшчэпы. Адносіцца да каменнага і бронзавага вякоў.

**1171б.** Селішча-1. За 0,3 км на паўднёвы захад ад вёскі, на пясчанай дзюне. Плошча 200 м². Культурны пласт 0,2 м². Знойдзены рэшткі ганчарнага посуду з лінейным арнаментам. Адносіцца да эпохі Кіеўскай Русі. Датуецца 11 стагоддзем.

**1171в.** Селішча-2. За 0,7 км на паўднёвы захад ад вёскі, на пясчанай дзюне левага берага р. Убарць. Плошча каля 200 м². Культурны пласт 0,1—0,2 м (у выдзіманнях). Знойдзена глянцаваная кераміка. Адносіцца да зарубінецкай культуры.



1175. *Царква. План.*

**1171г.** Селішча-3. За 1 км на поўнач ад вёскі, каля лесапасадкі. Плошча каля 300 м². Культурны пласт 0,2 м. Знойдзены крамянёвыя адшчэпы, 2 наканечнікі стрэл, скрэбла, фрагменты ляпных і ганчарных пасудзін. Селішча адносіцца да каменнага і жалезнага вякоў, а таксама да эпохі Кіеўскай Русі.

Стаянку і селішчы выявіў і абследаваў у 1983 г. Г. М. Залашка. Матэрыялы абследавання захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

*Г. М. Залашка.*

**в. Осаў, Сіманіцкі сельсавет**

**1172. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 3 км на захад ад вёскі. 38 курганоў вышынёй 2,5 м, дыяметрам 13—15 м. Абследаваў у 1976 г. П. Ф. Лысенка. Раскопкі не праводзіліся.

**в. Пабеднае, Лельчыцкі сельсавет**

**1173. МЕСЦА СТВАРЭННЯ 1-га МАЛДАЎСКАГА ПАРТЫЗАНСКАГА ЗЛУЧЭННЯ** (гіст.). У лютым 1943 г. Цэнтральны штаб партызанскага руху накіраваў у Лельчыцкі р-н аператыўную групу, на базе якой было сфарміравана 1-е Малдаўскае партызанскае злучэнне (камандзір В. А. Андрэеў). Летам 1943 г. па тылах ворага перадыслацыравалася на тэрыторыю Малдавіі.

У 1972 г. ў памяць аб стварэнні 1-га Малдаўскага партызанскага злучэння за 1 км на захад ад вёскі, каля шашы Лельчыцы — Мазыр пастаўлена стэла.

**в. Прыбалавічы, Мілашавіцкі сельсавет**

**1174. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны 25 мірных жыхароў, якіх у снежні 1942 г. расстралялі і спалілі нямецка-фашысцкія карнікі. У 1958 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**1175. ЦАРКВА** (архіт.). У цэнтры вёскі. Пабудавана ў 18 ст. з дрэва. Храм трапецападобны ў плане. Складзены



1175. *Царква.*

з брусоў і ашаляваны. Накрыты трохсхільным дахам, які ўтварае шчыт з боку ўсходняга і вальму з заходняга фасадаў. У 19 ст. да асноўнага аб'ёму з захаду прыбудаваны двух'ярусная званіца (чацвярык на чацверыку) з шатровым верхам і тамбур. Галоўнае памяшканне мае люстранае скляпенне, алтарная частка адгароджана іканастасам з разнымі царскімі варотамі.

Царква — помнік драўлянага дойлідства. *Ю. А. Якімовіч.*

**в. Рубеж, Дуброўскі сельсавет**

**1176. МАГІЛА ПАЛЫНЯ** Іосіфа Васілевіча (гіст.). На могілках. Савецкі воін І. В. Палынь загінуў 25.7.1943 г. ў баі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1957 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Руднішча, Маркоўскі сельсавет**

**1177. МАГІЛА САСНОЎСКАГА** Юрыя Еўдакімавіча (гіст.). На могілках. Піянер Ю. Е. Сасноўскі забіты ў 1933 г. ворагамі Савецкай улады. У 1961 г. на магіле пастаўлены абеліск.

*Літ.:* Курто Е. Капли крови твоей...: Повесть.— Мн., 1965.

**в. Сіманіцкі Млынок, Тонежскі сельсавет**

**1178. МАГІЛА ПАРТЫЗАНА** (гіст.). За 3 км на захад ад вёскі, каля дарогі. Пахаваны партызан-славак, які загінуў у ліпені 1943 г. У 1949 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**1179. МАГІЛА ПАРТЫЗАНА** (гіст.). За 4 км на паўночны захад ад вёскі. Пахаваны партызан, які памёр ад ран у снежні 1942 г. У 1949 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Сіманічы, цэнтр сельсавета**

**1180. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). У цэнтры вёскі, каля будынка выканкома сельскага Савета. Пахаваны 10 воінаў, якія загінулі ў снежні 1943 г.— маі 1944 г. пры вызваленні раёна ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. Сярод пахаваных — воіны 23-й стралковай дывізіі 61-й арміі. У 1958 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Сініцкае Поле, Буйнавіцкі сельсавет**

**1181. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 1 км на поўнач ад вёскі, ва ўрочышчы Рудкаў Лясок. 3 насыпы вышынёй 0,8 м, дыяметрам 14—16 м. Адзін курган размешчаны на ўсходняй ускраіне вёскі, вышынёй 0,9 м, дыяметрам 17 м. Вядомы з 1924 г., абследаваў у 1976 г. П. Ф. Лысенка. Раскопкі не праводзіліся.



1186. *Помнік на магіле ахвяр фашызму.*

**в. Стадолічы, цэнтр сельсавета**

**1182. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 2 воіны, якія загінулі ў студзені 1944 г. ў баі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1958 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**1183. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). На заходняй ускраіне вёскі. На ўшанаванне памяці 176 жыхароў вёсак Стадолічы, Заброддзе і Ручное, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў, у 1967 г. пастаўлены абеліск.

**в. Тартак, Маркоўскі сельсавет**

**1184. СЕЛІШЧЫ** (археал.).

**1184а.** Селішча-1. За 0,3 км ад вёскі. Плошча 300 м². Культурны пласт 0,1 м. Знойдзены крамянёвыя адшчэпы, рэшткі ляпной керамікі з арнаментам у выглядзе прамавугольных ямак і тычкоў, а таксама фрагменты ганчарнага посуду. Помнік знаходзіцца на месцы стаянкі каменнага веку, адносіцца да ранняга жалезнага веку і да раннефеадальнага часу.

**1184б.** Селішча-2. Паміж вёскамі Тартак і Слабодка, ва ўсходняй частцы пясчанай дзюны. Плошча 200 м². Культурны пласт 0,1 м. Знойдзена ганчарная кераміка. Адносіцца да эпохі Кіеўскай Русі.

**1184в.** Селішча-3. На паўночна-ўсходняй ускраіне вёскі. У абрыве берага р. Убарць на адлегласці 90 м па цячэнні ракі знойдзены крамянёвыя адшчэпы і ляпная кераміка. Адносіцца да ранняга жалезнага веку.

Селішчы выявіў і абследаваў у 1983 г. Г. М. Залашка. Матэрыялы абследавання захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР. *Г. М. Залашка.*

**в. Тонеж, цэнтр сельсавета**

**1185. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАНА** (гіст.). На рагу вуліц Савецкай і Калгаснай. Пахаваны 3 чырвонаармейцы, якія загінулі ў 1922 г. Сюды ж перанесены астанкі 12 савецкіх воінаў і 2 партызан, што загінулі ў 1944 г. пры вызваленні раёна ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1957 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**1186. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны 261 мірны жыхар.

6.1.1943 г. ў вёску ўварваліся карнікі, якія загадалі жыхарам сабрацца на плошчу каля царквы нібыта для абмену дакументаў. Старых, што не маглі ісці самі, і тых, хто спрабаваў схавацца, забівалі на месцы. Жыхароў, якія сабраліся на плошчы, карнікі загналі ў царкву і падпалілі яе. Сярод загубленых — 108 дзяцей ва ўзросце да 15 гадоў.

У 1955 г. на магіле пастаўлены абеліск. *В. М. Баскова.*

**1187. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). За 3 км ад вёскі, ва ўрочышчы Хізішча. Пахавана сям'я партызана (5 чалавек), якую ў 1942 г. расстралялі нямецка-фашысцкія захопнікі. У 1965 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**1188. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У мемарыяльным скверы. На ўшанаванне памяці 101 аднавяскоўца, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1967 г. пастаўлены помнік — скульптура воіна.

**в. Чырвонабярэжжа, Замошскі сельсавет**

**1189. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 22 воіны, якія загінулі ў студзені — лютым 1944 г. у баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1956 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Чыяне, Лельчыцкі сельсавет**

**1190. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля клуба. На ўшанаванне памяці 16 аднавяскоўцаў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў, у 1979 г. пастаўлена стэла.




# ЛОЕЎСКІ РАЁН

Страдубка
Ліпнякі
Пярэдзелка
Хамінка
Уборак
Рудня-Бурыцкая
Хаткі
Карпаўка
Малінаўка
Нов. Баршчоўка
Казярогі
ЛОЕЎ
Крупейкі
Ручаёўка
Дзімамеркі
Бывалькі
Сяўкі
Дзяражычы

Стаянкі, паселішчы, гарадзішчы

Могільнікі (грунтавыя, курганныя), курганы

Помнікі і памятныя месцы Вялікай Айчыннай вайны (месцы баёў, магілы савецкіх воінаў і партызан, Курганы Славы, помнікі землянам і інш.)

Помнікі ахвярам фашызму (месцы канцлагераў і лагераў смерці, месцы масавай загубы насельніцтва, спаленыя і неадноўленыя вёскі і інш.)

Помнікі і месцы, звязаныя з імёнамі савецкіх партыйных, дзяржаўных і гаспадарчых дзеячаў, дзеячаў культуры, навукі і тэхнікі

Палацы, сядзібы, асабнякі

Жылыя дамы, забудова вуліц дасавецкага перыяду

Цэнтр раёна

Цэнтры сельсаветаў

## XVI. ЛОЕЎ

Гарадскі пасёлак, цэнтр раёна. За 92 км ад Гомеля, 60 км ад чыгуначнай станцыі Рэчыца на лініі Гомель — Калінкавічы. Аўтамабільнымі дарогамі злучаны з Брагінам і Рэчыцай. Прыстань на Дняпры ў вусці р. Сож.

Вядомы з 15 ст. У 1505 г. разбураны татарамі. З канца 16 ст. мястэчка і крэпасць Лоеў — цэнтр старства. У 1646 г. далучаны да Стародубскага павета Смаленскага ваяводства. У вызваленчую вайну ўкраінскага і беларускага народаў 1648—54 гг. каля Лоева паміж казацка-сялянскім войскам і войскам Вялікага княства Літоўскага адбылася бітва (1649 г.). У выніку руска-польскай вайны 1654—67 гг. паводле Андрусаўскага перамір'я (1667 г.) Лоеў у складзе Рэчыцкага павета Мінскага ваяводства. У 1676 г. мястэчка стала ўласнасцю М. С. Юдзіцкага, войта рэчыцкага. Да 2-й палавіны 19 ст. належала яго нашчадкам. Потым Лоеў і навакольныя землі перайшлі ў спадчыну да Лашчаў і Нарушэвічаў. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай з 1793 г. Лоеў у складзе Расійскай імперыі, цэнтр воласці Рэчыцкага павета. У 1858 г. ў Лоеве адбыліся хваляванні сялян, выкліканыя ўвядзеннем новай павіннасці (сплаў лесу) на карысць памешчыка. Паводле перапісу 1897 г. ў Лоеве 4667 жыхароў, 251 двор, 9 млыноў, 24 крамы, гандлёвыя кантоzры, школа, паштовая станцыя. У пачатку 20 ст. дзейнічалі верф, завод па вырабу вохры. У верасні 1904 г. ўзнікла арганізацыя РСДРП, якая ўваходзіла ў Палескі камітэт РСДРП. У сакавіку 1917 г. створаны Савет рабочых дэпутатаў. Савецкая ўлада ўстаноўлена ў лістападзе 1917 г. У сакавіку 1918 г. акупіраваны войскамі кайзераўскай Германіі, у маі — ліпені 1920 г. — буржуазнай Польшчы. З 1926 г. Лоеў цэнтр раёна, з 1938 г. гарадскі пасёлак.

У Вялікую Айчынную вайну з ліпеня 1941 г. да 17.10.1943 г. акупіраваны нямецка-фашысцкімі захопнікамі. У час нямецка-фашысцкай акупацыі дзейнічалі падпольныя райкомы КП(б)Б (26.8.1941 г. — 24.11.1943 г.) і ЛКСМБ (1.11.1942 г. — 24.11.1943 г.).

Забудова пасёлка квартальная, пераважна аднапавярховая, драўляная, у цэнтры 2—3-павярховая. На вуліцах Леніна і Савецкай знаходзяцца будынкі райвыканкома, райкома партыі, гарадскога пасялковага Савета, банка, пошты, рэдакцыі газеты, дзіцячай бібліятэкі.

Працуюць камбінаты будаўнічых матэрыялаў і бытавога абслугоўвання, філіял гомельскага швейнага аб'яднання «Камінтэрн», маслазавод, хлебазавод, раённае аб'яднанне Дзяржкамсельгастэхнікі, педагагічнае вучылішча, 2 сярэднія, музычная і дзіцяча-юнацкая спартыўная школы, 3 дашкольныя ўстановы, Дом піянераў і школьнікаў, Дом культуры, 2 бібліятэкі, бальніца. Выдаецца раённая газета «Серп і молат». Помнікі: У. І. Леніну, савецкім воінам і партызанам, на брацкай магіле савецкіх воінаў і партызан, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну.



1191. *Помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў і партызан.*

Зоны адпачынку — паркі па вул. Леніна і каля вусця р. Сож, берагі Дняпра і Сажа.

*Літ.:* Всенародное партизанское движение в Белоруссии в годы Великой Отечественной войны (июнь 1941 — июль 1944). Т. 1—3. — Мн., 1967—1982; Батов П. И. В походах и боях. — 3 изд. — М., 1974; Рокоссовский К. К. Солдатский долг. — 2 изд. — М., 1972.

*А. П. Грыцкевіч. А. Ю. Пятросава.*

**1191. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). Вул. Леніна. Пахаваны 204 савецкія воіны і партызаны. Сярод іх партызаны злучэнняў С. А. Каўпака і А. М. Сабурава, якія загінулі ў лістападзе 1942 г. ў баях за Лоеў, і воіны 65-й арміі, што загінулі ў кастрычніку 1943 г. пры фарсіраванні Дняпра і вызваленні Лоеўшчыны ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. Сярод пахаваных — Героі Савецкага Саюза Хамід Шамсутдзінавіч Агліулін, Пётр Антонавіч Акуцыёнак, Максім (Міхаіл) Рыгоравіч Апарын, Еўдакім Дзянісавіч Волкаў, Іван Мікалаевіч Карачараў, Барыс Андрэевіч Царыкаў, Мікалай Артамонавіч Шавялёў.

Х. Ш. Агліулін нарадзіўся 20. 3. 1919 г. ў в. Удрак-Баш Благаварскага р-на Башкірскай АССР у сялянскай сям'і. Кандыдат у члены КПСС. З 1939 г. ў Чырвонай Арміі. У Вялікую Айчынную вайну з лютага 1943 г. на Цэнтральным фронце. Старшы сяржант, камандзір сапёрнага аддзялення Х. Ш. Агліулін вызначыўся пры фарсіраванні Дзясны, Снова, Цаты, Дняпра. 15.10.1943 г. пад моцным агнём праціўніка група разведчыкаў і мінёраў, у якой быў Х. Ш. Агліулін, пераправілася паблізу Лоева на правы бераг Дняпра, выбіла гітлераўцаў з траншэй, захапіла плацдарм, што садзейнічала пераправе савецкіх войск. Загінуў у гэтым баі. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 30.10.1943 г. На радзіме імем героя названа школа, устаноўлена мемарыяльная дошка.

П. А. Акуцыёнак нарадзіўся 25.3.1923 г. ў г. п. Шуміліна Віцебскай вобл. ў сям'і рабочага. Член ВЛКСМ. У 1943 г. скончыў ваеннае вучылішча. З 1938 г. працаваў у раённым Доме культуры. У ліпені 1941 г. добраахвотна ўступіў у Чырвоную Армію. У складзе знішчальнага атрада прымаў удзел у барацьбе з фашысцкімі дыверсантамі. На фронце з 1942 г., удзельнік баёў на Курскай дузе. Камандзір узвода 193-й стралковай дывізіі малодшы лейтэнант П. А. Акуцыёнак вызначыўся ў кастрычніку 1943 г. пры фарсіраванні Дняпра і вызваленні Лоева. Узвод пад яго камандаваннем першым фарсіраваў раку і захапіў плацдарм. Прарываючыся ў глыбіню абароны ворага, П. А. Акуцыёнак з чырвоным сцягам і са словамі «За Радзіму, за Беларусь, наперад!» кінуўся на праціўніка. Байцы ўзвода падняліся за ім, выбілі гітлераўцаў з акопаў, захапілі вышыню, на якой П. А. Акуцыёнак узняў чырвоны сцяг. Загінуў у баі 15.10.1943 г. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 30.10.1943 г. Яго імем названы вуліцы ў Лоеве і Шуміліне, імя героя прысвоена школе № 1 у Шуміліне, на будынку школы, дзе ён вучыўся, устаноўлена мемарыяльная дошка. Імя П. А. Акуцыёнка ўпісана ў Кнігу народнай славы Шумілінскага р-на, навечна занесена ў спіс вайсковай часці, дзе служыў.

М. Р. Апарын нарадзіўся ў 1920 г. ў с. Новашалкоўнікава Барабінскага р-на Навасібірскай вобл. ў сялянскай сям'і. У Вялікую Айчынную вайну на фронце з 1941 г. Камандзір гарматы 106-й Забайкальскай стралковай дывізіі старшы сяржант М. Р. Апарын вызначыўся ў кастрычніку 1943 г. ў баях каля Лоева. На захопленым плацдарме агнём з гарматы падтрымліваў наступленне пяхоты. Разлік гарматы адбіў 3 контратакі гітлераўцаў. 15.10.1943 г. ў час трэцяй контратакі М. Р. Апарын загінуў у рукапашным баі. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 30.10.1943 г. Яго імем названы вуліцы ў Лоеве і Барабінску, у в. Пензіна Барабінскага р-на ўстаноўлены бюст.

Е. Дз. Волкаў нарадзіўся 9.3. 1922 г. ў в. Кароткае Почапскага р-на Бранскай вобл. ў сялянскай сям'і. Кандыдат у члены КПСС. У Вялікую Айчынную вайну на фронце з мая 1942 г. Камандзір роты мінамётчыкаў 193-й стралковай дывізіі старшы лейтэнант Е. Дз. Волкаў вызначыўся ў кастрычніку 1943 г. пры вызваленні Лоеўскага р-на. На правым беразе р. Сож рота пад яго камандаваннем адбіла 2 контратакі ворага, пры фарсіраванні Дняпра мінамётным агнём падтрымлівала дэсантны батальён, садзейнічала захопу плацдарма на правым беразе ракі. Загінуў Е. Дз. Волкаў 15.10.1943 г. ў баі за плацдарм. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 30.10.1943 г.

І. М. Карачараў нарадзіўся 29. 8.1903 г. ў с. Багатае Іўнянскага р-на Белгародскай вобл. З сялян. Працаваў дырэктарам Ракіцянскай нарыхтоўчай канторы. У Вялікую Айчынную вайну з 1943 г. на Цэнтральным фронце. Радавы І. М. Карачараў вызначыўся ў кастрычніку 1943 г. пры фарсіраванні Дняпра каля Лоева. У час пераправы плыт быў разбіты, паранены І. М. Карачараў даплыў да правага берага, уварваўся ў траншэю праціўніка і закідаў гітлераўцаў гранатамі. Загінуў у баі 15.10.1943 г. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 30.10. 1943 г.

Б. А. Царыкаў нарадзіўся 31.10. 1926 г. ў Гомелі ў сям'і служачага. Член ВЛКСМ. У Вялікую Айчынную вайну з снежня 1941 г. партызан. У Чырвонай Арміі з студзеня 1943 г. Удзельнік баёў на Курскай дузе. Разведчык 434-га Даурскага стралковага палка 106-й Забайкальскай стралковай дывізіі яфрэйтар Б. А. Царыкаў вызначыўся ў кастрычніку 1943 г. пры фарсіраванні Дняпра ў раёне Лоева. Адзін з першых пераправіўся цераз раку і ўстанавіў на беразе чырвоны сцяг. Перапраўляў параненых, зрабіў 9 рэйсаў цераз Дняпро. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 30.10. 1943 г. Загінуў Б. А. Царыкаў у баі 13.11.1943 г. Яго імем названы вуліцы ў Гомелі і Лоеве, цеплаход, школа ў Гомелі.

М. А. Шавялёў нарадзіўся 25.12. 1899 г. ў г. Бранск. З сялян. Член КПСС з 1931 г. Удзельнік Грамадзянскай вайны. Працаваў на Бежыцкім паравозабудаўнічым заводзе. У 1928 г. ў ліку 25-тысячнікаў накіраваны арганізоўваць калгасы, узначальваў сельгасарцель у Бранскім р-не. У Чырвонай Арміі з 1941 г. У Вялікую Айчынную вайну з кастрычніка 1942 г. на Сталінградскім і Цэнтральным франтах. Намеснік камандзіра батальёна капітан М. А. Шавялёў вызначыўся пры фарсіраванні Дняпра ў Лоеўскім р-не. У кастрычніку 1943 г. пад агнём праціўніка дэсантная група



1192. *Жылы дом № 1 па вуліцы Савецкай. План 1-га паверха.*

пад камандаваннем М. А. Шавялёва пераправілася цераз раку, выбіла ворага з траншэй. У складзе батальёна ўдзельнічаў у баях за плацдарм, у якіх было знішчана 300 гітлераўцаў і 20 кулямётаў. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 30.10.1943 г. М. А. Шавялёў памёр 21.11.1943 г. ад ран.

У 1955 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна са сцягам і надмагіллі.

*Літ.:* В памяти народной.— Мн., 1969; В грозные годы.— Мн., 1973; Навечно в сердце народном.— 3 изд.— Мн., 1984.

*У. У. Бянько.*

**1192. ЖЫЛЫ ДОМ** (архіт.). Вул. Савецкая, 1. Пабудаваны ў 1874 г. з цэглы. У пачатку 20 ст. левая частка дома перабудавана. Цяпер тут размешчаны дзіцячая музычная школа і цэнтральная раённая бібліятэка.

Прамавугольны ў плане двухпавярховы будынак накрыты вальмавым дахам. Галоўны фасад дэкарыраваны руставанымі лапаткамі, складаным карнізам з арнаментам і сухарыкамі. Аконныя праёмы 1-га паверха лучковыя, з замковым каменем, 2-га — аздоблены ліштвамі, сандрыкамі і арнаментам. Сістэма планіроўкі калідорная.

Жылы дом — помнік архітэктуры з элементамі неакласіцызму.

*А. Ю. Пятросава.*

**1193. ЖЫЛЫ ДОМ** (архіт.). Вул. Савецкая, 4. Пабудаваны ў пачатку 20 ст. з цэглы. Цяпер тут размешчана дзіцячая бібліятэка.

Аднапавярховы прамавугольны ў плане будынак накрыты вальмавым



1193. *Жылы дом № 4 па вуліцы Савецкай. План.*



1192. *Жылы дом № 1 па вуліцы Савецкай.*

дахам. Галоўны паўднёвы фасад сіметрычны, крапаваны руставанымі лапаткамі, карнізам з сухарыкамі і прарэзаны лучковымі аконнымі праёмамі ў ліштвах. Інтэр'ер падзелены перагародкай на 2 памяшканні.

Жылы дом — помнік архітэктуры з элементамі неакласіцызму.

**1194. КУРГАН, СЕЛІШЧА** (археал.).

**1194а.** Курган. За 4 км на паўночны захад ад пасёлка, ва ўрочышчы Грэгарава поле. Вышыня 1,5 м, дыяметр 10 м. Выявіў і даследаваў у канцы 19 ст. У. З. Завітневіч. Пахавальны абрад — трупаспаленне. Знойдзены рэшткі ганчарнай керамікі. У 1975 г. абследаваў Л. Д. Побаль. Датуецца 10—13 стагоддзямі, належыць усходнім славянам.

**1194б.** Селішча. Ва ўрочышчы Папова Гара. Плошча да 1 га. Вядома з канца 19 ст. Абследавалі ў 1891 г. У. З. Завітневіч, у 1936 г. А. Дз. Каваленя. Знойдзена кераміка мілаградскай і ранняга этапу зарубінецкай культур. Датуецца 7 ст. да н. э.— 2 ст. н. э.

Матэрыялы раскопак захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

*Літ.:* Завитневич В. З. Вторая археологическая экскурсия в Припятское Полесье.— Киев, 1892; Поболь Л. Д. Славянские древности Белоруссии: (свод археологических памятников раннего этапа зарубинецкой культуры — с середины III в. до н. э. по начало II в. н. э.) — Мн., 1974.

*Л. Д. Побаль.*

**1195. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). Вул. Камсамольская. На мо-



1193. *Жылы дом № 4 па вуліцы Савецкай.*

гілках. Пахаваны 87 мірных жыхароў, загубленых у 1943 г. нямецка-фашысцкімі захопнікамі. У 1967 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**1196. МАГІЛА КАЗЛОВА** Аляксея Васілевіча (гіст.). Вул. Камсамольская, на могілках.

Герой Савецкага Саюза А. В. Казлоў нарадзіўся 25.2.1913 г. ў г. п. Лоеў. Член КПСС з 1942 г. У 1932 г. скончыў Днепрапятроўскі чыгуначны тэхнікум, у 1934 г.— Севастопальскую школу лётчыкаў. З 1932 г. служыў на Чарнаморскім флоце. З 1939 г. працаваў тэхнікам у г. Лепель. Удзельнік савецка-фінляндскай вайны 1939—40 гг., зрабіў 57 баявых вылетаў. У Вялікую Айчынную вайну на фронце з 1941 г. Штурман 118-й далёкаразведвальнай авіяэскадрыллі старшы лейтэнант А. В. Казлоў зрабіў 247 баявых вылетаў, збіў 14 варожых самалётаў. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 4.2.1944 г. 3.3.1944 г. ў час выканання баявога задання самалёт Казлова быў збіты. Пасля ампутацыі ног працаваў інструктарам у авіяцыйным вучылішчы, з 1947 г. загадчык арганізаванай ім дзіцячай бібліятэкі ў Лоеве. Памёр 6.6.1976 г. У 1976 г. на магіле пастаўлены абеліск.

*Літ.:* Навечно в сердце народном.— 3 изд.— Мн., 1984. *У. У. Бянько.*

**1197. ПОМНІК ЛЕНІНУ** Уладзіміру Ільічу (гіст.). На вул. Леніна, у скверы каля будынка райвыканкома. Скульптура У. І. Леніна ўстаноўлена ў 1948 г.

**1198. ПОМНІК ЛЕНІНУ** Уладзіміру Ільічу (гіст.). У парку. Скульптура У. І. Леніна ўстаноўлена ў 1958 г.

**1199. ПОМНІК САВЕЦКІМ ВОІНАМ І ПАРТЫЗАНАМ** (гіст.). На вул. Леніна.

У ноч з 6 на 7 лістапада 1942 г. партызаны злучэнняў С. А. Каўпака і А. М. Сабурава фарсіравалі Дняпро каля Лоева, разграмілі фашысцкі гарнізон і захапілі пасёлак. 7 лістапада адбыўся мітынг і парад партызан у гонар 25-й гадавіны Вялікай Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі.

У ходзе летне-асенніх наступальных аперацый 1943 г. войскі 65-й арміі Цэнтральнага (з 20.10.1943 г. Беларускі) фронту фарсіравалі р. Сож на поўдзень ад Гомеля і, пераадолеўшы ўпартае супраціўленне ворага, выйшлі да Дняпра ў раёне Лоева. На досвітку 15 кастрычніка штурмавыя батальёны 69, 106, 149, 193-й стралковых дывізій пры падтрымцы артылерыі і авіяцыі пачалі фарсіраванне Дняпра. Да 10 гадзін на правым беразе замацаваліся 4 батальёны, якія на захопленым плацдарме вялі ўпартыя баі супраць ворага. 17 кастрычніка галоўныя сілы 18-га і 27-га стралковых карпусоў пераправіліся на правы бераг ракі і вызвалілі Лоеў і некалькі інш. населеных пунктаў.



1199. *Помнік савецкім воінам і партызанам.*

Вялікую дапамогу савецкім воінам пры фарсіраванні Дняпра і вызваленні Лоева аказалі партызаны Лоеўскай брыгады «За Радзіму» (камандзір Р. І. Сінякоў, камісар С. А. Гардзееў), а таксама мясцовыя жыхары. За мужнасць і гераізм, праяўленыя пры фарсіраванні Дняпра, 183 воінам 65-й арміі прысвоена званне Героя Савецкага Саюза. Імёнамі Герояў Савецкага Саюза П. А. Акуцыёнка, М. Р. Апарына, Б. А. Царыкава названы вуліцы ў Лоеве.

У 1966 г. ў гонар воінаў 65-й арміі, партызанскіх злучэнняў С. А. Каўпака і А. М. Сабурава, а таксама Лоеўскай брыгады «За Радзіму» Гомельскага партызанскага злучэння пастаўлены 18-метровы абеліск, на пастаменце — 2 барэльефы.

*Літ.:* В грозные годы.— Мн., 1973; В памяти народной.— Мн., 1969; Освобождение Белоруссии. 1944.— 2 изд.— М., 1974; Всенародное партизанское движение в Белоруссии в годы Великой Отечественной войны (июнь 1941 — июль 1944). Т. 1.— Мн., 1967; Ковпак С. А. От Путивля до Карпат.— М., 1970; Батов П. И. В походах и боях.— 3 изд.— М., 1974; Рокоссовский К. К. Солдатский долг.— 2 изд.— М., 1972. *У. У. Бянько.*

**1200. РАДЗІМА КАРПЕНКІ** Акіма Паўлавіча (гіст.).

Герой Савецкага Саюза А. П. Карпенка нарадзіўся 4.9.1915 г. ў сям'і рабочага. Член КПСС з 1942 г. У Чырвонай Арміі з 1933 г. У 1936 г. скончыў 5-ю авіяцыйную школу ў Ленінградзе. У Вялікую Айчынную вайну з чэрвеня 1941 г. на Паўднёвым, Паўднёва-Заходнім, Паўночна-Каўказскім франтах. Штурман эскадрыллі маёр А. П. Карпенка зрабіў 236 баявых вылетаў, у т. л. 184 на далёкія аб'екты праціўніка, нанёс нямецка-фашысцкім захопнікам вялікія страты ў жывой сіле і тэхніцы. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 13.3.1944 г. Да мая 1954 г. ў Савецкай Арміі, палкоўнік. Працаваў на заводзе імя Кірава ў Цірaспалі, на цеплаходах пасажырскіх ліній. Памёр 10.9.1974 г., пахаваны ў г. Бендэры.

*Літ.:* Навечно в сердце народном.— 3 изд.— Мн., 1984. *У. У. Бянько.*

**1201. РАДЗІМА ПІНЧУКА** Рыгора Сяргеевіча (гіст.).

Герой Савецкага Саюза Р. С. Пінчук нарадзіўся 11.1.1912 г. З рабочых. Член КПСС з 1939 г. У 1934 г. скончыў Днепрапятроўскі чыгуначны тэхнікум, у 1936 г.— 2-ю Варашылаўградскую школу ваенных лётчыкаў, у 1942 г.— Ваенна-марскую акадэмію. У Чырвонай Арміі з 1934 г. Удзельнік савецка-фінляндскай вайны 1939—40 гг. Старшы лётчык лейтэнант Р. С. Пінчук вызначыўся 2.2.1940 г. У час бамбардзіроўкі ваенных аб'ектаў праціўніка быў атакаваны варожымі знішчальнікамі, збіў адзін з іх, пасадзіў сваю ахопленую полымем машыну ў тыле ворага. Сумесна з экіпажам перайшоў лінію фронту і вярнуўся ў сваю часць. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 7.2.1940 г. У Вялікую Айчынную вайну на фронце з чэрвеня 1941 г. Капітан Р. С. Пінчук загінуў 14.5. 1944 г. пры выкананні службовых абавязкаў. Пахаваны ў Кранштаце на алеі Герояў. Яго імем названа вуліца ў Лоеве.

*Літ.:* Навечно в сердце народном.— 3 изд.— Мн., 1984. *У. У. Бянько.*

**в. Абакумы, Карпаўскі сельсавет**

**1202. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 0,7 км на захад ад вёскі, ва ўрочышчы Кардон. 23 курганы дыяметрам 4—5 м і 12—13 м, вышынёй 0,5—1,3 м. Абследаваў у 1977 г. М. І. Лашанкоў. Раскопкі не праводзіліся.

*Літ.:* Лошенков М. И., Залашко Г. М. Работы Полесского отряда на Гомельщине.— У кн.: Археологические открытия 1977 года. М., 1978.

**в. Астравы, Малінаўскі сельсавет**

**1203. ГАРАДЗІШЧА** (археал.). За 3 км на паўднёвы ўсход ад вёскі, ва ўрочышчы Рудавец, на невысокім узвышшы сярод балот. Гарадзішча квадратнай формы, памерам 90×90 м. Пляцоўка плошчай 2887,5 м² умацавана валам вышынёй 3 м і шырынёй да 18 м. Абследаваў у 1977 г. М. І. Лашанкоў. Культурны пласт 0,3 м. Раскопкі не праводзіліся.

*Літ.:* Лошенков М. И., Залашко Г. М. Работы Полесского отряда на Гомельщине.— У кн.: Археологические открытия 1977 года. М., 1978. *М. І. Лашанкоў.*

**в. Бывалькі, цэнтр сельсавета**

**1204. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). У цэнтры вёскі, на плошчы. Пахаваны 433 воіны 65-й арміі і партызаны Лоеўскай брыгады «За Радзіму», якія загінулі ў кастрычніку 1943 г. пры фарсіраванні Дняпра і вызваленні Лоеўскага р-на ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. Сярод пахаваных — Героі Савецкага Саюза Баян Еркеевіч Даўлетаў, Фрол Андрэевіч Ермакоў, Віктар Аляксандравіч Карпенка.

Б. Е. Даўлетаў нарадзіўся 8.3. 1924 г. ў с. Татарскі Азібей Актанышскага р-на Татарскай АССР у сялянскай сям'і. У Вялікую Айчынную вайну на фронце з мая 1943 г. Камандзір стралковага ўзвода 60-й стралковай дывізіі старшы лейтэнант Б. Е. Даўлетаў вызначыўся пры фарсіраванні Дняпра ў Лоеўскім р-не. 21.10. 1943 г. ў баі за в. Бывалькі ўзвод пад камандаваннем Б. Е. Даўлетава знішчыў некалькі агнявых кропак праціўніка, што дапамагло батальёну вызваліць вёску. У гэтым баі Б. Е. Даўлетаў быў смяротна паранены. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 30.10.1943 г.

Ф. А. Ермакоў нарадзіўся 15.8. 1915 г. ў в. Несцераўка Новасергіеўскага р-на Арэнбургскай вобл. ў сялянскай сям'і. У Чырвонай Арміі з 1937 г. У Вялікую Айчынную вайну з мая 1942 г. на Паўднёва-Заходнім і Цэнтральным франтах. Камандзір роты 60-й стралковай дывізіі лейтэнант Ф. А. Ермакоў вызначыўся пры фарсіраванні Дняпра ў Лоеўскім р-не. У ноч на 18.10.1943 г. рота Ф. А. Ермакова першай пераправілася цераз Дняпро і захапіла паўночную ўскраіну в. Бывалькі, адбіла 3 контратакі праціўніка. У час апошняй Ф. А. Ермакоў загінуў. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 30.10.1943 г.

В. А. Карпенка нарадзіўся 28.7. 1923 г. ў с. Качарова Радамышльскага р-на Жытомірскай вобл. ў сялянскай сям'і. Член ВЛКСМ. У Чырвонай Арміі з 1941 г. Скончыў Кіеўскае пяхотнае вучылішча (1942 г.). У Вялікую Айчынную вайну на фронце з ліпеня 1942 г. Камандзір кулямётнай роты старшы лейтэнант В. А. Карпенка вызначыўся пры вызваленні Лоеўскага р-на. 17.10.1943 г. пад моцным агнём праціўніка на чале роты ў ліку першых фарсіраваў Дняпро, замацаваўся на плацдарме, адбіваў варожыя контратакі, што садзейнічала пераправе падраздзяленняў Чырвонай Арміі. Загінуў у гэтым баі. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 30.10.1943 г.

У 1966 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна ў жалобе і дошкі з імёнамі загінуўшых.

*Літ.:* В грозные годы.— Мн., 1973; Навечно в сердце народном.— 3 изд.— Мн., 1984. *У. У. Бянько.*

**1205. ГАРАДЗІШЧА, СЕЛІШЧЫ** (археал.).

**1205а.** Гарадзішча. За 1,5 км на паўночны ўсход ад вёскі, ва ўрочышчы Катвіна. Пляцоўка памерам 55×30 м, умацавана кольцападобным валам (слаба прасочваецца). Выявіў у 1936 г. А. Дз. Каваленя, абследавалі ў 1960—62 гг. В. М. Мельнікоўская, у 1975 г. Л. Д. Побаль. У культурным пласце 0,2 м знойдзена кераміка мілаградскай (7—3 ст. да н. э.) і зарубінецкай (3 ст. да н. э.— 5 ст. н. э.) культур ранняга жалезнага веку. Матэрыялы абследаванняў захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР і ў Інстытуце археалогіі АН СССР.



**1204.** *Помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў і партызан.*

**1205б.** Селішча-1. За 1 км на поўдзень ад вёскі, у напрамку да в. Цясны. Плошча каля 0,5 га. Адкрыў у 1936 г. А. Дз. Каваленя, абследаваў у 1975 г. Л. Д. Побаль. У культурным пласце 0,3 м знойдзены ляпная кераміка і абломак жалезнага нажа. Адносіцца да зарубінецкай культуры ранняга жалезнага веку (3 ст. да н. э.— 5 ст. н. э.). Матэрыялы абследавання захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

**1205в.** Селішча-2. За 1,5 км на паўночны ўсход ад вёскі, ва ўрочышчы Катвіна, побач з селішчам-1. Плошча каля 1 га. Абследаваў у 1936 г. А. Дз. Каваленя. У культурным пласце 0,3 м знойдзены ляпная кераміка ранняга жалезнага веку і ганчарная кераміка раннефеадальнага часу. У 1975 г. абследаваў Л. Д. Побаль. Матэрыялы абследавання захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР. Раскопкі не праводзіліся.

*Літ.:* Мельниковская О. Н. Племена Южной Белоруссии в раннем железном веке.— М., 1967. *Л. Д. Побаль.*

**1206. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У скверы, каля клуба. На ўшанаванне памяці 176 воінаў-землякоў, якія загінулі ў барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у Вялікую Айчынную вайну, у 1966 г. пастаўлены абеліск.

**в. Вазон, Уборкаўскі сельсавет**

**1207. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На паўднёвай ускраіне вёскі. Пахаваны 221 воін 4-й гвардзейскай кавалерыйскай дывізіі і стралковых падраздзяленняў 65-й арміі, якія загінулі ў кастрычніку 1943 г. пры вызваленні в. Вазон і навакольных вёсак ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1963 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в.Ваўкашанка, Уборкаўскі сельсавет**

**1208. ГАРАДЗІШЧА** (археал.). За 1 км на паўночны захад ад вёскі ў забалочанай мясцовасці. Пляцоўка памерам 50×40 м умацавана валамі, пераважна двайнымі, зарасла дрэвамі і кустамі. Выявіў і абследаваў у 1982 г. М. Ф. Гурын. Культурны пласт каля 0,4 м. Знойдзены фрагменты ляпной керамікі ранняга жалезнага веку. Матэрыялы абследавання захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР. *М. Ф. Гурын.*

**в. Гарадок, Бывалькаўскі сельсавет**

**1209. ГАРАДЗІШЧА, СЕЛІШЧА, КУРГАН** (археал.).

**1209а.** Гарадзішча. За 0,2 км на ўсход ад вёскі, ва ўрочышчы Грудка, на правым беразе Дняпра. Пляцоўка памерам 80×70 м нахілена да Дняпра. З боку поля ўмацавана валам вышынёй да 5 м. Абследавалі ў 1951 г. Ю. У. Кухарэнка, у 1956 і 1975 гг. Л. Д. Побаль, у 1960-я гады В. М. Мельнікоўская. У культурным пласце каля 0,5 м знойдзена ляпная кераміка мілаградскай і ранняга этапа зарубінецкай культур (7 ст. да н. э.— 2 ст. н. э.). Раскопкі не праводзіліся.

**1209б.** Селішча. За 1,8 км на паўднёвы ўсход ад вёскі, за 0,3 км на паўднёвы ўсход ад гарадзішча, на правым беразе Дняпра. Плошча каля 1 га. Абследавалі ў 1960-я гады В. М. Мельнікоўская, у 1956 і 1975 гг. Л. Д. Побаль. У культурным пласце 0,5 м знойдзены ляпная кераміка позняга этапа зарубінецкай культуры (3—5 ст. н. э.) і ганчарная кераміка раннефеадальнага часу. Раскопкі не праводзіліся.

**1209в.** Курган. За 1,2 км на ўсход ад вёскі, на правым беразе Дняпра. Дыяметр 8 м, вышыня 1,5 м. Выявіў у 1977 г. М. І. Лашанкоў.

Матэрыялы абследаванняў захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР і Інстытуце археалогіі АН СССР.

*Літ.:* Мельниковская О. Н. Племена Южной Белоруссии в раннем железном веке.— М., 1967. *Л. Д. Побаль, М. І. Лашанкоў.*

**пас. Гарадок, Пярэдзелкаўскі сельсавет**

**1210. ГАРАДЗІШЧА** (археал.). За 0,5 км на ўсход ад вёскі, ва ўрочышчы Гарадзец, або Гара, на правым беразе Дняпра. Плошча каля 0,2 га. Захаваліся частка пляцоўкі, вал (вышыня 1,5 м) і роў (глыбіня 2 м) з заходняга вонкавага боку. Культурны пласт 0,3—0,4 м. Абследавалі ў 1960 г. В. М. Мельнікоўская, у 1961 г. Ю. У. Кухарэнка, у 1964, 1965, 1979 гг. Л. Д. Побаль. У абрыве берага знойдзены абломкі ляпной і глянцаванай керамікі. Адносіцца да мілаградскай (7—3 стагоддзі да н. э.) і ранняга перыяду зарубінецкай (3 ст. да н. э.— 2 ст. н. э.) культур. Раскопкі не праводзіліся.

Матэрыялы абследаванняў захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

*Літ.:* Побол ь Л. Д. Славянские древности Белоруссии: (свод археологических памятников раннего этапа зарубинецкой культуры — с середины III в. до н. э. по начало II в. н. э.).— Мн., 1974.

*Л. Д. Побаль.*

**в. Глушэц, Саўкоўскі сельсавет**

**1211. ПОМНІК САВЕЦКІМ ВОІНАМ** (гіст.). На ўсходняй ускраіне вёскі. У ноч з 1 на 2 кастрычніка 1943 г. воіны 81-й стралковай дывізіі 61-й арміі Беларускага фронту фарсіравалі Дняпро каля в. Глушэц, захапілі плацдарм. У 1982 г. ў памяць аб гэтай баявой аперацыі пастаўлена стэла.

**в. Дзяражычы,**
**Бывалькаўскі сельсавет**

**1212. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На ўсходняй ускраіне вёскі, на правым беразе Дняпра. Пахаваны 1259 воінаў 61-й арміі, якія загінулі ў кастрычніку 1943 г. пры фарсіраванні Дняпра і вызваленні Лоеўскага р-на. Сярод пахаваных Героі Савецкага Саюза Абдусалім Дзехканбаеў, Аляксей Пятровіч Еўдакімаў, Мікалай Іванавіч Міхайлаў, Фёдар Кузьміч Папоў, Іван Сяргеевіч Перахода, Васіль Рыгоравіч Пічугоў, Барыс Васілевіч Самсонаў, Ідрыс Ургенышбаеў, Мікалай Мікалаевіч Яромушкін.

А. Дзехканбаеў нарадзіўся ў 1906 г. ў кішлаку Ашырказі Ленінградскага р-на Ферганскай вобл. ў сялянскай сям'і. Член КПСС з 1931 г. Працаваў старшынёй калгаса. У Вялікую Айчынную вайну з 1943 г. на Цэнтральным фронце, радавы 81-й стралковай дывізіі. Вызначыўся пры вызваленні Лоеўскага р-на. 1.10.1943 г. ў складзе дэсантнай групы першы пераправіўся цераз Дняпро каля в. Глушэц. Аўтаматным агнём выбіў праціўніка з траншэі і прыкрываў роту, якая фарсіравала раку, знішчыў каля 40 гітлераўцаў. А. Дзехканбаеў загінуў у баі 8.10.1943 г. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 15.1.1944 г.

А. П. Еўдакімаў нарадзіўся 8.2. 1925 г. ў в. Труняеўка Клінскага р-на Маскоўскай вобл. ў сялянскай сям'і. У Вялікую Айчынную вайну на фронце з 1943 г. Камандзір кулямётнага разліку 81-й стралковай дывізіі малодшы сяржант А. П. Еўдакімаў вызначыўся ў кастрычніку 1943 г. пры фарсіраванні Дняпра ў Лоеўскім р-не. Пад агнём праціўніка адным з першых пераправіўся цераз раку, уварваўся ў варожыя траншэі, знішчыў 11 гітлераўцаў. 2.10.1943 г. на захопленым плацдарме адбіў 6 контратак, знішчыў каля 40 гітлераўцаў. Загінуў А. П. Еўдакімаў 6.10.1943 г. ў баі за в. Глушэц. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 15.1.1944 г. Яго імем названы вуліцы ў г. Клін, піянерскі атрад Дзяражыцкай васьмігадовай школы.

М. І. Міхайлаў нарадзіўся 6.12. 1923 г. ў г. Мінусінску Краснаярскага краю. З сялян. Кандыдат у члены КПСС. У Чырвонай Арміі з 1941 г. У Вялікую Айчынную вайну на фронце з лютага 1943 г. Камандзір стралковай роты старшы лейтэнант М. І. Міхайлаў вызначыўся ў баях пры вызваленні Лоеўскага р-на. 15.10.1943 г. група байцоў роты пад агнём праціўніка фарсіравала Дняпро, у баі за плацдарм захапіла 6 варожых гармат; ноччу 16 кастрычніка ўзяла ў палон разлік варожай гарматы; 17.10.1943 г. пры вызваленні в. Казярогі адбіла 7 контратак праціўніка. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 30.10. 1943 г. Загінуў М. І. Міхайлаў 16.11. 1943 г. пры вызваленні Рэчыцкага р-на. Яго імем названа вуліца на радзіме.

Ф. К. Папоў нарадзіўся 8.12.1921 г. ў Батарынскім наслегу Мегіна-Кангаласкага р-на Якуцкай АССР. З сялян. У Вялікую Айчынную вайну на фронце з 1942 г. Вызначыўся пры вызваленні Лоеўскага р-на. 2.10.1943 г. стралок радавы Ф. К. Папоў пад агнём праціўніка адным з першых пераправіўся цераз Дняпро, уварваўся ў траншэю праціўніка, знішчыў 23 гітлераўцаў, захапіў ручны кулямёт. 3. 10.1943 г. адбіў контратаку праціўніка, знішчыў каля 50 гітлераўцаў. Загінуў Ф. К. Папоў 10.10.1943 г. ў баі. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 15.1.1944 г.

І. С. Перахода нарадзіўся 20.1. 1907 г. ў г. Паўлаградзе Днепрапятроўскай вобл. ў сям'і рабочага. У Вялікую Айчынную вайну з 1941 г. на Бранскім і Цэнтральным франтах. Камандзір кулямётнага разліку 356-й стралковай дывізіі сяржант І. С. Перахода вызначыўся пры вызваленні Брагінскага р-на 27.9.1943 г. З 5 байцамі пераправіўся цераз Дняпро і захапіў плацдарм. У час варожай контратакі байцы кулямётнага разліку загінулі. Калі астаўся адзін, І. С. Перахода адбіў 6 контратак, знішчыў каля 150 гітлераўцаў. Загінуў у гэтым баі. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 15.1.1944 г.

В. Р. Пічугоў нарадзіўся ў 1912 г. ў с. Пільна Краснагорскага р-на Алтайскага краю. З сялян. У Вялікую Айчынную вайну на фронце з 1943 г. Вызначыўся пры фарсіраванні Дняпра і вызваленні Лоеўскага р-на. Пад агнём праціўніка пераправіўся на правы бераг ракі, уварваўся ў варожую траншэю, знішчыў 12 гітлераўцаў і разлік станковага кулямёта. 3.10.1943 г. ў складзе батальёна прымаў удзел у адбіцці 8 контратак праціўніка. Асабіста знішчыў каля 60 гітлераўцаў. Загінуў В. Р. Пічугоў 6.10.1943 г. ў баі. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 15.1.1944 г.

Б. В. Самсонаў нарадзіўся 3.6. 1909 г. ў с. Востраў Ленінскага р-на Маскоўскай вобл. З сялян. Член КПСС з 1939 г. У Вялікую Айчынную вайну ў жніўні 1943 г. добраахвотнікам пайшоў на фронт. Стралок гвардыі радавы Б. В. Самсонаў вызначыўся пры фарсіраванні Дняпра каля г. п. Камарын Брагінскага р-на. 27.9.1943 г.



**1209в.** *Курган.*



1212. *Помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў. Фрагмент.*

з групай байцоў пераправіўся цераз Дняпро, байцы выбілі ворага з траншэі, захапілі плацдарм, адбілі некалькі контратак. Загінуў Б. В. Самсонаў 21.10.1943 г. ў баі. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 15.1.1944 г.

І. Ургенышбаеў нарадзіўся ў 1912 г. ў с. Талдыкум Чалкарскага р-на Акцюбінскай вобл. Член КПСС з 1942 г. Скончыў Акцюбінскае педвучылішча і працаваў дырэктарам школы. У Вялікую Айчынную вайну з 1942 г. на фронце. Камандзір аддзялення сяржант І. Ургенышбаеў вызначыўся пры вызваленні Лоеўскага р-на. 2.10.1943 г. пад агнём праціўніка з групай байцоў пераправіўся цераз Дняпро каля Лоева, выбіў праціўніка з траншэі, узяў на сябе камандаванне, замацаваўся на плацдарме і забяспечыў пераправу ўсяго батальёна. З удзелам І. Ургенышбаева было адбіта 22 контратакі праціўніка. Загінуў у гэтым баі. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 15.1.1944 г. Яго імем названы вуліцы ў г. Чалкар і школа, дзе ён вучыўся.

М. М. Яромушкін нарадзіўся 15.12.1925 г. ў с. Наватроіцк Салтонскага р-на Алтайскага краю ў сялянскай сям'і. Член ВЛКСМ. Працаваў у калгасе. У Чырвонай Арміі з студзеня 1943 г. З жніўня 1943 г. на Цэнтральным фронце. Стралок гвардыі радавы М. М. Яромушкін вызначыўся пры фарсіраванні Дняпра ў Брагінскім р-не. У ноч на 27.9.1943 г. пад агнём праціўніка адзін з першых пераправіўся цераз раку, уварваўся ў траншэі праціўніка, на працягу дня на захопленым плацдарме адбіваў контратакі ворага, што садзейнічала пераправе палка. Загінуў М. М. Яромушкін 21.10.1943 г. каля в. Новая Лутава Лоеўскага р-на. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 15.1.1944 г. На радзіме пастаўлены помнік.

На брацкай магіле ў 1956 г. ўстаноўлены надмагіллі і абеліск, у 1971 г.— стэла, скульптура воіна ў жалобе і пліты з імёнамі загінуўшых.

*Літ.:* Навечно в сердце народном.— 3 изд.— Мн., 1984; В грозные годы.— Мн., 1973. *У. У. Бянько.*

**1213. ПАСЕЛІШЧА І БЕСКУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.).

**1213а.** Паселішча. За 1 км на поўнач ад вёскі, на схіле карэннага берага Дняпра. Працягласць уздоўж ракі да 250 м, вышыня над летнім межанным узроўнем вады ў рацэ 8—10 м. Выявілі і даследавалі ў 1965 г. У. Ф. Ісаенка і І. М. Ціханенкаў, абследавалі ў 1967 г. У. Ф. Ісаенка, у 1978 г. У. П. Ксяндзоў. Культурны пласт 0,2 м захаваўся часткова. Знойдзены крамянёвыя наканечнікі стрэл, скрабкі, нажы, сякеры, абломкі гліпянага посуду, часткова ўпрыгожанага арнаментам.

**1213б.** Бескурганны могільнік. На тэрыторыі паселішча. Выяўлены урнавыя пахаванні ў ямках, пахавальны абрад — трупаспаленне. Знойдзены рэшткі ляпной керамікі. Паселішча і могільнік адносяцца да тшцінецкай і сосніцкай культур бронзавага веку. Датуюцца 2-й палавінай 2-га тысячагоддзя да н. э.

Матэрыялы даследавання захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

*Літ.:* Исаенко В. Ф., Чернявский М. М. Новые данные по спорным вопросам бронзового века Белоруссии.— У кн.: Белорусские древности. Мн., 1967. *У. Ф. Ісаенка.*

**в. Казіміраўка, Пярэдзелкаўскі сельсавет**

**1214. МАГІЛА АДЭГАВА** Герасіма Андрэевіча (гіст.). На могілках. Савецкі воін Г. А. Адэгаў загінуў 23.10.1943 г. пры вызваленні вёскі ад нямецка-фашысцкіх акупантаў. У 1975 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**1215. РАДЗІМА МАРОЗАВА** Дзмітрыя Кузьміча (гіст.).

Герой Савецкага Саюза Дз. К. Марозаў нарадзіўся 18.10.1912 г. ў рабочай сям'і. Член КПСС з 1940 г. У 1932 г. скончыў Гомельскі фінансава-эканамічны тэхнікум, у 1949 г.— Ваенную акадэмію імя М. В. Фрунзе. У Чырвонай Арміі з 1934 г. Удзельнік баёў з японскімі імперыялістамі на Далёкім Усходзе ў 1939 г., савецка-фінляндскай вайны 1939—40 гг. У Вялікую Айчынную вайну з ліпеня 1941 г. на Паўночна-Заходнім, Заходнім, 3-м Беларускім, 1-м Далёкаўсходнім франтах. Камандзір 850-га стралковага палка 277-й стралковай дывізіі 5-й арміі палкоўнік Дз. К. Марозаў вызначыўся ў Беларускай аперацыі 1944 г. 22.6.1944 г. полк прарваў абарону ворага на заходнім беразе р. Сухадроўка на паўднёвы ўсход ад Віцебска і авалодаў апорным пунктам Буракі; 25.6.1944 г. захапіў умацаваны населены пункт Заазернае; 29.6.44 г. фарсіраваў Бярэзіну, выйшаў у тыл праціўніка, забяспечыў фарсіраванне ракі галоўнымі сіламі дывізіі. Праследуючы ворага, фарсіраваў Вілію, Нёман, удзельнічаў у вызваленні Вільнюса, Каўнаса, у штурме Кёнігсберга, Пілаў, разгроме японскай Квантунскай арміі ў Маньчжурскай аперацыі 1945 г. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 24.3.1945 г. Да 1956 г. служыў у Савецкай Арміі, палкоўнік. Жыў у г. Феадосія Крымскай вобл. Памёр 5.1.1981 г.

*Літ.:* Освобождение Белоруссии 1944.— 2 изд.— М., 1974; Навечно в сердце народном.— 3 изд.— Мн., 1984. *У. У. Бянько.*



1216. *Помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў.*

**в. Казярогі, цэнтр сельсавета**

**1216. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). У скверы, каля клуба. Пахаваны 276 воінаў 65-й арміі Беларускага фронту, якія загінулі ў кастрычніку 1943 г. ў баях пры вызваленні раёна ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. Сярод пахаваных — Героі Савецкага Саюза Уладзімір Васілевіч Гусеў, Іван Андрэевіч Мардасаў, Сямён Аляксеевіч Папоў, Мікалай Кірылавіч Раманаў і ўзбекскі паэт Султан Джура.

У. В. Гусеў нарадзіўся 22.9.1923 г. ў станіцы Астроўская Данілаўскага р-на Валгаградскай вобл. З сялян. Кандыдат у члены КПСС. У Вялікую Айчынную вайну на фронце з жніўня 1941 г. Камандзір роты 183-га стралковага палка 106-й стралковай дывізіі лейтэнант У. В. Гусеў вызначыўся пры вызваленні Лоева. 15.10.1943 г. рота пад яго камандаваннем фарсіравала Дняпро, выбіла праціўніка з траншэй, знішчыла некалькі агнявых кропак, захапіла вышыню. Утрымліваючы плацдарм, воіны адбілі 3 контратакі праціўніка. У. В. Гусеў быў смяротна паранены ў баі 18.10.1943 г. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 30.10.1943 г.

І. А. Мардасаў нарадзіўся 7.6.1923 г. ў пас. Ражкоў Прыуральскага р-на Уральскай вобл. З сялян. Член

ВЛКСМ. У Чырвонай Арміі з 1941 г., з лютага 1942 г. на фронце. Камсорг стралковага батальёна 685-га стралковага палка 193-й стралковай дывізіі малодшы лейтэнант І. А. Мардасаў вызначыўся пры фарсіраванні Дняпра каля Лоева. 16.10.1943 г. група камсамольцаў на чале з ім першай пераправілася на правы бераг ракі і ў рукапашным баі выбіла ворага з траншэй, што дало магчымасць батальёну фарсіраваць раку. І. А. Мардасаў загінуў у баі 18.10.1943 г. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 30.10.1943 г. На радзіме ўстаноўлены бюст героя, яго імя прысвоена васьмігадовай школе, у якой ён вучыўся.

С. А. Папоў нарадзіўся 12.12.1925 г. ў с. Ніжні Гумбет Акцябрскага р-на Арэнбургскай вобл. З сялян. У Вялікую Айчынную вайну на фронце з 1943 г. Стралок радавы С. А. Папоў вызначыўся пры фарсіраванні Дняпра каля Лоева. 15.10.1943 г. з групай байцоў пад моцным агнём праціўніка першым пераправіўся на правы бераг ракі і на прыбярэжнай вышыні ўстанавіў чырвоны сцяг. У час абароны плацдарма падняўся ў атаку, павёў за сабой байцоў, захапіў траншэі ворага, што дапамагло фарсіраваць раку другім падраздзяленням палка. С. А. Папоў загінуў у гэтым баі. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 30.10.1943 г.

М. К. Раманаў нарадзіўся 24.4. 1919 г. ў в. Верхні Казьмаш Караідзельскага р-на Башкірскай АССР. З сялян. Член КПСС. У Чырвонай Арміі з 1939 г. У Вялікую Айчынную вайну з 1943 г. на Цэнтральным фронце. Камандзір стралковага ўзвода старшына М. К. Раманаў вызначыўся ў баях пры фарсіраванні Дняпра ў Лоеўскім р-не. 15.10.1943 г. група байцоў на чале з М. К. Раманавым пераправілася на правы бераг ракі, выбіла праціўніка з траншэй і замацавалася на плацдарме. На працягу дня адбіла некалькі контратак праціўніка і расшырыла плацдарм. 16.10.1943 г. ў баі за вышыню на паўднёвым захадзе ад Лоева М. К. Раманаў замяніў камандзіра роты і забяспечыў выкананне пастаўленай задачы. Загінуў у баі 20. 10.1943 г. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 30.10.1943 г.

Султан Джура нарадзіўся ў 1910 г. ў кішлаку Кагалтам Шафірканскага р-на Бухарскай вобл. З сялян. Член КПСС з 1942 г. Пасля вучобы ў Бухарскім педвучылішчы працаваў настаўнікам, у 1937—42 гг. выкладчык Андзіжанскага педвучылішча. У Вялікую Айчынную вайну на фронце з 1942 г. Узнагароджаны ордэнамі «Знак Пашаны» (1939 г.) і Айчыннай Вайны 2-й ступені.

Першыя вершы С. Джуры надрукаваны ў 1927 г. У 1939 г. выйшаў першы зборнік паэта «Самаадданы». Некаторыя творы ўвайшлі ў яго зборнік «Масква» (1941 г.). Аўтар апавесцей «Ганаровы спіс», «Гутарка з паэтам». Вядомы як перакладчык і казачнік (вершаваныя казкі для дзяцей «Рай», «Ластаўка», «Блакітны дыван» і інш.). У перакладзе на рускую мову выйшлі ў 1951 г. зборнік выбраных вершаў, у 1961 г.— зборнік «Нараджэнне ісціны». Творы С. Джуры прасякнуты гарачай любоўю да Радзімы, свайго народа, раскрываюць гераізм савецкіх людзей. Загінуў 10.11.1943 г. ў баях за вызваленне Лоеўскага р-на.

У 1964 г. на брацкай магіле ўстаноўлены абеліск і надмагільныя пліты.

*Літ.:* Навечно в сердце народном.— 3 изд.— Мн., 1984; Освобождение Белоруссии 1944.— 2 изд.— М., 1974; В грозные годы.— Мн., 1973. *У. У. Бянько.*

**в. Карпаўка, цэнтр сельсавета**

**1217. МАГІЛА СТУПАКА** Васіля Міхайлавіча (гіст.). На могілках. Лейтэнант Чырвонай Арміі В. М. Ступак загінуў у кастрычніку 1943 г. ў баі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1974 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Каўпень, Казярожскі сельсавет**

**1218. ГАРАДЗІШЧА** (археал.). За 3 км на захад ад вёскі, ва ўрочышчы Рудавец. Пляцоўка памерам 75×60 м выцягнута з захаду на ўсход. Умацавана 2 паўкруглымі валамі. Вышыня ўнутранага вала 2 м, вонкавага — 1,8 м. Абследавалі ў 1953 г. Ю. У. Кухарэнка, у 1975 г. Л. Д. Побаль. Культурны пласт каля 0,3 м. Знойдзена кераміка зарубінецкай культуры (3 ст. да н. э.— 5 ст. н. э.). Раскопкі не праводзіліся.

Матэрыялы абследаванняў захоўваюцца ў Інстытуце археалогіі АН СССР.

**1219. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі, на плошчы. На ўшанаванне памяці 168 жыхароў вёсак Казярогі, Каўпень, Пустая Града, якія загінулі на франтах Вялікай Айчыннай вайны, у 1972 г. пастаўлены помнік — скульптура салдата.

**пас. Кашовае, Пярэдзелкаўскі сельсавет**

**1220. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). На паўночнай ускраіне вёскі. Пахаваны 47 воінаў і партызан, якія загінулі ў кастрычніку 1943 г. ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. Сярод пахаваных — воіны 27-га стралковага корпуса 65-й арміі. У 1956 г. на магіле пастаўлены абеліск.



1218. *Гарадзішча.*

**в. Крупейкі, Казярожскі сельсавет**

**1221. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). У парку, каля клуба. Пахаваны 122 воіны 65-й арміі Беларускага фронту, якія загінулі ў кастрычніку 1943 г. пры вызваленні раёна ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. Сярод пахаваных — Героі Савецкага Саюза Барыс Фёдаравіч Баннікаў, Аляксей Іванавіч Бруханаў, Уладзімір Фёдаравіч Латышаў, Рыгор Паўлавіч Мясаедаў, Мікалай Фёдаравіч Смірноў.

Б. Ф. Баннікаў нарадзіўся 12.10. 1923 г. ў в. Таранкі Багародскага р-на Кіраўскай вобл. З сялян. Член ВЛКСМ. У Вялікую Айчынную вайну з верасня 1943 г. на Цэнтральным фронце. Вызначыўся пры фарсіраванні Дняпра ў кастрычніку 1943 г. Радавы 193-й стралковай дывізіі Б. Ф. Баннікаў арганізаваў групу добраахвотнікаў з 4 чалавек, якія на гумавай лодцы пераплылі Дняпро, выбілі праціўніка з траншэй і забяспечылі пераправу роты цераз раку. Загінуў Б. Ф. Баннікаў 15.10.1943 г. ў баі. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 30.10. 1943 г. Яго імем названы вуліцы ў г. п. Багародскае і ў в. Таранкі.

А. І. Бруханаў нарадзіўся 15.3. 1923 г. ў г. Южа Іванаўскай вобл. Кандыдат у члены КПСС. У Вялікую Айчынную вайну з 1942 г. на фронце. Вызначыўся пры фарсіраванні Дняпра каля Лоева. З групай разведчыкаў пад агнём праціўніка першым пераправіўся цераз раку, уварваўся ў варожы дзот, агнём з аўтамата знішчыў кулямётчыкаў, 15 стралкоў і захапіў у палон 2 унтэр-афіцэраў. Рашучымі дзеяннямі А. І. Бруханаў садзейнічаў пераправе воінаў батальёна. Загінуў 17.10.1943 г. ў баі. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 30.10. 1943 г.

У. Ф. Латышаў нарадзіўся 25.4. 1924 г. ў в. Паповічы Дзяржынскага р-на Калужскай вобл. ў сям'і рабочага. Член ВЛКСМ. У Вялікую Айчынную вайну на фронце з 1943 г. Вызначыўся пры вызваленні Лоеўскага р-на ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У ноч на 16.10.1943 г. камандзір роты лейтэнант У. Ф. Латышаў з групай байцоў фарсіраваў Дняпро, выбіў ворага з траншэй, захапіў плацдарм, адбіў некалькі контратак праціўніка, што садзейнічала пераправе ўсіх падраздзяленняў палка. У. Ф. Латышаў загінуў у гэтым баі. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 30.10.1943 г. Вёска Паповічы, у якой ён нарадзіўся, перайменавана ў в. Латышава, яго імем названа вуліца на станцыі Пятаўская Калужскай вобл.



1221. *Помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў.*

Р. П. Мясаедаў нарадзіўся 27.9. 1901 г. ў г. п. Новасергіеўка Арэнбургскай вобл. З сялян. Член КПСС з 1932 г. У 1936 г. скончыў Вышэйшую камуністычную сельскагаспадарчую школу. Працаваў у лакаматыўным дэпо, потым на партыйнай рабоце ў Акцюбінску. У Вялікую Айчынную вайну на фронце з 1941 г. Удзельнік Сталінградскай і Курскай бітваў. Вызначыўся пры вызваленні Лоеўскага р-на ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. 15.10.1943 г. сяржант Р. П. Мясаедаў з групай байцоў пад моцным агнём праціўніка падрыхтаваў сродкі для пераправы і першым фарсіраваў Дняпро. Загінуў у баі за плацдарм. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 30.10.1943 г. Яго імем названа вуліца ў г. Акцюбінск.

М. Ф. Смірноў нарадзіўся 12.11. 1907 г. ў в. Пападзіна Антропаўскага р-на Кастрамской вобл. З сялян. Кандыдат у члены КПСС. Працаваў брыгадзірам у калгасе. У Вялікую Айчынную вайну на фронце з 1941 г. Сапёр асобнага сапёрнага батальёна яфрэйтар М. Ф. Смірноў вызначыўся пры фарсіраванні Дняпра ў Лоеўскім р-не. 15.10.1943 г. лодка, на якой ён пераправуляў байцоў, была разбіта; падцягнуўшы другую лодку, М. Ф. Смірноў пасадзіў у яе 10 воінаў і даставіў іх на правы бераг ракі. Каля самага берага М. Ф. Смірноў загінуў ад варожай кулі. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 30.10.1943 г. Яго імем названы вуліца ў г. п. Антропава і калгас на радзіме.

У 1973 г. на брацкай магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна з аўтаматам і пліты з імёнамі загінуўшых.

*Літ.:* Освобождение Белоруссии 1944.— 2 изд.— М., 1974; Навечно в сердце народном.— 3 изд.— Мн., 1984. *У. У. Бянько.*

**1222. МЕСЦА ФАРСІРАВАННЯ ДНЯПРА** (гіст.). За 1,5 км на поўдзень ад вёскі. У Вялікую Айчынную вайну 15.10.1943 г. воіны 65-й арміі Беларускага фронту фарсіравалі тут Дняпро і захапілі плацдарм. У 1980 г. ў памяць аб гэтай падзеі на беразе ракі ўстаноўлены мемарыяльны знак.

**в. Ліпнякі, Уборкаўскі сельсавет**

**1223. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны 356 воінаў, якія загінулі ў кастрычніку — лістападзе 1943 г. пры вызваленні Лоеўскага р-на ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1972 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна з вянком.

**1224. ГАРАДЗІШЧА** (археал.). За 1 км на паўночны захад ад вёскі, ва ўрочышчы Гарадок, на пагорку каля р. Брагінка. Пляцоўка прамавугольная, з закругленымі вугламі, памерам 60×70 м. Умацавана земляным валам вышынёй каля 2 м і шырынёй да 15 м. Выявіў у 1929 г. І. Х. Ючшанка, абследавалі ў 1955 г. В. М. Мельнікоўская, у 1957 г. Л. Д. Побаль. У 1976 г. М. Ф. Гурын даследаваў 900 м² пляцоўкі, у 1977 г. М. І. Лашанкоў — 200 м². Культурны пласт 0,2—0,6 м, насычаны рэшткамі ляпной керамікі. У мацерыку выяўлена 57 ям. Адна з іх нагадвае ніжнюю частку паўзямлянкавага жытла памерам 5×2,8 м, заглыбленага ў мацярык на 0,2—0,3 м. Іншыя ямы гаспадарчага прызначэння, у т. л. для захоўвання прадуктаў харчавання. Знойдзена больш як 1500 фрагментаў глінянага посуду, пераважная большасць якога адносіцца да ранняга жалезнага веку, больш за 14 гліняных праслiц біканічнай формы, некаторыя арнаментаваныя. У паўзямлянцы выяўлены 2 ляпныя гаршкі, падпраўленыя на ганчарным крузе, якія датуюцца сярэдневяковым перыядам.

Асобныя керамічныя вырабы маюць надзвычай высокую намагнічанасць. Можна меркаваць, што яны зроблены з гліны, якая мела даволі высокую канцэнтрацыю вокіслаў жалеза ці ў цеста наўмысна дамешана здробненая жалезная руда. Сярод знаходак крамянёвыя нажы, скобля, пракрутка, рэтушор і інш., жалезны наканечнік кап'я, фрагменты 2 нажоў, палавіна скоблі, спражка, а таксама абломкі, па якіх нельга ўстанавіць катэгорыю рэчаў. З бронзаліцейнай справай звязаны фрагменты тыгелька, бранзалета, упрыгожання. Знойдзены косці свойскіх жывёл.

У працэсе даследаванняў устаноўлена, што на суседніх пагорках існавалі неўмацаваныя паселішчы. Гэта дае падставу меркаваць, што гарадзішча выконвала функцыю сховішча. Найбольш інтэнсіўна яно выкарыстоўвалася насельніцтвам мілаградскай і зарубінецкай культур, а таксама служыла часовым прытулкам і ў сярэдневяковы перыяд.

*Літ.:* Гурын М. Ф., Лашанкоў М. І. Гарадзішча Ліпнякі.— Весці АН БССР. Сер. грамадскіх навук, 1984, № 2; Гурин М. Ф. Раскопки болотного городища у дер. Липняки.— У кн.: Археологические открытия 1976 года. М., 1977; Лашанкоў М. І. Раскопкі ў Лоеўскім раёне.— Помнікі гісторыі і культуры Беларусі, 1978, № 3.
*М. Ф. Гурын, М. І. Лашанкоў.*

**в. Лісуны, Малінаўскі сельсавет**

**1225. ГАРАДЗІШЧА** (археал.). За 1,5 км на паўночны захад ад вёскі, ва ўрочышчы Клецішча. Пляцоўка прамавугольная, памерам 72,5×130 м, умацавана 2 валамі, якія раздзяляе роў. Вонкавы вал вышынёй 1,5 м, шырынёй 10 м, унутраны адпаведна 1 м і 15 м. Глыбіня рова 0,4—0,5 м, шырыня 5—6 м. З паўночна-ўсходняга боку гарадзішча раздзелена на 2 часткі меліярацыйным каналам шырынёй 15 м. Абследаваў у 1977 г. М. І. Лашанкоў. У агаленнях канавы прасочаны культурны пласт 0,3—0,5 м. Раскопкі не праводзіліся.

*Літ.:* Лошенков М. И., Залашко Г. М. Работы Полесского отряда на Гомельщине.— У кн.: Археологические открытия 1977 года. М., 1978.
*М. І. Лашанкоў.*

**в. Малінаўка, цэнтр сельсавета**

**1226. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ, ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны 599 воінаў 65-й арміі Беларускага фронту, якія загінулі ў лістападзе 1943 г. пры вызваленні в. Малінаўка і навакольных вёсак ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. На ўшанаванне памяці загінуўшых воінаў, а таксама 112 жыхароў вёсак Удалёўка, Вулкан, Рудня-Удалёўская, Карпаўка, Лісуны, Хаткі, Малінаўка, якія загінулі ў гады Вялікай Айчыннай вайны, у 1972 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна.

**1227. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Насупраць будынка выканкома сельскага Савета. На ўшанаванне памяці



1222. *Помнік на месцы фарсіравання Дняпра.*

воінаў-землякоў і партызан Лоеўскай брыгады «За Радзіму», якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1968 г. пастаўлена стэла.

**в. Міхалёўка, Уборкаўскі сельсавет**

**1228. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). На ўсходняй ускраіне вёскі. Пахаваны 347 воінаў 4-й гвардзейскай кавалерыйскай дывізіі, стралковых падраздзяленняў 65-й арміі і партызан, якія загінулі ў кастрычніку 1943 г. пры вызваленні раёна ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. Сярод пахаваных — Герой Савецкага Саюза Васіль Іванавіч Кулікаў.

В. І. Кулікаў нарадзіўся 28.2. 1921 г. ў г. Іванава (РСФСР) у сям'і рабочага. Член КПСС з 1943 г. У Чырвонай Арміі з 1940 г. У Вялікую Айчынную вайну з 1941 г. на фронце. Камандзір гарматы старшы сяржант В. І. Кулікаў вызначыўся пры фарсіраванні Дняпра каля Лоева. 17.10.1943 г. пад агнём праціўніка з гарматай пераправіўся цераз раку і ўступіў у бой з 5 варожымі самаходнымі гарматамі «фердынанд». У баі быў паранены, але працягваў весці агонь, падбіў 1 «фердынанд», знішчыў 2 гарматы, 2 кулямёты і шмат жывой сілы праціўніка. Загінуў В. І. Кулікаў у гэтым баі. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 9.2.1944 г.

У 1973 г. на брацкай магіле пастаўлены помнік — скульптура салдата з аўтаматам.

*Літ.:* Навечно в сердце народном.— 3 изд.— Мн., 1984. *У. У. Бянько.*




1228. *Помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў і партызан.*

**1229. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). На паўночнай ускраіне вёскі. Пахаваны 149 воінаў і партызан, якія загінулі ў кастрычніку 1943 г. пры вызваленні в. Міхалёўка і навакольных вёсак ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1968 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Мохаў, Казярожскі сельсавет**

**1230. ГАРАДЗІШЧЫ, БЕСКУРГАННЫ І КУРГАННЫ МОГІЛЬНІКІ** (археал.).

**1230а.** Гарадзішча-1. За 2 км на паўночны ўсход ад вёскі, ва ўрочышчы Шолахаў Кут, на правым беразе Дняпра. Займае пагорак вышынёй над летнім межанным узроўнем вады ў рацэ каля 20 м. Памер пляцоўкі 100×50 м. Абследаваў у 1956 і 1975 гг. Л. Д. Побаль. Культурны пласт 0,3—0,4 м. Знойдзена ляпная кераміка. Гарадзішча адносіцца да мілаградскай культуры ранняга жалезнага веку (7—3 стагоддзі да н. э.). Раскопкі не праводзіліся. Матэрыялы абследавання захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

**1230б.** Гарадзішча-2. За 2,5—3 км на паўднёвы ўсход ад вёскі, паміж 2 ярамі. Пляцоўка памерам 70×60 м, з боку поля ўмацавана валам вышынёй каля 5 м і ровам глыбінёй 0,5—2 м. Абследавалі ў 1951 г. Ю. У. Кухарэнка, у 1956 і 1975 гг. Л. Д. Побаль. Раскопкі ў 1952—53 гг. правадзіў П. М. Траццякоў, які даследаваў 68 м² плошчы. Культурны пласт 0,4 м. Выяўлены рэшткі жытла памерам 3,7×3,1 м і вялікая колькасць гаспадарчых ям. Знойдзены жалезны серп, прасліца, гліняныя фігуркі і абломкі ляпных пасудзін. Адносіцца да мілаградскай (7—3 стагоддзі да н. э.) і ранняга этапу зарубінецкай (2 ст. да н. э.— 2 ст. н. э.) культур. Матэрыялы раскопак захоўваюцца ў Інстытуце археалогіі АН СССР і Інстытуце гісторыі АН БССР.

**1230в.** Гарадзішча-3. За 2 км на поўнач ад вёскі. Даўжыня каля 200 м, шырыня каля 150 м. З боку поля ўмацавана валам вышынёй 3—4 м, даўжынёй каля 140 м. Плошча пляцоўкі 2,5 га. Абследавалі ў 1935 г. А. Дз. Каваленя, у 1957 і 1975 гг. Л. Д. Побаль. Раскопкі праводзіла В. М. Мельнікоўская, якая на працягу 1955—56 гг. і ў 1961 г. даследавала 820 м² плошчы.



1230а. *Гарадзішча-1.*

Знойдзена паглыбленае ў зямлю жытло авальнай формы (памеры 8×6,5 м), у якім знаходзіліся рэчы мілаградскай культуры. Л. Д. Побаль у агаленні пляцоўкі знайшоў рэшткі ляпнога посуду. Адносіцца да мілаградскай (7—3 стагоддзі да н. э.) і зарубінецкай (2 ст. да н. э.— 5 ст. н. э.) культур.

**1230г.** Бескурганны могільнік. За 1 км на захад ад гарадзішча-3. Даследавалі ў 1955—56 гг. В. М. Мельнікоўская, у 1957 і 1975 гг. Л. Д. Побаль. За 40—50 м ад вонкавага боку вала гарадзішча і за 35—40 м ад краю берага Дняпра В. М. Мельнікоўскай было закладзена да 10 шурфаў і траншэй. Выяўлены 3 пахаванні па абраду трупаспалення. Знойдзены абломкі керамікі з расчосамі і кальцыніраваныя косці чалавека. Могільнік адносіцца да мілаградскай і позняга этапа зарубінецкай культур жалезнага веку. Матэрыялы раскопак захоўваюцца ў Інстытуце археалогіі АН СССР і Інстытуце гісторыі АН БССР.

**1230д.** Курганны могільнік. На паўночны ўсход ад вёскі, на беразе Мохаўскага воз., побач з гарадзішчам. 6 курганоў дыяметрам 6,5—8,5 м, вышынёй 0,4—0,8 м. Выявіў і абследаваў у 1978 г. М. І. Лашанкоў. Знойдзена грубаляпная кераміка і кальцыніраваныя косці чалавека. Раскопкі не праводзіліся. Матэрыялы абследавання захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

*Літ.:* Мельниковская О. Н. Племена Южной Белоруссии в раннем железном веке.— М., 1967; Очерки по археологии Белоруссии. Ч. 1.— Мн., 1970. *Л. Д. Побаль, М. І. Лашанкоў.*

**в. Новая Баршчоўка, Малінаўскі сельсавет**

**1231. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ, ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі, каля школы. Паха-



1230б. *Гарадзішча-2. План.*



1231. *Помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў і землякам.*

ваны 413 воінаў 65-й арміі Беларускага фронту, якія загінулі восенню 1943 г. пры вызваленні в. Новая Барщчоўка і навакольных вёсак ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. Сярод пахаваных — Герой Савецкага Саюза Дамуло Азізаў.

Дамуло Азізаў нарадзіўся 2.3. 1913 г. ў кішлаку Кастакоз Хаджэнцкага р-на Ленінабадскай вобл. ў сялянскай сям'і. Кандыдат у члены КПСС. З 1935 г. працаваў настаўнікам на радзіме. У Вялікую Айчынную вайну на фронце з 1942 г. Малодшы сяржант Д. Азізаў вызначыўся пры фарсіраванні Дняпра каля Лоева. У складзе дэсантнай групы 15.10. 1943 г. адным з першых пераправіўся цераз раку, уварваўся ў варожую траншэю, гранатай знішчыў кулямётны разлік і агнём з захопленага кулямёта — групу аўтаматчыкаў праціўніка. Д. Азізаў загінуў 24.10.1943 г. ў баі. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 30.10.1943 г. У Ленінабадзе і на радзіме пастаўлены помнікі герою. Імя Д. Азізава прысвоена калгасу і школе ў Хаджэнцкім р-не, яго імем названа вуліца ў Мінску.

У 1963 г. на ўшанаванне памяці воінаў і 139 землякоў з вёсак Новая Барщчоўка, Дуброва, Іванькаў, Бодры, Астравы, Вялікае Пятрыцкае, пас. Кіраў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, пастаўлены помнік — скульптура воіна.

*Літ.:* Навечно в сердце народном.— 3 изд.— Мн., 1984. *У. У. Бянько.*

**1232. ГАРАДЗІШЧА** (археал.). За 2 км на ўсход ад вёскі, ва ўрочышчы Камітэт. Пляцоўка прамавугольнай формы, памерам 38×44 м, умацавана валам шырынёй 8 м і вышынёй 1 м. Выявіў і абследаваў у 1977 г. М. І. Лашанкоў. Культурны пласт 0,2 м. Раскопкі не праводзіліся.

*Літ.:* Лошенков М. И., Залашко Г. М. Работы Полесского отряда на Гомельщине.— У кн.: Археологические открытия 1977 года. М., 1978.



**в. Першамайск, Пярэдзелкаўскі сельсавет**

**1233. ГАРАДЗІШЧА** (археал.). За 2 км на поўдзень ад вёскі, на левым беразе Дняпра, ва ўрочышчы Локаць. Пляцоўка памерам 100×30 м з боку поля ўмацавана валам вышынёй 1 м. Вядома з 1910 г. Абследаваў у 1975 г. Л. Д. Побаль. Раскопкі не праводзіліся.

**в. Пустая Града, Казярожскі сельсавет**

**1234. ГАРАДЗІШЧА** (археал.). За 2 км на паўднёвы захад ад вёскі. Пляцоўка прамавугольная, памерам 60×45 м, з усіх бакоў умацавана валам вышынёй 1 м. Абследавалі ў 1953 г. Ю. У. Кухарэнка, у 1975 г. Л. Д. Побаль. У культурным пласце выяўлены 2 абломкі грубаляпной керамікі, якія адносяцца да ранняга жалезнага веку. Раскопкі не праводзіліся.

Матэрыялы абследавання захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

**в. Пярэдзелка, цэнтр сельсавета**

**1235. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). У парку, на заходнім беразе Дняпра. Пахаваны 393 воіны 65-й арміі, якія загінулі ў кастрычніку 1943 г. пры фарсіраванні Дняпра, вызваленні в. Пярэдзелка і навакольных вёсак ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. Сярод пахаваных — Герой Савецкага Саюза Леанід Сямёнавіч Лапцеў.

Л. С. Лапцеў нарадзіўся 25.4. 1914 г. ў пас. Лобва Новалялінскага р-на Свярдлоўскай вобл. ў сям'і рабочага. Кандыдат у члены КПСС. Працаваў у лясгасе ў пас. Мураткава Алапаеўскага р-на Свярдлоўскай вобл. У Чырвонай Арміі з 1941 г. У Вялікую Айчынную вайну на фронце з лютага 1943 г. Камандзір аддзялення сувязі 362-га артылерыйскага палка 27-га стралковага корпуса яфрэйтар Л. С. Лапцеў вызначыўся пры фарсіраванні Дняпра ў Лоеўскім р-не ў кастрычніку 1943 г. Пад агнём праціўніка тройчы пераплываў раку, каб наладзіць і паправіць лінію сувязі. Загінуў Л. С. Лапцеў 28.10.1943 г. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 30.10.1943 г. Яго імем названа вуліца ў пас. Мураткава Алапаеўскага р-на Свярдлоўскай вобл.

У 1972 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна з вянком, устаноўлены пліты з імёнамі загінуўшых.

*Літ.:* Навечно в сердце народном.— 3 изд.— Мн., 1984. *У. У. Бянько.*

**1236. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). У скверы, каля школы. Пахаваны 42 воіны і 2 партызаны, якія загінулі ў кастрычніку 1943 г. пры вызваленні вёскі ад нямецка-фашысцкіх акупантаў. У 1956 г. на магіле пастаўлены абеліск, устаноўлены пліты з імёнамі загінуўшых.



1235. *Помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў.*

**1237. КУРГАН СЛАВЫ** (гіст.). У парку. На ўшанаванне памяці 387 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1967 г. насыпаны Курган, на вяршыні якога пастаўлены абеліск. На гранях абеліска — бронзавыя барэльефы жанчыны, партызана і воіна ў жалобе.

**1238. СЯДЗІБНЫ ДОМ** (архіт.). На паўночна-ўсходняй ускраіне вёскі, на правым беразе Дняпра. Пабудаваны ў 1-й палавіне 19 ст. з цэглы. Цяпер тут размешчана школа.

Двухпавярховы будынак складанай у плане формы, сіметрычнай аб'ёмна-прасторавай кампазіцыі, накрыты вальмавым дахам. Цэнтральная частка будынка закрытымі галерэямі злучана з аднапавярховымі флігелямі. Уваход па цэнтры галоўнага заходняга фасада вылучаны дарычным порцікам з аздобленым сухарыкамі трохвугольным франтонам і балконам. Аналагічны порцік вылучае цэнтральную частку дваровага фасада. У архітэктурным дэкоры будынка выкарыстаны ліштвы, сандрыкі, руст, філёнгі. Планіроўка дома калідорная. У цэнтры вялікі вестыбюль.

Сядзібны дом — помнік архітэктуры класіцызму. *А. Ю. Пятросава.*

**пас. Райск, Уборкаўскі сельсавет**

**1239. ГАРАДЗІШЧА** (археал.). За 0,8 км на паўночны захад ад вёскі, у



1237. *Курган Славы.*

забалочанай мясцовасці. Пляцоўка памерам 155×90 м складаецца з 2 частак — усходняй і заходняй. Умацавана валам вышынёй каля 3 м, шырынёй 3—4 м. З паўднёвага і паўднёва-ўсходняга бакоў вал двайны. У асобных месцах прасочаны роў. Зарасла дрэвамі і кустамі. Выявіў у 1929 г. І. Х. Юшчанка, абследавалі ў 1955 г. В. М. Мельнікоўская, у 1957 г. Л. Д. Побаль, у 1982 г. М. Ф. Гурын. Знойдзены кавалкі жалезнага шлаку. Раскопкі не праводзіліся. *М. Ф. Гурын.*

**1240. ГАРАДЗІШЧА** (археал.). За 1,5 км на паўднёвы ўсход ад вёскі. Пляцоўка плошчай каля 1 га, з усіх бакоў умацавана валам вышынёй каля 1 м. Абследавалі ў 1953 г. Ю. У. Кухарэнка, у 1975 г. Л. Д. Побаль. Раскопкі не праводзіліся.

**в. Рудня-Бурыцкая, Малінаўскі сельсавет**

**1241. МЕСЦА ДЫСЛАКАЦЫІ ЛОЕЎСКАЙ ПАРТЫЗАНСКАЙ БРЫГАДЫ «ЗА РАДЗІМУ»** (гіст.). У вёсцы і навакольных лясах.

Брыгада створана ў ліпені 1943 г. на базе атрада Лоеўскага «За Радзіму» (дзейнічаў з жніўня 1941 г.). Камандзір брыгады Р. І. Сінякоў, камісар С. А. Гардзееў. Партызаны праводзілі дыверсіі на чыгуначных участках Гомель — Бахмач, Гомель — Калінкавічы, Гомель — Чарнігаў, на шашэйных і грунтавых дарогах. З 16.7 да 19.10.1943 г. пусцілі пад адхон 26 варожых эшалонаў, знішчылі 35 аўтамашын, 10,2 км тэлефонна-тэлеграфнай лініі, 6 мастоў, падарвалі склад боепрыпасаў, спалілі склад лесаматэрыялаў. Разграмілі фашысцкія гарнізоны ў Лоеве, Ручаёўцы, Марымонавай Рудні, знішчылі паліцэйскія ўчасткі ў в. Хаткі, Уборак, Абакумы, Дзяражычы, Баршчоўка. Брыгада ўдзельнічала ў вызваленні Лоеўскага р-на ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У жніўні — верасні 1943 г. на чыгунцы Гомель — Калінкавічы, Гомель — Чарнігаў падарвалі больш за 530 рэек. 24.11.1943 г. брыгада (1031 партызан) злучылася з Чырвонай Арміяй. На дзень злучэння ў яе ўваходзілі атрады: «За Радзіму», імя І. В. Сталіна, імя В. М. Молатава, імя М. І. Калініна.

У 1978 г. ў гонар баявой дзейнасці партызанскай брыгады за 3,5 км на паўднёвы захад ад вёскі пастаўлена стэла.

*Літ.:* В грозные годы.— Мн., 1973; Р у д а к А. Д. Экзамен на зрелость.— Мн., 1981. *А. Г. Шчарбатаў.*

**в. Рудня-Каменева, Страдубскі сельсавет**

**1242. ГАРАДЗІШЧА** (археал.). За 2 км на паўднёвы ўсход ад вёскі, ва ўрочышчы Локаць. Пляцоўка памерам 90×53 м умацавана валам вышынёй 1 м і шырынёй 16 м. Абследаваў у 1977 г. М. І. Лашанкоў. Раскопкі не праводзіліся.

*Літ.:* Л о ш е н к о в М. И., З а л а ш к о Г. М. Работы Полесского отряда на Гомельщине.— У кн.: Археологические открытия 1977 года. М., 1978. *М. І. Лашанкоў.*

**в. Ручаёўка, цэнтр сельсавета**

**1243. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). У цэнтры вёскі, каля школы. Пахаваны 608 воінаў, якія загінулі ў кастрычніку — лістападзе 1943 г. пры вызваленні раёна ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. Сярод пахаваных — воіны 81-й стралковай дывізіі 61-й арміі, Герой Савецкага Саюза Віктар Міхайлавіч Лебедзеў.

В. М. Л е б е д з е ў нарадзіўся 14.12.1924 г. ў в. Нова-Ялоўка Тальменскага р-на Алтайскага краю. З сялян. Член КПСС з 1943 г. У Вялікую Айчынную вайну на фронце з 1943 г. Камандзір аддзялення малодшы сяржант В. М. Лебедзеў вызначыўся пры фарсіраванні Дняпра ў Брагінскім р-не. У ноч на 27.9.1943 г. дэсантная лодка, у якой В. М. Лебедзеў з групай байцоў перапраўляўся цераз раку, была разбіта. Байцы даплылі да берага, уварваліся ў варожыя траншэі, у рукапашным баі прымусілі гітлераўцаў адступіць. В. М. Лебедзеў загінуў 12.11.1943 г. ў баі. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 15.1.1944 г. Імя героя прысвоена школе ў в. Нова-Перунова, дзе ён вучыўся. На будынку школы ўстаноўлена мемарыяльная дошка.

У 1963 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна са схіленым сцягам.

*Літ.:* Навечно в сердце народном.— 3 изд.— Мн., 1984. *У. У. Бянько.*

**в. Рэкорд, Страдубскі сельсавет**

**1244. ПАСЕЛІШЧА** (археал.). За 0,5 км на ўсход ад вёскі, на другой надпоймавай тэрасе Дняпра. Плошча 600 м². Выявіў у 1978 г. М. І. Лашанкоў, абследаваў у 1979—81 гг. У. П. Ксяндзоў. Культурны пласт 0,15 м. Знойдзены крамянёвыя наканечнікі стрэл, скрабкі, вастрыі, праколкі, нуклеусы, пласціны, адшчэпы. Адносіцца да позняга мезаліту, датуецца 5—4 тысячагоддзямі да н. э.

Матэрыялы абследаванняў захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР. *У. П. Ксяндзоў.*

**в. Сінск, Бывалькаўскі сельсавет**

**1245. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 1 км ад вёскі, ва ўрочышчы Казлова Курганне. 25 насыпаў вышынёй 1 м, дыяметрам 7 м. Даследаваў у канцы 19 ст. У. З. Завітневіч, раскапана 9 курганоў. У адным кургане рэшткі пахавання знаходзіліся ў урне ў насыпе, у другім выяўлены пласт пера-



1238. *Сядзібны дом.*



1238. *Сядзібны дом. План 1-га паверха.*

паленых касцей. У 7 курганах рэшткі вогнішчаў на ўзроўні гарызонта, пад насыпам. Абследаваў у 1975 г. Л. Д. Побаль. Адносіцца да эпохі Кіеўскай Русі (10—12 стагоддзі).

**1246. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). На могілках. На ўшанаванне памяці 63 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1966 г. пастаўлены абеліск.

**1247. РАДЗІМА ГРЫБА** Кузьмы Пятровіча (гіст.).

Герой Савецкага Саюза К. П. Грыб нарадзіўся ў 1911 г. ў сялянскай сям'і. У Чырвонай Арміі з чэрвеня 1941 г. У Вялікую Айчынную вайну з чэрвеня 1943 г. на Заходнім і Паўднёва-Заходнім франтах. Камандзір стралковага ўзвода гвардыі малодшы лейтэнант К. П. Грыб вызначыўся 29.9. 1943 г. ў баях каля в. Куцавалаўка Ануфрыеўскага р-на Кіраваградскай вобл. У ліку першых фарсіраваў Днепро і ўварваўся ў вёску. У баі за плацдарм знішчыў каля 70 гітлераўцаў. Паранены, працягваў змагацца, загінуў у гэтым баі. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 22.2.1944 г.

*Літ.:* Навечно в сердце народном.— 3 изд.— Мн., 1984. *У. У. Бянько.*

**в. Старая Лутава, Саўкоўскі сельсавет**

**1248. ПАСЕЛІШЧА** (археал.). За 0,7 км на поўнач ад вёскі, на пясчаным узвышшы, на першай надпоймавай тэрасе правага берага Дняпра. Плошча 200 м². Выявіў у 1977 г. і даследаваў у 1978 г. У. П. Ксяндзоў. Раскапана 78 м² плошчы. У культурным пласце 0,15 м знойдзена больш за 670 крамянёвых рэчаў (нуклеусы, скрабкі, разцы, трапецыі, трохвугольнікі, пласцінкі з касой падрэтушоўкай верхняга канца, прылады з выемкамі, пласцінкі з рэтушшу, адшчэпы). Адносіцца да позняга мезаліту, датуецца 6—4-м тысячагоддзямі да н. э. Матэрыялы даследавання захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

*У. П. Ксяндзоў.*

**в. Страдубка, цэнтр сельсавета**

**1249. СЕЛІШЧА** (археал.). У паўночна-заходняй частцы вёскі. Плошча каля 1 га. Абследавалі ў 1957 г. В. М. Мельнікоўская, у 1957 і 1975 гг. Л. Д. Побаль. Знойдзены ляпная кераміка позняга этапа зарубінецкай культуры, бронзавая падвеска. Адносіцца да ранняга жалезнага веку. Раскопкі не праводзіліся. Матэрыялы абследавання зберагаюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

**в. Тучкі, Уборкаўскі сельсавет**

**1250. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны 25 воінаў, якія загінулі ў кастрычніку 1943 г. пры вызваленні раёна ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. Сярод пахаваных — воіны 17-й кавалерыйскай і 246-й стралковай дывізій. У 1963 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Уборак, цэнтр сельсавета**

**1251. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). У цэнтры вёскі, у скверы. Пахаваны 540 воінаў, якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у лістападзе 1943 г. Сярод пахаваных воіны 65-й арміі Беларускага фронту, а таксама Героі Савецкага Саюза Каюм Хайбібрахманавіч Ахметшын, Аляксандр Пятровіч Сухараў, Кутлуахмет Кутлугалямавіч Хайбулін.

К. Х. Ахметшын нарадзіўся 7.7. 1909 г. ў в. Каракусюк Хайбулінскага р-на Башкірскай АССР. З сялян. Член КПСС з 1939 г. Працаваў старшынёй сельскага Савета на радзіме. У Вялікую Айчынную вайну з лютага 1942 г. на фронце. Памочнік камандзіра сабельнага ўзвода гвардыі старшына К. Х. Ахметшын вызначыўся пры фарсіраванні Дняпра каля г. п. Камарын Брагінскага р-на. У ноч на 27.9.1943 г. ў час пераправы ліквідаваў прабоіну ў лодцы і пасняхова перавёз байцоў цераз раку. На захопленым плацдарме ўзвод быў акружаны праціўнікам. К. Х. Ахметшын знішчыў варожы кулямёт і павёў байцоў на прарыў. У рукапашным баі байцы знішчылі 25 гітлераўцаў і выйшлі з акружэння. К. Х. Ахметшын загінуў у лістападзе 1943 г. ў баі каля Рэчыцы. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 15.1.1944 г. Яго імем названа школа ў в. Абішава на радзіме.

А. П. Сухараў нарадзіўся 30.9. 1919 г. ў Арэнбургу ў сям'і рабочага. Член КПСС з 1943 г. У Чырвонай Арміі з 1940 г. У Вялікую Айчынную вайну на фронце з 1943 г. Сапёр разведы А. П. Сухараў вызначыўся пры вызваленні Лоеўскага р-на. 15.10. 1943 г. пры фарсіраванні Дняпра зрабіў 3 рэйсы і перавёз цераз раку 45 воінаў, у т. л. штаб батальёна, які ўзначальваў баявыя дзеянні дэсантных груп. Паранены, А. П. Сухараў не пакінуў сваю часць і 2 сутак перапраўляў грузы дывізіі. Памёр ад ран 15.11. 1943 г. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 15.1.1944 г. У Арэнбургу яго імем названа вуліца, устаноўлена мемарыяльная дошка.



1241. *Помнік на месцы дыслакацыі Лоеўскай партызанскай брыгады «За Радзіму».*



1251. *Помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў.*

К. К. Хайбулін нарадзіўся 8.10. 1921 г. ў в. Сулейманава Зіянчурынскага р-на Башкірскай АССР. З сялян. У Чырвонай Арміі з 1940 г. У Вялікую Айчынную вайну на фронце з верасня 1941 г. Камандзір аддзялення процітанкавых ружжаў сяржант К. К. Хайбулін вызначыўся ў баях за вызваленне Гомельскай вобл. У верасні 1943 г. пры фарсіраванні Дняпра каля г. п. Камарын адным з першых пераправіўся цераз раку, удзельнічаў у рукапашным баі з гітлераўцамі. У баі за в. Галкі падбіў 2 танкі, знішчыў дэсант аўтаматчыкаў праціўніка. Загінуў К. К. Хайбулін 10.11.1943 г. ў баі. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 15.1.1944 г. Яго імя носіць піянерская дружына сярэдняй школы на радзіме. На будынку школы, дзе ён вучыўся, устаноўлена мемарыяльная дошка.

У 1972 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна.

*Літ.:* Навечно в сердце народном.— 3 изд.— Мн., 1984. *У. У. Бянько.*

**1252. КУРГАН** (археал.). За 0,3 км на захад ад вёскі. Насып вышынёй 1,2 м, памерам 5,5×8 м. Выявіў у 1977 г. М. І. Лашанкоў.

**1253. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). У калгасным садзе. Пахаваны астанкі 11 жыхароў в. Уборак, якіх у 1943 г. спалілі нямецка-фашысцкія

захопнікі. У 1956 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Удалёўка, Малінаўскі сельсавет**

**1254. ГАРАДЗІШЧА** (археал.). За 2 км на ўсход ад вёскі, на ўзвышшы. Гарадзішча прамавугольнай формы плошчай 1,09 га. Унутраная пляцоўка памерам 50×70 м умацавана валам вышынёй 2,5 м, шырынёй 20—24 м. Вал пашкоджаны ямамі і акопамі. Абследаваў у 1977 г. М. І. Лашанкоў. Раскопкі не праводзіліся.

*Літ.:* Лошенков М. И., Залашко Г. М. Работы Полесского отряда на Гомельщине.— У кн.: Археологические открытия 1977 года. М., 1978. *М. І. Лашанкоў.*

**в. Хамінка, Карпаўскі сельсавет**

**1255. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). У цэнтры вёскі, у скверы. Пахаваны 154 воіны 65-й арміі, якія загінулі ў кастрычніку 1943 г. пры вызваленні раёна ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1957 г. на магіле пастаўлены абеліск, у 1971 г.— скульптура воіна і надмагільныя пліты.

**в. Хаткі, Малінаўскі сельсавет**

**1256. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). За 250 м на поўдзень ад вёскі. Пахаваны 55 жыхароў вёсак Хаткі, Рудня-Бурыцкая, Вышкаў-Бурыцкая, якіх у чэрвені 1943 г. расстралялі і спалілі нямецка-фашысцкія захопнікі. У 1968 г. на магіле пастаўлены абеліск.



1255. *Помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў.*

**в. Цясны, Бывалькаўскі сельсавет**

**1257. СЕЛІШЧА** (археал.). За 2 км на поўнач ад вёскі, на першай надпоймавай тэрасе старыцы Дняпра. Плошча каля 300 м². Адкрылі і абследавалі ў 1965 г. У. Ф. Ісаенка і І. М. Ціханенкаў. Выяўлены рэшткі 10 паўзямлянак памерам каля 5×4 м² кожная, паглыбленыя ў мацярык на 0,8—0,9 м. Знойдзены абпаленыя камяні і ляпная кераміка з расчосамі. Абследаваў у 1975 г. Л. Д. Побаль. Селішча адносіцца да ранняга жалезнага веку.

Матэрыялы абследавання захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

**в. Чаплін, Страдубскі сельсавет**

**1258. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны 428 воінаў 65-й арміі Беларускага фронту, якія загінулі ў кастрычніку — лістападзе 1943 г. пры вызваленні Лоеўскага раёна ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. Сярод пахаваных — Героі Савецкага Саюза Сцяпан Фёдаравіч Костычаў, Іван Рыгоравіч Махота, Уладзімір Іванавіч Чаркасаў.




1258. *Помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў.*

С. Ф. Костычаў нарадзіўся 31.12. 1915 г. ў с. Бяссонаўка Пензенскага р-на ў сям'і рабочага. З пачатку Вялікай Айчыннай вайны на фронце. Камандзір роты мотастралковага батальёна малодшы лейтэнант С. Ф. Костычаў вызначыўся пры вызваленні Лоеўскага р-на ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. Рота пад яго камандаваннем ў ліку першых фарсіравала Дняпро, вызваліла вёскі Мохаў, Труд, Гарадок, Ісакавічы, Страдубка. У ноч на 21.10.1943 г. рота вяла бой з намнога большымі сіламі праціўніка, які ўтрымліваў мост. Камандзір першым уварваўся ў гушчу ворага, агнём з аўтамата і ў рукапашным баі знішчыў шмат гітлераўцаў. Натхнёныя яго прыкладам, байцы авалодалі мостам, які меў важнае значэнне для развіцця наступлення савецкіх войск. С. Ф. Костычаў загінуў у гэтым баі. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 15.1. 1944 г. Яго імем названы вуліцы ў с. Бяссонаўка і г. Пенза.

І. Р. Махота нарадзіўся 9.6.1918 г. ў с. Папаснае Новамаскоўскага р-на Днепрапятроўскай вобл. З сялян. Кандыдат у члены КПСС. Працаваў токарам. У Чырвонай Арміі з 1939 г. У 1941 г. скончыў 2-е Саратаўскае танкавае вучылішча. У Вялікую Айчынную вайну на фронце з 1942 г. Камандзір танкавай роты старшы лейтэнант І. Р. Махота вызначыўся пры вызваленні Лоеўскага р-на. 20.10. 1943 г. ў баях за вёскі Мохаў, Труд, Пярэдзелка, Страдубка знішчыў 3 батарэі, 8 кулямётных кропак праціўніка, 10 павозак, каля 200 гітлераўцаў. 21.10.1943 г. ў час контратакі ворага танк І. Р. Махоты трапіў у засаду і быў падбіты. Экіпаж накіраваў ахопленую полымем машыну на варожую батарэю і знішчыў яе, што садзейнічала поспеху наступлення батальёна. І. Р. Махота загінуў у гэтым баі. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 15.1.1944 г.

У. І. Чаркасаў нарадзіўся 23.6. 1918 г. ў г. Андропаў Яраслаўскай вобл. ў сям'і рабочага. Член КПСС з 1943 г. Працаваў токарам, брыгадзірам на машынабудаўнічым заводзе. У Чырвонай Арміі з 1938 г. Удзельнічаў у баях з японскімі захопнікамі на р. Халхін-Гол у 1939 г. У Вялікую Айчынную вайну на фронце з 1943 г. Камандзір кулямётнага разліку сяржант У. І. Чаркасаў вызначыўся пры вызваленні Лоеўскага р-на ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. 15.10.1943 г. пад агнём праціўніка яго кулямётны разлік першым пераправіўся цераз Дняпро, захапіў плацдарм і адбіў 3 контратакі праціўніка. Калі ўсе воіны разліку загінулі, камандзір працягваў змагацца, знішчыў 50 гітлераўцаў. 16.10.1943 г. ў баях за Лоеў замяніў параненага камандзіра роты. Загінуў У. І. Чаркасаў 22.10.1943 г. ў баі за в. Ніва Лоеўскага р-на. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 30.10. 1943 г. На машынабудаўнічым заводзе ў г. Андропаў устаноўлены пераходны прыз імя У. І. Чаркасава.

У 1971 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна ў жалобе і надмагіллі.

*Літ.:* Навечно в сердце народном.— 3 изд.— Мн., 1984. *У. У. Бянько.*

**1259. ГАРАДЗІШЧА, СЕЛІШЧЫ, БЕСКУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.).

**1259а.** Г а р а д з і ш ч а. За 0,15 км ад паўднёвай ускраіны вёскі, на правым беразе Дняпра. Вышыня над поймай каля 16 м. Пляцоўка па форме нагадвае трапецыю. Найбольшая даўжыня з усходу на захад 85 м, шырыня каля 75 м. Агульная плошча больш за 0,6 га. З боку поля ўмацавана валам, дугападобнай формы, даўжынёй каля 95 м, шырынёй каля асновы 30 м, вышынёй каля 4 м. Абследаваў у 1935 г. К. М. Палікарповіч. Раскопкі праводзілі ў 1951—53 гг. П. М. Траццякоў і Ю. У. Кухарэнка, у 1955 г. В. М. Мельнікоўская, у 1956, 1957, 1975, 1979 гг. Л. Д. Побаль. Даследавана 1744 м² плошчы. Культурны пласт ва ўсходняй частцы 0,2—0,25 м, у сярэдняй 0,6 м, каля вала 1 м. Знойдзены цэлыя гаршкі і міскі, дробнае вуголле, попел, рэчы з металу, шкла, каменю, гліны, косці, рогу. Выяўлены рэшткі некалькіх жытлаў слупавой канструкцыі, сярэднія памеры 3,2×3 м, з агнішчамі ў сярэдзіне, ям рознага прызначэння. Адносіцца да ранняга этапу зарубінецкай культуры, датуецца 2 ст. да н. э.—2 ст. н. э.

**1259б.** С е л і ш ч а - 1. Паміж валам гарадзішча і могільнікам. Цягнецца ўздоўж берага ракі на 90 м. Даследавалі ў 1955 г. В. М. Мельнікоўская, у 1956, 1957, 1975, 1979 гг. Л. Д. Побаль. Выяўлены 2 паўзямлянкі, гаспадарчыя ямы. Знойдзены матэрыялы мілаградскай, зарубінецкай культур і раннеславянскага часу. У больш ранні час тут жылі плямёны бронзавага веку.

**1259в.** С е л і ш ч а - 2. На паўночнай ускраіне вёскі. Плошча каля 1 га. Абследавалі ў 1950 г. Ю. У. Кухарэнка, у 1956, 1957, 1975, 1979 гг. Л. Д. Побаль. Знойдзена грубаляпная кераміка. Раскопкі не праводзіліся.

**1259г.** С е л і ш ч а - 3. За 2,5 км на поўнач ад вёскі, на правым беразе Дняпра. Плошча каля 1 га. Абследаваў у 1956—57 гг. Л. Д. Побаль. Знойдзена ляпная кераміка позняга этапа зарубінецкай культуры (2—5 стагоддзі н. э.). Раскопкі не праводзіліся.

**1259д.** Б е с к у р г а н н ы  м о г і л ь н і к. Побач з селішчам-1. Выяўлены ў 1930-я гады. Раскопкі праводзіў у 1951—53 гг. Ю. У. Кухарэнка, які ўскрыў 44 пахаванні (1628 м² плошчы). У 1956, 1957, 1975 і 1979 гг. Л. Д. Побаль даследаваў 238 пахаванняў (7220 м² плошчы могільніка). На даследаванай плошчы знаходзілася больш за 300 пахаванняў (разам з разбуранымі). Пахавальны абрад — трупаспаленне ў круглых і прадаўгаватых ямах. Знойдзены гліняныя ляпныя гаршкі, міскі, 14 утульчатых наканечнікаў коп'яў, 4 дроцікі, некалькі наканечнікаў стрэл, падкowападобныя фібулы (спражкі), паясныя скрэпы, сярэднелатэнскія і позналатэнскія фібулы, нажы, сярпы, сякерыкельты, гліняныя праслíцы, скроневыя кольцы, пярсцёнкі, пацеркі, рэчы антычнага паходжання. Могільнік адносіцца да позняга этапа зарубінецкай культуры (2—5 стагоддзі н. э.).



**1259а.** *Гарадзішча.*

Матэрыялы раскопак гарадзішча, селішчаў і могільніка захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

*Літ.:* П о б о л ь Л. Д. Славянские древности Белоруссии: (ранний этап зарубинецкой культуры).— Мн., 1971; К у х а р е н к о Ю. В. Зарубинецкая культура.— М., 1964; М е л ь н и к о в с к а я О. Н. Племена Южной Белоруссии в раннем железном веке.— М., 1967. *Л. Д. Побаль.*

### в. Шчытцы, Казярожскі сельсавет

**1260. ГАРАДЗІШЧА** (археал.). За 2 км на поўнач ад вёскі, ва ўрочышчы Гарадок. Пляцоўка 120×100 м, з боку поля ўмацавана дугападобным валам вышынёй каля 2 м. Абследавалі ў 1936 г. А. Дз. Каваленя, у 1956 і 1975 г. Л. Д. Побаль. Культурны пласт каля 0,3 м. Знойдзена ляпная кераміка мілаградскай і зарубінецкай культур ранняга жалезнага веку. Раскопкі не праводзіліся.

Матэрыялы абследавання захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

### в. Ястрабка, Уборкаўскі сельсавет

**1261. ГАРАДЗІШЧА** (археал.). За 1,3 км на паўночны ўсход ад вёскі, ва ўрочышчы Бабровіны (Язы). Гарадзішча авальнай формы, памерам 114×91,5 м. Унутраная пляцоўка плошчай 3000 м² умацавана 2 валамі: унутраным вышынёй 1,5—1,8 м, шырынёй 13—20 м, вонкавым вышынёй 0,5, шырынёй 6—10 м і ровам глыбінёй 0,3 м, шырынёй 3—4 м. Выявіў у 1977 г. і даследаваў у 1978—79 гг. М. І. Лашанкоў. Раскапана 1395 м² плошчы. Культурны пласт 0,11—0,44 м. Знойдзены 2385 абломкаў керамікі (венчык, сценкі і днішчы), 1527 касцей свойскіх і дзікіх жывёл. 13 гліняных праслíц, крамянёвая сякера, жалезныя серп і абломак сярпа, загатоўка сякеры, лязо сякеры, абломкі рыбалоўнага кручка, бронзавая цвікападобная шпілька, жалезнае кольца з бронзавым пакрыццём, касцяныя тронкі нажа, арнаментаваны амулет з ікла дзіка, 2 пацеркі з сіняга шкла і 1 гліняная, шарападобная. З заходняга боку, каля вонкавага вала, выяўлена радовішча бурага жалезняку. Адносіцца да мілаградскай культуры. Датуецца 4—3 стагоддзямі да н. э.

Матэрыялы даследаванняў захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

*Літ.:* Л о ш е н к о в М. И. О хозяйственных занятиях населения болотных городищ Южной Белоруссии.— У кн.: Древности Белоруссии и Литвы. Мн., 1982; я г о ж. Болотное городище у д. Ястребка.— У кн.: Археологические открытия 1978 года. М., 1979; я г о ж. Раскопки болотного городища в бассейне р. Брагинка.— У кн.: Археологические открытия 1979 года. М., 1980.

*М. І. Лашанкоў.*




# МАЗЫРСКІ РАЁН




Цэнтр раёна

Цэнтры сельсаветаў

Стаянкі, паселішчы, гарадзішчы

Могільнікі (грунтавыя, курганныя), курганы

Помнікі і месцы рэвалюцыйнага руху (Рэвалюцыя 1905–07 гг., Вялікая Кастрычніцкая сацыялістычная рэвалюцыя, Грамадзянская вайна, барацьба працоўных Заходняй Беларусі)

Помнікі і памятныя месцы Вялікай Айчыннай вайны (месцы баёў, магілы савецкіх воінаў і партызан, Курганы Славы, помнікі землянкам і інш.)

Помнікі ахвярам фашызму (месцы канцлагераў і лагераў смерці, месцы масавай загубы насельніцтва, спаленыя і неадноўленыя вёскі і інш.)

Помнікі і месцы, звязаныя з імёнамі савецкіх партыйных, дзяржаўных і гаспадарчых дзеячаў, дзеячаў культуры, навукі і тэхнікі

Палацы, сядзібы, асабнякі

Жылыя дамы, забудова вуліц
- дасавецкага перыяду
- савецкага перыяду

Культавая архітэктура

Адміністрацыйныя і грамадскія збудаванні
- савецкага перыяду

Помнікі манументальнай скульптуры і жывапісу

## XVII. МАЗЫР

Горад, цэнтр раёна. За 133 км ад Гомеля, 7 км ад чыгуначнай станцыі на лініі Калінкавічы — Оўруч, на аўтамабільнай дарозе Бабруйск — Оўруч. Рачны порт на Прыпяці. Аэрапорт. 89 тыс. жыхароў (1984 г.).

У пісьмовых крыніцах Мазыр упершыню ўпамінаецца пад 1155 г. як старажытнае гарадзішча. Уваходзіў у Кіеўскае княства. З 13 ст. ў складзе Вялікага княства Літоўскага. У 1497, 1521 і 1534 гг. на горад рабілі набегі крымскія татары. З 2-й палавіны 16 ст. цэнтр павета ў Кіеўскім, з 1569 г.— Мінскім ваяводствах. У 1577 г. атрымаў магдэбургскае права.

У кастрычніку 1615 г. ў Мазыры ўспыхнула антыфеадальнае паўстанне гараджан. Яго ўзначалілі бурмістры Ждан Муша, Іван Крыцкі, мяшчане Дарошка-Кравец, Іван Ваўчок, Астап Лаўрыновіч і інш. Паўстанцы напалі на замак, забілі некаторых прадстаўнікоў адміністрацыі. Яны выбралі войта, пашырылі льготы магдэбургскага права на ўсіх мяшчан. Улада перайшла да гарадскога магістрата. У вызваленчую вайну ўкраінскага і беларускага народаў 1648—54 гг. жыхары горада і сяляне Мазыршчыны стварылі асобны атрад, далучыліся да казацкіх загонаў, якія прыйшлі на дапамогу беларускім паўстанцам, і разам з імі грамілі маёнткі магнатаў і шляхты ў наваколлі Нясвіжа, Слуцка і іншых месцах. У пачатку 1649 г. супраць паўстанцаў быў пасланы 15-тысячны атрад на чале з гетманам польным Я. Радзівілам. Жыхары горада аб'ядналіся з казацкім загонам Міхненкі і адхілілі прапанову Радзівіла аб капітуляцыі. Паўстанцы некалькі разоў адбівалі атакі праціўніка, аднак паўстанне было задушана. Карнікі разрабавалі горад, частку спалілі.

Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793 г.) Мазыр у складзе Расійскай імперыі, з 1795 г. цэнтр павета Мінскай губерні. У сярэдзіне 19 ст. тут было 6,5 тыс. жыхароў, працавалі маслабойня, гарбарнае і піваварнае прадпрыемствы, гарадская бальніца на 15 ложкаў, 2 школы. Развіццю Мазыра ў эканамічных і культурных адно-



**XVII.** *Жылыя дамы па вуліцы Савецкай.*



XVII. *Забудова мікрараёна Бабры.*

сінах садзейнічала будаўніцтва ў канцы 19 ст. Палескіх чыгунак. Паводле перапісу 1897 г. ў Мазыры 8067 жыхароў, з іх 40 % непісьменных. Напярэдадні 1-й сусветнай вайны 11,4 тыс. жыхароў, 1210 жылых будынкаў, 3 фабрыкі, у т. л. запалкавая «Маланка» (з 1895 г.), 16 майстэрняў, 5 навучальных устаноў, земская бальніца на 35 ложкаў, метэастанцыя, друкарня, 2 кнігарні.

Пасля II з'езда РСДРП (1903 г.) створана Мазырская арганізацыя РСДРП, якая ўваходзіла ў Палескі камітэт РСДРП. Гл. артыкул № 1281 «Месца дзейнасці Мазырскай арганізацыі РСДРП(б)».

Пасля Лютаўскай буржуазна-дэмакратычнай рэвалюцыі ў красавіку 1917 г. ў Мазыры створаны Савет рабочых і салдацкіх дэпутатаў. Савецкая ўлада ўстаноўлена ў лістападзе 1917 г. У лютым — снежні 1918 г. Мазыр акупіраваны войскамі кайзераўскай Германіі, з пачатку сакавіка да 29 чэрвеня 1920 г.— войскамі буржуазнай Польшчы. Дзейнічала падпольная бальшавіцкая арганізацыя. З 1924 г. цэнтр раёна (у 1926—27 гг. горад у Слабадскім р-не), у 1924—30 гг. і ў 1935—38 гг. цэнтр Мазырскай акругі, у 1938—54 гг. цэнтр Палескай вобл. З 1938 г. горад абласнога падпарадкавання. За даваенныя пяцігодкі ў Мазыры пабудаваны электрастанцыя, фанерная фабрыка «Чырвоны Кастрычнік», лесазавод «Пралетарый», мэблевая фабрыка «Прафінтэрн», піўзавод, хлебазавод, мясакамбінат і іншыя прадпрыемствы.

У Вялікую Айчынную вайну з 22.8. 1941 г. Мазыр акупіраваны нямецка-фашысцкімі захопнікамі, якія загубілі тут 4,7 тыс. чалавек. У горадзе і Мазырскім р-не дзейнічалі падпольныя райкомы КП(б)Б (25.4.1943 г.— 8.1.1944 г.) і ЛКСМБ (1.5.1943 г.— 8.1. 1944 г.), камуністычнае падполле. Вызвалены 14.1.1944 г. ў ходзе Мазырска-Калінкавіцкай аперацыі. 18 вайсковым часцям і злучэнням, якія вызначыліся ў час аперацыі, нададзены ганаровыя найменні «Мазырскіх».

Пасля вайны горад адноўлены, ператвораны ў буйны прамысловы і культурны цэнтр. З 1954 г. ў Гомельскай вобл. Ядром забудовы Мазыра быў «Стары замак» (14 ст.; не збярогся), пабудаваны на месцы дзядзінца 12 ст. На сучаснай вул. Савецкай захавалася характэрная для канца 19 — пачатку 20 ст. забудова драўлянымі дамамі на падмурку (дамы № 55, 58, 60) і фрагменты такой забудовы на вул. Ленінскай (№ 18, 58). Эклектычны кірунак пачатку 20 ст. знайшоў сваё адлюстраванне ў архітэктуры будынка бальніцы, канструктывізм — у архітэктуры дома № 154 па вул. Савецкай і Дома культуры па вул. Ленінскай, 23. Генеральныя планы забудовы Мазыра распрацаваны ў 1939, 1953 і 1969 гг. Прадугледжваецца захаванне гарадскога цэнтра на старым месцы з выхадам да ракі і далейшае развіццё на верхнім плато. Галоўная вуліца — Ленінская. Там, дзе да яе прылягае вул. Савецкая, размешчана плошча Леніна. Адсюль пачынаецца паркавая зона. Новы раён жылой забудовы — верхняе плато.

Мазыр — буйны прамысловы цэнтр, горад машынабудавання, нафтахімічнай прамысловасці, металаапрацоўкі,




XVII. *Забудова вуліцы Інтэрнацыянальнай.*

дрэваапрацоўкі, лёгкай і харчовай прамысловасці. У горадзе працуюць: заводы нафтаперапрацоўчы, меліярацыйных машын, «Мазыркабель», аўтарамонтны, жалезабетонных вырабаў, машынабудавання для птушкагадоўчых комплексаў і ферм; вытворчае дрэваапрацоўчае аб'яднанне «Мазырдрэў», вытворчае мэблевае аб'яднанне, швейная, трыкатажная і мастацкіх вырабаў фабрыкі; малочны завод, хлебазавод, піўзавод.

Дзейнічаюць педагагічны інстытут імя Н. К. Крупскай, палітэхнікум, медыцынскае, музычнае і 3 прафесійна-тэхнічныя вучылішчы, 18 агульнаадукацыйных школ усіх відаў навучання, мастацкая, 2 музычныя і дзіцяча-юнацкая спартыўная школы, Дом піянераў і школьнікаў, 31 дашкольная ўстанова, 54 масавыя бібліятэкі, 11 клубных устаноў, філіял Дзяржаўнага архіва Гомельскай вобл., краязнаўчы музей, 4 кінатэатры, 2 бальніцы, 3 дыспансеры, 5 паліклінік, санітарна-эпідэміялагічная станцыя. Выдаецца газета «Камуніст Палесся».

Помнікі: У. І. Леніну, С. М. Кіраву, Н. К. Крупскай, А. С. Пушкіну, В. І. Чапаеву, В. З. Харужай, на брацкай магіле падпольшчыкаў, брацкіх могілках змагароў за Савецкую ўладу, брацкіх могілках савецкіх воінаў і партызан і інш. Зберагліся помнікі архітэктуры 18 ст.— кляштары цыстэрцыянцаў і бернардзінцаў.

Зона адпачынку — узбярэжжа Прыпяці і парк Перамогі.

*Літ.:* Никитин А. С., Зальцман Е. Е. Мозырь: Историко-экономический очерк.— Мн., 1973.

*А. М. Кулагін, Э. М. Савіцкі.*

**1262. БРАЦКАЯ МАГІЛА ПАДПОЛЬШЧЫКАЎ** (гіст.). Вул. Крупскай, на тэрыторыі сярэдняй школы № 4. Пахаваны ўдзельнікі Мазырскага камуністычнага падполля ў Вялікую Айчынную вайну, якіх загубілі нямецка-фашысцкія захопнікі.

Мазырскае падполле складалася з некалькіх груп, аб'ядноўвала камуністаў, камсамольцаў і беспартыйных. Дзейнічала з восені 1941 г. да студзеня 1944 г. ў Мазыры і Мазырскім р-не пад кіраўніцтвам падпольных Палескага абкома КП(б)Б (з лютага 1943 г.) і Мазырскага райкома КП(б)Б (з красавіка 1943 г.). У верасні 1941 г. падпольную групу стварылі В. І. Крыцкі, М. Ю. Майсееў, А. І. Савіч. Крыцкі ўладкаваўся бургамістрам Мазыра, Майсееў — намеснікам бургамістра па Мазырскім р-не. У кастрычніку 1941 г. была створана група Дз. А. Казлоўскага і С. П. Ракіцкага. Да пачатку 1942 г. ў Мазыры дзейнічалі 3 групы, якія налічвалі каля 50 чалавек. У ліпені 1943 г. створана падпольная група А. С. Мураўёва і інш. Актыўнымі ўдзельнікамі падполля былі: Т. Е. Есьман, Н. В. Замыка, М. С. Казарэз, Дз. А. Казлоўскі, В. І. Крыцкі, А. І. Крукоўскі, А. П. Кузміч, М. Ю. Майсееў, І. А. Міцура, А. С. Мураўёў, А. Г. Папрацінская, С. П. Раднеўскі, С. П. Ракіцкі, А. І. Савіч, Я. І. Талкачоў, Р. А. Чавус і інш.

Падпольшчыкі вялі палітычную работу сярод насельніцтва, распаўсюджвалі зводкі Саўінфармбюро, антыфашысцкую літаратуру, збіралі разведданыя аб ворагу, здабывалі і перадавалі партызанам зброю, боепрыпасы, медыкаменты, паперу, прадукты, ажыццяўлялі дыверсіі на камунікацыях праціўніка, папярэджвалі партызан аб карных аперацыях, ратоўвалі мірных грамадзян ад вывазу на катаргу ў Германію. У барацьбе з ворагам загінулі: М. С. Казарэз, В. І. Крыцкі, А. І. Крукоўскі, А. П. Кузміч, М. Ю. Майсееў, І. А. Міцура, А. Г. Папрацінская, С. П. Раднеўскі і іншыя падпольшчыкі.

У 1972 г. на магіле падпольшчыкаў пастаўлены абеліск.

*Літ.:* Ильинковский М. К. Шла война народная: Записки секретаря Мозырского подпольного райкома партии.— Мн., 1973; Всенародная борьба в Белоруссии против немецко-фашистских захватчиков в годы Великой Отечественной войны. Т. 1.— Мн., 1983. *Г. І. Дулеба.*

**1263. БРАЦКІЯ МОГІЛКІ ЗМАГАРОЎ ЗА САВЕЦКУЮ ЎЛАДУ** (гіст.). На вул. Фрунзе, каля стадыёна. Пахаваны чырвонаармейцы, партызаны і падпольшчыкі, якія загінулі ў 1918—20 гг. у барацьбе супраць ворагаў Савецкай улады і інтэрвентаў. У 1957 г. на могілках пастаўлены помнік — скульптурная кампазіцыя: чырвонаармеец, партызан і матрос, устаноўлены 34 надмагільныя пліты.



1263. *Помнік на брацкіх могілках змагароў за Савецкую ўладу.*

**1264. БРАЦКІЯ МОГІЛКІ САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст., маст.). На вул. Рыжкова. Пахаваны 252 воіны і 2 партызаны, якія загінулі ў 1943—44 гг. у баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. Сярод пахаваных — воіны Беларускага фронту, якія загінулі ў студзені 1944 г. пры вызваленні Мазыра, Героі Савецкага Саюза Канстанцін Фёдаравіч Захараў, Джумагалы Калдыкараеў, Міхаіл Максімавіч Катаеў, Валянцін Сцяпанавіч Няжноў, Антон Андрэевіч Рыжкоў, Рыгор Мацвеевіч Ціханаў, Мікалай Іванавіч Шмаргун, а таксама адзін з арганізатараў і кіраўнікоў партыйнага падполля і партызанскага руху ў Палескай вобл. Фёдар Міхайлавіч Языковіч і адзін з кіраўнікоў партызанскага руху ў Палескай вобл. Аляксандр Міхайлавіч Бяленчык.

У пачатку студзеня 1944 г. ў час Мазырска-Калінкавіцкай аперацыі войскі Беларускага фронту (камандуючы генерал арміі К. К. Ракасоўскі) разгарнулі наступленне ў напрамку на Мазыр. Гітлераўцы стварылі ў горадзе і на подступах да яго глыбокаэшаланіраваную сістэму абароны зміннымі палямі, драцянымі загародамі, вялікай колькасцю дотаў, дзотаў і траншэй. 10—12 студзеня 1944 г. ў наваколлі Мазыра ішлі жорсткія баі. 13 студзеня часці 55-й і 415-й стралковых дывізій (камандзіры палкоўнікі М. М. Заіюльеў і П. І. Машчалкоў), 6-й ар-

тылерыйскай дывізіі прарыву (камандзір генерал-маёр артылерыі А. С. Біцюцкі) 61-й арміі, 2-га і 7-га гвардзейскіх кавалерыйскіх карпусоў (камандзіры генерал-лейтэнант В. В. Крукаў і генерал-маёр М. П. Канстанцінаў), пры падтрымцы 16-й паветранай арміі (камандуючы генерал-палкоўнік авіяцыі С. І. Рудэнка) і партызан Мазырскай брыгады імя Аляксандра Неўскага (камандзір А. Л. Жыльскі) пачалі штурм горада. 14.1.1944 г. Мазыр быў вызвалены ад нямецка-фашысцкіх акупантаў. 18 вайсковым часцям і злучэнням, якія прымалі ўдзел у вызваленні горада, нададзены ганаровыя найменні «Мазырскіх».

К. Ф. Захараў нарадзіўся ў красавіку 1919 г. ў г. Іванава ў сям'і служачага. Член КПСС з 1942 г. З 1937 г. служыў у Чырвонай Арміі. Скончыў Пермскую авіяшколу ў 1939 г. У Вялікую Айчынную вайну з 1941 г. на Заходнім, Цэнтральным і Беларускім франтах. Лётчыкзнішчальнік, потым камандзір эскадрыллі капітан К. Ф. Захараў зрабіў 190 баявых вылетаў, асабіста збіў 15 самалётаў праціўніка. Вызначыўся 13.1.1944 г. пры вызваленні Мазырскага р-на. У час бою быў падбіты і загарэўся самалёт, камандзір эскадрыллі накіраваў ахопленую полымем машыну на калону праціўніка. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена К. Ф. Захараву 2.8.1944 г. Яго імем названа вуліца ў Іванаве.

Д. Калдыкараеў нарадзіўся ў 1922 г. ў 7-м сельсавеце Хаджэйлійскага р-на Каракалпакскай АССР у сялянскай сям'і. У Вялікую Айчынную вайну на фронце з 1941 г. Бранябойшчык знішчальнай процітанкавай дывізіі гвардыі радавы Д. Калдыкараеў вызначыўся пры вызваленні Палескай вобл. 27.9.1943 г. з групай воінаў пад моцным агнём ворага першым пераправіўся каля Камарына на правы бераг Дняпра, захапіў апорны пункт праціўніка, што садзейнічала паспяховаму фарсіраванню Дняпра ўсёй ротай. Д. Калдыкараеў загінуў у баі 14.1.1944 г. пры вызваленні г. Мазыра ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 15.1.1944 г. Яго імем названа школа ў г. Хаджэйлі.

М. М. Катаеў нарадзіўся 20.11. 1903 г. ў с. Асмырыжск Качырскага р-на Паўладарскай вобл. ў сялянскай сям'і. У 1925—27 гг. служыў у Чырвонай Арміі. Удзельнік ліквідацыі кулацкіх бандаў у Прыіртышшы. У Вялікую Айчынную вайну на фронце з 1941 г. Наводчык процітанкавага ружжа М. М. Катаеў вызначыўся пры вызваленні Камарынскага р-на Палескай вобл. 27.9.1943 г. з групай байцоў фарсіраваў Дняпро, знішчыў некалькі агнявых кропак праціўніка, паспяхова адбіваў контратакі ворага да падыходу падраздзяленняў сваёй часці. Загінуў М. М. Катаеў 26.1.1944 г. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 15.1.1944 г. Яго імем названы вуліцы ў Мазыры і Паўладары, імя героя прысвоена Дому піянераў і школьнікаў у Паўладары.




**1264.** *Помнік на брацкіх могілках савецкіх воінаў і партызан. Фрагмент.*



**1264.** *Помнік на брацкіх могілках савецкіх воінаў і партызан. Курган.*

В. С. Няжноў нарадзіўся 18.5. 1915 г. ў Ленінградзе ў сям'і служачага. Член КПСС з 1943 г. Працаваў памочнікам машыніста на электрастанцыі, слесарам на чыгуналіцейным заводзе ў Пяцігорску. У Чырвонай Арміі з чэрвеня 1941 г. У 1942 г. скончыў ваеннае вучылішча сувязі ў г. Арджанікідзе, на фронце з чэрвеня 1942 г. Камандзір узвода сувязі гвардыі старшы лейтэнант В. С. Няжноў вызначыўся пры вызваленні Камарынскага р-на Палескай вобл. Узвод на чале з В. С. Няжновым пад агнём ворага фарсіраваў 28.9.1943 г. Дняпро, навёў тэлефонную сувязь з палком, 29.9.1943 г. пераправіў цераз раку на лодцы боепрыпасы, забяспечваў сувязь, асабістым прыкладам неаднаразова паднімаў байцоў у атаку, што садзейнічала паспяховаму наступленню палка. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 15.1.1944 г. Загінуў В. С. Няжноў у баі 24.1.1944 г. Яго імем названы вуліцы ў Мазыры і Пяцігорску, імя героя прысвоена прафесійна-тэхнічнаму вучылішчу чыгуначнікаў у г. Мінеральныя Воды, дзе ён вучыўся. На тэрыторыі гэтага вучылішча В. С. Няжнову пастаўлены помнік.

А. А. Рыжкоў нарадзіўся 6.5. 1920 г. ў с. Абрамаўка Талоўскага р-на Варонежскай вобл. ў сялянскай сям'і. Член ВЛКСМ. З 1936 г. працаваў прыцэпшчыкам, трактарыстам на радзіме, электрыкам на Ялань-Каленаўскім цукровым заводзе Варонежскай вобл. У Чырвонай Арміі з 1940 г. У Вялікую Айчынную вайну з ліпеня 1941 г. на Заходнім, Цэнтральным, Беларускім франтах. Камандзір стралковай роты старшы лейтэнант А. А. Рыжкоў вызначыўся пры вызваленні Чарнігаўскай вобл. і Брагінскага р-на Палескай вобл. ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. 28.9.1943 г. рота пад яго камандаваннем уварвалася ў г. п. Любеч Чарнігаўскай вобл., адбіла 9 контратак праціўніка, першай фарсіравала Дняпро, захапіла плацдарм на правым беразе ракі, замацавалася на ім і забяспечыла пераправу свай-

го батальёна. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 15.1.1944 г. Загінуў А. А. Рыжкоў 28.1.1944 г. ў рукапашным баі пры вызваленні Капаткевіцкага р-на. Яго імем названа вуліца ў Мазыры, імя героя прысвоена піянерскай дружыне Абрамаўскай васьмігадовай школы Талоўскага р-на Варонежскай вобл., дзе ўстаноўлена мемарыяльная дошка.

Р. М. Ціханаў нарадзіўся 10.4. 1912 г. ў с. Сіманаўка Чыстапольскага р-на Какчатаўскай вобл. ў сялянскай сям'і. Член КПСС з 1940 г. У Чырвонай Арміі ў 1934—38 гг. і з 1940 г. Удзельнік савецка-фінляндскай вайны 1939—40 гг. У Вялікую Айчынную вайну на Сталінградскім, Бранскім, Цэнтральным франтах. Камандзір эскадрона гвардыі старшы лейтэнант Р. М. Ціханаў вызначыўся ў баях пры вызваленні Камарынскага р-на Палескай вобл. 28.9.1943 г. эскадрон пад яго камандаваннем на плытах фарсіраваў Днябро, суткі вёў бой на захопленым плацдарме, знішчыў больш за 50 гітлераўцаў, мінамётную батарэю, што садзейнічала наступленню падраздзяленняў палка. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 15.1.1944 г. Загінуў Р. М. Ціханаў 13.2.1944 г. ў баі.

М. І. Шмаргун нарадзіўся 6.12. 1913 г. ў г. п. Навапскоў Варашылаўградскай вобл. ў сялянскай сям'і. У Вялікую Айчынную вайну на фронце з 1941 г. Гвардыі радавы М. І. Шмаргун вызначыўся пры вызваленні Камарынскага р-на Палескай вобл. 27.9.1943 г. М. І. Шмаргун з трыма разлікамі процітанкавых ружжаў на плыце пераправіўся цераз Днябро. Калі плыт быў разбіты, уплаў разам з байцамі пераадолеў раку, закідаў гранатамі варожыя траншэі, знішчыў 8 гітлераўцаў. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 15.1.1944 г. Памёр М. І. Шмаргун 30.1.1944 г. ад ран.

Ф. М. Языковіч нарадзіўся 5.2. 1903 г. ў в. Старое Заліцвінне Кіраўскага р-на Магілёўскай вобл. ў сялянскай сям'і. Член КПСС з 1931 г. З 1924 г. працаваў настаўнікам, з 1929 г. інспектар, з 1932 г. загадчык раённага аддзела народнай асветы ў Магілёўскай і Мінскай абласцях. У 1936 г. скончыў Вышэйшую камуністычную сельскагаспадарчую школу Беларусі імя У. І. Леніна. З 1936 г. працаваў намеснікам старшыні Заслаўскага райвыканкома Мінскай вобл. З 1938 г. дырэктар Рэспубліканскай школы старшынь калгасаў (Магілёў), інструктар ЦК КП(б)Б, з 1939 г. загадчык аддзела, другі сакратар Палескага абкома КП(б)Б. У Вялікую Айчынную вайну з жніўня 1941 г. камісар кавалерыйскай групы, дывізіі на Цэнтральным, Паўднёва-Заходнім, Бранскім франтах. З лютага 1943 г. ўпаўнаважаны ЦК КП(б)Б па Палескай вобл., першы сакратар Палескага падпольнага абкома КП(б)Б і камандзір Палескага партызанскага злучэння. Ф. М. Языковіч загінуў 7.4.1943 г. ў баі. Яго імем названы вуліца і сярэдняя школа № 5 у Мазыры. На месцы яго гібелі (чыгуначная станцыя Брынёва на лініі Брэст — Гомель) устаноўлена мемарыяльная дошка.

А. М. Бяленчык нарадзіўся 23.1. 1907 г. ў г. п. Жыткавічы Гомельскай вобл. ў сялянскай сям'і. Член КПСС з 1930 г. З мая 1943 г. камісар, у верасні 1943 г.— студзені 1944 г. камандзір партызанскага злучэння Паўднёва-Прыпяцкай зоны Палескай вобл. Пасля вызвалення Палескай вобл. ад нямецка-фашысцкіх акупантаў працаваў сакратаром Палескага абкома КП(б)Б. Памёр 12.5.1945 г.

У 1977 г. на ўшанаванне памяці загінуўшых воінаў і партызан адкрыты мемарыяльны архітэктурна-скульптурны комплекс (арх. Г. Верабʼёў, скульпт. М. Пушкар; мармур, граніт, бетон). Займае прамавугольную ў плане пляцоўку 0,5 га, размешчаны перпендыкулярна вуліцы, абнесены бруствeрам. У пачатку мемарыяла — абеліск (вышыня 23 м). Побач з абеліскам на кубападобным пастаменце ўстаноўлена гармата. На гранях пастамента — барэльефныя выявы воінаў і партызан, жанчыны ў жалобе. Перад помнікам-гарматай на квадратнай пляцоўцы запалены Вечны агонь. У цэнтры мемарыяла 101 надмагільная пліта з імёнамі пахаваных. Завяршае мемарыял Курган, на вяршыні якога скульптурная кампазіцыя — воін і жанчына.

*Літ.:* Освобождение Белоруссии. 1944.— 2 изд.— М., 1974; В памяти народной.— Мн., 1969; Навечно в сердце народном.— 3 изд.— Мн., 1984; В грозные годы.— Мн., 1973; Щербатов Г. Партизанские огни.— М., 1959. *Г. І. Дулеба.*

**1265. БУДЫНАК ЖАНОЧАЙ ГІМНАЗІІ, МЕСЦА ВУЧОБЫ ХАРУЖАЙ** Веры Захараўны (архіт., гіст.). Пл. Леніна, 4. Пабудаваны ў канцы 19 ст. з цэглы. Выкарыстоўваецца як навучальная ўстанова.

Двухпавярховы будынак П-падобны ў плане. У 1-м паверсе праезд ва ўнутраны двор. Сцены 2-га паверха крапаваны філёнгавымі і руставанымі лапаткамі, ліштвамі з франтонамі, фрызам. Уваходы ў будынак праз вестыбюлі бакавых крылаў. Планіроўка 1-га і 2-га паверхаў калідорная. Паверхі злучае шырокая двухмаршавая лесвіца.

У жаночай гімназіі (у 1917 г. пераўтворана ў адзіную працоўную школу 2-й ступені) у 1911—19 гг. вучылася В. З. Харужая — дзеяч рэвалюцыйнага руху ў Заходняй Беларусі, адзін з арганізатараў і кіраўнікоў камуністычнага падполля ў Віцебску ў Вялікую Айчынную вайну, Герой Савецкага Саюза. У 1960 г. на ўшанаванне памяці В. З. Харужай на будынку былой гімназіі ўстаноўлена мемарыяльная дошка. Гл. артыкул № 1298 «Помнік Харужай Веры Захараўне». *Г. І. Дулеба, А. М. Кулагін.*



**1265.** *Будынак былой жаночай гімназіі.*

**1266. ГАРАДЗІШЧА, СЕЛІШЧА** (археал.).

**1266а.** Гарадзішча. На месцы былой в. Кімбараўка, каля мэблевай фабрыкі, паміж ярамі, на правым беразе Прыпяці. Выявіў у 1926 г. Б. І. Федарака, абследавалі ў 1951 г. Ю. У. Кухарэнка, у 1976 г. У. Ф. Ісаенка, даследаваў у 1982 г. Г. М. Залашка. Пляцоўка памерам 130×80 м, з боку поля ўмацавана валам вышынёй каля 4 м і ровам глыбінёй каля 3 м. З паўночнага, паўднёвага і ўсходняга бакоў мае стромкія схілы (вышыня над поплавам р. Прыпяць каля 20 м). У раскопе плошчай 136 м² ва ўсходняй частцы пляцоўкі выяўлены культурны пласт 0,2—0,7 м. Знойдзены абломкі ляпнога і ганчарнага посуду. Сярод ляпной керамікі — рэшткі гаршкоў роменска-боршаўскага тыпу з арнаментам у выглядзе кручанага шнура і кераміка бронзавага веку. Ганчарны посуд з лінейным арнаментам, тыповым для 11 стагоддзя. Выяўлены рэшткі частаколу, які ішоў паўкальцом і аддзяляў пляцоўку ад ракі. У мацерыку прасочаны ямы. 2 з іх ад жытлаў (памеры 5,2×2,4 м і 6××2,4 м) размешчаны каля частаколу. Сярод знаходак — бронзавыя паясныя бляшкі, шыферныя і гліняныя праслiцы, сердалікавая пацерка, фібула, бразготка з крыжападобным прарэзам, жалезныя і крамянёвыя наканечнікі стрэл, тыгель, крамянёвае крэсіва, жалезныя нажы, наканечнікі кап'я-суліцы 10 ст. Знойдзена палавіна сярэбранага арабскага дырхема (манетны двор аль-Мухамедзія, 798—799 гг.). Гарадзішча ўзнікла на месцы больш ранняга паселішча бронзавага веку. Адносіцца да роменска-боршаўскай культуры, датуецца 8—11 стагоддзямі.

**1266б.** Селішча. На захад ад гарадзішча, за валам. Выявіў у 1926 г.

Б. І. Федарака, абследавалі ў 1951 г. Ю. У. Кухарэнка, у 1982 г. Г. М. Залашка. Культурны пласт 0,16—0,4 м прасочаны на адлегласці 0,3 км уздоўж поймы ракі. У шурфах выяўлены фрагменты ляпной і ганчарнай керамікі, кавалак аплаўленага шкла. Адносіцца да роменска-боршаўскай культуры, датуецца 8—11 стагоддзямі.

Матэрыялы абследавання захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

*Г. М. Залашка.*

**1267. ДОМ, ДЗЕ БЫЎ ПАЛЯВЫ ШПІТАЛЬ** (гіст.). Вул. Фрунзе, 1. У гэтым доме ў 1944—45 гг. размяшчаўся палявы шпіталь, у якім лячыліся савецкія воіны, параненыя ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У памяць аб гэтым у 1964 г. на доме былога шпіталя ўстаноўлена мемарыяльная дошка.

**1268. ДОМ, ДЗЕ БЫЎ ПРЫЗЫЎНЫ ПУНКТ ВАЕННАГА КАМІСАРЫЯТА** (гіст.). Вул. Пралетарская, 98, цяпер будынак Мазырскага навучальна-вытворчага камбіната. Тут у пачатку Вялікай Айчыннай вайны размяшчаўся прызыўны пункт, адкуль жыхары горада і раёна адпраўляліся на фронт абараняць Радзіму. У памяць аб дзейнасці прызыўнога пункта ў 1965 г. на доме ўстаноўлена мемарыяльная дошка.

**1269. ДОМ КУЛЬТУРЫ** (архіт.). Вул. Ленінская, 23. Пабудаваны ў 1929—32 гг. з цэглы як клуб-тэатр.

Двухпавярховы асіметрычны ў плане П-падобны будынак мае дакладна размежаваныя відовішчную і клубную часткі, якія функцыяніруюць самастойна, аб'ёмы аб'яднаны пры дапамозе папярочнага крыла-перахода. Уваход у тэатр вырашаны ў выглядзе паўкруглай каланады на галоўным фасадзе. Архітэктура фасадаў заснавана на спалучэнні круглаватага і прамавугольнага аб'ёмаў, на рытме прамавугольных вертыкальных і гарызантальных аконных праёмаў. Відовішчная частка будынка ўключае паўкруглы вестыбюль, фае з бакавымі лесвіцамі, глядзельную залу, сцэну і службовыя памяшканні для акцёраў па баках. Месцы ў глядзельнай зале размешчаны амфітэатрам.

Будынак Дома культуры — помнік архітэктуры канструктывізму.

*А. М. Кулагін.*



1270. *Жылы дом № 154 па вуліцы Савецкай. План.*

**1270. ЗАБУДОВА ВУЛІЦЫ САВЕЦКАЙ** (архіт.). Забудавана ў 1950—60-я гады 3—5-павярховымі цаглянымі дамамі. На ўчастку ад пл. Леніна да Рыначнай пл. захаваўся фрагмент жыллёвай забудовы канца 19 — пачатку 20 ст. (дамы № 154, 156, 160, 162, 168, 174, 178).

Дом № 154. Прамавугольны ў плане двухпавярховы будынак накрыты высокім дахам, мае асіметрычную аб'ёмную кампазіцыю. Дамінантай яго галоўнага фасада з'яўляецца аб'ём круглаватай лесвічнай клеткі, завершаны шатром. Над уваходнай лоджыяй тэраса. Планіроўка дома калідорная. У аб'ёмна-прасторавым вырашэнні будынка выкарыстаны прыёмы, характэрныя для архітэктуры канструктывізму.

Дом № 156. Прамавугольны ў плане двухпавярховы аб'ём. 1-ы паверх цагляны. Над ім зроблены драўляны зруб, накрыты пакатым вальмавым дахам. Галоўны фасад сіметрычна-восевай кампазіцыі. На 1-м паверсе 3 лучковыя аконныя праёмы, руставаныя лапаткамі, на 2-м — прамавугольныя вокны з фігурнымі ліштвамі. Фрыз і карніз дэкарыраваны накладной драўлянай разьбой. Уваход у будынак з тарцовага фасада.

Дом № 160. Двухпавярховы прамавугольны ў плане будынак пад пакатым чатырохсхільным дахам. Сцены 1-га мураванага паверха прарэзаны лучковымі аконнымі праёмамі з броўкамі, 2-га (драўлянага) — прамавугольнымі, дэкарыраванымі арнаментальнай разьбой. Галоўны фасад крапаваны вуглавымі лапаткамі і шырокім арнаментальным фрызам. Уваход у будынак з тарцовага фасада.

Дом № 162. Двухпавярховы прамавугольны ў плане будынак накрыты пакатым вальмавым дахам. 1-ы паверх мураваны і атынкаваны, мае лучковыя аконныя праёмы, 2-і — драўляны з гарызантальнай шалёўкай і вокнамі, дэкарыраванымі разнымі ліштвамі. Уваход з тарцовага фасада.

Дом № 168. Двухпавярховы прамавугольны ў плане будынак. 1-ы паўпадвальны паверх мураваны, 2-і — драўляны з пакатым вальмавым дахам. 3 акны 2-га паверха і фрыз дэкарыраваны разьбой. Уваход з бакавога фасада.

Дом № 174. Аднапавярховы прамавугольны ў плане будынак з падклетам. Сцены ашаляваны, прамавугольныя вокны з разнымі ліштвамі. Уваходны лучковы праём у тарцовай прыбудове. Дзверы філёнгавыя.

Дом № 178. Двухпавярховы прамавугольны ў плане будынак накрыты пакатым чатырохсхільным дахам. Прамавугольныя вокны 2-га паверха дэкарыраваны сандрыкамі, шырокім фрызам. Мураваны падклет атынкаваны. Уваход з боку двара.



1271. *Касцёл былога кляштара бернардзінцаў. Фрагмент.*



1271. *Касцёл былога кляштара бернардзінцаў. План.*





1271. *Кляштар бернардзінцаў. Планы 1-га (унізе) і 2-га паверхаў жылога корпуса.*

Забудова па вул. Савецкай — помнік горадабудаўніцтва. *А. М. Кулагін.*

**1271. КЛЯШТАР БЕРНАРДЗІНЦАЎ** (архіт.). Вул. Камсамольская, 16. Пабудаваны ў 1-й палавіне 18 ст. з цэглы. Кляштар складаецца з касцёла і прыбудаванага да яго з усходняга боку жылога корпуса.

Касцёл трохнефавы, двухвежавы. Галоўны фасад раскрапаваны пілястрамі і карнізамі. Уваход афармлены кілепадобным парталам з крываліней-



1272. *Кляштар цыстэрцыянцаў.*



1272. *Кляштар цыстэрцыянцаў. План касцёла.*

ным франтонам. Бакавыя фасады вылучаны рытмам кілепадобных аконных праёмаў і здвоеных пілястраў у прасценках. Вежы касцёла спачатку барочнага характару перабудаваны ў стылі класіцызму: трохвугольныя франтончыкі, арачныя праёмы ў прамавугольных нішах.

Прастора інтэр'ера падзелена 4 слупамі на 3 нефы. Цэнтральны неф перакрыты цыліндрычным скляпеннем на падпружных арках, бакавыя — крыжовымі скляпеннямі. Пяціграная алтарная частка аддзелена іканастасам. Хоры размешчаны над уваходам. Пад алтарнай часткай знаходзіцца крыпта. Жылы корпус характэрнай галерэйнай планіроўкі: келлі маюць выхад у калідор, асветлены аконнымі праёмамі.

У тарцовай частцы вялікая квадратная ў плане трапезная, перакрытая цыліндрычным скляпеннем з распалубкамі.

Кляштар — помнік архітэктуры барока. *А. М. Кулагін.*

**1272. КЛЯШТАР ЦЫСТЭРЦЫЯНЦАЎ** (архіт.). Вул. Гогаля, 121. Пабудаваны ў 1745 г. Уключае мураваны касцёл і жылы корпус. Цяпер у жылым корпусе размешчана музычнае вучылішча.

Касцёл аднанефавы з трохграннай алтарнай часткай і высокім двухсхільным дахам. Галоўны фасад трохчасткавы, насычаны вертыкальнай крапоўкай, прарэзаны арачнымі аконнымі праёмамі, нішамі з ракавінамі і завершаны атыкавым ступеньчатым шчытом. Гарызантальныя чляненні фасада падкрэслены крапаванымі карнізамі. Галоўны ўваход — праз нізкі пяціграны тамбур, дэкарыраваны лапаткамі. Прастора інтэр'ера рэканструявана (падзелена на 2 паверхі). Прэсбітэрый вылучаны арачным праёмам, сцены крапаваны шматслойнымі карнізамі, пілястрамі, нішамі.

Жылы корпус двухпавярховы, прамавугольны ў плане. Фасады крапаваны пілястрамі. Планіроўка галерэйная з аднабаковым размяшчэннем тыпавых келляў.

Кляштар — помнік архітэктуры позняга барока. *А. М. Кулагін.*

**1273. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА ДАНІЛЕЎСКАМУ** Мікалаю Сцяпанавічу (гіст.). Вул. Ленінская, 32. Устаноўлена ў 1957 г. на доме, дзе ён загінуў.

Герой Грамадзянскай вайны М. С. Данілеўскі нарадзіўся 6.8.1892 г. ў г. Харкаве ў сям'і прыказчыка. Член КПСС з 1913 г. Адзін з арганізатараў Савецкай улады на Украіне, удзельнік абароны Царыцына. У 1919—20-я гады камісар 139-й брыгады 47-й стралковай дывізіі. У пачатку сакавіка 1920 г. часці Чырвонай Арміі вялі жорсткія баі супраць войск буржуазнай Польшчы ў Мазырскім павеце. Штаб брыгады, камісарам якой з'яўляўся М. С. Данілеўскі, размяшчаўся ў Мазыры. У ноч на 6.3.1920 г. войскі буржуазнай Польшчы прарвалі абарону і захапілі горад. Яны акружылі дом, у якім з групай чырвонаармейцаў знаходзіўся М. С. Данілеўскі. Чырвонаармейцы на працягу 10 гадзін трымалі абарону, знішчылі больш за 40 салдат праціўніка. М. С. Данілеўскі загінуў па-геройску ў гэтым няроўным баі. Узнагароджаны ордэнам Чырвонага Сцяга. Яго імем названа вуліца ў Мазыры.

*Літ.:* В памяти народной.— Мн., 1969. *Г. І. Дулеба.*

**1274. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Вул. Савецкая, 105. Устаноўлена ў 1967 г. на ўшанаванне памяці 3 работнікаў Мазырскага тэхнічнага ўчастка Верхнедняпроўскага басейнавага ўпраўлення рачнога параходства, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну.

**1275. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА САВЕЦКІМ ВОІНАМ** (гіст.). Вул. 8 Сакавіка, на будынку клуба вытворчага дрэваапрацоўчага аб'яднання. Устаноўлена ў 1974 г. ў гонар воінаў 14-й і 15-й гвардзейскіх кавалерыйскіх дывізій Беларускага фронту, якія ў студзені 1944 г. ўдзельнічалі ў вызваленні горада ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў.

**1276. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА САВЕЦКІМ ВОІНАМ** (гіст.). Вул. Гогаля, 100. Устаноўлена ў 1972 г. ў гонар воінаў 111-га палка 55-й стралковай дывізіі 61-й арміі Беларускага фронту, якія ў студзені 1944 г. ўдзельнічалі ў вызваленні горада ад нямецка-фашысцкіх акупантаў.

**1277. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА САВЕЦКІМ ВОІНАМ** (гіст.). Вул. Інтэрнацыянальная, 63, на будынку сярэдняй школы № 8. Устаноўлена ў 1975 г. ў гонар воінаў лыжнага батальёна і вучэбнага атрада 55-й стралковай дывізіі Беларускага фронту, якія ў студзені 1944 г. ўдзельнічалі ў вызваленні горада ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў.

**1278. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА САВЕЦКІМ ВОІНАМ** (гіст.). Вул. Інтэрнацыянальная, 63, на будынку сярэдняй школы № 8. Устаноўлена ў 1975 г. ў гонар воінаў 55-й і 415-й стралковых дывізій 61-й арміі Беларускага фронту, якія ў студзені 1944 г. ўдзельнічалі ў вызваленні горада ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў.

**1279. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА ТАЛКАЧОВУ** Яўгену Іосіфавічу (гіст.). Вул. Ленінская, 1, на будынку школы-інтэрната. Устаноўлена ў 1964 г. на ўшанаванне памяці падпольшчыка Я. І. Талкачова, які вучыўся ў сярэдняй школе № 2 (цяпер школа-інтэрнат).

Я. І. Талкачоў нарадзіўся ў лістападзе 1923 г. ў в. Серкавіцы Талачынскага р-на Віцебскай вобл. ў сям'і служачага. Член ВЛКСМ. У 1941 г. скончыў у Мазыры сярэднюю школу. З жніўня 1941 г. актыўны ўдзельнік Мазырскага камуністычнага падполля. Распаўсюджваў сярод насельніцтва лістоўкі, зводкі Саўінфармбюро, удзельнічаў у дыверсіях. З чэрвеня 1942 г. партызан атрада імя К. Я. Варашылава. У верасні 1942 г. загінуў у баі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. Пахаваны ў г. Калінкавічы. Пасмяротна ўзнагароджаны ордэнам Айчыннай Вайны 1-й ступені. *Г. І. Дулеба.*

**1280. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА ХАРУЖАЙ** Веры Захараўне (гіст.). Вул. Савецкая, 107. Устаноўлена ў 1964 г. на ўшанаванне памяці Героя Савецкага Саюза В. З. Харужай, якая ў 1909—21 гг. жыла ў доме, што стаяў на гэтым месцы.

**1281. МЕСЦА ДЗЕЙНАСЦІ МАЗЫРСКАЙ АРГАНІЗАЦЫІ РСДРП(б)** (гіст.). Узнікла пасля II з'езда РСДРП (1903 г.), уваходзіла ў склад Палескага камітэта РСДРП. Вяла прапаганду і агітацыю сярод рабочых, батракоў і сялян Мазыра і Мазырскага павета, распаўсюджвала нелегальную літаратуру, пракламацыі, адозвы з заклікамі да барацьбы супраць царызму. Кіравала рабочым рухам, арганізоўвала стачкі, дэманстрацыі, мітынгі і сходы. У снежні 1904 г. выдала лістоўку «Да рабочых запалкавай фабрыкі «Маланка», у якой заклікала актыўна і арганізавана весці барацьбу з царызмам і капіталістамі.

Дзейнасць арганізацыі актывізавалася ў Рэвалюцыю 1905—07 гг. У студзені 1905 г. правяла стачкі і маніфестацыі пратэсту рабочых Мазыра супраць крывавай расправы царызму 9.1.1905 г. над рабочымі Пецярбурга. У 1905 г. правяла першамайскую забастоўку рабочых і навучэнцаў Мазыра, якая вылілася ў палітычную дэманстрацыю пад лозунгамі «Далоў самадзяржаўе!», «Няхай жыве дэмакратычная рэспубліка!». Выступленне было задушана войскамі і паліцыяй. Летам 1905 г. ў в. Дудзічы Мазырскага павета арганізавала забастоўку 200 батракоў. У час Кастрычніцкай Усерасійскай палітычнай стачкі 1905 г. кіравала ўсеагульнай стачкай працоўных горада, якая праходзіла пад заклікамі «Далоў самадзяржаўе!», «Няхай жыве дэмакратычная рэспубліка!», «Свабоду палітычным зняволеным!». На агульнагарадскім мітынгу быў выбраны рэвалюцыйны камітэт, які 9 дзён узначальваў так званую Мазырскую рэспубліку. Зроблена спроба вызваліць палітвязняў, захапіць казначэйства і зброю са складоў. Стачка была задушана царскімі ўладамі, члены рэўкома сасланы на вечнае пасяленне ў Сібір. У час снежаньскага ўзброенага паўстання 1905 г. правяла стачку рабочых Мазыра. У 1906 г. пад уплывам мясцовых сацыял-дэмакратаў рабочыя запалкавай фабрыкі «Маланка» байкатавалі выбары ў 1-ю Дзяржаўную думу, у чэрвені пачалі забастоўку, якая працягвалася больш за месяц і закончылася іх частковай перамогай. У кастрычніку 1906 г. адбылася агульная забастоўка рабочых Мазыра. У гады рэакцыі дзейнасць Мазырскай арганізацыі РСДРП прыпынілася. У канцы 1908 г. арганізацыя зноў выдала лістоўкі, аднавіла палітычную агітацыю, кіравала выступленнямі рабочых і сялян. Пасля Лютаўскай рэвалюцыі 1917 г. ў Мазыры ўзнікла «аб'яднанка», у кастрычніку 1917 г. бальшавікі стварылі самастойную арганізацыю. Мазырская арганізацыя РСДРП(б) узмацніла ўплыў на рабочых і сялян, кіравала ажыццяўленнем першых дэкрэтаў Савецкай улады.

*Літ.:* Хроника важнейших событий истории Коммунистической партии Белоруссии. Ч. 1.— Мн., 1962; Очерки истории Коммунистической партии Белоруссии. Ч. 1 (1883—1920).— 2 изд.— Мн., 1968; Д и р е н о к Е. Д. Полесская организация большевиков в борьбе против царизма (1903 — март 1917 гг.).— Мн., 1965; я г о ж. Большевики Гомельщины в период Октябрьской революции и гражданской войны.— Мн., 1976.

*Г. І. Дулеба.*

**1282. МЕСЦА З'ЕЗДА СЯЛЯНСКІХ ДЭПУТАТАЎ** (гіст.). Вул. Ленінская, каля сучаснага будынка атэлье «Мазыранка». Тут стаяў дом, у якім 6—7.10.1917 г. адбыўся з'езд сялянскіх дэпутатаў Мазырскага павета. З'езд прыняў рэзалюцыю аб перадачы ўлады Саветам, зямлі сялянам. У памяць аб гэтай падзеі ў 1979 г. ўстаноўлена мемарыяльная пліта.

**1283. МЕСЦА РЭВАЛЮЦЫЙНАГА ВЫСТУПЛЕННЯ ПРАЦОЎНЫХ У 1905 г.** (гіст.). Пл. Леніна.

У час Кастрычніцкай Усерасійскай палітычнай стачкі 1905 г. ў Мазыры адбылася ўсеагульная стачка працоўных горада — адно з буйнейшых рэвалюцыйных выступленняў працоўных на Беларусі. 17 кастрычніка Мазырская арганізацыя РСДРП правяла на былой Базарнай пл. агульнагарадскі мітынг. На ім быў выбраны рэвалюцыйны камітэт, які 9 дзён кіраваў масавымі выступленнямі працоўных Мазыра, ажыццяўляў рэвалюцыйныя мерапрыемствы. Дзейнічала баявая дружына рабочых. Стачка праходзіла пад заклікамі: «Далоў самадзяржаўе!», «Няхай жыве дэмакратычная рэспубліка!». Паўстанцы спрабавалі захапіць склады са зброяй, казначэйства, вызваліць палітычных зняволеных. Улада, якую ажыццяўляў рэвалюцыйны камітэт, увайшла ў гісторыю пад назвай «Мазырскай рэспублікі». Мінскі губернатар накіраваў у Мазыр войска. Рэвалюцыйнае выступленне было задушана зброяй. У сутычках з царскімі войскамі 4 чалавекі забіты і 6 паранена, многія ўдзельнікі выступлення зняволены. Усе члены рэўкома сасланы на вечнае пасяленне ў Сібір, у горадзе было ўведзена ваеннае становішча.

У 1957 г. ў памяць аб рэвалюцыйным выступленні працоўных Мазыра на будынку кінатэатра «Радзіма» ўстаноўлена мемарыяльная дошка.

*Літ.:* Хроника важнейших событий истории Коммунистической партии Белоруссии. Ч. 1.— Мн., 1962; Революционное движение в Белоруссии 1905—1907 гг.— Мн., 1955; Д и р е н о к Е. Д. Полесская организация большевиков в борьбе против царизма (1903 — март 1917 гг.).— Мн., 1965.

*Г. І. Дулеба.*

**1284. ПАСЕЛІШЧЫ** (археал.).

**1284а.** П а с е л і ш ч а - 1. Вядома пад назвай Пхоў-1. За 1 км на паўднёвы ўсход ад Пхова (цяпер у межах Мазыра), на астанцы каля Прыпяці, у месцы павароту ракі на паўднёвы захад. Выявіў у 1927 г. І. Р. Калодкін, даследаваў у 1962 г. У. Ф. Ісаенка. Даўжыня паселішча 70 м. У раскопе агульнай плошчай 100 м² і ў траншэі плошчай 20 м² знойдзены 190 апрацаваных крамянёў, 39 крамянёвых прылад працы, 220 абломкаў ляпной керамікі.

**1284б.** П а с е л і ш ч а - 2. Вядома пад назвай П х о ў - 2. На заходняй ускраіне пас. Пхоў, на першай надпоймавай тэрасе. Выявіў у 1926 г. Б. І. Федарака, даследаваў у 1961—62 гг. У. Ф. Ісаенка. Даўжыня паселішча 300 м. Культурны пласт 0,2 м захаваўся не поўнасцю. На месцах моцна разбураных жытлаў знойдзены 32 крамянёвыя прылады працы, 180 апрацаваных крамянёў, абломкі 3—4 вастрадонных гаршкоў.

**1284в.** П а с е л і ш ч а - 3. Вядома пад назвай М а з ы р - 1. За 1 км на поўнач ад цэнтра горада, займае высокі ўчастак поплава Прыпяці. Вядома з 1926 г. Абследаваў у 1962 г. У. Ф. Ісаенка. Даўжыня паселішча 150 м. У культурным пласце 0,3 м знойдзены 36 крамянёвых прылад працы, 150 апрацаваных крамянёў, абломкі 8—9 гаршкоў.

**1284г.** П а с е л і ш ч а - 4. Вядома пад назвай М а з ы р - 2. За 2 км на паўночны ўсход ад былой в. Кімбараўка (цяпер вул. Гогаля). Вядома з 1926 г. Абследаваў у 1961—62 гг. У. Ф. Ісаенка. Даўжыня паселішча 200 м. Культурны пласт да 0,2 м. Знойдзены крамянёвыя прылады працы, апрацаваныя крамяні, рэшткі гаршкоў.

Паселішчы адносяцца да ўсходнепалескага варыянта днепра-данецкай культуры, датуюцца 3—2-м тысячагоддзямі да н. э.

Матэрыялы даследаванняў захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

*Літ.:* И с а е н к о В. Ф. Неолит Припятского Полесья.— Мн., 1976.

*У. Ф. Ісаенка.*

**1285. ПОМНІК КІРАВУ** Сяргею Міронавічу (гіст.). На вул. Пушкіна, каля будынка канторы «Мазырсельбуда». Бюст С. М. Кірава ўстаноўлены ў 1967 г.

**1286. ПОМНІК КРУПСКАЙ** Надзеі Канстанцінаўне (гіст.). На вул. Крупскай, на тэрыторыі трыкатажнай фабрыкі. Бюст Н. К. Крупскай устаноўлены ў 1966 г.

**1287. ПОМНІК ЛЕНІНУ** Уладзіміру Ільічу (гіст.). На вул. Заводскай, каля адміністрацыйнага будынка завода меліярацыйных машын. Скульптура У. І. Леніна ўстаноўлена ў 1960 г.

**1288. ПОМНІК ЛЕНІНУ** Уладзіміру Ільічу (гіст.). На вул. Катлаўца, на



1289. *Помнік У. І. Леніну.*

тэрыторыі тэхнічнага вучылішча № 84. Бюст У. І. Леніна ўстаноўлены ў 1970 г.

**1289. ПОМНІК ЛЕНІНУ** Уладзіміру Ільічу (гіст.). На пл. Леніна. Скульптура У. І. Леніна ўстаноўлена ў 1947 г.

**1290. ПОМНІК ЛЕНІНУ** Уладзіміру Ільічу (гіст.). На вул. Прамысловай, каля будынка канторы прадпрыемства раённых электрасетак. Скульптура У. І. Леніна ўстаноўлена ў 1957 г.

**1291. ПОМНІК ЛЕНІНУ** Уладзіміру Ільічу (гіст.). На вул. Прытыцкага, на тэрыторыі сярэдняй школы № 9. Бюст У. І. Леніна ўстаноўлены ў 1976 г.

**1292. ПОМНІК ЛЕНІНУ** Уладзіміру Ільічу (гіст.). На вул. Сацыялістычнай, на тэрыторыі дрэваапрацоўчага камбіната. Скульптура У. І. Леніна ўстаноўлена ў 1957 г.

**1293. ПОМНІК ЛЕНІНУ** Уладзіміру Ільічу (гіст.). На вул. Фрунзе, на тэрыторыі сярэдняй школы № 10. Бюст У. І. Леніна ўстаноўлены ў 1977 г.

**1294. ПОМНІК ПУШКІНУ** Аляксандру Сяргеевічу (гіст.). На вул. Крупскай, каля сярэдняй школы № 4. Скульптура А. С. Пушкіна ўстаноўлена ў 1969 г.

**1295. ПОМНІК РАБОТНІКАМ ДРЭВААПРАЦОЎЧАГА КАМБІНАТА** (гіст.). На вул. 8 Сакавіка, каля Дома культуры. На ўшанаванне памяці 100 работнікаў дрэваапрацоўчага камбіната, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1968 г. пастаўлена стэла.

**1296. ПОМНІК РАБОЧЫМ МЕТАЛААПРАЦОЎЧАЙ АРЦЕЛІ «МОЛАТ»** (гіст.). На вул. Ленінскай, на тэрыторыі завода машынабудавання для птушкагадоўчых комплексаў і ферм (створаны ў 1948 г. на базе арцелі «Молат» як ліцейна-механічны завод, з 1975 г. завод машынабудавання для птушкагадоўчых комплексаў і ферм). На ўшанаванне памяці 7 рабочых, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1975 г. пастаўлена стэла.

**1297. ПОМНІК У ГОНАР САВЕЦКІХ ЛЁТЧЫКАЎ** (гіст.). На вул. Інтэрнацыянальнай, каля будынка сярэдняй школы № 8.

Горад Мазыр вызвалены ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў 14.1.1944 г. ў ходзе Мазырска-Калінкавіцкай аперацыі войскамі Беларускага фронту (камандуючы генерал арміі К. К. Ракасоўскі). У аперацыі ўдзельнічалі часці 16-й паветранай арміі (камандуючы генерал-палкоўнік авіяцыі С. І. Рудэнка). 18 вайсковым злучэнням і часцям, якія вызначыліся ў аперацыі, нададзены ганаровыя найменні «Мазырскіх», у т. л. 234-й знішчальнай авіядывізіі (камандзір палкоўнік Я. З. Татанашвілі), 79-му гвардзейскаму (камандзір маёр У. Я. Нядзелька) і 519-му (камандзір маёр К. М. Мурга) авіяпалкам, 20 вайсковым злучэнням і часцям — ганаровыя найменні «Калінкавіцкіх», у т. л. 57-му (камандзір маёр К. П. Іванцоў), 779-му (камандзір падпалкоўнік А. В. Хромчанкаў) і 517-му (камандзір падпалкоўнік С. В. Баранаў) авіяпалкам.

У 1982 г. ў гонар лётчыкаў, якія ўдзельнічалі ў Мазырска-Калінкавіцкай аперацыі, пастаўлены помнік — самалёт на пастаменце. *Г. І. Дулеба.*

**1298. ПОМНІК ХАРУЖАЙ** Веры Захараўне (гіст., маст.). На вул. Ленінскай, у скверы.

Дзеяч рэвалюцыйнага руху ў Заходняй Беларусі, адзін з арганізатараў і кіраўнікоў камуністычнага падполля ў Віцебску ў Вялікую Айчынную вайну, публіцыст, Герой Савецкага Саюза В. З. Харужая (партыйныя і літаратурныя псеўданімы В е р к а, В е р а н і к а К а р ч э ў с к а я, А л е с я Ш ы п ш ы н а, А н т о л ь к а, П а д п о л ь н і к, Г. С. К а р н і л а в а) нарадзілася 14.9.1903 г. ў г. Бабруйск у сям'і служачага. Член КПСС з 1921 г. У 1923 г. скончыла Цэнтральную савецка-партыйную школу ў Мінску. У 1909 г. разам з сям'ёй пераехала ў г. Мазыр, дзе прайшлі яе дзіцячыя і юнацкія гады. У 1920 г. ўдзельнічала ў барацьбе супраць контррэвалюцыйных бандаў Булак-Балаховіча. У 1920—21 гг. загадчык палітаддзелаў Мазырскага, Бабруйскага павятовых камітэтаў камсамола, у 1922—23 гг. у ЦК КСМБ, адначасова член рэдкалегіі газеты «Малады араты», супрацоўнік часопіса «Полымя», газеты «Чырвоная змена». З лютага 1924 г. на падпольнай рабоце ў Заходняй Беларусі: член ЦК КСМЗБ, сакратар ЦК КСМЗБ, член ЦК КПЗБ, член ЦК камсамола Польшчы. За рэвалюцыйную дзейнасць 15.9.1925 г. арыштавана і прыгаворана да 8 гадоў турмы. З 1932 г. жыла ў Мінску, займалася літаратур-




1297. *Помнік у гонар савецкіх лётчыкаў.*



1298. *Помнік В. З. Харужай.*

най дзейнасцю. У 1935—41 гг. на партыйнай рабоце ў г. Балхаш Казахскай ССР, у Целяханах і Пінску Брэсцкай вобл. У пачатку Вялікай Айчыннай вайны партызанка. З вясны 1942 г. ў апараце ЦК КП(б)Б у Маскве, у верасні накіравана ў варожы тыл. Стварыла і ўзначаліла групу ў Віцебскім камуністычным падполлі, перадавала камандаванню Чырвонай Арміі і партызанам звесткі пра ворага. 19.11.1942 г. арыштавана гітлераўцамі і ў снежні 1942 г. закатавана. 17.5.1960 г. В. З. Харужай пасмяротна прысвоена званне Героя Савецкага Саюза. Яе імем названы вуліцы, плошчы, школы ў Мінску, Бабруйску, Віцебску, Мазыры, Алма-Аце, цеплаход; помнікі і мемарыяльныя дошкі ўстаноўлены ў Мінску, Бабруйску, Віцебску, Пінску, Брэсце.

На ўшанаванне памяці В. З. Харужай у 1962 г. ў Мазыры пастаўлены помнік — паясны бюст на чатырохгранным пастаменце (скульпт. З. Азгур; гіпс, цэгла, бетон; вышыня бюста 0,95 м, пастамента 2,1 м). Рашучы паварот галавы, упэўнены позірк падкрэсліваюць перакананасць, мужнасць адважнага змагара. Адначасова сродкамі скульптурнай пластыкі перададзена жаночая грацыёзнасць, мяккасць характару гераіні. Помнік вызначаецца выразнасцю, партрэтным падабенствам.

*Літ.:* Славная дочь белорусского народа.— 2 изд.— Мн., 1962; Новиков И. Вера Хоружая.— 2 изд.— М., 1973; Жизнь, отданная борьбе.— Мн., 1975; Навечно в сердце народном.— 3 изд.— Мн., 1984.
*І. П. Хайратовіч, Л. Г. Лапцэвіч.*

**1299. ПОМНІК ЧАПАЕВУ** Васілю Іванавічу (гіст.). На вул. Чапаева, каля завода жалезабетонных вырабаў. Бюст В. І. Чапаева ўстаноўлены ў 1966 г.

**1300. РАДЗІМА БРЭГМАНА** Аляксандра Абрамавіча (гіст.).

Удзельнік барацьбы за Савецкую ўладу на Беларусі А. А. Брэгман нарадзіўся ў 1895 г. Член КПСС з 1917 г. З ліпеня 1917 г. член Бабруйскага камітэта РСДРП(б), Бабруйскага Савета рабочых і салдацкіх дэпутатаў. З кастрычніка 1917 г. начальнік чырвонагвардзейскай камендатуры пры Бабруйскім камітэце РСДРП(б). У час акупацыі Беларусі войскамі кайзераўскай Германіі на падпольнай рабоце. Адзін з стваральнікаў Барысаўскага падпольнага райкома РКП(б), з мая да кастрычніка 1918 г. старшыня Магілёўскага падпольнага райкома РКП(б). З кастрычніка 1918 г. член Магілёўскага рэўкома, сакратар Магілёўскага павятовага камітэта РКП(б), член губрэўкома. З лютага 1918 г. камісар брыгады Мазырскай групы войск. У адным з баёў быў захоплены ў палон і закатаваны (1919 г.) польскімі легіянерамі. *Г. І. Дулеба.*

**1301. РАДЗІМА ГЕЛЬФМАН** Гесі Мееравны (Міронаўны; гіст.).

Рэвалюцыянерка-народніца Г. М. Гельфман нарадзілася паміж 1852 г. і 1855 г. ў сям'і лесапрамыслоўца. У 1874 г. скончыла акушэрскія курсы пры Кіеўскім універсітэце. У 1874—75 гг. вяла рэвалюцыйную прапаганду сярод рабочых Кіева. У сакавіку 1877 г. засуджана на 2 гады турэмнага зняволення. Член партыі «Народная воля» з 1879 г. У 1879—81 гг. праводзіла рэвалюцыйную работу сярод студэнтаў і рабочых Пецярбурга. На канспіратыўных кватэрах Г. М. Гельфман у Пецярбургу размяшчалася друкарня нарадавольскай «Рабочей газеты», хаваліся выбуховыя рэчывы, пракламацыі і лістоўкі, адбываліся сустрэчы членаў «Народнай волі», рыхтаваўся замах на жыццё цара Аляксандра II. У сакавіку 1881 г. была арыштавана разам з іншымі ўдзельнікамі забойства і прыгаворана да пакарання смерцю праз павешанне. Выкананне прыгавору ў сувязі з цяжарнасцю Г. М. Гельфман было адкладзена. У абарону рэвалюцыянеркі разгарнулася шырокая кампанія. Цар вымушаны быў замяніць пакаранне смерцю пажыццёвай катаргай. Памерла Г. М. Гельфман 1.2. 1882 г. ў турме.

*Літ.:* Деятели революционного движения в России: Биобиблиогр. словарь. Т. 3. В. 2.— М., 1934. *Г. І. Дулеба.*

**1302. РАДЗІМА ТРЫЗНЫ** Фёдара Іванавіча (гіст.).

Герой Сацыялістычнай Працы Ф. І. Трызна нарадзіўся 1.3.1900 г. ў сялянскай сям'і. Член КПСС з 1947 г. Заслужаны заатэхнік РСФСР (1950 г.). Кандыдат сельскагаспадарчых навук (1941 г.). У 1930-я гады навуковы супрацоўнік Пушкінскай заатэхнічнай лабараторыі ў Ленінградскай вобл. З кастрычніка 1941 г. заатэхнік-селекцыянер у саўгасе імя Фрунзе Іванаўскай вобл., з 1942 г. працаваў у саўгасе «Лясныя Паляны» Маскоўскай вобл., у 1954—60 гг. дырэктар гэтага саўгаса. Званне Героя Сацыялістычнай Працы прысвоена 9.10. 1949 г. за заслугі ў развіцці сельскагаспадарчай вытворчасці. Дэпутат Вярхоўнага Савета РСФСР у 1954—62 гг.

Памёр Ф. І. Трызна 1.7.1967 г. Пахаваны ў в. Тарасаўка Пушкінскага р-на Маскоўскай вобл.

*Літ.:* Быков С. С. Ровесник Октября.— М., 1957. *Г. М. Новікава.*

**1303. ЯВАЧНАЯ КВАТЭРА ПАДПОЛЬШЧЫКАЎ** (гіст.). Завулак Калініна, 6.

Тут у 1941—42 гг. жыў пад выглядам шаўца ўдзельнік Мазырскага камуністычнага падполля, былы інструктар Палескага абкома КП(б)Б М. С. Казарэз. На кватэры падпольшчыкі абмяркоўвалі пытанні барацьбы з нямецка-фашысцкімі захопнікамі, прымалі па радыё зводкі Саўінфармбюро і размнажалі іх, пісалі лістоўкі, якія потым распаўсюджваліся сярод насельніцтва. Нямецка-фашысцкія захопнікі даведаліся аб падпольнай дзейнасці М. С. Казарэза, у сакавіку 1942 г. арыштавалі яго і закатавалі.

У памяць аб дзейнасці падпольшчыкаў на доме, дзе была явачная кватэра, у 1964 г. ўстаноўлена мемарыяльная дошка. *Г. І. Дулеба.*

**в. Акулінка, Крынічны сельсавет**

**1304. ГАРАДЗІШЧА, КУРГАННЫЯ МОГІЛЬНІКІ** (археал.).

**1304а.** Гарадзішча. Мясцовая назва Вокунь-гарадок. На ўсходняй ускраіне вёскі, ва ўрочышчы Гарадок. Пляцоўка памерам 85×60 м. Была ўмацавана падкоўападобным валам вышынёй каля 2 м і ровам глыбінёй 1,5 м, сярэдняя частка вала знесена. Абследавалі ў 1957 г. Л. Д. Побаль, у 1976 г. У. Ф. Ісаенка. Культурны пласт 0,5 м. Знойдзены ляпная кераміка, рэшткі ганчарнага посуду. Адносіцца да зарубінецкай культуры ранняга жалезнага веку (2 ст. да н. э.— 2 ст. н. э.) і да эпохі Кіеўскай Русі.

Матэрыялы абследавання захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

**1304б.** Могільнік-1. За 0,6 км на паўднёвы ўсход ад гарадзішча, за ярам, ва ўрочышчы Лоўчык. 32 курганы вышынёй 0,5 м, дыяметрам 2—3 м. Даследаваў у 1961 г. П. Ф. Лысенка. Раскапана 4 насыпы. Прасочаны пахаванні ў ямах, інвентар не выяўлены. Абследаваў у 1976 г. У. Ф. Ісаенка.

**1304в.** Могільнік-2. За 1 км на паўднёвы ўсход ад вёскі, на першай тэрасе р. Прыпяць, ва ўрочышчы Капцы. 20 насыпаў вышынёй 0,5 м, дыяметрам 3—6 м. 3 курганы вышынёй 2—2,5 м, дыяметрам 12—14 м. Выявілі ў 1960 г. У. Ф. Ісаенка і І. М. Цюрына, абследавалі ў 1961 г. П. Ф. Лысенка, у 1976 г. У. Ф. Ісаенка. Раскопкі не праводзіліся.



1309. *Помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў і партызан.*

Матэрыялы абследавання могільнікаў захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

*Літ.:* Русанова И. П. Курганы полян X—XII вв.— М., 1966.— (Свод археологических источников; в. Е 1—24).

*У. Ф. Ісаенка.*

**в. Асавец, цэнтр сельсавета**

**1305. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны 115 воінаў, якія загінулі ў 1944 г. ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1965 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна.

**в. Бабраняты, Баброўскі сельсавет**

**1306. ПОМНІК КАЛІНІНУ** Міхаілу Іванавічу (гіст.). Каля будынка праўлення калгаса імя М. І. Калініна. Бюст М. І. Калініна ўстаноўлены ў 1975 г.

**в. Бабры, цэнтр сельсавета**

**1307. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 174 воіны, якія загінулі ў 1944 г. ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1965 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна.

**1308. ПОМНІК ЛЕНІНУ** Уладзіміру Ільічу (гіст.). Каля будынка перасоўнай механізаванай калоны № 55. Бюст У. І. Леніна ўстаноўлены ў 1967 г.

**в. Барбароў, цэнтр сельсавета**

**1309. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны 17 воінаў і партызан, якія загінулі ў 1943—44 гг. у баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. Сярод пахаваных — партызан славацкага атрада Ян Гепжаль. У 1959 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна ў жалобе.

**1310. ПОМНІК ЛЕНІНУ** Уладзіміру Ільічу (гіст.). Каля будынка васьмігадовай школы. Бюст У. І. Леніна ўстаноўлены ў 1953 г.

**1311. РАДЗІМА МАЦАПУРЫ** Міхаіла Яфрэмавіча (гіст.).

Беларускі савецкі вучоны ў галіне механізацыі сельскай гаспадаркі, акадэмік АН БССР (1947 г.), УАСГНІЛ (1964 г.), акадэміі сельскагаспадарчых навук БССР (1957—61 гг.), доктар тэхнічных навук (1945 г.), прафесар (1947 г.), заслужаны дзеяч навукі і тэхнікі БССР (1954 г.) М. Я. Мацапура нарадзіўся 8.11.1908 г. ў сялянскай сям'і. Член КПСС з 1932 г. Пасля сканчэння Ленінградскага інстытута механізацыі і электрыфікацыі сельскай гаспадаркі (1932 г.) працаваў старшым навуковым супрацоўнікам, дырэктарам Беларускай навукова-даследчай станцыі механізацыі і электрыфікацыі сельскай гаспадаркі. З 1938 г. загадчык лабараторыі Усесаюзнага навукова-даследчага інстытута механізацыі і электрыфікацыі сельскай гаспадаркі. У 1947—65 гг. дырэктар, потым загадчык аддзела Цэнтральнага НДІ механізацыі і электрыфікацыі сельскай гаспадаркі Нечарназёмнай зоны СССР, адначасова ў 1947—50 гг. акадэмік-сакратар АН БССР. Навуковыя працы М. Я. Мацапуры прысвечаны праблемам механізацыі і тэхналогіі сельскагаспадарчай вытворчасці. Кандыдат у члены ЦК КПБ у 1952—54 гг., член ЦК КПБ у 1954—66 гг., дэпутат Вярхоўнага Савета БССР у 1951—67 гг. Лаўрэат Ленінскай прэміі 1962 г., Дзяржаўных прэмій СССР 1951 г. і 1952 г. М. Я. Мацапура памёр 31.10.1971 г. Пахаваны ў Мінску на Усходніх могілках.

У Мінску на доме, дзе ён жыў, устаноўлена мемарыяльная дошка.



1312. *Сядзіба. Схема планіроўкі: 1— палац (не збярогся); 2— флігель; 3— сучасны будынак школы; 4— мост; 5— уязная брама.*

*Літ.:* Акадэмія навук Беларускай ССР.— Мн., 1979; М. Я. Мацапура.— Весці АН БССР. Сер. фізіка-тэхнічных навук, 1968, № 4.

*Г. І. Дулеба.*

**1312. СЯДЗІБА** (архіт.). У канцы галоўнай вуліцы вёскі, на беразе р. Прыпяць. Сфарміравана ў сярэдзіне 19 ст. Сядзібны ансамбль уключаў палац (не збярогся), флігель і пейзажны парк.

Мураваны флігель — аднапавярховы прамавугольны ў плане будынак з чатырохкалонным порцікам. Парк (плошча каля 5 га) складаецца з 2 амаль роўных па плошчы частак. Больш высокі заходні ўчастак, дзе раней знаходзіўся палац, аддзелены ад паўднёвага лагчынай, па якой праходзіла алея, абсаджаная конскім каштанам звычайным. Зберагліся ўязная брама з мураванымі пілонамі, завершанымі дэкаратыўнымі вазамі. Ад яе пракладзена ліпавая алея з двухпралётным арачным мураваным мостам цераз ручай. У парку пераважаюць мясцовыя пароды дрэў — клён, ліпа, таполя, каштан, дэкаратыўныя кусты. У заходняй частцы парку на ўзгорку пахаванні 1-й палавіны 19 ст.

Сядзіба — помнік архітэктуры позняга класіцызму.

*А. М. Кулагін.*

**в. Барыскавічы, Прудкоўскі сельсавет**

**1313. КУРГАННЫЯ МОГІЛЬНІКІ** (археал.).

**1313а.** Могільнік-1. На заходняй ускраіне вёскі. 15 курганоў вышынёй 1—3 м, дыяметрам 3—6 м. Выявіў і даследаваў у 1889 г. У. З. Завітневіч, раскапаў 6 насыпаў. На грунце пад курганамі прасочаны рэшткі вогнішчаў, знойдзены фрагменты гліняных гаршкоў. Абследаваў у 1976 г. У. Ф. Ісаенка. Могільнік належаў дрыгавічам, датуецца 10—12 стагоддзямі.

**1313б.** Могільнік-2. На ўсходняй ускраіне вёскі. 12 насыпаў вышынёй



1312. *Сядзіба. Уязная брама.*

1—3 м, дыяметрам 4—7 м. Выявіў і даследаваў у 1889 г. У. З. Завітневіч, раскапаў 7 курганоў. Пахавальны абрад — трупапалажэнне ў ямах, на 0,7 м ніжэй мацерыка; пахавальны інвентар: пярсцёнкападобныя скроневыя і трохпацеркавыя кольцы, бронзавыя, шкляныя і зярнёныя пацеркі. Абследаваў у 1976 г. У. Ф. Ісаенка. Могільнік належаў дрыгавічам, датуецца 10—12 стагоддзямі.

Матэрыялы раскопак захоўваюцца ў Дзяржаўным Гістарычным музеі ў Маскве.

*Літ.:* Завитневич В. З. Из археологической экскурсии в Припятское Полесье.— Киев, 1890. *У. Ф. Ісаенка.*

**в. Белая, Скрыгалаўскі сельсавет**

**1314. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. На ўшанаванне памяці 40 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1971 г. пастаўлены абеліск.



1314. *Помнік землякам.*

**в. Бібікі, Крынічны сельсавет**

**1315. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 12 воінаў, якія загінулі ў 1941 і 1944 гг. у баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1965 г. на магіле пастаўлена стэла.

**1316. МАГІЛА ТАРАСАВА** Мікалая Апанасавіча (гіст.). На могілках. Маёр Чырвонай Арміі М. А. Тарасаў загінуў у студзені 1944 г. ў баі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1965 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Буда-Казіміраўская, Слабадскі сельсавет**

**1317. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). На паўднёвай ускраіне вёскі. Пахаваны 175 жыхароў. У сакавіку 1943 г. нямецка-фашысцкія захопнікі акружылі вёску, выгналі з хат усіх жыхароў і расстралялі, вёску (32 двары) спалілі. У 1959 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура мужчыны ў жалобе.

**1318. МЕСЦА БАЗІРАВАННЯ МАЗЫРСКІХ ПАДПОЛЬНЫХ РАЙКОМАЎ КП(б)Б і ЛКСМБ, МАЗЫРСКАЙ ПАРТЫЗАНСКАЙ БРЫГАДЫ ІМЯ АЛЯКСАНДРА НЕЎСКАГА** (гіст.). За 3 км на паўночны захад ад вёскі, у лесе.

У Вялікую Айчынную вайну ў 1943 г. тут базіраваліся Мазырскія падпольныя райкомы КП(б)Б і ЛКСМБ, Мазырская партызанская брыгада імя Аляксандра Неўскага.

Падпольны райком КП(б)Б дзейнічаў з 25.4.1943 г. да 8.1.1944 г. Сакратар М. К. Ільінкоўскі. Райком узначальваў камуністычнае падполле, кіраваў партызанскім рухам, вёў палітычную работу сярод насельніцтва Мазырскага р-на. Выдаваў падпольную газету «За Радзіму».

Падпольны райком ЛКСМБ дзейнічаў з 1.5.1943 г. да 8.1.1944 г. Сакратары К. С. Гаруля (да 1.10.1943 г.), Д. С. Каменскі (з 1.10.1943 г.), Р. І. Піваварaў (сакратар па прапагандзе з 14.9.1943 г.). Райком ЛКСМБ вёў палітыка-выхаваўчую работу сярод моладзі, узначальваў камсамольскія арганізацыі партызанскіх фарміраванняў.

Мазырская партызанская брыгада імя Аляксандра Неўскага Паўднёва-Прыпяцкай зоны створана 28.9.1943 г. на базе 2 атрадаў, якія дзейнічалі ў Мазырскім р-не. Адначасова быў створаны 3-і атрад. Камандзір А. Л. Жыльскі, камісары М. К. Ільінкоўскі (верасень — снежань 1943 г.), М. С. Кірушкін (з снежня 1943 г.). Дзейнічала на тэрыторыі Ельскага, Мазырскага і Петрыкаўскага р-наў Палескай вобл. Народныя мсціўцы праводзілі дыверсіі на камунікацыях праціўніка, вялі адкрытыя і засадныя баі, пусцілі пад адхон 15 эшалонаў з жывой сілай і тэхнікай праціўніка, падарвалі каля 600 рэек, знішчылі 19 мастоў, больш за 50 машын, пашкодзілі 15 км тэлефонна-тэлеграфнай сувязі, разграмілі 2 варожыя гарнізоны. 8.1.1944 г. брыгада (500 партызан, атрады 1-ы, 2-і і 3-і) злучылася з Чырвонай Арміяй, удзельнічала ў вызваленні г. Мазыра і Мазырскага р-на.

У 1968 г. на месцы базіравання Мазырскіх падпольных райкомаў КП(б)Б і ЛКСМБ, Мазырскай партызанскай брыгады імя Аляксандра Неўскага пастаўлены абеліск, адноўлены 3 зямлянкі.

*Літ.:* Ветров И. Д. Братья по оружию.— Мн., 1965; Подпольные партийные органы Компартии Белоруссии в годы Великой Отечественной войны (1941—1944).— Мн., 1975; Подпольные комсомольские органы Белоруссии в годы Великой Отечественной войны (1941—1944).— Мн., 1976; Партизанские формирования Белоруссии в годы Великой Отечественной войны (июнь 1941 — июль 1944).— Мн., 1983; Ильинковский М. К. Шла война народная. Записки секретаря Мозырского подпольного райкома партии.— Мн., 1973. *Г. І. Дулеба.*

**в. Бярозаўка, Каменкаўскі сельсавет**

**1319. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На ўсходняй ускраіне вёскі. Пахаваны 15 воінаў, якія загінулі ў 1944 г. ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1975 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Вялікія Зімовішчы, Слабадскі сельсавет**

**1320. ПОМНІК ФРУНЗЕ** Міхаілу Васілевічу (гіст.). У цэнтры вёскі. Бюст М. В. Фрунзе ўстаноўлены ў 1970 г.

**в. Глініца, Асавецкі сельсавет**

**1321. ГАРАДЗІШЧЫ** (археал.).

**1321а.** Гарадзішча-1. За 1,5 км на паўночны ўсход ад вёскі, на паўднёвым беразе воз. Глінніцкае, ва ўрочышчы Печ, за безназоўным ручаём. Пляцоўка круглая, дыяметрам каля 40 м, абкружана кальцавым валам вышынёй каля 1,5 м. З усходняга боку вал пашкоджаны ямай. З вонкавага боку вала лагчына (верагодна, апоўзлы роў). Выявіў у 1979 г. У. Ф. Ісаенка. Раскопкі не праводзіліся.

**1321б.** Гарадзішча-2. За 2,5 км на паўднёвы захад ад вёскі на беразе воз. Святое. Пляцоўка круглая, дыяметрам 150 м, умацавана 2 валамі і ровам паміж імі. Вышыня ўнутранага вала 2,5—3 м, вонкавага 1 м. Глыбіня рова 0,7—0,8 м. Выявіў у 1979 г. Г. М. Залашка. Культурны пласт 0,2 м. Раскопкі не праводзіліся.
*Г. М. Залашка, У. Ф. Ісаенка.*

**в. Дзербінка, Махнавіцкі сельсавет**

**1322. КУРГАННЫЯ МОГІЛЬНІКІ** (археал.).

**1322а.** Могільнік-1. За 1,5 км на захад ад вёскі, ва ўрочышчы Дубовіна. 43 насыпы вышынёй 0,5—1 м, дыяметрам 8—12 м займаюць плошчу 6 га. Курганы добра захаваліся. Выявіў і абследаваў у 1976 г. П. Ф. Лысенка. Раскопкі не праводзіліся.

**1322б.** Могільнік-2. За 1 км на захад ад вёскі, ва ўрочышчы Цымбалы. 23 насыпы вышынёй 0,5—1 м, дыяметрам 8—12 м. Выявіў і абследаваў у 1976 г. П. Ф. Лысенка. Раскопкі не праводзіліся.

**в. Забалацце, Махнавіцкі сельсавет**

**1323. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). Каля клуба. Пахаваны 33 мірныя жыхары, якіх закатавалі 28.7.1943 г. нямецка-фашысцкія захопнікі. У 1959 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Загорыны, Прудкоўскі сельсавет**

**1324. ГАРАДЗІШЧА** (археал.). За 0,6 км на захад ад вёскі, на беразе р. Прыпяць. Памер пляцоўкі 75×45 м.



1317. *Помнік на магіле ахвяр фашызму.*

Паўднёвая частка яе на 2 м вышэй за паўночную. З паўночнага ўсходу гарадзішча — абрыў вышынёй 25—30 м да старыцы ракі, з боку поля — дугападобныя роў вышынёй 2 м, шырынёй 15 м і вал вышынёй 2—4 м, шырынёй 10 м. Абследаваў у 1976 г. У. Ф. Ісаенка. У агаленнях прасочаны культурны пласт да 1 м. Знойдзены рэшткі керамікі 12—13 стагоддзяў, косці жывёл. Адносіцца да эпохі Кіеўскай Русі.

Матэрыялы абследаванняў захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

*У. Ф. Ісаенка.*

**1325. МАГІЛА КРАЎЧАНКІ** Віля Андрэевіча (гіст.). На могілках. Савецкі воін В. А. Краўчанка загінуў у 1944 г. ў баі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1959 г. на магіле пастаўлены абеліск.



1327. *Помнік на магіле ахвяр фашызму.*

**1326. ПАСЕЛІШЧА** (археал.). За 0,3 км на паўднёвы ўсход ад вёскі, каля схілу карэннага берага, на паверхні першай надпоплаўнай тэрасы р. Прыпяць. Даўжыня ўздоўж берага 300 м, шырыня 120 м, вышыня над поплавам ракі 4 м. Выявіў і даследаваў у 1962 г. У. Ф. Ісаенка. Культурны пласт складаецца з верхняга і ніжняга гарызонтаў. У ніжнім гарызонце (0,3 м), які залягаў пад гумусаваным пластом глебы, знойдзена 57 крамянёвых прылад працы і зброі (мікраліты, скрабкі, нажы, наканечнікі стрэл), 30 фрагментаў ляпнога вастрадоннага посуду. Адносіцца да позняга мезаліту і ранняга неаліту. Датуецца 7—4-м тысячагоддзямі да н. э. У верхнім гарызонце (0,2 м), які залягаў у гумусаваным пласце, знойдзены крамянёвыя прылады працы і рэшткі ляпнога посуду (400 расшчэпленых крамянёў і абломкі ад 9—11 ляпных гаршкоў). Адносіцца да позняга неаліту і бронзавага веку, датуецца канцом 3-га — 2-м тысячагоддзем да н. э.

Матэрыялы даследаванняў захоўваюцца ў Дзяржаўным музеі БССР і Мазырскім краязнаўчым музеі.

*Літ.:* Исаенко В. Ф. Неолит Припятского Полесья.— Мн., 1976.

*У. Ф. Ісаенка.*

**в. Казіміраўка, Слабадскі сельсавет**

**1327. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны 249 жыхароў. У сакавіку 1943 г. нямецка-фашысцкія захопнікі пасля катаванняў расстралялі жыхароў і спалілі вёску (76 двароў). У 1959 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура партызана на фоне абеліска.

**в. Каменка, цэнтр сельсавета**

**1328. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). На паўднёвай ускраіне вёскі. На ўшанаванне памяці 310 жыхароў Каменкаўскага сельсавета, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1975 г. пастаўлены помнік — двухфігурная скульптурная кампазіцыя, а таксама стэла з імёнамі загінуўшых.

**в. Камень, Асавецкі сельсавет**

**1329. БРАЦКІЯ МОГІЛКІ САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). На ўсходняй ускраіне вёскі. Пахаваны 75 воінаў і партызан, якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў ці памерлі ад ран у 1944 г. У 1965 г. на могілках пастаўлены абеліск.

**1330. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). На ўсходняй ускраіне вёскі. Пахаваны 28 жыхароў вёскі, якіх у 1942 г. расстралялі нямецка-фашысцкія захопнікі. У 1957 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Касцюковічы, Слабадскі сельсавет**

**1331. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны 149 жыхароў. На досвітку 30.7.1943 г. нямецка-фашысцкія карнікі ўварваліся ў вёску, сагналі яе жыхароў, адных расстралялі, другіх пакідалі жывымі ў калодзежы, вёску (150 двароў) спалілі. У 1959 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура жанчыны ў жалобе.




1328. *Помнік землякам.*

**в. Козенкі, Баброўскі сельсавет**

**1332. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 24 воіны, якія загінулі ў 1944 г. ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1965 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**1333. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА ПАДПОЛЬШЧЫКАМ** (гіст.). На будынку Дома культуры.

У канцлагеры савецкіх ваеннапалонных, які быў створаны гітлераўцамі ў вёсцы, у 1942 г. дзейнічала падпольная камсамольска-маладзёжная група. У яе ўваходзіла больш за 10 чалавек. Кіраўнік групы камуніст А. Б. Няпомняшчы, члены Ф. Глебаў,



1331. *Помнік на магіле ахвяр фашызму.*

М. Грэчка, А. Кажэнка і іншыя вязні. Патрыёты вялі прапаганду сярод вязняў і славацкіх салдат, якія ахоўвалі лагер. З дапамогай славацкіх салдат Я. Быстрана, В. Кандэры, Я. Пінтэра і іншых набылі зброю, 22.11.1942 г. уцяклі з лагера і далучыліся да партызан.

У 1976 г. ў памяць аб дзейнасці падпольнай камсамольска-маладзёжнай групы ўстаноўлена мемарыяльная дошка.

*Літ.:* Касцян С. І. За радком мемарыяльнай дошкі.— Помнікі гісторыі і культуры Беларусі, 1976, № 4.
*Г. І. Дулеба.*

**1334. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. На ўшанаванне памяці 193 землякоў, якія загінулі на франтах Вялікай Айчыннай вайны і ў партызанскай барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў, у 1982 г. пастаўлена стэла.

**в. Крушнікі, Асавецкі сельсавет**

**1335. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). За 10 км на ўсход ад вёскі. Пахаваны 30 жыхароў былой в. Спрымачоў, якіх 5.6.1943 г. загубілі нямецка-фашысцкія захопнікі. У 1975 г. на магіле пастаўлена стэла.

**в. Крынічная Града, Асавецкі сельсавет**

**1336. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На паўднёва-заходняй ускраіне вёскі. Пахаваны 36 воінаў, якія загінулі ў 1941 г. і 1944 г. ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў ці памерлі ад ран. У 1957 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Кустоўніца (не існуе), Міхалкаўскі сельсавет**

**1337. РАДЗІМА РАКІЦКАГА** Пятра Фаміча (гіст.).

Беларускі савецкі біёлаг-генетык, акадэмік АН БССР (1967 г.), доктар біялагічных навук, прафесар (1940 г.), заслужаны дзеяч навукі БССР (1973 г.) П. Ф. Ракіцкі нарадзіўся 2.8.1903 г. ў в. Кустоўніца (знаходзілася за 3 км на захад ад в. Міхалкі) у сям'і служачага. У 1927 г. скончыў Маскоўскі універсітэт. З 1930 г. працаваў ва Усесаюзным інстытуце жывёлагадоўлі, аднačасова ў 1932—38 гг. дацэнт кафедры генетыкі Маскоўскага універсітэта. У 1938—48 гг. загадчык кафедры, дэкан факультэта, намеснік дырэктара Маскоўскага пушніна-футравага інстытута, з 1949 г. старшы навуковы супрацоўнік, загадчык аддзела жывёлагадоўлі і заалогіі Комі філіяла АН СССР. З 1957 г. ва Усесаюзным інстытуце навуковай і тэхнічнай інфармацыі, у 1960—69 гг. загадчык кафедры заалогіі пазваночных у БДУ, адначасова з 1965 г. загадчык лабараторыі тэарэтычнай генетыкі Інстытута генетыкі і цыталогіі АН БССР. П. Ф. Ракіцкі сфармуляваў і эксперыментальна абгрунтаваў паняцце аб полі дзеяння гена. Распрацаваў шэраг пытанняў генетыкі колькасных прыкмет і генетычных асноў селекцыі жывёл, некаторыя пытанні філасофіі і гісторыі біялогіі. Аўтар навуковых прац па статыстычнай генетыцы і ўжыванню матэматычных метадаў у біялагічных даследаваннях. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР 1974 г. У 1966—77 гг. прэзідэнт Беларускага таварыства генетыкаў і селекцыянераў імя Вавілава.

П. Ф. Ракіцкі памёр 21.10.1977 г. Пахаваны ў Мінску на Усходніх могілках.

На будынку Інстытута генетыкі і цыталогіі АН БССР, дзе ён працаваў, устаноўлена мемарыяльная дошка.

*Літ.:* Акадэмія навук Беларускай ССР.— Мн., 1979; Хатылёва Л. У., Саўчанка У. К., Ракіцкі П. Ф.— Весці АН БССР. Сер. біялагічных навук, 1973, № 4.
*Г. І. Дулеба.*

**в. Лешня, Скрыгалаўскі сельсавет**

**1338. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 1,5 км на ўсход ад вёскі. 40 абкружаных раўкамі курганоў вышынёй 1—3 м, дыяметрам 3—6 м. Выявіў і даследаваў у 1889 г. У. З. Завітневіч, які раскапаў 13 насыпаў. Пахавальны абрад — трупапалажэнне на гарызонце, галавой на захад. Драўляныя дамавіны змацаваны па вуглах жалезнымі цвікамі. Абследаваў у 1976 г. У. Ф. Ісаенка. Могільнік належаў дрыгавічам, датуецца 10—12 стагоддзямі.

Матэрыялы раскопак захоўваюцца ў Дзяржаўным Гістарычным музеі ў Маскве.

*Літ.:* Завитневич В. З. Из археологической экскурсии в Припятское Полесье.— Киев, 1890.
*У. Ф. Ісаенка.*

**1339. РАДЗІМА КАТЛАЎЦА** Міхаіла Паўлавіча (гіст.).

Герой Савецкага Саюза М. П. Катлавец нарадзіўся ў 1914 г. ў сялянскай сям'і. Член КПСС з 1943 г. У 1937 г. скончыў БДУ. З 1938 г. ў Чырвонай Арміі. У Вялікую Айчынную вайну з чэрвеня 1941 г. на Заходнім, Сталінградскім, 2-м Украінскім франтах. Камандзір танкавага батальёна гвардыі капітан М. П. Катлавец вызначыўся ў студзені 1944 г. ў баі за чыгуначную станцыю Лялекаўка Кіравагградскай вобл. Батальён пад яго камандаваннем знішчыў 7 танкаў, за дзень адбіў 6 контратак гітлераўскіх войск. Пры прарыве варожай абароны на румынска-венгерскай граніцы 5.10.1944 г. батальён знішчыў 5 гармат, больш як 100 павозак з боепрыпасамі, шмат жывой сілы праціўніка. Загінуў М. П. Катлавец у баі 6.10.1944 г. Пахаваны ў г. Цірaспаль Малдаўскай ССР. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 24.3.1945 г.

На ўшанаванне памяці героя на будынку Лешнянскай школы, дзе ён вучыўся, у 1970 г. ўстаноўлена мемарыяльная дошка. Яго імем названа вуліца ў Мазыры.

*Літ.:* Навечно в сердце народном.— 3 изд.— Мн., 1984.
*Г. І. Дулеба.*

**в. Лубня, Крынічны сельсавет**

**1340. ПАСЕЛІШЧЫ** (археал.).

**1340а.** Паселішча-1. За 1 км на паўночны ўсход ад вёскі, ва ўрочышчы Лысая Гара. Выявіў у 1961 г. і даследаваў у 1961—68 гг. У. Ф. Ісаенка. У культурным пласце каля 0,3 м знойдзены крамянёвыя рэчы эпохі мезаліту (пласцінкі, скрабкі, наканечнікі стрэл і інш.). Адносіцца да эпохі мезаліту. Датуецца 8—5-м тысячагоддзямі да н. э.

**1340б.** Паселішча-2. За 0,5 км на захад ад вёскі, на першай надпоплаўнай тэрасе р. Закаванка. Выявіў у 1961 г. і даследаваў у 1961—68 гг. У. Ф. Ісаенка. Працягласць паселішча ўздоўж берага ракі больш за 120 м. У культурным пласце 0,4 м знойдзены крамянёвыя прылады працы і ляпная кераміка эпохі неаліту і бронзавага веку.

**1340в.** Паселішча-3. За 3 км на поўнач ад вёскі, каля воз. Вялікае. Выявіў у 1961 г. і абследаваў у 1961—68 гг. У. Ф. Ісаенка. У культурным пласце каля 0,4 м знойдзены крамянёвыя прылады і ляпная кераміка эпохі неаліту і бронзавага веку.

Паселішчы-2, 3 датуюцца 4-м — пачаткам 1-га тысячагоддзя да н. э.

Матэрыялы даследаванняў захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

*Літ.:* Исаенко В. Ф. Неолит Припятского Полесья.— Мн., 1976.
*У. Ф. Ісаенка.*

**в. Майсееўка, Слабадскі сельсавет**

**1341. ГАРАДЗІШЧА** (археал.). За 2 км на захад ад вёскі, ва ўрочышчы Акопы (Буклеўка, Гарадзінка), на мысе безназоўнай рэчкі. Выявілі ў 1850 г. М. Балінскі і Т. Ліпінскі, абследаваў у 1875 г. А. Кіркор, даследавалі ў 1953 г. Ю. У. Кухарэнка, у 1957 г. Л. Д. Побаль, у 1976 г. У. Ф. Ісаенка. Памер гарадзішча 230×120 м. З усходу і захаду ад яго глыбокія яры, з поўначы і з поўдня — 2 падкоападобныя валы вышынёй 2—4 м. Прасочаны 2 пляцоўкі: вялікая паўднёвая (130×120 м) аддзелена ад меншай паўночнай 2 валамі вышынёй 2—3 м. Культурны пласт 0,3 м ускрыты на плошчы 80 м². Выяўлены рэшткі агнішчаў, каменне, знойдзены фрагменты ляпных гліняных гаршкоў мілаградскай культуры (7—3 стагоддзі да н. э.) і керамікі эпохі Кіеўскай Русі.

Матэрыялы раскопак захоўваюцца ў Інстытуце археалогіі АН СССР і Інстытуце гісторыі АН БССР.

*Літ.:* Кухаренко Ю. В. Памятники железного века на территории Полесья.— М., 1961.
*У. Ф. Ісаенка.*

в. Майская, Баброўскі сельсавет

**1342. РАДЗІМА БІБІКА** Фёдара Цярэнцьевіча (гіст.).

Поўны кавалер ордэна Славы Ф. Ц. Бібік нарадзіўся ў 1910 г. ў сялянскай сям'і. Працаваў у калгасе. У Вялікую Айчынную вайну з ліпеня 1944 г. на 1-м Беларускім фронце. Сапёр гвардыі яфрэйтар Ф. Ц. Бібік вызначыўся ў баях за вызваленне Украіны і Польшчы. 5.7.1944 г. ў раёне г. Ковель зрабіў праход у драцяной загародзе, праз які прайшла штурмавая група. 26.8.1944 г. ў баях за расшырэнне плацдарма на поўнач ад Сандаміра (Польшча) пад агнём ворага зрабіў праходы ў мінным полі для савецкіх разведчыкаў. 14.1.1945 г. пры прарыве абароны праціўніка на заходнім беразе Віслы зрабіў праход у драцяной загародзе, зняў 140 мін. Загінуў у баі 5.5.1945 г.

в. Махнавічы, цэнтр сельсавета

**1343. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). На могілках. Пахаваны 9 воінаў і партызан, якія загінулі ў 1942—44 гг. у баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1965 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна.

**1344. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). За 0,5 км на ўсход ад вёскі. Пахавана больш за 40 жыхароў вёсак Махнавічы і Дзербінка, якіх у 1943 г. загубілі нямецка-фашысцкія захопнікі.

**1345. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля Дома культуры. На ўшанаванне памяці 365 жыхароў Махнавіцкага сельсавета, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1976 г. пастаўлена стэла.



1343. *Помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў і партызан.*

в. Міхалкі, цэнтр сельсавета

**1346. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 55 воінаў, якія загінулі ў 1941, 1943 і 1944 гг. у баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1959 г. на магіле пастаўлены абеліск.

в. Мялешкавічы, Каменкаўскі сельсавет

**1347. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). На могілках. Пахаваны 17 воінаў і партызан, якія загінулі ў 1943—44 гг. у баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1965 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна.

в. Надаткі, Скрыгалаўскі сельсавет

**1348. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 2 км на паўднёвы захад ад вёскі, ва ўрочышчы Машчанскае, на беразе безназоўнага ручая. 12 насыпаў вышынёй 0,5—1 м, дыяметрам 5—8 м. Каля падножжа курганоў прасочаны раўкі. Выявіў і даследаваў у 1982 г. Г. М. Залашка, раскапана 3 курганы. У адным пахаванне парнае: адно на гарызонце, другое ў яме. Знойдзены 3 скроневыя кольцы, пярсцёнак, 3 падвескі-пацеркі, рэшткі візантыйскай тканіны з залатымі ніткамі і ляпнога посуду. У другім кургане пахаванне на гарызонце на попельна-вугальным пласце, галавой на захад. Знойдзены складная арнаментаваная расчоска, ліраподобная спражка, нож. У трэцім кургане пахаванне на гарызонце. Могільнік належаў дрыгавічам, датуецца 10—11 стагоддзямі.

Матэрыялы раскопак захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

*Г. М. Залашка.*

в. Проўцюкі, Міхалкаўскі сельсавет

**1349. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА КАЎШОВУ** Віталію Дзмітрыевічу (гіст.). На будынку школы.

Удзельнік Грамадзянскай вайны В. Дз. Каўшоў нарадзіўся ў 1894 г. ў г. Златауст Чэлябінскай вобл. ў сям'і рабочага. Член КПСС з 1917 г. У 1918 г. старшыня Златаустаўскага рэўкома. У 1918 г. арганізаваў чырвонагвардзейскія атрады і конны партызанскі полк, на чале іх змагаўся супраць белагвардзейцаў на Усходнім фронце. Удзельнічаў у разгроме арміі Юдзеніча. З 1920 г. на Заходнім фронце на Беларусі: начальнік штаба кавалерыйскай брыгады 13-й дывізіі, камандзір 28-й брыгады 10-й дывізіі. У лістападзе 1920 г. брыгада вяла баі супраць бандаў Булак-Балаховіча ў Мазырскім павеце. Штаб брыгады знаходзіўся ў в. Проўцюкі. У ноч на 11 лістапада бандыты з дапамогай мясцовых кулакоў прабраліся ў вёску, акружылі дом, у якім знаходзіўся штаб брыгады. З групай чырвонаармейцаў В. Дз. Каўшоў вёў няроўны бой супраць ворагаў. Загінуў у гэтым баі. Пахаваны ў Маскве на Краснай плошчы. Узнагароджаны ордэнам Чырвонага Сцяга (1921 г.).

У 1975 г. на ўшанаванне памяці В. Дз. Каўшова ўстаноўлена мемарыяльная дошка.

*Г. І. Дулеба.*



1351. *Помнік на брацкай магіле партызан.*

в. Прудок, цэнтр сельсавета

**1350. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 59 воінаў, якія загінулі ў 1943—44 гг. у баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1965 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна ў жалобе.

в. Раманаўка, Слабадскі сельсавет

**1351. БРАЦКАЯ МАГІЛА ПАРТЫЗАН** (гіст.). Каля будынка музея партызанскай славы. Пахаваны 3 партызаны, якія загінулі ў 1943 г. ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1979 г. на магіле пастаўлена стэла з барэльефнай выявай партызана і жанчыны.

**1352. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА Ў ГОНАР МАЗЫРСКАЙ ПАРТЫЗАНСКАЙ БРЫГАДЫ ІМЯ АЛЯКСАНДРА НЕЎСКАГА** (гіст.). На будынку музея партызанскай славы.

У 1943 г. ў лесе каля в. Раманаўка дыслацыравалася Мазырская партызанская брыгада імя Аляксандра Неўскага. Гл. артыкул № 1318 «Месца базіравання Мазырскіх падпольных райкомаў КП(б)Б і ЛКСМБ, Мазырскай партызанскай брыгады імя Аляксандра Неўскага».

в. Скрыгалаў, цэнтр сельсавета

**1353. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). На могілках. Пахаваны 76 воінаў і партызан, якія загінулі ў 1943—44 гг. у баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1965 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна.

**1354. КУРГАННЫЯ МОГІЛЬНІКІ** (археал.).

**1354а.** Могільнік-1. За 2 км на поўдзень ад вёскі, ва ўрочышчы Перахрэсце. 11 насыпаў вышынёй каля 2,4 м, дыяметрам каля 15 м. Выявіў і даследаваў у 1889 г. У. З. Завітневіч, раскапана 8 курганоў. Пахаваль-

ны абрад — трупапалажэнне ў ямах і ў 2 — на гарызонце. Знойдзены рэшткі дамавін, змацаваных па вуглах жалезнымі цвікамі. У 1976 г. абследаваў У. Ф. Ісаенка. Могільнік належаў дрыгавічам, датуецца 10—13 стагоддзямі.

**1354б.** Могільнік-2. За 2 км ад вёскі, ва ўрочышчы Забуклявечча, у лесе. Захавалася 13 насыпаў вышынёй 0,5—1,5 м, дыяметрам 5—12 м. Выявіў і даследаваў у 1889 г. У. З. Завітневіч, раскапана 13 з 43 насыпаў. Пахавальны абрад — трупапалажэнне на гарызонце. Знойдзены бронзавая спражка, паясныя кольцы, нажы, крэсіва, гаршчок. У 1976 г. абследаваў У. Ф. Ісаенка. Могільнік належаў дрыгавічам, датуецца 10—13 стагоддзямі.

Матэрыялы раскопак могільнікаў захоўваюцца ў Дзяржаўным Гістарычным музеі ў Маскве.

*Літ.:* Завитневич В. З. Из археологической экскурсии в Припятское Полесье.— Киев, 1890; Кухаренко Ю. В. Средневековые памятники Полесья.— М., 1961. *У. Ф. Ісаенка.*

**в. Слабада, цэнтр сельсавета**

**1355. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). На магілах. Пахаваны 316 воінаў і партызан, што загінулі ў 1943—44 гг. у баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1957 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна.

**1356. БРАЦКАЯ МАГІЛА ЧЫРВОНААРМЕЙЦАЎ** (гіст.). На могілках. Пахаваны чырвонаармейцы, якія загінулі ў 1918—20 гг. у баях за Савецкую ўладу. У 1957 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**1357. КУРГАННЫЯ МОГІЛЬНІКІ** (археал.).

**1357а.** Могільнік-1. За 3 км на паўднёвы захад ад вёскі, у лесе, ва ўрочышчы Турава балота. 32 насыпы вышынёй да 1 м, дыяметрам каля 3 м, абкружаны кальцавымі раўкамі. Выявіў і даследаваў у 1889 г. У. З. Завітневіч, даследавалі ў 1950-я гады Ю. У. Кухарэнка, у 1960-я гады І. П. Русанава, у 1976 г. У. Ф. Ісаенка. У. З. Завітневіч раскапаў 9 курганоў. У 8 пахавальны абрад — трупапалажэнне на грунце, галавой на захад, у адным — трупаспаленне. Знойдзена некалькі гаршкоў. Могільнік належаў палянам, датуецца 9—11 стагоддзямі.

**1357б.** Могільнік-2. За 2 км на захад ад вёскі, ва ўрочышчы Гарадок. 19 насыпаў вышынёй 1—1,5 м. Адкрыў і даследаваў у 1889 г. У. З. Завітневіч. Пахавальны абрад — трупапалажэнне ў ямах, знойдзены рэшткі драўляных дамавін. Абследаваў у 1976 г. У. Ф. Ісаенка. Могільнік належаў палянам, датуецца 10—11 стагоддзямі.

Матэрыялы даследаванняў захоўваюцца ў Дзяржаўным Гістарычным музеі ў Маскве.

*Літ.:* Завитневич В. З. Из археологической экскурсии в Припятское Полесье.— Киев, 1890; Кухаренко Ю. В. Средневековые памятники Полесья.— М., 1961; Русанова И. П. Курганы полян X—XII вв.— М., 1966. *У. Ф. Ісаенка.*

**1358. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). На заходняй ускраіне вёскі, у парку. На ўшанаванне памяці 144 аднавяскоўцаў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1970 г. пастаўлены помнік — скульптура воіна і стэла.

**1359. ПОМНІК ЛЕНІНУ** Уладзіміру Ільічу (гіст.). У цэнтры вёскі. Бюст У. І. Леніна ўстаноўлены ў 1977 г.

**1360. ПОМНІК У ГОНАР БАЯВОЙ АПЕРАЦЫІ ПАРТЫЗАН** (гіст.). За 3 км на захад ад вёскі, у лесе, каля дарогі Мазыр — Скрыгалаў.

1.10.1943 г. разведка Мазырскай партызанскай брыгады імя Аляксандра Неўскага партызанскага злучэння Паўднёва-Прыпяцкай зоны ўстанавіла, што 3 кастрычніка паліцэйскія гарнізоны з Хойнікаў і Брагіна будуць перадыслацыраваны ў г. Петрыкаў. У ноч на 3 кастрычніка партызаны наладзілі засаду. Калі ў 11 гадзін варожы абоз наблізіўся да месца засады, партызаны адкрылі па ім агонь. У час бою забіта каля 40 паліцэйскіх, захоплены сакрэтныя дакументы, 30 коней з фурманкамі, шмат зброі і боепрыпасаў.

У 1975 г. на месцы баявой аперацыі партызан пастаўлена стэла.

*Г. І. Дулеба.*

**в. Стрэльск, Крынічны сельсавет**

**1361. ГАРАДЗІШЧА** (археал.). У цэнтры вёскі. Памер 42×40 м. З заходняга боку ўмацавана ровам і валам, з іншых — абмежавана ярамі. Вышыня над поплавам р. Прыпяць — каля 20 м. Абследавалі ў 1951 г. Ю. У. Кухарэнка, у 1976 г. У. Ф. Ісаенка. Раскопкі не праводзіліся.

**в. Тварычаўка, Крынічны сельсавет**

**1362. ПОМНІК ДЗЯРЖЫНСКАМУ** Феліксу Эдмундавічу (гіст.). У цэнтры вёскі. Бюст Ф. Э. Дзяржынскага ўстаноўлены ў 1970 г.

**в. Ясянец, Скрыгалаўскі сельсавет**

**1363. ГАРАДЗІШЧЫ, СЕЛІШЧА, СТАЯНКА** (археал.).

**1363а.** Гарадзішча-1. За 1 км на поўдзень ад вёскі, у лесе, ва ўрочышчы Сухалістак. Пляцоўка авальная, памерам 90×60 м, умацавана 2 кальцавымі валамі. Унутраны вал вышынёй 2,5 м, шырынёй 10 м. Вонкавы вал адпаведна 0,5 і 7 м. Выявіў у 1950-я гады Ю. У. Кухарэнка, абследаваў у 1964 г. Л. Д. Побаль. Раскопкі ў 1979—83 гг. на плошчы 480 м² праводзіў Г. М. Залашка. Культурны пласт 0,2—0,3 м. Знойдзены рэшткі грубай ляпной керамікі (на асобных венчыках посуду прасочаны жамчужны арнамент), бронзавая шпілька з S-падобным завітком і з плоскай галоўкай у верхняй частцы, фрагмент бронзавага бранзалета, каля двух дзесяткаў гліняных грузікаў разнастайнай формы, бронзавы ўтульчаты наканечнік стралы з шыпам на ўтулцы, сіняя шкляная пацерка, крамянёвы нож, загатоўка бронзавага бранзалета (або шпількі). Выяўлены рэшткі некалькіх агнішчаў і вялікая колькасць гаспадарчых ям. Гарадзішча адносіцца да ранняга этапа мілаградскай культуры. Датуецца канцом 7 — пачаткам 6 ст. да н. э.

**1363б.** Гарадзішча-2. За 1 км на паўднёвы захад ад вёскі, ва ўрочышчы Вал Скрыгалаўскі (Астравок). Пляцоўка гарадзішча памерам 160×170 м, умацавана 2 кальцавымі валамі. Вышыня ўнутранага 2 м, шырыня 10 м, вонкавага адпаведна 0,5 і 6 м. Выявіў у 1950-я гады Ю. У. Кухарэнка, абследаваў у 1964 г. Л. Д. Побаль. Раскопкі гарадзішча ў 1979, 1982 гг. праводзіў Г. М. Залашка. У раскопах плошчай 148 м² выяўлены культурны пласт 0,2—0,3 м. Знойдзены рэшткі ляпной керамікі з венчыкамі, упрыгожанымі жамчужным арнаментам і наляпным валікам. Адносіцца да ранняга этапа мілаградскай культуры, датуецца канцом 7 — пачаткам 6 ст. да н. э.

**1363в.** Селішча. За 3 км на поўнач ад вёскі, ва ўрочышчы Селішча. Выявіў у 1962 г. і абследаваў у 1976 г. У. Ф. Ісаенка. Працягласць уздоўж паўднёвага берага воз. Міхайлаўка 0,4 км. Культурны пласт 0,5 м. Знойдзена ганчарная кераміка раннефеадальнага часу.

**1363г.** Стаянка. За 1 км на поўнач ад вёскі, ва ўрочышчы Загуменька. Выявіў у 1962 г. і даследаваў у 1976 г. У. Ф. Ісаенка. У культурным пласце 0,1 м знойдзены крамянёвыя прылады працы, рэшткі ляпнога посуду. Адносіцца да эпохі неаліту і бронзавага веку.

Матэрыялы даследаванняў захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

*Літ.:* Кухаренко Ю. В. Памятники железного века на территории Полесья.— М., 1961; Очерки по археологии Белоруссии. Ч. 1.— Мн., 1970.

*Г. М. Залашка, У. Ф. Ісаенка.*

# НАРАЎЛЯНСКІ РАЁН






Цэнтр раёна

Цэнтры сельсаветаў

Стаянкі, паселішчы, гарадзішчы

Могільнікі (грунтавыя, курганныя), курганы

Помнікі і месцы рэвалюцыйнага руху (Рэвалюцыя 1905–07 гг., Вялікая Кастрычніцкая сацыялістычная рэвалюцыя, Грамадзянская вайна, барацьба працоўных Заходняй Беларусі)

Помнікі і памятныя месцы Вялікай Айчыннай вайны (месцы баёў, магілы савецкіх воінаў і партызан, Курганы Славы, помнікі землянкам і інш.)

Помнікі ахвярам фашызму (месцы канцлагераў і лагераў смерці, месцы масавай загубы насельніцтва, спаленыя і неадноўленыя вёскі і інш.)

Помнікі і месцы, звязаныя з імёнамі савецкіх партыйных, дзяржаўных і гаспадарчых дзеячаў, дзеячаў культуры, навукі і тэхнікі

Палацы, сядзібы, асабнякі

Жылыя дамы, забудова вуліц дасавецкага перыяду

Культавая архітэктура

Паркі і садова-паркавыя збудаванні

## XVIII. НАРОЎЛЯ

Горад, цэнтр раёна. За 178 км на паўднёвы захад ад Гомеля, 25 км ад чыгуначнай станцыі Ельск на лініі Калінкавічы — Оўруч. Аўтамабільнымі дарогамі злучана з Мазыром, Ельскам і Аляксандраўкай. Прыстань на правым беразе р. Прыпяць.

Вядома з 18 ст. як прыватнае мястэчка. Належала Аскеркам. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793 г.) у складзе Расійскай імперыі, мястэчка, цэнтр воласці Рэчыцкага павета Мінскай губерні. У 1800 г. каля Нароўлі працавалі гута, вінакурны завод. Рабілі драўляны посуд, рагожы. Паводле перапісу 1897 г. ў Нароўлі 1,1 тыс. жыхароў, школа, царква. Савецкая ўлада ўстаноўлена ў лістападзе 1917 г., тут быў арганізаваны атрад Чырвонай гвардыі. З красавіка 1919 г. ў Гомельскай губерні РСФСР, з ліпеня 1924 г. ў складзе Беларускай ССР, цэнтр раёна Мазырскай акругі. Працавалі агароднінасушыльная фабрыка, 5 гарбарных заводаў, паравы млын, 78 саматужнікаў. У 1931 г. арганізавана суднабудаўнічая арцель, пабудаваны суднарамонтны завод, кандытарская фабрыка «Чырвоны мазыранін», лесазавод. З 1938 г. гарадскі пасёлак у Палескай вобл., 4,7 тыс. жыхароў (1941 г.).

У Вялікую Айчынную вайну з жніўня 1941 г. акупіравана нямецка-фашысцкімі захопнікамі. У раёне дзейнічалі падпольныя райкомы КП(б)Б (8.10—28.11.1943 г.) і ЛКСМБ (люты — 25.12.1943 г.). 30.11.1943 г. вызвалена воінамі 415-й стралковай дывізіі 1-га Украінскага фронту і партызанамі 27-й Нараўлянскай брыгады імя С. М. Кірава. З 1954 г. ў складзе Гомельскай вобл., 4,8 тыс. жыхароў у 1959 г. У снежні 1962 г.— студзені 1965 г. ў Ельскім р-не. 6,6 тыс. жыхароў у 1970 г. З 3.11.1971 г. горад.

Забудова пераважна аднапавярховая, драўляная, сядзібнага тыпу, у цэнтры 2—5-павярховая. Адміністрацыйна-грамадскі цэнтр — пл. Леніна. Рака Нараўлянка падзяляе горад на ўсходні і заходні жылыя раёны. Асноўная капітальная забудова вядзецца па вуліцах Леніна, Камсамольскай, Кастрычніцкай і Камуністычнай. Генеральны план забудовы Нароўлі распрацаваны ў 1967 г. Гомельскімі абласнымі праектнымі майстэрнямі інстытута «Белдзяржпраект». Кожны жылы раён будзе мець аўтаномны цэнтр абслугоўвання насельніцтва.

У Нароўлі працуюць кандытарская фабрыка «Чырвоны мазыранін», завод будаўнічых дэталей, хлебазавод, філіялы Мазырскага малочнага завода, Мазырскага вытворчага мэблевага аб'яднання, раённыя аб'яднанні Дзяржкамсельгастэхнікі і «Сельгасхімія», раённае вытворчае ўпраўленне бытавога абслугоўвання насельніцтва, лясгас.



1365. *Помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў, партызан і мірных жыхароў.*

У горадзе сярэдняе прафесійна-тэхнічнае вучылішча механізацыі сельскай гаспадаркі, 2 сярэднія, музычная і дзіцяча-юнацкая спартыўная школы, васьмігадовая школа-інтэрнат, 6 дашкольных устаноў, Дом культуры, Дом піянераў і школьнікаў, 2 клубы, 2 бібліятэкі, бальніца, паліклініка. Выдаецца раённая газета «Прыпяцкая праўда». Помнікі: У. І. Леніну, на брацкіх магілах савецкіх воінаў, партызан і мірных жыхароў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну. Збярогся помнік архітэктуры 1-й палавіны 19 ст.— сядзібна-паркавы ансамбль.



1366. *Будынак былога жылога дома.*

Зона адпачынку — берагі р. Прыпяць.

*Літ.:* Круталевич В. А. Административно-территориальное устройство БССР.— Мн., 1966; Жучкевич В. А. Краткий топонимический словарь Белоруссии.— Мн., 1974; Польскі С. А. Нарысы геаграфіі гарадоў Беларускай ССР (1917—1941 гг.).— Мн., 1973.

*А. І. Валахановіч, А. М. Кулагін.*

**1364. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). Вул. Дзяржынскага, каля завода будаўнічых дэталей. Пахаваны 3 воіны, якія памерлі ад ран у 1943 г. У 1956 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**1365. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ, ПАРТЫЗАН І МІРНЫХ ЖЫХАРОЎ** (гіст.). Вул. Кастрычніцкая. Пахаваны 24 воіны 415-й стралковай дывізіі 1-га Украінскага фронту і партызаны 27-й Нараўлянскай брыгады імя С. М. Кірава, якія загінулі ў лістападзе 1943 г. пры вызваленні Нароўлі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў, а таксама 36 мірных жыхароў, расстраляных гітлераўцамі 23.3. 1943 г. У 1957 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна.

*Літ.:* В памяти народной.— Мн., 1969.

**1366. ЖЫЛЫ ДОМ** (архіт.). Вул. Кастрычніцкая, 14. Пабудаваны ў другой палавіне 19 ст. з дрэва. Цяпер тут размешчаны раённы Дом піянераў і школьнікаў.

Аднапавярховы прамавугольны ў плане будынак з мезанінам. Пастаўлены на высокім цагляным цокалі. Над галоўным уваходам — балкон на 4 слупах. З боку дваровага фасада была прыбудавана галерэя (не збераглася). Фасады дома аздоблены дэкаратыўнай шалёўкай. Прамавугольныя аконныя праёмы ў ліштвах. Па перыметры будынка праходзіць разны карніз. Фрыз і гарызантальныя цягі таксама ўпрыгожаны разьбой. Вуглы зруба ашаляваны стылізаванымі пілястрамі з базамі і капітэлямі. Па-мастацку дэкарыраваны і бляшаныя вадасцёкі. Планіроўка калідорная.

Прыклад драўлянага дойлідства.

*А. М. Кулагін.*

**1367. ПАСЕЛІШЧА** (археал.). За 0,3 км на паўднёвы ўсход ад горада, на паверхні першай надпоймавай тэрасы р. Прыпяць. Выявілі ў 1929 г. А. Дз. Каваленя і У. М. Падбярэзны. Даследаваў у 1961, 1963, 1972 і 1980 гг.



1366. *Будынак былога жылога дома. План.*

У. Ф. Ісаенка. Даўжыня ўздоўж ракі 250 м. Выяўлены 2 культурныя гарызонты. Неалітычны (ніжні) — пласт гумусу да 0,2 м, цьмяна-шэрага колеру. Большасць знаходак выяўлена ў паўночна-ўсходняй частцы паселішча, дзе ніжні гарызонт агалены. У верхнім гарызонце (таўшчыня 0,3 м) знойдзены кераміка, прылады працы ранняга і сярэдняга перыяду бронзавага веку (крамянёвыя скрабкі, праколкі, нажы, каменныя сякеры і інш.).

Матэрыялы даследаванняў захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

*У. Ф. Ісаенка.*

**1368. ПОМНІК ЛЕНІНУ** Уладзіміру Ільічу (маст.). На пл. Леніна. Пастаўлены ў 1983 г. (скульпт. А. Анікейчык, арх. Л. Левін, Ю. Градаў; медзь, граніт; вышыня скульптуры 3 м, пастамента 3,5 м). Паўфігурная скульптура У. І. Леніна на фоне лунаючага сцяга пастаўлена на пастамент, абліцаваны чырвоным гранітам. Энергічна ўзнятая галава, прызыўны жэст рукі, лёгкі разварот фігуры надаюць вобразу правадыра рамантычнае гучанне. Стэла-сцяна і абліцаваны шэрым гранітам подыум падкрэсліваюць выразнасць помніка.

*Л. Г. Лапцэвіч.*

**1369. ПОМНІК ЛЕНІНУ** Уладзіміру Ільічу (гіст.). На вул. Леніна. Скульптура У. І. Леніна ўстаноўлена ў 1948 г.

**1370. ПОМНІК ЛЕНІНУ** Уладзіміру Ільічу (гіст.). На вул. Макаранкі, каля будынка сярэдняга прафесійна-тэхнічнага вучылішча механізацыі сельскай гаспадаркі. Бюст У. І. Леніна ўстаноўлены ў 1948 г.

**1371. РАДЗІМА СМОЛЬСКАГА** Міхалая Уладзіслававіча (гіст.).

Беларускі савецкі батанік, акадэмік АН БССР (1969 г., член-карэспандэнт з 1956 г.), акадэмік АН Таджыкскай ССР (1951 г.). М. У. Смольскі нарадзіўся 24.9.1905 г. ў сям'і служачага. Доктар біялагічных навук (1967 г.), прафесар (1969 г.), заслужаны дзеяч навукі БССР (1972 г.), лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР 1978 г. Член КПСС з 1943 г. Скончыў Сібірскі інстытут сельскай гаспадаркі і лесаводства (Омск, 1927 г.). У 1931—41 гг. працаваў ва Усесаюзным інстытуце раслінаводства і на Усесаюзнай селекцыйнай станцыі вільгацесубтрапічных культур. У 1945—55 гг. дырэктар Усесаюзнага НДІ сухіх субтропікаў. У 1951—52 гг. віцэ-прэзідэнт і акадэмік-сакратар Аддзялення прыродазнаўчых навук АН Таджыкскай ССР. З 1955 г. дырэктар Цэнтральнага батанічнага саду АН БССР. Асноўныя навуковыя працы прысвечаны вывучэнню фісташкавых саваннаў, шаўкоўніцы і пладовых Сярэдняй Азіі, інтрадукцыі і селекцыі субтрапічных культур у зонах вільготных і сухіх субтропікаў СССР. Вывучаў перспектыўныя для Беларусі кармавыя, тэхнічныя, лекавыя і арнаментальныя расліны, шляхі і метады рацыянальнага выкарыстання прыродных багаццяў, праблемы арганізацыі ў рэспубліцы сеткі дзяржаўных запаведнікаў, заказнікаў і помнікаў прыроды.

Памёр 29.4.1976 г. Пахаваны ў Мінску на Усходніх могілках. У Мінску на доме, дзе ён жыў, устаноўлена мемарыяльная дошка.

*Літ.:* Акадэмія навук Беларускай ССР.— Мн., 1979. *М. М. Казлоўская.*

**1372. РАДЗІМА СПІВАКА** Майсея Лейвікавіча (гіст.).

Герой Савецкага Саюза М. Л. Співак нарадзіўся 22.12.1919 г. ў сям'і рамесніка. Кандыдат у члены КПСС. У Айчынную вайну з 1941 г. на Заходнім і Цэнтральным франтах. Ад'ютант камандзіра стралковага палка лейтэнант М. Л. Співак вызначыўся 23.7.1943 г. ў баі за вышыню на паўднёвым усходзе ад Арла. Падняў у атаку батальён, фарсіраваў р. Неруч, з групай байцоў уварваўся ў траншэі праціўніка, захапіў ручны кулямёт, агнём з якога адбіў 3 варожыя контратакі, знішчыў каля 20 гітлераўцаў. Загінуў у гэтым баі. Пахаваны на станцыі Зміеўка Арлоўскай вобл. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 27.8.1943 г. Яго імем названа вуліца ў г. Нароўля.

*Літ.:* Навечно в сердце народном.— 3 изд.— Мн., 1984. *М. М. Казлоўская.*



**1373.** *Сядзібны дом. План 1-га паверха.*



**1373.** *Сядзібны дом.*



**1373.** *Фрагмент фантана.*



**1373.** *Альтанка-маяк.*

**1373. СЯДЗІБНА-ПАРКАВЫ АНСАМБЛЬ** (архіт.). На паўночна-ўсходняй ускраіне горада, на правым беразе р. Прыпяць. Закладзены ў 1-й палавіне 19 ст. Уключае сядзібны дом, парк, фантан, альтанку-маяк, гаспадарчыя пабудовы. Цяпер тут размешчана школа-інтэрнат.

С я д з і б н ы д о м. Двухпавярховы мураваны будынак (таўшчыня сцен да 1 м) на высокім цокалі. Першы паверх вылучаны буйным рустам, другі — крапаваны лапаткамі. У цэнтры галоўнага і дваровага фасадаў плоскія рызаліты з уваходнымі парталамі і тэрасамі. Галоўны фасад завершаны высокім атыкам з балюстрадай, дваровы фланкіраваны трохграннымі эркерамі, у цэнтры завер-

шаны трохвугольным франтонам. Планіроўка дома калідорная з вестыбюлем і квадратнай залай у цэнтры. Паверхі звязаны 2 лесвіцамі, размешчанымі ў бакавых эркерах. У тарцовых тэрасах зроблены ўваходы ў падвалы. У інтэр'еры выкарыстаны арачныя нішы.

Парк пейзажнага тыпу планіроўкі. Плошча 8,2 га. Кампазіцыйна падзелены баскетамі з грабу на 2 участкі. У паўднёвай частцы знаходзіцца сядзібны дом з вялікай палянай перад ім. Па восі дома размешчана ўязная брама з дарычнымі калонамі, аркамі і пілонамі. Шырокая лесвіца з боку дваровага фасада вядзе да тэрасы з фантанам. У паўночнай частцы парку лагчына невялікага ручая, уздоўж якога дарожка да альтанкі. У парку растуць пераважна мясцовыя пароды дрэў: дуб, ясень, клён, акацыя, ліпа, вольха, елка, хвоя. Цяпер пераважаюць маладыя пасадкі.

Фантан размешчаны па восі сядзібнага дома. Пабудаваны ў стылі ампір. Складаецца з басейна са скругленымі вугламі і паўкруглых лавак па баках. У цэнтры лавак зроблены манументальныя троны на лапных ільвіных лапах. Усё збудаванне выкапана з цэглы, атынкавана. Ад фантана адкрываецца маляўнічы краявід.

Альтанка-маяк. На ўзгорку ў выгіне ракі, пры перасячэнні алей. Трох'яруснае квадратнае ў плане муравапае збудаванне з рысамі стылю ампір. Кожны ярус мае адметнае вырашэнне: ніжні, найбольш масіўны, умацаваны вуглавымі руставанымі контрфорсамі і завершаны дарычным фрызам; другі — скразны, з 4 вялікімі паўцыркульнымі арачнымі праёмамі, вуглы аздоблены трохчвэртнымі калонамі з капітэлямі; верхні — ратонда з 6 калонамі карынфскага ордэра, завершаная паўсферычным купалам з дэкаратыўнай вазай. У дэкоры альтанкі-маяка выкарыстаны маскароны, разеткі, гірлянды, акантавы арнамент, валюты, іонікі.

Гаспадарчыя пабудовы зроблены з чырвонай цэглы. У трактоўцы фасадаў — элементы неаготыкі (стральчатыя аркі і праёмы), сярэдневяковых замкаў (байніцы, аркатура), класіцызму (порцік). Выкарыстоўваюцца кандытарскай фабрыкай «Чырвоны мазыранін».

Сядзібна-паркавы ансамбль — помнік архітэктуры позняга класіцызму.

*А. М. Кулагін.*

**в. Аляксандраўка, Кіраўскі сельсавет**

**1374. ПОМНІК АХВЯРАМ ФАШЫЗМУ** (гіст.). Каля будынка канторы саўгаса «Кіраўскі». На ўшанаванне памяці 21 жыхара вёсак Аляксандраўка і Габрылёўка, загубленых нямецка-фашысцкімі захопнікамі ў чэрвені 1942 г., у 1967 г. пастаўлены абеліск.



1378. *Помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў.*

**в. Белая Сарока, Даўлядоўскі сельсавет**

**1375. ПАСЕЛІШЧА** (археал.). За 1—1,5 км на паўночны захад ад вёскі, на паверхні першай надпоймавай тэрасы р. Прыпяць, на вышыні 3—4 м над поплавам. Участак тэрасы абмежаваны з трох бакоў балотамі, з чацвёртага — старыцай р. Прыпяць. Памеры паселішча 200×80 м. Адкрыў у 1962 г. і даследаваў у 1972 г. У. Ф. Ісаенка. Знойдзены 27 пласцінак з прытупленым рэтушшу краем, 600 апрацаваных крамянёў, 123 крамянёвыя прылады працы і зброя (наканечнікі стрэл, скрабкі, разцы і інш.), рэшткі вогнішчаў. Датуецца 8—5-м тысячагоддзямі да н. э. Адносіцца да эпохі мезаліту.

Матэрыялы даследаванняў захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

*Літ.:* Исаенко В. Ф. Неолит Припятского Полесья.— Мн., 1976.

*У. Ф. Ісаенка.*

**в. Будкі, Галоўчыцкі сельсавет**

**1376. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. На ўшанаванне памяці 98 землякоў, якія загінулі на франтах Вялікай Айчыннай вайны ці расстраляны нямецка-фашысцкімі акупантамі ў 1941—43 гг., у 1967 г. ўстаноўлена мемарыяльная пліта.



1379. *Царква. План.*

**в. Бук, Красноўскі сельсавет**

**1377. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. На ўшанаванне памяці 52 мірных жыхароў вёсак Бук і Дзятлік, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1967 г. пастаўлены абеліск.

**в. Вербавічы, цэнтр сельсавета**

**1378. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны 21 воін, якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў ці памерлі ад ран у 1943 г. У 1957 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна.

**1379. ЦАРКВА** (архіт.). У цэнтры вёскі. Пабудавана ў 18 ст. з цэглы. Цяпер тут размешчаны школьны музей.

Крыжападобны ў плане будынак накрыты пакатым шматсхільным дахам. Крылы трансепта і алтарная частка пяціграння. Да бабінца прылягае больш нізкая ў параўнанні з асноўным аб'ёмам драўляная прыбудова з аднасхільным дахам. Вуглы аб'ёмаў раскрапаваны пілястрамі. Сцены фасадаў прарэзаны высокімі прамавугольнымі вокнамі і завершаны адзінай цягай карніза.

Царква — помнік архітэктуры барока.

*А. М. Кулагін.*

**в. Вуглы, цэнтр сельсавета**

**1380. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). Каля будынка выканкома сельсавета. Пахаваны 6 воінаў, якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у 1941 г., і 2 партызаны, што загінулі ў 1943 г. У 1957 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна.

**1381. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны астанкі 14 мірных жыхароў вёскі, якіх у ліпені 1943 г. спалілі нямецка-фашысцкія карнікі. У 1967 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Гажын, Галоўчыцкі сельсавет**

**1382. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 24 воіны, якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў ці памерлі ад ран у 1943—44 гг. У 1971 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Галоўчыцкая Буда, Галоўчыцкі сельсавет**

**1383. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На паўночны ўсход ад вёскі. Пахаваны 7 воінаў і 3 партызаны, якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у 1943 г. У 1964 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Галоўчыцы, цэнтр сельсавета**

**1384. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). Каля школы. Пахаваны 3 воіны, якія памерлі ад ран у студзені 1944 г., і 4 партызаны, што загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у лістападзе 1943 г. У 1957 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна.

**1385. МАГІЛА ЖУРАЎСКАГА** Іосіфа Станіслававіча (гіст.). На могілках. Партызан Грамадзянскай вайны І. С. Жураўскі расстраляны белапольскімі інтэрвентамі ў 1920 г. У 1937 г. ўстаноўлена надмагільная пліта.

**1386. ПОМНІК ЛЕНІНУ** Уладзіміру Ільічу (гіст.). У скверы. Бюст У. І. Леніна ўстаноўлены ў 1965 г.

**в. Даўляды, цэнтр сельсавета**

**1387. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны 10 воінаў, якія загінулі ў лістападзе 1943 г. ў баях за вызваленне вёскі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1957 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна.

**в. Дзяржынск, Красноўскі сельсавет**

**1388. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. На ўшанаванне памяці 22 аднавяскоўцаў, якія загінулі на франтах Вялікай Айчыннай вайны, у 1967 г. пастаўлены абеліск.

**в. Дуброва, Вуглоўскі сельсавет**

**1389. РАДЗІМА КОРЗУНА** Андрэя Рыгоравіча (гіст.).

Герой Савецкага Саюза А. Р. Корзун нарадзіўся 29.11.1911 г. ў сялянскай сям'і. У 1929—32 гг. працаваў на будаўніцтве шашы Гомель — Жытомір, з 1931 г.— у Палескім хімлясгасе. У Вялікую Айчынную вайну на фронце з 1941 г. Удзельнік абароны Ленінграда. Вызначыўся 5.11.1943 г. Калі гарматны разлік выйшаў са строю, радавы А. Р. Корзун адзін працягваў весці агонь па ворагу. Цяжка паранены, накрыў сваім целам скрынку з артылерыйскімі зарадамі, якая загарэлася, і папярэдзіў выбух. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 22.2.1944 г. Яго імем названы вуліца ў г. Нароўля, школа ў в. Дуброва. На будынку школы, дзе ў 1920—24 гг. ён вучыўся, у 1958 г. ўстаноўлена мемарыяльная дошка.

*Літ.:* Навечна в сердце народном.— 3 изд.— Мн., 1984. *М. М. Казлоўская.*

**в. Завайць, цэнтр сельсавета**

**1390. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). Каля клуба. Пахаваны 31 воін, якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у 1943 г. У 1957 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна.

**в. Заракітнае, Нараўлянскі гарсавет**

**1391. ГАРАДЗІШЧА** (археал.). За 2 км на паўднёвы захад ад вёскі, ва ўрочышчы Акоп, у 48-м квартале лясніцтва. Умацавана 3 валамі. Унутраны вышынёй 1,5—1,7 м, шырынёй 18—20 м абмяжоўвае пляцоўку прамавугольнай формы памерам 105×60 м. Да асновы яго шчыльна прылягае другі, малы кальцавы вал, вышынёй 0,5 м, шырынёй 3 м. Трэці вонкавы вал вышынёй 1,4 м, шырынёй 15 м авальнай формы насыпаны вакол унутраных на адлегласці 20 м. Абследавалі ў 1964 г. Л. Д. Побаль, у 1976 г. П. Ф. Лысенка. Раскопкі не праводзіліся. *П. Ф. Лысенка.*

**в. Кіраў, цэнтр сельсавета**

**1392. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны 8 воінаў і 3 партызаны, якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у 1943 г. У 1957 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна.

**1393. ПОМНІК САВЕЦКІМ АКТЫВІСТАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. На ўшанаванне памяці актывістаў воласці Івана Мартынавіча Несцерчука, яго брата Іпаліта Мартынавіча Несцерчука і А. Р. Мальчука, якіх закатавалі ў 1920 г. белапольскія інтэрвенты, у 1978 г. пастаўлены абеліск.

**в. Красноўка, цэнтр сельсавета**

**1394. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН, ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны 9 воінаў і партызан, што загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у 1941 г. і пры вызваленні вёскі ў лістападзе 1943 г. На ўшанаванне памяці савецкіх воінаў, партызан і 89 аднавяскоўцаў, якія загінулі на франтах Вялікай Айчыннай вайны і ў партызанскай барацьбе, у 1957 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна.



1395. *Курганныя могільнікі. План.*

**1395. КУРГАННЫЯ МОГІЛЬНІКІ** (археал.).

**1395а.** Могільнік-1. За 1,3 км на паўднёвы захад ад вёскі, ва ўрочышчы Імхі, на так званым «Сакавым Селішчы». 9 курганоў вышынёй 0,6—0,8 м (адзін — 1,2 м), дыяметрам 6—8 м (адзін — 12 м). Курганы паўсферычныя, здзірванелыя, каля асновы маюць раўкі. Абследаваў у 1976 г. П. Ф. Лысенка. Раскопкі не праводзіліся.

**1395б.** Могільнік-2. Мясцовая назва Капцы. За 1,5 км на паўднёвы захад ад вёскі. 3 насыпы вышынёй 0,6—0,8 м, дыяметрам 10—12 м. Абследаваў у 1976 г. П. Ф. Лысенка. Раскопкі не праводзіліся.

*Літ.:* Исаенко В. Ф. Древняя история восточного Полесья.— Мн., 1975. *П. Ф. Лысенка.*

**в. Лубень, Красноўскі сельсавет**

**1396. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). Каля будынка васьмігадовай школы. Пахаваны 103 жыхары вёскі, якіх загубілі нямецка-фашысцкія захопнікі ў чэрвені 1943 г. У 1967 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Мальцы, Красноўскі сельсавет**

**1397. ПОМНІК АХВЯРАМ ФАШЫЗМУ** (гіст.). Каля клуба. На ўшанаванне памяці 62 жыхароў вёскі, якіх загубілі нямецка-фашысцкія захопнікі ў чэрвені 1943 г., у 1968 г. пастаўлены абеліск.

**в. Маскалёўка, Красноўскі сельсавет**

**1398. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля клуба. На ўшанаванне памяці 13 аднавяскоўцаў, якія загінулі ў барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у Вялікую Айчынную вайну, у 1970 г. пастаўлены абеліск.

**в. Смалегаў, Завайцянскі сельсавет**

**1399. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 10 воінаў, якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў ці памерлі ад ран у лістападзе — снежні 1943 г. У 1963 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Хільчыха, Кіраўскі сельсавет**

**1400. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 2 км на паўднёвы захад ад вёскі, у лесе. 2 насыпы вышынёй 0,6 м і дыяметрам 7—8 м. Абследаваў у 1976 г. П. Ф. Лысенка. Раскопкі не праводзіліся.

**1401. МЕСЦА БАЗІРАВАННЯ НАРАЎЛЯНСКАГА ПАДПОЛЬНАГА РАЙКОМА КП(б)Б І 27-й НАРАЎЛЯНСКАЙ ПАРТЫЗАНСКАЙ БРЫГАДЫ ІМЯ С. М. КІРАВА** (гіст.). За 5—6 км на захад ад вёскі.

Партызанская брыгада створана ў кастрычніку 1943 г. на базе асобных атрадаў імя С. М. Кірава (арганізаваны ў снежні 1942 г.), імя А. В. Суворава (арганізаваны ў чэрвені 1943 г.) і імя М. В. Фрунзе (арганізаваны ў кастрычніку 1943 г.). Камандзір брыгады У. П. Яромаў, камісар П. І. Літоўскі. Партызаны праводзілі дыверсіі на шашэйных і грунтавых дарогах, пускалі пад адхон варожыя эшалоны з жывой сілай і тэхнікай. На шашы Ельск-Оўруч падарвалі 4 аўтамашыны. Пры разгроме варожага гарнізона ў Нароўлі захапілі 70 падвод з прадуктамі. 8.11.1943 г. група разведчыкаў на чале з Ф. Я. Усімавым вяла бой каля в. Смалегаў. 11.11.1943 г. група аўтаматчыкаў на чале з І. І. Бельскім узарвала 2 масты на р. Славечна. 28.11.1943 г. брыгада (655 партызан) у складзе атрадаў імя С. М. Кірава, імя А. В. Суворава, імя М. В. Фрунзе, імя С. М. Будзённага злучылася з часцямі Чырвонай Арміі, прымала ўдзел у вызваленні Нароўлі, вёсак Верхні і Ніжні Млынкі.

Тут жа базіраваўся Нараўлянскі падпольны райком КП(б)Б. Створаны 8.10.1943 г. Сакратар Л. А. Бенза. Дзейнічаў да 28.11.1943 г.

У 1945 г. на месцы базіравання брыгады і падпольнага райкома КП(б)Б устаноўлены мемарыяльны знак.

*М. М. Казлоўская.*

**1402. ПОМНІК АХВЯРАМ ФАШЫЗМУ** (гіст.). Каля школы. У снежні 1942 г. нямецка-фашысцкія захопнікі ўварваліся ў вёску, сагналі 19 мірных жыхароў (старыя, жанчыны і дзеці) у будынак канторы леспрамгаса і расстралялі, а потым спалілі. Пахаваны ў адзіночных магілах у в. Кіраў. У 1967 г. на ўшанаванне памяці ахвяр фашызму пастаўлены абеліск.

**в. Цешкаў, Вербавіцкі сельсавет**

**1403. ПАСЕЛІШЧЫ** (археал.).

**1403а.** Паселішча-1. За 2 км на паўночны захад ад вёскі, каля былога хутара, на ўсходнім схіле пясчанага ўзгорка. Узвышаецца над поплавам р. Прыпяць на 6—10 м. Даўжыня 150 м. Выявіў у 1929 г. К. М. Палікарповіч, даследаваў у 1961, 1969, 1978 гг. У. Ф. Ісаенка. У культурным пласце 0,1 м знойдзены крамянёвыя наканечнікі стрэл, скрабкі, мікрапласцінкі і інш. Адносіцца да эпохі мезаліту, датуецца 8—5-м тысячагоддзямі да н. э.

**1403б.** Паселішча-2. За 1 км на паўднёвы захад ад вёскі, ва ўрочышчах Ягаднае, Еўцава Гара, на пясчаным узгорку. Вышыня над поплавам р. Славечна 5—8 м. Даследаваў у 1961, 1969, 1978 гг. У. Ф. Ісаенка. Культурны пласт 0,2 м прасочаны на працягу да 110 м. Знойдзены рэшткі ляпной керамікі з шнуравым арнаментам. Адносіцца да позняга неаліту — ранняга перыяду бронзавага веку (канец 3 — пачатак 2-га тысячагоддзя да н. э.).

**1403в.** Паселішча-3. За 2 км на паўднёвы ўсход ад вёскі, ва ўрочышчах Бярозаўка і Барысава Гара. Займае пясчаны ўзгорак сярод поплаву левага берага р. Славечна. Вышыня над поплавам 8—10 м. Выявіў у 1929 г. К. М. Палікарповіч, даследаваў у 1961, 1969, 1978 гг. У. Ф. Ісаенка. У культурным пласце 0,1 м знойдзены крамянёвыя мікраскрабкі, трапецыі, пласцінкі з прытупленым рэтушшу краем і інш., рэшткі ямачна-накольчатай керамікі. Адносіцца да канца эпохі мезаліту — пачатку ранняга неаліту, датуецца 5—4-м тысячагоддзямі да н. э.

Матэрыялы даследаванняў захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

*У. Ф. Ісаенка.*

10




# ПЕТРЫКАЎСКІ РАЁН

ГОМЕЛЬСКАЯ ВОБЛ.
Петрыкаў
Гомель

Хвойня
Фаставічы
Кашэвічы
Камаровічы
Лучыцы
Сякерычы
Навасёлкі
Капцэвічы
Колкі
Грабаў
Залессе
Чалюшчавічы
Мяхедавічы
Капаткевічы
Вял. Сялюцічы
Бабунічы
Курыцічы
Церабаў
Смятанічы
Капцэвічы
Аголіцкая Рудня
Брынёў
Слабада
Пціч
Мышанка
Конкавічы
Беседкі
Ляскавічы
Галубіца
ПЕТРЫКАЎ
Дарашэвічы
Вялаўск
Снядзін

Цэнтр раёна

Цэнтры сельсаветаў

Стаянкі, паселішчы, гарадзішчы

Могільнікі (грунтавыя, курганныя), курганы

Помнікі гаспадарчай дзейнасці, прамысловая архітэктура, гідратэхнічныя збудаванні дасавецкага перыяду

Помнікі і месцы рэвалюцыйнага руху (Рэвалюцыя 1905–07 гг., Вялікая Кастрычніцкая сацыялістычная рэвалюцыя, Грамадзянская вайна, барацьба працоўных Заходняй Беларусі)

Помнікі і памятныя месцы Вялікай Айчыннай вайны (месцы баёў, магілы савецкіх воінаў і партызан, Курганы Славы, помнікі землякам і інш.)

Помнікі ахвярам фашызму (месцы канцлагераў і лагераў смерці, месцы масавай загубы насельніцтва, спаленыя і неадноўленыя вёскі і інш.)

Помнікі і месцы, звязаныя з імёнамі савецкіх партыйных, дзяржаўных і гаспадарчых дзеячаў, дзеячаў культуры, навукі і тэхнікі

Жылыя дамы, забудова вуліц дасавецкага перыяду

Культавая архітэктура

Помнікі манументальнай скульптуры і жывапісу

Паркі і садова-паркавыя збудаванні

## XIX. ПЕТРЫКАЎ

Горад, цэнтр раёна. За 190 км на захад ад Гомеля, 13 км ад чыгуначнай станцыі Муляраўка на лініі Брэст — Гомель, прыстань на левым беразе р. Прыпяць. Аўтамабільнымі дарогамі звязаны з Мазыром, Калінкавічамі, Жыткавічамі.

Паводле падання заснаваны ў 10 ст. яцвяжскім князем Пятром. Па пісьмовых крыніцах вядомы з 15 ст., мястэчка ў Вялікім княстве Літоўскім, належала князям Алелькавічам, з 17 ст. Хадкевічам. З канца 15 ст. у складзе Слуцкага княства, з 1507 г. у Навагрудскім павеце. Да 1535 г. у Петрыкаве была крэпасць (разбурана ў руска-літоўскую вайну 1534—37 гг.). У 1595 г. захоплены казацка-сялянскім атрадам С. Налівайкі. З 1776 г. штогод адбываліся 2 кірмашы, быў развіты шавецкі промысел, выраб аўчын. З 1793 г. у складзе Расійскай імперыі, цэнтр валасці Мазырскага павета. У 1897 г. у горадзе 5,5 тыс. жыхароў, 400 двароў, 2 пачатковыя школы, бальніца, прыстань.

Савецкая ўлада ўстаноўлена ў лістападзе 1917 г. Тут быў сфарміраваны атрад Чырвонай гвардыі. У лютым — снежні 1918 г. Петрыкаў акупіраваны войскамі кайзераўскай Германіі, у сакавіку — ліпені і лістападзе 1920 г. — войскамі буржуазнай Польшчы. Вызвалены 21.11.1920 г. З 1924 г. Петрыкаў — цэнтр раёна, з 1925 г. горад, з 1938 г. у Палескай вобл. У 1939 г. у горадзе 5782 жыхары, цагельны завод (у 1940 г. 81 рабочы), леспрамгас, рыбгас.

У Вялікую Айчынную вайну з жніўня 1941 г. акупіраваны нямецка-фашысцкімі захопнікамі. У раёне дзейнічалі падпольныя райкомы КП(б)Б (18.8—21.10.1941 г., красавік 1943 г.— 6.7.1944 г.) і ЛКСМБ (1.1.1943 г.— 6.7. 1944 г.), камуністычнае падполле (красавік 1942 г.— студзень 1943 г.). 30.6. 1944 г. горад вызвалены ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў воінамі 55-й Мазырскай Чырванасцяжнай стралковай дывізіі 61-й арміі 1-га Беларускага фронту і маракамі Дняпроўскай ваеннай флатыліі. З 8.1.1954 г. горад у складзе Гомельскай вобл.

Забудова горада пераважна драўляная, аднапавярховая, сядзібнага тыпу, у цэнтры і новых кварталах капітальная: 2- і 4-павярховыя будынкі райкома партыі, райвыканкома, універмага, гасцініцы, Дома культуры, школы, 2- і 5-павярховыя жылыя дамы. Генеральны план забудовы, распрацаваны ў 1974 г. Мінскім філіялам Цэнтральнага навукова-даследчага і праектнага інстытута горадабудаўніцтва, прадугледжвае развіццё горада ў заходнім напрамку. Грамадскі цэнтр фарміруецца ў раёне вуліц Гагарына і Карла Маркса.



XIX. *Фрагмент забудовы вуліцы Гагарына.*

У горадзе працуюць хлебазавод, завод сухога абястлушчанага малака, суднабудаўніча-суднарамонтны, камбінаты будаўнічых матэрыялаў і бытавога абслугоўвання, лясгас.

У Петрыкаве 2 сярэднія, музычная і дзіцяча-юнацкая спартыўная школы, спецыяльная школа-інтэрнат, 5 дашкольных устаноў, Дом піянераў і школьнікаў, Дом культуры, 3 бібліятэкі, бальніца, паліклініка. Выдаецца раённая газета «За новыя рубяжы». Помнікі: У. І. Леніну; В. І. Талашу; савецкім воінам-вызваліцелям; абеліск на брацкай магіле савецкіх воінаў, партызан і падпольшчыкаў.



XIX. *Фрагмент забудовы вуліцы Р. Люксембург.*

Зона адпачынку — берагі Прыпяці, турысцкая база ў в. Ляскавічы.

*Літ.:* Ветров И. Д. Братья по оружию.— Мн., 1965; Всенародное партизанское движение в Белоруссии в годы Великой Отечественной войны (июнь 1941 — июль 1944). Т. 1.— Мн., 1967.

*А. П. Грыцкевіч, С. Ф. Самбук.*

**1404. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ, ПАРТЫЗАН І ПАДПОЛЬШЧЫКАЎ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 69 воінаў, партызан і падпольшчыкаў, што загінулі ў Вялікую Айчынную вайну. Сярод пахаваных — воіны 55-й Мазырскай Чырванасцяжнай стралковай дывізіі 61-й арміі 1-га Беларускага фронту і маракі дэсантнага атрада Дняпроўскай ваеннай флатыліі, якія ўдзельнічалі ў баях за вызваленне горада ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1956 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**1405. МАГІЛА ТАЛАША** Васіля Ісакавіча (гіст.). На могілках.

Удзельнік партызанскага руху на Беларусі ў Грамадзянскую і Вялікую Айчынную войны. В. І. Талаш нарадзіўся 25.12.1844 г. у в. Белка Петрыкаўскага р-на ў сялянскай сям'і. У час акупацыі павета войскамі буржуазнай Польшчы перайшоў лінію фронту, наладзіў сувязь з 417-м палком Чырвонай Арміі, арганізаваў партызанскі атрад (300 чалавек), які пад яго кіраўніцтвам выбіў ворага з в. Навасёлкі і захапіў вялікія трафеі, быў разведчыкам 417-га палка. Распаўсюджваў прапагандысцкую літаратуру сярод польскіх легіянераў. Летам 1920 г. у час наступлення Мазырскай групы войск Чырвонай Арміі памагаў чырвонаармейцам у будаўніцтве гацей і праходаў праз балоты, вадзіў кавалерыйскія атрады ў варожы тыл, прымаў удзел у ачыстцы фарватару р. Прыпяць для караблёў Дняпроўскай ваеннай флатыліі. Узнагароджаны ордэнам Чырвонага Сцяга. Пасля Грамадзянскай вайны В. І. Талаш — старшыня Навасёлкаўскага сельскага Савета. У Вялікую Айчынную вайну памагаў партызанам, збіраў для іх зброю. Быў арыштаваны нямецка-фашысцкімі акупантамі і пасаджаны ў петрыкаўскую турму. Пазней выконваў заданні Мінскага падпольнага абкома КП(б)Б. З пачатку 1943 г. у Маскве. Выступаў на прадпрыемствах перад рабочымі, воінамі, якія адпраўляліся на фронт. На акупіраванай тэрыторыі Беларусі распаўсюджваліся лістоўкі з заклікам Талаша да барацьбы супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. Пасля вайны жыў у в. Навасёлкі.

Узнагароджаны ордэнам Айчыннай Вайны 1-й ступені. Памёр 23.8.1946 г. Яго імем названы вуліцы ў Петрыкаве, Мінску і інш. гарадах Беларусі. У Петрыкаве ўстаноўлены бюст (гл. артыкул № 1410 «Помнік Талашу Васілю Ісакавічу»). Прататып дзеда Талаша ў аповесці Я. Коласа «Дрыгва».

У 1947 г. на магіле пастаўлены абеліск.

*Літ.:* Кравченко И. Борьба белорусских партизан против немецко-фашистских оккупантов.— Мн., 1950; Краснознаменный Белорусский военный округ.— 2 изд.— М., 1983.

*В. М. Удальцоў.*



**1404.** *Помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў, партызан і падпольшчыкаў.*

**1406. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА ПАДПОЛЬШЧЫКАМ** (гіст.). Вул. Гагарына, 2, на будынку раённай бібліятэкі. Устаноўлена ў 1975 г. У Вялікую Айчынную вайну з красавіка 1942 г. да студзеня 1943 г. у горадзе дзейнічала камуністычнае падполле (кіраўнік Ф. В. Кляўцоў). Патрыёты вялі палітычную прапаганду сярод насельніцтва, прымалі па радыё і распаўсюджвалі зводкі Саўінфармбюро. 29.1.1943 г. падарвалі будынак гебітскамісарыята, вывелі са строю 12 рухавікоў для бранякатэраў, 3 аўтамашыны, сапсавалі 2 зенітныя гарматы і пайшлі з сем'ямі ў партызанскі атрад М. Ф. Бабкова.

*Літ.:* В грозные годы.— Мн., 1973.

*В. М. Удальцоў.*

**1407. МІКАЛАЕЎСКАЯ ЦАРКВА** (архіт.). На вул. Ліпунова. Пабудавана ў 2-й палове 19 ст. з цэглы. Будынак мае выцягнутую па падоўжнай восі крыжападобную кампазіцыю з трохапсіднай алтарнай часткай. Сяродкрыжжа ўвенчана вялікім светлавым барабанам з купалам. Пры ўваходзе размешчана трох'ярусная вежа-званіца з купалам, завершаным галоўкай. У дэкоры выкарыстаны закамары, паяскі, сухарыкі.

Царква — помнік архітэктуры псеўдавізантыйскага стылю. *Т. В. Габрусь.*

**1408. ПОМНІК ВЫЗВАЛІЦЕЛЯМ** (гіст.). У парку, на левым беразе р. Прыпяць.

У ходзе Беларускай наступальнай аперацыі 1944 г. (кодавая назва «Баграціён») 55-я стралковая дывізія 61-й арміі 1-га Беларускага фронту 28.6.1944 г. фарсіравала р. Прыпяць каля в. Скрыгалаў і пайшла ў наступленне на Петрыкаў. Агнём гармат і высад-



**XIX.** *Будынак райвыканкома.*

кай дэсантаў у тыл праціўніка наступленне дывізіі падтрымлівала 2-я брыгада рачных кацераў Дняпроўскай ваеннай флатыліі. 30.6.1944 г. Петрыкаў быў вызвалены.

У 1972 г. у гонар воінаў-вызваліцеляў пастаўлены помнік — скульптура марака-дэсантніка са сцягам і стэла з надпісам-прысвячэннем.

*Літ.:* Кислый Г. П. На притоках Днепра.— М., 1959. *В. М. Удальцоў.*

**1409. ПОМНІК ЛЕНІНУ** Уладзіміру Ільічу (гіст.). На вул. Гагарына, у скверы. Скульптура У. І. Леніна ўстаноўлена ў 1959 г.

**1410. ПОМНІК ТАЛАШУ** Васілю Ісакавічу (маст.). На вул. Камсамольскай, у гарадскім скверы. Пастаўлены ў 1958 г. (скульпт. З. Азгур; бронза; вышыня бюста 1 м, пастамента 3,09). На прамавугольным мураваным пастаменце паплечны бюст В. І. Талаша. Сродкамі пластыкі перададзены партрэтнае падабенства, цэласны характар селяніна, народнага героя. Расшпілены каўнер кашулі, баявыя ўзнагароды на грудзях дапаўняюць характарыстыку. Гл. артыкул № 1405 «Магіла Талаша Васіля Ісакавіча».

**1411. ХАТА** (архіт.). Вул. Камунальная, 44. Пабудавана ў 19 — пачатку 20 ст. з дрэва.

Аднакамерны прамавугольны ў плане будынак зрублены з круглых бярвёнаў з шасціграннымі астаткамі. Тарцовыя сцены завершаны трохвугольнымі шчытамі з бярвёнаў, якія падтрымліваюць падоўжныя бярвёны перакрыцця. З аконныя праёмы ў 2 сумежных сценах размешчаны асіметрычна. Да хаты прыбудаваны невялікія каркасныя сенцы, накрытыя аднасхільным дахам. Інтэр'ер пабудовы часткова зменены. Перакрыцце плоскае з падоўжнай бэлькай (раней было скляпеністае).

Хата — помнік традыцыйнага народнага жыллёвага будаўніцтва Прыпяцкага Палесся. *Ю. А. Якімовіч.*



1407. *Мікалаеўская царква.*



1408. *Помнік вызваліцелям.*

**1412. ЦАРКВА** (архіт.). На могілках. Пабудавана ў канцы 17 — пачатку 18 ст. з дрэва ў в. Сотнічы як стараверская царква, з 1746 г. уніяцкая, у 1836 г. перанесена ў Петрыкаў.

Тры квадратныя ў плане зрубы — бабінец, асноўны аб'ём і алтарная частка — складзены з круглых бярвёнаў з шасціграннымі астаткамі. Знадворку сцены ашаляваны, аформлены пілястрамі і нескладанымі карнізамі. Прамавугольныя вокны аздоблены простымі ліштвамі. Асноўны аб'ём мае трох'ярусную кампазіцыю: 2 ніжнія ярусы чацверыковыя (з усечаным зверху шатром паміж імі), верхні — васьмярык на купальнай аснове і з купальным пакрыццём. Астатнія аб'ёмы трактаваны як невялікія прыбудоўкі з двух- і трохсхільным дахамі. Над бабінцам невялікая каркасная званіца з шатровым пакрыццём. У інтэр'еры дамінуе цэнтральнае памяшканне, перакрытае плоскай бэлечнай столлю. З ім вялікімі праёмамі злучаны больш нізкія памяшканні бабінца і алтара.

Царква — помнік драўлянага дойлідства.

*Літ.:* Описание церквей и приходов Минской епархии...— Мн., 1879. *Ю. А. Якімовіч.*

**в. Аголічы, Капцэвіцкі сельсавет**

**1413. МАГІЛА САВЕЦКАГА ВОІНА** (гіст.). На могілках. Воін аднаго з падраздзяленняў 75-й стралковай дывізіі 4-й арміі Заходняга фронту загінуў у ліпені 1941 г. у баі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў на тэрыторыі Капцэвіцкага сельсавета. У 1977 г. на магіле пастаўлены абеліск.



1407. *Мікалаеўская царква. План.*

**1414. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. На ўшанаванне памяці 72 жыхароў, якія загінулі на франтах Вялікай Айчыннай вайны і ў партызанскай барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў, у 1979 г. пастаўлена стэла.

**в. Бабунічы, цэнтр сельсавета**

**1415. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 4 воіны, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну. Сярод пахаваных — воіны 55-й стралковай дывізіі 61-й арміі, што загінулі летам 1944 г. пры вызваленні вёскі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1966 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**1416. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). За 2 км на ўсход ад вёскі, у лесе. 7.11.1942 г. нямецка-фашысцкія захопнікі ўварваліся ў вёску, схапілі каля 20 жыхароў, адвезлі іх у лес і расстралялі. У 1970 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**1417. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі, каля будынка выканкома сельсавета. На ўшанаванне памяці 132 землякоў, якія загінулі на франтах Вялікай Айчыннай вайны і ў партызанскай барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў, у 1968 г. пастаўлены помнік — скульптура воіна ў жалобе.

**в. Багрымавічы, Пціцкі сельсавет**

**1418. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На паўночнай ускраіне вёскі. Пахаваны 81 воін, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну. Сярод пахаваных — воіны 17-й гвардзейскай кавалерыйскай дывізіі 2-га гвардзейскага кавалерыйскага корпуса і 415-й стралковай дывізіі 61-й арміі Беларускага фронту, што загінулі ў студзені 1944 г. у баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1966 г. на магіле пастаўлены абеліск.



1411. *Хата. План.*

в. Барычаў, Бабуніцкі сельсавет

**1419. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На ўсходняй ускраіне вёскі. У жніўні 1941 г. у в. Бабунічы нямецка-фашысцкія акупанты схапілі 3 воінаў, якія выходзілі з акружэння. Іх прывезлі ў в. Барычаў і пасля жорсткіх катаванняў расстралялі. У 1959 г. на магіле пастаўлены абеліск.

в. Баянава, Мышанскі сельсавет

**1420. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны 124 воіны, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну. Сярод пахаваных — воіны 76-й гвардзейскай стралковай дывізіі 61-й арміі Беларускага фронту, што загінулі ў студзені — лютым 1944 г. у баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1981 г. на магіле пастаўлены абеліск, каля яго асновы — 4 пліты з імёнамі 49 загінуўшых. *В. М. Удальцоў.*

в. Беразнякі, Капцэвіцкі сельсавет

**1421. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). На паўднёвай ускраіне вёскі. Пахаваны 168 жыхароў. 27.12.1942 г. нямецка-фашысцкія карнікі акружылі вёску і пачалі масавую расправу: людзей расстрэльвалі ў хатах, кідалі жывымі ў калодзежы, забівалі прыкладамі. Частку жыхароў гітлераўцы загналі ў некалькі дамоў і спалілі. Разам з аднавяскоўцамі загінулі члены мясцовай падпольнай камсамольскай групы Р. І. Булава, М. Н. Марозька, Ф. Дубік і інш. У 1976 г. на магіле пастаўлены абеліск. *В. М. Удальцоў.*

в. Беседкі, Мышанскі сельсавет

**1422. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). Каля школы. Пахаваны 247 воінаў і партызан, што загінулі ў Вялікую Айчынную вайну. Сярод пахаваных — воіны 2-га гвардзейскага кавалерыйскага корпуса і 415-й стралковай дывізіі 61-й арміі Беларускага фронту (з 17.2. 1944 г.— 1-ы Беларускі фронт), якія загінулі ў студзені — лютым 1944 г. у баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1966 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна.

в. Бобрык, Камаровіцкі сельсавет

**1423. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). На паўночна-заходняй ускраіне вёскі. Пахаваны 28 воінаў і партызан. Сярод пахаваных — воіны 130-й стралковай дывізіі 28-й арміі 1-га Беларускага фронту, якія загінулі ў пачатку ліпеня 1944 г. у баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў на тэрыторыі сельсавета. У 1956 г. на магіле пастаўлены абеліск.



1412. *Царква. План.*



1418. *Помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў.*

в. Брынёў, Ляскавіцкі сельсавет

**1424. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). У парку. Пахаваны 21 воін 55-й стралковай дывізіі 89-га стралковага корпуса 61-й арміі 1-га Беларускага фронту і 3 партызаны, якія загінулі 3.7.1944 г. пры вызваленні вёскі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1959 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**1425. ПАРК** (архіт.). На паўднёва-ўсходняй ускраіне вёскі. Закладзены на рубяжы 19—20 стагоддзяў як прысядзібны. Плошча каля 4,5 га. Тэрыторыя падзелена на паўднёва-ўсходнюю і паўночна-заходнюю часткі ручаём, які ўтварае 2 сажалкі. Галоўная алея ідзе перпендыкулярна ручаю. У парку растуць мясцовыя пароды дрэў: дуб, ліпа, клён, хвоя звычайная. У паўночнай частцы размешчаны мураваны лямус. За межамі парку з паўднёвага ўсходу захаваліся мураваныя будынкі — 2 жылыя дамы і стайня, пабудаваныя ў пачатку 20 ст.

Прыклад прысядзібнага паркабудаўніцтва. *Т. В. Габрусь.*

в. Ванюжычы, Навасёлкаўскі сельсавет

**1426. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 2 км на поўнач ад вёскі, за 0,3 км на паўночны ўсход ад могілак, у лесе. 32 насыпы вышынёй 0,5—1,5 м, дыяметрам 6—8 м. Адкрыў і даследаваў у канцы 19 ст. У. З. Завітневіч, раскапана 23 насыпы. У 8 курганах пахавальны абрад — трупапалажэнне ў ямах, у астатніх — на гарызонце. Знойдзены пярсцёнкападобныя скроневыя кольцы, трохпацеркавыя кольцы, вялікія зярнёныя і шкляныя пазалочаныя пацеркі, крыжык, віты пярсцёнак, нож, прасліца, гаршкі. Абследаваў у 1976 г. В. І. Шадыра. Належаў дрыгавічам, датуецца 11 ст.

Матэрыялы раскопак захоўваюцца ў Дзяржаўным Гістарычным музеі ў Маскве.

*Літ.:* Завитневич В. З. Из археологических экскурсий в Припятское Полесье.— Киев, 1890; Кухаренко Ю. В. Средневековые памятники Полесья.— М., 1961; Седов В. В. Славяне Верхнего Поднепровья и Подвинья.— М., 1970. *В. І. Шадыра.*

в. Вышалаў, Галубіцкі сельсавет

**1427. ПАСЕЛІШЧА** (археал.). На заходняй ускраіне вёскі, на першай надпоймавай тэрасе р. Прыпяць. Памеры 100×30 м. Адкрыў і даследаваў у 1961 г. У. Ф. Ісаенка. Культурны пласт 0,4—0,65 м. Сабрана каля 130 апрацаваных крамянёў, 22 крамянёвыя прылады працы, 80 фрагментаў глінянага посуду. Адносіцца да палескага варыянта днепра-данецкай культуры, датуецца 3-м тысячагоддзем да н. э.

Матэрыялы даследавання захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

*Літ.:* Исаенко В. Ф. Неолит Припятского Полесья.— Мн. 1976. *У. Ф. Ісаенка.*

в. Вялаўск, Петрыкаўскі сельсавет

**1428. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 2 км на паўночны захад ад вёскі, ва ўрочышчы Прыбітуха. 7 насыпаў вышынёй 0,8—1 м, дыяметрам 5—8 м. Адкрыў і даследаваў у 1889 г. У. З. Завітневіч, які раскапаў 3 курганы, абследавалі ў 1956 г. Ю. У. Кухарэнка, у 1976 г. В. І. Шадыра.




1426. *Курганны могільнік. План.*

**1429. ПАСЕЛІШЧЫ** (археал.).

**1429а.** Паселішча-1. За 1 км на паўднёвы ўсход ад вёскі, на левым беразе р. Скалодзіна, на вышыні 2—3 м над поплавам і 3 м над летнім межанным узроўнем вады ў рацэ. Даўжыня 120 м. Выявіў і даследаваў у 1965 г. У. Ф. Ісаенка. Культурны пласт 0,25 м. Знойдзены 150 апрацаваных крамянёў, 31 крамянёвая прылада працы, каля 170 фрагментаў глінянага посуду. Адносіцца да палескага варыянта днепра-данецкай культуры, датуецца 3-м тысячагоддзем да н. э.

**1429б.** Паселішча-2. За 0,3 км на паўднёвы ўсход ад паселішча-1, на правым беразе р. Скалодзіна, у месцы яе вытоку з воз. Глінніцкае. Даўжыня больш за 120 м. Выявіў і абследаваў у 1976 г. У. Ф. Ісаенка. Знойдзены крамянёвыя прылады працы і рэшткі керамікі. Адносіцца да палескага варыянта днепра-данецкай культуры, датуецца 3-м тысячагоддзем да н. э.

Матэрыялы абследавання паселішчаў захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

*Літ.:* Исаенко В. Ф. Неолит Припятского Полесья.— Мн., 1976.

*У. Ф. Ісаенка.*

**в. Вялікае Поле, Чалюшчавіцкі сельсавет**

**1430. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). На могілках. Пахаваны 14 воінаў і 3 партызаны, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну. Сярод пахаваных — воіны 130-й стралковай дывізіі 28-й арміі 1-га Беларускага фронту, што ўдзельнічалі ў канцы чэрвеня 1944 г. у баях за вызваленне тэрыторыі сельсавета ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1970 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Вялікія Сялюцічы, Грабаўскі сельсавет**

**1431. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). На заходняй ускраіне вёскі. Раніцай 17.11.1942 г. у вёску ўварваўся карны атрад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. Акупанты сагналі жыхароў у некалькі хат і спалілі. Усіх, хто спрабаваў уцячы, расстрэльвалі. Загінулі 387 чалавек, спалена 180 двароў. У 1967 г. на магіле пастаўлены абеліск.




1428. *Курганны могільнік. План.*



1433. *Помнік на брацкіх могілках савецкіх воінаў.*

**в. Галубіца, цэнтр сельсавета**

**1432. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля будынка выканкома сельсавета. На ўшанаванне памяці 87 жыхароў вёскі, якія загінулі на франтах Вялікай Айчыннай вайны і ў партызанскай барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх акупантаў, у 1975 г. пастаўлены абеліск. На 2 мармуровых плітах імёны загінуўшых.

**в. Гарадзішча, Капаткевіцкі пасялковы Савет**

**1433. БРАЦКІЯ МОГІЛКІ САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны 1113 воінаў 9-га гвардзейскага стралковага корпуса 61-й арміі 1-га Беларускага фронту, якія загінулі зімой 1944 г. у баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1967 г. на могілках пастаўлены помнік — скульптура воіна.

**в. Грабаў, цэнтр сельсавета**

**1434. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На паўднёва-ўсходняй ускраіне вёскі, на могілках. Пахаваны 3 воіны, расстраляныя нямецка-фашысцкімі захопнікамі ў канцы жніўня 1941 г. У 1968 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Дарашэвічы, Ляскавіцкі сельсавет**

**1435. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). У парку, на беразе р. Прыпяць. Пахаваны 18 воінаў і партызан, якія загінулі ў 1944 г. пры вызваленні Петрыкаўскага р-на ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. Сярод пахаваных — Герой Савецкага Саюза Мікалай Палікарпавіч Чалы.

М. П. Чалы нарадзіўся 7.7.1915 г. у г. Купянск Харкаўскай вобл. у сям'і рабочых. Член КПСС з 1941 г. У Чырвонай Арміі з 1936 г. У Вялікую Айчынную вайну на фронце з 1941 г. Удзельнік абароны Адэсы і Севастопаля. Камандзір групы асобнага атрада Дняпроўскай ваеннай флатыліі малодшы лейтэнант М. П. Чалы камандаваў галаўным атрадам у 4 дэсантных аперацыях. 28.6.1944 г. атрад фарсіраваў Прыпяць каля в. Скрыгалаў Мазырскага р-на, пераадолеў драцяную загароду і міннае поле, выявіў размяшчэнне сіл ворага, 29.6.1944 г. заняў в. Конкавічы Петрыкаўскага р-на, што садзейнічала поспеху наступлення Чырвонай Арміі і вызваленню Петрыкава. Загінуў у баі 1.7.1944 г. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 7.3.1945 г. Яго імем названа вуліца ў Петрыкаве, імя героя навечна занесена ў спіс аднаго з вучэбных атрадаў ВМФ.

У 1976 г. на магіле пастаўлены абеліск.

*Літ.:* Кислый Г. П. На притоках Днепра.— М., 1959; Навечно в сердце народном.— 3 изд.— Мн., 1984.

*В. М. Удальцоў.*

**1436. МАГІЛА УРАДАВА** Мікалая Іванавіча (гіст.). На могілках. Савецкі воін М. І. Урадаў загінуў у жніўні 1944 г. пры размініраванні поля каля в. Хлупін. У 1958 г. на магіле пастаўлены абеліск.



1435. *Помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў і партызан.*

**1437. ПАРК** (архіт.). За 1 км на паўднёвы ўсход ад вёскі, на абрывістым беразе р. Прыпяць. Закладзены ў канцы 19 — пачатку 20 ст. Займае амаль прамавугольны участак плошчай каля 8 га. Алеі абмяжоўваюць парк па перыметры. Пераважаюць мясцовыя пароды дрэў, растуць таксама хвоя веймутава, елка чырвоная, дуб чырвоны, конскі каштан звычайны і інш. Раней у цэнтры парку размяшчаўся сядзібны дом з эліпсападобным партэрам перад дваровым фасадам. Ва ўсходняй частцы — сучасны мураваны будынак школы.

Прыклад парку пейзажнага тыпу.

*Т. В. Габрусь.*

**1438. СТАЯНКІ** (археал.).

**1438а.** Стаянка-1. За 1—1,5 км на захад ад вёскі, на другой надпоймавай тэрасе р. Прыпяць, на вышыні 10—12 м над узроўнем вады ў летні межанны перыяд. Працягласць стаянкі ўздоўж дарогі на в. Ляскавічы 0,3 км. Адкрыў у 1962 г. і даследаваў у 1962 і 1965 гг. У. Ф. Ісаенка. Знойдзены 300 крамянёў са слядамі апрацоўкі, 59 крамянёвых прылад працы. Адносіцца да эпохі мезаліту, датуецца 7—6-м тысячагоддзямі да н. э.

**1438б.** Стаянка-2. За 0,3 км на захад ад вёскі, на другой надпоймавай тэрасе р. Прыпяць. Вышыня над узроўнем вады ў летні межанны перыяд 10—13 м, даўжыня 150 м. Адкрыў і даследаваў у 1962 г. У. Ф. Ісаенка. Культурны пласт 0,2 м. Знойдзены рэшткі абпаленых камянёў, якімі абкладваліся агнішчы, 200 крамянёў са слядамі апрацоўкі, 74 крамянёвыя прылады працы і 310 фрагментаў ляпнога глінянага посуду. Помнік адносіцца да палескага варыянта днепра-данецкай культуры, датуецца 3-м тысячагоддзем да н. э.

Матэрыялы даследавання стаянак захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

*Літ.:* Исаенко В. Ф. Неолит Припятского Полесья.— Мн., 1976.

*У. Ф. Ісаенка.*

**в. Зублішча, Колкаўскі сельсавет**

**1439. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 3 воіны, якія загінулі ў 1944 г. у баі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1953 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Камаровічы, цэнтр сельсавета**

**1440. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). Каля будынка выканкома сельскага Савета. Пахаваны 60 воінаў і партызан, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну. Сярод пахаваных — воіны 2-га гвардзейскага кавалерыйскага корпуса, як ў студзені — лютым 1944 г. вёў баі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў на тэрыторыі раёна. У 1978 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна ў жалобе.

**1441. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА Ў ГОНАР ПАЛЕСКАГА ПАДПОЛЬНАГА АБКОМА КП(б)Б І ШТАБА ПАРТЫЗАНСКАГА ЗЛУЧЭННЯ ПАЛЕСКАЙ ВОБЛАСЦІ** (гіст.). На будынку Дома культуры. Устаноўлена ў 1983 г. У канцы зімы — пачатку вясны 1943 г. у вёсцы размяшчаліся Палескі падпольны абком КП(б)Б і штаб партызанскага злучэння Палескай вобл.

Палескі падпольны абком КП(б)Б дзейнічаў з 9.2.1943 г. да ліпеня 1944 г. Сакратары Ф. М. Языковіч (да 7.4. 1943 г., загінуў), І. Дз. Вятроў (з 7.8. 1943 г., першы сакратар), М. І. Малінін (4.8.1943 г.— люты 1944 г., другі сакратар); члены абкома А. Ц. Міхайлоўскі (2.4.1943 г.— ліпень 1944 г.), Ф. І. Паўлоўскі (2.4.1943 г.— май 1944 г.), М. Л. Пінязік (2.4.1943 г.— кастрычнік 1943 г.), Я. А. Татараў (2.4.1943 г.— 4.8.1943 г.), К. М. Бакун (5.10.1943 г.— 28.10.1943 г.), І. В. Скалабан (5.10.1943 г.— красавік 1944 г., загінуў), Р. І. Слепаў (5.10.1943 г.— люты 1944 г.). Дыслацыраваўся ў Капаткевіцкім і Акцябрскім р-нах. Узначальваў камуністычнае падполле і партызанскі рух на тэрыторыі Палескай вобл. Пад кіраўніцтвам абкома дзейнічалі Калінкавіцкі гарадскі і 17 раённых падпольных камітэтаў партыі, падпольныя абком і 16 райкомаў ЛКСМБ. Друкаваны орган — газета «Бальшавік Палесся».

Партызанскае злучэнне Палескай вобл. створана 15.3.1943 г. Яго аснову склалі партызанскія атрады, якія дзейнічалі на поўначы Палескай вобл. (з мая 1942 г. да 15.3.1943 г. увахо-дзілі ў злучэнне партызанскіх атрадаў Мінскай і Палескай абласцей). Камандзіры Ф. М. Языковіч (сакавік — красавік 1943 г., загінуў), К. М. Бакун (красавік — верасень 1943 г., в. а.), І. Дз. Вятроў (верасень 1943 г.— сакавік 1944 г.), Р. М. Дарошка (красавік — ліпень 1944 г., в. а.); начальнікі штаба К. М. Бакун (сакавік — красавік 1943 г.), Р. М. Дарошка (красавік 1943 г.— красавік 1944 г.), А. І. Неўскі (красавік — ліпень 1944 г.). З мэтай пашырэння і актывізацыі партызанскага руху кіраўніцтва злучэння правяло перадыслакацыю часткі атрадаў, былі створаны новыя атрады і брыгады. На час злучэння (верасень 1943 г.— ліпень 1944 г.) з часцямі Чырвонай Арміі яны налічвалі каля 9 тыс. партызан.

У маі 1943 г. у складзе партызанскага злучэння Палескай вобл. створана злучэнне партызанскіх атрадаў паўднёва-прыпяцкай зоны. Камандзіры М. С. Дзьячэнка (май — верасень 1943 г., загінуў), А. М. Бяленчык (верасень 1943 г.— студзень 1944 г.); камісар А. М. Бяленчык); начальнік штаба Р. С. Аўдзяйчук. Каардынавала дзеянні партызан у Ельскім, Лельчыцкім, Мазырскім, Нараўлянскім і Тураўскім р-нах. Злучылася з часцямі Чырвонай Арміі (лістапад 1943 г.— студзень 1944 г.); каля 3 тыс. партызан.

За час дзейнасці партызаны злучэння разграмілі 178 гарнізонаў, 40 баз ворага, пусцілі пад адхон і абстралялі 1192 эшалоны з жывой сілай і тэхнікай праціўніка, вывелі са строю 4 бронепаязды, 128 танкаў і бронемашын, збілі 16 самалётаў, падарвалі больш за 50 тыс. рэек, 332 масты, разбурылі больш за 160 км ліній сувязі, знішчылі і ўзялі ў палон 45 тыс. варожых салдат і афіцэраў. Узаемадзейнічалі з часцямі 65-й, 61-й і 28-й армій Беларускага (з 17.2.1944 г. 1-ы Беларускі) фронта ў баях пры захопе пераправаў на Дняпры, вызваленні Палескай вобл. ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. Партызанам злучэння Ц. П. Бумажкову, Ф. І. Паўлоўскаму, Р. А. Такуеву і Ф. А. Малышаву прысвоена званне Героя Савецкага Саюза, многія партызаны ўзнагароджаны ордэнамі і медалямі.

*Літ.:* Подпольные партийные органы Компартии Белоруссии в годы Великой Отечественной войны (1941—1944).— Мн., 1975; В грозные годы.— Мн., 1973; Партизанские формирования Белоруссии в годы Великой Отечественной войны (июнь 1941 — июль 1944).— Мн., 1983.

*В. М. Удальцоў.*

**г. п. Капаткевічы, цэнтр пасялковага Савета**

**1442. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). На паўночна-ўсходняй ускраіне пасёлка. Пахаваны 23 жыхары, якіх вясной 1942 г. у час карнай аперацыі загубілі нямецка-фашысцкія захопнікі. У 1968 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**1443. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). На паўночна-ўсходняй ускраіне пасёлка (на былых польскіх могілках). Пахаваны жыхары пасёлка П. П. Шаўчук, Е. М. Казырэўскі, П. С. Харланаў і Н. С. Харланава, закатаваныя 3.5.1942 г. нямецка-фашысцкімі захопнікамі. У 1968 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**1444. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА Ў ГОНАР КАПАТКЕВІЦКАГА ПАРТЫЗАНСКАГА АТРАДА** (гіст.). Вул. Энгельса, 8. Устаноўлена ў 1975 г.

Капаткевіцкі партызанскі атрад створаны 17.8.1941 г. у Церабоўскім сельсавеце з байцоў Капаткевіцкага знішчальнага батальёна. Дзейнічаў да 23.10.1941 г., потым раздзяліўся на групы. У студзені 1942 г. паводле ўказання Мінскага падпольнага абкома КП(б)Б узноўлены на базе груп А. Ц. Міхайлоўскага, Я. Г. Кліменценкі, А. С. Вырвіча, А. А. Жыгара, Стральцова — І. П. Юрасава. Дзейнічаў на тэрыторыі Палескай вобл. (Акцябрскі, Капаткевіцкі, Петрыкаўскі, Глускі, Жыткавіцкі р-ны). З студзеня да красавіка 1942 г. арганізацыйна ўваходзіў у «гарнізон Ф. І. Паўлоўскага», потым дзейнічаў самастойна. Атрад удзельнічаў у раз-

громе варожых гарнізонаў у Азарычах, Валосавічах, Муляраўцы і інш. Вясной і восенню 1942 г. абараняў Акцябрскую партызанскую зону ад нямецка-фашысцкіх карнікаў, прымаў удзел у знішчэнні фашысцкага гарнізона на станцыі Пціч, чыгуначнага моста цераз р. Пціч (аперацыя «Рэха на Палессі», 3.11.1942 г.). З студзеня 1943 г. у складзе 125-й Капаткевіцкай партызанскай брыгады. У чэрвені разбуйнены: сфарміраваны новыя атрады Ф. Дз. Кудраўца і В. А. Вялігіна (з верасня 1943 г. атрады 17-ы і 27-ы). У час аперацыі «Рэйкавая вайна» дзейнічаў на чыгуначным участку Жыткавічы — Калінкавічы. Камандзіры М. І. Гардзіенка, А. Ц. Міхайлоўскі, А. А. Жыгар, Ф. Дз. Кудравец; камісары А. А. Жыгар, Ф. Дз. Кудравец; С. Р. Горбач, І. М. Курбатоўскі.

*Літ.:* Партызанская барацьба беларускага народа ў гады Вялікай Айчыннай вайны.— Мн., 1959; Мачульский Р. Н. Вечный огонь.— 3 изд.— Мн., 1978; Партизанские формирования Белоруссии в годы Великой Отечественной войны (июнь 1941 — июль 1944).— Мн., 1983.

*В. М. Удальцоў.*

**1445. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). На вул. Інтэрнацыянальнай, у скверы. У Вялікую Айчынную вайну на франтах і ў партызанскай барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў загінулі 287 жыхароў пасёлка. У 1968 г. на ўшанаванне памяці землякоў пастаўлена трохгранная стэла з барэльефнымі выявамі воіна, партызана і жанчыны.

**1446. ПОМНІК ЛЕНІНУ** Уладзіміру Ільічу (гіст.). На вул. Інтэрнацыянальнай, перад будынкам бальніцы. Бюст У. І. Леніна ўстаноўлены ў 1950 г.

**1447. ПОМНІК ЛЕНІНУ** Уладзіміру Ільічу (гіст.). На вул. Школьнай, перад будынкам школы-інтэрната. Бюст У. І. Леніна ўстаноўлены ў 1950 г.

**пас. Капцэвічы, цэнтр сельсавета**

**1448. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). Каля Дома культуры. Пахаваны 32 воіны, якія загінулі ў 1941 і 1944 гг. у баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. Сярод пахаваных — воіны 55-й стралковай дывізіі 61-й арміі, якія загінулі ў пачатку ліпеня 1944 г. пры вызваленні пасёлка. У 1982 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптурная кампазіцыя: воін і хлопчык.

**1449. БРАЦКАЯ МАГІЛА ЧЫРВОНААРМЕЙЦАЎ** (гіст.). На паўднёвы ўсход ад станцыі. Пахаваны 5 чырвонаармейцаў, якія загінулі ў ліпені 1920 г. пры вызваленні Беларусі ад войск буржуазнай Польшчы. У 1980 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**1450. КУРГАННЫЯ МОГІЛЬНІКІ** (археал.).

**1450а.** Курганны могільнік-1. За 3,5 км на захад ад пасёлка, ва



**1445.** *Помнік землякам.*

ўрочышчы Дзявочыя Магілы, абапал дарогі ў в. Брынёў. Захавалася 33 насыпы вышынёй 1,1—1,6 м, дыяметрам 10—12 м. Выявіла і абследавала ў 1982 г. В. С. Вяргей. Раскопкі не праводзіліся.

**1450б.** Курганны могільнік-2. За 2 км на паўночны захад ад пасёлка, ва ўрочышчы Дзявочыя Магілы, справа ад дарогі ў в. Брынёў. Захаваліся 2 насыпы вышынёй 1,2 і 1,5 м, дыяметрам 7 і 8 м. Выявіў у 1930 г. А. Рынейскі, які налічыў 17 насыпаў. Абследаваў у 1976 г. В. І. Шадыра. Раскопкі не праводзіліся.



**1453.** *Успенская царква.*

**в. Капцэвічы, Лучыцкі сельсавет**

**1451. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). У парку. Пахаваны 35 воінаў, якія загінулі вясной і летам 1944 г. у баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. Сярод пахаваных — воіны 130-й стралковай дывізіі 28-й арміі, якая вяла тут баі ў канцы чэрвеня 1944 г. У 1966 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна ў жалобе.

**в. Кашэвічы, Лучыцкі сельсавет**

**1452. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны 52 воіны і партызаны, якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў.

128-ы стралковы корпус 28-й арміі 1-га Беларускага фронту 24.6.1944 г. пераправіўся на правы бераг р. Пціч і павёў наступленне ў напрамку г. п. Любань. Воіны 130-й стралковай дывізіі гэтага корпуса вызвалілі шэраг населеных пунктаў Лучыцкага сельсавета, у т. л. в. Кашэвічы. У баі за вызваленне вёскі загінуў 21 савецкі воін.

У 1965 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна ў жалобе.

**1453. УСПЕНСКАЯ ЦАРКВА** (архіт.). У цэнтры вёскі. Пабудавана ў 1642 г. з дрэва.

Спачатку складалася з квадратнага ў плане асноўнага і амаль роўнага з ім па плошчы гранёнага алтарнага зрубаў. У 2-й палове 19 ст. з захаду да асноўнага зруба прыбудавана званіца. Сцены з брусоў пастаўлены падрубамі на камяні і знадворку ашаляваны. Прамавугольныя аконныя праёмы аздоблены ліштвамі. Чацвярык асноўнага аб'ёму пры дапамозе ветразяў і заломаў пераходзіць у двух'ярусны васьміграны верх, завершаны цыбулепадобнай галоўкай. Алтарны зруб і двух'ярусная званіца («чацвярык на чацверыку») завершаны шатровымі дахамі. Ярусы званіцы аддзяляе прычолак, які на паўднёвым і паўночным фасадах аформлены франтонамі. Невялікія франтончыкі аздабляюць таксама паліцы шатровага даху званіцы. У інтэр'еры дамінуе галоўнае двухсветлавое памяшканне, алтарнае раскрываецца праёмам у выглядзе стылізаванай двухпралётнай аркі з зацяжкай. У заходняй частцы над уваходам — хоры з балюстрадай.



**1453.** *Успенская царква. План.*

Царква — помнік драўлянага дойлідства.

*Літ.:* Якімовіч Ю. А. Драўлянае дойлідства Беларускага Палесся. XVII—XIX стст.— Мн., 1978. *Ю. А. Якімовіч.*

**в. Колкі, цэнтр сельсавета**

**1454. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны 67 воінаў і партызан, што загінулі ў Вялікую Айчынную вайну. Сярод пахаваных — воіны 12-й гвардзейскай стралковай дывізіі 61-й арміі Беларускага фронту, якія загінулі ў канцы студзеня 1944 г. У 1966 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна ў жалобе.

**1455. МАГІЛА РАДЗЮКА** Мікалая Герасімавіча (гіст.). На могілках. Камандзір аддзялення асобнага партызанскага атрада І. С. Губіна (партызанскае злучэнне Палескай вобл.) загінуў 19.11.1943 г. у баі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1966 г. на магіле пастаўлены абеліск. Яго імем названа вуліца ў в. Навадворцы Слуцкага р-на.

**в. Конкавічы, цэнтр сельсавета**

**1456. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). Каля будынка выканкома сельсавета. Пахаваны 26 воінаў, што загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. Сярод пахаваных — воіны-дэсантнікі 2-й брыгады рачных караблёў Дняпроўскай ваеннай флатыліі, якія загінулі ў канцы чэрвеня 1944 г. пры вызваленні вёскі. У 1966 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна ў жалобе.

**в. Курыцічы, Смятаніцкі сельсавет**

**1457. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны 41 воін і партызан, што загінулі ў Вялікую Айчынную вайну. Сярод пахаваных — воіны 17-й гвардзейскай кавалерыйскай дывізіі 2-га гвардзейскага кавалерыйскага корпуса і 55-й стралковай дывізіі 61-й арміі, якія загінулі ў студзені — чэрвені 1944 г. у баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1980 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Лучыцы, цэнтр сельсавета**

**1458. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 0,4 км на поўнач ад вёскі, на могілках, на правым беразе р. Пціч. 4 насыпы вышынёй 0,5—1 м, дыяметрам 5—7 м, адзін курган дыяметрам да 17 м. Выявіў у 1930 г. А. Рынейскі, абследавалі ў 1956 г. В. М. Мельнікоўская, у 1976 г. В. І. Шадыра. Раскопкі не праводзіліся.

**1459. ПАРК** (архіт.). На паўднёвы захад ад вёскі, на беразе р. Пціч. Закладзены ў пачатку 20 ст. як сядзібны. Плошча каля 5 га. Участак мае форму няправільнага трохвугольніка з асновай уздоўж берага ракі. 2 бакавыя алеі сыходзяцца ў паўднёвай частцы парку. Пераважаюць дрэвы мясцовых парод: клён, вольха, вярба, ліпа і інш. Пачатковая планіроўка і сядзібныя пабудовы не захаваліся. Помнік садова-паркавага мастацтва. *Т. В. Габрусь.*

**в. Людзвіноў, Смятаніцкі сельсавет**

**1460. МЕСЦА ЗАГУБЫ АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). На паўднёва-ўсходняй ускраіне вёскі. У сакавіку 1943 г. у час карнай аперацыі нямецка-фашысцкія захопнікі спалілі жывымі ў калгасным хляве 125 мірных жыхароў — старых, жанчын, дзяцей. У 1972 г. на месцы гібелі ахвяр фашызму пастаўлены помнік — скульптура старога і дзяўчыны, якая ўскладае кветкі.

**1461. СВІРАН** (архіт.). На паўночнай ускраіне вёскі. Пабудаваны ў 19 — пачатку 20 ст. з дрэва. Уваходзіў у комплекс сядзібных пабудоў.

Прамавугольны ў плане двухпавярховы будынак накрыты вальмавым дахам. Сцены з брусоў (рубка вуглоў «у накладку») пастаўлены падрубамі на штандары. На ніжнім паверсе 2 складскія памяшканні з самастойнымі ўваходамі ў падоўжнай сцяне, на верхнім было некалькі памяшканняў, якія злучаліся з ніжнімі лесвіцамі (унутраная планіроўка зменена). Фасады былі расчлянёны карнізам на 2 ярусы. Другі ярус аформлены арачнымі вокнамі.

Помнік народнага дойлідства. *Ю. А. Якімовіч.*

**в. Ляскавічы, цэнтр сельсавета**

**1462. МАГІЛА ГЛУШКО** Аляксандры (гіст.). На могілках. Партызанка А. Глушко загінула ў 1943 г. у баі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1967 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**1463. МАГІЛА САВЕЦКАГА ВОІНА** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны воін дэсантнага атрада 2-й брыгады рачных караблёў Дняпроўскай ваеннай флатыліі, які загінуў у пачатку ліпеня 1944 г. у баі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў пры вызваленні в. Дарашэвічы. У 1975 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Макарычы, Петрыкаўскі сельсавет**

**1464. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 5 воінаў 219-га асобнага атрада размініравання 89-га стралковага корпуса 61-й арміі 1-га Беларускага фронту, якія загінулі летам 1944 г. пры вызваленні вёскі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1957 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Міцуры, Конкавіцкі сельсавет**

**1465. МАГІЛА ШЭВЕЛЯ** Івана Мікалаевіча (гіст.). На могілках. Партызан атрада імя М. Ф. Сільніцкага 25-й партызанскай брыгады імя П. К. Панамарэнкі І. М. Шэвель загінуў 2.5. 1943 г. пры выкананні баявога задання. У 1970 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Мышанка, цэнтр сельсавета**

**1466. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). За 0,7 км на паўднёвы захад ад вёскі. Пахаваны 44 воіны і партызаны, што загінулі ў барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у Вялікую Айчынную вайну. Сярод пахаваных — 35 воінаў 89-га стралковага корпуса 61-й арміі 1-га Беларускага фронту, якія загінулі ў 1944 г. у баях за вызваленне вёскі. У 1979 г. на магіле пастаўлены абеліск і 4 пліты з імёнамі загінуўшых.




1458. *Курганны могільнік. План.*



1461. *Свіран.*



1466. *Помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў і партызан.*

в. Мяхедавічы, Бабуніцкі сельсавет

**1467. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля будынка школы. На ўшанаванне памяці 170 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну на франтах, у партызанскай барацьбе ці сталі ахвярамі нямецка-фашысцкіх захопнікаў, у 1974 г. пастаўлены помнік — скульптура воіна.

в. Навасёлкі, цэнтр сельсавета

**1468. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). Вул. Леніна. Пахаваны 29 воінаў і партызан, якія загінулі ў 1941—44 гг. у баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1977 г. на магіле пастаўлена стэла.

**1469. ГАРАДЗІШЧА** (археал.). За 2 км на захад ад вёскі, ва ўрочышчы Рымшава гара, каля дарогі на в. Камаровічы, на ўзвышшы. Вышыня з паўднёвага боку 3 м, з усходняга — 4,5 м. Пляцоўка памерам 110×250 м выцягнута з поўдня на поўнач. З паўднёва-заходняга боку да пляцоўкі прымыкае вал даўжынёй 220 м, шырынёй 3—4 м. Роў дрэнна прасочваецца ў паўднёва-заходняй і паўночнай частках, з паўночна-ўсходняга боку мае глыбіню 2 м. Адкрыў і абследаваў у 1976 г. В. І. Шадыра. Раскопкі не праводзіліся. *В. І. Шадыра.*

**1470. МЕМАРЫЯЛЬНЫ КОМПЛЕКС «ЗАГІНУЎШЫМ І ЖЫВЫМ»** (гіст., маст.). На вул. Леніна, каля будынка сярэдняй школы.

У Вялікую Айчынную вайну на тэрыторыі Навасёлкаўскага сельсавета часова размяшчаліся Палескі падпольны абком КП(б)Б, штаб партызанскага злучэння Палескай вобл., дыслацыраваўся штаб 125-й Капаткевіцкай партызанскай брыгады, у складзе якой мужна змагаліся супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў і чэхаславацкія антыфашысты. Барацьбу супраць ворага вялі падпольшчыкі. У гонар партызан і на ўшанаванне памяці 520 землякоў, што загінулі на фронце, у партызанскай барацьбе і ад рук гітлераўскіх карнікаў, у 1975 г. узведзены мемарыяльны комплекс (скульпт. М. Якавенка). 3 стэлы, скульптурная кампазіцыя, Сцяна памяці размешчаны па перыметры рытуальнай плошчы, выкладзенай шэрымі бетоннымі плітамі. Злева — стэлы з барэльефнымі выявамі эпізодаў партызанскай барацьбы, на пярэднім плане — Сцяна памяці з імёнамі загінуўшых землякоў, побач — 3 скульптуры (вышыня 6 м), якія ўвасабляюць баявую садружнасць воіна-франтавіка, партызана і байца-антыфашыста. Справа ад Сцяны памяці скульптура камсамольца-будаўніка — нашчадка баявой і працоўнай славы бацькоў. Скульптуры на невысокіх пастаментах выкананы ў абагульненай форме. Каля ўвахода на плошчу ўстаноўлены гранітны камень з няроўнымі сколамі. На фасаднай частцы яго — барэльефная выява ордэна Вялікай Айчыннай вайны і надпіс: «Загінуўшым і жывым помнік гэты».
*В. М. Удальцоў, Л. Г. Лапцэвіч.*

в. Навасёлкі, Петрыкаўскі сельсавет

**1471. ПАСЕЛІШЧЫ** (археал.).

**1471а.** Паселішча-1. За 1 км на ўсход ад вёскі, на першай надпоймавай тэрасе Прыпяці. Цягнецца ўздоўж ракі больш як на 150 м. Адкрыў і абследаваў у 1961 г. У. Ф. Ісаенка. На паверхні знойдзены крамянёвыя прылады працы і фрагменты неалітычнага гліняная посуду. Датуецца 3-м тысячагоддзем да н. э.

Матэрыялы абследавання захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

**1471б.** Паселішча-2. За 2,5 км на ўсход ад вёскі, ва ўрочышчы Ключыха, на першай надпоймавай тэрасе Прыпяці. Вышыня над летнім межанным узроўнем вады ў рацэ 6—7 м. Даўжыня больш за 200 м. Выявіў і даследаваў у 1961 г. У. Ф. Ісаенка. Культурны пласт 0,3 м зверху перакрыты пяском, месцамі здзірванелы. Ва ўсходняй частцы паселішча, якая паніжаецца ў напрамку да поплава, сабрана большасць знаходак: крамянёвыя наканечнікі стрэл, скрэблы, скрабкі, пласціны, рэшткі посуду. У цэнтральнай частцы паселішча ў яме глыбінёю 0,3 м знойдзены скарб: 11 падрыхтаваных для апрацоўкі крамянёвых жаўлакоў, 1 ядрышча, 1 дыскападобная прылада. Адносіцца да палескага варыянта днепра-данецкай культуры, датуецца 3-м тысячагоддзем да н. э.

Матэрыялы даследавання захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

*Літ.:* Исаенко В. Ф. Неолит Припятского Полесья.— Мн., 1976.
*У. Ф. Ісаенка.*

**1472. РАДЗІМА ДУДАРА** Алеся (гіст.). Беларускі савецкі паэт Алесь Дудар (сапраўднае Дайлідовіч Аляксандр Аляксандравіч) нарадзіўся 24.12. 1904 г. у сям'і селяніна. Сярэднюю адукацыю атрымаў у Мінску (1921 г.). Вучыўся на літаратурна-лінгвістычным аддзяленні педагагічнага факультэта БДУ, працаваў акцёрам у тэатральнай трупе У. Галубка. Друкавацца пачаў у 1921 г. Першыя зборнікі вершаў «Беларусь бунтарская» і «Сонечнымі сцежкамі» выйшлі ў 1925 г. Выдадзены кнігі вершаў «І залацісцей, і сталёвей» (1926 г.), «Вежа» (1928 г.), паэмы «Шанхайскі шоўк» (1926 г.), «Вайна за мір» (1932 г.), «Слуцак» (1935 г.). Асноўныя матывы лірыкі паэта — услаўленне рэвалюцыі, роднай Беларусі, новай вёскі. Напісаў раман «Ваўчаняты» (з А. Александровічам і А. Вольным, 1925 г.). Аўтар зборніка апавяданняў «Марсельеза» (1927 г.), крытычных артыкулаў па пытаннях літаратуры. Перакладаў на беларускую мову творы А. Пушкіна, А. Блока, А. Безыменскага, М. Ціханава, І. В. Гётэ, Ф. Шылера, Г. Гейнэ.

Памёр А. Дудар 25.2.1946 г.

*Літ.:* Пісьменнікі Савецкай Беларусі: Кароткі даведнік.— Мн., 1981.
*В. М. Удальцоў.*

в. Новыя Галоўчыцы, Навасёлкаўскі сельсавет

**1473. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). На паўночна-заходняй ускраіне вёскі. Пахаваны 19 воінаў і партызан, якія загінулі ў 1943—44 гг. у баях су-




1469. *Гарадзішча. План.*



1470. *Мемарыяльны комплекс «Загінуўшым і жывым». Фрагмент.*

прaць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1975 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптуры 2 воінаў.

**1474. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА Ў ГОНАР ШТАБА 125-й КАПАТКЕВІЦКАЙ ПАРТЫЗАНСКАЙ БРЫГАДЫ** (гіст.). Устаноўлена ў 1975 г. на доме, дзе зімою 1943 г. размяшчаўся штаб брыгады.

Брыгада створана ў студзені 1943 г. паводле загаду па партызанскаму злучэнню Мінскай і Палескай абласцей на базе асобных атрадаў Капаткевіцкага, «Балотнікава» (І. Н. Глушко), М. Ф. Бабкова, Р. І. Краўца, А. Р. Волкава (з верасня 1943 г. атрад 39-ы), 2-га Капаткевіцкага. З сярэдзіны сакавіка 1943 г. у партызанскім злучэнні Палескай вобл. Камандзіры брыгады А. А. Жыгар (студзень 1943 г.— сакавік 1944 г.), М. Д. Куранаў (з сакавіка 1944 г.), камісары І. В. Скалабан (студзень — ліпень 1943 г.), Ф. Дз. Кудравец (з ліпеня 1943 г.). Брыгада дзейнічала на акупіраванай тэрыторыі Капаткевіцкага і Петрыкаўскага р-наў. Праводзіла аперацыі пераважна на чыгуначным участку Лунінец — Гомель, на шашэйных і грунтавых дарогах Мазыр — Петрыкаў, Капаткевічы — Пціч, Капаткевічы — Акцябрскі. У лютым — сакавіку 1943 г. атрады прымалі ўдзел у абароне Акцябрска-Любанскай партызанскай зоны ад гітлераўскіх карнікаў, у сакавіку і чэрвені 1943 г. і красавіку 1944 г. разграмілі варожыя гарнізоны на станцыях Муляраўка, Капцэвічы, валасныя ўправы ў вёсках Макарычы, Конкавічы, Асавец, Снядзін. У красавіку — маі 1943 г. пусцілі пад адхон і абстралялі 27 варожых эшалонаў, у жніўні падарвалі больш за 1,7 тыс. рэек, у ноч на 24.6.1944 г. на ўчастку Старушкі — Бабруйск больш за 270 рэек. У красавіку — чэрвені 1944 г. дзейнічалі ў прыфрантавой палосе, здабывалі і перадавалі Чырвонай Арміі каштоўныя звесткі разведкі. Партызанам Ф. А. Малышаву і Р. А. Такуеву прысвоена званне Героя Савецкага Саюза. 29.6.1944 г. брыгада (372 партызаны, атрады 45-ы імя І. І. Маставога, 78-ы дыверсійны і 25-ы) злучылася з Чырвонай Арміяй.

*Літ.:* Всенародное партизанское движение в Белоруссии в годы Великой Отечественной войны. Т. 2. Кн. 1—2.— Мн., 1973—78; Мачульский Р. Н. Вечный огонь.— 3 изд.— Мн., 1978; Партизанские формирования Белоруссии в годы Великой Отечественной войны (июнь 1941 — июль 1944).— Мн., 1983. *В. М. Удальцоў.*

**в. Праходы, Навасёлкаўскі сельсавет**

**1475. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА Ў ГОНАР ШТАБА ПАРТЫЗАНСКАГА ЗЛУЧЭННЯ ПАЛЕСКАЙ ВОБЛАСЦІ** (гіст.). Устаноўлена ў 1967 г. на доме, дзе ў 1943 г. размяшчаўся штаб партызанскага злучэння Палескай вобл.

**в. Пціч, цэнтр сельсавета**

**1476. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). У прывакзальным скверы. Пахаваны 34 воіны і партызаны, што загінулі ў Вялікую Айчынную вайну. Сярод пахаваных — воіны 415-й стралковай дывізіі 61-й арміі, якія загінулі ў студзені — лютым 1944 г. У 1967 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна.

**1477. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 68 жыхароў вёсак Пціч і Багрымавічы, якіх восенню 1942 г. і зімой 1944 г. у час карных аперацый загубілі нямецка-фашысцкія захопнікі. У 1971 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**1478. МАГІЛА САВЕЦКАГА ВОІНА** (гіст.). На правым беразе р. Пціч, каля чыгуначнага моста. Пахаваны воін, які загінуў у чэрвені 1944 г. у баі супраць нямецка-фашысцкіх акупантаў пры вызваленні вёскі. У 1971 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**1479. МЕСЦА БОЮ 1942 г.** (гіст.).

Па заданню ЦК КП(б)Б і Цэнтральнага штаба партызанскага руху Мінскі падпольны абком КП(б)Б і штаб злучэння партызанскіх атрадаў Мінскай і Палескай абласцей распрацавалі аперацыю «Рэха на Палессі» па знішчэнню чыгуначнага моста цераз р. Пціч і разгрому варожага гарнізона на станцыі Пціч. Удзельнічалі ў аперацыі 16 партызанскіх атрадаў (1300 чалавек), кіраўнік — упаўнаважаны ЦК КП(б)Б Р. Н. Мачульскі. 3.11.1942 г. часткай сіл партызаны ізалявалі нямецка-фашысцкі гарнізон у Пцічы ад суседніх гарнізонаў праціўніка. Атрады А. І. Далідовіча і М. М. Розава павялі наступленне на станцыю. Спецыяльная група, створаная з атрадаў А. А. Жыгара, Р. І. Краўца і імя Гастэлы захапіла мост і забяспечыла яго падрыў. У выніку аперацыі рух на чыгуначным участку Жыткавічы — Калінкавічы спыніўся на 18 сутак.

У 1957 г. у памяць аб баявой аперацыі партызан на будынку чыгуначнай станцыі Пціч устаноўлена мемарыяльная дошка.

*Літ.:* Мачульский Р. Н. Вечный огонь.— 3 изд.— Мн., 1978; Брюханов А. И. В штабе партизанского движения.— Мн., 1980. *В. М. Удальцоў.*

**1480. РАДЗІМА ДЗЯГЦЯРА** Моты Ізраілевіча (гіст.).

Яўрэйскі савецкі пісьменнік М. І. Дзягцяр нарадзіўся 15.7.1909 г. Працаваў на Мінскім скураным заводзе «Бальшавік», потым мулярам на будоўлях горада. У 1937 г. скончыў літаратурны факультэт Мінскага пединстытута. З 1937 г. у Чырвонай Арміі. Літаратурную дзейнасць пачаў у 1930 г. Першы зборнік твораў «На рыштаваннях» выдаў у 1934 г. Выйшлі зборнікі нарысаў, апавяданняў і аповесцей «Савецкая Беларусь» (1935 г.), «Будаўнікі» (1936 г.), «Браты» (1937 г.), «Верныя вартавыя» (1938 г.), «Наша зямля» (1939 г.). Творы пісьменніка ўслаўляюць стваральную працу савецкага чалавека, прасякнуты грамадзянскай адказнасцю. Памёр М. І. Дзягцяр 9.11.1939 г.

*В. М. Удальцоў.*

**в. Рог, Пціцкі сельсавет**

**1481. РАДЗІМА САМБУКА** Івана Елісеевіча (гіст.).

Герой Савецкага Саюза І. Е. Самбук нарадзіўся 28.7.1919 г. у сялянскай сям'і. Член КПСС з 1942 г. У 1956 г. скончыў Харкаўскую ваенна-інжынерную радыётэхнічную акадэмію процапаветранай абароны імя Л. А. Говарава. У Чырвонай Арміі з 1939 г. У Вялікую Айчынную вайну з жніўня 1941 г. на Паўднёвым, Заходнім, Бранскім, Цэнтральным і 1-м Украінскім франтах. Камандзір агнявога ўзвода гвардыі старшы сяржант І. Е. Самбук вызначыўся ў баях на Курскай дузе, пры фарсіраванні Дзясны, Дняпра і Прыпяці. У перыяд абарончых баёў на Арлоўска-Курскім напрамку ў ліпені 1943 г. ўзвод пад яго камандаваннем 3 дні адбіваў контратакі ворага, пры фарсіраванні рэк агнём з гармат садзейнічаў пераправе і наступленню палка. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 10.10. 1943 г. Гаўбіца, разлікам якой камандаваў І. Е. Самбук, экспануецца ў Беларускім дзяржаўным музеі гісторыі Вялікай Айчыннай вайны. Да 1964 г. служыў у Савецкай Арміі, з кастрычніка 1965 г. на выкладчыцкай рабоце ў Мінскім радыётэхнічным тэхнікуме. Памёр 27.5.1979 г.

*Літ.:* Навечно в сердце народном.— 3 изд.— Мн., 1984. *В. М. Удальцоў.*

**в. Снядзін, цэнтр сельсавета**

**1482. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). У парку. Пахаваны 19 воінаў і партызан. Сярод пахаваных — воіны 55-й стралковай дывізіі 61-й арміі, якія загінулі ў 1944 г. ў баях супраць нямецка-фашысцкіх акупантаў. У 1967 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна.

**в. Сякерычы, Колкаўскі сельсавет**

**1483. МАГІЛА САВЕЦКАГА ВОІНА** (гіст.). На могілках. Савецкі воін (прозвішча не ўстаноўлена) загінуў у 1944 г. у баі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1974 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**пас. Трэмля,**
**Капаткевіцкі пасялковы Савет**

**1484. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). Каля адміністрацыйнага будынка рыбакамбіната «Трэмля». Пахаваны 80 воінаў 12-й гвардзейскай стралковай дывізіі 9-га гвардзейскага стралковага корпуса 61-й арміі Беларускага фронту, якія загінулі ў студзені — пачатку лютага 1944 г. у баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1965 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна.

**1485. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). За 1 км на захад ад пасёлка, ва ўрочышчы Ваенны Гарадок. Пахаваны 32 воіны 9-га гвардзейскага стралковага корпуса 61-й арміі, якія загінулі ў лютым 1944 г. у баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1978 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура жанчыны ў жалобе.

**1486. БРАЦКІЯ МОГІЛКІ САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). У цэнтры пасёлка. Пахаваны 90 воінаў і партызан, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну. Сярод пахаваных — 89 воінаў 12-й гвардзейскай стралковай дывізіі 9-га гвардзейскага стралковага корпуса 61-й арміі, якія загінулі ў лютым 1944 г. у баях за вызваленне пасёлка. У 1965 г. на могілках пастаўлены помнік — скульптура воіна.

**в. Фаставічы, Камаровіцкі сельсавет**

**1487. ГАРАДЗІШЧА, КУРГАН** (археал.).

**1487а.** Г а р а д з і ш ч а. За 3 км на захад ад вёскі, ва ўрочышчы Крывуля. Пляцоўка амаль круглая, памерам 22×20 м, абкружана валам вышынёй з унутранага боку 1,2 м, з вонкавага — ад 0,5 да 2,5 м, шырынёй 2—3 м. Выявіў і абследаваў у 1976 г. В. І. Шадыра. Культурны пласт 0,2 м з вялікай колькасцю шлакаў і вуголля. Раскопкі не праводзіліся.

**1487б.** К у р г а н. За 3 км на паўночны захад ад вёскі, у лесе. Вышыня 0,9 м, дыяметр 6 м. Выявіў у 1930 г. А. Рынейскі, абследаваў у 1976 г. В. І. Шадыра.

*Літ.:* Р ы н е й с к і А. Археалагічныя разведкі на р. Пціч.— У кн.: Працы секцыі археалогіі. Мн., 1932, т. 3. *В. І. Шадыра.*

**в. Хвойня, Лучыцкі сельсавет**

**1488. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). На могілках. Пахаваны 9 воінаў і партызан, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну. Сярод пахаваных — воіны 130-й стралковай дывізіі 128-га стралковага корпуса 28-й арміі, што загінулі ў канцы чэрвеня 1944 г. у баі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў пры вызваленні вёскі, і камандзір партызанскага атрада брыгады Ф. І. Паўлоўскага (з студзеня 1944 г.— 123-я партызанская брыгада імя 25-годдзя БССР) А. Ф. Каваленка, які загінуў 21.6.1942 г. У 1975 г. на магіле пастаўлены абеліск.




**1489а.** *Гарадзішча-1. План.*

**1489. ГАРАДЗІШЧЫ** (археал.).

**1489а.** Г а р а д з і ш ч а - 1. Мясцовая назва А к о п. За 5,5 км на паўночны ўсход ад вёскі, ва ўрочышчы Цітавіцкае, справа ад дарогі на в. Падгаць. Пляцоўка круглая, дыяметрам 120 м, абнесена валам вышынёй з вонкавага боку 2 м, з унутранага — 1,5 м, шырынёй 4,5 м. З паўночна-заходняга боку да асноўнага вала прымыкае дадатковы вышынёй 2 м, шырынёй 6 м. Выявіў і абследаваў у 1976 г. В. І. Шадыра.

**1489б.** Г а р а д з і ш ч а - 2. Мясцовая назва А к о п. За 1 км на паўднёвы ўсход ад вёскі. Пляцоўка авальная, памерам 80×90 м, абнесена валам вышынёй 1—1,2 м, шырынёй 2—2,5 м. Выявіў у 1930 г. А. Рынейскі, абследавалі ў 1961 г. В. В. Сядоў, у 1964 г. Ю. У. Кухарэнка, у 1976 г. В. І. Шадыра.

**1489в.** Г а р а д з і ш ч а - 3. За 2 км на ўсход ад вёскі, у лесе. Пляцоўка памерам 84×93 м абнесена валам вышынёй 0,5 м. Выявіў у 1930 г. А. Рынейскі, абследавалі ў 1961 г. В. В. Сядоў, у 1964 г. Ю. У. Кухарэнка, у 1976 г. В. І. Шадыра.

**1489г.** Г а р а д з і ш ч а - 4. За 5 км на паўночны ўсход ад вёскі, ва ўрочышчы Навіна, у лесе. Пляцоўка дыяметрам каля 100 м умацавана валам вышынёй 0,5—1,1 м. Выявіла і абследавала ў 1982 г. В. С. Вяргей. Раскопкі гарадзішчаў не праводзіліся.

*Літ.:* Р ы н е й с к і А. Археалагічныя разведкі на р. Пціч.— У кн.: Працы секцыі археалогіі. Мн., 1932, т. 3; К у х а р е н к о Ю. В. Средневековые памятники Полесья.— М., 1961. *В. І. Шадыра.*

**1490. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). На ўсходняй ускраіне вёскі. Пахаваны 407 мірных грамадзян, якіх 29.3.1942 г. загубілі нямецка-фашысцкія захопнікі. У 1951 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**1491. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). На паўднёвай ускраіне вёскі. Пахаваны 252 жыхары, якіх 29.3. 1942 г. загубілі нямецка-фашысцкія захопнікі. У 1957 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**1492. МАГІЛА ЛІПУНОВА** Аляксандра Якаўлевіча (гіст.). На могілках.

Герой Савецкага Саюза А. Я. Ліпуноў нарадзіўся 25.2.1906 г. у в. Хвойня ў сялянскай сям'і. У 1937 г. скончыў у Свярдлоўску горны тэхнікум. Працаваў у геалагічных экспедыцыях. У Вялікую Айчынную вайну на фронце з ліпеня 1941 г. Удзельнік баёў пад Масквой, на Курскай дузе. Памочнік камандзіра ўзвода разведкі старшына А. Я. Ліпуноў вызначыўся ў баях на



1491. *Помнік на магіле ахвяр фашызму.*

тэрыторыі Польшчы. 25.1.1945 г. каля г. Дэмбаў з групай разведчыкаў выявіў у тыле ворага абарончыя збудаванні, захапіў 2 «языкоў», што садзейнічала разгрому гарнізона ў горадзе. У час прарыву варожай абароны на граніцы Германіі разведаў размяшчэнне агнявых кропак праціўніка, знішчыў 40 і захапіў у палон 35 гітлераўцаў. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 27.2.1945 г. Пасля вайны працаваў у геолагаразведачных партыях, з 1957 г. жыў у г. Бабруйск. Памёр 21.8.1962 г.

У 1977 г. на магіле пастаўлены абеліск.

*Літ.:* Навечно в сердце народном.— 3 изд.— Мн., 1984.

**1493. МАГІЛА ПАШУКА** Анікея Гардзеевіча (гіст.). На могілках. А. Г. Пашук нарадзіўся ў 1883 г. Служыў на Чарнаморскім флоце. Удзельнік Кастрычніцкай рэвалюцыі. Пасля ўстанаўлення Савецкай улады на Гомельшчыне ўзначальваў рэўком Лучыцкай воласці. Вясной 1918 г. расстраляны белабандытамі. У 1973 г. на магіле пастаўлены абеліск. *В. М. Удальцоў.*

**1494. МАГІЛА ХОДЗЬКІ** Івана Якаўлевіча (гіст.). На могілках. Партызан І. Я. Ходзька быў схоплены фашыстамі ў пачатку мая 1944 г. каля в. Зацішша Акцябрскага р-на і пасля жорсткіх катаванняў 10.5.1944 г. расстраляны. У 1969 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**1495. МОГІЛКІ АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). На паўднёвай ускраіне вёскі. 29.3.1942 г. нямецка-фашысцкія карнікі акружылі вёску. Жыхароў сагналі ў 2 калгасныя свірны, аблілі бензінам і запалілі. Хворых і тых, хто не мог ісці, карнікі расстралялі ў хатах. Загінулі 1419 жыхароў, спалены 350 двароў. У 1951 г. на могілках пастаўлены абеліск.

**в. Хуснае, Пціцкі сельсавет**

**1496. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны 866 воінаў і партызан. Сярод пахаваных — воіны 9-га гвардзейскага стралковага корпуса 61-й арміі, якія загінулі ў студзені — лютым 1944 г. у баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1966 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна ў жалобе.

**в. Церабаў, Мышанскі сельсавет**

**1497. БРАЦКІЯ МОГІЛКІ САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). Каля школы. Пахаваны 144 воіны, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну. Сярод пахаваных — воіны 9-га гвардзейскага стралковага корпуса 61-й арміі Беларускага фронту, што загінулі ў студзені — лютым 1944 г. У 1967 г. на могілках пастаўлены абеліск.

**в. Чалюшчавічы, цэнтр сельсавета**

**1498. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны 2 воіны, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну. У 1981 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура салдата з аўтаматам.

**в. Шастовічы, Петрыкаўскі сельсавет**

**1499. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). Каля клуба. Пахаваны 18 воінаў і партызан, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну. Сярод пахаваных — воіны 55-й стралковай дывізіі 89-га стралковага корпуса 61-й арміі 1-га Беларускага фронту, што загінулі вясной і летам 1944 г. пры вызваленні Петрыкаўскага р-на ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1971 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптуры старога і дзяўчынкі.

**1500. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 2 км на паўночны захад ад вёскі, справа ад дарогі на в. Глініца. 19 курганоў вышынёй 0,3—1,1 м, дыяметрам 3—14 м. Насыпы выцягнуты па лініі ўсход — захад. Выявіў у 1930 г. А. Рынейскі, абследаваў у 1976 г. В. І. Шадыра. Раскопкі не праводзіліся.

**1501. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 25 жыхароў вёскі (пераважна жанчыны і дзеці), якіх расстралялі ў 1943 г. нямецка-фашысцкія захопнікі. У 1964 г. на магіле пастаўлены абеліск.



1496. *Помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў і партызан.*

**1502. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля клуба. На ўшанаванне памяці аднавяскоўцаў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1974 г. пастаўлены помнік — скульптуры старога і дзяўчынкі.



1500. *Курганны могільнік. План.*




# РАГАЧОЎСКІ РАЁН

Рэкта
Азяраны
Вял. Крушынаўка
Станькаў
Зарэчча
Звавец
Хатоўня
Журавічы
Шапчыцы
Балотня
Стар. Сяло
Кісцяні
Ціхінічы
Мадора
Доўск
Заполле
Серабранка
Дварэц
РАГАЧОЎ
Збароў
Кашара
Стрэнькі
Гадзілавічы
Новы Крыўск
Турск
Курганне
Забалацце
Ходасавічы
Красніца
Побалава
Вострaў
Лучын
Вял. Стралкі
Высокае
Гарадзец
Беліцк
Стоўпня

Цэнтр раёна

Цэнтры сельсаветаў

Стаянкі, паселішчы, гарадзішчы

Могільнікі (грунтавыя, курганныя), курганы

Помнікі і месцы рэвалюцыйнага руху (Рэвалюцыя 1905–07 гг., Вялікая Кастрычніцкая сацыялістычная рэвалюцыя, Грамадзянская вайна, барацьба працоўных Заходняй Беларусі)

Помнікі і памятныя месцы Вялікай Айчыннай вайны (месцы баёў, магілы савецкіх воінаў і партызан, Курганы Славы, помнікі землякам і інш.)

Помнікі ахвярам фашызму (месцы канцлагераў і лагераў смерці, месцы масавай загубы насельніцтва, спаленыя і неадноўленыя вёскі і інш.)

Помнікі і месцы, звязаныя з імёнамі савецкіх партыйных, дзяржаўных і гаспадарчых дзеячаў, дзеячаў культуры, навукі і тэхнікі

Жылыя дамы, забудова вуліц савецкага перыяду

Культавая архітэктура

Адміністрацыйныя і грамадскія збудаванні савецкага перыяду

Паркі і садова-паркавыя збудаванні

## XX. РАГАЧОЎ

Горад абласнога падпарадкавання, цэнтр раёна. За 121 км ад Гомеля. Прыстань на правым беразе Дняпра, за 2 км ад зліцця з ім р. Друць. Чыгуначная станцыя на лініі Магілёў — Жлобін, на аўтамабільнай дарозе Бабруйск — Крычаў.

Умацаваны цэнтр старажытнага Рагачова быў размешчаны на месцы гарадзішча мілаградскай і штрыхаванай керамікі культур. У пісьмовых крыніцах упершыню ўпамінаецца пад 1142 г., уваходзіў, магчыма, у Тураўскае княства. З канца 13 ст.— у складзе Вялікага княства Літоўскага, з 1509 г. належаў вялікаму князю. Як умацаваны замак упамінаецца з 1567 г., меў стратэгічнае значэнне. Спалены ў 1654 г. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772 г.) у складзе Расійскай імперыі, цэнтр павета. З 1802 г. цэнтр павета ў Магілёўскай губерні. Каля 3 тыс. жыхароў, 6 дробных прадпрыемстваў з 20 рабочымі. Паводле перапісу 1897 г. у Рагачове 9038 жыхароў, з іх 54,8 % непісьменных. У 1900 г. працавала 36 фабрык і заводаў з 173 рабочымі. Хуткае развіццё горада пачалося ў пачатку 20 ст. пасля пабудовы ў 1902 г. чыгуначнай лініі Магілёў — Жлобін. У 1913 г. тут было 50 прадпрыемстваў з 185 рабочымі. Буйнейшыя з іх — 2 канатна-вяровачныя фабрыкі (44 рабочыя), 3 цагельна-чарапічныя прадпрыемствы (44 рабочыя) і лесапільня (21 рабочы). Працавалі настаўніцкая семінарыя і рэальнае вучылішча.

Працоўныя Рагачова пад кіраўніцтвам мясцовых сацыял-дэмакратаў прымалі актыўны ўдзел у Рэвалюцыі 1905—07 гг. У горадзе адбыліся забастоўкі. У сакавіку 1917 г. створаны Савет рабочых дэпутатаў. 31.5.(13.6.) 1917 г. афармілася бальшавіцкая арганізацыя, выбраны камітэт. Савецкая ўлада ўстаноўлена ў лістападзе 1917 г., створаны ваенна-рэвалюцыйны камітэт і атрад Чырвонай гвардыі. 13—30.1.1918 г. Рагачоў акупіраваны войскамі корпуса Доўбар-Мусніцкага, з лютага да 22.11.1918 г.— войскамі кайзераўскай Германіі. Дзейнічала падпольная камуністычная арганізацыя. З мая 1919 г. горад у складзе Гомельскай губерні, у 1924—30 гг. цэнтр раёна Бабруйскай акругі, з 15.1. 1938 г. у Гомельскай вобл. Паводле перапісу 1939 г. у Рагачове 15,2 тыс. жыхароў. У Вялікую Айчынную вайну ў пачатку ліпеня 1941 г. акупіраваны нямецка-фашысцкімі захопнікамі. 13.7.1941 г. у выніку Рагачоўска-Жлобінскай аперацыі 1941 г. вызвалены Чырвонай Арміяй. У жніўні 1941 г. зноў акупіраваны нямецка-фашысцкімі захопнікамі, якія загубілі тут каля 3,5 тыс. жыхароў. На тэрыторыі раёна дзейнічалі падпольныя райкомы КП(б)Б і ЛКСМБ (15.8. 1941 г.— 28.6.1944 г.), камсамольскае падполле. Вызвалены 24.2.1944 г. у выніку Рагачоўскай наступальнай аперацыі войскамі 3-й (генерал-лейтэнант А. В. Гарбатаў) і 50-й (генерал-лейтэнант І. В. Болдзін) армій 1-га Беларускага фронту (генерал арміі К. К. Ракасоўскі). 13 вайсковым злучэнням і часцям, якія ўдзельнічалі ў вызваленні горада, нададзены ганаровыя найменні «Рагачоўскіх».

Першы план забудовы Рагачова, распрацаваны і зацверджаны ў 1778 г., вызначыў дакладную прамавугольную сетку вуліц. Геаметрычная кампазіцыя плана стваралася з улікам напрамку ракі, падкрэслівала яе значэнне, асноўныя архітэктурныя дамінанты горада. З улікам гістарычнай планіровачнай структуры выкананы генеральныя планы забудовы горада 1947 і 1959 гг. (Гомельскі аблпраект) і план дэталёвай планіроўкі 1971 г. (Гомельскі філіял інстытута «Белдзяржпраект»). Планіровачна горад падзелены на 3 часткі: Цэнтральную, Залінейную і Задруцкую. Галоўныя вуліцы горада — Леніна і Кастрычніцкая. Тут узведзены 5-павярховыя жылыя будынкі. Цэнтральную плошчу фарміруюць будынкі райвыканкома, Дома піянераў і школьнікаў, Дома культуры, гасцініцы, будынак спартыўнага комплексу, сквер.

Прамысловыя прадпрыемствы размешчаны пераважна ў паўночнай і паўднёва-заходняй частках горада: заводы жалезабетонных вырабаў, «Дыяпраектар», камбікормавы, хлебазавод, вінзавод, будаўнічых матэрыялаў, малочнакансервавы і кансервава-піваварны камбінаты. Працуюць раённыя аб'яднанні Дзяржкамсельгастэхнікі і «Сельгасхімія», камбінат бытавога абслугоўвання.

У горадзе медыцынскае, педагагічнае, прафесійна-тэхнічнае будаўнікоў, тэхнічнае металістаў вучылішчы, 6 сярэдніх агульнаадукацыйных школ усіх відаў навучання, 2 юнацка-спартыўныя і мастацтваў школы, 9 дашкольных устаноў, Дом піянераў і школьнікаў, Дом культуры, спартыўны комплекс з плавальным басейнам, кінатэатр, 6 клубных устаноў, 3 бібліятэкі, народны тэатр раённага Дома культуры, музей народнай славы, бальніца. Выдаецца раённая газета «Камунар». Помнікі: У. І. Леніну; Вызвалення; на брацкай магіле чырвонагвардзейцаў; на вайсковых могілках; на 2 брацкіх магілах савецкіх воінаў; Курган Славы і інш.

Зона адпачынку — Піянерскі парк, парк імя В.-А. Ф. Цымермана, берагі Дняпра.

*Літ.:* Егоров Ю. А. Градостроительство Белоруссии.— М., 1954; Дончик В. Д. Рогачев: Историко-экономический очерк.— Мн., 1974; Обзор Могилевской губернии за 1900 год.— Могилев, 1901; Обзор Могилевской губернии за 1913 год.— Могилев, 1915.

*А. А. Міцянін, Э. М. Савіцкі.*

**1503. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На старых могілках. Пахаваны 258 воінаў 3-й арміі 1-га Беларускага фронту, якія загінулі ў 1944 г. пры вызваленні горада ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1967 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна.

**1504. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). Каля чыгуначнага вакзала, у скверы. Пахаваны 4 воіны 3-й арміі 1-га Беларускага фронту, якія загінулі ў 1944 г. пры вызваленні горада ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1958 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна.

**1505. БРАЦКАЯ МАГІЛА ЧЫРВОНАГВАРДЗЕЙЦАЎ** (гіст.). Вул. Леніна, каля парку імя В.-А. Ф. Цымермана. Пахаваны 19 чырвонагвардзейцаў, якія загінулі ў студзені 1918 г. у баях супраць легіянераў 1-га польскага корпуса Доўбар-Мусніцкага. Помнік на магіле пастаўлены ў першыя гады Савецкай улады, у Вялікую Айчынную вайну разбураны нямецка-фашысцкімі захопнікамі. У 1956 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**1506. БУДЫНАК ДВАРАНСКАГА ВУЧЫЛІШЧА** (архіт.). Вул. Цымермана, 36. Пабудаваны ў 1903—05 гг. з цэглы. Цяпер тут сярэдняя школа № 2.

Двухпавярховы Г-падобны ў плане будынак накрыты вальмавым дахам. Галоўны фасад мае сіметрычную кампазіцыю з трохпавярховай цэнтральнай часткай і рызалітамі па баках. Бакавое крыло завершана бельведэрам, да тарца прыбудаваны невялікі аднапавярховы аб'ём. Вокны прамавугольныя. Вулічныя фасады атынкаваныя, афарбаваны ў 2 колеры: дэталі архітэктурнай аздобы (лапаткі, нішы, філёнгі) белыя, прасценкі ружовыя. У цэнтральнай частцы над вестыбюлем размешчана двухсветлавая зала. Па восі ўвахода — трохмаршавая лесвіца. Планіроўка калідорная, аднабаковая.



**1506.** *Будынак былога дваранскага вучылішча.*

Будынак вучылішча — помнік архітэктуры з выкарыстаннем элементаў неакласіцызму. *Т. В. Габрусь.*

**1507. БУДЫНАК ЗЕМСКАЙ УПРАВЫ** (архіт.). Вул. Леніна, 62. Пабудаваны ў 1909 г. з цэглы. Цяпер тут раённы Дом піянераў і школьнікаў.

Будынак асіметрычнай аб'ёмна-прасторавай кампазіцыі, у якой дамінуе вуглавы аб'ём. Галоўны фасад таксама асіметрычны, падзелены на 4 розныя па памерах часткі, якія завершаны разнастайнымі атыкамі. Прамавугольныя вокны ў кожнай частцы неаднолькавыя па памерах. У дэкоры фасадаў выкарыстаны пілястры, лучковыя і паўцыркульныя нішы, рустоўка. Колернае вырашэнне фасадаў заснавана на кантрастным спалучэнні чырвонай і шэрай тынкоўкі. Унутры выцягнуты вестыбюльна-лесвічны блок аддзяляе вуглавы аб'ём з залай на 2-м паверсе ад крыла з калідорнай планіроўкай памяшканняў, да якога прымыкае аб'ём з самастойнымі ўваходам і лесвіцай.

Будынак — помнік архітэктуры стылю «мадэрн». *Т. В. Габрусь.*

**1508. ВАЙСКОВЫЯ МОГІЛКІ** (гіст.). На вул. Леніна, у Піянерскім парку. Пахаваны 25 савецкіх воінаў і партызан. Сярод пахаваных — Героі Савецкага Саюза Васіль Аляксандравіч Віхіраў, Савелій Рыгоравіч Дрынь, Віталь Міхайлавіч Калеснікаў, Аляксандр Паўлавіч Сярогін, Валерый Сцяпанавіч Уткін.

В. А. Віхіраў нарадзіўся 19.1. 1905 г. у в. Шчыпачова Растоўскага р-на Яраслаўскай вобл. у сялянскай сям'і. Член КПСС з 1929 г. У Вялікую Айчынную вайну на фронце з 1942 г. Камандзір батальёна 4-га матарызаванага пантонна-маставога палка маёр В. А. Віхіраў вызначыўся ў чэрвені 1944 г. пры фарсіраванні Дняпра каля Рагачова. Пад агнём ворага пантанёры пад камандаваннем В. А. Віхірава за 2 сутак навялі цераз Дняпро мост грузападымальнасцю 30 т. Прамым



1507. *Будынак былой земскай управы.*



1508. *Помнік на вайсковых могілках.*

пападаннем снарада мост быў пашкоджаны. В. А. Віхіраў уласным прыкладам натхняў байцоў на аднаўленне пераправы. У чэрвені 1944 г. батальён пад агнём праціўніка пабудаваў мост цераз р. Друць, забяспечыў пераправу савецкіх войск. Загінуў В. А. Віхіраў 24.6.1944 г. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 24.3. 1945 г.

С. Р. Дрынь нарадзіўся 4.1.1912 г. у в. Таўбозіна Унечскага р-на Бранскай вобл. у сялянскай сям'і. У 1928—40 гг. працаваў брыгадзірам у калгасе, начальнікам пажарнай дружыны на радзіме. У Вялікую Айчынную вайну на фронце з верасня 1943 г. Радавы С. Р. Дрынь вызначыўся пры вызваленні Гомельскай вобл. ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. 25.6. 1944 г. у баі каля в. Святое Возера Рагачоўскага р-на кінуўся разам з В. С. Уткіным са звязкай гранат пад самаходную гармату. Цаной свайго жыцця воіны сарвалі контратаку ворага. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 23.8.1944 г.

В. М. Калеснікаў нарадзіўся 15.8.1922 г. у Рагачове ў рабочай сям'і. Член КПСС з 1944 г. З 1940 г. студэнт Рагачоўскага настаўніцкага інстытута. У Чырвонай Арміі з лютага 1941 г. У Вялікую Айчынную вайну з чэрвеня 1941 г. на Заходнім, Бранскім, Цэнтральным і інш. франтах. Камандзір стралковага ўзвода гвардыі малодшы лейтэнант В. М. Калеснікаў вызначыўся ў верасні 1943 г. у баях за г. Чарнігаў і пры фарсіраванні Дняпра ў Камарынскім р-не Палескай вобл. У час бою ўзначаліў роту, якая пад агнём ворага фарсіравала Дняпро. На правым беразе ракі павёў байцоў у штыкавую атаку. За 2 дні рота адбіла 16 атак ворага. Прарваўшы абарону ворага, рота прасунулася наперад на 6 км, вызваліла в. Вялле. У баях за в. Галкі байцы адбівалі ў дзень па 3—4 контратакі. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 15.1.1944 г. Пасля Вялікай Айчыннай вайны В. М. Калеснікаў служыў у Савецкай Арміі. Памёр 27.11.1964 г. Яго імем названа вуліца ў Рагачове.

А. П. Сярогін нарадзіўся 17.8. 1906 г. у в. Балдасоўка Ферзікоўскага р-на Калужскай вобл. у сялянскай сям'і. Член КПСС з 1932 г. У Чырвонай Арміі з 1928 г. У 1941 г. скончыў Вышэйшую афіцэрскую школу штабной службы. У Вялікую Айчынную вайну на фронце з 1942 г. Камандзір стралковага палка гвардыі падпалкоўнік А. П. Сярогін вызначыўся пры вызваленні Камарынскага р-на Палескай вобл. 28.9.1943 г. полк пад яго камандаваннем фарсіраваў Дняпро, прарваў абарону праціўніка і замацаваўся на плацдарме, адбіў контратакі ворага і вызваліў вёскі Вялле і Галкі. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 15.1.1944 г. Пасля Вялікай Айчыннай вайны служыў у Савецкай Арміі, палкоўнік. Памёр 25.7.1977 г.

В. С. Уткін нарадзіўся 14.1.1922 г. у с. Алёшына Сасаўскага р-на Разанскай вобл. у сялянскай сям'і. У Вялікую Айчынную вайну на фронце з 1941 г. Камандзір стралковай роты старшы лейтэнант В. С. Уткін вызначыўся ў баях за вызваленне Рагачоўскага р-на Гомельскай вобл. 25.6. 1944 г. у баі каля в. Святое Возера са звязкай гранат кінуўся разам з С. Р. Дрынем пад самаходную гармату, цаной свайго жыцця воіны сарвалі контратаку ворага. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 23.8.1944 г.




1509а. *Гарадзішча. План.*

У 1957 г. на могілках пастаўлены помнік — скульптура воіна.

*Літ.:* Навечно в сердце народном.— 3 изд.— Мн., 1984. *М. В. Кірэйшын.*

**1509. ГАРАДЗІШЧА, СЕЛІШЧА** (археал.).

**1509а.** Гарадзішча. Мясцовая назва Замкавая Гара. На мысе, пры ўпадзенні р. Друць у Дняпро. Пляцоўка пакатая, памерам 125×90 м. Выявіў у 1855 г. М. В. Без-Карніловіч, абследавалі ў 1929 г. А. Дз. Каваленя, у 1951 г. Ю. У. Кухарэнка, у 1976 г. А. Р. Мітрафанаў. Раскопкі праводзілі ў 1967 г. П. Ф. Лысенка, у 1973, 1975 і 1976 гг. Э. М. Загарульскі. Культурны пласт каля 1,3 м. Знойдзены вырабы з жалеза — цыліндрычныя замкі, сякеры, свердзел, нажы, нажніцы, наканечнікі стрэл, шпоры і інш., шкляныя бранзалеты, шыферныя прасліцы, ганчарная кераміка перыяду Кіеўскай Русі, ляпная кераміка мілаградскай культуры, прасліцы-грузікі (крыжападобныя, шарападобныя, плоскія, круглыя), жалезныя сярпы і рыбалоўныя кручкі ранняга жалезнага веку (6 ст. да н. э.— 2 ст. н. э.). Выяўлены рэшткі ніжняй часткі печы, гаспадарчыя ямы.

**1509б.** Селішча. За 50—150 м на поўнач ад гарадзішча, на беразе Дняпра. Выявіў і абследаваў у 1967 г. Л. Д. Побаль. Культурны пласт каля 1 м. Знойдзены абломкі ляпнога (ранні жалезны век) і ганчарнага посуду (11—13 стагоддзі).

Матэрыялы даследавання гарадзішча захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР і БДУ імя Леніна.

*Літ.:* Без-Корнилович М. О. Исторические сведения о примечательнейших местах в Белоруссии с присовокуплением и других сведений, к ней же относящихся.— СПб., 1855; Лысенко П. Ф. Города Туровской земли.— Мн., 1974; Поболь Л. Д. Славянские древности Белоруссии: (свод археологических памятников раннего этапа зарубинецкой культуры — с середины III в. до н. э. по начало II в. н. э.).— Мн., 1974. *А. Р. Мітрафанаў.*



1511. *Капліца.*



1512. *Курган Славы.*

**1510. ЖЫЛЫ ДОМ** (архіт.). Вул. Леніна, 34. Пабудаваны ў канцы 19 — пачатку 20 ст. з цэглы, рэканструяваны ў 1950 г. (зменена ўнутраная планіроўка).

Двухпавярховы прамавугольны ў плане будынак накрыты вальмавым дахам. Галоўны фасад завершаны развітым карнізам з сухарыкамі. Сцены 1-га паверха аздоблены паўкалонкамі, 2-га — руставанымі пілястрамі і каванымі агароджамі балконаў. Вокны на 1-м паверсе з паўцыркульнымі імпастамі, на 2-м — прамавугольныя, размешчаны рытмічна. Фасад афарбаваны ў 2 колеры: дэталі архітэктурнай аздобы белыя, астатняя паверхня ружовая.

Дом — помнік эклектычнай архітэктуры. *Т. В. Габрусь.*



1511. *Капліца. План.*

**1511. КАПЛІЦА** (архіт.). На старых могілках. Пабудавана ў 2-й палавіне 19 ст. з цэглы.

Складаецца з асноўнага аб'ёму (у плане квадрат са зрэзанымі вугламі) і паўцыркульнай алтарнай апсіды. Будынак накрыты высокім шатровым дахам з цыбулепадобнай галоўкай. Архітэктурны дэкор (прафіляваныя цягі, нішы, сухарыкі, гіркі) выкананы з лякальнай цэглы. Арачныя нішы, праёмы ўвахода і акон вылучаны какошнікамі. Унутры асноўнае памяшканне перакрыта самкнёным скляпеннем.

Капліца — помнік архітэктуры псеўдарускага стылю.

**1512. КУРГАН СЛАВЫ** (гіст.). Вул. Леніна, у Піянерскім парку. У Вялікую Айчынную вайну на франтах, у падполлі і ў партызанскай барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў загінулі 4823 жыхары раёна. 9.5.1967 г. на ўшанаванне памяці загінуўшых быў закладзены помнік — Курган Славы. Адкрыты 3.11.1977 г. Уяўляе сабой васьміметровы земляны насып канічнай формы, на вяршыні якога ўстаноўлены мемарыяльны знак. Каля падножжа Кургана замуравана капсула з завяшчаннем нашчадкам.

**1513. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). Вул. Друцкая. У лістападзе



1513. *Помнік на магіле ахвяр фашызму.*

1941 г. нямецка-фашысцкія захопнікі сагналі ў памяшканне былога ваеннага склада каля 3 тыс. мірных жыхароў горада. Пасля катаванняў і здзекаў вывелі іх да рова, што быў загадзя выкапаны за 70 м ад р. Друць, і расстралялі. У сакавіку 1942 г. акупанты загубілі тут яшчэ каля 300 жыхароў раёна. Каб схаваць сляды сваіх злачынстваў, гітлераўцы ў снежні 1943 г. выкапалі астанкі ахвяр і спалілі. У 1964 г. на магіле пастаўлены абеліск. *М. В. Кірэйшын.*

**1514. МАГІЛА ЦЫМЕРМАНА** Віліса-Адольфа Францавіча (гіст.). Вул. Леніна, у парку імя В.-А. Ф. Цымермана.

У лістападзе 1918 г. з г. Чэрыкава ў Рагачоў прыбыў 10-ы стралковы чырвонаармейскі полк. У сакавіку 1919 г. ён павінен быў выступіць на Заходні фронт. Перад адпраўкай на фронт контррэвалюцыйная частка палка, аснову якой складалі кулацкія элементы, пад уплывам эсэраўскай агітацыі ўзняла мяцеж, у час якога 12.3.1919 г. быў забіты камісар палка В.-А. Ф. Цымерман. Помнік на яго магіле пастаўлены ў першыя гады Савецкай улады, у Вялікую Айчынную вайну разбураны нямецка-фашысцкімі захопнікамі. У 1945 г. на магіле пастаўлены абеліск. Імем В.-А. Ф. Цымермана названы вуліца і парк ў Рагачове.

*Літ.:* В памяти народной.— Мн., 1969. *М. В. Кірэйшын.*

**1515. МАГІЛА ЧЫРВОНААРМЕЙЦА** (гіст.). Прывакзальная пл. Воін Чырвонай Арміі загінуў у 1920 г. У 1975 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**1516. МАГІЛЫ АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). На старых могілках. У 10 магілах пахаваны 932 савецкія грамадзяніны, якіх у 1941—44 гг. расстралялі нямецка-фашысцкія захопнікі. У 1964 г. побач з магіламі, на ўзгорку, пастаўлены абеліск.

**1517. ПОМНІК ВЫЗВАЛЕННЯ** (гіст.). На вул. Луначарскага.

У ходзе Рагачоўскай наступальнай аперацыі (21—25.2.1944 г.) войскі 3-й арміі (генерал-лейтэнант А. В. Гарбатаў) 1-га Беларускага фронту (генерал арміі К. К. Ракасоўскі) прарвалі ўмацаваную абарону 9-й нямецкай арміі, фарсіравалі Дняпро, захапілі плацдарм на правым беразе (14 км па фронту і 5 км у глыбіню), перарэзалі чыгунку Магілёў — Жлобін і 24 лютага пасля ўпартых баёў вызвалілі Рагачоў. Потым выйшлі да р. Друць, захапілі плацдарм на яе правым беразе, каля Новага Быхава стыкаваліся з войскамі 50-й арміі (генерал-лейтэнант І. В. Болдзін), якія з поўначы падтрымлівалі наступленне войск 3-й арміі. 13 вайсковым злучэнням і часцям, што вызначыліся ў аперацыі, нададзены ганаровыя найменні «Рагачоўскіх».

У 1972 г. у гонар вызвалення Рагачова ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў пастаўлены помнік — мармуровы крыжападобны ў сячэнні пілон вышынёй 7 м на стылабаце вышынёй 1 м і стэла з надпісам-прысвячэннем, побач — мемарыяльная сцяна з пералікам вайсковых часцей і злучэнняў, якія ўдзельнічалі ў вызваленні горада.

*Літ.:* Освобождение Белоруссии 1944.— 2 изд.— М., 1974. *М. В. Кірэйшын.*

**1518. ПОМНІК ЛЕНІНУ** Уладзіміру Ільічу (гіст.). На вул. Леніна, у парку імя В.-А. Ф. Цымермана. Скульптура У. І. Леніна ўстаноўлена ў 1956 г.

**1519. ПОМНІК ЛЕНІНУ** Уладзіміру Ільічу (гіст.). На вул. Леніна, у скверы. Скульптура У. І. Леніна ўстаноўлена ў 1958 г.

**1520. РАДЗІМА ГАЛКІНА** Самуіла Залманавіча (гіст.).

Яўрэйскі савецкі паэт і драматург С. З. Галкін нарадзіўся 23.11.1897 г. у сям'і служачага. Друкавацца пачаў у 1920 г. Першы зборнік вершаў выйшаў у 1922 г. У зборніках «Боль і мужнасць» (1929 г.), «За новы фундамент» (1932 г.), «Кантакт» (1935 г.) паказаў адыход яўрэйскіх мас ад старога ўкладу жыцця, іх удзел у сацыялістычным будаўніцтве. Зборнік «Вершы» (1939 г.) прасякнуты лірызмам, верай у будучыню, любоўю да жыцця. Радзіме, патрыятызму савецкіх людзей у Вялікую Айчынную вайну, перакананасці ў трыумфе камуністычных ідэй, інтэрнацыянальнага гуманізму прысвечаны зборнікі «Зямныя шляхі» (1945 г.) і «Дрэва жыцця» (1948 г.). Драматычныя творы «Бар-Кохба» (1939 г.), «Суламіф» (1940 г.), «Душа, якая спявае», «Паўстанне ў гета» («За жыццё», 1947 г.) ставіліся на сцэнах савецкіх яўрэйскіх тэатраў. Пераклаў на яўрэйскую мову асобныя творы А. Пушкіна, У. Маякоўскага, А. Блока, С. Ясеніна, У. Шэкспіра. Памёр 21.9.1960 г. ў Маскве. *Л. І. Булгакава.*



1517. *Помнік Вызвалення.*

**1521. РАДЗІМА КАЛЕСНІКАВА** Віталя Міхайлавіча — Героя Савецкага Саюза (гіст.). Гл. артыкул № 1508 «Вайсковыя могілкі».

**1522. РАДЗІМА ПАЦЕЕВА** Мікалая Паўлавіча (гіст.).

Герой Савецкага Саюза М. П. Пацееў нарадзіўся 16.5.1919 г. у рабочай сям'і. Член КПСС з 1943 г. У 1938 г. скончыў Ленінградскі машынабудаўнічы тэхнікум, у 1952 г.— Вышэйшую афіцэрскую школу самаходнай артылерыі. З 1939 г. служыў у Чырвонай Арміі. У Вялікую Айчынную вайну з чэрвеня 1941 г. на Паўднёвым, Паўднёва-Заходнім, Сталінградскім, Бранскім, 1-м Прыбалтыйскім, 3-м Беларускім франтах. Вызваляў Беларусь, Літву, Латвію. 17.9.1944 г. танкавая рота лейтэнанта М. П. Пацеева заняла абарону на захад ад г. Мітава (цяпер г. Елгава) Латвійскай ССР і ўступіла ў бой з намнога большымі сіламі праціўніка. На працягу 4 сутак воіны адбілі 28 контратак, знішчылі 37 танкаў, каля 400 варожых салдат і афіцэраў. М. П. Пацееў з экіпажам знішчыў 9 танкаў. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 24.3.1945 г. Пасля вайны да 1970 г. служыў у Савецкай Арміі, падпалкоўнік. Памёр 27.9.1972 г. Пахаваны ў Мінску на Усходніх могілках.

*Літ.:* Навечно в сердце народном.— 3 изд.— Мн., 1984. *У. У. Бянько.*



1519. *Помнік У. І. Леніну.*

**1523. РАДЗІМА САННІКАВА** Канстанціна Мікалаевіча (гіст.).

Беларускі савецкі рэжысёр, акцёр і педагог, народны артыст БССР (1949 г.), прафесар (1960 г.) К. М. Саннікаў нарадзіўся 18.5.1896 г. у сям'і рабочага. Член КПСС з 1941 г. Акцёрскую дзейнасць пачаў у 1916 г. З 1918 г. у Першым таварыстве беларускай драмы і камедыі. Адзін з заснавальнікаў Беларускага дзяржаўнага тэатра (1920 г.). У 1926 г. скончыў Беларускую драматычную студыю ў Маскве, працаваў акцёрам і рэжысёрам Беларускага другога дзяржаўнага тэатра (БДТ-2). У 1931—37 гг. мастацкі кіраўнік Беларускага трэцяга дзяржаўнага тэатра (БДТ-3). У 1937—41 гг. і з 1946 г. працаваў у Беларускім тэатры імя Я. Купалы (у 1948—52 гг. галоўны рэжысёр).

У Вялікую Айчынную вайну ў франтавых тэатральных брыгадах (1942—44 гг.), дырэктар кінастудыі «Савецкая Беларусь» (1944—45 гг.). З 1947 г. выкладаў у Беларускім тэатральна-мастацкім інстытуце — кіраўнік курсаў акцёрскага майстэрства. Спектаклям К. М. Саннікава ўласцівы вострае адчуванне сучаснасці, выразнасць грамадзянскай пазіцыі, тонкае разуменне беларускага народнага побыту, характараў. Найбольш значныя пастаноўкі: «Маёмасць» (паводле Г. Каравaевай, 1929 г., у БДТ-2), «Мой сябар» М. Пагодзіна (1932 г.), «Сяржант Дроб» Э. Самуйлёнка (1935 г.), «Каварства і каханне» Ф. Шылера (1937 г., у БДТ-3), «Партызаны» (1938 г., з Л. Рахленкам), «З народам» (1948 г.), «Пяюць жаваранкі» (1950 г., Дзяржаўная прэмія СССР 1952 г.), «Людзі і д'яблы» (1958 г.) К. Крапівы, «Пагібель воўка» (1939 г.) Э. Самуйлёнка, «Машачка» А. Афінагенава і «Хлопец з нашага горада» (1941 г.) К. Сіманава, «Канстанцін Заслонаў» А. Маўзона (1947 г., Дзяржаўная прэмія СССР 1948 г.), «Цытадэль славы» (1950 г.), «На крутым павароце» (1956 г.) К. Губарэвіча, «Выбачайце, калі ласка» А. Макаёнка (1954 г.), «Любоў, Надзея, Вера» П. Васілеўскага (1961 г.) у тэатры імя Я. Купалы, і інш. Сярод роляў: Аляксей («У зімовы вечар» паводле аповесці Э. Ажэшка), Васька Пепел («На дне» М. Горкага), Аберон («Сон у летнюю ноч» У. Шэкспіра), Гадун («Разлом» Б. Лаўранёва), князь Капуста («Кацярына Жарнасек» М. Клімковіча).

К. М. Саннікаў памёр 12.7.1965 г. Пахаваны ў Мінску на Усходніх могілках.

*Літ.:* Кандрашына К. Канстанцін Саннікаў: Крытыка-біяграфічны нарыс.— Мн., 1981. *М. В. Кірэйшын.*

**1524. РАДЗІМА СМІДОВІЧА** Пятра Гермагенавіча (гіст.).

Прафесійны рэвалюцыянер, савецкі дзяржаўны і партыйны дзеяч П. Г. Смідовіч (партыйныя псеўданімы Дзюваль, Жэлье, Матрона, Васіль Іванавіч Зыбін, Чарвінскі, Марселец) нарадзіўся 7.5.1874 г. ў дваранскай сям'і. Член КПСС з 1898 г. Вучыўся ў Маскоўскім універсітэце. У 1894 г. за ўдзел у нелегальных студэнцкіх гуртках выключаны з універсітэта і высланы ў Тулу. У 1895 г. выехаў за мяжу, скончыў Вышэйшую электратэхнічную школу ў Парыжы. Працаваў на заводах у Бельгіі, быў членам Бельгійскай рабочай партыі. З 1898 г. член Пецярбургскага камітэта РСДРП. За рэвалюцыйную дзейнасць у 1900 г. высланы за мяжу. З 1902 г. агент «Искры» ў Расіі. Адзін з арганізатараў падпольнай друкарні «Искры» ў Умані (1903 г.). У 1903 г. член Сярэднеўральскага, у 1904 г.— Паўночнага, у 1905 г.— Бакінскага і Тульскага камітэтаў РСДРП. Удзельнік Снежаньскага ўзброенага паўстання ў Маскве ў 1905 г. У 1906—08 гг. член Маскоўскіх акруговага і гарадскога камітэтаў РСДРП. У 1908 г. арыштаваны і сасланы ў Валагодскую губерню. Пасля ссылкі з 1910 г. зноў вёў падпольную партыйную работу ў Калузе і Маскве. Пасля Лютаўскай рэвалюцыі 1917 г. член Маскоўскага камітэта РСДРП(б), член Прэзідыума Выканкома Массавета, у дні Кастрычніцкай рэвалюцыі 1917 г. член Маскоўскага ВРК, потым член Прэзідыума ВЦВК і ВСНГ. З 1918 г. старшыня Массавета, з 1919 г.— Маскоўскага губернскага саўнаргаса. Старшыня камітэта садзеяння народнасцям паўночных ускраін пры ЦВК СССР. Удзельнік ліквідацыі антонаўшчыны і Кранштацкага антысавецкага мяцяжу 1921 г. Член ВЦВК, Прэзідыума ВЦВК і ЦВК СССР. Член ЦКК РКП(б) у 1921—22 гг.

П. Г. Смідовіч памёр 16.4.1935 г. Пахаваны ў Маскве на Краснай плошчы каля Крамлёўскай сцяны. Яго імем названа вуліца ў Рагачове, гарадскі пасёлак у Хабараўскім краі.

*Літ.:* Аренштейн А. И. Ранним московским утром.— М., 1967; Герои Октября.— М., 1967. *М. В. Кірэйшын.*



1526. *Помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў. Фрагмент.*

**в. Адраджэнне (не існуе), Збароўскі сельсавет**

**1525. МЕСЦА СПАЛЕНАЙ ВЁСКІ** (гіст.). Вёска Адраджэнне знаходзілася за 4 км на поўдзень ад в. Ходасавічы. 23.9.1943 г. нямецка-фашысцкія захопнікі ўварваліся ў вёску, расстралялі ці спалілі жывымі 61 жыхара, спалілі вёску (25 двароў). Вёска не адрадзілася. Увекавечана ў мемарыяльным комплексе Хатынь. Гл. артыкул № 1659 «Магіла ахвяр фашызму».

**в. Азяраны, цэнтр сельсавета**

**1526. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). У цэнтры вёскі, каля будынка выканкома сельсавета. Пахаваны 876 воінаў, якія загінулі ў 1943—44 г. у баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у наваколлі вёскі. Сярод пахаваных — Герой Савецкага Саюза Аляксандр Пятровіч Кулясаў.

А. П. Кулясаў нарадзіўся 10.3. 1919 г. у с. Малы Толкіш Чыстапальскага р-на Татарскай АССР у сялянскай сям'і. Член КПСС з 1943 г. У Чырвонай Арміі з 1939 г. У 1942 г. скончыў Вольскае ваенна-пяхотнае вучылішча. У Вялікую Айчынную вайну на фронце з 1942 г. Камандзір стралковага батальёна капітан А. П. Кулясаў вызначыўся ў Бабруйскай аперацыі 1944 г. 24.6.1944 г. батальён пад яго камандаваннем прарваў моцную абарону ворага каля в. Азяраны, захапіў 10 гармат і некалькі цягачоў праціўніка. 25.6.1944 г. у баі за ўмацаваны пункт Вялікая Крушынаўка асабістым прыкладам падняў пяхоту і танкістаў у атаку, што вырашыла вынік бою. У гэтым баі А. П. Кулясаў загінуў. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 24.3.1945 г.

У 1976 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна, абапал яе — 2 стэлы: злева з выявай жанчыны ў жалобе, справа з імёнамі загінуўшых.

*Літ.:* В грозные годы.— Мн., 1973; Навечно в сердце народном.— 3 изд.— Мн., 1984. *М. В. Кірэйшын.*

**1527. ГАРАДЗІШЧА І КУРГАННЫЯ МОГІЛЬНІКІ** (археал.).

**1527а.** Гарадзішча. На паўночнай ускраіне вёскі, на ўзвышшы карэннага левага берага р. Друць. З усходняга боку схіл гарадзішча стромкі і высокі (8—9 м над узроўнем вады ў рацэ ў летні межанны перыяд). З паўднёвага, паўночнага і заходняга бакоў умацавана 3 валамі і 2 равамі. Адзін вал вышынёй да 1,5 м, другі — да 0,9 м, трэці — да 0,7 м. Глыбіня равоў 0,5—2 м. Пляцоўка ўвагнутая. Памер пляцоўкі, без усходняй часткі (размыта вадой), 27,5×18 м. Гарадзішча вядома з 1873 г. Абследавалі ў 1888 г. Е. Р. Раманаў, у 1976 г. А. Р. Мітрафанаў. Культурны пласт 0,2—0,25 м прасочваецца на пляцоўцы і яе схілах. Знойдзены фрагменты ляпнога глінянага посуду. Адносіцца да мілаградскай і зарубінецкай культур, датуецца 8—7 стагоддзямі да н. э.— 1—2 стагоддзямі н. э.

**1527б.** Курганны могільнік-1. За 1 км на захад ад вёскі, у лесе. 56 насыпаў дыяметрам 6—17 м, вышынёй 2,5—4 м. Вядомы з 1873 г. Даследаваў у 1888 г. Е. Р. Раманаў, раскапаны 1 курган. Пахавальны абрад — трупапалажэнне. Выяўлены рэшткі дамавіны, кавалкі скуранай папругі, тканіны. Пахавальны інвентар: спіральныя бронзавыя кольцы (8), вітыя завушніцы, біпірамідальныя пацеркі з пазалотай (81), прамавугольная падвеска з выявай багародзіцы, кольцападобная падвеска з спіцамі. Належаў дрыгавічам, датуецца 11—12 стагоддзямі.

**1527в.** Курганны могільнік-2. За 1,5 км на поўдзень ад вёскі, у лесе. 39 кургаnoў дыяметрам 5—14 м, вышынёй 3 м. Вядомы з 1873 г. Абследавалі ў 1888 г. Е. Р. Раманаў, у 1976 г. А. Р. Мітрафанаў. Раскопкі не праводзіліся.

Матэрыялы даследавання курганнага могільніка-1 захоўваюцца ў Гісторыка-этнаграфічным музеі Літоўскай ССР у Вільнюсе.

*Літ.:* Сведения 1873 г. о городищах и курганах.— Известия Археологической комиссии. СПб., 1903, в. 5; Древности: Труды Московского археологического общества. Т. 12.— М., 1888, с. 54—55. *А. Р. Мітрафанаў.*

**1528. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля школы, у скверы. На ўшанаванне памяці 284 жыхароў Азяранскага сельсавета, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1966 г. пастаўлены помнік — скульптура воіна.

**1529. ПОМНІК ЛЕНІНУ** Уладзіміру Ільічу (гіст.). У цэнтры вёскі, каля будынка выканкома сельсавета. Скульптура У. І. Леніна ўстаноўлена ў 1965 г.




**1527а.** *Гарадзішча. План.*




**1527б.** *Курганны могільнік-1. План.*



1529. *Помнік У. І. Леніну.*

**в. Азярышча, Кісцянёўскі сельсавет**

**1530. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 26 воінаў, якія загінулі ў 1944 г. пры вызваленні раёна ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1975 г. на магіле пастаўлена стэла.

**в. Антушы, Пабалаўскі сельсавет**

**1531. КАСЦЁЛ** (архіт.). На паўднёва-ўсходняй ускраіне вёскі. Пабудаваны ў пачатку 19 ст. з дрэва.

Прамавугольныя ў плане асноўны аб'ём і апсіда аб'яднаны адзіным двухсхільным дахам з трохвугольнымі навісямі ў месцы злучэння зрубаў. Па баках апсіды нізкія прыбудовы. Галоўны фасад атынкаваны і завершаны трохвугольным франтонам, які гарызантальна ашаляваны і дэкарыраваны акантоўкай у выглядзе трыгліфаў. Астатнія фасады ашаляваны вертыкальна, умацаваны сцяжкамі і прарэзаны 2 радамі прамавугольных акон, аздобленых ліштвамі з сандрыкамі. Інтэр'ер двухсветлавы. У асноўным памяшканні пры ўваходзе вылучаны бабінец, над якім антрэсольны паверх.

Касцёл — помнік драўлянага дойлідства з рысамі класіцызму.

*А. А. Міцянін.*

**1532. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). Каля сучасных могілак. Захаваліся 6 насыпаў вышынёй 2 м, дыяметрам 7—8 м. Вядомы з 1873 г. Абследаваў у 1976 г. А. Р. Мітрафанаў. Раскопкі не праводзіліся.

**в. Бэлотня, цэнтр сельсавета**

**1533. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). Каля клуба. Пахаваны 193 воіны, якія загінулі ў 1943 г. у баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў пры вызваленні тэрыторыі сельсавета. Сярод пахаваных — воіны 80-га стралковага корпуса 3-й арміі і 312-га асобнага медыка-санітарнага батальёна. У 1953 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна.

**1534. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). На паўднёвай ускраіне вёскі. Пахаваны 12 мірных жыхароў, якіх у 1943 г. расстралялі нямецка-фашысцкія захопнікі. У 1975 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**рабочы пасёлак Беліцк**

**1535. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). Вул. Леніна. Пахаваны 26 воінаў і партызан, якія загінулі ў 1943—44 гг. у баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1949 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Блізняцы, Старасельскі сельсавет**

**1536. БРАЦКІЯ МОГІЛКІ САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). За 1 км на ўсход ад вёскі, злева ад дарогі ў в. Шчыбрын. Пахаваны 741 воін, якія загінулі ў 1943—44 гг. пры вызваленні раёна ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. Сярод пахаваных — Герой Савецкага Саюза Анатоль Георгіевіч Сафонаў.

А. Г. Сафонаў нарадзіўся 20.11. 1921 г. у с. Чэртан Дуванскага р-на Башкірскай АССР у сялянскай сям'і. Член КПСС з 1943 г. У Вялікую Айчынную вайну на фронце з кастрычніка 1941 г. Камандзір стралковай роты старшы лейтэнант А. Г. Сафонаў вызначыўся ў баях пры вызваленні Рагачоўскага р-на ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. 24.6.1944 г. рота пад яго камандаваннем фарсіравала р. Друць каля в. Заполле, захапіла плацдарм і ўтрымлівала яго да падыходу асноўных сіл палка. У гэтым баі А. Г. Сафонаў загінуў. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 23.8.1944 г. Яго імем названа вуліца ў с. Мясагутава Дуванскага р-на.

У 1965 г. на могілках пастаўлены помнік — скульптура воіна.

*Літ.:* Навечно в сердце народном.— 3 изд.— Мн., 1984. *М. В. Кірэйшын.*




**1532.** *Курганны могільнік. План.*

**в. Борхаў, Званецкі сельсавет**

**1537. РАДЗІМА МАКАЁНКА** Андрэя Ягоравіча (гіст.).

Беларускі савецкі драматург, народны пісьменнік БССР (1977 г.) А. Я. Макаёнак нарадзіўся 12.11. 1920 г. у сялянскай сям'і. Член КПСС з 1945 г. У 1949 г. скончыў Рэспубліканскую партыйную школу пры ЦК КП(б)Б. Удзельнік Вялікай Айчыннай вайны. У 1942—43 гг. настаўнічаў у Грузіі, у 1944—47 гг. на камсамольскай і партыйнай рабоце на Беларусі. У 1949—53 гг. працаваў у часопісе «Вожык», у 1956—57 гг. літаратурны кансультант СП БССР, у 1966—78 гг. галоўны рэдактар часопіса «Нёман».



**1536.** *Помнік на брацкіх могілках савецкіх воінаў.*

Друкавацца пачаў з 1946 г. Пісаў гумарэскі, фельетоны, нарысы. Першыя аднаактовыя п'есы «Перад сустрэчай», «Жыццё патрабуе» (1950 г.), «Крымінальная справа» (1951 г.), «Першае пытанне» (1952 г.) і інш. вызначаліся актуальнасцю праблематыкі. Палітычная драма «На досвітку» (пастаўлена Беларускім дзяржаўным тэатрам імя Я. Купалы ў 1952 г.) прысвечана барацьбе французскіх рабочых за свае правы ў пасляваенны час. Шырокую вядомасць пісьменніку прынесла сатырычная камедыя «Выбачайце, калі ласка!» (1953 г.; паставілі больш за 160 тэатраў СССР і за мяжой), у якой востра і бескампрамісна крытыкуюцца канкрэтныя заганныя метады кіраўніцтва народнай гаспадаркай, фармалізм. Гэта быў адзін з першых твораў у беларускай драматургіі, якія нанасілі ўдар па так званай «тэорыі бесканфліктнасці». Камедыі «Каб людзі не журыліся» (1958 г.) і «Лявоніха на арбіце» (1961 г., Літаратурная прэмія імя Янкі Купалы 1962 г.) прысвечаны паказу жыцця пасляваеннай вёскі. Канец 60 — пачатак 70-х гадоў былі для пісьменніка часам плённых мастацкіх пошукаў, творчых эксперыментаў. Драматург прыйшоў да новых жанравых і структурна-кампазіцыйных форм. Сатырычная камедыя-памфлет «Зацюканы апостал» (1969 г.) багата насычана прыёмамі тэатральнай умоўнасці, падтэкстам. Гратэскны план камедыі памагае раскрыць згубнасць буржуазнай маралі, чалавеканенавісніцкую ідэалогію буржуазнага грамадства. У трагікамедыі «Трыбунал» (1970 г.), блізкай да традыцый народнай драмы, высокая гераіка ўвасоблена ў камедыйным жанры. У камедыі-рэпартажы «Таблетку пад язык» (1973 г.; разам з п'есай «Трыбунал» Дзяржаўная прэмія БССР імя Якуба Коласа 1974 г.) аўтар выступае супраць застарэлых поглядаў на міграцыю сельскага жыхара, асвятляе праблемы пераходу сельскагаспадарчай вытворчасці на індустрыяльную аснову. Камедыя «Кашмар» (1976 г.; сцэнічная назва «Святая прастата») праскнута гуманістычным пафасам. Вялікадзяржаўная мілітарысцкая палітыка пануючых колаў капіталістычных краін пададзена тут праз успрыняцце простага калгасніка-працаўніка. Трагікамедыя «Пагарэльцы» (напісана ў 1966 г., апублікавана ў 1980 г.) вызначаецца адыходам аўтара ад традыцыйнай сюжэтна-кампазіцыйнай структуры твора, прысвечана выкрыццю прыстасавальніцтва, апалітычнасці, шкурніцтва. У камедыі (сентыментальным фельетоне) «Верачка» (1980 г.) — сатыра на бездухоўнае прыстасавальніцтва. Апошні твор «Дыхайце эканомна» (1982 г.) — п'еса-прытча, у якой аб'ектам аўтарскай задумы стала найважнейшая агульначалавечая праблема захавання Зямлі ад тэрмаядзернай катастрофы. Па сцэнарыях драматурга зняты фільмы «Шчасце трэба берагчы» (1958 г.), «Кандрат Крапіва» (1961 г.), «Рагаты бастыён» (1975 г.), тэлефільм «Пасля кірмашу» (1973 г.). Творы А. Я. Макаёнка перакладзены

на рускую, украінскую, латышскую, балгарскую, чэшскую, славацкую і інш. мовы. Дэпутат Вярхоўнага Савета БССР у 1971—82 гг.

А. Я. Макаёнак памёр 16.11.1982 г. Пахаваны ў Мінску на Усходніх могілках. Яго імя прысвоена Гродзенскай цэнтральнай гарадской бібліятэцы і Журавіцкай сярэдняй школе Рагачоўскага р-на, імем пісьменніка названа вуліца ў Мінску; на доме, дзе ён жыў, устаноўлена мемарыяльная дошка.

*Літ.:* Вишневская И. Комедия на орбите.— М., 1979; Сохар Ю. М. На пульсе жыцця: Андрэй Макаёнак і беларускі тэатр.— Мн., 1979.

**в. Буда, Гарадзецкі сельсавет**

**1538. БРАЦКІЯ МОГІЛКІ САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). За 1 км на паўночны захад ад вёскі. У 4 брацкіх магілах пахаваны 3424 воіны, якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў пры вызваленні раёна ці памерлі ад ран у шпіталях. Сярод пахаваных — воіны 3-й арміі 1-га Беларускага фронту. У 1959 г. на могілках пастаўлены помнік — скульптура воіна.

**в. Валосавічы, Журавіцкі сельсавет**

**1539. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 1,5 км на поўнач ад вёскі, у лесе, абапал дарогі ў в. Канава. 54 насыпы дыяметрам 4—5, 10—13 м, вышынёй 0,5—3 м. Уздоўж большасці курганоў прасочваюцца раўкі. Выявіў і абследаваў у 1976 г. А. Р. Мітрафанаў. Раскопкі не праводзіліся.

**в. Ветачка, Гарадзецкі сельсавет**

**1540. КУРГАННЫЯ МОГІЛЬНІКІ** (археал.).

**1540а.** Могільнік-1. За 0,5 км на паўднёвы ўсход ад вёскі. 47 насыпаў дыяметрам 5—25 м, вышынёй 1—1,5 м (10 насыпаў вышынёй 1,5—5 м). Вядомы з 1873 г. Даследавала ў 1963—65 гг. Г. Ф. Салаўёва. Ускрыта 5 курганоў. У 3 былі трупапалажэнні без рэчаў, у 2 знойдзены скроневыя кольцы, бронзавы віты пярсцёнак, шкляныя бочкападобныя з пазалотай і



1539. *Курганны могільнік. План.*



1540а. *Жаночыя ўпрыгожанні з раскопак могільніка-1.*

бурштынавыя пацеркі, ганчарны посуд. У 1983 г. даследавалі В. Н. Рабцэвіч і А. М. Плавінскі. Ускрыты 3 курганы. У адным было мужчынскае пахаванне галавой на паўночны ўсход, у астатніх — жаночыя, арыентаваныя на паўднёвы захад. Мужчынскае і адно з жаночых пахаванняў былі накрыты плахамі. У жаночых пахаваннях знойдзены шарападобныя і біпірамідальныя сердалікавыя, шкляныя пазалочаныя і пасярэбраныя бочкападобныя пацеркі, бісер, трохдротавая бронзавая грыўня, кольцы, зоркападобная фібула, сярэбраныя бранзалетападобныя скроневыя кольцы.

**1540б.** Могільнік-2. За 150 м на поўдзень ад вёскі. 32 курганы дыяметрам ад 5 да 16 м, вышынёй ад 0,5 да 4 м. Вядомы з 1873 г. Даследавала ў 1963 г. Г. Ф. Салаўёва. Раскапана 6 насыпаў. 4 мелі трупапалажэнні без пахавальнага інвентару, у 2 побач з нябожчыкамі, арыентаванымі галавой на захад, знойдзены рэшткі ганчарнага посуду, падвескі радзімічкага тыпу, бразготка, скроневае кольца, паставыя пацеркі. У 1983 г. даследавалі В. Н. Рабцэвіч, А. М. Плавінскі. Ускрыты 3 курганы. У 2 былі мужчынскія безінвентарныя трупапалажэнні з процілеглай арыентацыяй (захад і ўсход). Адзін моцна парушаны курган пахавання не меў.

Могільнікі належалі радзімічам, датуюцца 11—12 стагоддзямі. Матэрыялы раскопак захоўваюцца ў Інстытуце археалогіі АН СССР і БДУ імя У. І. Леніна.

*Літ.:* Сведения 1873 г. о городищах и курганах.— Известия Археологической комиссии. СПб., 1903, в. 5; Соловьева Г. Ф. Раскопки курганов в Белоруссии.— У кн.: Археологические открытия 1965 года. М., 1966.

*А. Р. Мітрафанаў, А. М. Плавінскі.*

**в. Вікоў, Збароўскі сельсавет**

**1541. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). За 0,4 км на паўночны ўсход ад вёскі, за 0,1 км ад шашы Рагачоў — Доўск. Пахаваны 143 воіны, якія загінулі ў 1944 г. у баях пры вызваленні раёна ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1979 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Вішанька, Гарадзецкі сельсавет**

**1542. БРАЦКІЯ МОГІЛКІ САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны 63 воіны, якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў ці памерлі ад ран у 1943—44 гг. У 1966 г. на могілках пастаўлены абеліск.

**в. Вішчын, Кісцянёўскі сельсавет**

**1543. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны 89 воінаў 269-й стралковай дывізіі 3-й арміі 1-га Беларускага фронту, якія загінулі ў лютым 1944 г. у баях пры вызваленні раёна ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. Сярод пахаваных — Герой Савецкага Саюза Іван Іванавіч Хмель.

І. І. Хмель нарадзіўся ў 1917 г. у г. Стары Аскол Белгарадскай вобл. у рабочай сям'і. Член КПСС з 1943 г. У Чырвонай Арміі з 1939 г. У Вялікую Айчынную вайну на фронце з 1941 г. У 1942 г. скончыў курсы малодшых лейтэнантаў. Камандзір роты старшы лейтэнант І. І. Хмель вызначыўся пры вызваленні Гомельскай вобл. 20.2.1944 г. рота пад яго камандаваннем фарсіравала Дняпро і ўварвалася ў траншэі ворага, захапіла 4 гарматы, вызваліла в. Вішчын. У час контратакі праціўніка 21.2.1944 г. І. І. Хмель загінуў. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 3.6.1944 г. Імем героя названа вуліца ў г. Стары Аскол, яго імя прысвоена школе № 4, дзе ён вучыўся.

У 1975 г. на магіле пастаўлена стэла.



1540а. *Курганны могільнік-1. Фрагмент.*



1540б. *Курганны могільнік-2. План.*



1543. *Помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў.*

*Літ.:* Навечно в сердце народном.— 3 изд.— Мн., 1984; Орлов И. О вас, фронтовые товарищи.— М., 1970.
*М. В. Кірэйшын.*

**1544. ГАРАДЗІШЧА** (археал.). На правым высокім беразе Дняпра, паміж вёскамі Вішчын і Кісцяні. Пляцоўка паўкруглая ў плане, плошчай 0,63 га. З боку поля ўмацавана 3 паралельнымі лініямі валоў і равоў, якія складалі палосу абароны шырынёй каля 30 м. З боку ракі абмежавана стромкім абрывам рачной тэрасы. Вышыня вонкавых валоў 2,5—3 м, глыбіня равоў 3,5 м. Вядома з 1873 г., абследавалі ў пачатку 1880-х гадоў С. Ю. Чалоўскі, у 1931 г. А. М. Ляўданскі, у 1950 г. Ю. У. Кухарэнка, у 1956 г. В. М. Мельнікоўская. У 1976—84 гг. раскопкі праводзіла экспедыцыя БДУ імя Леніна (кіраўнік Э. М. Загарульскі). Даследавана 2350 м² плошчы. Культурны пласт 0,4 м у цэнтры пляцоўкі, 1,5 м на краі каля ўнутранага вала, вышыня якога каля 4 м. Гарадзішча пабудавана на месцы стаянкі мезаліту і ранняга неаліту. На грэбені ўнутранага вала выяўлены і на працягу 30 м даследаваны рэшткі згарэлай абарончай сцяны, пабудаванай з гарызантальна пакладзеных бярвён, умацаваных кароткімі папярочнымі сценкамі. Месцамі захаваліся 3—4 берваны дыяметрам 18—23 см. Тыльны бок сцяны абмазаны глінай. Каля падножжа ўнутранага вала прасочана яшчэ адна сцяна з габляваных дошак, якая адгароджвала ўнутраны вал ад участка забудовы.

На пляцоўцы выяўлены рэшткі 5 наземных драўляных пабудоў, размешчаных уздоўж унутранага вала, у 2 з іх захаваліся рэшткі падлогі з дошак і рэшткі печаў. У паўднёвай частцы гарадзішча знойдзены рэшткі майстэрні ювеліра, у паўночнай — зіраван з абгарэлым зернем.

Рэчавы матэрыял разнастайны: абломкі 2 сашнікоў, 2 матыг, сярпоў, жорнаў, шлакі, зубілы, молаты. На тэрыторыі гарадзішча працаваў высокакваліфікаваны ювелір. Знойдзена серыя матрыц для вырабу крыжападобных падвесак, раснаў, колтаў з выявай барсаў, гліняная льячка з бронзай, шмат свінцовых пласцін. З рознымі галінамі гаспадарчай дзейнасці звязаны знаходкі нажоў, нажніц, шылаў, іголак, гарпуноў, рыбалоўных кручкоў, прасліц. Шмат матэрыялаў адлюстроўваюць ваенную справу: наверша і крыжавіны мяча, шарападобны бронзавы кісцень, кавалкі кальчуг, пласціны ад панцырных даспехаў, наканечнікі стрэл і коп'яў, шпоры цяжкаўзброеных коннікаў (больш за 10), серыя страмёнаў, цуглі. Знойдзены разнастайныя ўпрыгожанні і бытавыя рэчы: манетападобныя падвескі, крыжыкі, шпількі, бронзавыя бранзалеты, пярсцёнкі, бразготкі, каля тысячы абломкаў шкляных бранзалетаў, імпартны посуд.

У 1979 г. сярод камянёў каля краpасной сцяны знойдзены закапаны ў сярэдзіне 13 ст. скарб: 2 колты з двухбаковай выявай птушак, у тэхніцы перагародчатай эмалі, зорчаты шасціканцовы колт з ажурнай каймой і выявай 2 птушак і крына, 2 расны, якія складаліся з капічных вяршынь са звіслымі ланцужкамі з бляшкамі, кручаны з трох жгутоў з шчытападобнымі канцамі ў выглядзе стылізаваных галовак, масіўны бранзалет, двухстворкавы пласціністы бранзалет з гравіраванымі выявамі птушак і арнаментаў, 4 крыжападобныя падвескі, 3 сярэбраныя пацеркі, 2 ланцужкі з паўцыліндрыкаў, 3 грыўні наўгародскага тыпу, 9 грыўняў літоўскага і 6 кіеўскага тыпаў. Усе вырабы з высакапробнага серабра. Два колты, крыжападобныя падвескі пазалочаны.



1544. *Гарадзішча.*

Гарадзішча адносіцца да феадальна-ўладальніцкіх замкаў. Узнікла на рубяжы 11—12 стагоддзяў. У сярэдзіне 13 ст. замак быў разбураны і спалены. Знаходка свінцовай пячаткі Мсціслава Расціславіча Храбрага сведчыць аб сувязі замка з дынастыяй смаленскіх князёў.

Матэрыялы раскопак захоўваюцца ў БДУ імя У. І. Леніна.

*Літ.:* Загорульский Э. М. Исследования Вищинского замка.— У кн.: Древнерусское государство и славяне. Мн., 1983.
*Э. М. Загарульскі.*

**в. Востраў, Побалаўскі сельсавет**

**1545. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля Дома культуры. На ўшанаванне памяці 208 землякоў, якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысц-



1544. *Рэчы з раскопак гарадзішча.*

кіх захопнікаў у Вялікую Айчынную вайну, у 1961 г. пастаўлены абеліск.

**в. Высокае, Гарадзецкі сельсавет**

**1546. ВАЙСКОВЫЯ МОГІЛКІ** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны 274 воіны, якія загінулі ў 1944 г. у баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў, і 2 партызаны. Тут пахаваны Герой Савецкага Саюза Андрэй Фёдаравіч Самусёў.

А. Ф. Самусёў нарадзіўся 22.9. 1908 г. у в. Высокае Рагачоўскага р-на ў сялянскай сям'і. Член КПСС з 1954 г. У Айчынную вайну на фронце з 1941 г. Мінамётчык радавы А. Ф. Самусёў вызначыўся пры вызваленні Гомельскай вобл. ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У раёне Лоева ў кастрычніку 1943 г. першы з роты фарсіраваў Дняпро, у рукапашным баі за плацдарм знішчыў некалькі гітлераўцаў, садзейнічаў паспяховай пераправе падраздзяленняў палка. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 30.10.1943 г. Пасля вайны працаваў старшынёй калгаса на радзіме. Памёр 8.5.1965 г.

У 1969 г. на могілках пастаўлены помнік — скульптуры воіна, рабочага і калгасніцы.

*Літ.:* Навечно в сердце народном.— 3 изд.— Мн., 1984. *М. М. Казлоўская.*

**в. Вялікая Крушынаўка, Азяранскі сельсавет**

**1547. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны 300 воінаў, якія загінулі ў 1944 г. у баях пры вызваленні раёна ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. Сярод пахаваных — воіны 250-й стралковай дывізіі 3-й арміі 1-га Беларускага фронту. У 1951 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна.

**1548. РАДЗІМА ІСАКАВА** Георгія Пятровіча (гіст.).

Герой Савецкага Саюза Г. П. Ісакаў нарадзіўся 30.1.1896 г. у сялянскай сям'і. Член КПСС з 1944 г. Генерал-маёр (1943 г.). У 1915 г. скончыў Рагачоўскае рэальнае вучылішча, у 1929 г.— БДУ, у 1930 г.— курсы «Выстрал». З 1915 г. у арміі, з красавіка 1918 г. у Чырвонай Арміі. Удзельнік Грамадзянскай вайны на Заходнім фронце: начальнік школы камсаставу, начальнік стралковага аддзела 7-й арміі. У 1920—22 гг. камандзір 68-га стралковага палка 8-й стралковай дывізіі. У 1922—24 гг. намеснік старшыні выканкома Рагачоўскага павятовага Савета. У 1924—32 гг. на прафсаюзнай і савецкай рабоце ў Мінску. З 1932 г. начальнік упраўлення Камітэта нарыхтовак пры СНК БССР. У Вялікую Айчынную вайну з жніўня 1941 г. на Заходнім, Сталінградскім, Данскім, 3-м Беларускім і інш. франтах: камандзір палка, брыгады, дывізіі. Вызначыўся пры фарсіраванні Дняпра на поўдзень ад Крамянчуга. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 23.10.1943 г. Да 1955 г. у Савецкай Арміі, жыў у Маскве. Памёр 4.2.1961 г.

*Літ.:* Навечно в сердце народном.— 3 изд.— Мн., 1984. *М. В. Кірэйшын.*




1546. *Помнік на вайсковых могілках.*

**1549. РАДЗІМА КАВАЛЁВА** Рыгора Сямёнавіча (гіст.).

Герой Савецкага Саюза Р. С. Кавалёў нарадзіўся 25.4.1902 г. у сялянскай сям'і. Член КПСС з 1925 г. У 1924—28 гг. у Чырвонай Арміі. У 1928—32 гг. аб'ездчык Азяранскага лясніцтва. У 1932—41 гг. старшыня калгаса ў Рагачоўскім р-не. Удзельнік вызвалення Заходняй Беларусі ў 1939 г. У Вялікую Айчынную вайну з 1943 г. партызан 8-й Рагачоўскай партызанскай брыгады. З ліпеня 1944 г. на 3-м Беларускім фронце. Стралок 2-й гвардзейскай мотастралковай брыгады гвардыі сяржант Р. С. Кавалёў вызначыўся 18.8.1944 г. у баі за вышыню каля г. Шаўляй. У час контратакі праціўніка са звязкай гранат кінуўся пад варожы танк. Натхнёныя яго подзвігам, савецкія воіны адбілі контратаку ворага. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 24.3.1945 г. Пахаваны ў п. п. Гінкунай Шаўляйскага р-на Літоўскай ССР.

*Літ.:* Навечно в сердце народном.— 3 изд.— Мн., 1984. *М. В. Кірэйшын.*



1553. *Жаночыя ўпрыгожанні з раскопак могільніка.*




1553. *Курганны могільнік. План.*

**в. Вялікія Стралкі, Гарадзецкі сельсавет**

**1550. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны 35 воінаў, якія загінулі ў 1943 г. у наваколлі вёскі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1959 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна з аўтаматам.

**1551. ПОМНІК ЖДАНАВУ** Андрэю Аляксандравічу (гіст.). У цэнтры вёскі. Бюст савецкага партыйнага і дзяржаўнага дзеяча А. А. Жданава ўстаноўлены ў 1978 г.

**в. Гадзілавічы, цэнтр сельсавета**

**1552. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны 220 воінаў, якія загінулі ў лістападзе 1943 г. у баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў.

23.11.1943 г. часці 40-га стралковага корпуса 63-й арміі Беларускага фронту фарсіравалі р. Сож на поўнач ад г. Чачэрск. 25 лістапада прарвалі абарону ворага каля шашы Магілёў — Гомель. 169-я стралковая дывізія заняла вышыню на паўночным усходзе ад вёскі. У ноч на 28 лістапада воіны дывізіі вызвалілі вёску ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў.

У 1954 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна.

*Літ.:* В грозные годы.— Мн., 1973. *М. В. Кірэйшын.*

**1553. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 1,5 км на паўночны захад ад вёскі, на левым беразе Дняпра. 124 насыпы дыяметрам 5—12 м, вышынёй 0,5—2 м. Вядомы з 1873 г. Абследавалі ў 1892 г. М. В. Фурсаў і С. Ю. Чалоўскі, у 1930 г. А. М. Ляўданскі. У 1964 г. Г. Ф. Салаўёва раскапала 15 насыпаў. Пахавальны абрад — трупапалажэнне. Нябожчыкі арыентаваны галавой на захад (13 пахаванняў) і на ўсход (2 пахаванні). У 3 курганах не было рэчаў; у адным кургане пад насыпам выяўлена пляма попелу дыяметрам 2 м з рэшткамі ляпной керамікі, сярод якіх была і



1554. *Помнік землякам.*

штрыхаваная. Пад плямай попелу ляжаў шкілет без рэчаў. У астатніх курганах знойдзены сярэбранае псеўдавітае кольца, абломкі ганчарных гаршкоў, пярсцёнкападобныя і сямiпрамянёвыя скроневыя кольцы, бронзавыя паясныя кольцы, разнастайныя шкляныя і сердалікавыя пацеркі, бронзавыя бляшкі, лунніцы і бразготкі, манетападобныя падвескі з вы-



1555. *Помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў.*

явай быка і без яе. У 1981 г. помнік даследавалі В. Н. Рабцэвіч, А. М. Плавінскі. Раскапана 6 курганоў. У 5 нябожчыкі арыентаваны галавой на захад, часам з невялікім адхіленнем да паўднёвага захаду; у адным (разбураным) пахавання не знойдзена. У 3 курганах рэчаў не было, у астатніх — шматлікія шкляныя пацеркі (пазалочаныя і пасярэбраныя бочкападобныя, зонныя, малінападобныя, бісер), медныя кольцы і бронзавыя падвескі — манетападобныя, пятлістыя і лунніцы. Трапляліся рэшткі ганчарнага посуду. Могільнік належаў радзімічам, датуецца 10—12 стагоддзямі.

Матэрыялы раскопак захоўваюцца ў Інстытуце археалогіі АН СССР і БДУ імя У. І. Леніна.

*Літ.:* Древности железного века в междуречье Десны и Днепра.— М., 1962.— (Свод археологических источников, в. ДІ—12); Ляўдански А. М. Кароткае паведамленне аб доследах культур эпохі жалеза ў БССР у 1930—1931 гг.— У кн.: Працы секцыі археалогіі. Мн., 1932, т. 3; Соловьева Г. Ф. Раскопки курганов в Белоруссии.— У кн.: Археологические открытия 1965 года. М., 1966; Плавінскі А. М. Курганная група.— Помнікі гісторыі і культуры Беларусі, 1983, № 4.

*А. Р. Мітрафанаў, А. М. Плавінскі.*

**1554. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У скверы. На ўшанаванне памяці 214 мірных жыхароў Гадзілавіцкага сельсавета, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1967 г. пастаўлены абеліск (вышыня 4 м) з надпісам-прысвячэннем, абапал абеліска 2 стэлы з дошкамі, на якіх імёны загінуўшых.

**в. Гарадзец, цэнтр сельсавета**

**1555. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На паўднёвай ускраіне вёскі. Пахаваны 181 воін, якія загінулі ў 1944 г. у баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. Сярод пахаваных — воіны 260-га гвардзейскага танкавага палка. У 1959 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна з аўтаматам.

**1556. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны 108 воінаў, якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў ці памерлі ад ран у 1944 г. Сярод пахаваных — воіны 3-й арміі. У 1959 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**1557. МАГІЛА ЛЕЗАВА** Васіля Мікалаевіча (гіст.). Каля будынка сярэдняй школы. Падпалкоўнік Чырвонай Арміі В. М. Лезаў загінуў у 1943 г. ў баі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1959 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Гута, Жуpaвіцкі сельсавет**

**1558. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). За 0,7 км на захад ад вёскі. Пахаваны 60 воінаў, якія загінулі ў 1944 г. у баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў пры вызваленні раёна. У 1975 г. на магіле пастаўлена стэла.

**1559. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 1 км на ўсход ад вёскі. 14 круглых насыпаў дыяметрам 5—13 м, вышынёй 0,5—2,5 м. Вядомы з 1885 г. Даследавалі ў канцы 19 ст. М. М. Філонаў, у 1910 г. Е. Р. Раманаў, раскапана 6 насыпаў. Пахавальныя абрады — трупапалажэнне і трупаспаленне. Пахавальны інвентар: жалезныя нажы, сярэбраныя скроневыя кольцы, бранзалеты, шкляныя пацеркі. Абследаваў у 1976 г. А. Ф. Мітрафанаў. Належаў радзімічам, датуецца 11—13 стагоддзямі.

Матэрыялы даследавання захоўваюцца ў Дзяржаўным Гістарычным музеі ў Маскве.

*Літ.:* Лоначевский А. Археологические находки в Гомельском уезде Могилевской губернии.— Киевская старина, 1885, т. 11, март; Романов Е. Р. Археологический очерк Гомельского уезда (Могилевской губернии).— Вильна, 1910.

*А. Р. Мітрафанаў.*

**в. Дварэц, цэнтр сельсавета**

**1560. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны 56 воінаў і 8 партызан, якія загінулі ў 1943—44 гг. у баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. Сярод пахаваных — Герой Савецкага Саюза Фёдар Іванавіч Ульянін.

Ф. І. Ульянін нарадзіўся ў сакавіку 1915 г. у с. Балтуноўка Хвалынскага р-на Саратаўскай вобл. у сялянскай сям'і. Член КПСС з 1942 г. У Чырвонай Арміі з 1936 г. У Вялікую Айчынную вайну на фронце з жніўня 1941 г. Камандзір батальёна маёр Ф. І. Ульянін вызначыўся пры вызваленні Рагачоўскага р-на. 24.6.1944 г. батальён пад яго камандаваннем фарсіраваў р. Друць, захапіў вышыню, адбіў 4 контратакі праціўніка. 26.6.1944 г. пераправіўся цераз р. Дабасна, на захопленым плацдарме падняў байцоў у атаку, цяжка паранены камандаваў боем. Загінуў у гэтым баі. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 23.8.1944 г.




1559. *Курганны могільнік. План.*

У 1958 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна.

*Літ.:* Навечно в сердце народном.— 3 изд.— Мн., 1984. *М. М. Казлоўская.*

**1561. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі, каля Дома культуры. На ўшанаванне памяці аднавяскоўцаў, якія загінулі на франтах і ў партызанскай барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у Вялікую Айчынную вайну, у 1965 г. пастаўлены абеліск.

**1562. ТРОІЦКАЯ ЦАРКВА** (архіт.). У цэнтры вёскі. Пабудавана ў 2-й палове 19 ст. з дрэва.

Будынак складаецца з асноўнага квадратнага ў плане аб'ёму, прамавугольных аднолькавых па шырыні алтарнай апсіды і дадатковай прыбудовы, да якой прылягае выцягнуты па папярочнай восі вузкі бабінец. Асноўны аб'ём завершаны васьмігранным светлавым барабанам, над ім пакаты шацёр з цыбулепадобнай галоўкай. Такое ж завяршэнне мае трох'ярусная званіца — 2 чацверыкі і васьмярык. Цэнтральны і 2 бакавыя ўваходы ў царкву афармлены чатырохкалоннымі ганкамі. Сярэдняя частка сцен з прамавугольнымі вокнамі ашалявана гарызантальна, цокаль і фрыз — вертыкальна. Унутры двухсветлавое асноўнае памяшканне перакрыта самкнутым скляпеннем на ветразях.

Царква — помнік драўлянага дойлідства з элементамі псеўдарускага стылю. *А. А. Міцянін.*

**в. Доўск, цэнтр сельсавета**

**1563. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны 138 воінаў 3-й арміі, якія загінулі ў 1943—44 гг. у баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. Сярод пахаваных — Герой Савецкага Саюза Пётр Аляксеевіч Данілаў.

П. А. Данілаў нарадзіўся ў 1915 г. у с. Малая Агароўка Цёпла-Агароўскага р-на Тульскай вобл. у сялянскай сям'і. Член КПСС. У 1937 г. скончыў Іванькаўскі сельскагаспадарчы тэхнікум. З 1937 г. у Чырвонай Арміі. У Вялікую Айчынную вайну на фронце з 1941 г. Памочнік начальніка палітаддзела арміі па камсамолу маёр П. А. Данілаў вызначыўся ў баях пры фарсіраванні Дняпра ў лютым 1944 г. На плацдарме каля Рагачова асабістым прыкладам натхніў воінаў на атаку. Цяжка паранены, не пакінуў поля бою. Загінуў у гэтым баі. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 23.7.1944 г.



1562. *Троіцкая царква.*

У 1958 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна.

*Літ.:* Навечно в сердце народном.— 3 изд.— Мн., 1984.

**1564. БРАЦКІЯ МАГІЛЫ ЧЫРВОНААРМЕЙЦАЎ** (гіст.). На могілках. У 2 магілах пахаваны 12 чырвонаармейцаў, якія загінулі ў сакавіку 1919 г. у баях супраць войск буржуазнай Польшчы. У 1979 г. пастаўлены абеліск.

**1565. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). На паўднёва-заходняй ускраіне вёскі. 27 насыпаў дыяметрам 5—10 м, вышынёй 0,7 м, 1,7 м. Адзін курган авальны даўжынёй 11,5 м, шырынёй 4 м, вышынёй 1—1,2 м. Адкрыў і абследаваў у 1888 г. Е. Р. Раманаў, абследавалі ў 1962 г. Л. Д. Побаль, 1976 г. А. Р. Мітрафанаў. Раскопкі не праводзіліся.

**1566. МОГІЛКІ АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны 59 жыхароў вёскі і навакольных населеных пунктаў, якіх у Вялікую Айчынную вайну на гэтым месцы расстралялі нямецка-фашысцкія захопнікі. У 1971 г. на могілках пастаўлены абеліск.

**1567. ЦАРКВА** (архіт.). У цэнтры вёскі. Пабудавана ў пачатку 20 ст. з цэглы. Будынак цэнтрычнай кампазіцыі, крыжападобны ў плане. Цэнтральная частка завершана купалам на васьмігранным барабане. Рызаліты з 4 бакоў увенчаны невысокімі шчытамі. Праёмы акон і дзвярэй з паўцыркульнымі імпастамі. Царква — помнік архітэктуры псеўдакласіцызму.

**пас. Дуброва, Гадзілавіцкі сельсавет**

**1568. МЕСЦА ПЕРШАГА ПАСЯДЖЭННЯ РАГАЧОЎСКАГА ПАДПОЛЬНАГА РАЙКОМА КП(б)Б І СТВАРЭННЯ РАГАЧОЎСКАГА ПАРТЫЗАНСКАГА АТРАДА** (гіст.). За 0,5 км ад пасёлка, у Будняцкім лесе.



1562. *Троіцкая царква. План.*



1563. *Помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў.*

Рагачоўскі падпольны райком КП(б)Б створаны ў жніўні 1941 г. Яго першае пасяджэнне адбылося 14.8.1941 г., дзе было разгледжана пытанне аб арганізацыі партызанскага атрада. Атрад аб'яднаў 120 чалавек з савецка-партыйнага актыву. Камандзіры М. Ц. Кузняцоў (жнівень — кастрычнік 1941 г.), С. М. Свярдлоў (кастрычнік 1941 г.— ліпень 1942 г.). 20.8.1941 г. партызаны зрабілі налёт на нямецкую аўтакалону на дарозе Рагачоў — Доўск. У пачатку верасня 1941 г. атрад перабазіраваўся ў Старасельскія лясы, з наступленнем зімы — у Азяранскі лес. Партызаны рабілі засады на шашэйных дарогах, падрывалі чыгуначныя пуці і масты, псавалі лініі сувязі. У ліпені 1942 г. паводле ўказання падпольнага райкома КП(б)Б Рагачоўскі партызанскі атрад аб'яднаўся з 255-м атрадам. Камандзіры М. К. Марусаў, В. А. Мінайлаў; камісары А. А. Бірукоў, А. К. Іванюк, І. А. Ярымаў.

У 1966 г. у памяць аб першым пасяджэнні Рагачоўскага падпольнага райкома КП(б)Б і стварэнні першага на Рагачоўшчыне партызанскага атрада пастаўлена стэла. Гл. артыкул № 1569 «Месца базіравання Рагачоўскага падпольнага райкома КП(б)Б і 8-й Рагачоўскай партызанскай брыгады».

*Літ.:* В грозные годы.— Мн., 1973; Подпольные партийные органы Компартии Бе-

ларуссии в годы Великой Отечественной войны (1941—1944).— Мн., 1975.
*М. В. Кірэйшын.*

**в. Заазер'е, Азяранскі сельсавет**

**1569. МЕСЦА БАЗІРАВАННЯ РАГАЧОЎСКАГА ПАДПОЛЬНАГА РАЙКОМА КП(б)Б І 8-й РАГАЧОЎСКАЙ ПАРТЫЗАНСКАЙ БРЫГАДЫ** (гіст.). У Вялікую Айчынную вайну у час нямецка-фашысцкай акупацыі раёна ў Азяранскіх лясах дыслацыравалася 8-я Рагачоўская партызанская брыгада, базіраваўся Рагачоўскі падпольны райком КП(б)Б.

Рагачоўскі падпольны райком КП(б)Б створаны ў жніўні 1941 г. Сакратары С. М. Свярдлоў (15.8. 1941 г.— 6.7.1943 г.), І. Ц. Зуевіч (15.8. 1941 г.— 28.6.1944 г.). Райком 14.8. 1941 г. стварыў партызанскі атрад, у лютым 1943 г. выступіў ініцыятарам фарміравання 8-й Рагачоўскай брыгады. Праводзіў сярод насельніцтва агітацыйна-прапагандысцкую работу, выдаваў падпольную газету «Камунар».

8-я Рагачоўская партызанская брыгада створана ў лютым 1943 г. паводле загаду Клічаўскага ваеннааператыўнага цэнтра на базе атрадаў 255-га, 256-га і 257-га. Дзейнічала на тэрыторыі Рагачоўскага, Журавіцкага, Жлобінскага, Буда-Кашалёўскага р-наў Гомельскай вобл. і Клічаўскага, Кіраўскага, Быхаўскага, Бярэзінскага р-наў Магілёўскай вобл. Камандзіры Ф. С. Тарасевіч (люты 1943 г.— люты 1944 г.), В. В. Чысцякоў (люты — сакавік 1944 г.); камісары А. А. Бірукоў (люты — ліпень 1943 г.), В. У. Паўлаў (ліпень 1943 г.— сакавік 1944 г.). 12.3.1944 г. на базе брыгады арганізавана Рагачоўская ваенна-аператыўная група, у якую ўвайшлі атрады 257-ы, 258-ы, 259-ы, 252-і спецатрад і 255-ы партызанскі полк (створаны ў лістападзе 1943 г. на базе 255-га атрада). Камандзір ваенна-аператыўнай групы В. В. Чысцякоў, начальнік штаба М. Ф. Рубіс. 27 і 28.6. 1944 г. ваенна-аператыўная група (2305 партызан) злучылася з часцямі Чырвонай Арміі.



1567. *Будынак былой царквы.*

Партызаны брыгады праводзілі дыверсіі на чыгуначных участках Быхаў — Жлобін, Жлобін — Бабруйск. У сакавіку — красавіку 1943 г. пусцілі пад адхон 32 эшалоны праціўніка, падарвалі і пашкодзілі 7 мастоў, больш за 40 аўтамашын, грамілі варожыя апорныя пункты. У час аперацыі «Рэйкавая вайна» ў 1943 г. падарвалі 140 рэек, разбурылі стрэлачныя пераводы і пашкодзілі раз'езд Амельня; пазней на гэтым участку падарвалі больш за 1 тыс. рэек.

У 1964 г. за 1 км на поўнач ад вёскі, на беразе Крушынаўскага воз. у гонар Рагачоўскага падпольнага райкома КП(б)Б і 8-й Рагачоўскай партызанскай брыгады пастаўлена стэла.

*Літ.:* Зуевич И. Т. Райком в подполье.— Мн., 1972; В грозные годы.— Мн., 1973; Подпольные партийные органы Компартии Белоруссии в годы Великой Отечественной войны (1941—1944).— Мн., 1975.
*М. В. Кірэйшын.*


1565. *Курганны могільнік.*

**в. Забалацце, цэнтр сельсавета**

**1570. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). У цэнтры вёскі, каля школы. Пахаваны 151 воін, якія загінулі ў 1943—44 гг. у баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. Сярод пахаваных — воіны 217-й стралковай дывізіі і 15-й танкавай брыгады. У 1967 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна.

**1571. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 30 воінаў, якія загінулі ў 1944 г. у баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. Сярод пахаваных — воіны 250-й стралковай дывізіі і 510-га танкавага палка 3-й арміі 1-га Беларускага фронту. У 1967 г. на магіле пастаўлена стэла.

**1572. ПАРК** (архіт.). На паўднёва-ўсходняй ускраіне вёскі. Закладзены ў 2-й палове 19 ст. як сядзібны. Ансамбль сядзібных пабудоў не збярогся.

Парк рэгулярна спланаваны на раўніннай пляцоўцы. Галоўнай уязной алеяй падзелены на паўднёвую (пейзажнага тыпу) і паўночную (пладовы сад з прамавугольнай сеткай алей) часткі. У пейзажнай частцы маляўнічыя курціны і палянкі, былі вадаёмы. У парку растуць пераважна мясцовыя пароды дрэў: вярба, дуб, вольха, арэх, бяроза, акацыя, чаромха, бэз.

Помнік садова-паркавага мастацтва.

**1573. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). На могілках. На ўшанаванне памяці 260 жыхароў Забалацкага сельсавета, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1967 г. пастаўлена стэла.

**1574. РАДЗІМА ГАРБАЧОВА** Барыса Сяргеевіча (гіст.).


1569. *Помнік на месцы базіравання Рагачоўскага падпольнага райкома КП(б)Б і 8-й Рагачоўскай партызанскай брыгады.*

Герой Грамадзянскай вайны Б. С. Гарбачоў нарадзіўся 7.8.1892 г. у сялянскай сям'і. Член КПСС з 1917 г. У 1926 г. скончыў ваенную акадэмію імя М. В. Фрунзе. З 1913 г. у арміі. У маі 1917 г. па спісе бальшавікоў выбраны ў Мінскі Савет. Прымаў актыўны ўдзел у арганізацыі армейскіх камітэтаў. Удзельнік устанаўлення Савецкай улады ў Ігуменскім павеце, ваенны камісар павета. Арганізаваў атрад Чырвонай гвардыі, удзельнічаў у ліквідацыі антысавецкага мяцяжу корпуса Доўбар-Мусніцкага, у баях з войскамі кайзераўскай Германіі. У маі 1918 г. сфарміраваў і ўзначаліў 35-ы Жалезны кавалерыйскі полк, які да верасня 1919 г. ваяваў на Заходнім фронце, пасля быў пераведзены на Паўднёва-Усходні фронт, далучаны да 4-й дывізіі 1-й коннай арміі і разгорнуты ў брыгаду асобага прызначэння. З 1926 г. камандзір брыгады, дывізіі, начальнік і ваенком Аб'яднанай ваеннай школы імя ВЦВК. З 1930 г. камандзір і ваенком корпуса навучальных устаноў Маскоўскай ваеннай акругі, з 1937 г. камандуючы Забайкальскай, Уральскай ваеннымі акругамі. Б. С. Гарбачоў быў членам Ваеннага Савета пры НКА СССР, выбіраўся членам ВЦВК і ЦВК СССР. Узнагароджаны 3 ордэнамі Чырвонага Сцяга. Памёр 3.7.1937 г.

*Літ.:* Селиванов П. В пороховом дыму.— Мн., 1968; Хохлов А. Г. Красная гвардия Белоруссии в борьбе за власть Советов (март 1917 — март 1918 гг.).— Мн., 1965.



1572. *Парк. Схема планіроўкі.*



1572. *Парк. Алея.*

**в. Задрупце, Лучынскі сельсавет**

**1575. ГАРАДЗІШЧА, КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.).

**1575а.** Гарадзішча. На паўднёвай ускраіне вёскі, на правым беразе Дняпра. Пляцоўка роўная, памерам 83×45 м. Усходні схіл стромкі, вышынёй 17—18 м, з інш. бакоў умацавана валам (дрэнна захаваўся) вышынёй 1—3 м, найбольшая шырыня 15 м, найменшая — 8 м. Абследавалі ў 1930—31 гг. А. М. Ляўданскі, у 1958 г. В. М. Мельнікоўская, у 1976 г. А. Р. Мітрафанаў. Раскопкі не праводзіліся.

**1575б.** Курганны могільнік. За 0,1 км на поўнач ад гарадзішча. Захаваліся 3 насыпы дыяметрам 3,5—5 м, вышынёй 0,5—0,7 м. Даследаваў у 1931 г. А. М. Ляўданскі, які з 40 курганоў раскапаў 6. Пахавальны абрад — трупапалажэнне, пераважна галавой на захад. Знойдзены рэшткі дамавін, жалезныя цвікі, ганчарны посуд, шкляныя, бронзавыя, філігранныя сердалікавыя пацеркі, бронзавыя пярсцёнкападобныя скроневыя кольцы. У 1976 г. абследаваў А. Р. Мітрафанаў. Гарадзішча і курганны могільнік належалі дрыгавічам, датуюцца 10—11 стагоддзямі.

Матэрыялы раскопак захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

*Літ.:* Ляўданскі А. М. Кароткае паведамленне аб доследах культур эпохі жалеза ў БССР у 1930—1931 гг.— У кн.: Працы секцыі археалогіі. Мн., 1932, т. 3; Мельниковская О. Н. Племена Южной Белоруссии в раннем железном веке.— М., 1967. *А. Р. Мітрафанаў.*

**в. Заполле, цэнтр сельсавета**

**1576. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). У цэнтры вёскі, каля будынка выканкома сельсавета. Пахаваны 184 воіны, якія загінулі ў 1941—44 гг. у баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. Сярод пахаваных — воіны 3-й арміі 1-га Беларускага фронту, Герой Савецкага Саюза Пётр Сяргеевіч Прыходзька.

П. С. Прыходзька нарадзіўся ў 1918 г. ў г. Крамянчуг Палтаўскай вобл. у сям'і рабочага. Член КПСС з 1942 г. У Чырвонай Арміі з 1939 г. У Вялікую Айчынную вайну на фронце з 1941 г. Камандзір кулямётнага ўзвода старшы сяржант П. С. Прыходзька вызначыўся ў чэрвені 1944 г. у час прарыву абароны праціўніка ў Гомельскай вобл. Пры фарсіраванні р. Друць каля Рагачова выбухам снарада быў пашкоджаны штурмавы мост. П. С. Прыходзька кінуўся ў ваду, пад агнём праціўніка падтрымліваў насціл моста, па якім праходзілі воіны з узбраеннем. Адзін з першых уварваўся ў варожыя траншэі і кулямётным агнём забяспечваў наступленне пяхоты. Цяжка паранены, працягваў камандаваць узводам. У баі за чацвёртую лінію траншэй праціўніка зноў быў цяжка паранены. Памёр ад ран 26.6.1944 г. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 23.8.1944 г. Яго імя прысвоена сярэдняй школе № 1 у г. Крамянчуг.

У 1964 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна.

*Літ.:* Навечно в сердце народном.— 3 изд.— Мн., 1984. *М. В. Кірэйшын.*

**1577. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). Каля школы. Пахаваны 262 воіны, якія загінулі ў 1943—44 гг. у баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. Сярод пахаваных — воіны 3-й арміі 1-га Беларускага фронту. У 1959 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна.

**1578. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі, каля клуба. На ўшанаванне памяці 143 жыхароў Запольскага сельсавета, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1969 г. пастаўлены помнік — скульптура воіна, стэла з барэльефнай выявай фрагмента бою і дошкі з імёнамі загінуўшых.

**в. Збароў, цэнтр сельсавета**

**1579. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). Каля школы. Пахаваны 69 воінаў, якія загінулі ў 1943 г. у баях пры вызваленні раёна ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1965 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна.

**1580. ГАРАДЗІШЧА** (археал.). За 1 км ад вёскі, на левым карэнным беразе Дняпра. Пляцоўка ўзвышаецца над летнім межанным узроўнем вады ў рацэ на 17—18 м. З заходняга і паўднёва-заходняга (часткова і з




1575а. *Гарадзішча. План.*




1578. *Помнік землякам.*

паўднёвага) бакоў умацавана валам і ровам. Вышыня вала каля 4 м, шырыня 10—15 м, глыбіня рова 2,5—3 м, шырыня каля 15 м. Вядома з 1873 г. Абследавалі ў 1931 г. А. М. Ляўданскі, у 1976 г. А. Р. Мітрафанаў, даследавала ў 1967—68 гг. Г. Ф. Салаўёва (473 м² плошчы). Культурны пласт каля вала 1,6 м, у цэнтры пляцоўкі 0,5—0,6 м. Выяўлены 3 розначасовыя культурныя гарызонты: перыяду Кіеўскай Русі, ранняга жалезнага веку і эпохі бронзы. У першым гарызонце знойдзена кераміка 12—13 стагоддзяў, шкляныя бранзалеты і пацеркі, крэсівы, жалезныя нажы, кольцы, замкі, ключы, цвікі, сякера, рыбалоўны кручок, дзвярная накладка, вялікі абломак заходнееўрапейскай (раманскай) бронзавай чашы, сярэбраныя і бронзавыя бранзалеты, бронзавыя гузікі, абломак крыжаэнкалпіёна. У другім і трэцім гарызонтах знойдзена ляпная кераміка ранняга жалезнага (мілаградская культура) і бронзавага вякоў. Выяўлены таксама гаспадарчыя ямы 11—13 стагоддзяў і ранняга жалезнага веку, рэшткі жытла зрубнай канструкцыі (12—13 стагоддзяў) і ямы ад слупоў.

Матэрыялы раскопак захоўваюцца ў Інстытуце археалогіі АН СССР.

*Літ.:* Сведения 1873 г. о городищах и курганах.— Известия Археологической комиссии. СПб., 1903, в. 5; Ляўданскі А. М. Кароткае паведамленне аб доследах культур эпохі жалеза ў БССР у 1930—1931 гг.— У кн.: Працы секцыі археалогіі. Мн., 1932, т. 3; Древности железного века в междуречье Десны и Днепра.— М., 1962. *А. Р. Мітрафанаў.*

**1581. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 2,5—3 км на ўсход ад вёскі, за 1 км на паўднёвы ўсход ад санаторыя «Прыдняпроўскі», у лесе, на левым беразе Дняпра. 5 курганоў дыяметрам ад 5 да 11 м, вышынёй 1,1—2,5 м. Адкрыў і абследаваў у 1976 г. А. Р. Мітрафанаў. Раскопкі не праводзіліся.

**1582. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі, каля будынка праўлення калгаса «Новы шлях». На ўшанаванне памяці 161 жыхара Збароўскага сельсавета, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1965 г. пастаўлены абеліск.

**1583. РАДЗІМА ОСІПАВА** Кірылы Нічыпаравіча — Героя Савецкага Саюза (гіст.). Гл. артыкул № 55 «Магіла Осіпава Кірылы Нічыпаравіча».

**в. Званец, цэнтр сельсавета**

**1584. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі, каля будынка праўлення калгаса «Бальшавік». На ўшанаванне памяці 178 жыхароў вёскі, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1968 г. пастаўлены помнік — абеліск і скульптурная кампазіцыя: партызан і дзяўчына.

**пас. Ільіч, Званецкі сельсавет**

**1585. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 2 воіны, якія загінулі ў 1943 г. у баях пры вызваленні раёна ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1980 г. на магіле пастаўлена стэла.

**1586. МАГІЛА ЛЕШЧАНКІ** Аляксея Фёдаравіча (гіст.). На могілках. Воін Чырвонай Арміі А. Ф. Лешчанка загінуў у 1943 г. у баі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў пры вызваленні пасёлка. У 1980 г. на магіле пастаўлена стэла.

**в. Каласы, Запольскі сельсавет**

**1587. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 1 км на паўночны захад ад вёскі, на правым беразе р. Друць. 76 насыпаў дыяметрам 5—12 м, вышынёй ад 0,5 да 3,5 м. Адкрылі і даследавалі ў 1892 г. М. В. Фурсаў і С. Ю. Чалоўскі, даследаваў у 1929 г. А. Дз. Каваленя, абследаваў у 1976 г. А. Р. Мітрафанаў. У 4 курганах пахавальны абрад трупапалажэнне. 2 шкілеты былі арыентаваны галавой на паўночны ўсход, адзін — на захад і адзін — на ўсход. Пахавальны інвентар: ганчарны посуд, сярэбраныя і медныя драцяныя бранзалеты, сердалікавая пацерка, сярэбраны пярсцёнак. У 1982 г. даследавалі В. Н. Рабцэвіч, А. М. Плавінскі. Раскапана 14 пахаванняў: у 9 трупапалажэнні на гарызонце, у 3 — у ямах галавой на захад, у 4 — на ўсход. У 3 курганах былі парныя пахаванні, у 6 нябожчыкі абкладзены плахамі. Пахавальны інвентар: паясныя кольцы, бронзавая трохдротавая грыўня, бранзалетападобныя скроневыя кольцы, лунніцы, фібулы, вітыя і пласціністыя пярсцёнкі. Шмат разнастайных пацерак: сярэбраныя зярнёныя, сердалікавыя біпірамідальныя і шарападобныя, бурштынавыя, шкляныя пазалочаныя і пасярэбраныя бочкападобныя, зонныя, роўнавугольныя, бісер і інш. У 7 курганах зной-




1580. *Гарадзішча. План.*



1580. *Гарадзішча.*




1581. *Курганны могільнік. План.*



1587. *Жаночыя ўпрыгожанні з раскопак могільніка.*




1587. *Курганны могільнік. План.*

дзены рэшткі ганчарнага посуду. У адным кургане, акрамя трупапалажэння ў яме, знойдзена пахаванне 6—7 стагоддзяў па абраду трупаспалення. Рэшткі крэмацыі былі ў невялікім ляпным гаршку цюльпанападобнай формы і накрыты перавёрнутай ляпной пасудзінай слоікавага тыпу. Могільнік належаў дрыгавічам, датуецца 11—12 стагоддзямі.

Матэрыялы раскопак захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР і БДУ імя У. І. Леніна.

*Літ.:* Фурсов М. В., Чоловский С. Ю. Дневник курганных раскопок, произведенных ... в течение лета 1892 г. в уездах Рогачевском, Быховском, Климовичском, Чериковском, Мстиславском.— Могилев, 1892; Каваленя А. Д. Археалагічныя разведкі ў Магілёўскай, Бабруйскай і Мінскай акругах.— Запіскі аддзела гуманітарных навук Беларус. Акад. навук, Мн., 1930, кн. 11. Працы археалагічнай камісіі. т. 2.

*А. Р. Мітрафанаў, А. М. Плавінскі.*

**в. Каменка, Гарадзецкі сельсавет**

**1588. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны астанкі мірных жыхароў. 12.6.1943 г. нямецка-фашысцкія карнікі ўварваліся ў вёску, забілі на вуліцы 6 жыхароў, 20 чалавек сагналі ў адну хату і 25 у другую, закідалі хаты гранатамі і падпалілі, потым спалілі ўсю вёску.

У 1966 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптуры воіна і жанчыны ў жалобе.

**в. Каменка, Курганскі сельсавет**

**1589. БРАЦКІЯ МОГІЛКІ САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). На могілках. Пахаваны партызаны асобнага атрада «Слаўны», якія загінулі 4.7.1943 г., і воіны, што загінулі ў 1944 г. у баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. Сярод пахаваных — заслужаны майстар спорту СССР А. М. Далгушын, які ваяваў у саставе асобнай мотастралковай брыгады асобага прызначэння. У 1975 г. на могілках пастаўлена стэла з гарэльефнай выявай спартыўнага кубка.

**1590. ГАРАДЗІШЧА, СЕЛІШЧА, КУРГАННЫЯ МОГІЛЬНІКІ** (археал.). **1590а.** Гарадзішча. За 1,5 км на паўночны ўсход ад вёскі, ва ўрочышчы Гарадок, на карэнным левым беразе р. Ржаўка. Пляцоўка роўная, паўавальная ў плане, памерам 40×30 м, з боку поля ўмацавана падкovападобным валам вышынёй 0,5—1,2 м. З паўночнага боку абмежавана ярам глыбінёй 1 м, з паўднёвага — ровам глыбінёй 0,5—0,6 м і вонкавым валам вышынёй 0,5—0,6 м. Вядома з 1873 г. Абследавалі ў 1930 г. А. М. Ляўданскі, у 1966 г. Л. Д. Побаль, у 1976 г. А. Р. Мітрафанаў. Культурны пласт у цэнтры пляцоўкі 0,25—0,3 м, каля валоў 0,6—0,7 м. Знойдзены рэшткі ляпнога посуду мілаградскай культуры. Гарадзішча датуецца 6 ст. да н. э.— 1 ст. н. э. Раскопкі не праводзіліся.




1590а. *Гарадзішча. План.*



1590в. *Курганны могільнік-1. План.*




1590г. *Курганны могільнік-2. План.*

**1590б.** Селішча. Каля гарадзішча, на ўсход і поўдзень ад яго. Вядома з 1873 г. Абследавалі ў 1930 г. А. М. Ляўданскі, у 1966 г. Л. Д. Побаль, у 1976 г. А. Р. Мітрафанаў. Знойдзены абломкі посуду мілаградскай культуры. Селішча датуецца 6 ст. да н. э.— 1 ст. н. э. Раскопкі не праводзіліся.

**1590в.** Могільнік-1. За 1,4 км на паўночны ўсход ад вёскі. 102 насыпы дыяметрам 5—13 м, вышынёй 0,5—2,5 м. Каля асноў курганоў прасочваюцца раўкі. Насыпы добра захаваліся, здзірванелі, густа зараслі лесам і кустамі. У цэнтры могільніка ёсць курганы вышынёй 3,5 м, дыяметрам 14—15 м. Вядомы з 1873 г. Даследаваў у 1930 г. А. М. Ляўданскі, раскапана 3 насыпы. Пахавальны абрад — трупапалажэнне галавой на захад. У 2 курганах пахаванні мужчын (адно на гарызонце, другое ў магільнай яме). Знойдзены ганчарны посуд, бронзавыя спражкі, паясныя кольцы, жалезныя крэсівы і нож. Абследаваў у 1976 г. А. Р. Мітрафанаў. Могільнік належаў радзімічам, датуецца 11—12 стагоддзямі.

**1590г.** Могільнік-2. За 0,2—0,3 км на поўдзень і на паўднёвы ўсход ад вёскі. 97 насыпаў дыяметрам 5—14 м, вышынёй 0,5—3,5 м. У паўднёвай частцы могільніка 12 насыпаў дыя-

метрам 16—24 м, вышынёй 3,5—6 м. Вядомы з 1873 г. У 1930 г. 3 курганы даследаваў А. М. Ляўданскі. Пахавальны абрад — трупапалажэнне на гарызонце. Ускрыты 2 жаночыя пахаванні з рэшткамі дамавін. Знойдзены пярсцёнкападобныя бронзавыя скроневыя кольцы, пярсцёнкі, шкляныя пацеркі, рэшткі ганчарнай керамікі. У 1976 г. помнік абследаваў А. Р. Мітрафанаў. Могільнік належаў радзімічам, датуецца 11—12 стагоддзямі.

Матэрыялы даследавання захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

*Літ.:* Сведения 1873 г. о городищах и курганах.— Известия Археологической комиссии. СПб., 1903, в. 5; Ляўданскі А. М. Кароткае паведамленне аб доследах культур эпохі жалеза ў БССР у 1930—1931 гг.— У кн.: Працы секцыі археалогіі. Мн., 1932, т. 3. *А. Р. Мітрафанаў.*

**1591. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны астанкі мірных жыхароў. 5.6.1943 г. нямецка-фашысцкія карнікі ўварваліся ў вёску, сагналі 153 жыхароў у адзін дом і спалілі, затым спалілі вёску (100 двароў). У 1964 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптуры воіна і жанчыны ў жалобе.

**1592. МЕСЦА БОЮ 1943 г.** (гіст.). За 0,6 км на поўдзень ад вёскі.

У канцы красавіка 1943 г. нямецка-фашысцкія захопнікі праводзілі карную аперацыю супраць мірнага насельніцтва і партызан 10-й Журавіцкай брыгады (камандзір С. М. Белых, камісар І. М. Дзікан). Камандаванне брыгады прыняло рашэнне перадыслацыравацца. Атрад 265-ы імя К. Я. Варашылава (камандзір П. П. Рымараў, камісар К. М. Драчоў) адыходзіў апошнім. Раніцай 27 красавіка каля в. Варварына партызаны завязалі бой з карнікамі. Ва ўрочышчы Капатнік атрад быў акружаны ворагам. На працягу 14 гадзін народныя мсціўцы адбілі 12 варожых атак, нанеслі праціўніку значныя страты і выйшлі з акружэння.

У 1964 г. у гонар баявых дзеянняў партызан пастаўлены абеліск. *М. В. Кірэйшын.*

**в. Канава, Журавіцкі сельсавет**

**1593. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На могілках. Пахаваны воіны, якія загінулі ў 1943 г. у баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1975 г. на магіле пастаўлены абеліск.




1594. *Курганны могільнік. План.*



1596. *Помнік на месцы абароны плацдарма.*

**1594. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). На ўсходняй ускраіне вёскі. 38 насыпаў дыяметрам 4—20 м, вышынёй 0,6—4 м. Вядомы з 1873 г. Абследаваў у 1976 г. А. Р. Мітрафанаў. Раскопкі не праводзіліся.

**1595. МАГІЛА САВЕЦКАГА ВОІНА** (гіст.). На сядзібе П. В. Асюлева. Пахаваны воін, які загінуў у Вялікую Айчынную вайну. У 1956 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Канапліцы, Азяранскі сельсавет**

**1596. МЕСЦА АБАРОНЫ ПЛАЦДАРМА Ў 1944 г.** (гіст.). За 0,3 км на поўдзень ад вёскі.

24.2.1944 г. у раёне вёскі часці 3-й арміі (камандуючы генерал-лейтэнант А. В. Гарбатаў) 1-га Беларускага фронту фарсіравалі р. Друць і захапілі на правым беразе плацдарм (11 км па фронту, да 3 км у глыбіню) і ўтрымлівалі яго да 23.6.1944 г.— пачатку Беларускай аперацыі, у ходзе якой завершана вызваленне тэрыторыі Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў.

У 1977 г. у гонар воінаў 3-й арміі ўстаноўлена стэла, адноўлена зямлянка. Побач стаіць абпалены дуб.

**в. Кашара, Дварэцкі сельсавет**

**1597. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля Дома культуры. На ўшанаванне памяці 140 землякоў Дварэцкага сельсавета, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1977 г. пастаўлены помнік — стэла з барэльефнай выявай жанчыны.

**в. Кісцяні, цэнтр сельсавета**

**1598. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). У цэнтры вёскі, каля будынка выканкома сельсавета. Пахаваны 339 воінаў, якія загінулі ў баях пры вызваленні раёна ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў ці памерлі ад ран. У 1957 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна.

**1599. ГАРАДЗІШЧА, СЕЛІШЧА** (археал.).

**1599а.** Гарадзішча. У цэнтральнай частцы вёскі, на правым беразе Дняпра, ва ўрочышчы Гарадок. Пляцоўка трапецападобная ў плане, памерам 60×40 м, мае схіл на паўднёвы ўсход. З усходняга боку высокі стромкі бераг ракі, з паўднёвага і паўночнага — яры. З захаду пляцоўка была ўмацавана валам і ровам, якія цяпер слаба прасочваюцца. Вядома з 1873 г.




**1599а.** *Гарадзішча. План.*

Абследавалі ў 1892 г. С. Ю. Чалоўскі і М. В. Фурсаў, у 1930 г. А. М. Ляўданскі, у 1950-я гады Ю. У. Кухарэнка і В. М. Мельнікоўская, у 1967 г. Л. Д. Побаль. Раскопкі ў 1975 г. правадзіў Э. М. Загарульскі, даследавана 300 м² плошчы. Культурны пласт у цэнтры 0,3—0,9 м, па краях 1,5—1,7 м. Знойдзена вялікая колькасць абломкаў ляпных гаршкоў мілаградскай культуры, рэшткі керамікі зарубінецкай культуры (у т. л. глянцаванай), жалезныя сярпы, кольцы, спражкі, бранзалеты з патоўшчанымі канцамі, абломак бранзалета познелужыцкага тыпу, бронзавыя спіральныя праколкі, абломак бронзавай іголкі, шкляныя і гліняныя пацеркі, гліняныя праслiцы-грузікі (крыжападобныя, біканічныя, круглаватыя), невялікія пасудзіны з гліны. Гарадзішча датуецца 6 ст. да н. э.— 6—7 стагоддзямі н. э.

Матэрыялы даследавання захоўваюцца ў БДУ імя У. І. Леніна.

**1599б.** Селішча. За ярамі, побач з гарадзішчам, на паўднёвы ўсход і паўночны захад ад яго. Плошча каля 1 га. Даследавалі ў 1950-я гады Ю. У. Кухарэнка і Л. Д. Побаль. Культурны пласт прасочаны на ўсёй плошчы селішча. Знойдзены абломкі ляпных гліняных гаршкоў мілаградскай (7 ст.— 3 ст. да н. э.) і ранняга этапа зарубінецкай (2 ст. да н. э.— 2 ст. н. э.) культур і рэшткі керамікі позняга этапа зарубінецкай культуры (2—5 стагоддзі н. э.).

Матэрыялы раскопак захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

*Літ.:* Сведения 1873 г. о городищах и курганах.— Известия Археологической комиссии. СПб., 1903, в. 5; Ляўданскі А. М. Кароткае паведамленне аб даследах культур эпохі жалеза ў БССР у 1930—1931 гг.— У кн.: Працы секцыі археалогіі. Мн., 1932, т. 3; Побаль Л. Д. Славянские древности Белоруссии.— Мн., 1974.

*А. Р. Мітрафанаў.*

**1600. ПАРК** (архіт.). У вёсцы. На правым беразе Дняпра. Закладзены як сядзібны ў канцы 18 — пачатку 19 ст.

Размешчаны на 2 прыбярэжных тэрасах. Кампазіцыя ландшафтная. Плошча 6 га. Сядзібны дом (не збярогся) стаяў на верхняй паўкруглай тэрасе. У паўночнай частцы парку




**1600.** *Парк. Схема планіроўкі: 1— сад; 2— узгорак; 3— лес.*



**1602.** *Помнік на магіле Ф. І. Ігнашчанкі.*

зберагліся рэшткі рэгулярнай планіроўкі — партэр у форме квадрата з кругам унутры, аформлены двухраднковай алеяй з хвоі звычайнай, і штучны круглы ў плане ўзгорак. У парку растуць дрэвы пераважна мясцовых парод — клён, таполя, рабіна і інш., трапляюцца экзоты.

Помнік садова-паркавага мастацтва.

*А. М. Кулагін.*

**1601. РАДЗІМА ПШЫРКОВА** Юльяна Сяргеевіча (гіст.).

Беларускі савецкі літаратуразнавец і крытык Ю. С. Пшыркоў нарадзіўся 18.10.1912 г. у сялянскай сям'і. Доктар філалагічных навук (1962 г.), прафесар (1964 г.), заслужаны дзеяч навукі БССР (1978 г.). У 1939 г. скончыў Ленінградскі універсітэт. Працаваў настаўнікам (1930—34 гг.), выкладчыкам мовы і літаратуры ў Магілёўскім педагагічным інстытуце (1939—40 гг.). З 1940 г. у Чырвонай Арміі. Удзельнік Вялікай Айчыннай вайны. З 1945 г. навуковы супрацоўнік, з 1954 г. загадчык сектара беларускай дакастрычніцкай літаратуры і тэксталогіі Інстытута літаратуры імя Я. Купалы АН БССР. Адначасова выкладчык БДУ (1945—57 гг.) і Мінскага педагагічнага інстытута імя М. Горкага (1966—68 гг.).

Даследаваў станаўленне і шляхі развіцця беларускай савецкай прозы, творчасць Я. Коласа, Я. Купалы, К. Крапівы, Я. Маўра, М. Лынькова, М. Танка, А. Макаёнка і інш. Аўтар прац «Уплыў творчасці А. С. Пушкіна на развіццё беларускай літаратуры» (1949 г.), «Трылогія Якуба Коласа «На ростанях» (1956 г.), «Беларуская савецкая проза (20-я — пачатак 30-х гадоў)» (1960 г.), «Эпас рэвалюцыі» (1975 г.). Сааўтар кніг «Нарыс гісторыі беларускай савецкай літаратуры» (1954 г.), «Нарысы па гісторыі беларускай літаратуры» (1956 г.), «Гісторыя беларускай дакастрычніцкай літаратуры» (т. 1—2, 1968—69 гг.), падручнікаў па беларускай літаратуры для сярэдняй школы і інш. Дзяржаўная прэмія БССР імя Я. Коласа 1980 г. за ўдзел у двухтомным даследаванні «Гісторыя беларускай дакастрычніцкай літаратуры» і «Гісторыя беларускай савецкай літаратуры» (1977 г.).

Ю. С. Пшыркоў памёр 23.12.1980 г. Пахаваны ў Мінску на Паўночных могілках.

*Літ.:* Пісьменнікі Савецкай Беларусі.— Мн., 1981.

**в. Красніца, Гадзілавіцкі сельсавет**

**1602. МАГІЛА ІГНАШЧАНКІ** Фёдара Іванавіча (гіст.). У цэнтры вёскі. Маёр Чырвонай Арміі Ф. І. Ігнашчанка загінуў у 1944 г. пры вызваленні раёна ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1962 г. на магіле пастаўлены помнік — бюст Ф. І. Ігнашчанкі.

**1603. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі, у школьным скверы. На ўшанаванне памяці аднавяскоўцаў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1967 г. пастаўлены абеліск.

**в. Крыўка, Пабалаўскі сельсавет**

**1604. МАГІЛЫ САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). На могілках. У 3 магілах пахаваны 7 воінаў і 6 партызан, якія загінулі ў 1941—44 гг. У 1974 г. на магілах пастаўлены абеліскі.

**в. Курганне, цэнтр сельсавета**

**1605. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). У цэнт-



**1606.** *Курганны могільнік. План.*

ры вёскі. Пахаваны 176 воінаў і партызан, што загінулі ў 1944 г. ці памерлі ад ран у палявых шпіталях. Сярод пахаваных — воіны 142-га стралковага палка і 78-га гвардзейскага авіяпалка, камандзір 10-й Журавіцкай партызанскай брыгады С. М. Белых, які загінуў у баі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў 29.4. 1943 г. У 1962 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна.

**1606. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 0,5—0,6 км на ўсход ад вёскі. 26 насыпаў дыяметрам 5—7 м, вышынёй 1,6—2,3 м. Вядомы з 1873 г. Даследаваў у 1890 г. У. І. Зенчанка, які раскапаў 3 насыпы, абследавалі ў 1930 г. А. М. Ляўданскі, у 1976 г. А. Р. Мітрафанаў. Пахавальны абрад — трупаспаленне. Знойдзены пласціністыя і вітыя бранзалеты, сяміпрамянёвыя скроневыя кольцы, лунніцы, пярсцёнкі, бразготкі, абломкі шыйнай грыўні. Могільнік належаў радзімічам, датуецца 11—12 стагоддзямі.

Матэрыялы даследавання захоўваюцца ў гісторыка-этнаграфічным музеі Літоўскай ССР у Вільнюсе і ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

*Літ.:* Сведения 1873 г. о городищах и курганах.— Известия Археологической комиссии. СПб., 1903, в. 5; Л я ў д а н с к і А. М. Кароткае паведамленне аб доследах культур эпохі жалеза ў БССР у 1930—1931 гг.— У кн.: Працы секцыі археалогіі. Мн., 1932, т. 3. *А. Р. Мітрафанаў.*

**в. Лучын, цэнтр сельсавета**

**1607. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ, ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля сярэдняй школы. Пахаваны 63 воіны, якія загінулі 20.6.1944 г. пры вызваленні вёскі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. На ўшанаванне памяці воінаў, а таксама 140 аднавяскоўцаў, што загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1966 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна і абеліск.

**1608. ГАРАДЗІШЧЫ, СЕЛІШЧА, КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.).

**1608а.** Г а р а д з і ш ч а - 1. Мясцовая назва П а п о в а  Г а р а. На паўночнай ускраіне вёскі. Пляцоўка пакатая, з нахілам да ракі, памерам 120×50 м. З заходняга, паўднёвага і паўднёва-ўсходняга бакоў умацавана падковападобным валам вышынёй 3 м, шырынёй у аснове 19—20 м. З паўднёва-ўсходняга боку вал мае праход шырынёй каля 6,5 м. Абследавалі ў пачатку 1890-х гадоў Е. Р. Раманаў, у 1928 г. А. Дз. Каваленя, у 1960-я гады В. М. Мельнікоўская, Л. Д. Побаль і П. Ф. Лысенка, у 1976 г. А. Р. Мітрафанаў. Культурны пласт у цэнтры 0,5—0,6 м, на краі (па беразе Дняпра) 1,2—1,6 м. Знойдзены ляпная кераміка ранняга жалезнага веку, ганчарная кераміка 11—13 стагоддзяў, рэшткі шкляных бранзалетаў, вырабы з жалеза і бронзы. Адносіцца да мілаградскай і зарубінецкай культур і эпохі Кіеўскай Русі.




**1608а.** *Гарадзішча-1. План.*

**1608б.** Г а р а д з і ш ч а - 2. За 50—70 м на паўночны захад ад вёскі, за глыбокім ярам. Пляцоўка роўная, памерам 85×90 м. З усходняга боку высокі абрывісты бераг Дняпра (вышыня каля 10 м над поплавам), з паўднёвага — яр, з заходняга і паўночнага ўмацавана валамі і равамі. Вышыня ўнутранага вала каля 4,5 м, шырыня ў аснове каля 16 м, вышыня вонкавага вала 2,3 м, шырыня ў аснове каля 12 м. Паміж валамі роў глыбінёй 4,5 м, шырынёй каля 17 м. Абследавалі ў пачатку 1890-х гадоў Е. Р. Раманаў, у 1928 г. А. Дз. Каваленя, у 1960-я гады В. М. Мельнікоўская, П. Ф. Лысенка, у 1976 г. А. Р. Мітрафанаў.

**1608в.** С е л і ш ч а. З заходняга боку гарадзішча-1, за валам. Плошча каля 1 га. Абследавалі ў пачатку 1890-х гадоў Е. Р. Раманаў, у 1928 г. А. Дз. Каваленя, у 1960-я гады В. М. Мельнікоўская, П. Ф. Лысенка, у 1976 г. А. Р. Мітрафанаў. Культурны пласт каля 0,4 м. Знойдзены рэшткі ляпных і ганчарных гаршкоў, якія адносяцца да мілаградскай і зарубінецкай культур і эпохі Кіеўскай Русі.

**1608г.** К у р г а н н ы  м о г і л ь н і к. Побач з гарадзішчам-2. 5 курганоў дыяметрам 8—10 м, вышынёй 1—2 м. Абследавалі ў пачатку 1890-х гадоў Е. Р. Раманаў, у 1928 г. А. Дз. Каваленя, у 1960-я гады В. М. Мельнікоўская, П. Ф. Лысенка, у 1976 г. А. Р. Мітрафанаў. Па звестках Е. Р. Раманава ў 1890 г. тут было 120 насыпаў, па звестках А. Дз. Кавалені ў 1928 г.— 50.

Раскопкі не праводзіліся. Матэрыялы абследавання гарадзішчаў і селішча захоўваюцца ў Інстытуце археалогіі АН СССР і ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

*Літ.:* Заметка Е. Р. Романова о дополнительных археологических местонахождениях.— У кн.: Труды Виленского отделения Московского предварительного комитета по устройству в Вильне 9 археологического съезда. Вильно, 1893; К а в а л е н я А. Д. Археалагічныя разведкі ў Магілёўскай, Бабруйскай і Мінскай акругах.— Запіскі аддзела гуманітарных навук Беларус. Акад. навук, 1930, кн. 11. Працы археалагічнай камісіі, т. 2; М е л ь н и к о в с к а я О. Н. Племена Южной Белоруссии в раннем железном веке.— М., 1967. *А. Р. Мітрафанаў.*

**1609. ПАСЕЛІШЧЫ** (археал.).

**1609а.** П а с е л і ш ч а - 1. За 1,5 км на поўдзень ад вёскі, ва ўрочышчы Барок, на пясчаным узвышшы правага берага Дняпра. Выявіў у 1956 г. і даследаваў у 1958 г. І. І. Арцёменка. У раскопе плошчай 60 $м^2$ культурны пласт 0,2 м. Знойдзены ляпная кераміка, крамянёвыя прылады працы, адшчэпы, асколкі крэменю. Адносіцца да эпохі неаліту, датуецца 4—2-м тысячагоддзямі да н. э.

**1609б.** П а с е л і ш ч а - 2. За 2,5 км на ўсход ад вёскі, на пясчаным узвышшы левага берага Дняпра, на захад ад воз. Добрае. Выявіў у 1957 г. І. І. Арцёменка. У раскопе плошчай 80 $м^2$ культурны пласт 0,2 м. Знойдзены крамянёвыя наканечнікі стрэл і коп'яў, скрабкі, нажы і інш., ляпная кераміка. Адносіцца да эпохі неаліту і бронзавага веку, датуецца 4-м — 1-й паловай 1-га тысячагоддзя да н. э.

**1609в.** П а с е л і ш ч а - 3. За 1 км на поўнач ад вёскі, ва ўрочышчы Завалле. Выявіў у 1928 г. А. Дз. Каваленя, раскопкі праводзіў у 1956—57 гг. І. І. Арцёменка. У раскопе плошчай 300 $м^2$ культурны пласт 0,2—0,5 м. Знойдзены крамянёвыя прылады працы і ляпная кераміка. Адносіцца да эпохі неаліту і бронзавага веку, датуецца 4-м — 1-й паловай 1-га тысячагоддзя да н. э.

**1609г.** П а с е л і ш ч а - 4. За 2,5 км на поўнач ад вёскі, ва ўрочышчы Іванскае, на правым беразе Дняпра. Выявіў у 1928 г. А. Дз. Каваленя, раскопкі праводзіў у 1957 г. І. І. Арцёменка. У раскопе плошчай 124 $м^2$ культурны пласт 0,2 м. Знойдзены крамянёвыя прылады працы і ляпная кераміка. Адносіцца да эпохі неаліту і бронзавага веку, датуецца 4-м — 1-й паловай 1-га тысячагоддзя да н. э.

**1609д.** П а с е л і ш ч а - 5. Ва ўрочышчы Чырвоная Гара, з поўначы ад




**1608б.** *Гарадзішча-2. План.*

пясчанай грады, на беразе пратокі Дняпра. Выявіў і абследаваў у 1956 г. І. І. Арцёменка. Знойдзены рэшткі ляпнога посуду і крамянёвыя прылады працы. Адносіцца да эпохі неаліту і бронзавага веку.

**1609е.** Паселішча-6. За 4 км на поўдзень ад вёскі, ва ўрочышчы Сасонка, на беразе Дняпра. Выявіў у 1956 г., даследаваў у 1957 г. І. І. Арцёменка. У раскопе плошчай 260 м² культурны пласт 0,3 м. Знойдзены крамянёвыя прылады працы, рэшткі ляпнога посуду. Адносіцца да эпохі неаліту і бронзавага веку.

Матэрыялы даследавання паселішчаў 1—5 захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР, паселішча-6 — у Гомельскім абласным краязнаўчым музеі.

*Літ.:* Артеменко И. И. Верхнее Поднепровье в эпоху позднего неолита и бронзы.— Краткие сообщения о докладах и полевых исследованиях Ин-та археологии, 1964, М., № 101. *А. А. Калечыц.*

**1610. РАДЗІМА ПІЛЮТАВА** Пятра Андрэевіча (гіст.).

Герой Савецкага Саюза П. А. Пілютаў нарадзіўся 10.12.1906 г. у сялянскай сям'і. Член КПСС з 1939 г. З 1924 г. працаваў на металургічным заводзе г. Аша Чэлябінскай вобл. З 1928 г. у Чырвонай Арміі. У 1932 г. скончыў 1-ю ваенную школу авіятэхнікаў, у 1935 г.— Качынскую ваенную школу лётчыкаў, у 1944 г.— курсы ўдасканалення камандзіраў палка. Удзельнік выратавання чэлюскінцаў у 1934 г., баёў з японскімі захопнікамі каля воз. Хасан у 1938 г., савецка-фінляндскай вайны 1939—40 гг. З мая 1940 г. служыў у Ленінградскай ваеннай акрузе. У Вялікую Айчынную вайну з 1941 г. на Ленінградскім фронце: намеснік камандзіра, штурман, камандзір знішчальнага авіяпалка. Вызначыўся ў паветраным баі над Ладажскім воз. 17.12.1941 г. П. А. Пілютаў, які суправаджаў транспартныя самалёты, прыняў няроўны бой з 6 варожымі знішчальнікамі, 2 з іх збіў. Усяго зрабіў 170 вылетаў, збіў 17 самалётаў праціўніка. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 10.2. 1943 г. Служыў у Савецкай Арміі да 1955 г., палкоўнік. Памёр 24.3.1960 г. Яго імем названа вуліца ў Ленінградзе.

*Літ.:* Навечно в сердце народном.— 3 изд.— Мн., 1984.



**1613а.** *Курганны могільнік-1. План.*

**в. Мадора, Кісцянёўскі сельсавет**

**1611. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 200 воінаў 3-й арміі 1-га Беларускага фронту, якія загінулі ў 1944 г. у баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў ці памерлі ад ран у палявых шпіталях. У 1958 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна.

**1612. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На могілках. Пахаваны воіны 3-й арміі 1-га Беларускага фронту, якія загінулі ў 1944 г. ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў ці памерлі ад ран у палявых шпіталях. У 1975 г. на магіле пастаўлена стэла.

**1613. КУРГАННЫЯ МОГІЛЬНІКІ** (археал.).

**1613а.** Могільнік-1. За 1 км на ўсход ад вёскі, ва ўрочышчы Шылаў Лес, злева ад дарогі ў в. Кісцяні. 32 насыпы вышынёй ад 0,5 да 2 м, дыяметрам 10—16 м. Вядомы з 1873 г. Абследавалі ў 1962 г. Л. Д. Побаль, у 1967 г. Г. Ф. Салаўёва, у 1976 г. А. Р. Мітрафанаў. У 1978—79 гг. раскопкі праводзілі В. Н. Рабцэвіч і А. М. Плавінскі, даследавана 7 насыпаў. Пахавальны абрад — трупапалажэнне на гарызонце, 2 — на невялікай пясчанай падсыпцы вышынёй 0,1—0,2 м; адно — у магільнай яме памерам 1,9×0,8×0,3 м. У 3 знойдзены мужчынскія пахаванні, у 3 — жаночыя, адно — пустое (кенатаф). Жаночыя пахаванні арыентаваны галавой на захад, мужчынскія — галавой на ўсход. Пахавальны інвентар: сердалікавыя біпірамідальныя і прызматычныя, шкляныя пазалочаныя бочкападобныя пацеркі, бісер, бронзавая лірападобная спражка, праразная падвеска-амулет у выглядзе коніка, медныя вітыя пярсцёнкі і бранзалеты. У большасці курганоў знойдзены рэшткі ганчарнага посуду. На днішчы аднаго гаршка — кляймо.

Могільнік належаў радзімічам, датуецца 11—12 стагоддзямі. Матэрыялы раскопак захоўваюцца ў БДУ імя У. І. Леніна.

**1613б.** Могільнік-2. За 1,5—2 км на паўночны ўсход ад вёскі. 6 насыпаў (раней было 12) дыяметрам 10—16 м, вышынёй 1,7—2 м. Вядомы з 1873 г. Абследавалі ў 1962 г. Л. Д. Побаль, у 1976 г. А. Р. Мітрафанаў. Раскопкі курганоў праводзіла ў 1967 г. Г. Ф. Салаўёва. У 6 насыпах знойдзены пахаванні па абраду трупапалажэння. У 3 курганах нябожчыкі арыентаваны галавой на захад, у 2 — на ўсход, у адным — на паўднёвы ўсход. У адным насыпе нябожчык знаходзіўся ў магільнай яме, у астатніх — на гарызонце. Пахавальны інвентар: сярэбраны бранзалет з S-падобнымі канцамі, бронзавыя паясныя кольцы і пярсцёнкі, абломкі ганчарнай керамікі, сердалікавыя пацеркі з пазалотай і срэбрам, лунніцы. Належаў радзімічам, датуецца 11—12 стагоддзямі. Матэрыялы раскопак захоўваюцца ў Інстытуце археалогіі АН СССР.

*Літ.:* Сведения 1873 г. о городищах и курганах.— Известия Археологической комиссии. СПб., 1903, в. 5.
*А. Р. Мітрафанаў, А. М. Плавінскі.*

**1614. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі, каля клуба. На ўшанаванне памяці 206 жыхароў Кісцянёўскага сельсавета, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1967 г. пастаўлены помнік — скульптура воіна.

**в. Махавая, Балатнянскі сельсавет**

**1615. МАГІЛА МАКСІМАВА** Генадзя Аляксеевіча (гіст.). На сядзібе Е. І. Астапчанкі. Лейтэнант Г. А. Максімаў загінуў 25.11.1943 г. у баі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1952 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Надзейкавічы, Дварэцкі сельсавет**

**1616. РАДЗІМА СКРЫГАНАВА** Вікенція Васілевіча (гіст.).

Герой Савецкага Саюза В. В. Скрыганаў нарадзіўся 9.6.1903 г. у рабочай сям'і. Член КПСС з 1925 г. У 1925 г. скончыў пяхотную школу, у 1938 г.— Ваенную акадэмію імя М. В. Фрунзе. З 1920 г. у Чырвонай Арміі. Удзельнік Грамадзянскай вайны на Заходнім і Паўднёвым франтах. У 1922—35 гг. у войсках БВА. У Вялікую Айчынную вайну з 1942 г. на Заходнім, Паўднёвым, Закаўказскім, Паўночна-Каўказскім, Паўднёва-Заходнім, 3, 2, 1-м Украінскіх франтах. У студзені 1945 г. гвардзейская стралковая дывізія пад камандаваннем В. В. Скры-



**1613б.** *Курганны могільнік-2. План.*

ганава прарвала абарону ворага на захад ад Сандаміра і за 11 дзён з баямі прайшла 264 км, фарсіравала р. Одэр. У баях за Одэр быў цяжка паранены. Памёр ад ран 26.1.1945 г. Пахаваны ў Львове. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 6.4.1945 г. Яго імем названа вуліца ў Мінску.

*Літ.:* Навечно в сердце народном.— 3 изд.— Мн., 1984. *М. В. Кірэйшын.*

**в. Новы Крыўск, Курганскі сельсавет**

**1617. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 57 воінаў, якія загінулі ў 1943 г. у баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў пры вызваленні раёна. Сярод пахаваных — воіны 269-й стралковай дывізіі 3-й арміі Беларускага фронту. У 1965 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**1618. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 1,5 км на ўсход ад вёскі. 44 насыпы дыяметрам 5—20 м, вышынёй 0,5—3 м. Абследавалі ў 1910 г. Е. Р. Раманаў, у 1976 г. А. Р. Мітрафанаў. У 1968 г. Г. Ф. Салаўёва раскапала 22 курганы. У 18 пахавальны абрад — трупапалажэнне, у 2 — трупаспаленне (у адным кургане магільная яма з 2 гаршкамі, другі курган быў пусты). У 15 курганах знойдзены кольцы (сяміпрамянёвыя бронзавыя і сярэбраныя, драцяныя бронзавыя, бранзалетападобнае скроневае), бісер шкляны (бочкападобны з пазалотай, зонны, шарападобны), шкляныя пацеркі, віты бронзавы бранзалет, цэлы гаршчок і абломкі гліпянага посуду, жалезны нож, шыферныя праслiцы, лунніца і інш. Належаў радзімічам, датуецца 10—12 стагоддзямі.

Матэрыялы даследавання захоўваюцца ў Інстытуце археалогіі АН СССР.

*Літ.:* Древности железного века в междуречье Десны и Днепра.— М., 1962; Соловьева Г. Ф. Раскопки славянских памятников XI—XII вв.— У кн.: Археологические открытия 1968 года. М., 1969. *А. Р. Мітрафанаў.*

**в. Новыя Журавічы, Журавіцкі сельсавет**

**1619. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны 151 воін, якія загінулі ў 1943—44 гг. у баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў пры вызваленні раёна ці памерлі ад ран у палявых шпіталях. Сярод пахаваных — воіны 269-й стралковай дывізіі 3-й арміі 1-га Беларускага фронту. У 1958 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна.



1618. *Курганны могільнік. План.*

**пас. Паддуб'е, Журавіцкі сельсавет**

**1620. МАГІЛА ЛАТУШКІ** Івана Міхайлавіча (гіст.). На могілках. Начальнік раённага аддзела міліцыі былога Журавіцкага р-на забіты ворагамі Савецкай улады 12.1.1927 г. У 1946 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**1621. МАГІЛА ПРАСОЛАВА** Івана Паўлавіча (гіст.). На могілках. Лейтэнант Чырвонай Арміі І. П. Прасолаў загінуў 26.11.1943 г. у баі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1952 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**пас. Партызаны, Доўскі сельсавет**

**1622. МЕСЦА СТВАРЭННЯ 256-га ПАРТЫЗАНСКАГА АТРАДА** (гіст.). За 1 км на захад ад пасёлка, ва ўрочышчы Свержынская лясная дача.

22.6.1942 г. па заданню ЦК КП(б)Б на акупіраваную нямецка-фашысцкімі захопнікамі тэрыторыю была накіравана арганізацыйная група І. М. Дзікана — С. М. Белых (16 чалавек). 5.10.1942 г. група прыбыла ў Журавіцкі р-н. У снежні 1942 г. афармілася ў партызанскі атрад, з лютага 1943 г. 256-ы ў складзе 8-й Рагачоўскай брыгады. У сакавіку 1943 г. на базе атрада створана 10-я Журавіцкая партызанская брыгада, з 16.7. 1943 г. атрад імя І. В. Сталіна. Камандзіры атрада С. М. Белых (снежань 1942 г.— сакавік 1943 г.), Я. І. Штапенка (май — кастрычнік 1943 г.), камісары І. М. Дзікан (люты — сакавік 1943 г.), І. А. Міхуноў (май — кастрычнік 1943 г.).

У 1964 г. ў памяць аб стварэнні партызанскага атрада пастаўлены абеліск.

*Літ.:* Партизанские формирования Белоруссии в годы Великой Отечественной войны (июнь 1941 — июль 1944).— Мн., 1983.

**1623. РАДЗІМА СУРНАЧОВА** Міколы (гіст.).

Беларускі савецкі паэт Мікалай Мікалаевіч Сурначоў нарадзіўся ў 1917 г. у в. Слабада (цяпер пас. Партызаны) у сялянскай сям'і. У 1931 г. скончыў сямігадовую школу ў Рагачове. Вучыўся ў Гомельскім педагагічным інстытуце ў 1937—39 гг. У 1940—41 гг. працаваў у газетах «Звязда» і «Чырвоная змена». З 1941 г. у Чырвонай Арміі. Загінуў на фронце 20.4.1945 г.

Друкавацца пачаў у 1933 г. у Рагачоўскай раённай газеце «Камунар». Найбольш вядомы вершы перыяду Вялікай Айчыннай вайны, у якіх паэт услаўляў мужнасць і гераізм савецкіх людзей, выказваў веру ў перамогу. Лірызм, лаканічнасць, ёмістасць вобразаў і дэталей, моцны ўплыў паэтыкі народнай песні, сюжэтная закончанасць, выразны рытм і разнастайнасць інтанацый — асаблівасці паэзіі М. Сурначова. Пасмяротна выдадзены зборнікі вершаў «На сурмах баравых» (1946 г.), «Барвовая зара» (1959 г.), «Адна любоў» (1971 г.); вершы змешчаны ў кнігах «Мы іх не забудзем» (1949 г.), «Крывёю сэрца» (1967 г.).

*Літ.:* Пранузa П. Такі ён быў.— Полымя, 1966, № 6; Аўрамчык М. Недаспяваная песня.— Маладосць, 1969, № 6.

**пас. Пахар, Журавіцкі сельсавет**

**1624. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). На ўсходняй ускраіне вёскі. 22 насыпы даўжынёй 4—10 м, шырынёй 1,8—10 м, вышынёй 0,5—2 м. Адзін курган вышынёй 3,5 м, даўжынёй 17 м, шырынёй 9 м, другі адпаведна 2, 15 і 11 м. 7 насыпаў дыяметрам 8—12 м, вышынёй 0,6—1,9 м. Вядомы з 1873 г. Абследаваў у 1976 г. А. Р. Мітрафанаў. Раскопкі не праводзіліся.

**в. Перакоп, Курганскі сельсавет**

**1625. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). На могілках. Пахаваны 2 воіны і 5 партызан 10-й Журавіцкай партызанскай




1624. *Курганны могільнік. План.*



1626. *Помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў і партызан.*

брыгады, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну. У 1963 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Побалава, цэнтр сельсавета**

**1626. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). Каля будынка выканкома сельсавета. Пахаваны 130 воінаў і партызан, якія загінулі ў чэрвені 1944 г. у баях пры вызваленні тэрыторыі сельсавета ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. Сярод пахаваных — Герой Савецкага Саюза Мікалай Мікалаевіч Кліменка.

М. М. Кліменка нарадзіўся ў 1923 г. у в. Лушнікоўка Астрагожскага р-на Варонежскай вобл. у сялянскай сям'і. Член ВЛКСМ. У Вялікую Айчынную вайну на фронце з 1942 г. Ваяваў пад Сталінградам, Калінінам, Вялікімі Лукамі, на Украіне. Механік-вадзіцель самаходнай артылерыйскай устаноўкі старшы сяржант М. М. Кліменка вызначыўся пры вызваленні Рагачоўскага р-на. 25.6. 1944 г. пры прарыве абароны праціўніка каля в. Забалацце знішчыў 6 кулямётаў, разлік самаходнай гарматы ворага і першы ўварваўся ў вёску. Загінуў у гэтым баі. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 23.8.1944 г.

У 1958 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна.

*Літ.:* Навечно в сердце народном.— 3 изд.— Мн., 1984.

**1627. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). На могілках. Пахаваны 59 воінаў і партызан, якія загінулі ў 1941—44 гг. у баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1975 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**1628. БРАЦКАЯ МАГІЛА ЧЫРВОНААРМЕЙЦАЎ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 12 чырвонаармейцаў, якія загінулі ў барацьбе за Савецкую ўладу ў 1918 г. У 1961 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**1629. МАГІЛА ГАВАРУШКІ** Мікалая Раманавіча (гіст.). На могілках. Партызан М. Р. Гаварушка загінуў у ліпені 1943 г. у баі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1969 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**1630. ПОМНІК ЛЕНІНУ** Уладзіміру Ільічу (гіст.). У цэнтры вёскі, каля канторы саўгаса «Побалава». Скульптура У. І. Леніна ўстаноўлена ў 1965 г.

**в. Рудня-Бронская, Запольскі сельсавет**

**1631. РАДЗІМА ШАЛУШКОВА** Рыгора Іванавіча (гіст.).

Герой Савецкага Саюза Р. І. Шалушкоў нарадзіўся ў 1899 г. у сялянскай сям'і. Член КПСС з 1925 г. У Чырвонай Арміі з 1918 г. Удзельнік Грамадзянскай вайны. З 1926 г. на Украіне на гаспадарчай і партыйнай рабоце. У 1938—41 гг. першы сакратар Карастышаўскага райкома КП(б)У. У Вялікую Айчынную вайну пакінуты ў тыле ворага для арганізацыі камуністычнага падполля, узначальваў Жытомірскі падпольны абком КП(б)У, пад кіраўніцтвам якога дзейнічалі 18 падпольных гаркомаў і райкомаў партыі, 222 падпольныя арганізацыі і групы, 10 партызанскіх атрадаў. 22.5.1943 г. Р. І. Шалушкоў схоплены фашыстамі і закатаваны. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 8.5.1965 г. У Жытоміры Р. І. Шалушкову пастаўлены помнік, яго імем названа вуліца.

*Літ.:* Навечно в сердце народном.— 3 изд.— Мн., 1984.

**в. Рэпкі, Побалаўскі сельсавет**

**1632. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). На могілках. Пахаваны 28 воінаў і партызан, якія загінулі ў 1941—44 гг. у барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1970 г. па магіле пастаўлены абеліск.



1633. *Курганны могільнік. План.*

**1633. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 0,4 км на ўсход ад вёскі, на левым беразе р. Дабасна. 62 насыпы дыяметрам 5—20 м, вышынёй 0,4—3 м. Выявіў у канцы 19 ст. Е. Р. Раманаў, абследавалі ў 1967 г. П. Ф. Лысенка, у 1976 г. А. Р. Мітрафанаў. Раскопкі не праводзіліся.

**в. Свержань, Доўскі сельсавет**

**1634. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны 113 воінаў і партызан, якія загінулі ў 1941—44 гг. у баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў ці памерлі ад ран у палявых шпіталях. Сярод пахаваных — воіны 269-й стралковай дывізіі 3-й арміі 1-га Беларускага фронту. У 1958 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна.

**1635. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). За 0,6 км на поўдзень ад вёскі. Пахаваны 250 савецкіх грамадзян, расстраляных 27.12.1941 г. нямецка-фашысцкімі захопнікамі. У 1959 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Серабранка, Доўскі сельсавет**

**1636. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 1 км на паўднёвы захад ад вёскі, у лесе. 14 круглых насыпаў дыяметрам ад 5 да 12 м, 1 — дыяметрам 19 м. Курганы здзірванелі, зараслі хвойнікам і кустамі. Вядомы з канца 19 ст. Адзін з кургапоў раскапаў у канцы 19 ст. А. В. Прахаў. Пахавальны абрад — трупапалажэнне. Пахавальны інвентар: віты бранзалет, драцяныя вітыя скроневыя кольцы, некалькі дробных пацерак, паясная спражка. Абследаваў у 1976 г. А. Р. Мітрафанаў. Належаў радзімічам, датуецца 11—12 стагоддзямі.

Матэрыялы даследавання захоўваюцца ў Эрмітажы ў Ленінградзе.

*Літ.:* Обозрение некоторых губерний и областей России в археологическом отношении.— Записки имп. русского археологического общества. СПб., 1896, т. 8, в. 1—2. *А. Р. Мітрафанаў.*

**в. Слабада, Старасельскі сельсавет**

**1637. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). За 4 км на поўнач ад вёскі, у лесе. Пахаваны 68 воінаў, якія загінулі ў 1944 г. у баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. Сярод пахаваных — воіны 250-й стралковай дывізіі. У 1965 г. на магіле пастаўлены абеліск.



1633. *Курганны могільнік.*

**в. Станькаў,**
**Старасельскі сельсавет**

**1638. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны 405 воінаў, якія загінулі ў 1943—44 гг. у баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў ці памерлі ад ран у палявым шпіталі. Сярод пахаваных — воіны 129-й стралковай дывізіі. У 1957 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна.

**в. Старое Сяло, цэнтр сельсавета**

**1639. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 728 воінаў, якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў ці памерлі ад ран у палявым шпіталі. Сярод пахаваных — воіны 129-й і 269-й стралковых дывізій. У 1974 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**1640. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). У цэнтры вёскі, каля школы. Пахаваны 2778 воінаў і партызан, якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў на тэрыторыі сельсавета ці памерлі ад ран у палявым шпіталі. Сярод пахаваных — воіны 129, 250, 269-й стралковых дывізій. У 1958 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна.

**1641. БРАЦКІЯ МАГІЛЫ САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 2801 воін, якія загінулі ў 1944 г. у баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў ці памерлі ад ран у палявым шпіталі. Сярод пахаваных — воіны 129-й і 269-й стралковых дывізій. У 1958 г. пастаўлены помнік — скульптура воіна.




1636. *Курганны могільнік. План.*



1640. *Помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў і партызан.*

**в. Старыя Журавічы,**
**Журавіцкі сельсавет**

**1642. БРАЦКАЯ МАГІЛА ПАРТЫЗАН** (гіст.). На тэрыторыі бальніцы. Пахаваны 2 партызаны, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну. У 1965 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**1643. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 1 км на поўдзень ад вёскі. 10 насыпаў дыяметрам 6—13 м, вышынёй 1,5—2 м. Вядомы з 1873 г. Абследаваў у 1976 г. А. Р. Мітрафанаў. Раскопкі не праводзіліся.

**1644. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). На паўднёва-заходняй ускраіне вёскі. На ўшанаванне памяці 584 жыхароў Журавіцкага сельсавета, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1964 г. пастаўлены абеліск.

**1645. ПОМНІК ЛЕНІНУ** Уладзіміру Ільічу (гіст.). У цэнтры вёскі. Скульптура У. І. Леніна ўстаноўлена ў 1968 г.

**в. Стоўпня, цэнтр сельсавета**

**1646. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны 35 воінаў, якія загінулі ў 1943 г. на тэрыторыі сельсавета ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1965 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Сялец, Старасельскі сельсавет**

**1647. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). На паўднёвай ускраіне вёскі, у скверы. Пахаваны астанкі мірных жыхароў. 2.11.1943 г. ў вёску ўварваліся нямецка-фашысцкія карнікі, сагналі ў 2 хаты 212 жыхароў і спалілі жывымі. Згарэлі ўсе пабудовы (67 двароў). У 1965 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**1648. МЕСЦА ПРАВЯДЗЕННЯ ПАДПОЛЬНАЙ РАЁННАЙ ПАРТЫЙНАЙ КАНФЕРЭНЦЫІ Ў 1943 г.** (гіст.).

Канферэнцыя адбылася 1.2.1943 г. ў школе. Прысутнічалі 37 членаў партыі. Была заслухана справаздача Рагачоўскага падпольнага райкома КП(б)Б аб дзейнасці і задачах раённай партарганізацыі ў барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. З дакладам выступіў першы сакратар падпольнага райкома КП(б)Б С. М. Свярдлоў. Канферэнцыя давыбрала склад райкома КП(б)Б. Сакратарамі райкома партыі былі выбраны С. М. Свярдлоў (першы сакратар), І. Ц. Зуевіч (другі сакратар), членамі райкома — А. А. Бірукоў, К. М. Драчоў, В. У. Паўлаў.

У 1964 г. у памяць аб рабоце падпольнай канферэнцыі ў цэнтры вёскі пастаўлена стэла.

*Літ.:* В грозные годы.— Мн., 1973.

*М. В. Кірэйшын.*

**в. Талочкаў, Ціхініцкі сельсавет**

**1649. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны мірныя жыхары. 13.10.1943 г. нямецка-фашысцкія карнікі ўварваліся ў вёску, загубілі 208 жыхароў, вёску (61 двор) спалілі. У 1968 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Турск, Гадзілавіцкі сельсавет**

**1650. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны 298 воінаў, якія загінулі ў абарончых баях у 1941 г. і пры вызваленні раёна ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў у 1943—44 гг. У 1951 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Фалевічы, Азяранскі сельсавет**

**1651. ПОМНІК АХВЯРАМ ФАШЫЗМУ** (гіст.). У цэнтры вёскі, каля школы. 13.10.1943 г. нямецка-фашысцкія карнікі акружылі вёску, расстралялі ці спалілі жывымі 235 яе жыхароў, разрабавалі маёмасць, пабудовы (120 двароў) спалілі.

У 1965 г. на ўшанаванне памяці ахвяр фашызму пастаўлены помнік — скульптуры воіна і партызанкі.

**в. Хамічы, Запольскі сельсавет**

**1652. ГАРАДЗІШЧА** (археал.). За 1,5 км на поўнач ад вёскі, каля ўпадзення р. Дабрыца ў р. Друць, на мысе. З паўночнага і паўночна-ўсходняга бакоў схілы мыса высокія і стромкія (вышыня над поплавам 6,5—7 м). З паўднёвага, заходняга і ўсходняга бакоў гарадзішча ўмацавана валам. За валам прасочваецца роў з спадзістымі схіламі. Вал перакапаны акопамі і ямамі. Авальная ў плане пляцоўка памерам 40×30 м увагнутая, з паўночнага боку — на-



1651. *Помнік ахвярам фашызму.*

хільная. Вядома з 1873 г. Абследаваў у 1976 г. А. Р. Мітрафанаў. Культурны пласт прасочаны на пляцоўцы (0,15×0,25 м) і ў насыпах вала. Знойдзены абломкі ляпных гліняных пасудзін. Адносіцца да ранняга жалезнага веку, належала плямёнам мілаградскай і зарубінецкай культур. Раскопкі не праводзіліся.

Матэрыялы абследавання захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

*Літ.:* Сведения 1873 г. о городищах и курганах.— Известия Археологической комиссии. СПб., 1903, в. 5.

*А. Р. Мітрафанаў.*

**в. Хатоўня, Журавіцкі сельсавет**

**1653. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). У цэнтры вёскі, каля дзіцячага сада. Пахаваны 206 воінаў, якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў пры вызваленні вёскі і раёна. Сярод пахаваных — воіны 283-й і 269-й стралковых дывізій. Вёска вызвалена 26.11.1943 г. падраздзяленнямі 283-й стралковай дывізіі. У 1965 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура салдата.




1652. *Гарадзішча. План.*

**1654. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі, у скверы. На ўшанаванне памяці 189 жыхароў вёсак калгаса «XXII партз'езд», якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1965 г. пастаўлены помнік — трохфігурная скульптурная кампазіцыя.

**в. Хвойнік, Балатнянскі сельсавет**

**1655. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). У цэнтры вёскі, на сядзібе Г. І. Юрчанкі. Пахаваны: 8 камандзіраў падраздзяленняў 63-га стралковага корпуса, якія загінулі ў 1941 г. ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1975 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Хімы, Стаўпнянскі сельсавет**

**1656. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны 21 воін, якія загінулі ў 1943—44 гг. у баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1966 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна.

**в. Хмялянец, Доўскі сельсавет**

**1657. ГАРАДЗІШЧА** (археал.). За 0,3 км на захад ад вёскі, ва ўрочышчы Гарадок, на мысе, у лукавіне р. Скроўня (левы прыток р. Серабранка). Пляцоўка гарадзішча амаль круглая ў плане, памерам 40×60 м, умацавана кальцавым унутраным валам па краі і 2 валамі з паўднёвага захаду. Вышыня ўнутранага вала ў паўднёва-заходняй частцы каля 3 м, шырыня ў аснове каля 11 м, астатнія валы вышынёй каля 1,3 м, шырынёй у аснове 8,5—9 м. Вядома з 1873 г. Абследавалі ў 1930 г. А. М. Ляўданскі, у 1962—63 гг. Л. Д. Побаль, у 1976 г. А. Р. Мітрафанаў. Культурны пласт у цэнтры пляцоўкі 0,3—0,4 м, каля валоў 0,7—0,8 м. Знойдзены рэшткі керамікі ранняга жалезнага веку. Адносіцца да мілаградскай і зарубінецкай культур, датуецца 7 ст. да н. э.— 1 ст. н. э.

Матэрыялы абследавання захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

*Літ.:* Сведения 1873 г. о городищах и курганах.— Известия Археологической комиссии. СПб., 1903, в. 5; Ляўданскі А. М. Кароткае паведамленне аб доследах культур эпохі жалеза ў БССР у 1930—1931 гг.— У кн.: Працы секцыі археалогіі. Мн., 1932, т. 3; Поболь Л. Д. Славянские древности Белоруссии: (свод археологических памятников раннего этапа зарубинецкой культуры — с середины III в. до н. э. по начало II в. н. э.)— Мн., 1974.

*А. Р. Мітрафанаў.*

**в. Ходасавічы, Збароўскі сельсавет**

**1658. КУРГАННЫЯ МОГІЛЬНІКІ** (археал.).

**1658а.** Могільнік-1. За 4 км на паўднёвы захад ад вёскі, ва ўрочышчы Хоршава, уздоўж карэннага



1654. *Помнік землякам.*

берага воз. Добрае. 55 насыпаў дыяметрам 0,5—9 м, вышынёй 0,4—20 м. Даследаваў у 1956—63 гг. І. І. Арцёменка, які раскапаў у паўднёвай частцы некалькі курганоў эпохі неаліту і бронзавага веку. Знойдзены крамянёвыя накапечнікі стрэл, рэшткі ляпнога посуду, акулярападобныя бронзавыя падвескі і інш. У 1969 г. Г. Ф. Салаўёва даследавала 6 насыпаў. Пахавальны абрад — трупапалажэнне, у 4 курганах галавой на захад, у 2 — на ўсход. Знойдзены ганчарны гаршчок і абломкі ляпной пасудзіны 5—7 стагоддзяў, пазалочаныя шкляныя пацеркі, медныя і шкляныя пярсцёнкі, бісер, абломкі шыйнай грыўні і крыжыкаў, крыжападобныя і змеегаловападобныя падвескі, жалезны нож. Датуецца 11—12 стагоддзямі.




1657. *Гарадзішча. План.*

**1658б.** Могільнік-2. За 0,5 км на паўднёвы ўсход ад могільніка-1, ва ўрочышчы Мошка 2-я. Захавалася 12 насыпаў вышынёй 0,6 м, дыяметрам 12 м. Даследаваў у 1959—63 гг. І. І. Арцёменка, які раскапаў 10 насыпаў. У 1969 г. Г. Ф. Салаўёва ўскрыла 8 курганоў. Пахавальны абрад — трупапалажэнне, у сямі курганах галавой на захад, у адным — на ўсход. У 4 курганах пахаванне на гарызонце, у 4 — у ямах. Пахавальны інвентар у 4 насыпах: драцяное кольца, пярсцёнкападобныя скроневыя кольцы, падвеска-амулет у выглядзе коніка, пярсцёнкі, шкляныя пацеркі, грузікі-падвескі, рэшткі ганчарнай керамікі і тканіны. Датуецца 11—12 стагоддзямі.

**1658в.** Могільнік-3. За 0,3 км на паўднёвы ўсход ад могільніка-2, ва ўрочышчы Мошка 1-я. 32 насыпы дыяметрам 5—20 м, вышынёй 0,4—1,5 м; 7 пашкоджаны. У 1959—63 гг. раскапаў 5 курганоў бронзавага веку І. І. Арцёменка. Знойдзены рэшткі шкілета чалавека, бронзавы наканечнік кап'я, акулярападобныя бронзавыя падвескі, каменныя лодкападобныя шліфаваныя сякеры, крамянёвыя стрэлы і нажы, гліняная пасудзіна. У 1969 г. Г. Ф. Салаўёва раскапала 5 курганоў, 2 з іх бронзавага веку. Пахавальны абрад — трупаспаленне на гарызонце. Знойдзены гліняны гаршчок, наканечнік стралы. 2 курганы датуюцца 8—9 стагоддзямі. Пахавальны абрад — трупаспаленне. Знойдзены 2 ляпныя гаршкі, язычок ад спражкі. Пяты курган датуецца 11—12 стагоддзямі. Пахаванне ў магільнай яме, арыентавана галавой на захад. Знойдзена драцяное скроневае кольца. Усе курганы, акрамя тых, якія адносяцца да эпохі неаліту і бронзавага веку, належалі радзімічам.

Матэрыялы даследавання захоўваюцца ў Інстытуце археалогіі АН СССР.

*Літ.:* Артеменко И. И. Племена Верхнего и Среднего Поднепровья в эпоху бронзы.— М., 1967.— (Материалы и исследования по археологии СССР; № 148). *А. Р. Мітрафанаў.*

**1659. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). За 4 км на поўдзень ад вёскі. Пахаваны 61 жыхар былой в. Адраджэнне, якіх 23.9.1943 г. загубілі нямецка-фашысцкія захопнікі. У 1970 г. на магіле пастаўлены абеліск.



**1657.** *Гарадзішча.*




**1658.** *План размяшчэння курганных могільнікаў-1, 2, 3.*

**1660. МАГІЛА БЕЛАВУСАВА** Андрэя Мінавіча (гіст.).

Поўны кавалер ордэна Славы А. М. Белавусаў нарадзіўся 20.9.1906 г. у в. Ходасавічы ў сялянскай сям'і. Працаваў у калгасе. У Вялікую Айчынную вайну ўдзельнік партызанскага руху на Гомельшчыне. З чэрвеня 1944 г. на фронце, сапёр 657-га асобнага батальёна 370-й стралковай дывізіі. Вызначыўся ў баях на тэрыторыі Польшчы і Германіі. 14.1.1945 г. у час прарыву варожай абароны ў раёне Віслы ў складаных абставінах зняў 42 міны. У лютым 1945 г. пераправіў цераз Одэр 400 скрынак боепрыпасаў, 1,5 т прадуктаў. 10.3.1945 г. на чале групы байцоў зрабіў 2 праходы ў мінных палях, у час наступлення зняў 150 мін. 15—16.4.1945 г. зрабіў праходы ў мінных палях, зняў 30 мін, размініраваў шашу ў напрамку г. Франкфурт-на-Одэры, зняў 32 міны. 25.4.1945 г. узначальваў групу сапёраў пры пабудове моста цераз канал, што садзейнічала поспеху наступлення савецкіх войск. Пасля вайны жыў на радзіме, працаваў у калгасе. Памёр 18.11.1976 г. У 1978 г. на магіле пастаўлена стэла.

*Літ.:* Навечно в сердце народном.— 3 изд.— Мн., 1984. *У. У. Бянько.*

**1661. СЕЛІШЧЫ, СВЯЦІЛІШЧА** (археал.).

**1661а.** Селішча-1. За 4 км на паўднёвы захад ад вёскі, на беразе воз. Добрае. Плошча каля 0,8 га. Выявіла і даследавала ў 1969 г. Г. Ф. Салаўёва, абследаваў у 1976 г. А. Р. Мітрафанаў. Культурны пласт 0,5—0,6 м выяўлены ў пясчаным кар'еры. Знойдзены абломкі ляпных пасудзін 8—9 стагоддзяў і рэшткі посуду эпохі Кіеўскай Русі.

**1661б.** Селішча-2. За 3,5 км на паўднёвы захад ад вёскі, на мысе пясчанай дзюны, абмежаванай з поўначы безназоўным ручаём, з захаду — воз. Добрае. Пляцоўка памерам 60×25 м. Выявіла і даследавала ў 1969 г. Г. Ф. Салаўёва. Селішча ўзнікла на месцы стаянкі эпохі неаліту. У ніжнім гарызонце культурнага пласта знойдзены абломкі посуду, скрабкі, разцы, нажападобныя пласціны, адшчэпы. У сярэднім гарызонце прасочаны рэшткі 2 паўзямлянкавых жытлаў памерамі 3,5×3,2 м і 3,5×4 м. У адным выяўлены рэшткі печы-каменкі, у запаўненнях жытлаў — рэшткі ляпнога посуду з дамешкамі буйной жарствы ў гліне.

Ніжні гарызонт селішча адносіцца да неаліту, сярэдні — да 8—9 стагоддзяў, верхні — да 10 ст.

**1661в.** Свяцілішча. Ва ўсходняй частцы селішча-2. Цэнтральная частка свяцілішча — круглая ў плане пляцоўка дыяметрам 7 м, абгароджаная частаколам. Ад яго захавалася канаўка шырынёй 0,4 м, глыбінёй 0,4—0,5 м, запоўненая цьмяна-шэрым пяском. У цэнтры круга выяўлена яма (дыяметр 1 м, глыбіня 0,15 м) ад драўлянага слупа-ідала. З 4 бакоў пляцоўкі за 2 м ад агароджы знаходзіліся 4 серпападобныя ў плане паглыбленні, арыентаваныя па баках свету. У час язычніцкіх рытуалаў у іх запальвалі вогнішчы. Датуецца канцом 10 — пачаткам 11 ст. Належала радзімічам.

Матэрыялы даследавання захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

*Літ.:* Седов В. В. Восточные славяне в VI—XIII вв.— М., 1982; Куза А. В., Соловьева Г. Ф. Языческое святилище в земле радимичей.— Советская археология, 1972, № 1. *А. Р. Мітрафанаў.*

**пас. Цагельня, Балатнянскі сельсавет**

**1662. ГАРАДЗІШЧА** (археал.). За 2 км на паўночны ўсход ад вёскі, на пра-



**1661в.** *Свяцілішча. Рэканструкцыя.*

вым беразе р. Балотня, на невялікім узвышшы. Пляцоўка памерам 25×22,5 м, увагнутая, папсаваная ямамі. Умацавана 2 кальцавымі валамі і ровам паміж імі. Унутраны вал насыпаны па краі пляцоўкі, вышыня з боку пляцоўкі 1—1,3 м, з боку рова 1—1,2 м, шырыня 9—12 м. Вышыня вонкавага вала 0,7—0,8 м, шырыня 6—7 м. Шырыня рова каля 5 м, глыбіня 0,8—0,9 м. Вядома з 1873 г. Абследавалі ў 1892 г. М. В. Фурсаў і С. Ю. Чалоўскі, у 1976 г. А. Р. Мітрафанаў. Культурны пласт 0,25—0,3 м. Адносіцца да ранняга жалезнага веку, датуецца 7 ст. да н. э.— 1—2 ст. н. э. Раскопкі не праводзіліся.

*Літ.:* Древности железного века в междуречье Десны и Днепра.— М., 1962.
*А. Р. Мітрафанаў.*

**в. Цагельня, Побалаўскі сельсавет**

**1663. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 0,6 км на паўночны захад ад вёскі, за 0,1 км на ўсход ад дарогі ў в. Чырвоны Бераг. 54 насыпы. З іх 22 дыяметрам 8 м, вышынёй 1,5 м, 28 дыяметрам 10—13 м, вышынёй 3—5 м, 4 насыпы дыяметрам 15—17 м, вышынёй 3—5 м. Каля асноў курганоў прасочваюцца раўкі. Вядомы з 1924 г. Абследаваў у 1977 г. А. Р. Мітрафанаў. Раскопкі не праводзіліся.



1663. *Курганны могільнік. План.*

**в. Ціхінічы, цэнтр сельсавета**

**1664. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). У цэнтры вёскі, каля будынка выканкома сельсавета. Пахаваны 531 воін, якія загінулі ў 1944 г. у баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. Сярод пахаваных — воіны 250-й і 260-й стралковых дывізій. У 1956 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна.

**1665. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі, каля школы. На ўшанаванне памяці 112 жыхароў вёскі, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1965 г. пастаўлены помнік — скульптурная кампазіцыя: жанчына з дзіцем.

**в. Шапчыцы, Званецкі сельсавет**

**1666. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны 1102 воіны, якія загінулі ў 1943—44 гг. у баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1952 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**1667. ГАРАДЗІШЧА** (археал.). За 1,2 км на захад ад вёскі, на беразе Дняпра. Паўночны, паўночна-заходні, усходні і часткова паўднёва-ўсходні схілы гарадзішча стромкія (вышыня над поплавам да 10 м). Паўднёвы, паўднёва-заходні бакі ўмацаваны валам вышынёй 0,3—0,4 м і ровам глыбінёй 0,7 м. Верагодна, быў яшчэ адзін вал па краі пляцоўкі (рэшткі яго прасочваюцца з вонкавага боку). Пляцоўка авальная памерам 50×33 м (папсаваная ямамі і акопамі). Вядома з 1873 г. Абследаваў у 1976 г. А. Р. Мітрафанаў. Культурны пласт на пляцоўцы прасочваецца слаба, выразны каля краёў пляцоўкі. Знойдзены рэшткі ляпной керамікі ранняга жалезнага веку (мілаградская і зарубінецкая культуры), датуецца 6—2 стагоддзямі да н. э. Раскопкі не праводзіліся.

Матэрыялы абследавання захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

*Літ.:* Сведения 1873 г. о городищах и курганах.— Известия Археологической комиссии. СПб., 1903, в. 5. *А. Р. Мітрафанаў.*

**в. Шчыбрын, Старасельскі сельсавет**

**1668. СЕЛІШЧА** (археал.). За 1 км на поўдзень ад вёскі, справа ад дарогі на Рагачоў. Выявіў і абследаваў у 1929 г. А. Дз. Каваленя, абследавалі ў 1963—65 гг. Л. Д. Побаль, у 1976 г. А. Р. Мітрафанаў. Культурны пласт 0,2—0,25 м, у лукавіне Дняпра, дзе ён лепш захаваўся. Знойдзены абломкі ляпнога посуду, а таксама рэшткі ганчарнай керамікі. Помнік адносіцца да ранняга жалезнага веку (мілаградская і зарубінецкая культуры) і да эпохі Кіеўскай Русі. Раскопкі не праводзіліся.

Матэрыялы абследавання захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

*Літ.:* Каваленя А. Д. Археалагічныя разведкі ў Магілёўскай, Бабруйскай і Мінскай акругах.— Запіскі аддзела гуманітарных навук Беларус. Акад. навук, 1930, кн. 11. Працы археалагічнай камісіі, т. 2.
*А. Р. Мітрафанаў.*

**в. Юдзічы, Доўскі сельсавет**

**1669. КУРГАННЫЯ МОГІЛЬНІКІ, СЕЛІШЧА** (археал.).

**1669а.** Могільнік-1. За 0,5 км на поўдзень ад вёскі, на заходнім беразе штучнага вадасховішча. 62 курганы дыяметрам ад 5 да 16 м, вышынёй ад 0,7 да 2—3 м. Ёсць прадаўгаватыя даўжынёй 12—16 м, шырынёй 4,5—6,5 м, вышынёй 0,7—1,5 м. Вакол асновы курганоў прасочаны раўкі. Вядомы з 1873 г. Абследавалі ў 1890 г. Е. Р. Раманаў, у 1930 г. А. М. Ляўданскі. У 1968 г. 10 насыпаў раскапала Г. Ф. Салаўёва, у 1980 г. 15 курганоў даследаваў Э. М. Загарульскі. Пахавальны абрад — трупапалажэнне. Пад курганамі прасочаны попельныя праслойкі дыяметрам 7,5—8 м, таўшчынёй 0,1—0,2 м, у запаўненні раўкоў — вуголле, попел. Шкілеты ляжалі на попельным пласце галавой на захад, за выключэннем аднаго пахавання з усходняй арыентацыяй. У 3 насыпах было па 2 пахаванні. Мужчынскія пахаванні мелі невялікую колькасць рэчаў (жалезныя дужкі і абручы ад вядра, крэсівы, ганчарны посуд і яго абломкі, косці жывёл). У жаночых пахаваннях знойдзены бронзавыя і сярэбраныя скроневыя сяміпрамянёвыя бранзалетападобныя кольцы з трыма напускнымі пацеркамі, рознакаляровыя шкляныя (зялёныя, сінія, чырвоныя, фіялетавыя, непразрыстыя) пацеркі і бісер, чорна-белая, аздобленая вочкамі, пацерка, а таксама пацеркі шкляныя бочкападобныя пазалочаныя і пасярэбраныя, бурштынавыя біпірамідальныя і васьміграннныя, сердалікавыя і хрусталёвыя гранё-




1667. *Гарадзішча. План.*



1669. *Жаночыя ўпрыгожанні з раскопак могільніка.*

ныя, бронзавыя, білонныя, сярэбраныя са складанай зерню і без яе; пярсцёнкі, манетападобныя падвескі, бронзавыя з імітацыяй зерні лунніцы, бронзавая шыйная грыўня з квадратнымі канцамі, якія заходзяць адзін за адзін, бронзавы бранзалет з расшыранымі канцамі, бронзавыя крыжыкі, ганчарны і ляпны посуд і яго абломкі. Належаў радзімічам, датуецца канцом 10—11 ст. Матэрыялы раскопак захоўваюцца ў Інстытуце археалогіі АН СССР і ў БДУ імя У. І. Леніна.

**1669б.** Могільнік-2. За 0,5 км на паўднёвы ўсход ад вёскі, на паўночна-ўсходнім беразе штучнага вадасховішча. 40 насыпаў дыяметрам 5—12 м, вышынёй 0,5—1,6 м. Каля асновы насыпаў прасочаны раўкі. Выявіў у 1981 г. В. Н. Рабцэвіч. Раскопкі не праводзіліся.

**1669в.** Селішча. За 0,5 км на паўднёвы ўсход ад вёскі, на паўночна-ўсходнім беразе вадасховішча, на мысападобным выступе. Плошча 0,25 га. Выявіў і абследаваў у 1980 г. Э. М. Загарульскі. У 2 шурфах памерам 1×1 м культурны пласт 0,2 м. Знойдзены абломкі ляпнога і ганчарнага посуду. Селішча ўзнікла ў жалезным веку і існавала ў эпоху Кіеўскай Русі. Матэрыялы абследавання захоўваюцца ў БДУ імя У. І. Леніна.

*Літ.:* Сведения 1873 г. о городищах и курганах.— Известия Археологической комиссии. СПб., 1903, в. 5; Обозрение некоторых губерний и областей России в археологическом отношении.— Записки имп. русского археологического общества. СПб., 1896, т. 8, в. 1—2.

*А. Р. Мітрафанаў, А. М. Плавінскі.*




1669. *Курганныя могільнікі. План.*




# РЭЧЫЦКІ РАЁН

Горваль
Камсамольск
Мілаград
Глыбаў
Чорнае
Узнаж
Валадарск
Заходы
Белае Балота
Борхаў
Азершчына
Дуброва
Старакраснае
РЭЧЫЦА
Капань
Васількова
Баршчоўка
Салтанова
Крынкі
Дземяхі
Жмураўка
Перасвятое
Броннае
Ліскі
Бабічы
Ведрыч
Капараўка
Чырвоная Дуброва
Заспа
Васілевічы
Ровенская Слабада
Каравацічы
Левашы
Перавалока
Свірыдавічы
Холмеч
Зашчэб'е
Глінная Слабада
Маканавічы
Маладуша
Смагарын
Артукі
Пракісель
Новы Барсук
Вышамір

Цэнтр раёна

Цэнтры сельсаветаў

Стаянкі, паселішчы, гарадзішчы

Могільнікі (грунтавыя, курганныя), курганы

Помнікі і месцы рэвалюцыйнага руху (Рэвалюцыя 1905–07 гг., Вялікая Кастрычніцкая сацыялістычная рэвалюцыя, Грамадзянская вайна, барацьба працоўных Заходняй Беларусі)

Помнікі і памятныя месцы Вялікай Айчыннай вайны (месцы баёў, магілы савецкіх воінаў і партызан, Курганы Славы, помнікі землянкам і інш.)

Помнікі ахвярам фашызму (месцы канцлагераў і лагераў смерці, месцы масавай загубы насельніцтва, спаленыя і неадноўленыя вёскі і інш.)

Помнікі сацыялістычнага будаўніцтва

Помнікі і месцы, звязаныя з імёнамі савецкіх партыйных, дзяржаўных і гаспадарчых дзеячаў, дзеячаў культуры, навукі і тэхнікі

Жылыя дамы, забудова вуліц савецкага перыяду

## XXI. РЭЧЫЦА

Горад, цэнтр раёна. Размешчаны на правым беразе Дняпра, за 50 км на захад ад Гомеля. Чыгуначная станцыя на лініі Гомель — Калінкавічы, вузел аўтамабільных дарог на Гомель, Калінкавічы, Светлагорск, Жлобін, Лоеў, Хойнікі. Рачны порт.

Упамінаецца ўпершыню ў Ноўгарадскім 1-м летапісе пад 1213 г. як горад Чарнігаўскага княства. У 14 ст. у Вялікім княстве Літоўскім, у Мінскім ваяводстве. З 1392 г. да 1430 г. Рэчыцай валодаў вялікі князь Вялікага княства Літоўскага Вітаўт, які пабудаваў замак. Горад меў 3 лініі ўмацаванняў з цэнтрам — пяцівежавай крэпасцю, абкружанай ровам і злучанай з астатняй часткай горада 2 мастамі. Гандлёвая плошча, храмы, жылыя дамы размяшчаліся паміж крэпасцю і 2-й лініяй умацаванняў. З 1561 г. Рэчыца мела магдэбургскае права (няпоўнае). У вызваленчую вайну ўкраінскага і беларускага народаў 1648—54 гг. і руска-польскую вайну 1654—67 гг. Рэчыцу займалі казацка-сялянскія атрады Налівайкі, Нябабы, Гаркушы, Залатарэнкі. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793 г.) у складзе Расійскай імперыі, павятовы цэнтр Мінскай губерні. У 1886 г. праз Рэчыцу пракладзены ўчастак Палескіх чыгунак Лунінец — Гомель, у 1890-я гады адкрыта прыстань. Гэта садзейнічала развіццю прамысловасці, гандлю і росту насельніцтва горада. Паводле перапісу 1897 г. у Рэчыцы 9280 жыхароў. Працавалі маслазавод, цагельны, 2 лесапільныя і 2 піва-мёдаварныя заводы, павялічыўся сплаў лесу па Дняпры. У 1903—04 гг. было 205 рамесніцкіх прадпрыемстваў, на якіх працавалі 857 чалавек.

У 1904 г. створана Рэчыцкая арганізацыя РСДРП, якая ўваходзіла ў склад Палескага камітэта РСДРП. У чэрвені 1905 г. бальшавікі правялі адкрытую масоўку, на якой з прамовай выступіў прадстаўнік Палескага камітэта. На масоўцы прысутнічала больш як 50 рабочых. У ліпені 1905 г. у Рэчыцы адбываліся масавыя палітычныя дэманстрацыі, у якіх удзельнічала каля 400 чалавек. Дэманстрацыі праходзілі пад лозунгамі «Далоў самадзяржаўе!», «Далоў царскі суд!», «Далоў паліцыю!». У 1910 г. у горадзе было 6 фабрык і заводаў, на іх працавалі 363 чалавекі. З 1309 жылых пабудоў толькі 4 дамы былі мураваныя. Горад меў 2 бальніцы на 46 месцаў, 2 турмы, 14 цэркваў і малітоўных дамоў. У ліпені 1917 г. створаны камітэт РСДРП(б).

Савецкая ўлада ў Рэчыцы ўстаноўлена 30.10(12.11).1917 г. З лютага 1918 г. да 12.1.1919 г. горад акупіраваны войскамі кайзераўскай Германіі. Дзейнічалі падпольная бальшавіцкая арганізацыя, рэўком. У час стракапытаўскага мяцяжу 1919 г. горад захапілі (26 сакавіка) мяцежнікі. Вызвалены 29 сакавіка. З 8.5 да 20.6.1920 г. акупіраваны войскамі буржуазнай Польшчы. У 1919—26 гг. Рэчыца ў Гомельскай губерні РСФСР. З снежня 1926 г. у складзе БССР, цэнтр раёна, у 1926—27 гг.— акругі, з 1938 г. горад абласнога падпарадкавання. У 1925 г. у Рэчыцы было 7 прамысловых прадпрыемстваў (1248 рабочых). У 1927 г. пачала працаваць новая запалкавая фабрыка «10-ы Кастрычнік». У гады даваенных пяцігодак у Рэчыцы былі пабудаваны завод дубільных экстрактаў, суднаверф, хлебазавод, вінзавод. Працавалі педагагічнае вучылішча, 4 сярэднія школы, калгасна-саўгасны тэатр. У 1939 г. у горадзе 29,8 тыс. жыхароў.

З 23.8.1941 г. да 18.11.1943 г. Рэчыца акупіравана нямецка-фашысцкімі захопнікамі. Акупанты загубілі тут каля 3,5 тыс. жыхароў. На тэрыторыі раёна дзейнічалі падпольныя райкомы КП(б)Б (24.11.1942 г.— 17.11.1943 г.) і ЛКСМБ (25.6.1942 г.— 17.11.1943 г.). Выдавалася падпольная газета «Зара камуны». Горад вызвалены ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў у выніку Гомельска-Рэчыцкай наступальнай аперацыі (10—30.11.1943 г.) войскамі Беларускага фронту. 20 вайсковым



XXI. *Забудова вуліцы Савецкай. Фрагмент.*



XXI. *Забудова плошчы Кастрычніка. Фрагмент.*



**XXI.** *Будынак Рэчыцкага краязнаўчага музея.*

часцям і злучэнням, што вызначыліся ў аперацыі, нададзены ганаровыя найменні «Рэчыцкіх».

Паводле першага рэгулярнага плана 1800 г. горад атрымаў прамавугольную сістэму планіроўкі, якая пазней дапоўнена радыяльна-кальцавой. Гістарычным кампазіцыйным цэнтрам была плошча (цяпер пл. Кастрычніка). Забудова вялася пераважна сядзібная, драўляная. У 1977 г. Беларускім дзяржаўным навукова-даследчым і праектным інстытутам горадабудаўніцтва распрацаваны генеральны план забудовы Рэчыцы. Прадугледжана развіццё горада на паўднёвы захад і на поўдзень, тэрыторыя падзелена на 6 жылых раёнаў. Асноўныя вуліцы: Савецкая, Леніна, Вакзальная, Чапаева, Луначарскага, Сняжкова і Фрунзе. Капітальныя добраўпарадкаваныя жылыя будынкі ўзводзяцца ў новых мікрараёнах уздоўж вуліц Савецкай і Маладзёжнай. Грамадска-адміністрацыйны цэнтр уключае пл. Кастрычніка і частку вул. Савецкай, абмежаванай вуліцамі Чапаева і Авіяцыйнай. Тут размешчаны будынкі райкома і гаркома КПБ, гарсавета і райвыканкома, гасцініцы, кінатэатра, краязнаўчага музея, Дома культуры. На вуліцах Савецкай, Набярэжнай захавалася забудова 19 ст.

У Рэчыцы дзейнічаюць: суднабудаўніча-рамонтны, метызны, газаперапрацоўчы, кераміка-трубны заводы, 2 заводы жалезабетонных вырабаў, заводы «Тэрмапласт» і мастацкай керамікі, піваварны, кансервава-вінаробны, масла і сухога малака, гідролізна-дражджавы заводы, хлебазавод, ільнозавод, кансервава-агароднінасушыльны, хлебапрадуктаў камбінаты, млынакамбінат, вытворчае дрэваапрацоўчае аб'яднанне, вытворчае ткацкае аб'яднанне «Чырвоны Кастрычнік», філіялы Гомельскіх вытворчых аб'яднанняў швейнага «Камінтэрн» і абутковага «Праца», раённыя аб'яднанні Дзяржкамсельгастэхнікі і «Сельгасхімія», райпрамкамбінат, камбінат бытавога абслугоўвання.

У горадзе зоаветэрынарны тэхнікум, прафесійна-тэхнічныя вучылішчы механізацыі сельскай гаспадаркі і нафтавікоў, 9 агульнаадукацыйных школ, навучальна-вытворчы камбінат, школа-інтэрнат, 3 спецшколы, 2 дзіцячаюнацкія спартыўныя і музычная школы, 28 дзіцячых дашкольных устаноў, Дом піянераў і школьнікаў, 4 бібліятэкі, 2 кінатэатры, 2 Дамы культуры, 2 клубныя ўстановы, краязнаўчы музей, філіял Дзяржаўнага архіва Гомельскай вобл., 2 бальніцы, 7 урачэбных амбулаторна-палікліінічных устаноў, 21 фельчарскі пункт аховы здароўя, 2 дыспансеры, станцыі хуткай дапамогі і санэпідэміялагічная, Дом санітарнай асветы, 4 аптэкі, санаторый «Рэчыца». Выдаецца аб'яднаная газета «Дняпровец». Помнікі: У. І. Леніну; на 3 брацкіх магілах савецкіх воінаў і партызан; на брацкіх могілках савецкіх воінаў і партызан; савецкіх воінаў, партызан і падпольшчыкаў; на магілах ахвяр контррэвалюцыйнага мяцяжу 1919 г., ахвяр фашызму і інш.

Зона адпачынку — набярэжная Дняпра, паркі культуры і адпачынку.

*Літ.:* Россия: Полное географическое описание нашего отечества. Т. 9.— СПб., 1905; Города России в 1904 году.— СПб., 1906, Города России в 1910 году.— СПб., 1914; Умецкий Б. И. Речица.— Мн., 1963; Егоров Ю. А. Градостроительство Белоруссии.— М., 1954; Штыхаў Г. В. Галасы далёкіх продкаў.— Мн., 1968.

*А. Ю. Пятросава, І. А. Шафір.*

**1670. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). Вул. Вакзальная, у двары бальніцы № 1. Пахаваны 306 воінаў і 2 партызаны, якія памерлі ад ран у шпіталі ў Вялікую Айчынную вайну. Сярод пахаваных — Герой Савецкага Саюза Кандрацій Іванавіч Навумаў.

К. І. Навумаў нарадзіўся ў лютым 1918 г. у с. Казачынскае Казачынска-Ленскага р-на Іркуцкай вобл. у сялянскай сям'і. Член КПСС з 1943 г. З 1939 г. у Чырвонай Арміі. Скончыў танкавае вучылішча ў г. Сызрань ў 1941 г., Ленінградскую вышэйшую афіцэрскую бранятанкавую школу ў 1944 г. У Вялікую Айчынную вайну з 1942 г. на Заходнім і 1-м Беларускім франтах. Вызначыўся ў час Бабруйскай аперацыі. Камандзір танкавага батальёна гвардыі капітан К. І. Навумаў 25.6.1944 г. у баі за чыгуначную станцыю Чорныя Броды на чале групы танкаў знішчыў 2 процітанкавыя гарматы, падбіў самаходную гармату праціўніка. 27 чэрвеня заняў умацаваны пункт Яловікі, падпаліў склад боепрыпасаў, падбіў танк. 28 чэрвеня танкісты захапілі паўночна-заходнюю ўскраіну Бабруйска, знішчылі калону аўтамашын праціўніка. Званне Героя Савецкага Саюза К. І. Навумаву прысвоена 22.8.1944 г. Памёр ад ран 12.9.1944 г. Яго імем



**1670.** *Помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў і партызан.*

названы вуліцы і школы ў Рэчыцы і на радзіме.

У 1947 г. на магіле пастаўлены абеліск і пліты з імёнамі загінуўшых.

*Літ.:* Навечно в сердце народном.— 3 изд.— Мн., 1984.

**1671. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). Вул. Луначарскага, на могілках. Пахаваны 225 воінаў і 19 партызан, якія загінулі ў 1941—44 гг. у баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1947 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**1672. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). Вул. Савецкая, у парку санаторыя «Рэчыца». Пахаваны 187 воінаў і партызан, якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў ці памерлі ад ран у Вялікую Айчынную вайну. У 1947 г. на магіле пастаўлены абеліск, перад ім запалены Вечны агонь.

**1673. БРАЦКІЯ МОГІЛКІ САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). Вул. Савецкая, у скверы. Пахаваны 54 воіны і партызаны, што загінулі ў лістападзе 1943 г.— сакавіку 1944 г. у баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. Сярод пахаваных — Героі Савецкага Саюза Іван Карпавіч Двадненка, Аляксандр Васілевіч Красікаў, Феакціст Андрэевіч Трыфанаў. Тут таксама пахаваны член КПСС з 1917 г. Баляслаў Георгіевіч Бяганскі, які загінуў у сакавіку 1919 г. у час стракапытаўскага мяцяжу.

І. К. Д в а д н е н к а нарадзіўся 21.1. 1903 г. у г. Кіславодск у сялянскай сям'і. Член КПСС з 1943 г. У 1931—41 гг. працаваў старшынёй калгаса, сельсавета. У Вялікую Айчынную вайну на фронце з 1942 г. Вызначыўся ў баях за Дняпро ў Камарынскім р-не



1673. *Помнік на брацкіх могілках савецкіх воінаў і партызан.*

Палескай вобл. Камандзір батарэі гвардыі лейтэнант І. К. Двадненка ў верасні 1943 г. адным з першых пераправіўся з батарэяй цераз Дняпро, адбіў некалькі атак праціўніка. Памёр ад ран 15.12.1943 г. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 9.2.1944 г. Яго імем названы вуліцы ў Рэчыцы і на радзіме.

А. В. К р а с і к а ў нарадзіўся 8.8. 1907 г. ў с. Красны Яр Ардынскага р-на Навасібірскай вобл. у сялянскай сям'і. Член КПСС з 1931 г. З 1929 г. у Чырвонай Арміі. У Вялікую Айчынную вайну на фронце з 1941 г. Вызначыўся ў баях пры вызваленні Камарынскага р-на Палескай вобл. Кавалерыйскі полк на чале з начальнікам штаба гвардыі капітанам А. В. Красікавым 28.9.1943 г. фарсіраваў Дняпро, вызваліў в. Ніўкі, утрымліваў плацдарм, на які пераправілася дывізія. Загінуў у баі 8.12.1943 г. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 15.1.1944 г. Яго імем названа вуліца ў Рэчыцы.

Ф. А. Т р ы ф а н а ў нарадзіўся 19.8. 1921 г. у в. Нова-Ільінка Калпашаўскага р-на Томскай вобл. у сялянскай сям'і. Член КПСС з 1943 г. У Чырвонай Арміі з 1940 г. У Вялікую Айчынную вайну на фронце з 1943 г. Камандзір батарэі старшы лейтэнант Ф. А. Трыфанаў вызначыўся ў баях пры вызваленні Рэчыцкага р-на Гомельскай вобл. 18.11.1943 г. ў час бою каля в. Раманаўка гітлераўцы пачалі акружаць назіральны пункт батарэі. Калі вораг наблізіўся, Ф. А. Трыфанаў выклікаў агонь на сябе. Загінуў у гэтым баі. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 24.12.1943 г. Імем героя названы вуліцы ў Рэчыцы і Калпашава, на будынку школы ў в. Нова-Ільінка ўстаноўлена мемарыяльная дошка.

У 1944 г. на могілках пастаўлены помнік — танк, у 1981 г. зроблены надмагіллі з імёнамі загінуўшых.

*Літ.:* Навечно в сердце народном.— 3 изд.— Мн., 1984. *В. Б. Караткевіч.*

**1674. БРАЦКІЯ МОГІЛКІ САВЕЦКІХ ВОІНАЎ, ПАРТЫЗАН І ПАДПОЛЬШЧЫКАЎ, МАГІЛА ЖЫЛЯКА** Ула-



1672. *Помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў і партызан.*



1674. *Помнік на брацкіх могілках савецкіх воінаў, партызан і падпольшчыкаў.*

дзіміра Васілевіча (гіст.). Вул. Савецкая, у парку Перамогі.

Брацкая магіла савецкіх воінаў і партызан. Пахаваны 322 воіны і партызаны, якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у 1941—43 гг. У 1947 г. на магіле пастаўлены абеліск.

Брацкая магіла падпольшчыкаў. Пахаваны 18 чалавек — удзельнікаў Рэчыцкага падполля, у т. л. старшыня Вышамірскага сельсавета І. Е. Гурскі, якога фашысты расстралялі ў 1941 г. У час акупацыі Рэчыцы на маслазаводзе, вінзаводзе, у канторы па нарыхтоўцы жывёлы і інш. былі створаны падпольныя групы. Групы Г. Носкі і У. Ганчарова прымалі па радыё і распаўсюджвалі сярод насельніцтва зводкі Саўінфармбюро, лістоўкі, займаліся зборам разведданых для партызан. Падпольныя групы Дз. Е. Помаза і Л. Чарлёнак збіралі для партызан прадукты, медыкаменты. 2.8.1942 г. нямецка-фашысцкія захопнікі арыштавалі 36 падпольшчыкаў. 15.8.1942 г. яны закатавалі Дз. Е. Помаза, А. С. Озерава, К. П. Герасімовіча, Т. С. Броўку, А. Ф. Кузмянка, іншых падпольшчыкаў і членаў іх сем'яў. У 1968 г. ўстаноўлена надмагілле.

Магіла Жыляка Уладзіміра Васілевіча. У. В. Жыляк нарадзіўся ў Хойніцкай воласці Рэчыцкага павета ў сялянскай сям'і. Рабочы, рана стаў на шлях прафесійнага рэвалюцыянера. У Рэвалюцыю 1905—07 гг. член Бабчынскай групы Рэчыцкай арганізацыі РСДРП, у першую сусветную вайну прызваны ў царскую армію, у час акупацыі Рэчыцы войскамі кайзераўскай Германіі (1918 г.) быў членам Рэчыцкага рэўкома. Загінуў 4.1.1919 г. У 1973 г. устаноўлена надмагілле.

У 1964 г. на могілках пастаўлены помнік — скульптура жанчыны з дзіцем і лаўровай галінкай. Перад скульптурай запалены Вечны агонь.

*В. Б. Караткевіч.*

**1675. ГАРАДЗІШЧА** (археал.). У гарадскім парку, на правым беразе Дняпра.

Амаль прамавугольная пляцоўка, памерам 75×45 м, з заходняга, усходняга і паўднёвага бакоў умацавана валам вышынёй 2 м. З поўначы гарадзішча абмываецца ракой. З заходняга і ўсходняга бакоў глыбокія яры. Даследавалі ў 1957 г. Э. А. Сімановіч, у 1976 г. Г. В. Штыхаў. У адхоне выяўлены культурны пласт 1,6 м, з праслойкамі попелу і вуголля. На глыбіні 1,2 м знойдзена кераміка 13—14 стагоддзяў, некалькі кавалкаў ляпнога посуду. Гарадзішча адносіцца да ранняга жалезнага веку і эпохі Кіеўскай Русі. У 13 ст. тут быў дзядзінец горада.

Матэрыялы даследавання захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР і Рэчыцкім краязнаўчым музеі.

*Літ.:* Очерки по археологии Белоруссии. Ч. 2.— Мн., 1972; Штыхов Г. В. Обследование городищ и курганов в Речицком районе.— У кн.: Археологические открытия 1976 года. М., 1977.

*Г. В. Штыхаў.*

**1676. ДОМ, ДЗЕ РАЗМЯШЧАЎСЯ РЭЎКОМ** (гіст.). Вул. Савецкая, 36.

У час акупацыі Рэчыцы войскамі кайзераўскай Германіі (з лютага 1918 г. да 12.1.1919 г.) у горадзе дзейнічаў рэўком. 24 снежня ён надрукаваў адозву, у якой гаварылася: «На падставе рэзалюцыі рабочай канферэнцыі горада Рэчыцы ад 22 снежня 1918 года аб'яўляем усім грамадзянам горада і павета, што ўся ўлада ў горадзе і павеце перададзена рэвалюцыйнаму камітэту, выбранаму на канферэнцыі. Усе ўстановы горада і павета падпарадкаваны рэвалюцыйнаму камітэту». Пасля вызвалення горада рэўком з 12.1.1919 г. размяшчаўся па вул. Успенскай (цяпер вул. Савецкая), зараз музычная школа.

*Літ.:* Победа Советской власти в Белоруссии.— Мн., 1967; Трудящиеся Гомельщины в борьбе за власть Советов (1917—1920 гг.): Хроника событий.— Гомель, 1958; Умецкий Б. И. Речица.— Мн., 1963.

*В. Б. Караткевіч.*

**1677. МАГІЛА АХВЯР КОНТРРЭВАЛЮЦЫЙНАГА МЯЦЯЖУ 1919 г.** (гіст.). Вул. Савецкая. Пахаваны партыйна-савецкія работнікі Арлова, Казоўскі, Казак, Куперман, Палей, Пшэнава, Хоздан, якія былі расстраляны ў сакавіку 1919 г. стракапытаўцамі.

24.3.1919 г. у Гомелі пачалося спраакаванае антысавецкае выступленне 67-га і 68-га стралковых палкоў пад кіраўніцтвам эсэра Стракапытава. Мяцеж перакінуўся і ў Рэчыцу. Тут супраць Савецкай улады выступіла каравульная рота (125 чалавек). Мяцеж узначалілі былыя царскія афіцэры Берзін, Вольскі, Мяцельскі, Саладуха. Атрад рэчыцкіх камуністаў на чале з старшынёй Рэчыцкага выканкома Я. П. Міцкевічам спрабаваў падавіць антысавецкае выступленне, але вымушаны быў адступіць. 26 сакавіка мяцежнікі захапілі Рэчыцу. Стракапытаў ад імя так званага «паўстанцкага камітэта Палесся» звярнуўся да насельніцтва з заклікам выступіць супраць Савецкай улады, а сябе абвясціў камандуючым 1-й арміяй Расійскай рэспублікі. Насельніцтва не падтрымала Стракапытава. Мяцежнікі разграмілі памяшканне Рэчыцкага Савета, крамы, склады, рабавалі насельніцтва. Многія партыйныя і савецкія работнікі былі арыштаваны, некаторыя расстраляны. Часці Чырвонай Арміі, камуністычныя атрады з Віцебска, Оршы і інш. гарадоў, атрад слухачоў курсаў камсаставу з Магілёва падавілі мяцеж. 29 сакавіка Рэчыца была вызвалена.



**1675.** *Гарадзішча. План.*

У 1970 г. на магіле ахвяр контррэвалюцыі пастаўлена стэла.

*Літ.:* Лелевич Г. Стрекопытовщина.— 2 изд.— М.; П., [1923]; Мащицкий Г. П. Трудящиеся Гомельщины в борьбе за разгром интервентов и белогвардейцев (1919—1921 гг).— Гомель, 1958; Умецкий Б. И. Речица.— Мн., 1963.

*В. Б. Караткевіч.*

**1678. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). Вул. Луначарскага, на могілках. Пахаваны савецкія грамадзяне, закатаваныя нямецка-фашысцкімі захопнікамі ў 1941—43 гг. У Вялікую Айчынную вайну, у час акупацыі горада, у доме № 105 па вул. Вакзальнай знаходзіўся гітлераўскі засценак. Пасля вызвалення Рэчыцы ў двары будынка выяўлены 4 ямы, у адной з іх каля 300 трупаў са слядамі жорсткіх катаванняў. Усяго тут загублена больш за 400 савецкіх грамадзян. Многія з іх пахаваны ў брацкай магіле на могілках. У 1973 г. на магіле пастаўлены абеліск.

*Літ.:* Преступления немецко-фашистских оккупантов в Белоруссии. 1941—1944.— [2 изд.].— Мн., 1965.

**1679. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). Вул. Фрунзе, паміж дамамі № 44 і 46. Пахаваны 420 мірных жыхароў, якіх загубілі нямецка-фашысцкія захопнікі ў 1942 г. У 1972 г. на магіле ўстаноўлена пліта.

**1680. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). За 0,6 км на поўнач ад горада, злева ад дарогі на в. Азершчына. Пахаваны мірныя жыхары, падпольшчыкі, ваеннапалонныя, якіх расстралялі нямецка-фашысцкія акупанты ў 1941—43 гг. У 1943 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**1681. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). За 1,5 км на поўнач ад Рэчыцы, з левага боку ад шашы на в. Азершчына.

У 83-м квартале Азершчынскага лесу ў 1942—43 гг. нямецка-фашысцкія акупанты расстралялі 200 савецкіх ваеннапалонных і 170 мірных жыхароў Рэчыцы. Сярод загубленых — савецка-партыйныя актывісты і члены іх сем'яў, падпольшчыкі, якія дзейнічалі ў Рэчыцкай друкарні, сям'я П. І. Васільева — камандзіра атрада імя К. Я. Варашылава.

У 1973 г. на магіле пастаўлены абеліск.

*Літ.:* Преступления немецко-фашистских оккупантов в Белоруссии. 1941—1944.— [2 изд.].— Мн., 1965.

*В. Б. Караткевіч.*



1676. *Будынак, у якім размяшчаўся Рэчыцкі рэўком.*

**1682. МАГІЛА ВАЛЕНЦІКА** Дзмітрыя Данілавіча (гіст.). Вул. Луначарскага, на могілках.

Герой Савецкага Саюза Дз. Д. Валенцік нарадзіўся 10.2.1907 г. у в. Райкава Полацкага р-на ў сялянскай сям'і. Член КПСС з 1930 г. З 1929 г. у Чырвонай Арміі. У 1933 г. скончыў Арэнбургскую ваенна-авіяцыйную школу. Камандзір эскадрыллі капітан Дз. Д. Валенцік вызначыўся ў час савецка-фінляндскай вайны 1939—40 гг. Зрабіў 26 баявых вылетаў. Эскадрылля пад яго камандаваннем тройчы вылятала ў глыбокі тыл праціўніка, збіла 5 варожых самалётаў, знішчыла ваенна-стратэгічную базу каля Раваніемі. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 7.5.1940 г. У Вялікую Айчынную вайну Дз. Д. Валенцік на Паўднёва-Заходнім, Сталінградскім, Паўднёвым, 4-м Украінскім і 3-м Беларускім франтах. Да 1955 г. у Савецкай Арміі, палкоўнік. Памёр 30.3.1969 г.

У 1969 г. на магіле пастаўлена стэла.

*Літ.:* Навечно в сердце народном.— 3 изд.— Мн., 1984. *Т. Р. Чуракова.*

**1683. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА КОНЕВУ** Івану Сцяпанавічу (гіст.). Вул. Савецкая, 1. Устаноўлена ў 1975 г. на доме, дзе са снежня 1934 г. да сакавіка 1937 г. жыў І. С. Конеў — савецкі ваенны дзеяч, Маршал Савецкага Саюза (1944 г.), двойчы Герой Савецкага Саюза (1944, 1945 гг.), Герой ЧССР (1970 г.) і Герой МНР (1971 г.).

І. С. Конеў нарадзіўся 16.12.1897 г. у в. Ладзейна Падасінаўскага р-на Кіраўскай вобл. у сялянскай сям'і. Член КПСС з 1918 г. У 1916 г. быў прызваны ў царскую армію. У 1918 г. член Нікольскага павятовага выканкома (Валагодская губерня) і павятовы ваенны камісар. У Чырвонай Арміі з 1918 г. У Грамадзянскую вайну ўдзельнічаў у баях супраць войск Калчака, бандаў Сямёнава і японскіх інтэрвентаў: ваенны камісар бронепоезда, брыгады, стралковай дывізіі, штаба Народна-рэвалюцыйнай арміі Далёкаўсходняй рэспублікі, стралковага корпуса. У 1921 г. дэлегат X з'езда РКП(б), удзельнічаў у ліквідацыі Кранштацкага мяцяжу. Скончыў курсы вышэйшага начсаставу пры Ваеннай акадэміі (1926 г.). Камандзір палка (да 1930 г.), дывізіі (да 1932 г.). Пасля заканчэння Ваеннай акадэміі імя М. В. Фрунзе (1934 г.) камандзір стралковай дывізіі (у 1934—37 гг. дыслацыравалася ў Рэчыцы), корпуса, камандуючы 2-й асобнай Чырванасцяжнай Далёкаўсходняй арміяй. У 1940—41 гг. камандаваў войскамі Забайкальскай і Паўночна-Каўказскай ваенных акруг. У Вялікую Айчынную вайну камандуючы 19-й арміяй, потым войскамі Заходняга, Калінінскага, Паўночна-Заходняга, Сцяпнога, 2-га і 1-га Украінскіх франтоў. Войскі пад камандаваннем І. С. Конева ўдзельнічалі ў Маскоўскай і Курскай бітвах, у вызваленні Правабярэжнай і Заходняй Украіны, Усходне-Карпацкай, Вісла-Одэрскай, Берлінскай і Пражскай аперацыях. У 1945—46 гг. галоўнакамандуючы Цэнтральнай групай войск і вярхоўны камісар па Аўстрыі. У 1946—50 гг. галоўнакамандуючы сухапутнымі войскамі і намеснік міністра Узброеных Сіл СССР. У 1950—51 гг. галоўны інспектар Савецкай Арміі, у 1951—55 гг. камандуючы войскамі Прыкарпацкай ваеннай акругі, у 1955—56 гг. першы намеснік міністра абароны і адначасова галоўнакамандуючы сухапутнымі войскамі. У 1956—60 гг. першы намеснік міністра абароны. 3 мая 1955 г. да чэрвеня 1960 г. адначасова быў галоўнакамандуючым Аб'яднанымі ўзброенымі сіламі дзяржаў — удзельніц Варшаўскага Дагавора. У 1960—61 гг. і з крас. 1962 г. генеральны інспектар групы генеральных інспектараў Міністэрства абароны СССР, у 1961—62 гг. галоўнакамандуючы Групай савецкіх войск у Германіі. У 1931—34 гг. член ВЦВК. Дэпутат Вярхоўнага Савета СССР у 1937—73 гг. Кандыдат у члены ЦК ВКП(б) у 1939—52 гг., член ЦК КПСС з 1952 г. Ганаровы грамадзянін Прагі. Аўтар мемуараў. Памёр І. С. Конеў 21.5.1973 г. Пахаваны на Краснай плошчы, каля Крамлёўскай сцяны. Яго імем названа вуліца ў Рэчыцы, на радзіме ўстаноўлены бюст.

**1684. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА МАСАЛЬСКАМУ** Уладзіміру Рыгоравічу (гіст.). Вул. Савецкая, 99, на будынку Дома піянераў і школьнікаў. Устаноўлена ў 1973 г. на ўшанаванне памяці Героя Савецкага Саюза, удзельніка савецка-фінляндскай 1939—40 гг. і Вялікай Айчыннай войнаў У. Р. Масальскага. Гл. артыкул № 1697 «Радзіма Масальскага Уладзіміра Рыгоравіча».

**1685. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА МІКЛАШЭВІЧУ** Аляксандру Браніслававічу (гіст.). Вул. Чапаева, 57. Устаноўлена ў 1973 г. на ўшанаванне памяці члена КПСС з 1919 г., удзельніка Кастрычніцкай рэвалюцыі, Грамадзянскай і Вялікай Айчыннай войнаў А. Б. Міклашэвіча, які загінуў на фронце ў 1942 г.

**1686. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА САВЕЦКІМ ВОІНАМ І ПАРТЫЗАНАМ** (гіст.). Вул. Сняжкова, 1, на адміністрацыйным будынку вытворчага дрэваапрацоўчага аб'яднання. Устаноўлена ў 1973 г. на ўшанаванне памяці 20 супрацоўнікаў вытворчага аб'яднання, якія загінулі на франтах Вялікай Айчыннай вайны і ў партызанскай барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў.

**1687. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА Ў ГОНАР ВОІНАЎ-ВЫЗВАЛІЦЕЛЯЎ** (гіст.). Вул. Савецкая, 56. Устаноўлена ў 1973 г. на будынку школы-інтэрната № 1, над якім у лістападзе 1943 г. быў узняты сцяг Вызвалення.



1680. *Помнік на магіле ахвяр фашызму.*

З 10.11.1943 г. войскі 65-й арміі (генерал-лейтэнант П. І. Батаў) ад Лоеўскага плацдарма на заходнім беразе Дняпра з баямі рухаліся на Рэчыцу. Вораг аказваў упартае супраціўленне, падцягнуў у гэты раён значныя сілы. У выніку жорсткіх пяцідзённых баёў савецкія войскі наблізіліся да горада. Да 15 лістапада падраздзяленні 1-га гвардзейскага танкавага корпуса перарэзалі чыгунку Рэчыца — Калінкавічы і авалодалі моцным апорным пунктам праціўніка — чыгуначнай станцыяй Дземяхі. З усходу на Рэчыцу наступалі часці 42-га стралковага корпуса 48-й арміі (камандуючы генерал-лейтэнант П. Л. Раманенка). 17 лістапада ў ліку першых у горад уварваліся падраздзяленні 162-й стралковай дывізіі. 18 лістапада старшына роты 3-га батальёна Л. Марозаў узняў над будынкам педагагічнага тэхнікума (цяпер тут школа-інтэрнат № 1) чырвоны сцяг. 18.11.1943 г. Рэчыца была поўнасцю вызвалена. 20 вайсковым часцям і злучэнням, якія вызначыліся пры вызваленні горада, нададзены ганаровыя найменні «Рэчыцкіх».

*Літ.:* В боях за Белоруссию.— 2 изд.— Мн., 1974; В грозные годы.— Мн., 1973.
*В. Б. Караткевіч.*

**1688. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА Ў ГОНАР ВЫБАРАЎ ДЭЛЕГАТА НА 2-і ЎСЕРАСІЙСКІ З'ЕЗД САВЕТАЎ РАБОЧЫХ І САЛДАЦКІХ ДЭПУТАТАЎ** (гіст.). Вул. Луначарскага, 48. Устаноўлена ў 1958 г. на доме, дзе праходзілі выбары дэлегата на 2-і Усерасійскі з'езд Саветаў.

18(31).10.1917 г. на запалкавай фабрыцы «Дняпро» ў Рэчыцы адбыўся сход па выбарах дэлегата на з'езд. Рабочыя забалаціравалі кандыдатуру эсэра Акуленкі і аддалі свае галасы за бальшавіка П. І. Мілюкова. Рэчыцкая арганізацыя РСДРП(б) і Рэчыцкі Савет рабочых і салдацкіх дэпутатаў таксама выбралі дэлегатам на з'езд дэпутата Рэчыцкага Савета П. І. Мілюкова.

2-і Усерасійскі з'езд Саветаў, які адбыўся 25—27.10 (7—9.11).1917 г. у Петраградзе, прыняў напісаную У. І. Леніным адозву «Рабочым, салдатам і сялянам!», якая абвяшчала пераход улады ў рукі Саветаў, Дэкрэт аб міры і Дэкрэт аб зямлі. На з'ездзе быў створаны першы савецкі ўрад — Савет Народных Камісараў (СНК) на чале з У. І. Леніным.

*Літ.:* Победа Советской власти в Белоруссии.— Мн., 1967; Умецкий Б. И. Речица.— Мн., 1963. *В. Б. Караткевіч.*



1687. *Будынак, над якім быў узняты сцяг Вызвалення.*



1693. *Помнік У. І. Леніну.*

**1689. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА Ў ГОНАР РЭЧЫЦКАГА САВЕТА РАБОЧЫХ І САЛДАЦКІХ ДЭПУТАТАЎ** (гіст.). Вул. Леніна, 54. Устаноўлена ў 1953 на доме, дзе ў 1917 г. размяшчаўся выканком першага Рэчыцкага Савета.

Рэчыцкі Савет рабочых і салдацкіх дэпутатаў створаны ў красавіку 1917 г. 21—23 мая (3—5 чэрвеня) адбыўся Рэчыцкі павятовы сялянскі з'езд. Ён выбраў выканком Савета сялянскіх дэпутатаў. Было прынята рашэнне аб аб'яднанні Савета сялянскіх дэпутатаў з Саветам рабочых і салдацкіх дэпутатаў (адбылося пазней). У ліпені 1917 г., калі быў створаны Рэчыцкі камітэт РСДРП(б), уплыў бальшавікоў у Рэчыцкім Савеце значна ўзмацніўся. Замест правага эсэра Сарокіна Савет узначаліў салдат 257-га палка бальшавік М. Д. Шчарбітаў. У склад выканкома ўвайшлі пераважна бальшавікі (А. С. Касценка, П. І. Мілюкоў, Я. П. Міцкевіч, Я. Е. Дзямідаў, Коршунаў) і левыя эсэры. 30 кастрычніка (12 лістапада) 1917 г. выканком абвясціў аб устанаўленні ў Рэчыцы і павеце ўлады Саветаў. На сходзе 1(14).11.1917 г. выбраны Ваенна-рэвалюцыйны камітэт. Да сярэдзіны лістапада 1917 г. выбраны павятовыя камісары: земляробства, народнай асветы, аховы здароўя, юстыцыі, харчавання і інш. З лістапада 1917 г. пачала выходзіць газета «Известия Речицкого Совета рабочих, солдатских и крестьянских депутатов». Рэдактарам яе быў прапаршчык 257-га запаснога палка Я. Е. Дзямідаў. Савет актыўна праводзіў у жыццё дэкрэты Савецкага ўрада.

*Літ.:* Победа Советской власти в Белоруссии.— Мн., 1967; Умецкий Б. И. Речица.— Мн., 1963. *В. Б. Караткевіч.*

**1690. ПАСЕЛІШЧА** (археал.). На паўночна-ўсходняй ускраіне горада, за 0,6 км на ўсход ад ільнозавода, ва ўрочышчы Прудок. Адкрыў і даследаваў у 1981 г. на плошчы 1200 м² У. П. Ксяндзоў. У культурным пласце 0,1 м выяўлены крамянёвыя наканечнікі стрэл грэнскага тыпу, ланцэтападобныя прылады працы, вастрыі з пукатай і прамой спінкай, скрабкі, скрэблы, разцы, свярдзёлкі — пакруткі, пласціны з рэтушшу, адшчэпы, рэтушоры, адбойнікі, нуклеусы і інш. Адносіцца да эпохі мезаліту (9—5-е тысячагоддзі да н. э.).

Матэрыялы даследавання захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

*Літ.:* Ксензов В. П. Исследования памятников мезолита в Центральной и Северной Белоруссии.— У кн.: Археологические открытия 1981 года. М., 1983.
*У. П. Ксяндзоў.*

**1691. ПОМНІК ЛЕНІНУ** Уладзіміру Ільічу (гіст.). На вул. 10 год Кастрычніка. На тэрыторыі Рэчыцкага вытворчага дрэваапрацоўчага аб'яднання. Бюст У. І. Леніна ўстаноўлены ў 1967 г.

**1692. ПОМНІК ЛЕНІНУ** Уладзіміру Ільічу (гіст.). На вул. Ільіча, каля Дома культуры. Бюст У. І. Леніна ўстаноўлены ў 1960 г.

**1693. ПОМНІК ЛЕНІНУ** Уладзіміру Ільічу (гіст.). На вул. Савецкай, у скверы. Скульптура У. І. Леніна ўстаноўлена ў 1956 г.

**1694. ПОМНІК ЛЕНІНУ** Уладзіміру Ільічу (гіст.). На вул. Савецкай, у парку Перамогі. Скульптура У. І. Леніна ўстаноўлена ў 1960 г.

**1695. РАДЗІМА ВАСІЛЬЕВА** Аляксандра Карпавіча (гіст.).

Поўны кавалер ордэна Славы А. К. Васільеў нарадзіўся 30.8.1904 г. у рабочай сям'і. Член КПСС з 1944 г. У Чырвонай Арміі з 1941 г. У Вялікую Айчынную вайну з 1942 г. на фронце. Камандзір сапёрнага аддзялення старшы сяржант А. К. Васільеў вызначыўся пры вызваленні Польшчы і разгроме гітлераўцаў у Германіі. 14—16.1.1945 г. група сапёраў на чале з ім размініравала 2 мінныя палі, зрабіла праход у драцяной загародзе. Камандзір групы асабіста зняў 75 мін. 5—7.2.1945 г. пераправіў на лодцы цераз р. Одэр 250 пехацінцаў і 40 скрынак з боепрыпасамі; 10.3.1945 г. у час баёў на Одэрскім плацдарме пад агнём праціўніка зрабіў для савецкіх разведчыкаў 3 праходы ў мінных палях, у ноч на 16.4.

1945 г.— 2 праходы, зняў 65 мін; у час наступлення нашых войск разміціраваў шашу Лебус — Франкфурт-на-Одэры. Пасля вайны працаваў у Томскай вобл. на Асінаўскім лесапрамысловым камбінаце. Памёр 23.4. 1956 г.

*Літ.:* Навечно в сердце народном.— 3 изд.— Мн., 1984. *В. М. Удальцоў.*

**1696. РАДЗІМА ДОЎНАР-ЗАПОЛЬСКАГА** Мітрафана Віктаравіча (гіст.).

Беларускі гісторык буржуазна-ліберальнага кірунку, фалькларыст і этнограф, доктар гістарычных навук (1905 г.), прафесар (1902 г.) М. В. Доўнар-Запольскі нарадзіўся 2.6. 1867 г. у сям'і служачага. У 1894 г. скончыў Кіеўскі універсітэт. У 1901 г. абараніў магістарскую дысертацыю «Дзяржаўная гаспадарка Вялікага княства Літоўскага пры Ягелонах», у 1905 г.— доктарскую дысертацыю «Нарысы па арганізацыі заходнерускага сялянства ў XVI ст.». З 1899 г. прыват-дацэнт Маскоўскага, з 1901 г.— Кіеўскага універсітэтаў, у 1925—26 гг. правадзейны член і кіраўнік гісторыка-археалагічнай камісіі Інбелкульта, прафесар БДУ. У 1926 г. пераехаў у Маскву. Працаваў у Маскоўскай сельскагаспадарчай акадэміі імя К. А. Ціміразева, Інстытуце народнай гаспадаркі імя Г. В. Пляханава, адначасова старшыня секцыі гісторыі народнай гаспадаркі Усходу Усесаюзнай навуковай асацыяцыі ўсходазнаўства пры ЦВК СССР. Памёр у 1934 г.

Навуковыя працы М. В. Доўнар-Запольскага прысвечаны гісторыі Кіеўскай Русі, Маскоўскага вялікага княства, Расіі 19 ст., сацыяльна-эканамічнай гісторыі Беларусі і Літвы, этнаграфіі Беларусі і інш. Выдаў брашуру «Асновы дзяржаўнасці Беларусі» (1919 г.), у якой даў буржуазна-нацыяналістычную інтэрпрэтацыю гісторыі беларусаў, у 1926—28 гг.— некальк і прац па гісторыі народнай гаспадаркі Беларусі: «Народная гаспадарка Беларусі. 1861—1914 гг.» (1926 г.), «СССР па раёнах. Заходні раён (Беларуская ССР і Заходняя вобласць РСФСР» (1928 г.) і інш. У працах па этнаграфіі апісваў сямейны побыт. Вывучаў вясельныя абрады («Беларускае вяселле і вясельныя песні», 1888 г.), сямейнае звычаёвае права. Этнаграфічныя матэрыялы апублікаваны таксама ў зборніку «Даследаванні і артыкулы» (т. 1, 1909 г.). Збіраў і вывучаў беларускі фальклор (зборнік «Песні пінчукоў», 1895 г.). Па этнаграфіі і фальклору апублікаваў больш за 30 прац.

*Літ.:* Даўгяла З. Літаратурныя працы доктара рускай гісторыі М. В. Доўнар-Запольскага ў хранолагічным парадку за 45 год (1883—1928).— Запіскі аддзела гуманітарных навук, 1929, кн. 8. Працы класа гісторыі, т. 3; Бандарчык В. К. Гісторыя беларускай этнаграфіі XIX ст.— Мн., 1964; яго ж. Гісторыя беларускай этнаграфіі. Пачатак XX ст.— Мн., 1970.

**1697. РАДЗІМА МАСАЛЬСКАГА** Уладзіміра Рыгоравіча (гіст.).

Герой Савецкага Саюза У. Р. Масальскі нарадзіўся 22.1.1920 г. у сям'і рамесніка. Член КПСС з 1953 г. З 1939 г. у Чырвонай Арміі. Удзельнік савецка-фінляндскай вайны 1939—40 гг. У Вялікую Айчынную вайну з 1941 г. на Ленінградскім фронце. Вызначыўся ў баях на ўчастку Пулкава — Краснае Сяло. У студзені 1944 г. рота аўтаматчыкаў пад камандаваннем капітана У. Р. Масальскага зайшла ў тыл ворага каля вышыні Варонiна Гара, з якой гітлераўцы абстрэльвалі Ленінград, уварвалася з флангаў на вышыню і выбіла праціўніка. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 13.2.1944 г. Да 1954 г. у Савецкай Арміі, падпалкоўнік. Памёр 21.7.1965 г. На ўшанаванне яго памяці на будынку былой сярэдняй школы № 1 (цяпер Дом піянераў і школьнікаў, вул. Савецкая, 99), у якой ён вучыўся, у 1973 г. устаноўлена мемарыяльная дошка.

*Літ.:* Навечно в сердце народном.— 3 изд.— Мн., 1984. *Т. Р. Чуракова.*

**в. Азершчына, цэнтр сельсавета**

**1698. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). Вул. Набярэжная, на могілках. Пахаваны 2 воіны, якія загінулі ў баі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у Вялікую Айчынную вайну. У 1962 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**1699. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). Вул. Набярэжная, на могілках. Пахаваны 2 партызаны і 12 воінаў 208-га артылерыйскага і 624-га стралковага палкоў, якія загінулі ў лістападзе 1943 г. пры вызваленні вёскі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1975 г. на магіле пастаўлена стэла.

**1700. КУРГАН СЛАВЫ** (гіст.). Каля школы. Насыпаны ў 1965 г. на ўшанаванне памяці 225 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, і ў гонар 20-годдзя Перамогі над фашысцкай Германіяй.



1706. *Гарадзішча. План.*

**1701. МАГІЛА ВАРОНІНА** (гіст.). На могілках. Малодшы сяржант Чырвонай Арміі Воронін загінуў у лістападзе 1943 г. пры вызваленні тэрыторыі сельсавета ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1973 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**1702. МАГІЛА СЕРАКА** А. М. **І ЛАПШАКА** П. Ф. (гіст.). На паўднёва-заходняй ускраіне вёскі, злева ад аўтамабільнай дарогі на Рэчыцу. Пахаваны сакратар Азершчынскага сельскага Савета А. М. Сярак (нарадзіўся ў 1897 г.) і сакратар камсамольскай арганізацыі сельсавета П. Ф. Лапшак (нарадзіўся ў 1922 г.), якіх у 1941 г. расстралялі нямецка-фашысцкія захопнікі. У 1973 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**1703. ПАСЕЛІШЧА** (археал.). За 0,3 км на захад ад вёскі, на правым беразе р. Ведрыч. Памеры 100×50 м. Выявіў і абследаваў у 1977 г. У. П. Ксяндзоў. У культурным пласце 0,2 м знойдзены 12 крамянёвых ножападобных пласцін, 15 адшчэпаў, скрабок, рэшткі ляпной керамікі. Адносіцца да каменнага веку. Раскопкі не праводзіліся.

Матэрыялы абследавання захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

**1704. ПОМНІК ЛЕНІНУ** Уладзіміру Ільічу (гіст.). Каля будынка прафесійна-тэхнічнага вучылішча механізацыі сельскай гаспадаркі № 6. Бюст У. І. Леніна ўстаноўлены ў 1967 г.

**1705. ПОМНІК ЛЕНІНУ** Уладзіміру Ільічу (гіст.). На тэрыторыі суднабудаўніча-рамонтнага завода. Бюст У. І. Леніна ўстаноўлены ў 1967 г.

**в. Акцябр, Камсамольскі сельсавет**

**1706. ГАРАДЗІШЧА** (археал.). За 1 км на паўночны захад ад вёскі. Чатырохвугольная пляцоўка памерам 60×45 м абнесена валам вышынёй 2 м. Ніжэй яго прыкметны рэшткі другога вала, насыпанага з культурнага пласта. Адкрыў і абследаваў у 1976 г. Г. В. Штыхаў. Раскопкі не праводзіліся.

**в. Артукі, цэнтр сельсавета**

**1707. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). Каля школы. Пахаваны 120 воінаў і 2 партызаны, якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у 1941—43 гг. каля вёсак Калочын, Артукі, Навасёлкі, Краснаполле, Вятхінь, Кружок, Дварэц, Чырвоная Ветка. Сярод пахаваных — воіны 37-й гвардзейскай, 69-й, 170-й стралковых дывізій. У 1954 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна.

*Літ.:* В грозные годы.— Мн., 1973.

**в. Бабічы, цэнтр сельсавета**

**1708. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны 57 воінаў, якія загінулі ў лістападзе 1943 г. у баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў пры вызваленні вёсак Бабічы, Ліскі і Галоўкі.

Сярод пахаваных — воіны 15-й кавалерыйскай дывізіі 7-га гвардзейскага кавалерыйскага корпуса, у т. л. Герой Савецкага Саюза Мікалай Трафімавіч Маструкоў.

М. Т. Маструкоў нарадзіўся 25.1.1915 г. у с. Малы Буртас Пачалмскага р-на Пензенскай вобл. у сялянскай сям'і. Член ВЛКСМ. З 1937 г. у Чырвонай Арміі. У 1939 г. скончыў ваеннае вучылішча. У Вялікую Айчынную вайну з лістапада 1941 г. на Заходнім, Паўднёва-Заходнім, Цэнтральным, Беларускім і інш. франтах. Вызначыўся пры фарсіраванні Дняпра ў Камарынскім р-не Палескай вобл. 2.10.1943 г. кавалерыйскі эскадрон пад камандаваннем гвардыі лейтэнанта М. Т. Маструкова ў ліку першых пераправіўся цераз Днепр, захапіў плацдарм. 3.10.1943 г. у баях за расшырэнне плацдарма адбіў 3 контратакі ворага. Загінуў 17.11.1943 г. у час разведкі каля г. Васілевічы. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 15.1.1944 г. Яго імем названа вуліца ў г. п. Пачалма.

У 1956 г. на магіле пастаўлены абеліск.

*Літ.:* Навечно в сердце народном.— 3 изд.— Мн., 1984. *В. Б. Караткевіч.*

**1709. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. На ўшанаванне памяці 65 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1958 г. насыпаны курган, на вяршыні якога пастаўлена скульптура воіна.



**1708.** *Помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў.*

**в. Баршчоўка, цэнтр сельсавета**

**1710. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). У цэнтры вёскі, каля клуба. Пахаваны 57 воінаў і 3 партызаны. Сярод пахаваных — курсанты Гомельскай школы камсаставу, якія загінулі ў маі 1920 г. у баях супраць белапалякаў каля в. Капань, палкоўнік Чырвонай Арміі В. П. Васільеў (загінуў у баі з гітлераўцамі ў 1941 г.), воіны 3-й гвардзейскай Чырванасцяжнай ордэна Суворава Мазырскай кавалерыйскай дывізіі 2-га гвардзейскага кавалерыйскага корпуса, што загінулі 11—12.11.1943 г. у баях пры вызваленні вёсак Баршчоўка, Капань і пас. Стальмост ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў.

У 1960 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна са схіленым сцягам.

**1711. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 1,5 км на ўсход ад вёскі, ва ўрочышчы Курганне, каля могілак. 65 насыпаў вышынёй 0,5—2,2 м, дыяметрам 10—15 м. Вядомы з 1885 г. Абследавалі ў пачатку 20 ст. Е. Р. Раманаў, у 1976 г. Г. В. Штыхаў. Раскопкі не праводзіліся.

**в. Берагавая Слабада, Глыбаўскі сельсавет**

**1712. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 0,5 км на паўночны захад ад вёскі, на беразе Дняпра. 4 насыпы вышынёй 1,5 м, дыяметрам каля 10 м. Выявіў і абследаваў у 1976 г. Г. В. Штыхаў. Раскопкі не праводзіліся.

**1713. ПАСЕЛІШЧА** (археал.). На заходняй ускраіне вёскі, на другой надпоймавай тэрасе Дняпра, на вышыні 2 м над меженным узроўнем вады ў рацэ ў летні перыяд. Выявіў у 1977 г. і даследаваў у 1978—83 гг. У. П. Ксяндзоў. Культурны пласт 0,3 м прасочаны ўздоўж берага на працягу 1 км (глыбіня залягання 0,2—0,5 м ад паверхні). У 3 раскопах агульнай плошчай 448 м² ускрыта частка мезалітычнага гаспадарча-бытавога комплексу. Выяўлены рэшткі злёгку заглыбленага ў зямлю прамавугольнага жытла памерам 4×4 м. Вакол яго ямы авальнай і круглай формы з пакатымі сценамі і чашападобным дном, прасочаны 2 паглыбленні, запоўненыя попелам і драўнінным вуглем (рэшткі агнішчаў). У культурным пласце знойдзены 3841 крамянёвы выраб: нуклеусы, адшчэпы, пласціны, наканечнікі стрэл, скрабкі, разцы, сякерападобныя прылады працы з выемкамі, праколкі, трапецыі і інш. Адносіцца да верхнедняпроўскай культуры позняга мезаліту, датуецца 6—5-м тысячагоддзямі да н. э.

Матэрыялы даследаванняў захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

*Літ.:* Ксензов В. П. Работы в Белорусском Поднепровье.— У кн.: Археологические открытия 1977 года. М., 1978; яго ж. Новыя помнікі позняга мезаліту усходняй Беларусі.— Весці АН БССР. Сер. грамадскіх навук, 1979, № 6. *У. П. Ксяндзоў.*



**1709.** *Помнік землякам.*

**в. Борхаў, цэнтр сельсавета**

**1714. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ, ПАРТЫЗАНА, АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). Каля школы. Пахаваны 10 воінаў Чырвонай Арміі і 1 партызан, якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у Вялікую Айчынную вайну, і 3 мірныя жыхары, расстраляныя гітлераўцамі. У 1965 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна.

**1715. ГАРАДЗІШЧА** (археал.). За 3 км на поўдзень ад вёскі, сярод балота.



**1719а.** *Гарадзішча. План.*

Пляцоўка прамавугольнай формы з закругленымі вугламі, памерам 60×30 м, абнесена валам вышынёй 1 м. Вядома з 1910 г. Даследавала ў 1955 г. і 1959 г. В. М. Мельнікоўская. На плошчы 34 м² быў ускрыты культурны пласт каля 0,6 м. Выяўлены рэшткі пабудовы памерам 3,2×3,2 м. Знойдзены абломкі ляпнога глінянага посуду, 7 прасліц, жалезная шпілька. У 1976 г. гарадзішча абследаваў Г. В. Штыхаў. Помнік адносіцца да мілаградскай культуры, датуецца 7—3 стагоддзямі да н. э.

Матэрыялы даследавання захоўваюцца ў Інстытуце археалогіі АН СССР.

*Літ.:* Романов Е. Р. Археологический очерк Гомельского уезда (Могилевской губернии).— Вильна, 1910; Мельниковская О. Н. Племена Южной Белоруссии в раннем железном веке.— М., 1967. *Г. В. Штыхаў.*

**в. Будка-Шыбенка, Дземяхоўскі сельсавет**

**1716. МЕСЦА ДЫСЛАКАЦЫІ ШТАБА РЭЧЫЦКАЙ ПАРТЫЗАНСКАЙ БРЫГАДЫ ІМЯ К. Я. ВАРАШЫЛАВА** (гіст.). У вёсцы ў 1943 г. размяшчаўся штаб Рэчыцкай партызанскай брыгады імя К. Я. Варашылава (камандзір М. П. Аніпка, камісар В. П. Палавінка). У памяць аб гэтым у 1976 г. ў цэнтры вёскі пастаўлены абеліск.

**в. Бушаўка, Дуброўскі сельсавет**

**1717. ПОМНІК АХВЯРАМ ФАШЫЗМУ** (гіст.). У цэнтры вёскі, каля клуба. 18.4.1943 г. нямецка-фашысцкія захопнікі спалілі жывымі ў калгасным клубе 80 жыхароў в. Бушаўка і 2 в. Елізаравічы. Вёскі былі спалены. У 1965 г. на ўшанаванне памяці ахвяр фашызму пастаўлены абеліск.

**в. Валадарск, Глыбаўскі сельсавет**

**1718. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). На могілках. Пахаваны 34 воіны і 14 партызан, якія загінулі ў 1941—43 гг. у баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў каля вёсак Балашоўка, Валадарск, Святое. У 1959 г. на магіле пастаўлена стэла.

**1719. ГАРАДЗІШЧА, КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.).

**1719а.** Гарадзішча. За 2 км на поўдзень ад вёскі, сярод балота. Пляцоўка авальная, абнесена 2 валамі. Вышыня ўнутранага вала каля 2 м, вонкавага — 0,5 м. Абследавалі ў 1958 г. В. М. Мельнікоўская, у 1976 г. Г. В. Штыхаў. Культурны пласт 0,3 м. Знойдзены рэшткі ляпной керамікі. Адносіцца да мілаградскай культуры. Датуецца 7—3 стагоддзямі да н. э. Раскопкі не праводзіліся.

**1719б.** Курганны могільнік. За 1,5 км на поўдзень ад вёскі, каля лясной дарогі, ва ўрочышчы Усобіна. 70 курганоў вышынёй 0,5—1,5 м, дыяметрам 8—10 м. Каля асобных насыпаў ёсць раўкі. Выявіў і абследаваў у 1976 г. Г. В. Штыхаў. Раскопкі не праводзіліся.

Матэрыялы абследавання захоўваюцца ў Інстытуце археалогіі АН СССР і Інстытуце гісторыі АН БССР.

*Літ.:* Штыхов Г. В. Обследование городищ и курганов в Речицком районе.— У кн.: Археологические открытия 1976 года. М., 1977. *Г. В. Штыхаў.*

## XXII. ВАСІЛЕВІЧЫ

Горад у Рэчыцкім р-не. За 45 км на паўднёвы захад ад Рэчыцы, 86 км ад Гомеля. Чыгуначны вузел (лініі на Гомель, Калінкавічы, Хойнікі), аўтамабільнымі дарогамі злучаны з аўтамагістраллю Гомель — Калінкавічы.

Тэрыторыя сучаснага горада была заселена яшчэ ў бронзавым веку (2-е — пачатак 1-га тысячагоддзя да н. э.). Тут было паселішча тыпу гарадзішча. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793 г.) Васілевічы ў складзе Расійскай імперыі, цэнтр воласці ў Рэчыцкім павеце. У 1860-я гады — вёска, было 96 двароў, праваслаўная царква, у 1870-я гады адкрыта царкоўнапрыходская школа, заснавана метэастанцыя для вывучэння клімату Палесся. З будаўніцтвам чыгункі Лунінец — Гомель (1886 г.) Васілевічы — чыгуначная станцыя. У пачатку 20 ст. чыгунка была пракладзена на Хойнікі, што садзейнічала развіццю Васілевіч як гандлёвага цэнтра. Адсюль у 1892 г. было адпраўлена 100 тыс. пудоў грузаў, атрымана 2 тыс. пудоў, адпаведна ў 1912 г.— 2547 тыс. і 188 тыс. пудоў. За 20 гадоў вываз павялічыўся больш як у 25 разоў. Вывозілі пераважна дровы і лесабудаўнічыя матэрыялы, прывозілі зерне, соль, газу. Паводле перапісу 1897 г. у Васілевічах 1968 жыхароў. Савецкая ўлада ўстаноўлена ў лістападзе 1917 г. З 1919 г. у складзе Гомельскай губерні, у 1926—27 гг. і ў 1938—59 гг. цэнтр раёна, у 1927—38 гг. і з 1959 г. у Рэчыцкім р-не.

У Вялікую Айчынную вайну з ліпеня 1941 г. да 18.11.1943 г. акупіраваны нямецка-фашысцкімі захопнікамі. У раёне дзейнічалі падпольныя райкомы КП(б)Б (ліпень 1943 г.— 17.11.1943 г.), ЛКСМБ (1.6—17.11. 1943 г.), Васілевіцкае камуністычнае падполле (жнівень 1941 г.— лістапад 1943 г.). З 1950 г. гарадскі пасёлак, з 1971 г. горад.

У горадзе працуюць завод па вытворчасці масла і сухога малака, хлебазавод, мэблевы цэх Рэчыцкага вытворчага дрэваапрацоўчага аб'яднання, цагельны завод Рэчыцкага прамкамбіната, філіял Рэчыцкага камбіната бытавога абслугоўвання, цэхі па вытворчасці безалкагольных напіткаў і каўбас, лясгас, лесаўчастак Мазырскага лесанарыхтоўчага аб'яднання. У горадзе 2 сярэднія, у т. л. школа-інтэрнат, васьмігадовая і музычная школы, 2 дашкольныя ўстановы, Дом піянераў і школьнікаў, 2 бібліятэкі, Дом культуры, кінатэатр, аграметэастанцыя, бальніца. Помнікі: У. І. Леніну; на брацкіх магілах савецкіх воінаў і партызан; на брацкай магіле падпольшчыкаў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну.

*Літ.:* Трудящиеся Гомельщины в борьбе за власть Советов (1917—1920 гг.): Хроника событий.— Гомель, 1958; Россия: Полное географическое описание нашего отечества. Т. 9.— СПб., 1905; Батов П. И. В походах и боях.— 3 изд.— М., 1974; Ветров И. Д. Братья по оружию.— Мн., 1965. *Х. Ю. Бейльк.н.*

**1720. БРАЦКАЯ МАГІЛА ПАДПОЛЬШЧЫКАЎ** (гіст.). Вул. Камсамольская, у скверы. Пахаваны 27 удзельнікаў Васілевіцкага камуністычнага падполля, якія загінулі ў 1941—43 гг. у барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў.

Васілевіцкае камуністычнае падполле дзейнічала з жніўня 1941 г. да лістапада 1943 г. Кіраўнікі Ц. М. Астапенка (загінуў у ліпені 1942 г.), М. С. Белы. Аб'ядноўвала 5 груп (57 чалавек). 2 групы дзейнічалі ў Васілевічах (кіраўнікі Л. П. Курганская-Сакалова, А. І. Белы, загінулі), у в. Бабічы (кіраўнік П. А. Астапенка), у в. Навінкі (кіраўнік А. Ф. Фралоў), у вёсках Хамічы і Гогалева (кіраўнік С. П. Алісейка, загінуў). Падпольшчыкі вялі палітычную работу сярод насельніцтва, распаўсюджвалі лістоўкі і зводкі Саўінфармбюро, трымалі сувязь з партызанскімі атрадамі Васілевіцкім і імя К. Я. Варашылава, здабывалі і пе-



**1720.** *Помнік на брацкай магіле падпольшчыкаў.*

радавалі партызанам зброю, боепрыпасы, медыкаменты, вялі разведку, папярэджвалі партызан і насельніцтва аб карных аперацыях гітлераўцаў, вывелі са строю электрастанцыю ў Васілевічах, спалілі мэблевую фабрыку ў в. Бабічы, падарвалі варожы эшалон на чыгунцы Калінкавічы — Рэчыца. У барацьбе з акупантамі загінулі 32 падпольшчыкі.

У 1968 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**1721. БРАЦКІЯ МАГІЛЫ САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). На гарадскіх могілках. У 17 магілах пахаваны 250 воінаў і 6 партызан, якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў ці памерлі ад ран у лістападзе 1943 г.— студзені 1944 г. Сярод пахаваных — воіны 37-й гвардзейскай і 193-й Дняпроўскай стралковых дывізій 19-га стралковага корпуса, 15-й гвардзейскай кавалерыйскай дывізіі 7-га гвардзейскага кавалерыйскага корпуса 65-й арміі і партызаны 101-й Даманавіцкай і Васілевіцкай імя П. К. Панамарэнкі партызанскіх брыгад, а таксама Герой Савецкага Саюза Аляксандр Герасімавіч Казлоў.

Горад і чыгуначная станцыя Васілевічы былі моцнымі апорнымі пунктамі ў сістэме абароны нямецка-фашысцкіх войск. 18.11.1943 г. 15-я гвардзейская кавалерыйская дывізія (камандзір генерал-маёр І. Ц. Чаленка) і 193-я Дняпроўская стралковая дывізія (камандзір генерал-маёр А. Р. Фралянкоў) пачалі наступленне на Васілевічы. Воіны 193-й дывізіі ўварваліся на паўночна-заходнюю ўскраіну горада, 15-я гвардзейская кавалерыйская дывізія атакавала станцыю і захапіла яе. У баях за вызваленне горада ўдзельнічалі партызаны 101-й Даманавіцкай (камандзір В. М. Мінін, камісар М. Я. Казлоў) і Васілевіцкай імя П. К. Панамарэнкі (камандзір С. А. Смерцін, камісар П. П. Гудаў) брыгад.

А. Г. Казлоў нарадзіўся 6.2. 1918 г. у в. Любаўка Калінінскага р-на Саратаўскай вобл. у рабочай сям'і. Кандыдат у члены КПСС. У Вялікую Айчынную вайну з 1942 г. на Заходнім, Варонежскім, Паўднёва-Заходнім, Цэнтральным і Беларускім франтах. Вызначыўся пры вызваленні Камарынскага р-на Палескай вобл. Наводчык гарматы гвардыі старшы сяржант А. Г. Казлоў 2—4.10.1943 г. у баях за вёскі Калыбань, Зладзеева, Пасудава знішчыў каля 2 узводаў пяхоты праціўніка. Загінуў у баі 22.11. 1943 г. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 24.12.1943 г. Яго імем названа вуліца ў Васілевічах.

У 1947 г. на брацкіх магілах пастаўлены помнік — скульптура воіна з аўтаматам.

*Літ.:* Навечно в сердце народном.— 3 изд.— Мн., 1984; Освобождение Белоруссии 1944.— 2 изд.— М., 1974.

*В. Б. Караткевіч.*



1721. *Помнік на брацкіх магілах савецкіх воінаў і партызан.*

**1722. МАГІЛА ІВАНОВА** Івана Мікалаевіча (гіст.). За 1,5 км на ўсход ад горада, з правага боку ад аўтамабільнай дарогі на в. Ведрыч. Пятнаццацігадовы юнак І. М. Іваноў расстраляны ў 1943 г. нямецка-фашысцкімі захопнікамі. У 1956 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**1723. МОГІЛКІ АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). За 2,5 км на захад ад горада, ва ўрочышчы Рубанікі. Пахаваны 41 савецкі грамадзянін, якіх у 1941—43 гг. расстралялі нямецка-фашысцкія захопнікі. У 1947 г. на могілках пастаўлены абеліск і ўстаноўлены надмагіллі.

**1724. ПОМНІК ЛЕНІНУ** Уладзіміру Ільічу (гіст.). На вул. Камсамольскай, у скверы. Скульптура У. І. Леніна ўстаноўлена ў 1952 г.

**в. Васількова, Дуброўскі сельсавет**

**1725. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 1 км на ўсход ад вёскі, на ўзлессі. 19 курганоў вышынёй 1—1,7 м, дыяметрам 8—20 м. Выявіў у 1976 г. Г. В. Штыхаў. Раскопкі не праводзіліся.

**в. Ведрыч, Васілевіцкі гарадскі Савет**

**1726. ЗАБУДОВА ЦЭНТРАЛЬНАЙ СЯДЗІБЫ ПЛЕМЗАВОДА «ВЕДРЫЧ»** (архіт.). Будаўніцтва пачалося ў 1930-я гады. У 1972 г. у Гомельскім абласным філіяле інстытута «Белдзяржпраект» распрацаваны генеральны план забудовы цэнтральнай сядзібы як эксперыментальнага пасёлка.



1723. *Помнік на могілках ахвяр фашызму.*

Пасёлак падзелены на 3 асноўныя зоны. У цэнтры на перакрыжаванні 2 галоўных вуліц знаходзіцца адміністрацыйна-грамадская зона. Тут размешчаны адміністрацыйны будынак, Палац культуры, гандлёвы цэнтр, школа, камбінат бытавога абслугоўвання, гасцініца, дзіцячы сад, кафэ, сталовая і інш. Паблізу невялікі парк. Жылая зона пасёлка заснавана на прамавугольнай сетцы вуліц. Акрамя індывідуальнай жылой забудовы з прысядзібнымі ўчасткамі, якая склалася раней, у зону ўваходзяць кварталы новых двухпавярховых дамоў з кватэрамі ў 2 узроўнях. Вядзецца бу-



1726. *Фрагмент жылой забудовы цэнтральнай сядзібы племзавода «Ведрыч».*



1727. *Помнік землякам.*

даўніцтва двух- і трохпавярховых дамоў. Вытворчая зона вынесена за межы пасёлка і ўключае 2 малочна-таварныя фермы, рамонтна-механічныя майстэрні, зернясховішча, нафтабазу.

Па сваёй планіровачнай структуры і забудове цэнтральная сядзіба племзавода «Ведрыч» — адзін з прыкладаў пасёлка новага тыпу. *А. Ю. Пятросава.*

**1727. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі, у скверы. На ўшанаванне памяці землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1975 г. пастаўлены помнік — скульптура воіна.


1729. *Помнік на брацкай магіле байцоў Пралетарскага батальёна.*

**в. Вішнёўка, Свірыдавіцкі сельсавет**

**1728. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На паўднёвай ускраіне вёскі. Пахаваны 466 воінаў 307-й, 387-й стралковых дывізій, 60-га кавалерыйскага палка, 17-й танкавай брыгады, якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у лістападзе 1943 г. У 1965 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна са схіленым сцягам.

**в. Воўчая Гара, Жмураўскі сельсавет**

**1729. БРАЦКАЯ МАГІЛА БАЙЦОЎ ПРАЛЕТАРСКАГА БАТАЛЬЁНА** (гіст.). На могілках.

У савецка-польскую вайну 1920 г. войскі буржуазнай Польшчы 6 мая захапілі Кіеў, павялі наступленне на Рэчыцу, Гомель, Жлобін.

У ноч на 8 мая, калі праціўнік наблізіўся да Рэчыцы, павятовы камітэт партыі правёў спецыяльнае пасяджэнне, на якім была сфарміравана ваенная тройка для арганізацыі абароны горада. Была ўстаноўлена сувязь са штабам 57-й стралковай дывізіі Чырвонай Арміі і аб'яўлена мабілізацыя камуністаў. У Рэчыцы быў сфарміраваны пралетарскі (Камуністычны) батальён. 8 мая батальён разам з байцамі 57-й дывізіі паблізу Воўчай Гары (10 км на захад ад Рэчыцы) каля чатырох гадзін вёў няроўны бой з праціўнікам. За гэты час з Рэчыцы была эвакуіравана каштоўная дзяржаўная маёмасць. Часці 57-й дывізіі пераправіліся на левы бераг Дняпра і занялі абарону. Большасць байцоў батальёна загінула, у т. л. камуністы Галоўчанка, Пляшкоў, Белкін, Крупецкі, Гуцюнтаў, Драбышэўскі.

У 1930 г. на магіле пастаўлены абеліск.

*Літ.:* Умецкий Б. И. Речица.— Мн., 1963. *В. Б. Караткевіч.*

**в. Вышамір, цэнтр сельсавета**

**1730. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). Каля будынка выканкома сельскага Савета. Пахаваны 187 воінаў, якія загінулі ў лістападзе 1943 г. у баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў пры вызваленні вёсак Вышамір, Сямёнаўка і інш. Сярод пахаваных — воіны 754-га стралковага палка, 15-й гвардзейскай кавалерыйскай дывізіі, Герой Савецкага Саюза Тачмамед Ніязмамедаў.

Т. Ніязмамедаў нарадзіўся ў 1914 г. у с. Джэджырс Кізыл-Арвацкага р-на Краснаводскай вобл. у сялянскай сям'і. Член КПСС з 1943 г. У 1939 г. скончыў Ашхабадскае педвучылішча, працаваў настаўнікам. У Вялікую Айчынную вайну на фронце з 1941 г. Вызначыўся пры вызваленні Камарынскага р-на Палескай вобл. Памочнік камандзіра кулямётнага ўзвода гвардыі старшы сяржант Т. Ніязмамедаў у ноч на 28.9.1943 г. пераправіўся з кулямётным разлікам цераз Дняпро і выбіў ворага з умацавання, што садзейнічала пераправе падраздзяленняў палка. Загінуў у баі ў лістападзе 1943 г. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 15.1.1944 г. Яго імем названа вуліца ў г. Кізыл-



1730. *Помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў.*

Арват, імя героя прысвоена школе ў с. Чакур Кізыл-Арвацкага р-на Туркменскай ССР.

У 1961 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна, абапал яе ў 1977 г. — 2 стэлы.

*Літ.:* Навечно в сердце народном.— 3 изд.— Мн., 1984.

**в. Вятхінь, Артукоўскі сельсавет**

**1731. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). На могілках. Пахаваны 34 воіны і партызаны, якія загінулі ў лістападзе 1943 г. пры вызваленні вёскі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. Сярод пахаваных — воіны 717-га стралковага палка 170-й стралковай дывізіі. 14.11.1943 г. воіны палка двойчы беспаспяхова атакавалі праціўніка каля вёскі. Дывізійныя разведчыкі выявілі за 1,5 км ад вёскі балота. Рота аўтаматчыкаў пераадолела яго і атакавала ворага з тылу. Амаль увесь фашысцкі гарнізон быў знішчаны, 28 салдат і афіцэраў узяты ў палон.

У 1954 г. на магіле пастаўлена стэла.

*Літ.:* В грозные годы.— Мн., 1973.

*В. Б. Караткевіч.*

**пас. Гагалі, Камсамольскі сельсавет**

**1732. ПАСЕЛІШЧА** (арх.). За 0,5 км на паўднёвы захад ад вёскі, на першай надпоймавай тэрасе правага берага р. Бярэзіна. Выявіў у 1977 г. У. П. Ксяндзоў. На плошчы 150 м² прасочаны культурны пласт 0,15 м. Знойдзены крамянёвыя вырабы (адшчэпы, пласціны) і рэшткі ляпной керамікі. Помнік адносіцца да бронзавага веку, датуецца 2—1-м тысячагоддзямі да н. э. Раскопкі не праводзіліся. Матэрыялы абследавання захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

**в. Галоўкі, Бабіцкі сельсавет**

**1733. ПОМНІК АХВЯРАМ ФАШЫЗМУ** (гіст.). За 1,2 км на паўночны захад ад вёскі, каля чыгункі. Тут у чэрвені 1943 г. нямецка-фашысцкія захопнікі расстралялі каля 40 мірных жыхароў. У 1976 г. на месцы іх загубы пастаўлены абеліск.

**в. Ганчароўка, Вышамірскі сельсавет**

**1734. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАНА** (гіст.). У цэнтры вёскі, каля школы. Пахаваны 273 воіны і партызан. Сярод пахаваных — воіны 43-га стралковага палка 106-й стралковай дывізіі, якія загінулі ў лістападзе 1943 г. пры вызваленні в. Кузьмінка ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў, і 16-й гвардзейскай танкавай брыгады, што загінулі пры вызваленні в. Ганчароў Падзел (цяпер Ганчароўка). У 1959 г. на магіле пастаўлены абеліск.

*Літ.:* В грозные годы.— Мн., 1973.

**1735. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. На ўшанаванне памяці землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1959 г. пастаўлены помнік — скульптура партызана.

**в. Гарноўка, Глыбаўскі сельсавет**

**1736. МЕСЦА БАЗІРАВАННЯ ГОМЕЛЬСКАГА ПАДПОЛЬНАГА АБКОМА КП(б)Б, РЭЧЫЦКАГА ПАДПОЛЬНАГА РАЙКОМА КП(б)Б, РЭЧЫЦКАЙ ПАРТЫЗАНСКАЙ БРЫГАДЫ ІМЯ К. Я. ВАРАШЫЛАВА** (гіст.). На ўсходняй ускраіне вёскі і ў навакольных лясах базіраваліся Гомельскі падпольны абком КП(б)Б, Рэчыцкі падпольны райком КП(б)Б, Рэчыцкая партызанская брыгада імя К. Я. Варашылава.

Гомельскі падпольны абком КП(б)Б дзейнічаў з 19.8.1941 г. да 26.11.1943 г. 10.8.1941 г. на нелегальнае становішча перайшлі сакратары І. П. Кожар і А. А. Куцак. Яны, а таксама члены абкома Е. І. Барыкін [сакратар Гомельскага гаркома КП(б)Б] і А. Дз. Рудак (сакратар Гомельскага абкома ЛКСМБ) пасля акупацыі 19.8.1941 г. Гомеля нямецка-фашысцкімі захопнікамі засталіся ў тыле ворага. Рашэннем ЦК КП(б)Б ад 5.3.1943 г. ў склад абкома быў уведзены А. Ф. Ждановіч. Сакратары падпольнага абкома КП(б)Б: І. П. Кожар (19.8.1941 г.— 26.11.1943 г.), А. А. Куцак (19.8.1941 г.— 12.11.1942 г.); члены абкома: Е. І. Барыкін (19.8.1941 г.— 26.11.1943 г.), А. Дз. Рудак (19.8.1941 г.— 5.10.1943 г.), А. Ф. Ждановіч (6.7—2.10.1943 г.). Друкаваны орган падпольнага абкома КП(б)Б — газета «Гомельская праўда» (рэдактар М. І. Пахомаў).



1736. *Помнік на месцы базіравання Гомельскага падпольнага абкома КП(б)Б, Рэчыцкага падпольнага райкома КП(б)Б, Рэчыцкай партызанскай брыгады імя К. Я. Варашылава.*

Рэчыцкі падпольны райком КП(б)Б дзейнічаў з 24.11.1942 г. да 17.11.1943 г. Сакратар райкома В. П. Палавінка. Друкаваны орган падпольнага райкома КП(б)Б — газета «Зара камуны».

Падпольныя Гомельскі абком і Рэчыцкі райком КП(б)Б арганізоўвалі і ўзначальвалі камуністычнае падполле і партызанскі рух, барацьбу працоўных супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў, праводзілі палітычную і арганізацыйную работу сярод насельніцтва. І. П. Кожару і Е. І. Барыкіну прысвоена званне Героя Савецкага Саюза.

Рэчыцкая партызанская брыгада імя К. Я. Варашылава (камандзір М. П. Аніпка, камісар В. П. Палавінка) створана ў чэрвені 1943 г. на базе асобнага атрада імя К. Я. Варашылава. Партызаны брыгады толькі ў жніўні 1943 г. ў аперацыі «Рэйкавая вайна» падарвалі на ўчастку чыгункі Рэчыца — Бабічы 320 рэек і спынілі рух цягнікоў на трое сутак, пусцілі пад адхон 13 эшалонаў, падарвалі чыгуначны мост на р. Ведрыч, разграмілі варожыя апорныя пункты ў вёсках Узнаж і Маканавічы Васілевіцкага р-на. Разам з часцямі Чырвонай Арміі вызвалялі вёскі Берагавая Слабада і Унорыца Рэчыцкага р-на, захапілі пераправу і ўмацаваныя пазіцыі на правым беразе Дняпра. 17.11.1943 г. брыгада (1368 партызан, атрады імя К. Я. Варашылава, імя М. В. Фрунзе, імя С. М. Будзённага, разведрота) злучылася з Чырвонай Арміяй.

У 1968 г. у гонар дзейнасці Гомельскага падпольнага абкома КП(б)Б, Рэчыцкага падпольнага райкома КП(б)Б і Рэчыцкай партызанскай брыгады імя К. Я. Варашылава на ўсходняй ускраіне вёскі пастаўлены абеліск.

*Літ.:* Всенародное партизанское движение в Белоруссии в годы Великой Отечественной войны (июнь 1941 — июль 1944): Документы и материалы. Т. 1—3.— Мн., 1967—82; Непокорённая Белоруссия.— М., 1963; Подпольные партийные органы Компартии Белоруссии в годы Великой Отечественной войны (1941—1944).— Мн., 1975; Партизанские формирования Белоруссии в годы Великой Отечественной войны (июнь 1941 — июль 1944).— Мн., 1983.

*В. Б. Караткевіч.*

**в. Гарошкаў, Заспенскі сельсавет**

**1737. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны 25 воінаў, што загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у 1941—43 гг. Сярод пахаваных — воіны 616-га і 624-га стралковых палкоў, 238-га асобнага знішчальнага дывізіёна, якія загінулі ў лістападзе 1943 г. пры вызваленні вёсак Велін, Адамаўка, Сцяпанаўка, Май. У 1960 г.

на магіле пастаўлены помнік — скульптура салдата са схіленым сцягам.

**1738. ГАРАДЗІШЧА, БЕСКУРГАННЫЯ МОГІЛЬНІКІ** (археал.).

**1738а.** Гарадзішча. У вёсцы, на правым беразе р. Дняпро, ва ўрочышчы Гарадок. Складаецца з 2 пляцовак, умацавана 2 валамі. Унутраны вал абмяжоўваў малую пляцоўку (памеры 100×25 м) амаль трохвугольнай формы. Вонкавы вал размяшчаўся за 65—70 м ад унутранага. Пляцоўка паміж валамі памерам 140×70 м. Вышыня унутранага вала 2 м, вонкавага 3,5 м. Гарадзішча разам з 2 пляцоўкамі і валамі займае плошчу каля 2 га. Адкрыў у канцы 19 ст. У. З. Завітневіч, абследавалі ў 1935 г. А. Дз. Каваленя, у 1952 г. Ю. У. Кухарэнка, у 1964—67 гг. Л. Д. Побаль, у 1976 г. Г. В. Штыхаў, даследавала ў 1954—61 гг. В. М. Мельнікоўская. У час раскопак выяўлены рэшткі жытлаў, якія размяшчаліся скучана на цэнтральнай частцы пляцоўкі. Даследавана 20 жытлаў. Яны слупавай канструкцыі, у плане квадратныя ці прамавугольныя, зрэдку з закругленымі вугламі, плошчай 12—16 м², заглыблены ў мацярык на 0,15—0,5 м, разлічаны на адну сям'ю. Для будаўніцтва сцен выкарыстоўвалі 2 прыёмы: плятнёвы, калі паміж слупамі ставіўся шчыльны плячень, і замацаванне паміж слупамі тонкага бярвення, пакладзенага гарызантальна. Двухсхільны дах на парных сохах — высокіх слупах з развілкай — у сярэдзіне жылля падтрымліваўся цэнтральным слупам. Уваход рабілі ў сцяне ці ў вуглу. Агнішчы адкрытыя, размешчаныя паміж цэнтральным слупам і сцяной. Двары абгароджвалі плятнём. Характэрная асаблівасць жытлаў — наяўнасць выступу прамавугольнай, круглай ці авальнай формы ў адной з сцен або вуглоў. Даследавана пабудова (даўжыня 8,5 м, шырыня да 3 м), верагодна, культавага прызначэння, якая была заглыблена ў мацярык на 0,5 м. Выяўлена двухкамерная вытворчая пабудова. Каля кожнага жытла быў невялікі склеп — яма з прыступкамі і пакрыццём у выглядзе будана. У 4 ямах былі скарбы: у 1 жалезныя земляробчыя прылады працы, у 3 іншых — жаночыя ўпрыгожанні. На гарадзішчы знойдзены 14 сярпоў, дзесяткі нажоў і тачыльных брускоў, 30 бронзавых бранзалетаў, падвескі, кольцы, латэнскія фібулы, шпількі некалькіх тыпаў (посахападобныя, гальштацкія і інш.), каля 100 шкляных грэчаскіх пацерак, сотні грузікаў і праслíц, каля 90 гліняных фігурак жывёл, пераважна коней, тыглі, льячкі, ліцейныя формы, шмат вырабаў з металу, каменю, косці, рогу. Помнік адносіцца да мілаградскай і зарубінецкай культур, датуецца 4—1 стагоддзямі да н. э. Матэрыялы раскопак захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР, Інстытуце археалогіі АН СССР, у Гомельскім і Рэчыцкім краязнаўчых музеях.



1739. *Гарадзішча. План.*

**1738б.** Бескурганны могільнік-1. Паміж 2 валамі гарадзішча. Даследавала ў 1954, 1955, 1959—61 гг. В. М. Мельнікоўская, раскапана каля 100 пахаванняў. Трупаспаленні знаходзіліся ў круглых ці прадаўгаватых ямах глыбінёй 0,2—0,5 м. Знойдзены гліняны ляпны посуд, жалезны наканечнік стралы, бронзавае кольца з выступамі, праслíцы. Адносіцца да мілаградскай культуры.

**1738в.** Бескурганны могільнік-2. За 0,1 км на поўнач ад вонкавага вала гарадзішча. Адкрыла і раскапала ў 1958 г. В. М. Мельнікоўская, даследавана 5 пахаванняў. Знойдзены гліняны ляпны посуд, наканечнік кап'я, нож, фібула, бронзавы ланцужок. Адносіцца да зарубінецкай культуры, датуецца 1 ст. да н. э.

Матэрыялы раскопак могільнікаў захоўваюцца ў Інстытуце археалогіі АН СССР.

*Літ.:* Мельниковская О. Н. Племена Южной Белоруссии в раннем железном веке.— М., 1967; Очерки по археологии Белоруссии. Ч. 1.— Мн., 1970.

*Г. В. Штыхаў.*

**в. Гіроў, Белабалоцкі сельсавет**

**1739. ГАРАДЗІШЧА** (археал.). За 4 км на поўнач ад вёскі, на левым беразе Дняпра, сярод балота. Пляцоўка авальная, памерам 75×60 м, умацавана 2 валамі. Вышыня ўнутранага вала 1,5 м, вонкавага 2 м. Вядома з 1910 г. Абследавалі ў 1955 г. В. М. Мельнікоўская, у 1976 г. Г. В. Штыхаў. Раскопкі не праводзіліся.

**в. Глыбаў, цэнтр сельсавета**

**1740. ГАРАДЗІШЧА, КУРГАННЫЯ МОГІЛЬНІКІ** (археал.).

**1740а.** Гарадзішча. На паўднёва-ўсходняй ускраіне вёскі. Пляцоўка памерам 160×110 м абнесена дугападобным валам вышынёй больш за 2 м. Даследавала ў 1955 г. В. М. Мельнікоўская. Раскапана 200 м² плошчы. У культурным пласце 0.5 м выяўлены рэшткі 2 жытлаў, знойдзена ляпная кераміка, праслíцы, грузікі. У 1976 г. гарадзішча абследаваў Г. В. Штыхаў. Адносіцца да мілаградскай (7—3 стагоддзі да н. э.) і зарубінецкай (2 ст. да н. э.— 5 ст. н. э.) культур.

Матэрыялы даследавання захоўваюцца ў Інстытуце археалогіі АН СССР у Маскве.

**1740б.** Могільнік-1. На тэрыторыі сучасных каталіцкіх могілак. 4 насыпы вышынёй 1,5—2 м, дыяметрам 10—12 м. У 1958 г. С. С. Шырынскі даследаваў адзін курган. Пахавальны абрад — трупапалажэнне ў яме пад насыпам. Знойдзены рэшткі ганчарнага посуду, бронзавыя ўпрыгожанні. У 1976 г. абследаваў Г. В. Штыхаў. Належаў дрыгавічам, датуецца 12 — пачаткам 13 ст.

**1740в.** Могільнік-2. За 0,2 км на поўнач ад гарадзішча. Захаваліся тры курганы (раней было 9) вышынёй 1,5—2 м, дыяметрам 10—12 м. У 1958 г. С. С. Шырынскі даследаваў 2 курганы. Пахавальны абрад — трупапалажэнне ў ямах пад насыпам. Знойдзены бронзавыя ўпрыгожанні, шкляныя пацеркі, бронзавы крыжык, упрыгожаны выемчатай эмаллю. Абследаваў у 1976 г. Г. В. Штыхаў. Належаў дрыгавічам, датуецца 12 ст.

Матэрыялы даследавання захоўваюцца ў Інстытуце археалогіі АН СССР.

*Літ.:* Ширинский С. С. Курганы XI—XII вв. у дер. Глыбов.— Краткие сообщения о докладах и полевых исследованиях Ин-та археологии, 1965, № 104.

*Г. В. Штыхаў.*

**1741. КУРГАН СЛАВЫ** (гіст.). У цэнтры вёскі. На ўшанаванне памяці 106 землякоў — воінаў і партызан, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1965 г. насыпаны Курган Славы, разбіты мемарыяльны парк.

**в. Горваль, Глыбаўскі сельсавет**

**1742. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). За 2 км на поўдзень ад вёскі, у лесе, каля піянерскага лагера імя Марата Казея. Пахаваны 50 воінаў і 3 партызаны, якія загінулі ў лістападзе 1943 г. у баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1963 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**1743. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). У 26-м квартале Горвальскага лясніцтва. Па-



1741. *Курган Славы.*

хаваны 49 воінаў і 3 партызаны, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну. У 1967 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**1744. ГАРАДЗІШЧА, КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.).

**1744а.** Гарадзішча. За 1,5 км на поўдзень ад вёскі. Пляцоўка трохвугольная, плошчай 600 м². З боку поля ўмацавана валам вышынёй 1,5 м, даўжынёй 25 м і ровам глыбінёй 5 м. Даследавалі ў 1958 г. В. М. Мельнікоўская, у 1976 г. Г. В. Штыхаў. Культурны пласт 0,6 м. Знойдзены рэшткі ляпнога посуду, а таксама ганчарнай керамікі эпохі Кіеўскай Русі (у верхняй частцы). Адносіцца да мілаградскай (7—3 стагоддзі да н. э.), зарубінецкай (2 ст. да н. э.— 5 ст. н. э.) культур і да эпохі Кіеўскай Русі (11—13 стагоддзі).

Матэрыялы даследавання захоўваюцца ў Інстытуце археалогіі АН СССР і Інстытуце гісторыі АН БССР.

**1744б.** Курганны могільнік. За 0,3 км на ўсход ад вёскі, на правым беразе р. Бярэзіна. 30 насыпаў вышынёй 0,5—2 м, дыяметрам 9—12 м. Абследавалі ў 1958 г. В. М. Мельнікоўская, у 1976 г. Г. В. Штыхаў. Раскопкі не праводзіліся.

*Літ.:* Штыхов Г. В. Обследование городищ и курганов в Речицком районе.— У кн.: Археологические открытия 1976 года. М., 1977; Мельниковская О. Н. Племена Южной Белоруссии в раннем железном веке.— М., 1967. *Г. В. Штыхаў.*

**1745. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). На заходняй ускраіне вёскі, насупраць бальніцы. Пахаваны 69 жыхароў вёскі.

12.6.1943 г. вёску акружыў атрад нямецка-фашысцкіх захопнікаў, якія адкрылі ружэйна-кулямётны агонь, пачалі падпальваць хаты. Жыхары кінуліся ўцякаць у лес. Карнікі расстрэльвалі іх, старых, жанчын і дзяцей кідалі жывымі ў агонь. У гэты дзень загінулі 69 чалавек, а ўсяго за гады акупацыі гітлераўцы загубілі 102 жыхароў вёскі.

У 1968 г. на магіле пастаўлены абеліск.

*Літ.:* Преступления немецко-фашистских оккупантов в Белоруссии. 1941—1944.— [2 изд.] — Мн., 1965.

**1746. ПОМНІК ПАРТЫЗАНАМ** (гіст.). Каля клуба.

У час Гомельска-Рэчыцкай наступальнай аперацыі 1943 г. пры вызваленні Рэчыцы камандаванне 65-й арміі (камандуючы генерал-лейтэнант П. І. Батаў) паставіла перад партызанамі Гомельскага партызанскага злучэння задачу: перарэзаць дарогі Азершчына — Горваль, Горваль — Шацілкі і тым самым перагарадзіць шляхі адступлення праціўніку. Для выканання задання была створана ўдарная група з партызанскіх брыгад «Жалязняк», імя П. К. Панамарэнкі і 108-га атрада імя Р. І. Катоўскага. Камандзірам групы быў прызначаны В. І. Шаруда, камісарам — Я. Р. Садавы.

15.11.1943 г. партызаны завязалі бой з гітлераўцамі, якія адступалі на Шацілкі. Варожая калона вымушана была вярнуцца ў Рэчыцу. 16 лістапада Беларускі штаб партызанскага руху загадаў групе захапіць пераправу цераз Бярэзіну і трымаць яе да падыходу Чырвонай Арміі. Праціўнік сканцэнтраваў у в. Горваль шмат пяхоты і баявой тэхнікі, рыхтаваў пераправу. Партызаны акружылі вёску, спалілі масты, замініравалі і блакіравалі дарогі Рэчыца — Горваль — Шацілкі і Рэчыца — Хутар — Парычы. Контратакі ворага не мелі поспеху. 19.11.1943 г. да вёскі падышлі перадавыя часці Чырвонай Арміі. Баі за в. Горваль працягваліся да 21 лістапада. У час аперацыі партызаны выратавалі каля 1600 савецкіх грамадзян, якіх фашысты імкнуліся вывезці ў Германію, знішчылі больш за 150 гітлераўцаў, захапілі танк, каля 100 аўтамашын, нарабаваныя ворагам прадукты харчавання, вопратку, вялікую колькасць боепрыпасаў, паром і інш.

У 1977 г. у памяць аб баявых дзеяннях партызан пастаўлены абеліск.

*Літ.:* В грозные годы.— Мн., 1973; История Великой Отечественной войны Советского Союза. 1941—1945. Т. 2.— М., 1961. *В. Б. Караткевіч.*

**1747. СТАЯНКА.** У цэнтры вёскі. Выявіў і абследаваў у 1977 г. У. П. Ксяндзоў. На плошчы 800 м², на дзюне знойдзены крамянёвыя скрабкі, наканечнікі стрэл, нажападобныя пласцінкі, фрагменты грабеньчата-ямачнай керамікі. Адносіцца да эпохі неаліту, датуецца 4—2-м тысячагоддзямі да н. э. Раскопкі не праводзіліся. Матэрыялы абследавання захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

**в. Дземяхі, цэнтр сельсавета**

**1748. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). У цэнтры вёскі, каля клуба. Пахаваны 53 воіны і 2 партызаны, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў каля вёсак Будка-Шыбенка, Капараўка, Карасцень, Салтанова, чыгуначнай станцыі Дземяхі, пас. Прудзішча. Сярод пахаваных — воіны 19-га стралковага і 1-га Данскога танкавага карпусоў.

У час Гомельска-Рэчыцкай наступальнай аперацыі 1943 г. у раёне станцыі Дземяхі і г. Рэчыца праціўнік сканцэнтраваў значныя сілы, якія павінны былі трымаць абарону. 15.11.1943 г. 19-ы стралковы корпус (камандзір генерал-маёр Д. І. Самарскі) ва ўзаемадзеянні з 1-м гвардзейскім Данскім танкавым корпусам (камандзір генерал-маёр М. Ф. Паноў) атакавалі станцыю Дземяхі і перарэзалі чыгунку Рэчыца — Калінкавічы. Было знішчана 1900 гітлераўскіх салдат і афіцэраў, 27 танкаў, 15 гармат, узяты трафеі — 477 грузавых і 8 легкавых аўтамашын, 25 гармат, 7 самаходных гармат, 25 танкаў і шмат эшалонаў з маёмасцю і боепрыпасамі. Лінія абароны ворага была прарвана, буйная групоўка войск праціўніка на правым беразе Дняпра апынулася пад пагрозай поўнага акружэння.

У 1959 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна са схіленым сцягам.

*Літ.:* В грозные годы.— Мн., 1973. Освобождение Белоруссии 1944.— 2 изд.— М., 1974. *В. Б. Караткевіч.*

**в. Духанаўка, Вышамірскі сельсавет**

**1749. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). За 0,1 км на паўднёвы ўсход ад вёскі, справа ад дарогі на в. Дзятлаўка. Пахаваны 32 воіны, якія загінулі ў баях у Вялікую Айчынную вайну, і 44 мірныя жыхары, расстраляныя 28.1.1943 г. нямецка-фашысцкімі акупантамі. У 1950 г. на магіле пастаўлена стэла і ўстаноўлены пліты з імёнамі загінуўшых.

**в. Жмураўка, цэнтр сельсавета**

**1750. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). У цэнт-



**1744а.** *Гарадзішча. План.*



**1749.** *Помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў і ахвяр фашызму.*

ры вёскі. Пахаваны 18 воінаў і 1 партызан, якія загінулі каля вёсак Броннае, Жмураўка, Казазаеўка ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў 8.7.1941 г. і ў лістападзе 1943 г.

У 1958 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна са схіленым сцягам.

**в. Завужаль, Артукоўскі сельсавет**

**1751. ГАРАДЗІШЧА** (археал.). На паўднёвай ускраіне вёскі, на беразе Дняпра, побач з могілкамі. Вышыня пляцоўкі над наваколлем каля 15 м.

Пляцоўка чатырохвугольная, з закругленым паўднёва-ўсходнім вуглом, памерам 75×75 м. З боку поля ўмацавана дугападобным валам вышынёй 1,5—3 м, даўжынёй каля 100 м. З заходняга і ўсходняга бакоў — яры. Вядома з канца 19 ст. Абследавалі ў 1958 г. В. М. Мельнікоўская, у 1964 г. Л. Д. Побаль, у 1976 г. Г. В. Штыхаў. У культурным пласце 0,3—0,4 м, выяўлены рэшткі ляпнога посуду і ганчарная кераміка (у верхняй частцы). Адносіцца да мілаградскай (7—3 стагоддзі да н. э.) і зарубінецкай (2 ст. да н. э.— 5 ст. н. э.) культур, а таксама да эпохі Кіеўскай Русі. Раскопкі не праводзіліся.

Матэрыялы абследавання захоўваюцца ў Інстытуце археалогіі АН СССР і Інстытуце гісторыі АН БССР.

*Літ.:* Завитневич В. З. Вторая археологическая экскурсия в Припятское Полесье.— Киев, 1892; Мельниковская О. Н. Племена Южной Белоруссии в раннем железном веке.— М., 1967.
*Г. В. Штыхаў.*

**в. Заспа, цэнтр сельсавета**

**1752. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 13 воінаў 282-га стралковага палка 175-й стралковай дывізіі, якія загінулі ў лістападзе 1943 г. пры вызваленні вёскі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1963 г. на магіле пастаўлена стэла.



**1751.** *Гарадзішча. План.*

**1753. КУРГАН СЛАВЫ** (гіст.). На ўсходняй ускраіне вёскі, на беразе Дняпра. На ўшанаванне памяці аднавяскоўцаў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1965 г. насыпаны Курган Славы, на вяршыні яго пастаўлены абеліск.

**в. Заходы, Дуброўскі сельсавет**

**1754. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). За 0,5 км на поўнач ад вёскі, на ўзлессі. Пахаваны 59 воінаў і 5 партызан, што загінулі ў 1941 і 1943 гг. у баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. Сярод пахаваных — воіны 771-га і 1283-га стралковых палкоў, якія загінулі ў лістападзе 1943 г. У 1961 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна.

**в. Зашчэб'е, Васілевіцкі гарадскі Савет**

**1755. БРАЦКІЯ МОГІЛКІ САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны 139 воінаў, якія загінулі ў лістападзе 1943 г. у баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў пры вызваленні раёна. Сярод пахаваных — воіны 356-й стралковай дывізіі, 15-й і 16-й кавалерыйскіх дывізій 7-га гвардзейскага кавалерыйскага корпуса. У 1957 г. на могілках пастаўлены помнік — скульптура воіна.

**в. Калочын, Артукоўскі сельсавет**

**1756. ГАРАДЗІШЧЫ, СЕЛІШЧА** (археал.).

**1756а.** Гарадзішча-1. За 0,5 км на поўнач ад вёскі, на правым беразе Дняпра. Пляцоўка памерам 42×36 м умацавана 2 падкавападобнымі валамі, вышыня ўнутранага вала 3,5 м, вонкавага 1,1 м. Даследавалі ў 1951 г. Ю. У. Кухарэнка, у 1955 г. В. М. Мельнікоўская, у 1955—60 гг. Э. А. Сымановіч. Раскапана 1332 м² плошчы. Знойдзены гліняны посуд і біканічныя гаршкі з валікам, жалезныя сярпы, нажы, шылы, долата, гліняныя прасліцы, зерняцёрка. Адносіцца да 6—9 стагоддзяў, знойдзены і больш раннія матэрыялы мілаградскай і зарубінецкай культур.

**1756б.** Гарадзішча-2. За 0,5 км на поўдзень ад вёскі, на мысе правага берага Дняпра. Пляцоўка прамавугольная, памерам 50×25 м, умацавана 2 валамі і равамі. Вышыня ўнутранага вала 3 м, вонкавага 2.5 м. Даследавала ў 1955 і 1961 гг. В. М. Мельнікоўская. У культурным пласце 0,5 м знойдзены матэрыялы мілаградскай (7—3 стагоддзі да н. э.) і зарубінецкай (2 ст. да н. э.— 5 ст. н. э.) культур.

**1756в.** Селішча. Побач з гарадзішчам. Плошча больш за 1 га. Даследаваў у 1955—60 гг. Э. А. Сымановіч, абследавалі ў 1955 г. В. М. Мельнікоўская, у 1964 г. Л. Д. Побаль. Выяўлены 2 паўзямлянкавыя жытлы, шмат гаспадарчых ям, знойдзена ганчарная кераміка. Належала славянам, датуецца 6—8 стагоддзямі.

Матэрыялы даследавання захоўваюцца ў Рэчыцкім краязнаўчым музеі.

*Літ.:* Сымонович Э. А. Городище Колочин 1 на Гомельщине.— Материалы и исследования по археологии СССР, 1963, № 108; Поболь Л. Д. Славянские древности Белоруссии: (свод археологических памятников раннего этапа зарубинецкой культуры — с середины III в. до н. э. по начало II в. н. э.).— Мн., 1974; Очерки по археологии Белоруссии. Ч. 1.— Мн., 1970. *Г. В. Штыхаў.*

**в. Каравацічы, цэнтр сельсавета**

**1757. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На могілках. Пахаваны воіны, якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1954 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**1758. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). На могілках. Пахаваны 150 воінаў і 2 партызаны, што загінулі ў Вялікую Айчынную вайну. Сярод пахаваных — воіны 14-й гвардзейскай кавалерыйскай дывізіі 7-га гвардзейскага кавалерыйскага корпуса і 645-га стралковага палка 65-й арміі, якія вялі баі за вёску 15—18.11.1943 г. У 1954 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**1759. ГАРАДЗІШЧЫ** (археал.).

**1759а.** Гарадзішча-1. За 0,8 км на паўднёвы ўсход ад вёскі, сярод асушанага балота, ва ўрочышчы Пагібла.



**1756а.** *Гарадзішча-1. План.*



**1759а.** *Гарадзішча-1. План.*

Пляцоўка амаль круглая ў плане, дыяметрам 65 м, абнесена валам вышынёй да 2 м. Выявіў і абследаваў у 1976 г. Г. В. Штыхаў. Культурны пласт 0,2 м. Знойдзены фрагменты ляпнога гліняпага посуду.

**1759б.** Гарадзішча-2. За 4 км на поўдзень ад вёскі, ва ўрочышчы Шчоўб. Пляцоўка амаль круглая, вышынёй 2,5 м, дыяметрам 45 м, абнесена кальцавым валам. Выявіў у 1970 г. і абследаваў у 1976 г. Г. В. Штыхаў. Культурны пласт у шурфах 0,3 м. Знойдзены ляпны гліняны посуд.

Гарадзішчы адносяцца да мілаградскай (7—3 стагоддзі да н. э.) і зарубінецкай (2 ст. да н. э.—5 ст. н. э.) культур. Матэрыялы абследавання захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

*Г. В. Штыхаў.*

**1760. МАГІЛА БАГДАНАВА** Рыгора Давыдавіча (гіст.). На могілках. Лейтэнант Чырвонай Арміі Р. Д. Багданаў (нарадзіўся ў 1923 г.) загінуў 18.11.1943 г. у баі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1954 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Коззе, Дземяхоўскі сельсавет**

**1761. ГАРАДЗІШЧА** (археал.). За 0,7 км на захад ад вёскі, на правым беразе р. Ведрыч.

Мае 2 пляцоўкі: паўночная прамавугольнай формы, памерам 55×50 м, абнесена валам вышынёй 0,5—2 м; паўднёвая амаль прамавугольная, памерам 80×30 м, абнесена валам вышынёй 0,5 м. Выявіў і даследаваў у 1976 г. Г. В. Штыхаў. На паўднёвай пляцоўцы культурны пласт 0,3 м. У ім знойдзена гліняная ляпная кераміка. Адносіцца да ранняга жалезнага веку. Раскопкі не праводзіліся.

Матэрыялы даследавання захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

*Літ.:* Штыхов Г. В. Обследование городищ и курганов в Речицком районе.— У кн.: Археологические открытия 1976 года. М., 1977. *Г. В. Штыхаў.*

**в. Крапіўня, Камсамольскі сельсавет**

**1762. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 2 км на паўночны ўсход ад вёскі, на правым беразе р. Бярэзіна. 25 курганоў вышынёй 0,5—1,7 м, дыяметрам 6—10 м. Выявіў і абследаваў ў 1976 г. Г. В. Штыхаў. Раскопкі не праводзіліся.

**в. Крынкі, Ліскаўскі сельсавет**

**1763. ГАРАДЗІШЧЫ, КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.).

**1763а.** Гарадзішча-1. За 2 км на захад ад вёскі, ва ўрочышчы Гарадок, у лесе. Займае ўсходнюю частку ўзвышша. Пляцоўка круглая, плошчай 5675 м², умацавана валам вышынёй 1,2 м, шырынёй 10 м. З паўднёвага захаду прасочаны дадатковыя вал вышынёй 0,5—0,7 м, шырынёй 8 м і роў глыбінёй 0,4—0,6 м, шырынёй 3 м. Выявіў у 1976 г. Г. В. Штыхаў, абследаваў у 1981 г. М. І. Лашанкоў. Раскопкі не праводзіліся.

**1763б.** Гарадзішча-2. За 3 км на захад ад вёскі, за 1 км на захад ад Гарадзішча-1, ва ўрочышчы Гарадок. Пляцоўка авальная, плошчай 4200 м², умацавана валам вышынёй 1 м, шырынёй 8 м і ровам глыбінёй 0,5 м, шырынёй 5—6 м. Выявіў і абследаваў у 1981 г. М. І. Лашанкоў. Магчыма, гэта гарадзішча-сховішча ранняга жалезнага веку. Раскопкі не праводзіліся.

**1763в.** Курганны могільнік. За 2 км на ўсход ад вёскі, ва ўрочышчы Лаўскае, на ўзлессі. 20 курганоў вышынёй 0,5—2 м, дыяметрам 5—6 м. Каля асобных насыпаў прасочаны раўкі. Выявіў у 1981 г. і абследаваў у 1982 г. М. І. Лашанкоў. Раскопкі не праводзіліся.

*М. І. Лашанкоў, Г. В. Штыхаў.*

**1764. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. На ўшанаванне памяці землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1971 г. пастаўлена стэла.

**в. Левашы, Заспенскі сельсавет**

**1765. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). У цэнтры вёскі, каля будынка праўлення калгаса «50 гадоў Кастрычніка». Пахаваны 148 воінаў, якія загінулі ў лістападзе 1943 г. у баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў пры вызваленні вёскі. Сярод пахаваных — воіны 223, 624, 409, 1023-га стралковых, 82-га мотастралковага палкоў, 16-й гвардзейскай танкавай брыгады 1-га гвардзейскага Данскога танкавага корпуса. У 1949 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Ліскі, цэнтр сельсавета**

**1766. ГАРАДЗІШЧА, КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК, СЕЛІШЧА** (археал.).

**1766а.** Гарадзішча. За 3 км на поўдзень ад вёскі, ва ўрочышчы Зарэцкі (Гарадок), сярод правабярэжнага поплаву р. Ведрыч, на невысокім пагорку. Пляцоўка авальная, памерам 190×155 м. Умацавана валам вышынёй 2 м, шырынёй 14—18 м. З усходняга боку прасочаны дадатковы вал вышынёй 1 м, шырынёй 8 м і роў глыбінёй 0,5—0,7 м, шырынёй 3—3,5 м. З паўднёвага і паўночнага ўсходу вал і роў пераходзяць у тэрасу і паступова зліваюцца з асноўным валам. Выявіў у 1976 г. Г. В. Штыхаў, даследаваў у 1980—82 гг. М. І. Лашанкоў. Культурны пласт 0,4—0,8 м. Знойдзены больш за 20 тыс. фрагментаў ляпной керамікі і больш як 82,5 кг бурага жалезняку (балотнай руды), 490 касцей дзікіх і свойскіх жывёл, 142 гліняныя грузікі — праслíцы і іх фрагменты (катушка-, крыжа-, збана-, бочка-, конусападобныя, біканічныя і інш.), частка тыгля і льячкі, 2 бронзавыя люстэркі, рэшткі бранзалетаў, бляшка з вушкам, званочак, фібула, жалезныя нажы, сярпы, 2 цвікападобныя шпількі, фрагменты шпілек, наканечнік стралы, пацерка з арнаментам, каменная зерняцёрка, сякеры, таўкачы, цёрачнік ад зерняцёркі, крамянёвыя рэтушор, праколка, скрабкі, нож, пласціны і адшчэпы, наканечнік стралы і інш. Адносіцца да мілаградскай культуры, датуецца 6—4 стагоддзямі да н. э. Матэрыялы даследавання захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.



**1763а.** *Гарадзішча-1. План.*

**1766б.** Курганны могільнік. За 0,5 км на поўнач ад вёскі, па дарозе на в. Крынкі, каля чыгуначнага пераезда. 26 курганоў вышынёй 0,4—1,5 м, дыяметрам 5—11 м. Выявіў і даследаваў у 1981 г. М. І. Лашанкоў. Раскапаны 2 насыпы. У адным знойдзены рэшткі ганчарнага збана, у другім выяўлена пахаванне па абраду трупапалажэння, галавой на захад на падсыпцы. Каля ног нябожчыка былі раскіданы жалезныя цвікі, каля галавы — рэшткі ганчарнага посуду. На поясе 2 бронзавыя кольцы і прамавугольная спражка. Могільнік адносіцца да эпохі Кіеўскай Русі, датуецца канцом 10—14 ст. н. э. Матэрыялы раскопак захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

**1766в.** Селішча. У вёсцы, на левым беразе р. Ведрыч. Плошча 0,7—0,8 га. Выявіў і абследаваў у 1981 г. М. І. Лашанкоў. Культурны пласт 0,4 м. Знойдзены рэшткі ляпной керамікі бронзавага і ранняга жалезнага вякоў і ганчарнай керамікі 16—17 стагоддзяў, косці жывёл. Матэрыялы абследавання захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

*Літ.:* Лошенков М. И., Богомольников В. В. Раскопки городища у д. Лиски.— У кн.: Археологические открытия 1980 года. М., 1981; Лошенков М. И. О хозяйственных занятиях населения болотных городищ Южной Белоруссии.— У кн.: Древности Белоруссии и Литвы. Мн., 1982. *М. І. Лашанкоў.*

**1767. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля будынка выканкома сельскага Савета. На ўшанаванне памяці землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1970 г. пастаўлена стэла.



1773. *Помнік у гонар беларускіх нафтавікоў.*

**в. Луначарск, Заспенскі сельсавет**

**1768. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). На ўсходняй ускраіне вёскі, на правым беразе Дняпра. 50 насыпаў вышынёй 0,5—2,5 м, дыяметрам 6—12 м. Каля вялікіх курганоў ёсць раўкі. Абследавалі ў 1964 г. Л. Д. Побаль, у 1976 г. Г. В. Штыхаў. Раскопкі не праводзіліся.

**в. Лясное, Маладушскі сельсавет**

**1769. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАНА** (гіст.). На могілках. Пахаваны 2 воіны і 1 партызан, якія загінулі ў барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у Вялікую Айчынную вайну. У 1955 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Маканавічы, Васілевіцкі гарадскі Савет**

**1770. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАНА** (гіст.). На могілках. Пахаваны 96 воінаў і 1 партызан, якія загінулі ў 1941 і 1943 гг. у баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1956 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Маладуша, цэнтр сельсавета**

**1771. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). За 0,3 км на ўсход ад вёскі, справа ад аўтамабільнай дарогі Хойнікі — Рэчыца. Пахаваны 85 воінаў, якія загінулі ў 1941 г. і лістападзе 1943 г. у баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1955 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**1772. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАНА, ПОМНІК НАСТАЎНІЦЫ І ВУЧНЯМ** (гіст.). На паўночнай ускраіне вёскі, злева ад аўтамабільнай дарогі Хойнікі — Рэчыца. Пахаваны 80 воінаў і 1 партызан, што загінулі ў Вялікую Айчынную вайну. Сярод пахаваных — воіны 16-й гвардзейскай кавалерыйскай дывізіі, якія вялі бой за вёску 15.11.1943 г. 26.10.1959 г. пры добраўпарадкаванні брацкай магілы ад выбуху міны, якая асталася з часоў вайны, загінулі настаўніца М. П. Герус і 13 вучняў 4-га класа мясцовай сярэдняй школы.

У 1960 г. на магіле пастаўлены помнік: скульптурная група — салдат і піянерка і 2 мармуровыя дошкі. На адной з іх імёны воінаў, на другой — ушанавана памяць вучняў і настаўніцы.

**в. Маўчаны, Капараўскі сельсавет**

**1773. ПОМНІК У ГОНАР БЕЛАРУСКІХ НАФТАВІКОЎ** (гіст.). На поўдзень ад вёскі, на 56-м км аўтамабільнай дарогі Гомель — Калінкавічы, справа ад яе.

У жніўні 1964 г. за 10 км на паўднёвы захад ад Рэчыцы, на поўначы Прыпяцкага прагіну, выяўлена першае на Беларусі нафтавае радовішча — Рэчыцкае. У 1965 г. каля в. Маўчаны пачалася прамысловая здабыча нафты. Пазней побач адкрыты Асташкавіцкае, Вішанскае, Давыдаўскае, Цішкаўскае радовішчы. Рэчыцкае радовішча — шматпластавае. Нафта высакаякасная, залягае на глыбіні 2000—3200 м, паступае ў нафтаправод «Дружба». Спадарожныя нафтавыя газы выкарыстоўваюцца прамысловымі прадпрыемствамі Рэчыцы і Светлагорска.

У 1968 г. у гонар беларускіх нафтавікоў пастаўлена стэла.

*Літ.:* Нефть Белоруссии (потенциальные нефтегазоносные районы).— Мн., 1969. *В. Б. Караткевіч.*

**в. Мілаград, Глыбаўскі сельсавет**

**1774. ГАРАДЗІШЧА, СЕЛІШЧА** (археал.).

**1774а.** Г а р а д з і ш ч а. За 1 км на поўнач ад вёскі, на правым беразе Дняпра. Гарадзішча мысавага тыпу, трохвугольнай формы. Мае жылую (плошча 0,4 га) і гаспадарчую (плошча 0,6 га) пляцоўкі. Жылая з трох бакоў умацавана П-падобным валам вышынёй 2 м. Раскопкі праводзілі ў 1952 г. Ю. У. Кухарэнка, у 1955, 1957, 1958, 1961 гг. В. М. Мельнікоўская, абследавалі ў 1964 г. Л. Д. Побаль, у 1976 г. Г. В. Штыхаў. Раскапана 800 м² плошчы. Даследаваны абарончыя збудаванні ў заходняй частцы гарадзішча. Край пляцоўкі тут вышэйшы, па ім праходзіў насып старажытнага вала. Паралельна схілу знаходзіліся 3 канавы. Раскопкамі ўстаноўлена, што спачатку былі пабудаваны ўмацаванні, якія адгароджвалі мыс ад плато, а некалькі пазней — больш магутныя валы, што аддзялялі жылую пляцоўку. З заходняга боку знаходзіўся ўваход на гарадзішча. Культурны пласт на жылой пляцоўцы 0,5 м, аднастайны, без праслоек, насычаны керамікай і асобнымі знаходкамі. Выяўлены рэшткі 10 жытлаў слупавой канструкцыі, якія размяшчаліся ўздоўж унутранага схілу валоў і месцамі падыходзілі да іх асновы, і гаспадарчых пабудоў. Яны былі круглымі ў плане, дыяметрам 7 м. На гарадзішчы выяўлена некалькі мяшаных мілаградска-зарубінецкіх комплексаў. Так, у адным жытле, раскапаным у 1957 г., знаходзіліся мілаградская і зарубінецкая кераміка і вялікая колькасць бронзавых рэчаў, у т. л. позналатэнскія фібулы. На гарадзішчы знойдзены сярпы, гліняныя праслічы, тыглі, бронзавыя пярсцёнкі, скроневыя кольцы, фібулы, падвескі, зерняцёрка, ляпны посуд. Трапляецца кераміка з штрыхоўкай арнаментальнага характару. Ад назвы вёскі і гарадзішча атрымала назву мілаградская культура. Атрыманы матэрыялы для вырашэння пытання аб ўзаемасувязях насельніцтва мілаградскай і зарубінецкай культур на верхнім Дняпры, а таксама для падзелу мілаградскай культуры на асобныя храналагічныя этапы. На гаспадарчай частцы гарадзішча культурны пласт адсутнічае. Пры раскопках знойдзены рэшткі ўмацаванняў па краі гарадзішча. Помнік датуецца 4—3 стагоддзямі да н. э.— 2 ст. н. э.



**1774а.** *Гарадзішча. План.*

**1774б.** С е л і ш ч а. На поўнач ад гарадзішча, за яго валамі. У 1955 г. В. М. Мельнікоўская даследавала 300 м² плошчы. У культурным пласце 10—15 см знойдзены мілаградскі і зарубінецкі посуд. Былі выяўлены прыкметы жытла з познім мілаградскім комплексам рэчаў і зарубінецкай керамікай. Матэрыялы даследаванняў захоўваюцца ў Інстытуце археалогіі АН СССР.

*Літ.:* М е л ь н и к о в с к а я О. Н. Племена Южной Белоруссии в раннем железном веке.— М., 1967. *Г. В. Штыхаў.*

**в. Новы Барсук, цэнтр сельсавета**

**1775. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі, каля клуба. У лютым



**1775.** *Помнік землякам.*

1942 г. нямецка-фашысцкія захопнікі расстралялі 12, у жніўні 1943 г.— 14 жыхароў вёскі. На франтах і ў партызанскай барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў змагаліся многія яе жыхары. На ўшанаванне памяці аднавяскоўцаў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1971 г. пастаўлены помнік — скульптура жанчыны з пальмавай галінкай у руцэ.

**в. Падалессе, Глыбаўскі сельсавет**

**1776. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). На могілках. Пахаваны 13 воінаў і 4 партызаны, якія загінулі ў 1941—43 гг. у баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1947 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Пераналока, Караваціцкі сельсавет**

**1777. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). На могілках. Пахаваны 56 воінаў і 3 партызаны, якія загінулі ў лістападзе 1943 г. пры вызваленні вёскі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1959 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**1778. ГАРАДЗІШЧЫ** (археал.).

**1778а.** Гарадзішча-1. За 2 км на ўсход ад вёскі, ва ўрочышчы Шчыгуз, сярод балота. Пляцоўка круглая, дыяметрам 15 м, абнесена кальцавым валам вышынёй 1,5 м, шырынёй 15 м. Уваход на пляцоўку з паўднёва-ўсходняга боку. Выявіў і абследаваў у 1964 г. Л. Д. Побаль, у 1976 г. абследаваў Г. В. Штыхаў. Раскопкі не праводзіліся.

**1778б.** Гарадзішча-2. За 2 км на паўднёвы ўсход ад вёскі, ва ўрочышчы Пажары. Пляцоўка памерам 52×36 м абкружана валам вышынёй 1,3 м. Выявіў і абследаваў у 1964 г. Л. Д. Побаль, у 1976 г. абследаваў Г. В. Штыхаў. Раскопкі не праводзіліся.

**в. Перасвятое, цэнтр сельсавета**

**1779. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАНА** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны 99 воінаў і 1 партызан, што загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў каля вёсак Гарывада, Рабуса, Перасвятое, пасёлкаў Жары, Асавец, Бугрымаўка. Сярод пахаваных — воіны 170-й дывізіі 42-га стралковага корпуса, якія ў лістападзе 1943 г. вялі баі каля гэтых населеных пунктаў. У 1965 г. на магіле ўстаноўлена пліта.

**в. Першамайск, Караваціцкі сельсавет**

**1780. ГАРАДЗІШЧА** (археал.). За 3 км на ўсход ад вёскі, ва ўрочышчы Гарадок, сярод балота. Пляцоўка круглая, дыяметрам 35 м, абнесена кальцавым валам вышынёй 1,2 м, шырынёй да 10 м. Выявіў у 1964 г. Л. Д. Побаль. Абследаваў у 1976 г. Г. В. Штыхаў. Раскопкі не праводзіліся.

**1781. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). У цэнтры вёскі.

28.1.1943 г. у в. Кабылёва (цяпер Першамайск) уварваўся атрад нямецка-фашысцкіх карнікаў і паліцэйскія (больш за 200 чалавек). На працягу 2 тыдняў яны расстралялі больш за 40 мірных жыхароў, рабавалі маёмасць, жывёлу. Ратуючыся ад зверстваў, жыхары пакінулі вёску. Некалькі месяцаў яна пуставала. 13.5.1943 г. нямецка-фашысцкія карнікі схапілі ў лесе 12 мірных жыхароў і расстралялі. 14 мая ў вёску зноў прыбыў атрад войск СС і паліцыі (каля 300 чалавек). Жыхароў па 20—30 чалавек заганялі ў асобныя хаты, кідалі туды гранаты і падпальвалі. Усяго ў вёсцы гітлераўцы загубілі 1118 жыхароў, у т. л. больш за 600 дзяцей, спалілі 280 двароў.

У 1976 г. на магіле пастаўлена стэла з выявай жанчыны ў жалобе.

*Літ.:* Преступления немецко-фашистских оккупантов в Белоруссии. 1941—1944.— [2 изд.].— Мн., 1965.

*В. Б. Караткевіч.*

**в. Пракісель, Артукоўскі сельсавет**

**1782. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАНА** (гіст.). Каля будынка праўлення калгаса «Шлях да камунізма». Пахаваны 321 воін і 1 партызан, што загінулі ў Вялікую Айчынную вайну. Сярод пахаваных — воіны 717-га стралковага палка 170-й стралковай дывізіі і танкісты 15-й брыгады 1-га Данскога танкавага корпуса, якія загінулі 12.11.1943 г. пры вызваленні вёскі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1951 г. на магіле пастаўлены абеліск.



**1778а.** *Гарадзішча-1. План.*



**1781.** *Помнік на магіле ахвяр фашызму.*

**в. Рассвет,**
**Васілевіцкі гарадскі Савет**

**1783. ГАРАДЗІШЧА** (археал.). За 3 км на паўночны ўсход ад вёскі, ва ўрочышчы Гарадзінка, на ўзлессі. Пляцоўка блізкая па форме да круга. Плошча каля 0,5 га. Умацавана валам вышынёй 1,3 м, шырынёй 10 м, і ровам глыбінёй 0,4 м, шырынёй 3 м. З паўночнага боку прасочаны дадатковы вал вышынёй 0,5—0,8 м і шырынёй 4—6 м. Выявіў у 1981 г. М. І. Лашанкоў. Культурны пласт 0,4 м. У ім знойдзены кераміка і косці жывёл. Адносіцца да мілаградскай культуры ранняга жалезнага веку. Раскопкі не праводзіліся.

Матэрыялы абследавання захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

*М. І. Лашанкоў.*

**в. Ровенская Слабада, цэнтр сельсавета**

**1784. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). У парку, каля клуба. Пахаваны 232 воіны, якія загінулі ў лістападзе 1943 г. у баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў пры вызваленні вёсак Ровенская Слабада, Андрэеўка, Роўнае, Бязуеў, Бярозаўка, пасёлкаў Храбры, Стражынскі і інш. У 1964 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна са схіленым сцягам.

*Літ.:* В грозные годы.— Мн., 1973.

**в. Салтанова, Дземяхоўскі сельсавет**

**1785. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі, у скверы. У Вялікую Айчынную вайну на франтах і ў партызанскай барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў загінулі 88 вяскоўцаў, 73 загублены акупантамі. На ўшанаванне іх памяці ў 1975 г. пастаўлены абеліск і ўстаноўлены пліты з імёнамі загінуўшых.

**в. Сведскае, Камсамольскі сельсавет**

**1786. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). У цэнт-

ры вёскі, каля школы. Пахаваны 83 воіны і 3 партызаны, якія загінулі восенню 1943 г. пры вызваленні ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў вёсак Сведскае, Гагалі, Крапіўня, Дабужа, Ваколіца, Шолкавічы і інш. ці памерлі ад ран у палявым шпіталі. У 1975 г. на магіле пастаўлена стэла, перад якой 3 пліты з надпісам-прысвячэннем і імёнамі загінуўшых.

**в. Свірыдавічы, цэнтр сельсавета**

**1787. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 224 воіны, што загінулі ў лістападзе 1943 г. ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў пры вызваленні вёсак Гасцівель, Гарадзішча, Лабкі, Свірыдавічы. Сярод пахаваных — воіны 170-й стралковай дывізіі, якія 14 лістапада вялі баі за вызваленне в. Свірыдавічы. У 1960 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Смагарын, Маладушскі сельсавет**

**1788. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАНА** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны 157 воінаў і 1 партызан, што загінулі ў Вялікую Айчынную вайну. Сярод пахаваных — воіны 16-й гвардзейскай кавалерыйскай дывізіі, якія ў лістападзе 1943 г. вызвалілі вёскі Смагарын, Раманаўка, Новы Барсук ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1964 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна са схіленым сцягам.

**в. Стара-Краснае, Дземяхоўскі сельсавет**

**1789. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). За 1 км на поўнач ад вёскі, злева ад аўтамабільнай дарогі на г. Светлагорск. Пахаваны 61 воін і 6 партызан, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну ў баях каля вёсак Стара-Краснае і Коззе. У 1965 г. на магіле пастаўлена стэла.



1785. *Помнік землякам.*

**1790. ГАРАДЗІШЧА** (археал.). За 1 км на поўнач ад вёскі, ва ўрочышчы Гарадок, у лесе. Пляцоўка авальная, памерам 62×70 м, абнесена 2 валамі. Адзін вышынёй 2,5 м знаходзіцца на краі пляцоўкі, другі вышынёй 1 м праходзіць ніжэй першага. Паміж валамі прыкметны рэшткі рова. Адкрыў і даследаваў у 1976 г. Г. В. Штыхаў. Культурны пласт 0,4 м. Знойдзены 12 абломкаў лярной керамікі. Адносіцца да зарубінецкай культуры.

Матэрыялы даследавання захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР. *Г. В. Штыхаў.*

**1791. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. У 1943 г. нямецка-фашысцкія карнікі загубілі 120 мірных жыхароў і спалілі вёску. 66 вяскоўцаў загінулі ў Вялікую Айчынную вайну на франтах і ў партызанскай барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1975 г. на ўшанаванне памяці землякоў пастаўлены абеліск.

**в. Стоўпня 1-я, Белабалоцкі сельсавет**

**1792. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі, каля клуба. На ўшанаванне памяці землякоў — воінаў, партызан і ахвяр фашызму, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1981 г. пастаўлены абеліск.

**в. Узнаж, Камсамольскі сельсавет**

**1793. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). На ўсход ад вёскі, у лесе. Пахаваны 13 жыхароў вёскі — старыя, жанчыны, дзеці, якіх 15.7.1942 г. расстралялі нямецка-фашысцкія акупанты. У 1975 г. магіла абнесена металічнай агароджай.

**1794. ПОМНІК ПАРТЫЗАНАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі, каля клуба.

Летам 1943 г. нямецка-фашысцкае камандаванне пачало карную аперацыю супраць партызан, якія з вясны 1943 г. актывізавалі дзейнасць на чыгуначных камунікацыях. Супраць партызан Гомельскага злучэння (камандзір І. П. Кожар, начальнік штаба Е. І. Барыкін), былі кінуты значныя сілы. Вораг разлічваў з дапамогай танкаў, бронемашын і авіяцыі нанесці партызанам сакрушальны ўдар. Даведаўшыся пра намер праціўніка, атрады імя В. І. Чапаева, імя К. Я. Варашылава, імя С. М. Кірава, «Бальшавік» ноччу перадыслацыраваліся за 10 км ад свайго ранейшага месца размяшчэння і 13.6.1943 г. у раёне вёскі прынялі бой, які працягваўся ўвесь дзень. Партызаны адбілі 4 атакі ворага. Карнікі страцілі больш за 200 чалавек забітымі і параненымі.

У 1968 г. у гонар баявых дзеянняў партызан пастаўлена стэла.

*Літ.:* В грозные годы.— Мн., 1973.

*В. Б. Караткевіч.*

**в. Унорыца, Азершчынскі сельсавет**

**1795. ПАСЕЛІШЧЫ** (археал.).

**1795а.** Паселішча-1. На заходняй ускраіне вёскі, на першай надпоймавай тэрасе Дняпра. Адкрыў і абследаваў у 1977 г. У. П. Ксяндзоў. Культурны пласт 0,2 м на плошчы 200 м². Знойдзены ляпная кераміка і крамянёвыя прылады працы. Паселішча адносіцца да канца бронзавага — пачатку ранняга жалезнага веку, датуецца пачаткам 1-га тысячагоддзя да н. э.

**1795б.** Паселішча-2. За 1,5—2 км на поўдзень ад вёскі, на першай надпоймавай тэрасе правага берага Дняпра. Адкрыў і абследаваў у 1977 г. У. П. Ксяндзоў. Культурны пласт 0,1 м на плошчы 300 м². Знойдзены крамянёвыя вырабы (адшчэпы, пласціны, нуклеусы), рэшткі ляпной керамікі з дамешкам жарствы і пяску ў гліне, упрыгожаныя арнаментам у выглядзе наразных ліній. Адносіцца да канца бронзавага — пачатку ранняга жалезнага веку, датуецца пачаткам 1-га тысячагоддзя да н. э.

Матэрыялы абследавання захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

*У. П. Ксяндзоў.*

**в. Холмеч, Артукоўскі сельсавет**

**1796. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). У цэнтры вёскі, каля школы. Пахаваны 120 воінаў. Сярод пахаваных — воіны 170-й дывізіі 42-га стралковага корпуса, якія загінулі



1789. *Помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў і партызан.*

12.11.1943 г. пры вызваленні вёсак Холмеч і Завужаль ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1951 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна са схіленым сцягам.

**пас. Храбры, Ровенска-Слабодскі сельсавет**

**1797. ГАРАДЗІШЧА** (археал.). За 0,6 км на паўднёвы ўсход ад пасёлка, сярод балота. Пляцоўка памерам 85×60 м, абнесена 2 валамі і ровам. Вышыня ўнутранага вала 1,5 м, вонкавага 0,5 м. Абследавалі ў 1960 г. В. М. Мельнікоўская, у 1976 г. Г. В. Штыхаў. Раскопкі не праводзіліся.

**в. Чорнае, Белабалоцкі сельсавет**

**1798. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАНА** (гіст.). У цэнтры вёскі, каля клуба. Пахаваны 3 воіны і 1 партызан, якія загінулі ў лістападзе 1943 г. пры вызваленні вёскі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1961 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**1799. ГАРАДЗІШЧА** (археал.). За 0,5 км на паўночны ўсход ад вёскі, на беразе воз. Хацімля.

Пляцоўка памерам 75×45 м. З заходняга і ўсходняга бакоў ёсць равы. З боку поля ўмацавана валам вышынёй 2 м, шырынёй 15 м. Частка пляцоўкі пашкоджана. Абследавалі ў 1960 г. В. М. Мельнікоўская, у 1976 г. Г. В. Штыхаў. У шурфах знойдзены каля 200 абломкаў ляпнога посуду (кераміка з расчосамі і глянцаваная), гліняны грузік з 5 выступамі і адтулінай пасярэдзіне (рытуальнага прызначэння), бронзавая трапецападобная падвеска. Адносіцца да мілаградскай і зарубінецкай культур.

Матэрыялы абследавання захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

*Літ.:* Штыхов Г. В. Обследование городищ и курганов в Речицком районе.— У кн.: Археологические открытия 1976 года. М., 1977. *Г. В. Штыхаў.*



1799. *Гарадзішча. План.*

**1800. КУРГАН СЛАВЫ** (гіст.). У цэнтры вёскі, каля клуба. Насыпаны ў 1975 г. на ўшанаванне памяці 340 жыхароў сельсавета, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну.

**1801. РАДЗІМА ГРАМЫКІ** Міхайлы (гіст.).

Беларускі савецкі пісьменнік і вучоны М. Грамыка (Міхаіл Аляксандравіч) нарадзіўся 31.10.1885 г. у сям'і разначынца. Удзельнік Снежаньскага ўзброенага паўстання 1905 г. У 1906—07 гг. уваходзіў у сялянскую арганізацыю пры Магілёўскім акруговым камітэце РСДРП, вёў агітацыйную работу сярод сялян. Пасля заканчэння Маскоўскага універсітэта ў 1911 г. працаваў у Адэсе, выкладаў геаграфію, фізіку і хімію ў прыватным камерцыйным вучылішчы і жаночых гімназіях. У 1920 г. загадчык школы-інтэрната для беларусаў-бежанцаў. У 1921—31 гг. жыў у Мінску, працаваў у Інбелкульце, Беларускім педтэхнікуме і БДУ. Удзельнічаў у экспедыцыях па пошуку нафты на Палессі. Выдаў падручнікі: «Пачатковая геаграфія» (1923 г., 4 выд. 1928 г.), «Уводзіны ў навуку аб неарганічнай прыродзе» (ч. 1.— Крышталаграфія, ч. 2 — Мінералогія, 1926 г.). З 1932 г. у РСФСР, у апошнія гады жыў у г. Хімкі Маскоўскай вобл. Літаратурную дзейнасць пачаў яшчэ студэнтам. Аўтар паэтычных зборнікаў «Плынь», «Дзве паэмы» (1927 г.), п'ес «Змітрок з «Высокай Буды» (1918 г.), сцэнічнага абразка «У купальскую ноч» (1921 г., паводле верша Я. Купалы «У купальскую ноч»), «Скарынін сын з Полацка» (пастаноўка 1926 г.), «Каля тэрасы» (пастаноўка 1927 г., выдадзена ў 1929 г., новая рэдакцыя 1969 г.), «Над Нёманам» (пастаноўка 1927 г.), «Віно бушуе» (1929 г.) і інш. У сваіх творах М. Грамыка ўслаўляў рэвалюцыйную барацьбу народа і савецкую рэчаіснасць, працу развызваленага чалавека. Перакладаў на беларускую мову творы Л. Талстога і У. Сасюры.

Памёр М. Грамыка 30.6.1969 г.

*Літ.:* Бярозкін Р. Лірыка Міхайлы Грамыкі.— Полымя, 1966, № 7; Шушкевіч С. Вяртанне ў маладосць.— Мн., 1968; Пісьменнікі Савецкай Беларусі.— Мн., 1981; Вытокі песні: Аўтабіяграфіі беларускіх пісьменнікаў.— Мн., 1973. *В. Б. Караткевіч.*

**в. Чырвоная Дуброва, Караваціцкі сельсавет**

**1802. ГАРАДЗІШЧА** (археал.). За 1,5 км на паўднёвы захад ад вёскі, на ўзвышшы правабярэжнага поплаву р. Ведрыч. Пляцоўка ў плане эліпсападобная, памерам 195×122,5 м. Умацавана валам вышынёй 0,8—1,2 м, шырынёй 10 м. Выявіў у 1976 г. Г. В. Штыхаў, абследаваў у 1981 г. М. І. Лашанкоў. Раскопкі не праводзіліся.

*Літ.:* Штыхов Г. В. Обследование городищ и курганов в Речицком районе.— У кн.: Археологические открытия 1976 года. М., 1977.

**1803. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. На ўшанаванне памяці 109 землякоў — жыхароў вёсак Чырвоная Дуброва і Цішкаўка, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1974 г. пастаўлены помнік — скульптура воіна.




# СВЕТЛАГОРСКІ РАЁН



Цэнтр раёна

Цэнтры сельсаветаў

Стаянкі, паселішчы, гарадзішчы

Могільнікі (грунтавыя, курганныя), курганы

Помнікі і памятныя месцы Вялікай Айчыннай вайны (месцы баёў, магілы савецкіх воінаў і партызан, Курганы Славы, помнікі землякам і інш.)

Помнікі ахвярам фашызму (месцы канцлагераў і лагераў смерці, месцы масавай загубы насельніцтва, спаленыя і неадноўленыя вёскі і інш.)


Помнікі і месцы, звязаныя з імёнамі савецкіх партыйных, дзяржаўных і гаспадарчых дзеячаў, дзеячаў культуры, навукі і тэхнікі

Адміністрацыйныя і грамадскія збудаванні


дасавецкага перыяду

савецкага перыяду

## XXIII. СВЕТЛАГОРСК

Горад, цэнтр раёна. Размешчаны на правым беразе р. Бярэзіна, на раўніне. За 110 км ад Гомеля. Прыстань на Бярэзіне, чыгуначная станцыя на лініі Жлобін — Калінкавічы. На аўтамабільнай дарозе Бабруйск — Рэчыца.

Вядомы з 16 ст. як в. Шацілкавічы (пазней — Шацілкі) у Рэчыцкім павеце Вялікага княства Літоўскага. У 1639 г. было 19 хат. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793 г.) вёска ў складзе Расійскай імперыі, у Парыцкай воласці Бабруйскага павета Мінскай губерні. Савецкая ўлада ўстаноўлена ў лістападзе 1917 г. З 1924 г. мястэчка Шацілкі — цэнтр сельсавета (да 1960 г.) Парыцкага р-на Бабруйскай акругі (1924—30 гг.), з 1938 г. у Палескай вобл. У Вялікую Айчынную вайну з жніўня 1941 г. да 26.11.1943 г. акупіраваны нямецка-фашысцкімі захопнікамі. З красавіка да 18.11.1943 г. у Парыцкім р-не дзейнічаў падпольны райком КП(б)Б, з сакавіка да 18.11. 1943 г.— падпольны райком ЛКСМБ. З верасня 1944 г. у Бабруйскай, з 1954 г. у Гомельскай абласцях. З 30.12.1956 г. гарадскі пасёлак, з чэрвеня 1960 г. цэнтр Парыцкага р-на. З 1961 г. горад раённага падпарадкавання, 29.7.1961 г. перайменаваны ў Светлагорск, а Парыцкі р-н — у Светлагорскі. З 1963 г. Светлагорск — горад абласнога падпарадкавання. За гады першай пяцігодкі тут была пабудавана суднабудаўнічая верф (з 1961 г. рэканструявана ў завод зборнага жалезабетону). У 1954 г. на правым беразе р. Бярэзіна закладзены фундамент Васілевіцкай ДРЭС (дала ток у 1958 г.), будаўніцтва якой садзейнічала развіццю пасёлка і росту яго насельніцтва. У 1962 г. уступіла ў строй першая чарга Светлагорскага завода жалезабетонных вырабаў і канструкцый.

Забудоўваецца паводле генеральнага плана, распрацаванага ў 1976 г. інстытутам «Белдзяржпраект». Структура вулічнай сеткі горада пабудавана па прамавугольнай квартальнай схеме. Горад падзелены чыгуначнай магістраллю на 2 планіровачныя раёны: усходні (уключае 2 жылыя раёны і прамысловы вузел) і заходні (фарміруецца на аснове 3 жылых раёнаў, размешчаных уздоўж ракі). Кампазіцыйнае ядро грамадска-адміністрацыйнага цэнтра горада — Цэнтральная плошча, да якой прымыкае вуліца імя 50-годдзя Кастрычніка. Тут размешчаны будынкі райкома партыі, райвыканкома, гасцініцы, кінатэатра, Палаца культуры хімікаў. У апошнія дзесяцігоддзі забудаваны жылы мікраараён-3 па вуліцах Свярдлова, Калініна і Луначарскага, а таксама мікрараён Паўднёвы, дзе пераважаюць 5- і 9-паверховыя дамы. Прамысловая зона



**XXIII.** *Панарама горада.*

размешчана ва ўсходняй частцы. Працуюць завод штучнага валакна, цэлюлозна-кардонны камбінат, заводы жалезабетонных вырабаў і канструкцый, зборнага жалезабетону, філіял завода «Гомсельмаш», домабудаўнічы камбінат, хлебазавод, масласырзавод, раённае аб'яднанне Дзяржкамсельгастэхнікі, Васілевіцкая ДРЭС.

У горадзе індустрыяльны тэхнікум, прафесійна-тэхнічнае вучылішча хімікаў, 12 агульнаадукацыйных школ усіх відаў, дзіцяча-юнацкая спартыўная школа, школа юных тэхнікаў, 24 дашкольныя ўстановы, 2 кінатэатры, Палац культуры хімікаў, Дом культуры энергетыкаў, Дом піянераў і школьнікаў, 9 бібліятэк, плавальны басейн, спарткомплекс, 2 бальніцы, радзільны дом, 2 паліклінікі, 4 аптэкі, станцыя хуткай медыцынскай дапамогі. Выдаецца газета «Агні камунізму».

Помнік на брацкіх магілах савецкіх воінаў, што загінулі ў барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у Вялікую Айчынную вайну.

Зона адпачынку — лясныя масівы паміж усходнім і заходнім раёнамі горада і на берагах р. Бярэзіна.

*М. І. Камінскі, А. Ю. Пятросава.*



**XXIII.** *Цэнтральная плошча.*

**1804. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). Каля прывакзальнай плошчы. Пахаваны 325 воінаў, якія загінулі ў баях пры вызваленні горада ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. Сярод пахаваных — Герой Савецкага Саюза Клычніяз Азалаў.

К. Азалаў нарадзіўся 10.3.1921 г. у сяле імя Мухадава Марыйскага р-на Туркменскай ССР. Член ВЛКСМ. У Вялікую Айчынную вайну на фронце з мая 1943 г. Вызначыўся пры фарсіраванні Днягра ў раёне г. п. Лоеў у кастрычніку 1943 г. Пад моцным агнём праціўніка гвардыі радавы К. Азалаў пераправіўся разам з аддзяленнем на правы бераг ракі і на працягу 2 гадзін стрымліваў націск ворага, што садзейнічала пераправе падмацаванняў. Першым кінуўся ў траншэі ворага, знішчыў 13 гітлераўцаў. У баі за чыгуначную станцыю Шацілкі быў цяжка паранены і 27.12.1943 г. памёр ад ран. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 15.1.1944 г. Яго імем названа вуліца ў Светлагорску, на радзіме ўстаноўлены бюст, імя героя прысвоена сярэдняй школе, у якой вучыўся.

У 1958 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна.

*Літ.:* Навечно в сердце народном.— 3 изд.— Мн., 1984. *М. К. Кошалеў.*

**1805. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). Вул. Мірашнічэнкі, каля сярэдняй школы № 4. Пахаваны 75 воінаў, якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў на тэрыторыі раёна ў 1943—44 гг. Сярод пахаваных — Герой Савецкага Саюза Пётр Апанасавіч Мірашнічэнка.

У баях за вызваленне раёна прымалі ўдзел воіны 28, 48, 65-й армій, маракі Дняпроўскай ваеннай флатыліі і лётчыкі 16-й паветранай арміі.

Шацілкі (з 1961 г. горад Светлагорск) вызвалены ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў 26.11.1943 г. у выніку наступлення 65-й арміі Беларускага фронту. Нямецка-фашысцкае камандаванне вырашыла зрэзаць так званы «парыцкі выступ», створаны ў ходзе наступлення савецкіх войск, і выйсці на рубеж чыгункі і шашы Жлобін — Калінкавічы. 20.12.1943 г. вораг, сканцэнтраваўшы 3 пяхотныя і 2 танкавыя дывізіі, нанёс контрудар па праваму флангу 65-й арміі. Фашысты кінулі ў бой каля 300 танкаў. Асноўны ўдар прыйшоўся па пазіцыях 95-га корпуса. Напружаныя баі ішлі ў раёне Шацілак. На дапамогу часцям 65-й арміі была накіравана 194-я дывізія 48-й арміі. Пасля 30-кіламетровага маршу байцы дывізіі пераправіліся цераз р. Бярэзіна і ў ноч на 24 снежня занялі абарону каля Шацілак. 25 снежня фашысты зноў пайшлі ў наступленне. Воіны 616-га стралковага палка адбівалі атакі ворага на чыгуначнай станцыі (цяпер чыгуначная станцыя Светлагорск-на-Бярэзіне). Гітлераўцы ўварваліся на станцыю, але далейшае іх наступленне было спынена. У наступныя 3 дні вораг неаднаразова пераходзіў у атаку, і ўсё беспаспяхова. У баях за «парыцкі выступ» было знішчана больш за 7 тыс. варожых салдат і афіцэраў, спалена і падбіта 156 танкаў. Баі на тэрыторыі раёна працягваліся да пачатку Беларускай аперацыі (23.6—20.8.1944 г.).

П. А. Мірашнічэнка нарадзіўся 26.11.1922 г. у с. Запселле Краснапольскага р-на Сумскай вобл. у сялянскай сям'і. Кандыдат у члены КПСС. Працаваў токарам на машынабудаўнічым заводзе ў г. Сумы. У Вялікую Айчынную вайну на фронце з 1941 г. Камандзір узвода разведкі 170-й Рэчыцкай дывізіі 48-й арміі П. А. Мірашнічэнка ў баі 1.1.1944 г. за в. Печышчы Парыцкага р-на закрыў сваім целам амбразуру дзота. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 3.6.1944 г.

У 1958 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна з вянком і каскай у руках.

*Літ.:* Освобождение Белоруссии. 1944.— 2 изд.— М., 1974; Навечно в сердце народном.— 3 изд.— Мн., 1984. *М. К. Кошалеў.*

**1806. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). Вул. Набярэжная, каля моста. Пахаваны 4 воіны чыгуначнага батальёна, якія загінулі ў сакавіку 1944 г. у час бамбардзіроўкі нямецка-фашысцкай авіяцыяй чыгуначнага моста. У 1967 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**1807. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). Вул. Савецкая, на Шацілкаўскіх могілках. Пахаваны 20 воінаў, якія загінулі ў лістападзе 1943 г. у баях за вызваленне в. Шацілкі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1975 г. на магіле пастаўлена стэла.

**1808. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). У скверы, на скрыжаванні вуліц Савецкай і Сацыялістычнай. Пахаваны 257 воінаў, якія загінулі ў баях пры вызваленні в. Шацілкі і тэрыторыі раёна ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1957 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна з вянком і каскай у руках.

**1809. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ МАРАКОЎ** (гіст.). Вул. С. Лазо, на могілках былой в. Светач. Пахаваны 8 маракоў, якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у 1941 г.

26.7.1941 г. манітор «Смаленск» Пінскай ваеннай флатыліі падтрымліваў баявыя дзеянні 21-й арміі Заходняга фронту. У раёне в. Судавіца ён вёў няроўны бой з варожай артылерыяй і танкамі. У гэтым баі загінула палавіна асабовага складу, быў пашкоджаны і сеў на мель карабель. Маракі ліквідавалі пашкоджанні, і манітор пад прыкрыццём агню бранякатэраў адышоў да в. Здудзічы, дзе былі часці Чырвонай Арміі.

У 1967 г. на магіле маракоў устаноўлена надмагілле.

*Літ.:* В боях за Белоруссию.— 2 изд.— Мн., 1974. *М. К. Кошалеў.*

**1810. МАГІЛА БЕЛАНА** Пятра Рыгоравіча (гіст.). Вул. Савецкая, на Ша-



XXIII: *Забудова мікрараёна паўднёвы.*



1808. *Помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў.*

цілкаўскіх могілках. Лейтэнант Чырвонай Арміі П. Р. Белан загінуў 25.11.1943 г. у баі пры вызваленні в. Шацілкі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1967 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**1811. МАГІЛА БЫЧКА** Феафіла Дзмітрыевіча (гіст.). Вул. Савецкая, на Шацілкаўскіх могілках. Лейтэнант Чырвонай Арміі Ф. Дз. Бычок загінуў 25.11.1943 г. у баі пры вызваленні в. Шацілкі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1967 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**1812. МАГІЛА ГІНАЗАНАВА** (гіст.). Вул. Савецкая, на Шацілкаўскіх могілках. Лейтэнант Чырвонай Арміі Гіназанаў загінуў у лістападзе 1943 г. у баі пры вызваленні в. Шацілкі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1967 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**1813. МАГІЛА ДАЎЖКАВОГА** Сцяпана Сцяпанавіча (гіст.). Вул. Савецкая, на Шацілкаўскіх могілках. Яфрэйтар Чырвонай Арміі С. С. Даўжкавы загінуў у лістападзе 1943 г. у баі пры вызваленні в. Шацілкі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1967 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**1814. МАГІЛА ДУШЫНА** Сяргея Васілевіча (гіст.). Вул. Набярэжная, каля моста цераз р. Бярэзіна. Камандзір чыгуначнага батальёна падпалкоўнік С. В. Душын загінуў у сакавіку 1944 г. у час бамбардзіроўкі нямецка-фашысцкай авіяцыяй чыгуначнага моста. У 1967 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**1815. МАГІЛА ПАЛЯКОВА** Івана Якаўлевіча (гіст.). Вул. Савецкая, на Шацілкаўскіх могілках. Яфрэйтар Чырвонай Арміі І. Я. Палякоў загінуў у лістападзе 1943 г. пры вызваленні в. Шацілкі ад нямецка-фашысцкіх акупантаў. У 1967 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**1816. ПАЛАЦ КУЛЬТУРЫ ХІМІКАЎ** (архіт., маст.). На вул. імя 50-годдзя Кастрычніка. Пабудаваны ў 1972 г. (архіт. Л. Анікіна).

Трохпавярховы будынак сіметрычнай аб'ёмна-прасторавай кампазіцыі. 1-ы паверх у плане мае П-падобную форму. На ім узвышаецца цэласны кубічны аб'ём 2-га і 3-га паверхаў. Фасады пабудовы вырашаны строга і лакапічна. Шырокая парадная лесвіца вядзе з фае 1-га паверха да глядзельнай залы на 2-м паверсе. 2 службовыя лесвіцы размешчаны ў тарцах. На тарцы, што выходзіць у фае, размалёўка «Зямля Светлагорская» (мастак Г. Вашчанка; энкаустыка; 10×15 м; 1972 г.). Кампазіцыя пано прысвечана памяці загінуўшых абаронцаў Радзімы, прыгажосці прыроды Палесся, сучаснаму навукова-тэхнічнаму прагрэсу. Складаныя ракурсы, разлічаныя на ўспрыняцце размалёўкі з розных пунктаў ніжняга паверха і балкона фае, узбагачаюць кампазіцыю, арганічна ўключаюць яе ў прастору інтэр'ера.

Палац культуры хімікаў — адна з найбольш значных пабудоў горада. Яго архітэктура грунтуецца на выкарыстанні сучасных канструкцый, шкла, бетону, дэкаратыўных насценных размалёвак.

*Л. Г. Лапцэвіч, А. Ю. Пятросава.*

**в. Ала (не існуе), Чыркавіцкі сельсавет**

**1817. МЕСЦА СПАЛЕНАЙ ВЁСКІ** (гіст.). Вёска Ала знаходзілася за 6 км на паўночны ўсход ад в. Здудзічы. 14.1.1944 г. нямецка-фашысцкія карнікі спалілі вёску разам з жыхарамі (168 чалавек, 34 двары). Тут былі спалены і жыхары навакольных вёсак (усяго 1758 чалавек). Вёска не адрадзілася. Увекавечана ў мемарыяльным комплексе Хатынь. Гл. таксама арт. № 1838 «Магілы савецкіх воінаў і ахвяр фашызму».

**чыг. ст. Астанкавічы, Асташкавіцкі сельсавет**

**1818. МАГІЛА САВЕЦКАГА ВОІНА** (гіст.). За 2 км на поўдзень ад чыгуначнай станцыі, у лесе. Воін загінуў у 1941 г. У 1967 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Асташкавічы, цэнтр сельсавета**

**1819. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны 1005 воінаў і партызан, якія загінулі ў 1943 г. у баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. Сярод пахаваных — воіны 18-га стралковага корпуса 65-й арміі. У 1958 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна.

**в. Баравікі, цэнтр сельсавета**

**1820. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). У скве-



1816. *Палац культуры хімікаў.*



1822. *Помнік на магіле ахвяр фашызму.*

ры. Пахаваны 513 воінаў, якія загінулі ў 1943 г. у баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. Сярод пахаваных — воіны 18-га стралковага корпуса 65-й арміі і 2 партызаны. У 1958 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна.

**в. Васілёўка, Краснаўскі сельсавет**

**1821. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА НОВІКУ** Якаву Філімонавічу (гіст.). На будынку клуба. Устаноўлена ў 1984 г.

Я. Ф. Новік нарадзіўся 24.9.1928 г. у в. Баровікі Светлагорскага р-на ў сялянскай сям'і. Член КПСС з 1957 г. З 1943 г. калгаснік, потым брыгадзір, старшыня Баравікоўскага сельсавета, кіраўнік аддзялення саўгаса «Бярэзіна», намеснік старшыні калгаса імя М. І. Калініна. З ліпеня 1973 г. да 20.8.1982 г. старшыня калгаса «Перамога». 20.8.1982 г. трагічна загінуў пры выратаванні ўраджаю.

*М. Б. Батвіннік.*

**в. Высокі Полк, Казлоўскі сельсавет**

**1822. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). За 0,8 км на поўнач ад вёскі, з правага боку шашы Парычы — Бабруйск. Пахаваны мірныя жыхары, расстраляныя нямецка-фашысцкімі захопнікамі ў 1941—44 гг. У жніўні 1955 г. сюды перазахаваны астанкі старых, жанчын і дзяцей, закатаваных фашыстамі 18.10.1941 г. Усяго пахавана 4200 чалавек. У 1967 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Вялікі Бор, Палескі сельсавет**

**1823. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). За 0,1 км на паўднёвы ўсход ад вёскі. Пахаваны 1538 воінаў 65-й і 48-й армій, якія загінулі ў 1943—44 гг. у баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1958 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна.

**1824. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 1,5 км на поўдзень ад вёскі. 2 курганы дыяметрам 12 і 6 м, вышынёй 1,7 і 0,8 м. Насыпы здзірванелі, добра захаваліся. Выявіла і абследавала ў 1981 г. Н. М. Дубіцкая. Раскопкі не праводзіліся.

**в. Вярхлессе, Казлоўскі сельсавет**

**1825. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 1 км на поўнач ад вёскі, ва ўрочышчы Курганне. 46 насыпаў, большая частка іх пашкоджана. 19 курганоў захаваліся добра. Дыяметр 8 м, вышыня 1,5 м. Адкрыла і абследавала ў 1976 г. А. Г. Калечыц. Раскопкі не праводзіліся.

**в. Давыдаўка, цэнтр сельсавета**

**1826. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны 595 воінаў 65-й арміі, якія загінулі ў 1943—44 гг. у баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1967 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна.

**1827. ГАРАДЗІШЧА** (археал.). За 3 км на паўночны ўсход ад вёскі, ва ўрочышчы Гарадзінка. Пляцоўка авальная, памерам 85×35 м, умацавана валам і ровам. Вышыня вала 1,5—2 м, шырыня 10 м, глыбіня рова 1—1,5 м, шырыня 3 м. Выявіла і абследавала ў 1981 г. Н. М. Дубіцкая. Раскопкі не праводзіліся.

**1828. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). За 0,5 км на паўночны захад ад вёскі. Пахаваны 129 мірных жыхароў — жанчын, старых, дзяцей, расстраляных нямецка-фашысцкімі захопнікамі. 8.2.1942 г. фашысцкія карнікі ўварваліся ў вёску, абрабавалі жыхароў, потым выгналі іх з хат і расстралялі. Трупы вывезлі за ваколіцу і закапалі. У 1967 г. на магіле пастаўлены абеліск.



1825. *Кургаины могільнік. План.*

**в. Дражня, Краснаўскі сельсавет**

**1829. СЕЛІШЧА** (археал.). За 0,5 км на захад ад вёскі, на левым беразе безназоўнай рэчкі (прыток р. Бярэзіна), ва ўрочышчы Ліпавы Бугор, на ўзвышшы. Плошча каля 1 га. Выявіў у 1981 г. М. У. Бычкоў, даследавала ў 1983 г. Н. М. Дубіцкая на плошчы 244 м². У культурным пласце 0,3 м знойдзены абломкі ляпной керамікі з кропкавым арнаментам і апрацаваныя крамяні бронзавага веку, фрагменты керамікі зарубінецкай культуры (больш за 90 % усіх знаходак) і невялікая колькасць керамікі з расчосамі 1-га тыс. н. э. Наяўнасць абломкаў керамікі, пакрытых штрыхамі, сведчыць, што селішча знаходзілася ў зоне кантактаў плямёнаў зарубінецкай і штрыхаванай керамікі культур.

Матэрыялы раскопак захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

*Н. М. Дубіцкая.*

**в. Дуброва, Палескі сельсавет**

**1830. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). У цэнтры вёскі, каля клуба. Пахаваны 1191 воін, якія загінулі ў 1943—44 гг. у баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў на тэрыторыі раёна. Сярод пахаваных — Героі Савецкага Саюза Марцін Панцеляймонавіч Цеплякоў і Сярго Гедэванавіч Чыгладзе.

М. П. Цеплякоў нарадзіўся 10.1.1918 г. у в. Дронава Заводаўкоўскага р-на Цюменскай вобл. у сялянскай сям'і. Член КПСС з 1943 г. У Чырвонай Арміі з 1940 г. У Вялікую Айчынную вайну на фронце з 1942 г. Камандзір аддзялення 81-й стралковай дывізіі 61-й арміі Беларускага фронту сяржант М. П. Цеплякоў вызначыўся пры фарсіраванні Дняпра ў Лоеўскім р-не. 1.10.1943 г. пад моцным агнём праціўніка пераправіўся на правы бераг ракі, першым уварваўся ў варожыя траншэі, аўтаматным агнём прыкрываў пераправу роты; 2—3 кастрычніка разам з байцамі роты адбіў 19 контратак праціўніка, асабіста знішчыў каля 40 фашыстаў. 30.1.1944 г. загінуў у баі каля в. Зарэчча Парыцкага р-на. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 15.1.1944 г. Імем героя названа вуліца у г. Заводаўкоўск, у в. Дронава пастаўлены абеліск.

С. Г. Чыгладзе нарадзіўся 12.3.1920 г. у с. Зодзі Чыатурскага гарсавета Грузінскай ССР у сялянскай сям'і. Кандыдат у члены КПСС. У Вялікую Айчынную вайну са студзеня 1942 г. на Паўночна-Заходнім, Бранскім, Беларускім франтах. Кулямётчык малодшы сяржант 197-й стралковай Бранскай Чырванасцяжнай дывізіі

С. Г. Чыгладзе вызначыўся пры вызваленні Парыцкага р-на. 1.2.1944 г. з групай разведчыкаў уварваўся ў в. Дуброва і вёў кулямётны агонь па ворагу. Калі скончыліся патроны, працягваў бой гранатамі і агнём з аўтамата, потым з захопленага ў ворага кулямёта. Паранены, працягваў прыкрываць адыход разведчыкаў. Знішчыў больш за 70 гітлераўцаў. 2.2. 1944 г. С. Г. Чыгладзе прабраўся праз балота да месца размяшчэння праціўніка, знішчыў 2 кулямётныя кропкі, каля 50 фашыстаў. Загінуў у гэтым баі. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 23.7.1944 г. Імем героя названы вуліцы ў Светлагорску і Мінску.

У 1958 г. на брацкай магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна.

*Літ.:* Навечно в сердце народном.— 3 изд.— Мн., 1984. *М. К. Кошалеў.*

**1831. ПОМНІК ВОІНАМ 28-й АРМІІ** (гіст.). На заходняй ускраіне вёскі, каля скрыжавання дарог Парычы — Калінкавічы і Дуброва — Гарохавішчы. У гонар воінаў 28-й арміі (камандуючы генерал-лейтэнант А. А. Лучынскі) 1-га Беларускага фронту, якія 23.6.1944 г. у час Беларускай аперацыі пачалі з гэтых рубяжоў наступленне ў напрамку Бабруйск — Слуцк, у 1965 г. пастаўлена стэла.

**1832. РАДЗІМА ДАЙНЕКІ** Піліпа Пятровіча (гіст.).

Герой Сацыялістычнай Працы П. П. Дайнека нарадзіўся 16.11.1916 г. у сялянскай сям'і. Член КПСС з 1939 г. Скончыў Вышэйшую партыйную школу пры ЦК КПСС (1958 г.). З 1935 г. на савецкай рабоце. У Чырвонай Арміі з 1937 г. З жніўня 1941 г. удзельнік партызанскага руху ў Беластоцкай вобл.: палітрук роты, камандзір групы, камісар атрада, з лістапада 1943 г. камісар партызанскай брыгады імя Аляксандра Неўскага, адначасова з 25.1.1944 г. сакратар Гродзенскага падпольнага райкома КП(б)Б. З ліпеня 1944 г. на партыйнай рабоце ў Гродзенскім і Мастоўскім р-нах. У 1965 г. першы сакратар Гродзенскага райкома КПБ, з 1970 г. загадчык аддзела Гродзенскага абкома КПБ. Званне Героя Сацыялістычнай Працы прысвоена ў 1966 г. за поспехі ў развіцці жывёлагадоўлі, павелічэнні вытворчасці і нарыхтовак сельскагаспадарчай прадукцыі. Кандыдат у члены ЦК КПБ у 1960—61 г. Дэпутат Вярхоўнага Савета БССР у 1963—71 гг. П. П. Дайнека памёр 13.2.1979 г. Пахаваны ў г. Гродна на гарадскіх могілках. У 1981 г. на магіле пастаўлена стэла.

### в. Залле, Давыдаўскі сельсавет

**1833. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 1,2 км на паўднёвы захад ад вёскі, у лесе. 26 насыпаў дыяметрам 6—12, вышынёй 0,6—2 м. Курганы здзірванелі, каля асноў прасочаны раўкі. Выявіла і абследавала ў 1981 г. Н. М. Дубіцкая. Раскопкі не праводзіліся.

### в. Затон, Баравікоўскі сельсавет

**1834. ГАРАДЗІШЧА** (археал.). За 3 км на ўсход ад вёскі, ва ўрочышчы Гарадок, на правым беразе р. Бярэзіна, сярод забалочанага поплаву, у лесе. Пляцоўка памерам 100×135 м здзірванела, з боку ракі ўмацавана ровам глыбінёй каля 1 м. Выявіў у 1977 г. У. П. Ксяндзоў, абследавала ў 1981 г. Н. М. Дубіцкая. Раскопкі не праводзіліся.

**1835. ПАСЕЛІШЧА** (археал.). За 1,2 км на паўднёвы ўсход ад вёскі. Плошча 100×20 м. Адкрыў у 1977 г. і абследаваў у 1981 г. У. П. Ксяндзоў. На пясчаным пагорку сабраны крамянёвыя нуклеусы, ножападобныя пласціны, прылады працы геаметрычнай формы і ляпная кераміка, упрыгожаная адбіткамі грэбеня. Адносіцца да эпохі неаліту.

Матэрыялы раскопак захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

*У. П. Ксяндзоў.*

### в. Здудзічы, Чыркавіцкі сельсавет

**1836. КУРГАН** (археал.). За 1 км на поўнач ад вёскі. Вышыня 1,5 м, дыяметр 5 м. На вяршыні насыпу — рэшткі ямы, паўднёва-ўсходняя частка кургана разарана. Выявіў і даследаваў у 1976 г. У. П. Ксяндзоў.



1837. *Помнік на магілах савецкіх воінаў і ахвяр фашызму.*

**1837. МАГІЛЫ САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). За 6 км на паўночны ўсход ад вёскі, на месцы былой в. Ала. Пахаваны астанкі 1758 мірных жыхароў, закатаваных нямецка-фашысцкімі захопнікамі, і 422 савецкія воіны, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну пры вызваленні раёна ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў.

Раніцай 14.1.1944 г. карны атрад нямецка-фашысцкіх захопнікаў разам з вайсковай часцю, якая налічвала 1 тыс. салдат, акружыў в. Ала. Фашысты сагналі сюды жыхароў з навакольных населеных пунктаў і пачалі зверскую расправу. Людзей заганялі ў хаты, якія потым падпальвалі. Тых, хто спрабаваў уцячы, расстрэльвалі з кулямётаў і аўтаматаў, кідалі ў агонь жывымі. Было расстраляна і спалена 1758 чалавек, у т. л. 508 жанчын і 950 дзяцей.

У 1958 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна з вянком.

*Літ.:* Преступления немецко-фашистских оккупантов в Белоруссии. 1941—1944.— [2 изд.].— Мн., 1965; Нацистская политика геноцида и «выжженной земли» в Белоруссии. 1941—1944.— Мн., 1984. *М. К. Кошалеў.*

### в. Каралёва Слабада 1-я, Краснаўскі сельсавет

**1838. ПАСЕЛІШЧА** (археал.). За 0,5 км на паўднёвы ўсход ад вёскі, на другой надпоймавай тэрасе правага берага р. Бярэзіна, на мысе. Выявіў і даследаваў у 1978 г. У. П. Ксяндзоў. У раскопе плошчай 60 м² культурны пласт 0,2—0,4 м. У цэнтральнай частцы раскопу выяўлены рэшткі агнішча чашападобнай формы дыяметрам 0,6 м, глыбінёй 0,3 м. Знойдзена 425 крамянёвых прылад працы, сярод іх рэтушоры, ножападобныя пласціны, адшчэпы, бакавыя і сярэдзінныя разцы, канцавыя і акруглыя скрабкі, ланцэтападобныя вырабы, адшчэпы і пласціны з рэтушаванымі выемкамі па краях, сякерападобныя прылады і інш. Адносіцца да ранняга мезаліту, датуецца 8—6-м тысячагоддзямі да н. э.

Матэрыялы раскопак захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

*Літ.:* Ксензов В. П., Шпакович Л. В. Раскопки поселений эпохи камня в Гомельской области.— У кн.: Археологические открытия 1978 года. М., 1979; Ксензов В. П. Раннемезолитические поселения Михайловка и Королева Слобода на р. Березине.— У кн.: Древности Белоруссии и Литвы. Мн., 1982. *У. П. Ксяндзоў.*

**1839. ПАСЕЛІШЧА** (археал.). За 0,25 км на паўднёвы ўсход ад вёскі. Памер 100×20 м. Адкрыў і абследаваў у 1982 г. У. П. Ксяндзоў. Сабраны



1840. *Помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў і партызана.*

крамянёвыя прылады працы: адшчэпы, нажападобныя пласціны, аморфныя нуклеусы, бакавы разец, канцавы скрабок, зроблены з пласціны, фрагмент праколкі. Адносіцца да каменнага веку. Матэрыялы абследавання захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

**в. Карані, Давыдаўскі сельсавет**

**1840. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАНА** (гіст.). На паўночнай ускраіне вёскі. Пахаваны 649 воінаў і 1 партызан, якія загінулі на тэрыторыі раёна ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у 1943—44 гг. Сярод пахаваных — Героі Савецкага Саюза Кірыла Лявонавіч Камынін і Аляксей Іванавіч Яршоў.

К. Л. Камынін нарадзіўся 13.2. 1904 г. у с. Вялікая Паляна Цербунскага р-на Ліпецкай вобл. у сялянскай сям'і. Працаваў на шахце ў Свярдлоўску. У Чырвонай Арміі з 1941 г. У Вялікую Айчынную вайну на фронце з ліпеня 1942 г. Камандзір стралковага аддзялення 12-й гвардзейскай стралковай дывізіі 61-й арміі Беларускага фронту гвардыі сяржант К. Л. Камынін вызначыўся ў баях пры вызваленні Украіны і Беларусі. 28.9.1943 г. на чале аддзялення на лодках фарсіраваў Дняпро. Калі прабітая кулямі лодка затанула, байцы ўплаў дабраліся да берага, гранатамі і штыкамі выбілі праціўніка з траншэй і 3 сутак утрымлівалі плацдарм. Адрэзаныя ад ракі, воіны пад камандаваннем К. Л. Камыніна ў рукапашнай схватцы захапілі ў ворага зброю і працягвалі абараняць пераправу. Загінуў у баі 11.1. 1944 г. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 15.1.1944 г.

А. І. Яршоў нарадзіўся 18.4. 1925 г. у с. Аполіха Купінскага р-на Новасібірскай вобл. у сялянскай сям'і. У Вялікую Айчынную вайну на фронце з 1943 г. Гвардыі радавы 212-га гвардзейскага палка 75-й гвардзейскай Бахмачскай Чырванасцяжнай стралковай дывізіі А. І. Яршоў вызначыўся ў баях на тэрыторыі Украіны і Беларусі. 24.9.1943 г. ён адным з першых фарсіраваў Дняпро, удзельнічаў у захопе варожага парахода і баржы з грузамі. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 17.10.1943 г. А. І. Яршоў загінуў 11.1.1944 г. у баі за в. Карані. Яго імем названы вуліцы ў гарадах Купіна і Светлагорск.

У 1967 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна.

*Літ.:* Навечно в сердце народном.— 3 изд.— Мн., 1984. *М. К. Кошалеў.*



**в. Карпавічы, Асташкавіцкі сельсавет**

**1841. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На могілках. Пахаваны капітан І. Ц. Рэмізоўскі і лейтэнанты І. П. Кашкоў і А. П. Ізюмаў, якія загінулі ў 1944 г. у баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1967 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Кнышэвічы, Казлоўскі сельсавет**

**1842. РАДЗІМА ДЗІКУНА** Сяргея Мікалаевіча (гіст.).

Герой Сацыялістычнай Працы С. М. Дзікун нарадзіўся 30.6.1922 г. Член КПСС з 1944 г. Скончыў БДУ (1958 г.). Удзельнік Вялікай Айчыннай вайны. З 1946 г. на партыйнай і савецкай рабоце: у Бабруйскім абкоме КПБ, Кіраўскім, Старобінскім райкомах КПБ, Шклоўскім райвыканкоме. З 1961 г. першы сакратар Шклоўскага райкома КПБ. Званне Героя Сацыялістычнай Працы прысвоена ў 1971 г. за поспехі ў развіцці сельскай гаспадаркі і выкананне пяцігадовага плана продажу дзяржаве сельскагаспадарчых прадуктаў. Член ЦК КПБ у 1971—76 гг. Дэпутат Вярхоўнага Савета БССР у 1967—71 гг. С. М. Дзікун памёр 7.11. 1978 г. Пахаваны ў г. Шклоў на гарадскіх могілках. У 1980 на магіле пастаўлена стэла.




1845. *Курганны могільнік. План.*

**в. Коўчыцы 1-я, Краснаўскі сельсавет**

**1843. БРАЦКАЯ МАГІЛА ПАРТЫЗАН** (гіст.). На могілках. Пахаваны 9 партызан, якія загінулі 11.4.1942 г. у баі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1967 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Коўчыцы 2-я, Краснаўскі сельсавет**

**1844. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). На паўночна-заходняй ускраіне вёскі. Пахаваны 190 воінаў 37-й гвардзейскай стралковай дывізіі і партызаны атрада імя С. М. Кірава 37-й партызанскай брыгады імя А. Я. Пархоменкі, якія загінулі ў снежні 1943 г. у баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў.

У час баявых дзеянняў у лістападзе 1943 г. войскі 65-й арміі (камандуючы генерал-лейтэнант П. І. Батаў) Беларускага фронту ўстанавілі цесную сувязь з партызанамі. 8 снежня ў штабе 37-й гвардзейскай дывізіі ў в. Мікалаеўка Парыцкага р-на адбылася нарада прадстаўнікоў партызанскіх злучэнняў і штаба 65-й арміі. Былі вызначаны сумесныя дзеянні супраць ворага. Перад партызанскімі брыгадамі 37-й імя А. Я. Пархоменкі (камандзір А. В. Львоў, камісар М. Б. Храпко) і 1-й Бабруйскай (камандзір В. І. Лівенцаў, камісар Дз. А. Ляпёшкін) была пастаўлена задача знішчыць варожыя гарнізоны ў вёсках Коўчыцы 1-я, Малімоны, Тураўка, перарэзаць дарогі Дражня — Парычы, Коўчыцы 2-я — Парычы і не дапусціць адыходу гітлераўцаў. Партызаны сумесна з часцямі 65-й арміі выканалі пастаўленую задачу.

У 1967 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна з аўтаматам і каскай у руках. *М. К. Кошалеў.*

**1845. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). На паўночна-заходняй ускраіне вёскі, ва ўрочышчы Курганне. 228 моцна апоўзлых розных па памерах насыпаў. Вышыня 1—1,2 м, максімальная 3 м, дыяметр 4—6 м, самы большы 14 м. 14 курганоў пашкоджаны. Адкрыла і абследавала ў 1976 г. А. Г. Калечыц. Раскопкі не праводзіліся.

**в. Краснаўка, цэнтр сельсавета**

**1846. КУРГАН** (археал.). За 1,5 км на паўднёвы захад ад вёскі, злева ад лясной дарогі. Вышыня 1,2 м, дыяметр 10 м. Абследавала ў 1983 г. Н. М. Дубіцкая.

**1847. ПАСЕЛІШЧЫ** (археал.).

**1847а.** Паселішча-1. За 250 м на паўднёвы ўсход ад вёскі, на першай надпоймавай тэрасе правага берага р. Бярэзіна. Плошча 600 м². Выявіў у 1977 г. і даследаваў у 1977—82 гг. У. П. Ксяндзоў. У раскопе плошчай 90 м² культурны пласт 0,2 м. Знойдзены крамянёвыя разцы, скрабкі, скоблі, наканечнік стралы, нуклеусы, пласціны, адшчэпы. Адносіцца да эпохі мезаліту, датуецца 8—5-м тысячагоддзямі да н. э.

**1847б.** Паселішча-2. За 0,1 км на паўночны захад ад вёскі. Плошча 800 м². Выявіў у 1981 г. і даследаваў у 1981—82 гг. У. П. Ксяндзоў. У раскопе плошчай 120 м² культурны пласт 0,15 м. Знойдзены крамянёвыя разцы, скрабкі, вастрыі яніславіцкага тыпу, пласціны з рэтушшу, нуклеусы. Помнік адносіцца да эпохі мезаліту, датуецца 8—5-м тысячагоддзямі да н. э. Матэрыялы даследаванняў захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

*У. П. Ксяндзоў.*

**в. Ліпнікі, Казлоўскі сельсавет**

**1848. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 0,3 км на поўнач ад вёскі, у лесе. 16 насыпаў дыяметрам 6—12 м, вышынёй 0,8—2 м. Выявіла і абследавала ў 1981 г. Н. М. Дубіцкая. Насыпы здзірванелі, каля іх асноў прасочаны раўкі. Раскопкі не праводзіліся.



1850. *Помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў і партызан.*



1853. *Помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў і партызан.*

**в. Малімоны, Краснаўскі сельсавет**

**1849. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). На паўночнай ускраіне вёскі. Пахаваны астанкі 118 мірных жыхароў вёскі, якія былі расстраляны і спалены нямецка-фашысцкімі захопнікамі ў 1943 г. У 1967 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Мармавічы, Давыдаўскі сельсавет**

**1850. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). На паўночнай ускраіне вёскі. Пахаваны 951 воін і партызан, якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у 1943—44 гг. У 1967 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Міхайлаўка, Казлоўскі сельсавет**

**1851. ПАСЕЛІШЧА** (археал.). За 250 м на паўднёвы ўсход ад вёскі, на надпоймавай тэрасе правага берага р. Бярэзіна. Памер 200×50 м. Выявіў у 1977 г. і даследаваў у 1977—82 гг. У. П. Ксяндзоў. У раскопе плошчай 200 м² культурны пласт 0,15 м. Знойдзены крамянёвыя наканечнікі стрэл, разцы, скрабкі, вастрыі, скоблі, долатападобныя прылады працы, нуклеусы, пласціны і адшчэпы. Паселішча адносіцца да эпохі мезаліту, датуецца 8—5-м тысячагоддзямі да н. э.

Матэрыялы даследавання захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

*У. П. Ксяндзоў.*

**в. Новая Беліца, Казлоўскі сельсавет**

**1852. ПАСЕЛІШЧА** (археал.). За 100 м ад жывёлагадоўчай фермы, на першай надпоймавай тэрасе правага берага р. Бярэзіна. Плошча 2800 м². Выявіў і даследаваў у 1977 г. У. П. Ксяндзоў. У культурным пласце 0,1 м сабраны рэшткі ляпной керамікі, крамянёвыя нуклеусы, скрабкі, трохвугольны наканечнік стралы, пласціны, адшчэпы. Адносіцца да эпохі неаліту, датуецца 4—2-м тысячагоддзямі да н. э.

Матэрыялы даследавання захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

*У. П. Ксяндзоў.*

**в. Палессе, цэнтр сельсавета**

**1853. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). У цэнтры вёскі, каля дарогі Парычы — Калінкавічы. Пахаваны 1313 воінаў і партызан, якія загінулі ў 1943—44 гг. у баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1957 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна з аўтаматам і каскай у руках.

**г. п. Парычы,**
**цэнтр пасялковага Савета**

**1854. БАЛЬНІЦА** (архіт.). На паўночнай ускраіне пасёлка. Пабудавана ў 2-й палове 19 ст. з дрэва. Комплекс бальніцы складаецца з 2 карпусоў, якія пабудаваны ў розны час. Першы, Т-падобны ў плане, накрыты вальмавым дахам. Вокны прамавугольныя ў простых ліштвах. Другі, Н-падобны ў плане, мае сіметрычную кампаноўку аб'ёмаў. Ліштвы прамавугольных аконных праёмаў тонкія, з лаканічным малюнкам. Карпусы бальніцы — прыклад грамадзянскай драўлянай архітэктуры.

*С. Г. Багласаў.*

**1855. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). У скверы на беразе р. Бярэзіна, перад Домам культуры. Пахаваны 877 воінаў, якія загінулі ў 1943—44 гг. у баях за вызваленне тэрыторыі раёна. Сярод пахаваных — Герой Савецкага Саюза Ніканор Андрэевіч Лявухін.



1854. *Бальніца. 2-і корпус.*



1854. *Бальніца. План. 2-га корпуса.*

У час Беларускай аперацыі савецкіх войск гарадскі пасёлак быў важным апорным пунктам варожай абароны, які прыкрываў шлях на Бабруйск. На гэтым напрамку гітлераўцы стварылі некалькі ўмацаваных рубяжоў. Таму камандаванне 1-га Беларускага фронту вырашыла нанесці галоўны ўдар з раёна балот на поўдзень ад Парычаў. Раніцай 24 чэрвеня войскі 65-й арміі пайшлі ў наступленне. За першы дзень наступлення была поўнасцю прарвана абарона праціўніка, гітлераўцы страцілі каля 1700 салдат і афіцэраў забітымі, 19 гармат, 35 мінамётаў, 85 кулямётаў, 17 аўтамашын, 27 дзотаў і 25 бліндажоў. 17-я танкавая брыгада 1-га танкавага корпуса выйшла да Бярэзіны і адрэзала шляхі адыходу парыцкай групоўкі ворага на поўнач. На працягу 26 і 27 чэрвеня часці 105-га стралковага корпуса разграмілі акружаную групоўку і ў 18 гадзін вызвалілі гарадскі пасёлак.

У вызваленні Парыч удзельнічалі маракі Дняпроўскай ваеннай флатыліі, якія на бранякатэрах прарваліся ўверх па Бярэзіне да гарадскога пасёлка і нанеслі ўдар па пераправе, адрэзаўшы ворагу шляхі адступлення на Жлобін. Вялікую дапамогу савецкім воінам аказалі партызаны, якія 20 чэрвеня падарвалі больш за 40 тыс. рэек, што паралізавала работу чыгункі.

Н. А. Лявухін нарадзіўся 4.8. 1918 г. у с. Антонаўка Нова-Тар'яльскага р-на Марыйскай АССР. Член КПСС з 1943 г. Працаваў у калгасе, сельпо, на хлебазаводзе. У Чырвонай Арміі з 1939 г. У Вялікую Айчынную вайну на фронце з сакавіка 1943 г. Вызначыўся пры фарсіраванні Дняпра на поўнач ад Кіева. У ноч на 24.9. 1943 г. камандзір гарматы гвардыі малодшы сяржант Н. А. Лявухін са сваім разлікам, гарматай і боепрыпасамі пераправіўся цераз раку, прамой наводкай падбіў варожы танк і самаходную гармату, знішчыў некалькі



1854. *Бальніца. План 1-га корпуса.*



1856. *Будынак школы былога жаночага вучылішча.*



1856. *Будынак школы. План.*

агнявых кропак праціўніка, што забяспечыла пераправу інш. часцей. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 17.10.1943 г. Загінуў 18.6.1944 г. у баі за вызваленне в. Язвін Парыцкага р-на. Яго імем названа вуліца ў г. п. Парычы.

У 1964 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна з вянком.

*Літ.:* Освобождение Белоруссии. 1944.— 2 изд.— М., 1974; Навечно в сердце народном.— 3 изд.— Мн., 1984.

*М. К. Кошалей.*

**1856. БУДЫНАК ШКОЛЫ БЫЛОГА ЖАНОЧАГА ВУЧЫЛІШЧА** (архіт.). Вул. Камсамольская, 3. Пабудаваны ў 1881 г. з цэглы. Уваходзіў у комплекс жаночага вучылішча, заснаванага памешчыкам М. І. Пушчыным (брат дзекабрыста А. І. Пушчына). Комплекс складаўся з драўляных карпусоў, мураваных царквы з фамільным склепам Пушчыных (не зберагліся) і школы. Будынак прамавугольны ў плане, аднапавярховы, з вальмавым дахам. Сцены атынкаваны і прарэзаны высокімі прамавугольнымі вокнамі ў ліштвах, завершаны прафіляваным карнізам. Тарцовая сцяна завершана фігурным атыкам. Пачатковая планіроўка і аздоба інтэр'ера не захаваліся. Цяпер тут аддзяленне сувязі.

Будынак школы — прыклад грамадзянскай архітэктуры. *С. Г. Багласаў.*

**1857. ДОМ ЛЕСАПРАМЫСЛОЎЦА** (архіт.). Вул. Сацыялістычная, 2. Пабудаваны ў пачатку 20 ст. з дрэва на высокім мураваным цокалі. Будынак накрыты вальмавым дахам. Высокія сцены прарэзаны лучковымі аконнымі праёмамі, ліштвы якіх завершаны фігурнымі франтончыкамі, упрыгожанымі тонкімі разнымі раслінным ўзорамі і выявамі львоў. Такое дэкаратыўна-мастацкае афармленне ліштваў характэрна для многіх народных пабудоў раёна.

Будынак з'яўляецца прыкладам выкарыстання традыцый драўлянага народнага дойлідства. *С. Г. Багласаў.*

**1858. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА ПІНЧУКУ** Андрэю Міхайлавічу (гіст.). Вул. Маякоўскага, 9, на будынку сярэдняй школы. Устаноўлена ў 1967 г. на ўшанаванне памяці Героя Савецкага Саюза А. М. Пінчука, які жыў тут у 1927—32 гг. і вучыўся ў сямігадовай школе. Гл. артыкул № 205 «Радзіма Пінчука Андрэя Міхайлавіча» (Акцябрскі р-н).

**1859. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА САВЕЦКІМ ВОІНАМ І БАЙЦАМ ЗНІШЧАЛЬНЫХ БАТАЛЬЁНАЎ** (гіст.). Пл. Майская, на будынку Дома культуры. Устаноўлена ў 1967 г. у памяць аб сумесных баявых дзеяннях савецкіх воінаў і байцоў знішчальных батальёнаў у Вялікую Айчынную вайну.

У ліпені 1941 г. каля Парычаў разам з воінамі 800-га стралковага палка супраць нямецка-фашысцкіх войск мужна змагаліся байцы Парыцкага (камандзір М. І. Траян) і Рэчыцкага (камандзір М. Ф. Турчынскі) знішчальных батальёнаў. 11 ліпеня су-



1857. *Былы дом лесапрамыслоўца.*



1857. *Былы дом лесапрамыслоўца. План.*

меснымі дзеяннямі вайсковых падраздзяленняў і знішчальных батальёнаў вораг быў выбіты з пасёлка.

*Літ.:* Всенародное партизанское движение в Белоруссии в годы Великой Отечественной войны (июнь 1941 — июль 1944). Т. 1.— Мн., 1967; Андрющенко Н. К. Народное ополчение Белоруссии.— Мн., 1980. *В. М. Удальцоў.*

**1860. ПАСЕЛІШЧА** (археал.). За 0,5 км на паўночны захад ад пасёлка, на першай надпоймавай тэрасе правага берага р. Бярэзіна. Выявіў і абследаваў у 1982 г. У. П. Ксяндзоў. У агаленнях знойдзены крамянёвыя скрабкі, разцы, скоблі, пласціны і адшчэпы з рэтушшу і без яе, рэшткі ляпнога посуду. Культурны пласт 0,15 м. Адносіцца да эпохі неаліту, датуецца 5—3-м тысячагоддзямі да н. э. Раскопкі не праводзіліся.

Матэрыялы абследавання захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР. *У. П. Ксяндзоў.*

**1861. ПОМНІК ЛЕНІНУ** Уладзіміру Ільічу (гіст.). На пл. Майскай. Устаноўлены ў 1937 г. напярэдадні 20-й гадавіны Вялікай Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі. У Вялікую Айчынную вайну разбураны нямецка-фашысцкімі акупантамі. У 1957 г. пастаўлены новы помнік — скульптура У. І. Леніна.

**1862. РАДЗІМА МІЦКЕВІЧА** Мікалая Антонавіча (гіст.).

Беларускі савецкі рэжысёр, заслужаны дзеяч мастацтваў БССР (1949 г.) М. А. Міцкевіч нарадзіўся 3.1.1901 г. у сям'і служачага. Скончыў Беларускую драматычную студыю ў Маскве (1926 г.). Працаваў рэжысёрам у Беларускім другім дзяржаўным тэатры (з 1944 г. Беларускі тэатр імя Я. Коласа), у 1931—34 гг. мастацкім кіраўніком, у 1934—41 гг. рэжысёрам у тэатрах Украіны, з 1942 г. у Беларускім тэатры імя Я. Коласа.

Пастаноўкі М. А. Міцкевіча вызначаліся высокай рэжысёрскай культурай, яркай сцэнічнай формай, наватарствам. Рэжысёр выкарыстоўваў разнастайныя мастацкія сродкі сцэнічнай выразнасці, імкнуўся да маштабнасці спектакляў. Ім пастаўлены «Качагары» І. Гурскага (1931 г.), «На захадзе бой» У. Вішнеўскага (1933 г.), «Апошнія» М. Горкага, «Нашэсце» Л. Лявонава (1943 г.), «Крамлёўскія куранты» М. Пагодзіна (1945 г.), «Вялікая сіла» Б. Рамашова і «Нараджэнне свету» паводле А. Талстога (1948 г.), «Песня нашых сэрцаў» В. Палескага (1949 г.), «Калінавы гай» А. Карнейчука, «Праўда добра, а шчасце лепш» А. Астроўскага і «Пяюць жаваранкі» К. Крапівы (1950 г.), «Разлом» Б. Лаўранёва (1951 г.), «Простая дзяўчына» К. Губарэвіча (1952 г.), «Васа Жалязнова» М. Горкага (1953 г.), «Гаіці» У. Дзюбуа (1954 г.) і інш.

М. А. Міцкевіч памёр 23.2.1954 г. Пахаваны ў Віцебску.



1861. *Помнік У. І. Леніну.*

*Літ.:* Скібнеўскі А. Мікола Міцкевіч.— У кн.: Слова пра майстроў сцэны. Мн., 1967. *М. В. Кірэйшын.*

**1863. РАДЗІМА ШКЛОЎСКАГА** Рыгора Львовіча (гіст.).

Удзельнік рэвалюцыйнага руху на Беларусі, партыйны і дзяржаўны дзеяч Р. Л. Шклоўскі нарадзіўся ў 1875 г. Член КПСС з 1898 г. За рэвалюцыйную дзейнасць у 1903 г. высланы з Мінска ў Бабруйск. Адзін з стваральнікаў і кіраўнікоў Бабруйскай арганізацыі РСДРП. Удзельнік Рэвалюцыі 1905—07 гг. на Беларусі, быў дэлегатам III з'езда РСДРП (1905 г.) ад Мінскай арганізацыі. У 1909 г. сасланы на пажыццёвае пасяленне ў Сібір, уцёк за мяжу. З 1909 г. палітэмігрант. Уваходзіў у Бернскую секцыю бальшавікоў, з 1915 г. член Камітэта замежнай арганізацыі РСДРП (узначальваў Камісію дапамогі ваеннапалонным пры Камітэце). Удзельнічаў у рабоце Базельскага кангрэса 2-га Інтэрнацыянала (1912 г.), Бернскай канферэнцыі замежных секцый РСДРП (1915 г.). Пасля Лютаўскай буржуазна-дэмакратычнай рэвалюцыі 1917 г. вярнуўся ў Расію. Удзельнік Кастрычніцкай рэвалюцыі ў Маскве і Ніжнім Ноўгарадзе. З 1918 г. на дыпламатычнай рабоце ў Швейцарыі і Германіі. Член ЦКК у 1925—27 гг. У 1924—26 гг. загадчык секцыі Наркамата РСІ СССР. З 1928 г. на гаспадарчай і выдавецкай рабоце. Памёр Шклоўскі ў 1937 г. Аўтар успамінаў пра У. І. Леніна.

*Літ.:* Корнилович Э. А. Революцией призванные.— Мн., 1980. *М. К. Кошалеў.*

**в. Печышчы, Чыркавіцкі сельсавет**

**1864. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). У цэнтры вёскі, каля клуба. Пахаваны 913 воінаў і 4 партызаны, якія загінулі ў 1943—44 гг. у баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. Сярод пахаваных — воіны 170-й стралковай дывізіі 48-й арміі 1-га Беларускага фронту, што загінулі пры вызваленні вёскі. У 1958 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна.

**1865. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). За 1 км ад вёскі, насупраць могілак, у лесе. Пахаваны 120 жыхароў вёскі.

10.2.1942 г. у вёску ўварваліся нямецка-фашысцкія карнікі. Яны сагналі жыхароў спачатку ў памяшканне клуба, потым пад канвоем вывелі за вёску і расстралялі. На трэці дзень пасля крывавай расправы гітлераўцы прымусілі жыхароў навакольных вёсак перанесці трупы ў лес і закапаць.

У 1958 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**1866. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА МІРАШНІЧЭНКУ** Пятру Апанасавічу (гіст.). На будынку клуба. Устаноўлена ў 1967 г. на ўшанаванне памяці Героя Савецкага Саюза П. А. Мірашнічэнкі, які 1.1.1944 г. у баі за вёску закрыў сваім целам амбразуру варожага дзота. Пахаваны ў брацкай магіле савецкіх воінаў у Светлагорску. Гл. артыкул № 1805 «Брацкая магіла савецкіх воінаў».

**в. Прудок, Казлоўскі сельсавет**

**1867. СЕЛІШЧА** (археал.). За 2,5 км на ўсход ад вёскі, каля старыцы правага берага р. Бярэзіна. Адкрыў у 1976 г. У. П. Ксяндзоў. У агаленні культурны пласт 0,4—0,5 м. У ім знойдзены фрагменты ляпной керамікі і косці жывёл, а таксама крамянёвыя прылады працы. Даследавала ў 1982 г. Н. М. Дубіцкая на плошчы 144 м². Датуецца 2-й паловай 1-га тысячагоддзя да н. э.— пачаткам 2-га тысячагоддзя н. э.

Матэрыялы абследавання захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР. *У. П. Ксяндзоў.*

**в. Прыстарань, Баравікоўскі сельсавет**

**1868. МАГІЛА ПАРТЫЗАНА** (гіст.). На могілках. Партызан К. Р. Кліменка расстраляны нямецка-фашысцкімі захопнікамі ў ліпені 1943 г. ў в. Хутар. У 1968 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**1869. МАГІЛА ПАРТЫЗАНА** (гіст.). На могілках. Партызан П. А. Палянскі расстраляны нямецка-фашысцкімі захопнікамі ў ліпені 1943 г. у в. Ху-

тар. У 1968 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Расава, Чыркавіцкі сельсавет**

**1870. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На паўднёвай ускраіне вёскі. Пахаваны 225 воінаў, якія загінулі ў 1943—44 гг. у баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1967 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**рабочы пасёлак Сасновы Бор, цэнтр пасялковага Савета**

**1871. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). У цэнтры вёскі, каля клуба. Пахаваны 137 воінаў і 2 партызаны, якія загінулі ў 1943—44 гг. у баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1958 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна з аўтаматам і каскай у руках.

**1872. ГАРАДЗІШЧА** (археал.). За 1,5 км на поўдзень ад вёскі (0,8 км на поўдзень ад моста цераз р. Жардзянка), у лесе. Пляцоўка авальная, памерам 110×75 м, умацавана валам вышынёй 1,5 м, шырынёй 10 м, які ў паўднёва-заходняй частцы знівеліраваны. Абследавала ў 1983 г. Н. М. Дубіцкая. Раскопкі не праводзіліся.

**в. Селішчы, Баравікоўскі сельсавет**

**1873. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 1,5 км на паўночны захад ад вёскі, у лесе. 67 насыпаў сярэдняй вышынёй 1,5 м, дыяметрам 6—8 м. Курганы (за выключэннем 3) добра захаваліся. Вядомы па апытальных лістах 1924 г. Абследавала ў 1976 г. А. Г. Калечыц. Раскопкі не праводзіліся.

**в. Славань, Асташкавіцкі сельсавет**

**1874. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 177 воінаў, якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у 1941 і 1943 гг. У 1970 г. на брацкай магіле пастаўлены абеліск.

**1875. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ЛЁТЧЫКАЎ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 3 лётчыкі, якія загінулі 8.7. 1941 г. у паветраным баі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1960 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**1876. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 2 км на захад ад вёскі, ва ўрочышчы Гуслішча. 22 насыпы дыяметрам 6—13 м, вышынёй 0,4—1,5 м, пашкоджаны скарбашукальнікамі. Выявіла і абследавала ў 1981 г. Н. М. Дубіцкая. Раскопкі не праводзіліся.

**1877. МАГІЛА САВЕЦКАГА ВОІНА** (гіст.). На могілках. Воін загінуў у 1943 г. У 1970 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Судавіца, Казлоўскі сельсавет**

**1878. КУРГАН СЛАВЫ** (гіст.). За 2 км на паўднёвы захад ад вёскі, каля шашы Парычы — Светлагорск. Насыпаны ў 1970 г. у памяць аб пачатку Беларускай наступальнай аперацыі 1944 г. На Кургане 2 стылізаваныя штыкі. У 1975 г. побач з Курганам на пастаменце пастаўлена самаходная артылерыйская ўстаноўка.



1878. *Курган Славы.*

**в. Хутар, Баравікоўскі сельсавет**

**1879. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 96 жыхароў вёскі, расстраляных нямецка-фашысцкімі захопнікамі 14.6.1943 г. У 1984 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура жанчыны ў жалобе.

**1880. МЕСЦА БАЗІРАВАННЯ ПАРЫЦКАГА ПАДПОЛЬНАГА РАЙКОМА КП(б)Б І АСОБНАГА ПАРЫЦКАГА ПАРТЫЗАНСКАГА АТРАДА ІМЯ С. М. КІРАВА** (гіст.). Паблізу вёскі.

4.8.1943 г. Палескі падпольны абком КП(б)Б зацвердзіў Парыцкі падпольны райком КП(б)Б (арганізаваны ў красавіку 1943 г., сакратар К. А. Дудко). Райком базіраваўся ў асобным Парыцкім партызанскім атрадзе імя С. М. Кірава. Падпольны райком КП(б)Б праводзіў палітычную і арганізатарскую работу сярод насельніцтва, узначальваў партызанскі рух. Дзейнічаў да 18.11.1943 г.

Асобны Парыцкі партызанскі атрад імя С. М. Кірава створаны ў красавіку 1943 г. з групы партызан (24 чалавекі) 123-й брыгады імя 25-годдзя БССР. Дзейнічаў у Вялікую Айчынную вайну на акупіраванай тэрыторыі Парыцкага і Васілевіцкага р-наў. Камандзір атрада М. М. Какоўка, камісар К. А. Дудко. Партызаны актыўна ўдзельнічалі ў аперацыі «Рэйкавая вайна» на ўчастку чыгункі Васілевічы — Рэчыца, рабілі засады на дарогах, знішчылі 13 мастоў, у Парычах спалілі склад з ільновалакном. 18.11.1943 г. атрад (339 партызан) злучыўся з Чырвонай Арміяй.

У 1967 г. у памяць аб дзейнасці Парыцкага падпольнага райкома КП(б)Б і асобнага Парыцкага партызанскага атрада імя С. М. Кірава на будынку клуба ўстаноўлена мемарыяльная дошка.

*Літ.:* Подпольные партийные органы Компартии Белоруссии в годы Великой Отечественной войны (1941—1944).— Мн., 1975; Ветров И. Д. Братья по оружию.— Мн., 1965; Партизанские формирования Белоруссии в годы Великой Отечественной войны (июнь 1941 — июль 1944).— Мн., 1983. *М. К. Кошалеў.*

**в. Чкалава, Баравікоўскі сельсавет**

**1881. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). У цэнтры вёскі, каля будынка праўлення калгаса імя В. П. Чкалава. Пахаваны 19 жыхароў вёскі, якіх закатавалі нямецка-фашысцкія захопнікі ў 1943 г. У 1965 г. на магіле пастаўлена стэла з барэльефнай выявай старога і жанчыны з дзіцем.

**1882. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі, каля школы. На ўшанаванне памяці 69 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1965 г. пастаўлены помнік — скульптура воіна з аўтаматам у руках.

**в. Чыркавічы, цэнтр сельсавета**

**1883. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На паўднёвай ускраіне вёскі, каля дарогі Парычы — Светлагорск. Пахаваны 2275 савецкіх воінаў 48-й і 65-й армій, якія загінулі ў 1943—44 гг. пры вызваленні раёна ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў.

У ходзе баявых аперацый у лістападзе 1943 г. часці 65-й арміі вызвалілі вёску ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У снежні, сканцэнтраваўшы на гэтым участку буйныя сілы, фашысты пачалі наступленне на правы фланг 65-й арміі. З упартымі баямі нашы войскі мусілі адысці. На дапамогу ім была перакінута 194-я стралковая дывізія 48-й арміі. Наступленне фашыстаў было спынена.

У 1958 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна з вянком у руках. *М. К. Кошалеў.*

**1884. ПОМНІК МАРАКАМ ДНЯПРОЎСКАЙ ВАЕННАЙ ФЛАТЫЛІІ** (гіст.). За 2 км на паўночны захад ад вёскі, на беразе р. Бярэзіна.

Вясной 1944 г. Дняпроўская ваенная флатылія (камандуючы капітан 1-га рангу, з 25.9.1944 г. контр-адмірал В. В. Грыгор'еў) пачала баявыя дзеянні на Бярэзіне і Прыпяці ў складзе войск 1-га Беларускага фронту. У час Беларускай аперацыі матросы флатыліі знішчалі агнявыя кропкі і жывую сілу ворага, наносілі ўдары па пераправах праціўніка. У межах Парыцкага р-на караблі флатыліі ўдзельнічалі ў вызваленні в. Здудзічы, г. п. Парычы.

У 1974 г. у памяць аб гераічных подзвігах матросаў Дняпроўскай ваеннай флатыліі пастаўлена стэла.

*Літ.:* В боях за Белоруссию.— 2 изд.— Мн., 1974. *М. К. Кошалеў.*

**1885. РАДЗІМА СТАФАНОЎСКАГА** Пятра Міхайлавіча (гіст.).

Герой Савецкага Саюза, генерал-маёр авіяцыі (1944 г.) П. М. Стафаноўскі нарадзіўся 2.1.1903 г. у сялянскай сям'і. Член КПСС з 1944 г. У Чырвонай Арміі з 1925 г. Скончыў ваенна-тэарэтычную школу ВПС (1927 г.), 1-ю ваенную школу лётчыкаў імя А. Ф. Мяснікова (1928 г.). З 1928 г. лётчык-інструктар, камандзір звяна, атрада. У Вялікую Айчынную вайну на фронце з ліпеня 1941 г., камандзір 402-га знішчальнага авіяпалка і намеснік камандзіра 6-га авіякорпуса ППА г. Масквы. Зрабіў 150 баявых вылетаў. Асабіста збіў 3 варожыя самалёты. З 1942 г. лётчык-выпрабавальнік, намеснік начальніка аддзела і намеснік начальніка Упраўлення НДІ ВПС. Правёў 238 выпрабаванняў, зрабіў 16 першых вылетаў на самалётах новых тыпаў. Першы ў свеце выканаў вышэйшы пілатаж на рэактыўным самалёце. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 5.3.1948 г. Да 1954 г. у Савецкай Арміі. Памёр 18.2.1976 г. у Маскве.

*Літ.:* Навечно в сердце народном.— 3 изд.— Мн., 1984. *Г. Ф. Раманаў.*

**в. Чэрнін, Мікалаеўскі сельсавет**

**1886. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны 879 воінаў і партызан, якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў пры вызваленні раёна і вёскі.

У баях вызначыліся воіны 69-й дывізіі 18-га стралковага корпуса (камандзір — генерал-маёр І. І. Іваноў) 65-й арміі, якія 24.6.1944 г. вызвалілі вёску і, праравaўшы абарону праціўніка, паглыбіліся на 5—6 км. Сярод воінаў, што загінулі ў гэтых баях,— экіпаж самалёта Героя Савецкага Саюза старшага лейтэнанта Сяргея Леанідавіча Краснапёрава.

С. Л. Краснапёраў нарадзіўся 19.7.1923 г. у в. Пакроўка Чарнушынскага р-на Пермскай вобл. У Вялікую Айчынную вайну з лістапада 1942 г. малодшы лейтэнант С. Л. Краснапёраў — камандзір экіпажа самалёта



**1884.** *Помнік маракам Дняпроўскай ваеннай флатыліі.*

«ІЛ-2» 502-га штурмавога авіяцыйнага палка. Зрабіў 74 баявыя вылеты, знішчыў 6 танкаў, 70 аўтамашын, 10 гармат, шмат жывой сілы праціўніка. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена ў лютым 1944 г. У чэрвені 1944 г. у адным з вылетаў самалёт старшага лейтэнанта С. Л. Краснапёрава быў падбіты зенітнай артылерыяй праціўніка. С. Л. Краснапёраў здолеў выкінуцца з парашутам, але парашут загарэўся і лётчык загінуў. Выведзены са строю самалёт, у якім заставаўся інжынер-капітан Я. Дз. Бяўзюк, упаў у балота каля в. Пятровічы. У 1973 г. самалёт знайшлі ў час меліярацыйных работ. Астанкі Я. Дз. Бяўзюка пахаваны ў брацкай магіле.

У 1958 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна, у 1973 г. зроблена надмагілле з імёнамі Героя Савецкага Саюза старшага лейтэнанта Л. С. Краснапёрава і інжынера-капітана Я. Дз. Бяўзюка.

*Літ.:* Освобождение Белоруссии. 1944.— 2 изд.— М., 1974. *М. К. Кошалеў.*

**в. Язвін, Палескі сельсавет**

**1887. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 1043 воіны, якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў на тэрыторыі сельсавета. Сярод пахаваных — воіны 194-й стралковай дывізіі 48-й арміі, якая ў 1944 г. прымала ўдзел у вызваленні вёскі ад акупантаў. У 1958 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна з вянком і аўтаматам у руках.

**в. Якімава Слабада, Баравікоўскі сельсавет**

**1888. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны 110 воінаў, якія загінулі ў 1943—44 гг. у баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1965 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна з каскай у руках.

**1889. ПАСЕЛІШЧЫ** (археал.).

**1889а.** Паселішча-1. За 1,5 км на паўднёвы ўсход ад вёскі, на правым беразе р. Бярэзіна, у заходняй частцы астанца першай надпоймавай тэрасы, абмежаванага з трох бакоў балотам, з усходу — рэчышчам ракі. Плошча 500 м². Адкрыў у 1977 г. У. П. Ксяндзоў. У агаленні выразна прасочваецца культурны пласт 0,25 м, у якім знойдзены крамянёвыя вырабы (нуклеусы, 2 скрабкі, абломак наканечніка трохвугольнай формы, 22 адшчэпы, пласціны, нуклеусападобныя кавалкі крэменю) і дробныя кавалкі ляпной керамікі. Адносіцца да эпохі неаліту, датуецца 4—2-м тысячагоддзямі да н. э. Раскопкі не праводзіліся.

**1889б.** Паселішча-2. За 1 км на ўсход ад вёскі, на правым беразе р. Бярэзіна, у паўночнай частцы астанца. Плошча 200 м². Адкрыў і абследаваў у 1977 г. У. П. Ксяндзоў. Культурны пласт 0,1 м прасочаны ў агаленнях. Знойдзены рэшткі ляпной керамікі з адбіткамі грэбеня, крамянёвыя нуклеус, мікрапласцінка, 20 адшчэпаў, 2 нажападобныя пласціны і інш. Адносіцца да эпохі неаліту, датуецца 4—2-м тысячагоддзямі да н. э. Раскопкі не праводзіліся.

Матэрыялы абследавання захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР. *У. П. Ксяндзоў.*

# ХОЙНІЦКІ РАЁН






- Цэнтр раёна
- Цэнтры сельсаветаў
- Стаянні, паселішчы, гарадзішчы
- Могільнікі (грунтавыя, курганныя), курганы
- Цэнтры рамёстваў
- Помнікі і памятныя месцы Вялікай Айчыннай вайны (месцы баёў, магілы савецкіх воінаў і партызан, Курганы Славы, помнікі землякам і інш.)
- Помнікі ахвярам фашызму (месцы канцлагераў і лагераў смерці, месцы масавай загубы насельніцтва, спаленыя і неадноўленыя вёскі і інш.)
- Помнікі і месцы, звязаныя з імёнамі савецкіх партыйных, дзяржаўных і гаспадарчых дзеячаў, дзеячаў культуры, навукі і тэхнікі
- Палацы, сядзібы, асабнякі

## XXIV. ХОЙНІКІ

Горад, цэнтр раёна. За 103 км ад Гомеля, за 3 км ад канцавой станцыі Хойнікі чыгуначнай веткі Васілевічы — Хойнікі лініі Калінкавічы — Гомель, аўтамабільнымі дарогамі злучаны з Рэчыцай, Калінкавічамі. Аэрапорт.

Вядомы па пісьмовых крыніцах з 1512 г. як вёска Брагінскага графства ў Вялікім княстве Літоўскім. Належала Вішнявецкім, Шуйскім, Прозарам. З сярэдзіны 16 ст. вёска (потым мястэчка Хойнікі), уваходзіла ў склад Брагінскай воласці Рэчыцкага павета. З канца 17 ст. цэнтр воласці ў тым жа павеце. Паводле 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793 г.) Хойнікі ў складзе Расійскай імперыі, цэнтр Хойніцкай воласці Рэчыцкага павета Мінскай губерні. У канцы 19 ст. у мястэчку 2,7 тыс. жыхароў, 26 крам, 2 заезныя двары, паштовая станцыя, 2 вадзяныя млыны, 2 спіртзаводы, жалезаапрацоўчы завод, 2 школы, царква, 3 сінагогі.

Савецкая ўлада ўстаноўлена ў лістападзе 1917 г. У лютым — снежні 1918 г. Хойнікі акупіраваны нямецка-гетманскімі войскамі. З красавіка 1919 г. у складзе Гомельскай губерні РСФСР, з снежня 1926 г. у БССР. З 1926 г. цэнтр раёна, з чэрвеня 1927 г. да ліпеня 1930 г. у Гомельскай акрузе. З 1938 г. гарадскі пасёлак Палескай, з 1954 г. Гомельскай абласцей, з 1967 г. горад. У 1970 г.— 9,5 тыс. жыхароў.

У Вялікую Айчынную вайну з жніўня 1941 г. да 24.11.1943 г. акупіраваны нямецка-фашысцкімі захопнікамі. На тэрыторыі раёна дзейнічалі падпольныя райкомы КП(б)Б (25.8.1941 г.— лістапад 1942 г., 10.8—25.11.1943 г.) і ЛКСМБ (жнівень 1941 г.— лістапад 1942 г., 31.7—25.11.1943 г.), з лістапада 1941 г. да лістапада 1943 г. камуністычнае падполле. У час акупацыі нямецка-фашысцкімі захопнікамі Хойнікі былі амаль цалкам спалены і разбураны. Пасля вызвалення тут да 15.1. 1944 г. знаходзіліся Палескія абком КП(б)Б і аблвыканком.

За пасляваенныя гады Хойнікі адбудаваны. У планіровачнай структуры захавана квартальная забудова. Жылая забудова пераважна сядзібнага тыпу. Паводле генеральнага плана, распрацаванага ў 1972 г. Мінскім філіялам Цэнтральнага навукова-даследчага і праектнага інстытута горадабудаўніцтва, вызначаны адміністрацыйна-грамадскі цэнтр, 3 жылыя (Старыя Хойнікі, Новыя Хойнікі, Заходні р-н) і прамысловы раёны, паркавая зона. Развіццё горада прадугледжана ў паўднёвым напрамку. Шматпавярховая забудова вядзецца ў мікрараёне Новыя Хойнікі, па вуліцах Савецкай і К. Маркса. Цэнтр горада — пл. Леніна. Тут размешчаны будынкі райвыканкома, Дома культуры. Забудова горада зліваецца з бліжэйшымі населенымі пунктамі (пасёлкі імя Калініна і Першамайскі, вёскі Валокі і Забалацце), галоўныя вуліцы якіх з'яўляюцца своеасаблівым працягам гарадскіх.



**XXIV.** *Плошча Леніна. Фрагмент забудовы.*

Прамысловыя прадпрыемствы: філіял гомельскага завода «Гідрапрывод», кансервавы, камбікормавы заводы, масласырзавод, торфабрыкетны завод «Хойніцкі», завод жалезабетонных вырабаў, дрэваапрацоўчы камбінат (філіял Мазырскага вытворчага мэблевага аб'яднання). Працуюць раённае аб'яднанне Дзяржкамсельгастэхнікі, камбінат бытавога абслугоўвання, Ленінскі лесапункт Мазырскага лесанарыхтоўчага аб'яднання, аўтарамонтны завод, фабрыка мастацкіх вырабаў, лясгас. У горадзе сярэдняе прафесійна-тэхнічнае вучылішча будаўнікоў, 3 сярэднія агульнаадукацыйныя, музычная і дзіцяча-юнацкая спартыўная школы, Дом піянераў і школьнікаў, 6 дашкольных устаноў, 2 Дамы культуры, кінатэатр, 4 бібліятэкі, бальніца, дыспансер. Выдаецца раённая газета «Ленінскі сцяг». Помнікі: на брацкіх могілках савецкіх воінаў, партызан і падпольшчыкаў; у гонар воінаў кавалерыйскага корпуса і танкавай брыгады, якія вызвалілі горад ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў; землякам і інш.

Зона адпачынку — гарадскі парк і лесапарк у паўночна-ўсходняй частцы горада.

*Літ.:* Волости и важнейшие селения Европейской России. В. 5.— СПб., 1886; Россия: Полное географическое описание нашего отечества. Т. 9.— СПб., 1905; Памятная книжка Минской губернии на 1906 год.— Мн., 1905; В грозные годы.— Мн., 1973.

*М. І. Камінскі, А. М. Кулагін.*

**1890. БРАЦКАЯ МАГІЛА СЛАВАЦКІХ ПАРТЫЗАН** (гіст.). Вул. Савецкая, на могілках. Пахаваны 3 партызаны (славакі Нікола Даросл, Вайтэх Балко, Драгіч Радзівой), якія загінулі 16.8. 1943 г. у баі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1945 г. устаноўлена надмагільная пліта.

**1891. БРАЦКІЯ МОГІЛКІ САВЕЦКІХ ВОІНАЎ, ПАРТЫЗАН І ПАДПОЛЬШЧЫКАЎ** (гіст.). На заходняй ускраіне горада. Пахаваны 483 воіны і партызаны, якія загінулі ў лістападзе 1943 г. пры вызваленні г. Хойнікі і раёна ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. Сярод пахаваных — Героі Савецкага Саюза Мікіта Арцёмавіч Грачыхін, Уладзімір Рыгоравіч Калеснік, сакратар Хойніцкага падпольнага райкома КП(б)Б Павел Пракопавіч Домнікаў, 25 удзельнікаў Хойніцкага камуністычнага падполля, камандзір партызанскага атрада імя В. І. Чапаева Васіль Рыгоравіч Карась.

Хойніцкае камуністычнае падполле дзейнічала з лістапада 1941 г. да лістапада 1943 г. Кіраўнік Я. І. Казачук. Падпольшчыкі вялі палітычную работу, распаўсюджвалі лістоўкі, вясной 1942 г. арганізавалі ўцёкі савецкіх ваеннапалонных з турмы ў Хойніках, вывелі да партызан 57 салдат і афіцэраў славацкага гарнізона, падарвалі электрастанцыю і спалілі лесасклад на чыгуначнай станцыі, перадавалі партызанам зброю, боепрыпасы, меды-



1891. *Помнік на брацкіх могілках савецкіх воінаў, партызан і падпольшчыкаў.*

каменты. У барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў загінулі 60 падпольшчыкаў.

М. А. Грачыхін нарадзіўся ў 1903 г. у г. Ігрэнь Днепрапятроўскай вобл. у сялянскай сям'і. Кандыдат у члены КПСС. У Вялікую Айчынную вайну на фронце з 1942 г. Удзельнік баёў на Курскай дузе. Памочнік камандзіра ўзвода старшына М. А. Грачыхін вызначыўся пры вызваленні Гомельскай вобл. 6.9.1943 г. з групай байцоў пераправіўся цераз р. Дняпро, у баі на рубяжы р. Брагінка зайшоў у тыл ворага і знішчыў 37 гітлераўцаў, што садзейнічала поспеху наступлення. 29.11.1943 г. загінуў у рукапашнай схватцы каля в. Багуславец. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 15.1.1944 г. Імя М. А. Грачыхіна носіць школа ў г. Ігрэнь, в. Багуславец у Хойніцкім р-не перайменавана ў в. Грачыхіна, на месцы гібелі пастаўлены абеліск.

У. Р. Калеснік нарадзіўся 15.6. 1911 г. у с. Рожны Браварскага р-на Кіеўскай вобл. у сям'і рамесніка. Кандыдат у члены КПСС. У Чырвонай Арміі з ліпеня 1941 г. Скончыў Ленінградскія бранятанкавыя курсы (1942 г.). На фронце з жніўня 1942 г. Вызначыўся пры вызваленні Хойніцкага р-на. 25.11.1943 г. пры ліквідацыі ўмацаванага пункта праціўніка танк камандзіра ўзвода гвардыі лейтэнанта У. Р. Калесніка быў падбіты. Экіпаж на працягу 12 гадзін адбіваў атакі ворага, знішчыў 4 гарматы, 7 кулямётных кропак, 2 мінамётныя батарэі і больш за 100 гітлераўцаў. У. Р. Калеснік загінуў у гэтым баі. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 10.3. 1944 г.

У 1958 г. на могілках пастаўлены помнік — скульптура воіна са сцягам, на мармуровых плітах імёны загінуўшых.

*Літ.:* Захаренко А. И. Сказ о 60 отважных.— Мн., 1965; Навечно в сердце народном.— 3 изд.— Мн., 1984.

*М. М. Казлоўская.*

**1892. ГАРАДЗІШЧА** (археал.). За 2 км на поўнач ад чыгуначнай станцыі Хойнікі. Пляцоўка памерам 44×35 м умацавана 2 валамі і ровам. Вышыня ўнутранага вала 0,6—0,7 м, шырыня 7 м, вонкавага вала адпаведна 1,3 м і 16 м. Вядома з 1889 г. Абследавала ў 1976 г. Т. М. Каробушкіна. Раскопкі не праводзіліся.

*Літ.:* Запольский М. Брагинская волость: (исторический очерк).— У кн.: Календарь «Северо-Западного края» на 1889 год. М., 1889.

*Т. М. Каробушкіна.*

**1893. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА ВУЧНЯМ І НАСТАЎНІКАМ** (гіст.). Вул. Савецкая, 119, на будынку сярэдняй школы № 1. Устаноўлена ў 1971 г. на ўшанаванне памяці 45 вучняў і настаўнікаў, якія загінулі ў барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у Вялікую Айчынную вайну.

**1894. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА КАЧАТКОВУ** Аляксею Гаўрылавічу (гіст.). Вул. Савецкая, 30. Устаноўлена ў 1967 г. на будынку музычнай школы.

Герой Савецкага Саюза А. Г. Качаткоў нарадзіўся 30.3.1918 г. у с. Салавое Чаплыгінскага р-на Ліпецкай вобл. у сялянскай сям'і. Член ВЛКСМ. У Чырвонай Арміі з 1938 г. У Вялікую Айчынную вайну камандзір групы партызанскага атрада злучэння А. М. Сабурава. Вызначыўся ў ноч на 15.11. 1942 г. пры разгроме нямецка-фашысцкага гарнізона ў Хойніках. Загінуў у гэтым баі. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 4.1.1944 г. Яго імем названа вуліца ў г. Хойнікі.

*Літ.:* Навечно в сердце народном.— 3 изд.— Мн., 1984.



1892. *Гарадзішча. План.*



1899. *Помнік У. І. Леніну.*

**1895. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). На вул. Садовай, каля будынка праўлення калгаса імя М. І. Калініна. На ўшанаванне памяці жыхароў вёсак Валокі, Езапоў, Малішаў, Настолле, Чырвоная Ніва і пас. Калініна, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1969 г. пастаўлены помнік — скульптура воіна з аўтаматам.

**1896. ПОМНІК КАЛІНІНУ** Міхаілу Іванавічу (гіст.). На вул. Садовай, каля будынка праўлення калгаса імя М. І. Калініна. Бюст М. І. Калініна ўстаноўлены ў 1973 г.

**1897. ПОМНІК ЛЕНІНУ** Уладзіміру Ільічу (гіст.). На вул. К. Маркса, каля будынка дзіцячага дома. Скульптура У. І. Леніна ўстаноўлена ў 1959 г.

**1898. ПОМНІК ЛЕНІНУ** Уладзіміру Ільічу (гіст.). На вул. Першамайскай, каля будынка сярэдняй школы № 3. Скульптура У. І. Леніна ўстаноўлена ў 1967 г.

**1899. ПОМНІК ЛЕНІНУ** Уладзіміру Ільічу (гіст.). На вул. Савецкай. Скульптура У. І. Леніна ўстаноўлена ў 1958 г.

**1900. ПОМНІК ЛЕНІНУ** Уладзіміру Ільічу (гіст.). На пл. Танкістаў, каля будынка сярэдняй школы № 2. Скульптура У. І. Леніна ўстаноўлена ў 1970 г.

**1901. ПОМНІК У ГОНАР ВОІНАЎ КАВАЛЕРЫЙСКАГА КОРПУСА** (гіст.). За 4 км на паўночны ўсход ад горада. У гонар воінаў 3-й, 4-й і 17-й кавалерыйскіх дывізій 2-га гвардзейскага кавалерыйскага корпуса (камандзір генерал-маёр У. В. Крукаў), якія прыма-

лі ўдзел у вызваленні Хойніцкага р-на ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў, у 1980 г. пастаўлены абеліск.

**1902. ПОМНІК У ГОНАР ВОІНАЎ ТАНКАВАЙ БРЫГАДЫ** (гіст.). На пл. Танкістаў. У гонар воінаў 68-й асобнай Калінкавіцкай танкавай брыгады, якія ўдзельнічалі ў вызваленні горада і раёна ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў, у 1975 г. пастаўлены помнік — танк на п'едэстале.

**1903. СЯДЗІБА** (архіт.). У цэнтры горада, на вул. К. Маркса. Сфарміравана на рубяжы 19—20 стагоддзяў. Уключае сядзібны дом і парк.

Сядзібны дом — двухпавярховы прамавугольны ў плане мураваны будынак, да якога асіметрычна прыбудавана квадратная вежа. Галоўны ўваход вырашаны тамбурам і тэрасай. На чырвоным фоне цагляных сцен вылучаюцца атынкаваныя і пафарбаваныя ў белы колер дэталі архітэктурнага дэкору (ліштвы, карнізы, руст і інш.). У пластыцы фасадаў выкарыстаны утрыраваныя формы класіцызму (франтоны, калонкі, сухарыкі), рэнесансу (арачныя нішы з ракавінамі), матывы сярэдневяковай замкавай архітэктуры (зубчастыя парапеты, байніцы). Планіроўка калідорная з вылучэннем параднай групы памяшканняў. Міжпаверхавая лесвіца знаходзіцца ў цэнтральным квадратным у плане вестыбюлі.

Парк пейзажна-рэгулярнага тыпу планіроўкі. Прамавугольная сетка алей абмяжоўвае паркавыя курціны. Растуць мясцовыя пароды дрэў (асіна, ліпа, клён, лістоўніца). Уязная алея вылучана чатырохпілоннай брамай.

Сядзібны дом — помнік эклектычнай архітэктуры. *А. М. Кулагін.*

**1904. ЦЭНТР МАСТАЦКАГА РАМЯСТВА** (гіст.). У Хойніках здаўна былі пашыраны мастацкія рамёствы — ткацтва, вышыўка, пляценне з лазы, карэнняў, лыка, бяросты. Плялі разнастайны посуд пад зерне, агародніну, з саломкі выраблялі кошыкі, шкатулкі, хатнія ўпрыгожанні («пеўнікі», «павукі»), цацкі і інш. Традыцыйная тэхніка пляцення — крыжовая, вітая, «у зубчыкі», «у разеткі» і інш. У першыя гады Савецкай улады тут была створана арцель мастацкай вышыўкі «Чырвонае Палессе», на базе якой заснавана фабрыка мастацкіх вырабаў. Выпускае з саломкі дэкаратыўныя маскі («Зубр», «Казёл», «Буронка», «Ліса», «Сава»), пано з геаметрычным і раслінным арнаментамі ў спалучэнні з фігуркамі птушак, жывёл («Пеўнік», «Птушка»), карункавыя, вышываныя і інш. вырабы, якія адметны багаццем форм і майстэрствам выканання. *Дз. С. Трызна.*

**в. Алексічы, Алексіцкі сельсавет**

**1905. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 790 жыхароў, якіх у жніўні 1943 г. расстралялі нямецка-фашысцкія захопнікі. У 1968 г. на магіле пастаўлены абеліск.



1903. *Сядзіба. Схема планіроўкі: 1— сядзібны дом; 2— сучасная прыбудова.*


1903. *Сядзібны дом.*


1903. *Сядзібны дом. План 1-га паверха.*

**в. Амелькаўшчына, цэнтр сельсавета**

**1906. МЕСЦА ДЫСЛАКАЦЫІ АСОБНАГА ПАРТЫЗАНСКАГА АТРАДА ІМЯ А. В. СУВОРАВА** (гіст.). У вёсцы і навакольных лясах. Партызанскі атрад створаны ў сакавіку 1943 г. Камандзір К. Т. Сацура, камісар М. Ф. Снягір. Партызаны праводзілі дыверсіі на чыгуначным участку Хойнікі — Васілевічы, знішчылі некалькі варожых гарнізонаў, у т. л. на чыгуначнай станцыі Аўрамаўская, падарвалі больш за 1 тыс. рэек, спалілі тарфяны завод у в. Міхнаўка Брагінскага р-на, гарбарны завод у Хойніках, лесасклад, ратавалі насельніцтва ад вывазу на катаржныя работы ў Германію. 20.11.1943 г. атрад (487 партызан) злучыўся з Чырвонай Арміяй.

У 1959 г. у гонар партызан атрада імя А. В. Суворава на будынку лясніцтва ўстаноўлена мемарыяльная дошка.

**1907. ПОМНІК АХВЯРАМ ФАШЫЗМУ** (гіст.). На могілках. На ўшанаванне памяці 59 жыхароў вёскі, якіх у лютым 1943 г. расстралялі нямецка-фашысцкія захопнікі, у 1975 г. пастаўлены абеліск.

**1908. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля будынка выканкома сельсавета. На ўшанаванне памяці 252 жыхароў вёсак Амелькаўшчынскага сельсавета, якія загінулі ў барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў, у 1970 г. пастаўлены помнік — скульптура воіна.

**в. Аравічы, цэнтр сельсавета**

**1909. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны ўрач В. В. Скірмант і 2 яе дзяцей (6 і 7 гадоў), якіх расстралялі ў верасні 1942 г. нямецка-фашысцкія захопнікі. У 1970 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**1910. ПАСЕЛІШЧЫ** (археал.).

**1910а.** Паселішча-1. За 1 км на паўднёвы захад ад вёскі, на астанцы першай надпоймавай тэрасы р. Прыпяць. Выявіў у 1962 г. і абследаваў у 1972 г. У. Ф. Ісаенка. Культурны пласт 0,2 м прасочваецца ўздоўж берага на працягу 0,1 км. Знойдзены крамянёвыя прылады працы, рэшткі керамікі неалітычнага часу. Раскопкі не праводзіліся.

**1910б.** Паселішча-2. За 2 км на захад ад вёскі, каля возера-старыцы р. Прыпяць. Выявіў у 1972 г. і абследаваў у 1976 г. У. Ф. Ісаенка. Культурны пласт 0,3 м прасочваецца ўздоўж берага на працягу 150 м. Знойдзены крамянёвыя прылады і рэшткі посуду неалітычнага часу. Раскопкі не праводзіліся.

Матэрыялы абследавання захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР. *У. Ф. Ісаенка.*

**1911. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля будынка канторы саўгаса «Ара-

вічы». На ўшанаванне памяці 61 аднавяскоўца, якія загінулі на франтах у Вялікую Айчынную вайну, у 1970 г. пастаўлены помнік — скульптурная кампазіцыя: воін і партызанка.

**1912. ПОМНІК У ГОНАР ПАРТЫЗАН** (гіст.). У цэнтры вёскі. У красавіку 1943 г. у вёсцы базіраваўся ўкраінскі Пуціўлеўскі партызанскі атрад і штаб злучэння С. А. Коўпака. Камандаванне злучэння вырашыла знішчыць атрад нямецка-фашысцкіх карнікаў, якія патрулявалі на катэрах і параходах па Прыпяці. 7 красавіка, калі фашысты даплылі да вёскі, партызаны адкрылі агонь, пашкодзілі некалькі катэраў, знішчылі каля 200 гітлераўцаў, 50 узялі ў палон, захапілі шмат трафеяў.

У 1958 г. у памяць аб баявых дзеяннях партызан пастаўлены абеліск.

**в. Бабчын, Рудакоўскі сельсавет**

**1913. МАГІЛЫ АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). За 3 км на поўдзень ад вёскі. У 4 магілах пахаваны 21 мірны жыхар вёскі, якіх 17.5.1943 г. расстралялі нямецка-фашысцкія захопнікі. У 1955 г. пастаўлены абеліск.



1913. *Помнік на магілах ахвяр фашызму.*

**1914. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА ПАЛЕСКАМУ** Вячаславу Пятровічу (гіст.). На будынку сярэдняй школы. Устаноўлена ў 1971 г. на ўшанаванне памяці беларускага савецкага драматурга В. П. Палескага, які ў 1925—29 гг. вучыўся ў гэтай школе. Гл. артыкул № 230 «Радзіма Палескага Вячаслава Пятровіча» (Брагінскі р-н).

**1915. МЕСЦА БАЗІРАВАННЯ ХОЙНІЦКАГА ПАДПОЛЬНАГА РАЙКОМА КП(б)Б І АСОБНАГА ПАРТЫЗАНСКАГА АТРАДА ІМЯ В. І. ЧАПАЕВА** (гіст.). За 10 км на поўдзень ад вёскі, недалёка ад дарогі Хойнікі — Даўляды.

Хойніцкі падпольны райком КП(б)Б створаны 25.8.1941 г. Сакратары П. П. Домнікаў, Н. А. Бельскі і Г. Г. Мельнікаў (25.8.1941 г.— 11.1942 г.). У лістападзе 1942 г. у баі супраць карнікаў загінулі П. П. Домнікаў і член райкома М. Н. Канавалаў. Група партызан на чале з Н. А. Бельскім увайшла ў склад украінскага партызанскага злучэння А. М. Сабурава.

Падпольны райком КП(б)Б зноў створаны Палескім падпольным абкомам КП(б)Б 10.8.1943 г. Сакратар Ф. Р. Рудчанка. Дзейнічаў да 25.11. 1943 г.

Партызанскі атрад імя В. І. Чапаева створаны ў сакавіку 1943 г. Камандзіры В. Р. Карась (да лістапада 1943 г., загінуў), М. А. Жукаў (лістапад 1943 г.); камісар Ф. Р. Рудчанка (сакавік — лістапад 1943 г.). Партызаны праводзілі дыверсіі на чыгуначным участку Хойнікі — Васілевічы, падарвалі больш за 600 рэек. Правялі баявыя аперацыі супраць акупантаў пад Хойнікамі, у вёсках Судкова і Стралічава. Ратавалі насельніцтва ад вывазу на катаржныя работы ў Германію. Распаўсюджвалі лістоўкі і зводкі Саўінфармбюро. 25.11.1943 г. атрад (427 партызан) злучыўся з Чырвонай Арміяй.

У 1972 г. на месцы базіравання Хойніцкага падпольнага райкома КП(б)Б і партызанскага атрада імя В. І. Чапаева пастаўлена стэла.

*Літ.:* Подпольные партийные органы Компартии Белоруссии в годы Великой Отечественной войны (1941—1944).— Мн., 1975; Партизанские формирования Белоруссии в годы Великой Отечественной войны (июнь 1941 — июль 1944).— Мн., 1983. *М. М. Казлоўская.*

**1916. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі, у скверы. На ўшанаванне памяці 294 землякоў, якія загінулі на франтах у Вялікую Айчынную вайну, у 1970 г. пастаўлены помнік — скульптурная кампазіцыя: воін і партызанка.

**в. Баршчоўка, Радзінскі сельсавет**

**1917. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля Дома культуры. На ўшанаванне памяці 88 жыхароў вёсак Малочкі і Баршчоўка, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1970 г. пастаўлены помнік — абеліск і скульптура партызана.

**1918. РАДЗІМА КАШЭЛЬНІКАВАЙ** Раісы Мікалаеўны (гіст.).

Народная артыстка БССР (1957 г.) Р. М. Кашэльнікава нарадзілася 3.9. 1904 г. у сям'і настаўніка. У 1926 г. скончыла Беларускую драматычную студыю ў Маскве. Працавала ў Беларускім другім дзяржаўным тэатры (г. Віцебск), з 1939 у Беларускім першым дзяржаўным тэатры (г. Мінск), у 1943 г. у франтавой тэатральнай брыгадзе. Выконвала драматычныя, характарныя ролі. Мастацтву Р. М. Кашэльнікавай уласцівы лірызм і драматычны тэмперамент, народны гумар, яркая характарнасць. Сярод лепшых роляў: Ксенія («Разлом» Б. Лаўранёва), Аксана («Гібель эскадры» А. Карнейчука), Ларыса, Глафіра, Лябёдкіна, Глумава («Беспасажніца», «Ваўкі і авечкі», «Позняе каханне», «На ўсякага мудраца хапае прастаты» А. Астроўскага), Любоў («Апошнія» М. Горкага), Надзея, Забеліна («Чалавек з ружжом», «Крамлёўскія куранты» М. Пагодзіна), Аня («Сям'я» І. Попова), Касагорава («Уцёкі з ночы», братоў Тур), Аўгіння («У пушчах Палесся» паводле Я. Коласа), Ізабэла («Салавей» З. Бядулі), Броня, Клава («З народам», «Мілы чалавек» К. Крапівы), Куліна («Людзі на балоце» паводле І. Мележа), Уладзіслава Францаўна («Шчасце паэта» В. Віткі), Старая («Эшалон» М. Рошчына), Сюзана («Жаніцьба Фігаро» П. А. Бамаршэ), фру Ліндэ («Нора» Г. Ібсена), мадэмуазель Куку («Безыменная зорка» М. Себасцьяна), Бабуля («Дзверы стукаюць» М. Фермо). Найбольш ярка выявіўся талент актрысы ў ролі Паўлінкі (аднайменная п'еса Я. Купалы).

Р. М. Кашэльнікава памерла 29.11. 1980 г. Пахавана ў Мінску на Усходніх могілках.

*Літ.:* Д а б р а л ю б а ў І. Яркі талент.— У кн.: Майстры беларускай сцэны. Мн., 1960. *М. М. Казлоўская.*

**в. Барысаўшчына, цэнтр сельсавета**

**1919. ГАРАДЗІШЧА** (археал.). Мясцовая назва А к о п ы. За 2 км на поў-



1915. *Помнік на месцы базіравання Хойніцкага падпольнага райкома КП(б)Б і асобнага партызанскага атрада імя В. І. Чапаева.*

дзень ад вёскі, ва ўрочышчы Палосы. Пляцоўка памерам 120×100 м умацавана 2 кальцавыміваламі і ровам паміж імі. Вышыня ўнутранага вала 0,6—0,8 м, шырыня 14—15 м, вышыня вонкавага 1,9—2,1 м, шырыня 16 м, глыбіня рова каля 1,5 м. Вядома з 1889 г. Абследавалі ў 1963 г. У. Ф. Ісаенка, у 1976 г. Т. М. Каробушкіна. Адносіцца да ранняга жалезнага веку. Раскопкі не праводзіліся.

*Літ.:* Запольский М. Брагинская волость: (исторический очерк).— У кн.: Календарь «Северо-Западного края» на 1889 год. М., 1889. *Т. М. Каробушкіна.*

**1920. ПАСЕЛІШЧА** (археал.). За 0,5 км на поўдзень ад вёскі, на левым беразе р. Віць, на пясчанай выдме. Выявілі ў 1960 г. У. Ф. Ісаенка і А. П. Гарчанка, даследаваў у 1966 г. У. Ф. Ісаенка. Культурны пласт 0,3 м знаходзіцца на паверхні тэрасы і перакрываецца наносным пяском. Знойдзены 34 крамянёвыя прылады працы, 240 апрацаваных крамянёў і 35 абломкаў 3—4 вастрадонных ляпных гаршкоў, меднае долата. Адносіцца да эпохі неаліту, асобныя знаходкі — да мезаліту.




1921. *Сядзіба. Схема планіроўкі: 1— жылыя будынкі; 2— гаспадарчыя пабудовы; 3— агароджа.*



1921. *Сядзіба. Жылы будынак.*



1921. *Сядзіба. Куток парку.*

Матэрыялы раскопак захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

*Літ.:* Исаенко В. Ф. Неолит Припятского Полесья.— Мн., 1976. *У. Ф. Ісаенка.*

**1921. СЯДЗІБА** (архіт.). На паўночнай ускраіне вёскі, на беразе р. Гаранка. Закладзена ў 2-й палове 19 — пачатку 20 ст. У аснову кампазіцыі ансамбля пакладзена рэгулярная планіроўка, якой падпарадкаваны ўсе пабудовы: сядзібны дом (не збярогся), жылыя і гаспадарчыя будынкі, парк. Усе пабудовы з цэглы, неатынкаваныя. Дамінуе будынак бровара, вырашаны ў выглядзе квадратнага ў плане аб'ёму з круглымі ў сячэнні вежачкамі па вуглах. Архітэктурны дэкор у стылі псеўдаготыкі. Аднапавярховыя прамавугольныя ў плане жылыя будынкі дэкарыраваны стылізаванымі порцікамі і фрызам геаметрычнага малюнку.

Парк пейзажнага тыпу з сажалкай авальнай формы. Расце каля 100 відаў дрэў (бяроза, самшыт вечназялёны, цюльпанавае дрэва, шаўкоўніца белая, ліпа амерыканская, дуб, хвоя, туя заходняя і інш.). Да сядзібы прымыкае пладовы сад, абгароджаны мураванай сцяной, уздоўж якой пасаджаны дрэвы.

Сядзіба — помнік эклектычнай архітэктуры. *А. М. Кулагін.*

**в. Веляцін, Паселіцкі сельсавет**

**1922. ГАРАДЗІШЧА** (археал.). За 6 км на поўнач ад вёскі, ва ўрочышчы Рудавец. Пляцоўка круглая, дыяметрам 90 м. Умацавана валам вышынёй 2—2,2 м, шырынёй 23—25 м. Выявіла і абследавала ў 1976 г. Т. М. Каробушкіна. Адносіцца да гарадзішчаў-сховішчаў ранняга жалезнага веку. Раскопкі не праводзіліся.

**1923. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля школы. На ўшанаванне памяці 52 жыхароў з вёсак калгаса «Бальшавік», якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1969 г. пастаўлены помнік — скульптура воіна.

**в. Вялікі Бор, Велікаборскі сельсавет**

**1924. ГАРАДЗІШЧА** (археал.). Мясцовая назва Гарадок. За 0,8 км на поўдзень ад вёскі ва ўрочышчы Семенч. Пляцоўка круглая, дыяметрам 60 м. Умацавана 2 валамі: вонкавы вышынёй 0,6—0,7 м, шырынёй 8 м, унутраны адпаведна 1,5 і 15 м. Вядома з 1889 г. Абследавала ў 1976 г. Т. М. Каробушкіна. Адносіцца да гарадзішчаў-сховішчаў ранняга жалезнага веку. Раскопкі не праводзіліся.

*Літ.:* Запольский М. Брагинская волость: (исторический очерк).— У кн.: Календарь «Северо-Западного края» на 1889 год. М., 1889. *Т. М. Каробушкіна.*

**1925. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). Каля школы. Пахаваны астанкі 265 жыхароў вёскі. 3.6.1943 г. нямецка-фашысцкія захопнікі акружылі в. Вялікі Бор, сагналі старых, жанчын, дзяцей у стайню і расстралялі, потым спалілі. Знішчылі ўсю вёску (262 двары). У 1975 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**1926. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля будынка праўлення калгаса «Шлях да камунізму». На ўшанаванне памяці жыхароў вёсак калгаса, якія загінулі ў барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у Вялікую Айчынную вайну, у 1971 г. пастаўлены помнік — скульптура воіна.

**в. Глінішча, цэнтр Алексіцкага сельсавета**

**1927. МАГІЛА БАРЫСАВАЙ** Марыі Аляксандраўны (гіст.). У цэнтры вёскі. Партызанка М. А. Барысава расстраляна нямецка-фашысцкімі захопнікамі ў 1941 г. У 1981 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**1928. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. На ўшанаванне памяці 52 землякоў з Алексіцкага сельсавета — воінаў, партызан і мірных жыхароў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1975 г. пастаўлены помнік — скульптура воіна і стэла.

**1929. РАДЗІМА МЕЛЕЖА** Івана Паўлавіча (гіст.).



1922. *Гарадзішча. План.*

Народны пісьменнік Беларусі (1972 г.) І. П. Мележ нарадзіўся 8.2. 1921 г. у сялянскай сям'і. Член КПСС з 1940 г. Пасля вучобы ў сярэдняй школе працаваў у райкоме камсамола. У 1939 г. паступіў у Маскоўскі інстытут гісторыі, філасофіі і літаратуры, адтуль быў прызваны ў Савецкую Армію. Удзельнік Вялікай Айчыннай вайны. У 1945 г. скончыў БДУ, аспірантуру пры ім (1948 г.). Працаваў у рэдакцыі часопіса «Полымя» (1945—47 гг.), выкладчыкам беларускай літаратуры ў БДУ (1948—51 гг.), у апараце ЦК КПБ (1950—51 гг.). З 1966 г. сакратар, у 1970—76 гг. намеснік старшыні праўлення СП БССР.

Друкавацца пачаў з 1939 г. Першае апавяданне «Сустрэча ў шпіталі» апублікавана ў 1944 г. Аўтар зборнікаў апавяданняў «У завіруху» (1946 г.) і «Гарачы жнівень» (1948 г.) пра мужнасць і самаахвярнасць савецкіх людзей у вайну, пра пасляваенны працоўны подзвіг народа. Раман «Мінскі напрамак» (1950—52 гг.) — шматпланавы твор, прысвечаны вызваленню Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў, велічы народнага подзвігу ў Вялікай Айчыннай вайне. Раман дапрацоўваўся ў 1967—73 гг. Аўтар зборнікаў «Блізкае і далёкае» (1954 г.), «У гарах дажджы» (1957 г.), п'есы «Пакуль вы маладыя» (1956 г., пастаўлена Беларускім тэатрам імя Я. Купалы ў 1957 г.), «Дні нараджэння» (1958 г., пастаўлена Беларускім тэатрам імя Я. Купалы ў 1959 г.). На працягу апошніх дваццаці гадоў жыцця пісьменнік працаваў над цыклам раманаў з «Палескай хронікі» — «Людзі на балоце» (1961 г., Літаратурная прэмія імя Я. Коласа 1962 г.), «Подых навальніцы» (1964—65 гг.) і «Завеі, снежань» (1976 г.). У іх з партыйнай прынцыповасцю, грамадзянскай смеласцю асэнсаваў складаныя працэсы ў жыцці нашага народа ў 1920—30-я гады, выявіў гуманістычную страснасць у поглядзе на чалавека, шырокі і глыбокі гістарызм мастацкага мыслення, высокую псіхалагічную і моўную культуру, сыноўнюю любоў да свайго народа. Першыя два раманы «Хронікі» адзначаны Ленінскай прэміяй 1972 г. Па раманах «Людзі на балоце» і «Подых навальніцы» Беларускае тэлебачанне стварыла трохсерыйны тэлеспектакль (1966 г., Дзяржаўная прэмія БССР 1966 г.), у 1979 г.— тэлеспектакль па раману «Завеі, снежань»; тэатр імя Я. Купалы паставіў спектакль «Людзі на балоце» (1966 г.). У 1975 г. выйшла кніга літаратурна-крытычных артыкулаў, нарысаў і публіцыстычных выступленняў пісьменніка «Жыццёвыя клопаты» (Дзяржаўная прэмія БССР імя Я. Коласа 1976 г.), у 1977 г.— «Першая кніга» (дзённікі, запісы ваенных гадоў). Творы пісьменніка перакладзены на многія мовы народаў СССР, выдадзены за мяжою. І. П. Мележ быў членам Сусветнага Савета Міру, старшынёй Беларускага камітэта абароны міру, старшынёй праўлення Беларускага аддзялення таварыства «СССР — Францыя». Дэпутат Вярхоўнага Савета БССР у 1967—76 гг.

Памёр 9.8.1976 г. Пахаваны ў Мінску на Усходніх могілках.

Імя пісьменніка прысвоена сярэдняй школе на радзіме, бібліятэцы ў Гомелі, цеплаходу; яго імем названы вуліцы ў Мінску, Хойніках. У Мінску на доме, дзе жыў пісьменнік, устаноўлена мемарыяльная дошка. У в. Глінішча адкрыты мемарыяльны музей. З 1980 г. прысуджаюцца Літаратурныя прэміі СП БССР імя І. П. Мележа.

*Літ.:* Гісторыя беларускай савецкай літаратуры. Т. 2.— Мн., 1966; Адамовіч А. Здалёк і зблізку.— Мн., 1976; Бугаёў Д. Вернасць прызванню.— Мн., 1977; Куляшоў Ф. Іван Мележ.— Мн., 1968; яго ж. Подвиг художника: Литературный путь И. Мележа.— 2 изд.— Мн., 1982. *С. А. Андраюк.*

**в. Гнездзенка, Аравіцкі сельсавет**

**1930. ПАСЕЛІШЧА** (археал.). На паўночным беразе воз. Заграз, на першай надпоймавай тэрасе, на пясчаным узвышшы, якое цягнецца ўздоўж вёскі. Выявілі ў 1962 г. У. Ф. Ісаенка і А. П. Гарчанка, даследаваў у 1972 і 1980 гг. У. Ф. Ісаенка. Культурны пласт 0,2 м, залягае ў ніжняй частцы гумусу. Знойдзены 340 абломкаў 25—27 ляпных гаршкоў, больш за 340 апрацаваных крамянёў, 24 прылады працы. Выяўлены рэшткі агнішча, якое было абкладзена камянямі. Тут сабраны абломкі вялікага вастрадоннага гаршка з занальным лапчастым арнаментам. Паселішча адносіцца да эпохі неаліту.

Матэрыялы даследавання захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

*Літ.:* Исаенко В. Ф. Неолит Припятского Полесья.— Мн., 1976. *У. Ф. Ісаенка.*

**в. Грачыхіна, Алексіцкі сельсавет**

**1931. МЕСЦА ГІБЕЛІ ГРАЧЫХІНА** Мікіты Арцёмавіча (гіст.). На скрыжаванні дарог Хойнікі — Калінкавічы, Тунеўшчына — Глінішча. Герой Савецкага Саюза М. А. Грачыхін загінуў 29.11.1943 г. ў баі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1975 г. на месцы гібелі пастаўлены абеліск. Гл. артыкул № 1891 «Брацкія магілкі савецкіх воінаў, партызан і падпольшчыкаў».



**1924.** *Гарадзішча. План.*



**1933.** *Помнік землякам.*

**в. Дварышча, цэнтр сельсавета**

**1932. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля Дома культуры. На ўшанаванне памяці аднавяскоўцаў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1975 г. пастаўлены абеліск.

**1933. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). На тэрыторыі сярэдняй школы. На ўшанаванне памяці 181 жыхара вёсак Дварышчанскага сельсавета, што загінулі ў барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у Вялікую Айчынную вайну, у 1975 г. пастаўлены абеліск і дошкі з імёнамі загінуўшых.

**1934. ПОМНІК ЛЕНІНУ** Уладзіміру Ільічу (гіст.). Каля будынка сярэдняй школы. Скульптура У. І. Леніна ўстаноўлена ў 1957 г.

**в. Дубровіца, Амелькаўшчынскі сельсавет**

**1935. ГАРАДЗІШЧЫ** (археал.).

**1935а.** Гарадзішча-1. Мясцовая назва Гарадок. За 5 км на ўсход ад вёскі, ва ўрочышчы Крыкаў. Пляцоўка круглая, дыяметрам 60 м, умацавана валам вышынёй 1,6—2 м, шырынёй 18—20 м. Выявіла і абследавала ў 1976 г. Т. М. Каробушкіна. Раскопкі не праводзіліся.

**1935б.** Гарадзішча-2. За 7 км на ўсход ад вёскі, ва ўрочышчы Карылаўка. Пляцоўка авальная, памерам 40×30 м, умацавана валам вышынёй 1,5—1,7 м. З паўднёвага боку да вала прымыкае яшчэ адна пляцоўка круглай формы, дыяметрам 30 м. Яе абмяжоўвае вал вышынёй да 2 м, шырынёй 18—20 м. Вядома з 1889 г. Абследавала ў 1976 г. Т. М. Каробушкіна. Рас-

копкі не праводзіліся. Помнікі адносяцца да гарадзішчаў-схоўішчаў ранняга жалезнага веку.

*Літ.:* Запольский М. Брагинская волость: (исторический очерк).— У кн.: Календарь «Северо-Западного края» на 1889 год. М., 1889. *Т. М. Каробушкіна.*

**1936. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 48 мірных жыхароў, расстраляных нямецка-фашысцкімі акупантамі ў маі 1942 г. У 1970 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Зялёны Гай (не існуе), Дварышчанскі сельсавет**

**1937. МЕСЦА СПАЛЕНАЙ ВЁСКІ** (гіст.). Вёска Зялёны Гай знаходзілася за 1,5 км на паўднёвы ўсход ад вёскі Навасёлкі. У чэрвені 1943 г. нямецка-фашысцкія захопнікі загубілі 102 жыхароў і спалілі вёску (24 двары). Вёска не адрадзілася. У 1968 г. на месцы спаленай вёскі пастаўлены абеліск. Увекавечана ў мемарыяльным комплексе Хатынь.

**в. Ізбынь, Велікаборскі сельсавет**

**1938. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. На ўшанаванне памяці 79 аднавяскоўцаў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну ў барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў, у 1975 г. пастаўлена стэла.

**в. Кажушкі, цэнтр сельсавета**

**1939. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. На ўшанаванне памяці 94 землякоў з Кажушкаўскага сельсавета, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1975 г. пастаўлена стэла.

**в. Казялужжа, цэнтр сельсавета**

**1940. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля будынка канторы саўгаса «Хойніцкі». На ўшанаванне памяці землякоў, якія загінулі ў барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у Вялікую Айчынную вайну, у 1970 г. пастаўлены помнік — скульптура воіна.

**1941. ПОМНІК ЛЕНІНУ** Уладзіміру Ільічу (гіст.). Каля будынка васьмігадовай школы. Скульптура У. І. Леніна ўстаноўлена ў 1961 г.

**в. Клівы, Казялужскі сельсавет**

**1942. ГАРАДЗІШЧА** (археал.). Мясцовая назва Гарадок. За 0,5 км на



**1935б.** *Гарадзішча-2. План.*



**1940.** *Помнік землякам.*

ўсход ад вёскі. Пляцоўка авальная, памерам 40×50 м, умацавана валам вышынёй 0,7—0,9 м, шырынёй 10 м. Упершыню ўпамінаецца ў 1889 г., абследавала ў 1976 г. Т. М. Каробушкіна. Адносіцца да ранняга жалезнага веку. Раскопкі не праводзіліся.

*Літ.:* Запольский М. Брагинская волость: (исторический очерк).— У кн.: Календарь «Северо-Западного края» на 1889 год. М., 1889. *Т. М. Каробушкіна.*

**1943. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. На ўшанаванне памяці 214 жыхароў вёсак Загалле, Загальская Слабада, Клівы, Паташня, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1969 г. пастаўлены абеліск.

**в. Краснаселле, Аравіцкі сельсавет**

**1944. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ, ПАРТЫЗАН І АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны 3 воіны і 3 партызаны, якія загінулі ў 1941—43 гг., і 15 мірных жыхароў, расстраляных у чэрвені 1943 г. нямецка-фашысцкімі акупантамі. У 1957 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**1945. ПАСЕЛІШЧЫ** (археал.).

**1945а.** Паселішча-1. За 3 км на паўночны захад ад вёскі, на ўсходнім схіле пясчанай грады. Выявіў у 1961 г. і даследаваў у 1962, 1972 гг. У. Ф. Ісаенка. Культурны пласт 0,3 м захаваўся месцамі. Знойдзены крамянёвыя вастрыі, разцы, скрабкі, нажы, мікраліты, наканечнікі стрэл, абломкі ляпнога посуду з грабеньчата-накольчатым арнаментам. Адносіцца да эпох мезаліту і неаліту.

**1945б.** Паселішча-2. За 2 км на поўнач ад вёскі, з паўночна-ўсходняга боку невялікага пагорка. Выявіў у 1962 г. У. Ф. Ісаенка. Культурны пласт 0,2 м моцна пашкоджаны. Раскопкі не праводзіліся.

**1945в.** Паселішча-3. За 0,5—1 км на паўночны ўсход ад цэнтра вёскі, на першай надпоймавай тэрасе. Выявіў у 1962 г., даследаваў у 1972 і 1980 гг. У. Ф. Ісаенка. Паверхня моцна перакапаная і разбураная, культурны пласт захаваўся толькі па краях пляцоўкі. Раскопкі не праводзіліся.

**1945г.** Паселішча-4. За 1,5 км на ўсход ад вёскі, ва ўрочышчы Царкавішча, на пясчаным пагорку. Выявіла і даследавала ў 1976 г. Т. М. Каробушкіна, абследаваў у 1980 г. У. Ф. Ісаенка. Культурны пласт захаваўся фрагментарна. На пляцоўцы 50×30 м сабраны абломкі гаршкоў і крамянёвыя прылады эпохі неаліту і бронзавага веку. Паселішча адносіцца да днепра-данецкай культуры і палескай групы культуры шнуравой керамікі (4—2-е тысячагоддзі да н. э.).

**1945д.** Паселішча-5. За 2,5 км на ўсход ад вёскі, на паўднёвым схіле пясчанага пагорка першай надпоймавай тэрасы. Узровень пляцоўкі над поплавам 3—4 м. Выявіў і даследаваў у 1980 г. У. Ф. Ісаенка. Культурны пласт да 0,4 м прасочваецца на працягу 0,4 км. Выяўлены рэшткі 4 жытлаў, агнішчаў, сабраны абломкі посуду эпохі неаліту і бронзавага веку. Датуецца 4—2-м тысячагоддзямі да н. э.

**1945е.** Паселішча-6. За 3 км на ўсход ад вёскі, каля павароту грунтавой дарогі на в. Баршчоўка, на паўднёва-ўсходнім схіле пясчанага пагорка на паверхні надпоймавай тэрасы. Выявіў і даследаваў у 1980 г. У. Ф. Ісаенка. Культурны пласт да 0,5 м. На плошчы 2 га выяўлены 4—5 агнішчаў, знойдзены рэшткі вастрадонных гаршкоў днепра-данецкай культуры, больш за 200 крамянёвых прылад працы (наканечнікі стрэл, скрабкі, скоблі, нажы), а таксама кераміка бронзавага і жалезнага вякоў.



**1942.** *Гарадзішча. План.*

Матэрыялы даследавання паселішчаў захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

*У. Ф. Ісаенка, Т. М. Каробушкіна.*

**в. Ломыш, Тульгавіцкі сельсавет**

**1946. ПАСЕЛІШЧЫ** (археал.).

**1946а.** Паселішча-1. За 1,5 км на паўднёвы ўсход ад вёскі, на паўднёва-заходнім схіле вялікага пясчанага ўзгорка. Вышыня над поплавам р. Прыпяць 3—4 м. Выявілі ў 1960 г. У. Ф. Ісаенка і А. П. Гарчанка, даследаваў у 1961—63 гг. і 1973 г. У. Ф. Ісаенка. Культурны пласт 0,1—0,2 м прасочаны на працягу 0,3—0,4 км. Знойдзены 42 крамянёвыя прылады працы, 220 апрацаваных крамянёў, 140 абломкаў 8—9 ляпных гаршкоў. Адносіцца да ранняга і сярэдняга неаліту.

**1946б.** Паселішча-2. За 2 км на паўднёвы ўсход ад вёскі, на пясчаным астанцы тэрасы, які з захаду абмежаваны поплавам р. Прыпяць. Выявіў у 1962 г. і даследаваў у 1963, 1972 гг. У. Ф. Ісаенка. Культурны пласт на працягу 90 м. Знойдзены 49 крамянёвых прылад працы, 250 апрацаваных крамянёў, 110 абломкаў 7—8 неалітычных гаршкоў. Паселішчы адносяцца да ранняга і сярэдняга неаліту.

Матэрыялы даследавання захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

*Літ.:* Исаенко В. Ф. Неолит Припятского Полесья.— Мн., 1976.

*У. Ф. Ісаенка.*

**в. Маклішча, Алексіцкі сельсавет**

**1947. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА Ў ГОНАР 2-й КАЛІНКАВІЦКАЙ ПАРТЫЗАНСКАЙ БРЫГАДЫ ІМЯ М. В. ФРУНЗЕ** (гіст.). На будынку школы. Устаноўлена ў 1967 г. У Вялікую Айчынную вайну за 5 км на захад ад вёскі, ва ўрочышчы Новая Зямля дыслацыравалася 2-я Калінкавіцкая партызанская брыгада імя М. В. Фрунзе.

Брыгада створана ў кастрычніку 1943 г. на базе 4-га Калінкавіцкага атрада імя М. В. Фрунзе, вылучанага з 99-й Калінкавіцкай партызанскай брыгады. Камандзір К. М. Марозаў, камісар І. М. Бяляй. Партызаны праводзілі дыверсіі на шашэйных дарогах (Хойнікі — Калінкавічы, Калінкавічы — Мазыр) і чыгунках (Васілевічы — Хойнікі, Гомель — Калінкавічы). Спалілі лесапільны завод у Калінкавічах. У верасні 1943 г. знішчылі пераправу на р. Прыпяць і затапілі параход. Разграмілі варожы гарнізон у в. Тульгавічы. Па заданню ваеннага савета 61-й арміі 19.11.1943 г. разграмілі варожы гарнізон на чыгуначнай станцыі Аўрамаўская. 24.11.1943 г. брыгада (924 партызаны) злучылася з часцямі Чырвонай Арміі, сумесна з воінамі вяла цяжкія баі за вызваленне вёсак Глінішча, Маклішча Хойніцкага і Агароднікі Калінкавіцкага р-наў.

*Літ.:* Партизанские формирования Белоруссии в годы Великой Отечественной войны (июнь 1941 — июль 1944).— Мн., 1983.

*М. М. Казлоўская.*

**в. Масаны, Радзінскі сельсавет**

**1948. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 170 жыхароў вёскі. 22.5.1943 г. нямецка-фашысцкія карнікі ўварваліся ў вёску, сагналі ўсіх жыхароў у гумно і на другі дзень расстралялі, а вёску спалілі (72 двары). У 1975 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**1949. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). За 1 км на паўночны захад ад вёскі. Пахаваны 34 мірныя жыхары пас. Перавессе, закатаваныя гітлераўцамі 23.5.1943 г. Гл. артыкул № 1958 «Месца спаленага пасёлка». У 1967 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**1950. СТАЯНКІ** (археал.).

**1950а.** Стаянка-1. За 0,5 км на поўдзень ад вёскі (на ўсходнім беразе воз. Пярсток). Выявіў у 1963 г. і даследаваў у 1972 г. У. Ф. Ісаенка. Выяўлены рэшткі агнішчаў, знойдзены амаль 200 невялікіх апрацаваных крамянёў, 19 крамянёвых прылад працы, 70 абломкаў ад 15—16 ляпных гаршкоў. Стаянка адносіцца да сярэдняга неаліту, частка знаходак больш старажытнага часу.

**1950б.** Стаянка-2. За 2 км на паўднёвы ўсход ад вёскі, на паўднёвым схіле пясчанага ўзвышша (даўжыня стаянкі 80 м, вышыня над поплавам возера 10 м). Выявіў у 1970 г. і абследаваў у 1976 г. У. Ф. Ісаенка. Знойдзена больш за 200 крамянёвых мікралітычных вырабаў. Адносіцца да эпохі мезаліту.

Матэрыялы абследавання захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

*Літ.:* Исаенко В. Ф. Неолит Припятского Полесья.— Мн., 1976.

*У. Ф. Ісаенка.*



**1951.** *Гарадзішча. План.*

**в. Навасёлкі, Дварышчанскі сельсавет**

**1951. ГАРАДЗІШЧА** (археал.). Мясцовая назва Гарадок. За 4 км на поўдзень ад вёскі, ва ўрочышчы Хмелік. Пляцоўка прамавугольная, памерам 120×90 м, умацавана валам вышынёй 0,8 м, шырынёй 14—16 м. Вядома з 1889 г. Абследавала ў 1976 г. Т. М. Каробушкіна. Адносіцца да ранняга жалезнага веку. Раскопкі не праводзіліся.

*Літ.:* Запольский М. Брагинская волость: (исторический очерк).— У кн.: Календарь «Северо-Западного края» на 1889 год. М., 1889.

*Т. М. Каробушкіна.*

**1952. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). На паўднёва-ўсходняй ускраіне вёскі. Пахаваны сувязныя Хойніцкага партызанскага атрада М. П. Кавалеўская з сынам, П. В. Марціновіч і яго сям'я, расстраляныя нямецка-фашысцкімі акупантамі ў кастрычніку 1941 г. У 1955 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**1953. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля будынка клуба. На ўшанаванне памяці 152 аднавяскоўцаў, якія загінулі на франтах Вялікай Айчыннай вайны, у партызанскай барацьбе ці расстраляны нямецка-фашысцкімі захопнікамі, у 1981 г. пастаўлены помнік — 2 стэлы і 5 мармуровых пліт з імёнамі загінуўшых.

**в. Небытаў, Казялужскі сельсавет**

**1954. ГАРАДЗІШЧА** (археал.). За 0,8 км на паўднёвы ўсход ад вёскі, ва ўрочышчы Гарадок, у лесе. Пляцоўка прамавугольная, памерам 110×60 м, умацавана па краях 2 валамі і ровам паміж імі. Вышыня ўнутранага вала 1,1 м, шырыня 8 м, вонкавага адпаведна 1,35 м і 13 м, глыбіня рова 1,5 м. Выявіла і абследавала ў 1976 г. Т. М. Каробушкіна. Раскопкі не праводзіліся.

*Т. М. Каробушкіна.*



**1954.** *Гарадзішча. План.*

**в. Осаў, Велікаборскі сельсавет**

**1955. ГАРАДЗІШЧА** (археал.). За 0,8 км на захад ад вёскі, ва ўрочышчы Зайцава. Пляцоўка круглая, дыяметрам 50 м, умацавана 2 валамі. Вышыня ўнутранага вала 0,6—0,8 м, шырыня 10 м, вонкавага адпаведна 1,3—2 м і 16 м. Вядома з канца 19 ст. Абследавала ў 1976 г. Т. М. Каробушкіна. Культурны пласт адсутнічае. Помнік адносіцца да тыпу гарадзішчаў-сховішчаў ранняга жалезнага веку. Раскопкі не праводзіліся.

*Літ.:* Запольский М. Брагинская волость: (исторический очерк).— У кн.: Календарь «Северо-Западного края» на 1889 год. М., 1889. *Т. М. Каробушкіна.*

**в. Пагоннае, Аравіцкі сельсавет**

**1956. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. На ўшанаванне памяці 89 жыхароў вёсак саўгаса «Перамога сацыялізма», якія загінулі на франтах і ў партызанскай барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх акупантаў у Вялікую Айчынную вайну, у 1971 г. пастаўлены помнік — скульптурная кампазіцыя: воін і партызанка.

**в. Паселічы, цэнтр сельсавета**

**1957. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля будынка праўлення калгаса «Світанне». На ўшанаванне памяці жыхароў вёсак калгаса, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1970 г. пастаўлены помнік — скульптура воіна.

**пас. Перавессе (не існуе), Радзінскі сельсавет**

**1958. МЕСЦА СПАЛЕНАГА ПАСЁЛКА** (гіст.). За 1 км на паўночны захад ад в. Масаны знаходзіўся пас. Перавессе. 23.5.1943 г. нямецка-фашысцкія захопнікі закатавалі 34 жыхароў пасёлка, спалілі 18 двароў. Пасёлак не адрадзіўся. Увекавечаны ў мемарыяльным комплексе Хатынь. Гл. артыкул № 1949 «Магіла ахвяр фашызму».



1955. *Гарадзішча. План.*



1961. *Помнік на брацкай магіле партызан.*

**в. Радзін, цэнтр сельсавета**

**1959. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 20 воінаў, якія загінулі ці памерлі ад ран у лістападзе — снежні 1943 г., і 12 мірных жыхароў, расстраляных нямецка-фашысцкімі захопнікамі ў 1943 г. У 1967 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна з аўтаматам.

**1960. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА Ў ГОНАР АСОБНАГА ПАРТЫЗАНСКАГА АТРАДА ІМЯ К. Я. ВАРАШЫЛАВА І КАМАРЫНСКАГА ПАДПОЛЬНАГА РАЙКОМА КП(б)Б** (гіст.). Устаноўлена ў 1958 г. на будынку клуба.

Асобны партызанскі атрад імя К. Я. Варашылава арганізаваны 21.5.1943 г. Дзейнічаў у Айчынную вайну на акупіраванай тэрыторыі Камарынскага р-на. Камандзір С. І. Філіпенка, камісар І. А. Шэйн. Партызаны праводзілі дыверсіі на дарогах Піркаўскага і Сцяпанаўскага сельсаветаў, падарвалі шмат аўтамашын з жывой сілай ворага, на шашы Брагін — Камарын знішчылі 4 масты, вялі баі па ліквідацыі апорных пунктаў ворага ў в. Хракавічы, Шкураты, знішчылі варожы гарнізон у в. Савічы Брагінскага р-на, выратоўвалі насельніцтва ад вывазу на катаржныя работы ў Германію. 22. 9.1943 г. атрад (81 партызан) злучыўся з часцямі Чырвонай Арміі.

У партызанскім атрадзе базіраваўся Камарынскі падпольны райком КП(б)Б, створаны 6.9.1943 г. (сакратар І. А. Шэйн). Райком вёў палітычную і арганізацыйную работу сярод насельніцтва, узначальваў партызанскі рух у раёне. Дзейнічаў да 22.9.1943 г.

*Літ.:* Подпольные партийные органы Компартии Белоруссии в годы Великой Отечественной войны (1941—1944).— Мн., 1975; Партизанские формирования Белоруссии в годы Великой Отечественной войны (июнь 1941 — июль 1944).— Мн., 1983. *М. М. Казлоўская.*

**в. Рудакоў, цэнтр сельсавета**

**1961. БРАЦКАЯ МАГІЛА ПАРТЫЗАН** (гіст.). Каля будынка сельскага прафесійна-тэхнічнага вучылішча № 30. Пахаваны партызаны Н. М. Андросаў, Ю. М. Філончык і А. В. Юшчанка, якія загінулі 21.12.1941 г. у баі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1957 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна і пліта з імёнамі загінуўшых.

**1962. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА ПАРТЫЗАНАМ** (гіст.). На будынку сельскага прафесійна-тэхнічнага вучылішча № 30. Устаноўлена ў 1972 г. на ўшанаванне памяці партызан Н. М. Андросава, Ю. М. Філончык і А. В. Юшчанкі, якія загінулі 21.12.1941 г. у гэтым будынку ў няроўным баі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў.

**в. Руднае, Дварышчанскі сельсавет**

**1963. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля клуба. На ўшанаванне памяці жыхароў вёсак калгаса імя XXI з'езда КПСС, якія загінулі ў барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у Вялікую Айчынную вайну, у 1969 г. пастаўлены помнік — скульптура воіна і стэла.

**в. Слабажанка, Алексіцкі сельсавет**

**1964. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. На ўшанаванне памяці 169 жыхароў вёсак калгаса «Бальшавіцкая перамога», якія загінулі ў барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у Вялікую Айчынную вайну, у 1958 г. пастаўлены абеліск.

**в. Стралічава, цэнтр сельсавета**

**1965. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. На ўшанаванне памяці жыхароў вёсак саўгаса «Стралічава», якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1970 г. пастаўлены помнік — скульптура воіна.

**1966. ПОМНІК ЛЕНІНУ** Уладзіміру Ільічу (гіст.). Каля будынка сярэдняй школы. Скульптура У. І. Леніна ўстаноўлена ў 1969 г.

**в. Судкова, Дварышчанскі сельсавет**

**1967. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля Дома культуры. На ўшанаванне памяці землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1969 г. пастаўлены помнік — скульптура воіна.

**в. Тульгавічы, цэнтр сельсавета**

**1968. ПОМНІК ПАРТЫЗАНАМ** (гіст.). На заходняй ускраіне вёскі.

У маі 1943 г. ў міжрэччы Дняпра і Прыпяці базіравалася партызанскае



1968. *Помнік партызанам.*

злучэнне С. А. Каўпака. Нямецка-фашысцкія захопнікі знялі з фронту некалькі дывізій, якія блакіравалі партызан. Бой адбыўся каля в. Тульгавічы. Партызаны падбілі 9 танкаў, знішчылі каля 1500 салдат і афіцэраў праціўніка і выйшлі з акружэння. У 1969 г. на месцы бою пастаўлена стэла.

*Літ.:* Брайко П., Калиненко О. Внимание, Ковпак! — 2 изд.— М., 1975, с. 18—28; Федоров А. Ф. Подпольный обком действует.— М., 1975.

*М. М. Казлоўская.*

**в. Уласы, Радзінскі сельсавет**

**1969. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны 160 жыхароў вёскі.

22.5.1943 г. нямецка-фашысцкія захопнікі акружылі вёску, сагналі старых, жанчын і дзяцей у памяшканне школы, потым выводзілі іх па 2 чалавекі і расстрэльвалі. Малых дзяцей калолі штыкамі і кідалі ў яму. Вёску спалілі (120 двароў). У 1975 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**1970. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). На ўсходняй ускраіне вёскі. Пахаваны 16 мірных жыхароў, якіх 23.5.1943 г. закатавалі нямецка-фашысцкія карнікі. У 1957 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**1971. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. На ўшанаванне памяці жыхароў вёсак калгаса «Новае жыццё», якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1970 г. пастаўлены помнік — скульптурная кампазіцыя: воін і партызанка.

**в. Хвашчоўка, Аравіцкі сельсавет**

**1972. БЕСКУРГАННЫ МОГІЛЬНІК, ПАСЕЛІШЧА** (археал.).

**1972а.** Бескурганны могільнік. За 0,7 км на поўдзень ад вёскі, ва ўрочышчы Пясчаніца, на пясчанай градзе. Памер 60×30 м. Выявіла і абследавала ў 1976 г. Т. М. Каробушкіна. На паверхні знойдзены фрагменты керамікі і кальцыніраваныя косці (памер скопішчаў 2×1,5 м). Адносіцца да тшцінецкай культуры (сярэдзіна 2-га тысячагоддзя да н. э.) бронзавага веку. Раскопкі не праводзіліся.

**1972б.** Паселішча. За 0,5 км на паўночны захад ад вёскі, на ўсходнім схіле пясчанага ўзвышша (вышыня над поплавам р. Прыпяць 12—15 м). Выявіў у 1960 г. і абследаваў у 1976 г. і 1980 г. У. Ф. Ісаенка. Культурны пласт 0,2 м прасочаны ўздоўж берага на працягу 160 м. Знойдзены 250 апрацаваных крамянёў, 23 крамянёвыя прылады працы, 180 абломкаў посуду. Адносіцца да эпохі неаліту.

Матэрыялы абследавання захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

*Літ.:* Исаенко В. Ф. Неолит Припятского Полесья.— Мн., 1976.

*У. Ф. Ісаенка, Т. М. Каробушкіна.*

**в. Хвойнае, Алексіцкі сельсавет**

**1973. ГАРАДЗІШЧА** (археал.). Мясцовая назва Гарадок. За 2 км на ўсход ад вёскі. Пляцоўка памерам 70×50 м, пяцівугольнай формы, некалькі звужаная ў паўднёвай частцы. Умацавана валам вышынёй 0,9 м, шырынёй 10—12 м. У паўднёвай частцы гарадзішча прасочана канава, у сценках якой знойдзена вуголле. Адкрыла і абследавала ў 1976 г. Т. М. Каробушкіна. Адносіцца да ранняга сярэдневечча. Раскопкі не праводзіліся.

*Т. М. Каробушкіна.*



1973. *Гарадзішча. План.*

**пас. Хвойная Паляна, Велікаборскі сельсавет**

**1974. ПОМНІК ЛЕНІНУ** Уладзіміру Ільічу (гіст.). Каля будынка васьмігадовай школы. Скульптура У. І. Леніна ўстаноўлена ў 1958 г.

**в. Храпкаў, Дварышчанскі сельсавет**

**1975. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 1 км на поўнач ад вёскі. 11 насыпаў, выцягнутых з усходу на захад, вышынёй ад 0,6 да 3 м, дыяметрам ад 6 да 16 м. Выявіў у 1889 г. М. Запольскі, абследавала ў 1976 г. Т. М. Каробушкіна. Раскопкі не праводзіліся.

*Літ.:* Запольский М. Брагинская волость: (исторический очерк).— У кн.: Календарь «Северо-Западного края» на 1889 год. М., 1889.

**в. Чырванамайск (не існуе), Тульгавіцкі сельсавет**

**1976. МЕСЦА СПАЛЕНАЙ ВЁСКІ** (гіст.). Вёска Чырванамайск знаходзілася за 3 км на захад ад вёскі Тульгавічы. У маі 1943 г. нямецка-фашысцкія захопнікі спалілі вёску (28 двароў). Не адрадзілася. У 1975 г. на месцы спаленай вёскі пастаўлена стэла.




# ЧАЧЭРСКІ РАЁН

Палессе
Рудня-Барталамееўская
Сідаравічы
Загор'е
Валосавічы
Меркулавічы
Бяляеўка
Отар
Нісімкавічы
Бацвінава
Глыбочыца
ЧАЧЭРСК
Бабічы
Залессе
Матнявічы
Покаць
Вазнясенскі
Ніўкі
Роўкавічы
Бердыж
Крутое
Сябровічы
Халочча

Цэнтр раёна

Цэнтры сельсаветаў

Цэнтры рамёстваў

Стаянкі, паселішчы, гарадзішчы

Могільнікі (грунтавыя, курганныя), курганы

Помнікі і памятныя месцы Вялікай Айчыннай вайны (месцы баёў, магілы савецкіх воінаў і партызан, Курганы Славы, помнікі землянам і інш.)

Помнікі ахвярам фашызму (месцы канцлагераў і лагераў смерці, месцы масавай загубы насельніцтва, спаленыя і неадноўленыя вёскі і інш.)

Помнікі і месцы, звязаныя з імёнамі савецкіх партыйных, дзяржаўных і гаспадарчых дзеячаў, дзеячаў культуры, навукі і тэхнікі

Культавая архітэктура

Адміністрацыйныя і грамадскія збудаванні дасавецкага перыяду

## XXV. ЧАЧЭРСК

Горад абласнога падпарадкавання, цэнтр раёна. За 65 км на поўнач ад Гомеля, 37 км ад чыгуначнай станцыі Буда-Кашалёўская на лініі Гомель — Жлобін. Звязаны аўтамабільнымі дарогамі з Кармой, Веткай і магістраллю Гомель — Магілёў. Прыстань на р. Сож пры ўпадзенні ў яе р. Чачора.

Узнік на месцы гарадзішча Замкавая гара ў канцы 10 ст. Упершыню ўпамінаецца ў Іпацьеўскім летапісе пад 1159 г. як горад радзімічаў Чичерск, які кіеўскі князь Ізяслаў Давыдавіч вярнуў чарнігаўскаму князю Святаславу Ольгавічу. У 12—13 стагоддзях уваходзіў у Чарнігаўскае княства. З сярэдзіны 14 ст. у Вялікім княстве Літоўскім, цэнтр воласці, з 1509 г. мястэчка Віленскага ваяводства. З 1510 г. цэнтр Чачэрскага староства, меў правы гарадскога самакіравання, з 1566 г. у Рэчыцкім павеце Мінскага ваяводства. З 1629 г. меў прывілей на штонядзельны гандаль і на 2 двухтыднёвыя кірмашы штогод. У вызваленчую вайну ўкраінскага і беларускага народаў 1648—54 гг. у наваколлі Чачэрска адбыліся сялянскія паўстанні. У 1654 г. горад займалі казацкія войскі І. Залатаранкі. Да 1659 г. тэрыторыя была ў складзе гетманскіх казацкіх уладанняў на Беларусі. Потым зноў усталявалася ўлада феадалаў Рэчы Паспалітай. У 2-й палове 18 ст. тут штогод адбываліся 3 кірмашы. З 1772 г. Чачэрск у складзе Расійскай імперыі. У 1773—77 гг. павятовы горад Рагачоўскай правінцыі, потым мястэчка, цэнтр воласці Рагачоўскага павета Магілёўскай, у 1796—1802 гг. Беларускай, потым зноў Магілёўскай губерняў. У 1774 г. Кацярына II падаравала Чачэрск генерал-губернатару графу З. Р. Чарнышову, які стварыў тут прыгонныя тэатр і аркестр. У 18 ст. былі 2 бальніцы, прыстань «Крэмень» на Сажы. Каля 1780 г. заснавана шкляная мануфактура (у 1797 г.— каля 30 рабочых, у 1847 г.— 63, у 1862 г.— 38 рабочых). У сярэдзіне 19 ст. пабудаваны шкіпінарны і паташны заводы. У 1880 г.— 1667 жыхароў, 3 мураваныя, 263 драўляныя дамы, 76 крам, 2 народныя вучылішчы. Штогод адбываліся 4 кірмашы з агульным абаротам каля 80 тыс. рублёў. У 1902 г. адкрыта трохкласнае вучылішча. У 1903 г.— 2468 жыхароў.

У 1903 г. у Чачэрску створана арганізацыя РСДРП, якая ўваходзіла ў Палескі камітэт РСДРП. У Рэвалюцыю 1905—07 гг. арганізацыя вяла агітацыйную работу, выдавала пракламацыі і адозвы, кіравала забастоўкай батракоў, якая адбылася ў чэрвені 1905 г. Арганізацыя разгромлена ў гады рэакцыі. Савецкая ўлада ў Чачэрску ўстаноўлена ў лістападзе 1917 г. У час мяцяжу Доўбар-Мусніцкага 1918 г. польскія войскі занялі Чачэрск. 22.3.1918 г. вызвалены мясцовымі партызанамі. З 1919 г. Чачэрск у Гомельскай губерні РСФСР, з 8.12.1926 г.— у БССР, цэнтр раёна. З 27.9.1938 г. гарадскі пасёлак. У 1939 г.— 5,1 тыс. жыхароў; рачная прыстань, заатэхнікум.

У Вялікую Айчынную вайну з жніўня 1941 г. акупіраваны нямецка-фашысцкімі захопнікамі, якія загубілі тут 1400 жыхароў. На тэрыторыі раёна дзейнічалі падпольныя райкомы КП(б)Б (16.8.1941 г.— 2.10.1943 г.) і ЛКСМБ (май — 2.10.1943 г.). 27.11. 1943 г. Чачэрск вызвалены ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў войскамі 63-й арміі ў ходзе Гомельска-Рэчыцкай аперацыі.

З 25.12.1962 г. у Буда-Кашалёўскім р-не, 6.1.1965 г. адноўлены Чачэрскі р-н, з 1971 г. горад. У 1959 г.— 2,7 тыс. жыхароў, у 1970 г.— 5,8 тыс. жыхароў.

Чачэрск мае багатую горадабудаўнічую спадчыну. Асновай першапачатковага паселішча было гарадзішча. У сярэднія вякі на яго месцы пабудаваны замак, паблізу якога з паўднёвага і ўсходняга бакоў развіваўся горад. Найбольш значнае будаўніцтва пачалося ў 16 ст. У 3-й чвэрці 18 ст. 7 вуліц, здзейснена перапланіроўка забудовы горада на рэгулярнай аснове. Адбудаваны ў 1787 г. замак стаў галоўным элементам горадабудаўнічага ансамбля. Былі пабудаваны ратуша, вакол якой размяшчаліся 4 храмы-ратонды. Сярод пабудоў канца 19 — пачатку 20 ст. двухпавярховы гарадскі асабняк па вул. Ульянава (цяпер Дом піянераў і школьнікаў), будынак на рагу вуліц Савецкай і Першамайскай (цяпер бібліятэка).

Сучасная забудова горада квартальная з прамавугольнай сеткай вуліц, пераважна драўляная, аднапавярховая, у цэнтры горада і ў новых кварталах 2—3-павярховыя цагляныя дамы. Плошча Леніна знаходзіцца ў паўночнай частцы горада і звязана вул. Горкага з паркам і Замкавай гарой. Плошчу перасякаюць асноўныя магістралі горада — вуліцы Савецкая і Леніна, на якіх размешчаны адміністрацыйныя будынкі, гандлёвы комплекс. Генплан распрацаваны ў 1974 г. Гомельскім філіялам інстытута «Белдзяржпраект».

У горадзе: маслазавод, вінзавод, агароднінна-кансервавы завод, хлебакамбінат, фабрыка мастацкіх вырабаў, камбінат бытавога абслугоўвання, лясгас, раённыя аб'яднанні Дзяржкамсельгастэхнікі і «Сельгасхімія». Працуюць сельскае прафесійна-тэхнічнае вучылішча механізацыі сельскай гаспадаркі, 2 сярэднія, музычная і дзіцяча-юнацкая спартыўная школы, 4 дашкольныя ўстановы, Дом піянераў і школьнікаў, Дом культуры, 2 бібліятэкі, бальніца. Выдаецца раённая газета «Трыбуна камунізму».

Помнікі: У. І. Леніну; К. Марксу; на брацкай магіле савецкіх воінаў і партызан, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну; на 2 магілах ахвяр фашызму. Захаваліся помнікі архітэктуры 18 ст.— Праабражэнская царква, ратуша. Каля Чачэрска — стаянка верхняга палеаліту.

Зона адпачынку — гарадскі парк на Замкавай гары, берагі рэк Чачора і Сож.

*Літ.:* Дембовецкий А. С. Опыт описания Могилёвской губернии... Кн. 2.— Могилёв, 1884; Słownik geograficzny Królestwa Polskiego i innych krajów słowiańskich. T. 1.— Warszawa, 1880; Горбатов А., Ивашечкин М. Наступление 3-й армии севернее Гомеля.— Военно-исторический журнал, 1962, № 8; Рокоссовский К. К. Солдатский долг.— 2 изд.— М., 1972.

*У. В. Алісейчык, А. П. Грыцкевіч, Г. П. Жаровіна.*

**1977. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). На Замкавай гары. Пахаваны 306 воінаў 169-й стралковай дывізіі, 40-га штурмавога інжынерна-сапёрнага батальёна і 7 партызан, якія загінулі ў лістападзе 1943 г. пры вызваленні пасёлка ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. Сярод пахаваных — Лілія Аляксандраўна Карастаянава.

Л. А. Карастаянава нарадзілася 28.5.1917 г. у г. Лом (Балгарыя) у сям'і рэвалюцыянераў. За ўдзел у Вераснёўскім антыфашысцкім паўстанні 1923 г. бацька расстраляны, маці разам з дзецьмі зняволена ў турму. У 1927 г. Лілію разам з сястрой Аленай і братам Аляксандрам, а так-



**1977.** *Помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў і партызан.*

сама дзецьмі інш. рэвалюцыянераў вывезлі ў Савецкі Саюз. Выхоўвалася ў сям'і Е. М. Яраслаўскага. З 1938 г. працавала ў рэдакцыі газеты «Комсомольская правда», у Вялікую Айчынную вайну спецыяльны карэспандэнт газеты. З лістапада 1942 г. у партызанскіх атрадах на Браншчыне і Беларусі. Загінула 6.2.1943 г. у баі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў каля в. Будзішча Сідаравіцкага сельсавета. Узнагароджана ордэнам Айчыннай Вайны 2-й ступені. На ўшанаванне памяці Л. Карастаянавай у г. Лом пастаўлены абеліск. Яе імем названа вуліца ў Мінску, цеплаход Дунайскага параходства.

У 1957 г. на брацкай магіле пастаўлены помнік — на высокім пастаменце скульптура воіна з вянком, перад помнікам — надмагілле Л. Карастаянавай.

*Г. В. Ратнікаў.*

**1978. ГАРАДЗІШЧА ЗАМКАВАЯ ГАРА** (археал.). На паўночна-ўсходняй ускраіне горада. Займае мыс карэннага правага берага р. Чачора. Складаецца з дзядзінца авальнай формы (плошча каля 1 га) і вакольнага горада (плошча больш за 2 га).




1978. *Гарадзішча Замкавая гара. План.*



1978. *Гарадзішча Замкавая гара.*

Дзядзінец падзяляе дугападобны вал вышынёй 5 м, шырынёй каля 20 м. Раскопкі праводзілі ў 1928 г. А. М. Ляўданскі і С. А. Дубінскі, у 1974—75 гг. М. А. Ткачоў, у 1981 г. У. У. Багамольнікаў. Культурны пласт на дзядзінцы ў паўднёвай частцы каля 0,4 м і ў паўночнай да 4 м. Знойдзены матэрыялы мілаградскай і зарубінецкай культур, раннеславянская кераміка, разнастайныя пацеркі, больш за 300 шкляных бранзалетаў і інш. упрыгожанняў. Выяўленыя рэчы матэрыяльнай культуры эпохі Кіеўскай Русі сведчаць, што старажытны горад узнік у 10 ст.

Вакольны горад існаваў у 11 ст. Сістэма яго абарончых збудаванняў складалася з землянога вала, рова, драўляных сцен, вежаў-брам з пад'ёмным мостам перад уязной вежай-брамай. На замкавым падворку размяшчаліся гаспадарчыя пабудовы. Горад у 16—18 стагоддзях быў абнесены тынам з Замкавай, Вялікай і Падольнай брамамі.

Матэрыялы раскопак захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР і музеі Гомельскага дзяржаўнага універсітэта.

*Літ.:* Дубінскі С. А. Археалагічная праца на БССР у 1928—1929 акад. годзе.— Запіскі аддзела гуманітарных навук Беларус. Акад. навук, 1930, кн. 11. Працы археалагічнай камісіі, т. 2; Полное собрание русских летописей. Т. 2.— М., 1962; Ткачев М. А. Работы в Белорусском Посожье.— У кн.: Археологические открытия 1975 года. М., 1976.

*М. А. Ткачоў.*

**1979. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). За 2 км ад горада, справа ад шашы Чачэрск — Забалоцце. Пахавана больш за 400 мірных жыхароў раёна, якія былі расстраляны ў красавіку 1942 г. нямецка-фашысцкімі захопнікамі. У 1954 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура жанчыны.

**1980. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). За 3 км ад горада, злева ад шашы Чачэрск — Забалоцце. Пахавана больш за 1000 мірных жыхароў раёна, якія былі расстраляны ў снежні 1941 г. нямецка-фашысцкімі захопнікамі. У 1954 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура жанчыны са схіленым сцягам.

**1981. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА БАЛАХАНАВУ** Івану Іванавічу (гіст.). Вул. Савецкая, 10, на будынку раённага аддзела ўнутраных спраў. Устаноўлена ў 1967 г. на ўшанаванне памяці капітана міліцыі І. І. Балаханава, які загінуў у 1965 г. пры выкананні службовых абавязкаў.

**1982. ПОМНІК ЛЕНІНУ** Уладзіміру Ільічу (гіст.). На пл. Леніна, у скверы. Скульптура У. І. Леніна ўстаноўлена ў 1948 г.

**1983. ПОМНІК МАРКСУ** Карлу (гіст.). На вул. Круглікава, каля будынка сярэдняй школы № 2. Скульптура К. Маркса ўстаноўлена ў 1955 г.



1982. *Помнік У. І. Леніну.*

**1984. ПРААБРАЖЭНСКАЯ ЦАРКВА** (архіт.). У цэнтральнай частцы горада. Пабудавана ў канцы 18 ст. з цэглы.

Двух'ярусны храм-ратонда (у плане круг з унутраным дыяметрам каля 15 м) завершаны паўсферычным ку-



1984. *Праабражэнская царква. План.*

палам на ступеньчатым барабане. Да асноўнага аб'ёму з захаду прылягае вежа-званіца, накрытая гранёным купалком. Асноўны аб'ём падзелены на ярусы развітым дарычным антаблементам. Сцены ніжняга яруса рытмічна расчлянёны пілястрамі, паўкруглымі і плоскімі нішамі, верхняга яруса — фігурнымі філёнгавымі рамамі. Вокны квадратныя з размешчанымі над імі плоскімі прамавугольнымі ці конхавымі нішамі. Алтарная частка аддзелена шасцістворкавым іканастасам. Над уваходам — драўляныя хоры. Інтэр'ер аздоблены пілястрамі са стылізаванымі капітэлямі, карнізамі, размалёўкай.

Царква — помнік архітэктуры класіцызму. *У. В. Алісейчык.*

**1985. РАТУША** (архіт.). У цэнтры горада. Пабудавана ў 2-й палове 18 ст. Цяпер тут адміністрацыйная ўстанова.

Мураваны двухпавярховы квадратны ў плане цэнтрычны аб'ём, завершаны 5 драўлянымі чацверыковымі вежамі: 4 з іх увянчаны шпілямі і размешчаны на вуглах будынка, 5-я (больш высокая і звужаная) — пасярэдзіне на масіўным чацверыковым барабане. Вокны прамавугольныя, стральчатыя і з паўцыркульнымі арачнымі завяршэннямі. Карніз з фігурнымі кранштэйнамі. Да 2 уваходаў па баках галоўнага фасада вядуць манументальныя каменныя лесвіцы. 1-ы і 2-і паверхі сіметрычнай планіроўкі.

Ратуша — помнік архітэктуры з рысамі класіцызму і псеўдаготыкі.
*У. В. Алісейчык, Г. П. Жаровіна.*

**1986. СТАЯНКА** (археал.). За 0,5 км на паўночны ўсход ад горада, ва ўрочышчы Няшын, на левым беразе р. Чачора. Памер 600×70 м. Выявіў і даследаваў у 1928 г. К. М. Палікарповіч,



1984. *Праабражэнская царква. Фрагмент карніза з капітэллю.*



1985. *Ратуша.*

абследавала ў 1977 г. А. Г. Калечыц. Культурны пласт 0,2 м. Знойдзены крамянёвыя нажападобныя пласціны, сякерападобныя прылады працы, нуклеусы, ляпная кераміка эпохі неаліту і бронзавага веку.

Матэрыялы даследавання захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

**1987. ЦЭНТР МАСТАЦКІХ РАМЁСТВАЎ** (гіст., маст.). У раёне здаўна вядомы розныя мастацкія рамёствы. На базе мясцовага ткацтва, пляцення з лазы, мастацкай вышыўкі ў 1950-я гады ўзнікла арцельная вытворчасць, на базе якой была створана фабрыка мастацкіх вырабаў. Ткацкі цэх выпускае рэчы утылітарнага прызначэння (посцілкі, сурвэткі і інш.) па старых традыцыйных і новых узорах. У цэху мастацкага пляцення вырабляюць з лазы і інш. матэрыялаў шкатулкі, хлебніцы, цукерніцы, кошыкі для садавіны; спосабы пляцення — «у зубчыкі», «разеткі» і інш. Цэх мастацкай вышыўкі выпускае утылітарныя і сувенірныя вырабы з выкарыстаннем традыцыйных матываў беларускага арнаменту. *Дз. С. Трызна.*

**в. Асінаўка, Сідаравіцкі сельсавет**

**1988. ГАРАДЗІШЧА, КУРГАННЫЯ МОГІЛЬНІКІ** (археал.).

**1988а.** Гарадзішча. За 1,5 км на ўсход ад вёскі, на левым беразе р. Покаць, за мостам. Пляцоўка мае форму паўкруга, узвышаецца над узроўнем ракі на 6,5 м, абнесена валам вышынёй 1,5 м, шырынёй ў аснове каля 5—6 м і ровам глыбінёй 3,5 м, шырынёй 8—9 м. Вядома з 1873 г. Абследавалі ў пачатку 20 ст. Е. Р. Раманаў, у 1976 г. М. А. Ткачоў. У агаленнях і шурфах культурны пласт 0,4—0,5 м, у якім знойдзена ляпная кераміка. Адносіцца да ранняга жалезнага веку.

Матэрыялы абследавання М. А. Ткачова захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

**1988б.** Могільнік-1. За 1,4 км на ўсход ад вёскі, ва ўрочышчы Сутокі, абапал лясной дарогі. 13 насыпаў вышынёй 0,6—2,5 м, дыяметрам 5—9 м.



1985. *Ратуша. План 1-га паверха.*



1985. *Ратуша. Разрэз.*

Вядомы з 1873 г. Абследавалі ў пачатку 20 ст. Е. Р. Раманаў, у 1976 г. М. А. Ткачоў. Раскопкі не праводзіліся.

**1988в.** Могільнік-2. За 1,4 км на ўсход ад вёскі, ва ўрочышчы Сутокі, у лесе. 5 курганоў вышынёй 1—1,5 м, дыяметрам 5—8 м. Адзін вышынёй 4,5 м, дыяметрам 19 м. Вядомы з 1873 г. Абследавалі ў пачатку 20 ст. Е. Р. Раманаў, у 1976 г. М. А. Ткачоў. Раскопкі не праводзіліся.

*Літ.:* Романов Е. Р. Археологический очерк Гомельского уезда (Могилевской губернии).— Вильна, 1910. *М. А. Ткачоў.*

**в. Бабічы, Нісімкавіцкі сельсавет**

**1989. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны 7 воінаў і 5 партызан, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну. У 1964 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура салдата са схіленым сцягам.

**1990. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 0,9 км на паўднёвы захад ад вёскі, па дарозе на в. Покаць. 8 курганоў вышынёй 0,6—1,2 м, дыяметрам 5—8 м. Параслі дрэвамі. Выявіў у пачатку 20 ст. Е. Р. Раманаў, абследаваў у 1970 г. М. А. Ткачоў. Раскопкі не праводзіліся.

**1991. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). За 1 км на паўднёвы ўсход ад вёскі, на могілках. Пахаваны 15 жыхароў вёскі, якія былі расстраляны ў Вялікую Айчынную вайну нямецка-фашысцкімі захопнікамі. У 1963 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Бердыж, Ленінскі сельсавет**

**1992. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 0,1 км на захад ад вёскі. Каля 50 паўсферычных насыпаў вышынёй 1—2,5 м, дыяметрам 6—9 м. Выявіў у канцы 19 ст. Е. Р. Раманаў, абследавалі ў 1928 г. К. М. Палікарповіч, у 1976 г. М. А. Ткачоў. К. М. Палікарповіч ускрыў 3 курганы. У двух выяўлена пахаванне на гарызонце, у адным — у падкурганнай яме. Належаў радзімічам, датуецца 10—13 стагоддзямі.

Матэрыялы раскопак захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

*Літ.:* Дубінскі С. А. Доследы культур жалезнага перыяду па Віцебшчыне, Магілёўшчыне і Міншчыне.— Запіскі аддзела гуманітарных навук, 1928, кн. 5, т. 1.

*М. А. Ткачоў.*

**1993. ПАСЕЛІШЧА** (археал.). За 0,5 км на поўнач ад вёскі, ва ўрочышчы Кокаўня. Выявіў у 1926 г. і абследаваў у 1954 г. К. М. Палікарповіч, у 1978 г. абследавала А. Г. Калечыц. Культурны пласт на дзюнападобным узвышшы ў агаленнях 0,15 м прасочаны на плошчы 150 м². Знойдзены крамянёвыя нуклеусы, пласціны, адшчэпы, скрэблы, ромбападобны наканечнік стралы, фрагменты ляпной керамікі эпохі неаліту і бронзавага веку.

Матэрыялы абследавання захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

**1994. РАДЗІМА ГАЎРЫЛАВА** Леаніда Рыгоравіча (гіст.).

Беларускі савецкі паэт Л. Р. Гаўрылаў нарадзіўся 2.2.1918 г. у сям'і рабочага. У 1940 г. скончыў Гомельскі педінстытут. У Чырвонай Арміі з 1940 г. У Вялікую Айчынную вайну на фронце з чэрвеня 1941 г., механік-вадзіцель танка. Загінуў у баі пры абароне г. Слоніма ў чэрвені 1941 г. Друкаваўся з 1935 г. ў газетах «Літаратура і мастацтва», «Гомельская праўда», альманаху «Аднагодкі», у часопісе «Полымя рэвалюцыі». У 1961 г. выйшаў зборнік вершаў «Вернасць». Вершы паэта змешчаны ў кнігах «Мы іх не забудзем» (1949 г.), «Крывёю сэрца» (1967 г.). Паэзія Л. Р. Гаўрылава адметная героіка-рамантычным пафасам, лірычнай задушэўнасцю, меладычнасцю.

*Літ.:* Пісьменнікі Савецкай Беларусі: Кароткі даведнік.— Мн., 1981.

*Л. І. Булгакава.*

**в. Будзішча, Сідаравіцкі сельсавет**

**1995. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). У цэнтры вёскі, побач з клубам. Пахаваны 26 мірных жыхароў вёскі, якія былі спалены 9.2.1943 г. нямецка-фашысцкімі захопнікамі. У 1956 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Бяляеўка, цэнтр сельсавета**

**1996. КУРГАННЫЯ МОГІЛЬНІКІ** (археал.).

**1996а.** Могільнік-1. За 3,5 км на поўдзень ад вёскі. 36 насыпаў вышынёй 1—3 м, дыяметрам 5—14 м. Выявіў у канцы 19 ст. Е. Р. Раманаў, абследаваў у 1976 г. М. А. Ткачоў. Раскопкі не праводзіліся.

**1996б.** Могільнік-2. За 1,5 км на паўночны захад ад вёскі. 28 насыпаў вышынёй 0,7—2 м, дыяметрам 6—12 м. Выявіў і абследаваў у 1976 г. М. А. Ткачоў. Раскопкі не праводзіліся.

*М. А. Ткачоў.*

**1997. СТАЯНКА** (археал.). За 3 км на поўнач ад вёскі, на левым беразе р. Сож, насупраць в. Турышчавічы. Плошча 750 м². Выявіла і абследавала ў 1980 г. А. Г. Калечыц. Культурны пласт 0,1 м. Сабраны крамянёвыя скрэблы, ножападобныя пласціны, нуклеусы, лістападобны наканечнік стралы. Адносіцца да эпохі мезаліту.

Матэрыялы абследавання захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

**в. Валосавічы, Сідаравіцкі сельсавет**

**1998. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 0,7 км на паўночны захад ад вёскі, справа ад дарогі на в. Сідаравічы. 43 насыпы вышынёй 1—3,5 м, дыяметрам 6—15 м. Вядомы з 1873 г., абследавалі ў пачатку 20 ст. Е. Р. Раманаў, у 1976 г. М. А. Ткачоў. Раскопкі не праводзіліся.

**в. Гарадоўка, Залескі сельсавет**

**1999. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК, КУРГАН** (археал.).

**1999а.** Курганны могільнік. За 0,5 км на поўдзень ад вёскі, ва ўрочышчы Узлужжа (Баравуха). 13 курганоў вышынёй 0,8—1,3 м, дыяметрам 5—9 м. Адкрыў і абследаваў у 1976 г. М. А. Ткачоў. Раскопкі не праводзіліся.

**1999б.** Курган. Вядомы пад назвай Аленіна магіла. За 2 км на поўдзень ад вёскі. Вышыня 1,5 м, дыяметр 11 м. Адкрыў і абследаваў у 1976 г. М. А. Ткачоў. *М. А. Ткачоў.*

**2000. СТАЯНКА** (археал.). На паўднёвай ускраіне вёскі, на пясчаным узвышшы першай надпоймавай тэрасы левага берага р. Сож. Выявіў у 1926 г. К. М. Палікарповіч, абследавалі ў 1959—60 гг. У. Дз. Будзько, у 1979—80 гг. А. Г. Калечыц. Культурны пласт 0,3 м. У шурфах выяўлена больш за 100 фрагментаў керамікі, некалькі крамянёвых адшчэпаў, нуклеусы, рэтушоры, скрэблы і інш. Адносіцца да эпохі неаліту. Матэрыялы абследавання захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР. *А. Г. Калечыц.*

**в. Глубочыца, Чачэрскі сельсавет**

**2001. КУРГАННЫЯ МОГІЛЬНІКІ** (археал.).

**2001а.** Могільнік-1. За 1 км на поўдзень ад вёскі, у лесе. 75 насыпаў дыяметрам 2—10 м, вышынёй 0,5—3,5 м. Абследаваў у 1982 г. А. А. Макушнікаў. Раскопкі не праводзіліся.

**2001б.** Могільнік-2. За 1,5 км на поўдзень ад вёскі, ва ўрочышчы Школьная лінія, у лесе. 30 насыпаў дыяметрам 6—10 м, вышынёй 1,5—3,0 м. Абследаваў у 1982 г. А. А. Макушнікаў. Раскопкі не праводзіліся.

*А. А. Макушнікаў.*

**в. Добрынь, Залескі сельсавет**

**2002. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). На паўночнай ускраіне вёскі.



**1988а.** *Гарадзішча. План.*




**1998.** *Курганны могільнік. План.*

Пахаваны 32 мірныя жыхары вёскі, якія былі расстраляны ў верасні 1942 г. нямецка-фашысцкімі захопнікамі. У 1966 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Дудзічы, Халоцкі сельсавет**

**2003. МІКАЛАЕЎСКАЯ ЦАРКВА** (архіт.). У цэнтры вёскі. Пабудавана ў 1-й палове 19 ст. з дрэва.

Царква трохзрубная, складаецца з квадратнага ў плане двух'яруснага асноўнага аб'ёму, бабінца і пяціграннага алтарнага зруба. Сцены завершаны суцэльным поясам антаблемента. Над асноўным аб'ёмам васьмігранны купал з макаўкай, над бабінцам двух'ярусная званіца (васьмярык на чацверыку). Сцены будынка гарызантальна ашаляваны, вуглы дэкарыраваны дашчанымі накладкамі, якія імітуюць мураваны руст, шэраг вертыкальных дошчачак на фрызе ствараюць трыгліфы. Прамавугольныя вокны ў спрошчаных ліштвах з філёнгамі над імі. Інтэр'ер царквы зальны. Асноўнае памяшканне перакрыта васьміграннымі скляпеннем. Столь бабінца і алтарнай часткі плоская.

Царква — помнік архітэктуры класіцызму. *У. В. Алісейчык.*

**2004. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля клуба. На ўшанаванне памяці 100 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1967 г. пастаўлены абеліск.



2003. *Мікалаеўская царква.*



2003. *Мікалаеўская царква. План.*

**в. Загор'е, Бяляеўскі сельсавет**

**2005. ПАСЕЛІШЧА** (археал.). За 3 км на паўночны захад ад вёскі, на левым беразе р. Сож. Выявіў у 1927 г. К. М. Палікарповіч, даследавала ў 1978 г. А. Г. Калечыц на плошчы 30 м². У культурным пласце 0,15 м знойдзены крамянёвыя скрэблы, разцы, мікраліты, рознатыповыя наканечнікі стрэл, нуклеусы, фрагменты ляпной керамікі. Адносіцца да каменнага і бронзавага вякоў.

Матэрыялы даследавання захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР. *А. Г. Калечыц.*

**в. Залессе, цэнтр сельсавета**

**2006. ПАСЕЛІШЧА** (археал.). За 0,5 км на паўночны захад ад вёскі, ва ўрочышчы Востраў, паміж азёрамі Казённае і Уступ. Дзюнападобнае ўзвышша памерам 20×15 м, здзірванела. Выявіў у 1926 г. К. М. Палікарповіч, даследавалі ў 1965 г. І. І. Арцёменка, у 1976 г. А. Г. Калечыц. Культурны пласт 0,1—0,15 м залягае непасрэдна пад дзёрнам. Знойдзены рэшткі таўстасценных вастрадонных гаршкоў з ямачна-грабеньчатым арнаментам. Сярод крамянёвых прылад працы пераважаюць скрэблы, нажападобныя і сякерападобныя пласцінкі. Паселішча адносіцца да верхнедняпроўскай культуры, датуецца 3-м тысячагоддзем да н. э.

Матэрыялы раскопак захоўваюцца ў Інстытуце археалогіі АН СССР.

*Літ.:* Палікарповіч К. М. Дагістарычныя стаянкі сярэдняга і ніжняга Сажа.— Запіскі аддзела гуманітарных навук, 1928, кн. 5, т. 1. *А. Г. Калечыц.*

**2007. ПАСЕЛІШЧА** (археал.). За 2 км на поўнач ад вёскі, ва ўрочышчы Карэнік, на паўднёва-ўсходнім беразе воз. Асухі. Выявіў у 1926 г. К. М. Палікарповіч, абследавалі ў 1965 г. І. І. Арцёменка, у 1978 г. А. Г. Калечыц. Культурны пласт 0,15 м. Сабраны крамянёвыя прылады працы, фрагменты ляпной керамікі эпохі неаліту і бронзавага веку.

Матэрыялы абследавання захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР. *А. Г. Калечыц.*



2009. *Курганны могільнік. План.*



2010. *Помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў.*

**2008. РАДЗІМА КРУГЛІКАВА** Мікіты Конанавіча — Героя Савецкага Саюза. Гл. артыкул № 2012 «Помнік землякам».

**пас. Заручча, Палескі сельсавет**

**2009. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 1,6 км на паўночны ўсход ад вёскі, каля дарогі на в. Выдранка. 12 курганоў вышынёй 0,7—2 м, дыяметрам 6—10 м. Адкрыў і абследаваў у канцы 19 ст. Е. Р. Раманаў, абследаваў у 1976 г. М. А. Ткачоў. Раскопкі не праводзіліся.

**в. Іскра, Меркулавіцкі сельсавет**

**2010. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). Каля школы. Пахаваны 131 савецкі воін, якія загінулі ў лістападзе 1943 г. пры вызваленні вёскі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1957 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Караблішча, Роўкавіцкі сельсавет**

**2011. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На паўднёва-ўсходняй ускраіне вёскі. Пахаваны 47 воінаў, якія загінулі ў лістападзе 1943 г. пры вызваленні вёскі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1957 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Крутое, цэнтр сельсавета**

**2012. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пастаўлены ў 1966 г.

на ўшанаванне памяці 290 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну. Сярод загінуўшых — Герой Савецкага Саюза Мікіта Конанавіч Круглікаў.

М. К. Круглікаў нарадзіўся 6.5.1914 г. у в. Залессе Чачэрскага р-на ў сялянскай сям'і. Член КПСС. Працаваў у калгасе. У Чырвонай Арміі з 1941 г. У Вялікую Айчынную вайну на фронце з ліпеня 1943 г. Гвардыі лейтэнант М. К. Круглікаў вызначыўся ў баях пад Кіевам. 4.11. 1943 г. танкавы ўзвод пад яго камандаваннем вызваліў пас. Святошына, перакрыў шашэйную дарогу Кіеў — Жытомір, знішчыў 3 процітанкавыя гарматы, 3 мінамёты, 2 аўтамашыны, каля 150 салдат і афіцэраў праціўніка. Загінуў 8.12.1943 г. Пахаваны ў с. Медзялёўка Радамышльскага р-на Жытомірскай вобл. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 10.1.1944 г.

*Літ.:* Навечно в сердце народном.— 3 изд.— Мн., 1984. *Г. В. Ратнікаў.*

**в. Матнявічы, Роўкавіцкі сельсавет**

**2013. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 33 воіны, якія загінулі ў лістападзе 1943 г. пры вызваленні вёскі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1959 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна.

**в. Нісімкавічы, цэнтр сельсавета**

**2014. ГАРАДЗІШЧА, КУРГАННЫЯ МОГІЛЬНІКІ** (археал.).

**2014а.** Гарадзішча. За 0,5 км на поўдзень ад вёскі, на левым беразе р. Покаць. Пляцоўка памерам 60×56 м мае нахіл з паўночнага ўсходу на паўднёвы захад. З паўднёвага ўсходу захавалася частка абарончага вала вышынёй да 1,5 м. Вядома з 1873 г. Абследавалі ў пачатку 20 ст. Е. Р. Раманаў, у 1976 г. М. А. Ткачоў. У культурным пласце 0,3—0,4 м знойдзены вугалле, попел, абпаленыя камяні, абломкі ляпной керамікі з расчосамі. Адносіцца да зарубінецкай культуры. Датуецца 2 ст. да н. э.— 5 ст. н. э.

Матэрыялы абследавання захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

**2014б.** Могільнік-1. Побач з гарадзішчам, на левым беразе р. Покаць. 16 насыпаў вышынёй 0,7—2 м, дыяметрам 5—12 м. Вядомы з 1873 г. Даследаваў у 1886—88 гг. Е. Р. Раманаў, які раскапаў 7 курганоў. Пахавальны абрад — трупапалажэнне галавой на захад. У мужчынскіх пахаваннях знойдзены рэшткі дубовых калод, спражкі і жалезныя нажы, у жаночых — каралі з філігранных пасярэбраных і пазалочаных шкляных, паставых, бурштынавых, сердалікавых пацерак, бронзавыя скроневыя кольцы, падвескі ў выглядзе крыжыкаў, сярэбраны пярсцёнак, ганчарны посуд. У 1976 г. абследаваў М. А. Ткачоў.



**2015.** *Помнік на месцы базіравання Чачэрскага падпольнага райкома КП(б)Б і 1-й Гомельскай партызанскай брыгады.*

Належаў радзімічам, датуецца 10—13 стагоддзямі.

**2014в.** Могільнік-2. На правым беразе р. Покаць, насупраць гарадзішча. 27 насыпаў вышынёй 0,7—2 м, дыяметрам 5—12 м. Вядомы з 1873 г. Даследаваў у 1886—88 гг. Е. Р. Раманаў, які раскапаў 3 насыпы, абследаваў у 1976 г. М. А. Ткачоў. У 1981 г. У. У. Багамольнікаў раскапаў 17 курганоў. Пахавальны абрад — трупапалажэнне ў насыпах. Знойдзены сяміпрамянёвыя бронзавыя скроневыя кольцы, бранзалеты з завязанымі канцамі, лунніцы, васьмізубцовыя гронкападобныя і лапчастыя фібулы, 1 фібула з зааморфнымі канцамі і язычком у выглядзе чалавечай галавы, паясная спражка і паясныя кольцы, язычковыя падвескі, шкляныя пацеркі з пазалотай, сердалікавыя пацеркі рознай формы. Належаў радзімічам, датуецца 10—13 стагоддзямі.

Матэрыялы раскопак могільнікаў захоўваюцца ў Гісторыка-этнаграфічным музеі ў Вільнюсе і музеі Гомельскага дзяржаўнага універсітэта.

*Літ.:* Романов Е. Р. К археологии Северо-Западного края России: Археологический очерк Гомельского уезда.— У кн.: Записки Северо-Западного отдела Русского географического общества. Вильна, 1910, кн. 1, с. 107, 117, 122; Соловьева Г. Ф. Погребальные обряды.— У кн.: Древности железного века в междуречье Десны и Днепра. М., 1962. *М. А. Ткачоў.*

**2015. МЕСЦА БАЗІРАВАННЯ ЧАЧЭРСКАГА ПАДПОЛЬНАГА РАЙКОМА КП(б)Б І 1-Й ГОМЕЛЬСКАЙ ПАРТЫЗАНСКАЙ БРЫГАДЫ** (гіст.). Непадалёку ад вёскі. У Вялікую Айчынную вайну ў час акупацыі тэрыторыі раёна нямецка-фашысцкімі захопнікамі ў лесе непадалёку ад вёскі базіраваўся Чачэрскі падпольны райком КП(б)Б, дыслацыравалася 1-я Гомельская партызанская брыгада.

Чачэрскі падпольны райком КП(б)Б дзейнічаў з 16.8.1941 г. да 2.10.1943 г. Сакратары М. Ц. Падаляк (16.8 — кастрычнік 1941 г. і з мая 1943 г., першы сакратар), П. І. Дзедзік (16.8. 1941 г.— 5.7.1943 г., другі сакратар), Х. М. Шкляр (16.8 — кастрычнік 1941 г., трэці сакратар). Падпольны райком стварaў партызанскія атрады і каардынаваў іх дзейнасць, праводзіў сярод насельніцтва агітацыйна-прапагандысцкую работу, выдаваў падпольную газету «Смерть оккупантам». Базіраваўся ў Чачэрскім партызанскім атрадзе імя М. І. Калініна, з сакавіка 1943 г.— у 1-й Гомельскай партызанскай брыгадзе.

1-я Гомельская партызанская брыгада створана ў сакавіку 1943 г. паводле ўказання ЦК КП(б)Б на базе асобных атрадаў імя М. І. Калініна (Чачэрскі, арганізаваны ў снежні 1941 г.), імя К. Я. Варашылава (Кармянскі, арганізаваны ў маі 1942 г.). Пазней арганізаваны атрады імя В. І. Чапаева і імя А. В. Суворава. Камандзір брыгады П. А. Балыкоў, камісары П. І. Дзедзік, І. Я. Палякоў (з чэрвеня 1943 г.). Дзейнічала на акупіраванай тэрыторыі Чачэрскага, Кармянскага, Свяцілавіцкага і Веткаўскага р-наў.

Партызаны брыгады ўзарвалі больш за 1,5 тыс. рэек, пусцілі пад адхон 98 эшалонаў, знішчылі 101 цягнік, 145 вагонаў з жывой сілай ворага, 76 з боепрыпасамі, 32 з прадуктамі, 29 цыстэрнаў з гаручым, 28 платформ з танкамі і 111 з аўтамашынамі, разграмілі 67 сельскіх упраў, 12 варожых гарнізонаў, знішчылі больш за 2 тыс. гітлераўцаў, вызвалілі 150 савецкіх грамадзян, якіх нямецка-фашысцкія захопнікі меркавалі вывезці ў Германію. У ліпені — верасні 1943 г. партызаны брыгады разграмілі варожыя гарнізоны ў вёсках Залессе і Покаць Чачэрскага, Сялец Буда-Кашалёўскага раёнаў, в. Лецяхі Краснагорскага р-на Арлоўскай вобл., у г. п. Карма. Разам з часцямі Чырвонай Арміі вялі баі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў каля г. п. Карма.

2—5 кастрычніка і 23.11.1943 г. брыгада (892 партызаны, атрады імя М. І. Калініна, імя К. Я. Варашылава, імя В. І. Чапаева, імя А. В. Суворава) злучылася з Чырвонай Арміяй.

У 1967 г. у гонар дзейнасці падпольнага райкома КП(б)Б і 1-й Гомельскай партызанскай брыгады ў цэнтры вёскі пастаўлены абеліск.

*Літ.:* В грозные годы.— Мн., 1973; Подпольные партийные органы Компартии Белоруссии в годы Великой Отечественной войны (1941—1944).— Мн., 1975; Партизанские формирования Белоруссии в годы Великой Отечественной войны (июнь 1941 — июль 1944).— Мн., 1983.

*Т. Р. Чуракова.*



2017. *Помнік землякам.*

**2016. СЕЛІШЧА** (археал.). За 0,5—0,6 км на поўнач ад вёскі, у напрамку пасёлка Гаёк, на першай надпоймавай тэрасе правага берага р. Покаць. Выявілі ў 1982 г. У. А. Літвінаў і А. А. Макушнікаў. Культурны пласт 0,1—0,3 м. У ім знойдзены абпаленыя камяні, шлак, рэшткі ляпной і ганчарнай керамікі. Адносіцца да жалезнага веку і эпохі Кіеўскай Русі. Раскопкі не праводзіліся.

Матэрыялы абследавання захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

*А. А. Макушнікаў.*

**в. Отар, Чачэрскі сельсавет**

**2017. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). За 1,5 км на захад ад вёскі. На ўшанаванне памяці 469 аднавяскоўцаў, якія загінулі на франтах Вялікай Айчыннай вайны, і 213 мірных жыхароў, закатаваных нямецка-фашысцкімі захопнікамі ў 1941 г. і лістападзе 1943 г., у 1975 г. насыпаны Курган з выявай Вечнага агню на вяршыні. Каля Кургана пастаўлены 2 стэлы з надпісамі-запаветамі нашчадкам. Вакол Кургана разбіты мемарыяльны сквер, дзе пасаджаны дрэвы ў памяць аб кожным загінуўшым земляку.

**в. Падлужжа, Ленінскі сельсавет**

**2018. ПАСЕЛІШЧЫ** (археал.).

**2018а.** Паселішча-1. За 0,5 км на поўдзень ад вёскі, ва ўрочышчы Калодзежкі, на паўднёвым пакатым схіле асіметрычнага яра. У літаратуры вядома пад назвай Бердыж. Выявіў у 1926 г. К. М. Палікарповіч, даследавалі ў 1927 г. С. М. Замятнін, у 1928—29, 1938—39 гг. К. М. Палікарповіч, у 1958—60 гг. і 1968—70 гг. У. Дз. Будзько, у 1971 г. А. Г. Калечыц. Даследавана каля 380 м². Культурны пласт 0,3—0,7 м пашыраны на паўднёвым схіле яра, залягае ў тоўшчы суглінку. Выяўлены рэшткі 4 авальных у плане жытлаў і 5 гаспадарчых ям, у будаўніцтве якіх выкарыстаны чарапы, буйныя плоскія і трубчастыя косці мамантаў і іншых жывёл. Рэшткі першага жытла былі даследаваны ў раскопе 1926—27 гг. Яно ўяўляла сабой авал памерам 5,5×4,5 м, заглыблены ў мацярык на 0,5—0,6 м, па вонкавым краі якога размешчаны 13 чарапоў мамантаў. Унутры выяўлены рэшткі агнішча і знойдзены перапаленыя косці. Рэшткі другога жытла (ускрыта паўднёвая частка) прасочаны ў раскопках 1927—38 гг. Тут для пабудовы фундамента выкарыстана 10 чарапоў і больш за 40 трубчастых і плоскіх касцей мамантаў. Рэшткі трэцяга і чацвёртага жытлаў, якія былі прасочаны ў раскопках 1938—39 гг. і 1970 г., па сваёй будове падобныя на першыя. Гаспадарчыя ямы дыяметрам 2,4—3 м, глыбінёй 0,6—0,8 м выкапаны ў мацерыку, ніжэй старажытнай дзённай паверхні, абкладзены буйнымі касцямі мамантаў, зверху накрыты біўнямі. На паселішчы знойдзены крамянёвыя наканечнікі коп'яў з бакавой выемкай, нажы, бакавыя, вуглавыя і сярэдзінныя разцы, скрэблы, вастры з прытупленай спінкай, пласцінкі-ўкладышы, нажы-кінжалы, сякерападобныя прылады працы, рэтушоры, адбойнікі, сабрана шмат нуклеусаў. У раскопе 1970 г. было знойдзена некалькі пласцінак ад біўня маманта, адна з іх з геаметрычным узорам. Паселішча датуецца эпохай верхняга (позняга) палеаліту, адносіцца да помнікаў касцёнкаўска-вілендорфскай культуры. Яго ўзрост — 25—24-е тысячагоддзі да н. э. Абсалютнае датаванне: першае — 23 430 ± 180 г. і другое — 24 000 г.




2018а. *Паселішча-1.*



2018а. *Паселішча-1. Частка сцяны жытла з касцей маманта.*

Матэрыялы раскопак захоўваюцца ў Дзяржаўным музеі БССР і Інстытуце гісторыі АН БССР.

**2018б.** Паселішча-2. За 0,1—0,15 км на паўночны захад ад паселішча-1, за паўднёвым ярам. Памеры 200×160 м уздоўж яра (з усходу на захад) і 80×100 м у напрамку з поўначы на поўдзень. Адкрыў і даследаваў у 1953—54 гг. К. М. Палікарповіч, даследавалі ў 1959—60 гг. і 1969 г. У. Дз. Будзько, у 1971 г. А. Г. Калечыц. Знойдзены наканечнікі коп'яў з бакавой выемкай і лістападобныя, разцы, нажападобныя пласціны, скрэблы, адшчэпы з левавуазскай і клектонскай тэхнікай сколаў, дыскападобныя нуклеусы, якія адносяцца да сярэдняга палеаліту. Наяўнасць прылад мусцьерскай эпохі сведчыць аб тым, што гэта тэрыторыя была заселена ў пачатку валдайскага зледзянення, у канцы сярэдняга палеаліту.

Матэрыялы раскопак захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР і Дзяржаўным музеі БССР.

*Літ.:* Поликарпович К. М. Палеолит Верхнего Поднепровья.— Мн., 1968; Будько В. Д., Вознячук Л. Н. Палеолит Белоруссии и смежных территорий.— У кн.: Древности Белоруссии. Мн., 1969; Будько В. Д. О жилищах Бердыжской палеолитической стоянки.— Краткие сообщения Ин-та археологии, 1964, № 101.

*У. Дз. Будзько.*

**в. Палессе, цэнтр сельсавета**

**2019. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. На ўшанаванне памяці 178 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1969 г. пастаўлены абеліск.

**в. Покаць, Залескі сельсавет**

**2020. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАНА** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны 7 воінаў і партызан, якія загінулі ў 1942—43 гг. у баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1959 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна са сцягам.

**в. Роўкавічы, цэнтр сельсавета**

**2021. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 1 км на поўнач ад вёскі, ва ўрочышчы Курганне. 30 курганоў вышынёй 1—3 м, дыяметрам 6—12 м. Выявіў у канцы 19 ст. Е. Р. Раманаў, абследаваў у 1976 г. М. А. Ткачоў. Раскопкі не праводзіліся.

**в. Сапрыкі, Чачэрскі сельсавет**

**2022. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 1,5 км на захад ад вёскі, ва ўрочышчы Сапрыцкі Кардон, абапал дарогі на пас. Ржавец. 104 курганы вышынёй 0,4—3 м, дыяметрам 4—12 м. Выявіў і даследаваў у 1924 г. С. Х. Бабарыкін, які раскапаў 2 курганы. Пахавальны абрад у першым кургане — трупапалажэнне на гарызонце, у другім — у насыпе (вышыня падсыпкі 20 см) галавою на захад. Выяўлена




2021. *Курганны могільнік. План.*



2022. *Курганны могільнік. План.*




2023. *Гарадзішча, селішча. План.*

вуголле і попел, у другім насыпе знойдзены шкляныя рознакаляровыя пацеркі, бронзавыя завушніцы, каля галавы нябожчыка — гаршчок. Належаў радзімічам, датуецца 10—13 стагоддзямі.

Матэрыялы даследавання захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

*Літ.:* Древности железного века в междуречье Десны и Днепра.— М., 1962.

*М. А. Ткачоў.*

**в. Сідаравічы, цэнтр сельсавета**

**2023. ГАРАДЗІШЧА, СЕЛІШЧА** (археал.).

**2023а.** Гарадзішча. Вядома пад назвай Курган. За 3 км на захад ад вёскі, на правым беразе ручая Пакотка. Пляцоўка авальная, памерам 30×25 м. З поўначы на краі гарадзішча падкавападобны вал вышынёй да 1,5 м. Вядома з 1873 г. Абследавалі ў пачатку 20 ст. Е. Р. Раманаў, у 1976 г. М. А. Ткачоў, у 1981 г. У. У. Багамольнікаў. Культурны пласт 0,3 м, у ім знойдзены абломкі ляпной керамікі. Раскопкі не праводзіліся.

**2023б.** Селішча. Прымыкае да паўночнага краю гарадзішча і цягнецца ўздоўж правага берага ручая Пакотка на 0,1 км. Выявіў і абследаваў у 1976 г. М. А. Ткачоў, абследаваў у 1981 г. У. У. Багамольнікаў. Культурны пласт 0,2 м, у ім знойдзены рэшткі ляпной керамікі. Раскопкі не праводзіліся.

Матэрыялы абследаванняў захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР і музеі Гомельскага дзяржаўнага універсітэта.

*Літ.:* Романов Е. Р. Археологический очерк Гомельского уезда (Могилевской губернии).— Вильна, 1910.

*М. А. Ткачоў.*

**в. Сябровічы, цэнтр Ленінскага сельсавета**

**2024. БЕСКУРГАННЫ МОГІЛЬНІК, ПАСЕЛІШЧА** (археал.).

**2024а.** Бескурганны могільнік. За 1 км на паўночны ўсход ад вёскі, на месцы неалітычнага паселішча. Выявіў у 1926 г. К. М. Палікарповіч, даследаваў у 1965, 1968—69 гг. І. І. Арцёменка на плошчы 2000 м². На глыбіні 1—2 м была раскапана 131 магіла з пахавальным абрадам трупаспалення. Знойдзены каменныя свідраваныя і крамянёвыя клінападобныя сякеры, наканечнікі стрэл, дроцікаў і коп'яў, нажы, скрэблы, ляпны посуд, бурштынавыя пацеркі, фаянсавая пацерка егіпецкага паходжання і інш. Могільнік адносіцца да сярэднеднепроўскай культуры бронзавага веку, датуецца 1-й паловай 2-га тысячагоддзя да н. э.

Матэрыялы даследавання захоўваюцца ў Інстытуце археалогіі АН СССР і Гомельскім абласным краязнаўчым музеі.

**2024б.** Паселішча. За 1 км на паўночны ўсход ад вёскі, ва ўрочышчы Ліпаў Брод, на пясчаных узвышшах правага берага р. Сож. Памер 120×80 м. Выявіў і даследаваў у 1926 г. К. М. Палікарповіч, даследаваў у 1965, 1968, 1969 гг. І. І. Арцёменка. Культурны пласт выяўлены на плошчы 100 м². У ім знойдзены фрагменты вастрадонных гаршкоў, крамянёвыя скрэблы, нажы, наканечнікі стрэл, сякерападобныя прылады працы. Адносіцца да верхнеднепроўскай культуры, датуецца 3-м тысячагоддзем да н. э.

Матэрыялы даследаванняў захоўваюцца ў Інстытуце археалогіі АН СССР і Інстытуце гісторыі АН БССР.

*Літ.:* Палікарповіч К. М. Дагістарычныя стаянкі сярэдняга і ніжняга Сажа.— Запіскі аддзела гуманітарных навук. 1928, кн. 5, т. 1; Очерки по археологии Белоруссии. Ч. 1.— Мн., 1970.

*А. Г. Калечыц.*

**2025. ГАРАДЗІШЧА, КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК, СЕЛІШЧА** (археал.).

**2025а.** Гарадзішча. Вядома пад назвай Гарадок. На паўднёва-




2025. *Гарадзішча, курганны могільнік, селішча. План.*




2028а. *Гарадзішча. План.*

